# САСНА ПРЫ ДАРОЗЕ

## Частка першая

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Сасна расце на сухім грудку ля чыгуначнага пераезда. Тут, можна лічыць, развілка і скрыжаванне. Пясчаны шлях, насыпаны ўзбоч чыгункі, вядзе ў лес і ў мястэчка, прасёлкавая дарога — у мястэчка і ў поле. Вышэйшых дрэў паблізу — аж да самага лесу — няма, і сасна відаць здалёк. Купчастая, разгалістая, яна мала падобна да гонкіх сваіх сясцёр дзенебудзь у бары.

Сонца сасне хапае. Дажджы абмываюць пыл, які садзіцца са шляху і чыгункі, пояць сухі грудок. Усе чатыры вятры гамоняць з сасной.

З нейкага часу сасна перастала расці. Мажа, рост і ёсць, але непрыкметны, мізэрны, і людзі яго проста не заўважаюць. Ва ўсякім выпадку Сцяпан Птах — пуцявы абходчык, будка якога стаіць на другім баку пераезда, амаль насупроць сасны,— усе апошнія гады карыстаецца адной і той жа астровінай, каб ускарабкацца на дрэва, дзе стаіць яго вулей.

Старасвецкі гэты вулей — выдзеўбаную дубовую калоду — прывыклі бачыць на сасне. Пчолы жывуць у ім сама-

пасам, бо Сцяпан перад восенню выдзірае ўсё, што нанасілі яны за лета. Год на год не прыходзіцца: узяткі мёду залежаць ад таго, што расце на бліжніх палях і як родзяць травы на заросшай кустоўем няўдобіцы. Калі навакол бялеюць малочныя разлівы грэчкі, сінее азяркамі лён, густа цвіце па бульбе свірэпка і буяе ад шчодрых дажджоў разнатраўе, Сцяпан радуецца, ведаючы, што пчолы свайго не ўпусцяць.

Дзіўна, як уцалела гэтая адзінокая сасна і чаму за доўгія гады не вырасла паблізу хоць маленькай сасонкі? Дол на грудку штогод засеян шышкамі. Іх хапае будачніку, каб па вясне капціць кумпякі, а ў чэрвеньскія вечары бараніцца ад камароў, заедзі куродымам. Шышак — безліч, а спадчыны сасна не пакінула.

Мабыць, вінавата проста месца. Непатрэсканыя шышкі, сарваныя ветрам, падаючы на дарогу, заціраюцца коламі ў пясок. Не відаць знаку і ад тых, што сыплюцца на грудок, трэснуўшы на сасне, выкінуўшы насенне. На сухім грудку цяжка ўзнікнуць жыццю, бо вельмі часта любяць тут прыпыняцца падарожныя.

Адным словам, чаму сасна адзінокая, разабрацца можна. А вось чаму яе, нічыю, прыдарожную, за доўгія гады ніхто не ссек,— адказаць цяжка. Тым болей што людзям заўсёды патрэбна было дзерава — на хаты, на дошкі, а смалістая лучына — на распал.

Ніхто нават са старажылаў не помніў, калі праклалі чыгунку. Кожнаму думаецца, што яна была тут заўсёды. І колькі часу блішчаць на сонцы жалезныя рэйкі, колькі стаяць ля пераезда складзеныя з гладкай чырвонай цэглы будкі, столькі ж часу паціху гойдае зялёнымі галінамі купчастая сасна.

## 2

Ад будкі, у якой жыве Сцяпан Птах, паўтары вярсты да станцыі і вярста да мястэчка. Ля Птахавага пераезда дзве будкі, але адна даўно нежылая. Яна проста служыць сховішчам для рознага пуцейскага інструменту. Некалі пераезд быў з шлагбаумамі, вартаўніком, які жыў у другой будцы. Але з таго часу, як насыпалі прамы пясчаны шлях і зрабілі

галоўны переезд у самім мястэчку, гэты згубіў значэнне. Вартаўніка перавялі, шлагбаумы знялі. Машыны імчаць па шляху, а праз переезд, зварочваючы на прасёлкавую дарогу, толькі зрэдку прагрукае якая-небудзь фурманка.

Перабраўся сюды Сцяпан даўно, пакінуўшы стары бацькаў двор меншаму брату. Тут нарадзілася ў яго пяцёра дзяцей. Самы старэйшы сын, Міця, радзіўся яшчэ на дзедавым котлішчы. Калі яму было тры гады, ён зваліўся з воза і зламаў левую нагу. З таго часу Міця злёгку накульгваў. Другое дзіця, таксама хлопчыка, пераехаў цягнік.

Сцяпан Птах — мужчына вышэй сярэдняга росту, шыракаплечы, рабы, з чорнымі пукатымі вачыма — па натуры чалавек неблагі. Крыўды ён не робіць нікому, калі не лічыць таўхатні і ляманту, што ўчыняе ва ўсіх местачковых крамах. З мануфактурай, цукрам, а часам і з хлебам вузкавата, і каб што-небудзь здабыць, трэба выстаяць у чарзе. Стаяць жа ў чэргах Сцяпану не выпадае, і калі ён, завітаўшы ў краму, натрапляе там на жаночы натоўп, то не пытаецца, хто апошні, а лезе напралом да прылаўка, раскідваючы дужымі плячамі ўзмакрэлых жанок направа і налева.

— Ірад рабы! — крычаць яму.— Зноў прыляцеў!..

— За вамі хіба далікатна ўхопіш? — ужо ля прылаўка гудзе абходчык прастуджаным басам.

Птах заўсёды крочыць па чыгунцы да сваёй будкі з дзвюма буханкамі пад пахай. Меней ён не носіць. Сям’я не малая і патрабуе харчу.

Зрэшты, у будцы Птаха пануе лад і парадак. Хлопцы гойсаюць у чорных кортавых штанах і сарочках, дзяўчаткі — у паркалёвых сукенках. Сваю абходчыцкую службу Птах шануе і нясе спраўна, але не дае маху і на старане. Сена ён накашвае трошкі болей, чым трэба яго карове і цялушцы, і зімою мае за гэта барыш.

На пралётах уздоўж чыгуначнай лініі — дадатку да сціплага заробку абходчыка — лапушыцца бульба, добра родзіць і проса, і ячмень, і мак.

Лес — пад бокам. Прайдзі на захад якую-небудзь вярсту па чыгунцы або па пыльным шляху, які ляжыць побач, і тут табе сасновы бор, дзе чарніц, брусніц і грыбоў не абярэшся,

трохі злева — змешаны лісцвяны лес, у якім пераважае альха і бяроза і дол якога проста чырванее ад суніц. А падайся ў балоцісты гушчар, дык маліны і ажыны — процьма.

Лепшая ягада — Птахава, першы грыб — таксама яго. Дзеці ўмеюць не толькі есці, яны, нібы пчолы, цягнуць у хату. Летняй раніцай, калі густы, як малако, туман яшчэ вісіць над палямі і чыгункай, з будкі выходзяць дзеці са збанкамі і кошыкамі. Наперадзе, прыпадаючы на левую нагу, дыбае старэйшы, Міця, за ім два хлопчыкі амаль аднолькавага росту — Адам і Пятрусь і дзве дзяўчынкі — большая Каця і меншая Таццяна. Дзеці ідуць чародкай, як гусі.

Птах яшчэ забяспечвае станцыю венікамі і мётламі. За гэта асобная плата. Не такая высокая, але яе хапае, каб справіць шкалярам новыя сарочкі і штаны. Вопратку і абутак шкаляры зарабляюць сабе самі.

Птах не п’е. Выпівае толькі з адным чалавекам — леспрамгасаўскім шафёрам Іванам Гусоўскім. Для Івана ў хаце заўсёды хаваецца паўлітэрка. І Гусоўскі ніколі не мінае будкі, калі едзе, гружаны, з лесу.

— Адчыняй! — крычыць ён, спыняючы машыну. І незалежна ад таго, выходзіць хто-небудзь з будкі ці не, Іван скідае некалькі грабовых плашак пад сасну. Ён шчыра клапоціцца аб тым, каб Птах зімой не замёрз у сваёй каменнай будцы.

Вечарам, пры апошнім рэйсе, Іван спыняе машыну, заглушае матор і заходзіць да Птаха на аганёк. У гэты час і распіваецца паўлітэрка.

— Болей ста пяцідзесяці шафёру не паложана,— гаворыць Іван, адводзячы Птахаву руку з бутэлькай.— Разаб’ю машыну і траплю за дрот. А я яшчэ малады, мне жыць трэба.

Івану — ладнаму, шыракатвараму дзецюку — пад трыццаць, але ён не жэніцца. Не мае ні сваёй хаты, ні сталага месца жыхарства. Кідаюць яго з участка на ўчастак, і ездзіць ён па ўсіх дарогах раёна. Але Птаху займець хату памагае. Не толькі грабовыя плашкі скідае Іван ля пераезда, а прыцемкам, калі не цікуе чужое вока, і сасновыя бярвенні. Гэтыя бярвенні Птах перацягвае ў свой дворык, хавае пад леташнім бульбоўнікам, а калі іх набіраецца з дзясятак, з дапамогай таго ж самага Івана перапраўляе на бацькава дворышча. Ста-

рэе ён сам, растуць дзеці, а служба і будка не вечныя, трэба думаць і пра ўласны прытулак.

Бярвенняў і плашак Іван не скідае толькі тады, калі побач з ім, у кабіне, сядзіць леспрамгасаўскі прыёмшчык Крамер, высокі, маўклівы, з шэрым насатым тварам. Прыёмшчык усё-такі начальства, і яго трэба асцерагацца.

## 3

Увогуле Птахава сядзіба на вясёлым месцы. Люду тут паварочваецца за дзень процьма. Яшчэ на золку паўз будку шыбуюць у лес местачкоўцы. Ідуць кожны па сваёй патрэбе: хто па ягады, хто па грыбы, хто нарваць мяккага вішу на сяннік, а хто неўзаметку, патаемна ад леснiковага вока, укасіць між кустоўя капу сена. Гадзін у восем з рогатам і крыкам падыходзіць да пераезда рамонтная брыгада. Пуцейцы спыняюцца, грузяць на ваганетку інструмент, рэйкі, шпалы і крочаць далей.

Яшчэ праз гадзіну валам валяць тыя, хто мае нейкі інтэрас у мястэчку. Калгаснікі на фурманках вязуць нарыхтоўку — свіней, малако ў бліскучых бітонах, гародніну і садавіну. Пешыя найбольш спяшаюцца па асабістых патрэбах: прадаць яйкі і сушаныя грыбы, да пракурора ці ў райвыканкам са скаргай, у амбулаторыю да ўрача. Хлопчыкі і дзяўчаткі, якія, можа, упершыню ў жыцці адважыліся адмераць доўгія кіламетры ад сваёй вёскі да мястэчка, ідуць купляць падручнікі.

У гэты ранішні час пераезд становіцца людным, бойкім. Безупынна звініць ланцуг, і ў прорву бяздоннага ацэментаванага калодзежа з громам ляціць акаванае жалезнымі абручамі драўлянае вядро. Пад сасной абуваюцца маладзіцы і дзяўчаты, якія, шануючы абутак, дагэтуль ішлі босыя. Тыя, хто едзе, кіруюцца звычайна пыльным шляхам, а пешыя стараюцца збочыць на прасёлкавую дарогу, што весела віецца між жытоў і ячмянёў.

Пад поўдзень сутыкаюцца два адваротныя патокі. Местачкоўцы вяртаюцца з лесу, вяскоўцы — з мястэчка. Гадзінам к пяці завяршае свой рабочы дзень стомленая і цяпер не вельмі гаманкая рамонтная брыгада. Яна згружае інструмент,

пакідае некалькі гнілых шпал — абходчыку на паліва — і трымае цвёрды кірунак на станцыю, на спачын. І наступае цішыня...

Цішыня гэтая, вядома, ненадоўга. На ўсход і захад, амаль праз кожныя паўгадзіны, па дзвюх сталёвых каляях грымяць цягнікі. Цягнікі розныя: таварныя і пасажырскія, доўгія — да сарака вагонаў з двума лакаматывамі ў галаве і кароткія — паравоз і два-тры вагоны. Адны цягнікі праносяцца паўз будку, як вецер, зацягваючы перад семафорам настойлівы жалезы крык, патрабуючы «зялёнай» вуліцы. Другія, ведаючы, што станцыю ім з ходу не праскочыць, ужо ля будкі пачынаюць замаруджваць бег, колы іх вагонаў гучней ляскочуць на стыках, а кандуктар, які да гэтага сядзеў на тормазе задняга вагона, устае і праціраe запарушаныя пылам вочы.

Калі Сцяпан Птах на абходзе, пры набліжэнні цягніка ён збочвае з каляі на край насыпу, дастае з футляра жоўты сцяжок і трымае яго над галавой да таго часу, пакуль не праносіцца апошні вагон. І заўсёды ў такія хвіліны яго твар сур’ёзны.

Да цягнікоў у будцы прывыклі не толькі людзі, а і жывёла. Пярэстая абходчыкава Рагуля, якая пасецца ля чыгункі, зачуўшы гул цягніка, адыходзіць ад палатна ўсяго на два-тры метры. Цялушка па нявопытнасці адбягае трохі далей.

Не могуць прызвычаіцца да жалезнага груку толькі птушкі. Дзе б яны ні сядзелі — на сасне, у кустах, на тэлеграфным дроце — часцей за ўсё пры набліжэнні цягніка ўзлятаюць у паветра.

Вечарам, калі спадае летняя спёка, на пераездзе паяўляецца палявы вартаўнік Кузьма Шнапс. Прозвішча ў Кузьмы інакшае, але яго лепш ведаюць пад гэтым, і ён не крыўдуе, калі яго так завуць. Шлях Шнапса да сваіх уладанняў заўсёды ляжыць праз Птахаў пераезд.

— Жывеш, Сцяпан? — вітае ён абходчыка.

— Жыву, а што мне зробіцца.

— Ну, то жыві. Толькі як ты трываеш у такім груку і тлуме? Я б і дня не сцярпеў. Вось пайду лягу пад капу — і ўся мая служба. Не пачую ні дудкі, ні шмудкі.

— Табе тваё, а мне маё. Дый ціха тут, поезд прайшоў, і няма. Лепей тут, чым у сяле: бабы не сварацца, чыстае паветра, спакой.

— Можа, і праўда.

— Ты мне, Кузьма, падкінь які воз саломы,— просіць Птах.— Яе ж у вас столькі прападае. А я табе к зіме трохі газы прызапашу.

— Можна падкінуць...

Пра што могуць гаварыць два вартаўнікі, з якіх адзін усю ноч будзе хадзіць па рэйках, а другі, па-старэчаму накрыўшыся з галавой кажухом, спаць пад стогам?.. Пра хлеб, пра надвор'е, пра мануфактуру, пра тое, што жыць на свеце яшчэ не так-та лёгка. І стаіць у часе такіх гаворак над асмужанымі палямі, над чыгункай вялікая вячэрняя цішыня...

## 4

У сонечную летнюю пару, калі ўсё наваколле спавіта тонкай плёнкай сіняватай смугі, мястэчка з Птахавага пераезда здаецца надзвычай прыгожым. Атуленае садамі і прысадамі, яно ўяўляецца зялёным вострававам сярод залацістага збожжавага разліву. Адзін толькі будынак выразна выдзяляецца на гэтым востраве — школа. Яе малочна-белы гмах вышэй хат і магазінаў, вышэй самых высокіх таполяў і ліп і таму міжволі прыцягвае ўвагу кожнага, хто дабіраецца да мястэчка.

Міця любіць глядзець на школу. Ён ведае месца, з якога яна відаць найлепш. Месца гэтае — грудок пад сасной — хлопец аблюбаваў яшчэ тады, калі школу толькі пабудавалі. І ходзіць Міця пад сасну заўсёды з кнігай...

Год назад, калі Міця закончыў сем класаў, бацька спытаў:

— Што будзеш рабіць далей? Я вучыўся толькі дзве зімы і нічога, сям'ю кармлю. Можа, і табе хопіць навукі?

— Пайду ў інстытут. Ты мне, тата, памажы гэтыя гады. Летам гуляць не буду, паступлю ў рамонтнікі.

Сцяпан Птах з павагай зірнуў на старэйшага сына, худзенькага, шчупленькага, які разважаў так па-даросламу.

— Добра, сын,— прамовіў ён, адварочваючыся і стараючыся праглынуць горкі камяк.— Ты, мабыць, мудрэй за бацьку. Не журыся, хлеба хопіць...

Бацьку Міця сказаў праўду. А наогул ён зацяты хлопец і сваімі планамі дзеліцца не з кожным. Магчыма, на яго характары пакінула свой след ранняе калецтва, жыццё наводшыбе.

Тым не менш ёсць у Міці сябры, і яны любяць прыходзіць у будку, пад сасну. Найбліжэйшыя з іх — Іван Лобік і Нупрэй Гіль. Дружаць яны даўно. Хлопцы вучацца ў дзясятым класе, Міця — у дзявятым. Калі пачынаўся навучальны год, Міця быў толькі ў восьмым, адстаючы ад таварышаў на цэлых два класы.

Да апошняга месяца ніхто, акрамя Лобіка і Гіля, не ведаў, што Міця, вучачыся ў восьмым, самастойна рыхтуецца за дзявяты. Хлопцы трымалі тайну надзейна. Іван памагаў па матэматыцы — прагрэсіі, лагарыфмы, сінусы і косінусы Міця асвоіў як мае быць. Усю зіму то Міця хадзіў у пахілую Іванаву хату на Вакзальную вуліцу, то Іван сам крочыў да яго на будку. Нупрэй памагаць не меў часу: ён у школе актывіст, сакратар камсамольскай арганізацыі, а таксама селькар.

Міцеў трыумф пачаўся ў красавіку, калі ён занёс дырэктару заяву з просьбай прыняць экзамены за восьмы і тры чвэрці дзявятага класа. Такога выпадку ў школе яшчэ не было, і настаўнікі не ведалі, што рабіць. Хадзілі ў райана, званілі ў аблана. Нарэшце прыйшоў дазвол прыняць экзамены экстэрнам.

У першы дзень, калі Міцю перавялі ў дзявяты, там адразу было тры кантрольных — па алгебры, рускай літаратуры і нямецкай мове. Настаўнікі правяралі яго работы адразу, як толькі ён клаў іх на стол. Да канца ўрокаў было вядома, што па ўсіх трох прадметах ён атрымаў вышэйшую адзнаку.

Міця пажынаў славу...

Нупрэй напісаў пра Міцю заметку ў раённую газету, і такім чынам слава, выйшаўшы за абсягі школы, пракацілася па ўсім раёне.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Наступіў Першамай...

Дзень цёплы, лагодны. Сонца няяркае, плыве як бы ў белым тумане. Пасля дэманстрацыі Іван Лобік і Нупрэй Гіль разам з Міцем прыйшлі пад сасну. Купілі ў складчыну, на траіх, чацвяртушку гарэлкі, бляшанку кансерваў.

Хлопцаў апанаваў асаблівы, агніста-радасны настрой: на зямлі вясна, праз чэзлую леташнюю траву прабіваецца маладое зяленіва, на кустах вербалозу, ракітніку — першыя клейкія лісцікі. Зямля сыраватая яшчэ, дыша назапашаным за зіму холадам, але сябры не зважаюць — ляжаць на грудку на жыватах. Адкаркавалі пляшачку, нарэзалі хлеб, цыбулю.

Выпівалі ўпершыню — гарэлка з непрывычкі ўдарыла ў галаву, яны адразу сп’янелі. Заспявалі. Голасу ні ў аднаго з траіх не было, але ім здавалася, што спяваюць надзвычай хораша.

В далекий край товарищ улетает,
За ним родные ветры вслед летят,
Любимый город в синей дымке тает,
Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд...

Той настрой, які валодае хлопцамі, можна выліць толькі ў гэтай, трошкі сумнаватай, працяжнай песні. Хіба не ўскалыхнецца, поўнячыся ціхім, прыемным смуткам, душа, не затрапеча сэрца, не павее халадком у грудзях пры адным успаміне, што хутка расстанне. Яны, трое, раз’едуцца, пакінуўшы школу, зялёнае мястэчка, знаёмыя, зведаныя з дзяцінства мясціны, якія сталі нібы часткай душы. Івану з Нупрэем ехаць сёлета, Міцю — праз год. Што чакае іх, звычайных местачковых хлопцаў, у тых неразгаданых далях, якія, нягледзячы на смутак расстання, вабяць і клічуць? Чым надорацць сяброў дарогі-пуцявіны, якія толькі пачынаюцца?..

Пра ад’езд гавараць не любяць. Гэта нібы само сабой зразумела. Можа, тоіцца тут яшчэ неразвеены, схаваны ў

глыбіні душы страх перад невядомасцю, а можа, звычайная юнацкая сціпласць. Вядома, што Нупрэй збіраецца ў артылерыйскае вучылішча, а Іван — у авіябудаўнічы інстытут. Міця дарогі яшчэ не выбраў. Яму падабаецца лес, яго зялёны пошум і ўрачыстая маўклівасць. Не раз мільгала думка — стаць ляснічым, садзіць бярозы і сосны. Хіба дрэнная гэта прафесія? Але ёсць у Міці тайна, якую ён нават перад сябрамі не раскрывае. На самым дне яго сундучка з кнігамі, загорнуты ў старую цырату, ляжыць тоўсты сшытак з вершамі. Міця напісаў іх сам. Ён не ведае — добрыя вершы ці дрэнныя, і ён лепш аддаў бы адсячы сабе руку, чым каму-небудзь іх паказаць. Таму іншы раз усплывае жаданне пайсці вучыцца на літаратурны факультэт.

Наспяваўшыся, хлопцы пачынаюць кідацца шышкамі. Мецяць у пабелены каменны слупок на насыпе, які служыць нейкім чыгуначным знакам. Іван — з выгляду медзведзяваты, павольны, з вялікай галавой, шырокім тварам і тоўстым, як бульбіна, носам — кідае, доўга прыцэльваючыся, але пападае рэдка. Шустры чарнявы Нупрэй спяшаецца, размахвае рукамі, падскоквае — на сваіх трохі выгнутых нагах ён падобен цяпер на млын-вятрак — і трапляе ў слупок амаль кожнай шышкай. Міця раз за разам прамахваецца. Можа, таму, што кружыцца галава.

Да вечара далёка. Хораша пабыць адным, вызваліцца, хоць на дзень, ад надакучлівай будзённасці ўрокаў, забыцца на тлум, мітусню. Хлопцы садзяцца на грудок. Мястэчка відаць адсюль як на далоні,— вялікае, раскідзістае, яно цягнецца праз усю раўніну ад лесу да лесу. Чыгунка як бы дзеліць яго папалам. Меншая палавіна прыходзіцца на левы бок, большая — на правы. Нупрэеў дом у правай частцы, калі добра прыгледзецца, можна яго ўбачыць: крыты чарапіцай, ён прыкметна выдзяляецца. Іванавай хаты не ўбачыш — пахілая, прыземістая, яна губляецца сярод гэткіх жа шэрых хацін левай часткі, якая некалі называлася Слабодкай. Жыве Іван без бацькі, з малодшай сястрой і хворай маці.

Хлопцы любяць мястэчка — ні чым яно асабліва не славутае, няма ў ім ні рэчкі, не забрукавана пакуль што ніводнай вуліцы, але ўсё адно здаецца, што лепшай мясціны на свеце

няма. Носіць мястэчка прыгожую назву — Бацькавічы, і думаецца, нездарма. У кнізе «Живописная Россия» Адама Кіркора, якая выйшла амаль сто гадоў назад, Бацькавічы называюцца ў ліку самых старажытных паселішч гэтага краю, пачатак якім паклала яшчэ Кіеўская Русь. Паводле падання, недзе паблізу ад гэтых мясцін быў забіты князь Ігар, той самы, што двойчы за адзін год хацеў пажывіцца данінай у непакорных драўлян. Гісторыя так скіравала свае пуцявіны, што ў далейшым Бацькавічы нічым не выславіліся і таму не трапілі на яе скрыжалі. Не было каля іх ніводнай вялікай бітвы, сярод славутых людзей не знойдзеш прозвішча хоць бы аднаго тутэйшага жыхара.

На геаграфічных картах мястэчка не адзначана нават маленькім кружочкам, і ад гэтага сябрам трохі крыўдна. Бацькавічы сталі цэнтрам раёна ўжо тры гады назад, але складальнікі картаў гэтага не ўлічваюць.

У мястэчку акрамя школы яшчэ два двухпавярховыя каменныя будынкі, стары таполевы парк, паблізу — гарадзішча — парослы лесам узгорак, акружаны земляным валам. Была старажытная царква, пабудаваная, як расказваюць старыя, без адзінага жалезнага цвіка, але яна згарэла ў часе адступлення немцаў у васямнаццатым годзе. Другую царкву — новую — зачынілі. Цяпер у ёй клуб.

Іван Лобік перавярнуўся на спіну, ляжыць, пазіраючы ў зацягненае белымі хмаркамі неба.

— Як паверыць у бясконцасць сусвету? — пытаецца ён.— Па-мойму, тут памылка. Усё, што мае пачатак, павінна мець і канец.

— А дзе пачатак? — лянiва пярэчыць Нупрэй, які філасофскіх размоў не любіць.

— Вазьмі атам. У ім пратон, электрон. Куды далей дзяліць?

— Падзеляць, не хвалюйся. Проста навука не дайшла.

— Бясконцасць не адпавядае здароваму сэнсу. Падумай — людзі вывучаюць прыроду, будуюць гарады, робяць адкрыцці. Пакутуюць, радуюцца, пішуць законы, кнігі. І ўсё гэта нуль у параўнанні з бясконцасцю... Сама Зямля нуль, нікчэмная пылінка, калі колькасці планет няма канца. Чалавек тым болей... Ён проста смешны... Што ён значыць сярод бязмежнага сусвету?..

— Гэта ідэалізм,— думаючы аб сваім, гаворыць Нупрэй.

— Ідэалізм, ідэалізм... Рад, што слова ведаеш. А ты падумай... Усё, зробленае чалавекам, нішто, калі свету няма канца.

— Бясконцая матэрыя. У часе і прасторы. Пры чым тут чалавек?

— Ну як ты не разумееш? — марудлівы Іван пачынае злавацца, гаворыць хутка, захліпаючыся.— Выпадковасць жыццё ці не?.. Няма ў яго сэнсу, калі ўсё без канца. Чалавек ідзе, ідзе, а куды дойдзе?.. Павінна ж быць мэта. А гэта заўсёды граніца, рубеж, да якога людзі імкнуцца. Няма граніцы — няма мэты. Навошта тады жыццё? У чым яго сэнс?..

— Жыццё вечнае,— заяўляе Нупрэй.— Вядома таксама, што адзін дурань можа задаць столькі пытанняў, на якія не адкажуць сто разумнікаў.

— Ты да разумнікаў прылічваеш і сябе?

— Аб прысутных не гаворыцца.

Такія спрэчкі для Міці не ў навіну. У Івана адмысловы розум, любіць ён раздумваць над усім, што другія прымаюць на веру. Няма для яго нічога, раз назаўсёды дадзенага, а цудаў ён наогул не прызнае. Абодва яны — Іван і Нупрэй — вялікія кніжнікі. Таму і цягнецца да іх Міця, пагарджаючы дружбай тых хлопцаў, якія вучацца разам з ім.

Па складу характару Міцю бліжэй Іван. Нупрэй з яго няўрымслівасцю залішне вялікую даніну аддае школьным сходам, гурткам, той штодзённай мітусні, якой Міця пабайваецца. Нупрэй бачыць сябе трошачкі на трыбуне, ён нязменны прамоўца на ўсіх школьных зборах і, астаўшыся ўдваіх, Іван з Міцем злёгку за гэта над ім пакепліваюць. Гэта не перашкаджае ўсім тром дружыць. Што датычыць вучобы, то цяжка сказаць, хто і дзе лепш: Іван ці Нупрэй. Абодва крочаць як бы ў ногу, не ведаючы двоек, троек, лічачы зняважлівай для сябе нават чацвёрку. Апошні месяц Міця адчувае сябе роўным з сябрамі і ўдосталь п’е слодыч гэтага цудоўнага пачуцця. Не сакрэт, што яны, пасвечаныя ў яго тайну з самага пачатку, з таго дня, як ён перайшоў у дзявяты клас, глядзяць на яго з большай павагай. Дружба дзевяцікласніка з дзесяцікласнікамі — гэта зусім не тое, што дружба чалавека, які адстае ад сяброў на цэлых два класы.

— Паток электронаў, які ўзнікае ў праваднiку, уведзеным у магнітнае поле,— вось пачатак матэрыі,— гаворыць Лобік.— Тут і канец яе, бо маса сонца, зорак не што іншае, як згусткі энергii. Прырода святла, якое выпраменьваецца зоркамі, блізкая да прыроды электрычнасці. Фатон амаль тое ж, што і электрон... Паспрабуй абвергнуць мяне — калі ёсць мяжа ў адзінцы вымярэння матэрыі, то і яна сама павінна быць абмежавана...

— А хто табе сказаў, што электрон мяжа? Ён таксама бясконцы...

— Паспрабуй падзяліць секунду да бясконцасці.

— Ёсць такія працэсы, якія адбываюцца за мільённыя долі секунды. Успомні хуткасць святла.

— Ага. Ты сам сябе б'еш. Чаму святло распаўсюджваецца з аднолькавай хуткасцю?.. Трыста тысяч кіламетраў — ні больш ні менш. Мяжа. Ва ўсім павінна быць мяжа...

— Мы не ведаем, як на другіх галактыках.— Нупрэя збіць з панталыку нялёгка.— Чалавек мае пакуль вельмі малыя веды аб прыродзе. Працэс вывучэння практычна бясконцы.

Міця любіць спрэчкі. Яны як бы ўзнімаюць над будзённасцю, над усім тым звычайным, тысячу разоў бачаным, што ляжыць навакол, надаючы ўсяму глыбокі, стоены ў сваёй шматзначнасці сэнс. Камень-кругляк, закінуты з чыгуначнага насыпу пад сасну, не проста камень, гэта складанае рэчыва, у якое ўваходзяць дзясяткі хімічных элементаў, мільярды мільярдаў нябачных атамаў, дрэмлюць магутныя, але скаваныя энергіі. З другога боку, адшліфаваны кругляк як бы ўзнімае заслону над падзеямі, што прамінулі ў глыбокай даўнасці, калі па зямлі поўз аграмадны ляднік, сціраючы горныя вяршыні, перакройваючы нанава ландшафт. Хто раскрые тайну тысячагоддзяў, што адляцелі ў нябыт, напіша паэму аб далёкай, сівой мінуўшчыне?..

У спрэчку Міця не ўступае: хлопцы ведаюць за яго болей. Лішні клас, які маюць яны за плячамі, два лішнія пражытыя імі гады — гэта цэлая эпоха. Яны ўжо вывучалі і астраномію, і геалогію з мінералогіяй, і арганічную хімію. Міця пакуль што толькі набыў гэтыя падручнікі.

— Невядома нават, што такое чалавек,— узбуджана працягвае Лобік.— Думаеш, Дарвін сваёй тэорыяй усё сказаў?.. Гейдэльбергскі чалавек, пітэкантрап, сінантрап... А можа, людзі прыляцелі з Марса? Чаму абавязкова думаць, што на адной толькі Зямлі разумнае жыццё?

— Ніхто і не думае. Але ж у навукі яўныя доказы, а тое, што ты гаворыш,— фантастыка.

— Фантастыка часта апераджае навуку. Без яе людзі былі б сляпыя. Хто ведае, што такое мара?.. І што такое жыццё наогул? У чым яго сэнс?..

Гэта гаворыць Іван Лобік, якога адзінадушна лічаць найбольш здольным да матэматыкі. Яны з Нупрэем як бы памяняліся ролямі: цяпер той абараняе пазіцыі дакладных навук.

— Жыццё ёсць форма існавання бялковых цел,— гаворыць Нупрэй.— Гэта сказаў Энгельс. На працягу тысячагоддзяў стварыліся пэўныя хімічныя канструкцыі. Амінакіслоты, нуклеін, пептоны, бялкі. Сэнс у тым, што тут ёсць самаабмен рэчыва, узнаўленне. У нежывой прыродзе гэтага няма...

— Ну, гэта хімія, а вазьмі жывога чалавека. Хіба хіміяй усё растлумачыш? Хоць бы каханне. Чаму мяне, напрыклад, цягне да гэтай дзяўчыны, а не да якой-небудзь іншай?

— Каханне — звычайная біялогія. Сексуальныя эмоцыі. Цяга да размнажэння.

— Ну, падумай, што ты гаворыш,— Лобік пачынае злавацца.— З біялагічнага боку ўсе аднолькавыя. Кожны арганізм выконвае тыя самыя функцыі! Але ж мне можа падабацца толькі адна... Ну, напрыклад, прыгожая. Што такое прыгажосць?..

— Прыгажосць таксама біялогія. Адна з форм прыстасавання да акаляючых умоў. Напрыклад, апярэнне ў птушак. Навошта яно? Каб звярнуць на сябе ўвагу і прадоўжыць род. Тое самае кветкі. Каб яны не цвілі, пчолы б іх і не заўважылі...

— Але ж мне могуць падабацца не ўсе дзяўчаты, а толькі адна. З якой-небудзь я і роду прадаўжаць не хачу. Дый наогул ніхто пра гэта не думае...

Міця зусім не згодзен з тым, што гаворыць Нупрэй. Спрачаецца, мабыць, з адной упартасці,— нядаўна гаварыў іншае.

— Ты ставіш чалавека ў адзін рад з жывёлінай,— уступае ў спрэчку і ён.— А паэзія, музыка?.. Навошта яны?.. Калі жыць па-твойму, усё проста.

— Жылі людзі і без музыкі,— Нупрэй не здаецца.— Думаеш, пяшчэрны чалавек на скрыпцы іграў? Я сказаў пра самае галоўнае. Астатняе — напластаванні пазнейшага часу.

Прамчаўся, абдаўшы хлопцаў дымам, набіраючы хуткасць, кур'ерскі цягнік. На прыгожых спальных вагонах таблічкі з надпісам: «Ленінград — Адэса». Поезд ідзе з поўдня, будка машыніста, мабыць, з прычыны Першага мая, шчодра ўпрыгожана бярозавымі галінкамі. Там, на поўдні,— вясна, маладое лісце трапечацца на ветры.

Сонца хіліцца к захаду, надвячорак. Доўгі, ледзь прыкметны цень ад сасны лёг на шэры пясчаны шлях. Пасля груку цягніка асабліва выразнай здаецца цішыня. Так, звычайна, яе не адчуваеш.

— Прыгажосць існуе,— раздумліва гаворыць Лобік, падтрымліваючы Міцю.— Я не ведаю, што гэта... Можа, розумам тут не дойдзеш... Але існуе штосьці. Па-мойму, кожны чалавек адчувае... Прыгажосць — гэта калі паглядзіш — і адразу радасна. Жыць хочацца... Хочацца нечага незвычайнага. Чаго да цябе яшчэ не было. І, можа, ніколі не будзе... Ты, Нупрэй, не спрачайся. Сам ведаеш. Чаму чытаеш Блока, Пушкіна?..

— Я не спрачаюся,— Нупрэй ідзе на прымірэнне.— Толькі пра гэта гаварыць не трэба. Іначай расслабляешся. Трэба вучыцца, і ўсё. Каму хто падабаецца — асабістая справа. Адной меркі не можа быць.

З гэтым згодны ўсе. На хвілінку хлопцы змаўкаюць — няма грунту для новай гаворкі. Бывае часта так, крычыш, даказваеш, а потым нядобра на душы. Нібы самага галоўнага так і не сказаў...

На насыпе, можа, у паўвярсце ад будкі, маячыць доўгая постаць. Чалавек дыбае важна, шырока ступаючы, размахваючы рукамі.

— Мікола,— пазнае Лобік і ўсміхаецца.

Міколу Цябута ведаюць добра і лічаць дзіваком. Разам з Лобікам і Гілем ён вучыўся да дзясятага класа, пакуль не

апанавала прага ўласнай педагагічнай дзейнасці. Летам, на канікулах, паступіў на аднамесячныя настаўніцкія курсы і, закончыўшы іх, быў накіраваны загадчыкам пачатковай школы ў лясную вёску Грамы. Мікола ў Грамах і загадчык школы, і загадчык навучальнай часткі, і адначасова настаўнік, бо другіх педагогаў у аднакамплектнай школе няма. У мястэчку ён паяўляецца даволі часта і не прамінае выпадку завітаць да сяброў. Становішча настаўніка мала змяніла знешні Міколаў выгляд: ходзіць ён у тых жа вялізных, змазаных дзёгцем ботах, у шэрым, перашытым з вайсковага шыняля, лапсярдаку. Цяпер — заўсёды з карзінай, якая пакуль што замяняе партфель. Карзіна ёмістая — у ёй Мікола носіць дырэктывы з райана, сшыткі для сваіх вучняў і сала, якім забяспечвае яго маці.

— Думаў, куды вас чорт знёс,— падышоўшы, вітаецца Мікола з Гілем і Лобікам.— Прыйшоў да аднаго — няма, да другога — няма. Добра, што здагадаўся, дзе шукаць. А цябе віншую: — Ён доўга трасе Міцеву руку.— Ты, брат, выдатную мыслю падаў. Трэба рвацца наперад. Га?.. Дагонім гэтых вучоных дзятлоў. А то яны ад сваёй вучонасці аж дзюбы пазадзіралі...

З прыходам Міколы настрой кампаніі адразу мяняецца. Мікола не ўмее ціха гаварыць, сумаваць, нават смяяцца не ўмее — рагоча. З выпадку свята на Міколе абновы — сарочка ў вялікія клеткі і сіні фрэнч з тоўстага сукна — прыкметы яго ўзросшага дабрабыту.

— Махнём заўтра да мяне ў Грамы, прафесары! — гукае Мікола.— Тры гадзіны ходу і — там. У гаспадара майго стрэльба... Пабухаем у лесе, бярозавіку пап'ём. А назад можна на таварняку. Там якраз пад'ём, поезд ціха ідзе, падчэпіцеся. Даедзеце, калі не ссадзяць...

— Некалі, Мікола, экзамены на носе,— адмаўляецца Нупрэй.— Мне палавіну трыганаметрыі паўтараць. Паслязаўтра выклічуць, а за ўсю чвэрць яшчэ ніводнай адзнакі. Табе што...

— Трэба вам вырывацца на шырокі прастор, браты! Бярыце прыклад з мяне. Годзе марнець, кіснуць. Я сваіх стрыжаных праз два тыдні распускаю — і да самага верасня

вольны казак. Любата. Што хочаш рабі. Хоць, чорт яго ведае, можа, кінуць мне гэтую педагогію. Няёмка як быццам без дзесяцігодкі. Мітрафанушка... Трэба паступіць куды-небудзь, хоць бы завочна. Хіба ў настаўніцкі інстытут?.. Туды бяруць і без дзясятага класа.

— Можна за дзясяты падрыхтавацца летам,— з абыякавасцю ў голасе гаворыць Міця.

— А што ты думаеш! — Мікола адразу загараецца.— Дадзім дразда. Вось тут пад сасной і абсталюемся. Цянёк, спакой, і мухі не кусаюць. Курорт... Сасновая акадэмія!

Мікола рагоча, кідае вобземлю кепку, нібы спрабуючы пайсці ўпрысядку, але тут яго позірк запыняецца на пустой бутэльцы, крыху прыхаванай у леташняй траве.

— Браты алхімікі! — роблена трагічным голасам ляментуе ён на ўсё поле.— Што бачаць мае вочы?.. Няўжо ты, камсамольскі сакратар, такое дазволіў? Дзе ж дысцыпліна? О, якое падзенне нораваў!.. Што робяць вучні, калі не бачаць настаўнікі!.. Адзін пра другога ў газетах пішуць, а тым часам... Не магу паверыць...

Лобік смяецца, захліпваючыся, да слёз — ён заўсёды смяецца шчыра.

— Не дуры, Мікола,— нахмурыўшыся, гаворыць Нупрэй.— Мог раней прыйсці. Мы цябе не чакалі.

— Дык у чым справа? — Цябут адразу мяняе тон.— Дзясятка ў Міколы знойдзецца. Ён не тое што вы, дармаеды. Седзіцё ў бацькоў на карку. За мой кошт, га?.. У гонар Першамая...

— Вечар, Мікола, у школе. Нельга,— хмура кідае Нупрэй.

— Дык чаго вы седзіцё, як глякі? Падымайцеся! Я ж затым і прыйшоў.

Няўклюдна выкідваючы ногі, трасучы бялявай чупрынай, Цябут нарэшце пускаецца ў скокі — аж трашчаць сухія сасновыя шышкі пад падэшвамі ботаў. Па ўсім відаць — Мікола ад душы рад, што спаткаўся з сябрамі, што ў школе, у якой ён не вучыцца хутка ўжо год, будзе шумнае зборышча.

## 2

Павольна спускаецца на зямлю майскі вечар. Змрок мяккі, шэравата-празрысты, колеры ў ім як бы злёгку прыглушаны, змешаны ў адной непадзельнай гаме. Чарнее голая яшчэ зямля, шарэюць кусты, з ваколіцы — з нізіны — цягне прыемнай вільготнасцю. Там, у нізіне, прабуе голас кулік. Тысячамі шорахаў напоўнен майскі вечар — можа, прабудзіліся ад зімовай спячкі мышы і шасцяць у леташняй пожні, можа, жыруе на першай кволай траве заяц...

Хараша вось так, учатырох, ісці палявой дарогай, дыхаючы на поўныя грудзі густымі пахамі разамлелай, тлустай зямлі. Над галавой — высокае неба, мясцінамі, як попел, шэрае, мясцінамі — святлейшае, і зоркі на ім — як незлічоныя срабрыстыя іскрынкі.

Дарога падсохла, пругкая, ісці лёгка, наперадзе, у мястэчку, прывабны ланцужок агнёў, што запаліліся ў хатах і на слупах — на вуліцы, і самыя зыркія агні — у вокнах школы, яны пануюць над усімі астатнімі, яны — нібы вянок гэтай вячэрняй прыгажосці. Няма большай радасці, чым тая, якую дае таварыскасць і дружба, яднанне маладых сэрцаў, неспакушаных, адкрытых насустрач усяму прыгожаму, высакароднаму, што ёсць у жыцці. Ідзі па зямлі, множ багацце яе, красу, сей шчасце людзям! Шануй сяброў — без іх ты — нішто, толькі з імі адчуваеш сваю сапраўдную сілу. Любі вось гэтую зямлю — шэрую, вясновую — яна цябе ўзгадавала, дала для адлёту крылы. Ніколі не забывай яе — дзе б ты ні быў, кім бы ты ні стаў — тут ты сказаў сваё першае слова, спазнаў першае шчасце — яна твая маці...

Радасна, але чамусьці і смутна ў такую вячэрнюю часіну: у душы ўздым, няяснае прадчуванне нечага вялікага, значнага, што абавязкова надыдзе, здзейсніцца, закружыць у зіхатлівым віры, і разам з гэтым — незразумелы неспакой, трывога... Адкуль яны? Пра што гавораць?.. Няўжо няма ў жыцці чыстага, бясхмарнага шчасця, без ніякай прымесі згрызоты? Чым навеяны нечаканы гэты смутак, што раптам халодным камяком варухнуўся ў сэрцы? Можа, гэта проста трывога ростаняў, калі дарагое, зведанае застаецца ззаду, а новага яшчэ не

відаць — яно як бы схавана за хісткай пялёнкай ружовай дымкі? Ты яшчэ вельмі мала ведаеш, маладосць, і ты не адкажаш, чаму ў мяккі, спакойны вясновы вечар набягае смутак задумення на твой ясны твар...

Хлопцы выбіліся на местачковую вуліцу. Хваля святочнасці тут яшчэ не спала — на кожнай лавачцы свая кампанія, зычныя галасы, смех, недзе ў двары рыпае гармонік, гулка бухае бубен, даносіцца не вельмі суладная песня — мужчыны, напінаючыся, цягнуць «Кацюшу», жанкі — «Пасею гурочкі». Мільгаюць белыя сукенкі дзяўчат — яны і ў шэрані вечара белыя, нехта, зусім не да часу, сячэ дровы, некаторыя вокны ўжо цёмныя, не свецяцца. Пад нагамі сухі пясок, з палісаднікаў патыхае церпкім водарам — чаромха, бэз — хутка зацвітуць.

— Слухай, стратэг. Як ты ацэньваеш міжнароднае становішча? — пытае Мікола ў Лобіка.

— Сам газеты чытаеш.

— Мне, брат, чытаць некалі. Паспрабуй адразу чатыры класы вясці. Вечарам хоць бы сшыткі праверыць. Як там Ромель у Афрыцы?

— Афрыка — не галоўнае,— задумліва адказвае Лобік.— Па-мойму, Германія нацэлілася на Бліжні Усход. Грэцыя ў немцаў, Балканы — у немцаў. Крыт захапілі. Ясна — хочуць прабрацца ў Месапатамію. Да нафты. Калі гэта ўдасца, Англіі — канец.

— Дык што — Гітлер паўсвета захопіць?

— Ніхто не ведае. Ясна адно — Германія цяпер самая моцная з капіталістычных краін. За паўтара года Еўропы як бы не было...

Мікола не пярэчыць — з усіх чатырох Лобік найбольш кампетэнтны ў пытаннях палітыкі. З таго часу, як пачалася вялікая еўрапейская вайна, ён штовечар, пасля прыходу пасажырскага цягніка, выстайвае ля кіёска — там прадаюць маскоўскія газеты за ўчарашні дзень. Звычайна газеты прыходзяць праз два дні, і асноўныя навіны Лобік, такім чынам, ведае першы. Ён акуратна чытае ўсе ваенныя агляды па часопісу «Огонек», любіць пагаварыць пра вайну з кожным, хто б ні сустрэўся.

Падышлі да школы. Ля параднага ўвахода тоўпяцца сямікласнікі — іх на вечар не пускаюць, ён для старэйшых класаў — ад восьмага да дзясятага. Нупрэй, як толькі праціснуліся ў вестыбюль, адразу знік, пакінуўшы хлопцаў утрох. Ён заўсёды так робіць, на людзях як бы аддаляючыся ад сяброў, але і вінаваціць яго цяжка. Нупрэю як сакратару камсамольскай арганізацыі ёсць справа да ўсяго.

У даўгім школьным калідоры тлум, мітусня. Хлопцы-дзесяцікласнікі стаяць асобнай талакой, гучней за ўсіх рагочуць, не сціхаючы нават пры набліжэнні настаўнікаў. Яны ўжо нікога не баяцца, ім у школе засталося нядоўга. Міця падышоў да свайго дзявятага класа, з дзесяцікласнікамі стаяць няёмка.

Праграма вечара — мастацкая самадзейнасць, потым танцы. З напаўадчыненых дзвярэй клуба, які адначасова служыць і памяшканнем першага класа, даносіцца ціхае трэньканне — там ідзе апошняя рэпетыцыя. Першым будзе выступаць струнны аркестр. З заклапочанымі тварамі бегаюць удзельніцы танцавальнага гуртка ў вышытых, старадаўняга фасону, сарочках і спадніцах.

Міця стаіць ля акна, абводзячы позіркам доўгі калідор, па якім уперад-назад прахаджваюцца дзяўчаты, што ў самадзейнасці не ўдзельнічаюць. Яны амаль усе прыйшлі ў абноўках, сукенкі і блузкі вясновых колераў — белыя, сінія, расквечаныя, і выгляд у дзяўчат куды больш святочны, чым у хлопцаў. Хлопцы, нягледзячы на вясну, апрануты ў шэрае і цёмнае.

Міця любіць тлум, мітусню вялікіх школьных зборышч, зусім не падобных на размераныя вучэбныя дні з дзяжурнымі на калідорах, строгімі позіркамі настаўнікаў, званкамі. У такія вечары ахоплівае асаблівы настрой: вучоба, экзамены, адзнакі — усё гэта адступае на задні план, здаецца нязначным, далёкім, перад вачамі мора весялосці, знаёмыя хлопцы і дзяўчаты паўстаюць у новым абліччы, і тое, хто як вучыцца, не мае тут ніякага значэння. «Ёсць другое жыццё»,— не раз мільгала думка, нараджаючы смутныя, трывожныя здагадкі, радуючы і палохаючы. Школьныя вечары нібы вестуны гэтага прывабнага, незнаёмага жыцця з яго адметнымі законамі,

з зусім новай вагой усяму таму, што здавалася прывычным і цвёрдым.

Не першы раз Міця назірае, як расцвітаюць на шумных зборышчах дзяўчаты, якімі дасціпнымі, вынаходлівымі робяцца нават тыя, хто ні разу не меў у дзённіку пяцёркі і, не саромеючыся, перапісвае з чужога сшытка. Ва ўсім гэтым, пра што Міця няясна яшчэ здагадваецца, ён адчувае сябе бездапаможным. Яму здаецца, што ніколі не наступіць дзень, калі ён стане сваім у бурлівым коле весялосці і бесклапотнасці. Ён не такі. Ён усяго саромеецца, бянтэжыцца,— можа, таму, што ўвесь час думае. Нават тады, калі навакол кіпяць смех, бесклапотнасць — шумлівае, маладое мора...

Пусцілі ў клуб, і пакуль усе рассаджваліся на нізенькіх партах першакласнікаў, расхінулася заслона. Міця сеў ззаду, ля сцяны, разам з новымі сваімі аднакласнікамі Прымаком і Плоткіным. Чарнявы, з хударлявым прыемным тварам, Аляксей Прымак здаецца падлеткам побач з плячыстым, маўклівым Сашам Плоткіным, у якога ногі не ўмяшчаюцца пад партай, і ён трымае іх на праходзе. Аляксей і Саша сябруюць і з таго часу, як Міця перайшоў у дзявяты клас, набіваюцца на дружбу.

Струнны аркестр — паўкругам рассаджаныя на сцэне дзяўчаты і хлопцы з мандалінамі, гітарамі, балалайкамі — зайграў. Мелодыя знаёмая — вальс «Над хвалямі»,— яго заўсёды іграюць на школьных вечарах, і заўсёды ў такія хвіліны Міцю агортвае прыемны смутак. Мелодыя, як і ўсё на гэтым вечары, вядзе ў іншы свет, прывабны і неспазнаны, сама льецца ў душу. Спачатку спакойная, трошкі сумная, яна паступова поўніцца незразумелай трывогай — нібы слёзы ў ёй, крык, настойлівае патрабаванне. Словамі тут не скажаш — мяккія, чароўныя пералівы і гукі як бы закранаюць патаемныя струны душы, і яны адгукаюцца, смуткуючы, радуючыся ў адным, суладным з музыкай, настроі. У напаўцёмнай зале,— дзе ўсё знаёма да дробязей — чучалы птушак у зашклёнай шафе, гербарыі, мінералы,— цішыня. Кепікі і смяшкі даўно сціхлі. Толькі музыка і цішыня...

Міця глядзіць на сцэну. Там, сярод схіленых над інструментамі дзявочых твараў, ёсць адзін, які б ён пазнаў сярод

тысячы. Гэта пачалося даўно, яшчэ летась, і гэта другая, пасля сшытка з вершамі, Міцева тайна. Сам сабе ён даўно прызнаўся, што любіць Сюзану, адну яе, але хлопцы, нават сябры, пра гэта нічога не ведаюць, як і сама Сюзана, і пакуль што не трэба, каб ведалі. Міцю падабаецца самое імя — Сюзана, незвычайнае, такое ён толькі аднойчы сустрэў у кнізе.

Думкі аб адносінах, якія існуюць паміж хлопцамі і дзяўчатамі, часам наплываюць, трывожаць, але Міця іх адганяе.

Сюзана вучыцца ў дзявятым класе, разам з Міцем, і цяпер ён бачыць яе штодня, чуе яе голас, смех. Раней было інакш. Раней, калі ён сядзеў у восьмым, дзяўчына ўяўлялася таямнічай і недасягальнай. Каб убачыць яе, ён прастойваў усе перапынкі ў калідоры, ля акна, назіраючы за ёй; той дзень, калі не ўдавалася хоць на імгненне ўбачыць тоненькую дзевяцікласніцу, здаваўся шэрым і нудным. Ён ведаў пра Сюзану ўсё — як яна ходзіць, смяецца, як папраўляе валасы, як сядзіць, гартаючы кнігу.

Міця ніколі не цікавіўся, адкуль Сюзана, хто яе бацькі,— гэта не мела значэння. Дастаткова было таго, што яна ёсць, ходзіць у школу, што ён можа на яе глядзець, поўнячыся стоенай радасцю. Зрэшты, ён даведаўся, што Сюзана прыехала з другога, больш славутага мястэчка, якое магло лічыцца нават горадам, што яе старэйшы брат — лётчык, а бацька працуе ўрачом у бальніцы. Сюзана такім чынам належала да іншага свету, зусім незнаёмага Міцю, і гэта яшчэ больш аддаляла яе, акружаючы яе жыццё па-за школай таямнічай загадкавасцю.

З чаго пачалося? Пачатку Міця якраз не помніць. Ён, вядома, бачыў Сюзану ў школе, яна ў мястэчку ўжо тры гады — з таго часу, як яно стала цэнтрам раёна, але той момант, калі ён упершыню адчуў яе ўладу над сабой, адносіцца не да школы. Гэта здарылася пасля сёмага класа, у час летніх канікул, калі ён працаваў на чыгунцы, у рамонтнай брыгадзе. Дзень той быў гарачы, спякотны. Міцю паслалі зносіць са станцыйных пуцей шлак. Шлаку было многа — дзясяткі шэрых куч сямтам дыміліся між рэек. У напарнікі Міцю далі маўклівую шыракатварую дзяўчыну, старэйшую за яго. Працавалі яны старанна — зладжана шорхалі жалезнымі шуфлямі, ссыпаючы жужаль у драўляную скрынку, і, не згаварваючыся,

браліся за ручкі насілак. Міця — спераду, дзяўчына — ззаду. Да абеду змарыліся.

Паабедаўшы заснулі ў цяньку, пад штабелем драўляных шчытоў, адно ля другога. Прачнуўся Міця раптоўна, нібы ад нейкага ўнутранага штуршка. Ён падхапіўся, і яго позірк сустрэўся з позіркам Сюзаны, якая ішла паўз штабель. І ўсё. Але ў той дзень і ў наступныя Міцю было страшэнна прыкра, сорамна ад таго, што Сюзана бачыла яго соннага, босага, з парэпанымі чорнымі пятамі... Пазней ён супакоіўся — наўрад ці звярнула яна ўвагу на хлопца, якога не ведала і, можа, толькі мімаходзь сустракала ў школе. Яна, вядома, адразу забылася пра яго. Міця не забыў...

Так увайшло ў Міцева жыццё каханне. Яго можна было б лічыць неразздзеленым, але Міця сам пакуль што не дамагаўся ні знаёмства, ні сустрэч. Яму здавалася, што так, звычайна, не зрабіўшы нічога, што ўзвысіла б яго ва ўласных вачах, ён проста не мае права падысці да Сюзаны. Міця чакае — усё ў будучым. З Сюзанай звязана ўсё самае лепшае, што намеціў ён зрабіць у жыцці. Міцевы летуценні, мары, няхай сабе хісткія, і няпэўныя, сягаюць высока, і яго абранніца займае ў іх не апошняе месца. Ён адчувае сябе як рыцар, які творыць у гонар сваёй дамы. Не мае значэння, што дама аб гэтым не ведае,— узнагарода прыйдзе пазней. Тое, што за адзін год Міця адолеў два класы, параўнаўшыся з Сюзанай, адбылося зноў жа не без яе дапамогі, хоць яна аб гэтым не ведае. Сюзана нябачна прысутнічае ва ўсім, што ён робіць, аб чым думае...

Ужо была першая ўзнагарода. У той дзень, калі Міця прыйшоў у дзявяты клас, ён не раз лавіў на сабе зацікаўлены Сюзанін позірк. Сам ён крадком глядзіць на яе ўвесь час. Міцю здаецца, што Сюзана ведае нешта такое, чаго не ведаюць другія, тыя, што сядзяць з ёю побач, размаўляюць, вучаць разам урокі. Усміхаецца яна загадкава, задуменна, а калі адказвае на пытанне настаўніка, то заўсёды нібы штосьці недагаварвае. Вучыцца Сюзана не лепей, чым многія другія, але і не горш. Ужо тут, у дзявятым класе, Міця хутчэй адчуў, чым зразумеў — Сюзана надзвычай прыгожая. Гэта адкрыццё напоўніла душу ціхай радасцю: яго дзяўчына магла быць толькі такой, як ёсць...

Канцэрт струннага аркестра скончыўся пад дружныя воплескі, і яго ўдзельнікі, несучы інструменты пад пахамі, проста са сцэны шмыганулі ў калідор. Міця сочыць толькі за Сюзанай: сёння яна ў сіняй шаўковай блузцы з адкладным каўнерыкам, у чорнай спадніччы, у туфлях на высокім абцасе. Твар задуменны, нібы нават хмуры — чым яна незадаволена?..

Пасля аркестра — танцы на сцэне, дэкламацыя. Гэта ўжо меней цікава. Раз-пораз Міця акідвае залу позіркам: Сюзаны няма, з калідора яна не вярнулася. Становіцца сумна, як бы нечага не хапае. Міця ведае — пасля таго як скончыцца канцэрт, парты з залы выцягнуць у калідор, і пачнуцца танцы пад баян. Для многіх гэта самае цікавае на вечары. Але Міця на танцах ніколі не астаецца.

Развітаўшыся з Прымаком і Плоткіным, ён, пакуль на сцэне аб'яўляюць наступны нумар, прабіраецца ў калідор. Сюзаны і там няма, мабыць, пайшла дадому. Ад гэтага і маркотна, і прыемна. Прыемна таму, што Сюзана не асталася на танцах і ніхто не запросіць яе на вальс.

Мінуўшы местачковую вуліцу, Міця выйшаў на ваколіцу, у поле. На полі — шэры паўзмрок, цішыня. Зоркі сталі ярчэйшыя, чым увечары, іх больш. Суцэльным срабрыстым поясам цягнецца па небе Млечны Шлях, над самай галавой — знаёмы раскідзісты чарпак Вялікай Мядзведзіцы, справа, ніжэй — кучкаватым, няправільным трохвугольнікам — сіняватае сузор'е Арыёна. Якое вялікае, бясконцае неба! Хто, калі ступіць першы на бераг новай, згубленай у агромністым зорным акіяне, планеты? Што значыць Зямля — маленькая, мізэрная пясчынка — сярод гэтага бязмернага срабрыстага россыпу?..

Чарнеюць кусты, невялікае азярцо вады ў лагчыне — як цьмянае люстэрка. На насыпе чыгункі, перад будкай, раздругі мільгнуў агеньчык ліхтара. Бацька на абходзе. Міця не спяшаецца, ідзе павольна. Уражанні дня, вечара спляліся ў адзін клубок, Міця і цяпер яшчэ жыве імі. Над усім гэтым, не адцягваючы ад разважанняў і думак, звініць музыка школьнага вечара...

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Жыццё каля чыгункі мае свае перавагі: бачыш многае з таго, што дзеецца на свеце. Цягнікі — пасланцы гэтага шырокага свету, як бы пацвярджаюць тое, аб чым пішуць у газетах, і тое яшчэ, што вандруе па зямлі толькі ў чутках.

Дзве сталёвыя каляі, ля якіх стаіць Птахава будка, вядуць з усходу на захад — з Гомеля на Брэст. Па іх нясуцца таксама, на нейкую хвіліну запыняючыся на станцыі, а то і зусім не запыняючыся, імклівыя цягнікі — «Ленінград — Адэса».

Чыгунка спрыяла таму, што Міця рана стаў цікавіцца справамі, якія ідуць у вялікім свеце.

Аднойчы газеты прынеслі вестку, што Чырвоная Армія перайшла мяжу з панскай Польшчай і ўзяла пад сваю ахову народ Заходняй Беларусі і Украіны.

Міцю вестка ўзрушыла. Ён адчуў вялікае ўнутранае задавальненне. Прыемна было адчуваць сябе савецкім — грамадзянінам вялікай неабсяжнай краіны, якая на вачах рабіла гісторыю. Ён нібы адказваў за яе лёс.

Потым нарадзіліся новыя прыбалтыйскія рэспублікі, савецкай стала Бесарабія, якая на школьных картах была заўсёды заштрыхована цёмна-жоўтымі паскамі, як незаконна захопленая тэрыторыя. Міцю пачало асабіста хваляваць усё гэта, усё тое высокае, чым былі запоўнены газеты, аб чым пісалі ў кнігах, гаварылі па радыё, паказвалі ў кіно.

Ён быў усёй душой аддадзены школьнаму, кніжнаму, мысліў высокімі катэгорыямі, не звяртаючы ўвагі, а то і проста адварочваючыся ад усяго звычайнага, будзённага, што ён бачыў на кожным кроку ў тым жыцці, якое яго акаляла.

Міця хадзіў у школу напрасткі, сцяжынкай, пракладзенай проста па калгасным полі. На полі гэтым восенню гніла незасціртаваная салома, яе расцягвалі хто хацеў, сям-там бульба аставалася не выкапанай да марозаў. Але ў газетах пісалі пра Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскве, пра поспехі калгасаў, і ён, бачачы на ўласныя вочы непарадак, не верыў у яго, лічыў дробяззю, не вартай таго, каб

пра гэта думаць. Для яго не існавала сярэдзіны паміж вялікім і малым, з'явы і рэчы ў яго разуменні мелі выразную і толькі адзіную назву.

Калі ішла вайна з белафінамі, Міця на нейкі час разгубіўся. Двое ці трое раненых местачкоўцаў прыехалі са шпіталяў, яны расказвалі пра баі не зусім так, як пісалася ў газетах. Гэта бянтэжыла, злавала. Зрэшты, нашы авалодалі Выбаргам, у клубе паказвалі фільм «Лінія Манергейма», і Міця супакоіўся. Усё стала на сваё месца.

А над светам палыхала ўжо вялікая вайна. Аднойчы настаўніца нямецкай мовы — нізенькая добрая Марыя Іванаўна, прыйшоўшы на ўрок, апусцілася без сіл у крэсла, сашчапіла на лбе маленькія, сухія рукі і, не раскрываючы класнага журнала, паведаміла, што Гітлер напаў на Югаславію. Той урок фактычна сарваўся. Міця не разумеў хвалявання настаўніцы. І вайна, і Югаславія ўяўляліся далёкімі, з Германіяй існаваў дагавор аб ненападзе і нават дружбе, і ўсё, што адбывалася на свеце, не мела, здаецца, ніякага дачынення да ціхага мястэчка і школьных спраў. Наконт Гітлера думка была адзінадушная: ён ніколі не адважыцца напасці на Савецкі Саюз, а калі нападзе, то фашызм будзе знішчаны за лічаныя тыдні.

Пацверджанне Міця бачыў увачавідку: да заходняй граніцы, у напрамку на Брэст днём і ноччу ішлі эшалоны з артылерыяй, танкамі і іншай тэхнікай. Іх было намнога больш, чым тады, калі вызвалялі заходніх беларусаў і ўкраінцаў.

І ўсё-такі Гітлер напаў...

Дзень гэты быў ясны, сонечны, зранку праз пераезд грукалі фурманкі з далёкіх сёл, кіруючыся ў мястэчка, на нядзельны кірмаш; ішлі пешыя, несучы, хто што мае, на продаж. Вестку пра вайну Міця пачуў на станцыі ў дванаццаць гадзін — ён зайшоў у чакальную залу, там на сцяне вісеў рэпрадуктар, звычайна ў такі час заўсёды перадавалі апошнія паведамленні. У пустой зале, чакаючы брэсцкага цягніка, сядзелі ля клумкаў дзве ці тры кабеты, пахаджваў з кута ў кут пажылы лейтэнант у новенькім абмундзіраванні.

Да Міці не адразу дайшоў сэнс урачыстых, важкіх слоў. Зразумеўшы, што пачалася вайна, ён узрадаваўся. Пачына-

лася нешта вялікае, агромністае — яно будзе ісці на яго, Міцевых, вачах, яно — працяг той герaічнай хвалі, якая даўно захліснула яго грудзі. Міця стаяў, слухаў, згараючы ад узбуджэння, ад нясцерпнага жадання — хутчэй пабегчы, расказаць усім, хто яшчэ не ведае, гэтую ўрачыстую навіну. Зала патроху напаўнялася, чыгуначнікі ў запэцканых сініх спяцоўках стаялі маўклівыя, строгія, адна з кабецін, пакінуўшы клумак, хрысцілася, узмахваючы дрыжачай рукой, другая, нізенькая, з маршчыністым худым тварам, відаць, нічога не разумеючы, з недаўменнем пазірала на прысутных. Лейтэнант, не даслухаўшы перадачы да канца, кінуўся з залы, абмацваючы на хаду нагрудныя кішэні.

Перадача скончылася, зайгралі «Інтэрнацыянал», а чыгуначнікі ўсё стаялі, як бы чакаючы працягу, растлумачэння. Якраз падляцеў брэсцкі цягнік, усе кінуліся да выхаду, на перон — цягнік прыйшоў адтуль, дзе ўжо вайна, дзе ўсё перайначылася, перавярнулася. Але з вокнаў запыленых зялёных вагонаў высоўваліся звычайныя, сонныя твары, некалькі пасажыраў у паласатых піжамах выбеглі ў буфет, трымаючы ў руках пустыя бутэлькі. Усе, хто ехаў у цягніку, яшчэ нічога не ведалі...

Міця, пераскочыўшы праз тамбур вагона, нацянькі, сцежкай, пракладзенай па бульбе, кінуўся на Вакзальную вуліцу да Івана Лобіка.

Іван быў дома, нешта жаваў, трымаючы ў руках раскрытую кнігу; выслухаўшы Міцева паведамленне, спахмурнеў.

— Ты што, спалохаўся? — закрычаў Міця, абражаны ў сваіх спадзяваннях.— Нашы ўжо, мабыць, пад Варшавай. Два-тры тыдні, і вайна скончыцца...

— Пачакай.— Іван, заклаўшы ражок старонкі, паклаў кнігу на стол.— Германія моцная. Не так усё проста... Раскажы, дзе фронт? Што перадавалі?..

Пра фронт Міця нічога не ведаў. Ён мог расказаць толькі, што пачалася вайна. Лобік нечакана ўзгарэўся сам, пахмурнасць як рукой зняло. Яны ўдвух выскачылі на вуліцу...

Увесь той дзень прайшоў як у тумане. Бегалі да Нупрэя, але дома не засталі — ён ужо ўсё ведаў і пабег некуды сам. Знайшлі яго на базарнай плошчы, там на слупе рэпра-

дуктар — зноў перадаюць паведамленне аб пачатку вайны. Нупрэй стаіць, слухае — твар зацяты, сур'ёзны — такім яго Міця не бачыў ні разу.

— Пайшлі ў райкам,— сказаў Нупрэй, выслухаўшы паведамленне да апошняга слова.— Там скажуць, што рабіць.

Сябры рушылі ў райкам камсамола. У гэтай установе, якая размяшчаецца ў драўляным будынку ранейшай школы, Міця быў толькі адзін раз, месяцы чатыры назад, калі атрымліваў камсамольскі білет. Базарная плошча апусцела, на вуліцы творыцца незразумелае: плачучы, жанчыны вядуць пад рукі мужчын, захліпаецца гармонік, абняўшыся, надрываючы да знямогі галасы, спяваюць двое п'яных. Над усім гэтым, заглушаючы тлум узбуджанай вуліцы, грыміць рэпрадуктар, устаноўлены ў расчыненым акне, на другім паверсе такога ж каменнага, як і школа, будынка райвыканкама. Перадаюць маршы і бадзёрыя песні.

— Смяротная гадзіна фашызму настала,— урачыста гаворыць Нупрэй, мераючы дашчаны тратуар шырокімі крокамі.— Гэтая вайна будзе вайной тэхнікі. Скончыцца хутка. Тыдзень, два — і ўсё...

Лобік маўчыць, ідучы побач з сябрамі, Міця адчувае, як паступова сплывае ўзрушанасць, выкліканая незвычайнасцю навіны, а яе месца ў душы запаўняе незразумелая трывога. Адкуль яна ідзе — яму самому не ясна.

У невялікім пакойчыку райкама цесна, накурана, крэслаў усім не хапае, і некалькі хлопцаў-курсантаў аўташколы ў сініх камбінезонах сядзяць проста на сталах. Сакратар — той самы, які выдаваў Міцю білет,— зацята круціць ручку тэлефона. Ён у святочным шавіётавым гарнітуры, на лацкане пінжака срэбраны медаль на чырвонай калодачцы — сакратар яшчэ нядаўна быў брыгадзірам трактарнай брыгады,— белая сарочка расхрыстана, русявыя валасы збіліся на потны лоб.

— Гіль! — убачыўшы Нупрэя, крычыць ён.— Школьнікаў — на ахову чыгункі. Ідзі ў райаддзел Асаавіяхіма, да таварыша Аўсяніка. Ён табе ўсё скажа...

Звоніць тэлефон, і сакратар хапаецца за трубку. Пра Нупрэя ён ужо забыў.

Раённы аддзел Асаавіяхіма займае пакой у двухпавярховым каменным будынку райвыканкама. Па калідоры, нягледзячы на выхадны дзень, бегаюць людзі, у кабінетах стракочуць машынкі. У адрозненне ад райкамаўскага тлуму, у кабінеце старшыні раённага савета Асаавіяхіма цішыня, сталы парадак. На сценах — плакаты і наглядныя дапаможнікі па супрацьхімічнай абароне, стралковай і санітарнай справе.

Аўсянік — сярэдніх год мужчына з круглым, прыемным тварам — сядзіць за сталом, нешта піша.

— Наконт аховы чыгункі яшчэ няма ўказанняў,— ветліва гаворыць ён, звяртаючыся да аднаго Гіля.— Створым дружыну са школьнікаў. Наведайцеся праз дзень-два. Ёсць справы важнейшыя: магчымы хімічны напад, а процівагазаў не хапае нават для кіруючых работнікаў.

Як бы ў пацверджанне сваіх слоў Аўсянік кладзе руку на зялёную брызентавую сумку процівагаза, які ляжыць у яго на стале побач з тэлефонам.

Хлопцы выходзяць з райвыканкама на плошчу. Грыміць рэпрадуктар, прасторны ваенкаматаўскі двор у канцы вуліцы запруджаны народам. На душы ў Міці прыкра. Лобік і Гіль таксама ідуць з хмурымі тварамі. Настрой ва ўсіх аднолькавы: у першы, можа, самы адказны дзень вайны для іх не знайшлося ніякай справы. Павандраваўшы па мястэчку, хлопцы разыходзяцца.

## 2

Знешне Птахаў пераезд вайну сустрэў спакойна. Амаль нічога не змянілася ні ў размераным ходзе яго жыцця, ні ў наваколлі. Першы тыдзень ехалі на фурманках, валам валілі пешкі мабілізаваныя з далёкіх вёсак. Але паток іх схлынуў, і зноў наступіў зацішак.

Па рэйках на захад па-ранейшаму нясуцца цягнікі. Іх стала цяпер яшчэ больш, чым у мірны час. Вязуць яны новыя палкі, дывізіі, новую тэхніку. Ноччу цягнікі ідуць без агнёў. За тры вярсты на захад ад Птахавай будкі адкрылі блокпост. У ім дзяжураць сігналісты — прафесія раней нечуваная на маленькай станцыі. Ходзяць чуткі пра шпіёнаў і дыверсантаў,

апранутых у чырвонаармейскую форму: узрываюць нібыта масты, скідаюць пад адхон цягнікі, ракетамі даючы знак сваім самалётам, дзе трэба бамбіць. На Птахавым абходзе за першы тыдзень вайны нічога асаблівага не здарылася. Чыгуначнае палатно і невялікі масток, апрача абходчыка, ахоўваюць ноччу школьнікі,— з іх Асаавіяхім стварыў баявую дружыну. Хлопцы і дзяўчаты парамі вандруюць па палатну ад будкі да самага лесу.

Па твары Птаха цяжка здагадацца, пра што ён думае. Ён крочыць па сваім абходзе з перавешанымі праз плячо гаечным ключом і молатам, абстуквае малатком з доўгай ручкай стыкі рэек, падкручвае гайкі, а калі такая работа канчаецца, папраўляе драўляным грабком броўку. Калі праносіцца міма важкі воінскі эшалон, Сцяпан адыходзіць на тры крокі ад рэек, уздымае над галавой жоўты сцяжок і праводзіць увесь поезд сур’ёзным, зацятым позіркам. Потым зноў бярэцца за грабок ці за гаечны ключ.

У адзін з тых дзён, надвячоркам, ля пераезда спынілася трохтонка Івана Гусоўскага. Яна без прычэпа, з парожнім кузавам. Выгляд шафёра сведчыць, што ён адпраўляецца ў нейкі незвычайны рэйс. На ім новы касцюм, хромавыя боты, курыць папяросу «Казбек».

— На вайну еду, дзядзька Сцяпан.

— Я думаў, на вяселле,— жартуе Птах.— Гэтак выфранціўся...

— Усё сваё забраў з сабой. А каму пакідаць? Маці памерла, жонкі не нажыў. Вярнуся з вайны — спраўлю.

— Беражы сябе, Іван. Едзеш не ў госці.

— Ды як прыйдзецца. А хаты вы, дзядзька, так і не паставілі,— апошнія словы шафёр прамовіў з сумам.

— Не паставіў,— пацвярджае Птах.— Не ўправіўся.

— Ну, то бывайце здаровы. З фронту чыркану як-небудзь.

— Пачакай.— Абходчык бярэ Івана за руку.— Развітаемся як людзі. Па цяперашнім часе яе не дастанеш, але ў мяне ёсць. Прызапасіў. Зойдзем у хату.

Іван не працівіцца і борзда шыбуе ў двор, а Птах ідзе ў грады і, нагнуўшыся, вырывае з зямлі без разбору некалькі каліў зялёнай, лапушыстай цыбулі. З будкі яны выходзяць

гадзіны праз дзве, злёгку пахістваючыся, Іван лезе ў кабіну, уключае матор...

Весткі з фронту нярадасныя, але Міця не губляе бадзёрага духу, і з гэтага можна толькі здзіўляцца. Напарадзе няпэўнасць, але хлопцу прыбавілася рухомасці і нават весялосці. Ён паступіў у рамонтную брыгаду, порстка дыбае ўслед за ваганеткай з чырвоным сцяжком, вялікімі, у палову свайго росту, жалезнымі абцугамі выцягвае з-пад рэек гнілыя шпалы, зацята б'е кіркай, утрамбоўваючы пад шпаламі баласт, каменне, і ўсё гаворыць, гаворыць. Рамонтнікі яго ўважліва слухаюць — пра Міцевы поспехі ў навуках прайшла слава, і ім, сынам звычайнага пуцейца, ганарацца гэтыя простыя, не надта пісьменныя людзі.

Ад гэтых мясцін фронт яшчэ далёка, на Палессі немцы таўкуцца на месцы. Міця найбольш размаўляе з пуцейцамі пра гісторыю, успамінае войны, якія вяла Германія і якія прайграла, хоць іх пачатак і можна было лічыць удалым. Ён такі многа ведае, гэты гарбаносы, кульгавы хлапец, які на вачах пуцейцаў вырас у каменнай будцы, пасучы на адхоне насыпу карову, а летам, усе апошнія гады, разам з імі піхаючы ваганетку. Міця даказвае, што нашы пераможуць. З ім згаджаюцца, ніхто хлопцу не пярэчыць, толькі ў вачах бывалых дзядзькоў свеціцца сум. Тон газетных паведамленняў баявы, узнёслы, але пуцейцы больш вераць чуткам, чым газетам. Штораніцы хто-небудзь з іх прыносіць крыўдную вестку: праязджалі бежанцы з Бабруйска, немцы бамбілі Гомель, і ніводны наш самалёт не падняўся ў паветра, каб даць ім адпор.

Міця нібы камісар у рамонтнай брыгадзе: ён абнадзейвае, падвясельвае пуцейцаў, значна старэйшых за сябе, яны ахвотна слухаюць, але ў іх заўвагах, сумных усмешках, выпадковых уздыхах ёсць нешта такое, ад чаго ён губляецца сам. Яны, здаецца, ведаюць нешта большае, аб чым ён, Міця, нават не здагадваецца, толькі яны, зацятыя дзядзькі, не хочуць пра гэта гаварыць.

Вечарам Міця трапляе ў другі, зусім іншы свет. Пад сасной, насупраць Птахавай будкі, збіраюцца школьнікі. Да сваёй службы па ахове чыгункі, нягледзячы на поўную адсут-

насць зброі, яны першы тыдзень адносіліся, як да вайсковай справы. Але гэты туман хутка развеяўся. Тыя, што скончылі дзясяты клас, ведаюць, што іх вось-вось прызавуць у армію, і зборы пад сасной сталі для іх своеасаблівым развітаннем з роднымі мясцінамі і з дзяўчатамі, з якімі яны вучыліся разам. Дзяўчаты, асабліва тыя, што толькі перайшлі ў дзясяты клас, пад сасну могуць і не прыходзіць: у дружыне яны афіцыйна не лічацца. Але яны прыходзяць. Ёсць нешта такое, што цягне, вабіць іх сюды.

Пра вайну пад сасной гавораць мала. Знешне ўсё застаецца, як і раней, у школе. Па чарзе высмейваюцца хлопцы, выдумляюцца розныя прыгоды, якія нібыта з імі здарыліся. Пад сасной стаіць рогат да самага таго часу, пакуль не з'яўляецца Аўсянік і не разводзіць каравульныя пары па іх участках.

Міцю хлопцы не чапаюць. Яны, мабыць, не забываюць, што ён, пэўным чынам, гаспадар гэтай сасны, будкі, абходу, а гаспадара крыўдзіць не варта.

З Лобікам і Гілем Міця бачыцца цяпер штовечар, але гэтыя сустрэчы ранейшай радасці не прыносяць. Сябры як бы растварыліся сярод тых, хто пойдзе ў армію, у іх цяпер зусім другія інтарэсы, ім не да Міці.

Як і дзяўчаты, Міця не ходзіць па рэйках усю ноч. Недзе пасля першых пеўняў ён развітваецца, ідзе дадому. Яму трэба рана ўставаць, у восем гадзін пуцейская ваганетка ўжо грыміць паўз будку. Дзяўчаты збіраюцца дамоў, гледзячы па акалічнасцях: трохі раней за Міцю ці пазней. Найбольш бывае так, што яны варочаюцца пазней. Яны ідуць заўсёды разам, палявой дарогай, што віецца ўздоўж чыгуначнага палатна, напаўголаса размаўляючы і смеючыся. Міця, лежачы ў хлеўчыку на сене, заўсёды чуе, калі яны ідуць...

Варта чыгункі працягваецца тыдні тры. Ночы стаяць і дажджлівыя, і ясныя, але ясных болей, і толькі яны запамінаюцца. На небе высыпаюць зоркі, апоўначы ўзыходзіць месяц і вісіць над лесам круглым, срабрыстым шарам. Начны, спакойны вецер шасціць у травах і кустах, шэрым, нямым курганом узвышаецца сасна. Ледзь улоўнае шасценне даносіцца і з поля: там ужо адкрасавала азімае жыта і выходзіць у трубку

ярына. Ціха і трывожна. Зрэдку, парушаючы цішыню ночы, праносяцца чорныя, без агнёў, цягнікі.

Найчасцей хлопцы з дзяўчатамі ходзяць па шпалах парамі. Гэта здараецца тады, калі Аўсянік канчае інспекцыю і кіруецца на станцыю. Устаноўлены ім парадак паступова парушаецца, каравульныя пары распадаюцца, замест іх па палатну гуляюць проста парачкі, ледзь чутна між сабой размаўляючы.

Выпадае так, што Міця заўсёды астаецца ў пары з Верай, разважлівай дзяўчынай, якая ўмее, аднак, залівіста, нечакана для ўсіх, засмяяцца, калі чуе дасціпнае слова. Веру Міця помніць ледзь не з першага класа, раслі, вучыліся яны адно ў другога на вачах. Міця ведае яе бацьку, пажылога панурага калгасніка. Ледзь не ў кожным класе — ад першага да дзясятага — вучыліся малодшыя Верыны браты і сёстры.

Яны ходзяць і размаўляюць пра кнігі, пра розныя мясцовыя справы, часам нават пра вайну. Вера глядзіць на Міцю, як на героя, ловіць кожнае яго слова, іншы раз, нібы незнарок, кранаецца пляча, і хлопцу прыемна адчуванне гэтай блізкасці з дзяўчынай. Але думае ён у гэты час не пра Веру, якая ідзе побач, а пра Сюзану, якая таксама ззаду або спераду ад іх ходзіць з кім-небудзь па рэйках.

Вера ўяўляецца звычайнай, простай. Міця, здаецца, ведае пра яе ўсё. Тая ж, другая, нібы прыйшла з другога свету...

Усе вечары і ночы, пакуль працягвалася варта ля сцен яго дома, Міця адчуваў сябе трывожна. Нязнанае, нязведанае раней пачуццё непакоіла яго і хвалявала. Ён ні разу не прайшоўся з Сюзанай, а ёй, відаць, і не патрэбна яго кампанія.

З васьмі пар, якія вандруюць па чыгунцы, хутка выдзелілася адна, якая, прайшоўшы туды і назад чыгуначны кіламетр, адзначаны слупамі, шукае зацішку. Двое — Мікалай Галемба і Сюзана — садзяцца на грудку пад сасной і ўвесь час, ледзь не да самага світання, гавораць. Тым, што праходзяць паўз іх па чыгунцы, відаць толькі белая Сюзаніна блузка.

Блізкасць гэтых двух пачалася нядаўна, у апошнія дні. У школе Міця яе не заўважаў. Галемба — шыракаплечы прыгажун, крыху старэйшы за іх усіх, ён нават некуды пастулаў, потым вярнуўся назад, прапусціўшы год у школе. З-за Галембы Міця жыве цяпер няўрымслівымі, супярэчлівымі пачуццямі,

не могучы ад іх пазбавіцца. Здарылася незвычайнае: Сюзана штовечар прыходзіць к будцы, сядзіць пад сасной, мерае сваімі крокамі тыя самыя шпалы, што ён, Міця. Але яна далёка, яна з кожным вечарам як бы яшчэ больш ад яго аддаляецца, бязлітасна рвучы, топчучы тое прыгожае, што ён звязвае ў думках з яе вобразам. Хвілінамі Міця проста ненавідзіць Сюзану. Але не думаць пра яе не можа. Думае нават тады, калі гаворыць пра вайну, калі ўспамінае гісторыю, тлумачачы пуцейцам падзеі на фронце.

Міця ловіць сябе на адчуваннях, у якіх сорамна прызнацца нават самому сабе. Яму раптам успамінаецца, што маці памыла бялізну і развесіла яе сушыць на шнуры сярод двара. Міцю хочацца, каб яе знялі адтуль да вечара, каб Сюзана не ўбачыла гэтых іхніх сарочак і падштанікаў, не новых, залапленых. Ён саромеецца ў думках, што дзяўчына глядзіць на яго братоў і сясцёр, замурзаных, крыклівых, з чорнымі ад ягад ратамі. Міця гоніць ад сябе гэтыя адчуванні і думкі, але яны варочаюцца зноў.

Даходзіць да смешнага. Нават у прарэзлівым груку разгонкі, калі збіваюць пазы стыкаў, разагнаная лябёдкай рэйка, здаецца, выразна вымаўляе: «Сю-у-у-занна!», «Сю-у-у-занна!», «Сю-у-у-занна!». Гэты цягучы, аднастайны матыў звініць гадзінамі.

Потым набягае хваля беспрычыннай злосці, вобраз Сюзаны мізарнее, бляднее, у грудзях расце помслівае, поўнае зняваі, нянавісці, пачуццё. Гэта находзіць тады, калі Міця ўспамінае белую блузку ў шэрані ночы пад сасной і незразумелыя, доўгія размовы Сюзаны з Галембам.

І ўсё-такі кожнага дня ён ловіць сябе на жаданні пабачыць Сюзану, з нецярпеннем чакае вечара. Дзве сілы абудзілі, узвіхрылі Міцевы пачуцці: вайна і Сюзана. Ён адчувае ў сабе нейкую палымяную моц, якая рвецца з грудзей, просіцца на волю, патрабуючы выйсця ў словах, якія яшчэ не сказаны, і ў справах, што чакаюць здзяйснення... Цяжка ноччу, калі тыя двое ўсё ніяк не могуць нагаварыцца...

## 3

Не было ні вакзала, ні развітальных прамоў, ні музыкі. Без усяго гэтага адыходзілі дзесяцікласнікі ў армію. Мост на Дняпры нашы ўзарвалі самі, і цягнікі не хадзілі. Ваенкамат адпраўляў партыі навабранцаў пеша, па пыльных прасёлкавых дарогах, якія віліся між спалавелымі жытамі.

З раніцы, дачуўшыся, што хлопцаў адпраўляюць, Міця прыйшоў да Нупрэя. Лобік быў ужо там, сядзеў на прыступцы ганка, трымаючы на каленях зрэбную торбачку з харчамі. Нупрэй наладкоўваў паходны рукзак — з добрага зялёнага брызенту, з рамянямі, адзін ён мог дастаць такі. Міцю здзівіла, што з мнагалюднай Нупрэевай сям'і — у яго тры сястры і трое братоў — на двары толькі маці, высокая, з худым, змізарнелым тварам.

— Дзе твае? — спытаў Міця.

— Ат, пайшлі па ягады.— Нупрэй махнуў рукой.— Я спецыяльна не сказаў, што сёння пайду... Развядуць нуду. Як бацька збіраўся, дык плакалі, як бабры. Не хачу слёз...

Ён хадзіў па двары сур'ёзны, задумлівы, робячы выгляд, нібы нічога не здарылася. Пакаваў у рукзак разам з сухарамі і салам кнігі, чыстыя сшыткі, алоўкі — здавалася, ён збіраецца не на вайну, а куды-небудзь у інстытут, на вучобу. Нарэшце зборы скончыліся.

— Давайце перахрышчу вас, хлопчыкі,— выціраючы ражком фартуха вочы, прамовіла Нупрэева маці.— Такая дарога... Хай зберажэ вас Бог ад напасці...

— Не трэба нас хрысціць.— Нупрэй нялоўка крануўся вуснамі матчынай шчакі.— Будзе ўсё добра, мама. Ты толькі не хвалюйся. Ну, пайшлі!..

Хлопцы рушылі з двара на вуліцу. Было яшчэ досыць рана, залітая негарачым сонцам вуліца здавалася бязлюднай. У маўклівым задуменні стаялі разгалістыя вербы, якіх у мястэчку гэтак многа, на лісцях яблынь, вішань, што раслі бліжэй да парканаў, асеў густы, дарожны пыл. Міця, ідучы побач з сябрамі, адчуваў, што трэба нешта сказаць, але слоў не знаходзілася, і ён маўчаў, як і яны. Ірвалася нешта вельмі дарагое, важнае, расстанне гняло Міцю сваім цяжарам, і ён

хацеў цяпер толькі аднаго — каб усё хутчэй скончылася. Ён азірнуўся — Нупрэева маці стаяла ля веснічак, прыклаўшы далонь да лба, глядзела ўслед хлопцам.

Міця дайшоў з сябрамі да базарнай плошчы.

— Ну, бывайце,— падаў ён руку Івану. Затым Нупрэю.

— Бывай,— проста сказаў Іван.

— Мы табе напішам,— прамовіў Нупрэй.— І ты нам пішы.

Ніхто з траіх не памкнуўся абняцца, пацалавацца — хлопцы лічылі гэта непатрэбнымі сантыментамі...

* * *

Наступіў дзень, калі стала ясна, што немцы прыйдуць. На Заходнім фронце яны захапілі ўжо Смаленск, на Паўднёвым — Крывы Рог і Днепрапятроўск. Толькі Прыдняпроўска-Прыпяцкае Палессе ўсё яшчэ заставалася нашым, глыбока, нібы паўвостраў, урэзваючыся ў паласу захопленай ворагам тэрыторыі.

Рамонтная брыгада распалася. Масты паўзрываны, рух спыніўся, таму рамантаваць чыгунку, а тым больш ахоўваць яе, няма ніякага сэнсу.

Мястэчковыя крамы з раніцы яшчэ гандлююць хлебам, але праз гадзіну-дзве зачыняюцца, і ніхто не наракае на крамнікаў. На клубе і бібліятэцы вісяць замкі. Калгаснікі з навакольных сёл прывозяць гародніну, раннюю бульбу, але няма каму яе здаваць. Яны з поўнымі вазамі варочаюцца назад.

Ёсць штосьці трывожна-насцярожанае, штосьці бездапаможнае ў самім вобліку зялёнага мястэчка з яго драўляным тратуарам на галоўнай вуліцы, пасечанай асколкамі бомбаў вежай станцыйнай вадакачкі, міліцыянерам на пераездзе, які ў самую гарачыню стаіць пры поўнай экіпіроўцы: у зімовым шынялі, з процівагазам, з наганам у ссунутай на жывот скуранай кабуры.

Яшчэ ў мястэчка, якое поўнасцю адмабілізавалася, паслаўшы мужчын прызыўнога ўзросту на зборныя пункты, не прыйшло ніводнай «пахароннай», яшчэ яго ахвяры налічваюць толькі аднаго забітага і аднаго параненага — вынік чатырох

бамбардзіровак чыгуначнай станцыі, яшчэ і напалавіну не верацъ тыя пажылыя местачкоўцы, якія бачылі салдат кайзера Вільгельма ў васямнаццатым годзе, паведамленням радыё і газет аб бясчынствах немцаў на захопленай савецкай зямлі, але ўсё адно цень глыбокай трывогі, заклапочанасці лёг на ўсё, што тут робіцца. З чужога, незразумелага Захаду насоўваецца страшнае, насоўваецца як жалезная лавіна, спыніць якую не стае сіл. Мястэчка нібы замерла ў чаканні непазбежнай бяды.

Днём цяжка груженыя нямецкія бамбардзіроўшчыкі, заглушаючы сваім гулам усе астатнія гукі, ляцяць бамбіць гарады. З паўночнага боку раз-пораз даносяцца раскаты гарматнай кананады: там ужо месяц стаяць у абароне тры нашыя бронецягнікі, адбіваючы нямецкія атакі.

Вечарам гукі далёкага бою заціхаюць. Узыходзіць месяц, круглы, срабрысты, ліе таямнічае святло на садкі, поўныя спелых вішань і сліў, на палісаднікі з кустамі адцвіўшай чаромхі, бэзу, на схаваныя ў вішнёвай засені нізкія домікі з цёмнымі вокнамі. Па вуліцах крочаць суровыя патрулі. Старыя, баючыся нямецкіх бомбаў, ідуць начаваць у бліндажы, выкапаныя падалей ад будынкаў, на агародах. Апранаюцца па-зімняму: у ватнікі і паліто. Дзяўчаты збіраюцца на лавачках і, нягледзячы на загады патрулёў разысціся, сядзяць да позняй ночы, ціха, напаўголаса размаўляючы. Пасярод вуліцы, падымаючы горкі пыл і стараючыся звярнуць на сябе ўвагу дзяўчат, дурэюць хлопцы-падшыванцы, якія пачалі ўжо адрошчваць чубы, але не набраліся яшчэ адвагі, каб набівацца ў кавалеры. Дзяўчаты сумуюць: хлопцаў няма, і няма ніякай надзеі, што яны хутка вернуцца.

Міця, ідучы аднойчы вечарам Вакзальнай вуліцай і болей звычайнага прыпадаючы пад позіркамі прыціхлых дзяўчат на непаслухмяную левую нагу, пачуў:

— Хворы ён, нездаляшчы. Таму і ў армію не ўзялі. Тут толькі і засталіся такія — малакасосы ды хворыя. Крывыя, касыя — жаніхі называецца...

— А я б, дзевачкі, яго прыгалубіла. На вайне не заб’юць і да чужых не палезе. Сядзеў бы са мной, мяне любіў. Ён жа прыгожанькі, дзевачкі, такой бяды, што кульгае...

Першая гаварыла злосна, насмешліва, з яўным разлікам на тое, каб абразіць, другая — мякка, як бы з нейкім заклікам у нізкім, грудным голасе. На дзяўчат гэтых — тэлефаністак, буфетчыц, касіршаў — Міця ў другі раз, можа, нават не звярнуў бы ўвагі, але цяпер іх словы закранулі за жывое. Не, ён не пакрыўдзіўся, смешна было крыўдзіцца на балаболак з моднымі прычоскамі, якія толькі і думалі, што пра танцулькі ды кавалераў. Штосьці большае, глыбейшае за звычайную крыўду ўзварухнулася ў яго душы.

Міця ішоў дамоў, на будку, агорнуты невясёлымі думкамі. Ніколі раней так балюча не адчуваў ён сваёй непрыгоднасці, непатрэбнасці, як у гэтыя дні, калі захісталіся ўсе ўяўленні пра жыццё.

Міця адчуваў сябе лішнім, і жыццё траціла сэнс...

У школе ён ніколі не хадзіў на заняткі фізкультуры, не лазіў на турнік, не мераўся з хлопцамі сілай. Але там ён мог узяць другім — вучобай, кнігамі,— усё залежала ад яго самога.

Калі пачалася вайна, Міця спадзяваўся, што знойдзе ў ёй няхай сабе маленькае, непрыкметнае, але сваё месца, абы толькі не стаяць збоку. Інакш ён не мог.

Ён паступіў у брыгаду, і калі б патрабавалася, здолеў бы працаваць суткамі, хоць бы штодня бамбілі чыгунку, хоць бы ўзрывалі рэйкі і масты дыверсанты. Упэўненасць у тым, што ён не лішні, давала сілы.

Месяц назад, калі Іван і Нупрэй адыходзілі ў армію, Міця яшчэ трымаўся. Ён не мог ні перагнаць сяброў, ні нават з імі зраўняцца. Але ён усё яшчэ цешыў сябе думкай, што кожнаму сваё.

Пазней ён даведаўся, што дзяўчаты таксама рабілі спробу вырвацца з мястэчка. Яны прысталі да калгаснікаў, якія гналі на ўсход, у тылавыя раёны, гурты. Пайшла з дзяўчатамі і Сюзана. Цяжка, невыносна сорамна было ўяўляць яе — тоненькую, далікатную, з клумкам за плячамі ў далёкай, цяжкай дарозе. Яна магла падбіцца, захварэць, загінуць пры бамбёжцы. Яна не пабаялася небяспекі і смела пайшла ёй насустрач. А ён, мужчына, спаў на сене, снедаў, абедаў, нішто не пагражала яго жыццю. Потым дзяўчаты вярнуліся. Вырвацца

ім не ўдалося. Гурт пераняли недзе за Чарнігавам вайскоўцы, рэквізаваўшы яго для патрэб фронту.

Міца не адчуў ніякай радасці, калі даведаўся, што Сюзана дома. Усё было ўжо ясна. Брыгады не існавала. З дня на дзень маглі прыйсці немцы. Яны ўсюды шлі наперад — былі пад Ленінградам, пад Кіевам, ірваліся да Масквы...

У гэтыя дні яго пачала наведваць думка аб смерці. Такое находзіла і раней, і Міца не ведаў прычыны. У хляве, над Міцевай пасцеллю, тырчыць ненасаджаная каса, уваткнутая ў сцяну. Усё можна зрабіць проста і хітра, што нават бацькі не здагадаюцца аб самагубстве. Два ці тры разы ў яго ўзнікала вострая патрэба хоць рукой дакрануцца да касы, да яе ляза, адчуць холад жалеза, уявіць жудасць болю, за якім пачынаецца небыццё. Намаганнем волі ён гнаў ад сябе гэтае жаданне, стараючыся ў думках пераключыцца на другое, і, калі паядынак з самім сабой канчаўся, выціраў з твару ліпкі, халодны пот. Здавалася, што там, у глыбіні душы, жыве нейкая другая, цёмная істота, часам вельмі небяспечная, і з ёй прыходзіцца змагацца.

Але нават у самыя чорныя дні адчаю Міца не верыў, што яго жыццё можа скончыцца іменна так. Ён зведаў, ці, праўдзівей кажучы, адчуў і нешта іншае: жаданне смерці можа быць гэткім жа прывабным, як і кожнае іншае жаданне. Ён нібы зазірнуў за таямнічую заслону, якой аддзяляецца жыццё ад небыцця, растворанага ў цёмнай, беспрасветнай бясконцасці. Дух не здрыгануўся, запратэставала жывое, здаровае цела.

Міца ўжо быў пад бамбёжкамі і, здаецца, мог лічыць сябе не вельмі палахлівым. Першы раз ён трапіў пад бомбы, калі яшчэ хадзілі цягнікі і ўсе станцыйныя пуці былі запруджаны эшалонамі. Ніхто з местачкоўцаў, ні нават з чыгуначнікаў, выключаючы хіба бывалых машыністаў, не ведаў тады, што такое бамбёжка. Пра яе перадаваліся жудасныя чуткі, і пры набліжэнні нямецкіх самалётаў людзі разбягаліся хто куды. Але бамбардзіроўшчыкі на першым часе міналі невялікую станцыю, атуленую разложыстымі шатамі старых таполяў. Натужна равучы маторамі — у станцыйных вокнах аж звінелі шыбы,— яны, звяно за звяном, плылі ў бязвоблачным блакіце бамбіць вялікія гарады.

Бомбы ўпалі на станцыю нечакана. З-за лесу, як злодзей, вынырнуў адзінокі самалёт і, ледзь не кранаючы крыламі коміны хат, вершаліны дрэў, стракочучы з кулямёта, кінуў у галаве эшалона, мецячы, мабыць, у паравоз, дзве бомбы. Узвіхрыліся два рудыя, ахутаныя дымам, слупы гравію, самалёт даў яшчэ кулямётную чаргу на развітанне, і ўсё скончылася за лічаныя секунды. Паравоз стаяў цэлы, пыхкаў парай, яго толькі абсыпала пяском. Па-ранейшаму свяціла сонца, бруіўся дымок са шлакавых куч, а ў паветры насіліся ластаўкі...

Ніхто з чыгуначнікаў не паспеў нават адбегчыся ад станцыі. Міцю нечаканы гэты налёт застаў проста на пуцях — метраў за трыццаць ад таго месца, дзе ўпалі бомбы. Ён выразна бачыў чорныя з белымі разводамі крыжы на крылах, на баку самалёта, галаву лётчыка ў чорным шлеме. Міцю абдало выбуховай хваляй, у носе заказытала ад дыму, а ротам ён адчуў непрыемны, саладкаваты смак.

Быў імгненны, як электрычная іскра, спалох, які працяў усю істоту, а хвілінай пазней, калі замяшанне прайшло, узнікла ўнутранае задавальненне, нават радасць ад таго, што ён стаяў блізка ад смерці, што стаяць ён мог яшчэ бліжэй і што ўсё гэта, па сутнасці, вельмі проста і не так ужо страшна.

Перакананне гэтае не пахіснулася ў ім і пасля сапраўднага налёту, калі станцыю бамбіла некалькі самалётаў. Яны прыляцелі летнім надвячоркам, і глухі, з перарывамі, гул іх матораў чыгуначнікі пачулі здалёк. Людзі кінуліся на агароды, далей ад станцыі. Міця адбегся і лёг у кар'еры, дзе местачкоўцы капалі гліну. Побач з ім, цяжка дыхаючы, упаў на дол тоўсты дарожны майстар Адамчук.

Міця бачыў, як ад самалётаў яшчэ на падыходзе да станцыі пачалі аддзяляцца чорныя кропкі, і зразумеў, што гэта бомбы. Бомбы, здаецца, ляцелі на яго, і ён заплюшчыўся. Іх дзікі візгат перакрыў на хвіліну жалезны гул матораў.

Потым пачуліся глухія ўдары — справа, злева, наперадзе. Не ўсе бомбы падалі на станцыю, большасць з іх аднесла на агароды, дзе ў зялёнай бульбе ляжалі чыгуначнікі.

Недзе над лесам бамбардзіроўшчыкі развярнуліся, і пачаўся другі заход, ужо з паўночнага боку. Бомбы кläліся цяпер з большай дакладнасцю,— на станцыю і ўзбоч чыгу-

начнага палатна. Раскалолася, як цацачная, і рухнула каменная лазня, выбуховай хваляй скінула з рэек вагон. У кар'ер бомбы не падалі, і Міця адчуваў сябе ў бяспецы, радуючыся, што знайшоў добрае сховішча. Раптам побач з сабой ён пачуў надрыўныя ўсхліпы. Дарожны майстар, апрануты ў форменны суконны касцюм, поўзаў па гліне на жываце, і яго гэтак калаціла, што было брыдка глядзець. У горле чалавека нешта булькатала, і пры кожным выбуху ён капаў тварам зямлю.

Міцю гэта непрыемна ўразіла: ён ведаў майстра другім. Адамчук здаваўся суровым, непрыступным. З рабочымі размаўляў строга, трымаючыся рукой за блішчасты гузік і пазіраючы некуды ўбок. Апроч усяго, ён быў узнагароджаны медалём: пра гэта пісалі ў чыгуначнай газеце.

Калі налёт скончыўся і ўсе вярнуліся на станцыю, то ўбачылі, што вялікай шкоды бомбы не нарабілі. Апрача разбуранай лазні і скінутага з рэек вагона, у двух ці трох месцах было пашкоджана палатно і вылецелі з вокан усе шыбы!

* * *

На станцыі, на высокім слупе, вісіць рэпрадуктар, вынесены з чакальнай залы. Кожную раніцу Міця ходзіць сюды слухаць паведамленні з фронту. Ён стаіць, прыхінуўшыся плячом да слупа, маўклівы, задуменны, падцяўшы губы і стараючыся не прапусціць ніводнага слова дыктара.

Надзея змяняецца адчаем, адчай — новай надзеяй. Міця ў думках загадвае даты, вызначае рубяжы, на якіх адступленне скончыцца і немцаў пагоняць назад. Яшчэ ў першыя тыдні вайны яму здавалася, што галоўны бой будзе дадзен на Бярэзіне. Але раку немцы фарсіравалі так імкліва, што толькі аднойчы назва яе прамільгнула ў зводцы. Тады Міця перанёс генеральную бітву на Днепр. Гэты рубеж здаваўся надзейным, нібы падараваным самой прыродай вялікаму народу для абароны ад набегу чужынцаў.

На Дняпры немцы сапраўды затрымаліся. Бітва за Смаленск цягнулася месяц. Міця адчуваў прыліў бадзёрасці, надзея расла. На астатніх франтах адступалі, але тут не зрушылі з месца, і аднаго гэтага хапала, каб пайсці дамоў з нязведаным

раней пачуццём удзячнасці да тых, што стаялі насмерць. Але здалі і Смаленск. За Смаленскам самым вялікім горадам была ўжо Масква...

Набліжалася дата Барадзінскага бою. Міцю здавалася, што яна не можа прамінуць проста так, што ў гэты дзень здарыцца незвычайнае. Ён чакаў ад гэтага дня пералому ва ўсёй вайне, бітвы, якая б вырашыла яе зыход.

Але гісторыя не паўтаралася. Яна ішла, развівалася сваімі нязведанымі шляхамі. Назаўтра, гаворачы пра гэты дзень, дыктар паведаміў пра жорсткія баі на зусім іншым напрамку і назваў два здадзеныя намі гарады. Да Барадзіна немцы не дайшлі, але затое яны рваліся наперад на ўсім агромністым фронце. Дні праз два пасля гэтага рэпрадуктар на станцыі змоўк: радыёвузел болей не працаваў.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Ноччу на местачковых вуліцах патрулёў стала больш. Людзі ў цывільным адзенні, з вінтоўкамі за плячамі, не абмінаюць нават глухога завулка, заглядваюць у двары, на агароды. Патрулюе знішчальны батальён.

Іншы раз патрулі нічога не могуць зрабіць, і ў забаронены час, уночы, вуліцы поўняцца галасамі. Гэта бывае тады, калі праз мястэчка гоняць калгасныя статкі або грукацяць трактары, якія кіруюцца на ўсход, у тылавыя раёны. Местачкоўцы выходзяць на вуліцу, стаяць ля веснічак, трывожна перамаўляюцца. Ніякімі загадамі іх не разгоніш. Гэтыя ж, што гоняць машыны і жывёлу, нездарма выбіраюць ноч. Днём над шляхамі і дарогамі вісяць нямецкія самалёты. Усе, хто праходзіць і праязджае праз мястэчка, пароляў не ведаюць. Патрулям прыходзіцца мірыцца...

Высокі шыракаплечы чалавек у насунутай на самыя вочы кепцы, перш чым перайсці вуліцу, ціснецца да паркана, доўга стаіць, азіраючыся навокал. Ён, відаць, таксама не ведае пароля і не хоча, каб яго затрымалі.

Вось яго постаць мільгнула на плошчы, акружанай крамамі, ларкамі, кіёскамі, і знікла ў ценю акацый, на алейцы, што вядзе да схаванага ў глыбіні палісадніка драўлянага будынка. На ганку чалавека перапыняюць.

— Таварыш Іван?

— Я.

— Вас чакаюць.

У вузкім, прадаўгаватым пакоі паўзмрок, на стале, з краю, лямпа, вокны завешаны шчыльнай чорнай паперай. На канапе, тварам да святла, напаўляжыць чарнявы таўставаты мужчына, чытае кнігу. Ён адразу ўскаквае, вітаецца:

— Таварыш Шэлег. Добрай ночы. Не затрымалі патрулі?

— Прайшоў.

— Ну і добра. Прысаджвайцеся.

Шэлег — загадчык раённага камунгаса — крыху збянтэжаны. Побач з ім, на канапе, сакратар абласнога камітэта партыі Ермаловіч, чалавек, якога ён толькі аднойчы, мінулай восенню, бачыў тут, на сходзе партыйнага актыву.

— Якая ў вас сям’я? — пытае сакратар, закурваючы, частуючы Шэлега.

— Жонка, двое дзяцей.

— Дзеці вялікія?

— Не вельмі. Сын перайшоў у другі клас, дачцэ — пяць гадоў.

— Хто па прафесіі жонка?

— Настаўніца.

— Добра жывяце? Ну, так сказаць, у сэнсе ўзаемаразумення.

— Не скарджуся.

— А здароўе як?

— Здаецца, нармальнае.

Голас у Ермаловіча хрыплы, глухаваты, дый выгляд стомлены: пад вачамі мяшкі, лоб у маршчынах. Шэлег здагадваецца, нават ведае, навошта ноччу з усімі гэтымі перасцярогамі яго выклікалі ў райкам, але чакае.

— Вы ўдзельнічалі ў падполлі васямнаццатага года? Раскажыце, гэта мае значэнне.

— Якое там падполле, таварыш сакратар. Стыхійна ўсё. Вядома, крыху шкодзілі немцам. Я працаваў у Барысаве на станцыі. Дрывакладам. Я і родам адтуль.

— Ну, а канкрэтна, як шкодзілі?

— Сыпалі пясок у буксы, псавалі тармазы. Адзін раз развінцілі рэйкі, скінулі цягнік. Пачалі старыя рабочыя, потым моладзь падключылася.

— Вялі якую-небудзь работу?

— Распаўсюджвалі лістоўкі. Нават нямецкіх салдат агітавалі. Была забастоўка. Баставала дэпо, станцыя, за выключэннем служачых.

— Вы ў партыі з дваццаць чацвёртага года? Па ленінскаму прызыву?..

— Так.

— Як думаеце, ваш вопыт можа прыгадзіцца?

— Ён не такі вялікі...

Некалькі хвілін у пакоі пануе цішыня. Вакол лямпы, апісваючы імклівыя петлі, носіцца матыль. Здаецца, ён нябачна прывязаны да лямпы, да аганька. У суседнім пакоі парыпваюць масніцы: нехта ходзіць.

— Ілюзій не можа быць, Іван Пракопавіч. Немцы хутчэй за ўсё прыйдуць. Баі ў Смаленску, наперадзе. Народ застаецца, павінен застацца нехта і з кіраўнікоў. Магу перад вамі адкрыцца: я таксама застаюся...

На душы ў Івана Пракопавіча ледзяны халадок. Першы раз, калі яго выклікаў сакратар райкама (гэта было бадай месяц назад), ён фактычна адмовіўся ад прапановы астацца ў падполлі. Матывіроўка простая: ён член партыі, усе аб гэтым ведаюць. Застацца — значыць адразу трапіць немцам у пашчу. Папрасіўся накіраваць яго, камандзіра запаса, у армію. Але не ўзялі, далі бронь. І ўсё адно ў глыбіні душы жыла надзея, што знойдзецца другі, лепшы, а яго — адхіляць. Прайшоў месяц, ён пачаў верыць, што так і ёсць. Цяпер вось...

— Вы лічыце, што я іменна той чалавек, які патрэбен?

Ермаловіч адказвае не адразу. Бярэ са стала пачак папярос, зноў закурвае. У твар не глядзіць, гаворыць ціха, перайшоўшы на «ты»:

— Не аднаго цябе пакідаем, а пяцярых. Людзі, прыкладна, твайго становішча. Ужо далі згоду. Сэнс ва ўсім гэтым ёсць. Мы не проста партыйных ці савецкіх работнікаў пакідаем, а спецыялістаў. Усё-такі менш падазрэння. Дзеля канспірацыі

людзей аднаго з другім не знаёмім. Намечана даручыць табе кіраўніцтва пяцёркай. Табе мы верым. Вось што я магу сказаць...

Іван Пракопавіч неяк адразу супакойваецца. Калі спавядацца перад самім сабой, то гэты месяц ён думаў не толькі пра тое, што яго адхіляць. Жыло ў душы, часам прарываючыся яркімі ўспышкамі ўспамінаў, вострае пачуццё ўзрушанасці. Ён з вопыту ведаў, што ваяваць у падполлі цяжэй, чым на фронце. На гэта здольны выключныя людзі, з моцнымі нервамі, воляй. І тое, што ўсё-такі спыніліся на ім, узвышала ва ўласных вачах.

— Якія будуць мае абавязкі? — пытаецца Шэлег.

— Падпольшчык не я, а ты, дарагі Іван Пракопавіч,— усміхнуўшыся, адказвае Ермаловіч.— У грамадзянскай вайне і я ўдзельнічаў, але падполля не ведаю. Магу даць самыя агульныя дырэктывы. Абстаноўка на фронце склалася неспрыяльная, бачыш сам. Адступаем. Але павінны верыць, што наступіць пералом. Можа, нават вельмі хутка. Адсюль вынікае і задача: шкодзіць фашыстам і падтрымліваць у нашых людзях веру ў перамогу. Арганізоўваць іх на барацьбу. Тваё становішча тут, у мястэчку, павінна быць легальным. Як і ўсіх, каго пакідаем. Знойдзеш сабе які-небудзь занятак. Ты ж у мінулым слесар, рабочы. Далей падкажа абстаноўка. Адным словам, весці палітычную работу і шкодзіць...

— З кім трымаць сувязь? Ну, хто кіраваць мной будзе?..

Твар Ермаловіча сур’ёзны, нават злосны.

— Не адвыклі яшчэ ад мірных уяўленняў. Вайна ёсць вайна, і трэба адпаведна мысліць. Мірнага жыцця няма, забудзь... Ты ў раёне будзеш партыяй і савецкай уладай. Спадзявайся на аднаго сябе. Ваша пяцёрка — глыбокае падполле. Сувязь трымаць толькі са мной і камандзірам партызанскага атрада Мацвеевым. Ні на якія іншыя галасы не адгукацца. Будзеш мець запас зброі. Дзе склад, будзеш ведаць ты і Мацвееў. Ну, можа, яшчэ хто-небудзь. На выпадак правалу. Паролі, яўкі — удакладнім. Час яшчэ ёсць. Паклапоцімся, каб падмачыць тваю рэпутацыю. Каб табе было лягчэй тут, у немцаў. Штонебудзь прыдумаем...

— Зразумела, таварыш Ермаловіч. А цяпер што рабіць? Пакуль я на звычайнай рабоце?..

— Што хочаш. Можаш нават дапусціць растрату. Мацвееў цябе накрые. Вось і сапсуем табе біяграфію.

Ермаловіч задумваецца, потым працягвае, зноў перайшоўшы на «вы»:

— Хачу выказаць некалькі палітычных меркаванняў. Зрабіце адпаведныя вывады. У вобласці ёсць раёны, якія ўжо месяц, як захоплены. Адтуль прасачваюцца звесткі, хоць і скупыя. Фашысты ўстанавілі ўладу тэрору. Расстрэльваюць, вешаюць. Ні аб якіх, як вы гаварылі, забастоўках або выступленнях пратэсту мірнымі сродкамі не можа быць і гаворкі. Падпольная работа павінна разглядацца намі як глыбока законспіраваная, стоеная. Нікому не давярайце. Калі ў мірных умовах мы мералі сем раз, перш чым адрэзаць, то цяпер трэба будзе мераць па меншай меры сто раз. Не выключана, што ў раёне працуюць нямецкія агенты, не выкрытыя органамі дзяржбяспекі. Таму асноўнае — пільнасць...

За сцяной раўнамерна рыпяць масніцы — у суседнім кабінеце нехта нястомна ходзіць. Дзынкнуў будзільнік. Ермаловіч падняўся:

— Апошняе, Іван Пракопавіч. Разумейце як дзяржаўны сакрэт. Вашага першага сакратара Ваўніцкага тут не пакідаем. Аказаўся недастаткова пільным. У ліку людзей, рэкамендаваных у партызанскі атрад, трое неправераных. У аднаго бацька ўступіў у калгас толькі ў трыццаць дзявятым годзе. Фактычна сын аднаасобніка. У другога сястра замужам за рэпрэсіраваным. Аказаўся палахліўцам ваш Ваўніцкі. Нібы ў яго ў раёне пажар. Усіх камуністаў з вопытам партызанскай барацьбы адправіў у армію. Яны ж тут найбольш патрэбны. Ну, бывай, браток.— Ермаловіч неяк нечакана, рыўком абхапіў Івана Пракопавіча за плечы, крануўся вуснамі шчакі.— Мы ж з табой гадкі. Ты з дзевяцьсотага?

— З дзевяцьсотага.

— Ну, што ж, ваявалі і яшчэ паваюем... Будзь здароў.

— Бывайце.

На двары ўжо світае. У палісадніку, пад запыленымі акацыямі, чорная, з разбітай правай фарай, «эмка», тут жа, каля

машыны, на разасланым брызенце двое спяць, укрыўшы галовы плашчамі. Трэці стаіць на ганку, стомлена ўсміхаецца. З акна маўкліва глядзіць на Шэлега Ваўніцкі. Твар у яго змізарнелы, шэры, як зямля. Мільгае думка: гэта ён праз усю ноч бяссонна крочыў па пакоі...

## 2

З раніцы Шэлег ходзіць на службу. Камунальны аддзел не ў будынку райвыканкама, а наводшыбе мястэчка, у доміку з зялёнымі аканіцамі, які некалі належаў нэпману — мылавару. Акрамя камунгаса ў ім яшчэ аддзел дарожнага будаўніцтва — установа, якую ў раёне крытыкуюць на ўсіх сходах і нарадах.

У камунгасе на працу з'яўляюцца двое: сам Шэлег і рахункавод Франя Бейзік, жонка эмтээсаўскага механіка. Франя доўга не затрымліваецца. Забяжыць, павернецца ля свайго стала, усміхнецца загадчыку:

— Ну, я пайшла.

Ён маўкліва ківае галавой. Рабіць у камунгасе нечага. Усялякае будаўніцтва, рамонт спынены. Банк даўно эвакуіраваўся, грошай нікому не плацяць. Зарплата работнікам выдадзена за два месяцы наперад.

Сёння Франя прыбегла ўзбуджаная.

— Мяне бяруць на акопы,— сказала яна і паклала на стол перад Шэлегам паперку.

Ён узняў на маладую жанчыну сумныя вочы:

— Ну і што?.. Рабіць вам усё адно няма чаго.

— Як вы не разумееце. Нас на акопах могуць захапіць немцы. Яны блізка... Тады што? — яна заплакала.

— Усіх захопяць.— Шэлег гатовы ўзарвацца, сказаць гэтай ляльцы што-небудзь колкае, абразлівае, але стрымліваецца.

— Нічым не магу вам дапамагчы. Хто мяне паслухае?..

Франя акінула загадчыка зняважлівым позіркам, узяла са стала паперку, таропка выйшла.

Дзверы дарожнага аддзела на калідоры насупраць. У ім таксама пуста — работнікі разбрыліся хто куды. З усіх іх на месца службы прыходзіць толькі дарожны майстар Іван Буян, тоўсты маладжавы стары, якому засталося ўсяго тры гады да

пенсіі. Жыве Буян у суседняй вёсцы Кавенькі, мае хату, жонку, але нейкі неспакой штодня гоніць яго ў мястэчка.

Пачуўшы галасы, Буян заходзіць да Шэлега.

— Ну, як справы, таварыш загадчык?

— Ды ўсё гэтак жа, Іван Пятровіч. Адступленне на ўсіх франтах. Хутка госці завітаюць і сюды. Не мінуць...

— А як жа ты?

— А што я? У мяне — белы білет.

— Аднак жа ты парцейны.

— А куды я падамся? — голас Шэлега ўзрушаны, злосны.— Двое дзяцей, хворая жонка. Ды не такі я малады, каб скакаць, як заяц. Ну што мне немцы зробяць? Брэшуць пра іх. Не можа быць, каб не разбіраліся. Я спецыяліст, будаўнік.

Буян апускае вочы, з хвіліну маўчыць.

— Яно-то так, але ж... Кожны чалавек думае, як лепей. А тым часам...

На агародзе, за зялёным домікам, цагляны склеп — досыць прасторнае памяшканне, ключы ад якога ў кішэні Шэлега. Там — папяровыя мяшкі з цэментам, скрынкі цвікоў, рыдлёўкі, сякеры, банкі з пакостам, фарбай. У кутку стаіць аплеценая лазовымі пруткамі бутля са спіртам-дэнатуратам.

— Выпіць не зашкодзіла б,— прапануе Шэлег.— Настрой — лепш не пытай. Хочаш, налью бутэлечку?

Буян спалохана аглядваецца, але згаджаецца. Выпіць ён любіць. Пітво з дэнатурату не надта важнае, аднак жа гэта спірт. Тым болей што дарожны майстар ведае, як яго ачышчаць. Варта толькі прапусціць дэнатурат праз каробку звычайнага процівагаза — пі, нічога не бойся.

Моўчкі ідуць у склеп. Іван Пракопавіч ведае, чаму Буян нерашучы. Ад вока дарожнага майстра, відаць, не схавалася, што са склада ўсё знікае і што казённае дабро разбазарвае сам загадчык. І хоць сам майстар прымае ў гэтым пэўны ўдзел, лічыць за лепшае трымацца збоку. Засунуўшы ў кішэню бутэльку са спіртам, Буян адразу знікае.

Толькі выйшаў дарожны майстар, як у дзвярах паявіўся шыракаплечы, чырванатвары прамкамбінатаўскі млынар Забела.

— Дзень добры, таварыш загадчык. Я наконт цвічкоў.

Шэлег моўчкі паказвае на скрынку з цвікамі.

— Можна ўсю браць?

— Бяры.

Млынар кідае скрынку ў вялікі крапіўны мех, але тут, на складзе, апетыт яго разгараецца. Столькі тут усяго!

— Калі можна, дарагі, то я яшчэ пару баначак фарбы прыхвачу. Аканіцы зусім аблезлі. Пранясу — ні адзін чорт не ўбачыць. Хто цяпер будзе яго лічыць — гэтае тваё дабро?..

— Бяры.— Шэлег наўмысна адварочваецца.

Рукі ў Забелы трасуцца, зладзеявата азірнуўшыся, ці не бачыць загадчык, ён грузіць у мех, акрамя фарбы, банку пакосту, сякеру, заступ. Ледзь падымае на плечы цяжкі мех.

— Я табе дарагі, пару пудзікаў мукі падкіну.

— Нясі. Палічымся.

Іван Пракопавіч усміхаецца: падпольная работа фактычна пачалася. Слых па мястэчку папоўз, і кліентаў хоць адбаўляй. Ляцяць як восы на мёд. Ёсць прагныя, з заграбушчымі рукамі, як гэты Забела, ёсць больш памяркоўныя, якія бяруць па патрэбе, з аглядкай. Як ні дзіўна, але ён, Шэлег, не вельмі жорстка судзіць гэтых людзей. Ён не можа сказаць, што ўсе яны чакаюць немцаў. Не, не можа...

Ён, Шэлег,— раёншчык, нізавы работнік, доўгія гады працуе з людзьмі, якіх не назавеш анёламі. Нават падзёншчыкі, калымшчыкі — не адпетыя. Калі трэба, дзень і ноч не злезуць з рыштавання, заткнуць прарыў, працэнт дадуць. Гаспадарніку заўсёды прыходзіцца ісці на кампрамісы. Аднаму дай тое, другому — гэтае. Хто, калі добра забяспечваў раён? Добры той раёншчык, які з-пад зямлі дастане. І начальства, калі трэба, закрые вочы на ўсё...

Замкнуўшы склад, Іван Пракопавіч рушыў у кантору. Ён чакае тэлефоннага званка. Званок — канспіратыўны, сакрэтны — мусіць быць а палове дванаццатай. Калі не будзе, значыць, штосьці ў Мацвеева сарвалася.

Старамодны, з нікеляванымі званкамі на версе жоўтай лакіраванай скрынкі, тэлефон звоніць у дамоўлены час. У трубцы злосны голас Мацвеева, пакуль яшчэ начальніка міліцыі.

— Мне загадчыка камунгаса... Гэта ты, Шэлег? Слухай, што гэта за свінства? У мяне печ дыміць, яечню не сашкварыш. А да вас не дазваніцца. Прыйдзі, адарвіся ад папер, сам пераканаешся...

Шэлег кладзе трубку. Сам сабе сумна ўсміхаецца. Немцы яшчэ далёка, вакол свае людзі, а ўжо слова не скажы без канспірацыі.

## 3

За балоцістай ваколіцай, вярсты за чатыры ад мястэчка, пачынаюцца Няхамаўскія лясы. Цягнуцца яны далёка, аж да вёскі Няхамава Слабада, і нават далей, у межы суседняга раёна. Піла і сякера мала кранулі кварталы граба, вынёслага дубняку, пераспелай альхі, бо добрай дарогі няма, адзін зімнік. На ўскраіне лесу — вялізныя будыніна, стража, пабудаваная яшчэ ў царскія часы. Тут павінен жыць ляснічы, леснікі, але ніхто не жыве, даўно пераехалі з глухамані ў мястэчка.

Жнівеньскай ноччу, калі ўжо злёгку пачало бялець на ўсходзе неба, ля стражы спынілася паўтаратонка. З кабіны вылезлі двое — Мацвееў, каржакаваты, у скураной тужурцы, і Шэлег. Падышлі пад самы паркан, прыслухаліся. На штакецінах развешана бялізна — дзіцячыя сарочкі, майкі, трусікі. Многа — нібы тут спыніўся дзіцячы сад.

— Чорт ведае што! — злосна вылаяўся Мацвееў.— Званіў жа ў лясгас, пацікавіўся ненарокам: ці жыве хто тут. Кажуць, не. Пустая...

— Ад бамбёжкі хаваюцца,— выказаў здагадку Шэлег.— А можа, бежанцы.

— Куды паедзем?

— Давай на Цімохаву прыстань.

Паўтаратонка падскоквае на карчах, выбоінах. За баранкай Мацвееў. Відаць па ўсім, што вадзіць машыну яму прыходзіцца не часта. Сяк-так выбраліся на шлях. Летнія зоркі блякнуць. Праз якую гадзіну світанне. Зноў звярнулі на вузкую лясную дарогу. Машына проста прадзіраецца праз навісь ляшчыны. Барабаніць па кабіне голле — нібы над вухам нехта страляе.

Цімохава прыстань — глухая, зарослая густым чарналессем, бель. Вярсты за чатыры адсюль — асушанае балота, тарфяныя палі, кар'еры. Пасёлак торфазавода далей, пад мястэчка. Праехалі прасекай, выбралі сухі пясчаны грудок. Каля яго добрая мета — разгалістая, з расколатым верхам, бяроза. Схапіўшы рыдлёўкі, пачалі борзда капаць яму. Пакуль усё скончылі — заслалі дно ямы саломай, апусцілі, накрыўшы брызентам, дзве доўгія, падобныя на труны, скрынкі з вінтоўкамі, цынкі патронаў,— ужо зусім развіднела. На бярозе, з цікаўнасцюназіраючы за людзьмі, затрашчала сарока. З бярозы пераскочыла на асіну, з асіны — на альху. Неадступна лятала вакол, трашчала ўвесь той час, пакуль засыпалі яму, утоптвалі, разносілі лішак жвіру па лесе, закідвалі зрушаную зямлю мохам.

— Трэба загадаць, каб маўчала,— паказваючы пальцам на сароку, прамовіў Шэлег.— Лішні сведка.

З непрывычкі да цяжкай фізічнай працы ён задыхаўся, выціраў рукавом сарочкі пот з твару.

— Лішніх сведак не будзе. Месца ведаем ты ды я. Мы з табой, адным словам. Загадана паказаць яшчэ Аўсяніку, асаавіяхімаўцу. Ваенны чалавек!..

Мацвееў мог ехаць, але не спяшаўся. Прыляглі на роснай траве, закурылі. Дзень пачынаўся ясны, сонца кранула ўжо вяршаліны бяроз і асін, але тут, унізе, яшчэ панаваў вільготны духмяны цень.

— А на цябе пісуля ёсць,— сказаў Мацвееў, усміхнуўшыся.— Чакаеш немцаў, разбазарваеш народнае дабро.

— Дурная логіка. Каб чакаў, то, наадварот, стараўся б хаваць. Ім бы ў рукі цэленькае аддаў. Хто пісаў?..

— А навошта табе ведаць? Адзін наш, са знішчальнага батальёна. Добрую думку падаў. Ёсць магчымасць цябе пакалашмаціць. Ты прыхавайся, прыйдзем нібыта арыштоўваць, вобыск зробім. Дыму, адным словам, хопіць...

— Калі хавацца?

— Ну, хоць бы заўтра. Далёка не ўцякай. Папрасіся ў якінебудзь суседскі хлеў. Галоўнае, каб былі сведкі. Начуй дома. На работу болей не хадзі.

Прыўзняўшыся на локці, Мацвееў сашморгвае няспелыя, белаватыя брусніцы, кідае ў рот. Загарэлы твар яго з ледзь касаватымі чорнымі вачамі не выражае нічога, акрамя хмурай засяроджанасці. Шэлег амаль не ведае гэтага чалавека, хоць працуюць яны разам больш двух год. У дзейнасць камунгаса міліцыя ні разу не ўмешвалася. Мацвееў ваюе з самагоншчыкамі, выдае пашпарты, адбірае правы ў шафёраў, калі яны ў чым-небудзь правінавацяцца. Былі дзве ці тры справы, якія нашумелі на ўвесь раён — наконт махінацый у гандлёвай сетцы, але Шэлег не можа з упэўненасцю сказаць, хто іх раскрыў — пракуратура, міліцыя ці звычайная рэвізія.

Сарока, угаманіўшыся, знікла. Недзе збоку, у небе, нудна звініць нямецкая «рама».

— Ведаеш, не хачу я тут заставацца,— раптам пачынае Мацвееў,— разумею, што трэба, але не хачу. Не для мяне такая работка. Хавайся, таіся, замятай сляды, як злодзей. Чаму я на сваёй зямлі павінен хавацца? Я разумею вайну так: бачыш ворага — страляй. Ты яго заб'еш ці ён цябе. Гэта і ёсць вайна. Сапраўдная. Лёс яе не тут, у гэтым лесе, будзе рашацца, а там, дзе сутыкнуцца арміі, тэхніка. І вайна гэтая, думаецца мне, не будзе доўгай. Ну, яшчэ два-тры месяцы. Да Новага года скончыцца. Фронт расцягнуўся на тысячы кіламетраў. Што ты, акопаў накапаеш, як у імперыялістычную? Дудкі, брат. Цяпер усё залежыць ад манеўру, ад масы войск, тэхнікі. А нас тут астаўляюць для камарынай работы. Нібыта камарынымі ўкусамі дапаможаш...

Шэлег слухае, маўчыць. Нешта яму не падабаецца ў тым, што гаворыць Мацвееў, у самім яго тоне. «З такім настроем нельга заставацца»,— узнікае думка, але ён зараз жа яе адганяе. Падсвядома ён даўно адчувае, што нельга сур'ёзна прымаць словы, сказаныя ў хвіліну раздражэння, узрушэння. Наогул, усё, што гавораць людзі, яшчэ не можа быць меркай іх саміх, іх учынкаў, нават калі яны спакойныя, задаволеныя жыццём. Мацвееў жа сёння не ў гуморы.

— Сам я з Кулунды,— гаворыць далей Мацвееў.— У нас — стэпы, шырыня. Выйдзеш, і ўсё відаць як на далоні. За сто вёрст відаць. Можа, таму і лесу не люблю. Не магу прывыкнуць. Неба ў вас нейкае нізкае, дажджы, слата. У нас

лета дык лета — задыхнешся ад гарачыні. А зімой без кажуха, валёнак, не абмазаўшы твар шмальцам, і носа не вытыркай. Птушкі на ляту замярзаюць. А калі буран падымецца — трымайся. Слупы выварачвае, дамы раскідае. Нейкі начальнік, гэта ў калектывізацыю было, прымчаў у сяло да нас на легкавіку. Машыну на вуліцы пакінуў, а сам хутчэй у цяпло. Назаўтра машыну ў стэпе знайшлі, вёрст за дзесяць. Ветрам загнала...

— Ты дарэмна гэта,— пярэчыць Шэлег.— Клімат тут харошы. Заўваж, у вас калі засуха, то высмаліць дазвання ўсё. Кладзі зубы на паліцу. А тут ніколі не бывае, каб недарод кругом. На нізкім вымачыць, дык вырасце на сухім. Прападзе жыта, затое ўродзяць ячмень, бульба. І ваяваць у лесе лепш. Абарону трымаць. Вось таўкуцца немцы хутка два месяцы на месцы. І тэхніка не памагае.

— Кожны кулік сваё балота хваліць.

— Ты проста, Мацвееў, не з той нагі ўстаў. Ваяваць тут можна. Я з грамадзянскай ведаю. Давалі прыкурыць немцам, белапалякам...

Мацвееў лёг на бок, панура глядзіць перад сабою.

— Ад жонкі ніводнага ліста,— нарэшце гаворыць ён.— Больш месяца, як выехала. Ясна, эшалон разбамбілі. Дзе была мая галава — адну, з малымі дзецьмі адпраўляць. Цяпер начамі не сплю... Не магу заплюшчыць вачэй...

— Пошта вінавата. Ты не вешай носа. Калі б што якое, паведамілі б. Наогул, твая жонка думае, што мы даўно пад немцамі. Смаленск у іх, баі пад Гомелем, Чарнігавам. Куды яна будзе пісаць?

— Можа, твая праўда. Але мне, брат, ад гэтага не лягчэй. Што зробіш... Вайна ёсць вайна. Нюні распускаць нечага. Дык чакай, патрусім цябе. Бывай...

Ён ускоквае ў кабіну, запускае матор і, асцярожна вырульваючы, едзе па прасецы.

## 4

У небе — адны нямецкія самалёты. Яны ляцяць з захаду на ўсход, з поўначы на поўдзень, ляцяць звеннямі ў сінім бязвоблачным блакіце і ў адзіночку — над дарогамі, шляхамі,

над самым лесам. Аднекуль здалёку даносяцца частыя глухія раскаты. Немцы бамбяць пераправы на Дняпры.

Толькі аднойчы гулка праляскатаў фанерны паштовы самалёцік з зоркамі на крылах. Адчуваючы сваю бездапаможнасць, ён ціснуўся да зямлі, ляцеў гэтак нізка, што відаць была галава лётчыка ў чорным скураным шлеме. Але і фанерны самалёцік заўважылі. Зверху на яго накінуліся два вяртлявыя нямецкія знішчальнікі. Дробна затрашчалі кулямётныя чэргі, і самалёцік упаў на лес. Якое ж было здзіўленне ўсіх, хто назіраў за гэтай няроўнай баталіяй, калі хвілін праз дзесяць, дачакаўшыся, пакуль знішчальнікі знікнуць з гарызонта, фанерны самалёцік падняўся аднекуль з лазы і зноў гулка залапатаў маторам, ціснучыся, як і раней, да зямлі.

Міця другі дзень на акопах. Акопы капаюць на схіле вялікага пясчанага ўзгорка, зарослага рэдкімі нізкімі сасонкамі, маладымі бярозкамі. Справа за ўзгоркам — чыгунка, пясчаны шлях, што пралеглі амаль побач, злева — смалісты сасновы бор. Унізе, у лагчыне, вёска, якая называецца Вербічы. Вёска не малая і не вялікая — хат са сто. Цяпер яна амаль бязлюдная. Сям-там па прызбах сядзяць старыя дзяды і бабулі. Астатнія жыхары — з каровамі, авечкамі, свіннямі, небагатым сваім скарбам — у лесе.

Чырвонаармейцы загадалі жыхарам выбрацца. Вайсковых нямнога, чалавек дзесяць, усе, за выключэннем лейтэнанта, у зашмальцаваных, з белымі ад солі плямамі гімнасцёрках, у разлезлых чаравіках, растаптаных ботах. Чырвонаармейцы паводзяць сябе дзіўна. Амаль кожны двор мае агарод, ёсць сады, усюды поўна гуркоў, памідораў, яблык, якія амаль даспелі, але яны ўсяго гэтага нібы не заўважаюць, ядуць сухі, счарствелы хлеб з кансервамі, вараць у кацялках пшонную кашу.

Затое местачкоўцы не саромеюцца, ірвуць яблыкі, выбіраюць на чужых градках гуркі, памідоры. Іх на акопах болей за сотню, пераважна маладых хлапцоў, дзяўчат, якія хадзілі ў школу альбо дзе-небудзь працавалі, ёсць і маладыя кабеты, мужы якіх недзе ў арміі, а дзяцей яшчэ няма. Тых, у каго на руках малыя дзеці, на акопы не бралі.

Тон задаюць гэтыя замужнія. Увесь узгорак бялее, сінее, чырванее, жаўцее ад хусцінак, завязаных пад самыя вочы, ад

іх блузак, кофтачак, сукенак. Хлопцаў удвая менш за дзяўчат, і апрануты яны больш аднастайна, ва ўсё шэрае.

З купкі дзяўчат, дзе працуе хоць адна замужняя, даносяцца задзірыстыя выгукі, смех. Дзяўчаты капаюць на адной палавіне ўзгорка, хлопцы — на другой, але маладыя кабеты не прапускаюць ніводнага выпадку, каб як-небудзь не закрануць чырвонаармейцаў або хлопцаў. Асабліва задзіраецца Франя Бейзік, чарнявая, шустрая, з залатым пярэднім зубам. Франі можна даць не больш як дваццаць гадоў, але ўсе ведаюць, што яна даўно замужам за эмтээсаўскім механікам. Механіка мабілізавалі, і Франя адчувае сябе вольна.

— Мужчыны, давай перакур! — крычыць яна, кінуўшы некалькі лапат жвіру.— Днём эксплуатацыя жанчын не дазволена!

Жанкі, пабраўшы рукі ў бокі, рагочуць, дзяўчаты чырванеюць, апускаючы вочы. Стомлена ўсміхаюцца чырвонаармейцы, з цікавасцю прыслухоўваюцца да выгукаў Франі хлопцы. Толькі лейтэнант, прозвішча яго Якубоўскі, стараецца захоўваць сур'ёзнасць на маладым прыгожым твары. Лейтэнант нібы не чуе кепікаў Франі, хоць адрасаваны яны ў першую чаргу яму. Ён ідзе ад акопа да акопа, правярае іх глыбіню, вышыню бруствераў, паказвае, як маскаваць насыпы травой.

— Лейтэнант! — крычыць Франя.— Ідзіце да нас. Мы сенам акопчык засцелем. Не вайна будзе, а маліна.

Якубоўскі хмурыцца, але пільнае вока можа прыкмеціць, што і ў яго ля куточкаў губ тоіцца ўсмешка. Лейтэнант стройны, падабраны. Ён акуратна голіцца, штораніцы прышывае падкаўнерык, глянцуе да бляску залапленыя хромавыя боты.

У поўдзень, калі пачынае прыпякаць сонца, Франя скідае з сябе белую ў крапінку кофтачку, спадніцу, скідае ўсё сподняе і застаецца ў адных трусах і бюстгальтары. Босая, ідзе купацца ў сажалку за агароды. Ісці можна нацянькі, але яна наўмысна дае крук, каб прадэфіліраваць перад чырвонаармейцамі і хлопцамі. Яна прыгожая, Франя, і сама гэта ведае.

Міця раз-пораз азіраецца. Там, у купцы дзяўчат, Сюзана. Яна, як і ўсе, павязвае на самыя вочы хусцінку, выкідае рыдлёўкай жоўты пясок, слухае бессаромныя выгукі Франі.

Здалёк, у гурце дзяўчат, яе не пазнаеш, але Міцю здаецца, што ён яе бачыць, і ва ўсім, што ён робіць, думае, прысутнічае Сюзана. Цяпер ён хацеў бы сустрэцца з ёю адзін на адзін. Ён не ведае, што скажа дзяўчыне пры гэтай сустрэчы, якія знойдзе словы. Спатканне на адзіноце, у сасновым бары або на беразе зарослай хмызняком сажалкі, уяўляецца тым зваблівым, доўгачаканым момантам, які развяжа ўсе супярэчнасці. Бываюць гадзіны, цалкам запоўненыя думкамі аб Сюзане, калі здаецца, што апрача яе нічога другога на свеце няма. Міця нібы бачыць, як, спаткаўшыся з Сюзанай, яны бяруцца за рукі, зялёнай лясной прасекай ідуць усё далей і далей у глыб лесу. Сюзана ні аб чым не пытае, разумеючы ўсё без слоў. Куды яны ідуць?.. Пра гэта Міця не думае. Гэта не мае значэння. Іх на свеце толькі двое, і ім няма ніякай справы да таго, што дзеецца вакол...

Дзіўныя, фантастычныя відовішчы нараджаюцца, знікаюць, усплываюць зноў. Яны падобныя на лёгкія белыя хмаркі, што нячутна плывуць па сінім жнівеньскім небе. Хваля летуценнасці захліствае хлопца ўсяго, губляецца адчуванне рэальнасці часу. У такія хвіліны Міця шчаслівы. Не існуе ні акопаў, ні вайны, ні немцаў, якія хутка прыйдуць. Ёсць толькі Сюзана, лес, высокае неба. Яны з Сюзанай нібы першыя людзі. У іх няма ні гісторыі, ні будучыні. І нічога ім не трэба...

Потым Міця вяртаецца да явы. Доўга вандраваць у выдуманым свеце нельга. Побач перамаўляюцца хлопцы, звініць, наткнуўшыся на камень, заступ. Нясцерпна пячэ сонца. Пачынаюць балець рукі, плечы. Ные спіна. На далонях пякуць мазалі. Залівае вочы пот.

У абедзенны перапынак Міця хоча толькі аднаго — есці. Зачарсцвелы кавалак хлеба з агурком здаюцца незвычайна смачнымі. Перакусіўшы, хлопец кладзецца на спаленую сонцам сухую траву пад куст і як правальваецца ў прорву. Дзённы сон пакутлівы. Ён як трызненне. Пачварныя відовішчы змяняюцца адно другім. Міця бачыць то бамбёжку, то немцаў з рагатымі каскамі на галовах. Яны скачуць з самалётаў проста ў акопы, потым раскладваюць вялізныя вогнішчы, гоняць местачкоўцаў на агонь. Каля агню кружыць напаўголая Франя, залівіста смяецца...

Міця прачынаецца. Ён ляжыць на самым санцапёку: цень перамясціўся. Хлопцы спяць, акрыўшы твары сарочкамі. Па сцежцы ідуць дзяўчаты, штосьці крычыць, размахваючы рукамі, Франя.

Узяцца за заступ пасля кароткага пасляабедзеннага сну цяжэй, чым з раніцы. Паветра нібы расплавілася ад гарачыні, цела разбітае, зморанае. Можна, як Франя, пайсці ў сажалку, нырнуць у зялёную, пакрытую раскай, ваду. Але абедзенны перапынак толькі на гадзіну, а яна кончылася. Лейтэнант хмурыцца: многія не выконваюць нормы.

Вечарам, калі сонца хіліцца за лес, сілы вяртаюцца. Працаваць лёгка, прыемна. Міця як бы зусім не адчувае заступа. Знаёмая, зведаная стыхія летуценнасці захоплівае яго зноў, рэальнасць знікае, ён бачыць сябе ў розных незвычайных становішчах. Мроіцца бамбёжка. Самалёты з нямецкімі крыжамі кідаюць на акопы бомбы, усе разбягаюцца, а ён, Міця, астаецца ў акопе. Ён зусім не звяртае ўвагі на свіст і выбухі бомб. Нарэшце адна падае ля самага бруствера, Міцю абдае гарачай выбуховай хваляй, засыпае пяском. Але ён не забіты, ён толькі паранены. Збягаюцца чырвонаармейцы, хлопцы, дзяўчаты. У іх вачах нямое здзіўленне. Ніхто раней не здагадваўся, што Міця такі смелы. Над ім схіляецца Сюзана. На яе твары роспач, але ён яе супакойвае. Ён трымаецца, робіць выгляд, што яму зусім не баліць, Сюзана перабінтоўвае яму галаву, плячо, грудзі...

Вечарам вёска поўніцца патаемнымі шорахамі і зыкамі. З лесу прыходзяць кабеты. Напаўголаса размаўляючы, яны выбіраюць у градах гуркі, капаюць бульбу і ціха, як цені, знікаюць. Вайна блізка. Выбухаў не чуваць, але на захадзе раз-пораз паласуюць неба кароткія бліскаўкі. Дзяўчаты, нават Франя, ноччу не падаюць голасу. З надыходам цемені яны адразу цішэюць. Міця начуе ў вялікім прасторным гумне, на леташнім утоптаным сене разам з Міколам Цябутам, Аляксеем Прымаком і Сашам Плоткіным. Міколу Цябута ў армію не ўзялі, хоць ён на год старэй за Нупрэя Гіля і Івана Лобіка. Прычына простая: ён не скончыў дзесяцігодкі. Мікола пацішэў, рагоча мала, з Міцем гаворыць амаль толькі пра вайну.

Прымак і Плоткін, як і ў школе, трымаюцца разам, нават ежа ў іх агульная.

У гумне іншы раз начуюць яшчэ двое — Базыль Вілюга і Шура Гарнак. Вілюга вучыўся ў дзявятым, хадзіў да Івана Лобіка. Так што Міця яго добра ведае. Жыве ён на той, што і Лобік, Вакзальнай вуліцы. Стройны белабрысы Базыль — нейкі адметны, няўрымслівы.

Міця помніць такі выпадак. У той дзень, калі стала вядома, што Чырвоная Армія перайшла граніцу з Польшчай, пачаўшы вызваленне заходніх беларусаў і ўкраінцаў, ён яшчэ да заняткаў прыбег у школу. На ганку сядзеў Базыль і яшчэ некалькі хлопцаў. Усе былі ўзбуджаны: яны ўжо ведалі навіну.

Вілюга нечакана для ўсіх заявіў:

— Трэба і нашым палякам даць па карку. Яны ўсе шпіёны. На чыгунку пазашываліся і сігналяць Пілсудскаму...

На Вакзальнай вуліцы жыло некалькі сем'яў палякаў-чыгуначнікаў. Яны аселі ў мястэчку, прыехаўшы бежанцамі яшчэ ў імперыялістычную вайну. Супраць гэтых палякаў і накіраваў свой гнеў Вілюга.

Яго высмеялі. Базыль і сам рагатаў над сваёй прапановай. Але надвячоркам, калі вярталіся са школы, ён падбіраў з зямлі каменне і шпурляў яго ў тэлеграфныя слупы.

— Вось вам, пане Драгі-Мілоўскі, вось табе, кандуктар Сташэўскі, будзьце ласкавы, палучыце ў зубы, пан Жвірбля,— прыгаварваў Базыль, называючы пасля кожнага ўзмаху рукі прозвішча мясцовага паляка.

Хоць такім манерам адпомсціў ён чыгуначнікам з Вакзальнай вуліцы...

Шыракатварага рухавага Шуру Гарнака Міця ведае менш. Ён таксама з Вакзальнай вуліцы, працаваў на станцыйнай вадакачцы качагарам. Дзённую школу пакінуў даўно, вучыцца ў вячэрняй, але да апошняга часу стаяў варатарам футбольнай каманды дзённай школы.

У гумне — вострыя змешаныя пахі лугавых траў. Каб было святлей, хлопцы дзвярэй не зачыняюць. Праз іх праём віднеецца край неба, густа засеяны зоркамі. Чырвонаармейцы спяць у палатках, гэта зусім блізка ад гумна. Ля палатак ходзіць вартавы з вінтоўкай. Але глухая трывога ўсё адно не

пакідае Міцю. Неспакойныя і хлопцы — яны перашэптваюцца, варочаюцца, доўга не спяць.

Хлопцы з Міцем трымаюцца па-сяброўску, але ў той жа час тояцца. Міця ведае прычыну. Яны збіраюцца адступаць з мястэчка, як толькі стане вядома, што яго зоймуць немцы, і проста не хочуць яго крыўдзіць. Ноччу, думаючы, што Міця спіць, яны абмяркоўваюць свой маршрут. Яны хочуць дайсці да Дняпра, пераправіцца на другі бераг і па чыгунцы ехаць на Растоў. Растоў яны выбралі таму, што гэта хлебны край. Доўга там затрымлівацца яны, аднак, не збіраюцца, папрацуюць, агледзяцца і, калі ўдасца, паступяць у ваеннае вучылішча. Яно ў Растове ёсць. Два гады назад туды паступіў адзін са школы.

Міця не крыўдзіцца на хлопцаў. Ён ім не спадарожнік, і ў ваеннае вучылішча яго не возьмуць. Яму толькі прыкра, што з ім гуляюць у хованкі. Навошта? Ні ён, ні яны не вінаваты, што ў яго пакалечаная нага. Такі яго лёс. Вялікая вайна пройдзе міма яго. Ён не можа прыняць у ёй удзелу і нічога не можа змяніць...

Нейкай стоенай у глыбіні часткай свядомасці Міця пачынае разумець, што ўсё ў жыцці складаней, заблытаней, чым аб гэтым вучылі ў школе, пісалі ў газетах, кнігах. Пра вайну ўсё было ясна. Калі вораг нападзе, яму дадуць знішчальны адпор. Два месяцы назад ніхто нават думкі не дапускаў, што немцы будуць таптаць нашу зямлю, за першы ж месяц вайны дойдуць да Смаленска, захопяць дзясяткі другіх гарадоў. Чым вытлумачыць наша адступленне? Няўжо ў нас не стае сіл, каб спыніць немцаў? І на якім рубяжы іх, нарэшце, спыняць?..

Хлопцы перашэптваюцца. Міця не спіць. На ўскрайку неба, які відаць праз шырокія дзверы гумна, яркія, нібы вымытыя ў расе, зоркі. Калі на іх доўга глядзець, здаецца, што яны дрыжаць. З лагчыны, з сажалкі, патыхае вільготнай прахаладай. Раз-пораз залівіста брэшуць сабакі. Іх нехта трывожыць. Недзе побач, у адрынах, хлявах, гумнах, спяць дзяўчаты. Разам з імі Сюзана. Пра што яна думае? Як глядзіць на ўсё, што адбываецца навокал?.. Сюзана далікатная, нібы белая кветка. Слабая, бездапаможная, яна цэлы дзень нароўні з усімі кідае цяжкім заступам жвір. Яна сціплая, добрая, Сюзана. Міця ні

разу не чуў, каб яна сказала якое-небудзь брыдкае слова, як гэтая Франя. Думкі аб Сюзане супакойваюць. Непрыкметна падкрадваецца сон...

Праз сон ужо Міця чуе далёкія выбухі і зусім блізка — частыя вінтовачныя стрэлы. Яму здаецца, што ўсё гэта ён сніць, і не хоча прачынацца. Але стрэлы не сціхаюць. Падхопліваюцца хлопцы. Яшчэ праз хвіліну ля сцяны чуваць таропкія крокі.

— Можна да вас? — чуецца нясмелы дзявочы голас.— Мы адны баімся...

— Кладзіцеся, месца хопіць,— робленым бадзёрым тонам запрашае Мікола.

Хлопцы ляжаць, не зварухнуцца. Дзяўчаты вобмацкам прабіраюцца да сцяны, дзе накідана сена. Натыкаючыся на ногі хлопцаў, яны спалохана ўскліква юць, нервова, узбуджана перасмейваюцца.

Міця чуе, як побач з ім, крануўшы яго плячом, укладваецца дзяўчына. Плячо мяккае, гарачае. Яна лягла і нібы застыла. Дзяўчына цяжка, перарывіста дыхае. Яна нібы чакае. Адно толькі імгненне аддзяляе Міцю ад той прывабнай безразважлівасці, калі, забыўшы на ўсё, ён можа прыпасці да незнаёмкі, што гэтак даверліва лягла з ім плячо ў плячо. Але ў гэтае імгненне ўспыхвае думка пра Сюзану. Дзе яна? Можа, тут, побач з ім? Можа, гэта яна чакае ад яго таго, пра што ён сам неаднаразова думаў, чаго сам чакаў, баючыся і радуючыся невядомасці, за якой тоіцца нешта вялікае, цудоўнае. А калі Сюзана з другім?..

Міця адразу цверазее. Цяпер яму балюча, крыўдна. Калі Сюзане ўсё адно, ён ці хто-небудзь іншы, тады ўсё тое, што ён звязваў з яе вобразам, фальш, мана...

Пакутліва цягнуцца хвіліны. У гумне насцярожаная цішыня. Стрэлаў не чуваць. Закукарэкаў певень, яму адказалі два ці тры аж на процілеглым канцы вёскі. Зоркі як бы пачынаюць бляднець. Яны ледзь-ледзь мігцяць. Міця адчувае, што не засне. Не спіць ніхто, гэта ён таксама адчувае па тым прытоеным дыханні, якое выдае ўсіх, хто ляжыць на гэтым утаптаным леташнім сене.

Дзяўчаты прыбеглі, спалохаўшыся стрэлаў. Яны баязлівыя, але ніколі не саромеюцца свайго страху. Яны могуць пішчаць, убачыўшы звычайнага пацука, а пасля нават хваліцца тым, што вельмі спалохаліся. Хлопцы сабе такога ніколі не дазволяць. Але чаму дзяўчаты маўчаць? Чаму з таго часу, як яны прыбеглі сюды, ніводная не азвалася хоць бы словам?

Плывуць насцярожаныя хвіліны. Нехта на сене заварушыўся, і адразу пачуўся прыглушаны дзявочы смяшок. Потым зноў цішыня. Міця прыслухоўваецца, ловіць кожны шорах. З неба, апісаўшы срабрыстую дугу, упала зорка. Міця ведае, што гэта не зорка, а метэарыт і ён не ўпаў, а згарэў у верхніх слаях атмасферы. Але лічыць, што ўпала зорка,— прыгажэй. Наогул, што такое прыгажосць, каханне? Чаму ён думае толькі пра Сюзану, а не пра якую-небудзь іншую дзяўчыну? І ці ўсе так думаюць?..

Аддаўшыся развазе, Міця не заўважыў, як у праёме дзвярэй паўстала шэрая постаць. Паднялася нейкая з дзяўчат.

— Пайшлі,— чуваць пакрыўджаны, з ноткамі злосці, голас.— Няхай спяць.

Дзяўчаты ўстаюць і выходзяць. У дзвярах мільгаюць чатыры постаці.

Міця ляжыць з адкрытымі вачамі, стараючыся зразумець, што адбылося. Думкі мітусяцца, разбягаюцца. Ён не знаўся яшчэ ні з адной з дзяўчат. Не сядзеў нават адзін на адзін на лавачцы. Хлопцы хоць танцавалі на школьных вечарах, а потым прахаджваліся па вуліцы...

Хлопцы маўчаць. Ніхто не хоча першым адзывацца.

— Давайце паспім,— падае голас Шура.— Хутка развіднее. Заўтра самі да іх сходзім.

— А ты ведаеш гэтую? — пытаецца Вілюга.

— Ведаю.

— Як яе завуць?

— Заткніся! — са злосцю гаворыць Шура.— Пальцам табе паказаць? Рыцар!..

Міця захліпаецца ад смеху. Шураў адказ яму падабаецца. Ёсць нешта мужчынскае, сталае ў яго словах.

Заснуць не прыйшлося. На світанні ў гумно заскочыў лейтэнант. Яго твар быў устрывожаны.

— Па дамах! — коратка загадаў ён.

— А як акопы? — спытаў Вілюга.— І палавіны ж не выкапалі.

— Не размаўляць!

Хлопцы хуценька сабралі рэчы. Чырвонаармейскіх палатак не было. Бязлюдны ўзгорак жаўцеў кучкамі жвіру. Здалёк здавалася, што гэтыя кучкі наточаны кратамі. Сцежкай у кірунку да мястэчка ішлі дзяўчаты.

— Бывай! — Першым да Міці падышоў Мікола Цябут.— Табе нельга з намі. Мы на шлях звернем. Можа, якая машына падвязе. Тут мы аставацца не будзем. Пойдзем,— і Мікола паказаў на ўсход.

Хлопцы па чарзе развітваюцца з Міцем...

## 5

Сонца плыве ў бязвоблачным блакіце, вісіць над полем сіняватая плёнка смугі. Горача, ціха — касі, жні, хлебароб! Вакол Птахавага пераезда — ад зялёных сядзіб мястэчка аж да самага лесу — залацісты жытнёвы прастор. Сям-там, на месцы нядаўняга хутара, мільгне адзінокая груша-дзічка ды высока задраны журавель забытага калодзежа. Жаўрук не спявае ўжо, квола папіскваючы, бегаюць па ўзмежках маленькія птушачкі, якіх называюць сыткамі. Востра пахне палынамі, гаркавата-салодкі пах густы, церпкі, як бы настоены на разамлелай гарачыні зямлі.

На вайну — такая прыкмета жыве здавён — заўсёды ўраджай. Жыта і цяпер як сцяна, такога не было ні летась, ні пазалетась. Дасяваюць буйныя аўсы і ячмяні. Вечарамі, калі заходзіць сонца і пагульвае вецярок, на полі калышуцца, набягаючы адна на другую, хвалі. Адтуль даносіцца ціхі, ледзь улоўны шорах — асыпаецца жыта...

Днём на полі ні жняяркі, ні камбайна. Толькі сям-там мільгне белая або сіняя хусцінкі. Нажаўшы колькі снапоў, жанчыны іх тут жа, на посцілках, абабіваюць і ўжо апаўдня ідуць са сваімі ношкамі дамоў.

Вярнуўшыся з акопаў, раніцай, Міця напаткаў на пераездзе Драгуна, агранома з райза, рухавага перахлябістага чалавека.

Побач з ім панура клыпаў Кузьма Шнапс. Драгун знаёмы даўно. Ён то праязджаў на брычцы, запрэжанай шустрым гнядым конікам, трымаючы пад пахай абшарпаны жоўты партфель і кіруючыся ў дальнія вёскі, то трушком, сагнуўшыся, бегаў па полі, лаючыся з брыгадзірам. Здаралася, ён забягаў і ў будку, прасіў напіцца; аднойчы, вяртаючыся з раёна пад моцным хмяльком і, відаць, не жадаючы паказвацца ў такім выглядзе дома, нават пераначаваў у хлеўчуку на сене.

Абодва — аграном і вартаўнік — не ў гуморы, і адзін на другога не глядзяць. Нешта паміж імі адбылося сур'ёзнае.

— Я загадаў, а ты рабі як знаеш,— гаворыць Драгун.— Старшыню і брыгадзіра ваенкамат мабілізаваў. Начальства цяпер ты. Я табе загадаў. Ясна?

— Не буду нічога без праўлення рабіць,— адмаўляецца Шнапс.— Я нічога не ведаю. Палі сам, калі маеш права. Дзе гэта бачана, каб людзі хлеб палілі?..

— Дурань ты, Кузьма. Хоць і стары, а дурны як бот. Я табе толькі загадаў, ясна?.. Неабавязкова паліць, падзяліце хлеб па дварах і хутчэй жніце. Каб немцу не трапіў. Зерне трэба хутчэй схаваць, закапаць. Няўжо табе не ясна, Кузьма?.. Можа, ужо заўтра немцы тут будуць...

Міця стаіць на пераездзе, амаль побач са Шнапсам і Драгуном, чуе ўсю іх гаворку, але яны яго не заўважаюць.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Домік з палісаднікам, дзе растуць дзве яблыні, некалькі кустоў бэзу, агрэсту, чорнай смародзіны, прыёмшчык леспрамгаса Аўгуст Эрнэставіч Крамер набыў тры гады назад. На гэтую нерухомую маёмасць пайшлі ўсе зберажэнні. Прыйшлося, вядома, прыкласці і рукі. Абшаляваны знадворку дошкамі домік з сінімі аканіцамі даволі весела пазіраў на свет усімі сваімі чатырма вокнамі.

Існавалі акалічнасці, якія прымусілі Аўгуста Эрнэставіча менавіта ў гэты час і ў гэтым месцы займець сталае жыхар-

ства. Калі табе пераваліць за пяты дзясятак, пачнеш думаць аб прыстанішчы. Што датычыць месца, то раён, або, праўдзівей кажучы, мястэчка, дзе размяшчалася кантора леспрамгаса і сам лесасклад, спачатку не спадабаліся. Былі на свеце і прыгажэйшыя мясціны. У адной з такіх — з рэчкай, прыстанню, гудкамі параходаў і спадзяваўся пасяліцца Аўгуст Эрнэставіч.

Але аб прыгожасці прыйшлося забыць. Рэкі хутка мялеюць. Сплаўныя канторы, у якіх Крамер адпрацаваў ледзь не дваццаць гадоў, нарыхтоўваючы і сплаўляючы па вадзе драўніну, скарачаліся. Іх замянялі леспрамгасы, што ва ўсялякае надвор'е, з самай удаленай глухамані тралююць лес, дастаўляючы яго на машынах да франкасклада, да чыгункі.

Раён лясны. Ён мае запасы дзелавой драўніны, самае малое, гадоў на дзесяць. Болей Аўгуст Эрнэставіч працаваць і не збіраўся. Да пенсіі льга дацягнуць і на гэтай апошняй пасадзе, не кідаючыся, як цыган, з месца на месца. Так Аўгуст Эрнэставіч стаў уладаром доміка з сінімі аканіцамі.

Потым мястэчка нават спадабалася. Бяда памагла. У трыццаць восьмым годзе Крамера арыштавалі. Прычына была бязглуздая: стоячы ля прылаўка ў леспрамгасаўскай краме, выбіраючы брытву, ён услых пахваліў золінгенаўскія сталі. За гэта трымалі ў турме, дапытвалі ледзь не паўгода. Дзякуй грузчыкам, якія чулі гаворку, і асабліва крамніку Змітру Амельчанку. Яны не схібілі, не пакрывілі душой і ў час следства вельмі добра давялі, што ніякай антысавецкай агітацыяй, ён, Крамер, не займаўся. Усё жыццё будзе ўдзячны Амельчанку і гэтым людзям Аўгуст Эрнэставіч.

Зусім новымі вачамі глядзеў на мястэчка, на жыхароў яго Аўгуст Эрнэставіч пасля таго, як яго апраўдалі па следству. Вядома, у грудзях шчымела ад незаслужанай крыўды. Пасля турмы стаў яшчэ болей асцярожны. Хто ведае, дзе аступішся? Але да месца, дзе пеpажыў гора, прыліпаеш душой. Дый раён не бедны, у нядзелю на кірмашы купляй што хочаш: яйкі, курэй, свіное сала, муку. Ніхто не забараняе трымаць уласнае свінчо і нават карову. Праз якія-небудзь два гады за домікам вырас даволі-такі прыстойны хлевушок, збіты з сасновых аполкаў складскімі грузчыкамі. Аўгуст Эрнэставіч задаволен жыццём. Нідзе, па сутнасці, ён так не адчуваў яго паўнаты,

як у гэтым мястэчку, якое на першым часе здавалася непрывабным.

На рабоце Крамера паважаюць: ён добры спецыяліст і сваю рэпутацыю шануе. На выбракаваны і адпраўлены ім лес за ўсе дванцаць гадоў ні разу не прыйшло рэкламацыі.

Лес патрэбен людзям не меней, чым хлеб. Аўгуст Эрнэставіч ведае, што некаторыя, хто, як і ён, прапускае праз свае рукі эшалоны драўніны, пры выпадку дзясятак-другі кубаметраў кідаюць налева. У такіх за лічаныя месяцы вырастаюць дамкі, выглядам і памерам трохі лепшыя, чым яго, набыты сумленным заробкам. Але дарэмшчыны Крамер не хоча. Дарэмшчына вылазіць бокам. Нябожчык бацька, які звекаваў на ліцейным заводзіку, прыбаўляючы капіталы купцу, сыну капіталаў не пакінуў, калі не лічыць запавету: на рабоце быць чэсным.

Бацька меў рацыю. У рэвалюцыю купцовы капіталы пайшлі дымам, дый сам купец знік без следу. А стары механік Эрнэст Крамер служыў і савецкай уладзе, меў ад яе павагу.

З людзьмі Аўгуст Эрнэставіч умее ладзіць. Шафёры, грузчыкі, возчыкі, экспедытары з пагрузачнай канторы на яго не наракаюць. У расхлябіцу, па непралазнай асенняй гразі, шафёр болей аднаго рэйса не робіць. Выпэцканы, змардаваны, ён зарабляе ў дзень не так ужо многа. Звычайнае пачуццё справядлівасці патрабуе ў такім выпадку прыняць захады. Для добрай справы прыёмшчык Крамер можа крыху нацягнуць у шафёрскай пуцёўцы кіламетраж (хто праверыць даўжыню аб'ездаў?). Але ў каго проста рукі заграбушчыя, той з Аўгустам Эрнэставічам кашы не зварыць. Служба — не дружба. Прыёмшчыка Крамера лічаць работнікам прынцыповым, непадкупным, і на гэта ёсць падставы.

* * *

Новыя непрыемнасці для Аўгуста Эрнэставіча насталі з пачаткам вайны. Усе ў леспрамгасе ведалі, што ён немец, што сядзеў у турме, і сяды-тады ён лавіў на сабе кінутыя спадылба калючыя позіркі. Ён не вельмі крыўдаваў, разумеючы, што інакш і не могуць паводзіць сябе людзі, на краіну якіх напалі

яго аднапляменнікі. Злоснымі позіркамі, на шчасце, усё і абышлося. Аўтарытэт яго быў усё-такі бездакорны, нягледзячы на колішні арышт.

Калі гаварыць пра самога Аўгуста Эрнэставіча, то гэтых новых немцаў, якія пайшлі за Гітлерам і ўзнялі такі тарарам там, у сябе на радзіме, і ва ўсім свеце, ён не разумее. Фатэрлянд, Германія — святыя для яго словы, хоць сам ён і не імкнецца туды. Яго бацька, дзед нарадзіліся, памерлі тут, у Расіі, і нават больш далёкія продкі, згодна сямейнага падання, паходзяць не з Германіі, а з Курляндыі, якая Германіі не належыць. Крамер ганарыцца тым, што ён немец, у яго ўяўленні кожны, хто належыць да гэтай нацыі, добры работнік, фахман. І калі яшчэ да вайны, уключыўшы радыёпрыёмнік, ён чуў не мілагучную нямецкую музыку, а нейкія істэрычныя выгукі, барабанны бой, перамешаны з медным рыкам труб, яму рабілася млосна. Не, гэтых новых немцаў ён не мог зразумець. Калі б у Аўгуста Эрнэставіча спыталі пра радзіму, то, нават не задумваючыся, ён назваў бы ёю зямлю, дзе пахаваны яго бацька, дзед, краіну, якая давала яму працу і хлеб, якой ён сам сумленна служыў. Ажаніўся Крамер з немкай, але магло быць інакш, дзве жончыны сястры выйшлі замуж за рускіх, і ён не бачыў у гэтым нічога кепскага. Ён чуў, што тыя немцы, якія называюць Гітлера фюрарам, крычаць пра нямецкую, вышэйшую расу, якая будзе кіраваць светам. Крамер аб гэтым ніколі не думаў.

Ён помніць першую вайну, бачыў салдат кайзера Вільгельма — асаблівага ўражання яны на яго не зрабілі. Ва ўсялякім выпадку ў яго, тады яшчэ маладога хлопца, у якога былі развязаны рукі, не ўзнікла жадання ўцякаць разам з імі. Рускіх ён разумеў лепш, чым сваіх аднапляменнікаў. У гэтым не было нічога дзіўнага: вырас сярод іх.

Ён лічыў сябе дзелавым чалавекам, палітыкай не захапляўся, ніколі не думаў аб высокіх службовых пасадах. Заработак прыёмшчыка раўняецца інжынерскаму, а іншы раз нават перавышае. Большага Аўгуст Эрнэставіч не хацеў. Мяса, кава — гэта ён мог дазволіць сабе штодня. Ён мог выпіць, калі хацелася, чарку, меў кватэру, абутак, вопратку. Што чалавеку болей трэба? Лёс пакрыўдзіў яго толькі ў адным:

не было дзяцей. Некалькі гадоў жонка хадзіла па дактарах, ездзіла на курорты, бегала ў адчаі па шаптухах, знахарах. Нічога не памагло. Тады, у маладым яшчэ ўзросце, крыўда пякла сэрца, быў час, калі сямейнае шчасце вісела на валаску. Жонкі, якая не магла яму нарадзіць ні сына, ні дачкі, ён, аднак, не пакінуў. З гадамі крыўда растварылася, развеялася ў жыццёвых клопатах.

## 2

Дні за тры да прыходу немцаў Мацвееў перατрос у камунальнай кватэры Шэлега ўсе манаткі. Аб той рабоце, дзеля якой ён астаецца ў мястэчку, жонцы Іван Пракопавіч да пары да часу вырашыў не гаварыць, і яна, спалоханая, зняважаная нечаканым візітам міліцыі, вечарам, прыбегла ў суседскі хляўчук, дзе ён ужо другі дзень адлежваўся на вышках.

— Што ж гэта такое, Іван? Што ты нарабіў? Да нас з вобыскам!..

— Супакойся, Надзя. Нічога сур’ёзнага. Проста я раздаў са склада ўсё, што там было. А каму — немцам пакідаць?

— Ты сам, сваёй уладай?

— Якая цяпер улада? Дурному ясна — зрабіў правільна.

— А чаму трасуць?

— Жывуць старымі ўяўленнямі. Ахоўнікамі парадку сябе выстаўляюць. Можа, хто напісаў, што я сам рукі пагрэў...

Жонка пайшла — супакоеная, але не перакананая. Ён ведае, што яе непакоіць,— ад яе не схаваліся яго начныя адлучкі — службай іх не растлумачыш, прыходзілася плясці нешта аб дзяжурстве ў райвыканкаме. Жонкі шкада. Пражылі разам без малога дванаццаць гадоў, пяць разоў памяняўшы за гэты час месца жыхарства, распрадаючы небагаты набытак — шафы, крэслы, дзіцячыя ложкі і нават выгадаваныя жонкай фікусы. Лягчэй стала, калі яго перавялі на гаспадарчую работу. Тут, у мястэчку, яны ўжо тры гады.

Дачакаўшыся цемнаты, Шэлег вылазіць са свайго сховішча. Хопіць маскараду. Ідзе ў кватэру — на кухні занавешана акно, жонка сядзіць ля стала, шые з каляровых абрэзкаў меншанькай, Сашы, сарафан. Дзяцей паклала спаць.

— Ты ад мяне нешта тоіш, Іван?

— Перастань, Надзя.

— Нешта ты вельмі спакойны.

— А што мне — на сцену лезці? Як людзі, так і я. У мяне белы білет...

— Не ўсе, як ты, партыйныя.

— Астаюцца і такія. Што ў мяне, на лобе напісана?..

— Але ж вядома, што ты камуніст. Думаеш, не скажуць?..

— Што я каму дрэннага зрабіў? Дый, бачыш з вобыскам прыходзілі. Людзі бачылі, скажуць.

— Не разумею я гэтага вобыску. І хавання твайго. Раптам, ні з таго ні з сяго...

Ён змоўк, лёг, не распранаючыся, на канапу. Размова бескарысная. Жылі столькі, не тоячыся, добра адно аднаго ведаюць. Жонка, вядома, здагадваецца, пакутуе ад няпэўнасці. Але няхай пакуль так. Так лепш...

Ён не выходзіў з дому яшчэ два дні. На трэці з раніцы прыйшлі немцы. Іван Пракопавіч стаяў на ганку, бачыў усё з самага пачатку: па вуліцы, падымаючы густы пыл, праляцелі тры матацыклісты з перавешанымі праз шыю чорнымі аўтаматамі. Праз паўгадзіны загулі машыны, поўныя салдатні. Афіцэры ехалі асобна, у легкавіках.

Іван Пракопавіч падаўся на вуліцу. Жонка поркалася ў гародчыку — прыціхлая, разгубленая. Мала хто з местачкоўцаў быў у гэты час дома, людзі ў лесе. Там жа ў загарадах стаяць каровы, свінні — падалей ад вайны, ад ненажэрных вайсковых кухань.

Паток машын з салдатамі, афіцэрамі імчаў па галоўнай вуліцы да паўдня, услед за мотапяхотай рушыла артылерыя, браневікі. Танкаў не было відаць, але і без іх кідалася ў вочы, што немцы ўзброены да зубоў — жалезная лавіна калілася нястрымна.

Страху Іван Пракопавіч не адчуваў, пачуцце, якое агарнула яго, зусім процілеглае, гэта хутчэй цікаўнасць паляўнічага. Ён ужо бачыў немцаў — хацелася пераканацца, чым гэтыя, якія пайшлі за Гітлерам, адрозніваюцца ад салдат кайзера Вільгельма. Форма ў іх крыху іншая, няма вастраверхіх касак, афіцэры ў седлаватых шапках і бліскучых пагонах па-

ранейшаму нагадваюць ганарыстых індыкоў. Салдаты перад імі, як і тады, выцягваюцца ў струнку.

Шэлегу менавіта гэта і кінулася ў вочы: немцы бясконца адзін другому казыраюць, стукаюць абцасамі, крычаць гэтае сваё «яволь». Яны нагадваюць механічных, як бы заведзеных ключом, салдацікаў. Але твары іх не бессэнсоўныя. Смяюцца, галёкаюць, іграюць на губных гармоніках, гарланяць песні. Яны ваююць з радасцю, ахмеленыя вайной. Не прыходзілася сумнявацца, нельга было паверыць, што гэтых вясёлых салдат з закасанымі па локаць рукавамі, з расхрыстанымі каўнярамі мундзіраў пагналі ваяваць пад прымусам.

У другой палове дня рылатыя, з вялізнымі радыятарамі грузавікі, ёмістыя, з камуфляжам на бартах браневікі, цягачы, матацыклы, конныя абозы запрудзілі ўсе мястэчковыя вуліцы. Салдаты кінуліся па магазінах, крамах, складах — звінела аконнае шкло, збіваліся замкі — усё гэта пад рогат, вясёлае галёканне. Немцы ахапкамі неслі банкі кансерваў, каробкі з цукеркамі, пячэннем, флаконы з духамі, адэкалонам, павязвалі на шыі шаўковыя жаночыя хусцінкі. Проста пасярод вуліцы і ў дварах задымілі кухні, запалалі кастры, немцы смажылі на доўгіх шпотыках курэй і гусей, тут жа, астаўшыся ў адных трусах, мыліся, раскаркоўваючы доўгія, з блішчастымі этыкеткамі, бутэлькі, пілі віно, елі. У адносінах да мясцовых жыхароў, якія туліліся па хлявах, склепах, у іх не было нічога варожага, наадварот, яны як бы паказвалі шырыню сваёй натуры, частавалі цукеркамі дзяцей, падносілі па кілішку жанчынам. Гэта быў табар заваёўнікаў, вясёлы і разгульны.

На плошчы, перад школай, Шэлег напаткаў Забелу. Млынар стаяў на дашчаным тратуары, заклаўшы рукі за спіну, у старамодным чорным сурдуце, у сарочцы з манішкаю, наглянцаваных ботах — выліты купец, які выфранціўся дзеля святога дня, але твар не вясёлы, хмуры.

— Дачакаліся гасцей,— абыякава кінуў ён, падаючы Шэлегу руку.— Колькі наперла іх. Сіла...

— Тэхніка,— пацвердзіў Шэлег.

— А наша дзе? Столькі крычалі, лямантавалі — закідаем шапкамі. Як у японскую вайну. Дык тады ж дурны цар быў. А мы ж, разумнікі, самога Бога за бараду хапілі.

— Германія заўсёды была прамысловай краінай. Цяпер у немцаў ледзь не ўся Еўропа.

— Чужыя людзі.— Махнуў рукой Забела.— Зразумей, што ён гяргеча. Бач, парaць, смажаць, ядуць, п'юць. Накармі такую прорву. Глыне цябе і не абліжацца.

Па разліках Шэлега, млынар адзін з тых, хто хоць у нейкай ступені павінен радавацца немцам. Але ў яго няма радасці ці, можа, ён тоіць, не паказвае яе. Не, не тоіць. Хутчэй за ўсё ён повен насцярогі, гэты хітры, сквапны чалавек. Ён ужо нешта адчуў, і гарласты натоўп немцаў, што з вазамі і кухнямі размясціўся на плошчы, перад школай, не выклікае ў яго захаплення. Іван Пракопавіч сам сабе ўсміхаецца: не ведаеш, дзе знойдзеш. Меней за ўсё чакаў ён, што ў такі дзень не хто іншы, як Забела, усцешыць.

— Млын спраўны. Можна пускаць? — пытае Іван Пракопавіч.

— Пачакай ты, чалавек, з млыном. Тут дзень пражыў — і то добра. Ніхто не ведае, як будзе.

Нібы штосьці ўспомніўшы, больш лагодным голасам млынар дадае:

— Табе дзякуй. Вызваліў з бяды. Як-небудзь палічымся, не забуду.

Падаў руку і пайшоў, пакалыхваючыся мажным станам, несучы на шырокім, чырвоным твары насцярожаную заклапочанасць.

Дома трывожны непакой, чаканне. Жонка павязала ў клумкі вопратку, бялізну, абеду не гатавала, сядзіць, трымаючы на каленях пяцігадовую бялявую Сашу, хвалюецца.

— Ты чаго?

— Баюся. Іван. Людзі збіраюцца наначу лес. Хоць гэтыя дні перабыць.

— Нікуды не пойдзем.

— П'юць гэтыя. П'яныя да жанок чэпяцца. А што ноччу будзе?

— Нічога не будзе. Не бойся.

На вуліцы тлум, музыка, песні, зычныя гартанныя галасы. Рыпіць, угінаючыся пад кованымі ботамі, дашчаны тратуар, мітусіцца салдатня, равуць маторы — наўрад ці бачыла калі-

небудзь драўлянае мястэчка такі агромністы наплыў чужаземных людзей, жалеза, сталі, ахмеленай вайной салдацкай весялосці...

Прыбягае Павел — босы, каўнер сарочкі, як заўсёды, нарасхрыст, кепка набакір, засеяны вяснушкамі тварык занепакоены. Хочучы штосьці сказаць, перамінаецца з нагі на нагу.

— Тата, немец мне шакаладку даў.

— І ты ўзяў?

— Усе бралі.

— Дзе яна? Дай сюды.

— Я ўжо з'еў.

Бацька і маці маўчаць, пераглядваюцца. Насуплены Павел апраўдваецца:

— Немцы наша бяруць. А чаму ў іх нельга браць?

— Што яны ў цябе ўзялі? — захоўваючы строгасць у голасе, пытае Іван Пракопавіч.

— Не ў мяне. У Рубаніхі карову зарэзалі. Проста пасярод двара. Ёй толькі кішкі аддалі. Яна плача.

— Не хадзі, Павел, туды,— просіць Іван Пракопавіч.— Ты яшчэ малы. Нічога не разумееш.

— Я ўсё ведаю. Немцы нас забралі.

— Няпраўда. Гэта проста вайна.

— Немцы, тата, нас пераваявалі? Яны дужэйшыя?

— Павел! — крычыць маці.— Перастань. Еш і кладзіся спаць. Сёння ляжаш раней.

Павел з хвіліну вагаецца, потым дастае з кішэні і кладзе на стол абойму нямецкіх патронаў. Дзюбкі куль абведзены чырвона-чорнымі паяскамі фарбы. Маці бялее. Іван Пракопавіч заклапочана разглядвае абойму — кулі разрыўныя. Што скажаш сыну? Зняць папругу, адхвастаць? Не падымаецца рука.

— Слухай, Павел. Табе ўжо хутка дзесяць гадоў. Ты перайшоў у другі клас. Я ў твае гады хлеб зарабляў. Павінен разумець... Абяцай мне — ніколі болей не прыносіць дадому нічога такога. Ведай — знойдуць немцы хоць адзін патрон, мяне ў турму пасадзяць. Разумееш?..

— Мне Сыса даў. У яго шмат.

— Ні ў кога нічога не бяры. Гэта кулі разрыўныя. Кінеце ў агонь — вочы высмаліць.

— Я не буду браць, тата.

Шпурлянуўшы абойму ў памыйнае вядро і прысеўшы на канапу, Шэлег гладзіць сына па стрыжанай галаве, туліць да грудзей. Вузенькія плечы, вераб'іныя грудзі, парэпаныя ногі, хоць маці штодня прымушае мыць. Летам сын не прызнае абутку. Гойсае ў падраных штанах, купаецца дзе папала, аднойчы да позняга вечара ў лес сышоў. Іван Пракопавіч не любіць чуллівасці, скупы на ласку. Але цяпер іначай не можа. Напружанне, няпэўнасць знаходзяць выйсце ў гэтай яго няўмелай ласцы. Але і яе дастаткова, каб у доме наступіў мір. У жонкі пасвятлелі вочы, да яе варочаецца рухавасць, бадзёрасць.

— Будзем абедаць. Людзі даўно вячэраюць.

Занавешана акно, гарыць на стале дванаццацілінейная лямпа, і, каб не шум на вуліцы, не гэтыя выгукі і крыкі, ніштo б не нагадвала, што жыццё перавярнулася і невядома, як пойдзе...

Калі дзеці паляглі спаць, Іван Пракопавіч падышоў да этажэркі, да кніг.

— Давай, Надзя, перагледзім. Палітычныя трэба прыхаваць.

Палітычных ледзь не палавіна. Звязалі дзве кіпы, Іван Пракопавіч, выйшаўшы ў сенечкі, палез з імі, намацваючы нагой прыступкі лесвіцы, на гару. Вобмацкам дабраўся да лежака, выняў спадыспаду цагліну. Наган на месцы. Сам сабе ўсміхнуўся: «Сын прывалок у дом абойму патронаў, бацька — наган...»

У франтоне — акенца, праз яго цэдзіцца на гарышча скупое святло летняй ночы, відзён кавалачак зорнага жніўеньскага неба. Дабраўся да акна, зірнуў на вуліцу. Немцы ўгаманіліся, толькі на плошчы, перад школай, маячаць постаці патрульных. На ваколіцы, за мястэчкам, палаюць агні. Там спынілася нейкая часць, і нападу немцы, відаць, не баяцца...

## 3

Домік Крамера — не на галоўнай вуліцы, і ўсяго патоку нямецкіх машын, танкетак, бронетранспарцёраў, цягачоў, якія валаклі палявыя гарматы, даўгіх, падобных на чыгуначныя платформы, фураў з вайсковай амуніцыяй, усёй масы салдат, афіцэраў, якія праехалі ці прайшлі праз мястэчка, ён не бачыў. За ўсе тры дні, пакуль каціўся гэты вал, Крамер ні разу не выйшаў з двара. Самы злосны нядобразычлівец, які б назіраў гэтыя дні за Крамерам, не здолеў бы сказаць, што Аўгуст Эрнэставіч чакаў немцаў альбо радаваўся іх прыходу.

У першы дзень, калі паток салдатні, тэхнікі быў асабліва густы, напорысты, Аўгуст Эрнэставіч сядзеў у хаце, рамантаваў ходзікі. Сёе-тое ён разумее і ў гадзінніках, і ў іншых механізмах, пераняўшы гэтую навуку змалку ад бацькі. Ходзікі сапсаваліся даўно, віселі на сцяне без справы болей за год. Сам сабе ён не адказаў бы, чаму іменна цяпер, калі ўнутрана ён быў неспакойны і не мог быць спакойным, яму рупіла ўзяцца за гэтую работу. Мажа, ён проста хацеў чым-небудзь заняць рукі, мажа, гэта было неўсвядомленае імкненне ўспомніць напаўзабыты занятак, які мог стаць прафесіяй, пракарміць у няпэўны час.

Абдзьмухваючы, змазваючы ваткай, памочанай у газу, калёсікі, шасцяронкі, ён чуў гул матораў, жалезны ляскат гусеніц, шматгалосыя крыкі, выгукі, смех, абрыўкі песень. Ён лавіў сябе на думцы, што баіцца гэтага гулу, гэтых галасоў, песень, у якіх, нават напружваючы слых, ён нічога не мог разабраць.

Нарэшце паток, не ўмяшчаючыся на галоўнай вуліцы, хлынуў і на бакавыя. Паўз вокны Крамера, падымаючы густы едкі пыл, натужна равучы маторамі, імчаліся вялікія чорныя машыны, з пакрытымі брызентам кузавамі, яны несліся безупынна адна за адной.

У кабінах сядзелі падобныя адзін на другога шафёры ў вязаных сарочках і ў шэра-зялёных пілотках, ледзь не кожны з іх трымаў у роце цыгарэту і раз-пораз сігналіў: здавалася, хрыплымі гудкамі шафёры хочуць аглушыць зялёную вуліцу.

Пасля поўдня пайшлі конныя абозы: коні былі добрыя, укормленыя, найбольш чорнай і гнядой масці, высока нагружаныя фуры з акаванымі коламі рыпелі ў раз’езджаных каляінах, салдаты-возчыкі з шэрымі, запыленымі тварамі абыякава глядзелі са сваёй вышыні. На выгане, ледзь не насупроць Крамеравага двара, некалькі фурманак запынілася, возчыкі распрэглі коней, павесіўшы ім на морды брызентавыя мяшкі з аўсом. Задыміла кухня, салдаты з вёдрамі пабеглі па дварах. Адзін пажылы, прысадзісты, з нахмураным чорным тварам спыніўся ля веснічак Крамера: замкнутыя з двара на засаўку, яны не адчыняліся, ён наддаў плячом, і засаўка ўпала на дол. Спалоханая Гертруда Паўлаўна, Крамерава жонка, выплыла салдату насустрач і загаварыла з ім па-нямецку. На яго гэта не зрабіла ніякага ўражання. Ён папрасіў цыбулі і часнаку, жанчына з неўласцівай для яе раздабрэлай фігуры ўвішнасцю матлянулася ў агарод, нарвала поўны прыпол. Салдат нават не падзякаваў — гэтак жа хмура, медзведзявата падаўся са двара. Гертруда Паўлаўна зайшла ў хату, без сіл села ў крэсла. Яе шырокі адутлаваты твар сардэчніцы быў белы як палатно.

— Як жа з імі жыць, божа мой,— шаптала яна.

Крамер маўчыць. Ён стараецца не глядзець у акно, робячы выгляд, што заняты калёсікамі і шасцяронкамі. Даўно мінуў абедзенны час, але за стол Крамеры яшчэ не садзіліся. На вуліцы гучна размаўляюць немцы, цяпер Аўгуст Эрнэставіч разбірае асобныя словы, выгукі, але ўражанне такое, што ўсё гэта — не сапраўднае, а выдуманае, і мінецца, як сон.

Праз гадзіну салдат, які прасіў цыбулі, вярнуўся ў суправаджэнні двух суседак, і зноў Гертруда Паўлаўна выскачыла насустрач. Яна, нібы тая птушка, аберагае сваё гняздо ад няпрошаных гасцей. Гледзячы на хмуры, недаўменны твар салдата, на сцятыя вусны суседак, цяжка зразумець, хто каго прывёў: яны салдата ці ён іх.

— Паўлаўна, перакажы ты яму,— просіць высокая худая кабеціна, якую па-вулічнаму завуць Гага.— Ніякіх коней няма ў нас. Гэта ж убачыў у хляве хамут і прыстаў: конь, конь, на хамут паказвае. Маўляў, каня я свайго схавала. Я забылася

ўжо, з якога боку да таго каня падыходзіць. Яшчэ грозіцца, гіцаль, «пуф-пуф», маўляў, застрэлю...

Гертруда Паўлаўна, стараючыся быць спакойнай, перакладзіць салдату, што коней у асабістым карыстанні жыхароў няма, што яны належалі калгасу, а ўсю жывёлу пагналі на ўсход.

— Прапаганда! — нечакана лямантуе салдат, пырскае слінай, твар яго сінее.— Ты — бальшавік. Камуніст. Цябе трэба страляць...

Суседкі, не азіраючыся, кідаюцца прэч, у Гертруды Паўлаўны ад страху падкашваюцца ногі — самлелая, яна садзіцца на ганак. Салдат крычыць, пагражае, пакуль з хаты не выскаквае Аўгуст Эрнэставіч.

— Я — немец! — грыміць ён на ўвесь двор.— Вы не маеце права здзекавацца з маёй жонкі. Яна таксама немка. Я буду скардзіцца вашаму начальніку.

Пры слове «начальнік» салдат цішэе, але праз хвіліну гнеў апаноўвае яго з новай сілай.

— Ты дэзерцір,— паказваючы пальцам на Крамера, гукае ён.— Ты ўцёк з арміі, я цяпер ве-едаю... Цябе трэба арыштаваць...

Аўгуст Эрнэставіч нямее ад замяшання. Хрыплым, надарваным голасам салдат выкрыквае страшныя пагрозы, твар яго ўсё болей сінее, на губах пена. Нарэшце ў двор з вуліцы заскакваюць яшчэ двое салдат, маўкліва падхопліваюць гэтага пад рукі — ён валтузіцца, хапае ротам паветра.

Крамер падымае жонку, вядзе ў дом. Усё ў ім кіпіць ад узбуджэння. Зноў кідаецца на двор — па вуліцы, звонячы кацялкамі, гучна перамаўляючыся, ходзяць салдаты. Там, ля кухні, зычны рогат, нехта іграе на губным гармоніку. Іржуць коні. Пастаяўшы з хвілінку ў нерашучасці, Аўгуст Эрнэставіч вяртаецца ў хату, зашчапляе за сабой дзверы.

— Найшла з кім звязвацца! Хіба не бачыш — ідыёты, няхай што хочуць робяць. Сядзі і носа не вытыркай.

— Хіба ж я вінавата, Аўгуст,— спрабуе апраўдацца жонка.— Я ж хацела як лепш. Гэта Гага яго прывяла.

— Мая хата з краю. Ведаць нічога не хачу. Я еў хлеб з мазаля. Сумленна працаваў. Гэта не можа быць віной. Мы

рускія, а не нямецкія падданыя, каб нас вінавацiць. Яшчэ ўсё можа быць. Не такія слабыя Саветы. Бальшавікі, не думай, так лёгка не папусцяцца. Немцы і ў васямнаццатым годзе прыходзілі, а потым уцякалі без аглядкі...

У гэтую хвіліну Крамер шчыра жадае, каб зялёная навалач, якая запаланіла мястэчка, пакацілася назад, на Захад. Ён зусім не думае цяпер пра тое, што ён немец, што тыя, хто з выглядам пераможцаў ходзяць па вуліцы — яго аднапляменнікі.

— Ідыёты,— нервова ходзячы з кута ў кут, мармыча Аўгуст Эрнэставіч.

У дзверы нехта стукае. Жонка падхопліваецца з ложка, кідаецца да акна.

— Хавайся,— шэпча яна.— Зноў вярнуліся. Яны забяруць цябе. О, Божа...

Хавацца ў сваім доме Крамер не хоча. Вымае з патайной кішэні бумажнік, дастае пашпарт. Незнаёмым, ломкім голасам, не адчыняючы дзвярэй, жонка размаўляе з тым, хто стаіць на ганку. Нарэшце ў чысты пакой заходзіць салдат — не той чорны, які пагражаў, а другі, у акуратна скроеным мундзіры, лысаваты, з адкрытым ветлівым тварам. Гертруда Паўлаўна стаіць у яго за спіной, робячы мужу нямыя знакі — маўчы...

— Прашу прабачэння,— пачынае салдат, знімаючы пілотку.— Вам адзін наш зрабіў непрыемнасць. Не звяртайце ўвагі, ён, як бы гэта вам сказаць... Ну, не зусім нармальны. Разумееце, два гады на вайне, кантузія. Яго і ў абоз таму перавялі. Прабачце, вы немец?

— Сядайце,— па-нямецку адказвае Крамер.

Салдат садзіцца ў крэсла, пілотку кладзе на калені:

— Проста прыкры выпадак. Обер-лейтэнант паслаў мяне да вас. Мы б не хацелі, каб вы дрэнна думалі пра нямецкую армію. Я ротны пісар. Фельдфебель Бараўске...

Фельдфебель устае, стукае абцасамі. Крамер называе сябе.

— Вы мелі справу з лесам? О, у нас з вамі блізкія прафесіі. Я памочнік ляснічага. Працаваў у дзяржаўным запаведніку. Гэта былі цудоўныя гады...

Фельдфебель сапраўды здаецца інтэлігентным чалавекам, гаворыць шчыра, яўна стараючыся спадабацца гаспа-

дарам, і ў Аўгуста Эрнэставіча лягчэе на сэрцы. Зрэшты, ён перабольшваў страхі. Немцы заўсёды былі культурнай нацыяй, гэта прызнана ўсімі. А што датычыць наскоку таго вар'ята, то ў сям'і не без вырадка. Вайна...

— Рускія прыцяснялі вас, здзекаваліся? — пытае фельдфебель.— Яны ж ведалі, што вы немец?

Гаспадар у замяшанні. Яму хочацца дагадзіць госцю, які трымае сябе гэтак далікатна, прыязна, тым болей што яго пытанне як бы тоіць у сабе і адказ, які ён мусіць даць. З другога боку, ён не хоча хлусіць. Таму Аўгуст Эрнэставіч ад прамога адказу ўхіляецца.

— Разумееце, было ўсялякае. На шчасце, усё добра скончылася. Я маленькі чалавек, спецыяліст. Палітыкай не займаўся. Увогуле, рускія цэняць спецыялістаў, незалежна ад таго, хто яны.

— О, мы вас ацэнім лепш. Вам дадуць высокую пасаду.

Зноў Аўгуст Эрнэставіч трапляе ў тупік. Унутрана ён нават уздрыгнуў ад слоў фельдфебеля, але разгубленасці не паказвае. Салдат прыйшоў і пойдзе, а яму тут жыць.

— Позна ў маім узросце ганяцца за чынамі. Каму патрэбны немаладыя, хворыя людзі?

— Вы яшчэ зусім малады,— гаворыць фельдфебель сур'ёзна.— Такія людзі вельмі каштоўныя. Вы добра ведаеце тутэйшае насельніцтва, і вашы паслугі будуць вельмі карысныя.

Выручыла жонка. Яна ўважліва прыслухоўвалася да размовы, штохвіліны падаючы мужу розныя знакі перасцярогі, але, бачачы, што аднаму яму з бяды не вырабіцца, прыйшла на помач.

— Павячэрайце з намі, пан афіцэр. Прабачце, гэтак усё неспадзявана. Мы не думалі, што будзе такі госць.

— Не турбуйцеся. Нямецкі салдат заўсёды сыты.

Лысаваты фельдфебель, якога назвалі афіцэрам, падняўшыся з крэсла, сціпла адышоўся да акна, а Крамер увішна ўзяўся памагаць жонцы. Хутка стол быў засланы белым абрусам, а на ім паявілася досыць багатая і разнастайная закуска. Аўгуст Эрнэставіч радуецца: жонка — добры палітык, падрыхтавалася загадзя. Перад госцем паклалі, дастаўшы з

камода, срэбраны відэлец, нож. Карціну добразычлівага хлебасольства завяршылі тры пузатыя графінчыкі з markup розным пa колеру настойкамі і наліўкамі, а таксама бутэлька рускай горкай.

Госць уражаны. Акінуўшы позіркам стол, разгубіўся. На твары яго супярэчлівыя пачуцці: радасць, здзіўленне і адначасна нешта падобнае на страх. Магчыма, ротны пісар баіцца, што яго прымаюць не за таго, кім ён з’яўляецца.

— Айн мамэнт,— нарэшце гаворыць фельдфебель і чоткім вайсковым крокам выходзіць на двор. З двара на вуліцу. Нешта піша крэйдай на веснічках. Вярнуўшыся, весела гаворыць:

— Орднунг. Кватэра занята для камандзіра транспартнай роты обер-лейтэнанта Біндэра. Вы будзеце задаволены. Гэта надзвычай шаноўны чалавек. Ён паехаў наперад, але заўтра вернецца...

Гаспадар з жонкай пераглядаюцца. Калі б госць быў крыху праніклівейшы, то ўбачыў бы, што яго паведамленне іх не ўзрадавала. Відаць, яны не знаходзяць нічога прыемнага ў тым, каб дагаджаць пастаяльцу.

Піць фельдфебель баіцца. Сядзіць, гаворыць. За ўвесь вечар выпіў па чарачцы выстаўленых на стале напіткаў і нават ад гэтай драбязы выйшаў пахістваючыся.

Ноч прамінула спакойна, але ні Аўгуст Эрнэставіч, ні Гертруда Паўлаўна доўга не маглі заснуць. На світанні іх разбудзіў настойлівы стук у дзверы. Зайшоў учарашні фельдфебель, прынёс, трымаючы ў абедзвюх руках, вялізную бляшанку.

— Мой падарунак вам. Тут наш салдацкі мёд. Обер-лейтэнант Біндэр жыць у вас не будзе, на жаль. Мы пойдзем наперад. Вайна — нічога не зробіш. Аўфвідэрзэйн...

Паставіўшы на стол бляшанку, узяў пад казырок, прыстукнуў абцасамі і, па-вайсковаму крута павярнуўшыся, выйшаў. Гертруда Паўлаўна матлянулася было ўслед, хацела даць што-небудзь госцю на дарогу, але той далікатна адмовіўся.

— Які культурны чалавек,— уздыхнула жонка.— Ветлівы, просты.

Аўгуст Эрнэставіч маўчыць. Хвілін праз некалькі ён ледзь не задыхаецца ад гневу. Двое салдат з закасанымі рукавамі

валакуць у двор, трымаючы на плячах, на доўгай жардзіне, акрываўленую кароўю шкуру. З гаспадарскім выглядам развешваюць на плоце.

— Фельдфебель загадаў прынесці вам,— гаворыць адзін салдат.— Тут матэрыялу на добрыя дзве пары ботаў.

Аўгуст Эрнэставіч хацеў адмовіцца, хацеў сказаць, што ніхто ў мястэчку шкур не выrabляе, што боты ў яго ёсць і ў новых ён пакуль што патрэбы не мае, але ў яго проста не хапіла адвагі вымавіць гэтыя словы. Ён стаіць, глядзіць на вуліцу — па ёй ужо рухаецца доўгая чарада накрытых брызентам вазоў, храпуць зацугленыя гладкія коні, ззаду апошняга воза, падскокваючы на выбоінах, едзе вайсковая кухня.

Жонка прыціхла. Яна таксама разумее, што з гэтай шкурай выйшла брыдка. Няма сумнення, што карову салдаты зарэзалі, адабраўшы ў каго-небудзь з жыхароў. Але цяпер, калі гэтая шкура вісіць на двары, так ці інакш цень падае на іх, Крамераў. Людзі могуць падумаць, што гэта яны падказалі салдатам, у каго забраць карову. І наогул навошта ім нажываць ворагаў у гэты ліхі, няпэўны час?

Калі ў поўдзень вуліца апусцела ад фурманак і аўтамашын, Аўгуст Эрнэставіч вынес шкуру з двара, кінуў яе на выгане. Да самай ночы, грызучыся між сабой, яе цягалі, ірвалі на шкуматы сабакі.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1

Калі глядзець на станцыю здалёку, у вока не кінецца ніякіх асабліва прыкметных перамен. Здаецца, усё засталося на старым, ранейшым месцы. Цiснучыся адзін да аднаго, стаяць пафарбаваныя ў жоўты колер пакгаўзы, службовыя будынкі, высіцца цагляны гмах вадакачкі, яшчэ вышэй за яго ўзмахнулі разложыстымі шатамі стагадовыя срабрыстыя таполі. Дрэвы вялізныя, у тры абхваты па камлі — менавіта яны надаюць станцыі выгляд утульнасці і нібы завуць падарожнага, які дабіраецца да мястэчка, пад зваблівы свой цень...

Гэта здалёку. Зблізку выгляд станцыі непрыветлівы. З тэлеграфных слупоў звісаюць абарваныя драты, на чыгуначным палатне — варонкі ад бомбаў; пакарэжаныя, задраныя, нібы палазы саней, рэйкі; бокам ляжыць таварны вагон. У чакальнай зале, буфеце, пакоі дзяжурнага — ніводнай шыбіны, дзверы насцеж, вецер ганяе па пероне абрыўкі службовых папер. Мінуў толькі тыдзень, як чыгуначны люд пакінуў свой штодзённы, для непрызвычаенага вока непрыкметны клопат, але знак вялікага запусцення лёг на ўсё. Станцыя мёртвая...

Праз тыдзень пасля таго як прыйшлі немцы, у чыгуначнікаў кончыўся хлеб. Раней у параўнанні з іншымі жыхарамі мястэчка яны былі ў прывілегіяваным становішчы: мелі ўласную краму, пякарню.

Люду на станцыі засталося не болей палавіны. Машыністаў, дзяжурных, саставіцеляў — усіх, найбольш звязаных са службай руху, эвакуіравалі, яшчэ калі не быў узарваны мост на Дняпры. Крыху пазней рушыла на ўсход пеша яшчэ адна група. Але гэтых немцы ў дарозе перахапілі.

Зранку ля чыгуначнай крамы па ранейшай звычцы збіраюцца мужчыны, пераважна тыя, хто жыве ў станцыйных памяшканнях. Седзячы на дашчаным ганку, лянiва перагаворваюцца, кураць самасад, раз-пораз цвыркаючы слінай. У краме расчынены вокны і дзверы, на падлозе бітае шкло, стружка і зусім непатрэбныя цяпер вялікія вагі, якія заўсёды заміналі чарзе. Тыя звычайныя, кілаграмовыя, што стаялі на прылаўку, нехта ўзяў.

Ніякай улады ў мястэчку няма. Шквал нямецкага наступлення схлынуў, рушыў далей, на поўдзень і ўсход, пакінуўшы пасля сябе разграбленыя магазіны, крамы, склады, разбураны помнік Леніну на цэнтральнай плошчы. Вечарамі яшчэ даносяцца прыглушаныя гукі далёкай кананады, але днём нічога не чуваць.

Сёння чыгуначнікі ўзрушаны.

— Мукі было яшчэ дзве тоны,— пазіраючы ў зямлю, гаворыць хмуры пуцеец Кардаш.— Я добра ведаю. Немцы яе не забралі. На чорта ім. Печаны хлеб жаруць.

Мізэрны, з вострым, як у крата, тварыкам стрэлачнік Гулік сыпле словамі, як з меха.

— Бяжы дагані немцаў. Паскардзішся, што Дзенісевіч муку заграбастаў. Яму хопіць. Дзве тоны — гэта сто дваццаць пудоў. І свінкам хопіць.

— А што тут скардзіцца,— злосна пярэчыць Кардаш.— Хто такі Дзенісевіч, каб перад ім шапку здымаць?.. Прыцісынуць, як гніду, да ногця — аддасць.

— Сволач, наеў пуза.

— Хоча на чужой бядзе ў рай выехаць...

— Што тут гаварыць, мужчыны. Пойдзем — усе бэбахі ператтрасём.

— Я яго вось гэтымі рукамі задушу. Не пікне...

— Нечага тары-бары разводзіць. Пайшлі на пякарню.

— Нідзе не дзенецца, калі прыстрашыць. Няхай хлеб пячэ альбо мукой аддае.

Мужчыны — іх ля крамы чалавек дванаццаць — падняліся з прыступак ганка, усёй талакой рушылі да пякарні. Гулік наперадзе — дробна перабірае ножкамі ў стаптаных, з крывымі заднікамі, чаравіках, каб не адстаць ад напорыстага кроку мужчын. Да пякарні дайшлі за лічаныя хвіліны. На двары пуста. Ніякіх слядоў пагрому не відаць. Аканіцы зачынены, на іх жалезныя засаўкі. Толькі дзверы прыбудоўкі, у якой захоўвалася мука, сарваны з пецель, стаяць, прыслоненыя да сцяны. Тут жа на траве разбіты замок.

— Глядзіце, што ён нарабіў, хіжая шкура! — нервуецца Гулік.— Замок разбіў. Каб табе храпу разбіла.

— Хоча, каб канцы ў ваду...

— Маўляў, я не я і хата не мая...

— Пайшлі, мужчыны, трэсці...

— Мы ў цябе з-пад зямлі дастанем!

Яшчэ больш узбуджаны, злосны натоўп кіруецца да сядзібы загадчыка пякарні Дзенісевіча. Яна недалёка, наўскасяк праз вуліцу відаць агароджаны высокім тынам двор, а ў глыбіні яго — крыты чырвонай чарапіцай дамок. Дзенісевіч — прысадзісты, лысы, з хітрым, выцягнутым, як у тхара, тварам, нібы спецыяльна чакаў гасцей — сам выходзіць на вуліцу з двара.

— Давай муку! — яшчэ не дайшоўшы, крычыць Гулік і трасе паднятымі над галавой кулачкамі.

Гулікавых слоў Дзенісевіч нібы не чуе.

— Вы да мяне, мужчыны? Я і сам прыходзіў на станцыю, думаў — мо каго пабачу...

— Пакраў муку! — захліпаецца Гулік.

— Сціхні! — хмуры Кардаш торгае стрэлачніка ззаду за каўнер.— Як будзе з хлебам, Дзенісевіч? Мы ведаем, што мука асталася. Немцы яе не забралі.

Натоўп стаіць пасярод вуліцы, насупроць Дзенісевічавага двара.

— Мука ў сахраннасці, мужчыны. Толькі не ўся. Нехта разбіў замок, шэсць мяшкоў выцягнуў. Хіба ў такі час дагледзіш? Астатнія я дамоў перанёс.— Дзенісевіч акідвае хуткім позіркам мужчын.— Дванаццаць мяшкоў.

— Гэта колькі будзе, калі на вагу? — дапытваецца Кардаш.

— Каля тоны.

Гуліка калоціць, як у ліхаманцы.

— Чуеце, мужчыны, чуеце! Каля тоны. Гэты зладзюга болей палавіны ўкраў.

— Шчанюк ты! — Падняўшы кулакі, раз'юшаны Дзенісевіч наступае на Гуліка, той хаваецца ў натоўпе.— Паганы язык твой вырву. Ты бачыў, калі я краў?

Кардаш хапае загадчыка за рукі:

— Перастань. Спакойна трэба. Мы ведаем, што было дзве тоны. Можна накладныя праверыць.

— Якія вам накладныя! — цяжка дыхаючы, крычыць Дзенісевіч.— Разбіты замок бачылі? Я вам не вартаўнік... Дзякуйце, што астатняе прыхаваў. Бярыце па мяшку — і канцы ў ваду. Мне самому абрыдзела з гэтай мукой валэндацца.

Гулік енчыць на ўсю вуліцу:

— Радуйцеся!.. Бярыце аб'едкі і яшчэ кланяйцеся ў пояс злодзею. Ён для вас ласку зрабіў... Мы з цябе кішкі выцягнем, мурло...

Дзенісевіч вырываецца, кідаецца на Гуліка, хапіўшы заграудкі, трасе. Галава стрэлачніка матляецца, як у нежывога.

У гэтую хвіліну чуецца прыглушаны гул матора. Бойка замірае, Дзенісевіч спалохана адскоквае ад Гуліка. Мужчыны змаўкаюць, азіраюцца. Ад пераезда, ахутаная клубамі

шэрага пылу, імчыць легкавая машына. На поўным ходу яна праносіцца паўз натоўп, але метраў праз сто спыняецца, разварочваецца пасярод вуліцы, пад'язджае да мужчын. З лакіраванага «опель-капітана» вылазіць хударлявы нямецкі афіцэр. За ім вылазяць яшчэ двое, відаць, меншыя чынамі, бо ідуць услед за афіцэрам, трымаючыся на два-тры крокі ззаду.

Афіцэр падыходзіць да мужчын. На галаве ў яго седлаватая шапка з арлом, з бліскучым чорным казырком, на грудзях, на мундзіры розныя нямецкія рэгаліі, і дзіўна, што гэты чалавек з чужога свету пачынае гаварыць на чыстай рускай мове.

— Навошта сабраліся, панове? — усміхаючыся, пытаецца афіцэр.

Мужчыны маўчаць, пераглядваюцца.

— Калі не памыляюся, вы чыгуначнікі. Спецыфічны пах...

— Так, пан, мы з чыгункі,— нясмела адказвае Кардаш.— Есці нечага. Сабраліся, каб падзяліць муку. Мука наша, з чыгуначнай пякарні.

Афіцэр абводзіць насмешлівым позіркам насцярожаныя твары мужчын:

— Вы працуеце ўжо?

Кардаш, бачачы, што ніхто не асмельваецца гаварыць, адказвае за ўсіх:

— Якая, пане, работа? Вашы ж самалёты разбамбілі станцыю. Цяпер і за год чыгунку не пусціш. Ні мастоў, ні рэек...

Афіцэр задаволена перамінаецца з нагі на нагу, папраўляе сваю шапку, гаворыць:

— Ну, на тое была вайна, якая для вас ужо скончылася. Дзякуйце нямецкай арміі — гэта яна вярнула вас да мірнага жыцця. Цяпер трэба працаваць. У нас, у немцаў, такое ж правіла, як і ў вас, у рускіх: «Хто не працуе, той не есць». Так што перш чым дзяліць муку, трэба яе зарабіць. Улада цяпер нямецкая, і мука, натуральна, належыць немцам.

— Няма ў нас ніякай улады,— сказаўшы гэта, Кардаш разгублена перасмыкнуў плячамі, падаўшыся крыху назад, у натоўп.

Афіцэр усміхаецца:

— Пачынаючы з сённяшняга дня, яна будзе. Я для таго і прыехаў. Між іншым, каго б вы параілі на пасаду бургамістра?

Бургамістр — гэта, калі карыстацца савецкімі паняццямі, штосьці накшталт старшыні выканкама. Але аб Саветах, забудзьце, панове. Немцы — народ сур'ёзны і гульні ў дэмакратыю не любіць. Дэмакратыя — гэта анархія, беспарадак. Бальшавікі таму і прайгралі вайну, што не здолелі навесці ў краіне парадку. Бургамістрам павінен быць адданы нам чалавек. Ён будзе адказваць за парадак.

Чыгуначнікі слухаюць. «Панове, бургамістр...» Дзіўнымі здаюцца ім гэтыя старыя, злінялыя словы. Нібы спадыспаду даўно мінулых дзён паўстае штосьці забытае, аб чым пераcталі думаць, што развеялася, знікла з памяці, як сон.

— Пан афіцэр,— пасмялеўшы, пытае Кардаш.— Адкажыце нам от на што. У вас жа, немцаў, таксама ёсць рабочыя. У рабочага чалавека адны рукі. Ён імі працуе. Але ж і рук не падымеш, пакуль не пад'ясі. Вы занялі нашу зямлю. Цяпер ваша ўлада. То спачатку харч дайце, а потым пытайце работы. Нам трэба сем'і карміць. Як жа працаваць, калі жывот пусты? Ну, добра — у нас пакуль бульба ёсць. А кончыцца — што тады?

Афіцэр нездаволена паводзіць плячамі, хмурнее яго прадаўгаваты выпешчаны твар. Двое, што стаяць за спіной, насцярожваюцца, падступаюць бліжэй да начальніка.

— Вы не адтуль пачынаеце, панове. Германія вядзе вайну, яе рэсурсы выключна напружаны. Яна цяпер не можа даць вам хлеба, але работы будзе патрабаваць. Кожны, хто ў ваенны час ухіляецца ад работы, будзе разглядацца як сабатажнік і расстрэльвацца. Такія законы вайны. Для забеспячэння насельніцтва, якое працуе, прадуктамі харчавання, ну, хоць бы хлебам, павінна быць выкарыстана частка мясцовых запасаў. Астатняе пойдзе для мэт вайны. Рэгуляваць пытанне з хлебам павінна мясцовая адміністрацыя. Ваеннае камандаванне, прадстаўніком якога я з'яўляюся, такімі рэчамі не займаецца. Вось таму я вас і прашу назваць чалавека або некалькі, з якіх аднаго мы прызначым бургамістрам...

Гулік, які ўвесь час маўчаў, ажывае. З гурту чуецца яго піскявы, узбуджаны голас:

— Няма ў нас такіх. Дзе тут каго знойдзеш. Паўцякалі начальнікі...

Але нечакана наперад выходзіць Дзенісевіч. Ён таксама хвалюецца — голас дрыжыць, зрываецца.

— Можна знайсці, чаму ж... Узяць хоць бы Крамера. Ён ваш, немец. У турме сядзеў пры бальшавіках. Можа падысці.

Афіцэр зацікавіўся адразу:

— Дзе жыве гэты Крамер? Пакажыце мне. Мы можам паехаць на машыне.

Але Дзенісевіч ужо не рад, што выскачыў: перамінаецца з нагі на нагу, чухае патыліцу. Хітрыя, заплыўшыя вочкі спалохана бегаюць.

Паказваючы пальцам на Дзенісевіча, афіцэр павышае голас:

— Вы сядайце ў машыну. Побач з шафёрам. Я вам загадваю... А вы, панове,— гэта ўжо да чыгуначнікаў,— па дамах. Германія не любіць, як гэта ў вас называецца,— мітынгаў, зборышчаў. Немцы — дзелавы народ.

Калі машына, у якую ўціснуўся Дзенісевіч, ад'ехала, чыгуначнікі яшчэ некалькі хвілін стаялі, разгублена пазіраючы адзін на аднаго.

— Вось і падзялілі муку! — усклікнуў Гулік.— Наеліся хлеба. Грошы вашы сталі нашы. Чулі, як падсек?.. Гэты ў лапці абуе. Зубы на паліцу пакладзеш.

— Дзенісевіч і пры немцах пагрэецца, будзьце спакойны. Бач, выскачыў.

— Але ж і немцы! Хлеба не дадзім, а рабіць прымусім. Чулі?

— А ты лепшага ад іх чакаў? Пернікаў табе навязуць? Хваробы...

— Скулу ім у бок, а не работы. Залягу на печ, то ні адзін доктар не падыме.

— Яшчэ ўсё можа быць, мужчыны.— Хмуры Кардашоў твар стаў яшчэ болей змрочны.— Сямейны, як звязаны. Не на дабро тут асталіся. Да сваіх не прыбіліся, і немец не брат.

Прыціхшыя, разгубленыя мужчыны пачалі разыходзіцца.

## 2

Навала схлынула. Аўгуст Эрнэставіч паспакайнеў. Некалькі вечароў чуў ён далёкую страляніну, у душы нават радаваўся: можа, бальшавікі вернуцца, усё пойдзе па-ранейшаму. Далібог, яму не трэба немцы, ніякая яны не радня. Але вайна пакацілася далей. У мястэчку ціха, як быццам нікому яно і не патрэбна...

Дзень за днём Крамерам усё больш авалодвае душэўная раўнавага. Ён цешыць сябе думкай, што здолеў утрымацца ўбаку, вайна не зачапіла яго ні тым, ні другім канцом. Дый і не ў яго гады кідацца ў гэты пякельны вір, у якім так лёгка страціць галаву. Ён, калі і малады быў, не кідаўся. Залатое правіла: цішэй едзеш — далей будзеш.

Упершыню за ўсе апошнія гады Крамер з асалодай аддаецца пачуццю самастойнасці, незалежнасці, якое прыйшло разам з канцом яго службы. З раніцы да вечара ходзіць па двары — дошку прыб’е, галінку абрэжа на вішні. Галоўнае — як-небудзь прыдбаць сена. Будзе сена карове — можна зіму пражыць без клопату. Бульба ёсць, мукі жонка, нібы ведаючы ўсё наперад, прызапасіла.

Калі ля варот спынілася легкавая машына і з яе вылез нямецкі афіцэр разам з тоўстым загадчыкам чыгуначнай пякарні Дзенісевічам, Аўгуст Эрнэставіч адчуў, што ўсярэдзіне нібы нешта абарвалася. Як на ліха, няма дома жонкі, сышла да знаёмай. Дзенісевіч адразу знік, як і не было яго; высокі, перахлябісты афіцэр у суправаджэнні двух салдат заходзіць у двор.

— Вы Крамер? — пытаецца афіцэр па-нямецку.

— Так, пан афіцэр.

— Гэта ваш дом, пляц?

— Так.

— Вы фольксдойч?

— Немец.

— Фольксдойчамі мы называем немцаў, якія жывуць за межамі Германіі. Што ж, запрашайце ў дом.

— Біттэ.

Салдаты астаюцца на двары, афіцэр ідзе ўслед за гаспадаром, выцірае ў сенечках ногі, зайшоўшы ў залу, здымае шапку, кладзе на стол. Абводзіць позіркам пакой, запыніўшыся на стосіку кніг і даведнікаў па лясной справе, што ляжаць на верхняй палічцы самаробнай, з лазовых пруткоў этажэркі. Зала ў доме Крамера толькі дашчанай тонкай перагародкай аддзелена ад спальні, на расчыненых дзверках якой вісіць сурвэтка з вышытым на ёй нямецкім выслоўем. Афіцэр і гэта заўважае, усміхаецца. Потым, не пытаючы дазволу, садзіцца ў крэсла. Гаспадар стаіць.

— Вы пры бальшавіках сядзелі ў турме. Цікава, за што?

Аўгуст Эрнэставіч разгублены. Адкуль афіцэр гэта ведае? Дый гаворыць ён на мове, якая вельмі адрозніваецца ад той, якой валодае ён сам, якой гаварыў бацька. Афіцэр нібы праглытвае гукі, цэлыя склады, так што не адразу яго і зразумееш. Салдат, фельдфебеля разумець было лягчэй.

— Гэта была памылка, пан афіцэр. Я чалавек маленькі. Мне спрабавалі прышыць тое, чаго я не рабіў.

— Ну, а што менавіта?

— Аднойчы я быў неасцярожны. Сказаў пры людзях, што якасць нямецкіх тавараў найлепшая.

— Што ж, пахвальна. Вы — патрыёт. Скажыце, у гэтай мясцовасці, акрамя вас, ёсць немцы? Я маю на ўвазе мужчын.

— Не ведаю добра, пан афіцэр. Рускія гэтым мала цікавіліся.

Афіцэр з хвіліну маўчыць, барабаніць пальцамі (на ўказальным — вялікі чорны пярсцёнак) па засланым белым абрусам стале, затым, нібы нешта ўспомніўшы, выразна вымаўляючы словы, гаворыць:

— Я са службы тылу. Обер-лейтэнант Ліндау. Маркграф. Маркграфы ў Германіі — старажытныя радавітыя фаміліі. Сваёй уладай прызначаю вас бургамістрам гэтага раёна. Вы цяпер цывільная нямецкая ўлада. Гэта вялікі гонар для фольксдойча. Пра вас высокай думкі мясцовае насельніцтва. Я ўлічыў пажаданні жыхароў. Віншую вас, пан Крамер...

— Пан афіцэр, я не хачу,— у Аўгуста Эрнэставіча кружыцца галава, у роце перасыхае, заплятаецца язык.

— Пан Крамер, немец не гаворыць «Не хачу». Гісторыя ўсклала на нашу нацыю вялікую місію. Фюрар Адольф Гітлер вядзе нямецкі народ да тысячагадовага шчасця.

— Не магу я, пан афіцэр. Я слабы, хворы чалавек.

— Кожны па меры сваіх сіл павінен служыць айчыне.

— Не буду я бургамістрам, пан афіцэр! — амаль крычыць Аўгуст Эрнэставіч, у адчаі прыціскаючы скрыжаваныя рукі да грудзей.— Я рускі, а не нямецкі падданы. Не маеце права...

Афіцэр глядзіць на Крамера нерухомымі, шклянымі вачамі — бляск іх халодны, алавяны,— у яго сутаргава торгаюцца шчака і левае павека, твар бялее. Падымаецца з крэсла, гаворыць ціха, з прыціскам:

— Дзякуйце лёс, Крамер, вам трапіўся высакародны чалавек. Я пра сябе кажу. У сучаснай Германіі гэтак, як я з вамі, мала хто размаўляе. Вы заўважылі, я нават не спытаў пра вашу прафесію, пра тое, камуніст вы ці не...

— Я не камуніст, пан афіцэр.

— Не мае значэння. Тое, што вы сказалі, вас выдае. Бальшавіцкія настроі ў вас моцныя. Выкіньце іх з галавы. Забудзьце ўсе ранейшыя ўяўленні. Бальшавізм цалкам даказаў сваю нежыццёвасць. Руская дзяржава таксама. Ні бальшавіцкай Расіі, ні якой-небудзь іншай фактычна няма ўжо і не будзе. Расія пераможана. Тут цяпер Германія. Вы цяпер нямецкі падданы, а не які-небудзь іншы.

Голас афіцэра строгі, павучальны, твар нахмураны, і Крамер перад ім, як вучань, які моцна нашкодзіў. Яны абодва стаяць, абодва немаладыя, толькі афіцэр падцягнуты, маладжавы з выгляду, а ў Аўгуста Эрнэставіча пакатыя плечы, крыху ссутуленая спіна і твар спаласаваны маршчынамі.

— Вы мяне не так зразумелі, пан афіцэр. Я ніколі не займаў высокіх пасад.

— Цяпер будзеце займаць. Зразумейце мяне правільна. Мясцовасць, занятая нямецкай арміяй, будзе ачышчана ад непажаданых, бальшавіцкіх элементаў. Вы яшчэ не ведаеце, што такое гестапа. Скажу шчыра: я не магу паручыцца за далейшы ваш лёс у тым выпадку, калі вы адмовіцеся стаць бургамістрам. Паглядзіце на ўсё збоку — адзіны ў раёне не-

мец адмаўляецца ад пасады, якую прапануе яму нямецкая армія...

— Што я магу адзін зрабіць? — ужо не крычыць, а, ледзь не плачучы, просіцца Аўгуст Эрнэставіч.— Пашкадуйце мяне, пан афіцэр. Я магу працаваць, служыць у вас, але не бургамістрам.

— Дзіўны чалавек вы,— голас афіцэра прыкметна мякчэе.— Першы раз такога сустракаю. Хто вам сказаў, што вы будзеце адзін? Праз тыдзень-два ў вас размесцяцца гарнізон, жандармерыя, цывільныя нямецкія ўлады. Зразумейце — бургамістр — прадстаўнік мясцовай, грамадзянскай улады. Дзе магчыма, на гэтыя пасты мы ставім немцаў. Мы ім больш давяраем. Гэта высокі гонар. Вас проста запалохалі бальшавікі, пан Крамер. І няма чаго вам адмаўляцца. Хто б сюды ні прыехаў, калі вы ў раёне адзіны немец, ён звернецца да вас. Мы, немцы, павінны трымацца разам. Гэта ж так проста. Адмовіцеся — тады вы не наш, мы забудзем, што вы — фольксдойч...

Як яшчэ мог бараніцца Аўгуст Эрнэставіч? Халадзеючы ў душы, праклінаючы дзень, калі яго занесла ў гэтыя мясціны, ён згадзіўся. Праз некалькі хвілін адзін салдат, які суправаджаў афіцэра, унёсшы ў дом пішучую машынку і паставіўшы яе на стол, выстукаў яму службовае пасведчанне. Ён жа падаў афіцэру штэмпельную каробку, пячатку. На паперы красаваўся традыцыйны нямецкі арол са свастыкай у кіпцюрах і побач з пячаццю пакручасты, неразборлівы подпіс Ліндау, маркграфа, обер-лейтэнанта службы тылу.

Гертруда Паўлаўна, вярнуўшыся вечарам дамоў, разважыла інакш: становішча зусім не такое безвыходнае і трагічнае, як намаляваў яго Аўгуст Эрнэставіч.

— Ну, праўда, Аўгуст, каго ж, акрамя цябе, яны маглі прызначыць? Ты ж не абы-хто.

Пацалаваўшы мужа ў лысіну, яна ўвесь вечар уздыхала, шкадуючы, што не прыйшлося пачаставаць высокага госця.

## 3

Верасень — мяккі і ціхі. Местачкоўцы дажынаюць асыпаныя жыты, ячмяні і аўсы, косяць парудзелыя травы, капаюць калгасную бульбу, цяпер падзеленую на загончыкі.

Павольна мяняюць зялёны ўбор на жоўты і меднабарвовы кусты ляшчыны і воўчай ягады, маладыя асінкі і бярозкі, якія ля тэлеграфных слупоў, на паласе адчужэння маюць права расці толькі да таго часу, пакуль не дастануць вершалінамі дратоў. Дрэмле поле, застаўленае рэдкімі мэндлікамі. У маўклівым задуменні стаіць на курганку сасна. Цяпер, перад восенню, калі сонца не такое шчодрае, а вятры з дажджамі зусім блізка, яна яшчэ зелянейшая.

Фронту ўжо тыдні два не чуваць. З усходу на захад і з захаду на ўсход ад рання да вечара пыльным шляхам і чыгункай ідуць людзі. Гэта акружэнцы, бежанцы і палонныя, якім пашэнціла вырвацца з лагераў. Яны ідуць змардаваныя і безуважлівыя. Некаторыя зварачваюць на пераезд напіцца.

Сцяпан Птах з сям'ёй у будцы. Чыгунка бяздзейнічае. Птах цяпер нічога не ахоўвае, але выбрацца з будкі няма куды.

Адзін раз, цёплым вечарам, Кузьма Шнапс зваліў каля пераезда воз саломы.

— Сцяпан! — гукнуў у двор.— Выйдзі...

Птах выйшаў, павітаўся, і яны з Кузьмой, закурыўшы, прыселі на пярыльцах пераезда.

— Як жывеш?

— Жыву. Толькі газы за гэтую салому табе не дам. Няма газы. Магу заплаціць грашамі...

— Ай, ідзі ты, чалавек,— замахаў рукамі Шнапс.— Якія ў цябе грошы. Што за іх цяпер купіш? Бяры салому, і ўсё. Я яшчэ падвязу, калі трэба...

— Грошы ёсць, зарплату нашы наперад выдалі, як адступалі. Дзвесце рублёў — за месяц...

— Вайна... Адпакутуе народ. Незлічоная ў немца сіла. Я тую вайну бачыў, у палоне іхнім быў, але такога не было. І што будзе?..

— Мы ўсе цяпер у палоне,— сумна ўсміхнуўся Птах.— Куды падацца, за што зачапіць рукі? Жыць з чаго? Ты вось

хоць каняку агораў, бульбы накапаеш, а я? Кладзі зубы на паліцу. З маіх пралётаў сямейку не пракорміш.

— Рабочаму класу тужэй,— згаджаецца Кузьма.— Я так заўсёды казаў. Можа, толькі і немец вам што будзе плаціць, як чыгунка пойдзе. Паёк, можа, дасць?..

— Але то ж пад іхняй уладай рабіць. Лопне яна, а тады што? Няўжо нашы так лёгка папусцяцца? А вернуцца, па галоўцы не пагладзяць. Скажуць: мы кроў пралівалі, а ты немцу памагаў. Вораг...

— Усё можа быць,— уздыхае Шнапс.— Паліецца яшчэ рускай крыві. Гэтыя немцы не такія, як у тую вайну. І тыя на палоннага, як на скаціну, глядзелі. На табе гнілой бручкі, бульбы, але рабі. Здыхай, а рабі... А гэтыя, здаецца, шчэ мудрэйшае звяр'ё. Што будзе яшчэ, што будзе? А-я-яй!..

— І чаму нашы адступілі? — са злосцю гаворыць Птах.— Столькі везлі гэтых танкаў, гармат, і як у прорву ўсё. Каб жа хоць вочы не бачылі. А то дзень і ноч, дзень і ноч везлі, і з аднымі вінтоўкамі ўцякалі. Крыку столькі было: вораг мяжы не пройдзе, задушым, закідаем шапкамі. А прыйшлося: пабеглі, народ на мучэнне пакінулі. Калі ты ўжо так крычаў, калі ты такі смелы, то зямлю грызі, а не адступай. Вінтоўка ж, яна страляе, то чаго ты з ёй уцякаеш? Каго ты немцу пакідаеш: бацьку свайго, маці, сям'ю?..

— Недагледзелі нечага. А можа, і здрада? Мы на Мазурскіх азёрах немца пагналі, а генералы тыя, што цару нібы служылі, у пастку завялі. Зачынілі дзверкі, і ўсё, пі ржавую ваду, грызі зямлю. Зямлю грызучы не наваюеш, розум трэба. О-ё-ёй, што яшчэ будзе!..

Пра што могуць гаварыць два чалавекі, з якіх адзін не ведае, ці знойдзе заўтра кавалак хлеба для сям'і, а другі ўсё перажыў, усё бачыў, але не страціў яшчэ прывычкі ўсім цікавіцца і з усяго здзіўляцца. Пра вайну, якая найбольш злыбядой таму чалавеку, які есць свой хлеб з мазаля, пра тое, што ў такой калатнечы чалавек сам сабе не гаспадар, і яго будзе кідаць, як трэску ў моры...

— Вось што, дзядзька Кузьма,— ломкім голасам просіць Птах.— Дай ты мне свайго каня. Наглядзеў я ў лесе пару сосен, дык, можа, прывязу. Хто яго, той лес, цяпер сцеражэ?..

Можа, як-небудзь хатку скідаю. Трохі прызапасіў лесу, але шчэ мала. Каб хоць сцены вывесці. Я пазней табе аддзячу...

— Аддзячыш, чалавеча, аддзячыш. Нашто пра тое гаварыць? Хіба я не бачу? Бяры каня, я і сам падсабіць магу. Калі хочаш, бяры...

— Ну, дзякуй, дзядзька, вызваліў з бяды. Мне цяпер гэтая будка, як турма...

Над палямі, над летам, над чыгункай плыве мяккая асенняя цішыня. Не чуваць ні выбухаў бомб, ні далёкай страляніны — вайна адышлася далёка...

## 4

Домік, у якім жыве Саша Плоткін, струхлелы, стары, але з усімі адмецінамі местачковай фацэтнасці — пафарбаваныя ў жоўты колер аканіцы, высокі ганак, франтон з акенцам. Стаіць ён у ціхім завулку, пад навіссю таполяў. Пад самымі вокнамі разросся куст бэзу. Міця найчасцей ходзіць сюды, да Плоткіна. Хлопцы, якія рушылі на ўсход, далёка не адышліся, вайна пераняла, прыгнала дамоў. Мікола Цябут зашыўся недзе і носа не паказвае, з Вілюгам і Гарнаком Міця не вельмі знаёмы. Таму, калі выдараецца вольная часіна, ён ідзе сюды, і ўжо разам з Плоткіным — да Прымака. Новыя знаёмыя, з якімі ў дзявятым класе і вучыўся Міця ўсяго два месяцы,— цяпер адзіныя дружбакі.

Плоткін — маўклівы, стрыманы, але з іскрынкамі смеху ў разумных шэрых вачах. Жыве Саша ў невялікай сям'і, у якой, акрамя яго,— маці і малодшая сястра. Яму адведзены пакойчык-бакоўка, аддзелены ад зальчыка фанернай перагародкай. У гэтай цёплай утульнай бакоўцы Міця з Плоткіным гуляюць у шахматы.

Маці шые — работы ёй хапае і цяпер,— аднастайна, з кароткімі перапынкамі стракоча нажная швейная машына, за акном шэра, хмура, сыплецца з таполяў жоўты ліст. Хлопцы перастаўляюць фігуркі і маўчаць. Гаварыць няма пра што.

Бывае — яны гартаюць або перакладваюць з месца на месца кнігі. Кніг у кожнага з іх трох цяпер процьма, можна лічыць — па цэлай бібліятэцы. У той час, калі местачковыя

тарбахваты валаклі з магазінаў і складаў усё, што засталося пасля немцаў, хлопцы рынуліся ў бібліятэкі. Там таксама пагаспадарылі ахвотнікі да нажывы: сталоў і шафаў не было, кнігі гарой ляжалі на падлозе. Можна выбіраць што хочаш. Некалькі дзён узапар Прымак, Плоткін і Міця прыходзілі то ў раённую, то ў школьную, то ў бібліятэку былой лясной школы, найбольш багатую рэдкімі, яшчэ дарэвалюцыйнымі выданнямі. Кнігі насілі дамоў мяшкамі.

У Міці — дый у хлопцаў таксама — усе рускія класікі, многа зарубежных, слоўнікі, энцыклапедыі і наогул усё, што здалося ім лепшым у трох местачковых бібліятэках. Да вайны пра такія кнігі можна было толькі марыць, а цяпер — сядзі і чытай. Але і не сядзіцца, і не чытаецца...

Глуха, як у склепе, у мястэчку. Чуткі неверагодныя, невядома, хто іх пускае, але яны разносяцца хутка, ад чалавека да чалавека, збіваюць з панталыку, сеюць цяжкі, невыносны сум. Гавораць чорт ведае што — немцы захапілі Маскву, Ленінград, дабіраюцца да Урала. У гэта нельга паверыць, нельга згадзіцца, але хоць бы якая прасветліна, хоць бы адзін чалавек сказаў суцяшальнае слова. Пачуеш адно — нашы адступаюць...

Да Прымака хлопцы і завітваюць, каб прачуць што-небудзь новае. Ён жыве ў гарадку — так называюць пасёлак, які ўзнік у самым цэнтры мястэчка. Дамы тут новыя, хоць і ў беспарадку размешчаныя, пабудаваны найбольш віднымі людзьмі яшчэ ў даваенныя гады. Большасць гэтых асабнячкоў да апошніх дзён пуставала, гаспадары выехалі з сем’ямі. Цяпер іх займаюць персоны, якія невядома адкуль выплылі,— начальнік паліцыі, паліцэйскія. Новая ўлада ўсталёўваецца...

Весткі ў Прымака змрочныя, нярадасныя, але хоць штонебудзь ведае.

— Арол нашы здалі,— паведамляе ён.— І Бранск таксама...

— Пазаўчора гаварылі пра Маскву, Урал, а сёння толькі пра Арол. Хлусня...

— За што купіў, за тое прадаю. Паліцэйскія плятуць.

Аляксей Прымак праводзіць час трохі не так, як яго дружбакі: у гэтыя пустыя, панылыя вечары ён сустракаецца

з дзяўчынай, якую яны ўтраіх называюць лётчыцай. Яе ўжо бачылі і Міця, і Плоткін — вясёлая, прыгожая, з хлопцамі запанібрата, носіць скураны лётны шлем. Аляксей старэй за іх на два гады, яму ўжо васямнаццаць. Нельга сказаць, каб ён быў вельмі прыгожы ці дасціпны, але дзяўчаты да яго хінуцца. Гэта было заўважана яшчэ да вайны, і для Міці гэта вялікая тайна. Аляксей заўсёды цвіце ўсмешкай, яго можна назваць сімпатычным, але цяжка паверыць, што ён ведае якія-небудзь асаблівыя словы, якіх прагнуць дзяўчаты. Наадварот, Аляксей гаворыць пра самае звычайнае, ён умее, калі трэба, падпусціць жарт, вострае слоўца,— дык ці ж ён адзін гэта ўмее?..

— Слухай, цябе цягне да лётчыцы? — дапытваюцца хлопцы.

— Не. Але ж ад суму здохнеш.

— Пра што вы гаворыце?

— Ні пра што. Адчапіцеся...

Пра знаёмых дзяўчат Аляксей не любіць расказваць, загадкава ўсміхаецца. Гледзячы на гэтую ўсмешку, можна думаць усё, што прыйдзе ў галаву. У душы Міця зайздросціць Прымаку, найбольш той яго лёгкасці, з якой ён паводзіцца з дзяўчатамі. Здаецца, ён ведае нешта такое, чаго Міця ведаць ніколі не будзе, ніколі не пераступіць мяжы, якая аддзяляе яго ад прывабных і загадкавых істот, якімі нечакана сталі дзяўчаты.

Пра Сюзану Міця думае цяпер мала, толькі зрэдку ўсплывае яе вобраз, пакідаючы ў душы ціхі, прыемны смутак. Пасля ўсяго, што адбылося, яна як бы адышла, аддалілася. Міцю цяжка нават уявіць, якая яна, як гаворыць, усміхаецца. Сюзана тут, у мястэчку, але ён баіцца нават выпадкова спаткацца з ёю. Што ён ёй скажа?..

У адзін з тых дзён, узяўшы кошыкі і рыдлёўкі, яны ўтраіх пайшлі на асушанае балота накапаць цукровых буракоў — з іх у мястэчку вучыліся варыць павідла. Дзень імжысты, хмуры. Клетка перакапана, сям-там знойдзеш кволы, нікім не заўважаны бурачок. Пакалупаўшыся ў тлустай чорнай зямлі, селі на кучу бацвіння, прымоўклі. Узбоч калектара — езджая дарога, але ўжо метраў праз сто не відаць яе — губляецца

ў густой шэрай імжы. Не відаць ні мястэчка, ні бярэзніку ўскрай тарфяніку, і ўражанне такое, нібы яны ўтрох адны на балотнай клетцы пад асеннім нізкім небам. У змрочны гэты дзень, як ніколі за ўвесь месяц, адчулі хлопцы сваю адзіноту.

На іх вачах асушалі балота. Мабыць, кожны з іх, правальваючыся па пояс у твань, у рудую, пакрытую вясёлкавымі плямамі ваду, лазіў сюды па яйкі дзікіх качак, па стрэляныя гільзы пасля зімовых чырвонаармейскіх манеўраў. І недзе ў душы яны, мабыць, ганарыліся, калі чыталі ў газеце пра ўраджаі жыта і бульбы на гэтым самым Гіблым, памятным і знаёмым з дзяцінства. Вясной пасеялі тут цукровыя буракі — хто раней чуў пра іх?.. Усё гэта прайшло. А што наперадзе?..

Саша Плоткін, прыўзняўшыся з зямлі, пачаў чытаць верш:

В минуту унынья,
О Родина-мать,
Я мыслью вперед улетаю,
Еще суждено тебе много страдать,
Но ты не погибнешь, я знаю...

Ім, тром, стала хораша ад шчырых, крыху сумных радкоў, ад таго, што жыў на свеце вялікі паэт Някрасаў, які нібы ўгадаў іх сённяшні настрой. Дзень гэты Міцю запомніўся — адзін з чарады аднастайных, панылых...

З хлопцамі лягчэй, весялей, сустрэча з імі — свята, але найчасцей Міця адзін. Ледзь не штораніцы ходзіць у лес — восень грыбная, грыбоў, блукаючы па верасах і рэдкалессю, назбірвае поўную каробку-лубянку, але яны не прыносяць былой радасці. Міцем валодае дзіўны, упершыню зведаны настрой, калі ўсё навакольнае здаецца не сапраўдным, не рэальным, а толькі сном, цьмяным адбіткам нечага сур’ёзнага, вялікага, што, атуліўшыся бачнасцю звычайнасці, стаілася ў шматзначнасці сваёй і раскрыецца па часе. Лес той самы, знаёмы і блізкі з дзяцінства, і, разам з тым, ён заціяўся, хавае ў паўзмроку штосьці загадкавае, таямнічае; вершаліны сосен шумяць па-асабліваму, трывожна і насцярожана. Проста болей нельга верыць у тое, нібы ўсё, што трапляецца на вочы, такое, якім на першы погляд здаецца. Усё павінна мець другі —

унутраны і стоены — сэнс. Жыццё стала незразумелым. Ранейшыя паняцці перавярнуліся ў ім, аказаліся хісткімі.

Думае Міця і пра немцаў. У іх краіне нарадзіліся Маркс і Энгельс, былі рэвалюцыі, забастоўкі. Дзе ўсё гэта? Куды яно дзелася? Міця верыў да вайны, што рабочыя ўсіх краін — браты па класу, у іх аднолькавыя інтарэсы. Гэта было зразумела. Аднак у гэта ўжо нельга верыць, бо ўсе тыя гарматы, танкі, самалёты, якія ён бачыў, зрабілі сваімі рукамі нямецкія рабочыя. Навошта яны іх нарабілі? Каб забіваць такіх жа, як яны самі, савецкіх рабочых. Выходзіць, кавалак хлеба для іх, немцаў, даражэй за смерць братоў па класу...

Міця ўжо бачыў немцаў.

Тады, калі немцы займалі мястэчка, ля будкі спыніліся тры грузавікі, і салдаты, якія з іх вылезлі, насыпаўшы ў кацялкі розных парашкоў, пачалі гатаваць абед. Яны доўга елі, потым пілі каву, падліваючы ў яе віно. З выгляду гэта звычайныя салдаты, найбольш маладыя, і Міцю здзівіла, што яны з такой раскошай ядуць. Чырвонаармейцы — сярод іх былі і лейтэнанты, і капітаны, і нават адзін маёр — калі ішлі на фронт, таксама аднойчы атабарыліся ля будкі і таксама гатавалі абед. Елі яны звычайную пшонную кашу з сухарамі.

Адзін пажылы немец, твар якога здаўся Міцю прыветлівым, добрым, даў сястры Тані цукерку. Дзяўчынка баялася браць, і ён гладзіў яе па галаве, ласкава і з усмешкай угаворваючы. Немец быў самы звычайны чалавек. Міця не ўбачыў у ім нічога звярынага, такога, якімі маляваліся ў яго ўяўленні фашысты. Міця нарэшце асмялеў і, цяжка падбіраючы нямецкія словы, спытаў:

— Зінд зі арбайтэр?[1]

Твар немца перасмыкнуўся, вочы забегалі, азірнуўшыся, ён спалохана прамовіў:

— Біст ду юдэ?[2]

Міця зразумеў, пра што пытае немец, да яго не дайшло толькі, чаго той баіцца. Але ахвота размаўляць прапала. Ён адказаў фразай, якую паўтаралі ледзь не на кожным уроку нямецкай мовы:

[1] Вы рабочы?

[2] Ты яўрэй?

— Ін дэр шуле лернэн вір дзі дойчэ шпрахэ[1].

— Гут, гут[2],— немец загергетаў яшчэ нешта, але з яго слоў Міця нічога ўжо не зразумеў.

Узбоч шляху валяюцца бляшанкі з-пад кансерваў, бутэлькі, срабрыстая папера, абрыўкі газет. Газеты яшчэ за летнія месяцы, але Міця іх падбірае — хочацца ведаць, што пішуць немцы для саміх сябе. Толькі нямецкай мовы ён не ведае — з дзесяці слоў знаёмае адно. Ад гэтага крыўдна, у школе за чатыры гады можна было мову вывучыць, пра гэта заўсёды гаварыла Мар'я Іванаўна. Але хто яе слухаў?..

Вечарам, дома, узброіўшыся слоўнікам, Міця спрабуе чытаць знойдзеныя кавалкі. Адна газета цэлая, нават з партрэтам Гітлера і вялікім, выдрукаваным чырвонымі літарамі загалоўкам на першай паласе. Міця прыглядваецца да Гітлера: аблічча яго не мае ніякай прывабнасці, страшнае,— рот крывы, вочы, як у шалёнага, і яшчэ гэты касмыль на лобе... Нечым няўлоўным Гітлер падобен на грузчыка Зыка — быў такі на станцыі. Палучыўшы грошы, Зык подбегам шыбаваў у краму, напіваўся і, п'яны, чамусьці заўсёды стараўся ўзабрацца на што-небудзь высокае — на паркан, дрэва, аднойчы залез нават на дах сталоўкі. Адтуль, напінаючыся, варочаючы вачамі, крычаў:

— Слухайце мяне, народы!..

Тыя, што стаялі ўнізе, глядзелі на Зыка, як на дзіва, слухалі і рагаталі, нарэшце прыходзіў міліцыянер, лез на дах, і ўсё канчалася...

Праз газетны тэкст да сэнсу напісанага Міця прабіраецца, як праз густы цёмны лес. Бывае, што і словы ўсе перакладзены, стаяць, як салдаты ў вольным страі, а сувязі між імі ніякай. Трэба яшчэ ведаць граматыку. Зрэшты, сёе-тое Міця разумее. У газетах найбольш пераможныя рэляцыі аб летніх баях пад Смаленскам, Кіевам. Шмат высокіх, гучных слоў: усявышні дух, Бог, воля нацыі... Ёсць нешта пагрозлівае ва ўсіх гэтых словах — уяўляюцца самалёты, танкі, гарматы, вясёлыя твары салдат, якія ехалі па пыльным шляху на вайну,

[1] У школе мы вывучаем нямецкую мову.

[2] Добра, добра.

як на пагулянку. Нашы адступалі змардаваныя, у выцвілых ад поту гімнасцёрках, з чорнымі няголенымі тварамі. І калі Міця думае пра тое, што хочацца бачыць,— пра наша наступленне, уцёкі немцаў, яму становіцца страшна. Цяжка ўявіць, каб змардаваныя чырвонаармейцы з аднымі вінтоўкамі пагналі назад гэтую жалезную армаду...

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### 1

Для Аўгуста Эрнэставіча наступілі пакутлівыя, поўныя няпэўнасці дні. Маркграф Ліндау, пакінуўшы дакумент з гербавай пячаткай і скрутак адозваў на нямецкай і рускай мовах, паехаў. Яму клопатаў мала. Абяцанага гарнізона няма. І калі яшчэ будзе?

Пра тое, што ён прызначан бургамістрам, Аўгуст Эрнэставіч нікому не гаворыць. І жонцы загадаў, каб маўчала. Немцы ваююць, а ім тут жыць... Тым болей што па мястэчку паўзуць чуткі пра партызан. Не ўсе тыя, што патрулявалі па вуліцах з вінтоўкамі, і нават не ўсе ў вайсковым адзенні падаліся ўслед за арміяй. Некаторыя асталіся тут, блукаюць па лясах. Тры дні назад на шашы — гэта ад мястэчка якіх-небудзь дзесяць кіламетраў — разбілі дзве нямецкія машыны, салдат і афіцэраў пазабівалі — страх... Гертруда Паўлаўна чула пра гэта можа ад дзесяці чалавек.

У доме Аўгуст Эрнэставіч не начуе. Ці далёка да бяды? Хто перашкодзіць тым, што ў лесе, прыйсці сюды... Прыцемкам, калі не віжуе чужое вока, захапіўшы дзяружку і кажух, Крамер кіруецца на агарод, у кіяшныя бадылі, дзе стаіць невялічкі саламяны буданчык.

Вядома, і тут не схавішча, але калі прыйдуць у двор, пачнуць ламацца ў дзверы, можна пачуць, зашыцца куды-небудзь глыбей.

Ноччу ён доўга не спіць. Не лета ўжо, з ваколіцы цягне зябкасцю. Праз дзірку ў шалашыку відаць кавалак неба, на

ім па-асенняму чыстыя зоркі. Глуха, дзіка ў мястэчку. Ноччу ні аганька, ні зыку. Аўгуст Эрнэставіч ляжыць, думае. Завіхурылася жыццё. Падхопіць яго, як саломіну, закруціць у шалёным віры, паспрабуй, знайдзі ціхае прыстанішча. Хіба ён хацеў быць бургамістрам? Згоды не пыталіся, прызначылі, а як цяпер будзе?

Аўгуст Эрнэставіч перабірае ў памяці вялікія і малыя падзеі свайго мінулага жыцця і не знаходзіць нічога падобнага на сённяшняе становішча. Былі і няўдачы, і згрызоты, але хоць ясна было, што рабіць. Жыў сумленна. Наўрад ці знойдзецца чалавек, якому ён зрабіў вялікую крыўду. А што наперадзе?..

Засынае пад раніцу. Спіць нервова, пакутліва...

Як бургамістр, Крамер яшчэ і пальцам не паварушыў. Адозвы, якія пакінуў маркграф, ляжаць у сенечках, прыхаваныя ў старой шафе. Што ў тых адозвах? Загад усім, хто дзе-небудзь працаваў, вярнуцца на ранейшае месца. Папярэджанне насельніцтву не хаваць агнястрэльнай зброі, не даваць прытулку пераапранутым чырвонаармейцам, здаць нямецкім уладам радыёпрыёмнікі. За невыкананне кожнага з патрабаванняў мера пакарання адна — смерць. Крута бяруць, але ўсё гэта пакуль што не болей, чым паперка, пусты гук. Трэба, каб за словамі стаяла рэальная сіла, а яе няма, у мястэчку — ніводнага нямецкага салдата, таму Аўгуст Эрнэставіч і не расклейвае адозваў. Пакуль што лепш не высоўвацца...

Ніхто не мусіў ведаць аб прызначэнні Аўгуста Эрнэставіча бургамістрам, але неяк жа ўведалі. Папаўзла пагалоска. Прываліў віншаваць Забела, млынар, яго Крамер менш за ўсё баяўся — сякія-такія сувязі меліся да вайны. Млынар задаволена загудзеў:

— Вы, значыцца, цяпер наша ўлада. Накшталт каменданта. Яй-богу, добра, што вас паставілі. Наш усё-такі чалавек. Народ ведаеце. Я баяўся, прыедзе, думаю, які з Германіі, паспрабуй, удзяўбі яму, што ды як...

— Ды не, Панас Дзянісавіч, якая ўлада. Яшчэ віламі па вадзе пісана...

— Правільна робіце, дарагі,— адразу зразумеў Забела.— Паперад бацькі ў пекла не сунься. Яшчэ ўсё можа быць. Я

вам вось што скажу,— млынар знізіў голас да шэпту.— Начуйце пакуль што ў мяне. Неспакойна кругом. Не дай бог бяды...

Вечарам Крамер у Забелы. Дом у таго — харомы. Нездарма хадзіў, абсыпаны мучным пылам. Стол застаўлены закускамі, гарэлкай, шкварыцца на таганку яечня — не таячыся, паказвае млынар, што госць жаданы. Ноч правялі за чаркай, у прыемнай гутарцы.

— Абапірацца, дарагі, трэба на разумных людзей,— як бы паміж іншым устаўляе Забела.— Якія жыццё разумеюць і не падвядуць цябе. Ёсць такія. Пашукаўшы, знойдзеш. Вось, скажам, Шэлег — з камунгаса. Чалавек бачыў далёка, яшчэ калі бальшавікі тут былі. Праўда, ледзь не ўходалі яго. Схаваўся. Цяпер тут, бачыў днямі.

— За што яго?

— За тое, што разумеў, адкуль вецер. На сябе спадзяваўся...

Упершыню за ўсе апошнія дні спаў Аўгуст Эрнэставіч спакойна, сноў не памятаў, вяртаючыся назаўтра апоўдні пасля пахмелкі трохі пад мухай, куды весялей глядзеў на хмурыя местачковыя хаты.

У Забелы Крамер правёў ночы тры: няёмка стала турбаваць, дый, мабыць, перасталі быць тайнай для іншых вячэрнія візіты на чужую вуліцу. Хіба ад каго схаваешся? Але набіўся чалавек яшчэ болей знаёмы — складскі вартаўнік Зуй, нестары, пануры, з глюгматым, як у турка, носам,— невядома, як ён уратаваўся ад прызыву. Крамер Зуя недалюбліваў, нячысты на руку, цішком гандляваў лесам, але выбіраць не прыходзілася. Пайшоў і да яго начаваць.

Зуй разам з жонкай — чорнай, высокай і худой, як палка,— частаваў, гучна ікаючы, падліваючы ў шклянку гарэлкі, хваліў вялікі розум госця, яго справядлівую натуру, але тут жа, за сталом, завёў непрыемную размову.

— То, пане камендант, сваім дурным розумам я разумею так — зноў вярнулася ўласнасць. Немцы ўласнасць любяць, прызнаюць. Дзесяць маіх дзесяцін адышло пад калгас. А цяпер жа тая зямля — мая... На трох маіх дзесяцінах бульба. То магу я яе для сябе выкапаць. Я ў калгасе не быў, аднак жа зямля мая...

— Пачакаць трэба,— хмура адказаў Крамер.— Прыедуць немцы, тады. Яшчэ нічога невядома.

— То ж зіма на носе. Пойдуць дажджы, хліпата. Дабро загіне...

Спаў Крамер у Зуя дрэнна, бадай усю ноч не заплюшчыў вачэй, варочаўся, думаў. Аднекуль наплыло — робіць не тое, што трэба. Хавацца — палавіна справы. Дай волю такім, як Зуй, з роднага бацькі сарочку здымуць...

Назаўтра, адмовіўшыся ад Зуевага сняданку, прайшоўся па мястэчку, вітаючыся з сустрэчнымі, не могучы адбіцца ад настойлівага жадання з кім-небудзь пагаварыць, параіцца.

Успомніў Забелавы словы пра Шэлега, узрадаваўся. Трэба акружаць сябе людзьмі, шукаць памочнікаў, іначай прападзеш. Збольшага загадчыка камунгаса ведаў, прыходзілася разы два сустракацца — дзелавы, стрыманы. Не ведаў, дзе жыве. Дапытаўшыся, завітаў — Шэлег, стоячы ў палісадніку, замазваў кітам шыбы.

— Да вас я, Шэлег,— сказаць «пан» не адважыўся.

— Рад вас бачыць, пан бургамістр.

— Ведаеце ўжо?

— Чуў. Мяне асабіста навіна ўзрадавала.

— Давайце, калі маеце час, пройдземся. Хачу з вамі пагаварыць.

— Запрасіў бы ў кватэру, але там непарадак. Рамонт...

— Дзякую, я пачакаю.

Некалькі хвілін, пакуль Шэлег мыў рукі, пераапранаўся, Крамер выхаджваў па дашчаным тратуары пад вокнамі яго дома. Потым пайшлі пад акацыі, у школьны сквер, прыселі на лавачку.

— Што вы думаеце рабіць, Шэлег?

— Неяк трэба жыць.

— А калі я вам прапаную работу?

— Ну што ж, і працаваць трэба.

— Маім намеснікам.

— Не, пан бургамістр. Заслуг перад немцамі я не маю, і гэта будзе незразумела. Я сам хацеў зайсці да вас. Бацька мой пры цары яшчэ трымаў майстэрню, ну і я валодаю рамяством. Рамонт швейных машын, бляшаная справа — вёдры, тазы.

Цяпер гэта асабліва патрэбна. Думаю прасіць у вас дазволу на майстэрню.

— Ну што ж,— у голасе бургамістра несхаваны жаль.— Не буду пярэчыць. Я і сам, калі гаварыць праўду, думаў гэтым заняцца...

Іван Пракопавіч адчувае — Крамера штосьці прыгнятае, непакоіць.

— Хацеў я з вамі параіцца,— нарэшце гаворыць бургамістр.— Мала асталося адукаваных людзей. Дый мала каго ведаю я... Як вы думаеце? Некаторыя хочуць захапіць калгасныя пасевы. У асабістае карыстанне. На той аснове, што пасевы на зямлі, якая ім раней належала...

— Думаю, гэта несправядліва, пан бургамістр. Трэба падумаць пра ўсё насельніцтва. Яно засталося без хлеба. На мой погляд, найлепшае выйсце — раздзяліць пасевы. Не мінаючы сем'яў рабочых, служачых. Чым яны вінаваты, што не займаліся сельскай гаспадаркай?

Іван Пракопавіч бачыць: бургамістр пасур'ёзнеў, задумаўся, на твары — нерашучасць.

— Як паглядзяць на гэта немцы? — няўпэўнена пытае ён.

— Няма часу адкладваць. Ураджай можа загінуць. Дый людзі, не пытаючы дазволу, яго ўбіраюць. Хто як можа.

— Можа, няхай ідзе, як ідзе?

— Тады адны нахватаюць па горла, а другім не застанецца нічога. Вы ж самі бачыце. Пачнецца голад.

Падумаўшы, Крамер згаджаецца.

— Вы маеце рацыю. Аднак хто гэта возьме на сябе? Афіцыйна даваць распараджэнне я не маю права. Не маю інструкцый.

— Хай зоймецца той, хто займаўся раней. Я маю на ўвазе агранома Драгуна. Сумленны спецыяліст. Брыгадзіраў ведае, калгаснікаў. Я яму вашы словы перадам.

— Перадайце. Няхай Драгун. Немцы патрабуюць, каб усе вярнуліся да ранейшай работы...

Бургамістр падняўся і развітаўся прыязна, як з добрым знаёмым.

## 2

Драгун жыве ў прасторным доме, які некалі належаў мясцоваму папу. Тут пасяліліся дзве сям'і — аграноaccess і дырэктара МТС. У пэўнай меры агроном можа лічыць сябе мясцовым — працаваў тут, пры МТС, калі не было яшчэ раёна, дый родам недалёка, з вёскі Грамы, якая ад мястэчка вёрст за дванаццаць.

Вечарам у шыбіну аграномавага акна нехта пастукаў. Драгун выйшаў на ганак, прыгледзеўся. Ля веснічак — высокая постаць.

— Хто там?

— Ідзі сюды, Васіль Іванавіч. Не бойся — свае.

Голас знаёмы, а чый — разабраць цяжка.

— Пачакайце, заскочу ў хату, накіну пінжак.

Праз хвіліну, падышоўшы да веснічак, агроном пазнае загадчыка камунгаса.

— Вы не прадаяце медны самавар? — шэптам пытаецца той.

Гэта пароль — узрушаны агроном маўчыць. Маўчыць і Шэлег — чакае адказу.

— Якую хочаце цану? — нарэшце таксама шэпча Драгун.

Двое, якія ведалі адзін другога як звычайныя людзі, раённыя работнікі, адчуваюць сябе няёмка. Выходзяць з двара, кіруючыся ў завулак, які вядзе да цагельні, а там далей — на ваколіцу. Там шэрань ночы, бязлюддзе.

— Не думаў, што ты,— прызнаецца Драгун.

— Я і сам не думаў.

— Многа нас?

— Не пытай.

— Прабач, я яшчэ не адвык.

За цагельняй — кар'еры, у якіх капаюць гліну. Курганкі пяску — у змроку здаецца, што яны выскакваюць насустрач. Прыселі на адзін, агледзеліся. У мястэчку брэшуць сабакі, недзе пазваньвае навешаным званком спутаны конь. Ноч зорная, цёплая.

— Заўтра табе трэба ісці на работу,— ціха гаворыць Шэлег.— Як і раней — аграномам. Дамовіўся з бургамістрам...

— Ён таксама наш? — узрадавана ўсклікае агроном.

Шэлег на хвіліну змаўкае.

— Вельмі гарачы. Усё хочаш ведаць. Хіба не папярэджвалі?

— Ну, маўчу, маўчу...

— Немец ён. Можна было загадзя разлічваць, што гэтыя за яго ўхопяцца. Але хто тады думаў?..

Недзе за чыгункай — гулкі, раскацісты выбух. Абое падхопліваюцца, насцярожана прыслухоўваючыся. Праходзіць некалькі хвілін. Нішто больш не парушае цішыні.

— Дзеці, мусіць,— заўважае Шэлег.— Гранату кінулі. Мой нядаўна абойму патронаў прывалок. З разрыўнымі кулямі...

Драгун дастае пачак папярос, тоячыся, чыркае запалкай. Закурваюць, кураць у далонь.

— Пра Крамера я наводзіў спраўкі,— напаўголаса працягвае Шэлег.— Нічога благога не гавораць. Паўгода сядзеў у турме, пакуль ішло следства. Апраўдалі... На службу пайшоў без ахвоты. Па-мойму, нешта савецкае асталося ў ім. Але даверац не прыходзіцца. Пастаўлены немцамі. Увесь тыдзень дома не начуе. Значыць, баіцца...

— Ты думаеш?..

— Нічога я не думаю. Будучае пакажа. Галоўнае, Крамер прыйшоў да мяне сам. Стварае апарат. Важна падсунуць яму нашых людзей...

Абодва маўчаць. Драгун, не патушыўшы, пстрыкае недакуркам,— апісаўшы агністую дугу, той падае ў кар'ер.

Недзе за чыгункай яшчэ адзін выбух.

— А што мне рабіць у гэтага Крамера?

Шэлег доўга маўчыць.

— Дырэктыў пакуль няма. Але будуць. Трэба легалізаваць становішча і дзейнічаць. Момант якраз выгадны. Па чутках, немцы не ўсюды распускаюць калгасы. Чаму, ты не думаў?

— Прызнацца, не думаў.

— Не вельмі хітрая арыфметыка... Будуць фашысты грабіць насельніцтва? Будуць. Няма ніякіх сумненняў. А на арцельнае дабро ім проста лягчэй накласці лапу...

— Правільна.

— Давай рашаць. Калі два тыдні назад было правільна спальваць пасевы, то цяпер самае вернае — раздаць іх па дварах, падзяліць. Каб немцам не дасталося ні зерня...

— Верна. Я так і гаварыў! — усклікае Драгун.— Такую каманду даў...

— Камандуй цяпер ад імя бургамістра. Ён баіцца, хістаецца, але на выпадак чаго абяцаў падтрымаць. Калі ўдасца, то мы двух зайцаў заб'ём: людзям хлеб і немцам дулю пад нос. Галоўнае — скарэй. Пасевы дзяліць на ўсіх — на калгаснікаў, рабочых, служачых...

Абодва ўзрушаныя — абстаноўка нязвычная, наперадзе нічога пэўнага. Крамер — не немцы. Як усё павернецца, калі немцы асядуць тут?

— Пра фронт нічога не чуваць? — пытаецца Драгун.

— Нічога.

Разыходзяцца па адным. Постаць Драгуна растае ў змроку, а Шэлег яшчэ сядзіць. Неба светла-шэрае, зорнае, над лесам — срабрысты сярпок месяца. Местачковыя хаты як суцэльная цёмная сцяна. Плыве, заглушаючы ўсе іншыя пахі, церпкі водар атавы. Блізка поўнач. Шэлег падымаецца, ідзе ўслед за Драгуном. У цёмным правулку трашчыць пад нагамі сухое вецце. Правулак гразкі, вясной яго загацілі. Вуліца стаілася. Ні аганька ў вокнах. Прайшоўшы метраў з паўсотні, Шэлег раптам спыняецца: у садку насупраць прыглушаныя галасы, смех. Вымае папяросы, закурвае. Як бы весялей стала: не ўсе спяць...

* * *

У наступныя два тыдні ў жыцці Аўгуста Эрнэставіча адбылося столькі падзей, столькі прыйшлося прыняць рашэнняў, што ўсяго гэтага хапіла б на цэлае жыццё...

Немцы прыкацілі ўсемярых — шэсць жандараў на чале з начальнікам капітанам Швальбе, немаладым, хударлявым, з жоўтым хваравітым тварам. Жандары пажылыя, дзябёлыя, за выключэннем аднаго, такога ж высокага, перахлябістага, як і сам начальнік. Прозвішча ў гэтага польскае — Красоўскі, хоць назваўся немцам і без запінкі гаворыць па-нямецку.

У жандараў дзве машыны — легкавая і вялікі грузавік-фургон, па самы брызент набіты скрынкамі, мяшкамі, вінтоўкамі і іншымі прыпасамі. Не раздумваючы, жандары занялі

пад жыллё і службовыя памяшканні школы. На другім паверсе кожны аблюбаваў сабе пакой, а капітан заняў два — пад спальню і кабінет.

На другі дзень, уладкаваўшыся, Швальбе выклікаў Крамера. Класны пакой стаў досыць утульным кабінетам: ля сцяны — засланы зялёным сукном стол, мяккія крэслы, канапа, на сцяне партрэт Гітлера і вялікая нямецкая карта еўрапейскай часткі Савецкага Саюза. Выгляд у Швальбе прыветлівы, голас мяккі, ціхі, тон — даверлівы. Толькі ў светлых, халаднаватых вачах — аганёк насцярожанасці.

— Рад другі раз сустрэцца, пан Крамер. Прабачце, учора проста не меў часу як след пазнаёміцца. Сядайце...

На стале — вялікая чорная бутэлька і дзве срэбраныя чарачкі. Капітан наліў:

— За знаёмства, пан Крамер. Рад бачыць у вашай асобе суайчынніка.

— Я тутэйшы немец, пан Швальбе.

— Не мае значэння. Немцы, дзе б яны ні жылі,— адна сям’я.

Выпілі. Пітво церпкае, моцнае.

— Французскі каньяк,— ахвотна тлумачыць капітан.— Францыя — цуд. Сонца, віно і жанчыны...

Швальбе ні аб чым не распытвае. Павольна, расцягваючы словы, расказвае пра службу, пра сябе.

— Я не салдат, пан бургамістр, а паліцэйскі чыноўнік... Жандармерыя — ахова парадку. Вядома, у вайну і жандары страляюць. Непрыемная рэч — вайна... Я пакінуў у Германіі пасаду шэфа паліцыі, зялёны, поўны спакою гарадок. Там у мяне жонка і дзве дочкі. Дочкам час выходзіць замуж. Але жаніхі на вайне, а дочкі ў арбайтслагеры. У Германіі цяпер або працуюць, або ваююць... Фрау адна дома...

Швальбе дастае партманэ, вымае тры фотакарткі.

— Фрау Марта,— па чарзе перадаючы фатаграфіі ў рукі Крамера, гаворыць ён.— Гэта — Эльза, старэйшая дачка, а гэта — Інгеборг, малодшая. Дочкі — красуні...

Не спяшаючыся, выпілі яшчэ па шкаліку — за фрау, за дачок.

— Спадзяюся на поўнае ўзаемаразуменне з вамі, пан бургамістр. Нам трэба моцна трымацца за рукі. Дарэчы, вам вядома становішча на фронце?

— Нічога не ведаю.

— Ахвотна раскажу.— Жандар устае, падыходзіць да карты.— Вось гэта Кіеў, бачыце? Учора ён заняты нашымі войскамі. Акружана і паланёна вялікая армія. Савецкія генералы канчаюць самагубствам. Кіеўская аперацыя — цуд... Па срэбранай чарачцы — за Кіеў, за перамогу нямецкай зброі...

Без прывычнай закускі ў галаве Аўгуста Эрнэставіча злёгку пашумлівае. Швальбе стаіць ля карты з выглядам стратэга, тон упэўнены, з уладнымі, стальнымі ноткамі:

— Ленінград, цытадэль бальшавізму, акружаны. Яго на днях возьмуць. Стрэлы нямецкага наступлення,— жандар нібы сячэ рукой паветра,— нацэлены на Маскву. Праз месяц вайна закончыцца. Да наступлення халадоў...

Крамер збянтэжаны. Ён і думкі не дапускаў, што ўсё скончыцца так хутка. На карце, якую ён бачыць перад сабой, прыколатыя кнопкамі нямецкія арлы. З поўначы на поўдзень іх цэлы ланцуг. У напрамку Масквы клін як бы завастраецца.

Швальбе падымае чарку за Маскву, за хуткую перамогу...

— Скажыце, пан Крамер, ці многа ў гэтым паселішчы камуністаў, савецкіх функцыянераў і яўрэяў? Жандармерыі пажадана мець спіскі... Неабавязкова іх зараз жа арыштоўваць, заключаць у канцлагеры ці знішчаць. Але ведаць трэба. Наша служба...

«Вось куды хіліш,— мільгае ў думках.— Мякка сцелеш, ды як паложыш... — імгненна ўзнікае непрыхільнасць да Швальбе: — Падладжваўся, выходзіць, спецыяльна, каб выведаць, зрабіць даносчыкам...»

— Не думаю, каб тут было многа такіх,— раздумліва адказвае Крамер.— Можа, іх наогул няма. Мястэчка, пан капітан, занята немцамі праз два месяцы пасля пачатку вайны. Усе, хто хацеў адсюль выехаць, лёгка гэта зрабілі...

— Не выключана, што ёсць спецыяльна пакінутыя агенты.

— Магчыма. Але што яны значаць перад сілай германскай арміі? Вы самі сказалі,— праз месяц вайне канец.

— Гэта ўсё так, пан Крамер. Але ж...

— Хацеў яшчэ спытаць вас, пан капітан. Для мяне важна. У адозвах камандавання сказана, што ўсе мусяць вярнуцца на ранейшае месца работы. Незалежна ад пасады. Ці азначае гэта, што немцы будуць караць савецкіх кіраўнікоў?

На твары жандара — замяшанне, якога не можа схаваць. Апусціўшы вочы, як бы выцягвае з сябе:

— Скажу вам, як немец немцу, пан бургамістр... Вайна яшчэ ідзе... Вялікая Германія зацікаўлена ў тым, каб на занятых ёю землях было спакойна. Нам не выгадна, каб тут панаваў беспарадак... Таму мы возьмем на службу ўсіх, хто да нас прыйдзе.

— Значыць, ранейшая дзейнасць ні для кога не можа быць віной?

— Камісараў і яўрэяў мы будзем караць.

— Але тут няма такіх.

— Вы, я бачу, вельмі даверлівы, пан бургамістр.

— Я жыў сярод гэтых людзей. Добра іх ведаю.

Тон размовы адразу мяняецца.

Швальбе неяк звяў, сеў у крэсла — уздыму хапіла ненадоўга. Голас слабы, рухі старэчыя, толькі вочы паблісквaюць. Зноў сцеле лістам:

— Вы для нас знаходка, пан Крамер. Мне будзе вельмі прыемна працаваць з вамі. Вы ведаеце насельніцтва, яго настроі. Гэта вельмі каштоўна. Скажыце, партызаны ёсць па лясах?

— Ёсць.

Капітан збянтэжаны:

— У гэтай мясцовасці? Я хачу сказаць — блізка?

— Блізка, пан капітан. Тыдзень назад на шашы разбіты дзве нямецкія машыны. Адсюль якіх-небудзь дзесяць кіламетраў.

— Так, так,— спалохана паўтарае Швальбе.— Па дарозе я штосьці падобнае бачыў. Машына зусім згарэла. Думаў,— фронт, баі.

— Рускія тут адыходзілі без бою.

— Што рабіць, пан бургамістр? У мяне толькі шэсць жандараў. Трэба неадкладна выклікаць спецыяльны атрад.

Крамер не можа сабе гэтага растлумачыць, але яму прыемна бачыць спалоханы твар жандара.

— У вас ёсць зброя, пан капітан. Чаго баяцца? Я адзін сядзеў тут ледзь не два тыдні. І нічога — жывы.

Капітан устаў, нервова пахаджвае з кута ў кут.

— Пан бургамістр, прашу вас... Памажыце стварыць паліцыю. Для аховы парадку і барацьбы з ляснымі бандытамі. Пакуль паліцыі няма — прашу прызначаць начных вартаўнікоў. Па дзесяць чалавек на вуліцу...

На гэтым размова канчаецца. Крамер развітаўся з жандарам задаволены. Унутрана ён адчувае: Швальбе спасаваў, таму воляй-няволяй схіліўся перад ім. Радасна ад думкі: «У Швальбе — жандары, але ён баіцца...»

## 3

Раённая ўправа, хоць пакуль і без шыльды, размяшчаецца ў памяшканні пасялковага Савета. Будынак новы, каменны, атулены старымі бярозамі, і месца выгаднае — у самым цэнтры мястэчка. Ёсць ужо ў Аўгуста Эрнэставіча ўласны кабінет і сякія-такія падначаленыя. Перакладчыцай запрошана настаўніца нямецкай мовы, жонка старшыні пасялковага Савета, які ў арміі. Яна адмаўлялася, але Аўгуст Эрнэставіч настояў на сваім — такі чалавек яму асабліва патрэбен. Справа ў тым, што ў нямецкіх паперах бургамістр адчувае сябе не дужа ўпэўнена. Па друкаваным разбірае, а па пісаным — з вялікай натугай. Бывае, што і ў друкаваным трапіцца слова, якога зроду не чуў.

У крэсле загадчыка агульнай канцылярыі — пасівелы, згорблены стары па прозвішчу Рак-Кандэрскі. Апошнія гады ён жыў з пенсіі. На службу набіўся сам. Напаткаўшы на вуліцы бургамістра, гэтак пачаў бэсціць савецкую ўладу, што аж Крамеру няёмка стала. Цяпер прыходзіць у канцылярыю раней за ўсіх, уссунуўшы на нос перавязаныя медным дротам акуляры, корпаецца ў паперах і ўвесь дзень сіпіць на маладых сакратарак і машыністак. Аграном Драгун, першы, каго бургамістр запрасіў на службу, сталага месца не мае — ездзіць па вёсках, наладжвае дзейнасць млыноў. Хлеб — самае вострае, што цяпер трэба бургамістру. Без хлеба, без тых мізэрных паўкілаграма на дзень, нікога працаваць не

прымусіш, як ні палохай, якія ні вывешвай загады. А здабыць зерне ці муку можна пакуль што толькі адным шляхам — праз мукамольны збор на млынах.

У левым крыле будынка — фінансавы аддзел, бухгалтэрыя. Грошы ідуць ранейшыя, савецкія, але страшэнна ўпалі ў цане. Дзесяць рублёў прыроўнена да адной нямецкай маркі. Але і за маркі нічога не купіш. Абмен рэчавы, натуральны — метр міткалю — пуд бульбы. Кірмашу ў мястэчку няма, і няма ніякай магчымасці яго аднавіць. Ніхто нічога не вязе прадаваць...

Бальніца — хоць няма ніводнага ўрача — працуе, а школы зачынены.

Аўгуст Эрнэставіч задаволены: няхай сабе яшчэ нясталы, але ўсё ж парадак. Тысячы людзей, якія насяляюць мястэчка і навакольныя вёскі, не могуць жыць, не захоўваючы пэўных правіл паводзін, не абслугоўваючы адзін аднаго. Хіба можна ўявіць сабе жыццё без бальніцы, аптэкі, без карабка запалак і, калі на тое пайшло, без пажарнай каманды? Парадак паступова пачаў наладжвацца, усё гэта дзякуючы яго, Крамера, клопатам.

Штодня з раніцы Аўгуст Эрнэставіч выклікае да сябе жыхароў: чыгуначнікаў, работнікаў пошты, бухгалтараў — усіх, хто да вайны займаў якую-небудзь пасаду. Некаторыя ісці на работу не хочуць, спасылаючыся на тыя ці іншыя прычыны, але бургамістр не пагражае, не абражае крыкам або якім-небудзь грубым словам. Аргументы ў яго досыць важкія, і ён ахвотна выкладвае іх перад кожным. Ніхто з жыхароў не вінаваты, гаворыць ён, што пачалася вайна і ў мястэчка прыйшлі немцы. Ніхто нічога не можа змяніць. Трэба жыць, значыць, трэба працаваць. Тым болей што нямецкія законы — суровыя. Навошта ж наклікаць на сябе бяду, калі яе можна абмінуць?..

Крамер пачынае ўнутрана ганарыцца сабой і тым становішчам, якое заняў у мястэчку. Яму цяпер здаецца, што сапраўды ў раёне няма чалавека, які б мог замяніць яго, стаць бургамістрам. Ну хто б здолеў так размаўляць з немцамі, з тым самым Швальбе, як гэта робіць ён, Крамер? Швальбе ён паставіў на месца, даўшы зразумець, што бургамістр — пер-

шая ў раёне фігура. Цяпер начальнік жандармерыі ходзіць да яго, Крамера, ва ўправу, а не выклікае, як у першыя дні, да сябе.

З паліцыяй уладжана. Не хто іншы, як ён, Крамер, знайшоў для Швальбе начальніка паліцыі. Праўда, чалавек, які сам прыйшоў на кватэру бургамістра, назваўшыся Плішчынскім, не спадабаўся. Відаць, хлуслівы — спачатку заявіў, што вярнуўся з турмы, з лагера, потым, забыўшыся, пачаў выхваляцца, што лейтэнант добраахвотна здаўся немцам, вайсковую службу ведае. Ён прасіўся на пасаду начальніка паліцыі вельмі настойліва, і бургамістр накіраваў яго да Швальбе. Той наогул не дапытваецца — хто ды адкуль? Хочаш у паліцыю — калі ласка, бяры вінтоўку, патроны, павязку на руку.

Крамера непакоіць такая лёгкасць. У паліцыі ўжо дванаццаць чалавек, з іх толькі шасцёра мясцовых. Астатнія або прыблудзілі немаведама адкуль, або жывуць у мястэчку год ці два. Паспрабуй, разбярыся, што за людзі. На мясцовага можна ўсё-такі спадзявацца — тут яго сям'я, набытак, хоча не хоча, а раз узяў вінтоўку, будзе адбівацца, калі нападуць тыя, з лесу. А прышлыя? Разбягуцца, як рудыя мышы, пры першай небяспецы. Паспрабуй, спытай з іх...

Швальбе не такі ўжо благі, як здалося ў першыя дні. Падараваў прыёмнік, новенькі «тэлефункен», і Аўгуст Эрнэставіч мае магчымасць штовечар слухаць нямецкія перадачы з Берліна. Пакуль яшчэ не ўкладваецца ў свядомасці, але, відаць, бальшавікі вайну прайгралі канчаткова. Заняты ўжо і Бранск, і Арол, і Вязьма, акружана і ўзята ў палон велізарная армія, немцы пад Масквой.

Патаемна, палохаючыся ўласнага ценю, Аўгуст Эрнэставіч шукае іншы раз хвалю Масквы. Гертруда Паўлаўна ў такія хвіліны выходзіць на ганак, на варту, пільна ўглядваючыся ў цемень ночы — не дай бог хто-небудзь прыліпне да акна, падслухае, чым займаецца бургамістр.

Перадачы з Масквы не пераконваюць Аўгуста Эрнэставіча ў тым, што справы ў немцаў пахіснуліся. Факт застаецца фактам — адступленне па ўсім савецкім фронце, баі пад Масквой, Ленінградам. Дый голас маскоўскага дыктара ледзь чуваць — увесь эфір запоўнены нямецкімі перадачамі.

Па-нямецку гавораць і Парыж, і Варшава, і Прага, і Бялград. Свет стаў нямецкім. Міжволі Аўгуста Эрнэставіча захліствае захапленне, перамешанае са страхам. Якая магутная Германія!.. Як шырока сягнулі немцы ў сваіх дамаганнях! Мала Еўропы ім — яны і ў Афрыцы, у далёкай Лівійскай пустыні, пад самым Егіптам... Хто мог падумаць, што Германія, пераможаная ў першай вайне, гэтак узвысіцца! Відаць, сапраўды незвычайны чалавек гэты Гітлер, які з'яднаў немцаў, зрабіўшы іх неадольнай, жалезнай сілай!..

У самога Аўгуста Эрнэставіча планы сціплыя. Ён не збіраецца туды, у далёкі, ахутаны прывабнай заслонай таямнічасці фатэрлянд, астанецца тут, тут цяпер таксама Германія. Ён, можна лічыць, напалову рускі і пражыве сярод людзей, якіх ведае лепей, чым немцаў. Праўда, яго арыштоўвалі, паўгода трымалі ў турме, але ўсё адно рускія — харошы народ. Гэтак гаварыў яшчэ нябожчык бацька. У іх шырокая душа і добрае сэрца. Яны не ўмеюць доўга помніць крыўды, падзеляцца, калі трэба, апошнім. І самае галоўнае — яны не глядзяць звысока на людзей другога паходжання: немец ты, яўрэй, цыган ці татарын. Гэтага не разумеюць немцы, якія прыйшлі сюды, не разумее той жа Швальбе.

Наогул, не ўсё падабаецца Аўгусту Эрнэставічу ў паводзінах адзінапляменнікаў. Яны высакамерныя, пагардліва ставяцца да ўсяго, што не адпавядае іх уяўленням. Нават у дачыненні да яго, немца, які нарадзіўся і жыў тут, у Расіі, іншы раз адчуваюцца ноткі прытоенай перавагі. І слова выдумалі — «фольксдойч». Нібыта немцы, якія жывуць за межамі Германіі, не такія, як там, у фатэрляндзе...

Яшчэ больш непакоіць Аўгуста Эрнэставіча тое, што ён штодня вычытвае ў нямецкіх газетах, чуе па радыё. Нібы аслеплі там, у Берліне!.. Бальшавікі — варвары, Расія — дзікая краіна, якую насяляюць цёмныя, злосныя мужыкі! Гігант на гліняных нагах... Няпраўда гэта, няўжо там, у Германіі, нічога не разумеюць? Вядома, тут, у Расіі, было такое, што сам ён, карэнны яе жыхар, не можа апраўдаць. Узяць хоць бы той яго арышт — нізавошта шэсць месяцаў адседзець у турме. Хапала і безгаспадарчасці. Аўгуст Эрнэставіч добра ведае, колькі гніло, а затым з незвычайнай лёгкасцю спісвалася дзелавой

драўніны, на якую затрачваліся велізарныя грошы. Але ж нельга закрываць вачэй на тое добрае, што паявілася толькі пры бальшавіках. Ён помніць старое жыццё — яно гэткае ж далёкае ад савецкага, як неба ад зямлі!.. У Савецкім Саюзе не знойдзеш непісьменнага, трактары, машыны, электрычнасць — хіба ж гэта варварства? І галоўнае — паноў няма, ні перад кім не трэба здымаць шапкі. Які-небудзь грузчык мог напісаць самому наркаму... Немцы гэтага не разумеюць, нібы наўмысна адварочваюцца. Гэта і палохае Аўгуста Эрнэставіча, нават тады, калі ён слухае па радыё пераможныя нямецкія рэляцыі. Такія думкі здаюцца крамольнымі, бургамістр ні з кім не дзеліцца...

Тым не менш Аўгусту Эрнэставічу падабаецца, што ўсе, каго ён ведае і не ведае, вітаюцца з ім першыя, аказваюць усялякія знакі ўвагі. Ён нават памаладзеў за апошні час. Ходзіць выпраміўшыся, не сутуліцца.

Кожнага дня, з раніцы, прыйшоўшы ва ўправу, пераказвае апошнія навіны, пачутыя па радыё. Яго слухаюць уважліва, не перабіваючы ніводным словам...

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### 1

Першы снег выпаў рана — у пачатку кастрычніка. Яшчэ не выкапалі бульбы, нават рады скошанай атавы і рудой пажоўклай асакі накрыла белым пухам. Асенні снег доўга не трывае — прыбаўляе слаты. Але гэта верная прыкмета, што зіма ляжа грунтоўна, з парой не запозніцца.

Іван Пракопавіч апошнія дні панылы. Ходзіць, павесіўшы галаву, твар задуменны, хмуры. Кожны, хто зірне на яго высокую, крыху сутулую постаць, убачыць, што жыве ён не весела. Ён не вельмі расхаджвае. Падбірае інструмент, прымае сякія-такія заказы. Майстэрня, пакуль цёпла,— у хлеўчуку, зімой прыйдзецца перабрацца ў хату. За ўвесь месяц здолеў адарвацца толькі ў Кавенькі. Старастам у Кавеньках былы

дарожны майстар Іван Буян, які так і не дачакаўся пенсіі. Заняць гэтую пасаду ўгаварыў яго Іван Пракопавіч.

Вечарам, калі Драгун дома, Іван Пракопавіч ідзе да яго. У скверы ў голых вершалінах таполяў і акацый шастае вецер, пад нагамі апалае мяккае лісце. Паныла, глуха. Немцаў і паліцэйскіх не шмат, яны, відаць, баяцца — праз усю ноч страляюць, стараючыся запалохаць нябачнага ворага. Агні ў вокнах школы, дзе жандармерыя, і ў будынку міліцыі, дзе паліцэйскі ўчастак. Варта цывільная — па вуліцах, збіўшыся ў талаку, ходзяць дзядзькі і дзяды з кійкамі ў руках, гучна, каб надаць адвагі самім сабе, размаўляючы. Пры такіх патрулях можа прыйсці ў мястэчка хто захоча, і ніхто не спытае дакументаў. Але нікога няма...

Увесь апошні месяц Іван Пракопавіч чакае пасланцоў з лесу. Дзіўна, крыўдна, што Мацвееў забыў пра мястэчка, пра іх, падпольшчыкаў. Гэтага нельга растлумачыць захадамі канспірацыі, нельга зразумець, і таму Шэлега ўсё часцей агортвае трывога. Пра партызанскі атрад пасля бою на шашы, які быў яшчэ ў пачатку верасня, нічога не чуваць. Нібы праваліўся скрозь зямлю. Яшчэ горш тое, што сам ён, Шэлег, нічога не можа зрабіць, бо не ведае, дзе шукаць Мацвеева, яму, спасылаючыся на тую ж канспірацыю, не ўказалі хоць бы прыблізных арыенціраў. На явачных кватэрах у Прудку і Малкавічах нікога не было.

Каторы ўжо раз вяртаецца з пустымі рукамі хітры, увішны Драгун. Пакінуўшы яго ў падполлі, якраз пацэлілі — такія асабліва патрэбны. Але і Драгун пра партызанскі атрад нічога не вынюхаў, хоць, ездзячы па млынах, аблазіў усе закуткі. Надзейна зашыўся ў лясны гушчар Мацвееў, хоць і гаварыў, што лесу не любіць. На сваю рызыку Шэлег з Драгуном зрабілі так, што ў дзвюх вёсках свае старасты. Апрача Буяна ў Кавеньках, свой чалавек у Азярках — былы старшыня калгаса Гопчанка. Былых старшынь, якія цяпер старастамі, чалавек пяць, але астатніх паставілі немцы, і варта прыглядзецца, што яны за людзі.

Драгун прывозіць навіны не радасныя. У мястэчку не так яшчэ, а ў вёсках падымае галаву ўсялякая шваль. Вылазяць, выслужваючыся перад немцамі, кулакі, лішэнцы — ідуць у

паліцыю, становяцца бургамістрамі валасцей. Гэтага трэба было чакаць. У краіне, дзе прайшлі вялікія класавыя бітвы, заўсёды знойдуцца незадаволеныя — яны многае страцілі і цяпер прагнуць вярнуць. Незразумела другое — ідуць часам у паліцыю, бяруць у рукі зброю і тыя, якія нічога не маглі мець супраць савецкай улады. Сярод іх трапляюцца нават былыя актывісты. Навошта паліцыя ім? Ратуюць шкуру, выслужваюцца?.. Прыставіць бы да сценкі, кулю ў лоб — і ўся размова. Няхай не забываюць, што савецкая ўлада тут, у раёне, яна ўсё чуе і бачыць. Але Мацвееў хаваецца. Інакш не вытлумачыш яго паводзін.

Вечарам завітваюць да Драгуна былыя спецыялісты з райза — заатэхнік Куніцкі, прысадзісты, шыракаплечы, але з хітрым, выцягнутым, як клін, тварам і мітуслівымі рухамі, і ветурач Шкірман — прозвішча ў яго нібы нямецкае, але сам тутэйшы, родам з глухой лясной вёскі. Тоўсты, маладжавы Шкірман даўні таварыш Драгуна, разам вучыліся ў сямігодцы, дый працаваць у апошнія гады прыйшлося разам. Да кампаніі іншы раз далучаецца нарыхтоўшчык Піліп Красней — перад самай вайной яго засудзілі за растрату на два гады, але адседзець не прыйшлося. Усе трое ўжо лічацца на службе — у канторы «Заготжывёла», хоць ні жывёлы, ні работы пакуль няма. З усіх толькі Шкірман быў у арміі, трапіў пад Уманню ў акружэнне, але, пераапрануўшыся ў цывільнае, у лагер не трапіў, прыцягнуўся дадому.

У Драгуновай кампаніі, відаць, свае людзі, савецкія, бо ўстрывожаны падзеямі на фронце, якія дзень за днём горш і горш. Немцы пад Масквой. Цяжка паверыць, але гэта так — бургамістр Крамер, прыйшоўшы ва ўправу, першым чынам пачынае пераказваць зводку. У руках немцаў і Вязьма, і Ржэў, і гарадкі, якія не нанесены на карту, па сутнасці, прыгарады Масквы.

Настрой панылы, змрочны,— апускаюцца рукі. Вярэдзяць душу неадступныя пытанні. Няўжо Масква не ўтрымаецца? Якімі довадамі вытлумачыш такое глыбокае адступленне, калі ворагу здадзена велізарная тэрыторыя, багацейшыя раёны, сотні гарадоў. Тут не можа быць гаворкі ні пра стратэгію, ні пра тактыку. Дык што ж гэта — катастрофа? У грамадзян-

скую вайну становішча бывала яшчэ горшае, але хіба можна раўняць? Ваявалі голыя, галодныя. Дзе ж цяпер сіла і тэхніка? Хіба вайна з Гітлерам — такая поўная нечаканасць?..

На гэта няма адказу. Балючыя думкі гудуць роем, гнятуць душу невыносным цяжарам. Недзе, у глыбіні свядомасці, Іван Пракопавіч адчувае, што не ўсё, як трэба, было і да вайны, шмат было незразумелага, але ён гоніць ад сябе гэтыя адчуванні, шукаючы апраўдання ўсяму, што было і ёсць. Калі спавядацца перад сабой самім, то ён не верыць і ніколі не паверыць, што ўсё загіне. Рэвалюцыя, грамадзянская вайна, савецкая ўлада — гэта не толькі падзеі, гэта ў розуме, у сэрцы — новы свет. Ён не можа загінуць, таму што з яго лёсам звязаны лёсы мільёнаў людзей, сэнс іх жыцця... Але ўсё — і там, і на фронце, і тут, у глыбокім варожым тыле,— ідзе не так, як трэба.

У падпарадкаванні Шэлега не чацвёра, як намячалася тады, летам, а трое, і адзін з гэтых траіх для дзела зусім не падыходзіць. Варта смеху, як яго законспірыравалі. Трымаючы ў памяці прозвішча канспіратара — Лабуда — і адрас на ўскраіне мястэчка, Іван Пракопавіч ніколі б не падумаў, што гэтае прозвішча належыць знаёмаму чалавеку.

Да Лабуды пайшоў на другі дзень пасля спаткання з Драгуном. Маленькая пахілая хатка не ад вуліцы, а ў глыбіні двара, за хлявамі — такім аказалася жытло. У хаце поўна дзяцей, здаецца, васьмёра, дзве жанчыны — жонка канспіратара і сястра яе. Самога гаспадара дома не было, адлучыўся, і пакуль Іван Пракопавіч размаўляў з жанчынамі, яму стала ясна, што яны ведалі ўсё. На звычайныя пытанні адказвалі з асцярогай, штохвіліны пераглядваючыся, бялеючы. Нарэшце зайшоў гаспадар — нізенькі, разгублены, з бяльмом на левым воку,— для нечага прынёс у хату ахапак сена, і Іван Пракопавіч адразу пазнаў у гэтым чалавеку дырэктара льнозавода Цярэшчанку. Ільнозавод на другім канцы раёна, кіламетраў за пяцьдзясят, але ж хіба ніхто не ведае ў мястэчку дырэктара? Прыязджаў сюды на нарады, пленумы райкама. Навошта ж яго перахрысцілі ў Лабуду?

Іван Пракопавіч пароля не сказаў. Каб апраўдаць свой прыход і як-небудзь выручыць незадачлівага гаспадара, не

выдаўшы сябе, сказаў, што набірае сабе людзей у майстэрню. Лабуда-Цярэшчанка звяў на вачах.

— Я згодзен,— залепятаў пабялелымі губамі.— Вы павінны мяне памятаць. З Гарохавіч я, з ільнозавода.

— Вас я ведаю як Цярэшчанку.

— Прозвішча двайное ў мяне. Але як мянялі пашпарт, то папрасіў, каб запісалі апошняе...

Тлумачэнне, вартае смеху. Былы дырэктар проста ашалеў ад страху.

— Вось што, Цярэшчанка,— тонам загаду загаварыў Шэлег.— Не ведаю і не хачу ведаць, чаму вы цяпер Лабуда. Але жарты кіньце. Яны дорага каштуюць. Новы пашпарт спаліце... У майстэрню, можа, і вазьму вас. Толькі пазней, зімой...

Выходзячы, Шэлег злавіў удзячныя позіркі жанчын. Зразумелі яны што-небудзь ці не, але непакой іх зменшыўся.

Апошні падначалены Шэлегу чалавек — інжынер лесакультур Дзянісава. Жыве яна на прыватнай кватэры, і, не хочучы ўзбуджаць непатрэбных гаворак, Іван Пракопавіч не адважыўся сам да яе ісці. Сустрэў вечарам на вуліцы. Дзянісава — высокая, па-дзявочаму стройная, са смуглым нервовым тварам. На ёй старэнькае, мабыць, яшчэ студэнцкае, паліто, стаптаныя туфлі, галава павязана сіняй хусцінкай. Прыселі ў скверыку на лаўцы. Ціха назваў пароль. Дзянісава ўстрапянулася, не могучы схаваць збянтэжанасці, адказала.

— Паступайце на службу. У той жа лясгас!

— Працаваць на немцаў? Ні за што!..

— Другіх устаноў, на жаль, няма. Усе нямецкія.

— Як гэта?.. Памагаць ворагу?..

— Установы нямецкія, людзі савецкія.

— Не пайду! — Дзянісава ўскочыла, нервова захадзіла ля лавачкі.— Я не для гэтага аставалася. Наша задача — дыверсійная работа.

Ён схапіў яе за руку, сілком пасадзіў побач з сабой.

— Якую ж дыверсію вы прыдумалі?

Наблізіўшы да яго твар, яна зашаптала:

— Прыдумала... Хацела толькі параіцца. Добра, што знайшлі мяне. Усё вельмі проста. Я натаўкла ў ступе шкла... Гаспадыня не заўважыла. Шкло дробненькае, як мука. Цяпер

трэба прабрацца на пякарню, высыпаць яго ў цеста. Гэта не цяжка зрабіць...

Іван Пракопавіч збоку зірнуў на Дзянісаву — самае большае ёй гадоў дзевятнаццаць — горкае дзеўчанё, якое толькі што закончыла тэхнікум. Уяўная рашучасць ад унутранай разгубленасці. Можа, наадварот,— прыроджаная душэўная неўраўнаважанасць, бо ў саміх рысах твару штосьці няўрымслівае, трапяткое. Падаўляючы пачуццё раздражнення, якое нарастала ў душы, падумаў: «Такіх вось астаўляюць...» Спытаў як мага даверлівей:

— Ты замужам, Надзя?

Яна схамянулася, уздрыгнула, адказаўшы пытаннем на пытанне:

— Хіба гэта мае значэнне? Я камсамолка, сама папрасілася пакінуць мяне тут...

— Я твой кіраўнік. Павінен ведаць усё.

Апусціла галаву, прамовіла ціха, з унутраным болем:

— Была. Мы разышліся.

— Хто твой муж? Ну, той, што быў?..

— Нягоднік. Я жыла з ім толькі тры месяцы.

Задаўшы яшчэ некалькі пытанняў, ён ведаў пра яе ўсё. Родам з Любаншчыны, бацька — сельскі актывіст, забіты кулакамі ў калектывізацыю, дома маці з малодшым братам. Пакідаць тут яе не хацелі, але дайшла да абкама, дамаглася. Муж ашукаў, у яго ўжо была жонка і нават дзіцё. Тут, у мястэчку, яе мала хто ведае, прыехала за тры месяцы да вайны...

— Загадайце, і я прабяруся ў пякарню. Назаўтра ўсе, хто есць гэты хлеб, палягуць...

— Не гавары глупства, Надзя. Хлеба з пякарні немцы не ядуць. Могуць загінуць людзі.

— Хлеб выдаюць тым, хто прадаўся. На работу пайшлі здраднікі. Такіх не шкада.

— Я таксама ем гэты хлеб.

Яна асеклася, вінавата зірнула на яго, пачырванела:

— Дык вы ж ведаеце. І каму трэба, скажаце. Каб не елі...

Яму шкада яе. Бачыў: хварэе, толькі, мабыць, яшчэ цяжэй, на тую самую хваробу, што і ён. Пакутуе ад бяздзейнасці, ад няпэўнасці становішча. Загаварыў, каб падбадзёрыць.

— Вайна пакуль складваецца няўдала, Надзя. Сама разумееш. Ніхто не думаў, што будзе так. Але трэба верыць, што выстаім. Інакш нечага агарод гарадзіць. Павер мне, я помню яшчэ грамадзянскую вайну — і гэтая працягнецца доўга. Нам хопіць работы...

— Дзе цяпер фронт? — ціха спытала яна.

— Не ведаю.

— Дык што ж мне рабіць?

Думка прыйшла нечакана. Дзянісава з Любаншчыны. Там, па чутках, партызаны з першых месяцаў вайны. Можа, там і абласны атрад, Ермаловіч...

— Слухай, Надзя. Чаму б табе не адведаць маці, брата? Пропуск дастанем. Паглядзіш, як там у вас. Можа, завяжаш сувязі з партызанамі. Я раскажу, як і што рабіць...

Яна здзіўлена ўскінула вочы:

— Навошта далёка ісці? Пашліце мяне ў наш атрад. Я туды прасілася з самага пачатку...

— У каго прасілася? — разгублена спытаў ён.

— У райкаме камсамола, ваенкамаце, міліцыі.

Яму хацелася закрычаць, затупаць на яе нагамі — яна ведала тое, што ёй ведаць не трэба; але ў яго не хапіла на гэта сілы: дзяўчына сядзела, даверліва прыхінуўшыся да яго. У голасе просьба, дакор. Прамовіў суха, па-начальніцку:

— Вось што, Дзянісава. Анархію разводзіць нечага. Вы нічога не ведаеце, зразумела? Начальнік ваш я. Пойдзеце дамоў, і ўсё. Інструкцыі палучыце пазней...

Збянтэжаная, збітая з тропу, яна паднялася.

— Зойдзеш праз тыдзень. Да мяне ў майстэрню...

Калі яна пайшла, зноў пашкадаваў яе — прамая, бескампрамісная натура. Такой у падполлі цяжка. Пакажы ёй ворага — будзе страляць, стаяць да апошняга, але хітраваць, выкручвацца не ўмее. Агарнулі нярадасныя думкі: можа, уся моладзь такая? Так яе навучылі, выхавалі. Добра гэта ці дрэнна? Добра там, на фронце, дзе ўсё адкрыта. Тут зусім другое. Успомніўшы пра тоўчанае шкло, усміхнуўся — душа ў дзяўчыны поўная нянавісці...

У Драгуна — два пакоі. Мужчыны, якія ў яго збіраюцца, сядзяць за кухонным сталом у пярэднім, гуляюць у карты,

кураць. Дзверы ў сенечкі прыадчынены — каб выходзіў дым. Гавораць найбольш пра дробязнае — абмяркоўваюць мясцовыя навіны, успамінаюць выпадкі з мінулага жыцця — але за ўсім гэтым тоіцца большае: трывога, разгубленасць, нямая, балючая няўпэўненасць — што будзе заўтра? Нават перасмейваюцца іншы раз, але сапраўднай весялосці няма, яе не ўносіць у мужчынскую кампанію і рухавая, вясёлая Драгунова жонка, якая любіць гасцей. Шкірман, на першы позірк, апатычны, абыякавы, слова з яго не выціснеш; Куніцкі зіркае хітрымі вачамі, тоячы на тонкіх вуснах незразумелую ўсмешку; Красней сыпле жартамі — людзі не падобныя, розныя. Што цягне іх сюды, да Драгуна, зводзіць разам?

Іван Пракопавіч адчувае — мужчыны сыходзяцца не проста. Да вайны кампаніі гэтай не было, нават Драгун са Шкірманам сустракаліся хіба па святах, разы два-тры ў год, а тут зборы вечар у вечар. Нарадзілася штосьці такое, што ўсіх яднае, падымаючы над клопатамі штодзённасці, сямейнымі інтарэсамі. З гэтага пачыналася і ў васямнаццатым годзе. Людзі нейкім унутраным чуццём пазнаюць адзін у другім аднадумцаў.

## 2

Ужо каторы дзень спорны, як з рэшата, дождж, імжа, плывуць над ваколіцай туманы. На шэрым полі там-сям шматкі ярка-зялёнай азіміны, у лагчынах — ніцыя, без лістка вербы. Трохі вышэй на ўзгорках — размытыя рудыя пляшыны суглінку. Пуста, адзінока ў полі — пасля Кузьмы-Дзям'яна статак на пашу не гоняць.

Ёсць нешта маркотна-прывабнае ў асеннім малюнку прытоенага пад хісткай заслонай дажджу мястэчка. Сонца схавалася надоўга за калматыя хмары, нізкае неба вісіць, здаецца, над самымі дахамі. Сена мала, каровы блукаюць па агародах, грызуць збуцвелы кіяшнік, мычаць. Над усім пануюць чорна-шэрыя колеры: мокрае дзерава будынкаў, голыя дрэвы, сады, вымытая, прыбітая дажджом пясчаная вуліца. Гукі прыглушаныя, як і колеры,— аднастайнае шасценне дажджу, пошум ветру...

Іван Пракопавіч злёг: цела як разбітае, агнём гарыць галава. Трэці дзень у гарачцы. Засынаючы, правальваецца ў бездань, прачнецца — у вачах чырвоныя кругі. Жонка кладзе кампрэсы, ходзіць замаркочаная, сумная, як цень. Прыціхшыя дзеці — на кухні.

Вечарам заявіўся Драгун, яго выгляд такі ўстрывожаны, што жонка не затрымала, пусціла да хворага. Іван Пракопавіч чуе знаёмыя галасы ў пярэдняй, потым над сабой, але не можа вырвацца з паўтрызнення. Нарэшце расплюшчвае вочы. На стале прыкручаная лямпа, паўзмрок, завешаныя вокны, на табурэтцы ля ложка — аграном. Чамусьці не зняў нават паліто і кепкі.

— Бяда,— як з-пад зямлі, даносіцца яго голас.— Усё прапала.

Сэрца нырае быццам пад лёд. Перахоплівае дыханне. Іван Пракопавіч вымаўляе амаль без голасу, аднымі губамі:

— Масква? Немцы занялі?..

— Ды не Масква. Тут, у нас. Мацвееў забіты. Касарэвіч і Адамчук збеглі. Немцам прадаліся. Паліцыя ўжо разграміла базы...

Іван Пракопавіч з цяжкасцю прыўзнімаецца на локцях. Страх адхлынуў, дыхаць лягчэй.

— Што яшчэ чуваць пра атрад?

— Немцы ведаюць, хто ў лесе. Бургамістр выклікае жонак. Маўляў, няхай вашы прыходзяць. А то будзе горш...

Электрычнай іскрай успыхвае думка: «Пра зброю, апрача Мацвеева, ведае Аўсянік. Раптам ён вернецца...»

Шэлег устае, становіцца босымі нагамі на падлогу. Ногі дрыжаць, рукі непаслухмяныя, як не свае. Ва ўсім целе пустата. У дзвярах, прыхінуўшыся да касяка, стаіць жонка, твар пабялелы, глядзіць з жахам.

— Надзя, выйдзі... Зачыні дзверы...

Апранаецца, абліваючыся потам, задыхаючыся, нацягвае боты.

— Вось што, Васіль... Сёння або ніколі. Ёсць зброя. Яе трэба перанесці ў новае месца... Могуць захапіць...

— Далёка? — пытае Драгун.— Ты ж хворы, як ты?..

— Павядзеш, як бычка на шворцы,— спрабуе жартаваць.— Або папаўзу...

Расчыняюцца створкі дзвярэй, з рашучым выглядам заходзіць жонка, на руках у яе ватняе паліто, зімовая шапка. Іван Пракопавіч глядзіць на яе здзіўлена.

— Я ўсё ведала,— гаворыць яна з крыўдай у голасе, адводзячы ад мужа позірк.— Яшчэ з лета. Ты мне скажы... Гэтыя, што паўцякалі, пра цябе ведаюць?.. Я не за сябе баюся, за дзяцей.

Іван Пракопавіч адчувае, як на вочы міжволі набягаюць слёзы.

— Даруй, Надзя... Так трэба было... Ніхто нічога не ведае. Не хвалюйся. Даю слова...

Яна глядзіць з недаверам.

— Дык ты не назусім?

— Заўтра буду дома. Трэба па дзелу.

— Ты такі хворы. Куды ты пойдзеш?

— Мне лягчэй. Нічога не думай... Спі.

Іван Пракопавіч сапраўды адчувае сябе лепш. Ва ўсякім выпадку, трымаецца на нагах, значыць, пойдзе. Ён задаволены, што адным махам рассечаны заблытаны вузел у адносінах з жонкай. І раней адчуваў, што здагадваецца. Хіба магла, пражыўшы з ім столькі гадоў, так лёгка паверыць, што стаў абыякавы да палітыкі, да ўсяго, што дзеецца навокал?.. Але пра тое, што ведае ўсё, не думаў. Не гаварыў, бо не хацеў, каб дрыжала, пакутавала. Відаць, трэба было сказаць. Шкада яе. Ён заўсёды з ёю мала лічыўся...

— Завяжы шыю шарфам,— просіць жонка, гледзячы на яго з жалем.— Апусці ў шапцы вушы... Плашч у сенцах...

## 3

Выходзяць на ганак — сакануў у твар касы дождж. На дварэ цемень, хоць выкалі вока. У скверы вецер аж свішча. Па лужынах дождж хлюпоча з перамежкамі — нібы нябачны сявец кідае жмені кропляў узмах за ўзмахам. Пераадольваючы слабасць у нагах, Шэлег спускаецца з ганка, вобмацкам, трымаючыся за штакетнік, ідзе да хлеўчука. Там заступ.

Павольна ідуць далей. Шэлег апіраецца на заступ, як на кій. Ля Драгуновага дома зноў прыпынак — заступ і ліхтар шукае аграном. За чыгуначным насыпам цёмная мокрая пустэча поля. Вецер валіць з ног, дождж яшчэ спарнейшы. Сагнуўшыся, намацваючы грунт дарогі, яны маўкліва хлюпаюць па лужах. Дарога вядзе ў лес. Іван Пракопавіч цяжка дыхае; зважаючы на яго хваробу, Драгун, які ідзе першы, запавольвае крок.

Колькі брыдуць, не ведаюць. Да лесу не блізка, самае малае вярсты чатыры. Няма ніякіх арыенціраў, па якіх можна было б вымераць хаду і час.

Лес, праўдзівей, кустоўе перад ім, угадваюць па шуму ветру, больш прыглушаным, густым, чым у чыстым полі. Да свісту і шасцення дажджу прымешваюцца аднастайныя цягучыя ўздыхі. Прайшоўшы метраў пяцьдзясят кустамі, Драгун спыняецца, расхінае злубянелыя полы паліто, запальвае ліхтар. І адразу цемень робіцца яшчэ гусцейшай, адскоквае ўбок і наверх, перад вачамі перасечаная вузлаватым карэннем каляіна, запоўненыя чорнай вадой калдобіны, мокрыя, бліскучыя камлі бярозак і алешын.

— Трэба ісці да прасекі,— хрыпіць Іван Пракопавіч.— Яшчэ вярсты дзве.

Лес, які пачынаецца за кустамі, уздыхае недзе зверху; унізе, на дарозе, цішэй, цяжкія кроплі, падаючы з навісшых галін, здаецца, звіняць. Светлая палоска ліхтара як бы вырывае з чорнай, як дзёгаць, цемры фантастычныя відовішчы: разлапістыя рукі сукоў, імшаныя бароды на гнілых пнях, нечыя зыркія агністыя вочы ў навіслых шатах ялін. Трохі жудасна ў лесе: цемень, халодная слота і гэтыя панылыя, як стогны, уздыхі. Іван Пракопавіч ідзе поруч з Драгуном, і ў яго цяпер адзін клопат — не прамінуць прасекі. Па лясной гэтай дарозе ішоў толькі адзін раз, пасля таго як з Мацвеевым закапалі зброю. Але тады была раніца, а цяпер ноч і ніякіх прыкмет, акрамя прасекі, не ўбачыш. Ён не думае аб тым, куды і як перанесці вінтоўкі, гэта пазней, спачатку трэба знайсці схОвішча.

Унутраны голас падказвае, што яны пагарачыліся, не варта было звечара кідацца сюды, у цёмны мокры лес, сховішча

хутчэй за ўсё не знойдзеш. Найлепш — выйсці на золку. Але ў такім выпадку наперадзе была б трывожная пакутлівая ноч, адчуванне сваёй бездапаможнасці. Раніцай ён, можа, і не ўстаў бы, а цяпер ідзе сваімі нагамі, нягледзячы на хваробу. Зрэшты, да раніцы можна пачакаць, раскласці агонь, абсушыцца, рашае Іван Пракопавіч і супакойваецца. Ён не любіць сумненняў.

Яны брыдуць яшчэ з паўгадзіны і, нарэшце, натрапляюць на прагал у цёмнай сцяне лесу. Прасека. Цяпер трэба павярнуць налева, ісці кіламетр ці больш, там будзе бель, Дзянісава прыстань, яшчэ адна папярэчная прасека, недалёка ад яе мета — разлістая бяроза — і крокаў праз трыццаць — памятны пясчаны грудок.

— Налева ці направа? — спыніўшыся, пытаецца Драгун.

— Пачакай. Нічога цяпер не знойдзем. Трэба пражэктар, а не «лятучая мыш».

— Заблудзіліся?

— Здаецца, не, але няхай развіднее. Перабудзем тут. Раскладзём агонь, яму выкапаем.

Нават у асеннім, наскрозь прамоклым лесе можна знайсці адносна сухую мясціну, дзе не лье за каўнер і дзе зацішней. Яны пайшлі нацянькі, грузнучы ў апалым лісці, моху, і хутка выбіліся ў спелы бор. Грунт тут цвярдзей, пад нагамі дробны верас, пясок, ігліца, шум ветру ў вершалінах самотней, працяжней. Купчастыя сосны там, наверсе, нібы спрачаюцца з нябачнай навалай. Натрапілі на хвою — галіны яе звісаюць, як шацёр. Селі пад дрэва, Драгун дастаў з патайной кішэні карабок, разламаў на часткі, чыркнуў запалкай — і вось ужо побач з пастаўленым на зямлю ліхтаром, у паласе яго святла весела трапеча агеньчык. Хварасцінка да хварасцінкі, і агню трэба ўжо большая спажыва. Адышоўшыся на некалькі крокаў ад вогнішча, трымаючы ў левай руцэ ліхтар, Драгун збірае апалыя галіны, сукі. Іван Пракопавіч асцярожна, пірамідкай, кладзе іх на агонь. Праз кароткі час, які для абодвух праляцеў непрыкметна, пад хвояй гарыць сапраўдны касцёр, якога не затушыць ні дождж, ні вецер. У прагавітае полымя можна кідаць цяпер усё, што валяецца на мокрым застылым доле. Цемра адступае глыбей у лес, вырысоўваюцца тоўстыя парэ-

паныя камлі хвой, цёмныя вершаліны, шэры лоўж валежніку непадалёку. Драгун, збіўшы кепку на патыліцу, завіхаецца ля лаўжа, ломіць аб калена збуцвелае голле, цягае ахапкамі.

Штосьці вялікае, радаснае ў таямніча-прыгожым малюнку начнога кастра. Полымя, прагна ліжучы кавалкі дрэва, сыплючы ў неба зала тымі іскрамі, шугае ва ўсю моц. Грэецца не толькі цела — светлымі, урачыстымі пачуццямі поўніцца душа. Адкуль гэтае адчуванне прыгажосці і ўсеўладнай сілы агню? І чаму з усяго жывога, што бегае, лётае, дыхае, мае гарачую кроў і сэрца,— не баіцца агню адзін толькі чалавек?..

Іван Пракопавіч вымае ладны, падобны на цыбуліну, кішэнны гадзіннік. Вельмі рана яшчэ, самая поўнач, палавіна другой гадзіны.

Дождж як быццам пацішэў.

— Наша першая партызанская ноч,— Іван Пракопавіч сумна ўсміхаецца.— Ведаеш,— я амаль здаровы.

— А я прамок, як сукін сын. Толькі цяпер адчуў. Спіна мокрая.

— Скінь паліто, сушыся. У цябе закурыць ёсць?

— Ёсць.

Працягла шумяць хвоі, цемра, калі агонь прытухае, падступае да яго ўшчыльную, потым адскоквае зноў.

І праз усю ноч яны гавораць. Небяспекі, якая б ім пагражала, здаецца, няма; Шэлега ведаў адзін Мацвееў, і калі праўда, што ён забіты, то цяпер ірвецца тая ніць, якая звязвала з атрадам. Але ці ўтрымаецца цяпер атрад? Здарылася самае страшнае, нечаканае — здрада. Пра яе яны найменш думалі, бо гэта штосьці зусім процілеглае таму глухому рэжыму стоенасці, які, відаць, панаваў там, у атрадзе.

— Касарэвіч, здаецца, у маслапраме працаваў?

— Ды я яго даўно раскусіў,— са злосцю гаворыць Драгун.— У Піляціцкім сельсавеце мы з ім былі ўпаўнаважанымі. Па адпраўцы жывёлы. Начавалі, помню, на балотнай станцыі. Ну, я сказаў — яшчэ ў райкам не выклікалі тады,— што думаю эвакуіравацца. А ён шчэрыць зубы — куды ты, маўляў, паедзеш. Немец усюды будзе...

— Дык чаму маўчаў?

— А халера яго разбярэ. Думаў — мяне правярае.

— А што пра Адамчука ведаеш?

— Тое, што і ты. Дарожны майстар... Заслужаны... Насып яму солі на хвост.

— Да сценкі іх трэба,— раптоўна наліваючыся гневам, гаворыць Іван Пракопавіч.— Ці лепш цішком. Дачакаюцца...

— Позна замахалі кулакамі. Немцы ўсё адно ўсё ведаюць. Прыцiснуць жонак...

На хвіліну абодва змаўкаюць, шчурацца на агонь. У памяці Івана Пракопавіча размова з Ермаловічам — яна здаецца далёкай, несапраўднай, нібы прамінула з таго часу многа гадоў. Ермаловіч якраз гаварыў аб пільнасці, аб тым, што трэба пачысціць знішчальны батальён. Чысцілі, ды, відаць, не дужа. А можа, выгналі, каго не трэба?.. Бывала ж, што глядзелі на чалавека праз паперкі, анкеты. Анкета, можа, і чыстая, а душа — як у гада... Дзе Ермаловіч цяпер?

— У цябе была калі-небудзь такая ноч? — пытаецца Драгун.

— Была.

— І ў мяне была. Такая самая — асенняя, цёмная. Толькі, здаецца, без дажджу. А можа, і дождж ішоў, чорт яго ведае. Старэйшы брат жаніўся, і мы з бацькам на вяселле гналі самагонку. У дваццаць сёмым гэта было, ужо тады за самагон прыціскалі. Заехалі да аднаго хутараніна — апарат у яго адразу за домам, у лесе. Выгналі адзін затор, я хапануў першака — і мора па калена. Бацька па ваду паслаў, а я залез на яліну — спяваю. Выпіць бы цяпер па кілішку...

Іван Пракопавіч усміхаецца. У характары Драгуна бясцэнная якасць,— што б ні здарылася, не губляе гумару. Ён заўсёды зайздросціў такім людзям — іх усе любяць, і жыць ім лягчэй. Сам ён жартаваць, смяшыць другіх не ўмее.

— Расказвай цяпер ты. Твая чарга,— просіць Драгун.

— Што расказваць. Хапала ўсялякага. У дваццатым годзе я быў на польскім фронце. Па мабілізацыі прафсаюзаў. Трапіў у самую кашу — пад Ваўкавыскам полк разбілі. Якраз восенню. Выбіраліся хто як мог — па лясах, балотах. Але я мала помню. Забыў...

— Ты, выходзіць, са старой гвардыі?

— Чамусьці другое помніцца. З дзяцінства. Сям'я не сказаць каб вялікая — чацвёра дзяцей, бабка, бацька-стрэлачнік. Я самы старэйшы. Трымалі карову — на бацькавым заробку не пражывеш. Карова старая, з адвіслым бокам, даўно б пара збыць, але вельмі малочная, сіменталка. Сям'ю карміла. Вясной пагнаў яе на чорнагалоў, а яна загрузла ў балоце. Плаваў каля яе па шыю ў багне, плакаў, як чалавека, прасіў — вылазь... Хацеў сам утапіцца — як без каровы прыйсці дадому? Але ўсё ж пайшоў... Выцягвалі вяроўкамі — усю ноч. Ведаеш — большай пакуты за жыццё не пражыў. Страшна сёння ўспомніць...

— Вышли мы все из народа,— задуменна дэкламуе Драгун.— Я цяпер многа думаю, Іван, і от што надумаў. Хоць гэта, як кажуць, элементарна. Не можа савецкая ўлада загінуць. Па той простай прычыне, што дала жыццё мільёнам такіх, як мы. Чым бы мы былі, каб не савецкая ўлада?

Іван Пракопавіч загаварыў злосна, з надрывам:

— Хто быў нічым, той стане ўсім... Гэта ты верна... Але ж і сляпыя мы былі, гэта таксама праўда... Чаго б інакш нам з табой тут сядзець? Знайшліся адамчукі, касарэвічы, плюнулі ў твар, здрадзілі. А мы ж іх сваімі лічылі. Ды яшчэ самымі перадавымі. Зірні ў іхнія анкеты — пралетарскае паходжанне, заслугі. А капні глыбей — гніль. Кар'ерысты, шкурнікі. Пра сябе думалі, а там далей — трава не расці... Так што з пралетарыяў паны і падпанкі таксама растуць. І заўваж — неблагія... Так задзярэ нос, што качаргой не дастанеш. Думаеш, Касарэвіч з Адамчуком сёння здрадзілі?.. Даўно яны здрадзілі... Толькі мы не бачылі ці не хацелі бачыць...

— Бачыў і я, не такі ўжо сляпы. З нашай вёскі першы закончыў тэхнікум Дудка. Быў такі чалавек. Дык ты думаеш, што ён сказаў, прыехаўшы ў вёску. «Ліжыце мне боты, я цяпер аграном, а вы — гной...» Так і сказаў.

— Гэта дурань. Раскусі і выплюнь. Былі і болей небяспечныя. З выгляду свой, вылезе на трыбуну, Марксам і сацыялізмам хрысціцца, а ў душы — кулачуга...

— Гарлапанаў хапала...

— І ціхаходаў. Многа, брат, было ціхенькіх, асцярожных людзей. Думаць не хацелі, не ўмелі, бо болей за ўсё дбалі

пра крэсла. Не дай бог, каб са службы прагналі... Па-мойму, у гэтай вайне мы расплочваемся за ўсё, што недагледзелі, недарабілі. За бюракратаў, прыстасаванцаў, шкурнікаў... Але вер майму слову... Перахаваем вінтоўкі, а людзі знойдуцца. Не можа быць, каб не знайшліся. Трэба патроху збіраць людзей... Яшчэ каму-небудзь тайнік паказаць. На выпадак: калі нас з табой... Разумееш, адным словам...

Яшчэ да таго як наступіў шэры непрыветлівы золак, яма была гатова. Яны выкапалі яе тут жа,— за некалькі крокаў ад вогнішча — пясок, суха. Прасекі не абмінулі, яна прывяла іх да Дзянісавай прыстані, і досыць хутка яны знайшлі ралістую бярозу і пясчаны, засыпаны жоўтым лісцем узгорак. Па ўсіх прыкметах з лета тут нікога не было. Скрынкі з вінтоўкамі цяжкія, удваіх не перанесці, бо ходу не меней вярсты. Яны распакавалі іх — зброя змазана тавотам аж залішне. Вінтоўкі — іх дваццаць штук — перанеслі ў два заходы і яшчэ адну ходку зрабілі па цынкі з патронамі. Хадзілі да сваёй ямы нацянькі, лесам. Апаўдні ўсё было скончана: на новым месцы нават прыдзірлівае вока не знайшло б нічога падазронага — засыпанае мокрым лісцем, ігліцай вогнішча, паблізу лоўж са збуцвелага галля...

Перад тым як разысціся, Іван Пракопавіч, атрасаючы пясок з крысаў злубянелага плашча, глуха прамовіў:

— Ты, Васіль, калі будзеш на раёне, прыглядвайся да людзей. І гэтым, што ў цябе збіраюцца, намякай. Не адразу, паступова... Па-мойму, свае яны...

— Свае ў дошку! — ахвотна выгукнуў аграном.— Ручаюся галавой...

— Гульню ў хованкі пара канчаць. Я табе раскрыю сакрэт, толькі аднаму табе, зразумеў?.. Яшчэ ёсць двое астаўленых. Але адзін нікуды не варты, а дзяўчыну я пакуль што пашлю дамоў, на яе радзіму. Яна з Любаншчыны, там, па чутках, партызаны. Цяпер для нас самае галоўнае — сувязь з партызанамі...

Заступы схавалі ў лесе, разышліся па адным, пайшлі рознымі дарогамі...

## 4

Да вайны дарожны майстар Адамчук быў тоўсты, ладны, круглы з твару. Цяпер, пабадзяўшыся два месяцы па лесе, зусім змізарнеў. Стаіць перад бургамістрам ссутулены, з абвіслымі плячамі, у спалоханым выразе худога няголенага твару нічога начальніцкага. Кабінет Крамера без асаблівай раскошы: пакой вузкі, у ім пакрыты зялёным сукном стол, два крэслы, ля сцяны стараватая канапа. Але і ў такім кабінеце Адамчук адчувае сябе як на вуголлях.

Бургамістр барабаніць пальцамі па стале, маўчыць.

— Я не вінават, Аўгуст Эрнэставіч,— прастуджаным голасам просіцца Адамчук.— Магу паклясціся дзяцьмі. Сілком зацягнулі. Вы ж мяне ведаеце...

— Ну, а ў лесе вас жа ніхто не прывязваў. Маглі раней прыйсці.

— Не так проста. У іх жа зброя. Дасталі б, каб на тое, і дома.

— А цяпер не дастануць?

— Не баюся я іх цяпер. Разбрыліся хто куды.

Крамер, нягледзячы на хмуры выраз твару, задаволен у душы. Небяспека, якая вісела гэтыя два месяцы над ім, мінулася, цяпер можна ездзіць па раёне, начаваць дзе захочацца, не баючыся напаткаць кулю. Без адзінага стрэлу абяцаў ён Швальбе вярнуць тых, што ў лесе, дамоў, аддаць жандармерыі іх зброю, амуніцыю, харчовыя прыпасы, і слова спраўдзіў. Праўда, у мястэчка вярнуліся толькі пяцёра, з гэтымі, што самі ўцяклі,— сем. Але атрада фактычна не існуе, Крамеру гэта вядома. Камандзір Мацвееў забіты, труп апазналі ў суседнім раёне, жандары ездзілі спецыяльна; найбольш заядлыя падаліся на ўсход, хочуць перайсці лінію фронту. Няхай ідуць хоць чорту ў зяпу, абы тут, у раёне, было ціха. Вядома, без Адамчука і Касарэвіча, які цяпер у паліцыі, нічога гэтага не ўдалося б. Яны паказалі склады, назвалі прозвішчы...

— Сядайце, Адамчук,— нарэшце запрашае бургамістр.

Адчуваючы сябе ніякавата і праз гэта апускаючы вочы ў стол, напаўголаса пытае:

— Хацеў бы я ведаць вось што. Гэтым, што вярнуліся пазней, пасля вас, можна верыць? Ну, вы мяне разумееце...

Адамчук спалохана заморгаў вейкамі:

— Я вам усё як на споведзі расказаў, Аўгуст Эрнэставіч. Не ўтаіў нічога. Нашто мне таіць? Зброю яны аддалі ўсю, святая праўда. Пра гэта і ў жандармерыі пыталіся. А як там далей, ведае адзін Бог. У чужую душу не залезеш. Сёння толькі за сябе самога можна ручацца...

Бургамістр маўчыць.

— Я не хачу крыві, Адамчук,— нарэшце глуха гаворыць ён, моршчачыся, нібы ад болю.— За гэтых пяцярых перад жандармерыяй паручыўся. Кім хто быў да вайны, мяне не датычыцца. Самае галоўнае — сядзі ціха цяпер, працуй, і нічога болей ад цябе не трэба. Няўжо людзі не разумеюць? Я хачу, каб у раёне быў мір, спакой. Вось і ўсё...

— Святая праўда. А тым часам людзі ўсялякія трапляюцца.

Адамчуку кідаецца ў вочы: Крамер у гэты момант безабаронны, разгублены, як малое дзіця, якое без прычыны пакрыўдзілі. Здаецца, нічога не засталося ў ім ад важнага, надзьмутага бургамістра, які ўсе гэтыя дні яго дакараў. Перамена такая нечаканая, што Адамчук не можа сабрацца з думкамі.

— Вы вось жывыя, а адзінаццаць чалавек расстралялі.

— Расстралялі? — жахаецца Адамчук, бляднеючы ў твары.

— Іх не дапытвалі нават. Таму аднаго прашу: сядзіце ціха. Галаву згубіць вельмі лёгка. Навошта партызаны, даносы, падкопы? Ёсць жа людзі, што прыходзяць з заявамі на актывістаў, камуністаў! Слухаць нічога не хачу!.. Няма ніякіх камуністаў, беспартыйных. Ёсць людзі. Усякія — добрыя і благія, злосныя і бяскрыўдныя. Усе хочуць жыць...

Адамчук, не могучы ад хвалявання вымавіць слова, згодна ківае галавой. Ён гатовы прыняць цяпер любую праграму, адрачыся ад усяго, што ведаў, чуў, абы толькі астацца жывым, дыхаць, бачыць святло няхай сабе гэтага шэрага асенняга дня. У словах Крамера — збавенне. Адамчуку здаецца, што сам ён думаў гэтак жа, думаў даўно, яшчэ ў тыя бязвоблачныя дні, калі ганяўся за чынамі, грашамі, узнагародамі. Нарэшце да яго даносяцца словы, дзеля якіх ужо некалькі разоў прыходзіў

ён сюды, у раённую ўправу, спавядаўся, каяўся, спадзеючыся заслужыць давер бургамістра.

— Пойдзеце на чыгунку,— ужо спакойна гаворыць Крамер.— Пасада ранейшая. Хутка прыедуць нямецкія чыгуначнікі. Трэба іх добра сустрэць. Адрамантаваць кватэры, дроў нарыхтаваць. Людзей набірайце самі. Пакуль няма немцаў, па ўсіх пытаннях — да мяне...

— Век буду ўдзячны, Аўгуст Эрнэставіч,— расчулены Адамчук падхапіўся, шапку трымае ў руках, кланяецца.— Не падвяду. Як родны бацька вы для мяне.

Пасля таго як узрадаваны дарожны майстар знік за дзвярамі, Крамер яшчэ доўга хадзіў з кута ў кут, думаў. Усё жыццё баяўся ён бойкі, калатнечы, крыві. Так склаўся лёс, што ад яго сталі залежаць чужыя жыцці. Ён зрабіў усё, што мог, каб гэтыя, што вярнуліся з лесу, не загінулі. Загінулі другія — тыя адзінаццаць, якіх схапіла зондэркаманда як стоеных партызанскіх агентаў. Відаць, тут Плішчынскі пастараўся. І Касарэвіча нездарма адразу паставілі намеснікам Плішчынскага. Касарэвіч не падабаецца: твар нядобры, востры, як клін, позірк вачэй мігатлівы, як у сабакі. Такіх людзей трэба асцерагацца. Нездарма з таго дня, як уцёк з партызан, ні разу не завітаў да яго, бургамістра. Са Швальбе шэпчацца. Няхай. Так альбо інакш, а заслуга ў тым, што партызаны разбрыліся і ў раёне ціха, належыць яму, Крамеру. Гэта прызнае сам Швальбе, нават рапарт напісаў.

У душы Крамер усё ж задаволены сабой — магла быць большая калатнеча і кроў. Прывялі мужчын з лесу жонкі, варта было іх паклікаць, паабяцаць, што ўсё будзе ціха і мірна, калі тыя, хто хаваецца, вернуцца да сем'яў. Жонкі — вялікая сіла, часта яны, а не мужчыны іх, робяць палітыку...

Бургамістр, рыўком адчыніўшы дзверы, заходзіць у агульную канцылярыю. Так ён робіць заўсёды, калі хоча, каб сказанае ім дайшло да вушэй местачкоўцаў. Не праміне і дня, як кожнае яго слова пойдзе па мястэчку, а затым і па раёне, будзе ўсяляк абмяркоўвацца. Бургамістр ловіць на сабе зацікаўленыя позіркі падначаленых. Рак-Кандэрскі зняў акуляры, працёр іх хусцінкай — падрыхтаваўся слухаць; адклала ўбок паперы перакладчыца Мар'я Іванаўна, сакратарка і

машыністка ў новых, старанна адпрасаваных сукенках проста застылі ў чаканні навін.

— У раёне цяпер будзе ціха,— як бы з нейкай урачыстасцю пачынае Крамер, адкашляўшыся ў вялікі чырвоны кулак.— Вайна яшчэ ідзе, але яна далёка. Тут, у мястэчку, у навакольных вёсках, сёлах проста мірныя людзі. Яны павінны жыць, працаваць, а не страляць адзін у другога. Партызан няма... Таму і ў немцаў не будзе прычын на арышты...

— Выпусцяць і тых, што арыштавалі? — не тоячы ўзрушанасці, пытаецца Мар'я Іванаўна.— Я вас так зразумела, Аўгуст Эрнэставіч? Вядома, памылка можа быць, на тое вайна. Але гэтая дзяўчына Дзянісава з лясгаса, старыя яўрэі... Яны ж нявінныя людзі...

— Тут я нічога не мог зрабіць,— адчуваючы, што яго спаймалі на слове, Крамер злуецца.— Ёсць сілы вышэйшыя за мяне. Але гаварыў і буду гаварыць — трэба сядзець ціха. Не малоць языкамі...

У шырокім, застаўленым канцылярскімі сталамі пакоі няёмкая цішыня. Заскаквае нейкі мужчына, але, зразумеўшы, што трапіў не ў час, порстка сігае назад, у калідор. Рак-Кандэрскі, як заўсёды, прыходзіць на выручку.

— Маскву, чуваць, немцы занялі,— гаворыць Рак-Кандэрскі, лісліва моргаючы падслепаватымі вачамі.— Значыць, хутка вайне канец. Тады і мір будзе, і спакой...

— Масква акружана,— ужо злосна кідае бургамістр, кіруючыся назад, у кабінет.

Мар'я Іванаўна сумна ўздыхае. У яе свой пагляд на гэтыя амаль штодзённыя пропаведзі. Ахмялеўшы ад улады, робіцца не падобным на сябе нават добры чалавек. Яшчэ не прайшло і трох месяцаў, як Аўгуст Эрнэставіч бургамістр, а ўжо прыкметныя ноткі высакамернасці ў голасе, і паходка другая, і стаўленне да знаёмых людзей можа выклікаць часам адно толькі здзіўленне. А сам жа нават нямецкіх папер прачытаць як належыць не ўмее...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

### 1

Аграномы з нямецкай сельскагаспадарчай камендатуры знешне нічым не нагадваюць людзей гэтай прафесіі. Двое звычайных вайсковых афіцэраў і трое напаўцывільных, у жоўтых без пагонаў шынялях, ботах, высокіх седлаватых шапках. Камендатура заняла новае, перад вайной адбудаванае памяшканне райспажыўсаюза, і ў першы тыдзень, уладкоўваючы свой быт,— немцы нікуды не паказваюцца.

Надвячоркам хмурага лістападаўскага дня, калі супрацоўнікі ўправы ўжо разыходзіліся, Крамер выклікаў да сябе Драгуна. Настрой у бургамістра панылы, твар — стомлены. Аб прычыне Драгун здагадваецца: у Крамера непаразуменні з сельскагаспадарчай камендатурай. Аграномы-немцы незадаволены тым, што ў раёне не выявілася харчовых прыпасаў. Чуткі ўжо ходзяць — камендатура бярэ пад свой кантроль млыны, соль, якая асталася на базе спажыўсаюза, нямецкай маёмасцю будуць аб'яўлены саўгасы, а таксама калгасныя будынкі, інвентар і машыны. Пайкі служачым і рабочым урэзваюцца — замест паўкілаграма, устаноўленага бургамістрам, цяпер будзе трыста грамаў, едакі і сем'і наогул не ўлічваюцца. Дзіўнае ў чутках адно: немцы, нібыта, не збіраюцца прызнаваць правоў былых уласнікаў на іх маёмасць. Кулакі, лішэнцы, нэпманы — усе, чыё багацце ў свой час было абагулена, з нямецкіх рук не атрымаюць нічога.

— Колькі да вайны раён здаваў хлеба і мяса? — пытаецца бургамістр.

— Добра не памятаю, Аўгуст Эрнэставіч. Хлеба, здаецца, не болей тысячы тон. Мяса штосьці каля трохсот тон.

— Гэтыя, з камендатуры,— бургамістр адчайна махае рукой,— патрабуюць дзве тысячы тон збожжа і пяцьсот — мяса. Ды яшчэ малака тысячу тон.

— Нерэальны падыход,— узрушаны Драгун стараецца гаварыць спакойна.— Трэба ж глядзець на факты. Пастаўкі ў асноўным выконваліся калгасамі. Калгаснай жывёлы няма — пагналі на ўсход, ураджай загінуў напалавіну. Цяпер без

усялякай здачы будзе голад. Вы ўлічыце,— раён не толькі здаваў, але і атрымліваў. Нават больш, чым здаваў. Хлеба толькі ў мястэчку прадавалася дзевяноста тон за месяц. А мука, крупы, цукар...

Крамер трэ далонямі скроні, устае, нервова праходжваецца ля стала. Высокая, дзябёлая яго постаць здаецца яшчэ больш сутулай — як бы нябачны, цяжкі груз гняце бургамістра.

— Я-то магу ўлічваць, ды яны не хочуць,— нарэшце глуха гаворыць ён.— Вы станьце на маё месца. Думаеце, з імі лёгка?.. Ледзь два цэнтнеры солі на месяц выпрасіў, ды яшчэ няшчасныя пайкі.

— Людзі ж працуюць, мусяць нешта атрымліваць. Усялякая ўлада...

— Трэба іх таксама разумець, Драгун. Вайна, немцы льюць кроў. Салдату падай, ён ведаць нічога не хоча. Германія — бедная краіна. Прыйдзецца здаваць...

Драгун прыкусіў губу — з вуснаў ірвалася злое, абразлівае — хто прасіў немцаў ваяваць? Загаварыў, стрымліваючы ўнутранае хваляванне:

— Гэта ўсё правільна, Аўгуст Эрнэставіч. Але я заўсёды лічыў немцаў практычнымі людзьмі, з цвярозым розумам. Нават палавіну такой колькасці збожжа і мяса, як вы назвалі, можна ўзяць толькі канфіскацыяй. Гэта будзе азначаць, што сельская гаспадарка разарыцца ўшчэнт. Улічыце, што нямецкія часці, якія тут праходзілі, нямала ўзялі. Колькі зарэзана кароў і свіней толькі ў адным мястэчку? Калі ж здаць яшчэ гэтае, то вясной не будзе чым сеяць, не будзе кароў і свіней. Немцы на будучы год не палучаць нічога. Я ўжо не гавару пра голад насельніцтва...

За акном зусім цёмна. У дзверы стукае вартаўніца — чэзлая, апранутая ў мужчынскі, да пят, кажух кабецінка — яна ўносіць запаленую лямпу. Крамер яшчэ болей збянтэжаны — на прадаўгаватым шэрым твары плямы. Здзьмухвае са стала нябачны пыл, непаслухмянымі тоўстымі пальцамі перабірае паперы.

— Вы, Драгун, напішыце мне гэта. Асцярожна толькі. Вы правільна гаварылі, але трэба асцярожней. Пра тое, што два месяцы паблізу стаяў фронт і ўраджай асыпаўся, што

нямецкія часці многа ў насельніцтва забралі. Паболей лічбаў. Яны любяць лічбы. У мяне пад рукамі нічога не было. Здаваць прыйдзецца, але, можа, зменшаць...

Вечарам у вокнах местачковых хат рэдкі ланцужок агнёў. Мясцінамі агні бледныя, мігатлівыя — на камінках лучына. У правулках густая, як дзёгаць, чарната. Надрыўна выюць сабакі. Яны на прывязі цяпер днём і ноччу — паліцэйскія страляюць у сабак, дзе б ні ўбачылі. Такі загад сельскагаспадарчай камендатуры. За сабак будзе налічвацца падатак, а што возьмеш з вандроўных?..

Выйшаўшы ад бургамістра і зрабіўшы ходку вакол сквера, Драгун пастаяў пад старым вязам, насупраць вокан Шэлегавай кватэры, затым порстка рушыў праз вуліцу.

Шэлег дома. І ён, і жонка нечым узрушаны.

— Увагнаў я Крамера ў пот,— пачынае Драгун, пераказваючы размову з бургамістрам.

Шэлег слухае няўважліва, барабаніць пальцамі па стале, аб сваім думае.

— Што ты на гэта скажаш? — нарэшце пытаецца Драгун, зняважаны абыякавасцю субяседніка.

— Так і павінна быць. Фашысты паказваюць зубы.

— А што нам рабіць?

Замест адказу Шэлег падымае на стале цырату, кладзе перад Драгуном газетны ліст. Аграном недаўменна пазірае то на Шэлега, то на яго жонку — яна, як бывала заўсёды, з пакоя не выйшла, стаіць, прыхінуўшыся спіной да печы, з цікавасцю паглядвае на мужчын. Нібы нешта ўспомніўшы, Драгун раптам упіваецца вачамі ў загаловак. Перад ім «Праўда», святочны нумар за 7 лістапада. Болей Драгун нічога не чуе, не бачыць, таропка мацае пальцамі паперу, нібы жадаючы ўпэўніцца, што газета сапраўдная, прыглядваецца да даты, якой памечан нумар, нарэшце кладзе перад сабой газету апошняй старонкай, нячутна варушачы вуснамі, доўга не зводзіць вачэй з таго месца, дзе звычайна ўказваецца адрас рэдакцыі і нумары рэдакцыйных тэлефонаў...

Паўгадзіны ці болей чытае. Шэлег маўкліва сядзіць насупраць...

— Дзе ты ўзяў? — адарваўшыся нарэшце ад газеты, пытае аграном.

— Нашы з самалёта скінулі. У лесе. Буян знайшоў.

— Можаш даць мне да раніцы? Заўтра прынясу.

— Ёсць дзесяць штук. Я сказаў Буяну, каб яшчэ пашукаў.

Твар у Драгуна ззяе, вочы блішчаць. У гэтыя асветленыя нечаканай, нязнанай раней радасцю хвіліны ён забыў пра ўсё. У параўнанні з тым, што ён ведае і адчувае цяпер, не такімі балючымі здаюцца тутэйшыя іх няўдачы — распад знішчальнага батальёна, які так і не стаў партызанскім атрадам, здрада тых, каму да вайны верылі, расстрэл Дзянісавай, якую выдаў, відаць, Касарэвіч,— доўгі ланцуг вялікіх і малых падзей, які прывёў да сённяшняга іх становішча. І раптам з цемры, прорвы, у якой яны апынуліся,— адразу на вышыню. Немцы Масквы не ўзялі, яна жыве, Чырвоная Армія ваюе з фашыстамі — вось галоўная праўда, тая вышыня, адкуль разыходзяцца ўсе дарогі. Будзе гэта, будзе ўсё...

Драгун нібы бачыць перад сабой прасветленыя твары тых, хто, як ён, возьме газету ў рукі, прачытае ўсю радок за радком — запомніўшы, пасмакаваўшы кожнае слова, надрукаванае там, у Маскве. Колькі іх — пяцёра, шасцёра? — тых, каму ўжо сёння можна даць газету, верачы, што яна не трапіць у рукі фашыстам, а пойдзе, яднаючы круг за кругам новых аднадумцаў...

— Мы арганізуем новы атрад,— раптам гаворыць Шэлег.— У нас усё ёсць.

— Заўтра ж трэба пусціць газеты па сельсаветах,— дадае Драгун.— Адну ў Піляцічы трэба даць, настаўніку Батуру, сакратару сельсавета Валюжычу... Ведаю, гаварыў,— нашы. Гопчанку адзін экзэмпляр. Шкірману — само сабой... Трэба сабрацца разам...

Яны здзіўлена глядзяць адзін на другога: якім ясным, простым здаецца тое, што хвіліну назад яны вымавілі ўслых. Але слова сказана, слова ўжо жыве. З прагным імпэтам, захліпаючыся гарачым шэптам, перабіваючы адзін аднаго, яны прыкідваюць, да каго трэба паехаць у першую чаргу, каму што сказаць, каго праверыць, прымаюць або тут жа адводзяць кандыдатуры тых, хто, на іх думку, гатовы ці не прылучыцца да справы, якая сёння самая галоўная, неадкладная.

Яны ў гэты час зусім не думаюць аб прычынах, акалічнасцях, што прывялі да распаду партызанскага атрада,— гэта мінула, гэта ззаду. Не думаюць пра ахвяры, якія яшчэ могуць быць. Так, паднятая камандай, атакуе варожыя пазіцыі рота — мёртвыя, параненыя падаюць, жывыя, ахмеленыя нянавісцю, прагай жыцця, прыціскаючыся пад градам куль да зямлі і зноў падымаючыся, нястрымна ідуць наперад...

## 2

Выпаў і растаў кастрычніцкі снег, а Міця па-ранейшаму ходзіць у лес. Цяпер па зялёнкі, самыя познія, апошнія грыбы восені. Дзіўныя гэтыя, нехлямяжыя на выгляд, грыбы пачынаюць расці тады, калі жыццё замірае, бяроза і клён трапечуць жоўтым лістом, а паўнапраўным гаспадаром лесу адчувае сябе адзін дзяцел, які спакойна выдзёўбвае казюрак з іх нябачных схованшчаў. Якраз у такую халаднечу і слату зялёнкі набіраюцца моцы, каб вытыркнуцца на бязгнойных, сыпучых, як прысак, лясных жаўтапёсах.

У гэты пахмурны дзень Міця прыйшоў, каб развітацца з лесам — зялёнак амаль не было. Трапіўшы ў знаёмы сасоннік, ён застыў здзіўлены: на галінах маладой хвойкі вісела нешта белае. У першую хвіліну Міця падумаў, што гэта снег. Але раніца была цёплая, імжыстая, між дрэў слаўся туман. Хлопец падышоў бліжэй і ўбачыў на хвойцы газету. Ён зняў яе — газета была савецкая, святочны лістападаўскі нумар. У Міці перахапіла дыханне і пацямнела ў вачах...

...Высока-высока ў небе плыў самалёт з пяціканечнымі зоркамі на крылах. У самалёце быў лётчык, чалавек, а ў яго дома — маці, браты, сёстры або дзеці. Ён ляцеў праз ноч і фронт. Яго маглі збіць, і ніхто не ведаў бы, дзе яго магіла. Але ён ляцеў. Вёз не бомбы, а вось гэтыя газеты, каб людзі, якія засталіся тут, пад немцам, ведалі, што Масква жыве, трымаецца, хоць вораг пад самымі яе сценамі. Хацеў лётчык скінуць газеты над мястэчкам, а рассыпаў на лес, на верасы. Ноччу ў тумане цяжка правільна разлічыць. Колькі захапіў вораг гарадоў і мястэчкаў і колькі трэба самалётаў, каб развезці на іх газеты? І ці ўсе лётчыкі вернуцца назад?..

Міця прачытаў газету ўсю, ад пачатку да канца. Знайшоў яшчэ некалькі і схаваў у кошык. Тут жа, па верасе, валяліся невялікія чырвоныя лісткі, надрукаваныя па-нямецку. Прабегшы позіркам тэкст, Міця зразумеў, што гэта лістоўкі для нямецкіх салдат і афіцэраў. Адзін лісток паклаў у кішэню — дома, са слоўнікам, цікава прачытаць... Кароткі асенні дзень канчаўся. З Міцевых вачэй у дзень гэты як бы спала нейкая пеляна. Знаёмыя, зведаныя рэчы станавіліся на ранейшае месца. Лес быў той самы, знаёмы да дробязей, яго толькі пакалечыла вайна. Летам, у ліпені, нямецкія лётчыкі гасілі сюды, у сасоннік, бомбы, думаючы, што тут войскі. Мноства варонак засталося па лесе, вялікіх і малых, па краях іх жаўцеў пясок, вісела аголенае карэнне дрэў, кругом валялася пакарэжаная бляха ад стабілізатараў бомб.

Былі ў лесе і акопы, але іх пакапалі пазней, у жніўні: кавалерыйская часць займала тут абарону. Яна ў бой не ўступала, адышла раней, чым з'явіліся немцы. Новыя акопы былі побач са старымі, якія засталіся яшчэ з часоў грамадзянскай вайны. Тут ішлі баі з немцамі, белапалякамі, стракапытаўцамі і балахоўцамі. У старых акопах даўно цвіў верас, раслі грыбы, хітрыя грыбовікі хавалі тут ад чужога вока абрэзанае карэнне, каб не паказваць патайных, багатых грыбовішчаў. Ля акопаў новых сям-там валяліся нерасстраляныя абоймы патронаў, запалы, гранаты.

Міця прыкрыў верасам знойдзеныя боепрыпасы. Ідучы дадому, ён думаў, паказаць ці не паказаць бацьку газету. Наважыў паказаць. Збочыўшы з насыпу, прайшоў спачатку да хлява, схаваў пад страху газеты, а з той, што была ў кішэні, падаўся ў будку.

Навіна бацьку не ўзрадавала.

— Масква далёка,— прамовіў ён хмура.— А бяда, вунь яна, блізка ходзіць. За што тых адзінаццаць расстралялі? Не ведаеш?.. А ты ў сям'і не адзін. Калі што якое, не памілуюць нікога. А чым яны вінаваты, што табе газеты чытаць хочацца? — узвысіўшы голас, бацька паказаў на сясцёр, якія, не разумеючы прычыны спрэчкі, здзіўлена пазіралі на Міцю.— Сям'ю загубіць хочаш? Каб гэта было ў астатні раз. Па лесе

ўсякай дрэні валяецца, дык што, трэба ўсё ў хату валачыць? Глядзі, Міця...

Бацька быў злосны. Скамячыўшы газету, шпурнуў яе ў печ.

Бацька зноў зачаў гэтую гаворку дзён праз некалькі, калі яны ішлі на старую сядзібу часаць бярвенне. Лесу на зруб ужо бадай што хапала. Тры ці чатыры ночы ўзапар, хаваючыся ад чужых вачэй, Птах са старым Шнапсам вазілі на яго кані бярвенні з лесу. Лесарубчага білета Птах не меў і дазволу ні ў кога не пытаўся. Чыгунка бяздзейнічала. Пуцейскае начальства ў асобе ранейшага майстра Адамчука сям'ю не высяляла, нават не было размовы пра гэта. Але загад быў недвухсэнсоўны — берагчы інструмент, складзены ў пустой будцы, і снегаахоўныя шчыты, некалькі штабялёў якіх стаяла на Птахавым участку. Нібы само сабой разумелася, што плата за гэта — пражыванне ў казённай будцы.

— Ты, Міця, не малы і павінен разумець, што час настаў цяжкі,— сурова прамовіў бацька.— Можа, яно ўсё пераменіцца і нашы як-небудзь прагоняць немца. Дай Бог хутчэй, хіба ж я вораг. Але ж і ў немца сіла. Так што берагчыся трэба. Немцам народу нашага не шкода. Бач, колькі пастралялі. Ім абы да чаго прычапіцца. Трэба ўмець жыць, як набяжыць. Тваімі гэтымі газетамі не паможаш, калі танкамі не ўзялі. Вось каб хату паставілі, уцякаць трэба з гэтай будкі. На чорта служба гэтая, ды і каму служыць?..

Міця чуў у словах бацькі праўду, але з ёй не хацелася згаджацца. Бацька найбольш думаў пра сям'ю, пра тое, каб як-небудзь пражыць. Міця ж не мог уявіць сабе, што ўсё застанецца такім, як ёсць. Тады не варта жыць. Такое жыццё было б агідным. Ён ужо чуў пра тых, расстраляных. Іх пахапалі з розных вёсак. Местачкоўцаў трое, і ўсе незнаёмыя. Асабліва страшная, недарэчная смерць адзінаццатага, маладога прыгожага хлапца з Піляціч, адкуль родам і Міцева маці. Яго ўзялі па дарозе: ішоў у мястэчка да родзічаў. Немцам, відаць, не спадабалася, што быў па-святочнаму апрануты — у новым касцюме, туфлях, белай вышытай сарочцы. Паманілі пальцам — ком, ком,— ён падышоў да машыны, а яны чаргой з аўтамата...

Міця з бацькам штодня ходзяць на новую сядзібу. Вянок за вянком вырастае там зруб. Хата падабралася пад вокны, і Птах употай цешыцца ёю. Міця навучыўся часаць бярвенне, умее абыходзіцца са склюдам, пуцам, фуганкам, долатам. Вечарам ідзе да Плоткіна. Газету прачыталі ўтрох і лістоўку пераклалі. У ёй гаворыцца, што наступае зіма, а сем'і нямецкіх салдат і афіцэраў, якія ваююць на фронце, голыя, галодныя. У канцы заклік — здавацца ў палон Чырвонай Арміі. Хлопцы паціснулі плячамі: каму павінны здавацца немцы тут, за сотні кіламетраў ад фронту? Лістоўка ж тут скінута.

Хмурай раніцай паўз будку да лесу праехала фурманка. Спераду яе важна дыбалі два немцы ў блакітных шынялях, з перавешанымі праз шыі чорнымі аўтаматамі. Ззаду, панурыўшы галовы, з вінтоўкамі на плячах, ішлі трое паліцэйскіх. Паліцэйскія былі ў звычайным адзенні, з белымі нарукаўнымі павязкамі, на якіх чарнела нешта напісанае панямецку. З трох знаёмы адзін Сямён Цялеш, высокі, хмуры чалавек, да вайны ён працаваў на станцыі грузчыкам. На калёсах стары каваль Лейба з тоўстай, непаваротлівай жонкай Ханай. Яны цёпла апрануты, нібы сабраліся ў дальнюю дарогу.

— Сцяпан, выйдзі паглядзі! — гукнула маці, убегшы ў хату з пустым вядром у руках.— Божа мой, Божа, што ж гэта робіцца на свеце?..

Міця з бацькам выйшлі на парог і доўга стаялі, пазіраючы на чорны шлях, па якім тэпала шэсць няўклюдных фігур.

— Стралять павезлі,— вярнуўшыся ў хату, сказаў бацька.

— Дык чым жа вінаваты хоць гэты Лейба? Ён жа нікому зла не зрабіў, вады не замуціў.

— Усім тое будзе.

— А Сямён гэты. Як жа ён паглядзіць у вочы Лейбу. Разам жылі...

— Мала свалачэй на свеце...

Маці плакала, бацька, маўклівы і задуменны, сядзеў на ўслоне. Міця са сцятымі губамі і пабялелым тварам хадзіў па хаце. Праз паўгадзіны з лесу данеслася аўтаматная чарга і некалькі адзіночных стрэлаў.

## Частка другая

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

За будкай голае шэрае поле, цёмны лес. Вецер гоніць па шляху скручанае сухое лісце, гудзе ў парваных тэлеграфных дратах. Праз Птахаў пераезд да лесу штодзень валакуцца местачкоўцы, коцяць перад сабой двухколкі — снегу яшчэ няма. На двухколках, якія цяпер завуць тачанкамі, вязуць дровы.

Над мястэчкам — шызыя дымы з комінаў. Сцелюцца па зямлі, як туман, растаючы да полудня ў нізкім, шэрым небе. Міця ішоў да Сашы Плоткіна, калі на вуліцы, ля былой чыгуначнай крамы, напаткаў Кацю, сястру Івана Лобіка.

— Іван прыйшоў! — крыкнула яна шчаслівым голасам і пабегла.

Ён не стаў яе затрымліваць, распытваць, а сам кінуўся на Вакзальную вуліцу. Там, у пахілай хаціне, адгароджанай ад вуліцы вішнёвым садам, зноў жыве Іван!

Міця спяшаўся, грукаў чаравікамі па замёрзлай зямлі, хвалюючыся і ўсё прыбаўляючы кроку, нібы баяўся, што не застане Івана дома. Недзе ў глыбіні свядомасці на міг нават узнікла думка, што гэта сон, які неўзабаве развеецца.

Паблізу Іванавай хаты, пасярод вуліцы, вялізная варонка ад бомбы. На дне варонкі сінее лядок.

Іван — знаёмы, хоць і вельмі змізарнелы, чорны, сядзеў на печы, звесіўшы ногі ў падшытых валёнках. Міцю сустрэў абыякава, працягнуў з печы руку і адвярнуўся. У хаце поўна кабет, яны пры ўваходзе Міці на хвіліну змоўклі, а потым зноў загаварылі пра сваё — пра сыноў і мужоў, якія бог ведае дзе, і пра тых нямногіх, што ўжо вярнуліся — чаго наглядзеліся яны, колькі набедаваліся...

Жанчыны выціралі рагамі хустак вочы, а Іван, нібы бог са старадаўняга абраза, сядзеў з нахмураным, зацятым тварам, пазіраючы са свае вышыні некуды ў акно. Ён, здавалася, не хацеў ні слухаць, ні гаварыць.

Міця прымасціўся на зэдліку і не ведаў, як трымацца. Іван яго не заўважаў. Ён нічога не спытаў,— а не бачыліся яны хутка паўгода,— і той узнёслы настрой, з якім Міця ляцеў да даўняга сябра, як рукой зняло.

Рыпнулі знадворныя дзверы, і ў сенцах дробна затупалі, зашапталіся. Прыйшлі дзяўчаты. Нясмела, адна за адной зайшлі ў пакой — з холаду расчырванелыя, стрыманыя. Жанчыны, каб не замінаць, падаліся дамоў. Іван саскочыў з печы, разгублены, збянтэжаны стаяў пасярод хаты, не ведаючы, што рабіць. Міця таксама ўстаў: толькі цяпер ён убачыў, як выматала Івана дарога — ён тонкі, як жэрдка, адзенне на ім вісіць. Іван, відаць, сам саромеецца свайго выгляду. Дзяўчаты спалохана глядзяць на яго і не ведаюць, што гаварыць. Першай знайшлася Вера:

— Добра, што ты вярнуўся, Іван.

Ён адказаў хрыпла, адводзячы позірк:

— Сядайце.

Дзяўчаты — акрамя Веры, прыйшлі Сюзана і Ніна Грушэўская, таксама з дзявятага класа — селі на ўслон, Іван і Міця стаялі.

Гаворка не клеіцца. Дзяўчаты сядзяць, адчуваючы сябе няёмка. Яны, мабыць, шкадуюць, што так рана прыйшлі, не даўшы Івану часу абвыкнуць, супакоіцца. Міця крадком глядзіць на Сюзану, ловячы сябе на думцы, што зусім не хвалюецца. Ранейшага ўзрушэння, якое так ахоплівала пры сустрэчы з дзяўчынай, няма.

— Ты ўцёк з палону? — спытала Вера.

— Не быў я ў палоне,— адказаў Іван, пазіраючы ў дол і як бы намагаючыся нешта ўспомніць.— Быў у баях. Два месяцы. Дваіх нашых забілі. Нупрэя Гіля і Мікалая Галембу. Трэба маткам сказаць...

Дзяўчаты, Вера і Ніна, плачуць, у Сюзаны белы, без крывінкі твар. «Нупрэя забілі»,— здзіўляючыся са свайго спакою, думае Міця. Ён тады іх праводзіў, Івана і Нупрэя, Нупрэй прасіў пісаць. Куды пісаць?.. Больш Нупрэя не будзе, ніколі не будзе... Не ўкладваецца ў свядомасці — жывы, рухавы Нупрэй ніколі не прыйдзе да яго, Міці, ён знік, як бы і

не было яго. Але ён быў: Міця бачыць Нупрэеў твар, постаць, чуе яго голас...

Унурыўшы галаву, паводзячы нібы ад холаду плячамі, Іван ходзіць з кута ў кут. Маці стаіць, прыхінуўшыся плячамі да печы. Яна нічога не разумее, хворая жанчына. Радуецца, што вярнуўся сын. Іванавай сястры Каці няма. Дзе Каця? Мабыць, пабегла да радні...

— Нікому не гаварыце,— просіць Іван.— Не трэба гаварыць. Скажу сам... Я прыйшоў, а іх няма...

Пра Галембу Міця забыў, толькі цяпер да яго даходзіць, што ў Сюзаны тады, летам, калі ахоўвалі чыгунку, штосьці з ім было. Ён глядзіць на Сюзану. Яна ўжо зусім спакойная, папраўляе рукой белую пуховую шапачку на галаве, толькі позірк вачэй збянтэжаны. Кроў прылівае да Міцевага твару, перахоплівае дыханне. Галембы няма, а яна спакойная. Яна была б такой жа спакойнай, каб загінуў ён, Міця... Дзіўна, але пра малазнаёмага Галембу, якому некалі зайздросціў, ненавідзеў якога, Міця думае цяпер з большай спагадай, чым пра Нупрэя. Сюзану проста ненавідзіць.

Дзяўчаты падняліся — у Веры і Ніны заплаканыя вочы,— маўкліва выйшлі. Міця астаўся. Новае, нязведанае пачуццё нарадзілася ў яго да Івана. Ён не можа яшчэ даць яму назвы, але адчувае, што Іван не той, якім ён ведае, памятае яго. Ён другі, з ім адбылася перамена. Міця бег сюды, як бы спяшаючыся захапіць ранейшае, тое, што было да вайны, хоць на хвіліну пагрэцца ў яго цяпле. Але былога няма. Ён пачынае разумець Івана і не крыўдуе за яго абыякавасць.

— Галава баліць,— прамовіў Іван, нібы просячы прабачэння.— Больш месяца ішоў, еў што папала, чорт ведае дзе начаваў — і нічога. А дома раскіс.

— Табе трэба паправіцца.

— Папраўлюся. Ад’емся. Дзе дзенецца.

Было няёмка аб чым-небудзь распытваць Івана. Ён быў яшчэ недзе там, у палоне цяжкай сваёй дарогі. Міця стаў развітвацца.

— Я прыйду да цябе,— сказаў Іван.— Трэба спачатку схадзіць да маці Нупрэя...

## 2

Зіма пачалася халадамі і вятрамі. Стагнаў і трашчаў недалёкі лес, шалёна завывала ў коміне і ў тэлеграфных дратах. Вецер валіў з ног, засыпала вочы снежнай крупой.

З будкі Птаха ўсе гэтыя дні ніхто не выходзіў. Ніхто не прайшоў паўз яе з местачкоўцаў. Было цяжка ўявіць нават, што лютая завіруха застане каго-небудзь у дарозе. І ўжо зусім нельга было ўявіць, што там, на фронце, нехта ў гэты час ляжыць у засыпаных снегам акопах.

Вечарам, калі на камінку дагараў яловы корч, а няроўныя водбліскі агню скакалі па даўно не беленых сценах, у дзверы будкі пачуўся настойлівы грук.

— Стукае нехта,— сказаў Міця. Ён сядзеў пры самым агні і чытаў. Бацька плёў лапці.

— Можа, вецер,— прамовіў бацька.— Каго ў такую ноч панясе.

Але стук паўтарыўся, цяпер ужо ў раму заснежанага акна. У будку, да цяпла, прасіўся чалавек.

Бацька выйшаў у сенцы і зняў зашчапку. Тады на парозе паявілася белая, абледзянелая здань. У Міці па целе пабеглі мурашкі, на печы заплакала ўголас меншая сястра.

— Божа ж мой, хто ж гэта такі? — завохкала маці.

— Не падыходзьце да мяне,— натужна засіпела чалавечым голасам здань.— Можа, я вам тыфу ці халеры прынёс. Я Іван Гусоўскі, шафёр, калі не забылі. Уцёк з палону...

— Тапі печ,— загадаў Птах гаспадыні.— Грэй ваду...

Калі той, хто назваўся шафёрам, скінуў з сябе абледзянелыя транты, перад позіркам паўстаў страшэнна схуднелы, змізарнелы чалавек. Ён увесь быў чорны, худы — скура ды косці. Нельга паверыць, што гэты шкілет сваімі нагамі ішоў праз мароз і вецер. «Добра, што Іван Лобік не трапіў у палон»,— мільганула ў Міці думка.

Транты выкінулі, Івана збольшага памылі, апранулі ў бацькава рыззё, і ён сеў на саломе ля качарэжніка. Яму далі есці. Глядзець на тое, як ён есць, балюча. Іван увесь згінаецца, дрыжыць, у горле ў яго нешта булькае, ірвецца.

— Табе нельга многа есці,— сказаў бацька і адабраў міску з бульбай.— Кладзіся спаць. Заўтра пабачым.

Івана, нягледзячы на тое, што ён мог несці ў сабе тыф або другую хваробу, накрылі паўзверх коўдры кажухом, тым самым, які бацька апранаў у холад. Іван паваліўся на салому і, як забіты, адразу заснуў.

У Птахавай будцы ў тую ноч не заснулі. Лютаваў і біўся аб каменную сцяну вецер, стагнаў лес, а тут, у цяпле, забыўшыся непрытомным сном, пакутаваў чалавек. Ён крычаў, падхопліваўся, скрыгатаў зубамі, на хвіліну сціхаў, свішчучы прастуджанымі грудзьмі, нібы кавальскім мехам. Потым усё пачыналася спачатку. Такое трызненне цягнулася праз усю ноч. Міця думаў, што шафёр захварэў.

Назаўтра Іван, аднак, прачнуўся здаровы. Твар яго зарос густой шчацінай, сам ён, як засохшае дрэва, вялікія чорныя вочы схаваліся пад самы лоб, але цяпер шафёр быў больш падобны да чалавека, чым учора. Ён умеў нават смяяцца.

— З таго свету вярнуўся, цётка,— сказаў ён, звяртаючыся да маці сіплым, зусім не падобным на ранейшы, голасам.— Чарцей бачыў, а Бога — не. Няма на свеце Бога, інакш ён бы такога не дазволіў. А калі ёсць, ды толькі схаваўся, то я яму вырву бараду...

Маці адмахвалася ад Іванавых слоў, а сам ён, натужна свішчучы грудзьмі, спрабаваў усміхацца.

Брытвай Іван абскуб з твару шчаціну, нацёр несалёным здорам абмарожаныя рукі і ногі, потым снедаў, стараючыся есці спакойна. Пад раніцу завіруха сунялася, але бацька не пайшоў на сядзібу. Зрабіў ён гэта дзеля Івана. Іван пачаў расказваць...

Калі забіваюць скаціну, то стараюцца рабіць гэта так, каб яна не здагадвалася аб блізкай смерці. Свінчо перад тым, як закалоць, пакормяць, пачэшуць пад чэравам, і яно, пакорнае ласцы, даверліва ляжа. З імі, палоннымі, так не рабілі. Іх, трыццаць ці сорак тысяч, загналі на звычайнае асенняе поле, агароджанае калючым дротам. Раненых і хворых дабілі па дарозе, і ніхто не лічыў іх, не запісваў прозвішчаў.

Першыя два дні не далі ні яды, ні вады, і палонныя ляжалі на голай зямлі. Але спачатку памерла мала — тысяча ці дзве чалавек, самыя слабыя. Потым пачалі карміць. Прывезлі грэчкі, у снапах — відаць, паблізу засталася неабмалочаная,—

і дзялілі па снапу на дзесяць чалавек. Некаторыя спрабавалі жаваць салому. Памерла яшчэ некалькі тысяч. Іх вывозілі, як дровы, голых, накладаючы на доўгія фуры штабялямі.

Праз тыдзень яду раздавалі з катла, гарачую. Раз у суткі. Што варылі? Цяжка было разабраць: бульбу, бручку, буракі — усё нячышчанае, з зямлёй. І грэчку варылі, і ячмень, і авёс. Коням гэта яшчэ, можа, і нішто, коні б елі, а людзі... Але елі і людзі. Нават спрачаліся, падладжваючыся, каб урваць другі чарпак.

Немцы любілі, калі палонныя спрачаюцца. Яны тады стралялі ў кучу, не разбіраючы ні правага, ні вінаватага. Прывязуць дохлага каня, скінуць на полі, на яго наляціць цэлы натоўп, а яны страляюць. Эканомія: адна куля прашывала дваіх.

Яшчэ там, на полі, тысяча ці болей палонных згаварыліся. Кінуліся на дрот, пярэднія ўпалі на калючкі, а па іх целе палезлі астатнія. Кулямётамі секлі з вышак, сабакамі травілі, але, можа, хто і ўцёк. У тую ж ноч палонных паднялі са снегу, пастроілі ў шарэнгі і кожнага пятага вывалаклі ўбок. Расстралялі. Іванавага правага суседа расстралялі, Іван аказаўся чацвёртым.

Праз месяц палонных засталося толькі тры тысячы. Нельга было паверыць, што яны жывыя. Ноччу іх заносіла снегам, і здавалася, што на полі проста намяло невысокія гурбачкі. Але кожнае раніцы большасць гурбачкаў пачынала варушыцца, людзі яшчэ жылі. Хутка ў гэты лагер — ён быў перасыльным — падагналі свежых палонных, а тых, што вытрывалі, пагналі далей на захад. Па дарозе Іван уцёк...

Міця слухаў Івана, не зварухнуўшыся. Нешта гарачае, балючае расло ў грудзях. Бацька курыў, маці плакала, выціраючы слёзы фартухом.

— Такой вайны яшчэ не было,— сказаў бацька.— Б’юць і ляжачага, і раненага, і хворага. Проста народ вынішчыць хочуць. Праўду пра іх пісалі, фашысты...

— У Бога не верылі, а ў Святым Пісанні сказана: пойдзе народ на народ і пацякуць рэкі крыві,— прамовіла маці.— Усё на тое выйшла, як на далоні.

— Кінь цётка, пра Бога.— Іван сядзеў на ўслончыку, прыхінуўшыся спіной да печы.— Бачыў я, што робяць тыя набожныя. Адной рукой хрысціцца, а другой чалавека штыком коле.

— І сказана было: устане брат на брата, а сын на айца,— працягвала маці.— Згубілі людзі веру, таму такое і пайшло.

— Азвярэў народ,— сказаў бацька.

— Азвярэў,— пацвердзіў Іван.— Дзіва што азвярэеш. Калі цябе б'юць і плакаць не даюць і ніхто табе не паспагадае, то што рабіць? Біць, рэзаць, як і яны... Знайшліся такія з палонных нашых, што паступілі ў нямецкія ахоўнікі, далі ім вінтоўкі і бярозавыя палкі. Страляюць яны ў сваіх не горш за немцаў, трупашчаць палкамі галовы. А потым праштрафіўся за нешта адзін, піхнулі яго назад да нас за дрот. Дык у першую ж ноч яго разарвалі на кавалкі...

Міця маўчыць. Новае і нязведанае пачуццё напаўняе грудзі. Ён ужо думаў раней аб тым, як гэта можна, гледзячы ў твар чалавека, яму ў вочы, у яго страляць. Проста вайна — гэта другое, там людзі рэдка бачаць тых, каго забіваюць, у каго страляюць, а калі і бачаць, то імі валодае ў такіх выпадках інстынкт самааховы: не заб'еш ворага, то заб'е цябе ён. Але страляць у бяззбройнага, безабароннага... Гэтага Міця не разумее. Ён многа чытаў аб грамадзянскай вайне, ведаў пра зверствы белых над палоннымі чырвонаармейцамі. То была вайна класавая, тыя, што здзекаваліся, забівалі, былі афіцэрамі, панамі, багацеямі, іх нянавісць неяк можна было зразумець. Канчалася іх панаванне, і яны лютавалі. А немцы?.. На іх жа ніхто не нападаў, з імі гандлявалі, вазілі ім хлеб і масла, яны самі прыйшлі, нязваныя і няпрошаныя. І хто ў нямецкай арміі: не адны ж лавачнікі і каўбаснікі, ёсць жа і рабочыя, і сяляне...

— Няўжо немцы гэтак ненавідзяць нас? — спытаў Міця.— За што так здзекуюцца?

— Ненавідзяць? — перапытаў Іван.— Не ведаю. На выгляд яны спакойныя. Застрэліць чалавека і хоць бы што. Курыць цыгарэту, смяецца. Але я іх ненавіджу. Усе яны сволачы і вісельнікі. Адна з Гітлерам банда. Каб трапіўся цяпер каторы ў рукі, рэзаў бы жывога, не меў бы літасці ні на кроплю.

— Грэх так гаварыць, Іван,— прамовіла Міцева маці.— Не дай Бог.

— Дык што ты, Іван, думаеш цяпер рабіць? — спытаў бацька.

— Трэба косці спачатку паправіць. Пайду ў вёску, ёсць нейкая цётка, хату ёй памагаў ставіць. Можа, пусціць на печ. А не, дык свет не без добрых людзей, як-небудзь перазімую. А там — бог бацька, кожны куст дасць начлег. Круціць баранку да немцаў не пайду. Не-э-э...

— Табе што, адзін душою.

— Нямецкага хлеба я пакаштаваў ужо, дзядзька. Горкі хлеб, і вам не раю есці.

— Я ведаю сам. Але што зробіш? Вось забралі цябе ў палон, душылі голадам і — маўчаў. Уцёк, і ўсё тваё ўцякло з табой. А я куды ўцяку? Дзе іх падзену? — Бацька паказаў на прыціхлых дзяцей, якія ўважліва слухалі гаворку дарослых.— Паставіў там нейкія сцены — і табе дзякуй, памагаў,— да лета, можа, агледжу, выберуся адсюль. Пра што ж мне болей думаць? Абы як цішэй пражыць...

— Так, час ліхі настаў, дзядзька.

Іван пайшоў праз дзень, пераспаўшы ў парозе на саломе дзве ночы. Яго ўгаворвалі пажыць яшчэ, адпачыць, але ён настояў на сваім. Ён саромеўся свайго выгляду, саромеўся шмат есці, хоць і вельмі хацеў. Бацька даў яму сваю бялізну, ватоўку. Маці — на дарогу — печанай бульбы, кавалак сала. Міця праводзіў Івана да лесу і доўга вагаўся: даць яму газету ці не. Ён узяў адну з-пад страхі, са свайго патаемнага схованча, але гаворкі пра фронт, пра баі, якія вяліся пад Масквой і пра якія пісала газета, у будцы не было. Няёмка было з Іванам — счарнелым, схудзелым — зачынаць такую гаворку. І ўсё ж Міця наважыўся прапанаваць газету. Хацелася чым-небудзь усцешыць, падбадзёрыць змучанага голадам і холадам шафёра.

— Вось газета,— сказаў Міця.— Нашы з самалёта скінулі.

— З самалёта? — устрапянуўся Іван.— Я, брат, з кастрычніка, як трапіў пад Арлом у палон, ніякіх газет не чытаў. Давай паглядзім...

— Можаце сабе ўзяць. У мяне яшчэ ёсць. Тут ёсць і пра баі пад Масквой.

Іван акінуў хлопца хуткім, нібы спалоханым позіркам і моўчкі засунуў газету за пазуху. Потым павольна пакрочыў, астаўляючы ў снезе разлезлымі, перавязанымі дротам ботамі няўклюдныя сляды.

## 3

Іван Лобік прыйшоў дзён праз пяць, надвячоркам, апрануты ў тое самае старэнькае паліто, якое насіў яшчэ ў школе, Міця чакаў яго ўсе дні. Ён прадчуваў, што добрыя адносіны з Лобікам наладзяцца, аднак няясная трывога закрадвалася ў душу.

Лобік прыйшоў, і трывога знікла. У Міцевай сям'і Івана любілі.

— Гора пабачыў, дзеткі.— Маці з жалем глядзела на хлопца.— Бач, худы які, адны вочы свецяць.

Маці адчыніла куфар, які замыкала ад дзяцей, дастала зрэбны мяшочак — завязаны з двух канцоў рукаў ад кашулі — і, хоць Іван працівіўся, насыпала ў кішэню семак.

Бацька павітаўся з Іванам, як з дарослым, за руку.

— Можа, з табой і Міця акрыяе. А то павесіў нос, як той, што бацьку пахаваў. Вучыліся вы, вучыліся, а яно бач як...

Не забылі Івана Міцевы браты — Адам і Пятрусь. Адам, які па мірным часе хадзіў бы ў шосты клас, а цяпер вучыўся ў шаўца, выглядаў ладным дзецюком. Ён нібы саромеўся Івана. Пятрусь, наадварот, выбрыкваў па хаце, падносячы напаказ госцю свае набыткі — канькі, пляскаты нямецкі штых, палавінку школьнага глобуса. З ляжанкі прагна цікавалі за госцем дзяўчаты — Таня і Каця.

Мала што змянілася ў Міцевым доме. Тая ж драўляная перагародка як бы дзяліла будку на два пакоі. На большы, чысты пакой, як і раней, прыходзілася ляжанка і грубка. Тут стаяў нікеліраваны ложак, камод, стол, драўляная скрыня з Міцевымі кнігамі. Цікаў на сцяне гадзіннік з намаляваным на цыферблаце трактарам.

За акном згушчаліся сінія змрокі. Міця затапіў грубку. Зноў, як і ў мінулыя, мірныя дні, трашчалі дровы, па сценах скакалі няроўныя водбліскі агню, а яны, схіліўшыся ля

грубкі, сядзелі і гаварылі... Праз гадзіну Міця ведаў усё, што здарылася з Іванам, Нупрэем і другімі дзесяцікласнікамі, якіх тады, у ліпені, прызвалі. Ішлі пешкі два тыдні, ад Бранска ехалі, у Ліўнах іх узялі на ўлік у ваенкамаце. Накіравалі ў запасны полк. Але полк ноччу зняўся, і яны прыбіліся да вайсковай часці. Яна выступала на фронт, пад Гомель. Абмундзіравалі, далі вінтоўкі. З-пад Гомеля адыходзілі, стаялі ў абароне пад Камарычамі. Галембу забіла яшчэ ў Беларусі, бомбай. Прыйшоў загад — адкамандзіраваць дзесяцікласнікаў у ваеннае вучылішча, якое размяшчалася аж у Казахстане. Зноў прыехалі ў Бранск. Здарылася так, што частку адкамандзіраваных адправілі, а другая — асталася. З шаснаццаці местачковых хлопцаў засталіся Лобік з Нупрэем Гілем. Неспадзявана немцы захапілі Арол, Бранск быў ужо ў тыле. Іван з Нупрэем трапілі ў загараджальны атрад. За ноч іх зрабілі мінамётчыкамі — Гіля камандзірам разліку, Лобіка першым нумарам. Мінамёт ротны, маленькі, тэхніка нескладаная. Трымаліся два дні, але раніцай трэцяга немцы пусцілі танкі. Супрацьтанкавай зброі ў атрада не было, нават гранат. Каго не забіла, задушылі гусеніцамі — танкі прасавалі акопы.

— Ты бачыў, як Нупрэя забілі? — спытаў Міця.

— Не. Мяне кантузіла раней. Немцы нас засеклі, накрылі мінай. Называецца вілка. Запасной пазіцыі не было.

— А забітага бачыў?

— Не. Нупрэеў акопчык быў наперадзе. Танкі яго зраўнялі з зямлёй.

— Ты і матцы так сказаў?

— А што я скажу?..

Міця з палёгкай уздыхнуў: заставалася кропля надзеі, што Нупрэй жывы. У памяці прыкідваў, што рабіў сам у той час, калі хлопцы ваявалі. Бой пад Бранскам быў у пачатку кастрычніка, ён хадзіў у лес, гуляў з Плоткіным у шахматы. Два гады розніцы, але Іван бачыў усё, а ён, Міця, нічога...

— Можа, Нупрэй паспеў адысці?

— Дзівак ты,— Іван сумна ўсміхнуўся.— Куды адысці? Нас пакінулі спецыяльна, затрымаць немцаў...

— Нікога не засталося жывога? — Міця адчуў, як у грудзях халадзее.

— Не ведаю. Мяне жанчыны падабралі. Восем дзён ляжаў у хляве.

Худы Іванаў твар засяроджаны. Гаворыць ціха, пакутліва моршчачы лоб, і ўвесь час нібы стараецца нешта ўспомніць.

— Што ты думаеш пра фронт? — пытае Міця.

— Адступленне.— Іван безнадзейна махнуў рукой.— У немцаў танкі...

— У мяне ёсць «Правда» за 7 лістапада. Баі пад Масквой.

— Я ўжо чытаў. Вілюга прынёс.

— А дзе ён узяў? — у Міцевым голасе крыўда.

— Нехта ў лесе знайшоў. Газета ж старая, болей за месяц прайшло. Немцы гавораць, што Масква і Ленінград заняты.

Іван — прыгнечаны, на ўсё глядзіць з адчаем. Здаецца, яго зусім не цікавіць тое, што было, што будзе. На двары гамоняць бацька з Адамам — ездзілі да Шнапса рэзаць сечку. Іван стаў апранацца. Разам з ім Міця выйшаў на двор. Адзінокая стаіць на курганку сасна. Снег навіс на галінах, прыгнуў іх да зямлі.

Міця ўспомніў Першамай, які ўтрох яны праводзілі тут, пад сасной, шумныя зборы дзесяцікласнікаў на пераездзе, і ў яго зашчымела ў грудзях. Усплылі ў памяці радкі з вядомага верша пра сасну — там, на далёкай Поўначы. У маўклівай задуменнасці гэтая, свая, здаецца, таксама трызніла аб сонечных днях, нязведаных далях...

Ішлі занесенай снегам чыгункай, маўчалі. Вісела над зямлёй бяздоннае зорнае неба. Было светла. На снежную роўнядзь палёў клаліся сіняватыя палосы. Вакол — над лесам, полем, чыгункай — стоеная цішыня.

На Вакзальнай вуліцы, амаль насупраць Іванавай хаты, стаіць дом, большы і прывабнейшы на выгляд, атулены садам. У ім жыве паліцай Сямён Цялеш. Сябры стаялі ля веснічак і глядзелі на гэты дом. Вокны ў ім свецяцца, у садзе разпораз бліскае аганёк цыгаркі. На станцыі пачуўся стрэл, Іван уздрыгнуў.

— Я табе хацеў расказаць,— пачаў ён глухім, ломкім голасам.— Мяне ледзь не расстралялі. Тут блізка, каля Кукавіч.

Міця маўчыць. Нешта балючае, пакутлівае чуе ён у Іванавым голасе.

— Перад Кукавічамі я начаваў у адной вёсцы, і там мне сказалі, каб я ішоў шашой. На шашы падбілі нямецкую машыну, і ўсіх, хто трапляўся паліцэйскім на вочы, хапалі.

Я паслухаўся, пайшоў лясной дарогай. Бяду, мабыць, прадчуваеш. Выйшаў з лесу, нейкая другая вёсачка ў лагчыне. А тут якраз імчыць праз вёску машына.

У кузаве — паліцаі. Убачылі мяне, саскочылі: «Рукі ўгору!» Знялі шапку — валасы адпушчаны. Нас, дзесяцікласнікаў, пасля таго як прызначылі ў вучылішча, не стрыглі. «Ясна,— крычаць,— камандзір або палітрук. Піхай у кузаў».

Піхнулі, самі паселі і нічога не пытаюць, хто я, куды ішоў. Ім ясна. Вязуць некуды. Прыехалі ў Кукавічы. У нейкім гумне мяне заперлі і пайшлі. Сумна стала. Галоўнае — перад самым домам трапіў у кашу. Месяц ішоў, некалькі разоў затрымлівалі, але выкручваўся. Гаварыў — іду з ФЗН, паглядзяць — малады. Адпускалі.

Хутка вяртаецца адзін — высокі, прыгожы, выскаляецца. «Ты, кажа, не бандыт, я бачу, бо ў бандыта рыла, а ты — дахадзяга. Але немцы цябе ўсё адно ў лагер не возьмуць, яны вашага брата, палітрука, на месцы канчаюць». І пытаецца, куды ішоў. Я сказаў. «А Франю Бейзік ведаеш?» — «Ведаю».— «Дзе яна жыве?» Гавару. Ён выскаляецца, толькі брыдчэй неяк. «Маліся, кажа, на зорку Венеру і цалуй зямлю, што на мяне натрапіў. Капцы б табе былі. За свой паратунак саслужыш мне маленькую службу».

Павёў мяне ў хату, напісаў запіску. «Перадасі Франі»... І адпусціў.

— Я ведаю гэтую Франю,— сказаў Міця.— На акопах бачыў. Круцёлка.

— Чорт з ёй, няхай круціцца. Але бачыш — усё ад выпадку залежыць. Не ведаў бы яе — ні за грош кокнулі б. Чалавек як муха...

Іван правёў Міцю да чыгункі. Было позна ўжо. У мястэчку — залівісты сабачы брэх.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### 1

Хата Івана Лобіка — крывабокая, пахілая — яшчэ да вайны была месцам шумных хлапечых зборышчаў. Іванаў бацька сышоўся з другой жанчынай, плаціў на дзяцей аліменты; маці, хворая ціхім памяшаннем розуму, хлопцам не замінала. Падлеткі, што непрыкметна для саміх сябе станавіліся юнакамі, любілі вольніцу, таму з ранку да вечара не зачыняліся ў Іванавай хаце дзверы. Сюды наведвалася ледзь не ўся Вакзальная вуліца. Быў час — гады за чатыры перад вайной,— калі ў Лобіка, займаючы ўвесь вольны прамежак хаты, стаяў нават вялікі клубны більярд. Більярд сцягнулі з клуба аўташколы як бы ў адплату за тое, што курсанты не пускалі хлопцаў ганяць шары.

Пазней, калі Іван вучыўся ў дзявятым і дзясятым класах, кола сяброў звузілася. Тут дзейнічаў больш строгі прынцып адбору, які патрабаваў пэўнага адзінства разумовых імкненняў і інтарэсаў. Але ўсё адно шумна было ў Лобікавай хаце. Тым болей што натура ў Івана мяккая, шырокая, хочаш кнігу — бяры, і не спытае, ці прынясеш назад.

Са зваротам Івана сяброўства аднавілася. Паступова, дзень за днём хлопцы растапілі лёд у Лобікавай душы.

Міця не мог пражыць дня, каб не схадзіць да Лобіка, не прыняць удзелу ў спрэчках, якія штовечар разгараліся паміж хлопцамі. З раніцы яны з бацькам кошкаюцца на дзедавай сядзібе. Хата пачынае набываць выгляд: падняліся сцены, прарэзаліся вокны, дзверы. Зверху спляліся кроквіны. Катушок, а не хата, але бацька радуецца. Міця з нецярпеннем чакае вечара.

Гаспадар з Івана няважны. За той час, што сядзіць дома, мог бы хоць як-небудзь дагледзець жытло. Выбітыя выбухам бомбы шыбы маці яшчэ з восені пазатыкала анучамі. Так асталося і пры Іване. У хаце страшэнна холадна. У вядры замярзае вада — там ляжыць круглы лядзяш. Але такой дробязі, як холад, Іван, задаецца, не заўважае. Штовечар, як і Міця, прыходзяць Мікола Цябут, Базыль Вілюга і Шура

Гарнак. З таго дня, як там, на акопах, хлопцы развіталіся з Міцем, разам ён іх не бачыў. Мікола нідзе не паказваўся.

Газы ў Івана няма, дроў таксама. Сабраўшыся, хлопцы пастанаўляюць запаліць у грубцы. Сядзець у халоднай цёмнай хаце і гаварыць пра палітыку — сорамна, і сябры кіруюцца нарыхтоўваць дровы. Іван хоча ідзе, хоча — не, у залежнасці ад настрою. На голым, як бубен, яго двары нічога драўлянага няма, яно даўно пасечана і спалена. Узброіўшыся калуном, хлопцы ідуць да чыгункі. Там — снегаахоўныя шчыты.

Шчыты ніхто не пільнуе, і хлопцы прыступаюць да работы. Іванавым калуном секчы нельга, ім можна толькі ламаць і крышыць, бо яго, мабыць, не вастрылі з таго часу, як ён трапіў да свайго нядбайнага гаспадара. Хлопцы ломяць, крышаць, і праз гадзіну ў Іванавых сенцах ляжыць гара дошак. Добраму гаспадару гэтых дроў хапіла б на месяц, у Івана яны разыдуцца за тры дні.

У грубцы трашчаць смольныя дошкі, няроўныя водбліскі агню скачуць па цёмных, даўно не беленых сценах, па замёрзлых вокнах, па стале, заваленым кнігамі. Хлопцы прымашчваюцца ля грубкі хто на чым — на ўслончыку, стуле, сам гаспадар сядзіць на кукішках.

— Мабыць, хлусня, што Маскву забралі,— пачынае Мікола.— Немцы б тады затрубілі. Яны ўмеюць хваліцца. У іхняй газеце было напісана, яшчэ калі яны толькі Арол занялі, што нашай арміі няма. Нічога няма — ні самалётаў, ні танкаў. А вайна ж ідзе...

— На Украіне фронт у Данбасе, гэта я ведаю,— заяўляе Шура Гарнак.— Данбас не здалі. Нядаўна акружэнец ішоў. Расказваў.

Іван Лобік глядзіць на ўсё болей змрочна, чым астатнія:

— Многа яны захапілі. Індустрыяльная база на Украіне ў іхніх руках. Крывы Рог, Запарожжа, Днепрапятроўск. У іх і так болей, чым у нас, тэхнікі.

— Болей,— згаджаюцца хлопцы.— Германія раней за Расію ўступіла на капіталістычны шлях. Адзін Рур што значыць. А цяпер у іх ледзь не ўся Еўропа, Францыя, Чэхаславакія... Гэта ж развітыя краіны. Румынская нафта ў іх...

— А што самае галоўнае ў вайне? — запытваюцца хлопцы ў Лобіка — ён быў на фронце, павінен лепш ведаць.— Тэхніка?

— Тэхніка,— пацвярджае Іван.

Хлопцы змаўкаюць. Яны ўсе вывучалі эканамічную геаграфію, гісторыю і ведаюць, што перамагаюць тыя арміі, якія лепей узброены. Так было ў Крымскую вайну, у вайне Расіі з Японіяй, у імперыялістычную вайну. Тое, што дала ім школа, прыгнятае цяпер цяжкім грузам. Яны бачылі матарызаваныя калоны немцаў, армады самалётаў, дый наогул дастаткова разумеюць тую пагрозу, якая навісла над іх краінай. Але довадам розуму не хочацца верыць. Куды болей іх задаволіў бы які-небудзь цуд, нешта незвычайнае, што паламала б усе довады сумнай навукі пад назвай эканоміка.

— У грамадзянскую вайну з намі ваявала чатырнаццаць дзяржаў,— задумліва гаворыць Міця.— Тэхнікі ў іх было болей, чым у нас, у дзесяць разоў. А перамаглі мы. Значыць, не самае галоўнае — тэхніка.

— Не самае галоўнае,— пацвярджае Мікола.

— Вайну вырашае дух народа,— заяўляе Міця.

Хлопцы здзіўлена глядзяць адзін на другога. Нібы зрокава паўстаюць перад імі не раз бачаныя на экране чырвонаармейскія палкі, будзёнаўскія коннікі, галодныя, змардаваныя. Яны гналі хвалёных генералаў, разбівалі арміі, узброеныя першакласнай тэхнікай. Сапраўды, чаму яны перамаглі? У чым была іх сіла? Цвярозы разлік адказу на гэта не дае. Існуе штосьці большае, важнейшае за самалёты, бомбы, танкі, за ўсё тое, што называюць ваеннай перавагай...

Гэта — выйсце, і яны хапаюцца за яго. Успамінаюць «Вайну і мір» Льва Талстога — менавіта там ідзе гаворка пра дух. Ім падабаецца цяпер гэтае мала акрэсленае слова. Дух азначае душу, а ў яе яны не вераць і не ведаюць, што гэта такое. Ніводная з школьных навук не гаварыла пра душу. Яны не вывучалі філасофіі, але ўжо ведаюць, што ёсць толькі тое, што бачыш, што можна памацаць, панюхаць або выявіць пры дапамозе прыбораў. Свет запоўнен матэрыяй, якая рухаецца...

Цяпер яны з запалам, з захапленнем гавораць пра дух. Яны нібы адчуваюць яго ў саміх сабе, хочуць, каб здарыўся

цуд, каб армія, якая адступала, здала сотні гарадоў, страціла мільёны забітымі, палоннымі, набралася сілы і пагнала ворага назад. Гэтага яны болей за ўсё жадаюць, і гэта можна назваць духам...

Дровы ў грубцы дагараюць, хлопцы сядзяць і гавораць у змроку. Ад гэтага словы, якімі яны перамаўляюцца, нібы набываюць яшчэ большую важкасць, напаўняючыся таямнічнай значнасцю.

Нябачныя падземныя крыніцы, якія б'юць недзе з самага дна, напаўняюць вадой ціхае лясное азярко. Атуленае лазнякамі, купчастымі вольхамі, не перасыхае яно ў самую вялікую гарачыню.

Штодня ў спякотны полудзень з усіх канцоў пашы гоняць сюды на вадапой змардаваныя пастухі свае статкі. І азярка таго — дужаму чалавеку пераскочыць,— а ніколі не вып'е яго скаціна, хоць згані яе сюды з усёй акругі...

Можа, упершыню за ўсе цяжкія дні дружбакі адчулі, што па-ранейшаму вераць у тое, што далі ім кнігі, школа, іх пакуль яшчэ невялікае жыццё. І калі сярод сумненняў, болю, расчаравання прабілася гэтае, самае галоўнае, без чаго нельга жыць, яны акрыялі. Вера нябачная, няўлоўная сіла — узвышае душу, поўніць яе зіхатлівым бляскам, цудоўнай музыкай. У гэтым сэнс жыцця...

Збіраюцца ў Лобіка свае, школьныя хлопцы. Яны не ўмеюць ні хітраваць, ні таіцца адзін перад другім. Пасля пакутлівай адзіноты кожны з іх нібы трапіў у знаёмы школьны свет. Ахмеленыя радасцю, пачынаюць загадваць наперад.

— У немцаў няма бензіну! — крычыць Вілюга, размахваючы рукамі.— Іх наступленне захлынецца. Ну няхай зоймуць Маскву, да Урала яшчэ далёка. Напалеон таксама быў у Маскве. Што з таго?..

— Дурань ты,— разважлівы Лобік гарачыцца, калі тое, што гавораць, пярэчыць яго думцы.— Што ты раўняеш Гітлера з Напалеонам? Напалеон вузкай паласой ішоў. Заняў Маскву, яму ходу далей не далі, і канец... Гітлер наступае ўсім фронтам. Прамысловыя цэнтры захапіў. І хопіць яму бензіну, не хвалюйся...

За «дурня» Вілюга не крыўдуе, але хапаецца за другое.

— Дык ты за Гітлера, за фашызм! — крычыць ён так, што чуваць на двары.— Навучыла савецкая ўлада. З-за такіх, як ты, і адступленне. Папрыходзілі дадому, лежыцё на печы!..

Лобікаў скептыцызм канчаецца, і ён лямантуе гэтак жа, як і Вілюга:

— З-за вас, гарлапанаў, адступленне. Крычалі — ваяваць будзем на чужой тэрыторыі, шапкамі закідаем... Дзе вашы танкі, дзе самалёты? Палічы, колькі будзе ад Львова да Растова. Дзве тысячы кіламетраў.

Лобік перабраў лішку, і на яго накідваюцца ўсе.

— Ты пра каго гаворыш? — пытаюцца ў яго.

— Пра вас... Усе вы такія!..

— А ты які? Герой. Наваяваў... Дзень паляжаў у акопах...

— Пляваў немец на вашы акопы. Месяц пад Бранскам капалі, крычалі: «Непрыступная лінія», а танкі нямецкія ўжо ў Арле. Любуйцеся вашымі равамі...

— Вашы, вашы, а твае дзе? Сам ты чый? У паліцыю ідзі! Там такія патрэбны!..

Накрычаўшыся да хрыпаты, хлопцы выходзяць на вуліцу. Б'е ў твар вецер, шуміць у апусцелых садах. Зімовае неба шчодра засеяна зоркамі, з-за лесу выплывае месяц, лье на цёмнае мястэчка сумнае сваё святло. Аднастайна гудуць парваныя тэлеграфныя драты. Страляюць паліцэйскія. Патрулі па вуліцах не ходзяць, і можна блукаць па мястэчку колькі захочацца. І яны блукаюць, праходзячы вуліцу з канца ў канец, зварочваюць на пустую, мёртвую станцыю, мінаюць школу, якая свеціцца ўсімі вокнамі. У школе — немцы. Невыносна ад думкі, што тут, у мястэчку, і на сотні вёрст навакол — немцы...

На адной з вуліц, у вялікім, як гумно, доме рыпае гармонік, бухае бубен, з цёмнага панадворка даносяцца прыглушаныя галасы. Штовечар праходзяць хлопцы паўз гэты вясёлы дом, дзе ладзяцца вечарынкі. Танцаваць ніхто не ўмее.

— Гітлер прайграе вайну,— гаворыць Лобік, стараючыся ясней давесці свае перакананні і апраўдацца перад сябрамі.— Можа, яна толькі доўга працягнецца. Супраць Германіі Англія, Амерыка.

— У Амерыцы і Англіі капіталісты,— не згаджаецца Вілюга.— Яны Гітлера самі нацкавалі на нас.

— Ды зразумей ты, што Брытанская імперыя прападзе, калі мы прайграем. Думаеш, Англія такая дурная, не разумее? Нашы войскі разам з англійскімі занялі Іран. Хіба нам Іран патрэбен? Камунікацыі...

— Гес паляцеў у Англію змаўляцца з капіталістамі,— стаіць на сваім Вілюга.— Пра гэта ў газетах пісалі.

— Але ж не дамовіўся. Лондан немцы ўсё адно бамбілі... Спрэчкі штовечар...

## 2

Іх чацвёра, хто хадзіў да Івана Лобіка яшчэ да вайны, але ёсць і пяты. Гэта Сяргей Амельчанка, хата яго тут жа, на Вакзальнай вуліцы. Міця вучыўся з Сяргеем да чацвёртага класа, потым той пакінуў школу. З далёкіх, яшчэ дзіцячых гадоў помніць Міця выпадак. Настаўніца дакарала Сяргея:

— Я ішла вуліцай і бачыла, як ты біў курыцу. Трэба шкадаваць хатнюю птушку, а ты б’еш.

— Я за тое біў, што яна кукарэкала, як певень,— панура адказаў Сяргей.

Перад вайной Сяргей, гэтак жа, як і Шура Гарнак, вучыўся ў вячэрняй школе. Абодва яны спачатку кінулі навуку, потым, нібы спахапіўшыся, прагна пацягнуліся да яе. Стараючыся хоць як-небудзь зраўняцца з хлопцамі, якія абагналі яго ў вучобе, Сяргей чытаў кнігу за кнігай — з тых рэдкіх, якія былі толькі ў Лобіка і якія чыталі ўсе яны.

Далей для Міці трохі незразумелае: Сяргея, адзінага з усіх местачковых хлопцаў, узялі ў знішчальны батальён, і ён быў там, у лесе. Нядаўна вярнуўся разам з тымі, што прыйшлі да сем’яў.

Сяргей прысадзісты, плячысты, з круглым чарнявым тварам. За Міцю старэй на год. У спрэчкі не ўступае, мабыць, саромеецца — хлопцы болей ведаюць, ён скончыў толькі шэсць класаў. Увесь час засяроджаны, хмуры — перажывае, што прыйшлося здаць немцам зброю.

— Чаму вы разышліся? — аднойчы спыталі ў Сяргея.

— Праз здраднікаў. Мацвеева і яшчэ двух забілі, у разведку хадзілі. А гэтыя — Касарэвіч, Адамчук і Спаткай з Піляціч збеглі. Склады, лагер выдалі. Немцы сем’і маглі расстраляць.

— Трусы ўсе былі ў вашым батальёне,— заявіў Вілюга.— Да жонак пацягнула, у цёпленькую пасцель.

— Не ўсе трусы. Можаш не верыць, я двух немцаў паклаў, як быў бой на шашы.

— Дык чаму разбегліся, калі такія смелыя?

— Не ўсе разбегліся. Дванаццаць чалавек пайшло за фронт. Філімонаў павёў, старшыня райвыканкама. Анкудовіч зброі не здаваў. Нас паслалі сюды для падпольнай работы.

— Каго вас?

— Мяне, Аўсяніка.

Пра падпольную работу, Анкудовіча, які хаваецца з вінтоўкай у далёкай лясной вёсцы, хлопцы не думаюць. Ёсць клопат вастрэйшы — ніхто не ведае пра становішча на фронце. Паліцэйскія хваляцца, што Масква захоплена...

У адзін з тых снежаньскіх дзён, у нядзелю, калі хлопцы выйшлі на вуліцу, на шпацыр, падбег задыханы Базыль Вілюга. Яны сабраліся ў Лобіка яшчэ днём, а яго не было.

— Ёсць радыёпрыёмнік,— зашаптаў ён.— У Грышы Цукара. Можна паслухаць Маскву...

Вестка ўразіла, нібы гром з зімовага неба. Нібы перамяніўся свет. Міця адчуў, як забілася сэрца. Тое незвычайнае, цудоўнае, аб чым яны так упарта гаварылі апошнія дні, нібы здзейснілася. Вілюга хвалюецца, рукі дрыжаць, і нельга яму не верыць...

Калі першае ўзрушэнне прайшло, нарадзілася сумненне. З Грышам Цукарам, высокім цыганаватым хлопцам, празваным у школе Індусам, тыдзень назад бачыліся — сустрэлі ля дома, дзе ладзілася вечарынка. Было незразумела, чаму не сказаў пра прыёмнік тады.

Пайшлі да Індуса. Вілюга забег дамоў па свечку — прыёмнік у гумне.

Пакуль знайшлі Цукара — дома яго не было,— пакуль угаварылі,— сцямнела. Нарэшце Цукар згадзіўся і павёў.

Прыёмнік не ў сваім гумне, а ў калгасным — яно наводшыбе, на занесеным снегам поплаве. Да вайны ў ім складвалі знятыя са сцелішча каноплі.

Разгробшы рукамі ворах каструбаватай кастрыцы, Цукар адкапаў тое, што называлася прыёмнікам. Вілюга запаліў свечку. Спяшаючыся, ён захапіў васковую, тую самую, што бабуля прынесла з царквы і запальвала перад іконай.

Шура Гарнак ажыў. Борзда скінуў паліто, прысеў над прыёмнікам. Ён круціў за рычажкі, а ўсе, стаіўшы дыханне, чакалі, калі пачуецца перадача. Раптам Шура падскочыў як уджалены.

— Ты калі слухаў апошні раз? — спытаў у Цукара.

— Пазаўчора, не, тры дні назад,— паспешліва прамармытаў той.

— Свіння ты. Марочыш галаву. Батарэі даўно селі, а з прыёмніка ўсё павыдзірана. Пустая каробка. Няўжо ты такі пень, што не разумееш? Можна проста гладышкай слухаць. Тое самае будзе...

Цукар стаяў, звесіўшы галаву. Хлопцам стала брыдка. Яны паддаліся на вудачку самай звычайнай хлусні...

Другі знаёмы з Вакзальнай вуліцы, па прозвішчу Шчука, некалькі вечароў хадзіў у кампаніі, гучней за ўсіх лаяў немцаў. Ён нават насіў у кішэні кінжал, нібы намякаючы, што знойдзе яму прымяненне. Але вывесілі загад рэгістравацца ўсім, хто працаваў да вайны, і Шчука — ён толькі адно лета быў сезоннікам на торфазаводзе — першы пайшоў у раённую ўправу. Яму там выдалі аўсвайс з чарнільнай плямай ад вялікага пальца на месцы фотакарткі. Пасля гэтага Шчука не шукаў сустрэч з нядаўнімі сябрамі. Відаць, чакаў, калі немцы пачнуць сезон торфаздабычы.

А хлопцы збіраліся, спрачаліся, лаяліся і не маглі без гэтага жыць. Высмейвалі Цукара, Шчуку і ўсіх астатніх, хто наведваў вечарынкі, не думаў пра палітыку і не быў падобен на іх шасцярых. Так мінуў месяц з таго дня, як Лобік вярнуўся дадому.

— Трэба прыёмнік,— сказаў аднойчы Шура Гарнак.— З аднаго суму здохнеш... Я трохі разумею ў прыёмніках...

Вясной, у маі, за адну цёплую ноч расцвітаюць ва ўсёй ваколіцы яблыневыя сады. Яшчэ напярэдадні, надвячоркам стаяць яны панурыя, шэрыя і толькі сям-там ружавее ў галінах набрынялае суквецце. Наступіць гэтая запаветная ноч — і ўсё мяняецца. Дрэвы як бы абліты малаком, нібы прайшоў па садах нябачны чараўнік, аздобіўшы ўсё дзівосным убраннем...

Да таго дня, пакуль яны самі не ўзяліся наладжваць радыё, яны былі звычайнымі хлопцамі і нішто, акрамя таварыскасці і супольнасці інтарэсаў, іх не звязвала. Цяпер пачыналася новае...

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Майстэрня, дзе збіраюць прыёмнік, у Лобіка. Іванава хата застаўлена прабіркамі, колбамі, бутэлькамі з кіслатой, закідана скруткамі меднага дроту, рознымі часткамі ад прыёмнікаў. Бутэлька і колбы стаяць на паліцы, побач з гладышамі і гаршкамі, пад сталом і на стале, на кнігах. Вялікая бутля з медным купарвасам пастаўлена ў печ — каб не замярзала вадкасць.

Холадна ў Лобіка. Пратопіш грубку — і праз гадзіну зноў холадна.

— Зашклі вокны,— просіць Шура Гарнак.— Акалець можна. Якая тут работа.

— Будзе тое самае,— абыякава адказвае Іван.— Прызба не прысыпана, знізу яшчэ болей дзьме.

Шура плавіць над спіртоўкай волава, апускае ў бутэлечку з салянай кіслатой дроцікі, прыпайваючы іх да катушак і кандэнсатараў. Сядзіць на падлозе, пасярод хаты, злуецца. Па некалькі разоў прыходзіцца перарабляць кожную прыпайку. Катушкі замыкаюць.

— Гніль, дрэнь,— злуецца Шура.— Не могуць людскай катушкі прынесці.

Гэта па адрасу Базыля Вілюгі і Сяргея, якія вандруюць па мястэчку, вышукваюць матэрыялы для прыёмніка. Лобік не верыць, што ўдасца нешта зрабіць.

— З такога барахла нічога не выйдзе,— заяўляе ён, паказваючы на раскіданыя па хаце часткі.— Абцугамі радыё не майструюць. Прыёмнік — не каструля. Цяпер дваццаты век, а тут сродкі вытворчасці — каменнага.

— Дык што, па-твойму, рабіць? — Шура злуецца.

— Трэба майстра знайсці.

Майстар у мястэчку ёсць. Гэта былы загадчык радыёвузла Палуян, хмуры, ссутулены чалавек. На кватэру Палуяна ўжо хадзіў Вілюга, які, не прыдумаўшы нічога лепшага, рашыў дзейнічаць у адкрытую.

— Што трэба? — спытаў Палуян.

Выслухаўшы просьбу, коратка адрэзаў:

— Смаркач! Выбірайся прэч, а то я заяўляю ў паліцыю.

У Шуры пачарнелыя ад кіслаты пальцы. З іх злазіць скура. Спачатку хацеў ён зманціраваць трохлямпавы прыёмнік, цяпер згодзен на аднальмпавы.

Іван ходзіць па хаце ў кажуху, чытаючы на памяць Казьму Пруткова.

— Калі на клетцы напісана леў, а ўнутры ў ёй жырафа, не вер вачам сваім.

— Перастань,— просіць Шура.

— Глядзі ў корань...

— Ідыёт ты, ці што? — крычыць Шура.

— Бдзі!

Шура штурхае прыёмнік нагой, падхопліваецца. Накінуўшы на плечы паліто, ідзе да дзвярэй.

— Пачакай! — Іван хапае Шуру за рукаў.— Чаго ты ўзбаламуціўся? Слова нельга сказаць...

— Абрыдлі твае кепікі.

— Дык хіба гэта пра цябе?

— Не хочаш памагаць, дык хоць памаўчаў бы,— з крыўдай гаворыць Шура.— З самога сябе смяешся...

Паліто ён, аднак, здымае, вешае на цвік. Ад кіслаты, ад дыму ў хаце стаіць цяжкі, спёрты дух. У Міці пачынае балець галава. Мерзнуць ногі. Холадна, ды яшчэ і дыхаць нечым.

— Запалі печ,— просіць Шура Міцю.— Рукі дубянеюць...

Палаюць у грубцы сухія шчыты. Гудзе ў коміне. У перадвячэрні час Лобікава хата нагадвае келлю сярэдневяковага алхіміка.

— Ваня,— чуецца з печы.— З'еш бульбы, а то гэтыя салдаты паядуць. Не давай ім, яны паёк палучаюць. Прагані салдат, а то я баюся...

Іванава маці называе хлопцаў салдатамі. Толькі ў рэдкія хвіліны прасвятлення розуму пазнае іх і заве па імені.

Вечарам, калі зусім ужо цямнее, раздаецца тры ўдары ў сценку. Міця адчыняе дзверы. Заходзяць Базыль і Сяргей. Хлопцы расціраюць вушы.

— Ну што? — пытаецца Шура.

— Нічога.— Базыль безнадзейна махае рукой.— Калоцяцца ад страху...

Хлопцы па чарзе абходзяць хаты, над якімі да вайны высіліся шасты антэн. Шукаюць радыёлямпы.

— Былі ў Куліка,— расказвае Базыль.— Сядзеў за сталом і еў каўбасу. Як толькі зайшлі — згорбіўся, закашляў. Нібы яму сто гадоў. Бараду адпусціў, шчацінай зарос. Намякнулі, а ён дрыжыць як асінавы ліст. Лезе ў кашалёк і дастае даведку — здаў прыёмнік у паліцыю. Мабыць, падумаў, што нас падаслалі...

На печы вохкае, хутаючыся ў дзяружку, Іванава маці. Іван стаіць ля грубкі, грэе спіну.

— Болей не пойдзем,— гаворыць Сяргей.— На паліцая можна нарвацца. Цяпер усё ад лямпы залежыць. Я да сястры схаджу, у Гарбылі. Усё-такі горад...

Пагрэўшыся па чарзе ля грубкі, хлопцы выходзяць на вуліцу. Аднастайна, нудна звіняць на марозе правады, гудуць тэлеграфныя слупы. Можна падумаць, што па дратах ідуць размовы. Але гэта толькі здаецца. Да вайны з пошты гаварылі з Масквою. Цяпер невядома нават, у каго яна. Чыстымі зоркамі засеяна зімняе неба.

Па-ранейшаму, як і год, як і два назад, ззяе чарпак Вялікай Мядзведзіцы, цэдзіць на сумную зямлю таямнічае святло далёкі Млечны Шлях...

## 2

Мікола Цябут прыйшоў да Міці ўзбуджаны. Для прыліку хвіліну пасядзеў, папрасіў:

— Правядзі мяне,— і першы падаўся да дзвярэй.

Міця выйшаў на двор услед за ім. Па нахмураным Міколавым твары відаць, што тоіць нешта важнае.

— Я быў у рэдакцыі, там на падлозе валяецца шрыфт. Колькі хочаш. Як сцямнее, сходзім набяром...

— Навошта?

— Як навошта? Лістоўку надрукуем. Паслухаем радыё і надрукуем.

Залезці ў рэдакцыю раённай газеты, якая цяпер пустуе, няцяжка. Доўгая змрочная будыніна стаіць з выбітымі вокнамі і расчыненымі насцеж дзвярамі. Яе ніхто не ахоўвае, і ніхто ёй не цікавіцца. У памяшканне намяло снегу, пад нагамі валяюцца абрыўкі газет, паперы.

Поўзаючы па падлозе, хлопцы збіраюць халодныя металічныя літаркі. Шрыфт цяжкі, адцягвае кішэні. Калі прынеслі шрыфт да Лобіка і высыпалі на разасланы мяшок, здалося, што яго мала, маленькая кучка. Зрабілі яшчэ адзін заход — ужо ўтрох...

— Прыхавай шрыфт дзе-небудзь,— папрасіў Мікола.— Вынесі з хаты.

— Добра,— згадзіўся Лобік.

Сяргей вярнуўся з Гарбылёў на чацвёрты дзень надвячоркам. У Лобіка яго чакалі.

Не гаворачы ні слова, Сяргей выняў з кішэні дзве радыёлямпы і паклаў на стол. Лямпы адлівалі бляскам матавага срэбра. Яны былі як новыя.

Шура ўсё рабіў сам. Асцярожна паставіў на табурэтку спаяны на жывую нітку прыёмнік, падключыў сухія батарэі. Потым палез на гару вешаць антэну. Зазямленне зрабіў проста, уваткнуўшы між масніц падлогі кавалак меднага дроту. Усе сачылі за ім, стаіўшы дыханне.

Кантрольная лямпачка, прыстасаваная да прыёмніка ад кішэннага ліхтарыка, успыхнула, як маленькая зорачка. Ланцуг дзейнічаў, замыкання не было. У Міці закалацілася сэрца,

Так, як цяпер, не хваляваўся ні на адным экзамене. Ён яшчэ ні разу ў жыцці не слухаў прыёмніка — у будцы не было нават рэпрадуктара,— і ўсё, што рабіў Шура, здавалася чарадзействам.

Нарэшце Шура ўзяў са стала лямпу і асцярожна ўставіў яе ў гняздо. Міця не ведаў, што павінна зараз адбыцца, але ён чакаў цуда, нечага незвычайнага, што адразу б зняло з твараў напружаную зацятасць, нахмуранасць, прасвятліла б іх. Хлопцы стаялі, як і ён сам, нібы каменныя слупы. Шура круціў рычажкі. Прыёмнік маўчаў. Так прайшло некалькі хвілін.

— Дрэнь,— нарэшце прамовіў Шура і, выняўшы з прыёмніка лямпу, шпурнуў на падлогу.

Базыль падаў яму другую. Хлопцы загаварылі, замахалі рукамі, захадзілі па хаце. Але, мабыць, канчатковай надзеі не губляў ніхто, бо ўсе адразу сцішыліся, змоўклі, як толькі Шура пачаў прабаваць другую лямпу. Падвяла і другая...

Усё скончылася. Цяпер ясна, што прыёмніка няма і невядома, калі яго можна будзе паслухаць. Міця адчуў, як расце ў грудзях халодны сум. Не хацелася нічога гаварыць. Лобік дыбаў па хаце, звесіўшы галаву. Ён з самага пачатку не верыў, што Шура змайструе прыёмнік, і мог бы цяпер радавацца. Але маўчаў. Мікола гартаў кнігу, Базыль наском чаравіка піхаў батарэі пад ложак. Яны цяпер не мелі ніякай каштоўнасці.

І толькі адзін Сяргей паводзіў сябе дзіўна. Яго выгляд зусім не паказваў, што Сяргей засмучан няўдачай. Нават здаваўся вясёлым.

— Не вешайце носа,— нарэшце загаварыў ён, і голас яго задрыжаў.— Чорт яго бяры з гэтым прыёмнікам!.. І без яго ясна, што Масква наша. Не здалі яе. У Гарбылях ёсць радыё, нямецкае. Немцы перадаюць, што занялі зімовыя кватэры. Наступаюць нашы...

Гэта было як выбух бомбы. У першую хвіліну ніхто не прамовіў слова. Усе чакалі, што скажа Сяргей яшчэ.

— Ну, а фронт дзе? — крыкнуў Базыль.

— Не ведаю. Гэта ж нямецкае радыё. Яны паведамляюць, што скарацілі фронт і занялі зімовыя кватэры. Нібы

ўсе савецкія атакі адбіваюцца. Я таму і не гаварыў спачатку. Думаў, што лямпы спраўныя і ўдасца паслухаць...

— Які-небудзь горад яны назвалі? — спытаў Лобік.

— Калінін назвалі. Баі ідуць пад Калінінам. А яшчэ раней сказалі, што здалі Растоў. Растоў наш.

Лобік кінуўся да стала. Шукаючы геаграфічны атлас, цэлымі стусамі шпурляў на падлогу кнігі. На стале атласа не знайшлося, і хлопцы, памагаючы Івану, раскопвалі кнігі, наваленыя за ложкам, у кутку, на прыпечку і ў вялікім матчыным куфры.

Атлас знайшлі на ложку пад падушкай. Іван, відаць, разглядваў яго, кладучыся спаць. Хлопцы схіліліся над картай. Калінін, горад на Волзе, нібы навісаў над Масквой з паўночна-ўсходняга боку.

— Далёка зайшлі,— раздумліва прамовіў Лобік.— Хацелі акружыць Маскву. Дык ты скажы, Калінін у немцаў ці ў нас?

— Не ведаю,— Сяргей стараўся нешта ўспомніць.— Яшчэ адзін горад называлі. Невялікі. Здаецца, пад Масквой. Я забыў які.

Іван вадзіў пальцам па карце.

— Вязьма?

— Не.

— Калуга?

— Не.

— Сухінічы?

— Не.

Меншых гарадоў на карце не было, і Лобік перастаў дапытваць Сяргея.

— А калі ты слухаў радыё?

— Пазаўчора. Немцы хваліліся, што падбілі сто дваццаць нашых танкаў.

— Танкаў? — здзіўлена ўсклікнуў Базыль.— Дык самі ж яны заяўлялі, што савецкіх танкаў няма. Калі нашы наступаюць танкамі, то немцам капут.

— Можа, нашы пад Смаленскам ужо? — выказаў здагадку Мікола.

— Можа, падыходзяць да Гомеля? — прамовіў Шура.

— Нашы будуць наступаць на галоўным напрамку,— заявіў Лобік.— Самае галоўнае — адагнаць немцаў ад Масквы. Бач, як навіслі. Калінін занялі. Гэта не жарты...

— Навіслі, навіслі,— перакрывіў Базыль.— Уцякаюць твае немцы без аглядкі.

— Што ты разумееш! — закіпяціўся Лобік.— Думаеш, так лёгка дамагчыся пералому. Паспрабаваў бы сам.

— Ты заўсёды быў паражэнцам.

— Дурань!..

Гатова была выбухнуць спрэчка. Не спыніла Іванава маці. Хлопцы гэтак лямантавалі, што яна прачнулася, хоць за апошні час прызвычаілася да крыку.

— Ваня,— азвалася маці з печы.— Павыганяй салдат. Яны забяруць цябе з сабой. І прагані з гарышча злодзея. Я чую, ён там ходзіць...

— Спі,— Іван супакойвае маці.— Гэта не салдаты, а хлопцы. Кавенькаў Васіль, Лямцаў Шура, Міця, абходчыка Сцяпана сын, што на будцы жывуць. Ты ж іх ведаеш...

— Прагані злодзея! — Маці плакала, размазваючы слёзы па твары.— Ён абкрадзе нас...

— Сціхні, мама! Няма ніякага злодзея. Гэта вецер. Чуеш, стукае аканіцамі вецер?

Але жанчына, напалоханая ў сне, не магла супакоіцца. Іван накрыў маці коўдрай — жанчына дрыжала, ціха ўсхліпваючы.

Хлопцы пачалі разыходзіцца. Новыя, яшчэ не зведаныя пачуцці поўняць Міцевы грудзі. Тое, што ён сёння пачуў, яшчэ ўчора здавалася цудам, прывабным сном. Ён як бы падняўся пасля цяжкай хваробы: зноўку пазнавалася ўсё навакольнае, і ад таго, што ўсё стаяла на сваім месцы, было ранейшае, знаёмае, душу агортвала мяккая лагодная сцішанасць.

Вецер дзьме халодны, сячэ ў твар калючымі гарошынамі, шуміць у голых вершалінах, у цёмных панадворках. Тэлеграфныя драты аж гудуць. Неба чорнае, нізкае, здаецца, там, над лесам — канчаецца.

У полі віхура валіць з ног. Міця, згінаючыся, ідзе насупраць ветру, трэ далонямі адубянелы твар, вушы. Зіма бярэ сваё. Студзень нясе новыя снягі і новыя вятры.

## 3

Узбоч ад шырокага тракту, які вядзе ў гандлёвае сяло Піляцічы, ляжыць закіданая снегам вёска Кавенькі. На голлі разложыстых ігруш-дзічак — яны як дубы тут — белая мярэжа інею. Гурбамі занясло парканы, плятні, вуліцу азначае вузкі санны след між прыземістых хат.

Паліцыі ў Кавеньках няма. Паліцэйскія гарнізоны пры валасных управах. Уся ўлада ў вёсцы — стараста Іван Буян.

Зімовым надвячоркам ля хаты старасты запыніліся двое. Пастаялі, агледзеліся, падаліся ў двор. Ужо калі зусім змерклася, у веснічкі прашмыгнуў яшчэ адзін. Гэты, апрануты ў кажух і разлезлыя валёнкі, ішоў не дарогай, а па лёдзе замерзлай рачулкі. Нарэшце з боку мястэчка падышло яшчэ двое новых. Гэтых стараста сустрэў на вуліцы, павёў у хату сам.

Чысты пакой у Буяна — на старасвецкі манер — з вялізнай печчу і палацямі. Палаці пад самай століню, залезці на іх можна толькі з печы. Уздоўж дзвюх сцен — дубовыя лавы, на драўляным ложку — гара падушак.

Тыя, хто прыйшоў раней, сядзяць за сталом, з холаду частуюцца самагонкай. Ладная бутля — да вайны ў такіх прадавалі адэкалон парыкмахерскім — распачата. Да выпіўкі і закуска добрая — квашаная капуста, агуркі, скрылікамі нарэзана сала.

Шэлег, не распранаючыся, ідзе да стала, вітаецца. Чарняваму Валюжычу, быламу сакратару сельсавета з Піляціч, на выгляд гадоў дваццаць пяць. Жыве цяпер не ў Піляцічах, а ў сваёй вёсцы Азяркі, лясной, глухой. Настаўнік Батура маладжавы, у вайсковага пакрою сіняй гімнасцёрцы — ён нядаўна вярнуўся з акружэння — таксама з Піляціч. Гэта ён ішоў рачулкай. Трэцяга, круглатварага, у вышытай даматканай сарочцы, Шэлег не ведае, запытальна глядзіць то на Валюжыча, то на Драгуна, які распрануўся ўжо і сеў за стол.

— Свой,— рэкамендуе круглатварага Валюжыч.— Я прывёў.

— Здароў, Лісавенка,— вітаецца з незнаёмым Драгун.— Я ж цябе ведаю. Загадчык райза, з Бярэзнікаўскага раёна. Так?..

— Апошні год я ў Беластоцкай вобласці быў. Працаваў у райкаме.

— А цяпер дзе?

— У Азярках. Жонка адсюль. Вось з ім цяпер,— ківае Лісавенка на Валюжыча.

— Самкова няма? — пытае Шэлег.

— Не прыйшоў. Можа, падыдзе.

Сустракаюцца не ўпершыню — і Валюжыч, і Батура прыходзілі ў мястэчка.

— Навіны харошыя,— пачынае Шэлег.— Лепшых не трэба.

На тварах напружанае чаканне. Драгун налівае ў шклянкі, усміхаецца:

— Чырвоная Армія перайшла ў наступленне. Пад Масквой. Немцы адступаюць.

Валюжыч ускочыў, трасе за плечы Батуру. Лісавенка выцірае далоняй слязу.

— Іван Пракопавіч, не цягні,— просіць Валюжыч.— Канкрэтней...

— Вызвалены Клін, Серпухаў, Калінін. Наступленне працягваецца.

— Ну, дзякуй вам,— расчулены Валюжыч падымае шклянку.— Давайце за радасць...

— Гаспадара трэба пазваць,— гаворыць Драгун.— Пачакайце.

Выскачыўшы на двор, варочаецца з Буяном.

— Чуў, Іван Пятровіч, немцам пад Масквой зрабілі шурум-бурум. Як некалі французу.

— Дай жа Бог.— Буян да палавіны налівае пустую шклянку.— Хутчэй бы...

Чокнуліся, выпілі. Буян, закусіўшы агурком, зараз жа выходзіць. Ён за вартаўніка дый наогул лічыць, што лішняга не трэба ведаць.

— Пара і нам,— гаворыць Валюжыч.— Як з пашпартамі, Іван Пракопавіч? Паліцыя і да нас пачала заскакваць. Пазаўчора былі, нюхаюць. Якубоўскі з чырвонаармейцамі — у зямлянцы. Абмерзлі хлопцы. Прывесці ў вёску небяспечна. Без дакументаў — схопяць...

— Дрэнна з дакументамі. Ва ўправе нікога свайго няма. Ён жа цяпер не ва ўправе.— Іван Пракопавіч паказвае на Драгуна.— У агранамію перавялі.

— Ліпы не навучыліся рабіць?

— Тут трэба мастак. Дый небяспечна з ліпай.

На хвіліну змаўкаюць. Чуваць, як у пярэднім пакоі, на печы, вохкае гаспадыня.

— Прыёмнік устанавілі? — пытае Валюжыч.— Зводкі запісвайце, а я буду хлопца падсылаць. Пусцім па руках, як тады газеты.

— Няма прыёмніка яшчэ. Намацваем. Зводка адтуль... Прыходзіў чалавек ад Ермаловіча. Ён у Акцябрскім раёне. Некалькі атрадаў там.

— Што яшчэ новага?

— Трэба раённы атрад,— гаворыць Шэлег.— Такая дырэктыва.

— Раней вясны не выйдзем, Іван Пракопавіч.— Валюжыч хмурнее з твару.— Мала яшчэ людзей, у лесе не пратрымаешся. Тут другая думка ёсць...

— Якая?

Валюжыч пераводзіць позірк з Батуры на Лісавенку. Тыя згодна ківаюць.

— Пара немцам памацаць рэбры. Каб як-небудзь Швальбе выманіць з мястэчка. Старасту Гарбацкага з Палыкавіч таксама трэба знішчыць. Жыцця няма. Пастаўку немцам вывез усю, нават перавыканаў. З салдатак здзекуецца. Двух настаўнікаў немцам аддаў. Без следу зніклі.

— Ён у вашага Касарэвіча правая рука,— пацвярджае Батура.— Днюе і начуе там Касарэвіч. П’янствуюць, жанчын гвалцяць.

— Касарэвіча мы самі.— Шэлег апускае кулак на стол.— Склады знішчальнага батальёна ён выдаў, падпольшчыцу Дзянісаву — таксама. Што чуваць пра Анкудовіча?

— У Дамачоўскім атрадзе. Дзейнічаюць дробнымі групамі. У Анкудовіча — сем чалавек. Старасту ён нам паможа...

— Упусцілі Анкудовіча,— уздыхае Шэлег.— З нашага батальёна, а ў чужым атрадзе. Была б база для атрада.

— Якубоўскі не горшы. Лейтэнант, ведае вайсковую справу. Каб удалося перазімаваць. Дакументы трэба. Хоць бы месяц пажылі хлопцы ў вёсцы. Адагрэліся, ад'еліся. Тады і Анкудовіча перацягнем.

Выпіваюць яшчэ, весялеюць. Цьмяна гарыць пад столлю лямпа-васьмярык. За сцяной на двары парыпвае валёнкамі па снезе Буян.

— Між іншым,— гаворыць Драгун, устаючы,— пачынайце прапаганду. Нямецкая палітыка наконт зямлі ясная. Зямля ўся нямецкая. Тыя, хто будзе яе апрацоўваць, як бы арандатары. Кожны мае права ўзяць пяць гектараў. З трох гектараў ураджай немцам увесь, з астатніх двух — сорак працэнтаў.

— Вось вам нямецкая ўлада, гаспадарчыкі, не разжывецеся.

Драгун выходзіць першы.

## 4

Люстэрка — дробязь, глупства, а настрой у Аўгуста Эрнэставіча кепскі. Разбілі люстэрка, калі пераязджалі ў новы дом,— жыве цяпер бургамістр у асабняку, пабудаваным да вайны старшынёй спажыўсаюза. Асабняк прыстойны — шэсць пакояў, зашклёная веранда, яблыневы сад. У самым цэнтры мястэчка, у гарадку. Гасцей можна прыняць, не саромеючыся цеснаты.

На выпадак, калі разбіваецца люстэрка, ёсць нямецкая пагаворка — «Зібэн ярэ пэх», што азначае сем наканаваных гадоў няўдачы таму, у каго гэта здарыцца. У забабоны Аўгуст Эрнэставіч не верыць, але няўдачы сапраўды пачаліся.

У новым ужо доме, да якога прывыкаў з цяжкасцю, пачуў па радыё пра савецкае наступленне пад Масквой. Як бы абарвалася што ў грудзях. Дыктар гаварыў урачыста, важкімі словамі, пералічваў тысячы захопленых у немцаў машын, гармат, танкаў, называў гарады і паселішчы, якія зноў савецкія. Аўгуст Эрнэставіч хуценька пераключыўся на Берлін і ўпершыню ў жыцці, як жанчына, самлеў. Сэрца не чуў. Берлін пацвердзіў тое, што гаварыла Масква, толькі другімі словамі — скарачэнне фронту, зімовыя кватэры...

Там, пад Масквой, здарылася незразумелае, і Аўгуст Эрнэставіч усю ноч не мог апомніцца. Немцы ж стаялі пад самым горадам, бачылі яго ў біноклі, то чаму пабеглі, чаму армія, якая праславіла сябе на ўвесь свет, раптам на парозе перамогі асаромілася?

Да раніцы не звёў вачэй. Адчуваў — да таго ціхага берага, які пакінуў, калі прыйшлі немцы, даплыць не хопіць сіл, ды і няма сэнсу. Усё, што ён у жыцці рабіў, рабіў чэсна. Пераварочвацца не ўмее. У адносінах да бальшавікоў, Саветаў ён цяпер здраднік. Другога слова яны не ведаюць.

Назаўтра, пабачыўшыся са Швальбе, жандарамі, трохі супакоіўся. Яны паводзяць сябе, як і звычайна, і тое, што робіцца пад Масквой, на ўсім велізарным фронце, здаецца, іх не датычыць. Ядуць, п’юць, выконваюць загады. Высока нясуць галовы. Упэўнены ў тым, што ўсё ідзе як трэба.

Ва ўправу ўжо тыдні два наведваецца высокая, падобная на цыганку кабеціна. Прозвішча яе — Ядрыцкая. Прарваўшыся да бургамістра ў кабінет, патрабуе пасады.

— Кім вы працавалі раней? — пытае бургамістр.

— Мой бацька пры цары трымаў рэстаран. Бальшавікі з яго здзекаваліся.

— Ну, а што вы ўмееце рабіць?

— З-за бацькі я не здолела атрымаць адукацыі.

— Слухайце, Ядрыцкая. Дзе б вы хацелі працаваць?

— Мой муж быў бухгалтарам. Ён таксама ненавідзеў бальшавікоў.

— Гэта добра, але ў мяне няма для вас пасады. Жанчын у паліцыю не бяруць. Ідзіце на чыгунку. Чысціць снег. Тады і хлебную картку атрымаеце.

У трэцяе ці чацвёртае наведванне Ядрыцкая паклала на стол перад бургамістрам спіс. У ім шаснаццаць прозвішчаў, пераважна жонак камуністаў, актывістаў. Усіх Ядрыцкая патрабавала арыштаваць. Крамера ўзарвала. Расчыніўшы дзверы, гаркнуў:

— Вон!

Збялеламу Рак-Кандэрскаму, які прыбег у кабінет, загадаў:

— Каб нагі яе тут не было.

Дні праз тры, выклікаўшы Крамера да сябе, Швальбе паказаў яму спісаны каракулямі аркуш паперы. Ядрыцкая, адрасуючы заяву жандармерыі, абвінавачвала яго, бургамістра, у тым, што патурае камуністам. На твары жандара — з'едлівая ўсмешка. Крамер, як мог спакайней, адрэзаў:

— Пан капітан, я жартаў не люблю. Гэтай асобе — пяцьдзясят шампалоў. Яна зневажае мяне, немца.

— За знявагу ўсыплем,— паспешліва згадзіўся Швальбе.— Але навошта так многа, пан бургамістр. Хопіць дваццаць. Усё-такі далікатнае жаночае цела...

Аўгуст Эрнэставіч — сам ён ведае прычыну — за апошні час стаў часта злаваць, здзіўляючы служачых канцылярыі. Стаіць неяк перад сталом стараста з Кабылкавіч, пануры, чорны, як грак, забыўшы зняць з галавы авечую шапку-кучомку.

— Таварыш бургамістр. Пастаўку не можам выпаўніць. Сяло ў нас беднае, пяскі...

— Таварышы за Уралам! — грыміць бургамістр так, што чуваць у калідоры.— Навучыцеся размаўляць. Вон з кабінета!..

Стараста — бокам, бокам і за дзверы...

Адзін з тых зімовых, няпэўных дзён прынёс Аўгусту Эрнэставічу сапраўднае задавальненне. Дачуўся: у начную варту — яна працягваецца з восені — не выйшаў Дзенісевіч, той самы загадчык чыгуначнай пякарні, які тады, у верасні, прыехаў да яго двара ў машыне з маркграфам Ліндау. Крутнуў ручку тэлефона, выклікаў Плішчынскага, начальніка паліцыі.

— Дзенісевіч — сабатажнік. Арыштаваць — і пяцьдзясят шампалоў. Па голай задніцы. Хай ведае, што нямецкія парадкі цвёрдыя. Далажыце мне.

Плішчынскі здзіўлены — за дробныя правіннасці давалі па дзесяць шампалоў, па дваццаць.

Дом Крамера — поўная чаша. Бургамістры валасцей, старасты, загадчыкі млыноў, наязджаючы ў мястэчка, не прамінаюць выпадку падкінуць сёе-тое раённаму бургамістру. Хаўрус вядзе Гертруда Паўлаўна. Мураваны скляпок, які на двары, увесь завешан шынкамі, кілбасамі, застаўлен мяхамі мукі, дзежкамі з капустаю, агуркамі.

Валасныя старшыны, старасты возяць не толькі бургамістру. Возяць і немцам — Швальбе, жандарам, аграномам,— і яны глядзяць на гэта, як на самае звычайнае, чаго і належала чакаць. Сала і маслаператопліваюць, разам з шынкамі пакуюць у пасылкі. Штотыдня аўтобус вязе гэтыя пасылкі за пяцьдзясят вёрст, у горад. Там вайсковая пошта — лісты і пасылкі ідуць адтуль у Германію.

У вачах немцаў, якія тут, у мястэчку, аўтарытэт яго, бургамістра, высокі. У раёне ціха. Ніякіх парушэнняў спакою, налётаў партызан. Дзякуючы гэтай акалічнасці, мабыць, і выбраў гебітскамісар Рог — прозвішча нібы рускае, хоць сам карэнны немец — мястэчка сваёй рэзідэнцыяй. Жыць павінен у горадзе, але тут жыве. Заняў з канцылярыяй і світай увесь другі паверх школы, пацясніўшы Швальбе. Нядаўна была нарада бургамістраў, з'ехаліся з іншых раёнаў,— Рог перад усімі хваліў Крамера. Праўда, пачуў тут Аўгуст Эрнэставіч вестку, якая і ўзрушыла яго, і здзівіла. Гарадскога бургамістра ў Мазыры павесілі самі немцы. Аказаўся бальшавіцкім агентам. Гебітскамісар нібы наўмысна падкрэсліў, што немцам вядома было ўсё загадзя, але спецыяльна чакалі, не арыштоўвалі бургамістра, каб выявіць паболей памагатых.

Немцаў многа, але што яны робяць — Аўгуст Эрнэставіч не ведае. Хутчэй за ўсё — нічога не робяць. Ва ўсім пакладаюцца на сілу загаду, жандармерыю і паліцыю. Гэта непакоіць, наводзіць на сумныя думкі. Гебітскамісар Рог — высокі, маладжавы, нікуды не паказвае носа. Не ведае нікога з тых, што служаць у мястэчку ў немцаў, і ведаць не хоча. На раёне не быў ні разу. У яго два асабістыя повары-салдаты і дзве палюбоўніцы. Абедзве прыгожыя, маладыя — тэлефаністка з пошты і машыністка з канцылярыі гебітскамісара. Гавораць, што палюбоўніцы адна з другой не вітаюцца.

У Гертруды Паўлаўны, бургамістравай жонкі — мноства знаёмых. Яе дружбы дамагаюцца жонкі старшага ляснічага Лагуты, раённага агранома Спыхальскага, урача Здаравені, дарожнага майстра Адамчука.

Амаль штовечар хто-небудзь запрашае Аўгуста Эрнэставіча ў госці. Не адмаўляецца, ходзіць. Есць, п'е, падымае тосты, але ніяк не можа пазбавіцца ад уражання, што ўсё гэта не

сапраўднае, выдуманае. Сярод людзей, што сядзяць з ім за сталом, чокаюцца, падлізваюцца, няма нікога, перад кім мог бы адкрыцца, падзяліцца сумненнямі. Адчувае душой — адзін...

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Патаемнымі дарогамі, нябачнымі сцежкамі папаўзлі па мястэчку чуткі.

Дні праз тры пасля таго, як Сяргей прынёс навіну пра савецкае наступленне, у будку завітаў Шнапс. Як і заўжды, ён гаваркі і рухавы, амаль безбароды яго, з рэдкімі валасінкамі рудой шчаціны, твар гарыць цікаўнасцю.

Сям'я вячэрала.

— Дабрыдзень. Хлеб ды соль!

— Дзякаваць Богу. Сядайце з намі.

— Сам толькі ад стала.

Маці выцерла фартухом табурэтку, каб даць госцю сесці.

— Вазьмі, гаспадыня. Уюноў трохі прынёс. У Вялікі пост трэба есці рыбу. Хоць уюны, можа, і не рыба. Кажуць, яны радня вужам.

— Чым вам аддзячым дзядзька? Так вы спрыяеце...

— Ай, кінь ты, маладзіца. Палічымся. Каб толькі жывы былі.

— Дзе ты налавіў іх? — спытаў бацька.— Здаецца ж, і балот няма, пасушылі ўсе. Знойдзе ж аднак.

— Балоты бальшавікі пасушылі. Я аж на возера хаджу. Там шчэ трохі можна ўзяць рыбы. Толькі ведаеце што, людзі? — Шнапс знізіў голас да шэпту: — Неспакойна ў лесе, страляюць, бухаюць, як добра прыслухаешся. Недзе, кажуць, цэлая наша армія прарвалася з гарматамі, з танкамі. Гаворка ідзе, што пагналі немца ад Масквы. Калеюць яны, сукракамі бяруцца, проста падбірай на воз, як дровы. Па мястэчку брындаюць гэтыя нашы немцы, кажухі і валенцы ім давай, на

помач, маўляў, нямецкаму фронту. Хавайце, калі што добрае ёсць у хаце. Могуць і да вас прывалакціся. Ой, што яшчэ будзе?..

— Усё можа быць,— пацвердзіў бацька.— Зімачку дало добрую, да нашага марозу ім цяжка прывыкаць.

— А нашым хіба лёгка? — прамовіла маці.— Божа ж мой, Божа. Душа баліць, як падумаеш, што недзе на полі, на такім марозе чалавек.

— Наш чалавек да ўсяго прывычны,— сказаў Шнапс.— Вазьмі ты таго сібірака, дык яму твой мароз ні па чым. Ён і не шманае. Цяжка прыйдзецца немцу фронт трымаць. І чаго ён лез, не вазьму ў розум. Расію захацеў у ахапку схапіць? Колькі той Германіі, параплюнуць можна, перашчыкнуць, а Расіі ж канца і краю няма.

— Тэхнікай хацеў узяць,— глыбакадумна заўважыў бацька.— Маўляў, твая Расія драўляная, саламяная, а мая Германія каменная, машыны ў ёй здаўна. Стукну па Расіі — і рассыплецца.

— Стукнуць-то ён стукнуў. Аж у вушах зазвінела. Толькі, мабыць, і ў самога асечка, калі кажухі сабірае.

— А з палоннымі што робіць,— умяшалася маці.— Нехрысці немцы, ці што? Нечувана было, каб так здзекавацца з народа. Страляюць, голадам, холадам мораць.

— Папомняць людзі немца.— Бацька ўстаў і прыпаліў ад вугля самакрутку.— Цяпер, калі б хто хацеў, то ў палон не палезе. Пакаштавалі, які смак.

— Кажуць, нібыта і папы заклікаюць біць немца.

— А што ты думаеш. Гора, яно ўсяму навучыць.

— Гітлер нібыта папрасіў замірэння. Няхай вам, маўляў, ваша Расія, а мне мая Германія. Толькі мяне не чапайце. Дайце паціху выбрацца.

Бацька пярэчыць:

— Не пойдуць нашы на замірэнне. Столькі немец шкоды нарабіў! Людзей паклаў колькі!..

Міця ўслухоўваецца ў гаворку старэйшых, на гэты раз не ўмешваючыся ў яе, і душа яго поўніцца радасцю. Прайшло ўсяго некалькі месяцаў, як з'явіліся немцы, але сам тон і настрой гаворкі пра вайну рашуча перамяніўся. Раней ва ўсім,

што расказвалася пра немцаў, адчувальнай была прымесь страху. Немцы ўяўляліся нязломнай, жалезнай сілай, якая сунецца з чужога, незнаёмага Захаду і ўсё ломіць, крышыць на шляху. Можа, гэта быў страх перад невядомасцю, перад тварам крушэння, ломкі ўсяго прывычнага, даўно ўсталяванага. Тады, перад з'яўленнем немцаў, шмат хто ў душы і ўслых лаяў нашых за тое, што адступаюць, пакідаюць народ на пакуты, здзек. То было вострае пачуццё, якому цяжка даць назву. Калі немцы прыйшлі, сталыя дзядзькі зноў лаялі нашых. Цяпер ужо за другое. Успаміналіся ўсе недарэчныя выпадкі даваеннага жыцця.

Міцю абурала такая гаворка. Яна здавалася дробязнай, нікчэмнай, і ён здзіўляўся, чаму сталыя, разумныя людзі не бачаць самага галоўнага. Прыйшлі немцы, і гэта бяда. Тут, як на пажары, не прыходзіцца шукаць вінаватага.

Але з такімі, як Міця, не лічыліся. З іх пасмейваліся. Зрэшты, і сам ён разумеў, што не ва ўсім мае рацыю.

Міця верыў — паны ніколі не вернуцца. А яны вярнуліся, хадзілі па мястэчку ў жывым вобліку нямецкіх салдат, якія пляваць хацелі на ўсё тое, у што ён верыў. Слова «таварыш», дарагое і блізкае, знікла, трэба гаварыць «пан»...

Міця не раз лавіў сябе на думцы, што старэйшыя глядзяць на жыццё прасцей, інакш, чым ён. Успамінаў рамонтнікаў, іх уздыхі і сумныя вочы ў першыя месяцы вайны. Што думаюць цяпер гэтыя спакойныя, добрыя дзядзькі? У што вераць, на што спадзяюцца?..

Шнапс падаўся дахаты, і ўслед за ім выйшаў на пераезд Міця. Занесеная снегам, ледзь прыкметная сярод роўнядзі палёў, ляжыць чыгунка. Чарнее лес, і лёгкай сінню ў светлым змроку ночы аддае снег. Доўгай паласой чарнее мястэчка. На курганку — сасна. Дыхнулі вятры, і яна атрасла галіны ад снегу, распрастала іх. У голлі шуміць вецер.

Яшчэ нядаўна ў вокнах местачковых хат мільгацелі цьмяныя аганькі капцілак, камінкоў, а школа зыркала электрычнымі агнямі. Немцы нічога не баяліся і адкрыта гэта паказвалі. Цяпер маскіроўка. Не прылятаў і не скінуў бомбы ніводны савецкі самалёт, але ўсё адно маскіроўка. Многае на свеце перамянілася...

Міця глядзіць на лес. Маўклівы, зацяты, ён хавае ў сабе штосьці патаемнае, шматзначнае, пад навіссю хвой, на снезе нібы снуюць асцярожныя цені. Міцю здаецца — вось-вось вылецяць з лесу імклівыя коннікі, у руках іх, асветленыя месяцам, блиснуць шаблі. Коннікі кінуцца на мястэчка, і ўсё скончыцца...

Назаўтра Міця, перш чым падацца да Лобіка, прайшоўся па вуліцах. Хацелася пабыць аднаму, паглядзець, ці змянілася што-небудзь у мястэчку.

Прамчаліся запрэжаныя парай коней сані, на іх сядзяць трое паліцаяў, трымаючы ў руках вінтоўкі. Чацвёрты стаіць у передку, на каленях, сцябае пугай узмакрэлых коней. Паліцаі некуды спяшаюцца.

Перад школай, ля ўвахода, які крыж-накрыж забіт дошкамі, тупае немец-вартавы. Нават па зімовым часе выгляд мае надзвычай няўклюдны: кажух нацягнуты паўзверх шыняля, горбіцца на спіне; на боты надзеты вялізныя саламяныя чуні; павязаная хусткай галава з насунутай па вушы пілоткай робіць немца падобным на старую разлезлую бабу. Тое, што вартавы ахоўвае нікому не патрэбны, забіты ўваход (сапраўдны з двара), і тое, што ён не саромеецца нягеглага свайго выгляду, узрадавала Міцю.

Праехалі другія сані з паліцаямі, ля клуба ўзбуджана размаўляюць немцы.

Ля пошты Міця сутыкнуўся з Сюзанай. Сустрэча нечаканая, з таго дня, як Сюзана была ў Лобіка, ён нядобра пра яе думаў. Разгубіўшыся, Міця павітаўся і хацеў прайсці міма. Але Сюзана запыніла яго:

— Сваіх не пазнаеш?

— Пазнаю, чаму ж...

— Як жывеш? Што новага?

На Сюзане цёплая, з вавёрчынай футры жакетка, ногі ў белых мяккіх валёнках, на галаве пушыстая вязаная хустка, з-пад якой выбіваецца пасмачка русявых валасоў. Кранутыя марозам шчокі злёгку пунсавеюць, шэрыя вочы вясёлыя.

— Чаго стаім, холадна. Давай пройдземся,— прапанавала Сюзана.

Яны прайшлі з канца ў канец сквера і зноў спыніліся.

— Нашы вернуцца, Міця? Скажы, ты ж такі разумны.

Адразу знікла ўся яго надуманая знявага да Сюзаны,— адчуваў сябе нясмелым, мізэрным і як бы вінаватым перад ёй. Прыйшло тое самае пачуццё, якое заўсёды ахоплівала Міцю раней, калі сустракаўся з Сюзанай.

— Масквы немцы не ўзялі. Нашы наступаюць. Ёсць чуткі — прарваліся савецкія танкі.

— Я так баюся. Кажуць, будуць перапісваць моладзь, павязуць у Германію. Што тады рабіць, Міця?

Яна нагадвала маленькую птушку.

Дома Міця доўга не мог супакоіцца. Думкі пра Сюзану ўладна агарнулі душу. Як і тады, летам, ён проста не мог пра яе не думаць. Вечарам, калі ўсе пaляглі спаць, дастаў з сундучка сшытак з вершамі. Запаліў каганец, прысеў ля стала. У сшытку некалькі вершаў, прысвечаных Сюзане. Ён перачытаў той, які самому найболей падабаўся:

Вечар сіні, вясновы
Пасцель выслаў начы,
Я шукаў табе слова,
Ён шаптаў: «Памаўчы...»

Ціш плыла над зямлёю —
Стома шумнага дня.
Набрыняла вясною
І табой цішыня.

Было толькі нас двое
На ўвесь сіні сусвет,
Вечар клікаў з сабою,
Вечар — дзіўны паэт...

Месяц срэбны, двурогі
Нам свяціў, як усім,
Вечар выслаў пад ногі
Табе звонкі кілім.

Ты ішла той дарогай,
Я чуў кожны твой крок,
Неспазнанай трывогай
Вабіў стоены змрок.

Міця добра памятае той вясновы вечар, якім навеяны верш. Было гэта летась, у сакавіку, перад тым, як ён занёс заяву дырэктару наконт экзаменаў за дзявяты клас. Ужо выйшаў падручнік па гісторыі СССР, але яго меў толькі выкладчык. Яшчэ адзін экзэмпляр быў у бібліятэцы, і Міця хадзіў туды вучыць гісторыю. Сядзеў у пустым натопленым зальчыку — нябеленым, з чыстымі сасновымі сценамі, якія пахлі смалой. Другіх наведвальнікаў не было, і Міця адзін карыстаўся падручнікам. Прымошчваўся ля акна, за якім сінеў надвячорак, чытаў кнігу з самага пачатку — новая, нікім, акрамя яго, не чытаная, яна прыемна шасцела.

Выйшаўшы на ганак, ён убачыў Сюзану. Яна ішла праз скверык, і пад яе нагамі ледзь чутна патрэскваў вячэрні лядок. Яго Сюзана не бачыла, ішла павольна, задуменная. І раптам ён адчуў радасць ад таго, што поўніцца надвячоркавай сінню скверык з рэдкімі чорнымі дрэўцамі, хрупасціць пад надвячоркам кволая наледзь, што можа ўпасці са страхі і зазвінець, як шкляны, празрысты ледзяны капеж. Быў ён, была Сюзана, і тое, што яна яго не бачыла, не думала пра яго, нічога не азначала. Яна была на свеце, і гэтага аднаго было дастаткова, каб ён радаваўся таму, што навакол...

Цяпер Міця перачытаў верш і яму не спадабалася напісанае. Не ставала самага галоўнага — што пралягло між ім і Сюзанай, без чаго ён проста не меў права пра яе думаць. Тады, калі ён пісаў верш, яму было шаснаццаць. Цяпер — сямнаццаць, і на таго, шаснаццацігадовага, ён глядзіць як бы звысака, з выглядам трохі сумнай, трохі насмешлівай перавагі.

Схіліўшыся над сталом, Міця таропка стаў пісаць. Не ведаў, навошта піша — нікому не збіраўся верша паказваць,— але іначай не мог.

О, Радзіма мая без канца і без краю!
Я твой сын, я твой дом, я цябе зберагу.
Жыць табой, жыць з табой — аднаго я жадаю,
Быць чужым, не тваім — не хачу, не магу!..

## 2

У Акцябрскім раёне загрымела...

Там і ў суседняй мясцовасці, дзе на былой граніцы асталіся неўзарваныя доты, па чутках — цэлая партызанская армія. Адтуль — за сотню ці болей кіламетраў — у ціхія вечары даносіцца водгулле выбухаў. З партызанамі вядуць вайну вайсковыя часці. Праз мястэчка ў паўночным напрамку праехала адна група: узбоч саней крочылі апранутыя ў сялянскія кажухі немцы і мадзьяры, на санях навалам — кулямёты, мінамёты, скрынкі з боепрыпасамі.

У суседнім раёне — таксама партызаны. Местачковыя паліцаі ездзілі туды. Партызаны, заняўшы каменны дом, адбіваліся двое сутак. Да месца бою зляцеліся бобікі з усіх навакольных гарнізонаў. Партызан было пяцёра. Сямёну Целяшу, які жыве насупраць Лобіка, партызанскай куляй прашыла грудзі. Але жывы, лечыцца.

У халодным студзені чуткі, як вясенні разліў,— радасныя, узнёслыя. Нашы ў Смаленску, у Бранску. Самыя радасныя весткі прыносіць Вілюга. Невядома, дзе ён іх збірае. Аднойчы, уварваўшыся ў Лобікаву хату, з парога крыкнуў:

— Нашы Кіеў занялі!

— Можа, Харкаў? — перапытаў недаверліва Лобік.

— Кіеў, гавораць табе. Гэта точна.

Да Кіева — падаць рукой — якіх-небудзь трыста кіламетраў. Хлопцы ўзбуджана захадзілі па хаце.

Зіма нібы ўзнагарода за няпэўную, пакутлівую восень. Трашчаць калядныя маразы, і лёгка паверыць, што ў танках замярзае масла і немцы, уцякаючы, кідаюць іх па дарогах тысячамі, што з-за снежных віхур не могуць падняцца ў паветра самалёты, а прызвычаеныя да халадоў сібіракі гоняць фашыстаў па ўсіх напрамках.

Скрутак з шрыфтам ляжыць там, дзе яго пакінулі,— у кутку за ложкам. Абыякавы да перасцярогі, Лобік так і не вынес яго з хаты. Ахопленыя прагай што-небудзь рабіць, дзейнічаць, хлопцы ўспомнілі пра шрыфт.

— Трэба лістоўка,— заявіў Мікола і выцягнуў з кутка скрутак.

Ён адчуваў сябе героем. Думка завітаць у рэдакцыю прыйшла ў галаву яму першаму. Мяшок разгарнулі на стале і з цікавасцю разглядалі шэрыя літаркі. Ніхто не бачыў і не ведаў, як гэтымі літаркамі друкуюць. Усе стаялі і маўчалі.

— Нічога мы не ўмеем.— Шура набраў жменю шрыфту і сыпануў яго назад у кучу.— Будзе тое самае, што з прыёмнікам...

Мікола раззлаваўся:

— Не ўмеем, не ўмеем. Трэба паспрабаваць. Гэта ж проста...

Ніхто Міколе не запярэчыў. Вісячую лямпу для раўнавагі паставілі ў гаршчок з соллю. Але святло ўсё адно бляклае, нельга разабраць, якая ў пальцах літара. Хлопцы разышліся, парашыўшы сабрацца заўтра.

На лістоўку затрацілі цэлы тыдзень. Атрымалася нягеглая з выгляду і нікога не ўзрадавала. Адразу кідалася ў вочы, што друк саматужны. Літары розныя, словы скачуць уверх і ўніз. Перабраўшы шрыфт, Шура з Лобікам нарабілі з літар пячатак і прыкладвалі іх да паперы. Фарбы дастаў Мікола. Дзеля гэтага ён завёў знаёмства з дзяўчынай, якая да вайны працавала наборшчыцай. Але можна было і не знаёміцца. Бочка з густой чорнай масцікай стаяла ў рэдакцыйным хляве.

Лістоўку напісаў Міця:

*Таварышы!*

*Фашысты адступаюць. Чырвоная Армія блізка. Час вызвалення наступае. Не верце нямецкай хлусні. Няхай жыве савецкая ўлада!*

Тэкст Міця перарабляў некалькі разоў. Хацелася напісаць паболей. Але наборшчыкі — Лобік і Шура — пярэчылі. Доўгую лістоўку немагчыма было надрукаваць.

Вечарам Сяргей з Шурам рушылі з лістоўкамі на торфазавод. Для раённага мястэчка, дзе на сценах і слупах вывешваліся акуратна надрукаваныя нямецкія загады, яна як бы не падыходзіла.

Назаўтра стала вядома, што на торфазавод памчаліся паліцэйскія і немцы з жандармерыі. Амаль у кожным доме рабілі

вобыскі, арыштавалі настаўніка. Падазравалі, што ён напісаў лістоўку.

Вестка застала знянацку, устрывожыла. Ніхто не думаў, што немцы гэтак сур’ёзна паставяцца да трох невялікіх, з касымі, няроўнымі радкамі, лісткоў. Лянівы Лобік нават не павыносіў з хаты рэштак старых прыёмнікаў. На падаконніках, пад лавай, на паліцы па-ранейшаму стаялі непатрэбныя цяпер бутэлькі з кіслатой, прабіркі, шклянкі. Калі надвячоркам другога дня Міця зайшоў да Лобіка, работа была ў поўным разгары. Мікола з Вілюгам скідвалі ў мяшок кандэнсатары, шклянкі, а Лобік поўзаў па падлозе і выкалупваў са шчылін рассыпаны па хаце шрыфт.

Пра арыштаванага настаўніка ўспомнілі пасля таго, як у хаце быў наведзен поўны парадак. Ніхто, акрамя Міколы, не ведаў яго ў твар.

— Падвялі чалавека,— нездаволена прамовіў Лобік.

— Дык ты ж сам друкаваў!.. Вінаватага цяпер шукаеш! — закрычаў Мікола.— Вось гэта тактыка, я разумею. Чуць што, дык у кусты...

Разгарэлася спрэчка наконт таго, дзе фронт.

— Дзе ты чуў пра Кіеў? — дапытваліся ў Вілюгі.

— Ад немца.

— Ад якога немца?

— Ад салдата. Ля клуба цыгарэты прадаваў.

— Што ён гаварыў?

— Што быў у Кіеве.

— Ну і што?

— Што, што... Баі там ідуць. Навошта мне хлусіць.

Вілюга гарачыўся, крычаў. Было ясна — хлусіць. Наўрад ці мог нямецкі салдат так гаварыць...

Міця выйшаў ад Лобіка разам з Міколам. Рыпіць пад нагамі снег, навокал вячэрняя сцішанасць. Маскіроўка захоўваецца: не свеціцца ніводнае акно. Але і гэта не радуе. Здаецца,— усе спяць.

— Зойдзем да Мар’і Іванаўны,— прапанаваў раптам Мікола.— Можа, што-небудзь пра фронт скажа.

Міця згадзіўся. Ісці дамоў не хочацца.

Стары, пабудаваны на гарадскі манер дом Мар'і Іванаўны ў цёмным завулку за базарнай плошчай. Перад ім, нібы вартавыя, застылі старыя ліпы, навісаюць голлем над дахам. Да рэвалюцыі дом належаў прыставу, а з таго часу, як хлопцы пачалі сябе памятаць, у ім жыве настаўніца нямецкай мовы, якая працуе цяпер перакладчыцай у раённай управе. Мар'я Іванаўна адна. Яе муж — у арміі, два сыны да вайны яшчэ паехалі ў інстытуты і дамоў не вярнуліся.

Дом здаецца нежылым: аканіцы шчыльна зачынены, у дворыку гурбы снегу, а праз іх да парога вузенькі след. Хлопцы нерашуча пастукалі ў аканіцу. Праз хвіліну ў сенцах пачуліся асцярожныя крокі.

— Хто там? — слабым голасам азвалася Мар'я Іванаўна.

Услед за настаўніцай, стараючыся не рабіць чаравікамі груку, мінулі два пярэднія цёмныя пакоі і прайшлі ў залу. Тут гарэла настольная лямпа. На сценах віселі дзве карціны і сямейныя фотакарткі ў прыгожых асадках.

— Не распранайцеся,— папярэдзіла Мар'я Іванаўна.— Холадна ў мяне.

Настаўніца села за стол, а хлопцы, толькі зняўшы шапкі, прымасціліся ў старых крэслах. Мар'я Іванаўна за апошні час змізарнела, паблажэла. Хутаецца ў вязаную хустку, паводзячы час ад часу худымі вузкімі плячамі. Прыходу нядаўніх сваіх вучняў яна, здаецца, зусім не здзівілася.

— Мар'я Іванаўна, мы прыйшлі наведаць вас,— пачаў Мікола.

— Дзякуй. Я рада вам, рабяты, вы ж, Цябут, здаецца, самі апошні час працавалі настаўнікам.

— Адзін год.

— Падабаецца вам настаўніцкая работа?

Мікола маўчыць, апусціўшы галаву. Мар'я Іванаўна гаворыць так, нібы можа прапанаваць яму пасаду настаўніка.

— Мы прыйшлі, каб спытаць у вас пра фронт, Мар'я Іванаўна,— сказаў Міця.— Ходзяць розныя чуткі.

Настаўніца апусціла вочы. З хвіліну цягнулася няёмкае маўчанне. Потым яна загаварыла ціхім глухім голасам:

— Нічога я вам, рабяты, не скажу. І не раю другім задаваць такіх пытанняў. Вы ўжо дарослыя. Павінны разумець самі.

— Ці праўда, што Смаленск і Кіеў у нашых? Мы болей ні пра што не спытаем...

Мар'я Іванаўна спалохана зірнула на хлопцаў:

— Няпраўда. Фронт, рабяты, далёка. Пад Масквой. За чуткі пра Смаленск і Кіеў паплаціўся чалавек. Настаўнік з торфазавода. У яго, кажуць, знайшлі лістоўку.

— Яго расстраляюць? — Мікола падхапіўся з крэсла, стаяў з пабялелым тварам.

Мар'я Іванаўна глядзіць некуды ў цёмнае акно. На сцяне ў чорнай каробцы мерна гойдаецца медны маятнік гадзінніка. Гадзіннік з зязюляй, але драўляная птушка маўчыць. Яна, відаць, сапсаваная.

— Не ведаю, рабяткі,— прамовіла настаўніца.— Усё не так проста, як вам здаецца. Сам бургамістр, хоць і немец, але чалавек не благі. Не хоча крыві. Ёсць горшыя за яго. Не лезьце вы ў гэта. Вы яшчэ маладыя і нічога не разумееце. Вайна цяпер, як гавораць самі немцы, татальная.

— Што такое татальная? — спытаў Міця.

— Гэта французскае слова. Азначае, што тыл прыраўніваецца да фронту. Усюды адны законы. А як у вас, Птах, з нямецкай мовай? Вы ж так добра паспявалі ў школе.

— Няма цяпер часу.

— Вы хіба дзе-небудзь працуеце?

Зноў Мар'я Іванаўна спытала так, нібы гаворка ішла пра звычайную справу. Міця не ведае, што адказаць. Але настаўніца, здаецца, і не чакала адказу. Загаварыла сама:

— Вясной будзе набор моладзі ў Германію. Ва ўправу прыслалі плакаты. Напісана, што набор добраахвотны, але раёну давялі план. Дзве тысячы чалавек.

— Але хто захоча ехаць? — усклікнуў Мікола.— Дзе немцы такіх дурняў знойдуць!..

Мар'я Іванаўна сумна ўсміхнулася, нічога не адказаўшы. Паднялася і, зняўшы з этажэркі стус нямецкіх газет, паклала перад Міцем.

— Вазьміце з сабой, Птах. Вам жа не так многа трэба, каб самому чытаць. Ёсць у вас слоўнік? Я магу даць, у мяне ёсць некалькі.

— Ёсць, Мар'я Іванаўна. Дзякую.

— А цяпер, рабяткі, ідзіце. Да мяне зараз прыйдзе немец з жандармерыі. Ён урокі рускай мовы бярэ.

— Немец вывучае рускую мову? — здзівіўся Мікола.

Настаўніца загадкава ўсміхнулася:

— Прозвішча ў яго славянскае — Красоўскі. Я не дапытвалася, хто ён. Добра размаўляе па-польску. У Германіі многа анямечаных славян.

Ужо ў правулку хлопцы сутыкнуліся з немцам, які, сагнуўшыся, наставіўшы каўнер шыняля, борзда перабіраў нагамі. Падышоўшы да дома Мар'і Іванаўны, бразнуў веснічкамі, зайшоў у двор. Пад пахаю жандар нёс кнігі. На хлопцаў нават не зірнуў.

— Яна не прадалася? — спытаў Мікола, тарганууўшы Міцю за рукаў.— Што ты пра гэта думаеш?

— Думаю, што не прадалася. Яе працаваць прымусілі.

## 3

Міця на пару з Лобікам пераклалі зводкі з нямецкіх газет, якія дала Мар'я Іванаўна. Фронт далёка. Чуткі аказаліся перабольшанымі. Немцы пішуць пра баі пад Гжацкам — невялікім гарадком пад Масквой, упамінаюцца ў зводках мясціны, якія ляжаць на поўнач ад Арла і Вязьмы. Але ў той жа час самі фашысты пішуць, што паспяхова адбіваюць савецкія атакі ля Вялікіх Лук, Старой Русы. Зусім не зразумела, як і дзе пралягае фронт. Хлопцы, збіраючыся, ломяць над гэтым галаву і не могуць знайсці адказу.

Адказ далі самі немцы. У адзін з халодных лютаўскіх дзён на будынку клуба паявілася вітрына з картай еўрапейскай часткі Савецкага Саюза. Знізу прышпілен надрукаваны на машынцы лісток з нямецкай франтавой зводкай. З поўначы на поўдзень карту перарэзвае чорны шнурок, які вызначае лінію фронту. Ён прымацаван кнопкай ля самага Мурманска, абвіўся змяёй вакол Ленінграда, ледзь не пад прамым вуглом адбягае назад да Тарапца, Старой Русы і Вялікіх Лук, а потым крута паварочвае да Масквы. На поўдні савецкі клін зноў глыбока ўрэзваецца ў захопленую ворагам тэрыторыю. Лінія фронту віхляе і пятляе.

Халодны вецер гоніць пазёмку. У агародах ля парканаў ляжаць асеўшыя гурбы снегу. Як вестуны вясны, на стрэхах хат павіслі сіняватыя капяжы. Местачкоўцы на саначках вязуць з лесу дровы. За апошні час мястэчка неяк ажывілася: прыбавілася людзей, якія проста так, без пэўнай мэты выходзяць з хат, блукаюць па вуліцах, распытваючы ў знаёмых пра навіны.

Вечарам Сяргей прывёў у Лобікаву хату незнаёмага. Чалавек у дубленым чорным кажушку, валёнках — нізенькі, прысадзісты. Павітаўся з хлопцамі за руку, але сябе не назваў, маўкліва прысеў на зэдліку ля грубкі.

— Свае,— сказаў пра хлопцаў Сяргей.— Мы ўжо лістоўку надрукавалі.

— У вас падпольная група? — спытаў чалавек.

Хлопцы тут — Мікола, Міця, Сяргей і сам гаспадар хаты Іван Лобік — пераглянуліся. Яны яшчэ не думалі, хто яны і навошта збіраюцца.

— Група,— адказаў Сяргей.— Шэсць чалавек. Надзейныя, камсамольцы ўсе. Можна яшчэ каго ўзяць.

— Лішніх не трэба,— незнаёмы пажвавеў.— А зброя ёсць у вас?

Зноў пераглянуліся хлопцы, незнаёмы як бы загадвае, пытаецца, а пра сябе не гаворыць. Сяргей сумеўся. Запыніў на чалавеку позірк — нібы пытаўся, ці можна гаварыць. Той маўкліва кіўнуў.

— Гэта Анкудовіч,— сказаў Сяргей.— З партызан. Трэба даць ім батарэй.

— Будзем трымаць сувязь,— Анкудовіч устаў.— Праз яго,— паказаў ён на Сяргея.

Сувязь з партызанамі... Словы здаліся нязвычнымі, яны толькі пачыналі ўваходзіць у абіход. Хлопцы наперабой загаварылі, замахалі рукамі. Зброі няма, і невядома, дзе дастаць яе. Баёў паблізу не было. Ёсць толькі дзве гранаты і некалькі абоймаў патронаў, якія прыхаваў у лесе Міця...

Батарэй Анкудовічу далі, навалілі паўмяшка. Цёмным завулкам правялі да цагельні. У доўгай разбуранай будыніне гуляе вецер. Аднекуль з-за вугла выйшлі яшчэ двое. У кажухах, валёнках. На плячах вінтоўкі.

— Хай яно згарыць! — весела ўсклікнуў Анкудовіч.— Мабыць, горшай бяды няма, як хадзіць без зброі. Перадрыжаў увесь.

Адзін з тых, што чакалі ў цагельні, працягнуў партызану вінтоўку — на плячы ў яго было дзве. Анкудовіч стаў развітвацца. За цагельняй занесеная снегам ваколіца. Хлопцы стаялі і глядзелі да таго часу, пакуль у шэрым паўзмроку не расталі тры цёмныя постаці. Вярталіся ўзбуджаныя. Тайна, у якую пасвечаны адны яны, уздымала ва ўласных вачах.

— Пайшлі да дзяўчат! — гукнуў Мікола.— Крыўдзяцца, што не ходзім.

Хата, дзе жыве Вера, на галоўнай вуліцы, якая да вайны называлася Акцябрскай. Цяпер управа перайначыла яе на Палявую. Фантазія ў тых, што прыдумвалі назвы, не вельмі багатая — Палявая, Лугавая, Аляксандраўская, Мікалаеўская — так называюцца вуліцы. Але назвы гэтыя не прыжыліся, завуць па-ранейшаму, тым болей што пошта не працуе, лістоў і газет ніхто не атрымлівае. Нават таблічкі на дамах ранейшыя засталіся, даваенныя.

У той палавіне Верынага дома, якую займаюць старэйшыя дзяўчаты, чыста, утульна. На падаконніках і падстаўках безліч вазонаў, кветак, на сценах вышытыя сурвэткі і самаробныя, сшытыя з мноства кавалачкаў рознакаляровай тканіны, дываны. На падлозе палавікі. Хлопцам проста няёмка таптаць разлезлымі чаравікамі, з якіх сцякае вада, гэтую, створаную дзявочымі рукамі прыгажосць.

Дзяўчаты ўзрадаваліся прыходу хлопцаў, з якімі разам вучыліся. Міця агледзеўся — Сюзаны не было.

— Дзе вы прападаеце, лежабокі? — накінулася Вера.— Не хлопцы ў нас, а мяхі з саломай. Нават пагаварыць няма з кім.

Вера завяла патэфон, і пакой заліла звонкая мелодыя даваеннай песні. Міцю здалося, што ён трапіў у ранейшы школьны свет. Усё было тое самае: настрой бесклапотнасці, які раптам апанаваў усіх, хто сядзеў у гэтым утульным пакоі, знаёмыя твары, жарты, якімі перакідваліся хлопцы і дзяўчаты. Вайна, роспач, непакой — усё гэта як бы некуды адышло, знікла.

Вера мяняла пласцінку за пласцінкай. Грымелі маршы, іх змянялі працяжныя, крыху журботныя рускія песні.

Меж высоких хлебов затерялося
Небогатое наше село...

Голас спявачкі — грудны, глыбокі — чаруе, бярэ ў палон душу, выклікаючы ў ёй гарачую хвалю пачуцця. Не хочацца ні гаварыць, ні думаць, а толькі слухаць гэты голас, гэтую мелодыю, якая сама, нават калі б словы былі незразумелымі, льецца ў душу болем і смуткам. Міця нібы бачыць разліў спалавелага жыта, блакіт неба, сонечны дзень і дзесьці там, у глыбіні жытнёвага мора, ахутаныя сіняватай смугой саламяныя стрэхі. Дзе ён бачыў раней гэты малюнак? Ён не помніў. Можа, у сне...

У дзверы асцярожна пастукалі. Міця ўздрыгнуў. Яму здалося, што зараз зойдзе Сюзана. Нібы чуў яе голас у пярэднім пакоі.

Зайшлі Міцевы аднакласнікі — Аляксей Прымак і Саша Плоткін. Аляксей з гітарай, Саша з мандалінай.

— Нашага палку прыбавілася,— сказаў Аляксей, вітаючыся з хлопцамі за руку.

Музыканты прыселі, і адразу пачаўся другі канцэрт. Іграюць яны хораша. Відаць, восень і зіма не прапалі для іх дарэмна, бо ў школе ні Аляксей, ні Саша іграць не ўмелі.

— Клуб немцы адчыняюць,— як бы між іншым паведаміў Мікалай.— Карціну прывезлі. Нашу — «Трактарысты». Кажуць, партызаны пачалі лістоўкі расклейваць, дык, мабыць, хочуць адцягнуць увагу.

— Гавораць жа, што за лістоўкі настаўніка пасадзілі з торфазавода,— прамовіла адна з дзяўчат.

— Выпусцілі яго...

Міця з палёгкай уздыхнуў.

— Хочуць прыручыць нас,— сказаў Мікола Цябут, устаючы, і ў голасе яго пачулася несхаваная злосць.— Патанцуйце, даражэнькія, да вясны. А там пабачым. У Германіі ўсім месца хопіць. Кось-кось, а потым за грыву...

Усе змоўклі. Вясёлы настрой, які яшчэ хвіліну назад панаваў у пакоі, адразу прапаў. Чуткі пра Германію ні для каго

не былі навіной, але яны звязваліся з аддаленай будучыняй, дзе ўсё магло перамяніцца. Цяпер гэтая будучыня насоўвалася. Дзяўчаты сядзелі з сумнымі спалоханымі тварамі.

— А музычныя інструменты можна ў Германію браць? — спытаў Прымак.— Калі можна, то мы з Плоткіным не прападзём. Самадзейнасць жа, мабыць, ёсць і ў Германіі. Вось і будзем іграць...

Прымакоў жарт нікога не развесяліў. Дзяўчаты пачалі збірацца. Хлопцы правялі іх да клуба і асталіся адны.

Вокны хат зноў зыркалі агнямі: немцы адмянілі светамаскіроўкі. Агні свяціліся па-рознаму — дзе ярка, прывабна, а дзе толькі ледзь-ледзь мільгацелі кволыя бляскі.

## 4

Зброя цяпер самае галоўнае. Трэба даставаць зброю...

Клуб — доўгая драўляная будыніна, у якой ледзь не штовечар наладжваюцца танцы, знешне нагадвае вялікую стадолу. У клубе холадна і змрочна. Але гэта толькі да таго часу, пакуль ён не напоўніцца. Народу збіраецца тут шмат — вечарам пайсці некуды. Рыпне гармонік, і на сярэдзіну залы выходзяць найбольш адважныя пары. Хвілін дзесяць яны носяцца па шырокай зале адны, а публіка сядзіць на лаўках, расстаўленых уздоўж нябеленых сцен, выглядвае, чакае.

Выглядваць асабліва нечага. Завадатарам танцаў штовечар выступае адзін і той жа Лёнька Шчур, прысадзісты, гладкі хлопец з тоўстай чырвонай шыяй. Скача ён фацэтна. Хромавых блішчастых ботаў не шкадуе і тупаціць нагамі так, што ўгінаецца падлога і з яе ўздымаецца шызы пыл. Левую руку Лёнька заўсёды заломлівае і адводзіць назад. Хлопцы жартуюць, што гэта навейшы «шык-мадэрн».

Апусціўшы вочы, вальсуе Маргарыта Збынеўская, ці Рыта, як завуць яе звычайна. Расчырванелая, з прыгожымі ямачкамі на шчоках. Кавалераў у Рыты хоць адбаўляй. Хлопцы хмурацца. Яны ведаюць, што ў Сяргея штосьці ёсць з Рытай. Сам Сяргей пра яе ніколі не гаворыць. Ніхто не бачыў яго з ёй на вуліцы. Не любіць ён глядзець, як яна танцуе, і таму

ніколі не заглядвае ў залу. Але ходзіць да яе цішком, патаемна ад сяброў. Хлопцы гэта ведаюць, і ім непрыемна. Што ён знайшоў у гэтай Рыце? Няўжо не бачыць, што яна трымае яго на ўсялякі выпадак, гуляе, як кот з мышшу?

Дзяўчаты-школьніцы сядзяць асобнай кампаніяй і танцуюць рэдка. Кавалеры, якія ў старэйшых класах не вучыліся, іх пабайваюцца, свае хлопцы — не запрашаюць. Ніхто з іх не ўмее танцаваць, а вучыцца саромеюцца. Выключэнне складае толькі Аляксей Прымак. Але адзін ён усіх не абагрэе. І калі танцуюць дзяўчаты, то часцей адна з адной. Міця, калі прыходзіць у клуб, крадком назірае за Сюзанай. Яна прыціхшая, сумная, як і ўсе школьніцы.

У фае — цеснай прыбудоўцы да клубнай хароміны — дым стаіць каромыслам. Тут людна і душна. Кампанія ў фае выключна мужчынская, хлапечая, і калі ў залу ідуць дзяўчаты, ім трэба праціскацца праз шчыльную сцяну цел. Ёсць дзяўчаты, якім гэта дужа падабаецца, і свае вандроўкі з вуліцы ў залу і назад яны робяць некалькі разоў за вечар.

У фае збіраюцца курцы з усяго мястэчка. З курывам туга. Праўдзівей кажучы, курыць нечага. Да вайны махоркі ніхто не садзіў, адвыклі, спадзяваліся на магазінную — недарагую і лепшую. Цяпер — дзе купіш? Недзе, у суседнім раёне, дзе калгасы сеялі махорку, выявіўся прыпас бадылёў. Гэтыя бадылі — на вагу золата.

У Сяргея апошнімі днямі нібы прыбавілася сіл. Дня не можа пражыць, каб куды-небудзь не схадзіць. Удвух з Вілюгам яны пабывалі аж на процілеглым канцы раёна — у Гарохавічах. Там нашы трымалі абарону: па лесе павінна валяцца зброя. Цяжка было разлічваць, што ўдасца што-небудзь выкапаць з-пад снегу. Хлопцы прынеслі толькі пляскаты нямецкі штых. Такі ж ёсць у Міцевага малодшага брата Адама.

Вечарам хлопцы вандруюць па мястэчку, гавораць пра зброю. Дзе і як яе дастаць? Падоўгу запыняюцца перад нямецкай картай. Чорны шнурок застыў нерухома. За апошні тыдзень не падаўся ні на ўсход, ні на захад. У зводках немцы пішуць, што з вялікімі стратамі для чырвоных войск адбіваюць савецкія атакі. Але з далёкага Акцябрскага раёна

па вечарах даносіцца водгулле выбухаў, і гэта поўніць хлопцаў бадзёрасцю. І хоць пакуль не маюць зброі, звысака пазіраюць на тых, хто танцуе ў клубе або займаецца звычайнымі, дробязнымі справамі — мяняе ў вёсках абутак і вопратку на хлеб, возіць з лесу дровы.

У клуб іншы раз заходзяць пажылыя нямецкія салдаты з ахоўнай роты. Танцы іх вабяць мала: салдаты прыходзяць, каб развеяць сум. Яны паважна сядзяць на крэслах, расстаўленых уздоўж сцен, маўкліва назіраючы, як носяцца па зале пары. Некаторыя ў залу не заглядаюць наогул, стаяць у фае, кураць. Такіх заўсёды акружаюць цікаўныя.

— Пан,— чуецца пытанне,— дзе фронт?

— Москау капут, Ленінград капут...

— Няпраўда, пан. Ваша карта вісіць на клубе. Фронт далёка ад Масквы. Фронт каля Арла...

— Война — шайзэ, дрэк,— азіраючыся, паведамляе немец.— Фрюлінг Москау капут — война капут. Палітык — дрэк. Не нужна гаварыць палітык...

Немцы сапраўды з неахвотай гавораць пра вайну. Размоў пра палітыку пазбягаюць. Міця ні разу не чуў, каб хто-небудзь з салдат, якія заходзяць у клуб, пацікавіўся савецкім жыццём або расказваў пра Германію. Гэта чамусьці радуе, выклікаючы вострую цікавасць і здзіўленне. Чаму немцы маўчаць? Калі яны моцныя, то чаму яны баяцца адзін аднаго і, расказваючы што-небудзь, азіраюцца...

Сяргей вандруе з хлопцамі, але часта адлучаецца. Амаль штовечар завітвае ў хату да Апанаса Аўсяніка. Спачатку Сяргей зайшоў з Базылём Вілюгам, але Аўсянік сустрэў свайго былога актывіста вельмі няласкава, і цяпер Сяргей яго з сабой не заве. Асаавіяхімавец жыве наводшыбе — у нізенькай хатцы, стоенай на агародах, за хлявамі. У вокнах гэтай пахільнай хаткі ніколі не блішчыць святло: ці то Аўсянік рана кладзецца спаць, ці, запальваючы агонь, завешвае вокны. Паяўляецца на вуліцы рэдка, а калі і выходзіць, то смешна на яго глядзець. Да вайны яму было гадоў трыццаць, а цяпер ён нагадвае старога дзеда. Ходзіць сагнуўшыся, твар зарос шчацінай, бараду, мабыць, спецыяльна не стрыжэ — яна адрасла і матляецца, як памяло.

Апраўдаць Аўсяніка можна толькі тым, што маскіруецца. Але і з Сяргеем гуляе ў хованкі. Сяргей хоча ведаць, дзе зброя, пра якую намякнуў Аўсянік, калі яшчэ былі ў лесе.

Хлопцы адкрыта, пры Сяргею, насміхаюцца з Аўсяніка.

— За шкуру сваю дрыжыць, сволач! — крычыць Мікола, і твар яго чырванее ад гневу.— Да вайны быў актывіст, а цяпер у кусты. Да сценкі трэба ставіць такіх. Дзевяць грамаў у лоб...

— А сам ты што зрабіў? — пярэчыць Сяргей.— Языком мянціць кожны здолее. Герой...

— Што ты мяне раўняеш з такімі. Мяне ў армію не прызывалі! У знішчальны батальён таксама не ўзялі... Вінтоўкі мне ніхто не даваў. Я сам яе знайду. А яны? Яны проста трусы. Чаго ён сядзіць тут? Чаго жджэ?..

У мястэчку ёсць людзі, спакой якіх незразумелы. Засталіся некаторыя раённыя работнікі — начальнік пошты, дырэктар МТС, ляснічыя, дарожны майстар. Да вайны ўсе яны былі віднымі, а цяпер пазашываліся ў норы і сядзяць, як рудыя мышы. Пра што думаюць, на што спадзяюцца? Сумлення ў іх няма. Абывацелі.

Такіх хлопцы лічаць шкурнікамі. Наступае фронт, грыміць партызанскі бой у паласе дотаў і ў Акцябрскім раёне, ходзіць па лесе Анкудовіч, а яны і вухам не вядуць. Нібы гэта іх не датычыць.

Хлопцы нават склалі прыпеўкі, у якіх высмейваюць Аўсяніка і астатніх, што хаваюцца ў жонак пад спадніцамі:

Ў партызаны я пайду
Летам цёпленькім чуць свет,
Калі дотаў набудуюць
На ўвесь гэты сельсавет.

Ў партызаны я пайду,
Калі будзе моцны дот,
А ў ім падземны ход
Ў маю хату, агарод.

Ў партызны я гатоў,
Калі будзе такі дот,

Дзе харчоў на сто гадоў
І ў дадатак самалёт...

Але Сяргей не хоча рваць сувязі з Аўсянікам. Нечага ад яго чакае.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### 1

Прыйшлі ўтрох — Драгун, Красней, Шкірман. Грыцук, з пабітым воспаю тварам, амаль двухметровага росту пажарнік, напагатове. Грыцука ў падпольную групу ўцягнулі нядаўна.

У дзяжурцы пажарнай — доўгай, як вагон, з дашчаным сталом пасярэдзіне — ён быў адзін.

Красней крутнуў ручку тэлефона. Затаіўшы дыханне, трое чакалі.

— Барышня, кватэру Касарэвіча. Памочніка начальніка паліцыі.

На стале прыкручаная лямпа. Красней павярнуўся да сцяны, твару не відаць.

— Фядосавіч, ты?.. Прыходзь хутчэй, а то сарвуць банк. Калода новая, у салдата купілі. Каралі — жалуды, дамы — да пояса голыя.

На другім канцы провада замінка. Красней насядае:

— Якое позна, Фядосавіч? Прыйшлі ўсе, як заўжды. Пажарная зарплату палучыла. Гаручае ёсць. Прывёз Дубовік.

Нарэшце Красней вешае трубку.

— Ідзе!

Мужчыны мітусяцца. Шкірман распранаецца, кідае паліто на тапчан. Грыцук павялічвае ў лямпе агонь. У дзяжурцы — чорныя, закопчаныя сцены, закіданая недакуркамі падлога.

— Ты, Красней, наварту,— камандуе Драгун.— Гэтая сука асцярожнічае. Яшчэ хвост за сабой прыцягне. Пакуль сядайце за стол. Увойдзе, хапайце за рукі.

Драгун раздае карты, але ніхто не бярэ. Твары змучаныя, пабялелыя. Спакойны адзін Грыцук. Можа, спадзяецца на сілу. Здрадніка рашылі знішчыць яшчэ месяц назад. Дзеля гэтага Красней і Шкірман завялі з ім знаёмства.

Пакутліва цягнуцца хвіліны. Маўчаць. У цішыні чуваць, як недзе блізка кукарэкае певень. Яшчэ рана, каб кукарэкаў. Відаць, на адлігу.

— Чорт,— вырываецца ў Драгуна.— Колькі чакаць можна? Здохнеш...

Раптам — нечаканае. Шкірман напаўголаса заспяваў:

Чубарыкі-чубчыкі,
Чубарыкі-чубчыкі...

Пяе і барабаніць пальцамі па стале.

— Перастань,— просіць Драгун.— Звар’яцеў?

Грыцук кладзе на стол капшук з табакай. Капшук з сіняга паркалю, вышыты кветкамі. Відаць, дзяўчына падаравала.

Мужчыны робяць самакруткі, прагна зацягваюцца. Дым шызымі колцамі плыве да столі. На двары нарэшце крокі — ідзе Касарэвіч. Мужчыны, не дышучы, хапаюцца за карты. Адчыняюцца дзверы, і з першага імгнення ўсё пачынаецца не так, як намечана. Шкірман ускаквае, хапае Касарэвіча загрудкі. Б’е кулаком у твар. Той дужы таксама — абодва падаюць на падлогу, валтузяцца.

Красней выскаквае за дзверы — забыў пра варту. Шкірман, вырываючыся з рук Касарэвіча, б’е яго нагой у жывот. Той становіцца на карачкі і, не могучы ўстаць, садзіцца. Твар хіжы, драпежны, але на вуснах — усмешка.

— Хлопцы... Даруйце... Жыць хачу... У мяне дзеці... Перайду да вас...

Грыцук ззаду з размаху б’е паленам па галаве. Потым: Драгун бачыць усё, як у сне. Грыцук паспешліва выцягвае з-за грубкі брызент, рассцілае на падлозе. Затым вымае з кабуры забітага наган, шарыць па кішэнях. Загортваюць труп у брызент, дзве цагліны — іх Грыцук загадзя падрыхтаваў — туды ж. Пераматваюць няўклюдную, як сянны мех, ношку вяроўкай.

За хлявом глыбокі ацэментаваны калодзеж. З цёмнай прорвы тхне прэллю — вада застойная. Кідаюць у калодзеж труп. Гучны ўсплёск...

— Няхай цяпер шукаюць,— гудзе Грыцук.— Сабаку сабачая смерць.

Красней і Шкірман, наставіўшы каўняры паліто, разыходзяцца ў розныя бакі. Яшчэ не позна — гадзін дванаццаць ночы. Драгун з Грыцуком заскакваюць у пажарную. Грыцук дзелавіты, як бы нічога не здарылася. Бярэ памыйнае вядро, анучу, зацірае кроў.

— У Азяркі,— шэпча Драгун.— Знойдзеш Валюжыча, сакратара сельсавета. Пароль — Данбас. Запомні — Данбас.

— Я на кані паеду.

— На чорта той конь. Людзей выдасі. У зямлянцы жывуць.

Развітваюцца маўкліва, паспешліва.

Драгуна, ледзь толькі выскачыў на вуліцу, пачынае выварачваць. Пастаіць, сагнуўшыся, а праз пяць крокаў зноў. Як з-пад зямлі чуе незнаёмыя галасы:

— Набраўся. Сваімі не дойдзе.

— Бобік. Што ім цяпер — жаруць, п’юць...

## 2

Людміла Сяргееўна Азяркова з дачкой Лізай і сынам Віктарам пераехала ў мястэчка ў пачатку зімы, у самыя снягі. Бацька старэнькі, сівы, як голуб. Сустрэў са слязамі:

— Баяўся, што ўнукаў не пабачу. Памру. Цяпер памерці лепей, чым жыць.

— Што ты, тата. Гэта ў цябе ад адзіноты. Будзем разам цяпер.

Стары школьны дом з бляшаным дахам і жоўтымі, з патрэсканай ад часу фарбай, аканіцамі, здаецца, яшчэ глыбей урос у зямлю. Пад вокнамі — густы зараснік бэзу. Таполяў было чатыры, цяпер тры. Але перамены найбольш у самім доме. Няпэўнага колеру шпалеры вісяць шкуматамі, падлога, абдзёртая, і на ўсім ледзь не ў палец таўшчынёй пылу.

Бацька жыве ў кухні, астатнія два пакоі халодныя — паліва няма.

Два тыдні ўсёй сям'ёй мылі, шкрэблі, выцягвалі з дома друз. Бацька акрыяў, апранацца стаў лепей, гальштук павязвае.

Бацька — настаўнік, болей як семдзесят яму, даўно быў на пенсіі, маці — таксама настаўніца — памерла. Фёдар — муж, у суседнім раёне працаваў дырэктарам саўгаса. Цяпер ён у арміі.

Тыдні два Людміла Сяргееўна не выходзіла з дома. Знаёмых — мала, дый не хацелася бачыць нікога. Днём клопаты, вечарам пры настольнай дванаццацілінейнай лямпе бясконцая бацькава гаворка. Нечым утульныя гэтыя вечары нагадвалі даўно мінулыя, але не забытыя. Гэтак жа, пры лямпе, бацька і маці правяралі сшыткі, яна, школьніца, сядзела за сталом, чытала або цыравала панчохі. Цяпер, успамінаючы, адагравалася душой.

З Іванам Пракопавічам сустрэлася выпадкова. Марозны, ружовы пасля сонечнага дня адвячорак, на вуліцы — слізкі, укатаны санямі след. Пазнала адразу: высокі, трохі ссутулены, худы. Узрадавалася. У калектывізацыю ў суседнім раёне, адкуль прыехала, муж працаваў дырэктарам МТС, Шэлег — начальнікам палітаддзела.

— Вы тут, Іван Пракопавіч?

Было відаць, што сустрэчы ён рад. Твар нават прасвятлеў.

— Прыехалі. Я не ведаў.

Спытала пра жонку, дзяцей.

Іван Пракопавіч назаўтра зайшоў з жонкай, счакаўшы дні два, Людміла Сяргееўна сама іх наведала. Потым як бы з'явілася патрэба бываць у іх, бачыць штодня. Ведала сям'ю іх добра. Пажаніліся ў памятны год калектывізацыі, але Надзя, тады маладая настаўніца, не першая ў Івана жонка. Першай была гарадская, з'ехаўшы ў камандзіроўку — не вярнулася да Шэлега, які вучыўся тады на курсах.

Для бацькі прыход Івана Пракопавіча радасць. Цярэбячы сівыя вусы, пачынае бясконцыя дыскусіі. П'юць чай з сахарынам, гуляюць у лато.

Бацька разважае пра высокае, выклікаючы Шэлега на спрэчкі:

— Мой век быў лепшы. Вы хваліцеся — тэхніка, прагрэс, культура. Дзе яна, ваша культура? Культура — гэта павага да

чалавека. А цяпер што? Чалавека ставяць на адну дошку з жывёлай.

— Фашызм, Сяргей Пятровіч.

— Ведаю, што фашызм. Думаеце, ён сам па сабе? Век такі. Немцы і ў васямнаццатым годзе прыходзілі, але не такія. Чалавецтва звар'яцела. Ідэалаў няма. Кар'ерызм, хамства, свінства. У што верацьцяпер? Абы жывот набіць.

— А чым дрэнныя савецкія ідэалы? Сацыяльная роўнасць, навука, свядомыя мэты?

— А несправядлівасць? Вы скажаце — не было несправядлівасці. Мала знікла людзей майго пакалення?

— Гэта рабілі ворагі савецкай улады,— адказвае Шэлег.— У нашым мірным жыцці была таксама вайна. Класавая, як і цяпер. Вядома, у вайну бываюць непатрэбныя ахвяры. Улічыце капіталістычнае акружэнне. Яно прымушала перабольшваць небяспеку.

Бацька не згаджаецца — на ўсё ў яго свая мерка. Але ў тым, што датычыць зыходу вайны, пагляды абодвух аднолькавыя.

— Расія — тысячагадовая дзяржава! — гарачыцца бацька.— Выратавала Еўропу ад мангольскага ярма. Пакуль Русь, сцякаючы крывёй, валтузілася з манголамі, Еўропа развівала рамёслы, гарады. Еўропа заўсёды была несправядлівай да Расіі. Высакамер'е, пагарда. Гітлер — пігмей, авантурыст. У рускай гісторыі ён разбіраецца, як баран у Бібліі. Скруцяць шыю, павесяць, як разбойніка. Расія не можа загінуць.

— Старая Расія,— даказвае Шэлег,— рухнула б у такой вайне, як гнілое дрэва ў буру. Не забывайце пра рэвалюцыю, пра тое, што прынесла яна. Гітлер не адзін супраць нас. Захапіў ледзь не ўсю Еўропу. З такой прамысловасцю, якая была пры цары, Расія б і тыдня не пратрымалася.

Зімовыя вечары з цёплай утульнасцю пакоя, дванаццацілінейнай лямпай, запраўленай нямецкім бензінам, у які сыплюць соль, каб не было імгненных успышак, адкрытая пагарда да немцаў, якую, не тоячыся, выказвае Шэлег, а самае галоўнае штодзённыя яго наведванні за апошні тыдзень, калі стаў прыходзіць адзін, без жонкі, нараджаюць у душы Людмілы Сяргееўны трывожныя і адначасова радасныя здагадкі.

Чуццём угадвае — Іван прыходзіць не толькі за тым, каб яе ўсцешыць, падбадзёрыць. Ёсць іншая мэта, пра якую пакуль не гаворыць, прыглядваецца, як бы баючыся сказаць тыя важкія, небяспечныя словы, якіх яна чакае. Не верыць яна, што Шэлег — той рамеснік, які, рамантуючы самавары, швейныя машыны, проста пераседжвае вайну. Не такі чалавек, розум, душа не такая.

Яна памятае яго — маладога, загарэлага, у скураной тужурцы,— з Фёдарам спрачаўся да хрыпаты, гарэлкі не піў нават на святочных вечарах, насіўся на эмтээсаўскай машыне па вёсках, еў усухамятку, начаваў дзе папала. Гэта называлася — гарэў. Фёдар, старэйшы па гадах, любіў яго. Цяпер і Іван пастарэў, ссутуліўся, русявыя валасы, калі прыгледзецца, напалавіну сівыя, твар у маршчынах. Болей стрыманы, болей смутку ў павузелых шэрых вачах. Але не-не дый прарвецца памятнае, маладое — слова, узмах рукі, позірк, усмешка.

Тое, чаго яна чакала, Шэлег нарэшце сказаў. Прыйшоў днём. Лізы, Віктара дома не было, у іх ужо завяліся знаёмыя, бацьку нямoжацца — ляжыць у суседнім пакоі на канапе. Адводзячы позірк, спытаў:

— Што думаеш рабіць?

— Трэба шукаць работы. З-за пайка. Усё, што маглі, прадалі.

— Ідзі да Крамера, бургамістра. Прасіся ў пашпартны аддзел. Цябе прымуць.

Яна зірнула на яго са страхам — усё ясным стала.

— Так трэба?

— Трэба.

Болей ні аб чым не дапытвалася.

Пазней, прыносячы дамоў у старым рыдыкюльчыку запоўненыя незнаёмымі ёй прозвішчамі аўсвайсы, перадаючы іх Івану і беручы з яго рук неразборліва напісаныя на лістках, вырваных са школьнага сшытка, зводкі Саўінфармбюро, не адчувала страху, а толькі стоеную, урачыстую радасць. Лізу па просьбе Шэлега паслала працаваць у лясніцтва сакратаркай, там пішучая машынка і там за адзін вечар з пакамечанага лістка робяць дзесяць, непрыкметна перадаючы назаўтра хмураму аднавокаму лесніку, які носіць іх некуды

ў вёску. Ад Лізы ўсё адно не схаваешся — сямнаццаць гадоў ёй, разумее ўсё. Ліза памагае Палянскай, настаўніцы, жонцы камандзіра, якая там, у лясніцтве, бухгалтарам. Часта, поўнячыся ганарлівай радасцю, лавіла сябе на думцы: тут, сярод немцаў, яны з Лізай ваююць, як і Фёдар, муж, бацька. Яму не будзе за іх сорамна...

Аднойчы, перадаючы Івану чысты бланк аўсвайса, сказала:

— Тады, як пасылаў да Крамера, баялася — ці здолею лгаць, прытварацца. А цяпер ілгу штодзень і не сорамна. Нават весела.

— Вы, жанчыны, на такія штукі майстры. Вас хлебам не кармі, а дай папрытварацца. Ад прыроды ў вас. Артысткі.

Схаваную за жартаўлівым тонам сур'ёзнасць слоў зразумела па-свойму, па-жаноцку: не можа забыць тую, даўнюю, што жыла з ім, а думала пра другога. Аднак ён не даў ёй усталявацца ў гэтай яе здагадцы, надаўшы толькі што сказанаму зусім іншае асвятленне:

— Я сам думаў аб гэтым, Людміла. Не так цяжка, па-мойму. І ў звычайным жыцці не заўсёды гаворым і робім тое, што думаем і хочам. А тут, калі вораг перад табой, сам Бог загадаў...

Вечарам Іван Пракопавіч ціха стукае ў шыбу. Сядзяць на кухні, яна перадае местачковыя навіны, расказвае, як паводзіць сябе бургамістр. Яго гэта цікавіць.

— Ведаеш, не раскушу яго ніяк. Чалавек, здаецца, добры, людзей выручае. Хлеб, соль выпісвае нават тым, хто не працуе. Але да немцаў прыліп. Пра партызан нават слухаць не можа. Пасля таго як уцяклі Касарэвіч і пажарнік, хадзіў як сам не свой. Лаяўся, пагражаў...

Зіма канчаецца. Шумяць у галінах школьных таполяў вятры, снежнай крупой б'е ў шыбы. Раённая ўправа склікала ў мястэчка настаўнікаў. З верасня немцы збіраюцца адчыніць пачатковыя школы. Толькі пачатковыя — пра сямігодкі і сярэднія нават не ішло гаворкі. Вечарам таго дня, калі бургамістр размаўляў з настаўнікамі, Людміла Сяргееўна зайшла да Шэлегаў. Пераказаўшы Івану Пракопавічу навіну, жартаўліва дадала:

— Дрэнны раменнік з цябе, Іван. Пра майстэрню тваю не чуваць. Бургамістра ўсе частуюць,— гарбары, шаўцы, краўцы. Ботаў нашылі, гарнітураў, туфель жонцы. А ты, як крот у нары.

— А што такое? — спытаў, спахмурнеўшы з твару.

— Нічога. Але пачастуй Крамера. Ён любіць, калі завуць у госці.

Ён зірнуў на яе, усміхнуўшыся, згодна кіўнуў галавой. Жанчын трэба слухацца...

3

Немцы пачалі перашываць чыгунку. На мясцовую сілу не спадзяваліся, нагналі палякаў. Кожнай раніцы міма Птахавай будкі, грукаючы драўлянымі калодкамі, праходзіць калона мабілізаваных. Наперадзе — чацвёра немцаў у жоўта-зялёных шынялях, на рукавах у іх чырвоныя павязкі са свастыкай, як у самога Гітлера. Міця спачатку думаў, што гэта нейкае начальства, фашысты. Пазней высветлілася — звычайныя тодтаўцы, апранутыя ў форму чэхаславацкай арміі. Каб не ўзнікла блытаніны, прыдумалі ім гэтыя нарукаўныя павязкі.

Харчу палякам не хапае, яны блукаюць па мястэчку, па ваколіцах. Прапаноўваюць на абмен карабок запалак, пачак фарбы, іголку. Невысокі, чарнявы, з бяскроўным тварам паляк заходзіць у будку. Есць таропка, аглядваючыся, нібы баіцца, што нехта ўскочыць і вырве з-пад носа міску з капустай. Пасёрбаўшы, лаецца:

— Герман то холера, пес! — крычыць так, што Птах азіраецца на дзверы.— Ён бэндзе піць з вас кроў, а з касцей бэндзе мець навоз. Так... Я не хлушу, я вем — тшэба нішчыць, рэзаць германа!..

— Чаму ж ты, калі такі смелы, не рэзаў? Дык ты немцу чыгунку ладзіш?

— А цо я могу? — паляк вяне на вачах.— Естэм енец, хэфтлінг. Я бэндэ ўцекал, а фаміліі капут. Там дзеці, дзве цуркі...

— У тым-та, брат, і загвоздка, што хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць. На чым возе едзеш, таму і песню спявай.

— Так,— сумна згаджаецца паляк.— Пан ма рацыю. Мы — невольніцы.

Паляк забягае штовечар. Патроху яго падкармліваюць.

Міця ўстае і кладзецца з адной думкай — пра фронт. Думка засела трывала, як увагнаны ў дрэва жалезны цвік. Ад яе нельга пазбавіцца. Яна заўсёды з ім, падпарадкоўвае сваёй уладзе ўсё астатняе. Чыгунка, лес, поле, кніга, якую Міця іншы раз бярэ ў рукі, работа па гаспадарцы — усё нагадвае пра вайну, ва ўсім прысутнічае да болю акрэсленае, усяўладнае адчуванне непатрэбнасці, марнасці ўсяго гэтага, калі не вернецца ранейшае, калі ўсё застанецца такім, як ёсць. Сам ён, маленькая, непрыкметная пясчынка, цалкам залежыць ад падзей і віхур, якія разгуляліся там, па-за полем яго зроку. Але ў той жа час ён частка гэтых падзей, яны адгукваюцца болем ці радасцю ў сэрцы. Ад таго, прыйдуць ці не прыйдуць нашы, залежыць усё жыццё.

У бацькі другі клопат. Ён найболей дбае аб тым, каб ўратаваць ад бяды сям'ю. Ён згодзен стаяць збоку, перачакаць, пакуль не пранясецца над галавой шалёная віхура, у якой так лёгка збіцца з тропу. Для бацькі маюць значэнне карова і цялушка, капа гнілой саломы, якую прывёз стары Шнапс, пазычаная асьміна бульбы. Ён, здаецца, можа жыць толькі гэтымі дробязнымі клопатамі і справамі, без таго, самага галоўнага, што дзеецца на свеце. Ён згаджаецца так жыць. Міця не згаджаецца. Недзе тут і праходзіць мяжа паміж яго і бацькавымі адносінамі да вайны і ўсяго таго, што прыйшло разам з ёй. Кожны гэта адчувае. Бываюць хвіліны, калі Міця проста ненавідзіць бацьку.

Птаха ж непакоіць зацятасць, засяроджанасць сына, тая ўпартая настойлівасць, з якой пястуе сваю думку, тоячы ў душы яе, нікога з сямейных да яе не дапускаючы. Бацька заўважыў: усё, за што б сын ні ўзяўся, робіць без ахвоты, без цікавасці, без той рупнасці, якая так яму ў Міці падабалася. Ва ўсім гэтым, ведаючы характар сына, бацька бачыць небяспеку для сям'і, трывожыцца. Непакояць яго і Міцевы сябры, частыя адлучкі з дому. На гэтым грунце ўзнікаюць яго дакоры Міцю. У іх характарах столькі агульнага, блізкага, але як далёка стаяць яны адзін ад другога!..

Галоўны бацькаў клопат у тым, каб скласці хату і хутчэй у яе перабрацца. Там ужо наслалі падлогу, але няма яшчэ столі, печы і на адзін бок даху не хапіла дранкі. Печ можа пачакаць. Летам можна варыць і на двары, у пячурцы. Без столі і даху ў хату не ўбярэшся.

— Міця,— паклікаў аднойчы бацька.— Давай зрэжам сасну. Усё адно немцы валяць лес ля чыгункі. Ніхто слова не скажа. А дранка будзе харошая.

— А пчолы як?

— А што пчолы,— бацька сумна ўсміхнуўся.— Тут людзі гінуць, а ён пчол шкадуе.

Яны стаяць на пераездзе. Зімовы адвячорак, у сіняватым паўзмроку шарэе поле, кусты. У лесе нехта стрэліў, і глухое рэха праняслося над полем.

— Дык сёння зробім? — нерашуча пытае бацька ў Міці.

— Рэж сам. Я не буду.

— Глядзі, які жаласлівы. Хата цячэ, а табе галава не баліць. Дзе дранкі ўзяць?..

Бацька павярнуўся, падаўся ў двор. Міця астаўся на пераездзе. Яму сумна і крыўдна. Ён не здолеў бы сам сабе растлумачыць, чаму не спадабаўся бацькаў намер. Можа, таму, што са знішчэннем сасны як бы рвалася тое, што звязвала мінулае з сённяшнім і заўтрашнім. Міця не можа ўявіць, якімі будуць без сасны пераезд, будка і поле. Яны стануць незнаёмымі, зусім не такімі, якімі прывык іх бачыць. І ёсць яшчэ другое, таксама важнае, што цяжка выказаць словамі і што жыве толькі ў пачуццях...

Міця сядзіць на парэнчах драўлянага бар’ера, глядзіць на мястэчка. У школе — яркія агні. Зноў няма светамаскіроўкі. Ад гэтага трывожна. Агні школы як бы аддаляюць тое, што павінна было хутка прыйсці, але затрымалася ў дарозе. Паволі гаснуць апошнія фарбы дня. Цямнее.

Нячутна падышоў бацька, і Міця ўздрыгнуў.

— Пужлівы ты стаў. Пакуль за бацькавай спіной сядзіш, не бойся.

Ён памаўчаў, загаварыў лагаднейшым голасам:

— А сасна хай стаіць. Думаеш, я хацеў губіць яе? Моцная яна, якраз у сіле. Да мяне стаяла, няхай стаіць і пасля мяне. Як перабраліся сюды, у будку, тады галіны ніжэй былі,

рукой дастанеш. Калыску вешалі. Дзіця бачыць зялёнае і рада, смяецца.

Міця моўчкі слухае.

— Думаў, звякую ў будцы, хоць выбірацца ўсё адно трэба было б, пенсіянераў у будках не трымаюць. Але каб не вайна, не немец, яшчэ пажылі б.

Прымiраныя, занятыя кожны сваім, пайшлі ў двор.

* * *

Першае, што адрамантавалі немцы на станцыі, была прыбіральня. Звычайных таблічак — «Для мужчын», «Для жанчын», якія віселі раней,— няма. Замест іх напісана па-нямецку: «Толькі для немцаў», «Для рабочых». Хлопцы, убачыўшы такое, не паверылі вачам. Але таблічкі віселі, і напісанае трэба было разумець так, як напісана.

Дзён праз тры, вечарам, у хату да Лобіка заскочыў узрушаны Шура Гарнак. У руках у яго нейкі скрутак.

— Ёсць ідэя! — гукнуў з парога і разгарнуў на стале партрэт Гітлера.

Міця і Лобік кінуліся да стала. Пад партрэтам надпіс па-руску: «Гітлер-вызваліцель». У Гітлера грубы, сярдзіты твар, трохі скрыўлены набок рот. Палавіна лба закрыта начэсанай пасмай валасоў.

Партрэт Шура дастаў лёгка. Ва ўправе раздавалі такія старастам. У іх двор заязджае адзін, далёкі бацькаў сваяк. Хоць і староста, але везці Гітлера ў вёску не захацеў.

— Павесім Гітлера ў прыбіральні, на станцыі! — Шура паціpae ад задавальнення рукі.— Раз немцы так клапоцяцца аб сабе, то няхай і Гітлер ім. Няхай моляцца.

Вечарам над станцыяй стаіць насцярожаная цішыня. Свецяцца задратаваныя вокны пакгаўза — там жывуць палякі-рабочыя. Снег з рэек ачышчаны, стрэлкі ў змроку, як надмагільныя крыжы. Міця і Лобік сталі на варце, Шура з партрэтам за пазухай шуснуў у нямецкае аддзяленне прыбіральні. Выскачыў агніста-радасны.

— Гатова!

Сцежкай па заснежаных агародах, якія аддзяляюць станцыю ад вуліцы, ішлі моўчкі, а потым загаварылі, замахалі рукамі.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1

Міша Ключнік — шыракаплечы, круглатвары — сувязны ад Анкудовіча. Паранены ў нагу, месяц праляжаў у бальніцы. Хто яго паклаў туды і як ён, партызан, лячыўся пад носам у немцаў, хлопцы не ведаюць. Ад гэтага ходзяць радасныя, узбуджаныя.

— Сачыце за немцамі, паліцаямі! — загадаў Ключнік начальніцкім голасам, толькі на некалькі хвілін завітаўшы ў Лобікаву хату, і тут жа знік.

Мінула якіх тры дні, і пра нямецкі гарнізон хлопцы ведаюць усё, што можна ведаць. Ахоўная рота, размешчаная ў станцыйным двухпавярховым будынку, налічвае шэсцьдзясят салдат. У іх вінтоўкі, кулямёты. У паліцыі болей як сотня бобікаў, апрача гэтага, дванаццаць немцаў-жандараў, дваццаць салдат у ахове гебітскамісара. У іх таксама кулямёты і вінтоўкі.

Ключнік жыве на кватэры ў медсястры. Сяргей зайшоў да яго, пераказаў тое, што вядома пра гарнізон, але сувязны пакідаць мястэчка як быццам не збіраецца. Адчувае сябе як рыба ў вадзе. У яго многа знаёмых і сярод іх нават два перакладчыкі гебітскамісарыята, маладыя прысадзістыя фольксдойчы, з якімі ён запанібрата. Недзе раздабыў Міша новае паліто, касцюм, бліскучыя шыраканосыя туфлі.

Вечарам у акружэнні дзяўчат Міша прыходзіць у клуб. Ён прыгожы, і дзяўчаты — медсёстры, санітаркі, тэлефаністкі — злуюць, калі бачаць, што ён танцуе з якой-небудзь адной. Хлопцаў Міша не заўважае, глядзіць, як на незнаёмых.

Сяргей яшчэ раз схадзіў у Гарбылі да сястры і вярнуўся з добрымі весткамі. У чыгуначным гарадку таксама не дрэмлюць.

Сястра пазнаёміла яго з цікавым чалавекам — капітанам Бондарам, хоць гаварыць аб ім забараніла. У Бондара сувязь з акцябрскімі партызанамі — тымі самымі, якія ўсю зіму ваявалі з немцамі. Сястра, якая працуе ў нямецкай сталовай, сказала, што вясной пойдзе ў партызаны.

Сяргей па-ранейшаму, ледзь не штовечар завітвае да Аўсяніка. Прыкметнага поспеху няма. Аўсянік гуляе ў незразумелую гульню. З усім згаджаецца, падтаквае, але словы круглыя, лёгкія, знікаюць, не застаючыся ў памяці.

У той вечар, набраўшыся злосці, Сяргей наважыўся ісці напралом. Аўсянік сядзеў на прыпечку і пры бляклым святле каганца падшываў валёнак. Кроў прыліла да Сяргеевага твару, на вуліцы гразь, слота, наступае вясна, а Аўсянік дбае пра зіму.

— Вы мне скажыце проста,— Сяргей стараецца гаварыць спакойна.— Дасцё зброю ці не?

— Каму гэта я павінен даваць зброю?

— Хлопцам. Мне сорамна перад імі.

— Твае хлопцы — нулі без палачак. Малакасосы. Асабліва Вілюга гэты.

— Яны не дрыжаць і не калоцяцца, як вы.

— А чаму я павінен даваць зброю? Няма яе ў мяне. Адкуль вы ўзялі?..

Сяргею ясна, што болей з Аўсянікам па-таварыску гаварыць нельга. Сёння трэба вырашыць канчаткова, дасць зброю ці не.

— Мы ведаем усё. Вы самі мне гаварылі, а цяпер тоіцеся,— у Сяргеевым голасе пагроза.

Аўсянік падхопліваецца:

— Гавары ты цішэй. Ну навошта крычаць?

— Пакажыце зброю,— стаіць на сваім Сяргей.

— Слухай, Амельчанка, пачакай. Не трэба быць такім гарачым.

— Самі можаце не ісці. Раскажыце, дзе яна. Знойдзем самі.

— Які ты нецярплівы. Трэба ўсё абдумаць, узважыць. Так проста не робіцца.

— Пакажыце месца! — ледзь не крычыць Сяргей.— Вам жа будзе лепш.

Аўсянік урэшце здаецца. Нервова цярэбіць махры на шаліку, якім абвязана шыя, нібы яму займае дыханне. У гэтую хвіліну Аўсянік падобен на ката, якому заціснулі дзвярамі хвост.

— Трэба шукаць ля торфазавода. І каб пра мяне ні гуку. Нічога ведаць не хачу. Я той ямы не закапваў і адкапваць не буду. Я і так на падазрэнні. Не хадзі да мяне болей. Ля торфазавода ў пятым квартале шукайце. Ад квартальнага знака па правы бок прасекі павінна быць старая бяроза са зламаным верхам...

Сяргей радуецца, але не хоча паказаць выгляду. Прызнанне Аўсяніка дорага каштавала. Колькі ён сюды пахадзіў!

Аўсянік правёў Сяргея да парога. У сенечках схапіў за рукаў, зашаптаў:

— Вы маладыя, гарачыя — не разумееце... Партызаны добра, калі фронт моцны. А як не, дык усё гэта глупства. Што ты з вінтоўкай супраць танка зробіш? Не ідзі вуліцай, агародам ідзі. Можа, якая сволач падглядвае.

Сяргею непрыемна ад Аўсянікавых слоў, але спрачацца няма жадання.

Сяргей ідзе вячэрняй вуліцай. Адчувае сябе дужым. Яму вядома пачуццё незалежнасці, сілы, тое пачуццё, якое бывае, калі трымаеш у руках вінтоўку. Хлопцы, акрамя хіба Лобіка, гэтага не ведаюць. Таму яны не могуць зразумець, як адчувае сябе баец, у якога няма вінтоўкі. Цяпер гэта ўсё мінецца. Няхай ён толькі возьме ў рукі зброю...

Перад сінім, стоеным у змроку вечара, садам Сяргей спыняецца. Дамоў ісці не хочацца, да Лобіка — таксама. Заўтра ці паслязаўтра, калі ён адкапае зброю, усё пераменіцца. Тады, думае ён, хлопцы будуць глядзець на яго зусім інакш.

Сяргей адчувае сябе вінаватым, калі ідзе праз сад да Рыцінага дома. Як бы крадзе. Ведае, што не любяць Рыту хлопцы, пры ім з яе насміхаюцца. Але ён усё адно да яе ходзіць. У Рыты асобны пакойчык, і яна смела вядзе Сяргея да сябе, ёсць хто ў хаце ці няма. У пакойчыку беспарадак: ложак непрыбраны, на спінцы крэсла навалам сукенкі, панчохі, стол закіданы грабянцамі, прыколкамі. Аднойчы ён застаў Рыту неапранутай, у адной сподняй сарочцы. Дзяўчына

сядзела на ложку, абхапіўшы калені рукамі, гарэзліва ўсміхалася, гледзячы на яго.

Калі б яна, як і большасць местачковых дзяўчат, вышывала сурвэткі, старалася паказаць сябе дбайнай гаспадыняй, ён на яе і ўвагі не звярнуў бы. Рыта ўяўляецца адметнай, не падобнай да іншых дзяўчат. Яму ні разу не ўдалося да канца зразумець, чаго яна хоча.

Пра свае адносіны да Рыты, насмешкі хлопцаў Сяргей думае так: ён пакуль не зрабіў нічога такога, каб Рыта выдзяляла яго сярод другіх. Яна прыгожая, таму да яе цягнуцца. Хіба ёсць прыгажэйшая дзяўчына на іхняй Вакзальнай вуліцы?..

Рыту застаў дома. Здзівіўся, убачыўшы яе за работай, расчырванелая, з распушчанымі валасамі палошча бялізну. На стале ў слоіку з-пад варэння тры галінкі вярбы. Коцікі на іх распусціліся, праклюнуўся зялёны лісток. На двары, у дрэвах саду шуміць вецер.

— Заўтра пайду на работу,— сказала Рыта, расчэсваючы грабянцом валасы.

— На якую работу?

— Машыністкай у маслапрам. Мяне прынялі. А ты не думаеш куды-небудзь паступаць? Могуць забраць у Германію.

— Яшчэ пабачым...

Хочацца сказаць Рыце што-небудзь колкае, злое, але Сяргей маўчыць. У думках бачыць сябе з вінтоўкай, рэвальверам. Прыйдзе ў гэты маслапрам, застыне на парозе. Твары тых, хто там сядзіць, перасмыкнуцца ад страху. Але ён здзівіць іх велікадушшам. Не прамовіць ні слова. Усе яго зразумеюць і кінуцца прэч з нямецкай службы. Застанецца адна Рыта. Што яна скажа? Як на яго паглядзіць?..

Рыпнулі дзверы, у пярэднім пакоі пачуліся крокі і без стуку ўвайшоў чырванатвары хлопец у чорным дублёным кажушку наросхрыст. Сяргей пазнаў яго, гэта той самы Лёнька Шчур, які гучней за ўсіх выбівае чачотку ў клубе. Ён без дазволу сеў у крэсла і вялікімі сінімі вачамі ўтаропіўся на Сяргея. Рыта пачырванела. Было відаць, што Шчур тут госць не новы.

— Знаёмцеся,— сказала Рыта.— Гэта Лёня. У маслапраме кладаўшчыком.

«Наеў морду, сволач»,— мільгнула ў Сяргея нядобрая думка. Сяргей сядзеў як на іголках. Гаварыць не было пра што. Шчур выцягнуў са слоіка галінку вярбы і сцёбаў сябе па бліскучых халявах. Сяргей развітаўся. Выходзячы садам на вуліцу, ён, здаецца, чуў, як скрыпіць пад ветрам стары, паточаны шашалем Рыцін дом.

## 2

Вясна ішла.

На палях, шэрых і пустых, з рэдкімі палоскамі азіміны, запелі раўчукі, талай вадой напаўняліся перахлябіны, канавы на ўзбочыне шляху. У лесе між дрэвамі яшчэ ляжыць пачарнелы снег, а на прагалах, на куп'і ўжо вытыркае свае пупышкі-порхаўкі першая трава — чорнагалоў. Яшчэ будуць замаразкі, галалёдзіца. Могуць нават і ў красавіку разгуляцца снежныя завірухі, але чорнагалоў расце, трывае.

Вясна пачыналася трывожна. У нямецкіх зводках, якія акуратна вывешваюцца на клубе, зноў пахвальба. Ля ракі Волхаў акружана Савецкая Армія. Ідзе наступленне на Керч, на Севастопаль.

Вечарам у фае клуба малады нямецкі салдат, падыгрываючы на губным гармоніку, спяваў:

Es geht alles vorüber,
Es geht alles vorbei.
Wir laufen im Dezember,
Die Russen — im Mai...[1]

Салдат даўганосы, худы, з густымі вяснушкамі на твары, і песня яго гучыць сумна. Спявай, салдат!.. Расія, якую твой фюрар паўгода назад лічыў пераможанай, зняважанай, выстаяла, гнала па снежных раўнінах твае закаваныя ў браню армады. Ідзіце наперад, нямецкія хлопчыкі,— фюрар вам назапасіў бярозавых крыжоў!.. Запомні, салдат, рамантыкі

---

[1] Усё праходзіць, мінае,
Усё праходзіць, мінае,
Мы ўцякаем у снежні,
А рускія — у маі *(ням.)*.

не будзе, не пойдзеш ты пераможным крокам, закасаўшы рукавы, а шчодра пальеш маладой крывёю кожную цалю чужой, жорсткай зямлі. Ваш фюрар гаворыць, што вайна — натуральны стан чалавека. Ты адчуў, можа, смак вайны, таму і сумная твая песня. Спявай, салдат!..

Не да плугоў і трактара клікала першая акупацыйная вясна, а да помсты, на партызанскія сцежкі. Зычыла не хлебны каравай, а засеў нянавісці і помсты.

Мікола прыбег у будку раніцай, моцна ўстрывожаны. Не хацеў нічога гаварыць пры бацьку і маці і толькі непрыкметна кіўнуў, даючы Міцю знак выйсці. Хлопцы выйшлі на двор і павольна пакрочылі прасёлкавай дарогай, якая, пятляючы па шэрым полі, вяла ў мястэчка. Дзень хмуры, нібы асенні. На чыгунцы перашываюць каляю, грукаюць ламамі палякі.

— Сяргея арыштавалі,— коратка паведаміў Мікола.— Амаль усіх забралі, хто з лесу прыйшоў, са знішчальнага батальёна. Аўсянік уцёк.

— А Ключнік дзе?

— Пайшоў папярэдзіць Анкудовіча. Выведаў, што будуць забіраць палонных прымакоў. Назад у лагеры. Актывістаў будуць арыштоўваць.

Навіна ўстрывожыла. Бяда прыйшла адтуль, адкуль яе не чакалі. Хлопцы паныла прымоўклі.

— Аўсянік сказаў Сяргею, дзе закапана зброя,— працягваў Мікола.— Але на тым месцы яе не знайшлі. Сяргей з Шурам хадзілі. Мабыць, Аўсянік проста хітраваў... Не верыў нам. Ясна, што сам пайшоў у партызаны.

Хлопцы дайшлі да апошніх местачковых хат і павярнулі назад, у поле. Ісці цяжка: дарогу расквасіла, да чаравікаў прыліпаюць камякі гразі. Нехта ззаду клікнуў: азірнуўшыся, убачылі Лобіка. Не выбіраючы дарогі, правальваючыся ў гразь, ён даганяў іх.

— Сяргея схапілі,— дрыжачы ад узбуджэння, паведаміў як навіну.— Аўсяніка ўзялі...

— Аўсянік уцёк,— запярэчыў Мікола.— Я ведаю. Нехта яго папярэдзіў.

Вандравалі па полі, расхвальвалі Аўсяніка. Цяпер ён здаваўся разумным, праніклівым. Відаць, нездарма таіўся. Ён не

адзін, гэта ясна. Ім, маладым, проста не хацеў раскрываць карты. І правільна рабіў. Неабавязкова кожнаму сустрэчнаму давяраць. Што ён ведаў пра іх?.. Здавалі нормы на значкі, лістоўку надрукавалі. Глупства гэта ўсё. Людзі, відаць, рабілі большае і не малолі без патрэбы языкамі. Паказалі немцам дулю.

— Аўсянік цяпер сам звяжацца з намі,— выказаў здагадку Міця.— Вось пабачыце. Партызаны без нас не абыдуцца. Ім жа трэба разведка...

Калі будзе свой, мясцовы атрад, то партызаны без іх сапраўды не абыдуцца. Анкудовіч далёка, у Дамачоўскім атрадзе. Але і то прыслаў Ключніка.

— Сходзіш заўтра ў лес і забярэш гранаты,— загадаў Мікола Міцю.— Снег сагнала. Можа, патронаў знойдзеш, валачы. Я на торфазавод з Шурам схаджу. На тое месца. Можа, Аўсяніка стрэнем.

Назаўтра з раніцы Міця ўжо ведаў, што Аўсяніка ўсё-такі схапілі. У лес ён не пайшоў, а схаваўся ў радні, на хутары. Нехта з паліцэйскіх здагадаўся, што ён там.

Выйшаўшы на пераезд, Міця яшчэ здаля заўважыў Міколу. Ён крочыў па насыпе, і вецер шырока развяваў полы яго шэрага, перашытага з шыняля, паліто.

Крочыў Мікола смела, не зважаючы на немцаў-тодтаўцаў і палякаў, якія перашывалі чыгунку. Падышоўшы да Міці і нават не павітаўшыся, выпаліў:

— Мне трэба паступіць у паліцыю!..

— Навошта? — не зразумеў спачатку Міця.

— Як навошта? З Сяргеем звяжуся, з Аўсянікам. Зброі дастану. А чаго чакаць?

Міця адразу адчуў, што Мікола рашыў правільна. Іншага выйсця не было. Яны ўжо не маглі, як раней, сядзець без зброі. Перахапаюць усіх, як зайцоў. І ў лес без зброі не ўцячэш. Але і параіцца няма з кім. Ключнік сышоў. Анкудовіч — далёка.

— Я згодзен,— сказаў Міця.— Ты малайчына. Пайшлі да хлопцаў.

У Лобіка сядзеў Шура. Іван, выслухаўшы Міколу, паставіўся да яго намеру скептычна:

— Што ты будзеш рабіць, як табе расстрэльваць загадаюць? Немцы ж захочуць цябе праверыць. Скажуць: вядзі і страляй.

— Не буду страляць. Няхай лепш забіваюць мяне. Пальну з вінтоўкі ў немца і ў лес. Я ўжо думаў.

— Сям'ю расстраляюць.

— Дык што, на печы сядзець? — збялеўшы з твару, закрычаў Мікола.— Вы ўсе разумныя, пакуль да дзела. Дуляй немцу не сагрозіш. Калі ты такі мудры, то скажы: што рабіць?..

Лобік маўчаў. Маўчаў і Шура.

— У нас група, арганізацыя,— сказаў Міця.— Звязаны з партызанамі. Ён жа не сам ідзе — пасылаем.

Хлопцы згадзіліся. Тое, што наважыў Мікола, давала магчымасць глядзець у заўтрашні дзень з надзеяй.

— Дык я пайду,— голас у Міколы задрыжаў.— Вы, хлопцы, не забудзьце пра тое, што сказалі.

Міця адчуў удзячнасць да рашучага, грубаватага Міколы. Яны ўсе бралі на сябе вялікую адказнасць. Яны звязаны з Анкудовічам, з Ключнікам, з Сяргеевай сястрой, але цяпер трэба рашаць самім.

— Я праваду цябе,— сказаў Міця.— Пайшлі.

Ва ўсіх іх за цяжкія гэтыя два дні нават не ўзнікла думка, што Сяргей, якога ў нямецкім засценку, безумоўна, катуюць, каго-небудзь выдасць.

## 3

З таго дня, як Мікола Цябут стаў насіць на рукаве свайго паліто павязку паліцэйскага, а на плячо ўскінуў вінтоўку, яго асобай шмат хто зацікавіўся. Хлопцы, што вучыліся ў старэйшых класах і памяталі Міколу па школе, глядзелі на яго з пагардай, дарослыя тыя, што ведалі бацьку (бацька Міколаў у арміі),— здзіўлена. І толькі дзяўчаты, асабліва тыя, што ходзяць да Веры, сустракалі Міколу з хітрымі агеньчыкамі ў вачах.

Аднойчы, вясновым надвячоркам, Міця зайшоў да Веры — кнігу прынёс.

— Можа, пасядзім у садзе? — нясмела прапанавала Вера.

Сярод яблынь, якія ўсе ў цвеце,— дашчаны столік. Прыселі. Вера, засмучаная, маўчыць.

— Міця,— нарэшце прамовіла яна.— Я ж з вамі вучылася. Чаму вы ад мяне тоіцеся?

— Як тоімся?

— Бачыш, і ты такі самы. Пра цябе я лепей думала. Нібы я не савецкая.

— Не трэба так гаварыць.

— Міколу вы ў паліцыю паслалі?

Міця адчуваў, як чырванее твар, шыя.

— Маўчыш, сорамна. Я даўно без цябе ведала...

— Я пайду, Вера.— Міця падняўся.— Ты можаш думаць, што хочаш.

— Міця! — падхапіўшыся, спалохана ўсклікнула Вера.— Вар'ят ты, ці што? Я пажартавала...

Ён сеў, села і яна. Адно на аднаго не глядзелі, хавалі позіркі. І ад таго, што абое спалохаліся думкі, што вось гэтак, варожа, не па-людску разыдуцца, ад таго, што Вера ўслых прызнала сваю неправату, між імі ўстанавілася маўклівая згода. Вера загаварыла першая:

— Няхай будзе, як ты хочаш. Але сваім жыццём я магу рызыкаваць, праўда? Дык слухай. У мяне ёсць вінтоўка. Тут, на двары. Яна трэба табе? Калі трэба, бяры...

Яму стала сорамна. Што ў іх, шасцярых, ёсць? Адзін урэзак. Можна, вядома, лічыць і вінтоўку, якую выдалі Міколе ў паліцыі. Сяргей — у турме. Аўсянік, да якога Мікола заходзіць у камеру, пра зброю нават слухаць не хоча.

— Дзе ты ўзяла?

— У паліцая ўкрала яшчэ восенню. Паставілі аднаго на пастой. Ён вінтоўку пакінуў, а сам выйшаў. Я схавала яе на агародзе. Шыбку выняла, каб можна было падумаць, што нехта праз акно выцягнуў.

— І гэты паліцай змаўчаў?

— Заявіў. Немцы прыходзілі з вобыскам.

Вера рызыкавала яшчэ тады, калі ён наогул не ведаў, што рабіць. Ці адважыўся б тады на такі крок ён сам? Дык ці мае права на гэтую вінтоўку, здабытую дзяўчынай?

— Ты не крыўдуй, Міця. Я вас проста хачу папярэдзіць. Думаеш, другія нічога не бачаць? Разумеюць ці здагадваюцца. Вам не трэба хадзіць разам. Самі сябе напаказ выстаўляеце...

Міця ўсміхнуўся. Яна лічыць іх немаведама якімі героямі. А што асаблівага яны зрабілі? Рызыкаваць-то, можа, і рызыкавалі. Кожная драбніца каштуе рызыкі.

Ён успомніў, як тыдзень назад ледзь не папаўся з урэзкам, які нёс ад Міколы. Дзеля гэтага ў майскі вечар прыйшлося апрануць паддзёўку. Сустрэчныя паглядалі здзіўлена. Мабыць, лічылі яго хворым. Да чыгункі правёў Мікола. Па палатне Міця пайшоў адзін. Урэзак нёс пад крысом. Нечым яго выгляд здаўся падазроным салдату, што прахаджваўся перад блокпастом. Той назіркам, назіркам за Міцем. Мікола гэта ўбачыў, не раздумваючы, пабег. Перагнаў немца, пайшоў поплеч з Міцем. Убачыўшы паліцая, немец супакоіўся, адстаў...

Урэзак заржавелы, з загнутымі жалезнымі краямі на ствале. Нехта нявопытны, надрэзаўшы ствол, пераламаў яго, як палку.

Некалькі дзён, седзячы ў хляве, на вышках, Міця прыводзіў урэзак да ладу: спілаваў напільнікам загнутыя краі, сашкроб іржу, змазаў затвор і ствол.

— Вазьму вінтоўку,— сказаў Міця.

Перад Верай таіцца не варта. Яна такая ж, як і яны, шасцёра. Можа, лепшая нават. Але ўсё адно Міця не можа ёй расказаць аб тым, што яны робяць і што задумалі. Тое, што ён ведае, належала не толькі яму.

Хлопцы, дачуўшыся пра вінтоўку, узрадаваліся. Яны не адчувалі ніякіх дакораў сумлення.

— Малайчына Вера! — паціраючы рукі, усклікнуў Мікола.— Пойдзем забяром.

На наступны вечар у Верыным садзе гулкімі хвалямі пераліваўся рогат. Шура Гарнак расказваў вясёлыя гісторыі, Лобік падкалваў Шуру, а Мікола рагатаў за дваіх. Калі зашарэў змрок, Мікола выйшаў з двара з вінтоўкай на плячы. Вінтоўка акуратная, дагледжаная, з чатырма патронамі ў магазіне і адным — у канале ствала. І ніхто з тых, каму пра гэта не трэба ведаць, не заўважыў, што зайшоў Мікола да Веры з пустымі рукамі, а выйшаў з вінтоўкай. Добра мець свайго паліцая!..

За вінтоўкай — аманал. Яны ўтрох — Міця, Лобік, Мікола — нацягалі некалькі пудоў. Насілі карзінамі, удзень. Некалі гэты аманал належаў знішчальнаму батальёну. Паліцыя

захапіла аманал. Да чаго легкадумны народ паліцаі! Ці трэба лепшае вытлумачэнне таму, што тады восенню паверылі — партызаны болей не ўваскрэснуць. Іначай чаму так нядбайна паставіліся да захавання аманалу? Ляжаў сярод рознага друзу ў паліцэйскім хляве — два вялікія папяровыя мяшкі — і ніхто ім не цікавіўся. Мікола прыцемкам вывалак мяшкі ў двор, перакінуў за паркан. За парканам — яма. Адтуль бралі і насілі.

## 4

22 чэрвеня — гадавіна вайны. У гэты дзень па чыгунцы прайшоў першы нямецкі цягнік. Яго Міця ўбачыў апаўдні. Для адводу вачэй яшчэ з раніцы пайшоў з касой у кусты, але не косіць, а пілуе рашпілем надвае зенітны снарад. У кустах — тайнік. Тут урэзак і вінтоўка, частка аманалу. Зачуўшы гул на чыгунцы, выйшаў на гала. Цягнік пробны — з кароткай трубой паравоз, чатыры вагоны. Рухаецца павольна, нібы абмацвае перад сабой рэйкі. Вагоны, паравоз аздоблены зеленню, тармазы, дзверы густа абляпіла салдатня.

Міця, убачыўшы цягнік, адчуў, як заныла ў грудзях.

Вечарам — збор у Лобіка. Няма Сяргея і Вілюгі. Сяргей з таго дня, як выпусцілі з турмы, здружыўся з Юрыем Басняком, лейтэнантам з Адэсы. Ходзіць да яго на кватэру ледзь не штодня. Вілюга таксама з ім.

— Міна трэба,— гаворыць Шура Гарнак.

Ён працуе ўжо на чыгунцы матарыстам. Хутка яшчэ хто-небудзь туды паступіць. Ключнік некалькі разоў быў — загадаў.

Міну зрабіць не цяжка, аманалу колькі хочаш. Але як яе ўзарваць? Лобік строіць планы, Шура іх тут жа адхіляе. Але ўсё-такі залатая ў Івана галава. Выказвае думку, якая, нарэшце, падабаецца ўсім.

— Хімічны ўзрывальнік,— гаворыць ён.— Самая простая рэакцыя — кроплю сернай кіслаты на сумесь берталетавай солі з цукрам. Дэтанацыі хопіць.

— Добра,— пярэчыць Шура.— Але як міну ўзарваць?

— Проста. Пакладзі пад стык аманал, у шчыліну сумесі, бутэлечку з кіслатой на стык. Яе ж колам раструшчыць.

Хлопцы весялеюць — Лобік геніяльны!

— Праз тыдзень каб была міна,— як бы загадвае Мікола.

У Міці таксама ідэя. Сёння распілаваў зенітны снарад, напакаваны доўгімі парахавінамі. Адну падпаліў. Гарэла, як звычайны грабянец. Ясна — нанізаўшы на нітку парахавіны, можна зрабіць шнур, падпаліць і за той час, пакуль будзе гарэць, паспець адбегчыся ад міны. Але зноў жа, як зрабіць узрывальнік? Можа, прыстасаваць звычайны капсуль, як-небудзь выбіўшы яго з патрона? Але ці дасць ён патрэбную дэтанацыю?

Міцеву ідэю ўхваляюць таксама, хоць адразу відаць, што такім спосабам цягнік не ўзарвеш. Можна мост ці што-небудзь нерухомае.

— Трэба праверыць,— кідае Мікола.

Заходзяць Сяргей з Вілюгам.

— Рукі ўгору! — камандуе Сяргей і, выхапіўшы з кішэні новенькі наган, цэліцца ў акно.

Хлопцы слупянеюць. Пра такую зброю, якая ў руках у Сяргея, і марыць не прыходзілася.

— Дай паглядзець,— загарэўся Шура.— Цяжкі, халера. Самаўзвод. Сем патронаў.

Наган пераходзіць з рук у рукі. Высыпаўшы патроны з барабана на стол, хлопцы цэляцца ў бутэлькі, гладышкі, якія стаяць на незавешанай паліцы. Шчоўкаюць курком. Наган дзейнічае бездакорна.

— Дай мне сёння на вечар,— просіць Шура.— Хочацца пахадзіць з наганам. Я табе заўтра аддам.

— Бяры.

— А дзе ты ўзяў? Можа, закапаную зброю?..

— Няма ніякай зброі. Абрыдла швэндацца на торфазавод. Усё вакол таго месца перакапалі.

— Аўсянік сволач,— падхапіўся Вілюга.— Марочыць галаву.

— Ён, мабыць, нічога не ведае,— гаворыць Мікола.— Я чатыры разы ў камеру заходзіў.

— Можа, думае, што цябе падсылаюць.

— Чорт яго ведае. Але ж сала ўзяў.

— Дык хто даў наган? — насядаюць на Сяргея.

Сяргей хмуры. Цяпер ён найчасцей хмуры. У турме білі, здзекаваліся, выпусцілі з выпадку дня нараджэння Гітлера. Але гэта толькі прыклёп, заступіўся за Сяргея бургамістр Крамер. Бацька некалькі разоў хадзіў да яго, прасіў. З Крамерам добра знаёмы.

Выпусцілі, але паабяцалі, што за малейшы праступак, які здасца немцам падазроным, Сяргея схопяць. Сяргея, безумоўна, запішуць у Германію, можа, нават ужо запісалі. Набор — хутка. Выйсце адно — уцячы ў лес. Сястра, якая ў Гарбылях, мабыць, пайшла ўжо. Але як пакінуць бацьку, маці, сястру і малодшага брата? Астануцца заложнікамі. Немцы не будуць ламаць галаву, куды ён сышоў. Тут і Крамер не паможа. У навакольных лясах няма атрадаў, куды прымаюць з сем’ямі.

— Анкудовіч наган прыслаў,— гаворыць Сяргей.— Праз Ключніка. Ключнік цяпер не хутка прыйдзе. Яны дзейнічалі групамі, а цяпер зноў аб’ядналіся ў атрад. У Дамачове — свая чыгунка.

— Што перадаваў Анкудовіч?

— Дзейнічаць.

— А што, калі і табе паступіць на чыгунку? Можа, не возьмуць адтуль?

— Не пайду я да іх кланяцца.

Душна ў Лобікавай хаце. Выйшлі на двор, прыляглі на мураве. На балоце кігікаюць кнігаўкі. Пачынае цямнець — сонца вялізным чырвоным шарам скацілася за лес.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### 1

Эшалоны ідуць і ідуць. Міця сядзіць на дрывотні, асцярожна цюкае малатком па галоўцы патрона — кабываліўся капсуль. Захоплены сваім заняткам, не заўважыў, як падышоў ззаду бацька.

— Ты што робіш?

— Нічога. Муштук.

— Глядзі, каб ад такога муштука губы не папухлі. Курэц.

— А што — буду курыць...

— Можа, у мяне спытаеш?

Міця адчувае, што схлусіў няўдала, але адступаць позна. Пачынае браць злосць на бацьку, ад якога ні ў чым не схаваешся.

— Чаго вы за мной віжуеце? — крычыць Міця.— Кроку не ступіш!

— Дык ты яшчэ крычыш? — Бацька, сціснуўшы кулакі, ушчыльную падступіў да сына.— Не муштукі табе ў галаве! Можа, зноў леташніх цацак прынёс?.. Сям'ю загубіць хочаш?.. Знайду, галаву адкручу. Думаеш, што разумнейшы за бацьку, а я цябе навылёт бачу.

На ганку маці з дакорам глядзіць на Міцю. Пятрусь і сёстры спалохана ціснуцца ля дзвярэй.

— Нічога я не прынёс,— пакрыўджана гаворыць Міця.— Шукайце, калі не верыце.

Ён хлусіць свядома. Іначай нельга. Бацька не хоча яго разумець і ніколі не зразумее. Міця шпурнуў патрон, падаўся ў будку. Услед за ім — бацька.

— Праз такіх, як ты, народ пакутуе. Не чапай ліха, і яно цябе не зачэпіць. Але вам жа не сядзіцца, свярбіць. Калі фронту не ўтрымалі, то гэтым не паможаш, што тут стрэліш у немца. Ты яго аднаго, а ён тваіх дзесяць. У яго ж зброя, улада.

— А мала немцы здзекуюцца з людзей? — крычыць Міця.— Мала схапілі, расстралялі?

— Дык ты што — укажаш ім? Яны ж твайго спросу не пыталіся, калі пачыналі вайну. Іх сіла — іх і права. Беражонага і Бог беражэ. Будзеш сядзець ціха, дык, можа, і міне бяда.

— Дык я ж сяджу ціха,— ужо спакойна гаворыць Міця.— Што я такое раблю?

Новая калатнеча пачалася вечарам. Маці не паверыла Міцю, бо ведала болей, чым бацька. Даўно заўважыла: сын часта наведваецца ў хлеў. Цяпер, пачуўшы пра патроны, пайшла ў хлеў сама, кошкалася цэлую гадзіну і, нарэшце, прыбегла ў хату з пабялелым тварам.

— Сцяпан,— зашаптала, каб не чулі меншыя дзеці.— Там гэтыя... Бомбы... Божа мой, Божа... Ён такі скруціць сабе галаву...

Бацька выскачыў з будкі, матлянуўся ў хлеў і, аберуч несучы загорнутыя ў анучку Міцевы гранаты, кінуў іх у студню. Міця стаяў ля акна з пабялелым тварам. Трэба было ў тайнік занесці. Прапалі гранаты.

— На гэты раз дарую,— спакойна прамовіў бацька, вярнуўшыся ў будку.— Але калі яшчэ што прыкмечу — па падлозе будзеш поўзаць. Зразумеў? І каб гэтых тваіх вісусаў нагі не было тут. Прыйдуць — выганю...

Маці плакала. Шкадавала Міцю і болей нічога не хацела ведаць.

Бацька зноў абходчык. Яму выдалі звязку ключоў, новых і не падобных на ранейшыя. Гайкі на рэйках цяпер другія, большыя, дый рэйкі мацуюцца да шпал не кастылямі, а шурупамі. Знешне ўсё асталося такім, як было: абход, абавязкі, служба — тыя самыя. Платы немцы не прыбавілі: дваццаць марак, дакляраваных на месяц, нібыта азначаюць дзвесце даваенных рублёў. За іх на станцыі, у хітраватых немцаў-забеспячэнцаў, якія сёе-тое прадаюць з-пад крыса, можна купіць дзве цаглінкі цвёрдага салёнага хлеба, а калі ў адкрытую, ва ўсіх на вачах, то — нікеліраваную запальнічку і пачак цыгарэт. Паёк бацьку далі — трыста грамаў хлеба на дзень, кіло солі на месяц. Служыць бацька не хацеў, але хата не скончана.

Эшалоны ідуць. У паспешлівасці, з якой нясуцца цягнікі на ўсход, ёсць штосьці няўпэўненае,— здаецца, яны ляцяць у прорву. Салдаты, якія едуць у вагонах, не іграюць на губных гармоніках, не галёкаюць, як летась. Твары іх абыякавыя.

Назаўтра ціха прайшоў санітарны поезд. На зялёных вагонах чырвоныя крыжы. Вокны завешаны фіранкамі, але тое, што хацеў, Міця ўбачыў. Мільганула перабінтаваная, з рудымі падцёкамі на марлі, галава, жоўты, васковы твар, рука, што звесілася з верхняй полкі.

Маці стаіць ля калодзежа, глядзіць на цягнік з-пад далоні.

— Не радуйся,— гаворыць да Міці.— Ва ўсіх ёсць кроў, і ўсім баліць. Грэх з такога выскаляцца. У тых параненых маткі, дзеці...

— Хто іх прасіў сюды?

Вечарам высушаным на Лобікавай печы аманалам напакавалі калашыну старых штаноў. Гэта міна. Няма берталетавай солі, каб зрабіць узрывальнік.

## II

Чорны шнурок на нямецкай карце, павешанай на сцяне клуба, трыма стрэлкамі-джаламі, выгнуўся на поўдні. Кнопкі — вастрыё джалаў — прышпілены ля Варонежа, Варашылаўграда, Растова. Немцы наступаюць. Нашы войскі пакінулі Севастопаль.

Адышоўшыся ад карты, Міця сустрэў Сюзану. Дашчаны тратуар рыпеў пад нагамі, сустрэчныя як бы здзіўлена пазіралі на іх — на яго, кульгавага, з насупленым тварам, у нехлямяжым пінжачку, залатаным на рукавах, і на Сюзану — прыгожую, у адпрасаванай белай блузцы.

На карту Сюзана наўрад ці глядзела. Яны яшчэ раз прайшлі паўз клуб, але яна нават галавы ў той бок не павярнула.

— Як ты жывеш, Міця? — спытала даверліва, прыязна, як бы імкнучыся развеяць яго хмурую маўклівасць.

— Так сабе.

Яна ішла побач, гаварыла, зазірала яму ў твар, не зважаючы на тое, што ён адмоўчваецца, кульгае, што на ім старая парваная вопратка, якая зусім не пасуе для шпацыру з дзяўчынай. З тратуара звярнулі ў бальнічны завулак — ціхі, зялёны, і Міця адчуў сябе спакайней. У завулку жыве Сюзана, і яе драўляны домік нічым не адрозніваецца ад іншых — гэткіх жа нізкіх, прысадзістых, схаваных пад яблынямі і вішнямі.

Дол у завулку зарос падарожнікам, муравой — тут амаль не ездзяць. Па той бок парканаў густа ўзняўся маліннік, ледзь не перад кожным домікам — лавачка. Прыселі на Сюзанінай.

Завулак жыве вячэрнімі шорахамі і зыкамі. Рыпнулі веснічкі, нехта бразнуў вядром. У малінніку піснула спалоханая птушка: мабыць, пачула, што па паркане, асцярожна перабіраючы лапамі, крадзецца кот.

Узышоў месяц, вісіць над завулкам, льючы святло на дахі хат. Ахутаныя срабрыстым полагам сады, хаты нібы заснулі.

— Не было б вайны, вучыліся б,— ціха прамовіла Сюзана.— Ужо закончылі б дзясяты клас. Ты куды думаў паступаць, Міця?

Тое, што ён сядзіць з Сюзанай, здаецца сном. Ён хацеў бы ні аб чым не думаць, забыцца, лавіць вячэрнія шорахі. Але ў душы варушыцца нешта трывожнае. Ён не ведае яшчэ, якія чары тоіць у сабе месячная ноч. І не ад аднаго яго залежыць — думаць пра вайну ці не думаць.

У дворыку насупраць нехта грукнуў, зачыняючы аканіцы, у канцы завулка замерлі чыесьці крокі. Нечакана для самога сябе Міця прыхінуўся да Сюзаны. Зніклі ўсе іншыя жаданні, апрача аднаго — вось гэтак сядзець з дзяўчынай, адчуваць дотык яе пляча, яе дыханне. І адразу знікла вайна, немцы, Вера, якая аддала яму вінтоўку, хлопцы, што, сабраўшыся ў Лобіка, мабыць, гавораць пра міну. Ёсць адна толькі Сюзана. Яна запоўніла сабой увесь свет. Яна побач з ім. Ён яе любіць.

Плыве месячная ноч, над лавачкай нізка навісла вішнёвая галіна, аблітыя срэбрам, стаяць сады. З неба глядзяць на зямлю тысячы зорак. Завулак тоне ў змроку — ад ценяў, якія падаюць ад садоў і парканаў — і толькі вузкая светлая сцежка пралягла пасярэдзіне. Міця адчувае на сабе магутную ўладу гэтай невыказна чароўнай ночы, якая схавала ад позірку ўсё дробязнае, нікчэмнае, аставіўшы адну прыгажосць. Драўляныя пахілыя домікі здаюцца незнаёмымі, аблітыя месячным святлом яблыні з рагулямі падпорак пад імі — заморскімі дрэвамі. Ноч прыкрыла сваім крысом усё, што недарабілі людзі, пакінуўшы толькі тое, што ўзвышае душу.

Крокаў за пяцьдзясят ад лавачкі раптам бліснулі агні кішэнных ліхтарыкаў. Міця зразумеў — ідзе нямецкі патруль. У тую ж хвіліну Сюзана схапіла яго за руку і, нячутна рыпнуўшы веснічкамі, пацягнула ў двор. Стаіўшыся пад вішняй, чакалі, пакуль пройдуць вартавыя. Сюзана прытулілася да Міці, паклала на плечы рукі, схаваўшыся за ім. Ён адчуваў дотык яе грудзей, перарывістае дыханне, удары сэрца. Усімі сваімі неўсвядомленымі рухамі Сюзана як бы прызнавала за ім права мужчыны, яе абаронцы.

— Прыгніся,— шапнула яна.— А то яшчэ ўбачаць.

Гэтыя даверліва сказаныя словы ўкалолі, лепш бы яна іх не гаварыла.

Вартавыя, слізгануўшы ліхтарыкамі па паркане, прайшлі далей.

— Давай пасядзім на ганку,— сказала Сюзана.— У двары немцы не ўбачаць. Абрыдзела гэтая вайна.

Навакольныя прадметы набывалі ранейшыя, знаёмыя абрысы. Міця ўжо добра бачыць, што сядзіць на ганку, у вузенькім дворыку, абгароджаным нізкім штакетнікам, на які ўзняслі націну гарбузы; на двары розныя рэчы хатняга ўжытку — вядро, тапчанчык, вынесены з хаты, стары фікус у гаршку, пастаўлены дажываць веку пад плот. Насупраць Сюзанінага двара, праз дарогу, гэткая ж прысадзістая драўляная хаціна са шчыльна прычыненымі аканіцамі.

У палове ночы ў небе пачулася ледзь улоўнае гудзенне самалёта. Ляціць над лесам, і гул матораў роўны, меладычны. Міця ўстрапянуўся: нямецкія самалёты гудуць інакш — перарывіста, натужна.

— Мабыць, наш самалёт,— гаворыць ён радасна.

Сюзана побач — дыхае, шэпча, і чары ночы паступова вяртаюцца. Ноч усё-такі незвычайная. Яна належыць толькі ім дваім.

Сюзана сядзіць, прытуліўшыся да яго. Яна здаецца безабароннай.

Міця адчувае сябе мацнейшым, дужэйшым, ён нібы адказвае і за Сюзану. Ён абняў яе, прыхінуў да сябе. Няўмела паспрабавала прыгладзіць яго валасы, дакранулася рукой да шыі. Не памятаючы сябе, ён прынік да яе вуснаў. Болей слоў не было, да самага світання былі абдымкі, пацалункі.

* * *

Калі пачало світаць, ён убачыў Сюзанін твар: ад яго пацалункаў у яе прыпухлі губы, яна глядзела сарамліва, у зямлю, але твар свяціўся стоенай радасцю.

— Прыйдзі заўтра ў клуб,— сказала на развітанне.— Артысты прыязджаюць.

У Міціным жыцці яшчэ ніколі не было такога харошага, радаснага, як у гэтую ноч. Міця адчуваў гэта, калі крочыў

роснай сцежкай праз поплаў да будкі, калі засынаў, ледзь прыткнуўшыся ў хляве, на сене, да скручанай, пакладзенай у галовы ватовай фуфайкі, якая ўся прапахла мазутам. Маці будзіла снедаць — ён не ўстаў. Сонны, раз-пораз расплюшчваючы вочы, бачыў, як праз шчыліну ў сцяне цэдзяцца ў паўзмрок хлява сонечныя праменні, вострыя, як пражэктары ў іх святле плаваюць маленькія парушынкі, драбнюткія крупінкі пылу. У хляве пахне прэлым сенам, сухімі зёлкамі, ён чуе ўсе гэтыя пахі, зыкі дня, што даносяцца сюды знадворку — скрып вората над калодзежам, звон поўнага вядра, якое, гойдаючыся на вяроўцы, стукаецца аб сценкі цэментнай прорвы, грук калёс праз пераезд. Над усім гэтым звініць штосьці няўлоўна-радаснае, афармляючы гукі і шорахі дня ў цудоўную сімфонію.

Прыйшоў Іван Лобік, ірвануў дзверы хлява і борзда ўскарабкаўся да Міці на сенавал. Іван хмуры, усхваляваны, гэта Міця хутчэй адчуў, чым убачыў у паўзмроку.

— Дэсантнікаў злавілі,— сказаў Іван.— Траіх. Іх з нашага самалёта скінулі.

Міця імгненна ўсхапіўся:

— Я чуў, як ляцеў самалёт. Якраз апоўначы.

Іван, заняты сваімі думкамі, не спытаў, чаму Міця не спаў. Грыз сцяблінку, пазіраючы ў кут і як бы намагаючыся разгледзець там штосьці цікавае. Прагрымеў паравоз — адзін, без вагонаў. Ад жалезнага ляскату колаў дробна задрыжала ўваткнутая ў сцяну каса. Перад станцыяй цягнік зароў, і водгулле гудка разнеслася далёка па ваколіцы.

— Іх у Грамах узялі,— думаючы сваё, працягваў Іван.— Кажуць, маладыя. Два хлопцы і дзяўчына.

— Дык у іх жа зброя была. Як яны?

— Чорт яго ведае. Можа, заснулі. Слухай, берталетава соль павінна быць і ў Лобачавай школе. Там жа быў хімічны кабінет. Што, калі папрасіць у Лобача? Ён жа жыве там. Папрасіць проста так, нічога не гаворачы.

— Я ўзрывальнік зрабіў,— сказаў Міця.— Кулю з патрона выняў, у порах кінуў яшчэ тры патронныя капсулі... Павінна быць дэтанацыя.

— Шнур з тых парахавін?

— На нітку іх нанізаў. Пакуль згараць, можна адбегчыся.

— Цягнік так не скінеш. Трэба берталетава соль.

Іван пайшоў. Міця, правёўшы яго да станцыі, усю другую палавіну дня блукаў ля жандармерыі — туды павінны былі весці дэсантнікаў.

Ноччу дэсант скінулі ля Грамоў. Адзін сквалыга, які вадзіў каня на начлег, пакваліўся на дабро дэсантнікаў. Зацягнуў у свой двор мяшок з цукрам. Бачыў — гэта пастушок, які на світанні гнаў кароў на пашу, і напаткаўшы людзей, якія збіралі раскіданыя па лесе пакункі, расказаў пра ўкрадзенае. Трое накіраваліся ў вёску і натрапілі на засаду.

Шэпчучыся, местачкоўцы пераказвалі адзін другому, што самалёты скінулі не траіх, а сотню ўзброеных аўтаматамі і кулямётамі парашутыстаў і што яны нібы паспелі пусціць пад адхон цягнік.

Тое, што дэсантнікаў злавілі,— прыгнятае. Пра гэта крыўдна думаць. Але ў самім факце, што над мястэчкам ляцеў савецкі самалёт, скінуў узброеных людзей і нават харчы ім, тоіцца бадзёрае, шматзначнае. Дзе фронт? Пад Варонежам, на Доне, за тысячу кіламетраў ад непрыкметнага мястэчка... І не туды, дзе фронт, дзе баі, паслалі гэтых людзей, якія, здавалася, толькі там і патрэбны, а сюды, у іхнія лясы і балоты.

Ужо надвячоркам парашутыстаў падвялі да школы, дзе жандармерыя і дзе на вокнах класных пакояў навешаны краты. Двух рослых хлопцаў, з якіх адзін трымаў руку на марлевай перавязі, а другі, пахістваючыся, цягнуў нагу, і дзяўчыну суправаджалі пяць немцаў-жандараў у блакітных мундзірах, з вінтоўкамі наперавес. Парашутысты ішлі горда. Хлопцы ў зялёных блузах, у шэрых штанах навыпуск, у чаравіках, дзяўчына — у звычайным шэрым пінжаку, ботах, у сіняй хусцінцы паўзверх светлых валос.

Сотню метраў — ад будынка райвыканкама, дзе размяшчаецца камендатура, да школы Міця прайшоў назіркам, каб убачыць палонных у твар. Але дэсантнікі па баках не глядзелі.

Першы канвойны знік у дзвярах школы, адзін за другім зніклі і тыя, што з'явіліся гэтай ноччу на тутэйшую зямлю. Міця стаяў, глядзеў на школу і нічога, акрамя халоднага безвыходнага суму, не адчуваў.

Ля клуба яго затрымала Сюзана, нешта гаварыла, але ён чуў толькі яе голас, не даходзячы да сэнсу слоў. Гэтак жа механічна, у стане абыякавага ўтрапення зайшоў з Сюзанай у клуб, сеў на лаўку. У клубе гаманілі, шоргалі зэдлікамі. Успыхнула святло, шэрая палатняная заслона дрыжала, нібы пад ветрам. Потым яе паднялі, на сцэне стаяў стол і два крэслы, вакол іх чамусьці расхаджвалі двое пажылых людзей, апранутых у чорныя старамодныя сурдуты. Яны жэстыкулявалі, аб нечым паміж сабой размаўляючы,— пачалася п'еса, але ён не пачуў і не зразумеў ніводнага слова. Не абураўся ні на артыстаў, ні на каго з тых, што сядзелі ў клубе і з увагай слухалі дыялог сумных чорных людзей. Ведаў з афішы — ставілі п'есу Ібсена, гэта быў нарвежскі пісьменнік, з твораў якога ён яшчэ нічога не чытаў, але цяпер усё гэта здавалася непатрэбным. Гэта проста падман, здзек, бо Нарвегія таксама захоплена немцамі, а побач у школе, дзе ён вучыўся, у класе сядзяць параненыя парашутысты.

Яшчэ не скончылася і першая дзея, як Міця крануў Сюзану за руку, даючы знак, што хоча выйсці.

— Куды ты? — спытала яна.

— Пайду. Галава баліць,— шапнуў ён і, прыгнуўшыся, падаўся да выхада.

Як і ўчора, вісеў на небе месяц, ззялі далёкія зоркі. У школе, на другім паверсе, свяціліся толькі два акны: немцы кладуцца спаць рана. Па тратуары, гучна размаўляючы, грукаючы ботамі, прайшлі першыя патрулі.

Думка ўзнікла ўжо на вуліцы... Да хлопцаў ісці было позна. Трэба было нешта рабіць зараз, неадкладна.

Спяшаючыся дамоў, Міця абмінуў сцежку на поплаве і пайшоў аўсамі, мяжой — напрасткі. Завярнуў у кусты — з-пад ног вылецела птушка, гучна залопаўшы крыллем. Ён вобмацкам знайшоў тайнік.

У будку трэба было ўсё ж зайсці — узяць запалкі, паказаць, што рана вярнуўся. У месячным святле цьмяна паблісквають рэйкі. Пасярэдзіне паміж першым местачковым пераездам і будкай гарыць кволы агеньчык, даносіцца адтуль прыглушаная гаворка. З таго дня, як пачалі хадзіць цягнікі, немцы праз старасту прызначаюць на чыгунку вартавых — дзядзькоў з

мястэчка, з блізкіх вёсак. Узброеныя кійкамі, дзядзькі дрэмлюць ноч пры агні, а на світанні разыходзяцца. Небяспекі яны не ўяўляюць. Проста не варта трапляць ім на вочы.

Перад самым пераездам Міця паклаў у траву пакунак з аманалам і зайшоў у двор. Дома спяць. Ціха адчыніў дзверы ў сенечкі, у пярэдні пакой, дастаў з печы гаршчок са шчаўем. Есці не хочацца, але ён прымусіў сябе пасядзець за сталом, пабоўтаць лыжкай. Потым устаў, нячутна падкраўся да пячуркі, і намацаўшы карабок з запалкамі, паклаў у кішэню. Наўмысна, каб нарабіць гуку, на ўвесь апор расчыніў вароты ў хлеў і асцярожна, без шуму прычыніўшы іх, адскочыў.

Далей дзейнічаў дакладна, упэўнена, ведаючы, што ўсё будзе добра, так, як задумана, калі толькі не падвядзе ўзрывальнік. Падняўшы пакунак, прыгнуўшыся пераскочыў пераезд і падаўся ўзбочынай шляху да мястэчка, да моста. Мост драўляны, новы, яго пабудавалі за год ці два да вайны.

Міця залез пад мост — у твар патыхнула вільгаццю, прэллю, ногі вязлі ў гразі,— прыладзіў пад насцілам, на гладкім круглым бервяне аманал, адкаркаваў патрон, расцягнуў ва ўсю метровую даўжыню шнур. Чыркнуў запалкай, падпаліў.

Яму на пачатку здалося, што ўсё дарэмна. Ён прабег ад моста сотню ці болей метраў, а выбуху не было. Ён перастаў яго чакаць, пайшоў крокам, потым у нерашучасці спыніўся: трэба ж было ўзяць назад аманал. У гэтую хвіліну над мостам узняўся вогненны слуп і нібы грымнуў гром.

Міця, што было сілы, пабег. Азірнуўшыся ўжо ля пераезда, убачыў, як гасла святло ў вокнах на другім паверсе школы. У мястэчку — бязладныя, частыя стрэлы. Страляюць, мабыць, напалоханыя патрулі.

Назаўтра ля ўзарванага насцілу мастка на пыльным шляху тоўпіліся паліцаі. Размахвалі рукамі, лаяліся: партызаны не баяцца лезці ў самое мястэчка.

## 3

Міця вярнуўся ад Лобіка вясёлы — настаўнік даў берталетавай солі. Бацька на ганку кляпае касу.

— Чаго гэта шафёр прыходзіў? Гусоўскі. Цябе пытаўся.

Міця міжволі ўздрыгнуў. Якраз сёння думаў пра шафёра.

— Не ведаю.

Пад вечар Іван прыйшоў яшчэ раз. Ён у шэрым паношаным пінжачку, ботах. Загарэлы, спраўны — такі, як і да вайны. Перш-наперш спытаў:

— Бацькі няма?

— Пайшоў на работу.

— Ну то і лепш. Давай пройдземся.

З пераезда, сцежкай, якая ўецца між палавеючага жыта, рушылі ў бок мястэчка.

— Я ў партызанах,— сказаў Іван азірнуўшыся.

— Я так і думаў.

Шафёр акінуў Міцю хуткім позіркам, сарваў жытні колас, мне на далоні. Пранёсся на поўнай хуткасці доўгі састаў, цяжка гружаныя вагоны не ляскочуць на стыках, а глуха грукаюць.

— Як бацька?

— Хоча кідаць службу.

— Я гаварыў сёння з ім. Перабірацца з будкі думаеце?

— Ага.

— Прыёмшчык Крамер бургамістрам. Як ён тут?

— Кажуць, чалавек харошы.

— Усе яны харошыя.

Абменьваючыся кароткімі заўвагамі, дайшлі да апошніх хат местачковай вуліцы, прыселі на кучы бярвенняў. Іванаў твар задуменны.

— Мы ўжо мелі сувязь з партызанамі,— сказаў Міця.— Тут зімой лячыўся адзін.

— Ты не адзін? — спытаў Іван.

— Не адзін.

— А дзе вашы партызаны?

— Дамачоўскі атрад. Дзейнічалі групамі, цяпер аб'ядналіся.

— Малой групай дзейнічаць цяжка,— адразу згадзіўся шафёр.

Іван памаўчаў, як бы штосьці ўспамінаючы, загаварыў, прыцішаючы голас да шэпту:

— Я не да цябе прыходзіў. Тут ёсць адзін чалавек. Наш. Ты, можа, яго і бачыў. Аграном Драгун. Трэба табе з ім пазнаёміцца.

— Навошта?

— Тут такая штука.— Іван дапытліва зірнуў на Міцю.— Нам на чыгунцы трэба людзі. Свае. Скажам, як твой бацька. Але ж з бацькам тваім кашы не зварыш.

— А што рабіць?

— Цяпер — дастаць гаечныя ключы. Як можна хутчэй. Аддаць іх Драгуну. Сувязь праз яго.

— Наш адзін працуе на станцыі. Я скажу.

— Ты гэта кінь,— шафёр спахмурнеў.— Акрамя цябе, нікога не хачу ведаць. І Драгун не захоча. Калі згодзен, паступай на чыгунку сам.

— А як жа хлопцы?

— Якія хлопцы?

— Нашы. Мы міну зрабілі. Мост на шляху ўзарвалі. Хочам яшчэ.

— Дзівак чалавек.— Шафёр устаў.— Дзейнічайце. На гэта дазволу не пытаюць. Дык ты згодзен?

— Згодзен.

— Знойдзеш Драгуна, скажаш: «Я ад Кірылы». Гэта пароль. Ну, бывай.

Іван паціснуў Міцю руку, жытняй сцежкай пайшоў назад. Вечарэла. З пашы, падымаючы шызыя клубы пылу, вяртаўся статак. Каровы беглі — хацелі піць.

## 4

Гаечныя ключы дастаць гэтак жа цяжка, як і зброю. У бацькі два, але ні ўзяць іх, ні ўкрасці Міця не можа. Два разы хадзіў на станцыю, дзе працуе рамонтная брыгада. Са знаёмых рабочых там Хадоська, Кардаш, стрэлачнік Гулік. Астатнія — новыя, ёсць і школьнікі. Паступілі ў брыгаду, каб уратавацца ад Германіі. Прымае на работу майстар, немец, але яго не было.

Учора Міця быў у Драгуна. Прыйшоў і сёння, сядзіць перад домам на лавачцы, чакае. Драгун сказаў, што сёння будуць слухаць радыё.

Хлопцы-падшывальцы гуляюць на вуліцы ў лапту. Галёкаючы, спрачаюцца, каму біць па мячы першаму. Апроч

гульні, для іх нічога не існуе. Непрыкметна для сябе і Міця загледзеўся на гульню. Ён добра бачыў хітрыкі рудога круцяля, які галасней за ўсіх крычаў, абвінавачваючы другіх у парушэнні правіл, а сам парушаў іх на кожным кроку. Хацелася ўмяшацца ў гульню, даць кухталя рудому.

Прайшлі незнаёмыя дзяўчаты. Мінуўшы лавачку, на якой сядзіць Міця, шмыгнулі ў завулак, захіхікалі. Міця ўспомніў Сюзану, не бачыў яе ўжо чатыры дні.

Драгун паявіўся ў веснічках прыцемкам. Міця падышоў.

— Зойдзем у хату,— запрасіў Драгун.

У пярэднім пакоі чыста, утульна. Ля печы гаспадыня, рухавая, маленькая, з вузкім прыгожым тварам. Яна падобна да мужа: тая ж пастава галавы, аднолькавы разрэз вачэй, той жа тонкі прамы нос. Аграному гадоў пад сорак, яе можна было б назваць дзяўчынай, каб не дзве дочкі, якія да вайны хадзілі, мабыць, у школу. Яны ў аднолькавых паркалёвых сукенках, у валасах чырвоныя стужкі. Калі ўвайшоў Міця, схаваліся, засаромеўшыся, за полаг. Перад канцом вячэры ў хату ўскочыў той самы руды круцель, які верхаводзіў на вуліцы гульнёй.

— Вова, вячэраць і спаць! — строга загадаў бацька.

Вова — з насупленым тварам, густа засеяным вяснушкамі, і вогненна-рыжай галавой — нездаволена шмыгнуў носам, падсунуўшы да сябе талерку.

— Мы пайшлі, Клава. Дзверы не зашчапляй.

Ціхі летні вечар. Пахне ліпавым цветам. Шараваты паўзмрок, зорнае неба. Рыпае гармонік, і ў такт яго пералівам глуха пастуквае бубен.

Прыйшлі на вуліцу, якая называецца цяпер Лугавая. На лузе, за агародамі крычыць начная птушка. З балота цягне холадам. Ціха, патаемна шасцяць таполі на ўзбочыне вуліцы. Лавачкі пустыя. Аграном з Міцем звярнулі ў правулак, якім падзяляюцца два суседнія двары, і, прыслухаўшыся, Драгун спрытна пераскочыў цераз паркан. Міця ўслед за ім. На агародзе, у кіяшніку спыніліся. Кіяхі як лес. У іх можа схавацца конь.

— Пасядзі тут,— шапнуў Драгун.— Пайду папярэджу.

Рассоўваючы рукамі кіяшныя сцябліны, Драгун растаў у змроку. Міця астаўся адзін. Асцярожна ступаючы, хтосьці

прайшоў правулкам. У двары, ірвануўшы ланцуг, забрахаў сабака. Ноч поўніцца ледзь чутнымі шорахамі і гукамі. Міцю здаецца, што ў правулку, ля паркана прытаіліся чорныя постаці, гатовыя вось-вось кінуцца на яго. Сэрца б'ецца гулка, часта, ён чуе яго ўдары.

Драгун вырас нібы з-пад зямлі.

— Хадзем. Усё гатова.

Разорай, рассоўваючы навісшае лісце кіяхоў, выйшлі да сцяны, абагнулі яе, потым ціха рыпнулі дзверы, і Міця апынуўся ў лазні. Тут паўзмрок, адзінае акенца завешана дзяружкай, складзенай у дзве столкі. На палку, дзе звычайна парацца, гарыць свечка. Засланяючы яе, над прыёмнікам звесіліся дзве галавы. У скрынцы трашчыць і завывае.

Міця прысеў ля ўвахода, на камені, баючыся паварушыцца. Тыя, што корпаюцца ў прыёмніку, нібы не заўважаюць Міці.

— Пачынаецца, запісвай! — сказаў адзін з іх, і Міця яго пазнаў: гэта той самы Палуян, які зімой, пачуўшы ад Вілюгіна пра радыё, выгнаў яго з хаты. І яшчэ адзін цуд. Да прыёмніка падышла Вера. Ён толькі цяпер убачыў яе: сядзела за печчу, якая займае ледзь не палавіну лазні. Драгуна ў лазні няма — астаўся на дварэ.

Праз шум, трэск, выццё пачуўся знаёмы голас:

— Говорит Москва!..

Вера прымасцілася на ніжняй прыступцы, надзела навушнікі, і яе аловак торапка забегаў па сшытку, пакладзеным на калені. Міця адчуў, што вочы наліліся слязьмі.

Ёсць на свеце вялікі горад Масква. Ніколі не быў там Міця. Тры разы ў Маскву ездзіў бацька: чыгуначнікам давалі бясплатны білет. Разам з бацькам аднойчы паехала маці. Ён тады цэлы тыдзень даіў карову, пёк бліны, варыў малым суп — быў за гаспадара і гаспадыню. Бацькі ездзілі ў Маскву за кортам і паркалём — там лягчэй было дастаць. Прыехаўшы, расказвалі, што Масква вельмі прыгожы горад.

Міця ніколі не думаў: прыгожая яна ці непрыгожая. Гэта не мела значэння. Існуе нешта большае, чым тое, што звычайна называюць гэтымі словамі. Масква — не толькі горад, але гісторыя, будучыня...

Немцы перайшлі Дон, захапілі Растоў. Але хіба можна заваяваць народ, у якога тысячагадовая гісторыя, які пачаў жыць без цароў, без паноў?..

Скончылі перадаваць зводку. Дыктар пачаў расказваць пра баі на Данской зямлі. Зайгралі «Інтэрнацыянал».

Незнаёмы хлопец абгарнуў прыёмнік мяшком, узяўшы пад паху, стаяў у дзвярах.

Увайшоў Драгун.

— Што новага?

— Дрэнна. Нашы здалі Растоў.

З хвіліну маўчалі. Вера трымае сябе, як незнаёмая. Ні разу не паглядзела ў Міцеў бок. Адвярнуўшыся, расшпіліла блузку, схавала за пазуху сшытак. Аднекуль са шчыліны вылез матыль, таропка пятляе над полымем свечкі. За печчу заверашчаў цвыркун — яго зусім не было чуваць, калі гаварыла радыё.

— Я пайду першы,— сказаў Палуян, устаўшы.— Ты, Вера, за мной.

— Дабранач,— крануўшы рукой Міцю за плячо, нарэшце шапнула Вера.

Міця астаўся з Драгуном. Аграном патушыў свечку, сарваў з акна дзяружку. Але ўсё адно ў лазні было цёмна, як у склепе. Сцяна кіяхоў падступае да акна. Вобмацкам выйшлі з лазні, Драгун шуснуў у кіяхі.

На небе зоркі — ясныя, чыстыя. Ціха шасціць кіяшнік. Болей ні гуку, ні зыку. Поўнач.

— Патрулі па гэтай вуліцы ходзяць рэдка,— шапнуў Драгун.— Але ідзі лепш агародамі. Расы няма.

Міця пайшоў. У канцы правулка, прыціснуўшыся да паркана, нехта курыць у кулак. Недзе сцішана перамаўляюцца. Галасы даносяцца з панадворкаў. У правулак скіраваўся сабака, але, зачуўшы чалавека, вільнуў назад.

Ужо ідучы па вуліцы, Міця пачуў за сабой крокі. Прыліп да чужых варот.

— Гэта я, пачакай,— пачуўся голас Драгуна.— Забыў табе сказаць.

Драгун выняў з кішэні, даў яму ў рукі маленькую кніжачку.

— Вазьмі. Дасі сваім. Тут пра вынікі зімовых баёў. Можна ўсім даваць, хто цікавіцца.

Прыблізіўшы твар да Міцевага твару, працягваў:

— Наконт прыёмніка — маўчы. Можаш сказаць, што слухаў. Дзе, з кім — не гавары. Ключы хутчэй даставай.

Міця пайшоў. Пералазіў праз парканы, платы, таптаў націну на чужых градах. У адным двары спужаў курэй — сядзелі на шастку пад паветкай і гэтак закудахталі, што ён кінуўся ніцма на зямлю і праляжаў, не дышучы, хвілін дзесяць. Ужо на поплаве трапіў у зарослую тванню копанку, уваліўся па пояс. Прыйшлося даць круку да другой копанкі, з чыстай вадой, каб абмыцца.

Прабраўшыся ў двор, Міця намацаў на дзвярах хлеўчыка замок. Замкнулі спецыяльна. Прыйшлося ісці ў хату. Дзверы не зашчэплены, і Міця, асцярожна ступаючы, накіраваўся да тапчана, на якім спяць браты. Хацеў распранацца, але, убачыўшы ля печы белую постаць, скалануўся. Бацька стаяў у споднім адзенні, курыў.

— Дзе ты ноч у ноч валочышся? Гэтак пра сям’ю думаеш? Зарубі на носе — не пагляджу, што вырас. Яшчэ паходзіць па табе папруга. Ясі бацькаў хлеб, то слухайся...

— Я паступаю на работу,— Міця стараецца гаварыць спакойна.— Хопіць папракаць мяне хлебам.

Такога адказу бацька не чакаў, збянтэжаны змоўк. Міця распрануўся, лёг побач з братамі.

— Павячэрай,— адзываецца маці.— На стале кубак малака, бульба ў печы.

— Не хачу вашага есці.

Зноў у хаце пануе цішыня. На сцяне мерна цікаюць ходзікі. На зялёным цыферблаце намалёван трактар. Бацька набыў гадзіннік даўно, калі Міцю не было і васьмі гадоў, а ў мястэчку ніхто не бачыў сапраўднага трактара. Пасапваюць насамі Адам і Пятрусь. Востра пахне палыном: яго раскідваюць па падлозе наўмысна, каб не вяліся блохі. Бацька загаварыў з недаверам у голасе:

— На якую работу ты пойдзеш? Мне, можа, можна сказаць?

— На чыгунку, у брыгаду.

— А хто цябе гоніць? Еш бульбу і не рыпайся. Я вылузацца хачу, а ён сам лезе ў ярмо. Што ты, хлеба там заробіш? Дый хіба я з-за хлеба крычу?

— Запісваюць у Германію,— стараючыся надаць голасу шчырасць, адказвае Міця.— Маладых усіх запісваюць. Мяне, можа, не возьмуць, дык тут куды-небудзь запруць. Лепш ужо на чыгунку...

Бацька маўчыць, маці ўздыхае.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### 1

Сонца на бясхмарным небе такое вялікае, яркае, расплаўленае, што яго не відаць. Морам святла заліта ўсё навокал. Не варухне абвялым лістом клён на ўзбочыне дарогі, не адзавецца птушка. Усё жывое разамлела, замерла, стаілася. Хоць бы подых ветру скалыхнуў засмяглую гарачыню...

Лес здалёк здаецца сінім. Па-над лугам з рэдкімі стажкамі сена, над жытнім полем, якое пачынае ўжо жаўцець, пераліваецца, трымціць смуга. Пераджніўная пара. Калі жытні колас не наліўся, болей не нальецца. Зямля, як прысак.

Перасохла рэчачка паміж мястэчкам і вёскай Кавенькі. Толькі сям-там віднеюцца срабрыстыя лужынкі вады. Калі б у рэчцы вялася рыба, то цяпер яе можна было б лавіць без баўтушы, рукамі.

У такую спякоту найчасцей здараюцца лясныя пажары. На доле ў сасонніку ўсё — ігліца, шышкі, вецце — сухое, як порах. Пакінь незатушаны вугольчык, не затапчы недакурак — і пойдзе шугаць іскрыста-белае полымя ад дрэва да дрэва, а выносістыя сосны імгненна будуць успыхваць, як свечкі.

Спякотным полуднем па прасёлкавай дарозе да Кавенек пралескатаў коламі лёгкі вазок, запрэжаны шустрым мышастым жарабком. У гэтым вазку звычайна ездзіць аграном Драгун, але цяпер у ім малазнаёмы ў Кавеньках чалавек — высокі, худы.

Перад хатай старасты чалавек спыняе ўзмыленага, усяго ў мокрых пісягах жарэбчыка, адчыняе вароты, заязджае ў двор. Двор зарос травой, паркан пастаўлен на жывую нітку, на хляве — прагніўшая страха. Аднекуль з-пад павеці выходзіць староста Іван Буян, разамлелы, валасаты, у адной споднай сарочцы.

Буян распрагае каня, вядзе пад паветку.

— Можа, кваску, Іван Пракопавіч?

— Вынесі.

Шэлег прагна прынікае да вялікай меднай конаўкі, зробленай са снарада.

— Дык глядзі каня. Я пайшоў. Можа, начаваць прыйду.

— Не турбуйся, Іван Пракопавіч. Усё будзе як трэба.

Шэлег, не спяшаючыся, крочыць шырокай, як майдан, вуліцай у другі канец вёскі, пад самыя сасновыя пасадкі. Сасоннік рэдзенькі, малады, праз яго вузкую паласу праглядвае паляна, а потым зноў лес. На вуліцы — ні душы. Перад апошняй хатай на момант спыняецца, азіраецца па баках і, адчыніўшы веснічкі, ідзе ў двор. Гаспадар на ганку точыць бруском сякеру.

— Дабрыдзень, Пятро. Прыйшоў?

— Прыйшоў. Чакае з ночы. Ідзіце ў хату.

У хаце паўзмрок, прахалода, праз прычыненыя аканіцы цэдзіцца скупое святло. На ложку, упоперак, напаўляжыць чалавек, звесіўшы на падлогу ногі. Зачуўшы рып дзвярэй, ён падхопліваецца.

— Ты, Іван Пракопавіч?

— Я. Здароў, Якубоўскі.

Прысаджваюцца да стала, засланага белым абрусам. Якубоўскі — досыць малады, чарнявы, шырокія плечы шчыльна аблягае новае камандзірскае абмундзіраванне, нават з партупеяй.

— Выліты камандзір,— заўважае Шэлег.

— У сасонніку трое маіх. І трое перад вёскай, у жыце.

— Баішся, што прывяду,— як бы нездаволена гаворыць Шэлег.— Не бойся, стары воўк сляды блытае. Я не з мястэчка прыехаў. Дый, здаецца, па пятах не ходзяць. Хоць усё можа быць.

— Ды кінь ты, Іван Пракопавіч. Дзеля тваёй жа бяспекі. Маё дзела простае — скочыў у лес і канец. Усё маё нашу з сабой, як сказаў адзін філосаф.

У хаце ціха, чуваць, як дзынкае аб шыбіну муха. Адчуванне такое, што на дварэ толькі світае. Пахне палыном, мятай.

— Цяпер слухай,— нахіліўшыся да твару Якубоўскага, пачынае Шэлег.— Пра гэта можаш сказаць аднаму Валюжычу. Болей нікому. Траіх парашутыстаў злавілі. Ты ведаеш. Але іх цэлая група. Нібыта з радыёстанцыяй. Мабыць, разведчыкі. Трымае з імі сувязь Міцуля Сямён, ляснік з Грамоў. Міцуля наш, але ўсё адно падысці трэба тонка. Можа патаіцца. Ты разумееш, што было б, каб удалося залучыць у атрад дэсантнікаў! У іх радыёстанцыя, з Масквой можна звязацца.

— Зваблівa. Каб толькі ўдалося.

— Удасца. Міцулю намацаў Драгун. Парашутысты быццам хочуць далучыцца да партызан. Так што дзейнічай.

— Калі цябе чакаць? — пытае Якубоўскі.

— Роўна праз тыдзень. Тыдзень, можа, пратрымаюся. Сачыць пачалі — факт. Трое паліцаяў запальнічкі заказалі. Як згаварыліся. Так што наведваюцца ледзь не кожны дзень. Сям'ю Буян перавязе ў пятніцу. Пакуль што ў Азяркі.

Асцярожны стук, заходзіць Драгун — у расхлістанай шэрай сарочцы, без шапкі, але з партфелем. У вазку ехалі разам з Шэлегам, але Драгун заскочыў да сувязнога ў суседнюю вёску.

— Сляды прывялі ў гэты двор,— зычна пачынае ён.— Самаўпраўная парубка. Гаспадар гэтага дома зваліў дзве сасны. З уладанняў, якія належаць Вялікай Германіі. Немцы за гэта не хваляць.

— Не дуры, Васіль,— перарывае Шэлег.— Што сказаў Адась?

Драгун адразу робіцца сур'ёзным.

— Адась быў у Буйках. Мукі на млыне дзве тоны. Млынар — сволач. Адчувае сябе, як у Бога за пазухай.

— Колькі паліцаяў?

— Чатырнаццаць. Мясцовых трое.

— З Буйкоў трэба пачынаць.— Шэлег барабаніць пальцамі па стале.— Вёска наша. Калі знішчым гарнізон, будзе база.

З сем'ямі ў атрад пойдуць. Важна, каб ні адна сволач жывой не выйшла. Наўрад ці адновяць тады немцы гарнізон. Ахоўваць Буйкі лёгка — адна лясная дарога. Калі што — у лес.— На хвіліну ўсталёўваецца цішыня.

— Валюжыч лазіць ля чыгункі,— паведамляе Якубоўскі.— Разбіліся на дзве групы. Інструменты дастаюць. На днях штонебудзь будзе.

— Камсамольцы таксама варушацца,— дадае Драгун.— Іх яшчэ зімой Анкудовіч арганізаваў. Шэсць чалавек. Аднаго свайго ў паліцыю паслалі. У час арыштаў. Аўсяніка наконт зброі гэта яны церабілі. Аманал выкралі ў паліцыі.

— Аманал трэба забраць у атрад,— патрабуе Якубоўскі.

— Частку можна аддаць. Інструмент для цябе таксама яны дастаюць.

Ужо хутка два месяцы — з таго дня, як немцы пачалі хапаць прымакоў і былых актывістаў,— у мястэчку Шэлег не сустракаецца з Драгуном. Яшчэ па вясне рашылі — астаецца Драгун, Шэлег з сям'ёй ідзе ў атрад. Шукалі месца для сям'і.

## 2

Міны падкласці не паспелі, а цяпер чыгунку ахоўваюць немцы. Паблізу Гарбылёў партызаны пусцілі пад адхон цягнік.

Міця пайшоў наймацца ў рамонтную брыгаду. Яна перашывае тупіковую каляю.

— Нікс работа,— катэгарычна заявіў тоўсценькі, дабрадушны з выгляду майстар-немец, акінуўшы хуткім позіркам шчуплую Міцеву постаць.

За Міцю заступіліся рабочыя:

— Пан, ён арбайтэн чыгунка да вайны. Спецыяліст. Гут арбайтэн.

Майстар з недаверам яшчэ раз зірнуў на Міцю, гэтак жа хутка, як і прыняў, адмяніў ранейшае рашэнне.

— Карашо. Я пісаць твой фамілій. Толькі гельд маеш палучаць з наступны тыдзень. Будзе праверка работа,— задаволены сваёй праніклівасцю, майстар зарагатаў.

Спрыту ў рабоце рамонтнікі не выяўляюць. Раз-пораз наладжваюць перакур, падоўгу адпачываюць, і такое ўражанне,

што пуцейцы сабраліся выпадкова і хутка разыдуцца кожны па сваім. Немец-майстар, здаецца, не звяртае ўвагі на яўны гэты сабатаж. Часта некуды збягае, імкліва перабіраючы кароткімі ножкамі, потым паяўляецца з шаблонам у руках, вымярае ўзровень нахілу, таропка запісвае лічбы ў сшытак з чорнай вокладкай, час ад часу знімаючы форменную шапку з блішчастым казырком і выціраючы пот з пачырванелай лысіны. Прозвішча немца Фогель. Рабочыя яго не баяцца. На перакурах нізенькі Гулік стараецца чым-небудзь дацяць рабога Хадоську. Робіць гэта з вялікай асалодай.

— Мычыпар,— прыстае да Хадоські,— раскажы, як паступаў на курсы?

Пуцейцы ўсміхаюцца. Іх забаўляе, мабыць, не сама гісторыя, чутая тысячу разоў, а неадчэпная Гулікава ўпартасць. Міця таксама ведае гэтую гісторыю.

Да вайны Хадоська збіраўся стаць памочнікам машыніста. Тры ці чатыры разы ездзіў паступаць на курсы, але правальваўся на іспытах. Іспыты не цяжкія: трэба было ведаць чатыры дзеянні арыфметыкі, дробы і напісаць невялікую дыктоўку. Дыктоўку якраз і не мог асіліць Хадоська. Па чутках, нават у сваім прозвішчы рабіў памылку, напісаўшы замест Нічыпар Мычыпар.

— Мычыпар! — працягвае дапытвацца Гулік.— А ты б цяпер паехаў паступаць? Цяпер жа па-руску пісаць не трэба. Едзь, паступіш...

Пуцейцы рагочуць, разам з імі раздзірае да вушэй шырокі рот Хадоська.

— Не паступай, Мычыпар, у машыністы. То я проста пажартаваў. Ідзі ў паліцыю. Дадуць шынель, вінтоўку, гарэлкі колькі хочаш пі. Будзеш начальнікам над намі. Хадзі сабе па шпалах, як Фогель ці Адамчук, убачыш, што Кардаш слаба ўкалвае, у каршэнь яму, у хрыбет... Маліна, рукі будуць чыстыя, без мазалёў. Навошта табе ішачыць з намі? З тваім здароўем я даўно пайшоў бы ў паліцыю. Няма ў мяне толькі здароўя...

— Гы-гы-гы! — рагоча Хадоська.

На абед пуцейцы паселі пад тупіковы насып, у цень. Горача і душна, у нерухомым, нібы застылым, паветры востра

пахне палыном, павольна, нячутна плаваюць стракозы. За два леты пуці да тупіка зараслі страшэнна: быльнёг і палын стаяць, як лес. Пуцейцы развязваюць клуначкі з хлебам, цыбуляй, агуркамі. Фогель падаўся абедаць на станцыю.

Міця нічога з сабой не ўзяў: не думаў, што з першага дня прыйдзецца стаць на работу.

— Ідзі сюды,— паклікаў Кардаш.— Пасядзім пагаворым. Перакусім трохі.

Пуцеец маўкліва адлажыў на разасланую паперку кавалак хлеба, два маласольныя агуркі.

— Еш, да вечара далёка.

Сам укусіў разы са два і, адсунуўшыся глыбей у цень, лёг на спіну.

— Кончылася твая навука. Стараўся, галаву ламаў, і прапала ўсё. Немец адукацыі не пытае: бі кайлом, і ўсё.

— Вайна ж яшчэ не кончылася,— асцярожна запярэчыў Міця.

— Далёка немец зайшоў. Гавораць, Маскву акружае. Калі такое было? Паспрабуй цяпер выгнаць.

— Пра Маскву брэшуць! — злосна, не вытрымаўшы, прамовіў Міця.

Кардаш, прыўзняўшыся, спалохана азірнуўся, зноў лёг. Хвіліну памаўчаўшы, спытаў:

— А ты адкуль ведаеш?

— Чытаў іхнюю газету.

— Разбіраеш?

— Разбіраю.

Кардаш заплюшчыў вочы, нібы размова яго зусім не цікавіла. Зноў памаўчаў некалькі хвілін і нарэшце асцярожным жэстам рукі папрасіў Міцю прысунуцца бліжэй.

— А што яны пішуць у сваіх газетах пра нас, народ наш? Што думаюць рабіць з намі? Які будзе парадак?

— Не ведаю, не пішуць пра гэта. Хваляцца, што заваявалі зямлю.

— Заваявалі,— Кардаш павярнуўся тварам да Міці.— Дык я ж пра гэта і кажу. Павесяць табе бірку з нумарам на шыю, і будзеш грукаць молатам, а ён над тваёй душой павісне. Ён пан, а ты нішто.

— Майстар не прыціскае, здаецца.

— З Фогелем жыць можна,— згадзіўся Кардаш.— Рабочых не б'е.

— А хто б'е? — спытаў Міця.

— Немцы на станцыі б'юць, ды яшчэ як. Адамчук, калі што, руку таксама прыкладвае.

— Той Адамчук, што да вайны майстрам быў?

— Той самы. Рад, што немцы хоць у брыгадзірах пакінулі, выслужваецца.

Кардаш накрыў твар шапкай, змоўк. Гарачыня не спадае. Сонца плыве ў бязвоблачным блакіце і паліць нясцерпна. Над чыгункай трымціць смуга. Здаецца — там, за станцыяй, рэйкі канчаюцца і між зялёнага поля віецца рэчка.

Міця ўспомніў нядаўнюю ноч, праведзеную ля радыёпрыёмніка. Вайна дасягнула данскіх стэпаў. Там гэтак жа нясцерпна паліць сонца, грымяць гарматы, над стэпам дым і пыл. Сонца не відаць. Нашы адступаюць, і пыл на іх тварах, на губах, у горле. Калі скончыцца адступленне і на якім рубяжы?.. Стэп шырокі, бяскрайні. Расце там трава кавыль і перакаціполе. У небе кружаць арлы. Не, цяпер не арлы, а нямецкія самалёты. Кідаюць бомбы на байцоў — запыленых, змучаных. Бомбы немцы вязуць па чыгунцы, можа, па гэтай самай, на якой з сённяшняга дня працуе Міця. Ён, значыць, памагае немцам. І ўсе пуцейцы, якія тут з вясны, таксама памагаюць. Ці думаюць яны пра гэта? Што збіраюцца рабіць далей?..

Рамонтнікі, затуліўшыся ў цяньку, спяць. Пахрапвае з-пад насунутай на твар шапкі Кардаш. Маладыя, тыя, што, як і Міця, хадзілі да вайны ў школу, заядла дымяць самасадам і слухаюць Гуліка, які пацвельваецца з Хадоські.

— Мычыпар,— прыстае Гулік,— раскажы, як ты хацеў жаніцца з Ганкай?

Хадоська робіць выгляд, што спіць.

— Мычыпар, ты як паклаў Ганцы на калена руку, дык яна што?

— Я не клаў на калена рукі,— лянiва адзываецца Хадоська.— Ты ж не бачыў.

— Не таіся, Мычыпар, я ўсё ведаю. Ганка табе спляжыла па мордзе, і ты пайшоў дадому. Праўда?

— Ды не спляжыла...

Міця падняўся, адышоўся прэч. Натужна скрыгочучы тармазамі, да станцыі набліжаецца цягнік. Гэта пяты састаў, які прайшоў з раніцы. Але тыя чатыры праскочылі станцыю з ходу.

Назаўтра Міця ўбачыў Адамчука. Нізкі, каржакаваты чалавек з чырвоным тварам, нібы толькі што вылецеў з лазні, спрытна скача па шпалах, загадвае, пакрыквае. Позірк вачэй рашучы, цвёрды. Здаецца, Адамчук ходзіць па ўласным двары — так вольна і ўпэўнена трымаецца. На першы погляд не Адамчук памочнік у Фогеля, а Фогель у яго.

«Пан,— падумаў Міця.— Такімі і былі паны».

Пры Адамчуку тэмп работы прыкметна ўзняўся. Нават Гулік прыціх і не падколвае, як учора, абыякавага Хадоську. Брыгадзір стаіць над каркам, як прыганяты. Відаць, яму падабаецца адчуваць сябе начальнікам, ведаць, што ніхто з тых, хто зацята б'е кіркай, варочае жалезным ломам шпалы, не запярэчыць і не агрызнецца.

Міця шалёна ненавідзіць Адамчука. Боль, крыўда, што сабраліся ў грудзях за апошні год, як бы ўвасобіліся ў жывы вобраз. Ва ўяўленні Міця малюе карціны расправы з брыгадзірам. Вось ён душыць яго за горла. Адамчук хрыпіць, на слізкіх губах — пена, пукатыя вочы наліваюцца крывёю. Здраднік просіць літасці, але Міця няўмольны.

Праз некалькі хвілін такая кара здаецца недастатковай, прыдумвае страшнейшую. Бачыць Адамчука прыстаўленым да тэлеграфнага слупа: паўз слуп ідуць пуцейцы, плююць свайму начальніку ў твар, б'юць нагамі ў тоўсты жывот...

На трэці дзень Міця непрыкметна кінуў у адхон, у высокую траву, гаечны ключ.

## 3

Салдатам-ахоўнікам, якія занялі другую, пустую будку ля Птахавага пераезда, мясціна падабаецца. Іх дзесяць, з імі сабака. Восем радавых, два унтэр-афіцэры, аўчарка Касо — аддзяленне ахоўнай роты. Камандзір аддзялення, нізкі, камлюкаваты Лібке, адначасна і начальнік штуцпункта № 16, як цяпер называецца будка.

Мясціна і двухкіламетровы ўчастак чыгункі падабаюцца салдатам таму, што размяшчаюцца блізка ад мястэчка, ад харчовага склада. Але, зрэшты, не гэта галоўнае. Пра галоўнае маўчаць. Салдаты радуюцца, што іх улада на палатне распаўсюджваецца толькі да лесу. Лесу ў душы пабойваюцца ўсе. Было б, вядома, прыемна слухаць лясных птушак, ласавацца ягадамі, дыхаць свежымі пахамі. Але ж партызаны, пра якіх салдаты наслухаліся, калі служылі яшчэ ў Польшчы, ля самага фатэрлянда, менавіта і жывуць у лесе, і страляюць адтуль.

І таму, што салдатам выпала ўдача, яны з першага дня сталі горача завіхацца, каб ператварыць звычайную будку ў гняздо абароны. Батальённае і ротнае начальства ў мястэчку, часцей, чым іншыя штуцпункты, яно праверыць гэты.

Салдаты будуюць дзоты. Два драўляныя, засыпаныя зямлёй і абложаныя дзёрнам склепчыкі звернуты сваімі амбразурамі ва ўсе чатыры бакі ад будкі.

Матэрыял — гатовыя, памечаныя лічбамі бярвенні і шчыты — падвезлі са станцыі. Але на трэці дзень высветлілася, што не хапае некалькі бярвенняў, каб завяршыць апошні, трэці ярус накату. Унтэр-афіцэр Лібке загадаў спілаваць сасну.

Быў ясны летні поўдзень. У сінім небе лёгкія хмурынкі. На полі ўсё буяе: аўсы, пачынаюць красаваць ячмяні. Звіняць мушкі і пчолы.

Двое салдат у вязаных нацельных сарочках — грузны, з адвіслым жыватом Венігер і малады касавокі аўстрыец Пэтэрле, які і на фронт не трапіў дзякуючы таму, што прырода падаравала яму гэты недахоп, узяўшы сякеры і пілу, рушылі пад сасну. Спакваля, па кругу, абышлі дрэва, як бы прыкідваючы, у які бок яго валіць, патупалі на грудку, але ніводзін не ўзяўся за тапор. Салдаты прыселі. Пэтэрле выняў з кішэні штаноў пачак цыгарэт, патрактаваў Венігера, і, пстрыкнуўшы запальнічкамі, абодва закурылі.

Пад сасной цянёк, прахалода, на доле, паросшым рэдкай жорсткай травой, расколатыя чарнаватыя шышкі. З грудка, як на далоні, відаць мястэчка — зялёнае, прывабнае. Дым ад цыгарэт уецца шызымі колцамі, нябачна раствараючыся над галавой. Салдаты кураць, маўчаць.

— Слухай, Пэтэрле,— пачынае Венігер,— у вас, у Цыролі, лясы?

— Лясы. Сасна, елка, бук, граб.

— Многа лясоў?

— Па гарах і схілах — скрозь, у далінах — менш.

— Ты любіш лес?

— О, асабліва калі пайсці туды з фрэйлен...

— Няшчасны кныр. Вы, аўстрыйцы,— усе бабнікі.

— Лягчэй на паваротах, гер Венігер,— ляніва пярэчыць Пэтэрле.— Сам фюрар з Аўстрыі. Дарэчы, ён нарадзіўся недалёка ад мясцін, адкуль паходжу і я.

— Дык бяжы, крычы, дубіна. Чаму мне хвалішся? Пішы рапарт камандзіру батальёна. Атрымаеш урляўб без чаргі.

Пэтэрле высокі, статны. Вузкі, досыць прыемны твар, з гарбінкай нос, русявыя, з прыгожым зачосам валасы. Крыху псуе аблічча косае, як у зайца, левае вока. Заўсёды здаецца, што Пэтэрле падміргвае нябачнаму субяседніку. Першыя два гады вайны ён меў ільготу, на віхлястым аўтамабільчыку, прыстасаваным да горных дарог, звозіў у даліну, на малочны завод, бліскучыя бітоны з малаком. Іграў на дудцы-жалейцы, падобнай да тых, якія былі ў кожнага пастуха, хадзіў на вечарынкі.

У армію Пэтэрле забралі, калі яму споўнілася дваццаць тры гады, і ён рады, што трапіў у ахоўны батальён, а не на фронт.

— Урляўб будзе восенню,— гаворыць Пэтэрле, і цяжка зразумець — сур'ёзна ці жартуе.— Пасля поўнага года службы. Закон ёсць закон. Нават калі б я даводзіўся пляменнікам самому фюрару.

— Дурань,— сплёўвае Венігер.— Мала такіх, што нават і не нюхалі казармы. Ацiраюцца каля баб...

— Восенню ў нас хораша,— не слухаючы, працягвае Пэтэрле.— Цішыня, вінаградны сезон. Свіныя сасіскі з чырвоным перцам. Казіны сыр. Вяселлі.

— Слімак, цяпер ты гэта ўбачыш толькі ў сне. Згадае Лібке — сасніш. Будзеш тарчаць у гэтай дзірцы да другога прышэсця...

— У вас кіслы настрой, гер Венігер.— Пэтэрле кладзецца на спіну, падклаўшы рукі пад галаву.— Вы не з той нагі ўсталі. Вышэй галаву. Усё ідзе найлепш на гэтай лепшай з планет. Восенню вайна скончыцца. На фронце — перамогі. Нельга не радавацца салдату вялікай арміі фюрара.

— Брандахлыст,— крывіцца Венігер.— Сабачы недаробак. Пакаштаваў бы хлеба на фронце, што б ты запеў тады. Кожны горад бярэцца крывёй.

— Наколькі мне вядома, гер Венігер, вы таксама не былі на фронце. І я сумняваюся — ці хочаце вы туды?

— Мяне не пашлюць на фронт. Хоць у гэтым я маю перавагу перад такімі asламі, як ты.

Тон размовы паміж Пэтэрле і Венігерам яшчэ нічога не гаворыць аб іх сапраўдных адносінах. Яны дружаць і добра адзін другога разумеюць. Венігер не малады, яму пад пяцьдзясят, і ведаў ён іншыя часы. Шахцёр з Сілезіі, штэйгер, ён некалі належаў да сацыял-дэмакратычнай партыі, быў нават функцыянерам — арганізаваў касу ўзаемадапамогі ў маленькім пасёлку. За гэта пасля таго, як да ўлады прыйшлі нацысты, адсядзеў год у канцэнтрацыйным лагеры, адкуль яго выпусцілі датэрмінова, як спецыяліста. На фронт не паслалі — яго асоба не заслугоўвала поўнага даверу, але калі пачалася вайна, не пакінулі і ў шахце. Служыў на мытні, у Польшчы, адтуль, калі ў фюрара з салдатамі стала туга, накіравалі ў ахоўны батальён.

Вясной на Волхаве загінуў яго сын. Яму было ўсяго дзевятнаццаць гадоў, да арміі, да вайны з Расіяй, маршыраваў у калонах гітлер-югенда, зычна спяваў і, прызваны ва ўзброеныя сілы, з бацькам не перапісваўся.

Пэтэрле, з якім яшчэ ў Польшчы зблізіўся Венігер, ненамнога старэй за Курта-сына.

Там, ля будкі, узводзячы дзоты, салдаты і сам унтэр-афіцэр Лібке ў адных нацельных сарочках, а некаторыя нават скінуўшы іх, грукаюць, стукаюць, рэжуць заступамі дзёран, насвістваючы кожны сваё, а гэтыя пад сасной сядзяць ужо цэлыя паўгадзіны і яшчэ не ўзяліся за сякеру і пілу. Так да бясконцасці працягвацца не можа.

— Слухай ты, казіны малакавоз,— гаворыць Венігер.— Не хочацца мне нішчыць сасну.

— І мне не хочацца.

— Але ж аб гэтым ты не скажаш унтэр-афіцэру Лібке. Не скажаш? Пабаішся?

— Магу сказаць у больш прыймальнай форме.

— Як гэта?

— Скажу, напрыклад, што сасна спадабалася лейтэнанту Эрліху і што я ўспомніў аб гэтым, узяўшыся за тапор. Магу прыбавіць, што Эрліх цэлую гадзіну хадзіў вакол яе і нават хацеў прысесці. Паспрабуйце даказаць, што гэта не так? І наўрад ці адважыцца распытваць унтэр-афіцэр Лібке лейтэнанта Эрліха аб яго пачуццях.

— Такіх штучак не прымаю.— Венігер падняўся, тужэй зацягнуў рэмень на жываце.— Скажу без віхляння...

Узышлі на пераезд. Пэтэрле нясе пілу і сякеру, Венігер — з пустымі рукамі. Абодва ідуць да будкі, дзе завіхаюцца астатнія салдаты. Праляцеў цягнік — нагружаны, цяжкі,— усе разагнулі спіны і, трымаючы ў руках інструменты, праводзілі яго позіркамі, пакуль не прагрукатаў апошні вагон.

— Што здарылася? — крыкнуў Лібке, выціраючы пот з загарэлай шыі.— Чаму не працуеце?

— Не крычы, Рудзі,— Венігер назваў унтэр-афіцэра па імені, даючы знак, што размова будзе інтымнай.— Тое, што прагулялі, адробім вечарам. Ёсць прычына.

Унтэр-афіцэр, нахмурыўшы бровы, з неразуменнем пазіраў на Венігера. Той падступіў да яго.

— Ты можаш сказаць, колькі мы тут прабудзем?

— Што за дурныя пытанні? Ты — салдат...

— Не ведаеш. Дык навошта сеяць бруд там, дзе жывём. Паглядзі на сасну.

— Я цябе не разумею. Што ты хочаш сказаць?

— Не варта, Рудзі, валіць сасну. Яна ўпрыгожвае месца, дзе будзем жыць. Хіба табе не захочацца паляжаць у цяньку?

— А-а, глупства. Загад ёсць загад. На дзвесце метраў ад чыгункі лес усё адно паваляць.

— Дык то лес, а гэта ж адно дрэва!

— Ідзіце і валіце,— Лібке павысіў голас.— Накат трэба закончыць да заўтра.

Загаварыў Пэтэрле, які да гэтага маўкліва стаяў збоку:

— Гер унтэр-афіцэр, сасна спадабалася лейтэнанту Эрліху. Я чуў сам, сказаў — цудоўнае дрэва. Хадзіў вакол і любаваўся. Я ўжо гаварыў аб гэтым геру Венігеру.

— Ну і што? Мне яна, можа, таксама падабаецца.

— Лейтэнант Эрліх яшчэ сказаў, што дрэва нагадвае яму радзіму. Скінуў мундзір і паўгадзіны сядзеў у цяньку.

Унтэр-афіцэр Лібке яшчэ болей нахмурыўся, яго шырокі, зрэзаны маршчынамі твар зрабіўся злосны. Венігер з гэтым аўстрыйцам задалі загадку. Загадак Лібке не любіць. Ва ўсім паважае дакладнасць, яснасць.

— Д'ябальшчына,— гаворыць унтэр з замяшаннем.— Нічога не зразумееш. Лейтэнант жа не гаварыў, каб не чапалі дрэва...

— Ён спадзяецца на вашу здагадлівасць, гер унтэр-афіцэр,— прыходзіць на выручку Пэтэрле.— Ведае, што вы ўгадваеце яго жаданні. Як у Польшчы з тымі гусямі...

Гісторыю з гусямі памятае кожны з аддзялення, якім камандуе унтэр-афіцэр Лібке. Дзякуючы ёй на аддзяленне як бы праліваецца святло дабрачыннасці з боку камандзіра роты лейтэнанта Эрліха, і даброты жыцця яно адчувае трохі лепш, чым іншыя аддзяленні. І ўсё з-за адной добра адкормленай, тлустай гусі. У Польшчы салдаты ахоўвалі элеватар і, карыстаючыся тым, што зерня хапала, тыдні за два да Каляд кожны набыў сабе гусь. Гусі жылі ў дашчаным хлеўчуку, размешчаным на процілеглым канцы двара, наводдаль ад дома, які займала аддзяленне. Але ўсё адно дзела пахла гаўптвахтай, калі не чым-небудзь большым, бо хто мог паручыцца, што сытае гусінае гергетанне не даляціць да вушэй начальства.

Тады пайшлі на хітрасць. Склаўшыся, прыкупілі да дзесяці гусей адзінаццатую. Яе наканавалі лейтэнанту Эрліху. Аб гэтым напаўжартам намякнулі яго дзеншчыку: прыблудзіліся, маўляў, гусі, ёсць нават адна лішняя, але не рэзаць жа іх цяпер. Сільвестар блізка... Дзяншчык цудоўна ўсё зразумеў, а лейтэнант да самага свята не пачуў недазволенага паблізу ад вайсковага аб'екта гергетання.

— Ты ліс, Пэтэрле,— усміхнуўшыся, гаворыць Лібке.— Хітры аўстрыйскі ліс. Не ведаю, як лейтэнанту, табе цянёк падабаецца. Але дзе мы возьмем дзерава для накату?

— Прывязём на ваганетцы са станцыі, гер унтэр-афіцэр,— бадзёра выгукнуў салдат.— Там цэлыя штабялі.

Пэтэрле пераможна зірнуў на Венігера: той стаіць нахмураны, злосны. Маладзейшы ў душы смяецца са старэйшага. Пэтэрле лепш ведае, што, ходзячы нацянькі, ні да чаго не дойдзеш. У гэтым жыцці не прыходзіцца разлічваць на шчырасць, сумленнасць — на прамыя дарогі. Удачу якраз прыносіць тое, што людзі прызвычаіліся называць дрэнным — хітрасць, падман, падладжванне. Калі хочаш жыць, віляць хвастом таксама навучышся.

## 4

Прыходзячы да Юрыя Басняка, Сяргей заўсёды застае яго на канапе, прыстаўленай да грубкі: апрануты ў зялёны халат, з пантофлямі на валасатых нагах, ён або ляжыць, пазіраючы ў столь, або сядзіць, абхапіўшы калені рукамі.

— Сядай,— не мяняючы позы, запрашае Юрый.— Пракляты радыкуліт. Месца не знаходжу...

Побач з Юрыем іншы раз сядзіць Франя Бейзік, чарнявая, падобная на цыганку, з прыгожымі, ледзь-ледзь касаватымі вачамі. Юрый жыве ў Франі на становішчы прымака — ёй належаць і два гэтыя пакойчыкі ў драўляным, барачнага тыпу эмтээсаўскім доме, і ўся вопратка, што на Юрыю. Аднак у Франіным доме Юрый адчувае сябе поўным гаспадаром.

— Франя! — загадвае ён.— Зрабі так, каб цябе не было. Нам трэба пагаварыць.

Франя, апусціўшы вочы, выходзіць з пакоя. Яна як бы саромеецца Сяргея, ніколі не ўмешваючыся ў яго размовы з Юрыем. Ён адчувае сябе таксама ніякавата: у тым, што Франя, нічога не ведаючы пра мужа, які на фронце, узяла прымака, няхай сабе і Юрыя, ёсць штосьці ганебнае.

— Прыліпла,— прыжмурыўшы вочы, падміргвае Басняк.— Зімой ледзь упрасіў пусціць на кватэру, а цяпер без слёз не развяжашся. Баба як кошка: хто пагладзіць, той і добры. Няўстойлівы элемент баба...

— Сам вінаваты. Мог пайсці на другую кватэру. Да якой-небудзь васьмідзесяцігадовай... Калоў бы ёй дровы.

— Друг ты мой, Сяргуша. Ты зело мал і несмышлен, як гаворыцца ў Свяшчэнным Пісанні. Апрача хваробы, якая зрабіла мяне няздольным да фізічнай працы, у наяўнасці, так сказаць, аспект палітычны. Не забывай пра від на жыхарства, які магчымы з высокага дазволу мясцовага паліцай-прэзідэнта. Хто з так званых бобікаў, хоць у іх галовы падобны да каменных шароў на набярэжнай маёй дарагой Адэсы-мамы, мог бы паверыць, што такі бадзяга, як я, здольны надоўга ўтрымацца ля асобы, якая, мякка кажучы, дыша на ладан. Хіба ж мяне выпусцілі б з турмы, каб не Франя? Зрабілі б звычайнае харакіры, і канцы ў ваду. А тут — сталая прапіска, амаль што шлюб па законах ваеннага часу.

— А як жа ты пакінеш Франю? Яе ж абвінавацяць.

Басняк робіцца сур’ёзным:

— Франя — харошы чалавек. Растацца з ёй будзе нялёгка. Ну, а дзе другое выйсце?.. Я ж камандзір, старшы лейтэнант. Прыйдуць нашы, спытаюць за ўсё. За акружэнне, за палон, за гэтыя паўгода мядзведжай спячкі.

— Пры чым тут акружэнне? — не разумее Сяргей.— Хіба ты трапіў добраахвотна?

— Жаўтароты ты яшчэ, Сяргуша. Не ведаеш жыцця. Ну, хто мне ці табе паверыць, што мы біліся да апошняга патрона. Скажуць — шкуру ратавалі. Будзь спок. Праўда, у мяне адзін дакуменцік у наяўнасці. Пачытай...

Юрый расшпільвае халат, задзірае сарочку. Пад левым плячом, на смуглявай, густа зарослай спіне сінеюць тры вялікія, нібы рваныя, рубцы.

— Пачастунак Адольфа Гітлера. Прах бязвіннага отрака Юрыя мог даўно пакоіцца ў глiністай зямлі пад горадам Умань. Жалезнае здароўе не пусціла да праайцоў, у райскія кушчы. Я, Сяргуша, купаўся круглы год: цёплая вада ці ледзяная. Таму вылежаў дванаццаць дзён у пшаніцы, еў, так сказаць, злакі ў іх першародным выглядзе. Выжыў, хоць кашчавая стаяла над галавой. За раны гэтыя,— Юрый апускае вочы, прыцішае голас,— Адольфу прыйшлося трошачкі раскашэліцца. Пяць салдацікаў, мякка кажучы, насамі ў

зямлю. Гэта толькі тыя, што трапілі на мушку. А я яшчэ і пару гранатак шпурлянуў...

Юрый — шыракаплечы, чорнавалосы, з хударлявым мужным тварам — выклікае ў Сяргея супярэчлівыя пачуцці. Ён хвалько, у гэтым няма сумнення. Калі сапраўды такі адважны, то не сядзеў бы, трымаючыся за спадніцу гэтай Франі. Даўно б пайшоў у лес, у мястэчку яго нішто не затрымлівае. Нейкай часткай сваёй свядомасці Сяргей насцярожаны да Басняка.

Але ён бачыў яго другім, разам прасядзелі ў камеры болей за месяц, спалі на адных нарах, на трухлявай саломе, елі з адной міскі. У цагляным падвале раённага банка, які паліцыя пераабсталявала пад каталажку, за месяц перавярнулася процьма народу: туды садзілі затрыманых у начны час, сабатажнікаў, гэткіх, як Басняк, прымакоў, якіх напрадвесні, баючыся, што яны пойдуць у лес, немцы хацелі прыбраць да рук.

Сяргей ведае: Басняку пагражалі паслаць у лагер ваеннапалонных, схіляючы, каб паступаў у паліцыю. Ён не паддаўся. Два разы вадзілі да начальніка паліцыі — вяртаўся з успухлымі шчокамі, але вясёлы, спакойны. Два разы, адразу пасля арышту, білі шампаламі і Сяргея, і менавіта тады, у першыя дні, ён зблізіўся з Юрыем.

Калі першы раз вярнуўся з-пад шампалоў — яму ўсыпалі дваццаць — і кінуўся на нары тварам у салому, плачучы і хаваючы бяссільныя слёзы свайго сораму, яго ўсцешыў не хто іншы, як Басняк. Ён маўкліва прысеў побач, падняў на спіне сарочку, і Сяргей адчуў, што ён прыкладвае да яго спіны, да самых балючых мясцін, халодную сталь ляза. Лязо ад цела награвалася, Юрый адыходзіў, апускаў яго ў бачок з вадой, што стаяў пры дзвярах, і прыкладваў зноў. Боль сапраўды сцішыўся. Але куды даражэй было другое. Сяргей нібы ўпершыню адчуў, што такое таварыш у цяжкую хвіліну.

— Адкуль у цябе нож? — спытаў назаўтра Сяргей.

— Нож? — Юрый адвярнуўся да сцяны, расхінуў пінжак і непрыкметна для Сяргея з нейкай патайной складкі выхапіў адточаную бліскучую фінку.— Не нож, а зброя. У мэтах самаахoвы. Мы ж не ў цешчы ў гасцях, а ў немцаў. Зразумеў, верабей?..

Гэта было нялёгка, рызыкоўна — пранесці ў камеру фінку. Усіх, хто трапляў сюды, старанна абшуквалі, адбіраючы не толькі жалезныя рэчы, а рамяні, папругі. Сяргей з павагай зірнуў на Юрыя.

У заплёванай, бруднай каталажцы з рудымі падцёкамі на сценах, кіслым, спёртым паветрам, тупатам паліцэйскіх над галавой Юрый адчуваў сябе як дома, ні на хвіліну не вешаючы носа. Сыпаў анекдотамі, расказваў сотні вясёлых гісторый. У яго прыемны грудны барытон, і вечарамі, калі ў камеры ледзь бачна, трапятаў язычок каганца — шчодрасць, якую паліцэйскія дазвалялі не кожны вечар,— а арыштаваныя ў расхлістаных зрэбных сарочках, з нячэсанымі, ускудлачанымі галовамі, з чорнымі нагамі ўпокат клаліся на нары, Юрый пачынаў спяваць. Песень, як і розных гісторый, ведаў безліч: былі вясёлыя, сумныя, рускія, украінскія, і нават блатныя:

Марьяночка, моя ты славная,
Твоя грудь — два тугих бугорка...

Сяргей заўважыў: арыштаваныя, нягледзячы на тое, што з прыемнасцю слухалі Юрыя, рагочучы пасля яго жартаў, анекдотаў, трымаліся з ім як бы са стоеным недавер'ем, з дапытлівасцю, якая не знаходзіла выйсця ў шчыра, проста зададзеных пытаннях і гэткіх жа ясных адказах. Там, у камеры, Юрый пра сябе не расказваў. Ніхто не ведаў, хто ён і адкуль. Ведалі, што акружэнец, прымак,— такіх паліцыя нахапала многа, з зімы яшчэ яны рэзалі і калолі на паліцэйскім двары дровы, чысцілі канюшню, прыбіральню, двое ці трое, спалохаўшыся няпэўнасці, якая чакала іх наперадзе, згадзіліся стаць паліцэйскімі.

Мясцовыя людзі, звязаныя паміж сабой чымсьці нябачным, але трывалым, моцным, заўсёды з насцярогай ставяцца да чужых. Магчыма, гэтым і тлумачыўся той схаваны за знешняй добразычлівасцю недавер да Юрыя, які свяціўся ў вачах дзядзькоў, што разам з ім і Сяргеем сядзелі ў каталажцы. Мясцовы чалавек, які зрабіў злачынства, адчуе гэта не толькі сам, але і яго сваякі, родзічы ў другім і нават трэцім калене. А што возьмеш з чужога? Сёння ён тут, а заўтра —

няма... Сярод местачковых паліцаяў больш палавіны такіх, якія невядома адкуль прыплылі. Так думаў Сяргей, стараючыся разгадаць прычыну той халаднаватай дапытлівасці, насцярожанай цікаўнасці, з якой арыштаваныя глядзелі на Юрыя.

Юрый як быццам не адчуваў гэтага. Сам ён нікога ні аб чым не распытваў, не праяўляючы абсалютна ніякай цікавасці да таго, за якія правіннасці трапілі ў камеру яго часовыя таварышы. Вось гэтая як бы далікатнасць, а таксама незалежнасць, з якой Юрый трымаў сябе перад паліцэйскімі, усё больш умацоўвалі Сяргея ў думцы, што Юрый чалавек надзейны.

Сяргея выпусцілі першага. За два ці тры дні перад гэтым, вясновым вечарам, калі, распрануўшыся ад млоснай духаты ледзь не дагала, яны ляжалі на нарах, размаўляючы аб кнігах і кінафільмах, Юрый нечакана прызнаўся, што ён старшы лейтэнант, камандаваў ротай, родам з Адэсы, трапіў у акружэнне пад Уманню, уцёк з Жытомірскага лагера. Расказваў Юрый гэтак усхвалявана, што не верыць яму было нельга. Той вечар іх канчаткова зблізіў.

Інстынктыўная перасцярога, якая жыве ў кожным, хто адчувае, што адно неасцярожнае слова можа каштаваць жыцця, не дазволіла Сяргею лішне развязаць язык, ні слова не сказаў ён пра хлопцаў, пра пачатую імі справу, пра Міколу, які з павязкай паліцэйскага на рукаве ўжо двойчы завітваў у камеру, непрыкметна падміргваючы яму, Сяргею.

Звярок насцярожанасці, які ўсе ж прытаіўся ў даверлівай Сяргеевай душы, трымаў вуха востра і пазней, калі Юрыя выпусцілі і калі Сяргей па два, а то і па тры разы на тыдзень заходзіў на кватэру да Юрыя.

Хлопцы — супроць дружбы з Юрыем. Ніхто з іх, за выключэннем Вілюгі, не захацеў з ім знаёміцца. Сяргей разумее, што не проста так нагаворваюць яны на Басняка. Калі глядзець іх вачамі, то Юрый сапраўды не заслугоўвае даверу. Але існуе няпісаны закон, паводле якога людзі ў стане ўтрапення, у стане зрушанай душэўнай раўнавагі самі імкнуцца насустрач сваёй пагібелі. Сяргей не знаходзіць сабе месца ад горычы, яго гонар, самалюбства ўтоптаны ў гразь шампаламі, пад якія яго двойчы клалі паліцаі і аб якіх,

безумоўна, ведае кожны ў мястэчку. Таму Сяргей проста не можа, не здолее, каб яго нават прымусілі, прыстасоўвацца да тых форм барацьбы, да якіх фактычна схіліліся астатнія. Дый на носе — Германія. Таму ён прагне барацьбы адкрытай, хоча страляць ва ўпор, не хаваючыся, ва ўсіх гэтых паліцаяў, немцаў, іх прыслужнікаў. Яго істота напаўняецца дзікай радасцю, калі ён пачынае ўяўляць, як расправіцца з усёй гэтай зграяй, як будзе, не ведаючы літасці, рэзаць, калоць, страляць, знішчаць ненавісных яму вылюдкаў.

Менавіта тут пачынаецца супярэчнасць. Сяргей адчувае, што ён, як і ўсе яго таварышы, звязан па руках і нагах адказнасцю за сям'ю, за яе лёс, разумее, што ніхто не пашкадуе яго бацькі, маці, сястры, брата, калі толькі стане вядома, што яго ў мястэчку няма.

Тым болей што ён мечаны, у яго воўчы білет... Але ў той жа час ён не можа сабе ўявіць, што яго павязуць у Германію, што там, на чужыне, прыйдзецца рабіць на немцаў, ненавідзячы іх.

Успамін пра сям'ю расхалоджвае Сяргея, хістаючы яго ўпэўненасць у тым, што зробіць правільна, калі пойдзе ў лес. Але зноў захліствае хваля шалёнай нянавісці, думкі мітусяцца, блытаюцца, у душы адно толькі жаданне — помсціць. Бываюць хвіліны — у гэтым Сяргей баіцца прызнацца самому сабе — калі ён ненавідзіць бацьку, маці за тое, што звязваюць яму рукі. Як было б добра, каб быў адзін! Ні дня, ні гадзіны не сядзеў бы тут, у смярдзючым паліцэйскім кодле!

Зрэдку ўсплывае вобраз Рыты, прыносячы смутак.

Шляхі іх разыходзяцца. Рыта жыве сваім, і хоць ні разу не адштурхнула, але і не імкнецца да яго. Крыўда, адчай, нянавісць перамешваюцца ў балючы клубок, гнятуць душу, не даючы спакою. У апошні месяц хлопцы аддаліліся: два ці тры разы забягаў Шура, адзін раз Міця — расказаў, што прыходзіў знаёмы шафёр, які цяпер у партызанах, даў заданне дастаць гаечныя ключы. Пахваліўся, што слухае радыё. Сяргей не дапытваўся, дзе і хто ўстанавіў прыёмнік. Раз Міця не гаворыць, не запрашае слухаць — не трэба.

Сам ён не будзе напрошвацца. У яго свой шлях. Радыё цяпер не галоўнае. Трэба дзейнічаць, а не слухаць радыё.

Сядзець дома Сяргей не можа. Штодня ідзе да Юрыя. Юрый зрэшты згодзен пайсці ў партызаны. Рушаць утраіх — Юрый, ён, Вілюга.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

### 1

На станцыі Шура Гарнак трымаецца незалежна. Ён прыроджаны тэхнік, і немцы яго любяць.

Да тупіка, дзе працуе брыгада, Шура падкаціў на маторнай ваганетцы. Да Адамчука падышоў, як да роўнага, сунуў у рукі запіску:

— Перавялі працаваць да вас. Загад шэфа. Матарыстам на ваганетку.

Міці Шура як бы не заўважае. Нібы наўмысна адварочваецца. Толькі на трэці дзень, пад вечар, калі брыгада ўжо заканчвала работу, падышоў да Міці. Курыць цыгарэту, трымаецца самаўпэўнена, як начальнік.

— Паедзеш са мной. Загадаў Адамчук. Трэба завезці майстру цэмент. Ён будзе ганак рамантаваць.

Майстрам Шура назваў Адамчука. Той жыве ў каменным доме за станцыяй.

— Я дастаў ключы,— сказаў Міця.— Учора хадзіў да Драгуна, але дома не застаў.

Па тых умовах, якія паставілі Гусоўскі і Драгун, Міця нічога не павінен гаварыць пра сваю дзейнасць сувязнога. Але ён расказвае ўсё. Сакрэтаў паміж хлопцамі няма.

— Ідзі ты з ключамі! — адмахнуўся Шура.— Хіба не ведаеш? Немцаў панаганялі ў вёскі. Партызан хочуць знішчыць. Два эшалончыкі ля Гарбылёў кульнулі. Паліцаяў у Буйках перабілі ўсіх. Самім трэба што-небудзь рабіць. Заўтра вазьму цябе трубы вазіць. Падкладзём міну.

Прыехалі на станцыю, знайшлі немца-кладаўшчыка, атрымалі два папяровыя мяшкі з цэментам. На паперцы, якую аддалі кладаўшчыку,— пячаць з нямецкім арлом, на мяшках таксама арлы, толькі большых памераў.

— Я трохі знюхаўся з двума нямецкімі чыгуначнікамі,— расказвае Шура, калі селі на ваганетку.— Адзін другога баяцца. Паміж сабой слова лішняга не прамовяць. Думаеш, у самой Германіі рай? Які там рай: усё па картачках, работа да сёмага поту, пры кожным кроку хрысціся на Гітлера. Чаму яны нашу моладзь у Германію сватаюць? Таму, што ў саміх рукі кароткія, хоць і заграбушчыя. Хочуць на нашай спіне ў рай выехаць.

— А чаму немцы баяцца адзін аднаго?

— Ліха іх ведае. Толькі кожны дрыжыць. Мабыць, сагнуў іх Гітлер у баранні рог. Сказаў слова не так, садзіся за дрот. Фашызм!..

Адамчук сядзіць у альтанцы, за дашчаным сталом, абедае. Ён у сподняй сарочцы, расхрыстаную валасатую грудзіну, чырвоны твар залівае пот. На стале перад брыгадзірам ёмістая бутля.

— А, матарыст! — прывітаў Адамчук Шуру.— Давай сюды. За труды праведныя належыць.

Міцы брыгадзір не заўважае.

Міця адышоўся, у чаканні Шуры прысеў на лавачцы пад клёнам. Адсюль чуе ўсё, пра што гавораць у альтанцы.

— Пан майстар, немцы вас паважаюць,— выпінаецца Шура.— Другому б яны цэменту не далі. Я не раз чуў, як яны пра вас гаварылі. Кажуць, строгі начальнік і справу ведае. Спецыяліст.

— Немцы не дурні. Аб сваёй выгадзе клапоцяцца.

— Адзін раз, праўда, чуў я. Толькі гэта глупства, пан майстар. Нагаворы. Людзям языкі не завяжаш.

— Што ты чуў, ну? Гавары ўсё, не бойся!..

— Нехта ўвёў у вушы шэфу, што вы пры бальшавіках актывістам былі. Што вас за гэта нават медалём узнагародзілі. І што ў лесе былі...

— Ах, сволачы праклятыя! Гэта ўсё свае, свае. Падкопваюцца, у вочы ім коле. Ну, майстрам я быў, гэта ўсім вядома. Хіба я хаваюся? А медаль той яшчэ летась я занёс і здаў у жандармерыю. Разам са зброяй. Прасіў я таго медаля, ці што? Далі — узяў. Табе каб павесілі, хіба б ты адмаўляўся?..

— Вядома не, пан майстар.

— Слухай, матарыст! Калі што пачуеш яшчэ, скажаш адразу мне. Не забудзь. Я табе аддзячу. Я яшчэ магу аддзячыць, хоць на мяне там і нагаворваюць. Пабачым, хто каго. Ах, сволачы, сволачы!..

Міця слухае, і ім авалодвае незразумелая абыякавасць. Яшчэ ўчора ён ненавідзеў Адамчука. Цяпер гэтае пачуццё знікла. У Міцевых вачах брыгадзір адразу змізарнеў. Ён баіцца, калоціцца, хоць і служыць немцам.

Шура выйшаў ад Адамчука пахістваючыся. Размаўляе гучна, на ўвесь голас, і Міця непакоіцца, што скажа што-небудзь лішняе.

— Выпіць у пана начальніка чарку не грэх,— гарланіць Шура.— Асабліва, калі пан начальнік добры чалавек, калі душа ў яго адкрытая. Праўду я кажу, Міця? А? Залаты чалавек Адамчук! Я для яго гатовы ўсё зрабіць, нават труну. Харошую труну з нямецкіх дошак...

— Ціха ты! Яшчэ пачуе хто.

Шура п’яны. Міця адвёў яго дамоў. Жыве Шура ў старэйшай сястры.

## 2

Міцю не спіцца.

Выйшаў на двор, прысеў на ганку. Ноч душная, без расы, з паплавоў плыве густы гаркаваты пах скошанай травы. Далёкі край засланага хмарамі неба паласуюць частыя, без грому, маланкі. Сонна перагукваюцца ў кустах, за насыпам, дзве птушкі. Немцы ў будцы насупраць спяць. Чуваць, як пахаджвае па двары вартавы. Чарнее на грудку сасна.

Недзе каля лесу раз-пораз бліскаюць агні кішэнных ліхтарыкаў. Па палатне ходзяць вартавыя. Наперадзе ці ззаду іх крочыць бацька, ахоўваючы чужую чыгунку. Ні немцы, ні бацька не ведаюць, што заўтра Міця зноў пойдзе падкладваць міну.

Міцю здаецца, што ён стары-стары, усё бачыў і ўсё ведае. Чым вымяраецца бег часу? Тады, да вайны, час вымяраўся тым, што за зімой наступала вясна, у мястэчку выраслі будынкі, у газетах пісалі пра новыя заводы і фабрыкі. Ён,

Міця, рос, пераходзіў з класа ў клас. Сам пра сябе ён тады не мог сказаць, што, перайшоўшы за адзін год з восьмага ў дзясяты, стаў разумнейшы за таго, які вучыўся ў восьмым.

Цяпер зусім другое. Цяпер той Міця, які за год скончыў два класы, гэтаму, які нічога не скончыў, здаецца далёкім, незразумелым чалавекам. Той быў проста блазнюк. Ён нічога не ведаў пра сапраўднае жыццё.

Дык як жа бяжыць час? Ясна, што не роўна. Ён можа ляцець так, што замільгаціць уваччу, закружыцца галава. І можа цячы спакойнай рачулкай паўсядзённасці. Жыццё пайшло так, што людзі як бы нанава шукаюць адзін другога, не давяраючы ранейшым меркам. Шырокіх дарог няма, засталіся вузкія сцяжынкі.

У цемрыве ночы на насыпе паказалася чорная постаць, і па кроках Міця здагадаўся, што гэта бацька. Ён на абходзе і, відаць, зазірне ў двор.

— Ты, Міця? — спытаў праз хвіліну бацька.

— Я.

— Можа б, заўтра на работу не пайшоў, падсабіў рэзаць дошкі?

— Не магу. Трэба ісці.

— Дык ты ранічкай збегай, адпрасіся.

— Сказаў, не магу.

— Хай яна спрахне, гэта твая работа! — раззлаваўся бацька.— Не было пятлі, дык сам знайшоў. Хто цябе піхаў у тую брыгаду? А ўсё таму, што бацьку не слухаеш. Што табе цяпер бацька?

Міця маўчыць. Спрачацца няма сэнсу. Бацька патупаў па двары і зноў рушыў у абход.

Увесь тыдзень з таго дня, як у другой, пустой будцы пасяліліся абвешаныя зброяй немцы і пачалі будаваць свае ўмацаванні, Сцяпан Птах ходзіць змрочны, павесіўшы галаву. Такое суседства яго не радуе, не абяцае нічога добрага. Салдаты карыстаюцца тым жа, што і яго сям'я, калодзежам, заходзяць у двор, бяруць з-пад паветкі дровы. Яны як бы загадзя залічылі яго ў свае памагатыя. Зусім іншы выгляд набывае служба: чыгунку ахоўваюць салдаты, яны паводзяць сябе, як на вайне, і калі ён будзе хадзіць разам з імі, то атрымліваецца,

што і ён на вайне, на баку немцаў. Уражаны гэтай думкай, ад якой нельга ні адмахнуцца, ні вытлумачыць як-небудзь інакш, Сцяпан наважыў неадкладна выбірацца з будкі. Чакаць не выпадае. Тут не месца для жыцця. Трэба ў сваю хату. Хата яшчэ не дагледжана, без вокан, без печы, але іншага выйсця няма. На дварэ лета, абы дах над галавой. Скончыўшы службу і нават гадзіны не задрамаўшы, Сцяпан бяжыць на сваю сядзібу.

Міця прасядзеў яшчэ з гадзіну. Нарэшце наважыў пайсці на вышкі, у хлеў, і прылегчы, калі пачуў на насыпе таропкія крокі. Нехта бег. Падхапіўшыся, Міця выскачыў за будку і здрыгануўся ад таго, што ўбачыў. Чырвона-барвовым полымем палаў увесь заходні край неба. Здавалася, што нехта вялізны і нябачны афарбаваў яго ў колер крыві. Над мястэчкам і будкай неба па-ранейшаму нізкае, чорнае, нібы ў хвіліны поўнага зацьмення, і на імгненне мільганула страшная думка, што там, на захадзе, узыходзіць сонца.

«Вёска гарыць,— прыйшла здагадка.— Відаць, Вербічы».

Падбег бацька. Задыхаўся і ў першую хвіліну не мог вымавіць слова.

— Што ж гэта дзеецца на свеце, Міця? — голас у бацькі глухі, трывожны.— Паляць, нішчаць. Дзе ж шукаць ратунку? Вінаваты ці невінаваты — канец адзін. Там жа, у той вёсцы, што гарыць,— людзі, дзеці. Божа, Божа!..

— Яны народ запалохаць хочуць. А потым знішчаць будуць. І цяпер ужо, бачыш,— знішчаюць. Такая іхняя палітыка. Ім патрэбна зямля, а не людзі.

— Дык што — усіх знішчаць?

— Ім галава не баліць. Чым болей, тым, яны лічаць, лепей. Гітлер хоча даць маёнтак кожнаму немцу, які ваюе.

Бацька з сынам зайшлі ў двор. Хмары патроху разганяла, у прагалах выблісквалі зоркі. Было парадкам за поўнач. У мястэчку надрыўна вылі сабакі. Узвілася ля лесу ракета — нервуюцца і немцы, што ахоўваюць чыгунку.

— Няўжо ж нашы папусцяцца? — уздыхнуў бацька.— Другі год вайна ідзе. Проста сказаць — знішчыць народ. Нашы дзяды і прадзеды тут жылі. А цяпер нам загадваюць на неба лезці, ці як?

— Гэта фашысты, тата. Лічаць сябе вышэйшай расай. Хочуць панаваць, а другія каб на іх рабілі.

— Сваіх паноў папраганялі, а цяпер пасадзіць на шыю чужых? Думаеш, партызаны так сабе аб'явіліся? Яшчэ не тое будзе, пабачыш...

Гаварылі, як роўны з роўным. Пад раніцу водбліск пажару пачаў бляднець. Толькі неба ў тым баку, дзе гарэла, нібы зацягнута нерухомым воблакам.

3

Раніцай Шнапс пацвердзіў тое, аб чым здагадваліся. Спалены Вербічы — вёска, дзе летась Міця капаў акопы. Немцы прыгналі адтуль у мястэчка статак кароў, дзве чарады свіней і авечак. Людзей жывымі спалілі ў царкве. Усіх, каго схапілі,— старых і малых. Рэдзенькая мокрая Шнапсава барада з прыліпшай саломінай дрыжала, калі ён расказваў.

— Усім тое будзе,— азіраючыся па баках, закончыў Шнапс.— Я ж думаў — яны хоць у Бога веруюць. А яны паляць народ у царкве!

— Дзе ні палі, усё адно,— хмура сказаў бацька.— Правага і вінаватага не шукаюць. Нехта скінуў поезд, а пацярпелі ўсе.

— Праўду пра іх пісалі — фашысты.

— Далёка тая праўда. Пакуль дойдзе да нас — акалееш. Дай мне на тым тыдні каня, Кузьма. Да дабра ў гэтай будцы не даседзешся.

На станцыі навіну ведалі. Хмурыя пуцейцы сядзяць ля пакгаўза, кураць. Адамчук паявіўся на хвіліну — маўклівы, прыгнечаны — і адразу знік. Фогель зусім не прыйшоў. Работа стаяла.

— Хто са мной трубы вазіць? — падкаціўшы на ваганетцы, зычна спытаў Шура.— Два рэйсы, і можна дахаты...

Ніхто на яго не зірнуў.

— Паедзем з табой,— Шура пазваў Міцю.— А то ўляціць ад немцаў. Жартаваць не любяць.

Узялі з пакгаўза некалькі тонкіх жалезных труб. Іх трэба завезці на ахоўны пост — такую ж, як і Птахава, будку, размешчаную на процілеглым канцы, за шэсць кіламетраў ад станцыі. Салдаты, якія жывуць там, хочуць зрабіць сабе душ.

Ваганетка мінала крывую, калі Шура затармазіў.

— Тут.

Таропка азірнуўшыся, скаціўся ў адхон, у кусты. На чыгунцы — нікога. Праз хвіліну вярнуўся, трымаючы пад пахай напакаваную аманалам калашыну.

— Разграбай пад стыкам... Трэба выбіць калодку.

Спяшаючыся, хвалюючыся, выграблі з-пад рэйкі баласт, ломікам Шура спрытна вывернуў драўляны чурбачок, загнаны пад стык між шпаламі. У ямку палажылі міну. Знізу, у стык між рэек, Шура ўваткнуў звычайны патрон, выняўшы зубамі папяровую затычку. Засыпалі міну сухім баластам.

— Парадак.— Шура выцер рукавом пот, ускочыў на ваганетку.— Дэтанацыя павінна быць. Правяралі. Зазор вялікі, бутэлечка не зваліцца. Прыйдзем вечарам утрох — з Лобікам і Сяргеем. Калі што — з нагана...

Шура таксама хваляваўся. Твар гарэў. Раз-пораз выціраў буйны іскрысты пот...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта быў страшэнны выбух. Ён страсянуў вячэрняе — аколле, глухімі раскатамі пракаціўся па мястэчку.

Міця чакаў выбуху. Сядзеў на ганку, блукаў па двары. Пачало цямнець, а цягнік не ішоў. Ноччу паязды ходзяць не часта. Запалілася адна зорка, другая. Ноч пачыналася сухая, душная, без расы, як і ўчора.

Нарэшце здалёк пачуўся гул. Да будкі поезд цягнуўся страшэнна марудна. Выйшла маці, паклікала вячэраць — адмовіўся.

На станцыі цягнік стаяў доўга. Мабыць, набіраў ваду. Стала зусім цёмна. Немцы ў будцы насупроць пaляглі спаць. Як і ўчора, расхаджваў вартавы, ціха насвістваў. Апошняе цярпенне канчалася. Дрыжалі калені. Тады пачуўся гудок. Сіплы, нібы надтрэснуты. Міця павіс на жардзіне плота, затаіўшы дыханне, чакаў.

Калі раздаўся выбух, Міця паволі адышоўся ад плота. Помслівая радасць, якая на імгненне ахапіла істоту, адразу знікла. На двары суседняй будкі валтузня, крыкі каманды, ляс-

кат зброі. У душы расла трывога. Як там хлопцы? Ці паспелі адбегчыся ад палатна?

На станцыі крычаць, і недзе там, на далёкай будцы, куды з Шурам вазілі трубы, страляюць. Брэшуць сабакі. Міцю скаланула ад страшнай думкі: сляды! У немцаў — сабакі. Можна высачыць след.

Маці, устрывожаная выбухам, зноў выйшла.

— Ідзі ў хату! Хай бацька чорт ведае дзе валэндаецца, дык ён хоць на службе. А табе што трэба? Пятлі на шыю шукаеш?..

Міця ў будку не пайшоў, лёг у хляве, на вышках, але заснуць не мог. Праз шчыліну ў даху блішчыць зорка, дрыжыць, раз-пораз губляючыся. Востра пахне зёлкамі, якія маці развесіла па сценах. На шастку, за сцяной трывожацца куры. Душна, млосна.

Пачуўся гудок, з захаду, збоку, дзе ахоўвае чыгунку бацька, данёсся прыглушаны гул новага цягніка.

Поезд падыходзіў ціха, на малой хуткасці. Мінуў будку, на некалькі хвілін прыпыніўся на станцыі, потым натужна пыхкаючы, ляскаючы буферамі, пакаціўся на ўсход...

Міцю стала крыўдна. Раз бесперашкодна пайшоў цягнік, значыць, яны з Шурам нічога не зрабілі. Усё што некалькі хвілін назад непакоіла, здалося смешным. Немцы нават не заўважылі выбуху. Для прыліку пастралялі, і ўсё.

Толькі пад раніцу забыўся сном — цяжкім, пакутлівым.

## 4

Міця прыйшоў на станцыю, калі брыгада была ўжо ў зборы. Ля перона незвычайны састаў: паравоз спераду, два здвоеныя ззаду, два вагоны пасажырскія, некалькі звычайных вагонаў, платформ і ў галаве эшалона, на платформе — вялізны пад’ёмны кран. Як і ўчора, пуцейцы сядзелі, курылі. Шуры сярод іх не было.

На Міцю ніхто не паглядзеў, ніхто, здаецца, нават не заўважыў яго прыходу. Зноў, як і ноччу, стала трывожна. Нешта здарылася — ён гэта адчуваў. «Няўжо што з Шурам?» — мільганула думка, і ад яе цела напоўніла халодная млявасць.

Стаяў і баяўся паварушыцца, баяўся першы вымавіць слова. На імгненне Міцю здалося, што ўсе ведаюць пра міну, толькі наўмысна хаваюць гэта за насцярожанай абыякавасцю. У яго дрыжалі калені, і ніяк не мог адолець прыкрых, агідных дрыжыкаў.

Незвычайны, рознакаліберны састаў заляскаў буферамі, крануўся. Рушыў на захад. Галаўны паравоз бездапаможна грукаў ззаду — не шыпеў парай і не пыхкаў дымам. Кароткая труба звернута на бок.

Прыйшла радасная здагадка: эшалон усё-такі кульнуўся...

Падышоў Фогель, разгублены, нібы вінаваты. Не мітусіўся, як заўсёды, а нерашуча перамінаўся з нагі на нагу, выціраў пот з лысіны. Нарэшце гучна заявіў:

— Партызан капут! Нашы зольдатэн ісці ў лес, акружаць і бах-бах! — Майстар выцягнуў абедзве рукі, сашчапіў пальцы, паказваючы, як будуць акружаць партызан.

У Міці адлягло ад сэрца.

— А партызаны, пан, з лесу бах-бах,— запярэчыў Гулік.— Іх многа, у іх ёсць стрэльбы.

Майстар, відаць, не зразумеў, бо згодна кіўнуў галавой.

— Партызан швайн, сабак,— развіваў нейкую сваю думку.— Партызан страляйт з-за вугал. Нікс чэсны война.

— Так, так, пан.— Гулік глядзіць на майстра адданымі вачамі.— Страляюць, падлы, спадцішка. Нідзе ад іх не схаваешся.

— Москаў — капут, Ленінград — капут, война — канец, партызан — нікс,— закончыў Фогель.— Ёсць спакойны работа.

Пуцейцы, забраўшы інструмент, рушылі са станцыі. Пачаў накрапваць дождж. Міця глядзіць на кусты — на лісці вісяць празрыстыя кропелькі, на вачах зелянее трава, адмываючыся ад густога пылу, жвір прагна ўбірае ў сябе ваду. Міця спакайнее, радуецца: дождж прыб’е сляды, не застанецца ніякай прычыны для непакою.

Брыгада не дайшла яшчэ да месца, дзе меціцца перашыўка палатна, як дождж лінуў нібы з вядра. Рамонтнікі кінуліся хто куды — шукаць сховішча. Міця з Кардашом абмоклі, але дабеглі да будкі стрэлачніка, схаваліся пад ёй: будка стаіць

на высокіх палях. Кардаш часта дыхае. Над галавой рыпяць масніцы, нехта ў будцы ходзіць.

— Ты чуў? — шэпча Кардаш.— Ноччу цягнік на дзвесце семдзесят трэцім падарваўся. Таму бэсціць Фогель партызан.

— Як падарваўся?

— На міне. Партызаны міну падклалі. Бачыў — рамонтны цягнік на станцыі стаяў. Паравоз зляцеў з рэек, паднялі, а тры вагоны разбіла ў трэскі. Нехта ж і месца выбраў, на крывой якраз.

— А калі гэта было?

— Ноччу. Я выбух чуў, грымнула, аж шыбы задрыжалі. Так і падумаў — зноў цягнік скінулі, як каля Вербіч. Гэта ж яшчэ двух тыдняў не прайшло. Што будзе?

— А што можа быць?

— Як што — Вербічы ж спалілі. Дабяруцца і да нас.

— Не дабяруцца,— упэўнена прамовіў Міця.— У мястэчку поўна немцаў, паліцэйскіх. Што яны, самі сябе спаляць? Самі вінаваты — прамаргалі. Няхай лепш вартуюць.

— Навартуеш. Хіба ты не чуў — на вёскі наехала — немцаў, арыштоўваюць, страляюць, а партызаны тут, пад носам. Кажуць, вялікая сіла ў іх.

— У каго?

— У партызан.

Міця сам здзіўляецца са свайго спакою. Душа кіпіць, крычыць, просяць выйсця незвычайныя словы, але ён стрымлівае сябе. Развага бярэ верх. Ад таго, што Кардаш ні аб чым не здагадваецца, Міця трохі звысака, з адценнем перавагі глядзіць на пажылога пуцейца.

— Немцы не ўзялі рабочых пуці расчышчаць,— працягвае Кардаш.— Не хочуць пагалоскі. У рамонтным цягніку адны немцы.

— Адкуль жа вы ведаеце пра аварыю?

— Хіба схаваеш. Абходчыка дапытвалі. Цэлую ноч трымалі. Выпусцілі пад раніцу.

— Абвінавачваюць абходчыка?

— Хто яго ведае. Пусцілі ж. Там не адзін ён, там і немцы ходзяць.

Дождж лье густымі празрыстымі струменямі. У лужы, якая расплылася ля стрэлачнікавай будкі, скачуць бурбалкі.

Па падмостках, згорбіўшыся, хаваючы галаву ў каўнер, прабег чалавек. Няўклюдна сігаючы праз шпалы, замітусіўся ля стрэлкі.

— Нажылі паноў на шыю,— са злосцю гаворыць Кардаш.— У будцы ж немец сядзіць. Шышка невялікая, сам стрэлачнік. Дык бач, сам не пабег на дождж, пагнаў нашага. Хоць бы плашча даў на плечы. Сядзіць, жарэ сабе булку са шмальцам, а ты скачы пад яго дудку. Вось табе і рабочы клас.

— Немцы баяцца адзін другога,— успомніўшы Шуравы словы, сказаў Міця.— Калі гэты стрэлачнік будзе запанібрата з нашым, то яму самому пападзе.

— Баяцца. Я прыкмячаў сам. Наш Фогель дрыжыць перад начальнікам станцыі, перад жандарамі. У іх калі што не так, то доўга не рассусольваюць. Плясь па мордзе, і каціся,— пуцеец сумна ўсміхнуўся.— Ідзі скардзіцца ў прафсаюз...

— Але ж рабочыя хоць не б'юць.

— Як да чалавека. І рабочыя ёсць такія, што паганяюць панства. Бачыў на станцыі прыбіральню?

Шыльды навесілі. «Для рабочых», «Для немцаў». Паспрабуй, зайдзі ў яго палавіну, то як на цябе той рабочы паглядзіць? А каб з цябе дух выйшаў, падла нямецкая! Якія ўжо там сакрэты ў цябе!..

З усходу да станцыі набліжаецца доўгі паражняк. Перад паравозам павольна коцяцца дзве платформы з баластам. Паравоз пыхкае натужна, нібы вязе гружаны састаў. На тармазах, адкрытых платформах салдаты ў чорных бліскучых накідках, у касках, з аўтаматамі праз шыю.

— Першы за сённяшні дзень,— заўважыў Кардаш.— Баяцца, бач, паражняк пусцілі і платформы з пяском наперадзе. Хітра прыдумалі.

Пачуўся крык. На пуцях адзін пад дажджом вытанцоўвае Фогель, размахваючы кароткімі рукамі. Склікае рабочых.

— Трэба ісці. Гарлапаніць.

Фогель у гумавым плашчы з капюшонам. Мабыць, збегаў на станцыю. Адамчук, пануры і маўклівы, у форменнай даваеннай тужурцы, дыбае ўслед. Пуцейцы вылазяць з-пад штабялёў нехаця — намоклі, нягледзячы на сховішча.

— Пан, трэба спяцоўка,— прыстае да майстра Гулік.

— Нікс спяцоўка. Война.

— Нікс спяцоўка, нікс работа.

— Тады ест сабатаж,— ахвотна тлумачыць немец.— Цябе трэба канцлагер або страляйт.

— За што страляць? Табе ж, бачыш, казна ўсё дае — чаравікі, шынель, шапку. А нам што? Мы ж на вас робім, дык дайце і нам.

— Твой ест доўгі язык. Ты гаворыш палітыка. Можаш сядзець турма.

— Усё турма ды турма,— не здаецца Гулік.— А хто на вас ішачыць будзе? Дзе такога жылаватага знойдзеце? Свет прайдзі, не знойдзеш.

Пуцейцы рагочуць. Адамчук крочыць трохі наперадзе, не ўступаючы ў гаворку. Робіць выгляд, што нічога не чуе. Міцю хочацца зірнуць брыгадзіру ў твар, убачыць на ім замяшанне, злосць, але той ідзе, панурыўшы галаву, не адварочваючыся. Такім Адамчука Міця бачыць упершыню.

— Трэба слушайт загад,— падступіўшы да Гуліка, міралюбна гаворыць майстар.— Мі ест маленькі людзі. Загад ест закон. Мусім жыць па закон. Война. Язык хавайт за зуб. Фэрштэйн?

— Фэрштэйн, фэрштэйн, пан. Цяпер ані пікну. Як рудая мыш. Слова сказаць пацягне, то заткну рот суконкай. Хай на яго немач. Шчэ ў турме насядзішся...

Дождж перастаў. Па небе плывуць калматыя хмары. Церусіцца імжа. У ляску, ля чыгункі, трубіць у ражок пастух. Мокра, няўтульна. Фогель пахаджвае па палатне, нацягнуўшы на галаву, на шапку, капюшон. У чорным плашчы ён падобны на сытага, задаволенага шпака. Адамчук, спаслаўшыся на тэрміновую справу на станцыі, знік. За ўсю раніцу, што прабыў у брыгадзе, ні на каго не павысіў голасу.

Пуцейцы расклалі на адхоне агонь, па чарзе сушацца.

— Падтуліў хвост, як цюцька,— падміргваючы Міцю, усміхаецца Гулік.— Патыліцу чухае — партызаны ж і яму гасцінчык могуць падаслаць. Вось вам, дарагі таварыш майстар, ад чыстага сэрца за тое, што рамантуеце немцам дарогу. Мы, значыць, ірвём яе, шкаматуем, а вы рамантуеце...

— А табе не прышлюць? — пярэчыць Кардаш.— Ці ты, можа, не ў немцаў служыш?

— Я што? Я дзясятая спіца ў калясе. Несвядомы элемент. Беспартыйны, непісьменны. З мяне спрос невялікі.

— Божая авечка.

— Такі, як і ты, дзядзька. У цябе двое дзяцей, у мяне — трое. Тваіх дачок, праўда, можна замуж аддаваць. Шкада — жаніхі забавіліся. А мая пяхота зранку такі хай падымае — уцякай з хаты. Бульбы ім дай, ды яшчэ з малаком. Панскія нейкія дзеці.

— Ва ўсіх дзеці. У Фогеля, што над табой стаіць, думаеш, няма?

— Я нічога не кажу на Фогеля. Думаеш, у Германіі быў вялікай шышкай? Я дапытваўся: рамонтнік, як і мы з табой. Далі шапку з какардай і прыслалі сюды майстрам. Ён і рад: не фронт усё-такі.

Пасля абеду Фогель не вярнуўся. Замест яго прыгрукатаў на ваганетцы Шура. Ён самаўпэўнены, шустры, на твары нельга заўважыць ніякіх перамен. На Міцю зноў не глядзіць.

— Двух чалавек на станцыю. Смаліць шпалы. Майстар загадаў. Пасля работы будзе палучка.

Двое хлопцаў-школьнікаў селі на ваганетку, пакацілі з Шурам на станцыю. Начальства болей ніхто не чакае, і нават тыя, хто яшчэ корпаўся на палатне, кінулі інструмент, згрудзіліся ля агню.

— Мычыпар,— пачаў Гулік.— Кажуць, ты збіраешся ў партызаны? Будзь асцярожны: Фогель, калі пранюхае, то не спусціць.

— Чхаў я на Фогеля,— ваяўніча заяўляе Хадоська.— Ён сам баіцца.

Усе рагочуць — ніхто не чакаў ад Хадоські такой рашучасці.

— А калі пранюхае ўсё-такі, то што ты будзеш рабіць?

— Я яго ломам па галаве.

Гаворка хіліцца ў небяспечны кірунак, двое ці трое пуцейцаў адыходзяцца ад агню, але Гулік не зважае.

— Партызаны — гэта ж бандыты, Мычыпар. Хіба ты не ведаеш? Зловяць цябе немцы, накінуць, як бычку, шворку на шыю і павядуць на вяровачцы. Тады запяеш.

— Не спаймаюць,— фанабэрыцца Хадоська.— Я такія карчы ведаю, што як залезу, ніхто не знойдзе.

— Эге, брахалі, значыць, што ў партызаны збіраешся. Хочаш у карчы. Нагавораць жа людзі.

— Або ў балота зашыюся.

— І Ганку вазьмі з сабой! А то, пакуль будзеш сядзець у балоце, які-небудзь немец да яе падлабуніцца. Што ты думаеш... Ганка — дзеўка смачная, хоць і канапатая. Але ж ноччу не відаць...

Выбухнуў рогат. Хадоська, нібы яго гэта зусім не датычыць, рагоча гучней за ўсіх.

Калі вярталіся на станцыю, Кардаш адстаў, пайшоў поруч з Міцем. Пазіраючы ў зямлю, глуха прамовіў:

— А ўсё ж трэба асцярожней, хлопец. Я, думаеш, не бачыў, як ты кідаў у адхон гаечны ключ? Мяне не бойся, калі што і падсабіць магу. Але ўсякія людзі ёсць. Асцеражней трэба.

Чырвань заліла Міцеў твар, перахапіла дыханне...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

### 1

За Сюзаніным домам агароды дзвюх процілеглых вуліц. Скрозь бульба, па разорах — жоўтыя шапкі сланечнікаў, зялёныя кіяшныя зараслі. Прайшлі дажджы, і ўсё буяе.

На мяжы агародаў — вузкая, зарослая даўгунцом-травой дарога, платы, грушы-дзічкі. Штовечар Міця сядзіць з Сюзанай на плоце, пад старой шыракаверхай дзічкай. Адсюль відаць школа, гмах вадакачкі, усе найбольш прыкметныя, размешчаныя ў гарадку, будынкі.

Міця гэтыя дні адчувае сябе дужым, смелым, ведае і робіць тое, чаго другія не ведаюць і не робяць, таму проста не можа не прыйсці пад грушу, не сядзець да поўначы, абняўшы Сюзану. Калі надыходзіць патрульны час — яна яго гоніць. Але ён не ідзе — хочацца бачыць, як яна хвалюецца. Яму радасна — яна яго беражэ. Хоча яму падабацца — што-

вечар прыходзіць у новых адпрасаваных блузках, якія ён бязлітасна, абнімаючы яе, камечыць.

Груша — сведка. Месяц-сярпок, які ўздымаецца з-за школы, таксама сведка. Ночы зорныя, летнія. Пралятаюць імгненна.

Міцю хочацца, каб Сюзана лічыла яго бясстрашным. Прама ён не гаворыць, але выразна намякае, што слухае савецкае радыё, прымае ўдзел у яшчэ больш небяспечных справах. Сюзана туліцца бліжэй, просіць, каб асцерагаўся. У гэтыя хвіліны яна для яго, як маці.

Адзін раз Міця прыйшоў на спатканне з наганам у кішэні, які выпрасіў у Сяргея. Сюзана спалохалася. Увесь вечар дрыжала. Ён не мог яе супакоіць і пайшоў дамоў раней звычайнага.

Сюзана не бароніцца. Дазваляе сябе абнімаць, цалаваць. Як бы ўся аддаецца пад уладу яго, мужчыны. Ад гэтага Міця поўніцца нязвыклай радасцю. Ноччу, перашмыгваючы вуліцу, каб не нарвацца на патруля, ідучы росным поплавам да будкі, заходзячы ў двор з процілеглага боку, каб не заўважыў паставы ля другой будкі, адчувае, як усё пяе, звініць у душы.

У мястэчку трывожна, сувязі з партызанамі няма. Драгун, да якога Міця нядаўна завітаў, занёсшы гаечныя ключы, загадаў, каб у гэтыя дні ён да яго не паяўляўся. Але, ахмялеўшы ад нязнанага раней шчасця, Міця не зважае ні на што. Сюзана як бы засланіла сабой увесь свет. Толькі пра яе ён цяпер думае.

Па вёсках — немцы, у мястэчку — славакі. Выгрузіліся яны з эшалона тыдзень назад, жывуць у памяшканнях былога ляснога тэхнікума. Мова славакаў — зразумелая, самі простыя, бяскрыўдныя, у зялёных, зусім не падобных на нямецкія, мундзірах і пілотках. З нямецкімі салдатамі мястачковыя дзяўчаты не гуляюць. Калі і ходзяць, то дзве ці тры хлюндры, на якіх паказваюць пальцамі. Са славакамі знаёмяцца некаторыя. Вяртаючыся ад Сюзаны, Міця бачыць, як сям-там на платах сядзяць парачкі. Ён ідзе ў недазволены час, але славакі нічога не хочуць заўважаць.

Пад грушу ў той вечар Сюзана прыйшла ціхая, замаркочаная.

— Не цалуй мяне, Міця. Можаш заразіцца.

Ён не паверыў вушам.

— Ну, укол мне зрабілі. Заразілі воспай-вятранкай. Паляжу два тыдні, і пройдзе. А ў Германію не возьмуць. Я ў спісах. Мар'я Іванаўна папярэдзіла...

Ён як бы ўпаў з неба на зямлю. Не мог прамовіць слова. Якой нікчэмнай, мізэрнай здалася яму ўласная пахвальба апошніх дзён! Чым выхваляўся? Сюзана рызыкуе жыццём, сотні такіх, як яна, павязуць у Германію, у невядомасць. Хто іх абароніць, заступіцца за іх?.. Міця паныла маўчаў, сорам паліў твар.

Сюзана зразумела яго маўчанне па-свойму.

— Не бойся, вятранка слядоў не пакідае. Мама ўкол зрабіла, яна ж фельчар. Мой твар будзе такі самы.

Гулліва павёўшы плячамі, як гэта ўмеюць рабіць толькі дзяўчаты, дадала:

— Ну, а я з табой хачу быць. Толькі з табой. Няўжо ты нічога не разумееш?..

У спісах мог быць Сяргей, але Міця ў той вечар пра яго нават не ўспомніў.

## 2

Апаўдні па галоўнай, доўгай і пыльнай вуліцы мястэчка прамчаліся адна за адной тры машыны — два вялікія, падобныя на крытыя фургоны, грузавікі і легкавая. Прыехала зондэркаманда службы бяспекі на чале з маёрам Гуго Глівіцам. Сам маёр, досыць маладжавы, з вастраватым прыемным тварам, з пенснэ на носе, з-пад якога паблісквалі пранiклівыя шэрыя вочы, адзін на заднім сядзенні чорнага лакіраванага «опель-капітана», які ішоў апошнім.

Як і ўяўляў Гуго Глівіц, мястэчка аказалася звычайнай захалуснай дзіркай. Некалькі соцень драўляных хацін, вуліцы раскіданы як папала, ніводная не замошчана. Два-тры прыстойныя будынкі толькі ў цэнтры. Маёр з сумам паглядваў праз апушчанае шкло. Нічога цікавага вялікая драўляная вёска не абяцала.

Мінуўшы плошчу, машыны звярнулі да белага двухпавярховага будынка школы, дзе знаходзілася жандармерыя, спыніліся. Маёр вылез з кабінкі, лёгкай пружыністай паходкай падаўся да ўвахода, ля якога з аўтаматам на шыі пахаджваў вартавы. Ззаду, чотка адбіваючы крок, ішоў лейтэнант Опус, на галаву вышэйшы за маёра, у цесным для сваёй фігуры мундзіры.

Вахманы — іх чалавек дваццаць — згрудзіліся ля машын, гучна перамаўляюцца.

Хвілін праз дзесяць усё стала на месца. Маёра, вядома, чакалі: усе ведалі, што прыехаў з надзвычайнымі паўнамоцтвамі. У кабінеце начальніка жандармерыі — немаладога шчуплаватага капітана з жоўтым хваравітым тварам, на якім напісаны разгубленасць і страх,— сабраліся начальнік паліцыі, здаравіла гэткага ж росту, як і лейтэнант Опус, і мясцовы бургамістр, які досыць спакойна прывітаў маёра на рэзкім швабскім дыялекце, што выдаваў у ім фольксдойча. Адсутнічаў палкоўнік Зайдэ, камандзір ахоўнага палка на чыгунцы, але маёру растлумачылі, што палкоўнік рад будзе бачыць яго ў сябе. Гуго Глівіц кісла зморшчыўся: разумеў фанабэрыю вайскоўцаў.

— Віноўнікі дыверсій на чыгунцы злоўлены? — рэзка спытаў маёр, звяртаючыся да шэфа жандармерыі.

— Прымаем меры, гер маёр. Гарнізон малы. Галоўным чынам ахоўная служба... Мала людзей...

— Агенты партызан і камуністы вядомы?

— Так, гер маёр. Дакументацыя падрыхтавана. Яўных улік няма. Падазрэнне...

— Мы на дзяржаўнай службе, гер капітан. Павінны дзейнічаць рашуча. У вас дзень у дзень дыверсіі, а вы нічога не робіце.

— Не зусім так, гер маёр. Аперацыя ў Вербічах праведзена ўзорна. Што было ў нашых сілах...

— Гэта не ваша заслуга, дарагі. Вербічы знішчаны карным атрадам СД.

— Жандармерыя і паліцыя прымала пасільны ўдзел, гер маёр...

Гэтая бессэнсоўная размова пачынала нерваваць Гуго Глівіца. Капітан — відаць па ўсім — тыповы паліцэйскі

служака, які прывык падшываць паперку да паперкі, каб апраўдаць кожны крок. У яго пад носам могуць расхаджваць партызаны, ён і пальцам не варухне. Дзіўна, як пры такім начальніку жандармерыі было дагэтуль ціха ў раёне? Павярнуўшыся да бургамістра, стараючыся гаварыць спакойна, маёр спытаў:

— Калі адпраўка рабочай сілы ў Германію?

Высокі насаты фольксдойч адказаў стрымана, захоўваючы ўласны гонар.

— Назначана на нядзелю.

— Колькі адпраўляеце?

— Шэсцьсот чалавек. Гэта першая партыя.

— Узрост, пол?

— Моладзь. Пераважна да дваццаці год. Жаночага полу — чатырыста дваццаць. Астатнія мужчыны.

— Магчымы беспарадкі?

— Думаю, усё будзе спакойна.

Маёр пранікліва зірнуў на бургамістра. У тым, як фольксдойч трымаецца, адказвае, штосьці падкрэслена смелае — якасць, якую не часта сустрэнеш сярод мясцовых акупацыйных адміністратараў. Чалавек гэты нібы наўмысна падкрэслівае, што незалежны ад жандармерыі і нават ад яго, Гуго Глівіца. Усміхнуўшыся, маёр падумаў: «Ідэаліст правінцыяльнага маштабу. Яму, відаць, няўцям, што такое СД...» Услых сказаў:

— Трэба размясціць маіх людзей. Да работы прыступім зараз жа.

— Вызвалены чатыры пакоі, гер маёр,— паспешліва загаварыў жандар.— На другім паверсе. Светлыя, сонечныя. Мы не ведалі, колькі людзей у вашай камандзе. Можна яшчэ вызваліць.

Бургамістр запрасіў да сябе. Зрабіў гэта напышліва, па-старамоднаму, як рабілі некалі добрыя нямецкія бюргеры:

— Вас, гер маёр, і пана лейтэнанта рад буду бачыць у сваім доме. Маю гонар перадаць запрашэнне: ад жонкі.

Адразу павесялеўшы, пакінуўшы халодны, афіцыйны тон, Гюго Глівіц адказаў:

— Дзякую за клопаты, панове. Месца, думаю, дастаткова. Мы будзем спаць па чарзе, бо работы хопіць на дзень і на

ноч. Нічога не папішаш — вайна. Лейтэнанту Опусу асобны пакой тут жа, у жандармерыі. Для карысці справы яму не варта асабліва аддаляцца. Ваша запрашэнне з прыемнасцю прымаю.— Маёр павярнуўся да бургамістра, казырнуў.— А цяпер, панове, я вас не затрымліваю. Мы з панам капітанам параімся...

Бургамістр і начальнік паліцыі, які, відаць, па-нямецку не разумеў і ўвесь час стаяў, вырачыўшы вочы, нібы каменны скіфскі ідал, выйшлі. Следам за імі падаўся і лейтэнант Опус. Размяшчаць каманду — яго абавязак.

Швальбе паклаў перад Гуго Глівіцам папку з паперамі, сам прысеў на ўскрайку крэсла, не зводзіў з маёра падслепаватых слязлівых вачэй.

Маёр не памыліўся, падумаўшы пра начальніка жандармерыі са знявагай. Задрыпаны паліцэйскі служака, так і ёсць. У кожным радку справаздачы асцярожныя, слізкія выразы, перастрахоўка, бясконцыя спасылкі на цяжкасці службы — бездарожжа, няведанне мясцовых умоў, недахоп зброі, надзейных людзей. Звычайны лепет разгубленага чыноўніка, які там, у фатэрляндзе, сачыў за дзеўкамі лёгкіх паводзін, за чорным рынкам, узлётам дзейнасці якога было выкрыццё якой-небудзь патаемнай мылаварні, што збывае прадукцыю па завышанай цане.

Прабегшы вачамі некалькі першых старонак, маёр нахмурыўся. Яшчэ ў сакавіку шэф жандармерыі асмеліўся арыштаваць пяцярых партызан, якія перад прыходам нямецкіх войск былі ў лесе, у знішчальным атрадзе, і склалі зброю толькі тады, калі пераканаліся, што супраціўляцца немагчыма. Аднаго выпусцілі, астатнія ўвесь гэты час сядзяць пад замком, ядуць нямецкі хлеб.

— Чаму не расстраляны? — падняўшы вочы ад папкі, спытаў Гуго Глівіц.

— Яўных доказаў няма, гер маёр. Здаліся добраахвотна. Памагалі разлажыць партызанскі атрад.

— Вы ўпэўнены, што, перабегшы да нас, яны здалі ўсю зброю? Адкуль жа тады новыя партызаны? З чаго страляюць? Можа, кідаюць у вас каменьчыкамі?

— Тут яшчэ ёсць акалічнасці, гер маёр,— ціха загаварыў жандар.— Гэтыя людзі маглі да нас не прыйсці. Прыйшлі таму, што паверылі пану Крамеру, бургамістру. Ён гарантаваў ім жыццё. Я не магу не лічыцца з ім, гер маёр. Чалавек мясцовы, аўтарытэтны. Зрабіў, я ў гэтым пераканаыы, вельмі многа для нас. На працягу восені, зімы і вясны ў нас амаль не было беспарадкаў.

— Вы пераявлічваеце, капітан. Гэта заслуга нямецкай арміі, якая, разграміўшы бальшавіцкія орды, прынесла спакой і парадак.

Жандар спалохана зірнуў на начальніка зондэркаманды, і ад таго не схаваўся гэты трапяткі позірк старых слязлівых вачэй. Гуго Глівіц усміхнуўся, зразумеўшы, што перабраў лішку. Стары баіцца.

— Можаце гаварыць усё, што думаеце, капітан,— прамовіў як мага мякчэй.— Недагаворкі толькі шкодзяць. Мы служым у палітычнай паліцыі.

— Прабачце, гер маёр. Магчыма, я скажу глупства. Да вайны ў палітычнай паліцыі ніколі не служыў. Ведаю крымінальную работу. Тут прыйшлося сутыкнуцца з новай, прызнаюся, зусім незнаёмай абстаноўкай. Бургамістр Крамер, паўтараю, дапамог нам многа. Паверце, я ніколькі не перабольшваю. Можаце сабе ўявіць нашы цяжкасці. Ахоўны батальён тут толькі з вясны. Праўда, зімой нам падкінулі паліцэйскую роту з рэзерву патрульнай службы. Сіл яўна недастаткова. І ўсё-такі ў нас на працягу дзевяці месяцаў было спакойна.

— Што за чалавек гэты бургамістр? — зацікаўлена спытаў Гуго Глівіц.— Мне таксама здалося, што ў ім нешта ёсць.

— Па паходжанню немец. Аднекуль з Прыбалтыкі. Але па выхаванню, па сваіх поглядах на жыццё — тыповы рускі. У бальшавікоў карыстаўся аўтарытэтам і, здаецца, не малым, добры, адменны спецыяліст. Служыў на лесараспрацоўках. І заўважце — вельмі цікавая сітуацыя вынікла, калі сюды прыйшлі мы. Пан Крамер аказаўся як бы паміж двух агнёў. У ім прачнуліся патрыятычныя пачуцці немца, але, з другога боку, ён не хацеў, дый, бадай, не мог — у гэта можна паверыць — псаваць адносіны з мясцовым насельніцтвам. І мне здаецца, што гэта якраз пайшло нам на карысць.

— Цікава, працягвайце.— Маёр адсунуў ад сябе папку, ямчэй усеўся ў крэсле.

— Адыграла сваю ролю тое, што пан Крамер перад намі, немцамі, заўсёды выступае як хадатай супраць рэпрэсій. Насельніцтва гэта ведае, давярае яму, лічыць сваім. Павінен заўважыць, гер маёр, што ў гэтым раёне — не ведаю, як у другіх — аказалася мала антысавецкіх элементаў, такіх людзей, у якіх былі б свае рахункі да бальшавікоў. На каго абаперціся? І вось тут на дапамогу прыйшоў пан Крамер. Ну, а потым мы добра выкарысталі момант разгубленасці, які, вы правільна заўважылі, вынікае з бліскучых перамог нямецкай зброі...

— Калі я вас правільна зразумеў, капітан, вы са сваім бургамістрам ідзяце на кампрамісы. Так?

— Да пэўнай мяжы, гер маёр. Я заявіў яму цвёрда і рашуча, што ўсялякае злачынства супроць нямецкай улады павінна быць пакарана. Тут сярэдзіны не можа быць. Ён згадзіўся.

— Дык чаму ж вы гуляеце ў хованкі з гэтымі партызанамі?

— Фармальна бургамістр мае рацыю. У свой час нямецкае камандаванне дакляравала жыццё ўсім, хто добраахвотна складзе зброю. Пан Крамер і сёння трымае ў шуфлядзе стала гэты дакумент, які год назад расклейваўся на ўсіх слупах. Калі гэтыя пяцёра былі ў лесе, даў чэснае слова, што мы іх не кранем. Таму яны здаліся.

— Вы ёлуп, капітан! — ускіпеў Гуго Глівіц.— Нейкі фольксдойч водзіць за нос шэфа жандармерыі. Гэта ж нечувана! Пастаўце яго на месца! Вакол вас гойсаюць бальшавіцкія банды, пад носам дыверсіі. Вы ўпэўнены, што вашы арыштаваныя не пабягуць заўтра ў лес? Можаце з вашым бургамістрам даць такую гарантыю? Тады, калі ласка, пускайце дамоў іх. Папрасіце яшчэ прабачэння, што затрымалі...

— Усё не так проста, гер маёр,— адводзячы позірк убок, прамармытаў Швальбе.— Пана Крамера падтрымлівае гебітскамісар, сельскагаспадарчая арганізацыя. У іх свае функцыі: раён мусіць здаць дзве тысячы тон хлеба, сотні тон мяса і масла, адправіць у Германію дзве тысячы маладых рабочых. Гебітскамісар лічыць, што пан Крамер бліскуча спраўляецца са сваімі абавязкамі. Прыходзіцца лічыцца з яго аўтарытэтам...

Гуго Глівіц, з першага слова зразумеўшы намёк, зірнуў на жандара з большай павагай,— старому пальца ў рот не кладзі. Палахлівы, слізкі, але не дурань.

— Аўтарытэт СД вам вядомы,— сказаў маёр услых.— Пераступаць закон не дазволена нікому. Загад спаліць Вербічы аддаў сам гебітскамісар. Няхай вам гэта будзе вядома. Гаварыце...

Жандар падняўся, сутулячыся падышоў да жалезнага сейфа, які стаяў за шафай, выняў некалькі паперак. Загаварыў нервова, не гледзячы ў вочы маёру:

— Зразумейце мяне правільна, я не падкопваюся пад аўтарытэт пана бургамістра. Я чым мог яму памагаў. Лічу яго адданым і вельмі нам карысным. Але далей так нельга.

— Кампрамісы,— усміхнуўся маёр.

— Так, кампрамісы. Пану бургамістру здаецца, што ён стварыў тут ідэальнае царства. Але начальнік паліцыі — вы яго бачылі — думае інакш. Пан начальнік паліцыі раіць не верыць нікому з тых, каго пан бургамістр лічыць ледзь не святымі. Не ведаючы абстаноўкі, людзей, цяжка разабрацца адразу. Але ў апошні час я больш схільны падзяляць пункт гледжання пана начальніка паліцыі...

— Хто ён?

— У мінулым, здаецца, канторскі служачы. Да нас прывялі меркаванні кар’еры. Прывязаны моцна: у паліцыю паступіў добраахвотна, прымае асабісты ўдзел у расстрэлах. Мяне пакуль задавальняе: знешнасць імпазантная, дастаткова адукаваны.

— Брудны тып.

— Так, гер маёр. Лепш было б мець справу з чалавекам, які прыйшоў да нас па ідэйных матывах. Але, на жаль, сярод начальнікаў мясцовай паліцыі такога няма ніводнага. Дый пан бургамістр не можа пахваліцца сваімі чыноўнікамі. Як правіла, найбольш адданыя нам людзі або кар’ерысты, або крымінальнікі. Такіх я выдзяляю беспамылкова.

— У свой час мы іх усіх расстраляем,— абыякава сказаў маёр.— Дзеля падтрымання высокага прэстыжу нямецкай улады.

— Вядома, пан маёр.

Гуго Глівіц устаў, прайшоўся з кута ў кут. Прасторны кабінет начальніка жандармерыі захаваў некаторыя бачныя прыкметы школьнага класа. На пафарбаванай падлозе сям-там чарнільныя плямы, на адной з белых плітак кафельнай грубкі выгравіраваныя, відаць, цвіком слупкі алгебраічных формул. Два вялікія жалезныя цвікі ў сцяне — на іх вісела дошка.

Адкінуўшы шчыльную жоўтую штору, маёр зірнуў у акно. З вышыні другога паверха паселішча здаецца прыгажэйшым, чым тады, калі разглядваў яго з машыны. У раскінутых крыж-накрыж вуліцах угадваецца пэўны парадак, зяляніна садоў як бы скрадвае шэры — драўляны хаос.

— Дык што вынюхаў гэты ваш начальнік паліцыі? — рэзка адвярнуўшыся ад акна, спытаў Гуго Глівіц.

— Вось, пан маёр,— жандар працягнуў надрукаваны на адваротным баку квадраціка шпалернай паперы аўсвайс, без фотакарткі, з чарнільнымі адбіткамі вялікіх пальцаў.— Яго знайшлі ў кішэні забітага, якога можна лічыць партызанам. Напаткалі ў лесе, загадалі спыніцца, але ён кінуўся ўцякаць. Подпіс пана Крамера не падроблены, сапраўдны. Чалавек, у якога знайшлі гэта, не апазнаны.

— Думаеце, бургамістр?..

— Не, пан маёр, тут бургамістр толькі ахвяра сваёй празмернай даверлівасці. Такіх аўсвайсаў у раёне сотні, пан Крамер не можа ведаць асабіста ўсіх, каму яны выдаюцца. Я падазраю жанчыну з пашпартнага стала. Устаноўлен нагляд.

— Хто гэтая жанчына?

— Вось тут, пан маёр, усе дадзеныя,— жандар працягнуў маёру новую паперку.— У адной з вёсак знойдзена лістоўка, надрукаваная на машынцы з лясніцтва. Гэта жанчына звязана з рамеснікам па прозвішчу Шэлег. Рамеснік у мінулым актыўны камуніст.

— Вы лічыце, што існуе падпольная бальшавіцкая арганізацыя? — гледзячы ў вочы жандару, глуха спытаў Гуго Глівіц.

— Не, пан маёр, тут такой арганізацыі пакуль няма.— Жандар вытрымаў позірк.— У гэтым я перакананы абсалютна. Але злачынныя элементы могуць арганізавацца. Трэба іх

папярэдзіць. Партызаны ці дыверсанты, разграміўшы гарнізон у Буйках, працягнулі свае шчупальцы і ў мястэчка. Гэтыя трое — іх яўныя агенты.

— Аб савецкім дэсанце, акрамя тых, злоўленых, ёсць звесткі? — спытаў Гуго Глівіц устаючы.

— Ніякіх, пан маёр. Але дыверсіі на чыгунцы — іх справа. Я перакананы.

— Спісы ненадзейных падрыхтаваны?

— Так, пан маёр,— жандар працягнуў тры надрукаваныя на машынцы аркушы паперы.— Тут восемдзесят чалавек з усяго раёна. Доказаў, праўда, мала.

— Гэта не мае значэння, капітан. Хайль Гітлер!..

Стары выцягнуўся ў струнку, стукнуў абцасамі. Гуго Глівіц зірнуў на жандара са змешаным пачуццём зацікаўленасці і знявагі: «хітрая паліцэйская ліса».

## 3

Юрый Басняк апошнія дні адчувае сябе неспакойна. Тое, што за ім пачалі сачыць, цяпер не выклікае сумнення. Высокая, крыху згорбленая постаць паяўляецца ў правулку звечара, ледзь толькі пачынае цямнець. Маячыць перад домам, раз-пораз запыняючыся, гадзіну ці дзве і знікае. Шпік нявопытны, гэта Юрый убачыў адразу. Замест таго каб стаіцца ў падваротні або за чым-небудзь парканам у агародзе, сышчык нібы наўмысна астаецца навідавоку. Ён, відаць, пабойваецца, бо ўвесь час трымае правую руку ў кішэні.

Віжуючы з панадворка за нязграбнымі хітрасцямі паліцэйскага шпіка, Юрый стараецца адагнаць трывожныя думкі, супакойваючы сябе тым, што справа не такая ўжо небяспечная, раз да яго падсылаюць такога няўклюднага ёлупа. Але трывога не пакідае. Вяртаецца ў хату, лашчыць прыціхшую Франю, якая нейкім чыста жаночым чуццём угадвае, што з ім творыцца нядобрае, на яе запытанні адказвае роблена бадзёрым голасам і, лёгшы ў пасцель, дачакаўшыся, пакуль Франя засне, да самага світання варочаецца з боку на бок, думае.

Юрый ведае, каму абавязаны тым, што за ім сочаць. Гэтага дурня Плішчынскага, начальніка паліцыі, пазнаў яшчэ

ў снежні, на першым месяцы свайго знаходжання ў мястэчку. Зрабіў, здаецца, усё неабходнае, каб не трапіць на вочы: на прыпіску ў паліцыю пайшоў, дазнаўшыся, што самога Плішчынскага там няма, набіўшыся да Франі ў кватаранты, не высоўваў з хаты носа па цэлых тыднях, выходзячы з дому толькі ў выпадках выключнай патрэбы, ды і то вечарамі, калі чалавека ў твар не пазнаеш. Зрэшты, ён, Юрый, ад жыцця хоча не шмат — пераседзець дурны час, у горадзе цяпер не пражывеш: там рэзрух, галадуха, наўрад знойдзецца хто з былой бражкі — пазашываліся, як ён, у норы. Але ад лёсу не ўцячэш. У тым вясновым арышце сам ён вінават меней за ўсё. Проста немцы не вельмі давяраюць прымакам — усім гэтым акупацыйным жаніхам, прапіска якім патрэбна толькі да лепшых часоў.

Там, у паліцэйскай каталажцы, здарылася тое, чаго Юрый баяўся. Прыйшлося сутыкнуцца з Плішчынскім. На высокім плячыстым начальніку паліцыі скуранoе, ледзь не да пят, паліто. Твар самаздаволены чырвоны, рухі ўпэўненыя, начальніцкія.

— Дзе я цябе бачыў? — прамовіў Плішчынскі, як толькі Юрыя прывялі ў даўгі змрочны пакой з закратаванымі вокнамі. Паліцай сядзеў на абабітай каляровай тканінай канапе, закінуўшы нагу на нагу, пазіраў прыхільна, добразычліва. Двое з памочнікаў Плішчынскага, што знаходзіліся ў пакоі, таксама з цікавасцю глядзелі на Юрыя.

— Ваш твар мне таксама нібы знаёмы,— адказаў дыпламатычна Юрый, стараючыся выйграць час.

— Экспедытар з Сіліцкага піўзавода?

— Не.

Зірнуўшы на Плішчынскага, твар якога спахмурнеў, Юрый зразумеў — зроблена памылка. Начальнік паліцыі адразу пазнаў яго і прапанаваў гульню, якой Юрый не прыняў. Па нейкіх меркаваннях Плішчынскі, відаць, не хацеў, каб Юрый у прысутнасці сведак назваў месца і абставіны іх знаёмства. Трэба было папраўляць памылку.

— На Сіліцкім піўзаводзе я працаваў не экспедытарам, а нарыхтоўшчыкам.

Паліцаі зарагаталі:

— Півавар усё адно...

Плішчынскі зноў глядзеў прыязна.

— Як трапіў у прымы? Акружэнец?

— Але.

— Чаму не пайшоў у Сілічы?

— Радні там няма. Адзін.

Было прыкрае адчуванне, што, схлусіўшы, як бы ўступіў у змову з Плішчынскім, трапіў да яго ў залежнасць. Але і паліцай быў яму абавязаны. Гэта магло скончыцца і добра, і дрэнна. Юрый спадзяваўся на добрае: у жыцці яму шанцавала.

— Ты — чалавек не мясцовы, таму цябе арыштавалі,— пачаў Плішчынскі, пазіраючы ў акно.— Ёсць нямецкі загад: палонных вярнуць назад у лагеры. Чым ты дакажаш, што не быў у палоне? На акружэнцаў глядзяць гэтак жа. Але я магу паручыцца за цябе. Толькі трэба ісці на службу.

— Куды?

— Ну, хоць бы ў паліцыю. Твая мадама будзе задаволена: добры паёк, вопратка. Служба не цяжкая. Можна аформіць з заўтрашняга дня.

Юрый маўчаў. У ім закіпала злосць. Гэты мазурык, які перад вайной трапіў у лагер за дробную кражу, хоча выставіць сябе яго выратавальнікам. Ён лічыць яго роўным сабе, нават больш таго, хоча зрабіць сваім халуём. Навошта тады ўвесь маскарад? Што ён купіў, згадзіўшыся стаць у вачах двух ёлупаў-паліцаяў піваварам і ў дадатак акружэнцам?..

Разлік Плішчынскага просты: калі ён, Юрый, стане яго падначаленым, то будзе трымаць язык за зубамі. Але менш за ўсё ён збіраецца ў паліцыю. Трэба быць ідыётам, каб за два пуды хлеба і літр спірту ў месяц падстаўляць лоб пад партызанскія кулі.

— Хворы я,— нарэшце адказаў Юрый.— Радыкуліт, востры раматус.

Плішчынскі зноў спахмурнеў, заплыўшыя шэрыя вочы з навісшымі над імі павекамі пазіралі калюча, пранізліва.

— Хвастом круціш? Мала, відаць, цябе вучылі. Немцы на рэнтген не пашлюць, будзь спок. У лагер трапіш і з раматусам. Хутчэй дойдзеш там, от і ўсё.

— Трэба яшчэ даказаць, што я палонны,— з ноткамі пагрозы ў голасе прагаварыў Юрый.— Можа, я зусім не быў у арміі.

Паліцаі пераглянуліся. Твар Плішчынскага наліўся чырванню, закалацілася верхняя, большая губа. Зароў, як шалёны:

— У камеру! Калі так, то я цябе ведаць не ведаю. Беспашпартны валацуга, бандыт! Згніеш, як сабака!..

Двое паліцаяў падхапіліся, і не паспеў ён што-небудзь падумаць, як удар кулаком у сківіцу зваліў з ног. Яго білі, не разбіраючы куды — у жывот, пад дыхавіцу, тапталі ботамі. Крычаў, прасіў літасці — не слухалі. Нарэшце штосьці гарачае апякло галаву, у вачах — шуганула чырвонае полымя, і ён перастаў адчуваць боль. Ачнуўся ў камеры. Чорны валасаты дзед з доўгай, нібы памяло, барадой, адарваўшы рукаў ад сподняй зрэбнай кашулі, клаў яму на галаву прымочкі, штогадзіны прыносіў піць: вада была цёплая, аддавала хлоркай. Зробленая з кансервавай бляшанкі конаўка ў руках старога дрыжала, і прыемныя струменьчыкі цяклі за шыю. Толькі дзён праз пяць устаў на ногі. Балела ў грудзях, кружылася галава.

— Яны табе хацелі пячонкі адбіць,— растлумачыў стары.— Так і робяць, калі што не па іх. Адсадзяць нутро, тады выпускаюць. Чалавек з выгляду нібы жывы, але нутро мёртвае. Доўга па зямлі не паходзіць.

Юрый не хацеў паміраць. Цяпер ён быў згодны на ўсё, каб толькі жыць. У думках ужо дакараў сябе за безразважлівасць. Ён наогул не надта высока ставіў людзей, падазраючы кожнага, з кім сутыкаў яго лёс, у патаемных грахах, брудных схільнасцях, але такое непрыкрытае зверства бачыў упершыню. Тут, у нямецкіх лапах, чалавек значыў не больш, чым муха. Не было нават хісткай бачнасці закону. Сатруць у парашок, зробяць трупам, і ніхто аб табе не ўспомніць. Юрыю стала шкада сябе. Пра Франю не думаў. Два ці тры разы прыносіла перадачы, ён прымаў сціплыя, завязаныя ў хусцінку пакуначкі, прагна накідваўся на яйкі, вяндліну, раздаючы тое, чаго не паспяваў з’есці ў адзін прыхватак сам. Дзяліцца прывык. Па сутнасці, ён ніколі не цаніў тыя даброты жыцця, за якія хапаецца большасць людзей: грошы, маё-

масць, сталае жыхарства, аўтарытэт. Жыў вольнай птушкай, не задумваючыся аб заўтрашнім дні, і жыццё вывозіла.

Юрый ужо разумеў, што павёў сябе з Плішчынскім легкадумна. Тое, што начальнік паліцыі, відаць, таіў сваё знаходжанне ў лагеры за крадзеж, не магло яму асабліва пашкодзіць, калі б дазналіся аб гэтым немцы. Наўрад ці запаўняюць анкеты на тых, хто са шчырай душой ідзе да іх на службу. Дадуць зброю, уладу — трушчы рэбры, бі, страляй — вось і праверка адданасці.

Ёсць іншая прычына, чаму Плішчынскі хоча паказаць сябе ў найлепшым святле. Прычыны Юрый не разумеў. Ён чакаў, што Плішчынскі выкліча яго яшчэ раз — на гэта паказвалі паводзіны паліцаяў, якія абслугоўвалі камеру,— да яго, Юрыя, яны ставіліся лепш, чым да іншых арыштаваных: не гыркалі, не штурхалі, выводзячы на працу.

Старога выпусцілі: яго арыштоўвалі за ўтоены самагон. Камера напоўнілася гэткімі ж, як і Юрый, прымакамі, сялянамі, якім прыпісалі сабатаж ці сувязь з падазронымі элементамі. Трываць стала лягчэй, страх паступова развейваўся. Юрый зноў з пагардай стаў думаць пра Плішчынскага.

Разгадка была простая. Плішчынскі баяўся не немцаў, а гэткіх жа, як і сам ён, паліцаяў, якія мелі меншыя за яго пасады. Сярод іх некалькі кулакоў, рэпрэсіраваных. Уведаўшы, што іх начальнік пацярпеў толькі за тое, што запусціў руку ў казённае дабро, наўрад ці абыякава аднесліся б яны да гэтага. Ва ўсякім выпадку, Плішчынскі, відаць, меў падставы пабойвацца, што хто-небудзь з яго падначаленых можа заявіць правы на яго пасаду. Да такога пераканання Юрый прыйшоў пасля другога допыту.

Плішчынскі на гэты раз быў адзін. Канвойны паліцай упіхнуў Юрыя ў кабінет начальніка і сам зараз жа знік за дзвярамі. Плішчынскі, як і ў першы раз, сядзеў на канапе. Ён, відаць, толькі што зайшоў, бо нават не скінуў свайго скуранога паліто. Электрычная лямпачка, якая вісела пад самай столлю, свяціла бякла, твар цяжка было разгледзець.

— Ну як, адумаўся? — прапітым голасам спытаў Плішчынскі.

— Што думаць — білі дарэмна.

— Наклалі здорава. Але можна дабавіць яшчэ.

— Слухай, начальнік,— адважыўся Юрый.— Быў бы я на тваім месцы, далібог, не так сустракаў бы знаёмых. Што табе абыходзіць — адпусці мяне. Я хворы, не хлушу. Папраўлюся, нагадую жырку — сам прыйду.

— У лес збяжыш, сволач.— Плішчынскі падняўся, ушчыльную падступіў да Юрыя і, пазіраючы некуды ў сцяну, наводмаш ударыў яго кулаком па твары.

Юрый пахіснуўся, з носа пацякла кроў. Зразумеў: Плішчынскі п’яны, прасіць яго аб чым-небудзь няма сэнсу. Але паліцай не адпускаў. Паваліўшыся на канапу, цёр далонямі скроні, мармытаў невыразнае. Так цягнулася некалькі хвілін.

— У мяне няма знаёмых, зразумеў? — загаварыў нарэшце Плішчынскі.— Ні кума, ні свата. Не веру нікому. Сволачы ўсе. І табе не веру. Або пойдзеш да мяне, або згнііеш у лагеры. Двое раскалоліся ўжо. Адбрыкваліся, як і ты, а цяпер служаць. А ты чаго брыкаешся? Ты жулік. Я ведаю. Прыляпіўся да бабы...

— Я не жулік,— не вытрымаў Юрый.— Працаваў на складзе. Загадчыка пасадзілі, ну і мяне разам з ім. У арміі зусім не быў, ты ведаеш.

— Немцы і такіх у лагер заганяюць. Раз не хочаш ісці да мяне, пабяжыш да бандытаў. Я цябе навылет бачу.

— Слухай, начальнік, а што, калі я папрашу пусціць мяне да начальніка жандармерыі? Ты ж гаварыць са мной не хочаш. Паспрабую яму растлумачыць: ад паліцыі не адмаўляюся. Прашу толькі даць месяц ці два для папраўкі здароўя. Да партызан не пабягу. У мяне ёсць прычыны не любіць бальшавікоў. Вядома паліцыі гэта ці не? Мой бацька паравы млын трымаў, быў першым чалавекам на ўсё сяло. Ледзь на Салаўкі не загналі. Уцёк у чым стаяў. Гэта можна праверыць: я нарадзіўся не так далёка адсюль — у Бярэзніках...

— Дык ты, значыць, з куркулёў,— зусім спакойна адзначыў Плішчынскі. Памаўчаўшы з хвіліну, дадаў: — Думаеш, начальнік жандармерыі дасць табе вышэйшую пасаду? Прышле да мяне, не хвалюйся.

Плішчынскі грукнуў кулаком па стале і, калі ў пакой ускочыў паліцай, загадаў яму адвесці Юрыя ў камеру. На развітанне прасіпеў:

— Наконт цябе — праверым. Калі праўда, што ты тут гаварыў, адпусцім. Лячыся, калі такі хворы. Але язык за зубамі трымай. Зарубі на носе.

З гэтай хвіліны Юрый адчуў, што яго жыццё ў адноснай бяспецы. Доля страху яшчэ таілася ў душы, але ўжо ўладна прабівалася пачуццё ўдачы. Хітрасць вывезла, схаваная за просьбай пагроза трапіла ў цэль. Ён цяпер не сумняваўся ў паводзінах Плішчынскага. Не вельмі разумны кар'ерыст, якому надзвычай падабаецца яго пасада. Жарэ, п'е, валочыцца па бабах. Начальнік паліцыі такой раскошы можа дазволіць сабе, колькі захочацца. Дрыжыць за месца, бо адчувае, што асаблівых заслуг перад немцамі няма. Хоча выслужыцца. Але побач, відаць, таксама звяркі з вострымі зубкамі, якія таксама выслужваюцца. У дадзенай сітуацыі ён, Юрый, паступіў правільна. Галоўнае, знайсці шчыліну.

Куды можна ўваткнуць нос. Такую шчыліну ён знайшоў. Плішчынскі баіцца канкурэнцыі, таму не любіць кулакоў і ўсіх тых, хто мае рахункі да савецкай улады. Прычына ясная — могуць апярэдзіць па службовай лесвіцы.

Пачуццё ўнутранай перавагі над Плішчынскім не пакідала Юрыя ўвесь той месяц, які прыйшлося адсядзець, і пасля размовы з п'яным паліцаем. Радаваўся, што ўсё-такі ўдалося застацца ўбаку. Не, што б там ні было, у паліцыю ён не пойдзе. Гэта не для яго. Плішчынскі дурань, цягае для немцаў каштаны з агню. Прыйдзе дзень, і яны самі дадуць яму выспятка пад зад, калі не ўходаюць да таго часу партызаны. Немцы ўлады дзяліць не любяць. Гэтыя жывадзёры прыперлі нездарма. Пра будучае Юрый не згадвае. Неяк усё ўладкуецца, не можа быць, каб не здолеў прыстасавацца.

Ні ў жандармерыю, ні да самога Плішчынскага яго не выклікалі. Больш не націскалі, каб паступаў у паліцыю. Ён і не верыў, што хто-небудзь займаецца высвятленнем яго асобы, начальніку паліцыі не да гэтага. Тое, што яго не выпускалі з каталажкі, тлумачылася проста: Плішчынскі паказваў сілу сваёй улады.

Асабіста да Плішчынскага Юрый не адчувае ні нянавісці, ні вялікай злосці. Вядома, варта было б правучыць нягодніка, які ледзь не адправіў яго да праайцоў, але ў дадзеным

выпадку думаць аб гэтым рана. Не Плішчынскі ў яго руках, а ён у Плішчынскага. У галаве Юрыя ўзнікалі сякія-такія планы помсты, але, адчуваючы іх хісткасць, ён адкідваў іх адразу. На гэтым грунце і зблізіўся з Сяргеем — сімпатычным малакасосам, які верыць, што жыццё мае сэнс. Для Юрыя знаёмства не каштавала вялікіх намаганняў: у камеры ведалі, што яго самога паліцаі збівалі двойчы, і пасля таго, як усцешыў малодшага суседа па нарах, якому ўсыпалі шампалоў, той ахвотна пайшоў на дружбу.

Юрый як бы зайздросціць Сяргею. Хлапчына з тых самых энтузіястаў, што раслі пад мамчынай спадніцай, чыталі кніжачкі, верачы кожнаму слову, якое ў іх напісана. Нібыта тыя людзі, што пішуць кніжкі, самі святыя і не жывуць на грэшнай зямлі. Каб трапіў хто-небудзь з іх сюды, у гэтую каталажку, пакаштаваў паліцэйскіх прысмакаў, тады б Юрый паглядзеў яшчэ, якога Лазара яны запелі б.

Юрый адчувае — у Сяргея з самага таго дня, як вучыўся хадзіць, была правільная, роўная дарожка. Яму, маладзейшаму гадоў на восем, выпала шчаслівейшая латарэя. Юрый усмак не пакаштаваў нічога з таго, што проста дарма трапіла ў рот гэтаму шпаку.

Калі Юрый выхваляўся перад Плішчынскім бацькам, які ўцёк ад Салаўкоў, то гэта была праўда, і надавала яму смеласці ў паліцэйскай камеры. А наогул дзяцінства, бацьку не любіць успамінаць. Нічога прывабнага ўспаміны не нясуць. Продак ягоны, мяркуючы па размаху натуры, быў чалавек з розумам, з хваткай, але ўсё адно эпохі не раскусіў. У вялікім прырэчным сяле Бярэзнікі, вёрст за восемдзесят адсюль, мабыць, і цяпер памятаюць бацьку: у гады нэпа разгарнуўся як мае быць, трымаў, хоць і на паях, не толькі паравы млын, а і крупарушку, ваўначоску, баржамі сплаўляў на Украіну дубовую клёпку, арэхавыя абручы. Тыповы нэпман сельскага маштабу.

Цяжка сказаць, што бацька любіў больш: грошы, якіх у яго на пачатку было, відаць, ніштавата, ці гонар — запрэжаную паркай рысорную таратайку, у якой матляўся з вёскі да вёскі, аглушаючы сустрэчных званкамі пад сіняй дугой, асляпляючы конскай збруяй з панавешанымі бліскучымі бразготкамі.

Зрэшты Юрый мала памятае маленства: хата вечна гула п’янымі галасамі, бацька адзначаў не толькі ўсе вядомыя святы, але, здаецца, выдумліваў і свае, аднекуль прыязджалі кліенты, якія пілі, елі, іншы раз спявалі, а часцей сварыліся.

Маці ён зусім не памятае — памерла, калі яму не было трох год. Маладая вяртлявая мачыха, якую ўжо досыць пажылы бацька прывёў у хату, ніколі яго не біла, не дакарала, але ўсё адно не любіў яе. З мачыхай дзяцей у бацькі не было, ён — адзіны сын — рабіў, што хацеў, гуляў, з кім хацеў. Ля прыстані спыняліся параходы, там паварочвалася процьма народу, і Юрый найбольш прападаў там. Аднойчы, па вясне, прабраўся на баржу і праехаў ледзь не да самага Кіева. Нагляду за ім не было, і таму вучыўся не надта добра, хоць навука і лёгка давалася.

Яму было гадоў чатырнаццаць, калі населі на бацьку. Яго мусілі не то раскулачыць, не то выслаць, але стары не стаў чакаць, напакаваў чамадан і, гледзячы на ноч, рушыў на станцыю, якая ад іхняга сяла вёрст за сорак. З год ад бацькі не было вестак, потым прыйшоў ліст без зваротнага адраса. Распоўзлымі сінімі літарамі бацька паведамляў навіны не надта радасныя — працуе дворнікам у Маскве, кватэры пакуль не мае, жыве ў сутарэнні. Мачыха пасля таго ліста стала апранацца з большай увагай, гадзінамі праседжвала перад люстэркам, а вечарам, з прыбыццём парахода, у шыбу іхняга акна стукалі незнаёмыя мужчыны. Звычайна прыходзілі па адным, прыносілі выпіўку, закуску, аставаліся начаваць.

Юрый пакінуў бацькаву хату і апошні, сёмы, клас школы канчаў, жывучы ў дзядзькі, роднага бацькавага брата. Гэта быў чалавек зусім іншага складу, хоць знешне і падобны на бацьку: стаяў за прылаўкам самай вялікай у сяле крамы, зарабляў добра, але не дазваляў сабе ні чаркі, ні нават іржавага селядца, душачыся бульбай і заціркай.

Дзядзька пасля школы ўладкаваў яго ў саўгас, які тады толькі-толькі пачаў арганізоўвацца. Месяцы тры Юрый пахадзіў з рыдлёўкай — на балоце капалі асушальныя канавы,— а восенню яго, як чалавека пісьменнага, узялі ў кантору.

Дзве прычыны прымусілі ўцячы з саўгаса. Першая — нудная дзядзькава мараль. Дзядзька адкрыта насміхаўся з

бацькі, які, па яго словах, зусім не ўмеў жыць, таму не здолеў вывесці на сапраўдную дарогу адзінага сына. Забіраючы заробак Юрыя да апошняй капейкі, дзядзька ні разу не расшчодрыўся на новую сарочку ці на туфлі, але ўсё ж лічыў, што ў адносінах да Юрыя робіць найвышэйшую дабрачыннасць.

Дзядзькаў хлеб агорк. Але не гэта было самае галоўнае. Заблыталіся адносіны з мачыхай. Атрымалася нечакана, недарэчна, і больш чым што-небудзь іншае, Юрый не любіць пра гэта ўспамінаць. У памяці зялёныя, як у кошкі, вочы мачыхі, якія, здаецца, свяціліся і ноччу, шалёныя абдымкі, бессаромныя п'яныя словы. Ён ненарокам зайшоў у бацькаву хату, каб прачуць што-небудзь пра старога, а выйшаў чорт ведае кім...

Не, ён не абакраў касы, тое, што ўчыніў, можна лічыць не больш чым блазенствам. Вясной атрымаў першую ў сваім жыцці падсправаздачную суму — чатырыста рублёў,— за гэтыя грошы мусіў накупіць у горадзе канцылярскіх прылад. З такой сумай уцёк. Купіў білет да Адэсы, кілаграм конскай каўбасы, новыя чаравікі. Чаму іменна Адэсу выбраў — на гэта і сёння не адказаў бы. Можа, таму, што з малых год аціраўся ля ракі, на прыстані, любіў людскі тлум, раскацістыя гудкі параходаў.

Легкадумнасць вылезла бокам. Там, у славутай Адэсе-маме, зазнаў такога гора, якога каму-небудзь іншаму хапіла б на ўсё жыццё. Здаралася — не еў па некалькі дзён, наймаўся на самую брудную работу, вадзіў знаёмства з барыгамі, краў, збываў крадзенае і, вядома, быў на ўліку ў міліцыі. Так цягнулася болей года. Яго шчасце, што за плячамі была хоць і з горам папалам закончаная сямігодка, ды яшчэ тое, што ні разу не ўліп у мокрую справу, за якую закаталі б куды-небудзь...

Ён такі ў час адумаўся, зразумеў, што без прафесіі ў савецкі час не пражывеш. На работу паслала міліцыя. Кім толькі не быў — мулярам, учотчыкам у рыбалавецкім калгасе, нават два ці тры месяцы служыў статыстам у тэатры. Адтуль пачалася кар'ера. Артыстам не стаў, затое вывучыў электраасвятляльную справу, зрабіўшыся пазней манцёрам. Апошняй прафесіі не мяняў. Штогод, а то і часцей, прыходзілася мяняць гарады. Ён меў выдатную спецыяльнасць, якая поўнасцю ад-

павядала часу: кожнае, нават самае захалуснае паселішча гналася за электрычнасцю, яго — манцёра, электратэхніка,называй як хочаш — прымалі на работу, не вельмі зазіраючы ў пашпарт ці ў працоўную кніжку. Мяняць мясціны жыхарства прымушалі не столькі жыццёвыя абставіны, колькі справы болей далікатныя: кожны, нават самы маленькі гарадок меў дзяўчат, жанчын, сэрцы якіх для яго былі заўсёды раскрыты насцеж. Чары звычайна міналі хутка, услед за імі наступала сумная будзённасць. Жанчыны пасягалі не толькі на пачуццё, але і на свабоду. Звязаць жа сябе па руках і нагах дзе-небудзь у камунальнай кватэры, назваць жонкай Валю альбо Клаву, няхай сабе гэта самі багіні хараства і дабрачыннасці, ён не жадаў.

Месяцаў за шэсць да пачатку вайны здарылася глупства: уладкаваўшыся на склад электраабсталявання ў вялікім горадзе, ён зажыў моцна — электратавары заўсёды дэфіцыт, кола знаёмых, з якімі быў сякі-такі хаўрус, здавалася надзейным. Ён нават падумваў, ці не кінуць у горадзе якар. Падвёў непасрэдны начальнік, загадчык склада, які прыняў на работу. У начальніка свая камерцыя, але хаваць канцы не навучыўся. Накрылі начальніка, перамацалі падначаленых. Юрый атрымаў драбязу, калі мераць начальніцкай меркай: таму закаталі на ўсю катушку, далі поўную дзясятку, а яму, Юрыю, толькі год. Вайну сустрэў у лагеры, непадалёк ад горада, дзе напачатку так хораша пайшло жыццё. Там напаткаў гэтага дурня Плішчынскага, з якім і знаёмы ледзь-ледзь...

Юрый не спіць, чуйна прыслухоўваючыся да кожнага гуку і шолаху на двары. Нервы пачалі здаваць. Рыпне аканіца, а яму здаецца, што на ганку крокі, што за ім прыйшлі. Што Плішчынскаму ад яго трэба? Яго, Юрыя, віны перад ім няма: гэтыя два месяцы, што жыве дома, выйшаўшы з каталажкі, рота не раскрыў, слова нікому не вякнуў наконт начальніка паліцыі. Дамова ёсць дамова. Але таму дурню, відаць, няма спакою, што ён жыве, дыша. Дрыжыць за амбіцыю...

Усе гэтыя бяссонныя ночы Юрыя агортвае балючы жаль да сябе. Што ён добрага ў жыцці бачыў? Цягаўся па свеце, як бяздомны сабака. За ўсе дзесяць гадоў, як збег з сяла, носа туды баяўся паткнуць. А хіба такая вялікая яго віна?.. Зноў

з гэтай мачыхай... Праз дзясятыя рукі на другі ці трэці год блукання да яго дайшлі чуткі, што бацька прыязджаў у сяло, забраў мачыху да сябе ў Маскву. Ён і бацькі не стаў шукаць. Як мог паказацца яму на вочы? А праз што? Праз нікчэмную шалаву, якая сама павісла на шыі, звабіла і, не маргнуўшы вокам, палезла ў пасцель да старога, як толькі зноў яе паманіў. Брыдота, агіднасць...

Побач, у ложку, раскінуўшы рукі, бестурботна пахрапвае Франя, і — млявая, напаўголая — яна ненавісна Юрыю. Таксама лічыць сябе святой. Вінаваты адзін ён — звабіў чысценькую, непрыступную. Іншы раз плача, успамінае мужа... А забыла, як сама падладжвалася: «Вашым нагам, Юрый, холадна, вазьміце шарсцяныя панчохі...» Дрэнь, чым яна лепшая за тых, якіх ён столькі перабачыў? Усе людзі дрэнь, а жыццё — бессэнсоўны кавардак. Кожны гатовы загрызці другога, каб уратаваць уласную шкуру. У гэтым жыцці так: ці ты паедзеш на кім-небудзь, ці ён цябе асядлае. Сярэдзіны няма. Жывуць толькі моцныя і хітрыя. Плішчынскі яго абхітрыў. Іншы раз у Юрыя мільгае думка: пайсці да яго, скарыцца, насунуць на рукаў павязку паліцэйскага. Але і гэта палохае. Плішчынскі надумаўся яго знішчыць. Нездарма наслаў шпіка. Пры першым жа зручным выпадку падапрэ пад кулі. А то і смаляне ў спіну. Сведкі яго ганьбы яму не патрэбны.

Юрый ляжыць, думае — ад думак трашчыць галава — і не знаходзіць выйсця. Папаўся, як птушка ў сіло. Толькі пад раніцу, калі пачынае світаць, забываецца кароткім нервовым сном. Сніцца штосьці страшнае — крычыць, прачынаецца. Страшэнна баліць галава.

## 4

Дзень душны, млосны, сонца як бы спавіта белай плёнкай. Ценю няма, і цяжка вызначыць, каторая гадзіна. Юрый сядзіць у высокім кіяшніку, на агародзе, тут жа стаіць тапчанчык, на ім скамечаная дзяружка, падушка. На тапчанчыку апошнюю ноч спаў, зябка хутаючыся. На душы спакайней: калі наляцяць з паліцыі, то кінуцца спачатку ў хату, а ён тым часам здолее зашыцца далей. Так проста ў рукі не дасца.

Франя прынесла сняданне, цяпер прыйдзе толькі ў абед. Шкада, што не папрасіў прынесці жбанок вады — хочацца піць. Франя замаркочаная, сумная — адчувае, што з ім творыцца нядобрае, хоць і не ведае сапраўднай прычыны. Ад нечага рабіць Юрый стругае ножыкам-складанчыкам дзеравяку, выразаючы на ёй розныя мудрагелістыя ўзоры. Каторая цяпер гадзіна?.. Над галавой паціху гойдаецца шырокае лісце кіяхоў, калі закрыеш вочы,— здаецца, што ляжыш на дне ракі. У кіяшніку цяжкія, устойлівыя пахі, павевы ветру сюды не дасягаюць, пачынае балець галава. Дзеравяка абрыдла — адкідвае прэч.

Кладзецца на тапчан, пазірае ў неба. У абсягу, які святлее над ім, раз-пораз праносяцца ластаўкі. Паблізу зацята ціліўкаюць вераб'і: мабыць, накінуліся на проса. Нясцерпна хочацца піць. Узнікае жаданне: устаць, пайсці ў хату, выпіць два кубкі халоднай, толькі што прынесенай са студні вады, але ён стрымліваецца. Выдаць сябе не штука. Хто можа паручыцца, што на вуліцы няма паліцэйскага ёлупа, які каторы ўжо вечар за ім віжуе. Але прагу і страхам не прагоніш: Юрый злазіць з тапчана, разорай на карачках паўзе на край грады. Падпаўзае да паркана, не ўстаючы, глядзіць праз шчыліну ў двор: па ім мандруюць куры; звонячы вёдрамі, ідзе суседка. Каб не гэты пракляты камунальны двор, які належыць адразу тром гаспадарам, можна было б паклікаць Франю. А так — сцісні зубы і не дыш. Хто дасць гарантыю, што за яго кватэрай не назірае хоць бы гэтая суседка? Завельмі разбегалася.

Паўзе назад у схovішча. Побач з кукурузай градка памідораў — кволыя, яшчэ зялёныя. Ірве іх, не шкадуючы націны, набівае поўныя кішэні. Пачынае жаваць і адразу выплёўвае. У роце горка. Выкідвае астатнія далей у кіяшнік.

Прылёг на тапчане, нечакана для сябе гэтак моцна заснуў, што не пачуў, як падышла Франя.

— Сяргей у хаце,— спалохана гаворыць яна, тармошачы яго за плячо.

Ён ускаквае: баліць галава, як бы і не спаў.

— Гані! Валэндаюцца ўсялякія... Скажы, пайшоў...

— Гаворыць, што хоча сказаць табе важнае. Што цябе датычыцца...

Заныла ў грудзях, агарнуў халодны сум. «Вось яно. Пачынаецца...»

— Ты глядзела — на вуліцы нікога?

— Здаецца, нікога.

— Скажы, хай прабярэцца да мяне. Толькі не дваром. Агародамі. Яму ўсё адно. Пакажы праз акно, дзе сяджу.

Тыя хвіліны, калі чакаў Сяргея, здаліся доўгімі-доўгімі. Нібы прайшла вечнасць. У думках паспеў перабраць усё самае страшнае, што ён мог сказаць. Пачуўшы шасценне ў кіяхах, слабым, зняможаным голасам пазваў да сябе.

Сяргей задыханы, узрушаны: пад вачамі сінякі, губы сцятыя, на твары — выраз рашучасці. Прысеў на край тапчана, адразу загаварыў:

— Хаваешся?.. Правільна робіш. Мне павестка ў Германію, Вілюгу таксама. За табой і мной сочаць. Я ўчора вечарам хацеў зайсці. Бачу — пад варотамі фігура. Той самы шпік, што і каля майго дома. Я пазнаў яго. Паліцай, якога зімой партызаны навылет прашылі. Недабітая сволач. Цяпер тайным агентам. Блізка ля мяне жыве...

Узнікла здагадка — яркая, імгненная, як успышка электрычнай іскры, працяла наскрозь нечаканай радасцю. «Значыць, малакасос навёў, Плішчынскі тут ні пры чым. Тады парадак, нічога страшнага...» Радасць ірвалася з грудзей, стала лягчэй дыхаць, але, разумеючы стан свайго субяседніка, стараўся не выдаць сябе. Спытаў заклапочана:

— Дык што рабіць? Выходзіць, засеклі?

Сяргей здзіўлена ўскінуў бровы. Ноткі разгубленасці, якія прагучалі ў голасе Юрыя, не прайшлі міма яго ўвагі. Таму загаварыў злосна, не тоячы здзіўлення:

— Ты як бы толькі сёння на свет нарадзіўся. У лес трэба ісці. Хопіць сядзець. СД прыехала. Нават тых, што на немцаў працуюць, арыштоўваюць. Цябе тым болей не мінуць. Старшы лейтэнант, ад паліцыі адмовіўся. Калі схопяць цяпер — не выпусцяць...

— А з чым пойдзеш? З дуляй у кішэні?

Сяргей болей не мог трываць. Не паспеў Юрый міргнуць вокам, як з-пад крыса шэрага пінжачка, з-за пояса штаноў выхапіў новенькі наган. Бліснула варанёная сталь, шчоўкнуў курок самаўзвода.

— А гэта не зброя? Сем паліцаяў кокнем, вось табе сем вінтовак.

Але Сяргей і на гэты раз заўважыў, што радасці на твары Юрыя не адбілася. Наадварот, твар яго пабялеў, спалохана заторгаліся вейкі. З хвіліну маўчаў, потым хрыпла загаварыў:

— Што партызаны? Што яны адны могуць зрабіць? Прыціснуць немцы — юшка пацячэ. Фронт цяпер самае галоўнае. А дзе фронт? Драпаюць бальшавічкі. Так драпаюць, што свет не бачыў.

— Дык ты што, у кусты? — У Сяргея пахаладзела ў грудзях ад нядобрага прадчування.— Можа, табе сапраўды лепш у паліцыю паступіць? Туды якраз такія і ідуць... З такімі настроямі. Навошта было агарод гарадзіць? Мне хлопцы гаварылі, папярэджвалі. Не верыў. Думаў — чалавек ты...

Сяргей адразу асекся, зразумеўшы, што сказаў лішняе. Стаяў пабялелы, узбуджаны, дрыжалі рукі, калені, нядобра паблісквалі вочы.

Юрый, седзячы на тапчане, не падымаў галавы. Першая ўспышка радасці мінула, цяпер зноў яго ўладна агарнуў страх. Марудна, але няўхільна, праз сумятню пачуццяў прабівалася думка: «Як рыба ў нераце... Ні ўзад ні ўперад...» Адчуваў, што трэба нешта гаварыць, але страх звязваў язык. Баяўся цяпер не Плішчынскага, не нямецкай жандармерыі, не гэтага нават СД, якое прыехала і хапае каго папала. Яны пра яго нічога не ведаюць і нічога благога не могуць зрабіць. Небяспека тоіцца ў гэтым камсамольцы, з якім ён так легкадумна, недарэчна звязаўся. Навошта? Адпомсціць Плішчынскаму? Цяпер гэта здавалася блазенствам, дзіцячай гульнёй. І за гэта трэба плаціць галавой. Заўтра ці нават сёння камсамольца схопяць, схопяць і яго, Юрыя. Пятлі або кулі не мінеш. Калі камсамольцу ўдасца збегчы ў лес, тое самае будзе. Паліцыя высачыла, што ён завітваў сюды, у яго дом, і гэтага дастаткова. Плішчынскі толькі ўзрадуецца. Лепшыя козыры яму і не сніліся...

Юрый абвяў, абмяк, цела пакрылася ліпкім потам.

Хацелася зменшыцца, зрабіцца маленькім, непрыкметным, забіцца ў якую-небудзь шчыліну, каб ніхто яго не чуў, не бачыў.

— Дык што збіраешся рабіць? — гучна спытаў Сяргей.

— Цішэй ты. Можа, стаіць той самы...

— Проста не зразумееш цябе,— загаварыў Сяргей зноў, знізіўшы голас.— Які сэнс тут сядзець? Знойдуць, плата адна... Ад немцаў жа хаваешся?..

«Ён праўду гаворыць,— варухнулася думка.— Калі выцягнуць адсюль,— капцы... Чым дакажаш, што не хаваўся...» Услед за гэтай халоднай і непрыемнай думкай нарадзілася другая, якая як бы несла надзею, давала выйсце: «Зашыцца куды-небудзь глыбей. Каб сам д'ябал нагу зламаў. На якое мне ліха гэтае мястэчка, Плішчынскі?.. Трэба туды, дзе ніхто не ведае. І зараз жа».

Ён прыўзняў галаву, выпрастаў плечы. Прыйшло пачуццё ўпэўненасці — яно прыходзіла заўсёды, калі ён на што-небудзь рашаўся. Спытаў амаль бадзёра, з унутранай палёгкай:

— Ты ў лес калі?

— Трэба заўтра.

— Калі ісці, то сёння. Зараз жа. Чуў, што кажуць пра адклад? Давай проста адсюль...

Сяргей зірнуў на яго здзіўлена. На твары як бы прамільгнуў цень недаверу і адразу знік. Яму стала сорамна за рэзкія злосныя словы, хацелася сказаць Юрыю што-небудзь цёплае, удзячнае.

— Ты прабач... Я пра цябе дрэнна падумаў. Заўтра пойдзем. Мне трэба хлопцаў папярэдзіць. Вілюга з намі пойдзе. Перачакай ноч. Хованка добрая, не здагадаецца ніхто. Я прыйду заўтра.

Прыгнуўшыся, разводзячы рукамі сцябліны кіяхоў, Сяргей падаўся ў бок агародаў, але праз хвіліну вярнуўся, загаварыў горача, даверліва:

— Ты не вер, што немцы пра фронт пішуць. Хлусня. Нашы вернуцца. Радыё хлопцы слухалі — савецкае. На кожным кіламетры фашыстаў тысячамі кладуць. Пад Ржэвам наступаюць. Не сорак першы год, не думай...

Франя ў павязанай па самыя бровы хусцінцы прынесла абед, вінавата на яе зірнуўшы, апусціўшы вочы, Сяргей падаўся прэч.

Есці не хацелася. Юрый папрасіў піць, Франя схадзіла ў хату, залішне доўга там кошкалася, вярнулася з поўным

чайнікам. Прысела ля тапчана, адвярнуўшыся ад Юрыя. І ён убачыў, што ў яе ўздрыгваюць плечы — плача.

— Перастань... Тут без цябе хоць вешайся.

Яна ўстала, нават не зірнуўшы на яго, пайшла. «Адчувае,— прамільгнула думка.— Баба заўсёды адчувае, нутром...» Яму стала шкада яе. Варухнулася цёплае да яе пачуццё. «Любіць... З механікам, відаць, не соладка жыла...»

Чорным мядзведзем зноў навалілася самота. Некалькі хвілін назад, калі побач сядзеў Сяргей, уцёкі з мястэчка здаваліся выйсцем. Цяпер ён не хацеў пра гэта думаць. Паспрабаваў сабе ўявіць, як будзе блукаць па лесе, начаваць пад карчамі, і не змог. Паўставала халодная пустата, яна нічога не абяцала, не вабіла. У пачуццях, інстынкце Юрый не знаходзіў ніякай апоры толькі што дадзенай абяцанцы пайсці ў лес.

Лёг на тапчан, закрыў вочы, прыціснуў далоні да скроняў. Галава як не раскалваецца ад болю. У вачах мігцяць рознакаляровыя істужкі — чырвоныя, жоўтыя, зялёныя. Мітусяцца, звіваючыся, як змеі. Потым змяняюцца пярэстымі кругамі. Адчувае, што ляціць у прорву.

Рука пацягнулася да чайніка, доўга, не аддыхваючыся, піў. Цела пакрылася ліпкім потам.

Узлез на тапчан, супакоіўся. Прыйшоў жаль да сябе... Хацелася плакаць, хацелася, каб побач прысеў хтосьці моцны, дужы, гладзіў, як малога, па галаве, суцяшаў. Але адчуваў — чакаць некага. Няма на свеце ніводнага чалавека, хто б яму цяпер паспачуваў. Усе нечага ад яго патрабуюць, збіваюць на свой троп, стоена або яўна пагражаюць. За што? Што благое ён каму зрабіў? За якія грахі павінен бадзяцца па лесе? Малакасос заблытаўся сам, цяпер хоча яму насунуць пятлю на шыю. Шпіка хто навёў?

Думка гэтая — аб сваёй невінаватасці — спадабалася Юрыю, і ён ухапіўся за яе, як хапаецца той, хто тоне, за ўсё, што трапляе пад руку. Нахлынула злосць, твар Сяргея — адкрыты, даверлівы — здаўся ненавісным, і Юрый нагнятаў у сабе злосць і нянавісць, сам пачынаючы верыць, што яго пакуты з-за гэтага хлопца. «Пакутую праз другіх»,— усплыла думка. Яна была як адкрыццё, і ён узрадаваўся ёй.

Імгненна ў памяці паўсталі людзі, так або інакш вінаватыя перад ім, Юрыем. Адзін успамін цягнуў за сабой другі. Ён нават настроіўся на іранічны лад, успамінаючы ўсіх, хто меў дачыненне да яго лёсу. Бацька любіў пафарсіць, але адзінага сына не зберог. Два гады вестак не падаваў. На каго сына пакінуў? Шкуру сваю радзіцель ратаваў — простая геаметрыя... Мачыха — хлюндра, ёй абы патрапаць хвост... Не варта ўспамінаць... Дзядзька — жываглот. Брэшуць пра родную кроў. Чужыя што? Не горш сваіх, калі свае адвярнуліся... Рай і пекла... Выдумкі. Папы тыя ж артысты... Усе людзі артысты. Іграюць ролі... Хто горш, хто лепш... Адэса — мама... Кіеў — бацька гарадоў рускіх... Глупства ўсё. Ёсць чалавек, і ён хоча жыць. Усюды адно... Заўсёды было так...

Памяць ліхаманкава ўваскрашала твары, постаці, жэсты, усплывалі і знікалі абрыўкі думак, далёкія, напаўзабытыя крыўды, а праз увесь гэты хаос настойліва пралівалася радаснае ўсведамленне таго, што ён, Юрый, не вінават, што яму на кожным кроку падстаўлялі ножку другія — аблытвалі, абкручвалі, выдавалі чорнае за белае. Ён заўсёды пакутаваў з-за другіх — мяняў гарады, кідаў набытак, уцякаючы куды вочы глядзяць, нарэшце, сядзеў за дротам. Што людзям ад яго трэба? Чаму ён не можа жыць, як хоча?

Ён падняўся з тапчана і, не прыгінаючыся, пайшоў у двор. Ён ужо ведаў, што зробіць. Калі гэтага камсамольца схопяць, яму, Юрыю, бяды не мінуць. Калі ўцячэ ў лес, тое самае будзе. Шпік нездарма віжуе. Сярэдзіны няма. Камсамолец сам выкапаў сабе яму. Загіне так або інакш. Трэба ісці, расказаць. Вядома, з розумам і не Плішчынскаму. Лепш мець справу з гаспадаром, чым з яго халуём.

Ён узышоў на ганак, азірнуўся. У надвячоркавай млявасці застылі агароды, сады, сасновы курган могільніка. На міг ім авалодала сумненне, але на адзін толькі міг. Яно змянілася нянавісцю — лютай, пякучай, яна давала сілы, уздымала ва ўласных вачах. У гэтую хвіліну ён ненавідзеў усіх — Плішчынскага, немцаў, Сяргея, Франю, усіх, з кім калі-небудзь прыходзілася яму сутыкнуцца.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

### 1

Міця прачнуўся, ахоплены смутнай трывогай. Адам, які спаў разам з ім у хлеўчуку, падхапіўся таксама, трэ скарчанелыя анучы, абувае лапці. Вучыцца на шаўца, а ходзіць у лапцях. Варухнуўся жаль да меншага брата, якога апошні год нібы не заўважаў.

— Вазьмі мае чаравікі. Што летась купілі. Мне цесныя.

— Не трэба.— Адам незалежна шмаргануў носам.— Я сабе хутка сам пашыю.

Маці ў агародчыку выбірае ў прыпол агуркі. Захацелася і ёй сказаць што-небудзь ласкавае, добрае. Колькі паплакала з-за яго! Схуднела маці, пастарэла. Валасы напалавіну сівыя, апранаецца абы-як — толькі пра іх, дзяцей, і думае. Зашчымеў у грудзях боль. Навошта крыўдзіў маці? Мог жа хоць раз пагаварыць як чалавек, супакоіць.

— Я, мама, сёння раней прыйду. Буду гліну вазіць.

Ласкава зірнула, пайшла ў хату, паставіла на стол гладышак з малаком.

— Памажы бацьку, сынок. Ён ужэ з сіл выбіўся.

На станцыі паравоз набірае ваду. Вялізны састаў з пульманаўскіх вагонаў. На тэндары немец-качагар у зашмальцаванай шапцы брылём назад. Пуцейцы сядзяць на штабелі шпал ля паваротнага круга, кураць.

Міця прывітаўся — адказаў адзін Кардаш. Падышоў Адамчук — твар у яго шэры, разгублены. Загадаў мяняць шпалы на дзвесце шэсцьдзясят восьмым кіламетры. Трэба ісці назад, гэта за будкай, у якой жыве Міця.

Ля цэйхаўза, цаглянага склепа, дзе складзен інструмент, стаіць Фогель, мармыча пад нос: «Драйцэн, фірцэн...» — «Як жывёлу лічыць»,— варухнулася думка.

За станцыяй Кардаш, параўняўшыся з Міцем, паведаміў:

— На маё выйшла. Прыехала СД, хапаюць. Чалавек дваццаць узялі.

«Чаму не едзе Шура? — падумалася з трывогай.— Павінен шпалы вазіць...»

Мінулі першы пераезд. Ля парэнчаў, побач з паліцэйскім, тоўсты немец-жандар з акулярамі на носе. Трымае ля нагі карабін. Гэта ўпершыню. Раней на пераездзе паліцай стаяў адзін. Перад жандарам Фогель узяў пад казырок.

Міця сябе ловіць на новым адчуванні — сёння прыкмячае, бачыць, як ніколі. Звяртае ўвагу на кожную драбязу. Па шляху праехала фурманка, задняе правае кола віхляе, лейцы ў дзядзькі вераўчаныя, з вузламі.

Нехта закінуў на тэлеграфны дрот папяровага змея — вісіць, зачапіўшыся канапляным хвастом. Копка сена на пралёце ад дажджу прыкрыта лістом іржавай бляхі.

Вось і яго, Міцеў, пераезд, сасна, будка, агароджаны штакетнікам двор. Ля паркана кусты дзікай ружы, агрэсту, ажыны. На вільчаку хлява драўляны прапелерчык, яго прыбіў Пятрусь яшчэ вясной. Маці расчыніла акно, рама паціху гойдаецца. Як бы развітваецца з усім гэтым Міця — на душы трывожна, самотна. Усё, што акаляе пераезд,— парослая асіннікам лагчынка, пясчаны шлях, палявая дарога, лес удалечыні — такое знаёмае, блізкае, што, заплюшчыўшы вочы, мог бы пералічыць усе найдрабнейшыя прадметы ў абсягу вярсты ці дзвюх.

На ўсім адбітак смутку. Дзень млявы, сонца за нябачным полагам белых хмарак. Мястэчка патанула ў прысадах, ахуталася трапяткой смугой — малюнак расплываецца. Толькі белы гмах школы выдзяляецца на фоне разамлелага цемнаватага зялёніва.

Зрэшты, гэта падман зроку, што пераезд ранейшы. Тая, другая будка, у якой цяпер немцы, як незнаёмая. Міця не можа прызвычаіцца да перамен, якія прынеслі салдаты-ахоўнікі. Абкладзены пажаўцелым дзёрнам дзот з чатырма вузкімі амбразурамі-байніцамі, слуп з прыбітым рукамыйнікам, драўляныя козлы, на якіх немцы пілуюць дровы, чорны закурэлы кацёл на цагляным падмурку — усё чужое, чужое...

Шура не ехаў — шпал не было. Пуцейцы пакідалі інструменты, паселі на броўцы. Фогель не сеў, прыгнуўшыся бегаў па палатне, памячаў крэйдай шпалы, якія трэба мяняць.

— Мычыпар,— пачаў Гулік.— Ты сёння ноччу нічога не чуў?

— Што я пачую? — азваўся Хадоська.— Я спаў.

— Гэтак ты Царства Нябеснае праспіш. Ганка твая ноччу крычала.

— Чаго ёй крычаць?

— Як чаго? Паліцэйскія да каменданта валаклі.

— Гы-гы-гы! Ноччу да каменданта...

— Праўда, Мычыпар. Ганка яму спадабалася. Хоча ў Германію на выстаўку паслаць. У Германіі няма такіх як Ганка...

Жарт не развесяліў. Падышоў Фогель, узняўшы рукі ўгору, два разы ляснуў растапыранымі далонямі:

— Цванцыг. Работа ніхт філь. Да адзін абед, потым — на станцыя.

— Не зробім, пан,— Кардаш устаў.— Яшчэ і шпал не прывезлі.

— Шпала будэт. Зофорт.

З захаду набліжаўся цягнік. Пуцейцы падняліся, калі ён быў метраў за сто. Эшалон пранёсся, не замаруджваючы ходу, аглушаючы прарэзлівым гудком. Пад цяжкімі коламі ўгіналіся рэйкі, асядалі шпалы, на кожным тормазе салдат з перавешаным праз шыю аўтаматам, у апошнім вагоне дзверы расчынены — салдаты сядзяць на лаўцы, адзін малады іграе на губным гармоніку.

З-за грукату цягніка Міця не пачуў, як пад’ехаў Шура. На ваганетцы побач з ім Адамчук. Пераапрануўся ў зашмальцаваную спяцоўку, цяпер нічым не адрозніваецца ад рабочага.

Шура ўстрывожаны — адразу кінулася ў вочы. Не зважаючы на прысутнасць Адамчука і Фогеля, падышоў да Міці, ціха шапнуў:

— Сяргея арыштавалі. Учора вечарам. Наган знайшлі.

Пахаладзела ў грудзях. Пазаўчора, так, пазаўчора Міця бачыўся з Сяргеем. Зазірнуў да Лобіка, яго дома не было — жыве цяпер у дзеда, тады зайшоў да Сяргея. Увесь вечар туды-назад хадзілі па Вакзальнай вуліцы.

Міця не заўважыў, калі Шура ад’ехаў. Праз гадзіну ці болей, калі на палатне замаячыла постаць паліцая, зразумеў — ідзе па яго...

## 2

Паліцай, шмаргануўшы Міцю за рукаў, спыніў перад настаўніцкай. Прыадчыніўшы дзверы, прасунуўшы галаву ў пакой, спытаў штосьці, потым, павярнуўшыся да Міці, сурова загадаў:

— Стой тут, пакуль не выклічуць!

У школьным калідоры мітусня. Бегаюць немцы: мястэчковыя ў блакітных жандарскіх мундзірах, у чорных, эсэсаўскіх — прыезджыя. Паліцаі з белымі павязкамі на рукавах ходзяць бокам, пужліва азіраюцца, ціснуцца да сцяны, даючы праход эсэсаўцам. Грукаюць дзверы, зычна разносіцца прарэзлівая нямецкая гаворка.

Там, дзе была раздзявалка, дзве пірамідкі вінтовак, на падлозе — ручны кулямёт. На класных дзвярах выведзеныя крэйдай нямецкія словы. Міця паспеў разабраць толькі адно — «Kanzlei» — на дзвярах першага ад увахода класа. Здагадаўся — «Канцылярыя».

У настаўніцкай, перад якой стаіць Міця, размаўляюць. Галасы прыглушаныя, спакойныя. Раптам нехта як бы валіцца на падлогу, раздаюцца глухія метадычныя ўдары, здаецца — малоцяць цапамі, і ўслед за гэтым немы, роспачны крык. «Б'юць,— даходзіць да свядомасці.— Вось ён, фашызм...» Крык на імгненне сціхае, потым пачынаецца зноў — яшчэ больш прарэзлівы, нечалавечы. Нервы ў Міці напяты, увесь ён, як нацягнутая струна. За адзін міг перад мысленным позіркам як бы праносіцца ўсё жыццё. «Другім я не мог быць,— супакойвае ўнутраны голас.— Толькі такім, як ёсць. Усё правільна. Так павінна быць...»

Чалавек крычыць. Удары частыя, таропкія. Міця разумее, што з таго імгнення, калі пачуў гэты крык, прайшло нямнога часу, самае большае хвіліна. Але час нібы спыніўся. Вымяраецца цяпер толькі гэтым нечалавечым крыкам, чужым болем.

Страху няма. Таго жыцця, якое Міця ведаў, пакуль не пераступіў парога школы, дзе цяпер немцы, таксама няма. Яно як бы знікла ў тумане, і не трэба яго ўспамінаць. «Страх ад няпэўнасці,— варушыцца думка.— Калі ведаеш, што з табой будзе, не так страшна...»

За дзвярамі ў настаўніцкай малоцяць. На хвіліну ўсё сціхае, чуваць настойлівыя зычныя галасы — пра нешта пытаюць. Потым чалавек ускрыквае яшчэ гучней, прарэзлівей, гэта не крык нават, а выццё. Слухаць немагчыма. Пачынае кружыцца галава. Здаецца, яшчэ імгненне і Міця не вытрымае, упадзе ў чорную бездань беспамяцця або кінецца ўцякаць. Няхай лепш застрэляць, задушаць, абы не слухаць. Але стаіць, не ўцякае. Нібы іскра ў свядомасці ўспыхвае: «Можа, яны спецыяльна мяне тут паставілі. Каб запалохаць, зламаць... Можа, там, у настаўніцкай Сяргей... Ён жа нічога не гаворыць, толькі крычыць...»

Па калідоры снеўдаюць немцы, паліцаі. Яны, здаецца, не звяртаюць увагі на нечалавечы гэты крык. Кураць, перамаўляюцца. На тварах выгляд бестурботнасці. Нібы адбываецца самае звычайнае. Прывялі яшчэ дваіх — высокага мужчыну з хлапчуком, піхнулі ў той пакой, дзе канцылярыя. На двары зароў матор, залапаталі немцы. У калідоры пахне карболкай. Відаць, каб вытруціць іншыя пахі.

Шалёны, дзікі ўскрык паласнуў як брытвай. У ім нешта жывёльнае, жудаснае. Чалавек так крычаць не можа. Такое можа прысніцца на адзін міг, і, ахоплены містычным жахам, прачынаешся. І ў сне нельга вытрымаць. Спадыспаду душы падымаецца штосьці цёмнае, халоднае, туманіць галаву. Думкі блытаюцца. Міця крута паварочваецца, робіць некалькі крокаў наперад, да выхада, потым варочаецца назад. Галоўнае — не згубіць арыентацыі, дзе знаходзішся. Шукае знаёмыя прыкметы, каб упэўніцца, што ён у школьным калідоры. Так, гэта школа. Тыя самыя класы, толькі з нямецкімі надпісамі на дзвярах; панэль сцяны, сям-там аблупленыя, тыя ж вокны, на якіх цяпер жалезныя краты. За вокнамі рог вуліцы, фасад клуба, маладыя таполі. Калі іх садзілі, ён быў тады ў восьмым класе. За год да вайны, да немцаў. Няўжо прамінула ўсяго два гады?..

У памяці зусім недарэчы радкі:

Шепот, робкое дыханье,
Трели соловья...

Чаму гэта ўспомнілася?

Хто напісаў, навошта? Фет, Цютчаў?.. Пад таполямі лавачка, дзесяцікласнікі перад выпускным вечарам ігралі на гітары. Дзяўчаты ў белых сукенках, Сюзана... Глупства! Нічога не было. Не павінна было быць... Фашысты і тады былі... Іспанія, Гвадалахара. Чыталі ў газетах... Не верылі. Можа, і верылі, але самі сябе супакойвалі. Думалі — сядзяць за каменнай сцяной. Не варта ўспамінаць. Расслабляе. Ёсць фашысты, яны б'юць чалавека. І ўсё...

У настаўніцкай нязвыклая цішыня. Ніхто не падае голасу. Чуваць усплёск вады. Відаць, той, каго білі, страціў прытомнасць. Цяпер адліваюць. Гэта добра, што ён непрытомны. Нічога не скажа. Не будуць болей біць. Тоненькі ручаёк плыве з-пад дзвярэй. Можа, гэта не вада, а кроў?.. Тады чалавека забілі... То быў перадсмяротны крык... Лепш памерці, чым так пакутаваць. Не, гэта ўсё-такі вада, а не кроў. Кроў чарнейшая.

Чалавек жывы. Ён толькі сарваў голас. Ужо не крычыць, а глуха стогне. Тыя, што б'юць, відаць, змарыліся — крычаць самі. Прыадчыняюцца дзверы, высоўваецца валасатая рука, варушыць пальцамі — некага заве. Прабягае сагнутая, шэрая, як мышка, кабецінка, у адной руцэ — вядро з вадой, у другой — мокрая ануча. У тую ж хвіліну расчыняюцца дзверы, і двое ў расхлістаных белых сарочках валакуць за ногі таго, хто крычаў. «Не, не Сяргей...» Твару чалавека не відаць, яго закрылі злепленыя, збітыя ў мокрыя пасмы валасы. Шэры пінжачок, лапці. Чалавека цягнуць за ногі, і галава яго грукае па падлозе, як гарбуз...

...У настаўніцкай ціхія галасы, смех. Міця стаіць, чакае. У яго цяпер адно жаданне: хутчэй апынуцца там, за дзвярамі, перад тварам тых, што прывялі яго сюды. Што пра яго ведаюць? Пра што будуць пытаць?.. Няўжо арыштавалі яшчэ каго-небудзь, апрача Сяргея?.. На ўсё гэта адказ толькі там, за дзвярамі. Марудна цягнуцца секунды. Думаць ні аб чым не варта. Не трэба ніякіх здагадак. Самае страшнае — няпэўнасць. Яна расхаладжвае... Стой... Маўчы...

Дзверы адчыняюцца, потым зачыняюцца зноў. З настаўніцкай ніхто не выходзіць. Цэлая гурма немцаў увальваецца ў школу. Бягуць па лесвіцы на другі паверх. Грукаюць ботамі

так, што ад панэлі сцяны адлятае тынк. Выбягае кабецінка. Зноў зачыняюцца дзверы. Калі ж дойдзе яго чарга?..

— Herein![1]

У першае імгненне Міця не разумее, што гэта — да яго. Але дзверы настаўніцкай насцеж. У праёме высокі афіцэр з худаватым тварам, у пенснэ. Жэстам запрашае зайсці.

У настаўніцкай нічога знаёмага. Стала, засланага чырвоным абрусам, які стаяў якраз пасярэдзіне пакоя, няма. На сцяне, дзе вісеў вялікі партрэт Леніна, светлы квадрат. У левым кутку за шафай стаялі карты, вялікі глобус. Па іх перад урокамі геаграфіі і гісторыі прыбягалі дзяжурныя. Там цяпер «кабыла», перацягнутая са спартыўнай залы. Крэйда ляжала ў кардоннай скрынцы, на тумбачцы, ля самага ўвахода. Пастукай, адчыні дзверы, бяры. Тут цяпер бярозавыя палкі. Нібы качарэжнік. На ранейшым месцы ўздоўж сцен толькі крэслы. На іх шчыльна — плячо ў плячо — немцы. Чалавек дзесяць. З такімі, як і ў кутку, бярозавымі палкамі ў руках. Пажылыя, шыракатварыя, усе ў адных споднік сарочках. Блішчаць пражкі рамянёў, наваксаваныя боты. Міця баіцца ў той бок пазіраць — шыракатварыя нібы гіпнатызуюць. Пасярэдзіне пакоя, перад ім, высокі, у чорным мундзіры. Побач хлопец гадоў васямнаццаці — дробненькі, касенькі.

Немец гергеча штосьці па-нямецку.

— Як завесса, як завуць твога бацька, а есцэ фамілія,— перакладае касенькі.

Міця адказвае.

— Lebensalter?[2]

Слых напружаны. Пытанне школьнае, якое не раз задавала Марыя Іванаўна, і пакуль касенькі, які рускую мову ведае не дужа, падбірае адпаведнае слова, Міця адказвае сам:

— Ich bin siebzehn Jahre alt[3].

На крэслах, дзе немцы, рух зацікаўленасці.

— Sprichst du deutsch?[4] — пытаецца афіцэр.

---

[1] Заходзьце!

[2] Узрост?

[3] Мне сямнаццаць год.

[4] Гаворыш па-нямецку?

Адказ зноў па-школьнаму чоткі, без запінкі.

— Ich habe deutsche Sprache in der Schule gelehrnt[1].

Касенькі зняважаны. З несхаванай пагардай глядзіць на Міцю.

— Чэкай,— шыпіць, як кот, блытаючы польскія і галіцыйскія словы.— Тэраз у тэбе пацечэ зо всіх дзюрок... Наваліш в штоны...

Афіцэр, цяпер ужо звяртаючыся да Міці, зноў штосьці пытае, але Міця не разумее ні слова.

— Раскажы, дзе ест стоёны прыёмнік радзіва? — прыходзіць на дапамогу касенькі.

«Вось яно што»,— успыхвае ў свядомасці. Пытанне настолькі нечаканае, што Міця збіты з панталыку. Не, не гэтага пытання ён чакаў... Недаўменне, якое напісана на Міцевым твары, настолькі выразнае, што не праходзіць міма ўвагі немцаў, якія проста ядуць яго вачамі. Шыракатварыя пераглядваюцца.

— Які прыёмнік?

— Ты слухаеш радзіва бальшавікоў,— дзяўбе касенькі.— Скажы, дзе стоёны прыёмнік?

У пакоі насцярожанае маўчанне.

— Ніякага прыёмніка не ведаю.

— Чэкай.

Двое з тых, што сядзяць на крэслах, імкліва зрываюцца з месца, выскакваюць за дзверы. Астатнія закурваюць. Сіні цыгарэтны дым шызымі колцамі плыве ў расчыненае акно. Не кураць афіцэр і касенькі.

На парозе Сяргей. У першую хвіліну Міця яго не пазнае. Твар апухлы, шэры пінжак з чорнымі плямінамі крыві вісіць мяшком. Зычная, як стрэл, нямецкая каманда, якой Міця не разумее.

— Глядзі йому ў глаз,— тлумачыць касенькі.

На Сяргеевым твары выгляд пакуты.

— Ты яго ведаеш? — пытанне да Міці.

— Ведаю.

— Сконт ведаеш?

— Мы вучыліся разам у школе.

— Ты хадзіл к ньому?

---

[1] Нямецкую мову вывучаў у школе.

Міця як бы задумваецца. Пытанне небяспечнае, трэба асцярожна.

— Можа, калі і хадзіў.

— Ён зваў тэбе до лясу, у партызаны?

— Не.

Удар шырокай далоні апякае шчаку. За ім другі, трэці. Галава матляецца, шчокі гараць. У вачах плывуць чырвоныя кругі.

Цяпер шпыняюць пытаннямі Сяргея. Як праз сон, да Міці даносіцца:

— Дзе прыёмнік?

— Не ведаю.

— А хто ведае? Глядзі йому ў глаз!

Маўчанне. Доўгае, зацятае. Зноў насядаюць на Сяргея.

— Вы чулі бальшавіцкі радзіва двое?

— Не.

— Ты слухаеў едын?

— Не.

— Радзіва ў цього Міці? Глядзі йому ў глаз!

— Не ведаю.

«Сяргей нічога не сказаў,— маланкай успыхвае радасная здагадка.— Немцы не ведаюць ні пра зброю, ні пра міны. Нічога пра хлопцаў не пытаюць...» Сяргей маўчыць, апусціўшы галаву. Болей ні на якія пытанні не адказвае. Афіцэр б'е яго па шчоках, потым махае рукой. Тыя самыя двое падхопліваюць Сяргея пад рукі, выводзяць.

Міця зноў адзін.

— Ты далэка ад нього жывеш? — старанна перакладае касенькі словы афіцэра.

Зноў пытанне, якое тоіць небяспеку.

— Недалёка. Кіламетр.

— Хто есцэ до нього ходзіць?

— Не ведаю. Я сам рэдка хадзіў. Так, выпадкова...

Афіцэр крычыць, услед за ім крычыць перакладчык:

— Дзе радзіва?

«Яны нічога не ведаюць,— трапечацца радасная думка.— Нічога. Проста падазрэнне. Бяруць на страх...» У Міці прыліў сіл, бадзёрасці.

— Пан афіцэр,— з натхненнем, гучна пачынае ён.— Я не вінаваты ні ў чым. Ich bin darum unschuldig,— паўтарае па-нямецку загадзя вывучаную фразу.— Я чытаю нямецкія газеты — «Фёлькішэр беабахтер», «Дас Райх», «Помершэ цайтунг»,— сыпле знаёмыя назвы.— Можа, я каму-небудзь расказваў навіны. А яны, як я цяпер мяркую, падумалі — слухаю радыё. Нядаўна чытаў — немцы Растоў занялі.

Касенькі штосьці доўга даводзіць афіцэру. На Міцю глядзіць як бы здзіўлена, у выразе яго вачэй, твару хітрая ўсмешка. Тыя, на крэслах, з бярозавымі палкамі ў руках, не тоячы суму, пазяхаюць.

— Квач, грюншнабель,— буркае афіцэр. Расшпільваючы мундзір, ён адыходзіць убок, чыркае запальнічкай. Глядзіць некуды за акно. Там чырванее спелымі ягадамі вішня. Паварачваецца, штосьці выкрыквае касенькаму.

— Будзеш вісець за ногі, калі не скажаш, дзе радзіва,— дакляруе той.— Ідзь думай...

Падымаецца адзін з шыракатварых, піхае за дзверы. Вядзе ў самы канец калідора. Адмыкае дзверы.

Замок шчоўкае, нібы стрэл...

## 3

У камеры — гэта былы фізічны кабінет — з'яўленню Міці ніхто не здзівіўся. Тут трое. Аўсянік зарос барадой, твар не худы, але азызлы, зямлісты. Другога чалавека — раённага пракурора Ладуцьку — Міця крыху ведае таксама. Яго арыштавалі ў пачатку вясны, разам з Аўсянікам, калі хапалі актывістаў і тых, што прыйшлі дамоў з лесу. Трэці ляжыць у кутку, у прамежку паміж дзвярамі і ложкам. Накрыў галаву пінжаком, ціха стогне. Міця зірнуў на лазовыя лапці, на зашмальцаваны, з рудымі плямамі крыві пінжачок і здагадаўся, што гэта той самы, каго нядаўна білі.

Больш-менш знаёмы адзін Аўсянік, і ён адзін з усіх пачынае гаворку:

— Як там на двары — горача?

— Горача.

— Мабыць, жнуць ужо?

— Не яшчэ.

— Агуркі, цыбуля нараслі?

— Нараслі.

— Хоць бы пакаштаваць далі,— уздыхае Аўсянік.

Пакой малы, вузкі. Уздоўж сцен чатыры жалезныя ложкі з паласатымі, не засланымі нічым матрацамі. Адно закратаванае акно і двое дзвярэй. Другія дзверы вядуць у суседні пакой, больш прасторны, дзе размяшчалася хімічная лабараторыя. У гэтым стаяла вучэбная дынама-машына, цэнтрыфуга, амперметры, вольтметры, у тым — штатывы, спіртоўкі, бутлі з медным купарвасам, спірытусам, герметычна завінчаныя шклянкі з рознымі хімічнымі рэчывамі. Пад самым акном — таполя. З пакоя відаць кавалак школьнага двара, заросшага цяпер муравой, доўгая, нібы склад, прыбіральня, вішня. На двары светла, сонечна. Колькі цяпер часу?..

— Ля дзвярэй ложак вольны, займай,— тлумачыць Аўсянік.— Цэлы месяц пуставаў. Раней парашутыст спаў на ім.

— А дзе парашутыст?

— Не ведаю,— з выразам абыякавасці адказвае Аўсянік.— Павезлі некуды. Іх раздзялілі, тут адзін быў. Толькі трое сутак і пабыў. Спяваў і на сценах маляваў. Можаш пачытаць, вунь уверсе...

Міця падымае галаву. Праз усю сцяну па штукатурцы, нібы лозунг, выдрапаныя, відаць, цвіком словы: «Нет, я буду сквозь слезы смеяться». І подпіс: «Николай из Москвы».

— Білі парашутыста?

Аўсянік маўчыць.

Нібы ў адказ на запытанне Міці доўгі, прыглушаны крык. Дапытваюць кагосьці новага. У камеры цішыня. Перастае стагнаць хлопец у лазовых лапцях. Плечы яго ўздрыгваюць.

Міця кладзецца на ложак. На белай сцяне, над дзвярамі з калідора,— трапяткія цені ад дрэва пад акном. Варушыцца лісце, гойдаецца галіна. Ад таго, што акно закратавана, галіна трапляе то ў адзін квадрат, то ў другі. Мяркуючы па ценю, сонца схілілася за поўдзень.

Крыку не чуваць. Замест яго раздаецца частае тупанне ног, зычная нямецкая гаворка. Грукоча матор, на школьны двор, пад самае акно, выязджае і спыняецца машына. Пракурор

сядзіць, апусціўшы галаву. За ўвесь час, што Міця ў камеры, ён і слова не прамовіў. Выгляд у яго такі, нібы рашае і ніяк не можа рашыць цяжкай задачы.

Пад вішняй на двары паяўляецца нізенькая жанчына. Нахіліўшы дадолу галіны, таропка, як крадучы, ірве ягады. «Здаецца, тая самая, што бегла ў настаўніцкую з вядром і анучай»,— здагадваецца Міця. Там, у калідоры, здавалася старой, згорбленай. Але не, яна не старая. Проста ходзіць так, сагнуўшыся, насунуўшы шэрую хустку на самыя вочы. Заняты думкамі, Міця не заўважыў, як жанчына наблізілася да акна камеры. Убачыў спалоханы, са сцятымі губамі твар жанчыны ў той момант, калі яна, азірнуўшыся, узмахнула рукой, сыпнула ў пакой, праз разбітую шыбіну, жменю вішань.

Аўсянік поўзае па падлозе, збірае вішні, кідае, абдзьмухваючы, у рот. Пракурор не зварухнуўся. Жанчына між тым зноў сагнулася, згорбілася, робячы выгляд, што ломіць быльнёг на венік.

Хвілін праз некалькі, калі Аўсянік пазбіраў усе вішні, нават з-пад ложкаў, Міця зразумеў, што нізенькая жанчына рызыкавала. Да вокан баяліся падыходзіць самі паліцэйскія. Яны, апусціўшы галовы, расхаджвалі па двары, нават не пазіраючы ў гэты бок.

Яшчэ раз пачуўся тупат ног, застукалі, заляскалі дзверы, і ў адзін момант усё сціхла. Толькі звонку, з калідора, даносіліся мерныя крокі вартавога. Школа нібы замерла. Цішыня нязвыклая, палохае.

— Абедаць пайшлі,— спакойна паведаміў Аўсянік.— А пасля ў іх мёртвая гадзіна. Спаць будуць. Усё па графіку. Нам прынясуць, калі самі наядуцца. Крупнік з маргарынам. Бывае, што і не прыносяць. Тут графіка няма...

Міця ляжыць, думае пра немцаў. «Білі, катавалі, а цяпер пайшлі абедаць. Спаць будуць. Людзі, значыць, і гэтак могуць. Тыя ж, што б’юць, не жывёлы. У іх чалавечы твар, мова, розум... Як глядзяць на гэтых, што назбіралі, вязняў? Няўжо за людзей іх не лічаць?..

Аўсянік лёг на ложак, задрамаў, Ладуцька сядзіць у той жа позе, толькі абшчаперыў галаву рукамі.

— Піць,— ціха просіць чалавек у лапцях.

Міця ўстаў. Цынкавае вядро, накрытае фанеркай, стаіць ля дзвярэй. На фанерцы ёмістая конаўка, зробленая з кансервавай бляшанкі. Зачарпнуў вады, ціха крануў рукой чалавека, які ляжыць тварам уніз. Той павольна падняўся, стаў на калені. Твар распухлы, з бруднымі пісягамі, сінякамі, але зусім яшчэ хлапечы. Можна лічыць хлопца равеснікам. П'е прагна, без аддыху, ухапіўшы конаўку даўно не мытымі чорнымі рукамі.

— За што цябе? — спытаў Міця.

Хлопец зірнуў на яго з недаўменнем, з пакутай на твары і зноў лёг на падлогу.

Міця вярнуўся на сваё месца і тады толькі пачуў хрыплы голас хлопца:

— Я з Грамоў. У Германію запісалі. Абодвух. З братам. Стараста нарэзаўся,— ён на хвіліну змоўк, потым працягваў, нібы праглынуўшы камяк: — Пайшлі ў лес з братам, думалі партызан стрэнем. Тры дні хадзілі — не знайшлі. Вярнуліся хлеба ўзяць, тут і схапілі. Брата забілі,— хлопец хліпнуў носам, сціх.

Хлопец расказваў даверліва, не тоячыся — той самы, якога гадзіны дзве назад неміласэрна білі за тое, што нічога не хацеў гаварыць. «Мікола вучыў у Грамах,— усплыла думка.— Можа, ведае хлопца».

— Ты ў школе вучыўся?

— Мала. Толькі чатыры класы...

— Я дзевяць скончыў,— сказаў Міця, думаючы, што яго субяседнік спытае аб чым-небудзь таксама. Але той маўчыць.

— Як жа вы гэтак, нічога не ведаючы, у лес?

— А што?..— адказаў злосна, з надрывам.— У Германію ехаць?.. Усё адно пагібель. Лепей тут... На сваёй зямлі... Вінтоўка ў нас была, толькі без патронаў. Пастралялі здуру. Зімой яшчэ... Каб патроны былі, то трасцу б яны мяне схапілі...

— А што яны ў цябе дапытваюцца? — спытаў Міця.

— Нічога ім не скажу... Скулы! Хваробы!.. Няхай хоць заб'юць... Я крычу, гэтак лягчэй... Не так баліць... Ім тады і біць надакучвае... Усё адно расстрэл. Мяне адсюль не выпусцяць жывога. Ведаю... Маці адна засталася. Шкада яе... Бацька на вайне. Мне б толькі слова адсюль перадаць... Партызанам ці

яшчэ каму... Каб не забылі пра старасту Гнядка... Ён удаў... Не павінен па зямлі хадзіць жывым...

Хлопец плакаў, а Міця нічым не мог яго суцешыць. Ды і нельга суцяшаць. Няма такіх слоў. Міця не розумам, а падсвядома, істотай адчуваў, што хлопец плача не па сабе. Шкада маці, брата. Крыўдна, што так недарэчна загіне сам. Плача ад бяссілля.

Міця заплюшчыў вочы, намагаючыся супакоіцца. Адна за другой набягалі думкі. Перад вачамі паўсталі будка, пераезд, сасна, нібы жывы мільгнуў смутны твар маці і зацяты, суровы — бацькаў. Злавіў сябе на думцы, што гэты год, запоўнены вайной, жывучы ў сям'і, вельмі мала думаў пра родных. Іх як бы і не існавала. Чыя ж была праўда, яго ці бацькава? Бацька папярэджваў, бачыў наперад, што можа здарыцца. Цяпер Міця глядзеў на ўсё, што за гэты год было, як бы з аддаленасці, з якой стала ўсё відней. Бацька меў рацыю па-свойму. Думаў пра сям'ю, жыў яе інтарэсам, і толькі гэтак можна яго зразумець. Ён добры, бацька. Сумленны, слаўны. Ніякі не вораг. Проста не адчуваў сябе барацьбітом, салдатам у гэтым супярэчлівым жыццёвым віры, калі пахіснуліся ўсялякія ўяўленні пра закон, справядлівасць, калі за неасцярожнае слова можна страціць галаву. Ён, Міця, таксама не зрабіў памылкі, як і гэты хлопец, і ягоны брат, што, пакінуўшы адну маці, пайшлі з вінтоўкай без патронаў у лес. Яны не маглі быць інакшымі. Жыццё траціць сэнс, калі пагаджацца з тым, што прыніжае чалавека, робячы яго пакорлівай, бесславеснай жывёлінай.

Міцю зноў агарнуў жаль да маці, да бацькі, да братоў і сясцёр, якія там, дома, мабыць, плачуць, нічога не разумеючы. Адчуваў — не трэба даваць волю ўспамінам, якія вядуць услед за сабой расслабленасць, намаганнем волі душыў у сабе смутак, стараючыся думаць пра другое. Але мінулае вярталася, стаяла перад вачамі. Знямоганы ўнутранай барацьбой, Міця заснуў.

Прачнуўся надвячоркам. Аўсянік, падладжваючыся пад вясковую гаворку, расказваў:

— Едам мы, нанач бярэцца мароз, вецер, ляскаем зубамі ў том кузаве. Прыехалі ў некае сяло, гукаем у кабіну шафё-

ру: «Стой!..» Чорт яго бяры з тым сходам... Калі так трэба, то правядуць без нас. Пасаскакувалі — ногі не дзяржаць. Хутчэй у хату: «Цётачка, пусці пераначаваць...» — «А колькі вас?..» — «Чэцвера, да шчэ шафёр на двара...»

Цётка трапілася спагадлівая, картоплі чыгун наварыла, саломы ўнясла куль. Абагрэліся, павячэралі. На печы нехта ляжыць, ногі з чарана звесіліся. Салавей ета замеціў, як толькі ў хату ўвайшлі. Ногі як быццам бы дзявочыя, тоўстыя. Палеглі проста на далоўцы, на саломе, польтамі накрыліся. Гаспадыня на ложку з меншай дачкой. Чуем — Салавей не спіць, варочаецца. Як толькі гаспадыня захрапла, ён ціхенька шусь на печ. І нешта там, значыцца, шэпча, угаварвае. Нас усіх смех душыць, а яму хоць бы што. Што тут рабіцьмеш?.. Неяк пазасыналі, ранічкай прачнуліся, Салавей з намі, спіць як пшаніцу прадаўшы. Але тут самае галоўнае і пачалося...

Як зірнулі мы на печ — што там за краля такая,— дак і абмерлі. Сядзіць, ногі звесіўшы, ну пудзіла пудзілам, галава як стог, нячэсаная, твар рабы, і з рота сліна цячэ... Памешаная яна, мехам, як кажуць, цопнутая. Сядзіць на печы, Салаўя свайго, значыцца, выглядвае. Убачыла яго — рот як рэшата, смяецца і пальцам да сябе маніць... Лезь, маўляў, зноў на печ, спадабалася ёй, значыцца... Салавей той боты нацягнуў, паліто ў ахапку, хацеў прэч хутчэй з хаты. А краля напярэймы, гоп з печы праз шыйку і ўжо ля парога. Павісла ў яго на шыі, абшчаперыла рукамі, цалуецца пры ўсіх, ну хоць ты плач...

Ледзь прыкметная горкая ўсмешка кранула вусны пракурора, прыўзняўся на локцях, уздрыгвае плячамі ад нячутнага смеху хлапец з Грамоў. Аўсянік смяецца гучна, захліпаючыся, выціраючы нямытымі далонямі слёзы з вачэй. Відаць, прывык да камеры, да адзіноты, развясельвае сябе жартамі. Умее смяяцца. Адна гэтая смешная гісторыя, і Міця глядзіць на Аўсяніка другімі вачамі. Незразумелы ён. Тады, зімой, яны з хлопцамі памыляліся, думаючы пра яго зусім блага. Не баязлівасць, а нешта другое стрымлівала Аўсяніка, як і ўсіх гэтых людзей, якіх немцы пахапалі, як коршак куранят. Колькі яны ў турме?.. Тры месяцы, чатыры?.. А ніводны ж не прагаварыўся, не захацеў вызваліцца цаной здрады. Мікола

з паліцэйскай павязкай на рукаве заходзіў да Аўсяніка ў камеру, насіў сала, пытаў пра зброю. Аўсянік нічога не сказаў яму, але ж і не выдаў. Не здраднік ён. Але чаму тады, па вясне, ён і астатнія не пайшлі ў лес?.. Што стрымлівала іх?.. Сям'я, жонка, дзеці?.. Мабыць, гэта. Але калі так, то праўда бацькава...

Шчоўкнуў у дзвярах замок, перапыніў Міцевы думкі. У камеру зайшлі двое ў эсэсаўскай форме, высокія, тонкія, як дубцы, спыніліся перад пракурорам. Той сядзеў на ложку, не ўзнімаючы вачэй.

— Heraus!

Пракурор павольна ўстаў, абвёў вачамі пакой. На імгненне позірк яго сустрэўся з Міцевым, у вачах чалавека глыбокі, нястоены сум, боль кальнуў сэрца.

Выходзячы з камеры, на парозе ўжо, пракурор крута, рыўком павярнуўся, глуха прамовіў:

— Прашчайце, таварышы...

Эсэсавец піхнуў яго ў плячо, шчоўкнуў замок, на калідоры чуваць крокі. Міця і Аўсянік кінуліся да акна. Праз хвіліну да машыны, што стаяла насупраць акна, высыпалі эсэсаўцы, іх ужо не двое, а шасцёра, і ў іх акружэнні пракурор. Кінулі ў кузаў некалькі рыдлёвак. Падпіхнулі туды арыштаванага, лёгка паўскаквалі самі. Зароў матор, грузавік крануўся. «Расстрэльваць павезлі»,— працяла Міцю, і яго агарнуў цяжкі, безвыходны смутак. Усё, што здарылася,— звычайнае, будзённае, нічым не нагадвала высокага, трагічнага моманту, калі канчаецца жыццё чалавека. Твары эсэсаўцаў абыякавыя, на іх ні злосці, ні ўзрушанасці. Нібы выконваюць нецікавую, штодзённую работу.

Міця лёг на ложак тварам уніз. Думаць ні аб чым не хацелася. Яго ахапіла да болю выразнае жаданне смерці. Жаданне вострае, прывабнае, без прымесі страху. Нічым не адрозніваецца ад усіх іншых жаданняў. Хацелася заснуць і не прачнуцца... Памерці тут, не бачачы абыякавых твараў ворагаў, машыны, у якую кідаюць рыдлёўкі. «Не паміраць страшна,— успыхнула ў свядомасці.— Страшна ведаць, што ты памрэш, і тыя хвіліны, калі цябе будуць везці да яшчэ нявыкапанай ямы...»

Нячутна адчыніліся дзверы. «Каму «да ветру»?» — прагучаў сіплы голас. Міця падняў галаву. У пакоі стаіць рослы, з чырвоным тварам, паліцай, трымаючы наперавес вінтоўку. Ненатуральна сагнуўшыся, згорбіўшыся, па-старэчы шоргаючы падэшвамі чаравік, да выхада падаўся Аўсянік. Міця было памкнуўся ўслед, але паліцай яго прыпыніў. «Па адным»,— буркнуў ён, зачыняючы перад самым носам дзверы.

Аўсянік вярнуўся хвілін праз дзесяць. Паліцай вывеў Міцю. У школьным калідоры цішыня. Ні крыкаў, ні мітусні. Немцы, відаць, адпачываюць. На двары канваір важна дыбаў ззаду, ледзь не тыцкаючы ў спіну дулам вінтоўкі. Міця азірнуўся. На вуліцы ні душы. Час блізіцца вячэрні. У доўгай, збітай з новых дошчак прыбіральні Міця заўважыў горку белай хлоркі, таропка, каб не заўважыў паліцай, стаў набіраць у кішэню. «Хлорка атрута,— узнікла радасная думка.— Калі наесціся, можна памерці за гэтую ж ноч...» Назад у камеру ішоў павесялелы, з пачуццём зласлівай перавагі думаў пра нездагадлівага канваіра.

У камеры абед ці, калі меркаваць па часе, вячэра. Ля Міцевага ложка, на падлозе, алюмініевая міска шэрай бурды, лыжка. Хлеба няма. Аўсянік, паставіўшы міску на калені, таропка сёрбае. Есць, не ўстаючы з падлогі, хлопец з Грамоў. Ля пракуроравага ложка міскі няма. Міця грэбліва адсоўвае нагой пад ложак сваю пасудзіну з варывам, кладзецца.

— Не валяй Ваньку, еш,— звонячы лыжкай па дну міскі, гаворыць Аўсянік.— Заўтра ног не пацягнеш. А калі ўсыплюць яшчэ, дык зусім нюні развесіш. Не ў цёткі ў гасцях. Немцы ўгаварваць не будуць, не думай.

— Не хачу я есці.

— Ну, як хочаш. Голад не цётка. Я спачатку брыкаўся таксама, браце мой...

Аднекуль з двара, зверху, праз выбітую шыбіну даносіцца музыка. Відаць, немцы ўключылі радыёпрыёмнік ці завялі патэфон. А можа, самі іграюць. Мелодыя на першым часе ціхая, ледзь чутная, потым становіцца выразнейшай: можна адрозніць напеўны голас скрыпкі, гэткі ж працяжны, толькі басавіты гук інструмента, назвы якога Міця не ведае. Іграюць нешта спакойнае, крыху журботнае, што нагадвае ясную

асеннюю раніцу. На душы ў Міці беспрычынная злосць. Хочацца ўскочыць, крычаць, грымець кулакамі ў дзверы, трушчыць, ламаць недарэчныя ложкі. Але ляжыць, слухае. На адзін толькі міг мільгае перад ім твар Сюзаны і адразу ж знікае. Ён не хоча, не можа пра яе думаць. Яна заразілася воспай, пакутуе, але ўсё адно далёкая і як бы чужая...

— Кожнага вечара гэткая музыка,— разважліва паведамляе Аўсянік.— Днём дапытваюць, б'юць, а як натомяцца,— іграюць. І песні спяваюць... Пачуеш яшчэ. Не разумею я немцаў. Чалавека заб'е і спявае...

У дзверы, да якіх прысунуты Міцеў ложак, ціха, але настойліва стукаюць. Нібы мыш у закутку варочае кавалачак сухара. Сігнал даносіцца адтуль, з суседняга пакоя, аддзеленага сцяной і ўнутранымі дзвярамі. Міця ўскаквае, становіцца на спінку ложка. Над дзвярамі зашклёная, абпырсканая плямамі пабелкі, рама, можна паглядзець, хто стукае. У суседнім пакоі паўзмрок. Там няма нават ложка, толькі ў кутку нейкі рызман. Стук знізу, чалавек стаіць перад самымі дзвярамі.

— Хто там?

Чуцён ціхі, але знаёмы голас:

— Я, Сяргей. Я цябе цяпер толькі пабачыў... Праз акно... Як з двара вялі...

Сяргей адыходзіць на крок ад дзвярэй. Твар распухлы, чорны. Гаворыць нешта яшчэ, але ціха, з-за музыкі не чуваць. Немцы іграюць марш.

— Гавары гучней, не бойся. Тут свае ўсе.

— Мяне расстраляюць... Наган знайшлі...

— Пра што ў цябе пытаюць?

— Б'юць... Пакуль не страчу прытомнасці... Не вытрымаю болей...

Міця азіраецца.

Аўсянік робіць выгляд, што не слухае. Зняў чаравікі, мне ў руках закарэлыя шкарпэткі. Хлопец з Грамоў ляжыць нерухома, як пласт.

— Сяргей, нічога не гавары! — задыхаючыся, пераходзячы на злосны, прыдушаны крык, просіць Міця.— Яны нічога не ведаюць... Нашы немцаў спынілі. Наступаюць самі, ты чуеш, Сяргей?.. Наступаюць, гэта я добра ведаю. Калі будуць біць, крычы!.. Крычы, так лягчэй...

Міця бачыць — Сяргей стаіць, унурыўшы галаву. Знясілены, збіты. Ведае, што яго расстраляюць. Ні кроплі надзеі на тое, што будзе жыць. На хвіліну Міцю робіцца страшна. Дзе, якія знайсці словы, каб усцешыць, падбадзёрыць?.. Усё, што мог, ужо сказаў. Можна крычаць, зневажаць, але хіба гэтым паможаш?.. Сяргея расстраляюць. Ведае сам... Развітаўся з жыццём... Мёртваму ўсё адно... Але чаму немцы яго дагэтуль не расстралялі? Ён, значыць, трэба ім... Каб выдаваў... Не, Сяргей не павінен выдаваць... Ёсць штосьці большае, чым жыццё аднаго чалавека. Трэба, каб помніў...

Наверсе іграюць вясёлае. Міця стаіць на спінцы ложка, глядзіць на Сяргея. Твару яго ўжо не відаць. Можа, гэта і лепш што не трэба глядзець у вочы. За акном вечар. Гусцеюць змрокі. Хутка сцямнее зусім.

— Ты не адзін, Сяргей,— гаворыць Міця.— Не забывай. Нашы наступаюць. Ёсць яшчэ цікавыя навіны. Немцам даюць жару... Не думай... Калі будуць біць, крычы... Крычы, і ўсё.

— Дзе наступленне? — чуецца слабы голас.

— Пад Ржэвам,— радасна адказвае Міця.— Гэта ж галоўны напрамак... На Маскву... Немцы ўжо самі пішуць... Здорава іх лупяць!..

На калідоры выразныя крокі, і Міця саскаквае са спінкі ложка. Адчыняюцца дзверы ў пакоі насупраць. Некага вядуць. На допыт ці, як пракурора, на расстрэл?.. Крокі сціхаюць. Некалькі хвілін Міця прыслухоўваецца. Але крыкаў не чуваць. Музыка таксама сціхла. За вокнамі цёмна.

— Ты пра наша наступленне праўду гаварыў ці выдумаў? — шэпча Аўсянік.— Мы тут як у мяшку.

— Пра Ржэў праўда.

— Занялі яго?

— Не.

Хлопец з Грамоў свішча носам. Заснуў.

— А на другіх франтах як? — зноў шэпча Аўсянік.

— Немцы наступаюць. Варонеж занялі, Растоў...

Па акне слізгае святло фар. На двор уязджае машына. Аўсянік падхопліваецца, вісне ля акна. На двары галасы, тупат ног. Немцы ідуць, грукаюць дзвярамі, падымаюцца па лесвіцы, і ўсё сціхае.

— Каюк усім нам,— уголас гаворыць Аўсянік.— Ладуцьку стукнулі, ясна. Я думаў: прывязуць назад. Яго некалькі разоў вазілі і прывозілі.

— Чаму прывозілі? — у Міцевым голасе недаўменне.

— Пра зброю пытаюць. Падазраюць, што яна недзе закапана. Яшчэ з леташняга года, як знішчальны батальён быў.

— А яна ёсць, тая зброя?

— Не пытай. Нічога, дарагі мой, не ведаю...

Школа спіць. Ні шолаху, ні зыку. Летняе неба ўсеяна зоркамі.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

### 1

З усіх салдат, якія жывуць у будцы, што называецца цяпер штуцпункт № 16, толькі адзін Венігер заўсёды незадаволены. Астатнія, нават Пэтэрле, лічаць, што выконваюць абавязак, і не бачаць ніякага іншага выйсця, як толькі служыць тут, на будцы, пасылаць на радзіму пасылкі са шпекам, ператопленым маслам, даматканым палатном — усё гэта выменьваецца ў жыхароў на сахарын, фарбу, іголкі. Ніякіх узвышаных планаў у салдат няма. Кожны хоча вярнуцца дамоў, да сваёй сям'і, займацца тым, чым займаўся да вайны. Ёсць, вядома, у кожнага патаемная надзея, што справы яго пойдуць лепш, чым раней, бо ён усё ж ваяваў, а гэта значыць мае заслугі перад фатэрляндам.

Служба не цяжкая: чатыры гадзіны вандроўкі па палатне, дзве — на пасту, ля пераезда. Раніцай — тлусты мясны гуляш, кава, яшчэ сытнейшы абед, салодкі пудынг, кава на вячэру. Кормяць добра.

Венігер жыве іншым. Пасылак дамоў не пасылае. Нават не лічыць, што выконвае абавязак перад айчынай. Усё, што дзеецца навакол, што вычытваюць салдаты ў газетах — кожнаму прысылаецца газета той мясцовасці, адкуль прызываўся,— Венігер называе хамствам, свінствам. Вядома, гаворыць такое не пры ўсіх, а пры адным Пэтэрле, якому давярае.

Днём, вольныя ад службы, яны не брындаюць, як другія, па мястэчку, выменьваючы шпек і яйкі, а найчасцей ляжаць пад сасной, у цяньку, дрэмлюць або спрачаюцца.

— Усё пойдзе к чортавай матары! — заяўляе Венігер.— Гітлер скруціць шыю. Яго пасадзілі ў сядло капіталісты.

— Вы, як заўсёды, перабольшваеце, гер Венігер. Не бачу ніякіх прыкмет падзення аўтарытэту фюрара. Справы на фронце ідуць бліскуча.

— Асёл, ты можаш сказаць, што ў нас ёсць свабода? Што мы не душым за горла другія народы?

— Гэтага, гер Венігер, я не магу сказаць. Але не магу сказаць, што бачыў на зямлі якое-небудзь ідэальнае царства, з якога мы маглі б браць прыклад.

— Тут, у Савецкай Расіі, рабочы чалавек жыў у тысячу разоў лепш, чым у нас. Тут не было паноў. Улада рабочых.

— Дазвольце запытаць, гер Венігер. Тут пры Саветах начальнікі таксама былі?

— Вядома, былі.

— Значыць, ім трэба было падпарадкоўвацца. А якая розніца — здымаць шапку перад панам ці перад рабочым?

— Ёсць розніца, дубіна. Капіталіста не прагоніш са службы. А рабочага начальніка, калі дрэнны, каленам пад зад, і размове канец. На тое рабочая ўлада.

— Не бачу, гер Венігер, каб тут, у Расіі, быў рай. Гэтыя драўляныя хаціны, бездараж...

— Не ўсё адразу, ёлуп. Трэба ж хоць трошкі ведаць гісторыю...

Пэтэрле спрачаецца з Венігерам, не крыўдуючы на яго. Ён ні на кога не крыўдуе. Сам пра жыццё думае інакш і лічыць, што кожны можа думаць, як хоча. Яго мала хвалююць гэтыя словы — свабода, улада. Хіба ад таго, якая дзе ўлада, залежыць усход і захад сонца, чысціня паветра, ранішняя раса на траве? Прыгожыя фрэйлен усюды ёсць, нягледзячы на тое, што ўлада розная. Шкада толькі, што ён, Пэтэрле, яшчэ не пазнаёміўся ні з адной рускай фрэйлен. Гэта трэба зрабіць, і як мага хутчэй, бо ён ужо засумаваў па пералівістым дзявочым смеху, бляску хітраватых вачэй. Кожны дзень прыносіць новыя радасці. Іх толькі трэба ўмець адчуваць, лавіць —

спеў птушак, красаванне жыта на полі, подых ветру, які нясе размаітыя пахі кветак і траў. Гэта і ёсць свабода, і гэта хутчэй адчувае, чым разумее Пэтэрле.

Ляжаць пад сасной, у Пэтэрле гармонік, не губны, а сапраўдны, толькі дзіцячых памераў, на ім няма і палавіны ладоў. Але і на такім даволі хораша сабе акампануе. Голас у Пэтэрле прыемны, грудны — і нават хмуры Венігер любіць слухаць, калі той спявае. Разлапістыя сасновыя галіны над галавой. Праз навісь праглядвае сінеча неба. Цішыня, спакой. Сонца, неба — усюды аднолькавыя.

O, Tannenbam, o, Tannenbam,
Wie grün sind deine Blätter...[1] —

падыгрываючы сабе, цягне Пэтэрле. Яшчэ лепей, як сапраўдны артыст, зачынае песню, якую змалку ведае кожны, хто нарадзіўся ў лясным, зялёным Цiролi:

Waldeslust, Waldeslust!
O, wie einsam schlägt die Brust...
Ihr, liebe Vögelein, stimmt eure
Lieder ein,
Und singt aus voller Brust —
Waldeslust!..[2]

Надвячоркам цень ад сасны кладзецца на пясчаны шлях. Дыхаць лягчэй. З кустоў прылятае шэрая птушачка. Звярнуўшы прыгожую галоўку на бок, маленькім, як бісерынка, вокам цікуе за людзьмі, што ляжаць пад дрэвам. Яны — відаць па ўсім — не збіраюцца рабіць ёй кепскага, і птушачка спакайнее. Пераскаквае з галіны на галіну, бесклапотна папісквае. Пэтэрле, выцягнуўшы губы, пачынае яе перадражніваць. Птушачка прыслухоўваецца, палохаецца, ляціць назад у кусты.

---

[1] О сасна, о сасна,
Залёная сасна...

[2] Лясная радасць, лясная радасць!
О, як самотна жыць аднаму...
Вы, вольныя птушкі, суладныя вашы песні,
Услед за вашым спевам рвецца з грудзей — лясная радасць!..

У перадвячэрні час часцей за ўсё праязджае паўз будку на возе, запрэжаным гнядым конікам, Кузьма Шнапс. Салдаты яго ўжо ведаюць — часты госць на пераездзе. Ведаюць, што ў першую вайну быў у палоне ў Германіі і сёе-тое можа сказаць па-нямецку. Дакументаў ніколі не правяраюць.

— Wie geht's, пан?[1] — крычыць з-пад сасны Пэтэрле.

— Аллес гут, камарад,— адказвае Шнапс.— Фрэссен нікс, табак — нікс, ванцэн — філь[2].

Венігер і Пэтэрле рагочуць — селянін адказвае фразай, якую, відаць, вывучыў у палоне.

## 2

Ён забыў пра хлорку, заснуў, спаў, і нічога з ім не здарылася. Нешта сніў — але сны ён рэдка памятаў. Прачнуўся з вострым пачуццём голаду. Дастае з-пад ложка міску з учарашнім абедам. У шэраватую бурду нацерушылася трухі з матраца,— не зважаў, еў.

Раніца пачалася з грукання дзвярэй, тупату ног. Арыштаваных выводзілі на двор, «да ветру». На кожнага, каго выводзілі, прыходзіўся паліцай, таму ля прыбіральні маячылі адразу дзве-тры постаці. Ва ўнутр патрулі заглядваць, відаць, саромеліся, з нахмураным выглядам выдыгалі па двары.

Зірнуўшы ў акно, Міця падышоў да ўнутраных дзвярэй, ціха пастукаў. Было чуваць, як Сяргей устае. Азваўся таксама стукам. «Папрасіся на двор,— напаўголаса сказаў Міця.— Пабудзь у прыбіральні, выйду я, пагаворым...»

Ён лёг на ложак і чуў, як Сяргей грыміць у дзверы кулаком. Доўга ніхто не падыходзіў. Потым шчоўкнуў замок, за Сяргеем прыйшлі. Счакаўшы некалькі хвілін, загрукаў у дзверы Міця. Таксама доўга не адчынялі. Міця пачаў губляць цярпенне. Аўсянік ляжаў на ложку, абыякава пазіраючы ў столь. Рабіў выгляд, што нічога не разумее. Хлопец з Грамоў, скурчыўшыся на падлозе, спаў.

---

[1] Як жывецца, пан?

[2] Усё добра, таварыш. Жэрці нечага, табакі — няма, клапоў — многа. *(Ламанае нямецкае).*

Дзверы адчыніў малады чарнявы паліцай, гадоў на тры старэйшы за Міцю. Адводзіў вочы, маўчаў, не настаўляў, як учарашні, рулю вінтоўкі ў спіну. Ля прыбіральні пахаджваў другі патрульны — Сяргей быў унутры, чакаў...

Кінулася ў вочы — Сяргей пакорлівы, ціхі, як дзіця. Не прамовіў слова, глядзеў на Міцю, чакаючы, што той скажа. На апухлым, з сінякамі твары выраз пакуты. Варухнуўся ў грудзях жаль, перамагаючы яго, Міця таропка зашаптаў: «Пра радыё маўчы. Скажаш толькі, што я табе расказваў пра Растоў. Што немцы занялі яго... Што чытаю нямецкія газеты. Гэтак на допыце я сказаў... Каб было ў адно слова. Зразумеў?..» — «Зразумеў,— ціха,аднымі губамі вымавіў Сяргей.— З нашых нікога больш не ўзялі?..» — «Нікога... Трэба маўчаць. Яны нічога не ведаюць...» — «Мала мы зрабілі,— нібы выціснуў ён з сябе.— Крыўдна...» — «Будуць біць, крычы,— паўтарыў Міця ўчарашнія словы.— Крычы, і ўсё...»

У сценку грукнулі, відаць, прыкладам. Сяргей павольна, не спяшаючыся, выйшаў. Міця пастаяў у нерашучасці, потым, нібы нешта ўспомніўшы, пачаў высыпаць хлорку, вывернуў кішэню, вытрас апошні белы пыл... Назад у камеру вяртаўся з пачуццём раўнавагі. Пачуццё гэтае ўзнікла не тут, не цяпер, яно нарадзілася, мабыць, яшчэ ўчора, калі Сяргей першы яму пастукаў, нібы шукаў падтрымкі. Ён адзін. Увесь гэты тыдзень адзін. Немцы спецыяльна так пасадзілі, каб адарваць ад усяго свету, запалохаць...

У дзвярах камеры Міця сутыкаецца з паліцаем і жандарам, якія разносяць сняданне. Паліцай трымае вядро, чарпак, жандар — горку алюмініевых місак. Хлеба, як і ўчора, няма. Адамкнуўшы дзверы, разносчыкі прапускаюць наперад Міцю, заходзяць самі.

— Обяд бэндзеце мець вечорэм,— блытаючы рускія і польскія словы, гаворыць жандар.— Прадукты — мала, турма — многа...

Міця пазнаў жандара. Гэта той самы, што хадзіў да Марыі Іванаўны вывучаць рускую мову. Зморшчаны, нібы жаночы, твар, пісклявы голас, шчуплая постаць. На арыштаваных глядзіць спакойна, добразычліва, нічым не паказваючы сваёй улады. Успомніўшы словы афіцэра, сказаныя ў канцы допыту, Міця адважыўся:

— Пан жандар, што значыць па-руску «квач»?

— Квач ест балтовня, еслі языком махаць, як хвостам.

— А «грюншнабель»?

— Ест зялёная дзюба...

Жандар адказваў сур'ёзна, на яго голым, безвалосым твары ні ценю ўсмешкі. Нібы нешта ўспомніўшы, дадаў:

— Немцы завут грюншнабель недарослы чалавек, у каторы не абсох на губах малако...

Міця ўсміхнуўся. Дзень пачынаўся ўдала. Крыку не чуваць. Відаць, эсэсаўцы нікога не дапытваюць. У калідоры тупат, грукаюць дзверы. Потым цішыня. Нібы турма вымерла. Нават на двары не відаць ні немцаў, ні паліцаяў. Сэнс гэтай перамены становіцца зразумелым толькі апаўдні, калі расчыняюцца дзверы і ў камеру піхаюць адразу траіх. Поўны шыракатвары мужчына з дзеравяшкай замест правай нагі недаўменна азіраецца, выцірае з лысіны пот, худая чарнявая жанчына плача, і толькі хлапчук у матросцы, у шапцы бесказырцы з несхаванай цікаўнасцю разглядае пакой, яго жыхароў. Хлапчуку самае большае гадоў пяць. Міця здагадваецца, што арыштавана сям'я.

Навічкі ўладкоўваюцца на ложку пракурора. Жанчына, бачачы спакойныя твары арыштаваных, сама супакойваецца. Падыходзіць да акна, глядзіць на двор. Хлопчык вандруе з кута ў кут. Садзіцца ля вядра, падымае фанерку, набірае і вылівае з кубка ваду. Мужчына сядзіць, апусціўшы галаву. У камеры нязвыклае маўчанне. Ні Аўсянік, ні Міця не адважваюцца пачынаць размовы. Нарэшце мужчына пачынае яе сам.

— Я нікога з вас не ведаю,— гаворыць ён хрыпла.— Я нетутэйшы. Маё прозвішча Вадэйка... Вадэйка — можа, чулі — настаўнік з Піляціч.

— Я вас ведаю,— прызнаецца Аўсянік.— Быў у вашай школе...

— Вось бачыце,— настаўнік радасна ўстрапянуўся.— Ваш твар мне таксама быццам знаёмы. Вельмі прыемна зноў сустрэцца...

— Мала прыемнага. За што вас?..

— Разумееце, зусім нечакана. Але тут усе свае, можна гаварыць. Сакрэту няма, калі ўжо немцы самі ведаюць...

— Усё праз цябе! — выкрыквае жанчына, заліваючыся слязьмі.— Не сядзелася табе... Колькі я прасіла, Богам маліла... О, Божа мой!..

— Перастань Марыя. Ніхто ні ў чым не вінават. Не паказвай сваёй слабасці...

Жанчына прыпадае тварам да падаконніка, плечы яе ўздрыгваюць. Хлопчык раптам кідае кружку. Ідзе да маці, туліцца да яе ног.

— Пашкадуй дзіця, Марыя. Гэтым не дапаможаш. Каму патрэбны нашы слёзы?..

— А ты шкадаваў, душагуб? — жанчына крычыць прарэзліва, злосна, не клапоцячыся аб тым, што яе пачуюць.— Масква табе трэба была, праўда?.. Любуйся сваёй праўдай... Што цяпер будзе з намі?.. Ведаеш? О, Божа мой!..

Хлопчык пачынае хліпаць. Маці садзіцца на падаконнік, бярэ сына на калені. Таропка, з роспаччу цалуе. Вочы яе ў гэтую хвіліну вялікія, чорныя, зрэнкі нібы застылі. Шэпча перарывіста, захліпаючыся:

— Падыш паветрам, мой маленькі... Паглядзі на сонца... Вунь, бачыш, на дрэве птушачка... Яна будзе жыць, спяваць, а нас не будзе... Можа, апошні наш дзень...

— Марыя! — крычыць настаўнік, падхопліваючыся, грукаючы дзеравяшкай па падлозе.— Перастань зараз жа!.. Не палохай дзіця... Сумлення няма ў цябе... Істэрычка...

Жанчына, спалохана ўстрапянуўшыся, адразу сціхае. Галасна плача хлопчык...

Міця ловіць сябе на дзіўным адчуванні — ён зусім спакойны. Сэрца нібы акамянела. У ім няма ні болю, ні жалю да чужога гора. Усе гэтыя хвіліны, пакуль ішла размова паміж мужам і жонкай, ён думаў аб пабочных рэчах. Да жанчыны з першага імгнення, калі яна зайшла ў камеру, у яго ўзнікала хутчэй за ўсё непрыемнае пачуццё. Плача, скардзіцца... Ясна,— курыца-сядуха... Цікава, за што іх узялі? Арыштавалі не для допыту — пра што спытаеш у хлапчаняці?.. Жанчына крычала — Масква... Пры чым тут Масква?..

Зноў успыхвае трывожнае запытанне да самога сябе: чаму ён спакойны?.. Людзям пагражае небяспека, смерць, а ён думае пра глупства. Нават стараецца думаць. Чаму так? Чаму

пачуцці, душа выключаюцца нібы самі сабой?.. Замест сэрца камень. Што гэта — ахоўны інстынкт ці самы звычайны эгаізм, які чалавек не можа ў сабе задушыць?.. А можа, так трэба. Можа, чалавек проста не ў стане вынесці ўсяго, што бачыць, таму міжволі адварочваецца. Калі браць блізка да сэрца тое, што робіцца тут, дня не пражывеш...

Новая хваля думак ахоплівае Міцю, нясе на сваёй плыні. Як немцы адважыліся арыштаваць дзіцянё? Як так можна?.. Каб зрабіць гэта, трэба прайсці папярэднюю падрыхтоўку ў тым мірным жыцці, калі людзі яшчэ не былі эсэсаўцамі. Але хіба калі-небудзь арыштоўвалі дзяцей?.. Хіба чалавек на гэта здольны?.. Эсэсаўцы не людзі тады?.. А можа, і над імі вісіць сіла, якой яны слепа падпарадкоўваюцца?.. Прыслужнікі смерці. Не, чалавек, які б ён ні быў дрэнны, не можа займаць такой пасады...

Адказу на пытанні, якія ўзнікаюць адно за адным, няма. Думка пераскаквае на другое, прывабнае сваім спакоем. Перад вачамі сасна, сухі грудок, на якім яна расце, кусты ў лагчыне і ўзбоч чыгункі. Міця стараецца ўявіць немцаў-ахоўнікаў на пераездзе і не можа. Ведае, што яны там ходзяць, кураць, падазрона абмацваючы позіркамі кожнага падарожнага. Іх вобразы расплыўчатыя, як у сне. Яны калі і ўсплываюць, то на адно імгненне. Сасна ж як жывая. Міця бачыць яе, абмытую дажджом, з дробнымі светлымі кроплямі расы на канцы кожнай зялёнай іголкі. Дзве ці тры кроплі з многіх тысяч блішчаць, як дыяменты. Ён не раз гэта бачыў, але ніколі не задумваўся над прычынай. Не хацелася задумвацца. Хараство льецца ў душу само.

Жанчына супакоілася. Лягла, адвярнуўшыся тварам да сцяны. Хлопчык з ёй побач. Бацька перасеў на ложак да Аўсяніка.

— Непрыемная гісторыя,— напаўголаса гаворыць ён, азіраючыся, пацінаючы плячамі, нібы ад холаду.— Перабраліся мы сюды, у мястэчка, вясной. У Піляцічах былі непаразуменні з паліцыяй. Ведаеце, вёска бедная — пяскі, хмызнякі. Настаўніку без працы як пракарміцца?.. Працаваць фізічна не магу. Дзе выйсце?.. Запрашалі ў воласць, пісарам. Адмовіўся. Школа зачынена. Занята пад паліцэйскі ўчастак. А горш

за ўсё — двое маіх вучняў паступілі ў паліцыю. Я там, у Піляцічах, дванаццаць гадоў працаваў. Паліцэйскія гэтыя выраслі, можна сказаць, на маіх вачах. Праўда, яны не з лепшых вучняў. Сераднячкі, так сабе... Але ніякіх благіх нахільнасцей раней за імі не заўважаў. Не, нічога такога не было, не буду хлусіць. Людзі як людзі... А тут ліха ведае што. П'юць самагонку, гарланяць па вечарах непрыстойныя песні. Слухаць брыдка... Аднойчы, восенню яшчэ, расстралялі хлапца. Ішоў адзін, без дакументаў. Год сямнаццаць яму, не болей. Відаць, з рамесніцкага вучылішча. Забілі нізавошта. Не мог я вытрымаць. Сустрэну каго з гэтых паліцаяў на вуліцы, сорамлю ў вочы. Прасіў адумацца... Дзе там... Перада мной яшчэ нічога — аднекваюцца, вочы апускаюць. Пачалі падгаварваць другіх. Тыя да мяне з пагрозамі...

Аўсянік, склаўшы рукі на каленях, сядзіць, слухае. Выгляд у яго такі, нібы думае аб чымсьці далёкім, што не мае ніякага дачынення да расказа настаўніка. У калідоры цішыня. Ні крокаў, ні тупату.

— Рашыў перабрацца ў мястэчка,— працягвае Вадэйка.— Думаў — болей тут інтэлегентных людзей, не можа быць, каб панаваў такі разгул, бо там, у Піляцічах, скажу вам, паліцэйскія твораць, што ўзбрыдзе ў галаву...

— Вы ў мястэчку працавалі дзе-небудзь? — пытае Аўсянік.

— Не, нідзе. Дзе ж я магу ўладкавацца, акрамя школы. Дый наогул не пра тое стаў думаць.

— У вас радня ў мястэчку?

— Не, нікога. Ведаеце, здарылася аказія. Прыехаў у Піляцічы бургамістр. Здаецца, Крамер яго прозвішча. Я да яго. Маўляў, так і так, выклаў сваю просьбу. Ён дазваляе: «Пераязджайце». Што мне болей трэба?.. Наняў фурманку, пераехаў. Іду да гэтага Крамера. Слова спраўдзіў, даў кватэру, нават хлебную картачку загадаў выпісаць. На мяне ён зрабіў неблагое ўражанне.

— Усе яны добрыя,— цэдзіць скрозь зубы Аўсянік.

— Ну, не скажыце. Каму ў гэты час баліць галава аб беспрацоўным настаўніку. Аднак жа ўважыў... Пасяліўся я на Вакзальнай вуліцы, у доме, які некалі належаў купцу Краснеўскаму...

Міця ведае дом Краснеўскага — стары, з жоўтымі аканіцамі, ён стаіць на тым жа баку вуліцы, што і Сяргееў, амаль па суседству. Зімой пуставаў, а з вясны сапраўды нехта жыў у ім, але Міця ні разу не пацікавіўся хто.

— Тут я наладзіў радыё,— настаўнік расказвае даверліва, як блізкім знаёмым, голас яго спакойны, роўны.— Прыёмнік быў у мяне яшчэ ў вёсцы, але там як установіш... Шпігавалі.

Тут іншая справа. Знаёмых няма, не заходзіць ніхто. Здаецца, меры перасцярогі прыняў. Прыёмнік — я разумею трохі ў ім — разабраў на часткі. Кандэнсатар у адным пакоі, катушка напружання ў другім, лямпы пад падушкай... Вечарам — раз-раз — сабраў і слухай. Ні адзін чалавек не ведаў. Ну, акрамя жонкі і цешчы. Пеця, хлопчык мой, спаў ужо, калі радыё слухалі. Паслухаем — і адразу разбяру. Гэта на выпадак, калі наляцяць з вобыскам. Маўляў, часткі ад прыёмніка яшчэ не радыё. Проста розуму не дабяру, як здагадаліся. Антэну, праўда, я на гарышча выцягнуў, але жонка днём развешвала на ёй бялізну. Хто падказаў?..

— Знайшлі прыёмнік? — дрыжачым ад хвалявання голасам пытае Міця.

— Як не знойдуць. Галоўнае — сакрэт раскрылі. Вывад ад антэны за фотакарткамі быў замаскіраваны. Дабраліся. Як назло батарэі не параскідаў. Стаялі пад ложкам, усе...

Вадэйка змаўкае. На шырокім добрым твары цень засмучанасці. Рукі, галава, усё цела гэтага чалавека — вялікае, ладнае, дзеравяшка здаецца недарэчнасцю. Міця глядзіць на настаўніка з міжвольнай сімпатыяй. Ён як бы шкадуе, што не ведаў яго раней. Нечым блізкім, спакойным патыхае ад дужай постаці, даверлівых шэрых вачэй.

Аўсянік ні аб чым небяспечным не распытвае. Цяжка зразумець, як ён паставіўся да ўсяго, што расказаў настаўнік. Мабыць, асцярожнічае, як і ўчора з Міцем.

## 3

Ноччу было трывожна. Каля лесу двое краліся да чыгункі, салдаты заўважылі, узнялі страляніну. Азваўся дзот ля Птахавага пераезда. Стралялі проста ў цемень, ад страху.

Днём на пераездзе — паставых двое. Салдаты жывуць уражаннямі ночы. Твары насцярожаныя, хмурыя. Дарэмна радаваліся. Тут, здавалася б, у глыбокім тыле, не лягчэй, чым на фронце. Вельмі лёгка можна палучыць кулю ў спіну.

У поўдзень паставымі на пераездзе Венігер і Пэтэрле. Едзе Шнапс, спыняе на шляху каня, ідзе да знаёмых салдат. Вымае з-за пазухі чырвоны зліналы лісток, працягвае Венігеру:

— Камрад, прачытай. Тут па-нямецку напісана. У лесе знайшоў.

Як з-пад зямлі перад паставым з'яўляецца унтэр-афіцэр Лібке. Выхапіў лісток, таропка прабег вачамі, наліўшыся крывёй, зароў:

— Бальшавік!.. Партызан!.. Прапаганда!..

У Венігера белы, як палатно, твар:

— Супакойся, Рудзі. Ён і чытаць не ўмее. Лістоўка мінулагодняя. Спалім, і канцы ў ваду...

Лібке не слухае, выхапіўшы ў Пэтэрле карабін, страляе ў паветра. Трушком, папраўляючы рамяні, бягуць салдаты з двара.

— Арыштаваць! — паказваючы на Шнапса, крычыць Лібке.— Тут усе партызаны. Сын будачніка арыштаваны. Пад носам шкодзяць...

Абамлелага Шнапса вядуць у двор, у склеп.

Праз гадзіну на штуцпункце № 16 сам камандзір ахоўнага палка палкоўнік Зайдэ — высокі, перахлябісты і гэткі ж перахлябісты лейтэнант Эрліх. Выклікаюць на допыт спачатку Лібке, потым Венігера, апошнім — Пэтэрле. Шнапса не завуць.

Двое салдат ідуць з рыдлёўкамі за лагчынку, у кусты...

Рашэнне палкоўніка Зайдэ цалкам адпавядае інструкцыі — партызанаў, дыверсантаў расстрэльваць на месцы злачынства. Выпадак тыповы. Ёсць свая хітрасць у рашэнні палкоўніка. У мястэчку — карны атрад СД, у злачынстве замешаны салдаты. Зайдэ не хоча, каб эсэсаўцы савалі нос у вайсковыя справы. Бальшавіцкага лазутчыка расстраляюць якраз тыя, каго спрабаваў агітаваць.

Надвячоркам пяцёра салдат на чале з лейтэнантам Эрліхам вядуць Шнапса ў лагчынку. Сонца вісіць над лесам. Шнапс

шоргае лапцямі па зямлі, ногі заплятаюцца. Калі ставяць спіной да ямы — ён паднімае правую руку, хрысціцца...

— Abteilung, Achtung! — зычна камандуе Эрліх.— Links um! Weniger, Peterle — vorwärts![1]

Венігер і Пэтэрле робяць тры крокі наперад. Узнімаюць да пляча карабіны.

— Gewehre — an!.. Feuer![2]

Залп. Як падсечанае дрэва, чалавек падае не ў яму, а наперад, рэдкай сівой барадой у жвір.

Праз паўгадзіны аддзяленне, хоць і не ў поўным складзе, чотка адбіваючы крок, вяртаецца на пераезд. Шнапсавага каня на шляху няма, убіўся з калёсамі ў жыта, прагна хапае мокрымі губамі амаль даспелае калоссе.

## 4

Цішыня ў турэмным калідоры скончылася пасля паўдня. Мітусня, шум, крыкі сведчаць аб тым, што жыццё зноў увайшло тут у сваё звычайнае рэчышча. Ад гэтага нават спакайней. Цішыня палохала.

Заходзіць жандар. Той самы, які вывучае рускую мову. Адзін, без паліцая. Жанчына падхопліваецца з ложка.

— Пан, пан, што з намі будзе?! — яна плача, заглядвае немцу ў вочы.

Выгляд у таго збянтэжаны. Адводзіць позірк убок, нерашуча перамінаецца з нагі на нагу.

— Якая ест прычына ваш арышт?

— Мы радыё не слухалі. Бачыць Бог, што праўда... Прыёмнік быў няспраўны, раскіданы. Скажыце гэта начальніку, пан...

— Усякі прыёмнік нада здаць паліцыя. Няспраўны таксама. Гэта ваш памылка.

— Мы не тутэйшыя, пан. Не ведалі закону. Няўжо нас за гэта расстраляюць?.. О, Божа!..

---

[1] Аддзяленне, увага! Налева, кругом! Венігер, Пэтэрле — наперад!

[2] На плячо!.. Агонь!

— Еслі ваш праўда, могут паслат Германія. Канцэнтрацыйны лагер...

— Дык чаму на допыт не выклікаюць?.. Я ўсё раскажу. Як перад Богам. Папрасіце начальніка, пан...

Хлопчык прачнуўся, сядзіць на ложку, глядзіць на немца. Вочы спалоханыя, акругленыя. Бесказырка на падлозе.

Жандару няёмка. Крута павярнуўшыся, выходзіць.

Як нямнога трэба чалавеку, каб запаліць у сэрцы іскру надзеі. Міця, слухаючы размову збоку, назіраючы за жандарам, не паверыў ніводнаму яго слову. Жанчына паверыла. Павесялела на вачах. Вось яна ўжо гушкае хлопчыка, туліць да грудзей, смяецца.

— І ў Германіі можна жыць,— гаворыць яна нібы сама з сабой.— Хлопчык мой... Хіба мы ядзім многа хлеба. Нам скарыначку — і будзем жыць...

Яна яшчэ зусім маладая, гэтая жанчына. Чарнявы твар, змучаны, худы. Сінія кругі пад вачамі. Таму здаецца пажылой.

У дзвярах суседняга пакоя, дзе сядзіць Сяргей, шчоўкнуў замок. Чуваць крокі. Міця прыслухаўся.

Дзверы зачыніліся. Крокі на калідоры. Міця ўскочыў на спінку ложка, зазірнуў у пакой. Сяргея няма. Павялі. На допыт? Ці, можа... Пакутліва цягнуцца секунды. Міця глядзіць праз акно на двор. Калі завурчыць матор, значыць, усё ясна... Як учора з пракурорам... На двары — ні душы. Ходзіць па мураве курыца, клюе нешта. Як яна сюды трапіла? Курыца і турма — зусім недарэчна. Немцы могуць проста: цесаком па горле і ў суп. Любяць курынае мяса. Кураеды, яйкаеды. Але не чапаюць. Можа, курыца належыць жандармерыі?.. Чакаюць свята? Тады чаму адна? Адной не накорміш зграю. Усе гладкія, чыстыя. Добра ядуць...

Міця стараецца думаць пра другое, што не мае дачынення да Сяргея, але цяпер гэта ўдаецца ненадоўга. У душы вострае, як цвік, чаканне — калі пачуецца крык. Крык — збавенне. Крык азначае, што чалавек не здаецца...

З калідора даносяцца крокі, галасы. Учора ясна быў чуцён крык. Настаўніцкая, дзе дапытваюць, у гэтым крыле. Праз чатыры класы. Чутно, калі моцна крычаць. Цела вяне, расслабляецца. Млосна. У роце перасыхае. Горш за ўсё не-

вядомасць. Учора ён палохаўся крыку. Дурань. Усяго адны суткі ён сядзіць тут. А прамінула, здаецца, вечнасць. Там, за сценамі школы, якая стала турмой, няма нічога. Усё тут... Свет сышоўся клінам... Хай бы выклікалі. Чаму не выклікаюць?.. Колькі мінула часу, як Сяргея павялі?..

Міця пачынае прахаджвацца. Ад акна да дзвярэй. Ад дзвярэй да акна. Шэсць крокаў. Хлопец з Грамоў ляжыць, падкурчыўшы ногі. З учарашняга дня не ўставаў. Не сядзеў нават. Бурду, якую прынеслі раніцай, выпіў з міскі, лежачы. Гэтак збілі. Болей не выклікаюць. Не б'юць. Цвёрды хлопец. Нават не стогне. Хоча адпомсціць старасту. Як жа прозвішча гэтага старасты?.. Ён учора называў. Гнядко. Так, Гнядко. Трэба запомніць. А навошта? Калі Сяргей не крычыць, значыць, усё... Можа, трымаюць перад дзвярамі?.. Навошта тады вывелі з камеры?.. На двары не відаць. Курыца знікла. Ясна, не жандарская. Проста прыблудзілася... Аўсянік пахрапвае. Настаўнік недаўменна пазірае на Міцю. Разумее, што той хвалюецца. Харошы чалавек. Даверлівы. Як дзіця...

Міця стаў ля акна. Ужо ні на што не спадзяваўся. Да болю выразна адчуваў: мінула часу больш, чым трэба Сяргею, каб прайсці калідор, апынуцца ў настаўніцкай. Тады пачуўся крык. Пакутлівы, працяжны. Па крыку нельга пазнаць чалавека. Голас мяняецца. Усе крычаць аднолькава. Але ён ведаў, што гэта Сяргей. Знямоганы, Міця зваліўся на ложак...

* * *

Крык стаіць увушшу, працінае ўсё цела, коле ў сэрца. Жанчына падхапілася. Вочы ў яе вялікія, страшныя. Туліць да сябе хлопчыка. Аўсянік спіць. Можа, прытвараецца?.. Настаўнік выцірае хусцінкай лоб. Рукі дрыжаць...

На хвіліну крык як бы сціх. Потым зноў. Колькі можна біць чалавека? Яны яго заб'юць... Звяры... Звяры шалеюць, калі бачаць кроў. Ці меў ён права патрабаваць гэтага ад Сяргея?.. Яго ж самога не б'юць. Сяргей ратуе яго. Іх усіх... Навошта? Ці варта жыць, калі ёсць такое?..

Міця адчувае, што яшчэ хвіліна — і ён не вытрымае. Закрычыць, кінецца на падлогу, будзе біцца галавой аб сцяну.

Усё адно. Абы самому спазнаць боль, патушыць агонь, які пячэ ў грудзях. Немагчыма слухаць нечалавечы крык. У гэтую хвіліну Міця гатовы ўзяць віну на сябе. Няхай б'юць, здзекуюцца з яго самога... Але ён яшчэ ляжыць. Не варушыцца. Маўчыць. Сціскае да болю зубы. Як з-пад зямлі чуе глухі голас Вадэйкі:

— Вашага таварыша катуюць?..

Ён не адразу разумее, пра што пытаюцца. Крык цішэйшы, але яшчэ працягваецца. З кароткімі перапынкамі. Міця як бы бачыць мардатых, у споднiх вязаных сарочках, з бярозавымі палкамі ў руках, якія ўчора сядзелі ў настаўніцкай. Відаць, б'юць па чарзе. Пакуль кожны не стоміцца.

— Вы можаце не гаварыць, не трэба,— чуецца той жа глухі голас.

Міця ўстае, садзіцца. У галаве шуміць. У вачах — зялёныя кругі, якія разыходзяцца, нібы хвалі. Шырокі няголены твар Вадэйкі — ён сядзіць насупраць, на краі ложка — спачатку як у тумане. Потым туман развейваецца. Твар чалавека збялелы. На ім боль. Міця нібы вярнуўся ў другі свет. Тут усё звычайнае, знаёмае, што ён прывык бачыць заўсёды. Людзі тут спачуваюць адзін другому...

— Майго таварыша б'юць,— адказвае ён напаўголаса.

— Разумею. Узялі за што?

— Дапытваюцца пра прыёмнік. Можа, яшчэ пра штонебудзь. У яго знайшлі наган...

— Вы слухалі радыё?

— Слухаў.

— І не адзін вы?

— Не адзін.

— Я вас разумею,— настаўнік цяжка ўздыхае.— Лягчэй паміраць, калі не адзін... І пакуты пераносіць. Калі ў чалавека ёсць ідэя, ён лёгка ідзе на смерць. Ёсць за што сабой ахвяраваць. Хоць катавання можа і не вытрымаць. Тут звычайная біялогія. Нервы самі крычаць...

Многіх хапіла б на тое, каб памерці гераічна, за хвіліну, думае Міця. Ён сам так памёр бы. А паспрабуй — за тыдзень... Ніхто нічога не можа пра сябе ведаць — пра сваю волю, мужнасць,— пакуль не трапіць у гэтае страшнае мес-

ца. Ніхто не можа сказаць: «Вытрымаю». Гэта залежыць ад многіх прычын. Вадэйка кажа праўду — найбольш ад той нябачнай сілы, якой не выявілі ў чалавечым целе ні анатомы, ні фізіёлагі — ад душы, ад ідэі. Цела пакутуе, яго рвуць на часткі, мільёны нерваў пасылаюць туды, у цэнтр, які называецца мозгам, сігналы аб бядзе, аб катастрофе цела, а мозг, забыўшы на гэта ўсё, павінен трымацца. Ці вытрымае Сяргей?

Міця прыслухоўваецца. Крыку болей не чуваць. Ён не ўлавіў моманту, калі настала цішыня. Можа, таму, што крык увесь час стаяў у вушах.

Не хочацца верыць, што ўсё скончылася. Здаецца, зараз зноў пачнецца. Праходзіць хвіліна, другая. У суседнім пакоі адчыняюцца дзверы. Глухі шоргат — Сяргея цягнуць па падлозе. Шчоўкае замок...

Міця хацеў бы стаць на спінку ложка, зазірнуць у пакой, дзе Сяргей, але не можа. Нешта не дазваляе. Гэтаму няма назвы. Сяргея катавалі, яго — не. Таму ён не мае права нават суцешыць.

Настаўнік перасеў на Міцеў ложак. Шэпча ў вуха, абдаючы гарачым дыханнем:

— Вы мне нічога не расказвайце. Не трэба... Нікому не трэба ведаць лішняга. Паверце мне — я многа бачыў. На вайне быў. На імперыялістычнай. Там нагу страціў. Тады быў такі малады, як вы. Можа, трошкі старэйшы. Ёсць многа смелых людзей, якія нічога не баяцца. Але тут іншае... Тут зламаць могуць самага смелага. Я за сябе не магу паручыцца. Толькі людзі вялікай ідэі могуць вытрымаць.

Міця глядзіць на Вадэйку — твар у яго сумны, спаласаваны маршчынамі. Цяпер ён здаецца вельмі старым. Шчаціна на скронях сівая, у шэрых вачах — сум.

— Вы здзівіцеся, вам цяжка зразумець,— гаворыць настаўнік ужо ўголас.— Але мне трэба сказаць... Доўга маўчаў. Прызнаюся шчыра — вучыў у школе аднаму, а сам думаў другое. Многае не па мне было ў савецкім жыцці, не падабалася. Цяпер каюся... Сляпы быў... Не бачыў далей носа. І не сёння я такі разумны стаў. Яшчэ там, у вёсцы... Проста ёсць дрэнныя людзі... Якія паганяюць толькі шкурны інтарэс.

Учора заявы пісалі, даносы, а сёння перад немцамі выслужваюцца. Аднаго такога добра ведаю. Спаткай прозвішча. Старшынёй сельсавета быў у нас. Сына свайго Акцябром назваў. Спаткай Акцябр... Дык абодва гэтыя Спаткаі аж са скуры вылузваюцца, каб выслужыцца перад немцамі. Бацька быў у знішчальным батальёне, партызан выдаў, а цяпер — бургамістр воласці. Сын — паліцэйскі.

Бацька, каб паверылі яму новыя гаспадары, восенню яўрэя застрэліў. Хаваўся ў лесе адзін, па прозвішчу Фукс. Мяне ж гэты Спаткай пісарам да сябе запрашаў. Не вытрымаў я. «Якому ж,— пытаю,— Богу веруеш, Спаткай? Нямецкаму ці савецкаму?..» Махнуў рукой, рагоча. Па мне, кажа, няхай ніякага не будзе. Пражывём і без Бога.

Бачыце, страшны які чалавек. А я яго бальшавіком лічыў, па ім савецкую ўладу мераў...

Звесіўшы галаву, Вадэйка як бы нешта ўспамінае, трэ далонямі скроні.

— Дрэнным быў я настаўнікам,— працягвае глуха.— Можна сказаць, праспаў эпоху. Таму астаўся адзін. Цяпер хацеў памагчы савецкай уладзе, ды не ведаў як. Слухаў радыё. Не мог іначай. Як бы нанава нарадзіўся на свет... Збіраўся дагнаць тое, што ўпусціў. Ды вось іх падвёў. Мне нічога, я пажыў, а яна, а гэтае дзіця... Што яны бачылі?..

Вечарэе. Хісткія цені ад таполі пад акном кладуцца на сцяну. Вадэйка ўздрыгвае ўсім сваім вялікім целам, пакутліва моршчыцца...

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

### 1

Вечарам на школьным двары зноў ажыўленне. «Да ветру» вядуць адразу па двое, па трое. Ланцуг паліцаяў і арыштаваных амаль не перарываецца. Многа новых людзей, якіх не відаць было ні ўчора, ні нават сёння раніцай.

— Шэлега павялі! — ні то са здзіўленнем, ні то са страхам ускліквае Аўсянік.— Значыць, і ты, Іван... А я думаў...

Што ён думаў, Аўсянік не дагаварвае. Міця стаіць з ім поплеч, глядзіць на двор. Сярод тых, хто ідзе пад канвоем выдзяляецца высокі плячысты чалавек, якога паліцай вядзе аднаго. Міця яго і ўчора бачыў. Постаць чалавека знаёмая. Нехта з раённых работнікаў.

— Яго і ўчора вадзілі,— гаворыць Міця Аўсяніку.

— Учора?.. А чаму ты не сказаў?.. Гэта Шэлег... Трымаў майстэрню.

Думка імгненна пераскаквае на Драгуна. Ён не адзін, гэта ясна. Звязан з партызанамі, а гэта цэлы ланцуг людзей. Гаечных ключоў так і не перадалі. Немцы па вёсках... Аграном сказаў: «Будзеш у нас сувязным...» Не хацеў знаёміць ні з кім, нават з тымі, з якімі ён, Міця, разам слухаў радыё. Ён іх не падвядзе. Нікога не падвядзе. Лепш загіне. Што думае пра яго Сюзана?.. Як там яна — хворая?

— Паўмястэчка арыштавалі,— узбуджана гаворыць Аўсянік.— Глядзі, колькі новых. А за што гэтых жанчын?..

Сапраўды, на двары большасць новых. Жанчын паліцай вядзе гуртам. Яны спалохана азіраюцца. Іх, мабыць, арыштавалі сёння. Цяпер зразумела, чаму да паўдня ў турме было ціха. Хапалі людзей.

— Мама, мамачка мая! — у роспачы крычыць жонка настаўніка.— Іван, яны маму ўзялі!.. Мама тут!.. Павялі... Навошта яна ім? Што зрабіла?.. Усіх хочуць знішчыць... Усіх, усіх!

Жанчына забілася, як злоўленая птушка. Ломіць рукі, кідаецца на падаконнік, на краты, надрыўна рыдаючы. Хлопчык ужо не можа плакаць. Сядзіць ціхі, спалоханы. У настаўніцкай дапытваюць. Крык то сціхае, то даносіцца зноў.

Вечарам, калі зусім сцямнела, Міця чуе асцярожны стук ва ўнутраныя дзверы. Адзываецца, узлазіць на спінку ложка. Сяргей на падлозе, ля самых дзвярэй. Голас чужы, незнаёмы:

— Я так і сказаў... Як ты гаварыў... Пра настаўніка пыталі... Ці хадзіў да яго слухаць радыё... Жыве блізка ад мяне... Не ведаю яго... Білі...

Ён гаворыць нешта яшчэ, але неразборліва, глуха, нібы з-пад зямлі. Міця маўчыць. Не ведае, што сказаць. Няма ніякіх слоў. Так стаіць некалькі хвілін, углядваючыся ў паўзмрок пакоя. Нарэшце просіць:

— Ты засні, Сяргей... Спі... Табе трэба паспаць... Сяргей не адказвае. Міця кладзецца, доўга ляжыць з адкрытымі вачамі. Сон не ідзе. Ён нібы чуе перарывістае Сяргеева дыханне. Сяргей побач. Іх раздзяляюць толькі дзверы...

— Пра вас пыталіся,— шэпча Міця, устаўшы, нахіліўшыся над ложкам настаўніка.— Гэта Сяргей... Мой таварыш. Быў на допыце...

Вадэйка, даючы знак, што зразумеў, кранае яго за руку. Міця зноў кладзецца на ложак.

Ноч трывожная. Турма поўніцца шорахамі, крокамі, прыглушанымі галасамі. Музыкі, як учора, няма. Кавалак неба, відны з акна, засеяны зоркамі. Іх многа. Бліскучыя, нібы абмытыя расой. Далёкія, невядомыя светы. Можа, і там ёсць людзі?.. Войны, турмы?..

Недзе, мабыць, на чыгунцы, раздаецца кулямётная чарга. Потым яшчэ... Таполя стаіць пад акном, як нямая чорная горка. Востра пахне палыном. У сярэдзіне лета заўсёды так пахне. У полі даспявае цяпер жыта. Ноччу, пад зоркамі каласы шасцяць ледзь-ледзь. Зямля дыша цеплынёй. Паветра нібы настоена на тысячы пахаў... Нячутна носяцца кажаны. Як яны бачаць ноччу?..

Думкі аб зорках, полі, жыце, тых штодзённых праявах жыцця, якія спадарожнічаюць з дзяцінства, прыносяць супакой. Непрыкметна падкрадваецца сон.

Прачынаецца Міця ад гучнага літання. У першае імгненне, не могучы разабрацца, дзе ён, касцянее ад халоднай жудасці. У праёме акна чорная постаць. Яна варушыцца, узмахвае рукой. Праз жах, які скаваў цела, да свядомасці нарэшце даходзіць, што гэта жонка настаўніка. Трымаючы на адной руцэ хлопчыка, яна як бы моліцца...

— Мы паляцім да зорак, харошы мой!.. Далёка-далёка... Зоркі — чалавечыя душы. Чыстыя, нявінныя. Самі станем зоркамі. Побач будзем, харошанькі. Будзем свяціць над зямлёй... Нам будзе добра, ціха. Няма на зямлі шчасця. Жыццё — праклятае...

— Яна звар’яцела,— спалохана шэпча настаўнік. Ён перасеў да Міці, усё яго вялікае цела дрыжыць.

Жанчына прычытае. Цяпер голас яе зрабіўся мяккі, спакойны, ён як бы зусім пазбаўлены трывогі. Здаецца, яна проста спявае калыханку:

— Ты станеш анёлам, харошы мой... Ніколі не лятай на зямлю. Яна праклятая, праклятая... На небе спакойна. Там людзей не мучаць, там мы будзем любіць адзін аднаго. Ніхто нам не перашкодзіць любіць...

Ад гэтага напеўнага рэчытатыву становіцца жудасна. Настаўнік маўчыць. У яго, відаць, не стае сіл, каб перапыніць жонку. Хлопчык спіць у маці на руках. Рытмічна пакалыхваючыся, яна стаіць перад акном, і здаецца, няма ёй справы да камеры, турмы, да ўсіх гэтых людзей, якія дышуць, спадзяюцца, хочуць жыць.

— Далёкія зорачкі!.. Вазьміце нас да сябе... Хутчэй вазьміце... Мы не хочам тут... Тут цесна людзям... Усе ненавідзяць, б’юцца, не даюць спакою... Мы хочам спакою. Мы прыляцім да вас, зорачкі...

Настаўнік устае, падыходзіць да жонкі.

— Марыя, ляж,— ціха просіць ён.— Ты стамілася. Паспі, Марыя...

Яна падпарадкоўваецца без слоў. Кладзе на ложак хлопчыка, акрывае хусткай. Прымошчваецца сама. Праз хвіліну спіць ужо. Ціха, роўна дыша.

Настаўнік лёг з Міцем. Абодва не спяць. У калідоры таўхатня, тупат, прыглушаныя галасы. На двары загудзеў матор. Цяжка зразумець — прывезлі каго ў турму ці вязуць адсюль?

— Гісторыя крывёй напісана,— напаўголаса, нібы сам з сабой, разважае Вадэйка.— З самых першых крокаў чалавека. Але свет такога даўно не бачыў. Даўно... Можа, з часоў Чынгісхана. Ніякай павагі да чалавека. Абсалютна ніякай. Глядзяць на яго, як на жывёлу. Дзе ж тыя дабрачыннасці, якімі столькі вякоў выхвалялася Еўропа? Хрысціянства, гуманізм... У дваццатым стагоддзі Германія пастаўляе свету катаў. Вылюдкаў... О, якую праўду пісалі бальшавікі, калі папярэджвалі на конт фашызму!.. Я не верыў, думаў, прапаганда... Бальшавікі вернуцца, дарагі мой, павер мне. За нас адпомсцяць. Адны яны могуць выратаваць чалавецтва. Стары свет згніў. Ён асуджаны на пагібель, інакш як вытлумачыш

такое. Калі ў грамадстве бяруць верх нізкія інстынкты і пачуцці, яно гіне. Праверана гісторыяй. Садом і Гамора, Старажытны Рым... Фашызм — гэта агонія, закат старой Еўропы. Змрок свядомасці. Так, у чалавеку ёсць цёмнае, звярынае. Гэтага нельга адмаўляць. Дастаеўскі гэта добра бачыў. Фашысты ўзнімаюць нізкае ў чалавеку, як сцяг. Бачаць у ім толькі звера. Так іх нямецкі Ніцшэ вучыць. Вось ён, звышчалавек — у натуры... Белакурая бестыя... Будзе ісці па касцях, па чарапах. Пляваць на цывілізацыю, на культуру... Фашызм — пракляцце чалавецтва. Ён ператварыў немца ў паслухмяную машыну для знішчэння людзей. Позна я гэта зразумеў... О, як позна!..

Цела настаўніка гарачае, гаворыць ён спяшаючыся, захліпваючыся, нібы баіцца, што не паспее ўсяго выказаць. Міця ўзрушаны. Але і праз пякельны вір, які пануе ў яго душы, прабіваецца думка: Вадэйка як бы забыў аб становішчы — сваім, сям'і, словы яго — як на мітынгу.

— Раскармілі фашызм маленькія, баязлівыя людзі. Якія прывыклі гнуць карак... Мая хата з краю. Абы напхаць жывот... Пражыць як-небудзь... А фашысты хітрыя... Казыраюць высокімі паняццямі. Лёс нацыі, айчыны... Новая Еўропа... Гітлер у кожнай прамове прызывае ў сведкі Бога. На гэтую прыманку таксама клюнулі. Чалавека купіць, аказваецца, можна танна. Кіўні пальцам — ён і пабяжыць... Але цяжкім будзе пахмелле...

— Вы даўно слухалі радыё? — спытаў Міця.— Што перадаюць нашы?

Вадэйка на хвіліну змоўк, задумаўся.

— Пазаўчора слухаў. Можа, апошні раз у жыцці... Дрэнна на фронце... Баі на Доне. Ясна, немцы рвуцца на Каўказ і да Волгі. Хочуць нафту захапіць, перарэзаць галоўную водную артэрыю. Што тут скажаш, дарагі мой... Прахлопалі мы нешта вельмі важнае. Крычалі, лямантавалі, а як да справы прыйшлося... Цяпер кроўю плацім. Мільёнамі жыццяў... У гэтай вайне чалавек — як муха... Вайна і тут таксама. Немцы хочуць вынішчыць нацыю. Жыццёвую прастору сабе заваёўваюць. Я ўпэўнены — прайграюць яны вайну. Іначай быць не можа. Яны разлічвалі на хуткі поспех — Масква гаворыць аб гэтым увесь час. Цяпер вайна стала зацяжной. Немцу такое — нож у горла. Але... Пройдзе не год, не два, пакуль усё скончыцца.

— Вы выкладалі ў школе гісторыю?

— Не, мой дарагі. Біялогію і хімію. Гісторыкам зрабіўся за апошні год. Палітыкам таксама, кніг перачытаў процьму...

— Добры вы чалавек. Смелы.

— Позна я стаў ім. Цяпер не паправіш. Давай паспрабуем заснуць. У нашым становішчы сон — самае галоўнае...

Міцю хочацца сказаць гэтаму чалавеку многа ўдзячных, цёплых слоў. У кнігах, якія ён прачытаў, былі розныя героі, па-рознаму захаплялі. Але ніводзін з іх не падобен да Вадэйкі. Настаўнік нічога не зрабіў, памыляўся, каяўся, але з ім не страшна. Нават паміраць... «Мяккацелы інтэлігент»,— выплыла аднекуль прачытаная фраза, і, усміхнуўшыся з яе недарэчнасці, Міця заснуў, так прамінула другая ноч.

## 2

— Сон мне сніўся,— даверліва паведаміў Вадэйка, як толькі Міця прачнуўся.

Ён сядзіць на краі Міцевага ложка, сын, Пеця, побач з ім. Хлопчыку не сядзіцца: валтузіцца, дрыгае нагамі. Жанчына, скурчыўшыся ў клубок, спіць адна на сенніку.

Дзень пачынаецца ясны, сонца ў акне няма, яшчэ толькі ўсходзіць. Таполя зялёная, нібы ўмытая. На двары, над зялёнымі астраўкамі муравы, падымаецца белы, ледзь прыкметны дымок.

— Здаецца, нас пасадзілі ў машыну, павезлі,— расказвае настаўнік.— Ну, вядома куды... Дзень вось такі, як сёння. Едзем, едзем. Вакол поле, авёс, Яшчэ зялёны. Машына імчыцца хутка, але там, дзе што-небудзь расце, зямля мяккая. «Скакай!» — крычу жонцы. Яна скочыла, і не відно яе. Схавалася адразу. Тады я за Пецю і ўслед гоп з кузава. І аўсом, аўсом. Прыгінаюся, бягу. Па мне страляюць, але дзе там. Дудкі пападзеш... Што б мог значыць такі сон?..

Аўсянік устаў, пазяхае, расчэсвае рукой густа зарослую бараду. Хлопец з Грамоў сядзіць на падлозе, слухае.

— Толькі, здаецца, снілася, што ў мяне дзве нагі. Дзе ж узяць другую, калі прыйдзецца ўцякаць?..

Настаўнік ні то жартуе, ні то гаворыць сур’ёзна.

— Каза ад бабкі ўцячэ,— задумаўшыся, гаворыць Пеця.

— Бабка яе прывязала, сынок.

— Вырвецца, яна хітрая. Яна раз вырвалася і ўкалола Віцю. А ён біў мяне.

— Чаму ты мне не сказаў?

— Ён мне слівы даваў. Толькі яны горкія.

— Не трэба есці зялёных сліў. Жывот будзе балець.

— А я не еў. Пакідаў...

Учора Пеця здаваўся маўклівым, спалоханым, на ўсіх, акрамя бацькі і маці, пазіраў з асцярогай. Сёння асвоіўся, пасмялеў. Вось ён ужо на падаконніку, трымаючыся за жалезныя пруты, глядзіць на двор.

На двары ранішняя працэсія да прыбіральні... Сняданак зноў разносіў учарашні паліцай з жандарам, які гаворыць па-руску. Жандар на хвіліну запыніўся перад Аўсянікам.

— Ваш жонка прыйшла... Сказала — хоча быць з вамі. Яе пасадзілі тут, турма...

— Чаго яна прыйшла? — падняўся Аўсянік.

— Не знаю. Ваш жонка.

Нерашуча павярнуўшыся, акінуўшы пакой спалоханым позіркам, жандар выйшаў. Аўсянік павіс ля акна. Стаіць, угледаючыся ў кожную кабету, якую праводзяць па двары.

У калідоры мітусня яшчэ большая, чым учора з паўдня. Здаецца, там бесперастанку маршыруюць. Грукаюць наверсе. Праз разбітую шыбіну ў пакой заляцела страказа.

— Злаві пшайку,— торгаючы бацьку за рукаў, просіць Пеця.

— Пачакай трошкі. Прыляціць другая, тую злаўлю.

— А чаму не хочаш гэтую?

— Яна кусаецца.

Страказа села на сцяне, якраз пад надпісам, які зрабіў дэсантнік. Міця думае, што значыць гэтае: «Нет, я буду сквозь слезы смеяться». З чаго смяяцца? І чаму праз слёзы?.. Той чалавек, які так напісаў, відаць, адчуваў сябе няшчасным. Не паспеў нічога зрабіць і трапіў у лапы да немцаў. Інакш нельга вытлумачыць сэнсу. Але не хацеў здавацца. Смяяўся з уласнага лёсу.

Аўсянік жонкі не пабачыў. Выходзіў з паліцаем на двор, затрымаўся там болей звычайнага, але так і не ўдалося пабачыць. Жонку настаўніка выводзілі з хлопчыкам. Сёння

яна абыякавая, маўклівая. Ляжыць на ложку, адвярнуўшыся тварам да сцяны.

Сонца паднялося ўжо досыць высока, яго праменні, прабіваючыся праз галіны тапалі, кладуцца пярэстымі зайчыкамі на сцяну. Аўсянік закурыў. Дастаў аднекуль з-пад матраца карабок. Прымерыўшыся, баючыся сапсаваць, асцярожна чыркнуў запалкай. Пальцы дрыжаць.

— Дасцё пакурыць,— просіць хлопец з Грамоў.

Сёння ён не ляжыць. Выходзіў нават на двор. Цяпер сядзіць у кутку, прыхінуўшыся спіной да сцяны. Ложка яму няма.

Шызаваты дым уецца колцамі. Нябачна растае пад столлю.

— На, бяры,— працягвае недакурак Аўсянік.

Хлопец спрабуе ўстаць, але яму цяжка, і Аўсянік сам падыходзіць да яго.

Аўсянік нечакана разгаварыўся. Ні пазаўчора, ні ўчора ў небяспечныя размовы не ўступаў. Цяпер пачынае гаварыць горача, злосна.

— Фашыстаў біць трэба, знішчаць! — амаль крычыць ён.— Толькі так... Вы ж ведаеце, я быў у знішчальным батальёне. Пайшлі ў лес. Дваццаць вінтовак, два ручныя кулямёты — можна ваяваць. І ваявалі. Скажу — чаго цяпер таіцца. Як немцы ў першыя дні па шашы валілі, дзве машыны мы падсцераглі. Легкавую і грузавую. Кашы нарабілі... А потым...

Як бы ў адчаі, Аўсянік махае рукой, уздрыгвае.

— Потым неразбярыха пачалася... Фронт прайшоў, і няма немцаў. Раз выходзім на шашу, другі, трэці. Гола. Пуста. Хоць бы матацыкл які ці фурманка. Нібы ўсё вымерла. Няма з кім ваяваць. Паліцэйскіх гэтых, старастаў яшчэ не было. Можа, дзе і былі, але баяліся нос высунуць. Паверыце, вашамі за месяц абраслі. Як маку вошай. Ад суму. Сядзім ядзім кансервы. З сухарамі. Трое збеглі. Можа, ведаеце, Адамчук, дарожны майстар. Яго і ў партызаны, у атрад узялі як спецыяліста. На выпадак, калі прыйдзецца ўзрываць чыгуначныя масты. Дык гэты спецыяліст рашыў за лепшае прыгрэцца каля немцаў. Уцёк, сволач, са зброяй. Лаві цяпер, свішчы. Услед за ім Спаткай, Касарэвіч. Я чуў, таварыш Вадэйка, як вы ўчора пра Спаткая расказвалі. Правільна... Хто мог падумаць, што такі можа здрадзіць. Быў старшынёй сельсавета...

У суседнім пакоі валтузня. Нешта глуха, як мяшок, падае на падлогу. Шчоўкае ў замку ключ, крокі па калідоры. Міця падхопліваецца, становіцца на спінку ложка. Сяргей ляжыць на падлозе распластаўшыся, як нежывы. Валасы збіліся ў камяк, мокрыя. На пінжаку і штанах рудыя плямы. Прывялі з допыту. Але ніхто не чуў, калі за ім прыходзілі. Крыку таксама не чуваць было. У такім тлуме можна і не пачуць.

— Білі Сяргея зноў,— паведамляе Міця.

Аўсянік апусціў вочы, задумаўся.

— Мяне таксама білі,— зморшчыўшы ад болю твар, ціха гаворыць ён.— Успомніць страшна. Уставаў і лажыўся з адным — хутчэй бы канец...

Як бы перамагаючы ўнутраную скаванасць, нерашучасць, працягвае:

— Усім помсцяць за знішчальны батальён. Ні аднаго не пакінулі. Тыя, што дадому вярнуліся з лесу ў турме ўсе. Здраднікаў адных не зачапілі. Хто прадаўся. Адамчука, Спаткая... А разышліся праз іх...

Абарваўшы расказ, Аўсянік пераводзіць позірк з твару на твар. Нібы ацэньвае вартасць кожнага — настаўніка, Міці, хлопца з Грамоў.

— Калі збеглі гэтыя — ясна стала: чакай гасцей,— гаворыць ён, пасмялеўшы.— Яны ж усё ведалі. Дзе склады, дзе тайнікі. Толькі і паспелі перанесці лагер. Але бяда з другога боку прыйшла. Адкуль не чакалі. Пайшлі ў разведку Мацвееў і яшчэ двое — натрапілі на засаду. Нібыта пабілі іх. Чацвёртага пасылаем у мястэчка, у разведку, а ён варочаецца з жонкамі. Тры адразу з'явіліся. Мая таксама. Плачуць, у маёй якраз ліст ад бургамістра, ад гэтага Крамера. У ім нашы прозвішчы пералічаны ўсе. Ясна — здраднікі пастараліся. Піша бургамістр мякка, ветліва. Маўляў, ідзіце дадому — нічога не будзе ні вам, ні вашым сем'ям. Калі ж не вернецеся, крыўдуйце на сябе. У немцаў законы жорсткія — цацкацца не будуць з сем'ямі бандытаў. Філімонаў, старшыня райвыканкама, бачыць — дзела швах. Чатырнаццаць чалавек засталося. Ні складаў, ні запасаў. З пяццю чалавекамі падаўся на ўсход, нам загадаў пераходзіць у падполле. Анкудовіч і яшчэ трое зброі, праўда, не здалі.

— Усё з гэтага пачалося,— упаўшым голасам працягвае Аўсянік.— Паспрабуй пераступі жонку, дзяцей. Смеласць ці палахлівасць ні пры чым тут. Рукі апусціліся... Я той дзень пракляў, калі згадзіўся астацца ў знішчальным батальёне. Не адзін я. Усе, у каго ў мястэчку сем'і. Мог жа ў армію пайсці. Армія — святое дзела. Нават немцы не помсцяць сем'ям чырвонаармейцаў...

Міця глядзіць на Аўсяніка з жалем. Тры дні назад думаў пра яго як пра звычайнага шкурніка. Да вайны раённым Асаавіяхімам кіраваў, а тут прыйшоў з лесу, здаў вінтоўку, носа з хаты не вытыркаў. Вясной, калі немцы хапалі прымакоў і падазроных, нават далёка адбегчыся ад мястэчка не здолеў. А як таіўся наконт зброі!.. Колькі да яго пахадзіў Сяргей!.. Як яго ўгаварвалі, прасілі. Мікола, паступіўшы ў паліцыю, колькі разоў яго наведваў! І ўсё дарэмна. Маўчаў Аўсянік... Рота не раскрываў... Верыць не хацеў нікому. Цяпер расказвае чужым. Хто для яго настаўнік або гэты хлопец?..

Так, раней проста думалася — палахлівы, шкурнік. Цяпер гэтак не скажаш. Язык не паварочваецца. Усё пераблыталася, змяшалася. Як вінаваціць чалавека, калі ён ратуе сям'ю?.. Хто здолее прынесці такую ахвяру? Можа, і ёсць людзі. Яны — героі... Аўсянік — звычайны чалавек. Як Міцеў бацька, як большасць людзей, якіх Міця ведае...

— Адпусцілі нас,— расказвае Аўсянік.— Філімонаў адпусціў. Пяць чалавек. Разгортваць у мястэчку падпольную работу. Але якая тут работа,— ён безнадзейна махае рукой.— Вачэй не спускала паліцыя. На табе ж кляймо — у лесе быў, у партызанах. За кожным крокам сачылі. Памылка была дапушчана ў самым пачатку. Чыя галава так зварыла — аставіць тут сем'і?.. Ты не баец, калі ведаеш, што сям'я ў пастцы...

— А дзе падзелася зброя? Вы ж ведалі.

Выгляд у Аўсяніка прыбіты: плечы апусціліся, русявыя валасы з пасмамі сівізны нячэсаныя, ускудлачаныя, сінія вочы — як глыбокія калодзежы. У іх — сум.

— Цяпер можна сказаць,— пасля працяглага маўчання гаворыць ён.— Зброю нехта забраў. І яму засыпаў. Але не немцы. Ім я не аддаў. Нехта яшчэ ведаў, апрача мяне і камандзіра.

Міця ўздрыгвае. Таямніца раскрыта і разам з тым існуе. Але ад таго, што ёй валодае не Аўсянік, а нехта другі, невядомы,

радасна. Хто ён, той невядомы?.. Чаму так упарта маўчаў Аўсянік? Мог жа раней сказаць...

— Мы глупства зрабілі,— хвалюючыся, працягвае Аўсянік.— Тыя, што з лесу прыйшлі... Трэба было давер у немцаў займець. Прыкінуцца, хітрыць. На службу да іх пайсці. Надзець воўчую шкуру. З ваўкамі іначай нельга. Няхай бы нас здраднікамі называлі... Гэта змылася б. Але затое штонебудзь зрабілі б. А так паказвалі дулю ў кішэні. Зашыліся ў шчыліны, як прусакі. Байкот аб'явілі службе. Калі ўжо трапіў у г...— не ціліўкай. Героі, пакутнікі за савецкую ўладу! Недарэчна. Нібы немцу гэтым згрозіш. Ён паўсвета скруціў і дазволу ні ў кога не пытаўся. Пахапалі ўсіх, як шчанюкоў. Цяпер махай кулакамі...

Нечакана Аўсянік кідаецца да акна, хапаецца абедзвюма рукамі за пруты кратаў.

— Насця, Насця!..

Крычыць што ёсць моцы, не клапоцячыся аб тым, што пачуюць канваіры і вартаўнікі ў калідоры. З гурту жанчын, якіх вядуць па двары, вырываецца адна — нізенькая, у белай хусцінцы,— узняўшы рукі, як крыллі, бяжыць да акна. Напярэймы ёй паліцай. Груба штурхае — жанчына падае. Аўсянік б'е кулаком па шыбах — звініць, падаючы, разбітае шкло.

— Сволачы!.. Здраднікі!.. На вісельню ўсіх!..

Жанчын, штурхаючы ў спіны прыкладамі, гоняць назад, у памяшканне. Нізенькую — гэта Аўсянікава жонка — падхапілі пад рукі — яна вырываецца, крычыць. Расчыняюцца дзверы — у камеры двое рослых жандараў.

— Heraus!

Правая рука ў Аўсяніка па локаць у крыві. Кроў капае на разлезлыя чаравікі, на падлогу. На хвіліну ён запыняецца, абводзіць патухшым позіркам пакой, хрыпла, амаль шэптам вымаўляе:

— Прашчайце, таварышы...

Грукаюць дзверы. На калідоры гучныя чоткія крокі жандараў. Пад акном, трушчачы ботамі шкло, топчацца паліцай. Зазірае ў пакой — твар мясісты, чырвоны, нос, як дуля,— праз зубы цэдзіць:

— Заварушыліся... Клапы...

Праз разбітыя шыбіны ў пакой струменіць свежае паветра. У Міці кружыцца галава. Здаецца, ён плыве. Плыве разам з ім усё — пакой, таполя пад акном, школьны двор. Настаўнік сядзіць побач, чамусьці шэпча:

— Сарваўся... Нервы... Хоць усё адно...

Пеця, спалоханы, маўклівы, ціснецца да маці, закрываючы вочы. У насцярожанай цішыні пакутліва бягуць хвіліны.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

### 1

Міця ляжыць. Спіць і не спіць. Набягае хваля паўсна, паўтрызнення. Перад вачамі, імкліва змяняючыся, знаёмыя малюнкі — зімняя дарога ў полі, кусты ў пушыстай мярэжы інею, белы іскрысты снег. Бель рэжа вочы. Потым снег нечакана сінее. Сіні-сіні... Па дарозе ідзе чалавек. Постаць яго знаёмая, але твару не відаць. Ад гэтага страшна. Дрыжыкі пранізваюць цела. Чалавек нешта крычыць, але слоў нельга разабраць. Потым выразна даносіцца Міцева прозвішча «Птах»... Неяк горлам, нібы чалавека душаць.

Міця адкрывае вочы. Дзверы камеры расчынены, у іх праёме немец — высокі, у жоўтай сарочцы з расхлістаным каўняром:

— Ptach, heraus!..[1]

Міця, яшчэ паўсонны, выскаквае на калідор куляй. Немец глядзіць нездаволена.

— Mütze,— і паказвае рукой на галаву.

«Шапка»,— даходзіць да свядомасці. Заходзіць назад у камеру, бярэ з ложка кепку. На твары настаўніка збянтэжанасць.

— Прашчайце, таварышы,— гаворыць Міця не сваім, чужым голасам.

Па калідоры ідзе, як у тумане. Заплятаюцца ногі. Мінаюць настаўніцкую. Немец чамусьці крочыць наперадзе. Адчыняе дзверы з надпісам: «Kanzlei», Міцю астаўляе аднаго. У пакоі

---

[1] Птах, выходзь!..

галасы, гучна крычыць жанчына. «Не вінавата, паночку...» Што ўсё гэта азначае?..

Потым дзверы расчыняюцца, жанчына выходзіць з пакоя, кіруецца да выхада адна. На твары слёзы і ўсмешка.

Міця ў канцылярыі. За сталом афіцэр, які дапытваў. На Міцю не глядзіць, гартае кнігу. Той самы касенькі перакладчык побач, ля стала. Немец штосьці злосна гаворыць.

— Ты вінен,— перадае касенькі.— Меў дружба з бандытам. Ходзіл до нього. Але тэбе не страляем. Тэраз віну забываем. Другі раз — не...

Гарачая, радасная хваля падступае да горла.

— Я не ведаў, што ён бандыт,— адказвае Міця і здзіўляецца са свайго голасу,— ён шчыры, праўдзівы.

Касенькі гаворыць па-нямецку, злосна гаворыць сам афіцэр, потым зноў ён:

— Ты не мусіш дружыць з бандытамі. Мусіш чэсна работаць. Другі раз — смерць. Зразумел?

— Я невінаваты.

Афіцэр махае рукой. Перакладчык удакладняе:

— Ідзь да мамкі. Прэндзай. Боісь дружба з бандытам. Відзел, цо ест тутай?

Міця ў калідоры. Ідзе да выхада, там паліцай, які спакойна яго прапускае. На вуліцы надвячорак, доўгія цені ад дрэў, парканаў. Ходзяць людзі. Цішыня. Спакой. Шалёная радасць распірае грудзі: ён жывы, будзе жыць... Мінуў школьную агароджу, пад нагамі пясок, рыпучыя дошкі тратуара. Усё, што навакол, Міця нібы пазнае нанава. Клуб, чарада таполяў, у скверыку трыбуна з абадранымі дошкамі. Як кругом хораша, ціха... Мільгае думка пра камеру, пра Сяргея, але і яна не заглушае радасці, якая бушуе ў грудзях. Ён жывы!..

Міця адчувае сябе пераможцам, хоць яго і не катавалі. Галоўнае — не спалохаўся. Яго не зламалі. І не зломяць. Проста трэба быць разумнейшым. Ён зрабіў пакуль мала, але зробіць больш, будзе змагацца...

Радасць бязмежная, бяздумная, эгаістычная. Так у першую хвіліну адчувае сябе баец, які, бегучы ў атаку, пераскочыўшы небяспечны рубеж, радуецца, што куля яго мінула. Ён жывы, будзе жыць!..

## 2

Іван Лобік, Вілюга, Шура — з работы ён адпрасіўся — хаваюцца ў старога Бондара. Дзедава сядзіба за чыгункай, воддаль ад шляху, паміж мястэчкам і вёскай Кавенькі. Чатыры дубы стаяць на гэтай сядзібе, выдзяляючы яе, як востраў сярод жытнёвага поля.

Дзед ваяваў і ў імперыялістычную вайну і ў грамадзянскую, на вайне ў яго чацвёра дарослых сыноў, з якіх адзін — камбрыг. Але стары не страціў жвавасці, рухавасці. Цяпер ходзіць у разведку, у мястэчка. Хлопцам прыйшлося расказаць дзеду свае тайны.

У Вілюгі на другі дзень пасля арышту Сяргея быў вобыск. Трэслі ў хаце, у хляве. Ні ў Шуры, ні ў Лобіка вобыскаў не было. Такія звесткі прынёс дзед. Лобік кіпяціцца, абвінавачваючы Вілюгу.

— Ясна, Басняк выдаў. Гаварылі ж вам, папярэджвалі — не звязвайцеся. Што вы пра яго ведалі? Старшы лейтэнант, адэсіт. Вось табе адэсіт.

Цяпер Лобік асцярожны. Да дзеда перабраўся ў той жа вечар, калі падклалі міну. Разбіты тры вагоны, пашкоджан паравоз, забіта некалькі немцаў. Вілюга не тоіць разгубленасці. У дадатак да таго, што яго шукаюць немцы, яму і павестка ў Германію. Людскімі жыццямі ў гэтыя дні распараджаюцца дзве ўстановы, якія проста не ўзгаднілі паміж сабой сваёй дзейнасці. Жандармерыя хоча Вілюгу арыштаваць, цывільная ўлада — паслаць у Германію.

Хлопцы сядзяць у хляве, на вышках. Паўзмрок, душна. Праз шчыліну ў сцяне прабіваецца сонечны прамень, але ўражанне такое, што на дварэ ноч. На шляху — ён не так далёка ад дзедавай сядзібы — крыкі, лямант. Дзяўчат і хлопцаў з вёсак вязуць на станцыю, для адпраўкі ў Германію. Там эшалон з сарака вагонаў.

На першы погляд ясна, што рабіць. Міцеў тайнік ведаюць. Там урэзак і вінтоўка. Дамоўленасць з вясны — зброю забірае той, каму ў мястэчку аставацца болей нельга.

Але нельга ісці ў лес, нічога не ведаючы пра лёс Сяргея, Міці. За Міколу спакойныя. Ужо з месяц ён не ў мястэчку, а

ў ахове шпаларэзнага завода, які немцы наладзілі на месцы былой пільні, непадалёку ад вёскі Грамы, дзе некалі Мікола настаўнічаў. Нядаўна быў, прынёс навіны. Праз знаёмую настаўніцу звязаўся з дэсантнікамі. Перадалі міну, якую трэба падкласці пад лакамабіль. Міна фабрычная, з гадзіннікавым механізмам. У поўдзень Вілюга саскаквае з вышак.

— Схаджу ў разведку, пранюхаю, што дома.

— Схопяць,— папярэджвае Лобік.— Пачакай, пашлём дзеда.

— Я жытам, агародамі. Праз гадзіну буду тут.

Мінула гадзіна, дзве-тры — Вілюгі няма. Канчаецца ўсялякае цярпенне.

— Я пайду,— падхопліваецца Шура.— Гэтак здохнуць можна.

Лобік устае са свайго логавішча.

— Я з табой.

Ідуць сцежкай праз жытнёвае поле. Ужо вечарэе. Насустрач жанчына ў чырвонай паркалёвай хустцы. Скочылі ў жыта, стаіліся. Трэба яшчэ перайсці асушанае балота. Траву на ім пакасілі, сям-там прыбітыя дажджом копы. За балотам агароды, густы кіяшнік, бульба.

— Пачакай мяне тут,— просіць Шура, адводзячы позірк убок.— Неабавязкова абодвум лезці ў пятлю. Ты на большым падазрэнні — у цябе збіраліся.

Лобік астаўся, Шура пайшоў. Па балоце ідзе не згінаючыся, хавацца некуды. Пераскочыў калектар, агародам, разорай падабраўся да плятня, за якім шырокі Вілюгаў двор. На двары ціха — ніякіх слядоў пагрому. Стаіўся, чакае. Рыпнуўшы дзвярамі, з сенечак выйшла Вілюгава маці.

— Цётка,— не вылазячы з засады, паклікаў Шура.— Падыдзіце сюды.

Жанчына ўздрыгнула, памкнулася было шуснуць назад, у сенечкі, але, відаць, пазнаўшы Шураў голас, спынілася. А Шура заве:

— Не бойцеся, цётка. Сюды падыдзіце.

Падышла, успляснула рукамі:

— Ета ты, Шурка... Божа, Божа, што робіцца. Туляецеся, бадзяецеся, як зладзеі...

— Дзе Базыль, цётка?

— Дзе ж ён можа быць, дзеткі. Пайшоў на станцыю, у Германію ехаць. А што ж рабіць? Нас жа, калі ўцячэ ў лес, усіх пастраляюць.

Крыўда, горыч поўняць Шуравы грудзі. Базыль гучней за ўсіх выхваляўся, здаваўся самым смелым, а тут, нават не папярэдзіўшы таварышаў, рашыў усё сам. Болей Шура хавацца не можа. Выскаквае з-за плятня, ідзе праз двор на вуліцу. На вуліцы ціха. Падымаючы густы шэры пыл, вяртаецца з поля статак. Нехта, гакаючы калуном, сячэ дровы. Ля паварота на станцыю Шура спатыкае Грышу Цукара — таго самага, які летась замест прыёмніка пахваліўся пустой каробкай. Цукар ідзе, абвешаны слупалазнымі прычындаламі — працуе на пошце.

— Што чуваць? — пытае Шура.

— А што пачуеш? Людзей столькі расстралялі. І вунь, на станцыі, у Германію забіраюць нашых. Добра, што мы з табой на работу ўладкаваліся. А то паехалі б як міленькія...

Станцыя, як вялізны цыганскі табар. На запасным пуці доўгі эшалон з пульманаўскіх вагонаў. Сядзяць у вагонах і ля вагонаў, тут жа на насыпе гараць кастры, сноўдаюць паліцаі — не мястэчковыя, а найбольш незнаёмыя, з навакольных вёсак. Разам з сынамі і дочкамі прыехалі маткі, бацькі — праводзяць дзяцей у далёкую, страшную дарогу. Бегаюць ля вагонаў старасты са спісамі ў руках, выгукваюць прозвішчы. У адным вагоне рыпае гармонік, відаць, падпіўшы, спяваюць хлопцы — маладыя, Шуравага ўзросту — твары бледныя, змізарнелыя. Абнімаючы дачку, гучна літае маці. Лямант... Плач... Крыкі... Мітусня...

Шура хоча пабачыцца з Вілюгам. Прайшоўшы два разы ўзбоч эшалона, разумее, што не знойдзе. Базыль у шматгалосым тлуме, як іголка ў стозе сена. Відаць, наўмысна зашыўся, не вытыркае носа.

Ахоплены самотай, роспаччу, пабрыў прэч. На душы пустата. «Хлопцаў расстралялі,— свідруе думка.— Было шасцёра, асталося трое. Дый як далей будзе? Базыль нездарма ўцякае. Адчувае, што нашкодзіў...»

Ля паваротнага круга, на запасным пуці стаяць здвоеныя паравозы пад парамі. Шура зазірнуў у будку пярэдняга —

нікога, задняга — пуста. Думка нарадзілася імгненна. «Такога выпадку болей не будзе. Калі перакінуць стрэлку ля штабеля шпал — прамая дарога на торфазаводскую ветку. Каляя перашыта да палавіны, да моста. Мост узарваны...»

Думка працуе чотка, дакладна. Калі бег да стрэлкі, пераводзіў яе, стараючыся не выклікаць нічыйго падазрэння, вяртаўся паскораным крокам назад, да паравозаў, не думаў ні пра Лобіка, ні пра сястру, якую, не папярэдзіўшы, пакідае. У галаве адно: «Хутчэй бы...»

Ускочыў па прыступках у будку, ірвануў ручку рэверса, націснуў на рэгулятар. Чуў, як дзіка скрыгатнулі рэйкі, балюча стукнуўся спіной, патыліцай аб заднюю сцену будкі. Паравоз з месца ўзяў ледзь не на поўны ход...

Шалёная, помслівая радасць захліснула грудзі, не помнячы сябе, ірвануў гудок... Не чуў ні крыкаў, ні бязладнай страляніны там, ззаду, на станцыі....

## 3

Міца вярнуўся ў будку надвячоркам. Дома лагодная сцішанасць. Сядзяць, размаўляюць упоцемку, агню не запальваюць. Ні бацька, ні маці не дакараюць. Міца расказвае з неахвотай, збольшага, але не дапытваюцца. Ведае ўжо ўсё — пра Вілюгу, Шуру, Шнапса, пра вобыск, які быў у будцы. Драгуна не кранулі.

Выйшаў апоўначы на двор — спаць у душнай будцы не хочацца. Ноч месячная, светлая. Рыпнуў дзвярамі хлява, і тут здалося, што на агародзе, побач з пудзілам, якое паставілі ад вераб'ёў, у ячмені мільганула чорная постаць. Стараючыся не выдаць сябе, зайшоў у хлеў, зачыніў дзверы, прынік вокам да шчыліны ў сцяне. Так і ёсць. У ячмені — з процілеглага канца ад пераезда — чалавек. Падняў галаву, агледзеўся. Зноў схаваўся. Галоўнае — не баіцца вартавога, які на пераездзе. Ясна, шпік.

Міца лёг на сена, задумаўся. Зусім па-інакшаму ўяўляецца вызваленне з турмы. Чакаюць гасцей. Выпусцілі як прыманку.

Не самкнуў вачэй да світання. У турме спаў, дома — не можа.

Раніцай, не выспаўшыся, як напаказ, выйшаў на пераезд. Немец-паставы акінуў Міцю здзіўленым позіркам, адвярнуўся.

Стаяў на пераездзе, нібы нанава пазнаючы навакольныя мясціны. Лагчынка, паросшая кустамі,— там расстралялі Шнапса, пясчаны шлях, жытнёвае поле, сасна на выпаленым сонцам грудку. Усяго гэтага ён мог не ўбачыць, але жыве, бачыць. Радасць усплывае зноў, не можа яе заглушыць нават успамін пра шпіка.

Шпік сядзеў ноччу, цяпер — Міця адчувае — яго няма. Ёсць поле, на якім даспявае жыта, буяе ярына, светлы летні ранак, чыстае, насычанае пахамі траў, зямлі паветра. Сінее ўдалечыні асмужаны лес, з кустоў на дрот перапырхваюць птушкі.

Гудзенне матораў парушае спакой раніцы. На шляху тры нямецкія аўтамашыны з тупымі радыятарамі і шырокімі, ёмістымі кузавамі. Па краях кузава, ашчаціні́ўшыся аўтаматамі і вінтоўкамі, шчыльнай сцяной стаяць немцы і паліцэйскія. Машыны прайшлі далей, за кусты, і тут усё стала ясна. Апошні грузавік раптам спыніўся, немцы і паліцэйскія, якія дагэтуль сядзелі ў кузаве, саскочылі. Грымнула некалькі вінтовачных стрэлаў, застракатала аўтаматная чарга.

Міця не ўлавіў моманту, калі з грузавіка саскочылі двое. Аднаго ўбачыў забітым, чалавек у чорнай сарочцы ляжыць ускрай канавы, выцягнуўшы рукі. Постаць другога мільгнула на загоне спалавелага жыта — чалавек бяжыць да кустоў ускрай поля, па ім страляюць. Адразу знік з вачэй: можа, паранілі ці забілі, а можа, папоўз. Немцы і паліцаі ім болей не цікавяцца. Укінулі ў кузаў, узяўшы за рукі і ногі, забітага, ускочылі самі. І тады Міця ўбачыў, што кузаў поўны людзей. Яны сядзяць на дне. Маўклівыя, з шэрымі тварамі.

Калі апошні грузавік падыходзіў да бярозавага гайка, данесліся аўтаматныя чэргі. Расстрэльвалі тых, з пярэдніх дзвюх машын. Падаспела апошняя, і зноў цішыню парушыла стракатня аўтаматаў і гучныя, адзіночныя стрэлы з вінтовак. Усё скончылася хутка, хвілін за дваццаць. «Вадэйка расказваў сон,— пранізвае смутная думка.— Дакладна ўсё так, як цяпер наяве. Але ўцёк не ён...»

Міця ўздрыгнуў, адчуўшы на сабе чужы позірк. Парывіста павярнуўся. Крокаў за пяць, ля парэнчаў пераезда, тоўсты

немец-салдат глядзіць на яго. Загаварыў, задыхаючыся, блытаючы нямецкія словы з польскімі:

— Нацы — Tod und Blut. Гітлер ест д'ябал. Герман — не вшыстко нацы. Ich bin Arbeiter.

Азіраецца — рукі дрыжаць, на твары страх, нянавісць, нямая просьба, каб ён, Міця, паверыў.

— Hör mal zu, Kerl[1]. Ноц не ходзі. Тутай шпег.

Павярнуўся, пакалыхваючыся мажным станам, рушыў на другі бок пераезда. Міця не верыць вушам. Немец папярэджвае. Гаворыць пра шпіка. Першы немец, якога можна не лічыць ворагам.

Пра людзей, якіх нядаўна расстралялі, не думае. Наогул смерць, пакуты ўспрымае як звычайнае. Паснедаўшы, ідзе ў агарод, у ячмень, да месца, дзе стаіць пудзіла — распятая на паламаных граблях, напханая саломай зношаная бацькава сарочка. Ячмень амаль не прымяты, але горка недакуркаў сведчыць, што шпік тут сядзеў. Адсюль відаць двор і ўсе падыходы. Курыў шпік не цыгарэты, а самасад.

Не надта плацяць яму.

Шпік прыходзіў яшчэ тры ночы. Чатыры кучкі недакуркаў з самасаду.

На чацвёрты дзень завітаў Мікола. Павязка на рукаве пінжака, на плячы — вінтоўка, казырае немцу-паставому. Мікола з Міцем ідуць жытамі, сцежкай да мястэчка.

— Праз гадзіну я паеду,— гаворыць Мікола, хвалюючыся.— Прыйшоў сказаць. Заўтра будзе разгром у Кавеньках. Я падслухаў. Старасту збіраюцца арыштаваць. Ніхто з Кавенек не паехаў у Германію. Нібыта ўсе захварэлі.

Міця думае пра Драгуна. Як перадаць Драгуну? Ісці самому — рызыкоўна. Гаворыць другое:

— Адзін хлопец са мной сядзеў. З Грамоў. Стараста Гнядко яго выдаў. Прасіў адпомсціць старасту.

Мікола хмурнее, развітваецца:

— Ну, я пайшоў.

Дома Міця бярэ дзяружку, касу, ідзе праз пераезд у жыты. Пачынаецца ўжо жніво. Кавенькі ад будкі бліжэй, чым па

---

[1] Слухай, хлопец.

шляху. Варта мінуць поле, кустоўе, а там і вёска відаць. У траве скачуць конікі. Пырскаюць з-пад ног, нібы нехта сыпле жменяй зерне. Неба сіняе, спакойнае.

Убіўшыся ў кусты, Міця хавае дзяружку. Ідзе з касой. Стараецца ні аб чым не думаць.

На вуліцы ў Кавеньках — бязлюдна. На полі людзей таксама не відаць. Мінуўшы некалькі хат, заходзіць у першыя расчыненыя вароты. Двор зарос муравой, конскім шчаўем.

З-пад паветкі вылазіць стары, тоўсты чалавек з ускудлачанымі валасамі.

— Дзе тут жыве стараста?

— Я стараста.

Здзіўляючыся са свайго спакою, Міця расказвае. Стараста ні аб чым не распытвае. Чухае патыліцу, уздыхае.

4

Заляглі ў бульбе, насупраць былога калгаснага двара. Дарога як на далоні. Далей ралістая груша, асушаныя тарфянікі. Ззаду, метраў за дзвесце, алешнік. Адступаць ёсць куды.

Шэлег ляжыць побач з Якубоўскім. Галава перабінтавана, вочы ўваліліся — чорныя ямкі.

Ляжыць доўга, з ночы. Прагналі статак. Услед за каровамі — авечкі. Кінуліся было ў бульбу, але, пачуўшы людзей, забляяўшы, адхлынулі назад, на дарогу.

Сонца паднялося высока — паліць спіны, галовы. Прайшлі тры кабеты з сярпамі. У адной за плячамі лубяная калыска. Праехала фурманка. Конь вялізны, вайсковы, сялянскія калёсы, у якія ён запражаны, маленькія, як цацачныя.

— Не магу сабе дараваць,— сіпла выдыхае Шэлег.— Сам уцёк, а дзеці, жонка... Трэба было з зімы падумаць. Мог жа адвезці ў Бярэзнікі, там цешча.

Якубоўскі маўчыць, жуе травіну.

— Любіла фікусы... Чуць падрастуць — прадаваць трэба. Пяць разоў пераязджалі. Прыехалі... Паспрабуй вырві...

Колькі ляжаць яшчэ, не ведаюць. Няма адчування часу. Сонца над галавой — самы поўдзень. У бульбяніку горкі, атрутны пах. Млосна, цягне на рвоту. Якубоўскі здзіўлена

разглядвае зялёныя шарыкі на бульбоўніку. Ніколі раней не бачыў.

На дарозе шэры слуп пылу. Якубоўскі прыўзнімаецца. Імчаць дзве легкавыя. Без аховы, без паліцыі. Не баяцца — Кавенькі ў гарнізона пад носам. Напаўголаса каманда:

— Валюжыч — першая машына, Батура — другая... Га-а-а-тоўсь!

Некалькі імгненняў цішыня і, калі насупраць калгаснага двара паяўляецца чорны лакіраваны «бенц»,— раздаецца гучны, нястройны залп. Другі, трэці. Раз за разам раскаціста бухаюць гранаты.

Партызаны выскакваюць з бульбоўніку, у іх перакошаныя, чорныя твары, раскрытыя раты.

— Га-а-а-а!

Страляюць на бягу. Першая машына праехала метраў трыццаць, спынілася, дыміцца. Другая стала як укопаная. Але страляюць па абедзвюх, рашэцяць кулямі. У адказ ні стрэлу. У першай машыне расчыняюцца дзверцы, і на дарогу, як куль з мукой, вывальваецца нехта ў скураной тужурцы, хромавых ботах. Паўзе ракам у бульбоўнік. Даганяюць, б'юць прыкладам.

У апошняй машыне на бакавым шкле густыя зоркі прабоін, звесіўшы галаву на баранку руля, хрыпіць шафёр, другі жандар, са срэбнымі пагонамі, зморшчаным старэчым тварам падае на дарогу, як толькі дзверцы адчынілі.

— Папалася акула! Сам Швальбе!..

— Плішчынскага сцапалі!

Адрывіста бухаюць стрэлы. Шафёр з першай машыны не паліцай, цывільны. Мітусня ля забітых. Абразаюць кабуры, шараць па кішэнях.

Плішчынскага, ссутуленага, з акрываўленым тварам, трымаюць за рукі двое. Падбягае Якубоўскі.

— Сям'ю Шэлега расстралялі?

Маўкліва ківае галавой.

— Азяркову?

Адварочвае твар. На губах — пена.

Якубоўскі нецярпліва махае рукой. Двое партызан хапаюць Плішчынскага, вядуць у алешнік. На дарозе, як падпаленыя копы, палаюць машыны...

## 5

І Міколы няма...

Там, ля Грамоў, дзе ён ахоўваў шпаларэзны завод, здарылася незразумелае. Перададзеная дэсантнікамі міна ўзарвалася ў руках, калі Мікола падкладваў яе пад лакамабіль.

Лобік жыве ў дзеда. Шура, скінуўшы пад адхон паравозы, знік. Вінтоўку ўзяў з Міцевага тайніка. Сувязным будзе Лобік. Ён пойдзе ўладкоўвацца на чыгунку. Міцю там рабіць нечага. Быў Міця ў Драгуна. Той загадаў да часу прымоўкнуць. Сюзана папраўляецца. Твар у яе бледны, празрысты, як стэарынавая свечка.

З мястэчка карнікі расстралялі болей за паўсотню людзей. Цалкам вынішчаны сем'і Шэлега, Азярковай, настаўніка Вадэйкі...

Фронт набліжаецца да Волгі, кубанскіх стэпаў.

У Міці такі настрой, як у тую восень, калі толькі прыйшлі немцы. Памагае па гаспадарцы — жне ячмень, абівае снапы. Нібы развітваючыся з мясцінай, дзе прайшло жыццё, прыходзіць пад сасну. Яна зялёная, паважна-спакойная. Усплывае ў памяці вядомы верш, які напісалі немец Гейнэ і рускі Лермантаў. «На севере диком стоит одиноко...» Чаму сасна марыць аб пальме і чаму ад гэтых радкоў хочацца плакаць?.. Можа, сасна родная сястра пальме?

Некалі, тысячагоддзі назад, шумелі тут трапічныя лясы. Потым насунуўся ляднік, усё жывое замерзла. Але не загінула. Першай у наступ пайшла сасна. Можа, гэта тая самая пальма, толькі, баронячыся ад холаду, ад слоты, змяніла шырокае лісце на зялёныя іголкі?.. І ўсё адно засталася прыгожай.

Кнігі, якія чытаў Міця, многа сказалі пра чалавека. Але не ўсё. Чалавек можа падняцца яшчэ вышэй. Хіба назавеш проста гераізмам тое, калі за радзіму людзі аддаюць не толькі сваё жыццё, але і жыцці родных, блізкіх. Ведаюць, што іх чакае, і аддаюць. Гэта той высокі парог, пра які не напісана ў кнігах.

Але і нізкім можа быць чалавек. Такім нізкім, як і ў далёкія часы стэпавых набегаў.

Дык у чым жа сэнс верша пра сасну, напісанага двума вялікімі паэтамі? Можа, у тым, што ўсё адолее чалавек. Адолее і будзе жыць. Ніколі не перастане марыць, змагацца за лепшыя, сонечныя дні. За прыгажосць. У гэтым аснова жыцця.

6

На чыгунцы трывожна. На саракакіламетровым прасцягу ад Гарбылёў да мястэчка штоноч выбухі. Немцы раз-пораз пускаюць ракеты, страляюць. Каб заспакоіць сябе.

Сцяпан Птах рад, што хутка пакіне службу, будку. Дагледзіць хату — і ўсё. За які-небудзь месяц ён гэта зробіць. Дзень спякотны, млосны — не варухнецца на дрэве ліст, вакол жоўтае, паспелае жыта. Ідзе па палатне, пастуквае малатком па стыках. З адхону злосны голас:

— Ідзі сюды!

Азіраецца — з кустоў настаўлены на яго рулі вінтовак. На чыгунцы — нікога. Кулём скатваецца з насыпу ў адхон. Дужыя рукі выхопліваюць гаечныя ключы.

— Не ўздумай толькі крычаць,— чуе ўзбуджаны шэпт.— Нямецкі вартаўнік...

Сцяпан расплюшчвае вочы, і ад страху, здзіўлення па целе паўзуць мурашкі. Проста ў твар яму дыша чорны, потны Іван Гусоўскі, шафёр. Крыва ўсміхаецца:

— Вось і сустрэліся, дзядзька Сцяпан. Ды не дрыжы ты, не бойся — не зачэпім.

— Пашкадуйце мяне, хлопчыкі... У мяне сям’я, дзеці...

— Не бойся, гавораць табе. Зробім што трэба.

Там, на насыпе, двое. Грымяць ключамі, развінчваючы рэйкі. Хвіліны, якія ляжыць пад адхонам, здаліся Сцяпану доўгімі-доўгімі. Цела пакрылася халодным потам.

Азіраецца — у кустах чалавек восем. Твары злосныя, зацятыя. Не адыдуць, пакуль не зробяць свайго. Разумее, што ўсё скончана, таго жыцця, якое было, пра якое думаў, не будзе. Неяк адразу спакайнее. Прыходзіць поўная яснасць. У памяці ўсплывае ноч, калі палілі Вербічы, размова на ганку з сынам.

У тых, на насыпе, не клеіцца. Колькі часу прайшло, а не могуць развінціць рэйкі. Вось-вось паявяцца немцы. Сцяпан Птах торгае Івана за рукаў:

— Я сам пайду. Хутчэй будзе.

Іван глядзіць здзіўлена, ківае галавой. Птах кошкай каўзануўся па насыпе, дрыжачымі рукамі выхапіў ключ. Тых дваіх як вадой змыла. На чыгунцы пакуль нікога. Развінціў адзін шуруп, другі. З адхону кінулі вяровачны жмут. Здагадаўся адразу — выбіўшы болт, перахапіў рэйку вяроўкай. Разматваючы за сабой жмут, кінуўся на адхон, у кусты. Пот залівае вочы. Сонца вялікае, як расплаўленае. Яго не відаць.

Перад крывой пачуўся гул цягніка.

# ВЕЦЕР У СОСНАХ

## Частка першая

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

Дзедава хата, куды перабралася Міцева сям'я, таксама блізка ля пераезда — асабліва люднага, местачковага. Пыльная, пабітая на калдобіны вуліца ў гэтым месцы як бы разгаліноўваецца: правы бок цягнецца роўна, падступаючы будынкамі ледзь не да самага пераезда, а левы крута адыходзіць, заварачваючы ў поле. Атрымліваюцца дзве вуліцы. У прамежку — зарослы муравой выган, які называюць мусамі.

Адсюль, з дзедавага двара, добра відаць ранейшае Міцева аселішча — палявы пераезд, будка, сасна. Хутка месяц, як няма бацькі. Пасля дыверсіі на чыгунцы, калі партызаны развінцілі рэйкі, скінулі цягнік і некалькі вагонаў, бацьку арыштавалі, трымалі ў турме. Набегла новая чарга адпраўкі ў Германію, і яго, хоць і не малады, пасадзілі ў вагон. Згоды не пыталі, добра, што дазволілі развітацца з сям'ёй.

Развітанне з бацькам — самае балючае, цяжкае, што перажыў Міця за свае сямнаццаць гадоў. Зарослы шчацінай, разгублены, бацька, як дзіця, плакаў.

— Ты старэйшы, сынок,— у бацькі задрыжалі губы.— На цябе ляжа клопат... Не паспелі дагледзець хату...

У той дзень на станцыі было многа плачу, слёз, жаночых літанняў.

Дзедаў «палац», перад самай вайной агледжаны меншым бацькавым братам, стаіць ніштавата. Хата была ўехала ў зямлю, выгнулася сцяной, але дзядзька паклаў новыя падваліны, штандары, зрабіў прыбудоўку, перакрыў дах гонтам, павялічыў вокны — нібы ведаў загадзя, што сыдуцца тут дзве сям'і.

У падноўленым жытле дзядзька мала пакрасаваўся — пайшоў на вайну.

З раніцы, ускінуўшы на плечы граблі, Міця рушыў на сена. Каб дабрацца да надзелу цёткі Насці — так завуць

жонку бацькавага брата,— трэба прайсці каля будкі, у якой яшчэ нядаўна яны жылі, а затым палявой мяжой павярнуць на колішнія сядзібы хутаранцаў. Будка, сасна на месцы. Толькі жывуць тут не немцы, а славакі. Немцы перанеслі свой пост глыбей у лес, а палявы абсяг чыгункі даверылі славакам.

Міця ідзе палявой дарогай, ззаду шыбуюць Адам і Юрка, старэйшы цётчын сын. Хлопцы таксама нясуць граблі і трохі перагырквающца.

Лета хіліць на спад. З поля ўсё звезена, знесена, абмалочана на посцілках, самаробных тачках, і, мяркуючы па ўвішнасці, з якой местачкоўцы здабываюць хлеб сабе і корм скаціне, яны не прападуць. Шмат хто арэ, возіць сена і снапы на каровах. Відаць, мала хто здагадваўся раней, што рагулі валодаюць такімі шырокімі талентамі.

Год назад, у гэты ж час, прыйшлі немцы. Быў тады Міця ў палоне страшнай няпэўнасці. Цяпер, бадай, тое самае. Як бы замкнуўся круг.

Аб тым, што расстралялі Сяргея, што з’ехаў у Германію, баючыся кары, Базыль Маленда, падаўся ў партызаны Шура Гарнак, Міця амаль не думае. Нават пра бацьку стараецца не ўспамінаць. Ёсць другое, вострае, як цвік, што кожную хвіліну балюча ўражвае. Ад яго не ўцячэш і не схаваешся. Немцы рвуцца на Каўказ, дайшлі да Волгі, баі ў Сталінградзе. Хто калі мог пра такое падумаць? І што ўсё гэта азначае?

Міця дайшоў да месца, дзе з палявога ўзмежка трэба збочваць у кусты. У парыжэлай траве скачуць конікі, пад нагамі — наточаныя зямлянымі жукамі гурбачкі жоўтага пяску. Месцамі на сцежцы зямля патрэскалася — даўно не было дажджу. Наваколле як бы засмягла ад доўгай спякоты. Сонца пячэ па-летняму, ні аблачынкі на небе.

Хлопцы — Адам з Юркам — ужо наперадзе. Рагочуць, пацвельваюцца. Па дубовым абгарэлым пнёўі густа падняўся малады бярэзнік. У тым вунь ражку, пад вываратнем, Міцева схованка. Вінтоўкі няма. Вінтоўку забраў Шура, а змазаны тавотам, закручаны ў старыя шкуматы абрэз ляжыць.

Праз некалькі хвілін Міця дабрыў да высахлай балаціны, якую ўчора кончыў касіць. Рады — вузенькія шнуркі ад купіны да купіны — няроўныя. Дый трава благая — перастаяла,

парудзела. Не надта зімой карова ўзрадуецца. Сам сабе Міця прызнаецца, што гаспадар з яго кепскі. Сям'я жыве матчыным ды цётчыным клопатам.

Міця паперадзе, за ім Адам з Юрасём гоняць валкі на ўскраек балаціны, каб можна было пад'ехаць возам. Сена высахла добра. Зрэшты, Міцю можна гэтак не прыніжацца, як робіць ён у думках. Умее касіць, грабці, рабіць іншую няхітрую сялянскую работу. Праўда, па пачатку млосна, цяжка, рукі як налітыя волавам. Але так будзе нядоўга. Работа захопіць сама сабой. Наогул, калі чым-небудзь займаешся, не так балюча ад надакучлівых думак. Напрацаваўшыся, спакайнееш душой. Калі хочаш есці, то трэба, браце мой, што-небудзь рабіць...

## II

У вячэрні час на схіле лета заўсёды востра пахнуць палыны.

Палын разросся на ўзбочынах чыгуначнага насыпу, на запасных тупіковых пуцях. Ад гарачыні шыза-белыя сцябліны прывялі, выпетралі. Іх гаркаватага паху хапае на ўсе прылеглыя вуліцы.

Вечарам, як толькі прагоняць статак, вісіць над дарогамі, над вуліцай шараватая пялёнка пылу. Пыл садзіцца на лісце яблынь, на густы вішаннік, на лапушыстыя звівы гарбузніку, што чапляюцца за платы і парканы.

Ціш, бязлюддзе на вячэрняй местачковай вуліцы. Агнёў ніхто не запальвае, і толькі скачуць у вокнах водбліскі полымя ад печаў ды камінкоў. Узыходзіць месяц, шчодрым засевам высыпаюць на небе жнівеньскія яркія зоркі. Вуліца тоне ў светла-шэрым паўзмроку.

Насупроць новага Міцевага двара, цераз выган — хата Івана Казачэнкі, па-вулічнаму Праснака. Сядзібу яго аздабляе старая бяроза з раскідзістым, як шацёр, голлем. На лавачцы пад бярозай, а калі не хапае месца, то і на мастку цераз канаву, вечарамі збіраюцца мужчыны. Мясціна выгадная, зацішная, бо паліцэйскі патруль звычайна ідзе правым бокам.

Міця збольшага ведае суседзяў, дый раней ведаў, бо гэты канец мястэчка найбліжэй да будкі.

Да вайны палавіна жыхароў Брадка — так называюць канец вуліцы — была ў калгасе, палавіна — на чыгунцы. Вайна ўсіх параўняла. Цяпер з мужчын на чыгунцы адзін Гаўрыла Птах, стрыечны бацькаў брат, ды і то таму толькі, што не стары — не было як выкруціцца. Разам з іншымі чыгуначнікамі Гаўрыла хадзіў у водступ, немцы перанялі аж пад Бранскам, у Клінцах.

Міця сам не ведае, чаму яго цягне к дарослым мужчынам. Глядзяць яны на жыццё, на ўсё тое, што ў ім дзеецца, зусім не так, як ён, і, як здаецца Міцю, залішне абыякава, з незразумелым філасофскім спакоем.

— Пісьма няма ад бацькі? — пытае Казачэнка.

З усіх мужчын гэты пажылы, з абвіслымі плячамі, безвалосым, як у жанчыны, тварам сусед гаворыць найменш. Болей сіпіць люлькай, час ад часу прадзьмуваючы цыбук.

— Няма,— адказвае Міця.

— У немцаў парадак,— гаворыць Арцём Драч.— Дарма псаваць паперы не дадуць.

Яшчэ ў першую вайну Арцём быў у нямецкім палоне. Ён крывабокі, пашкоджана шыя, жыве бабылём у маленькай хацінцы, у якой замест коміна бляшанае вядро. Мужчыны маўчаць, чакаюць, пакуль Арцём пачне расказваць. Казачэнка б'е крэсівам па крэмні, высякаючы іскру, раздзьмухвае трут, каб прыпаліць люльку. Арцём, аднак, не спяшаецца — дакурвае цыгарку, пакуль асмалак не пачынае пячы пальцаў, сплёўвае, затоптвае акурак нагой.

Дзіўна ён расказвае. Голас хрыпаты, скрыпучы, і ва ўсім, што закранае Арцём гаворкай, чуецца як бы стоеная насмешка, нявер'е ў тое, што на свеце можа быць што-небудзь добрае, справядлівае.

— Мы ў палоне на фабрыцы рабілі. Генералы хацелі выхваліцца перад царом наступленнем, ну і тысяч сто шэрай скацінкі — у палон. Фабрыка якраз папяровая. Нагналі такіх, як я, калек поўны барак. Цэх, як стадола,— сядзяць на падлозе бязногія, бязрукія, крывыя, сляпыя... Ірвуць анучы, рыззё на меншыя шкуматы. Аж пыл курэе... Рэжуць, крояць рыззё, каб яго можна было перамыць і ў кацёл, на разварку. Пыл, смурод, дыхнуць нечым, а немец-наглядчык — таксама

калека, аднарукі, пецць прымушае... Любіў рускія песні... Не пяеш — з левай рукі гумай па лабаціне... Такую пячаць прыкладзе — тыдзень не забудзеш. Каля кожнага калекі некалькі скрыначак. Асобна складвай кручкі, асобна гузікі. Іх да новых портак прышываюць. Немец жыць навучыць. Ён жыццё разумее правільна.

— Работу немец любіць,— гаворыць Есіп Кавенька,— ён, як і Міцеў бацька, быў на чыгунцы абходчыкам.— Ты ж вот хоць і калека, а ў палоне не прапаў... Кармілі за работу цябе...

— Кармілі. Для крэпасці хлебам з касцяной мукі. У немцаў нічога не прападзе... Перамелюць косці — мука беленькая, хоць пячы аладкі. Наясіся такіх аладак, а потым дротам з задніцы дастаеш. За тры дні сходзіш раз у латрыну... Так па-іхняму называецца адхожае месца...

— Дак жа выжыў ты...

— Навучылі ж немцы грамаце. Свіснеш пачак паперы — гладкая, бліскучая, хоць грошы рабі. Не верыцца, што з каравых ануч выходзіць такая красата. З гэтай паперай да фравы-перакупшчыцы. Бітэ, фраву, брот, табак... Думаеш, дасць хлеба і курыва адразу?.. Хваробу ў яе возьмеш. Бяры або паўбулкі, або восем цыгарэт. Ты, кажа, дзіб, па-іхняму злодзей, і не маеш права жыць раскошна. Альбо хлеб еш, альбо куры. А яна, значыць, што крадзенае купляе, не злодзей...

Далёка пад лесам чуецца некалькі стрэлаў, стракоча кулямётная чарга. Арцём змаўкае, мужчыны насцярожана прыслухоўваюцца. Калі страляць не перастануць, сядзець за познім часам не выпадае, трэба разыходзіцца. Стрэлілі бліжэй, бадай, ля будкі, дзе Міця жыў. Потым усё сціхла. У канцы забрахаў сабака.

— Брэша і падатку не баіцца...

Лявон, малодшы Казачэнкаў сын, зарагатаў.

— Цішэй ты! — цыкнулі на яго.— Паліцэйскі прывалачэцца.

Лявон трохі дурнаваты. На вузкіх плячах — вялікая, як кацёл, галава, і хоць мае гадоў трыццаць, сябруе пераважна з падлеткамі. Прырода ўсё ж не абдзяліла яго талентам — майструе балалайкі і сам на балалайцы адменна іграе.

Кірунак гаворкі мяняецца.

— Учора хадзіў Бойка, стараста,— як бы паведамляе Есіп.— Наказваў здаваць пастаўку. Хто не здасць — страшыў — сілай адбяруць...

— У мяне хай бяруць печаным або блінцамі,— расцягваючы словы, гаворыць Гаўрыла Птах.— Я што змалаціў, баба ў жорны і блінец спякла. З раніцы блінцы смачнейшыя, цёпленькія, дак я на абед не пакідаю...

— Браць усе майстры. Здай хлеб, малако, мяса...

Насмешлівы, востры на язык, Гаўрыла зусім не падобны на Міцевага бацьку. Малога росту і надзвычай шустры, ён не ходзіць, а лётае. Мае адпаведную мянушку — Верабей.

— Розуму навучыліся. Болей адной каровы, свінні не трымай. А з голага, як са святога,— што возьмеш? — развівае далей думку Гаўрыла.

— На зямлю не квапяцца,— згаджаецца Есіп.— Хто ў нашым канцы болей за дзве дзесяціны засеяў?

— Ніхто.

— У Зуя і Хадаронка па дзесяць гектараў. Гэтыя ў кулакі шчэ да калгаса перліся.

— Не пажываецца хлебам,— гаворыць Сцяпан Кавенька, які ўвесь час маўчаў.— Можа, у сёлах вырвуць. У нас не возьмуць...

Сівы, з хмурым, вечна нездаволеным тварам Сцяпан Кавенька — добры Міцеў знаёмы. За год ці два да вайны часцяком завітваў ён у будку, да бацькі. Аднойчы хадзіў Міця з ім па грыбы. Расказваў тады Сцяпан пра сваё жыццё, абудзіў у хлопца вострую цікавасць да сябе. З таго часу ведае Міця — чалавек гэты ўмее думаць.

Кавенькі — Сцяпан і Есіп — не браты, нават не родзічы. Аднолькавых прозвішчаў у мястэчку многа, а ў суседняй вёсцы большасць — яна так і называецца: Кавенькі.

Казачэнка зноў чыркае крэсівам.

— Калі прыцісну́ць — здасі,— гаворыць ён.— Дзе дзенешся, як прыстануць з нажом к горлу?..

Позна ўжо. Ціха, цёпла. Спіць мястэчка. Ні рыпу гармоніка, ні песні. Па вуліцах хадзіць не дазволена. Па чыгунцы крочаць вартавыя — немцы, славакі, а па мястэчку паліцэйскія

патрулі з жандарамі. Высокае неба ў шчодрым зорным засеве. Яно спакойнае, урачыстае, спрадвечнае жнівеньскае неба.

Усё на сваім месцы: Млечны Шлях, што працягнуўся шырокай, як бы ахутанай белым туманам, ракою праз зорны небасхіл, чарпак Вялікай Мядзведзіцы з яркай кропкай Палярнай зоркі ў блізкім суседстве. Злавесным чырванаватым ліхтаром вісіць на краі неба планета Марс.

Людзі не глядзяць цяпер на зоркі, не думаюць пра іх. Калі і глядзяць, то толькі для таго, каб не збіцца са сваіх зямных дарог-шляхоў, ахутаных грымотамі вайны. Фашысты рвуцца да Волгі, а за Волгай — Азія... Пра фронт, пра партызан, пра тое, што будзе заўтра, дзядзькі не гавораць. Як быццам гэта іх зусім не цікавіць...

Мужчыны наважылі ўжо разыходзіцца, ужо сказаў «дабранач» Есіп Кавенька, як раптам на мастку вырасла высокая постаць. Міця ўздрыгнуў.

— Мужчыны, у вас табачку не знойдзецца?

Голас глухаваты, спакойны, без ліслівасці. У ім звычайная просьба — чалавек хоча закурыць. Дзядзькі імгненна змаўкаюць. Уражанне такое, што ніхто не хоча, каб яго пазналі. Міця стараецца ўспомніць, чый гэта голас, ёсць у ім штосьці знаёмае.

Чалавек не спяшаючыся скруціў цыгарку, прыпаліў ад Казачэнкавай люлькі і, прамовіўшы абыякавае «дзякуй», знік у змроку. Цяпер толькі Міця пазнаў яго — гэта ж Гвозд, які леташняй восенню быў паліцэйскім.

Стоенае маўчанне цягнецца да таго часу, пакуль не растае ў змроку постаць Гвазда, не сціхаюць яго крокі.

— Сыграй, Лявон,— просіць Сцяпан Кавенька.

— Позна, немцы пачуюць.

— Пачулі ўжо. Ірай...

Схіліўшы на плячо сваю вялікую, як гарбуз, галаву, Лявон зачынае «Свеціць месяц». Іграе гучна, хвацка, не фальшывячы ніводным гукам. Пад пералівы балалайкі дзядзькі разыходзяцца.

## III

Начуе Міця, як і раней, у хляве на сенавале. Доўга не спіць, ловячы стоеныя зыкі і шорахі. Ночы пад канец лета святлейшыя, пад раніцу халаднавата — не ратуе нават шурпатая даматканая коўдра.

У земляным гняздзечку-кішэньцы пад самым вільчыкам час ад часу пераклікаюцца сонныя ластаўкі. У гняздзе ім цесна. Ластаўкі ўжо выраслі і з сярэдзіны лета спрабуюць моц сваіх крылаў. Хутка белагрудыя шчабятухі палятуць у вырай. Як збіраюцца і як адлятаюць прыгожыя далікатныя птушкі, што заўсёды гняздзяцца каля чалавечага жытла, гэтага Міця ні разу не бачыў.

Свет поўны загадак. Нават у бачаным з дзяцінства, прывычным шмат невядомага. Ластаўкі паляцяць у Афрыку, да берагоў Ніла. Не шкадуючы сіл, будуць пераадольваць тысячы вёрст. А дзе іх радзіма — у Афрыцы, дзе ніколі не бывае зімы, ці тут, дзе нядоўгае лета і негарачае сонца? Хутчэй за ўсё тут, бо навошта было б ім ляцець з цёплага, сонечнага краю пад паўночнае, хмурае неба...

Цяжка ўздыхае, пражоўваючы жвачку, карова. Апоўначы заводзяць пераклічку пеўні. Міця яшчэ не спіць...

У апошні час Міця ўзрушаны нечаканай навіной, на якую наткнуўся сам, але пацверджанне якой знайшоў у старых кнігах. Па-нямецку ён чытае цяпер амаль самастойна, усё радзей заглядваючы ў слоўнік. Можа, па гэтай прычыне заўважыў гукавое, сэнсавае супадзенне некаторых родных і нямецкіх слоў. Прытым такіх слоў, якіх нельга аднаму народу пазычаць у другога, бо яны азначаюць самыя старажытныя, родавыя паняцці — бацька, маці, брат, сястра, дачка, сын... Бясспрэчна, корань у іх аднолькавы. Маці — мутэр, брат — брудэр, сястра — швэстэр...

Міця пачаў зазіраць у энцыклапедыі, кнігі па гісторыі — кнігамі за вайну ўзбагаціўся,— і здагадка пацвярджаецца ўсё болей, набываючы цвярдзейшы грунт. Якую ж хлусню ўзвялі фашысты на ступень дзяржаўнай палітыкі, як адурманілі свой народ! Выхваляюцца, што немцы — нардычная, арыйская раса, па чутках, там, у Германіі, вымяраюць чарапы, даказваюць адметныя якасці нямецкай крыві.

Наконт арыйцаў — глупства. Арыйцамі былі іранскія плямёны, якія ўторгліся ў Індыю ў сярэдзіне другога тысячагоддзя да нашай эры. Другая справа, што гэтыя арыйцы па моўных, расавых прызнаках з'яўляюцца блізкай раднёй індаеўрапейскіх плямён, што некалі насялялі старажытную Еўропу. Частка плямён рушыла на поўдзень — у Іран, Індыю, на Малаазіяцкі паўвостраў. Але тады, калі падзяліліся індаеўрапейцы, не было яшчэ немцаў, французаў, англічан, іспанцаў, рускіх, беларусаў, украінцаў...

Недзялімыя індаеўрапейцы паспелі прыручыць карову, каня, свінню, пачыналі займацца земляробствам, ведалі медзь і нават жалеза. Жылі родамі. Таму шмат назваў свойскіх жывёл, некаторыя прылады сельскагаспадарчай працы, словы, якія азначаюць ступені сваяцтва, у сённяшніх індаеўрапейцаў, да якіх належаць і немцы, маюць блізкае гучанне...

Заспявалі другія пеўні. Міця сам сабе ўсміхаецца. Пеўні, відаць, лепш адчуваюць сваяцтва паміж народамі, чым Гітлер і яго памагатыя. Сваім начным спевам яны як бы абвяшчаюць аб наступленні раніцы там, у далёкай Індыі, адкуль паходзяць. За многія тысячагоддзі хатнія, і не сказаць, каб надта разумныя птушкі не забылі радзімы. Яна — як неадольны інстынкт, як кліч крыві. А людзі? Хіба людзі могуць забыць Радзіму, зміріцца з пагрозай знішчэння, якая навісла над ёй?..

«Расія мае тысячагадовую гісторыю,— думае Міця.— Яна не дапусціла ў Еўропу нашэсця магутных стэпавых ордаў. Але дзікія намады ўсё ж трыста гадоў уладарылі над Руссю, і нават харобры Аляксандр Неўскі, што біў на Чудскім возеры тэўтонскіх рыцараў, ездзіў на паклон да татарскага хана...

Напад немцаў на Савецкі Саюз, татальную вайну, калі бязлітасна знішчаецца мірнае насельніцтва, можна параўнаць толькі з татарскім нашэсцем. Другіх прыкладаў гісторыя не дае. Відаць, і азіяцкія вандроўнікі выдумлялі якую-небудзь тэорыю, накшталт той, з якой носіцца цяпер Гітлер, каб апраўдаць знішчэнне другіх народаў...»

Міцевы думкі перапыняе разложысты выбух, што страсянуў наваколле. Ясна — на чыгунцы, вярсты за тры-чатыры ад мястэчка. Цяпер такія выбухі ледзь не кожнай ночы.

Раней партызаны развінчвалі рэйкі, дзейнічалі, калі строга разбірацца, прымітыўна, цяпер падкладваюць міны. Вырасла іх сіла. Толькі як знайсці з імі сувязь? Шура забраў вінтоўку і як скрозь зямлю праваліўся. Не падае ніякага знаку...

## IV

Мікола прыйшоў пад вечар. Белы, як бы вымачаны ў вадзе, твар увесь у адмецінах шрамаў-драпін. Хто не ведае, можа падумаць, што ў твар Міколу стрэлілі зарадам буйнога шроту. Правая рука на марлевай перавязі. Фактычна няма рукі — з рукава суконнага пінжака вытыркаецца забінтаваная кукса...

Выгляд у Міколы хмуры, разгублены, і Міця не ведае, як сябе з ім паводзіць. За два месяцы, што прамінулі з часу іх апошняй сустрэчы, многа ўсялякага адбылося. Зрэшты, Міця нават як след не ведае, што з Міколам здарылася.

У хаце гаварыць няёмка. Міцевы дамашнія сустрэлі Міколу прытоена-зацятым маўчаннем. Як быццам паміж імі і Міцевым сябрам вырасла нябачная сцяна, якая аддзяліла мінулае ад сённяшняга. Раней Мікола прыносіў у хату задзірысты рогат, здаровую бесклапотнасць. А што прынёс цяпер?..

— Выйдзем,— яшчэ болей нахмурыўшыся, прапанаваў Мікола.

Яны выйшлі з хаты і пабрылі вячэрняй вуліцай. Мікола не ў ботах, а ў чаравіках і ад гэтага здаецца яшчэ даўжэйшым. З ваколіцы вынырнуў воз з сенам і, пакалыхваючыся на калдобінах, рыпаючы коламі, паплыў перад хлопцамі. У воз запрэжана карова — ідзе паважна, спакойна, сцёбаючы па аглоблях доўгім хвастом.

— Што тут у вас? — глухім незадаволеным голасам спытаў Мікола.

— Нічога.

На правым баку вуліцы даўгаваты праём старых, зарослых быльнягом, могілак, на якіх даўно ўжо няма ні магіл, ні крыжоў. Гэтае, нікім не заселенае месца Міця заўсёды праходзіць з унутраным неспакоем. Яшчэ да вайны, калі насыпалі шлях, бралі адсюль пясок. Выкапаныя косці, чарапы

доўга абмываліся дажджом, пакуль іх нехта не сабраў у кучу і не закапаў. Магілкі цяпер у другім месцы, на процілеглым канцы мястэчка, і таксама густа заселены.

Па перарывістым дыханні, рэзкіх рухах Міколы Міця адчувае, што яго сябра поўніцца злосцю. Гаворкі, аднак, не зачынае. Прайшлі яшчэ адну лаву хат і завярнулі ў глухаваты завулак, на якім сутыкаюцца агароды дзвюх вуліц. У тым канцы завулка, атулены старымі таполямі, стаіць дом Сашы Плоткіна.

— Ну дык што, дайграліся? — гаворыць Мікола з насмешлівымі, здзеклівымі ноткамі ў голасе.— Нашкодзілі немцам... Балбаталі, пакуль не пахапалі як куранят...

— А сам ты што зрабіў? — нечакана ўзгараецца Міця.— Наогул, невядома, што ты цяпер за птушка. Немцы паклалі ў бальніцу, лячылі. За якія заслугі?

— Бо не такі дурань, як вы. Думаў галавой...

— Трэба яшчэ паглядзець, як ты думаў.

Ззаду чуваць паспешлівыя крокі. З шэрага змроку выступае цёмная постаць, і хлопцы на хвіліну змаўкаюць. Праходзіць высокая кабета з вядром. Відаць, нясе здаваць малако. У мястэчку немцы адкрылі некалькі прыёмных пунктаў, маслазавод.

— Пра мяне потым,— Мікола ўсё ж трохі збаўляе тон.— Але ж групы фактычна няма. Пазашываліся ў норы, седзіцё як суслікі... Дзе Сяргей, Базыль, Шура?..

Міця абражаны, але стараецца стрымлівацца. Мікола не мае права так гаварыць. Трэба проста дараваць яму — страціў руку, нямала адпакутаваў.

— Сярод нас не было здраднікаў,— ціха гаворыць Міця.— Бо калі б былі, не хадзіў бы ты тут са мной. Ты ж таксама быў у групе... Думаеш, каб яе раскрылі, то цябе б не знайшлі?.. Не хвалюйся, немцы паставілі б да сценкі і з адарванай рукой. Яны малых дзяцей страляюць...

— Ды я не пра тое. Пра хлопцаў пытаюся. Раскажы, як усё здарылася...

— Вельмі проста. Сам ты, па-мойму, ведаеш... Сяргея выдаў Басняк. Базыль спалохаўся, што выдасць і яго, сеў у вагон. Ён жа таксама шаптаўся з Басняком... Тады мітусня

была — расстрэлы, адпраўка ў Германію. Шура ў партызанах. Вінтоўку забраў... Скінуў два нямецкія паравозы...

— А дзе Басняк?

— З'ехаў. Кажуць — бачылі ў Гарбылях у форме СД.

— Значыць, Басняк выдаў Сяргея,— пасля працяглага маўчання гаворыць Мікола.— Добра, што я з ім не пазнаёміўся. Мяне ж Сяргей адзін раз зваў да яго. Яшчэ вясной...

— Сяргей і без гэтага быў на прыкмеце. Усіх, хто з лесу вярнуўся і ў немцаў не працаваў, пахапалі. Каб не Басняк, Сяргея проста адправілі б у Германію. А так пры вобыску ў яго знайшлі наган...

— Той, што Анкудовіч перадаў?

— Той.

— Разява! — выгуквае Мікола.— Не мог нагана як след схаваць.

— Ён збіраўся ў партызаны. Начаваў у хляве, на сене, наган трымаў пад галавой.

— То чаму ж не страляў, як прыйшлі арыштоўваць?

— На вуліцы арыштавалі. Рукі ўгору і хутчэй па кішэнях. Ды каб і дома, то не страляў бы. Тады б знішчылі ўсю сям'ю...

Дайшлі да дома Плоткіна. Аканіцы зачынены, праз шчыліну прабіваецца палоска святла. Плоткін, відаць, чытае або з кім-небудзь гуляе ў шахматы. Павярнулі назад.

— А з бацькам тваім што? — пытае Мікола.— За што яго?

— Тут другое,— Міцю цяжка пра бацьку гаварыць.— Партызаны наскочылі рабіць дыверсію, і ён ім памог. Не хацеў, а памог. На работу ў Германію адправілі. Там, маўляў, партызан няма, будзеш рабіць на немцаў сумленна...

Мікола болей ні аб чым не распытвае. Ён супакоіўся, але Міцю крыўдна. Начальнікам сябе адчувае, ці што? Пра іх распытваў, пра сябе — маўчыць.

— Можа, зойдзем да Плоткіна? — прапануе Мікола.

— Пачакай. Ты прысвоіў сабе права толькі дапытваць другіх. Ніхто табе яго не даваў. Раскажы, чаму цябе лячылі немцы?.. Што ў цябе наогул было?.. Тут пра цябе гавораць, што даставаў партызанскую міну.

— Няхай гавораць. Мне гэта лепей.

— Ты ўсё-такі раскажы. Трэба яснасць...

— Усё вельмі проста,— у Міколавым голасе непрыхаваны сум.— Ты ведаеш, звязаўся я з парашутыстамі. Праз настаўніцу Аню Корань. Яна з бацькам цяпер жыве ў Грамах. Мы былі знаёмы яшчэ да вайны — яна тады ў суседняй вёсцы працавала. Аня прынесла ад дэсантнікаў міну, пакунак толу і ўзрывальнік з гадзіннікавым механізмам. Міну я прыладзіў пад лакамабіль. На шпаларэзным заводзе. Хацеў, каб узарвалася не на маім дзяжурстве. Аж тут прыходзіць Барысёнак, мой напарнік, гаворыць, што дзяжурыць будзем другую змену. Паліцаі пайшлі ў засаду, змяніць нас няма каму...

Міця напружана слухае. Зноў чуваць нечыя крокі, і Мікола змаўкае. Тая ж кабеціна варочаецца з пустым вядром.

— Ну і што? — пытаецца Міця пасля таго, як постаць жанчыны растае ў змроку.

— Выняў з міны ўзрывальнік. Хацеў перавесці стрэлкі на пазнейшы час...

Далей можна не распытваць — усё ясна. Тады, як Мікола паступаў у паліцыю, Лобік папярэджваў правільна. Паліцай служыць ворагу, і бываюць крытычныя моманты. Такі момант быў і ў Міколы. Найлепшае ў гэтым выпадку — дачакацца выбуху, забіць паліцая і шугануць у лес. Так, як зрабіў Шура. Але загінула б сям'я. Усюды сям'я... Шуру было лягчэй, хоць сястру да гэтага часу цягаюць...

— Дэтанатар у руках узарваўся?

— У руках.

— Міну знайшлі?

— Знайшлі.

— Усё ў нас так,— з сумам гаворыць Міця.— Рукамі махалі, а думаць не думалі. Прапала міна, ты без рукі, а якая карысць? Чым ты лепшы за Базыля Маленду, які паехаў у Германію? Таксама спалохаўся за сям'ю.

— Ды не думаў я пра сям'ю! — ледзь не крычыць Мікола.— Проста хацеў, каб пазней узарвалася. Не на маім дзяжурстве...

Міцю шкада Міколы. У гэтую хвіліну ён адчувае сябе смялейшым, больш дасціпным за сябра. Мікола хоць і старэйшы, але трэба, каб над ім была чужая воля, трэба над ім стаяць,

накіроўваць думкі, учынкі. Заўсёды так было, нават да вайны. Мікола цягнуўся да хлопцаў, не толькі шукаючы іх дружбы, але і падтрымкі ва ўсім тым, што рабіў ці хацеў зрабіць. Там, у Грамах, ён быў на адзіноце...

Чорная постаць вырасла нечакана, па тварах хлопцаў, сляпячы, слізгануў прамень кішэннага ліхтарыка.

— Камарады, закурыць не знойдзецца?

Міця анямеў, па целе пабеглі халодныя дрыжыкі.

Перад імі быў паліцэйскі Гвозд. Як і ўчора, вырас нібы з-пад зямлі. Няўжо што-небудзь чуў з іх размовы? Тады крышка...

— Мы не курым,— збянтэжана мармытаў Мікола.— Вот сустрэліся з таварышам.

— Бачу, што таварышы... Цёмных куткоў шукаеце.

Міця адказаў са злосцю:

— Да адзінаццаці хадзіць не забаронена. Вас мы не ведаем. Не чапляйцеся.

Ступіўшы крок у бок ад Гвазда, не азіраючыся, рушыў па завулку. Следам зашоргаў чаравікамі Мікола.

Апамяталіся, выбраўшыся на вуліцу.

— Віжуе за мной,— шэпча Мікола.— Гвозд — шпік. З паліцыі звольніўся для маскіроўкі.

— Не толькі за табой.

— За мной, кажу табе. Мяне ў бальніцы два разы дапытвалі. Падазраюць наконт міны...

— Ну, тады за намі ўсімі сочаць. Шпік ля будкі ў ячмені тыдзень сядзеў. Сто недакуркаў пакінуў. Можа, гэты самы курэц. Глядзі, што бацьку памог у Германію сплавіць...

Мікола не тоіць трывогі.

— Дык што рабіць?

— Тужэй язык завязваць. Не апраўдвацца, як ты, перад шпікам: «З таварышам сустрэліся...»

— Дык ён жа сам бачыць!

— А ты другое гні. Адным словам, калі што якое — мы адзін другога мала ведаем. Сустрэліся выпадкова... Зразумеў?

Устрывожаныя, насцярожаныя, хлопцы пабрылі кожны ў свой канец вуліцы.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

Хутка першае верасня, знамянальны дзень. Дзе б быў ён, Міця, каб не вайна, не немцы? Скончыў бы дзясяты клас, паступіў у інстытут... Заняткі ж у інстытутах таксама пачынаюцца першага верасня...

Далей няма сілы трываць, і Міця, нягледзячы на забарону, пайшоў да Драгуна. Вечар цёплы, задуменна-ціхі, тоне ў мяккіх, шаравата-сініх перадвосеньскіх пералівах. Такія вечары дыхаюць назапашанай цеплынёй лета. Не варухнуць лістамі зялёныя яшчэ таполі, якімі абсаджана пясчаная Паштовая вуліца, а ў садах долу вісне голле ад яблык і груш. Міця азірнуўся. Здаецца, ніхто за ім не віжуе.

Каля клуба, што побач з жандармерыяй, татахкае рухавічок кінаўстаноўкі. Кіно два-тры разы ў тыдзень, на сеансы завітваюць салдаты — немцы, славакі. Камендацкі час у сувязі з кінасеансамі адцягнуты да дванаццаці гадзін. Па драўлянаму тратуару перад клубам прагульваюцца пад ручку з мясцовымі дзяўчатамі славацкія салдаты ў светла-зялёных мундзірах.

Вось і эмтээсаўскі дом, у якім жыве аграном Драгун. Міця яшчэ раз азірнуўся — пуста на вуліцы. Націснуў на клямку і, стараючыся не рабіць груку, адчыніў веснічкі, шуснуў у двор.

Завешаныя шчыльнай фіранкай вокны аграномавай кватэры асветлены. Не ведаючы, што рабіць, Міця прысеў на ўслончык — ён стаіць ля дашчанага паркана. За некалькі крокаў цэментовае жарало калодзежа. На слупку каля студні прыбіты бляшаны ўмывальнік. Чуваць, як раўнамерна падаюць на дол кроплі.

Міця чакае, але ніхто з хаты не выходзіць. Тады ён устаў, падышоў да акна, ціхенька пастукаў у шыбіну. Зараз жа падняўся ражок фіранкі, хтосьці зірнуў на двор.

Яшчэ праз хвіліну на ганку постаць агранома.

— Хто тут?

Міця падышоў да ганка.

— Чаму ты ў хату не заходзіш? Я нават спалохаўся...

Міця здзіўлены — пасля наказу не трапляцца на вочы такая гасціннасць.

— Не трэба ў хату. Давайце дзе-небудзь так.

— Добра. Пачакай, надзену пінжак.

Аграном выйшаў з кватэры, несучы пад пахай старыя боты. Каля веснічак пастаялі, прыслухаліся. Выбраўшыся з двара, рушылі ў напрамку старой школы.

Шырокі школьны двор пусты, маўклівы. Па краях яго высока ўзняліся маладыя таполі. Міця вучыўся тут, у старой школе, да шостага класа. Новую, каменную, толькі будавалі.

Таполі тады былі малымі.

Мінуўшы школу — на вуліцы перад ёй глыбокі сыпучы пясок,— звярнулі ў вулачку між агародамі. На плоце пад ігрушай-дзічкай Міця сядзеў з Сюзанай. Селі на той самы плот.

— Я сам хацеў цябе пабачыць,— сказаў аграном.— Мястэчка пакідаю...

Міця скалануўся. Прадчуванне не падводзіла — усе гэтыя дні ён быў смутна занепакоены.

— Ды не калаціся ты. Я сам усё падстроіў. На лаўца звер бяжыць. Гебітскамісар перабраўся ў Гарбылі, ну я і выкарыстаў выпадак. Добрыя людзі памаглі...

Нічога Міця не разумее, але маўчыць, чакае, што будзе далей.

— Разумееш, друг мой, наступае, як кажуць, новы этап. Мне тут болей сядзець нельга. Я доўга думаў, каго пакінуць за сябе. Спыніўся на тваёй персоне. Паўнамоцтвамі, дадзенымі мне савецкай уладай, прызначаю цябе...

— А вы куды?

— Афіцыйна — у Гарбылі. Ужо і папера ёсць — адкамандзіраваць у распараджэнне зямельнага аддзела гебітскамісарыята. Але гэта толькі прыклёп. Галоўнае — сям’ю вывезу, прыстрою дзе-небудзь у вёсачцы. Пакручуся ў Гарбылях, а там відаць будзе...

— Нашай групы больш няма,— гаворыць Міця, як бы прапусціўшы міма вушэй аграномавы словы.— Так што няма каго пакідаць. За Міколам сочаць і за мной, здаецца. Ну, яшчэ Лобік ёсць...

— Лобік — гэта ўнук старога Бондара? Таго, што пад дубамі жыве?

— Таго. А што?

— Ды нічога. Я іхнюю сям'ю ведаю.

Па вулачцы, налягаючы на педалі, хтосьці борзда праехаў на веласіпедзе. У шэрані змроку мільганула белая сарочка. Міця з Драгуном прымоўклі. Пачуліся сцішаныя галасы, дзявочы смех, і з процілеглага боку перад плотам вынырнулі дзве постаці — славака-салдата і дзяўчыны. Убачыўшы, што месца, на якое яны разлічвалі, занята, яны павярнулі назад.

— Я табе сур'ёзна гавару, а ты глупства... Няма каго пакідаць... Калі не ведаеш, то скажу. Мяне тут райкам пакінуў. Некалькі такіх. Але цяпер адзін я. Павінен хто-небудзь мяне замяніць?..

— Сувязі з партызанамі няма,— сказаў Міця.— Ды і што партызаны адны зробяць? Фронт пад Сталінградам...

— Дык ты ж не хочаш, каб немец сядзеў на карку? Трэба нешта рабіць. Вайна не скончылася.

— А што рабіць?

Драгун выцягнуў цыгарэты, пстрыкнуў запальнічкай, закурыў.

— Не ведаю, друг мой. Мяне, калі пакідалі, дакладных інструкцый не давалі. Сказалі — глядзі па абстаноўцы. На работу да немцаў сам пайшоў. Правільней — паслаў Шэлег, той, што ад расстрэлу з машыны ўцёк. Сям'ю яго, аднак, кокнулі. І мяне тое чакае. Хачу перахітрыць судзьбу-матухну...

— Дык што, і вас засеклі? — узрушана пытае Міця.

— Бадай што. Да партызан хадзіў. Прызначылі сувязь за Прудком. Вылез з лесу і напароўся на засаду. Сам піляціцкі бургамістр Спаткай у кучках сядзеў. Даўні знаёмы, але кішэні вывернуў. Вось, браце мой, і ўсё.

У Міці адлягло ад сэрца. Не арыштавалі — палавіна бяды.

— Гэта было ў мінулы аўторак, а сёння — серада,— працягвае Драгун.— У Прудок я прыехаў на кані, каня паставіў у старасты. Засада была. У лес — прапусцілі, а калі назад ішоў — хапнулі. Добра, што партызаны на сувязь не з'явіліся. Штосьці сарвалася, а можа данеслі пра засаду.

Над агародамі — празрыста-шэры, падсвечаны зорным неба змрок. Вуліца не спіць: даносяцца прыглушаныя галасы, рып калодзежнага жураўля. У хляве, які побач з ігрушай, гаспадыня, доячы, угаворвае карову: «Стой, рабая, стой...» Прыемны, саладжавы водар адцвітання плыве з агародаў. Сумна, трывожна... Драгун расказвае:

— Мяне ім не так лёгка ўкусіць, асабліва — Спаткаю. Ведаеш, я быў у партыі, але ў трыццаць восьмым выключылі. З-за радні. Ёсць брат, які трохі не ў той бок пазірае. Спаткай ведае, што я выключаны. Быў жа старшынёй сельсавета, партыйны, у партызанскім атрадзе пакінулі. Калі дапытваў мяне, то я яму ў вочы: «Сябе падазравай, пан бургамістр. Мяне з партыі выгналі, а з тваёй галавы ніводзін волас не ўпаў. Невядома, хто лепей любіць савецкую ўладу. У мяне любіць яе няма падстаў». Але чуе, гадзіна, нутром. «Цябе, кажа, выключылі, гэта праўда, а ў саракавым годзе сярэбраны медаль далі. Аднаму з усіх аграномаў...»

— Які медаль? — пытаецца Міця.

— Усесаюзнай выстаўкі. Калгасы сеялі кок-сагыз. Ёсць такая раслінка, дзікі каўчуканос, а мы яго прыручалі. Я справай гэтай як бы кіраваў.

— У раённай газеце пісалі пра кок-сагыз.

— Пісалі, брат. Я сам, можа, сто артыкулаў змясціў. А цяпер пабойваюся. Калі б у паліцыі была падшыўка, то абвінаваўчы матэрыял супроць мяне гатовы. Але чорта з два яны маюць. Не пра тое думалі. Спаткай і ўся банда яшчэ летась паверылі, што савецкай уладзе капцы. Думалі, як лепей выслужыцца перад немцамі...

Агране маўчыць, затым крута мяняе ход размовы:

— У цябе дзяўчына ёсць? Колькі табе?

Пытанне нечаканае, і Міця не ведае, што адказаць. Пра дзяўчат ён гаворыць толькі з хлопцамі — дый то пра Сюзану маўчыць.

— Зімой будзе васямнаццаць. Адна знаёмая дзяўчына ёсць.

— Я, брат, у твае гады такія абаранкі закручваў. Настаўніцу звабіў. Прыслалі да нас маладзенькую, прыгожанькую. Скончыла педрабфак, ёй васямнаццаць і мне, перарастку, васямнаццаць. Ну і пачалося...

Міця, стаіўшы дыханне, слухае. У таямнічым, глыбока схаваным, што датычыць адносін паміж мужчынам і жанчынай, ніколі яшчэ перад ім не раскрывалася чужая душа. Ён не думаў нават, што пра такое вось так проста, звычайна можна расказваць. Аграном закурыў зноў, глыбока зацягнуўся.

— Выкладала беларускую мову і літаратуру. Урокі — два разы на тыдзень. Закахаўся я па вушы і ўрокаў яе чакаў як свята. Нявопытная — чырванее, запінаецца, вочы ад кнігі баіцца падняць. У нас у сёмым класе — тады гэта была школа першай ступені — сядзелі бізуны старэй за мяне. Доўга не мог я да яе падступіцца. Усё-такі настаўніца. Аднойчы пісалі сачыненне, і я адважыўся. Трэба было апісаць восень — лес, поле,— а я напісаў пра тое, як люблю яе. Прозвішча, імя не назваў, але напісаў пра яе і вершам Пушкіна скончыў.

Міця баіцца прапусціць слова, ловячы сябе на думцы, што і ў яго з Сюзанай прыкладна так пачыналася.

— Сшыткі яна прынесла праз тры дні, і ўвесь час я дрыжаў. Болей за ўсё баяўся абразы. Выклічуць у настаўніцкую, пачнуць распякаць, насміхацца. Наважыў: калі раскрые тайну, збягу са школы. З'еду куды вочы глядзяць. Але не раскрыла. Прыйшла яшчэ болей збянтэжаная, разгубленая, мой сшытак аддала апошні. Паглядзеў я і вачам не веру — старонкі з укладаннем вырваны...

У Міці дзіўнае адчуванне: ён ніколі б не адважыўся на такое. І ў той жа час аграном блізкі, зразумелы.

— Закруціла мяне з ёй як у віры. Падполле было поўнае, як у нас з табой. Ніхто пра нашы адносіны не ведаў да самых экзаменаў. Вечарам, калі зусім цямнела, я чакаў яе на агародзе. Ішлі ў поле, ці снег, ці завея — не глядзелі. Нахадзіўшыся, хаваліся ў лазеньку — стаяла хацінка ўскрай сяла. А вясной, калі ўсё зазелянела, пасварыліся. Прыехаў нейкі гарадскі хлопец з партфелем — чытаў лекцыі сялянам. Яна з ім хадзіла па вуліцы тры вечары. Я пасля гэтага — ні нагой. Сустрэліся толькі на экзамене. І вось, браце мой, я, вучань, адказваю па білету, а яна, настаўніца, сядзіць за сталом і румзае. Тут нас раскрылі...

Ля клуба перастаў тарахцець рухавічок. Кіно скончылася.

— А далей што было?

— Яна пераехала ў другую вёску, я паступіў у прафтэхшколу. Сюды, у мястэчка. Была тут такая школа, называлася лясной. Яе і Бондараў сын скончыў.

— Чаму вы пра Бондара ўспамінаеце?

— Ды так. Знаёмы чалавек.

Злезлі з плота. Звязаныя па халяўках боты аграном перакінуў цераз плячо. На ім старая з памятым казырком шапка, вузкі ў плячах пінжак. Перахлябісты, трохі ссутулены аграном сапраўды нагадвае жвавага вясковага хлопца.

— Будзь, як і ўсе,— гаворыць ён Міцю.— Гуляй з дзяўчатамі, хадзі на танцы. На работу абавязкова трэба паступіць. Добра б ва ўправу... Свой чалавек там трэба. Бланкі пасведчанняў, карткі на хлеб, на соль... Сходзі да Крамера. Згаварыся з кім-небудзь удвух. Аднаго не возьме, дык, можа, другога...

— А сувязь з партызанамі?

— Буду жыў я, будзе сувязь. Партызанам не да нас. Гэта, як мяне тут пакідалі, думалі, што адсюль, з мястэчка, можна будзе кіраваць партызанскім рухам. Як пасяўной кампаніяй... Глупства, брат...

— А чаму партызанам не да нас? — пытаецца Міця.

— Дамачоўскі атрад слабенькі. Чалавек сорак. Са старастамі, валаснымі паліцэйскімі не можа справіцца. Па чутках падняліся гарбылёўцы. Буду ў Гарбылях, пранюхаю... Як аграрый-марксіст скажу табе... Нутром адчуваю — партызанскі рух пойдзе ўверх. Няважна, што немцы пад Сталінградам. Нямецкую зямельную палітыку за год я вывучыў назубок. Будуць ціснуць, абдзіраць селяніна. Увесь апарат нацэлены. Ну, а дзядзька будзе супраціўляцца. Вось і ўся мудрасць...

Міця маўчыць. У галаве ніякіх думак, а на душы цяжка. Драгун рыўком, нечакана прыхінае Міцю да сябе.

— Шыбуй ваколіцай, пераскоч вуліцу і сып. Не вешай носа...

## II

Саша Плоткін, добрая душа, школьны Партос, выручай!.. Для той справы, якую даручыў Міцю Драгун, Саша найболей падыходзіць.

Плоткін — ранейшы, спакойна-насмешлівы, з павольна-прыгожымі рухамі і жэстамі. І ў доме ў яго нічога не змянілася. Маці стракоча на швейнай машыне, сястра вышывае сурвэткі. Летам Саша касіў на ўзмежках траву, цягаў мяшкамі ў двор, сушыў. Сена карове на зіму ёсць. Ад Германіі ўвішная маці адкупіла сына самагонкай.

У пакойчыку-бакоўцы сталы парадак. Кнігі расстаўлены на лазовых самаробных этажэрках, прыбітых да сцяны палічках і нават іх каталог складзены — па пісьменніках і ў алфавітным парадку.

— Ты можа ў інстытут збіраешся? — пытае Міця.

— Збіраюся. Вайна ж не вечная.

— Можа, у нямецкі?

— Яшчэ прыёму не было.

— Значыць, чакаеш прыёму?

— Не бачу, каб другія пальцам неба дасталі. Махалі рукамі. У асноўным без толку...

Гэта намёк на Міцю і яго сяброў. Але Міця не крыўдуе. Плоткін — свой, блізкі чалавек.

— Не толькі махалі рукамі, але і гінулі. Гэта што-небудзь значыць?

— Загінуць па-дурному не штука. Была б карысць.

— Каму карысць? Таму, хто пра сябе не думае, ці наадварот?

Ураўнаважаны Плоткін пачынае гарачыцца.

— Калі ты такі правадыр, то вядзі! Дзе твае барыкады? Пайду, хоць цяпер...

Але барыкады, якія хоча прапанаваць Міця, адмысловыя. Плоткін можа і не згадзіцца. Не варта спяшацца.

Хлопцы становяцца ля карты, якая вісіць на дашчанай сцяне-перагародцы. Далёка прасунуліся немцы — ірвуцца на Каўказ, баі ў Сталінградзе. Тым не меней, на думку Плоткіна, немцы сёлета слабей, чым летась. Летась наступалі ўсім

фронтам, а цяпер толькі паўднёвым, бо пад Масквой, Старой Русай, Ленінградам не прасунуліся ні на крок.

Але ўсё адно тон гаворкі пра фронт панылы. Другі год ідзе вайна, а становішча благое, намнога горшае, чым вясной, калі нашы стаялі пад Харкавам, Лазавой, трымалі ў сваіх руках Севастопаль. Няўжо праўда на баку немцаў, якія трубяць, што летам Чырвоная Армія ваяваць не ўмее...

Непрыкметна гаворка пераходзіць на дзяўчат. Але ў такім выпадку нельга абмінуць Аляксея Прымака, бо поспехі ў дзяўчат мае пакуль што адзін ён.

Аляксей — Плоткін ведае гэта дакладна — «лётчыцу» кінуў, сустракаецца з Нінай Грушэўскай.

Але далейшае — навіна для Міці. Аляксей не проста сустракаецца з Нінай, а нават застаецца начаваць. Яна цішком адчыняе яму дзверы кладоўкі.

— Ты думаеш, гэта каханне? — пытаецца Міця.

— Ніякае не каханне.

— Дык чаму ён да яе ходзіць?

— Аляксею дзевятнаццаць гадоў. Мужчынскі арганізм у гэты час спелы. А жаночы яшчэ раней. Пачытай у энцыклапедыі.

З тым, што гаворыць Плоткін, не хочацца пагаджацца, але ў яго словах ёсць крыўдная праўда. Нават у сабе самім Міця адчувае цёмную, непадуладную свядомасці сілу, якая трывожыць усё часцей. Калі шчыра самому сабе прызнацца, то ён прыхільна глядзіць не на адну Сюзану, а і на другіх дзяўчат. Колькі разоў лавіў сябе на непрывабных жаданнях!

З немцамі, паліцэйскімі знаёмыя дзяўчаты не шпацыруюць, аднак выключэнні ёсць. Першая з іх — Валя Хмяльніцкая, блакітнавокая школьная прыгажуня, сапраўдная Ларэлея. Паліцай Кузьмянок, з якім яна водзіцца, нават сямігодкі не скончыў. Акрамя прыгожай мардасіны і наглянцаваных ботаў, у яго нічога няма. Аднак жа кінулася на шыю паліцаю Ларэлея.

Яшчэ болей незразумелы другі выпадак. Хмяльніцкая вучылася не надта, хоць атэстат атрымала. А Дзіна Ліпнякова — выдатніца, пісала вершы, выступала з трыбуны ў дні рэвалюцыйных свят. Год займалася ў інстытуце, а вярнуўшыся ў

мястэчка, працавала ў рэдакцыі. Дык вось гэтая Дзіна разгульвае цяпер з немцамі. З салдатамі не хоча — з афіцэрамі. Толькі сляпы не ўбачыць, што яна бесклапотная аж залішне. Трохі гаворыць па-нямецку і на астатніх дзяўчат глядзіць з пагардай.

— Дзіна — здрадніца,— гаворыць Міця.

— Яна пра гэта не думае.

— Хадзіла б з нашымі хлопцамі.

— З кім? Са мною, з табою? Дзяўчаты любяць пераможцаў.

— А парашутыстку памятаеш? Ішла зацятая, гордая. Такая перад немцамі скаліць зубы не будзе.

— Дык і нашы не скаляць. Хмяльніцкая — верціхвостка, а Дзіна сама не ведае, чаго хоча. Прымак пра яе правільна сказаў — адукаваная кабыла...

Дзяўчына ёсць і ў Сашы. Цяпер гэта для Міці не сакрэт. Малодшая Верына сястра Люся, смяшлівая, напорыстая, як хлопец, напаткаўшы Міцю, не праміне спытаць пра Плоткіна.

— Люся да цябе першая падышла? — не тоячы цікавасці, выведвае Міця — Бо ты ж цюлень. Хіба ты на такое адважышся?

— Не сунь носа не ў сваё проса.

— А ўсё ж прызнайся — першая?

— Ну, няхай першая. Што з таго?

Болей Плоткін нічога не гаворыць.

Міця сам неахвотна расказвае пра Сюзану. Ёсць рэчы, у якія нікога не хочацца пасвячаць. Нават самых блізкіх. Даўно ён не бачыў Сюзаны. Яна з ім сустрэч не шукае, як Люся з Плоткіным. Міцю здаецца, што Сюзане ўсё адно: ён ці хтонебудзь другі. Прыйдзе да яе — ласкавая, ветлівая, пайшоў — забыла. Ад гэтага на сэрцы ціхі, шчымлівы сум...

Драгун з мястэчка знік. Нават сям'ю вывез. Дэманстратыўна прагудзеў па вуліцах леспрамгасаўскі газагенератарны грузавік, выпускаючы едкія воблакі дыму. У кузаве — шафы, фікусы, клумкі — небагаты аграномаў набытак. Цяпер няма ў мястэчку чалавека, хто паможа, падкажа. Рашай сам...

— Ведаеш, Саша,— сказаў Міця ў адзін з тых дзён.— Трэба паступаць на работу. Добра б ва ўправу. Адтуль у Германію не забяруць...

— Маці супраць. Кажа — сядзі ціха.

— Маці не ўсё разумее.

Плоткін, аднак, хоча яснасці. Хвіліну памаўчаўшы, ён пытае:

— Ты ад сябе гэта гаворыш ці ёсць яшчэ хто?

— Не ад сябе. Ёсць людзі, Саша. Не ўсіх немцы пастралялі...

— Трэба падумаць,— згаджаецца Плоткін.

## III

Раённая ўправа ў прыгожым месцы. Пабелены каменны будынак у глыбіні парку. За домам — прастор сенажацяў аж да спавітай смугой падковы лесу.

Міця з Плоткіным сядзяць на лаўцы пад акацыямі, чакаюць прыёму. Пасівелы стары са ссунутымі на нос акулярамі — загадчык агульнай канцылярыі ўправы — даў ім па аркушу паперы, загадаў напісаць заявы.

На якую работу іх прымуць і ці прымуць наогул, хлопцы не ведаюць, таму заявы напісалі кароценькія. Стары ўзяў паперы, загадаў прыйсці праз тры дні. І вось яны сядзяць, чакаюць.

Міця лічыць, што Плоткіна могуць прыняць і ва ўправу. Ён чысты, яго не арыштоўвалі, не віжавалі за ім шпікі. Размаўляць з хлопцамі будзе сам бургамістр, таму Міця трохі хвалюецца. Чуў пра Крамера шмат, чалавек гэты для яго загадкавы.

Бургамістр заняты — на вуліцы, ля штыкецін паркана, стаяць тры фурманкі.

Ва ўправе працуе перакладчыцай настаўніца нямецкай мовы Мар’я Іванаўна. Можна было б наведаць яе, павітацца, расказаць, чаго прыйшлі, але хлопцы не рашыліся. Прасіцца на работу не проста так, наперадзе можа здарыцца благое, і не варта ў гэтыя справы ўблытваць старую настаўніцу.

Яна яшчэ надумаецца хадайнічаць за іх перад бургамістрам.

Чаканне пакутлівае. Гадзіны тры сядзяць. Нарэшце на ганку паяўляецца стары.

— Зайдзіце да Аўгуста Эрнэставіча.

Кабінет у Крамера малы, вузкі — два акны, канапа, некалькі крэслаў. Сцены абклеены сіняватымі шпалерамі. Бургамістр сядзіць за сталом, чытае іх заявы.

— Пісьменныя? — нарэшце пытаецца ён і, падняўшы ад папер галаву, як бы ацэньвае, чаго варты кожны з хлопцаў.

— Скончылі па дзевяць класаў,— адказвае Міця.

— Тваё прозвішча Птах? Гэта цябе арыштоўвала жандармерыя?

— Мяне,— Міця ледзь варушыць губамі.

— Глупствам займаўся. Ты не ведаеш, што я за цябе заступіўся? То ведай. Бацьку твайму не мог памагчы, а табе памог. Бацька не вінаваты, а ты не такі чысценькі. Хадзіў да гэтага, з Вакзальнай вуліцы, у каторага наган знайшлі...

Міця пабялеў, маўчыць. Не ведае, што гаварыць.

— Ну ладна. Можа, ты і не вінаваты. Але трэба сядзець ціха. Глупства дорага каштуе. Я думаю, ты гэта зразумеў...

Бургамістр нагінаецца, штосьці піша алоўкам на ражках заяў.

— Пойдзеш у фінансавы аддзел,— гаворыць да Міці.— Рахункаводам па страхоўцы. Страхоўка — дзела для насельніцтва выгаднае. Калі што згарыць, прападзе — казна заплаціць.

— А ты,— ківок у бок Плоткіна,— картатэтчыкам у гандлёвую кантору. Яна толькі ствараецца. Ужо начальнік прыехаў, немец з Германіі. Яму трэба людзі...

Размова скончана, хлопцы выйшлі з кабінета. Дык вось так, ва ўправу трапіў усё-такі ён, Міця. Але дрэнна з самага пачатку. Тое, чаго баяўся, здарылася. Ён і на чыгунку не вярнуўся, лічачы, што там ведаюць пра арышт, будуць прыглядваць. А тут яшчэ горш. Аказваецца, Крамер за яго заступіўся. Фактычна выратаваў. Цяпер будзе патрабаваць удзячнасці. Можа, і на работу з-за гэтага ўзяў...

Плоткін разгублены таксама. На твары — хмурая засяроджанасць.

Сябры выйшлі з парку, перасеклі пыльную базарную плошчу, але цяжар няпэўнасці такі вялікі, што далей не рушылі,

у нерашучасці спыніліся. Перш чым разысціся, а назаўтра з'явіцца на работу, трэба з кім-небудзь параіцца. Але з кім?..

— З кім? — паўстае нямое пытанне...

— Пойдзем да Мар'і Іванаўны,— сказаў Міця.— Яна нас вучыла. Можа, што-небудзь скажа...

У Мар'і Іванаўны асобны пакойчык, маленькі, чыста пабелены. Настаўніца сядзіць за сталом, падслепавата прыплюшчыўшы вочы, чытае нямецкую кнігу ў пярэстай вокладцы.

— Мар'я Іванаўна,— павітаўшыся, пачынае Міця.— Мы паступілі на работу. Я ў фінансавы аддзел, ён — у гандлёвую кантору.

— Сядайце, рабяткі. Я вас слухаю.

Міця прысеў, працягвае:

— Бургамістр ведае, што мяне арыштоўвалі. Сказаў, што заступаўся за мяне і за бацьку.

Мар'я Іванаўна, апусціўшы вочы, доўга маўчыць. Твар яе змізарнелы, маршчыністы, на сухіх белых руках праступаюць сінія жылкі. Вельмі пастарэла за апошні год маленькая, рухавая настаўніца. Цяпер яна здаецца бабулькай.

— Што паступілі на работу, добра,— ціха гаворыць Мар'я Іванаўна.— Набор у Германію працягваецца. Толькі не масавы, як летам, а невялікімі групамі. Каб не выклікаць беспарадкаў...

— Чаму бургамістр сказаў, што за мяне заступаўся? — перапытвае Міця.

— Зразумець яго няцяжка. Ён за ўсіх заступаецца, калі можа. За маладых асабліва.

— Чаму за маладых?

— Таму што вы яшчэ дзеці,— настаўніца сумна ўсміхаецца.— Мала на свеце пражылі. Галовы ў вас гарачыя, а жыцця не ведаеце. А за палітыку цяпер і дзяцей страляюць.

— Што будзе далей, Мар'я Іванаўна?

— Не ведаю, рабяткі. Ідзе вялікая вайна. У яе ўцягнуты ўвесь свет. Штодня гінуць тысячы.

— Няўжо пераможа фашызм? Што тады рабіць?

Мар'я Іванаўна спалохана ўздымае рукі, бляднее.

— Я забараняю вам так гаварыць, Птах! Вы робіце неразумна. Каму з вашых слоў карысць?

— Дык мы ж вас ведаем, Мар’я Іванаўна. Вам таксама з немцамі не соладка.

Настаўніца апускае вочы, але голас рашучы, патрабавальны, нават з ноткамі злосці.

— У кожнага чалавека ёсць абавязкі. Перад сям’ёй, грамадствам. Галоўнае — сумленне. Яго не трэба губляць. Усё астатняе — другараднае...

— Як вас разумець, Мар’я Іванаўна?

— Вельмі проста. Адзін раз вы вызваліліся з бяды. Другі раз можа быць горш не толькі для вас аднаго. Не забывайце, у які час мы жывём.

Міцю няёмка, сорамна — навошта пакрыўдзіў настаўніцу. Спярша яны з Плоткіным нават заходзіць да яе не збіраліся, а тут раптам распачалі мітынг.

— Даруйце, Мар’я Іванаўна,— гаворыць Міця.

— Я нічога не чула. Хоць у наш час і ў сцен ёсць вушы. Нічога не магу вам параіць. Я старая, слабая жанчына. Такіх, як я, цяпер ніхто не слухае...

Калі хлопцы, збянтэжаныя, спахмурнелыя, падняліся з крэслаў, Мар’я Іванаўна кіўком галавы папрасіла пачакаць.

— Вы ведаеце — у мяне два сыны, муж. Яны — там.— Яна ўзмахнула рукой, паказваючы ў акно.— Маё сэрца крывёй абліваецца. Але што я магу зрабіць?.. Я толькі ведаю адно: чалавек павінен быць сумленным. Куды б лёс яго ні закінуў. І яшчэ — вайна не ўчора пачалася, не заўтра скончыцца. А вы яшчэ нават не ваеннаабавязаныя. А цяпер ідзіце, рабяткі...

Хлопцы выйшлі. На душы ў Міці прыкра, нядобра. Мільгае думка: «Што такое сумленне? Не ўкрасці, не схлусіць. Так раней тлумачылі. Але цяпер усё перавярнулася. Хіба не хлусіць сама Мар’я Іванаўна? Думае адно, а робіць другое...»

# РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## I

Паміж тым, як, перавёўшы стрэлкі, ірвануўшы ручку рэверса, Шура пусціў здвоеныя нямецкія паравозы на торфазаводскую ветку, а сам перад мастком сігануў з падножкі і паляцеў у адхон, абдзіраючы рукі, твар аб кусты, і тым, што ён у лесе цяпер адзін сярод стоенай начной цішыні, прайшло гадзін шэсць. Узбуджэнне не сплыло.

Шура ляжыць у сасонніку на засланым ігліцай доле. Трохі зябка. Цішыню час ад часу парушае голас начной птушкі — яна кігікае то зусім блізка, то аддаляецца. Праз навісь хвоі блішчаць зоркі. Яго заўтра хопяцца, хто-небудзь ды бачыў, як ён бегаў па пуцях, лез на паравоз... «Каб сястру не зачапілі»,— прабіваецца думка.

Шура кладзе пад вуха кепку, шчыльней захінаецца ў пінжачок. Трэба спаць. Засынае Шура толькі пад раніцу. Перад забыццём мільгае твар маці — добры, задуменны, як бы з адмецінай вечнага смутку...

Прачынаецца ён апаўдні, праляжаўшы, як забіты, гадзін дванаццаць. Сонца над галавой, у сасонніку млявая парнасць, рэдкія птушыныя галасы. Першыя пачуцці — голад і боль у левай назе. Шура разувае чаравік, здымае закарэлы насок. Брудная нага каля костачкі распухла — вывіхнуў ці расцягнуў. Рукі абдзёртыя, некалькі зашэрхлых драпін на твары.

Шура ўстае, спрабуе ісці. Боль пры хадзе меншы, калі ступаць не на пятку, а на насок. Лапае па кішэнях і адразу весялее — запальнічка, ножык на месцы, ёсць некалькі скамечаных цыгарэт у расплюшчаным пачку. Шура закурвае, пускае дым шызымі кольцамі. Учора не падумаў, скочыў не там, дзе трэба,— абы хутчэй у лес. Каб адсюль выйсці, забраць вінтоўку, трэба перабрацца цераз чыгунку і цераз шашу. На торфазаводскай ветцы немцаў, мабыць, поўна — падымаюць скінутыя паравозы...

Шура ідзе асцярожна, чуйна прыслухоўваючыся да лясных гукаў. На ўзлессі вырazae арэхавы кій, прысеўшы наўколенцы, збірае чарніцы. Ягад процьма, а ў бары ні душы...

Шэрая лента шашы-брусчаткі мільгае перад ім гадзіны праз тры, калі, парадкам прытаміўшыся, ён пачаў думаць, што заблудзіў. Ціха на шашы. Шура прастаяў, назіраючы за ёй, хвілін дваццаць — ніводнай машыны. Апіраючыся на кій, борзда перамахнуў вузкую ленту брусчаткі. Паспеў заўважыць — між утрамбаваных, вастрарэбрых кавалкаў граніту сям-там прабіваецца трава.

Ісці можна ўзбоч шашы, але наперадзе, за чыгункай, вёска Сівалобы, і Шура зноў дае круку, паглыбляючыся ў сасоннік. Ад смольнага паху, разамлелай гарачыні злёгку кружыцца галава, стукае ў скронях. Дол пясчаны, засыпаны леташняй ігліцай. На ўсім працягу сасна і сасна. Другое дрэва не расце на пясках. Мясціны, па якіх Шура блукае, не такія далёкія ад мястэчка — вёрст дзесяць — дванаццаць, але ён тут ні разу не быў. Па чыгунцы-аднапутцы ездзіў да Хвойнага, а Сівалобы бачыў толькі з тармазной будкі.

Абмінуць Сівалобы не ўдалося — выбраўшыся на ўзлессе, ён убачыў вёску як на далоні. Ахутаная сіняватым хісткім мроівам, схаваўшыся ў прысадах, вёска як бы дрэмле, упіраючыся адным сваім краем у шашу, а другім — у чыгунку-аднапутку.

Некалькі хвілін Шура стаіць у нерашучасці. На полі палавее жыта, над ім таксама як бы бруіцца гарачае, расплаўленае паветра. Сярод поля за стужкай шашы маўклівы ўзгорак з высокімі купчастымі соснамі. Такі ж узгорак у мястэчку, і Шура здагадваецца — могільнік.

Дзіўнае, горка-шчымлівае пачуццё валодае Шурам. Толькі адну ноч пераначаваў на адзіноце, не паспеў нават ад мястэчка адысціся падалей, а ўжо нястрымна вабіць да сябе чалавечае жытло, і ад выгляду звычайных хат, жыта на полі, зялёных прысадаў — горкі камяк у горле. Шуру хочацца есці, хочацца пачуць гук чалавечай гаворкі, але зайсці ў вёску нельга. Там — невядомасць, а ў яго няма зброі. Схопяць і прывалакуць у мястэчка...

На сотні вёрст наўсцяж, лясная, палявая, ляжыць пад акупацыяй беларуская зямля. Мінуў толькі год, як па пыльных дарогах і бальшаках прайшло германскае воінства, а свет перамяніўся дазвання. Як і бывала, сонца з-за лесу ўсплывае

і вялікім чырвоным шарам за лес хаваецца. На тым жа месцы дзеравяныя вёскі, шумлівыя бары, недагледжаныя пясчаныя дарогі. І ўсё другое, другое...

Родная зямля, ты ў вялікай пакуце!..

На прагал, з якога відаць Птахава будка, сасна, пераезд, Шура выбіўся толькі пад вечар, калі нябачнае сонца вісела за лесам, а між дрэў і кустоў гусцелі шэрыя цені. За дзень ён даў вялікага крюку: перабраўся, мінуўшы Сівалобы, цераз чыгунку-аднапутку і яшчэ раз цераз шашу. Ішоў асцярожна, прыпадаючы на пашкоджаную нагу, прыслухоўваючыся да кожнага шораху і гуку,— тут, паблізу ад мястэчка, можна было нарвацца на знаёмага чалавека.

Тады, калі гнаў паравозы, сігаў на злом галавы прыступак, дзейнічаў бяздумна, падпарадкоўваючыя вostраму, салодка-помсліваму пачуццю. Цяпер прыйшоў одум. Сябе Шура не дакарае. Зробленага не вернеш. Але горкі камяк у горле цісне і цісне. Ад мястэчка адрэзаны. Не пройдзе па зялёных вуліцах, не будзе, як раней, адчайна-бесклапотным.

Тайнік, дзе схавана вінтоўка, Шура ведае. Ён таму і спяшаўся, каб засветла трапіць у знаёмы бярэзнік, знайсці каля падпаленага пня лоўж, дзе, закіданая ламаччам, ляжыць зброя. Між кустоў парная духмянасць, сіні паўзмрок. Дзіўна — з аднаго куста дыхне прыемнай хваляй назапашаная за дзень цеплыня, з другога — адчувальная прахалода. Шура нервуецца — не можа натрапіць на знаёмы пень.

Ужо сцямнела зусім, калі ён нарэшце знайшоў лоўж, таропка раскідваючы струхлелыя галіны, выцягнуў заматаную ў рыззё вінтоўку. На ложы — асклізлая вільгаць. Шура адцягнуў затвор, загнаў патрон у канал ствала. Абмацваючы ямку тайніка, піхаў у кішэні металічныя абоймы патронаў, засунуў за пояс гранату.

Чалавек з вінтоўкай зусім не тое, што з голымі рукамі. Яшчэ хвіліну назад Шура адчуваў сябе бездапаможным выгнаннікам, змардаваным зайцам, якога цкуюць, хочуць злавіць. Цяпер ён нічога не баіцца, жывым у рукі не дасца.

Ускінуўшы вінтоўку на плячо, выйшаў на прагал, за мяжу кустоў. Мястэчка цямнее ўдалечыні доўгай аграмадзінай, што азначаецца рэдкімі, як бы наўмысна перарванымі бляскамі

агеньчыкаў. Зыркі ланцуг агнёў толькі ў двухпавярховай школе. Наверсе, дзе займаліся старшакласнікі,— немцы, а ўнізе, за закратаванымі вокнамі,— арыштаваныя. Сярод іх мог быць і ён, Шура. Яму ўсё-такі пашэнціла. Не проста драпануў з мястэчка, а пайшоў з громам, з музыкай. Няхай чухаюцца, фогелі...

Прыціхлым начным лесам ён рушыў у бок Гарбылёў. Стомы, голаду не адчуваў. За паўвярсты ад лясной дарогі — чыгунка, адзін раз пранёсся цягнік, і анямелы, стоены лес адазваўся глухім, стогалосым рэхам.

Апошняе знаёмае месца — Драздова паляна, светла-шэры сярод цемені лесу прагал з чорным вокам копанкі каля самай дарогі. Каля копанкі Шура пастаяў. Ваду ля берага зацягнула раскай, у дзягцярна-чорнай роўнядзі пасярэдзіне адбіваюцца зоркі.

Яны, местачковая басота, аж сюды дабіраліся купацца. Там, бліжэй да чыгункі, была хата старога Дразда, дзеда ці дзядзькі Базыля Маленды. Базыль паехаў у Германію. Белы як лунь яго дзядзька быў дзівак. Вітаўся з імі, дзятвой, за руку, плёў страшэнныя небыліцы. Пра чырвоных, зялёных, жоўтых ваўкоў, што гналіся за ім зграяй...

## II

Трохі вусцішна ноччу ў лесе. Калі ўважліва прыслухацца, ён повен патаемных шорахаў, зыкаў. Трэснула галіна — здаецца, нехта крадучыся прадзіраецца праз гушчар, падобным на пранізлівы чалавечы ўскрык кігікнула незнаёмая птушка, пачуўся як бы цяжкі ўздых.

Шура ідзе. Вінтоўка за плячамі, рука трымае рэмень. Калі спатрэбіцца, ён у адно імгненне зробіць, як належыць — кінецца на дол, прыцісне прыклад да пляча, а пальцам націсне курок...

Цёмна тут толькі на лясной дарозе, прыкрытай туга сплеценымі шатамі дрэў. Калі падняць галаву — праз навісь галін прасвечвае летняе неба са шчодрым засевам ясных, нібы вымытых у расе, зорак.

Шура ідзе. Драздова паляна ззаду, а за ёй як бы канчаюцца лясныя ўладанні мястэчка. Наперадзе станцыя і вёсачка Грамы, а яшчэ вярсты за тры Вербічы, спаленыя немцамі. Там, у Вербічах, разам з хлопцамі Шура капаў акопы. Няма ні Вербіч, ні хлопцаў...

Нават у цемені Шура бачыць, што дарога разгаліноўваецца, і ён збочвае ўлева, каб быць падалей ад чыгункі. Лясная, пабітая калдобінамі каляя выведзе зноў да шашы, а шашы Шура не баіцца — яна, лічы, што мёртвая...

За поўнач, пад раніцу зоры бляднеюць. Як і ў мінулую ноч, ён выбіўся ў густы сасоннік, наламаў лапак і, паклаўшы побач з сабой вінтоўку, лёг. Ногі гудуць ад стомы, бурчыць у пустым жываце. Пачуцці напятыя, думкі ўзбуджаныя. Шчымліва, цяжка на душы. Роднае мястэчка, ты там, за лесам!..

Жаль да сябе агортвае Шуру, і ад гэтага жалю і ад таго, што ніхто яму цяпер не паспагадае, ніхто не думае аб ім, ён паступова спакайнее.

Зноў вяртаецца зацята-помслівая рашучасць, яна прыносіць раўнавагу, упэўненасць.

Што зроблена, тое зроблена. Назад ходу няма. Не варта ўспамінаць учарашняе. Яно толькі расслабляе. Шура засынае...

Некаторы час гэта толькі мяжа сну і явы, калі штохвіліны думка ўспыхвае трывожнай іскрай, шукае апоры ў навакольнай рэальнасці — цішыні лесу, цёмных начных дрэвах. Рука намацвае вінтоўку. Але стомленае, змардаванае цела просіць адпачынку, спакою, і Шура правальваецца ў бязважкую бездань.

Ён бачыць сябе на Драздовай паляне, яны з хлопцамі прыйшлі абкопваць дубкі. Сядзяць на плоце, а стары Дрозд у даматканай белай кашулі і штанах выносіць кожнаму па конаўцы квасу. Квас летні, церпкі, падкіслены падгарэлымі хлебнымі скарынкамі, а конаўка медная, зробленая са снарада. Такія конаўкі ўсюды ў старых людзей асталіся ад той вайны. Шура п’е і не можа напіцца, а Дрозд усё падносіць, падносіць...

Дубкі абкопваць цяжка — метровыя клеткі, на якіх вытыркнуліся з пасеяных жалудоў кволыя дрэўцы, ушчэнт зараслі дзядоўнікам, трыснягом. Дзядоўнік як лес, а дубкоў нават і не відаць. Баліць спіна, ногі, ныюць пакалатыя калючкамі рукі. Шчука, Шураў сусед, выйсце знайшоў,— каб не гасіць капаніцай па задзірванелай клетцы, вышуквае, вырывае з коранем дубкі. Маўляў, не ўзышлі, былі гнілыя жалуды... Хлопцы непатрэбства бачаць, але памоўчваюць — свой усё-такі Шчука...

На другой дзялянцы робяць прасвятленне. Дубкам там гадоў па дзесяць, ад зямлі падняліся, але ўсё адно заглушаюць іх асіны, бярэзіны, што не сеяныя вымахалі побач. Шуру шкада падсякаць гонкія, прыгожыя бярозкі, як так — за жыццё дубка ахвяраваць столькімі дрэўцамі. Але, калі не падсекчы суседзяў, дубок загіне. Не пераносіць ценю. Кожную бярозку Шура нагінае з жалем.

Нечакана Шчука гоніцца за Шурам з вінтоўкай. Вось-вось дагоніць — лес, куды Шура ўцякае, далёка, і няма болей сілы бегчы. Шчука страляе, Шура падае, адчувае пякучы боль у назе і крычыць, крычыць...

Прачынаецца Шура з жудкай няўцямнасцю, якая цягнецца некалькі імгненняў. Праз вяршаліны сосен цэдзіцца хмуры, сінявата-малочны ранак, цела азябла, баліць расцягнутая нага. Намацвае вінтоўку, канчаткова цверазее. Сон страшны праўдай, перамешанай з тым, чаго не было. Дубкі абкопвалі, прасвятлялі, праўда, што Шчука, хлопец з іхняй Вакзальнай вуліцы, вырываў іх з коранем. Гэты самы Шчука, які зімой з імі, змоўшчыкамі, трохі сябраваў, тыдзень назад паступіў у паліцыю...

Праз хвіліну Шура яшчэ раз, ужо наяве, дранцвее ад жудасці. У лесе, не так далёка ад мясціны, дзе ён ляжыць, плача дзіця. Спачатку яму здалося, што кукарэкнуў певень, і ён нават узрадаваўся — блізка вёска, вінтоўка ёсць, можна здабыць харчу. Але крык не петушыны — працяглы, пранізлівы, з кароткімі перапынкамі. Мабыць, дзіця плакала і тады, калі ён спаў, сніў свой жудасны сон, можа, ён і прачнуўся ад плачу...

Не могучы суняць дрыжыкі, Шура ўстае, бярэ на плячо вінтоўку. Дзіця ўскрыкнула яшчэ раз — гук блізкі, людзі недзе побач. Хлопец робіць некалькі нясмелых крокаў, выходзіць на прагал. На той бок невялікай паляны падымаецца паверх бярэзін дым, чуваць прыглушаныя галасы.

Калі Шура падышоў да двух жардзяных куранёў, схаваных у гушчары разналесся, ніхто з яго паяўлення не здзівіўся. Ля ўваходу ў першы курэнь гарэў агонь, жанчына, са збітымі ў жмут валасамі, у доўгай, да пят, спадніцы, памешвала драўлянай лыжкай у чыгунку, прыстаўленым да агню. Другая, такая ж безуважлівая, абыякавая, сядзела на пні, шкрэбла кірпатым нажом маладую бульбу. Плакала босае замурзанае дзіця ў даматканай бруднай кашульцы. Хлопчык ці дзяўчынка — разабраць нельга, дзіцяці не болей двух гадоў — светлыя валосікі, змізарнелы тварык.

Шура прывітаўся, жанчыны абыякава буркнулі ў адказ, занятыя сваім клопатам. У куранях валтузня, сонная гаворка.

— Далёка сяло? — спытаў Шура, каб што-небудзь сказаць.

— Няма ні сяла ні кала,— адказала тая, што сядзела наўколенцах пры агні.

— Вы з Вербіч?

— Няма болей Вербіч. Хіба не ведаеце? Навошта пытацца?..

Спалоханае дзіця прыціхла, шмыгнула ў курэнь.

Жанчыны выглядам сваім паказвалі, што гаворкі ўсчынаць не хочуць і што ён, незнаёмы чалавек, тут не патрэбен. Шура павярнуўся, пайшоў прэч...

Узыходзіла сонца, адбіваючыся першымі бляскамі на мядзяна-гладкіх сасновых вяршалінах. У лесе зябкая парнасць, грыбовы пах. Тонкай мярэжкай бялее грыбніца паміж гурбачкамі чорнай лясной зямлі, наточанай кратамі. Шура ўжо адышоўся з паўвярсты, беручы кірунак, процілеглы сонцу, калі пачуў за сабой паспешлівыя крокі.

— Пастой, хлопец!

Шура азірнуўся, зняў з пляча вінтоўку. Да яго падыходзіў задыханы дзядзька — немалады, высокі, з шырокім, даўно не голеным тварам.

— Не балуйся з цацкай! Свой жа чалавек...

Словы дзядзькі, відаць, датычылі Шуравай паставы — стаяў як укопаны, вінтоўку трымаў наперавес. Дзядзька прыблізіўся, пачухаў шурпатай далонню патыліцу.

— Ты з журавіцкай паліцыі? Заблудзіў у лесе ці як?

— А вы хто?

— Ды ты хіба не бачыш? З куранёў. Ні свет ні зара падышоў, напалохаў баб. Сказаў бы, чаго хочаш. Можа выпіць?..

— З мястэчка я,— сказаў Шура.

— З мястэчка? — дзядзька шчыра здзівіўся.— Дык што ты тут робіш?

— Начаваў у лесе...

Дзядзька прымоўк, пранікліва зірнуў на Шуру.

— У цябе закурыць няма?

Шура выняў з кішэні скамечаны пачак, раскрыў — асталася адна цыгарэта.

— Нямецкія. Вам што, на службе даюць?

— Ды не ў паліцыі я,— злосна сказаў Шура.— Уцёк ад немцаў.

Дзядзька вагаўся — верыў і не верыў. Шура бачыў па вачах.

— А вінтоўка?

— А хіба вінтоўкі толькі ў паліцэйскіх?

— Пра тое мы не ведаем. Бачым толькі ў паліцыі.

Шура ўскінуў вінтоўку на плячо, разламаў цыгарэту папалам, палавінку даў дзядзьку. Шчоўкнуў запальнічкай, даў прыкурыць. Не згаварваючыся, яны пайшлі назад, на ўсход сонца.

Чалавек апрануты па-вясковаму напалавіну — шарачковыя пафарбаваныя штаны, даматканая сарочка, але на плячах выцвілы сіні пінжак — такія да вайны насілі пуцейцы,— на нагах стаптаныя казённыя чаравікі. Чыгуначная шапка са следам былой цэшкі над казырком.

— У партызаны іду,— сказаў Шура.— Толькі не ведаю, дзе знайсці? Вы не ведаеце?

— Не ведаю, браце мой, ніякіх партызан. Ты схадзі ў Вербічы, паглядзі, што зрабілі. За партызанства мы заплацілі дорага. А нашых у гэтых тваіх партызанах ніводнага не было...

— Хіба немцы разбіраюць...

Дзядзька зірнуў на Шуру зноў, перавёў гаворку на другое.

— У мястэчку, мабыць, работаюць, як да вайны? На старым месцы ўсе...

— Не пойдзеш, дык пагоняць,— сказаў Шура.— Дый кусок хлеба...

— Я сам работаў там два гады. Як кляпалі той вялізны чан вадакачкі. Мы баракі строілі...

— Я на вадакачцы качагарам быў,— сказаў Шура, не таячы радасці ад таго, што намецілася нітачка, якая звязвае яго з незнаёмым чалавекам.

— Ты ж малады. Калі паспеў?

— Адзін год да вайны работаў. Я без бацькі рос, жылі з сястрой у дзеда.

Яны вярнуліся ў сасоннік, дзе Шура начаваў,— ён шукаў вачамі мясціну, выкладзеную хваёвымі лапкамі, і не знаходзіў. Нарэшце, як бы што ўспомніўшы, крута павярнуўся і адразу ўбачыў зляжалае, прытоптанае да зямлі вецце.

— Тут начаваў. Не ведаў, што людзі блізка. Я другую ноч у лесе.

Дзядзька спыніўся, глядзеў на месца між дзвюх хвоек, якое яму паказаў Шура.

— Ты кажаш, у дзеда жыў. А дзе бацька?

— У турме,— сказаў Шура.

Дзядзька зірнуў на яго зацікаўлена, са спагадай, цяпер Шура бачыў — пачынае верыць.

— Бацька маці застрэліў,— паспешліва працягваў ён, баючыся, што іскрачка даверу, якая мільганула ў вачах незнаёмага, пагасне.— У яго быў наган, ён вазіў пошту. У паштовым вагоне...

— Як тваё прозвішча?

— Гарнак.

— Нешта такое было,— пацвердзіў дзядзька.— Ты вот што, хлопец, пабудзь тут, пачакай. Нягожа табе з вінтоўкай ісці да куранёў. Усякія людзі ёсць і тут. Ты ж, мабыць, галодны...

Дзядзька знік. Новага месца Шура не шукаў, прысеў на начное логвішча... Адчуваў, што незнаёмец распытваў яго

нездарма, хоць, з другога боку, ім мог кіраваць звычайны страх за сям’ю. Баіцца паліцыі.

Вярнуўся дзядзька мігам, прынёс кавалак праснака, два агуркі, бульбы, загорнутай у капусны ліст.

— Еш, хлопец...

Від яды распаліў прытухшае вогнішча голаду. Шура еў прагна, адвярнуўшыся, саромячыся свайго збавіцеля.

— Трэба было хлеба з дому захапіць. Чаму ты паспешліва ўцякаў?

— Скінуў немцам два паравозы.

— Так-такі два?

— Былі счэпленыя. Пагнаў на ветку. Там разбураны мост.

— Ты ў іх машыністам быў?

— Матарыстам. Вадзіў дрызіну...

— Табе загадаў хто скінуць паязды?

— Сам. Мае таварышы ў турме.

— Я сам быў пуцейцам,— загаварыў дзядзька.— Работаў да вайны ў Грамах. Сяго-таго з вашых местачкоўцаў ведаю. Майстра Адамчука...

— Адамчук — сволач. Прадаўся немцам з кішкамі.

— Ты, хлопец, вельмі порсткі. Сам жа ў іх рабіў. Навошта другога судзіш?

— Здраднік Адамчук. Уцёк з партызан, склады выдаў. Боты немцам ліжа, каб выслужыцца.

— Сям’я яго з ім?

— Дык што, калі з ім?

— Якраз тое самае. Ты малады, не разумееш. Вот спалілі сяло, трохі ўцякло народу, а куды прыткнуцца? Сядзім па куранях. Родзічы ў Грамах, Журавічах, але баяцца старасты. На нас цяпер кляймо — спаленыя...

— У партызаны трэба ісці,— сказаў Шура.

— Ну я, скажам, магу пайсці,— згадзіўся пуцеец.— Мне другой дарогі няма. А жонцы куды, дзецям? Думаеш, партызаны такія моцныя? Падклаў штуковіну пад рэйку — і наўцёкі. А народ пакутуе...

— Але і не паддавацца ж немцам! — сказаў Шура.— Толькі таго і хочуць.

— Так-то так, але народу не соладка. Такога бацькі, дзяды не ведалі. Сто сорак душ з Вербіч як не было. Уцяклі толькі тыя, што пры лесе жылі.

— Летась мы ў вашым сяле акопы капалі. Жылі ў гумне...

— У тым гумне людзей палілі. І ў царкве, і ў школе...

Сонца паднялося над соснамі. Рыкнула карова, пачуўся сабачы брэх.

— Дзе партызаны, не ведаю,— сказаў пуцеец.— Два разы заходзілі, а дзе стаяць, не сказалі. Здаецца мне — за Альховым. Лес там добры, вялікі. Ідзі туды...

Шура падзякаваў, падаў пуцейцу руку. Ускінуўшы на плячо вінтоўку, пайшоў. Настрой прыгнечаны, кепскі. Дзень пачаўся брыдка. Жудкі сон, дзіцячы плач. Абыякавыя жанчыны ля куранёў, якім было ўсё адно — паліцай ён ці партызан. Пуцеец трохі лепшы — разумее...

Не прайшоў Шура і паўвярсты, як унутраны штуршок прымусіў яго азірнуцца. За хвояй мільгнула постаць. Адстаўшы крокаў на дваццаць, услед шкандыбаў збавіцель. Значыць, не паверыў, сачыў, сабака! Што яму трэба? Поўнячыся злосцю, Шура стаў.

— Пачакай, хлопец,— сказаў пуцеец, падышоўшы.— Хачу памагчы. Будзеш блукаць і нікога не знойдзеш. Схавай вінтоўку, прабярыся ў Журавічы. Знайдзі Гудаса Аляксея. Жыве на вуліцы ад лесу, перад хатай ігрушына. Калі што ведае, то, можа, скажа...

Пуцеец падаў руку, рушыў назад. Шура хацеў падзякаваць, хацеў спытаць прозвішча незнаёмага, але высокая постаць у выцвілай спяцоўцы і шарачковых штанах схавалася за хвоямі.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

У канцы мінулага стагоддзя на Палескай раўніне пралягла чыгунка. Апроч таго, што дарога гэта звязала цэнтральныя, хлебныя губерні Расіі з прамысловым нямецкім Захадам, яна мела яшчэ іншыя мэты.

У той час як арлоўскія, бранскія, гомельскія, чарнігаўскія сяляне здабывалі з кар'ераў-прорваў баласт і камень для насыпу новай чыгункі, па балотах Палесся вандравала экспедыцыя генерала Жылінскага. Генерал быў патрыёт, меў разумную галаву: пакуль пракладвалася чыгунка, ён асушыў тысячы дзесяцін балотных імшарын. Вынік быў відавочны — праз лічаныя гады прылеглы да чыгункі край стаў даваць утрая болей сена і дзелавой драўніны.

Падхопленыя ветрам нечаканых перамен, раслі новыя паселішчы.

Найболей пашанцавала Гарбылям, размешчанай сярод саснякоў вёсачцы, якая налічвала дванаццаць двароў. З Палескай чыгункай якраз у Гарбылях скрыжавалася другая, якая вяла з пшанічнай Украіны ў багатую лесам Беларусь.

Пасля таго як над Палессем пранеслася вогненная віхура рэвалюцыі, схлынулі навалы акупацый — спачатку нямецкай, кайзераўскай, потым белапольскай,— чыгуначны пасёлак Гарбылі стаў называцца горадам. На гэта былі падставы. Такой станцыі, як у Гарбылях, мог пазайздросціць і вялікі — які мае шматвяковую гісторыю і традыцыі — горад. Стальныя ніці рэек аплыталі разлеглы прастор. Побач са станцыяй выраслі двух- і трохпавярховыя камяніцы, у якіх атабарыўся чыгуначны люд. Муры рамонтных майстэрань, вагоннага дэпо, службаў руху і пуцейскай гаспадаркі, пакгаўзы, блокпасты, складскія памяшканні выбіваліся за межы горада.

Перад вайной Гарбылі пазначаліся на картах прыкметным кружочкам, значна большым, чым астатнія, найболей старажытныя тутэйшыя паселішчы.

У дадатак да чыгункі тут праз горад прайшла шаша. З левага яе боку, у сасняках, што падступаюць да самага прадмесця, схаваны ад цікаўнага вока, вырас ваенны гарадок — акуратныя гмахі белых карпусоў, доўгія цагляныя казармы. Тут размяшчалася пяхотнае вучылішча. А крыху далей, на шырокім, атуленым лесам полі, быў збудаваны ваенны аэрадром.

Нягледзячы на ўсе гэтыя прыкметы прагрэсу, Гарбылі — горад няроўны. Чым далей ад станцыі, тым меней трохпавярховых будынін, камяніц, гарадскіх муроў. Іх змяняюць

абсаджаныя бэзам і вішнямі драўляныя асабнячкі і нават звычайныя сялянскія хаты. Брук і выкладзеная цэментнымі плітамі панэль саступае месца дашчанаму тратуару, насланаму толькі з аднаго боку вуліцы. Пра Гарбылі можна сказаць, што тут сышліся, узяўшы кожны сваё, горад і вёска. Водаправод суседнічае з калодзежным жураўлём, асфальт — з засаджанымі бульбай і сланечнікамі агародамі. Але як бы там ні было, а Гарбылі ўсё-такі горад, і менавіта сюды перанёс рэзідэнцыю гебітскамісар Рог, пакінуўшы пыльныя драўляныя Бацькавічы.

## II

Павел Бондар, якога аграном Драгун двойчы называў у размове з Міцем, дабраўся ў Гарбылі яшчэ ў пачатку лістапада.

Павел — трэці сын дзеда Бондара, нарадзіўся і вырас у Бацькавічах. Але выбраўшыся з акружэння, Бацькавічы ён абмінуў. Там яго ўсе ведалі. Нават вельмі добра ведалі.

У мястэчку, якое афіцыйна лічылася сялом, Бондар скончыў школу першай ступені і паступіў у лясную прафтэхшколу, якая фактычна з’яўлялася тэхнікумам і рыхтавала спецыялістаў для лясной гаспадаркі. Там ён вучыўся разам з Драгуном, нават трохі з ім сябраваў.

Маладосць Бондара супала з часам вялікіх перамен. Ішла калектывізацыя, мястэчка, навакольныя вёскі шумелі сходамі, спрэчкамі, людскім нездавальненнем.

У Бацькавічах, апрача лясной школы, быў яшчэ адзін значны для таго часу вучэбны асяродак — аўтатрактарныя курсы. У школу на курсы прымалі людзей хоць і маладых, але палітычна правераных, якія на практыцы даказалі гарачую прыхільнасць да савецкай улады.

Брыгады курсантаў выязджалі ў навакольныя сельсаветы, выступалі з канцэртамі, агітавалі за калгасы, выкрывалі кулакоў, папоў. На гулкіх вучэбных «фардзонах» курсанты заворвалі ў мястэчку і навакольных вёсках аднаасобніцкія межы.

Правадыром камсамольцаў-прафшкольцаў быў Бондар. Шчуплы, прыземісты, шустры, зімой і летам бегаў ён з

рашпіленым каўняром сарочкі, з-пад якога праглядвала паласатая матроская цяльняшка. Выступаў Бондар заўсёды горача, з запалам, але пра што б ні гаварыў, не прамінаў выпадку звязаць бягучыя справы з міжнародным становішчам.

Пасля заканчэння прафтэхшколы стаць ляснічым Бондару не прыйшлося. Па камсамольскаму прызыву ён быў накіраваны ў ваеннае вучылішча. Так здарылася, што лейтэнанцкія кубікі зарабляў ён паблізу ад родных мясцін — ваеннае пяхотнае вучылішча размяшчалася ў суседнім з мястэчкам гарадку Гарбылі.

Ён любіў бацькаву сядзібу, размешчаную трохі наводшыбе ад мястэчка. Калі глядзець на гэту сядзібу з боку мястэчка, то адразу за чыгуначным пераездам вачам адкрываўся шырокі — аж да ахутанага сінечай лесу — разліў жытоў, ячмянёў, аўсоў: лепшыя местачковыя палі ляжалі па гэты бок чыгункі. Узбоч пыльнага шляху, выстраіўшыся ў роўны ланцуг, беглі ўдалеч тэлеграфныя слупы, і на ўсім палявым абсягу толькі сядзіба Антона Бондара запыняла на сабе позірк.

Хату, якая стаяла асобна, вокнамі на чыгунку, два хлеўчукі і гуменца пад адным саламяным плехам атулялі тры высокія старадаўнія дубы з шырокімі, разлапістымі шатамі, і здаляка сядзіба нагадвала зялёны востраў.

Хата, у якой вырас Бондар, мела сваю гісторыю. Калі Бондараў бацька сам быў маладым хлопцам, то два гады прарабіў у экспедыцыі генерала Жылінскага, таго самага генерала, які самаахвярна асушаў палескія балоты. Жылінскі адзін час нават меў кватэру ў Бацькавічах, пабудаваў тут гасцініцу, заснаваў метэаралагічную станцыю — для назіранняў над зменамі клімату, якія мусілі наступіць у выніку асушкі балот. За грошы, запрацаваныя ў экспедыцыі, Бондараў бацька купіў тры дзесяціны скарбовай зямлі, лесу на хату.

Бацька ўсё жыццё хваліў генерала: «Вялікай душы і розуму чалавек. Яшчэ за царом ведаў пра балота, самому мне гаварыў, што можа стаць яно добрай зямлёй. Генерал, а сябе не шкадаваў. Лез у багну, хадзіў у мокрым, закіданым гразззю мундзіры...»

Ажаніўшыся, паставіўшы хату, прычакаўшы чатырох сыноў, бацька трапіў на першую германскую вайну, і хоць быў

немалады, стаў ледзь не поўным георгіеўскім кавалерам — заслужыў тры крыжы. Умела хадзіў у разведку, прыводзіў «языкоў».

У сямнаццатым годзе яго выбралі старшынёй палкавога камітэта. Вярнуўшыся з вайны, бацька арганізаваў у мястэчку першы спажывецкі кааператыў. Ён тады дзіўна называўся — ЕПО.

У Бондара тры браты, і ўсе высока сягнулі ў жыцці, якое адкрыла перад імі савецкая ўлада. Старэйшы Пятро, які захапіў яшчэ грамадзянскай вайны, па ваеннай лініі і пайшоў. Перад вайной камандаваў дывізіяй. Фактычна генерал, хоць у галерэі генералаў, партрэты якіх перад самай вайной змясціла газета «Правда», яго здымка не было. Відаць, не паспелі яму прысвоіць генеральскага звання. Сцяпан быў дырэктарам дзесяцігодкі. Цяпер, мабыць, таксама ваюе. У армію не ўзялі, можа, аднаго Андрэя, адваката па прафесіі, бо ў яго слабыя вочы. Яшчэ ў школе насіў Андрэй акуляры, а зняўшы іх, не бачыў нічога за два крокі.

Павел Бондар, трэці ў сям'і, цягнуўся за братамі. Стараўся ад іх не адставаць. У адным толькі прырода абышла яго — не дала росту. Браты высокія, як дубы, гэтак жа, як бацька, мядзведзяватыя паставай, а ён шчуплы верабей. У свой час гэтая акалічнасць яго моцна засмучала.

Бацька — дзіўны. Чытаў газету, якую выпісвалі хлопцы, і хадзіў у царкву, плявузгаць на Бога не дазваляў, а сам зрабіў рамку для партрэта Леніна, які хлопцы прынеслі са школы. Новае прымаў, але і старога не адкідваў.

У бацькі было правіла: дасягнуў паўналецця — жыві сваім адумам. Ён рабіўся як бы нават абыякавым да дарослых дзяцей. Усе яны вучыліся і пасля васямнаццаці гадоў, але грошай бацька не даваў ніводнаму, хоць торбы, адпраўляючы ў дарогу, напакоўваў спаўна.

Вядома, ён ганарыўся сынамі, хоць не паказваў гэтага. Другога такога прыкладу, дзе б чацвёра сыноў так дружна рушылі ў новае жыццё, у мястэчку не было.

Разведбатальён, якім камандаваў капітан Бондар, разбілі пад Навагрудкам. Пад Мінскам, калі камандзір выводзіў з нямецкіх клешчаў жменьку людзей, яго моцна параніла.

Ірваная асколачная рана ніжэй паясніцы вымушала здымаць перад спагадлівымі вясковымі жанкамі закарэлыя ад крыві порткі, і да пакут фізічных прымешвалася крыўда і сорам. Пакуль падлячыўся, стаў на ногі, вайна грымела ўжо за Смаленскам.

У лесе пад Мінскам яму трапіла ў рукі газета з выступленнем Сталіна, і ён ведаў, што ў тыле ворага трэба арганізаваць партызанскі рух. Лічыў сябе здольным для такой дзейнасці і рушыў на Палессе.

Дабіраючыся ў родныя мясціны, мястэчка ён свядома абмінуў. Як маглі там паглядзець на былога камсамольскага актывіста, кадравага камандзіра? Апрача гэтага, стары бацька пасля смерці маці сышоўся з чужой жанчынай. Таму нават часовага прыпынку не дазволіў сабе Бондар у роднай хаце.

Бондар ішоў у Гарбылі. Валодала ім свядомая ідэя. Ён уяўляў памеры катастрофы, якая напаткала армію ў беластоцкім выступе, таму іменна ў Гарбылях разлічваў напаткаць таварышаў па няшчасцю. Разлік быў просты: ваеннае вучылішча існавала ў чыгуначным гарадку з трыццатага года, паспела выпусціць сотні лейтэнантаў. Маладыя камандзіры, атрымаўшы прызначэнне ў армію, вывозілі з гарадка жонак, і не магло быць, каб, трапіўшы ў такое, як ён, становішча, яны не ўспомнілі пра радню.

Апроч гэтага, у гарадку магло быць пакінута партыйнае падполле.

Сам Бондар таксама ўзяў жонку з Гарбылёў. Ажаніўся ён позна, праслужыўшы пасля пяхотнага вучылішча тры гады ў арміі і абменьваючыся з будучай жонкай рэдкімі лістамі. Яго ў ёй іменна гэта і ўразіла: дзяўчына, з якой ён раз ці два схадзіў у кіно, правёў дамоў, пастаяў ля веснічак, самаахвярна яго чакала.

Апошні год яны жылі ў Беластоку. Калі пачалася вайна, ён, як і іншыя камандзіры разведбатальёна, пасадзіў жонку ў эшалон, пацалаваў на развітанне. Ці паспеў пад нямецкімі бомбамі эшалон праскочыць на Усход, а калі паспеў, то ў якім месцы спыніўся, Бондар не ведаў...

Залінейная частка Гарбылёў называецца Валынскай стараной. Тут усутык да агародаў падступаюць купчастыя сосны — вечназялёнае царства, у якім летам звіняць птушкі, пахне смалой, грыбамі — месца заўсёдных пагулянак чыгуначнага люду.

Бондар пасяліўся ў цесця, дамок якога якраз і стаіць на Валынскай старане. У цесцевым доме яго чакала радасная вестка. Да прыходу немцаў Вера — так завуць Бондараву жонку — прыслала ліст аж з Сяміпалацінска. Значыць, паспеў праскочыць з ахопленага дымамі пажараў Беластока воінскі эшалон.

Цесць — вясёлы, рухавы. Майстар на ўсе рукі: цясляр, стальмах, ляпіца, хоць яшчэ з той, першай вайны калека — замест правай нагі ахайны, фабрычны, падобны на сапраўдную нагу, пратэз.

У смутную часіну, калі добра знаёмыя з тэхнікай Гарбылі мусілі павярнуцца да дзедаўскага спосабу жыцця, работы цесцю аж занадта. Хто хату задумаўся перакрыць, хто хляўчук з аполкаў збівае, хто печ лепіць — усюды да месца вопытныя цесцевы рукі.

Бондар рэгістравацца ў паліцыю не пайшоў. Для той справы, дзеля якой з'явіўся ён у Гарбылях, гэта не падыходзіла. Трэба было жыць так, каб найменш людзей пра яго ведалі і яго асобай цікавіліся. За свае трыццаць гадоў Бондар нямала пабачыў і мог лічыць сябе загартаваным чалавекам. У саракавым годзе, за адзін студзеньскі, працяты траскучым марозам вечар, сярод хмурых сосен, цёмных валуноў цвёрдага, як жалеза, снегу на Карэльскім перашыйку нібы свечка згарэла рота Бондара. Не з адной яго ротай так здарылася. Пакуль не навучыліся болей-меней граматна ваяваць, гінулі тысячы чырвонаармейцаў, кінутыя ў лоб, пад шквальны агонь першакласных дотаў.

Вайна, аднак, была выйграна, Бондара, параненага камандзіра, як і некалькі ўцалелых байцоў, узнагародзілі медалём «За адвагу».

Няўдалы пачатак вайны з Германіяй — акружэнні, адступленні — не прывялі Бондара, параненага другі раз, у поўную роспач і адчай. Паўтаралася тое, што ён аднойчы перажыў.

Ён даўно ведаў, што немцы — сур'ёзны праціўнік, бачыў, што ваяваць мы як след не ўмеем, але лічыў, што павінны навучыцца. Гора — яно вучыць, часам найлепей, чым шчасце. З такімі думкамі дабіраўся Бондар у Гарбылі.

Ваенную форму прыйшлося, вядома, зняць яшчэ летам, пераапрануцца ў звычайную ватоўку, картавыя, з заплатамі штаны. Але завязаныя ў парудзелую ад крыві насоўку капітанскія шпалы, медаль «За адвагу», старанна абгорнуты цэлафанам партыйны білет Бондар данёс да Гарбылёў, схаваў на цесцевым панадворку.

Першы, з кім ён сутыкнуўся, асталяваўшыся ў цесця, быў Анатоль Тапаркоў, чарнявы шустры лейтэнант, які за два-тры асеннія месяцы паспеў пусціць у Гарбылях карэнні. Анатоль працаваў загадчыкам сталовай, здабыў Бондару праз знаёмых паліцэйскіх від на жыхарства — акупацыйны пашпарт, і, урэшце, звёў з патрэбнымі людзьмі — спачатку з лейтэнантам Казачэнкам, потым з мясцовым актывам — Гервасём, Хмялеўскім, Васількевічам.

Мясцовыя партызанскія справы тым часам былі не бліскучыя. Пакінутыя ў Гарбылях, Бацькавічах, у іншых навакольных раёнах партызанскія атрады супрацьстаяць немцам не здолелі. З пачаткам зімы фактычна распаліся. Задача стаяла ў тым, каб да вясны арганізаваць новыя, знайсці зброю, людзей, запаліць іх ідэяй барацьбы.

Імкліва зблізіцца з варожа настроенымі да немцаў патрыётамі, актывістамі не толькі ў Гарбылях, а і ў зарэчным надпрыпецкім гарадку дапамагла Бондару яго, напоўненая сходамі, зборышчамі, маладосць. Стаўшы ваенным, ён не перастаў цікавіцца праявамі навакольнага грамадскага жыцця. Падымала дух тое, што не ўсе атрады распаліся, распаўзліся па шчылінах. Яшчэ першай ваеннай восенню добрая слава ішла пра ельскіх, рудабельскіх партызан.

Рухавы, увішны Тапаркоў нездарма карміў немцаў, паліцаяў свінымі катлетамі, выраблю для іх разнастайныя трункі. Загадчыку сталовай у ліку іншых давераных асоб было дазволена без ніякага абмежавання слухаць радыё.

Прыёмнік, якім на правах заслужанага перад немцамі чалавека карыстаўся Тапаркоў, для Бондара, ягонай групы адыграў

немалую ролю. Ведаў Бондар, што ў Маскве 7 лістапада было ўрачыстае паседжанне, ваенны парад, з самага пачатку быў у курсе падзей савецкага контрнаступлення пад Масквой.

Якраз у тыя дні Бондар рушыў у Акцябрскі раён, да партызан. У напарнікі ўзяў дзетдомаўца Багдановіча, шустрага, безразважна смелага хлапчыну, які прылучыўся да патайной дзейнасці старэйшых таварышаў. Зрэшты, абодва яны — Бондар і Багдановіч, мелі афіцыйныя даведкі з пячаткамі, якімі іх забяспечыў той жа нястомны Тапаркоў і з якіх вынікала, што яны з'яўляюцца забеспячэнцамі Гарбылёўскай гарадской сталовай і маюць права для названай вышэй сталовай скупляць у насельніцтва кароў, свіней і нават курэй і гусей.

Курэй і гусей Бондар, вядома, не скупліваў. Затое цэлы тыдзень прабыў у акцябрскіх партызан, пахадзіў па вёсках, якія яны займалі, дзве ночы ўзапар прагаварыў з Вакуленкам, былым старшынёй райвыканкама, а цяпер камандзірам партызанскай зоны. На зваротным шляху Бондар завітаў у мястэчка і разам з Багдановічам пераначаваў у бацькі.

Сувязь, якую ўстанавіў Бондар з акцябрскімі партызанамі, узняла яго вагу не толькі ў вачах змоўшчыкаў-патрыётаў, якія жылі ў Гарбылях, а і тых, што дзейнічалі ў надпрыпяцкім горадзе, былым абласным цэнтры.

Дзіўная была зіма, якую ён, Бондар, і яго таварышы правялі ў Гарбылях, сыходзіліся на патайныя сустрэчы, шапталіся, уцягвалі новых людзей, наладжвалі бяскрыўдныя з выгляду вечарынкі...

Праз усю зіму зацята-аднастайна шумелі за падворкам цесця, на Валынскай старане, купчастыя сосны. Тут, пад аснежанымі дрэвамі, іншы раз нават нядоўгія сходкі адбываліся: хоць цесць і свой чалавек, і ў зяцевы справы лішне нос не торкае, але не ўсё можна ў хаце гаварыць. Бо, як вядома, і сцены маюць вушы.

Ніці патайных спраў усё болей сыходзіліся ў руках Бондара. Нават пра Бацькавічы ён сёе-тое ведаў. З мястэчка паходзіла Надзя Амельчанка, якая цяпер працавала памочніцай у Тапаркова. Бондар памятаў Надзю яшчэ танклявай, няскладнай дзяўчынай, калі яна вучылася на аўтатрактарных курсах. Доўга яе на гэтыя курсы не прымалі. З-за бацькі, які ў час

нэпа займаўся гандлем, дый і ў той час, калі Надзя рвалася ў новае жыццё, стаяў за прылаўкам самай вялікай местачковай крамы.

Знешне здаваліся ціхімі закіданыя снегам, разлеглыя Гарбылі. Чыгунка была мёртвая, хоць для адводу вачэй у памяшканнях дэпо, майстэрань ляскалі малаткамі, раскладвалі вогнішчы сагнаныя на працу слесары, пуцейцы, стрэлачнікі.

У шэра-сінім сутонні вечароў, ціснучыся бліжэй да парканаў, выдыбалі асцярожныя постаці. Сходкі збіраліся то на адной, то на другой вуліцы гарадка, а найчасцей на Валынскай старане. Былі яны напоўнены сустрэчамі, шчымліва-радаснымі навінамі аб тым, што ўсё болей людзей прылучаецца да патайной справы, яўна перабольшанымі, часта нават фантастычнымі чуткамі аб перамогах на фронце.

Халастое жыццё ў Гарбылях прывяло да таго, што Бондар зноў стаў сустракацца з Гэляй.

Гэля — маладое, напаўзабытае, што, здавалася, даўно быллём парасло.

Калі Бондар жыў яшчэ ў Бацькавічах, вучыўся ў лясной школе, па пасыпаных жоўтым пяском дарожках вучэбнага гарадка бегала даўганогая русявая дзяўчына, дачка выкладчыка агранамічных дысцыплін Салаўя. Гэля — так звалі дзяўчыну — канчала сямігодку, мела тонкую, гнуткую, нібы трасціна, паставу, прывабны, засеяны вяснушкамі твар. Прафшкольцы на яе заглядваліся. Ёй, відаць, таксама падабалася ўсеагульная ўвага, бо шпацыравала яна па школьным двары трохі болей, чым магло вымагацца якой-небудзь патрэбай.

Бондар гэтак жа, як другія, кідаў зацікаўленым вокам на даўганогую сямікласніцу. Але ніякага збліжэння між ім і Гэляй у Бацькавічах не было.

У Бацькавічах Бондар праседжваў вольныя вечары з Надзяй, дачкой іх суседа Язэпа, буйнацелай, вясёлай дзяўчынай. Надзя, здаецца, па-сапраўднаму яго любіла. Калі, скончыўшы школу, па камсамольскаму прызыву ён ад'язджаў у ваеннае вучылішча, Надзя плакала. Нібы прадчувала, што дарогі іхнія разыходзяцца назаўсёды.

У Гарбылях лёс зноў сутыкнуў Бондара з Гэляй. Аграном Салавей, яе бацька, пераехаў сюды, набыў уласны дамок, бо пасля адкрыцця лесаводчага тэхнікума ў Гомелі профіль бацькавіцкай школы зусім з'іначылі: яна цяпер рыхтавала звычайных шафёраў для лясной прамысловасці.

Гэля тым часам вучылася ў педтэхнікуме. Сумуючы па мястэчку, Бондар пачаў хадзіць на станцыю. Тут быў абнесены жалезнай агароджай скверык. Наўкруг у ім стаялі таполі, пасярэдзіне меркавалася зрабіць фантан. Але яго так ніколі і не зрабілі: паставілі воданапорную калонку. Вада з-пад адкручанага крана біла такая сцюдзёная, што ад яе зводзіла зубы.

У дзевяць вечара з прыдняпроўскага гарадка, з педтэхнікума прыязджала Гэля. Яна прыязджала да бацькоў кожны тыдзень на два дні, і толькі два гэтыя дні — у суботу і нядзелю — курсант пяхотнага вучылішча поўніўся несхаванай радасцю. Дабіваючыся ўвальніцельных, Бондар хадзіў да Салаўя, на зялёную вуліцу Камунараў, а калі варочаўся ў казарму, то заўсёды даваў круку, завітваў на станцыю і піў сцюдзёную ваду з калонкі. Пасажырскія цягнікі — маскоўскі, бранскі, адэскі — к гэтаму часу разміналіся, ля перона пыхкаў толькі мясцовы з маршрутам на пяньковы завод у Гарохавічы і назад. Ён адпраўляўся не надта дакладна: калі ў адзінаццаць, калі ў палове дванаццатай. На станцыі ў гэты час панавала цішыня. У напалавіну пустой, закуранай зале драмалі пасажыры, якім па начным часе не было куды падацца. З перона ў асветленым акне была відаць маладая тэлеграфістка — яна чытала стужку, раз-пораз папраўляючы прычоску...

Бондар хадзіў у дом свайго былога настаўніка, робячы выгляд, што сябруе з Аркадзем, Гэліным братам. Аркадзь канчаў школу, збіраўся паступаць у авіяцыйнае вучылішча. Авіяцыя пачынала набіраць сілу.

Аркадзь падабаўся Бондару тым, што быў Гэліным братам. Тварам, характарам ён вельмі нагадваў сястру. Гэтак жа, як і яна, умеў захапляцца: мог гадзінамі расказваць пра самалёты, віражы, мёртвыя петлі. Ні віражы, ні мёртвыя петлі Бондара не цікавілі. Ён ведаў, што любіць Гэлю, і пакутаваў, што трапляе ў смешнае становішча.

У той суботні вечар ён сышоў з казармы без увальніцельнай. Сядзеў у Аркадзя да паловы дзясятай, тоячы надзею, што Гэля прыедзе. Наступалі дні кастрычніцкіх свят. За цёмным акном шастаў вецер. Бондар лавіў кожны зык і шорах на двары, каб не прапусціць моманту, калі рыпнуць веснічкі. Нейкі ўнутраны голас як бы падказваў яму, што ў гэты вечар павінна здарыцца незвычайнае, тое, чаго ён даўно чакае. Але Гэлі не было...

Бондар развітаўся, пайшоў на станцыю. Ліў дождж, але, не зважаючы на яго, Бондар блукаў па скверы. Нарэшце выйшаў і ўбачыў Гэлю. Яна стаяла пад казырком бляшанага навесу, на ганку чакальнай залы. Твар яе быў мокры, з-пад хусцінкі выбілася, апусціўшыся на лоб, пасмачка валасоў.

Ён падышоў і спытаў, халадзеючы ад нядобрага прадчування:

— Чаму ты не дома?

— Я ведала, што ты будзеш тут.

— Гэля... Да вас я хаджу з-за цябе.

— Не трэба гэтага рабіць.

— Я люблю цябе, Гэля. Ты можаш зразумець?..

Гэлін твар на імгненне пакутліва перасмыкнуўся, як бы яна раздумвала аб чымсьці цяжкім, балючым. Але на адно толькі імгненне, бо адразу ўзяла сябе ў рукі.

— Ведай,— сказала цвёрда.— Я люблю другога. Не цябе... А з гэтым трэба канчаць... Мне проста сорамна!..

Ён павярнуўся, пайшоў. Яна стаяла на ганку, пазірала ўслед...

Вытрымкі яму, аднак, хапіла ненадоўга. У душы было так пуста, балюча, што ісці ў казарму ён не мог. Недзе на палавіне дарогі спыніўся, амаль подбегам кінуўся назад, на станцыю. Яму раптам уявілася, што Гэля там, што яна яго проста выпрабоўвае. Але там не было яе — пайшла дамоў...

«Дурань,— сказаў ён сабе ў думках.— Рыцар ростам метр шэсцьдзясят два. Непрыгожы, з дзяўчатамі не ўмееш... За што цябе любіць? Тое, што Напалеон, Сувораў — маленькага росту, забудзь. Яны палкаводцы, а ты праз месяц Ванька-ўзводны...»

У Гарбылях Гэля наведала Бондара першая. Пасядзела ў хаце не болей як паўгадзіны. Ён выбраўся яе праводзіць.

Быў зімовы адвячорак, на агародах перад цёмнай лавай сосен ляжаў сіняваты снег.

— Інстытут я не скончыла,— сказала яна па дарозе.— У трыццаць дзявятым, як вызвалілі Заходнюю, з апошняга курса паехала настаўнічаць. Там выскачыла замуж...

Ён слухаў абыякава. Было такое адчуванне, што даўно-даўно, за парогам свядомай памяці, вось гэтак ён аднойчы ўжо ішоў, зябка паводзіў плячамі, стараючыся сагрэцца.

Перад сваім дваром Гэля прапанавала:

— Зойдзем да нас.

— Другім разам,— сказаў Бондар.— Сёння не ў форме. Відаць, прастудзіўся.

Яна спытала з ноткамі зацікаўленасці:

— Твая жонка прыгожая?

— А твой муж?

— Быў такі, як ты, лейтэнант. Уцякала ад лёсу і не ўцякла.

Праз хвіліну сумна дабавіла:

— Мы з ім дрэнна жылі...

Сходкі ў Гарбылях рабіліся іншы раз пад выглядам вечарынак. Гэля на іх прыходзіла заўсёды. Яна парухавела, пажвавела, вязаны белы світар шчыльна аблягаў па-дзявочаму малыя грудзі, вострыя плечы, у злёгку прыжмураных шэрых вачах свяцілася новае, мякчэйшае.

Аднойчы Бондар — гэта было на кватэры ў фельчаркі Соні — баючыся, каб не затрымалі патрулі, дамоў не пайшоў, застаўся начаваць. Гэля засталася таксама, нячутна ступаючы босымі нагамі па падлозе, прыйшла да яго ў бакоўку...

## III

У Гарбылях Эрна Іванаўна Турбіна паявілася за год да вайны. Яе муж, маёр, камандаваў эскадрылляй у авіяцыйным палку, які размяшчаўся на тутэйшым аэрадроме.

Позняй восенню саракавога года ў клубе ваеннага гарадка ставілася п’еса «Любоў Яравая». Ролю галоўнай гераіні выконвала жонка малавядомага пажылога маёра, які, не

зварухнуўшыся, сядзеў у першым радзе, не зводзіў вачэй са сцэны. Поспех быў вышэй усялякага спадзявання. Прасторная зала, запоўненая камандзірамі, іх жонкамі, лётчыкамі, курсантамі ваеннага вучылішча, патанула ў доўгіх бурных воплесках.

Маладыя лейтэнанты проста шалелі, выклікаючы на сцэну на дзіва прыгожую самадзейную артыстку. Яна выходзіла разам з другімі ўдзельнікамі спектакля, сціпла кланялася, але бляск цёмна-шэрых вачэй, натуральная — без ніякага грыму — чырвань твару гаварылі аб тым, як узрушана, узрадавана сама артыстка. Пасля доўга ніхто не хацеў верыць, што жонка маёра выступае на сцэне ўпершыню.

Пазней ставіліся яшчэ дзве п’есы, але Турбіна ў іх не ўдзельнічала. Цікавасць, аднак, і так была ўзбуджана, у мужчынскіх кампаніях Турбіну ўспаміналі часта — сваёй прысутнасцю ў заштатным гарадку яна як бы скрашвала даволі аднастайны армейскі побыт. Пагаварвалі — звесткі сабралі жонкі,— што авіяцыйны маёр перавёўся ў Гарбылі спецыяльна, што ў Маскве, дзе ён служыў раней, у яго артысткі быў шумны раман з вядомым лётчыкам-выпрабавальнікам. Чуткам можна было верыць і не верыць — яны нічым не пацвярджаліся. Было вядома, што ў маёра двое дзяцей, яшчэ малалетніх, а яго жонка-прыгажуня працуе настаўніцай.

У гарадку прыкмеціць як след Турбіну не паспелі — у адной з дзвюх сярэдніх школ яна выкладала нямецкую мову. Ніхто не ведаў нават, што па паходжанню яна немка.

Эрна Турбіна лічыла, што жыццё яе склалася няўдала. Пачалося ўсё з юнацкіх гадоў, калі яна, першая вучаніца, скончыўшы школу, не здолела сябе разгадаць, выбраць дарогу. Бацька папярэджваў, але бацькі не паслухала. У краіне, дзе яна нарадзілася, і ў гады, якія супалі з яе юнацтвам, на старарэжымных бацькоў асабліва не зважаў ніхто, бацькі відавочна адставалі ад часу.

Пасля школы, паддаўшыся агульнаму парыву, пакінула ціхі шахцёрскі гарадок, утульную кватэру і паехала на Днепрагэс. Толькі месяц працавала на катлаване, выкідваючы рыдлёўкай цяжкі грунт,— сарамлівую далікатную дзяўчынку заўважылі, перавялі ў табельшчыцы. Але жыццё табельшчы-

цы ненамнога прывабней — брызентавая роба, аблепленыя глінай чаравікі, барак інтэрната, які не сціхаў ні днём ні ноччу. Тое, што здавалася гераічным здаля, зблізку было вельмі будзённым. Ударніцы з Эрны не атрымалася.

Яе першы рыцар Грыша Кірпанос, іх школьны завадатар, які ўсіх іх, дванаццаць хлопцаў і дзяўчат, падбіў ехаць на новабудоўлю, штовечар прыходзіў да яе ў барак, прыносіў сваю порцыю бурачнага павідла і, асцярожна гладзячы яе руку сваёй загрубелай далонню, абяцаў, што праз год ім усім дадуць пуцёўкі ва ВТНУ.

Пуцёўкі Эрна не дачакалася, вярнулася дамоў. Бацька, вялікі спец, інжынер, які прыехаў у Расію яшчэ да імперыялістычнай вайны і астаўся жыць пасля рэвалюцыі, хацеў, каб адзіная яго дачка стала ўрачом. Яна на гэты раз паслухала бацьку, засела за падручнікі, а праз паўгода здала экзамены ў медыцынскі інстытут.

Бацька пасля яе тэлеграмы прыехаў у Маскву кур’ерскім цягніком, дастаў праз наркамат білеты ў Вялікі тэатр, наняў для дачкі кватэру на Таганцы, у даўніх знаёмых. На бацькавых вачах, калі Эрна праводзіла яго на вакзал, блішчалі слёзы радасці.

Інстытут яна не скончыла. На першым і другім курсах агульную фізіялогію чытаў прафесар Скрыдлеўскі, даволі малады высокі мужчына з першай сівізной, якая надзвычай пасавала да яго інтэлігентнага твару. Чытаў бліскуча, умеў трымацца перад студэнтамі, і многія дзяўчаты іх курса былі тайна закаханы ў прафесара. Пралетарская дзявочая маса таксама паддавалася чарам прыгажосці. Прафесар сваю ўвагу спыніў на ёй, Эрне. Не было ні спатканняў, ні лістоў, ні сумесных паходаў у тэатр, а толькі закаханыя позіркі, якія ён кідаў, як толькі заходзіў у аўдыторыю. Былі дні, калі яна ведала, што ён чытае для яе. Дзяўчаты ёй зайздросцілі

Пасля другога курса Скрыдлеўскі, дачакаўшыся яе ля дома, у якім яна кватаравала, запрасіў прагуляцца і ў той жа вечар прапанаваў выйсці за яго замуж. Разгубіўшыся ўшчэнт, яна рашуча, груба яму адмовіла.

Прыехаўшы на вакацыі дамоў, бацьку не сказала нічога, але жыла трывожна, няўрымслівa. Як бы прадчувала, што яе бестурботнае дзявоцкае жыццё канчаецца.

Першым чалавекам, якога яна ўбачыла, калі вярнулася ў Маскву, быў Скрыдлеўскі. Сустрэў яе на вакзале — худы, змізарнелы,— не гледзячы ёй у вочы, сказаў, што пакінуў жонку і сына. Праз месяц схадзілі ў загс, запісаліся.

Тое, што Эрна не любіць мужа, стала вядома ёй у першы месяц сямейнага жыцця. Не, супраць яго яна нічога не мела — ён быў клапатлівы, уважлівы, стараўся папярэдзіць кожны яе крок. Але душа да яго не ляжала. Яна была ў адчаі, не ведала, што рабіць. Бацьку, аднак, не напісала — ён цяжка хварэў.

Яе муж усё заўважыў сам, падказаў выйсце. Ніхто не ведаў, што, жывучы ў сціплым пакойчыку перанаселенай Масквы, ходзячы разам у інстытут, выкладчык і студэнтка — пара зусім не шчаслівая.

У трыццаць пятым годзе бацька памёр.

Яна пакінула інстытут, уладкавалася медсястрой у ваенны шпіталь. То быў час, калі Масква пачынала будаваць метро, праводзіла рэканструкцыю. Моладзь захаплялася авіяцыяй. Эрна запісалася ў авіяклуб, лятала на планёры, скакала з парашутнай вышкі. Вынікам захаплення паднябеснымі высямі сталася тое, што яна выйшла замуж за лётчыка.

Другі шлюб быў таксама няўдалы. Замуж за свайго капітана яна выйшла па ахвоце, мела дваццаць чатыры гады, вінаваціць нікога не выпадала. Муж дзіка раўнаваў яе.

Спачатку яго шалёныя прыпадкі прыводзілі яе ў роспач, але хутка прывыкла, махнула рукой. Нарадзілася адно дзіця, праз год — другое. Яна выклікала з Данбаса мачаху — раней не любіла яе, не паважала, але хацелася мець побач блізкага чалавека.

З ранніх дзявоцкіх год яна марыла пра вялікае каханне, але яно абмінула яе. Ёю захапляліся многія мужчыны, з некаторымі яна збліжалася, але вельмі хутка наступала расчараванне. Таго, чаго яна чакала, не было. У яе ўяўленні чалавек, які яе палюбіў, павінен быў пайсці на ўсё. З удзячнасцю ўспамінала яна першага мужа — з усіх, каго ведала, ён быў самы высакародны.

Ёй абрыдзелі тайныя сустрэчы, паспешлівыя рэстаранныя пачастункі з нязменнымі выездамі на таксі за горад.

Яны толькі збяднялі душу, выкрадваючы па часцінках тое прыгожае, святое, у што хацелася верыць. Нават чалавек, якога яна па-сапраўднаму пакахала — вядомы лётчык-выпрабавальнік,— не здолеў ёй даць таго, чаго яна ад яго чакала. Адчувала дый, бадай, ведала,— самалёты, віражы, мёртвыя петлі, поспех на службе былі яму даражэй, чым яна. Дзеля яе службовым поспехам рызыкаваць не хацеў.

Яе апошняя сувязь стала вядомай. Узнік скандал, і муж перавёўся ў драўляны гарадок на Палессі, пра які раней яна ніколі не чула. Зрэшты, з новым месцам яна лёгка змірылася. Воблікам сваім гарадок нагадваў ёй яе дзявоцтва, далёкія напаўзабытыя летуценні. Толькі там, на Украіне, за капрамі шахтаў, стаялі белыя мазанкі, а тут, за драўлянымі домікамі, шумелі сосны.

У сваю жаночую сталасць яна прыйшла з невясёлымі пра самую сябе развагамі. Лічыла сябе няўдачніцай, нікчэмнай шукальніцай прыгод, якая нічога ў жыцці не дамаглася. Душа як бы заснула ў здранцвенні. Тут, у глыбінным гарадку, адзін толькі раз перажыла ўзлёт, невядомую, не параўнаную ні з чым радасць — калі ўдзельнічала ў самадзейным спектаклі. Але муж новага захаплення сцэнай не падзяляў, удзельнічаць у спектаклях забараніў. Яна амаль з ахвотай згадзілася — яна маці, трэба гадаваць, выхоўваць дзяцей.

Яна лёгка згадзілася з мужам, бо цяпер і сама лічыла, што жанчыне не трэба Днепрагэсы, парашутныя вышкі, а толькі мужчына, якога б яна любіла да самазабыцця, трэба сям’я, дзеці. Адчувала сябе нешчаслівай, бо любімага чалавека побач не было. Дзеці — два шустрыя чарнявыя хлапчукі — напалавіну касавалі бяду.

У Гарбылях яна асталася не таму, што чакала немцаў,— яе палохала невядомасць эвакуацыі. Яна была мала прыстасавана да жыцця практычнага, штодзённага, з непрывабнымі буднямі побыту. Зрэшты, не выехала не адна яна, асталіся другія камандзірскія сем’і.

Складанасць свайго становішча Турбіна зразумела пазней, калі немцы пачалі ўсталёўваць уладу, а фронт перамясціўся далёка на ўсход. Быў час, калі яна рашыла, што вайна, немцамі выйграна, і менавіта тады, у сумныя асеннія дні,—

яна разгубілася, яе пачала апаноўваць злосць невядома на каго. Баі дасягнулі знаёмых прыгарадаў Масквы. Там, у савецкай сталіцы, прайшла яе маладосць, кожная маскоўская вуліца звязана з салодкімі і горкімі ўспамінамі. Хто яна цяпер? Як жыць далей? Што прынеслі немцы, гэтае незразумелае ваяўнічае племя, якое валадарыць у многіх краінах?

На вайну яна глядзела па-жаночы, бачачы перш за ўсё яе адмоўны бок — дзяцей-сірот, маладых удоў, невыносныя пакуты жаночай адзіноты. Яна, немка, ні на кроплю не адчувала сваёй перавагі перад мясцовымі жанчынамі. Тое, што іх мужчыны, як і яе муж, ваявалі супроць немцаў, для яе значэння не мела. Толькі цяпер, калі маладосць прайшла, калі ёй было болей як трыццаць, яна пачала задумвацца над жыццём. Не, яна не асуджала сябе. Былога не вернеш. Асабістае шчасце яе абмінула, але ў яе дзеці, дзеці ад рускага, і гэта цяпер самае галоўнае, пра што яна павінна думаць. Раней было жыццё, як імклівая язда. Раней яе ніколі не пакідала надзея, што жыццё вывезе. І вывозіла. Цяпер трэба было браць лейцы ў свае рукі.

Восенню, калі немцы раструбілі, што вайна выйграна, яна пайшла працаваць перакладчыцай у ваенна-будаўнічы батальён тодтаўскай арганізацыі. Батальён, які мусіў аднавіць чыгунку, шасейную дарогу, размясціўся ў пустых станцыйных памяшканнях. Ёй адвялі пакойчык былой білетнай касы, і службовыя ўзаемаадносіны немцаў-тодтаўцаў з мясцовым насельніцтвам ішлі праз яе, учарашнюю настаўніцу, жонку маёра-лётчыка.

Навошта хлусіць, цікавасць да аднапляменнікаў у яе паступова прабудзілася. Жанчыны, не немкі, якія трох слоў не маглі звязаць па-нямецку, не абміналі сваёй увагай пераможцаў. Да такіх яна ставілася з пагардай. Тут пахла быдляцінай. Не, звычайнай салдацкай подсцілкай яна рабіцца не збіралася.

Але быў месяц ці два, калі ў яе галава закружылася ад настойлівага кавалерства вайсковых афіцэраў — у ваенным гарадку размясціўся полк, які папаўняўся пасля баёў. Абыходжаннем, далікацтвам, веданнем жаночай душы, думала яна, немцы намнога пераўзыходзяць рускіх. Яе ранейшыя паклоннікі здаваліся мядзведзямі ў параўнанні з дасціпнымі, выкшталцаванымі афіцэрамі, якія па-сапраўднаму ўмеюць па-

кланяцца жаночай прыгажосці. Тут пахла Еўропай, шматвяковым выхаваннем. Яе запрашалі ў афіцэрскае казіно, і яна хадзіла.

На адносіны з мужчынамі яна глядзела без асаблівай цнатлівасці. Зрэшты, мужчыны, калі надараецца магчымасць, без асаблівых згрызот сумлення дазваляюць сабе флірт. То чаму нельга дазволіць гэтага жанчынам? Для жанчыны нават кароткая, часовая сувязь з чалавекам, які падабаецца па-сапраўднаму, куды прыгажэй, чым нуднае, абрыдлае, але беззаганнае сямейнае жыццё. Няўжо не чысцей саграшыць з чалавекам, якога любіш, чым аддавацца, тоячы ў душы раздражненне, нялюбаму, няміламу?..

Ёй падабаўся адзін афіцэр, яна лёгка, у яго на кватэры, аддалася яму і лічыла, што яе зноў наведала кароткае жаночае шчасце, як тады ў Маскве, калі яна захапілася лётчыкам-выпрабавальнікам. Яе белабрысы стройны капітан зваўся Хельмут, паходзіў з рэйнскага гарадка, з небагатай сям'і.

Вельмі, вельмі хутка настала пахмелле. Хельмут аказаўся намнога горшым, чым усе, каго яна дагэтуль ведала, усе, каго па недаравальнай легкадумнасці, захапіўшыся знешнім бляскам, залічыла ў мядзведзі. Хельмуту яна была патрэбна толькі як жанчына. Яму было, бадай, усё адно — яна ці другая. За фасадам мундзірнай выкшталцаванасці таілася распуснае стварэнне, гуллівае і бесхрыбетнае. Сустрэч было тры — ні разу не спытаў, хто яна, не ўзрадаваў дасціпным словам; заводзіў патэфон, наліваў віно, плямкаў мокрымі губамі «майн ліблінг»... Божа, у чым розніца паміж закаханасцю і агідай!..

Воінства «неперaможнага» палка было не лепшае — у афіцэрскім казіно, расхрыстаўшы мундзіры, жэрлі, пілі, рагаталі, не саромячыся, садзілі на калені жанчын. Два салдаты, усеўшыся на драўляным узвышэнні, расцягвалі акардэоны, і пад музыку, дзе ў кожную мелодыю ўпляталіся маршы, афіцэры шаркалі падэшвамі і прыстуквалі абцасамі.

Як лёгка глядзіць на жыццё няхай сабе салдацкая Германія! Есці, піць, страляць, мець пачуццёвую асалоду ад жанчыны. Проста ўсё, даступна. Сіла праз радасць! Але ж радасць, як на кірмашы, дзе гандлююць глінянымі свісцёлкамі і расфарбаванымі папяровымі веерамі...

Не бывае благога без добрага. Не, патрыятычныя пачуцці немкі ад першага знаёмства з германскім воінствам у Эрны Турбіной не прачнуліся. Хутчэй — наадварот. Быў адзін чалавек, да якога часта варочалася думкамі,— першы муж Скрыдлеўскі...

## IV

Мялі снягі, гулялі вятры. Кожнай раніцы Турбіна выбіралася на работу. Станцыя ад пабеленага з вокнамі на вуліцу доміка, у якім жыве, далекавата. Зрэшты, работай Эрна Іванаўна задаволена. Цяжка нават уявіць, як бы жыла, каб не ўладкавалася да тодтаўцаў. Арганізацыя багатая, гаспадарчая, і Эрну Іванаўну, калі шчыра гаварыць, падтрымліваюць усім. Прывезлі дроў, напілавалі, накалолі — хопіць да вясны. Выдаюць вайсковы паёк, хоць яна, вольнанаёмная, на такі паёк магла не разлічваць.

З некаторага часу ў пакоік да Эрны Іванаўны стаў завітваць высокі інжынер-капітан Фрыц Зонэмахер, галоўны батальённы электрык. Яму гадоў сорак, выразны нямецкі твар, на арліным носе акуляры ў залатой апраўе. Трошкі ведае па-руску, але саромеецца вымаўлення, гаворыць з ёй толькі на сваёй мове.

Здзівіў яе з першага знаёмства.

— Я быў у вашай краіне,— сказаў як бы з сумнай, вінаватай усмешкай.— У трыццаць першым годзе. У Ленінградзе і Мурманску. Прадстаўніком нямецкай фірмы пры вашай арганізацыі «Пушторг».

Турбіну менавіта гэта ўразіла — яе, немку, інжынер падкрэслена прылучаў да людзей савецкіх, рускіх. Яна ў сваю чаргу асцярожна спытала:

— Як вам тут спадабалася?

Ад прамога адказу ўхіліўся, пачаў распытваць яе — дзе вучылася, жыла.

Наведванні інжынера рабіліся часцейшымі, прыносіў ілюстраваныя часопісы, задуменны, маўклівы, падоўгу сядзеў. З непрыемным пачуццём успамінала яна восень, сваю душэўную разгубленасць, сувязь з Хельмутам — яна скончылася так, як і мусіла скончыцца.

Два ці тры разы Зонэмахер праводзіў яе дамоў, ля ганка цалаваў руку, наставіўшы каўнер шыняля, паварочваўся, шыбаваў на станцыю. Ёй было шкада яго. Быў вельмі не падобны на другіх немцаў, з якімі паспела пазнаёміцца. Ведала, што нежанаты, і гэта абуджала цікавасць да адзінокага немаладога мужчыны. Зрэшты, многія афіцэры — інжынеры і тэхнікі — адрозніваліся ад тых, якіх пабачыла ў казіно. Выпівалі і гэтыя, заводзілі знаёмствы з жанчынамі, але хоць без шалёнага разгулу, непрыкрытай, несхаванай дзікасці. Яна была рада, што Зонэмахер як бы ўзяў яе пад сваю ахову.

Адпадала неабходнасць выкручвацца, хітраваць — кавалераў тут, у будаўнічым батальёне, хапала.

У той зімовы дзень Фрыц завітаў узбуджаны, толькі накінуўшы на плечы шынель.

— Фраў Эрна, вы можаце зайсці да мяне? Папярэджваю — дрэннага не думайце...

Яна выйшла ўслед за ім — цагляны чыгуначны дом, у якім жылі афіцэры, стаяў насупраць, праз вуліцу.

У Фрыца на другім паверсе чысты пакойчык, засланы шэрай салдацкай коўдрай жалезны ложак, на нябеленай сцяне карцінка ў рамцы — вадзяны млынок над рачулкай, ніцыя вербы. Стаяла, распрануўшыся, ля акна, глядзела на шэраг голых таполяў, што цягнуліся ўздоўж заснежанай вуліцы. На душы трывожна — як прадчуванне бяды.

Фрыц нервова пахаджваў па пакоі, намерваўся штосьці сказаць і не адважваўся.

— Фраў Эрна, можа, паслухаем музыку?

Яна прысела на крэсла. Фрыц, прыгнуўшыся, асцярожна паварочваў рэгулятар вялікага, у паліраванай бліщчастай каробцы «Тэлефункена», што стаяў на століку пры ложку. Даносіліся абрыўкі музыкі, траскучыя, як барабанны пошчак, словы нямецкіх перадач. Нарэшце знаёмы — яна ўздрыгнула ўсім целам — голас даваеннага маскоўскага дыктара...

Яна сядзела, слухала, не могучы вызваліцца ад утрапення, якое ахапіла ўсю яе. Пра вайну апошні час думала мала — вайна здавалася далёкай, адышоўшай. Было такое адчуванне, нібы прачнулася пасля цяжкага, з відовішчамі і кашмарамі, сну, нанава пазнае знаёмае, але напаўзабытае, што знікла,

сплыло назаўсёды. Была і радасць, быў і страх, а над усім панавала здзіўленне — такое пачуццё бывае, калі здзяйсняецца раптам тое, пра што баішся нават згадваць у думках.

Фрыц глядзеў на яе.

— Фрау Эрна, перакладзіце, калі ласка. Я па-руску мала разумею...

— Радыё гаворыць, што немцаў гоняць...— Яна пачырванела, паправілася.— Што немцы адступаюць ад Масквы...

— Ведаю. У зводцы оберкомандо ёсць. У нас гэта называецца заняць зімовыя кватэры. Як глядзіце на адступленне немцаў вы, фрау Эрна?

Фрыц не таіў незразумелага ёй узбуджэння. Шэрыя вочы з-пад шкельцаў акуляраў паблісквалі востра, пранікліва.

— Я не ваенная, гер капітан. Я толькі жонка рускага камандзіра, на руках у якой двое дзяцей. Мой абавязак іх карміць...

— Разумею, фрау Эрна. Не думайце, што спытаў у дакор вам. Няхай астанецца між намі — я лічу, што вайна зацягнецца. Канца яе не відаць.

— Расія вялікая,— сказала яна, адчуваючы, як уздымаецца ў грудзях незразумелая ёй самой хваля зацята-помслівага пачуцця.— Перамагчы такую краіну нялёгка.

Фрыц зірнуў на яе з удзячнасцю, кінуўся да шкафчыка, адчыніў левую створку.

— Прабачце, фрау Эрна, я чалавек мінулага стагоддзя. Люблю старую, мілую Германію, якая давала свету добрых музыкантаў, філосафаў. Дазвольце вас трошкі пачаставаць...

Паставіў на стол бутэльку віна, чаркі.

— За вас, фрау Эрна. Вы — цудоўная жанчына. Паверце мне, я не такі малады...

Выпілі па кілішку, Фрыц загаварыў пра другое:

— Фрау Эрна, я хачу, каб вы правільна мяне зразумелі. Акрамя вас, нікога з мясцовага насельніцтва не ведаю. Вы для мяне — руская. Вы нарадзіліся, выраслі ў гэтай краіне, успрынялі яе ідэалы. Я быў у вашай краіне мала, адзін год, але скажу шчыра — яна мне вельмі спадабалася. У вас тады шмат чаго не хапала. Я бачыў чэргі ля магазінаў, дрэнна апранутых людзей.

У вас было дрэнна з жыллём, з харчаваннем. Чалавеку з другой краіны няцяжка заўважыць. Вечарам у Ленінградзе ўсе вокны былі асветлены. Такое азначае, што ў кожным пакоі жыве сям'я. Але не гэта хацеў я сказаць. Не гэта галоўнае... Я бачыў крыллі народа, калі можна так сказаць. Людзі верылі ў свой заўтрашні дзень.

У вас ледзь не кожны вучыўся. Я бачыў у трамваях маладых людзей, якія ў час язды чыталі кніжкі. Яны чыталі не лёгкія крымінальныя раманы, а сур'ёзныя кніжкі — фізіку, матэматыку. Дамашнія гаспадыні чыталі газеты... Гэта праўда, фрау Эрна?

— Праўда,— адказала яна ціха, аднымі губамі, адчуваючы, як спадыспаду душы падымаецца штосьці гарачае, вялікае — пачуццё было падобна на тое, якое ахоплівала яе ў часы шматлюдных дэманстрацый у святочныя дні.

Ён зноў наліў у кілішкі.

— Давайце, фрау Эрна, вып'ем за вашу краіну. Можа, вам дзіўна чуць такія словы ад немца? Але я люблю вашу краіну... Хачу вам сказаць, што не ўсе немцы аднолькавыя. Вайна — праклятая рэч. Яна адбірае ад чалавека душу, тое, чым чалавек з'яўляецца...

Яна слухала, поўнілася супярэчлівымі пачуццямі. Хацелася пабыць адной, падумаць, разабрацца ва ўсім тым, што гэтак нечакана нахлынула на яе за апошнюю гадзіну. Яна паднялася, падзякавала.

— Фрау Эрна, хачу сказаць на развітанне. Калі тое, пра што гаварылі, у вашым народзе захавалася, нам, немцам, прыйдзецца цяжка. Не ведаю, ці можна такі народ перамагчы... Адступленне пад Масквой — вельмі, вельмі непрыемная рэч для нас, немцаў...

Калі яна, расчырванелая, усхваляваная, выходзіла з яго пакоя, Фрыц ледзь не насільна сунуў ёй у кішэню дзве шакаладныя пліткі, адвёў позірк.

— Для вашых хлопчыкаў. У вайну дзеці цукерак не ядуць. Хачу, каб вашых мужчын не напаткаў лёс нас, салдат...

## V

Эрна Турбіна, відаць, і не здагадвалася, што, пачынаючы з зімы, калі яна ўладкавалася перакладчыцай у тодтаўскую ваенна-гаспадарчую часць, яе асобай надзвычай зацікавіўся невядомы ёй капітан Бондар, які стоена жыў на Валынскай старане, і некалькі камандзіраў-акружэнцаў, мясцовых актывістаў, што збіраліся па вечарах на кватэры ў лейтэнанта Казачэнкі. Здаля Казачэнка Турбіну ведаў — пасля пяхотнай школы ён служыў тут, у Гарбылях.

Благое гаварылі пра перакладчыцу. Хадзіла па гарадку ў белай футравай шубцы, стрымана віталася са знаёмымі, на прыгожым, расчырванелым ад марозу твары несла загадкавую ўсмешку. Гэтая ўсмешка, вясёлы бляск вачэй, па-дзявоцку рухавая паходка як бы сведчылі аб тым, што жонка авіяцыйнага маёра дарма часу не губляе, ва ўсякім выпадку, не надта сумуе з прычыны таго, што яе муж невядома дзе лятае. Яе можна было лічыць звычайнай вярцёлкай, якая шукае лёгкіх уцех, але штосьці як бы перашкаджала гэтаму. Змоўшчыкі па чарзе трохі наглядалі за драўляным домікам, у якім Турбіна жыла, сёе-тое ведалі. Бачылі, што немцы навазілі, напілавалі ёй дроў, запрыкмецілі высокага, у акулярах афіцэра, які па вечарах яе праводзіў. Афіцэр падводзіў жанчыну да ганка, паварочваўся, ішоў на станцыю адзін. Так працягвалася болей як месяц. Турбіна афіцэра ў дом, да сям'і, не пускала, і гэта штосьці значыла. Тады даручылі Казачэнку пазнаёміцца з Турбіной і, калі можна, запрасіць на вечарынку.

Вечарынка адбылася на ціхай драўлянай вуліцы. Знешне яна нічым не адрознівалася ад пагулянак і зборышч, што часта наладжваліся ў гарадку моладдзю і нават людзьмі, якія выйшлі з юнацкага ўзросту. Каб Турбіной не было сумна, запрасілі дзвюх знаёмых ёй камандзірскіх жонак. Нават два немцы-тодтаўцы былі на гэтай імправізаванай вечарынцы. Пілі самагонку, саматробнае — з яблык — віно, танцавалі пад патэфон. Многа смяяліся, жартавалі.

Стройны, прыгожы Казачэнка ўвесь вечар танцаваў з Турбіной. Праводзіў яе дадому.

Сціснуўшы яе далоні сваімі дужымі рукамі, наблізіўшы твар да твару жанчыны, загаварыў:

— Эрна Іванаўна, я вас даўно ведаю. Ніколі не забуду, як вы выступалі на сцэне. Мы хочам, каб вы былі з намі.

— Хто вы? — спытала перакладчыца.

— Ну, тыя, хто не хоча мірна жыць з немцамі.

— Я згодна,— сказала Турбіна спакойна.— Мой муж на фронце. Не забывайце толькі, што ў мяне двое дзяцей.

— Ведаем,— сказаў лейтэнант.— Ведаць вас будуць двa-тры чалавекі. Самыя надзейныя.

Летам, калі ў Гарбылі перабраўся гебітскамісар, Турбіна атрымала запрашэнне на пасаду старшай перакладчыцы. Вечарам пабачылася з Тапарковым, а назаўтра дала згоду.

У цёплыя вясновыя дні, перад тым як пайсці ў партызаны, здарылася нечаканае. Па лініі сувязей з вайскоўцамі на патайныя сходкі стаў з'яўляцца Самусь, высокі вузкаплечы маёр з маленькай галавой і бела-сінімі вачамі.

Апошняя сходка адбылася ноччу, у гумне, якое стаяла на ўскраіне, ля хмызоў. Выставілі варту, запалілі газнічку. Сабраўся актыў, чалавек дванаццаць — трэба было рашыць, калі і як выходзіць. Сходку вёў Гервась. Хрыплым, прастуджаным голасам спытаў:

— Каго камандзірам атрада?

— Бондара! — выдыхнула некалькі галасоў.

— Супраць няма?

— Я супраць!..

У асветлены каганцом круг выступіў Самусь. Твару не відаць было, твар хаваўся ў змроку, тыя, хто сядзеў вакол калодкі, на якой трапятаў язычок полымя, бачылі толькі ногі, абутыя ў падраныя чаравікі, пакамечаныя штаны і крыссё несамавітага пінжака, які вісеў на чалавеку як на калку.

— Я супраць кандыдатуры Бондара! — з несхаванаю злосцю выгукнуў Самусь.— Неправераны таварыш. Я не разумею, напрыклад, яго сувязі з перакладчыцай Турбіной. Няхай раскажа, якія могуць быць амуры з немкай!..

— Гніда ты! — не вытрымаў ролі старшыні сходкі Гервась.— Замаўчы. Пляваць мы хацелі на нямецкую шалаву!..

— Не заціскайце мне рот. Я тут вышэйшы камандзір!

Ззаду едкі, насмешлівы голас:

— Заткніся, камандзір!.. Дзе тваё войска? Узяць радавым — і то замнога...

— Хто за Бондара? — павысіў голас Гервась.

Прыглушаны, абураны гул:

— Ясна!

— Нечага разводзіць антымоніі!..

— Бондара!..

Бондар выйшаў на сярэдзіну гумна — малы, шчуплы, як верабей. Самусю па плячо. Голас глухаваты, перарываецца.

— Таварышы, каго за камісара?

— Гервася!

Самусь як бы пераламаўся, нагнуўся над газнічкай — бачыць хацеў тых, што сядзелі на саломе.

— У такі атрад я не пайду. На вяроўцы не зацягнеце...

Рашуча падаўся да выхаду, рыпнуў варотамі...

У першую хвіліну не знайшліся, што рабіць. Бондар падняўся, загаварыў спакойна:

— Таварышы, ісці трэба сёння, цяпер. Адкладваць нельга. Збор за могілкамі, у сасняку. Чакаць будзем да трох ночы. Хто не паспее, прыходзьце да моста на журавіцкай дарозе.

Паспешліва падымаліся, знікалі за варотамі цёмныя постаці. Затрымаліся трое — Бондар, Гервась, Тапаркоў.

Цяпер, калі людзей не было, Бондар ускіпеў. Не таячы лютасці, накінуўся на Тапаркова.

— Дзе адкапаў такую сволач? Ён нам усё сарве. Запомні, калі што якое, галавой адкажаш...

— Чорт яго ведае,— не тоіць трывогі Тапаркоў.— Быў чалавек як чалавек. Не хвалюйся, Павел Антонавіч,— вока не спушчу. Калі што якое...

— Глядзі — застаешся ты...

Бондар як у ваду глядзеў: думалі вывесці з Гарбылёў семдзесят чалавек — вывелі шаснаццаць...

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### I

Няма нічога горшага, як нуднае, абрыдлае чаканне. Шура пяты дзень у лесе, а партызан у вочы не бачыў. Вісіць паміж небам і зямлёй...

У Журавічы — вялікае прырэчнае сяло або нават мястэчка з некалькімі вуліцамі і камяніцамі вакол пясчанай плошчы, ён прыбіўся на другі дзень. У сяле пярэпалах, замярцвенне. Бязлюдныя вуліцы, пазачыняныя аканіцы. Шура завітаў у два ці тры двары, пытаўся, дзе жыве Аляксей Гудас. На яго глядзелі ашалелымі вачамі, маўчалі. Злітавалася згорбленая чарнатвая бабулька. Ён засціг яе на вуліцы, ля студні.

— Ты адкуль, сынок? — спытала старая, шамкаючы тонкімі, як бы нежывымі, губамі.

— З Гарбылёў,— схлусіў Шура.— Гудас мне дзядзька. Прыехаў мукі пазычыць.

— З Гарбылёў, а не ведаеш, што тут было... Будзе табе мука... Уцякай, пакуль цэлы. Пазаўчора тут партызаны стралялі ў тых, каторых немцы паставілі. Мы думаем цяпер, што сяло спаляць...

Да Шуры нарэшце дайшло. Старая гаворыць праўду — трэба даваць лататы. Схопяць — не выкруцішся. Прынесла яго на ліха...

Ён ужо намерыўся шуснуць у вулачку, на агароды, каб пераляжаць дзень дзе-небудзь у кіяшніку, але старая пашкадавала:

— Гудас тут недалечка, ідзі етай вуліцай, тады завярні налева. Там дамы як бы паасобна. Убачыш дзерава перад вокнамі...

У Гудасавай хаце толькі двое падлеткаў. Шура спытаў, дзе бацька, чарнявы шустры хлопчык адказаў, што косіць за Прыпяццю. Не было ніякага сэнсу працягваць гаворку.

Шура напіўся цёплай, непрыемнай на смак, вады, зачарпнуўшы меднай конаўкай з дзеравянага вядра, памкнуўся да парога, але чарнявы ў сваю чаргу спытаў, навошта яму бацька.

— Я з Вербіч,— сказаў Шура.— Хацеў пагаварыць...

— З Вербіч,— хлапчук на хвіліну задумаўся.— Тады пойдзем са мной. Табе тут нельга. Лёня, пасцеражы хату...

Як дарослы, узяў з паліцы, з-за занавескі бохан хлеба, разрэзаў вялікім нажом папалам, палавіну аддаў Шуру...

Журавічы — сяло хутчэй палявое, чым лясное. Да лесу далекавата — вярсты дзве. Босы хлапчук шыбаваў паперадзе, Шура за ім. Выбіліся на дарогу, па якой Шура прыйшоў з лесу. За ўзгоркам, з другога боку вялікага, раскіданага сяла, цячэ Прыпяць, але Шура ракі не бачыў. Было не да таго...

У сасновым з чыстым, нібы падмеценым, долам бары пайшлі побач. Шура адшчыпваў кавалачкі хлеба, клаў у рот. Учора, развітаўшыся з пуцейцам, еў толькі ягады ды сыраежкі.

Ля развілкі лясной дарогі Шура папрасіў хлапчука пачакаць. Сам нырнуў у густы ляшчыннік, вярнуўся з вінтоўкай. У падшывальца вялікія, з радасным здзіўленнем вочы.

— Ты хто? — упершыню спытаў за ўсю дарогу.

— Шукаю партызан. Чалавек з Вербіч сказаў пагаварыць з тваім бацькам.

— Што бацька... Ён табе б слова не сказаў. Такіх, як ты, я завёў чатырох. Толькі яны без вінтовак...

— А мяне куды вядзеш?

— Пабачыш сам...

Нарэшце прывёў. Невялікае, круглае, як вока, лясное азярцо зарасло па беразе густым лазняком. З вады па краях зялёным поясам уздымаюцца асака, хвошч, на чорным плёсе пасярэдзіне зялёныя кружкі белых гарлачыкаў. Шура выбраў сховішча ў густым грабняку, нарваў моху — царскае ложа. У хлапчука, калі той сабраўся дадому, спытаў:

— Доўга я буду сядзець тут?

— Не ведаю. Я да цябе буду прыходзіць.

— Скажы хоць, як завуць цябе?

— Коля.

Азерца называецца Літвінка. Трэці дзень тут Шура. Учора былі Коля з Лёнем. Яны не браты — сябруюць. Прынеслі хлеба, крышанчык старога ёлкага сала, бутэльку малака.

— Вярнуліся паліцаі,— паведаміў Коля.— Тыя, што ўцякалі ў Гарбылі. Цяпер занялі цагляны дом, дзе была школа. Зашклілі вокны, капаюць траншэю.

— Многа паліцаяў?

— Не, але новых запісваюць.

Па лесе Шура ходзіць мала. Стаіўшыся ў лазняку сядзіць на беразе, сочыць, як, нібы застыўшы ў разамлелым паветры, вісяць над вадой сінія і жоўтыя стракозы. У азярцы сваё жыццё, калі прыгледзецца, вельмі цікавае. На сярэдзіне час ад часу разыходзяцца кругі, чуваць усплёск — гуляе рыба. Вылупіўшы вочы, крэкчуць у асацэ жабы. З берага скачуць у ваду, з вады на бераг. На расахатую старую вербалозіну прылятае дзяцел, прыляпіўшыся да дзерава, гадзінамі дзяўбе. З усіх птушак найболей падаюць голас сініцы. Звіняць бесклапотна, як званочкі.

Добра, што не згубіў складанчык — ёсць чым заняць рукі. Шура зрэзаў дзве арэшыны, аздабляе палкі ўзорамі. Будзе падарунак хлопцам, якія і кормяць яго, і распараджаюцца яго лёсам.

Шура думае аб тым, што ў яго жыцці як бы сышліся ў нейкае кола сцежкі, пройдзеныя за год. Памяццю ён увесь час варочаецца да Вербіч, спаленых немцамі. Там, у Вербічах, капалі акопы, складалі планы адыходу ў савецкі тыл. Не думалі зусім, што прыйдзецца жыць з немцамі. Вербіч няма, а ўсё адно, пакінуўшы мястэчка, трапіў туды. З Вербіч дарога прывяла да гэтага азярца. А што далей?..

Шура згодзен на ўсё, абы не сядзець, як галодны воўк, у гушчары, не карміцца з чужых рук. За тры дні абрыдлага чакання некалькі разоў узнікала вострае жаданне пакінуць берлаг, ісці на пошукі. У яго вінтоўка, а з ёй не прападзе. Але штосьці стрымлівае...

Вечарам, калі ў лесе сцямнела і Шура страціў надзею, што хто-небудзь прыйдзе, у лазняках, на процілеглым беразе, пачуўся свіст. Падхоплены пругкай, радаснай хваляй — партызаны! — ён адразу ж адказаў і, трымаючы аберуч вінтоўку, стаў выбірацца з грабняку. Ішоў насцярожана, тоячыся за дрэвамі. На беразе, на адкрытым месцы — дзве цёмныя постаці. Мяркуючы па ўсім — без зброі.

— Хто там? — не выходзячы з зарасляў, спытаў Шура.

— Не бойся. Свае,— пачуўся спакойны голас.

— Хто свае?

— Хлопец, не дуры, выходзь!..

Ён выйшаў на бераг, спыніўся, не выпускаючы з рук вінтоўкі. Двое наблізіліся ўшчыльную.

— Не бойся, я Гудас,— сказаў старэйшы, шырэйшы ў плячах.— Прывёў табе напарніка. Удвух вам будзе весялей.

Як рукой зняло насцярожанасць. Шура спытаў:

— Болей нічога не чутно?

— Нічога. Паліцыю новую набіраюць. Сядзіце і не рыпайцеся. Есці Коля прынясе. І пайшоў...

Шура павёў незнаёмца ў грабняк. Той стомлена апусціўся на мох, адразу заснуў. Шура ўсю ноч не звёў вачэй.

## II

Чалавек, якога прывёў Гудас, уцёк з палону. Старэй за Шуру на пяць гадоў. Чарнявы, высокі, з худым прадаўгаватым тварам. Завуць Мядзведзеў Сяргей. Трохі дзіўна бачыць палоннага сорак другога года. Пасля зімы, калі немцы адступалі, калі нават у іхніх зводках мільгалі назвы не надта далёкіх гарадоў, крыўдна думаць, што ўсё зноў паўтараецца.

Мядзведзеў не скажаш каб гаваркі, але перад Шурам як бы спавядаецца.

У палон трапіў сёлета вясной, пад Харкавам. Тое, што чуе Шура ад Мядзведзева,— не навіна. Перавага немцаў у тэхніцы, акружэнне, доўгія змардаваныя калоны палонных. У лагерах не кормяць, не лечаць — смерць, смерць... Расстрэльваюць — абы хто падказаў — камісараў, камуністаў, яўрэяў...

Мядзведзеў уцёк з перапоўненага вагона. Сігануў ноччу на хаду цягніка праз акно, выкінуўшы, перш чым скочыць самому, скатку з шынялём. Шыняля не знайшоў, зламаў, падаючы, вялікі палец на правай руцэ. Шура верыць — у яго самога і цяпер баліць нага...

Месяц ішоў Сяргей па Украіне, хаваўся, галадаў, начаваў у пшаніцы. Траляліся добрыя і злыя людзі, і добрых было болей, бо інакш не дабраўся б да Прыпяці, да лясной стара-

ны. Ніколі не выдумаеш таго, чаго не было. Праўдзівей за ўсё праўда. Шура як бы на ўласныя вочы бачыць старога, у хату да якога Сяргей пастукаўся ноччу, каб перамяніць паношаную вопратку на цёплую ватоўку і дзіравыя штаны, жанчыну, што дазволіла яму сорак вёрст каціць двухколку, выдаючы выпадковага спадарожніка за мужа, маючы патайны намер ажаніць яго з малодшай сястрой.

Так, добрых людзей багата, але сволаты таксама хапае. Ва ўкраінскім мястэчку, куды, асмялеўшы Сяргей завітаў, цырульнік зрабіў яму фацэтную прычоску, грошы загадаў заплаціць у касу — выгляду не падаў, што перад ім вашывы бадзяга. Цырульнік выручыў, а паліцаі схапілі. Яны б яго застрэлілі ці аддалі немцам, каб не рызыкнуў, не кінуўся ў кусты — яны былі п’яныя, іх было толькі двое. Ужо тут, паблізу Прыпяці, зайшоў Сяргей у самую маленькую хатку на краі сяла, і ў гэтай нехлямяжай хатцы жыў паліцай, малады чырванатвары дзяціна, і маці паліцая кінулася сыну ў ногі, каб не губіў незнаёмага чалавека. Зарослы сівой шчацінай дзед, перш чым перавезці Сяргея цераз Прыпяць, заламаў дзвесце рублёў, а на сярэдзіне ракі закамандаваў здымаць чаравікі...

Вострую цікавасць у Шуры выклікае якраз тое, пра што Сяргей не сказаў ні слова. Да самага мая, пакуль не трапіў у палон, ён быў савецкі, ведае тое, чаго ў акупацыі людзі не ведаюць.

— Як там на фронце? Якія перамены?

— Звычайна,— адказвае Сяргей.— Ваявалі...

— Дык чаму ж адступленне?

— У немцаў болей самалётаў, танкаў. Другога фронту няма.

Сяргей не разумее, што ён для Шуры чалавек з другога свету. Да яго як бы не дайшло яшчэ, што тут, на захопленай немцамі зямлі, усё не так, як там, за фронтам, што тут другія законы.

Сяргей — родам ён з-пад Віцебска — дабіраўся ў Гарбылі таму, што ў гарадку да вайны жыла замужняя сястра. Ён малайчына — яшчэ там, на фронце, чуў, што на Беларусі — партызаны, і, адрэзаны ад сваіх, свядома хацеў да іх далучыцца.

У поўдзень, калі прыйшлі Коля з Лёнем, ледзь не здарылася бяда. Едучы, перамаўляючыся, хлопцы не заўважылі, што каля азярка чужыя людзі. Восем ці дзевяць паліцэйскіх стаяць на адкрытым беразе, азіраюцца. Шура пабялеў, хапіўся за вінтоўку, але Сяргей вельмі спакойна сціснуў яму плячо, паднёс палец да губ. Праз хвіліну ясна стала — паліцэйскія з'явіліся не за тым, каб шукаць іх, бяздомнікаў.

Высокі, плячысты, у скураной тужурцы падыбаў на працілеглы бераг, прыбіў да дуба кавалак фанерыны з чорным кружком. Адышоўся ўбок, махнуў рукой. Тыя, што засталіся, па чарзе сталі цэліцца. Гулка бухалі стрэлы, разносячыся па лесе глухім рэхам.

Пасля трох стрэлаў паліцай у тужурцы махаў рукой, падыходзіў да мішэні. Рагатаў і паказваў кулак тым, што стралялі...

Паліцаі пастралялі з паўгадзіны і, не зняўшы мішэні, рушылі да дарогі, у сяло.

— Той, што ў скуранцы,— Пілiпаў,— паведаміў Лёня.— Начальнік паліцыі. Ранейшага партызаны забілі, цяпер ён.

— Вось што, хлопцы, сюды ні нагой,— сказаў Сяргей.— Уночы самі прыйдзем. Папярэдзь бацьку.

Хлапчукі прыход паліцаяў успрынялі спакойна. Вечарам Шура з Сяргеем вылезлі на бераг, разглядзелі мішэнь. У кружку толькі дзве адмеціны ад куль, а фанерына зрашэчана. Стралкі з паліцаяў — няважныя. На ўсякі выпадак Шура з Сяргеем перабраліся глыбей у грабняк.

## III

У лесе пачуўся свіст. Ён даносіўся з таго берага азярка, дзе вісела на дубе паліцэйская мішэнь. Шура з Мядзведзевым падхапіліся з логвішча.

— Паліцаі!..

Свіст пачаўся зноў.

— Падобна, што Гудас,— сказаў Мядзведзеў.— Гэтак мы цябе выклікалі.

Яны сталі асцярожна церабіцца да азярка. Неба зорнае, светлае, але змрок у лесе як густы дзёгаць. Ля азярка стала

святлей. Яны з хвіліну пастаялі моўчкі, прыслухаліся — цішыня. Мядзведзеў заклаў у рот два пальцы, свіснуў у адказ. Трэснула хварасціна — хтосьці да іх ішоў.

— Хто ідзе? — гучна спытаў Шура, клацнуўшы затворам.

— Свае.

Голас знаёмы. Хутка высокая постаць вынырнула са змроку.

— Вось што, хлопцы,— пачаў Гудас без ніякага тлумачэння.— Заўтра раначкам выходзьце на дарогу. Будуць ехаць фурманкі, возьмуць вас. Даедзеце, куды трэба.

Ноч Шура не спаў. У душы жыла падазронасць. Навошта ехаць на вазах, з невядомымі людзьмі, калі можна пайсці? Ці не лепей было самому Гудасу правесці іх да партызан, калі ёсць сувязь? У Мядзведзева таксама былі сумненні, і ён іх выказаў Шуру. Хлопцы рашылі дзейнічаць з асцярогай...

Ледзь паднялося сонца, яны ўжо былі ля дарогі. У лесе стаяў туман.  З-за яго не відаць было дарогі нават за некалькі крокаў.

Чакаць прыйшлося доўга. Хацелася есці. Гудас на гэты раз нічога не прынёс. Нарэшце на выбітай, каляіністай дарозе пачулася песня. Затым паказалася першая фурманка. Дуга аздоблена рознакаляровымі стужкамі, кветкамі, званочкі звіняць. І на першай, і на другой фурманках поўна дзяўчат у святочных сукенках, са стужкамі ў валасах.

Песня сціхла, і некалькі дзявочых рук працягнулася да Шуры. Не паспеў ён апамятацца, як, абшчаперыўшы рукамі вінтоўку, сядзеў на возе.

Воз падкідвала, дзяўчаты навальваліся з усіх бакоў, адна, чарнавокая, з прыгожымі белымі зубамі, нібы для раўнавагі, абняла рукой Шуру за плечы,— ён чырванеў, саромеўся, бо быў няголены, нямыты, з ускудлачанымі потнымі валасамі. Нават спяваючы, гушкаючыся на возе, дзяўчаты знаходзілі час пераміргвацца, рабіць адна другой незразумелыя знакі.

Коні беглі шпарка, пад аздобленымі дугамі звінелі званкі. Шура палічыў, што едзе вяселле.

Ехалі, трэсліся па каляіністай дарозе доўга. Выехалі на поле. Лес цяпер цягнуўся толькі з аднаго боку дарогі. З другога — палоскі аўса, ячменю, зялёнай у бела-сінім цвеце бульбы. Палавіна поля ў мэндліках зжатага жыта. Коні пайшлі цішэй.

— Куды едзеце? — спытаў Шура ў суседкі.

Чарнавокая, нахіліўшыся да яго вуха, адказала гучна, каб пачулі ўсе:

— На фэст, хіба не ведаеш — у Цемраўшчызне фэст.

Ледзь ён адкрыў рот, як з усіх бакоў пасыпаліся кпіны:

— Дзевачкі. Ета не наш... Давайце скінем...

— Не злуйце, бо яшчэ стрэліць з ружжа...

— Ён жа маладзенькі, дзевачкі. Страляць мо яшчэ не ўмее...

Гоман нечакана сціх, фурманкі спыніліся. Пасярод дарогі стаялі чацвёра з вінтоўкамі наперавес. «Партызаны,— мільгнула ў Шуры шчымліва-трывожная здагадка.— Усё было загадзя падстроена...»

— Мужчыны астануцца! — пачуўся пранізлівы голас нізенькага, з вострым чорным тварыкам партызана.— Астатнія могуць ехаць...

Да канавы разам з Шурам і Мядзведзевым выйшла яшчэ трое хлопцаў. Глядзелі на партызан спакойна, усміхаліся. Не вытрымалі дзяўчаты. Трое заплаканых вырваліся з гурту, адвялі — кожная ў свой бок — нарачонага. Штосьці паспешліва напаўголаса гаварылі, не саромячыся, абнімалі, цалавалі ў губы.

Шура стаяў, сумна ўсміхаўся. Некалі ў мястэчку гэтак праводзілі ў армію навабранцаў. Прыгожа прыдумалі дзяўчаты. І разумна — да сем’яў ніхто не прычэпіцца. Партызаны ўзялі хлопцаў як бы сілай. Шура не ведаў, што двое з траіх — Гудасавы сыны.

## IV

Захапленне партызанамі, якое валодала Шурам у мястэчку, за часляснога жыцця мінула, але ўсё адно ён глядзіць на праваднікоў з несхаванай цікавасцю. Ідуць сцежкай, якая

пятляе між сосен, маўчаць. Шуру не падабаецца і маўчанне, і тое, як іх вядуць. Двое з вінтоўкамі наперадзе, двое — ззаду. Як бы захапілі ў палон.

Шыракаплечы, з густым засевам дробных болек на твары партызан, бадай Шураў равеснік, які ідзе ззаду, заціснуўшы ў пальцах крэмень з губкай, б’е па камню крэсівам. Шура спыніўся, пстрыкнуў запальнічкай. Два тыдні не курыў, думаў — адвык, а калі пачуў пах тытуню, з ранейшай сілай захацелася закурыць.

— Нямецкая? — спытаў хлопец, з прагнай цікавасцю разглядаючы Шураву запальнічку.

— Нямецкая.

— Падары мне.

— Дай спачатку закурыць.

Развітвацца з запальнічкай не хацелася, але Шура аддаў. Паспешліва скруціў цыгарку, прыкурыў ад запальнічкі, якая ўжо стала чужой. Два разы прагна глыбока зацягнуўся, і закружылася галава, стаў спатыкацца, як п’яны.

— Ты з паліцыі ўцёк? — ціха спытаў хлопец.

— Не быў я ў паліцыі.

— А вінтоўка адкуль?

— З-пад кур,— злосна адказаў Шура.— Ты пра паравозы пад мостам чуў?

— Не чуў.

— Пачуеш.

Хлопец зірнуў на Шуру з павагай.

— У нас атрад што трэба. Чатыры эшалончыкі кульнулі. Я ўсе разы на чыгунку хадзіў.

— У нас была сувязь з партызанамі,— з незалежным выглядам сказаў Шура.

— Дык ты падпольшчык! — узрадаваўся хлопец.— Так бы і гаварыў... Я сам да партызан быў падпольшчыкам. Нас выйшла ў лес шаснаццаць чалавек. Ядро атрада...

Шура, заняты размовай, не заўважыў, як поруч з ім вырасла постаць чорненькага, чуць вышэйшага за вінтоўку чалавечка, які, відаць, быў старэйшым.

— Багдановіч! — крыкнуў ён.— Прыкраціць разгаворчыкі... Забыў, дзе знаходзішся...

Чорненькі смешна, паспешліва перабіраючы ножкамі, рушыў наперад, у галаву ланцуга, а Багдановіч, падміргнуўшы Шуру, пакруціў пальцам каля лба.

У лагер, на пясчаную, заряслую соснамі, дубамі, бярозамі выспу, прыйшлі гадзіны праз дзве. Багдановіч шуснуў у адну з брызентавых палатак, і адтуль вылезла высокая, па-мужчынску плячыстая дзяўчына з вялікімі сінімі вачамі на грубаватым хмурым твары. Падышла да Шуры, пранікліва паглядзела.

— Ты з Бацькавіч?

— З Бацькавіч.

— Майго брата ведаеш?

Толькі цяпер Шура здагадаўся, што перад ім сястра Сяргея Амельчанкі. На брата не падобна — на маці. Такі ж скуласты твар, вялікі, як у мужчыны, лоб. Адчуў як бы ніякаватасць перад дзяўчынай.

— Мы разам былі. Хлопцаў арыштавалі.

— Чаму цябе не арыштавалі?

Імгненна ўспыхнула злосць, адказаў груба, з выклікам:

— Таму што знаёміцца з Басняком не захацеў. Басняк выдаў.

— Хто такі Басняк?

— Вашага Сяргея друг. Прыкідваўся старшым лейтэнантам.

— Сяргея расстралялі,— вялікія сінія вочы напоўніліся слязамі.

Шуру стала шкада дзяўчыну.

— У Сяргея пад падушкай знайшлі наган,— сказаў мякчэй.— Пра хлопцаў не чулі?

— Расстралялі многа. З вашых аднаго яго.

Шура не здолеў утаіць радаснага здзіўлення — дзяўчына гэта заўважыла, яшчэ болей нахмурылася.

— Не ясна, як у вас палучылася,— сказала, кіруючыся ў палатку.— Але дабяромся, клубочак разматаем...

Шура зацяўся — у грудзях віравала шалёная злосць. Чорненькі павёў Шуру на ўскраек вострава. Там, на засыпаным шышкамі доле, сядзела трое ў чырвонаармейскіх гімнасцёрках. Перад імі, нязграбна выцягнуўшы ў дзіравых апорках ногі,— Мядзведзеў.

— Дзе жыў у Віцебску? — У чалавека, які вёў размову з Мядзведзевым, просты, някідкі твар з кірпатым носам, валасы старчаком.

— На Маркаўшчыне.

— О, я на Маркаўшчыну ездзіў на трамваі! — У голасе следчага нічога пагрозлівага.— Забыў, на якім нумары.

— На другім,— усміхнуўшыся, адказаў Мядзведзеў.

— А вучыўся дзе?

— У педвучылішчы.

— Пачакай! — кірпаносы шчыра, як хлапчук, узрадаваўся, нават рукі стаў паціраць.— Добра, што на мяне натрапіў. Калі канчаў вучылішча?

— У трыццаць дзявятым.

— Цяпер слухай. Калі хлусіш — вылезе наверх. Сакратаром у вашага дырэктара тады працаваў адзін хлопец. Мой знаёмы. Скажы, як звалі вашага сакратара?

— Не хлопец, а жанчына,— расцягваючы словы, адказаў Мядзведзеў.— Маладая. Звалі Дзіна Іванаўна.

— Маладзец, не хлусіш,— чалавек працягнуў Мядзведзеву руку.— Будзем знаёмы — Бондар, камандзір атрада. Не крыўдуй, што хацеў цябе заблытаць. Сам я, брат, з такіх, як ты. Толькі ў палоне не быў. А Дзіна Іванаўна сапраўды жонка майго дружка, лейтэнанта Северына. На фінскую з Віцебска паехалі разам, дзе цяпер — не ведаю. Скажы ты, як трапілася...

Працягнуў Мядзведзеву руку і маладзейшы, які дагэтуль маўчаў, назваўся Казачэнкам, начальнікам штаба.

— Будзеш трыццаць трэцім. Запішу радавым, а там пабачым.

— Чаму нас два тыдні трымалі? — спытаў Мядзведзеў.

— Правяралі.— Бондар, павярнуўшыся да Шуры, падміргнуў.— Выкладвай, хлапец, усё з кішэняў. Паглядзім, з чым да нас прыйшоў...

Такога павароту Шура не чакаў, паспешліва вылажыў на дол ножык-складанчык, абоймы з патронамі, лімонку. Дастаў з унутранай кішэні абшарпаны кашалёк-партмане, падаў Бондару ў рукі. Адразу заліўся чырванню — там, у партмане, размаляваная картачка-абразок. Маці Божая, ці што. Бабуля дала яшчэ зімой. Не хацеў крыўдзіць старую, узяў.

Бондар, перабіраючы фатаграфіі, наткнуўся на абразок, усміхнуўся, паклаў назад у партмане. Прачытаў чыгуначную даведку з нямецкай пячаткай, парваў на дробныя кавалачкі.

— Расказвай,— пільна паглядзеў у вочы.

Ад Шуравай злосці, зацятасці не засталося ні следу — пачаў здаля, з зімы. Гаварыў блытана, хваляваўся — Мядзведзеў, якога тут ніхто не ведаў, адказваў куды спакайней. Калі стаў расказваць пра арышты, пра тое, як уцякаў са станцыі, адчуў, што ў роце перасохла, язык зрабіўся непаслухмяны — гаварыў, як картавы.

— Два паравозы? — перапытаў Бондар.

— Былі здвоеныя...

Бондар перасеў да Шуры, абняў, усхвалявана прамовіў, не гледзячы на Казачэнку і Мядзведзева:

— Вось гэта кадры. Аб'явім, дарагі хлопец, па атраду. Будзе можна — прадстаўлю да ўзнагароды...

Шура стараўся трымацца, але здрадлівая слязіна выбілася сама сабой, пакацілася па шчацэ...

## V

Людзі на заданнях, у расходзе, і Бондар, які апошнія дні, пасля таго як разбілі баржу на Прыпяці, прыхворваў, змяніў сам паставога. Пахаджваў з вінтоўкай узбоч ляснога раўчука, думаў.

Два месяцы атрад у лесе. За гэты час вырас болей як удвая. Новых людзей прымаюць з асцярогай, пераважна тых, хто прыходзіць з вінтоўкай. Патайны склад зброі, пакінуты гарбылёўскім райкамам і па яго, Бондара, заданню зімой яшчэ перахаваны Гудасам, быў тым арсеналам, які адразу зрабіў атрад баявой адзінкай. Цяпер, калі атрад расце з дня на дзень, зброю трэба даставаць.

Жыццё падобна на добра наладжаны механізм, у якім вінцікі, калёсікі, шасцярні павінны ўзаемадзейнічаць, думае Бондар. Вядома, яно не жалезная машына, яно непараўнальна гнутчэйшае, складанейшае, бо не толькі з'явы матэрыяльныя, а і духоўныя маюць у ім першаступеннае значэнне. Немцы прымусілі армію да адступлення, але тут, на захопленай вора-

гам зямлі, астаўся народ, многія тысячы людзей, якія думаюць па-савецку, не хочуць мірыцца з нямецкімі парадкамі. Але не любіць фашыстаў — яшчэ не ўсё. Галоўнае — дзейнічаць.

Бондару шкада цесця. Часта пра яго думае, успамінае. Пасля таго як пайшоў ён у лес, цесця арыштавалі. Нехта выдаў-такі. Праз два тыдні вясёлага калеку, інваліда вайны расстралялі. Як заложніка за зяця.

Не ў аднаго Бондара такі лёс. Яшчэ ў пяцярых, хто пайшоў з ім у лес, расстралялі родных і блізкіх — маці, бацьку... Жорсткай цаной за ўсё прыходзіцца плаціць...

Але іншага выйсця не было. Быў патрэбен штуршок, пачатак, сіла, якая б дала новы паварот, напрамак жыццю, павяла яго па новаму рэчышчу. Тут, на мяжы Бацькавіцкага і Гарбылёўскага раёнаў, такой сілай з'явіўся атрад, арганізаваны ім, Бондарам.

За два месяцы яны нарабілі многа груку. Іначай не магло быць, бо яны, партызаны, штодня ў руху, а сорак чалавек — гэта пяць ці шэсць груп, якія расцякаюцца па навакольных вёсках, сядзяць у засадах ля дарог ці ля чыгункі. Кожнага дня сутычкі з немцамі, паліцэйскімі, дэзарганізацыя таго жыцця, якое хочуць тут наладзіць фашысты. Палкі ў калёсы нямецкай машыны яны, партызаны, ставяць як быццам няблага, і ад гэтага яна пачынае буксаваць, а машына партызанская, наадварот, набірае разгон. Дванаццаць навакольных вёсак, якія яны кантралююць, нерэгулярна здаюць немцам малако, яйкі, і гэта можна лічыць для пачатку добрым рэзультатам.

Партызаны разагналі дзве валасныя ўправы, гарнізон у Журавічах, узарвалі з дапамогай падпольшчыкаў электрастанцыю і пуцеправод у Гарбылях, знішчылі восем ці дзевяць адзіночных нямецкіх машын на шашы (у Казачэнкі, начальніка штаба, запісана дакладна), двух матацыклістаў, а шасцярых немцаў — салдат, якія збіралі ў Вялікіх Лемцюгах яйкі, узялі ў палон.

Ён, Бондар, вайсковец, і добра гэта ці дрэнна, але з самага пачатку ён не хацеў, каб дробнае паляванне стала мэтай дзейнасці атрада. Без засад, сутычак не абыдзешся, але не яны павінны вызначаць аблічча партызанскай вайны. Гарбылі —

чыгуначны гарадок, і атраду, які ўзнік у такім месцы, трэба дбаць пра чыгунку.

З чыгуначнікамі добрая сувязь, і гэта ім, партызанам, пайшло на вялікую карысць. Праз месяц пасля выхаду з Гарбылёў яны ўчынілі такое, чым можна, калі застанешся жывы, ганарыцца да скону дзён. Майстар Глушко, які там, на вузле, дзякуй Богу, трымаецца цвёрда, перадаў гаечныя ключы, лапу, а калі настаў час, праз абходчыка Жарнавіка папярэдзіў наконт воінскага эшалона, што мусіў везці мадзьярскі артылерыйскі дывізіён. Пяцьсот з лішкам салдат і афіцэраў, якія ехалі на Дон, пад Арол ці ў якое-небудзь іншае месца, нікуды не даехалі, тры дні расчышчалі немцы трактарам-цягачом на крывой ля Вербіч жалезны друз, што астаўся пасля расплюшчаных, разбітых нашчэнт вагонаў.

За эшалон немцы папомсціліся. Праз тры дні спалілі Вербічы.

Спаганяюць на мірных, нявінных людзях, але выйсця другога няма, не скідаць эшалоны яны, партызаны, не могуць.

За наступны месяц скінулі яшчэ тры — браняпоезд, састаў з вугалем і яшчэ адзін, на гэты раз з нямецкімі салдатамі і афіцэрамі. Саракакіламетровы прасцяг чыгункі ад Гарбылёў да Бацькавіч яны, партызаны, вывучылі як уласны двор, ведаюць сцяжынкі, падыходы, таму ўдаецца пры дапамозе такіх, па сутнасці, прымітыўных сродкаў, як гаечныя ключы, лапа, скрутак звычайнага дроту, рабіць значныя дыверсіі.

Іх суседзі — мацнейшыя. Ірвуць эшалоны толам, мінамі. Нямецкая епархія для ўсіх аднолькавая, і сюды, пад Гарбылі, пад Бацькавічы, сягаюць акцябрскія, гомельскія і нават мінскія партызаны. Машына ў іх болей наладжаная, куды аўтарытэтнейшы стаж — дзейнічаюць з мінулага лета. Але і гэты край не выкляты Богам, думае Бондар. У лясным трохкутніку, які ахоплівае частку Гарбылёўскага, Бацькавіцкага і Дамачоўскага раёнаў, пакуль што два атрады — іхні і яшчэ меншы, дамачоўскі. Але жыццё ідзе ў адным кірунку — партызаны множацца. Ён, Бондар, не мог схіліць галавы перад немцамі, такіх, як ён, многа. Другая справа, што фашысты прыдумалі нечалавечую сістэму — за бацьку, брата-партызана адказвае ўся сям'я. У тых паселішчах, якія кантралююцца

немцамі ці іх стаўленікамі, гэта, безумоўна, стрымлівае рост партызанскіх радоў.

Таму выйсце адно — вырываць з зоны дзеяння нямецкай машыны вёскі і сельсаветы.

Месца, якое яны, гарбылёўцы, выбралі пад лагер для атрада, найлепшае для нападу на шашу, чыгунку і далёка не лепшае, калі мець на ўвазе тое, што даўно зрабілі акцябрскія партызаны. Балотная, зарослая лесам выспа добрая як сховішча, да яе цяжка дабрацца. Але паўнаўладным гаспадаром у гэтым лясным кутку будзе той, хто валодае мястэчкам Журавічы. Гарнізон у Журавічах яны, гарбылёўцы, разагналі, але па звестках сувязных немцы яго зноў аднаўляюць. Журавічы размешчаны пры бальшаку, які звязвае Гарбылі з паўднёва-прыпяцкімі, багатымі хлебам і мясам раёнамі, і немцы так проста мястэчка не саступяць.

Было б найлепей перабрацца цераз шашу, чыгунку — пад Піляцічы, Літвінаў, Лужынец — туды, дзе дзейнічае дамачоўскі атрад. Але там буйныя, добра ўзброеныя гарнізоны, а ў іх сіл пакуль што малавата.

Заняты думкамі, Бондар уздрыгнуў, пачуўшы паспешлівыя крокі. Узводны Камар, які вярнуўся з задання, вёў яму на змену паставога.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### I

Бальшакоў, а з ім васьмёра — уся азяркоўская група, якая партызаніла з зімы,— ішлі лясной сцяжынай.

Выбраліся на гала, на паляну — з процілеглага бярэзніку гучны, як лямант, крык: «Рукі ўверх!» Бальшакоў не паспеў апамятацца, зняць з пляча вінтоўку, як з настаўленымі рулямі на іх, васьмярых, наскочыла чалавек дванаццаць.

— Рукі ўверх!

Іскрай у свядомасці прамільгнула: «Не паліцаі». Тыя стралялі б без папярэджання. Бальшакоў азірнуўся на сваіх

— твары белыя, паднятыя рукі толькі ў палякаў — Войцаха і Юзіка.

Хрыплым голасам скамандаваў:

— Кладзіце зброю!

Адтуль, з шарэнгі настаўленых руляў, новы крык:

— Бягом да нас!

На паляне нават сцяжынка ёсць. Апусціўшы галовы, гледзячы сабе пад ногі, пабеглі. Іх акружылі шчыльным кальцом, тыцкалі рулямі, ледзь не ў грудзі. Маленькі, чорненькі, пырскаючы слінай, крычаў:

— Хто такія?

— Сам ты хто? — поўнячыся бяссільнай злосцю, агрызнуўся Бальшакоў.

— Не тыкай, паліцэйская морда! Зараз бацьку з маткай пабачыш!

Адлягло ад сэрца. «Не паліцэйскія. Такія ж, як і мы...»

— Мы — партызаны,— сказаў Бальшакоў.— Азяркоўская група. Ішлі на Буднае, там, па чутках, сепаратар. Хацелі падрамантаваць. Няхай Гітлер ваду п’е...

— Загаварвай зубы! — не мог утаймавацца чорненькі.— А то што за фрукты? — руляй вінтоўкі паказаў на Юзіка з Войцахам — яны стаялі ў чорных шынялях, з нязвыклымі шапкамі-магеркамі на галаве.

— Палякі,— сказаў Бальшакоў.— З арганізацыі Тодта. З Гарбылёў уцяклі. Двое прыбіліся да нас.

Партызаны пераглянуліся, двое ці трое ўскінулі на плечы вінтоўкі.

— Праверым,— сказаў чорненькі.— Калі хлусіце — у распыл. Лепей праўду сказаць цяпер. Аружжа болей няма?

— Ды партызаны мы,— сказаў Бальшакоў.

Зброю, пакінутую там, на паляне, падбіралі...

Чорненькі — прозвішча ўжо ведалі — Камар — і яшчэ чатырох асталіся ў ахове, астатнія пайшлі. Ляжалі ў бярэзніку — партызаны і затрыманыя,— курылі, перагаворваліся бяскрыўдна.

— З якога часу ў партызанах? — дапытваўся Камар.

— Цяжка сказаць. Усю зіму ў лесе.

— Рабілі што-небудзь?

— Зімой слаба,— Бальшакоў адказваў за ўсіх.— Сядзелі з голымі рукамі. На васьмярых — вінтоўка ды драбавік.

— Дзе аружжа ўзялі?

— З падпольнага склада.

— Хто перадаў?

Бальшакоў насцярожыўся. На такія пытанні не павінен адказваць.

— Вы хто? — спытаў у Камара.

— Камандзір аддзялення сувязі.

— Што значыць — сувязі?

— Будзеш многа ведаць — ссівееш,— адрэзаў Камар.

Хутка неабходнасць праверкі адпала. Пачалі адзін другога пазнаваць. Іван Гусоўскі, шыракатвары маўклівы партызан з групы Бальшакова, штурхнуў локцем пад бок бялявага хлапчыну, што, трымаючы між каленяў вінтоўку, ледзь не разявіўшы рот, слухаў, як перагыркваюцца Камар і камандзір затрыманых.

— Ты шафёр?

— Шафёр.

— З Гарбылёўскага леспрамгаса?

— Дак што?

— То я цябе ведаю. Помніш, тралявалі лес з Прудка? Начавалі ў паштальёншы. Разводка была. Частавала марожанымі яблыкамі, на гітары іграла...

— Помню,— заварушыўся хлапчына.— Дак і ты там быў? Там былі шафёры з Бацькавіцкага леспрамгаса...

Усе зарагаталі.

— Вядзі, Сямён, допрос. Трэба выясніць, да каго тая разводка ноччу падкацілася. Вам жа двaім на гітары іграла, а каго абняла? Калі яго, то вядзі ў бярэзнік. Расплацішся...

Пачаў здавацца Камар — пазнаў яго Грыцук, высачэнны, з пабітым воспаю тварам пажарнік.

— Вы з абласной міліцыі,— сказаў да Камара.— Нарада па громаадводах была. Вы тады выступалі...

— А ты хто?

— З Бацькавіч. Зімой кокнулі намесніка начальніка паліцаяў. Пасля я да іх прыйшоў,— Грыцук паказаў на Бальшакова.— Быў з імі.

На тварах гарбылёўцаў прагная цікавасць.

— У Бацькавічах начальнікаў паліцыі і жандармерыі ўходалі. Тожа ваша работа? — з ноткай недаверу спытаў Камар.

— Не. Дамачоўскі атрад. Нашы там ёсць.

— Вы разам былі?

— Зімой і вясной. Потым не паладзілі.

— Чаму?

— Ды так,— Бальшакоў гаварыў з неахвотай.— Не сышліся характарамі.

— Хто камандзірам?

— Быў Якубоўскі. Наш, акружэнец. Цяпер Шэлег.

— А вы што, такія смелыя, зрабілі?

— Трошкі. Гарнізон у Буйках разам разганялі. Эшалон пад Бацькавічамі самі кульнулі.

— Дык гэта вы! — Камар не тоіць здзіўлення.— Мы думалі — парашутысты. Тут нядаўна дэсант скінулі. Чулі ад многіх, а знайсці не можам. Глыбока зашыліся...

Калі ў бярэзнік з аўтаматам і нямецкім біноклем на раменным шнурку цераз шыю прыйшоў камандзір і яшчэ двое, Камар далажыў не ўстаючы, панылa:

— Партызаны... Абяззброілі. Думалі, паліцэйскія...

Стаянка гарбылёўцаў Бальшакову спадабалася: выбрана разумна, з добрым разлікам. Ішлі да яе доўга — балотам, вузкай, схаванай у высокай асацэ, грэбелькай, зноў балотам па пракладзеных між купін жардзінах. На падыходзе да пясчанага, зарослага соснамі кургана аклікнуў нябачны ў кустах паставы, у соснах — другі. Завядзёнка вайсковая: пароль — адказ...

У лагеры тры брызентавыя вайсковыя палаткі адна ля другой. Можна падумаць, што пад соснамі атабарыўся звычайны ўзвод. Вада блізка — калодзеж на ўскраіне вострава — там, дзе сасняк пераходзіць у разналессе і рачулка балотная побач. Па востраве акопы, між імі вузкія ходы-траншэі. Пахне ваеннай костачкай.

Вячэралі за доўгім самаробным сталом, збітым з сасновых дошак. І тут было па-вайсковаму: суп варыўся ў малочным бітоне, падвешаным на козлах над агнём. Варыва памешвала

чарпаком з доўгай ручкай немаладая, з добрым, прыветлівым тварам кабета.

Бальшакову сорамна: у яго людзей, за выключэннем палякаў, ні кацялкоў, ні лыжак. Елі болей сухамяткам.

Бальшакоў ведае, што Бондар — кадравы ваенны, але нічога вайсковага, камандзірскага ў яго вобліку якраз няма, ніводнай, хоць бы дробнай рысачкі, якая б паказвала, што чалавек звязаў свой лёс з арміяй. Голас глухаваты, гаворыць як бы нараспеў. Так гавораць ва ўсіх навакольных вёсках. Пастава тым болей не камандзірская — нізкі, шчуплаваты.

Пасля вячэры распалілі касцёр, паселі кружком пад соснамі.

— Пагасцюйце ў нас,— сказаў Бондар.— Запросіце — прыйдзем да вас. Можа, як мы ў вас, вінтоўкі не адберацё...

Вечар харошы, таварыскі, сагрэты несхаваным шчырым пачуццём, калі людзі раскрываюць адзін перад другім лепшае, што ў іх ёсць. Навакол лес, цемрадзь, балота. Над галавой — схаванае ад позірку лапамі хвой зорнае неба. Аднак у Бальшакова, які вырас ля Волгі, на Саратаўшчыне, такое пачуццё, нібы ён у стэпе, ля кастра сярод трактарыстаў. Ён быў і трактарыстам, і камбайнерам, і апошні год перад вайной — дырэктарам МТС. Вось так, свядома, жадаючы зблізіцца з людзьмі, над якімі яго паставілі начальнікам, ён начаваў у стэпе, вячэраў з трактарыстамі, прычэпшчыкамі, сеяльшчыкамі, забываючы, што ён начальнік, што яму дадзена права камандаваць людзьмі, даваць вымовы, нават звальняць з работы, аддаваць пад суд. У такія вечары жыццё дзённае з яго клопатамі, бесталковай мітуснёй, непаладкамі, якіх кожны дзень хоць адбаўляй, здавалася дробязным, мізэрным перад тварам чагосьці вялікага, што аб'ядноўвае людзей у іх агульнажыцці, робіць адной сям'ёй.

Такое пачуццё было там, у стэпе, такое і цяпер...

Бондар распытвае найболей пра дамачоўскі атрад і палякаў. І гэта зразумела Бальшакову... Яму вядома пачуццё адзіноты, якое валодае невялікімі групамі. Цяжка жыць у лесе, наводшыбе ад людскіх паселішч, не ведаючы, хто побач, хто можа цябе ў ліхую часіну падтрымаць.

— Хлопцы, саратаўскую! — Бондар прыўзняўся, стаў на калені, нібы збіраючыся дырыжыраваць.

Хітрасць Бальшакоў бачыць — хоча падальсціць яму камандзір. Але яму ўсё адно прыемна. Песня заказана дзеля яго. Тутэйшыя людзі гэтым як бы хочуць засведчыць павагу да яго, валжаніна.

Далёка разносіцца рэха па начным лесе. Пяюць з ахвотай, самааддана, хоць галасы нязладжаныя — не паспелі спецца. Верх бярэ Грыцук — у гэтага здаравілы залатое горла. Уладу свайго голасу ведае, падымае тады, калі ў другіх няма сілы цягнуць,— і вось ужо вядзе ён, а астатнія толькі падцягваюць, падладжваюцца, як падладжваецца ўзвод да кроку камандзіра.

Не видала ты подарка
От донского казака...

Агонь, песня — партызанскія сябры! Чым бы ты было, лясное панылае жыццё, каб не агонь, які свеціць, грэе, каб не песня, якая падымае ў душы дарагое, запаветнае, што належыць не толькі табе аднаму, а ўсім — дзядам, бацькам, дзецям. Іржавее жалеза, разбураецца камень — песня не старэе. Калі складзена яна, сумная, прывольная — пра харобрага казацкага атамана? Якая справа ўчарашнім палонным, акружэнцам, шафёрам, калгаснікам да таго, што туліў Сценька Разін да шырокіх грудзей чарнавокую персідскую княжну, а потым, падпарадкоўваючыся злой волі большасці, кінуў прыгажуню ў пеністую волжскую хвалю. І чаму расце ў грудзях, у горле салёны камяк, хочацца зрабіць штосьці добрае, незвычайнае, дарагімі, блізкімі робяцца няголеныя, нястрыжаныя таварышы, што сядзяць, пазіраючы ў агонь.

Якая сіла сабрала іх тут разам, ля зыркага начнога вогнішча, іх, такіх розных характарамі, звычкамі, схільнасцямі, з розных гарадоў і весяў?..

Кончылася гэтая песня, адразу, без перапынку, зачынаецца другая. Грыцуку пад голас і новая, але ўжо не скажаш, што вядзе ён, бо неразлітнай хваляй падымаюцца і спадаюць мужчынскія галасы — пяюць, відаць, не ўпершыню. Бондар прыплюшчыў вочы, твар даверліва-просты, як бы

засяроджаны на чымсьці вельмі важным. Збоку здаецца — усе, хто спявае, паадракаліся ад саміх сябе, нібы да нечага прыслухоўваюцца, што расце, шырыцца, спее ў іх саміх. У павязанай пад бараду — ражкамі — хустцы ў паласе бляскаў вогнішча стаіць, слухае маршчыністая кабеціна, што варыла вячэру...

Когда домой товарищ мой вернется,
За ним родные ветры прилетят,—
Любимый город другу улыбнется —
Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд...

Бальшакоў не спявае, слухае. Нечакана прыходзіць думка, што ўсе, хто ля вогнішча, калі не лічыць ссівелага, у расхрыстаным ватніку дзядзькі і двух юнакоў аднаго ўзросту,— сямнаццатага, васямнаццатага года нараджэння. Бондар старэйшы, але і яму, можа, трохі болей як трыццаць. Ён, Бальшакоў, людзі яго групы — таго ж веку. Адразу не ўцяміш, бо паабрасталі барадамі, аблахмацелі. Гарбылёўцы паголеныя — лягчэй разабраць.

Бондар устаў, падышоў да Бальшакова, нагнуўся за вугальком.

— Разбірайцеся па палатках,— сказаў напаўголаса.

— Мы, можа, дзе разам. Каб не разбівацца.

— Чаму? — у голасе насцярожанасць.

— Дэсантнікі.

— Якія дэсантнікі?

— Вошы.

Ён залівіста засмяяўся.

— Браце, хапае і ў нас гэтага дабра. Не ведаем, як адбіцца...

## II

Спалі доўга, а калі прачнуліся, вылезлі з палатак, у лагеры цішыня. Сонца вісіць над соснамі. Церпкі смольны пах перамешваецца з густой млявай парнасцю — яна плыве з балацянкі. Дзядзька сядзіць ля палаткі, адмочвае ў бляшанцы з газай заржавелы затвор.

— Умывайцеся,— сказаў Бальшакову.— Карыта ля калодзежа.

Пайшлі да калодзежа разам, увасьмярых. Упершыню з учарашняга дня засталіся адны.

— Можа, да іх прыстанем,— сказаў Бальшакоў, калі адышліся ад палатак.— Хлопцы што трэба.

— Партызаны тыдзень без году,— плячысты, рослы Сізых грэбліва адтапырыў ніжнюю губу.— Амбіцыя без амуніцыі...

— Казарму капітан не можа забыць,— падтрымаў яго руды Півавар.— Палатачкі, каравульчыкі. Гульня ў вайну. Не ляжыць душа.

Астатнія, збіўшыся ў кружок, маўчалі. Прыкладна такое Бальшакоў думаў пачуць. Два Пятры — Півавар і Сізых — за зіму палюбілі вольніцу, разлюлі-маліну. Яны далучыліся да групы Бальшакова, калі вандроўная, імклівая, як вецер, група Аркашкі памагала разбіваць гарнізон у Буйках. Асталіся не па ахвоце, хварэлі на жываты, крываўкай. Аркашка абяцаў вярнуцца, забраць сваіх, а сам тым часам недзе ўжо ў трыдзявятым гасударстве.

— Толькі трэба чэсна, хлопцы,— папярэдзіў Бальшакоў.— Не хочаце — скажыце. А то на ўсіх ляжа пляма.

— Дзякуй у шапку,— ашчэрыўся Сізых.— Ведаем такіх субчыкаў. Прызнайся — хопіш дзевяць грамаў. Бачыў, якія тут канспірацыі. Таямнічы востраў. Тры гады такога шукаць. Мы як-небудзь пры зручным выпадку...

— І ўсё-такі чэсна,— настойваў Бальшакоў.

— Пабачым,— паабяцаў Півавар.— Мы з Пецем яшчэ не рашылі. Трэба памазгаваць.

Бальшакоў адчуваў — не астануцца. Цяпер на злом галавы не пойдуць, бо вандраваць удвух не соладка, але і пакладацца на гэтых двух не выпадае.

Ля калодзежа акрамя кабеціны, якая ўчора гатавала вячэру, маладая чарнявая дзяўчына. Учора яе не было. Сарамліва апусціла падаткнуты падол, зардзелася. Мые са старой бялізну ў карыце, выдзеўбаным з альховай калодкі.

Хлопцы павіталіся, выцягнулі вядро жаўтаватай вады, папрабавалі на смак, паліваючы адзін другому з бляшанкі, спаласнулі твары.

— Я вам яечак наварыла,— сказала жанчына.— Снедайце, Сямён пакажа, дзе ўзяць. Сямён — мужык мой. Разам гаруем...

— Як вас велічаць, мамаша? — спытаў Бальшакоў.— Вы ж і ўчора нас накармілі.

— Ешце на здароўе. Завуся Кацярынай.

— Чаму, цёця Каця, нас адных пакінулі?

— Прывыкайце. Можа, спадабаецца. А нашы ёсць кругом. На пастах...

Навічкі пераміргнуліся — цётка Кацярына дыпламатычная...

Дзень прайшоў непрыкметна — чысціліся, выварочвалі над агнём сарочкі, галіліся брытвай Бальшакова, якую памайстэрску наводзіў на шырокім, мікалаеўскіх часоў рамяні дзядзька Сямён. Дзядзька — цясляр, разам з цёткай — пара адменная. Кінулі ў гарадку домік, набытак. Ніхто ў партызаны не агітаваў. Пайшлі самі. У іх, перш чым пайсці ў лес, збіраліся цяперашнія партызаны.

Сізых з Піваварам, адлучыўшыся ад астатніх, навыперадкі выдыбалі перад Соняй — так завуць чарнявую дзяўчыну. Памаглі развешваць бялізну, нанасілі вады і да вечара ведалі ўсё, што можна ведаць, завязаўшы знаёмства. Соня — медычка, незамужняя, працавала ў аптэцы.

Кідаючы адзін на другога касаватыя позіркі, дружбакі чакалі вечара, але вечарам, толькі мільгнуўшы каля палатак, Соня знікла. Грыцук бачыў, што, ускінуўшы на плячо вінтоўку, яна пайшла ў пары з высокім, падпяразаным патранташам хлопцам, які невядома адкуль вынырнуў.

Прыцемкам адзін за адным вярнуліся трое паставых. Хто змяніў іх — невядома. Другую ноч начавалі трывожна. Партызанамі іх як быццам прызналі, але зброі не аддалі. Невядома нават, дзе іхняя зброя...

## III

Капітан Фёдар Мазурэнка кадравым ваенным стаў у тысяча дзевяцьсот трыццаць дзявятым годзе. Да гэтага прафесію меў цывільную: скончыў у Адэсе камвуз, быў на камсамольскай рабоце ў сельскай мясцовасці: у саўгасе, у МТС.

Марыў Федзя хоць завочна зачапіцца за сельскагаспадарчы інстытут, стаць аграномам, прыпісацца на сталае жыццё дзе-небудзь у шматлюдным зялёным сяле. Але не суджана было марам збыцца: у армію ўзялі як камсамольскага работніка, атэставалі палітруком.

Ваенным камісарам асобнага сапёрнага батальёна сустрэў Мазурэнка вайну, адступаў пыльнымі стэпавымі дарогамі, якія віліся сярод пераспелай пшаніцы, узрываў масты, чыгуначныя вадакачкі, часамі і рэйкі.

За Дняпром, калі на нейкі час войскі спыніліся, яшчэ не губляючы з віду прыбярэжны горад і ўзарваны Днепрагэс, Мазурэнку цяжка параніла.

Лячыўся аж у Казані. Стаў на ногі толькі ў снежні, калі да шпіталя даляцелі першыя весткі аб перамозе над немцамі пад Масквой.

На бяседу запрасілі ноччу. Запомніўся злосны траскучы мароз, ад якога не ратаваў нават добры камсастаўскі шынель. Ішлі лесам, нібы жывы скрыпеў пад лёгкімі хромавымі ботамі снег, на чорным халодным небе нібы застыглі вялікія яркія зоркі.

Падышлі да дамка, які, нібы стог сена, чарнеў на паляне. Мазурэнку і яго праважатага некалькі разоў аклікнулі, праверылі, падсвечваючы кішэнным ліхтарыкам, дакументы і толькі тады пусцілі на ганак.

За сталом у пакоіку паляўнічага дамка з абклеенымі газетамі сценамі сядзеў сівы, але маладжавы з выгляду, падцягнуты палкоўнік, корпаўся ў паперах.

— Што ведаеце пра сям'ю? — запытаў ён з ходу. Мазурэнка пра сям'ю нічога не ведаў. Калі пачалася вайна, жонка і паўтарагадовы сын заставаліся ў Адэсе, на прыватнай кватэры, якую ён наняў, калі сам яшчэ служыў у прыморскім горадзе.

— Па нашых звестках ваша сям’я эвакуіравалася,— сказаў палкоўнік.— Мы яшчэ не ведаем адраса, але знойдзем.

Мазурэнку стала лягчэй дыхаць. Радасна затахкала сэрца.

Размаўлялі нядоўга. Відаць, палкоўнік мусіў гэтай ноччу размаўляць не з ім адным.

Палкоўнік прапанаваў прайсці спецпадрыхтоўку. З тым, каб пасля яе весці разведвальную, дыверсійную работу ў тыле варожых войск. Мазурэнка згадзіўся. За свае дваццаць сем гадоў ён ні разу ні ад чаго не адмаўляўся. Ішоў, куды загадвалі.

У тую ж ноч групу будучых разведчыкаў пасадзілі ў таварны вагон. Сценкі ў вагоне былі пакрыты суцэльным інеем. Асабліва мёрзлі калені. Мазурэнка ўвесь час насоўваў на іх крыссё шыняля, расціраў рукамі.

Праз суткі прыехалі на лясны паўстанак. У даўжэзным драўляным бараку было адразу ўсё: вучэбныя класы, інтэрнат, сталовая.

Мазурэнка заўсёды, калі надаралася магчымасць, старанна вучыўся. Школай, якую ён паспеў цалкам скончыць, была сямігодка ў стэпавым украінскім сяле, дзе ён нарадзіўся і рос. Потым былі розныя курсы. Камвуз фактычна таксама быў трохі даўжэйшым па працягласці курсамі.

З трох гадоў, прадугледжаных праграмай, Мазурэнка вучыўся ў камвузе два гады, ды і то палавіну часу правёў у агітбрыгадах, якія выязджалі ў маладыя, нядаўна створаныя калгасы і саўгасы.

Ён проста ўеўся ў новую, зусім не знаёмую для сябе навуку. Заняткі працягваліся па чатырнаццаць гадзін у суткі. Ён быў па-сялянску ўпарты, настойлівы, усё, чаму вучылі, адольваў з поспехам.

У канцы мая сорак другога года вучоба скончылася. Куды пашлюць? Ён ніштавата авалодваў польскай мовай, па легендзе зваўся Тэадорам Мазурам, слесарам з Познані. «У Польшчу прыйдзецца ляцець»,— думаў ён.

У чэрвені выклікалі ў Маскву. Над горадам віселі аэрастаты паветранай абароны, вечарамі вуліцы зацямняліся. На дахах дамоў дзяжурылі пенсіянеры, дзяўчаты, хлапчукі. Вострыя кінжалы пражэктараў лавілі ў небе варожыя самалёты,

якім удалося прарвацца. Стралялі зенiткi. Час ад часу чуліся глухія выбухі. Асобныя бомбы ўсё-такі падалі на Маскву.

Мазурэнку пасялілі ў ціхім, размешчаным у глыбіні саду драўляным дамку на Вераб'ёвых гарах. Вечарам да яго з'явіўся падпалкоўнік з разведаддзела. Смяшлівы, шэравокі, ён павітаўся, спытаў пра здароўе, пахваліў надвор'е. Затым разаслаў на стале карту.

— Віншую вас, старшы палітрук, з пераатэстацыяй. Цяпер вы — капітан. Мне загадана азнаёміць вас з раёнам вашых будучых дзеянняў.

Мазурэнка дастаў з палявой сумкі блакнот.

— Запісваць нічога не трэба. Запамінайце. Ваша група будзе закінута ў Беларусь...

— Я рашыў — у Польшчу.

— Польшча не ўцячэ. А пакуль што асвойвайце вось гэтыя мясціны,— падпалкоўнік паказаў на кружок, зроблены чырвоным алоўкам на карце.

У чырвоным кружку значыліся гарады Гомель, Мозыр. Тонкай звілінай пятляла рака Прыпяць, уся плошча на карце афарбавана ў зялёны колер, заштрыхавана — лясы, балоты...

Памочнікаў камандзір групы падбіраў сабе сам. Дзеля гэтага паехаў у падмаскоўны пасёлак, у запасны полк. Высокаму, чорнаму Фурману, мастаку-афарміцелю па спецыяльнасці, Мазурэнка прапанаваў ляцець разам з ім у тыл, бо той ведаў нямецкую мову. Фурман ахвотна згадзіўся.

Згадзіліся ўсе астатнія: інжынер Палякоў, сапёр Скаварада, Коля Баразна, беларус, ураджэнец палескіх мясцін.

У школе радыстак перад Мазурэнкам выстраілі дваццаць дзяўчат, якія скончылі вучобу. Выбірай любую. Ён спыніўся перад Асяй Марозавай, маскоўскай камсамолкай — нізенькай, поўненькай, круглатварай. Дзён праз пяць толькі, ведучы з падначаленымі заняткі, заўважыў: чымсьці няўлоўным падобна Ася на жонку.

Лінію фронту праляталі на паўночны ўсход ад Арла. Яна прамільгнула такой, як і ўяўлялі — выразнай вогненнай паласой, даволі прамой, светлай ад успышак выбухаў, бясконцага мігцення трасіруючых куль.

Як толькі праляцелі фронт і праз круглае акенца пад крылом «дугласа» зноў зачарнелася зямля, кабіна лётчыкаў адчынілася, выйшаў штурман — высокі плячысты хлопец у скураной куртцы. Балансуючы між цюкоў, наваленых у праходзе, спыніўся, трымаючыся за поручань, перад Мазурэнкам.

— Спірт ёсць, дыверсант? Не могуць жа вас паслаць у госці да гансаў без спірту?..

Камандзір групы Мазурэнка, які сядзеў першы ад дзвярэй, занепакоіўся. Ляцяць па прыборах, зямлі не відаць — толькі зрэдку блісне цёмна-блакітная сярод ночы стужка рэчкі, ледзь прыкметнае воку азярко.

— Не хвалюйся, начальнік, даставім у акураце. Дзве гадзіны лёту. Нам не прывыкаць...

Мазурэнка адчапіў ад пояса біклажку ў варсістым футарале, падаў штурману. Другая такая вісела на рамяні з левага боку.

Штурман кабіны не зачыніў — былі відаць прыборы, якія адсвечвалі бледным, сінявата-жоўтым бляскам. Там, у кабіне, раскашавалі — лыкнуў штурман, лыкнуў лётчык, чымсьці прыкусваючы, не запіваючы, паўтарылі...

Мазурэнка сядзеў, поўнячыся трывогай. Маўчалі спадарожнікі. Радыстка Ася, прыхінуўшыся да акенца, глядзела ў цемень. Чатыры хлопцы напаўголаса, нервова перасмейваліся.

Не прайшло і гадзіны, як самалёт пайшоў на зніжэнне. Над галовамі пасажыраў успыхнулі дзве электрычныя лямпачкі. Нудна, працяжна заныла папераджальная сірэна. З кабіны, пахістваючыся, выйшаў штурман.

— Гатова, арлы, прыляцелі!..

«Дуглас» пачаў першы заход. Штурман зняў жалезныя перакладзіны з двух бакоў, адчыніў дзверцы. Знізу глядзела чорная прорва. Дэсантнікі сталі паспешліва куляць цюкі.

Мазурэнка сігануў у цемень чацвёртым. На імгненне ўбачыў чорны цень самалёта, які мільгануў на светлавата-шэрым фоне зорнага неба, у вушах засвістаў вецер. Пальцы трымаў на кальцы запаснога парашута, які гарбом вісеў на грудзях. Але асноўны парашут раскрыўся ў час — ён толькі адчуў лёгкі штуршок. Пачаўся плаўны спуск.

Але зямлі капітан не дасягнуў — завіс паміж трыма вольхамі. За плячамі акрамя парашута быў яшчэ туга напа-

каваны мяшок. Парашут цягнуў уверх. Трэба было шукаць ратунку.

Раскачаўшыся, Мазурэнка ўхапіўся за камель дрэва. Кінжалам абрэзаў стропы парашута і па камлі спусціўся на зямлю.

Унізе капітана чакала новая неспадзяванка. Як толькі ён стаў нагамі на топкую лясную зямлю, на яго твар, шыю, рукі з нудным зумканнем накінуліся маленькія цёмныя істоты, пачалі балюча кусаць. Жыхар сонечнага стэпу, ён не адразу здагадаўся, што гэта камары.

Пад раніцу, калі на ўсходзе прабілася белая палоска зары, закугакала сава. Умоўны сігнал. Мазурэнка адказаў. З бярэзніку вынікла постаць Асі. Яна за дрэвы не зачапілася, спусцілася прама на лясную паляну.

Палякоў нагадаў пра сябе стрэлам з пісталета. Мазурэнка з Асяй нават спалохаліся гэтага стрэлу. Потым асцярожна, трымаючы напагатове аўтаматы, пайшлі на гук.

Палякоў таксама завіс. Самастойна не мог выбрацца са строп парашута. Мазурэнка прымацаваў фінку да доўгай жэрдкі, каб абрэзаць стропы, радзістка пачала ламаць, слаць на зямлі веццe — каб мякчэй было падаць Палякову. Але бяда ўсё адно здарылася. Інжынер упаў не на мяккую пасцель з вецця, а ў ямку з-пад вываратня. Вывіхнуў нагу.

Палякова схавалі ў густым зарасніку. Каля яго пакінулі рацыю, рэчавыя мяшкі, самі рушылі на пошукі астатніх дэсантнікаў.

Невясёлую карціну ўбачылі праз паўгадзіны. Купал парашута Колі Баразны, тубыльца гэтых мясцін, зачапіўся за сухую макушку сасны, а сам ён, не ў час вызваліўшыся ад ніжніх рамянёў, вісеў уніз галавой. Няласкава сустрэла родная зямля сына, які хацеў спусціцца на яе з неба.

Таварыша пахавалі тут жа, пад сасной.

Астатніх — Скавараду і Фурмана — колькі ні гукалі, не знайшлі. Яны як скрозь зямлю праваліліся.

Калі ўзышло сонца, над лесам нудна зазвінела «рама» — нямецкі самалёт-разведчык. Значыць, пералёт савецкага самалёта праз лінію фронту, высадку дэсанта фашысты засеклі.

Трэба было спяшацца. Закапалі знойдзены груз. Зрабіўшы насілкі, паклалі на іх Палякова, паспешліва рушылі ў заходнім напрамку. Не ўсе парашуты дэсантнікі знялі з дрэў, і ў немцаў быў арыенцір. Услед за «рамай» могуць паявіцца аўтаматчыкі з сабакамі.

Праз гадзіну група была ўжо далёка ад месца высадкі.

## IV

Бальшакоў прачнуўся ад гармідару. Тручы сонныя вочы — заснуў толькі на світанні,— вылез з палаткі і сабе не паверыў. У лагеры — гульба. Супроць таго, як прынімалі іх, цяпер на стале царская раскоша. Бутэлькі з самагонкай, сала, варанае — вялікімі кавалкамі — мяса, каўбасы, вялікая міска яек.

Бондар, трохі захмялелы, заўважыўшы Бальшакова, замахаў абедзвюма рукамі.

— Будзі сваіх, таварыш камандзір. Давайце сюды!.. Па ўзнёслым, нязвычным настроі, які пануе за сталом, Бальшакоў адчуў — здарылася важнае. Прыгнуўшыся, шуснуў у палатку, раскатурхаў таварышаў — заснулі позна, усю ноч шапталіся.

Не паспелі падысці да стала, як насустрач ім працягнуліся рукі з напоўненымі шклянкамі.

— Браты нашы!

— Партызаняць з зімы...

— Без толу эшалон кульнулі.

Бондар устаў, падняў руку. Загаварыў урачыста, як на мітынгу:

— Віп’ем за дарагіх нашых пасланцоў. Прыляцелі з Масквы. Стаіць наша родная Масква і будзе стаяць. Дае адпор фашысцкім акупантам. Агульнымі сіламі разам з дарагімі дэсантнікамі будзем граміць праклятых ворагаў, што прыйшлі на нашу зямлю...

Толькі цяпер Бальшакоў заўважыў двух даўно не голеных хлопцаў у зялёных, армейскага фасону куртках. Адзін — высокі, русявы, з адкрытым прыгожым тварам, другі — ніжэйшы, шчуплаваты, з кучаравай чорнай шавялюрай. «Парашутысты,— мільгнула думка.— Камар жа гаварыў...» Прыліла да твару кроў, трапяткой птушкай забілася сэрца. Ішоў да

хлопцаў, адчуваючы, як ад хвалявання дрыжыць рука, у якой трымаў шклянку — хацеў і не мог уняць дрыжыкі...

— Скаварада,— прадставіўся русявы, з якім чокнуўся шклянкай.

— Фурман,— назваўся чарнявы.

Бондар пасунуўся, вызваліў каля сябе месца. Бальшакоў сеў, не зводзіў вачэй з парашутыстаў. Не верылася, што хлопцы, якія сядзелі насупраць, нядаўна хадзілі па Маскве, бачылі, ведалі тое, чаго ён не ведаў і не бачыў. Ад выпітай гарэлкі закружылася ў галаве, у душы падымалася нястрымная, шалёная радасць...

— Дык як, таварыш камандзір, можа аб'яднаемся? Дарагія дэсантнікі з намі. Прынеслі пяцьдзясят кілаграмаў толу. Мы былі без толу як без рук. Але чатыры эшалоны саматужна...

— Мы самі хацелі да вас прасіцца,— стараючыся гаварыць спакойна, сказаў Бальшакоў.— Калі хочаце ведаць, шукалі вас...

## V

Выйшлі апаўдні. Расцягнуліся ланцугом між сосен. Наперадзе Бондар і масквічы ў сваіх зялёных, пад колер травы, куртках, штанах навыпуск. Скаварада з брызентавым заплечным мяшком, напоўненым толам, на галаву вышэй за камандзіра. Шчуплаваты, віхлясты Фурман сігае шырокімі крокамі, стараецца не адстаць.

Партызаны здаюцца Шуру зухаватымі — абвешаны патранташамі, гранатамі — ледзь не ў кожнага пры баку пляскаты нямецкі штых. Апрануты хто ў што — пінжакі, ватоўкі, выцертыя скураныя тужуркі. Два ручныя «дзегцяровы» нясуць па чарзе. Шура трохі нёс, намуляў плячо.

Ад лагера да шашы — шлях немалы, вёрст шаснаццаць. Езджай дарогі няма — чарналессе, зарослыя чэзлым сасняком балоты.

Ля шашы застаў прыцемак. Пазвоньваючы зброяй, на бягу перамахнулі вузкую стужку брусчаткі, паглыбіліся ў лес. Яшчэ вярсты праз дзве прывал — блізка чыгунка. Двое аддзяліліся, пайшлі ў разведку.

Шура ў атрадзе другі тыдзень, але адчуванне такое, што ён тут даўно. Нічым асаблівым партызаны ад звычайных людзей не адрозніваюцца. Ёсць добрыя, злосныя, маўклівыя, рагатуны, нават палахліўцы ёсць сярод тых, якія здаля, з мястэчка, здаваліся героямі.

У цемені паблісківаюць агеньчыкі цыгарак. Размовы прыглушаныя, напаўголаса. Лета на спад ідзе, халаднавата ноччу. Шура настаўляе каўнер пінжака, зябка пацепвае плячамі. Поруч, прыхінуўшыся спіной да сасны, падрыгвае Багдановіч.

— Закурым, пагрэемся,— шэпча Алесь.

Працягвае капшук, пстрыкае Шуравай запальнічкай.

— Кульнём эшалончык...

— Не выхваляйся.

— Няма чаго думаць. Без мін скідалі.

— Забыў пра немцаў.

— Ерунда. Два салдаты на вярсту.

— Па будках гарнізоны.

— Не ў кожнай. Ад Грамоў да Жарнавіц удвух і ад Жарнавіц да Гарбылёў удвух. У Жарнавіцах — славакі. Там пякарня, пошта. Я кожны кусцік ведаю...

Цыгаркі згаслі, галасы змоўклі. Алесь прыхінуўся да Шуры, паклаў на плячо галаву. Ужо носам пасвіствае. Дзіўны хлопец. Жыве як на ляту. На адной мінуце пяць настрояў. Можа раззлавацца, збэсціць апошнімі словамі і тут жа адыдзе. Валодзя Шлег зусім другі. Зацяты, маўклівы. Ходзіць з камандзірам. Абодва яны — Алесь, Валодзя — дзетдомаўцы. У атрадзе з першага дня. Але Шлег да дружбы з Шурам не хіліцца.

— Гарнак! Да камандзіра! — даносіцца да Шуры прыглушаны голас.

Шура штурхае Алеся, падымаецца. Асцярожна, каб на каго-небудзь не наступіць, прабіраецца да месца, адкуль даносяцца галасы.

— Гарнак,— голас у камандзіра прастуджаны.— Калі не хлусіш, на чыгунцы вы штосьці ўзрывалі. Раскажы.

— Міна была самаробная. З аманалу.

— Усё адно. Раскажы. Галоўнае, як замаскіравалі...

— Звычайна. Прысыпалі сухім баластам...

— А мокры куды дзелі?

— Збіралі ў шапку, зносілі пад адхон.

— Вось бачыце — усё правільна... І мы так, дарагі, прыдумалі. Вінтоўку аддай, вазьмі плашч-палатку, вынесеш баласт. Ад Скаварады і Фурмана не адставаць...

Рушылі да чыгункі. Над краем лесу выплыў месяц, стала святлей. Разведчыкі вялі сцяжынкай, якая пятляла між хвой. Ішлі сцішана, раз-пораз прыпыняючыся.

Была поўнач — ні зыку, ні шораху. Шура ішоў узбуджаны і, здаецца, чуў, як тахкае сэрца.

Перамахнулі пясчаную дарогу — і толькі цяпер Шура як бы пачаў пазнаваць лес — гэтай дарогай ішоў у партызаны, начаваў у сасняку, прачнуўся ад дзіцячага плачу. Недзе недалёка вербіцкія курані.

Патыхнула вільгаццю. Прайшлі яшчэ вярсту, спыніліся. Чыгунка блізка. Бондар напаўголаса аддае каманды. Двое аддзяліліся ўправа, двое — улева. Наперадзе як бы кігікнула начная птушка, і тады, узяўшы вінтоўкі ў рукі, ступаючы след у след, пайшлі.

Лес скончыўся, перад вачамі — залітая хісткім месячным святлом паляна з рэдкімі, чэзлымі хвойкамі. Не паляна, а высахшая балацянка. Па ланцугу паўшэптам каманда — «лажыся». Шура лёг грудзямі на купіну. Ногі ў каленях прамоклі, купіна мяккая, як падушка.

Цяпер каманда «наперад». Паўзлі доўга, робячы частыя перапынкі, прыслухоўваючыся. Асака непрыемна казытала твар, рэзала рукі.

Пачуўся далёкі, невыразны гул, які ішоў, здаецца, ззаду, з лесу. Як бы ў вяршалінах сосен уздымаўся вецер. Ланцуг замёр. Шура ведаў: гэтае зманлівае лясное водгулле — прыбліжэння цягніка. Толькі ноччу яно другое, чым днём. Днём рэйкі пачынаюць пазвоньваць, а лес нібы скача, прытупвае. Цяпер — уражанне такое, што там, у соснах, усчынаецца навальніца.

Шура прыўзняў галаву, на імгненне працяўшыся страхам. З шэрай хісткай далечыні проста на іх ляцелі два зыркія электрычныя вокі. Вырывалі са змроку ніцыя хвойкі, ярказялёныя ў паласе начнога святла бярозкі. Хвіліна, і паласа

святла пайшла лявей. Шура ўбачыў высокі, з травяным схілам насып, чорныя рэйкі. Прыйшла адразу здагадка — яны ля крывой. Крывая на захад ад Вербічаў, самае большае, за вярсту. Выгіб чыгункі ён бачыў, калі ездзіў у Гарбылі і калі тут, ля Вербіч, капалі акопы.

Пранёсся цягнік. У адным месцы — відаць, рэйка была прышыта не па шаблону — з-пад колаў яркім веерам сыпанулі іскры. Не паспела сціхнуць водгулле цягніка, як, узнятыя прыглушанай камандай, кінуліся да насыпу. Беглі прыгінаючыся, стрымліваючы дыханне. Заляглі, калі чорны круты вал быў навідавоку, метраў за трыццаць.

Месяц вісеў высока, зоркі як бы пачыналі бляднець. З правага боку ад Шуры — Скаварада і Фурман. Ціхенька перашэптваюцца. Шура раз-пораз прыўзнімаў галаву, глядзеў на насып, поўнячыся дрыготкай нацятасцю. Халадзеючы, чакаў каманды. Міналі хвіліны, ніхто не адзываўся. Нечакана для самога сябе Шура прыдрамнуў...

Прачнуўся ад зычных гартанных галасоў. Імгненным страхам працяло ўсё цела. Не ведаў, дзе ён, што з ім. Як правал у памяці. Прыўзняў галаву, убачыў на насыпе чатыры шэрыя постаці. Немцы-вартавыя ішлі павольна, грукалі ботамі па шпалах, гучна перамаўляліся...

Ноч канчалася, наступала шэрае світанне. Над балацянкай празрыста-тонкая плёнка туману. Можна ўжо адрозніць чараду тэлеграфных слупоў, якія бягуць па балотцу нацянькі, падступаючы вельмі блізка да чыгункі, кавалак чорнай толевай паперы на схіле насыпу. З таго боку палатна тонкія чэзлыя хваінкі, бярэзінкі, якія знікаюць у хісткай шэрані. Адзенне на Шуры макраватае.

З правага боку, дзе схаваліся за паваротам немцы, зычна кігікнула птушка. Каманды Шура не пачуў, убачыў толькі, як, прыгнуўшыся, пабеглі да насыпу Скаварада з Фурманам. Падхапіўся на мяккіх, нібы гумавых, нагах — зацяклі за час ляжання,— рушыў за імі...

Скаварада сядзіць наўколенцах, пляскатым нажом разрыхляе пад рэйкай жвір. На шпале ладны, пераматаны шпагатам, пакунак. Фурман зубамі абдзірае канец тэлеграфнага кабеля. Тонкую трубку ўзрывальніка з чакой, як у лімонцы, паклаў на

рэйку. Шура разаслаў плашч-палатку, стаў паспешліва збіраць жвір.

— Прынясі сухога баласту,— сказаў Скаварада.— Набяры дзе падалей.

У яго на шырокім загарэлым ілбе буйныя кроплі поту...

Калі ямку выграблі, Шура слізгануў у адхон, высыпаў жвір. Партызаны не тояцца — з асакі ўзнімаюцца галовы, тырчаць рулі вінтовак...

Шура, чуючы, як тахкае сэрца, зноў узлез на насып, прыгаршчамі сабраў на палатку горку пяску.

Памагаючы адзін аднаму, міну прысыпалі, зараўнялі сляды. Фурман разматвае кабель, прысыпае пяском.

Галоўны мінёр Скаварада махнуў рукой, сагнаў Шуру з насыпу. Фурман, адступаючы, разматвае кабель унізе, у траве. Потым як ветрам змяло і самога Скавараду.

Ужо вывіднела. Пакутліва цягнуцца хвіліны. Могуць прайсці патрулі. Калі заўважаць міну, Шура здагадваецца, што будзе. Зрашэцяць салдат кулямі. Не зразумела адно: чаму не ставілі міну ноччу?

Багдановіч, як і ў лесе, ляжыць побач з Шурам. Шыя потная, брудная, з бураватымі падцёкамі. На шчацэ белы пух. Глядзіць на насып не змаргнуўшы. Умее быць сур'ёзным. А так хвіліны спакойна не пасядзіць.

Відна, але сонца яшчэ не ўзышло. Неба хмарнае. Якраз тая пара, калі жанчыны дояць кароў, выганяюць на пашу. І ў мястэчку, і ў вёсках. Калі браць па чыгунцы, мястэчка недалёка. Вёрст шаснаццаць. Выбух пачуюць і там. Калі ўдасца скінуць эшалон, будуць ведаць.

— Алесь,— шэпча Багдановіч (Шуру заве Алесем),— жытнія клёцкі з малаком любіш?

— Якія клёцкі?

— Кругленькія. Есці хочацца. Калі будзем уцякаць, бяжы за мной. Заскочым у Альхоў. Наядзімся ад пуза...

— А хіба ў лагер пойдзем не разам?

— Разам як рак свісне. Пабачыш, што тут пачнецца. Дзяржыся за мяне.

— Чаму ноччу міны не падклалі? — шэпча Шура.

— Уночы эшалоны ерундовыя. Добрых знарок не пускаюць.

Кігікнула птушка. Шура нацяўся ўсім целам. Сапраўды, здалёк, ледзь чутны, нарастаў гул. Пачалі пазвоньваць рэйкі.

— Па эшалону не страляць,— пранеслася па ланцугу.— Адыход уразбежку. Збор каля калодзежа...

Цягнік ужо вылятаў на крывую. Шура шчыльней прыціснуўся да зямлі, прыжмурыў вочы. Парывісты жалезны грук цягніка ззаду, у лесе, аддаваўся суцэльным гулам.

Паравоз, першыя вагоны набеглі ўжо на месца, насупраць якога яны ляжалі. Некалькі вострых імгненняў Шура, сціснуўшы зубы, чакаў выбуху, але, калі праз хвіліну ён падняў галаву і ўбачыў апошні жоўты вагон, які, пахістваючыся, знікаў за паваротам, яго ахапіла дзіўнае пачуццё расслабленасці. Такое пачуццё ён ужо аднойчы перажыў — зімой, калі нічога не атрымалася з прыёмнікам.

У ланцугу нехта зычна вылаяўся. Зноў пачуўся трывожны крык птушкі. Да насыпу, амаль не прыгінаючыся, пабеглі чацвёра. Апошнім з чорным нямецкім аўтаматам на шыі бег Бондар. На рэйках, распластаўшыся, застыла постаць Скавароды, астатнія заляглі воддаль, на насыпе. Ляжалі нядоўга, хутка пачалі адпаўзаць.

Беглі марудныя, пакутлівыя хвіліны. Справа, у тым баку, дзе зніклі патрульныя, пачуўся перарывісты пошчак кулямётнай чаргі. Кулямёт як бы прабаваў сваю сілу: пасля двух-трох стрэлаў змаўкаў, потым зачынаў зноў.

Ва ўтрапенні, якое апанавала Шуру, ён не пачуў гулу, які нарастаў, як і першы раз, здаляка. Убачыў паравоз з кароткай трубой, які паспешліва выдыхаў цёмныя клубы дыму, выгнутую чараду вагонаў. Ляжаў амаль спакойна, ні на што не спадзеючыся.

Асляпляльна бліскучы, вогненны слуп агню вырас за некалькі метраў ад паравоза, а ўслед за грымотамі выбуху, які адчувальна прыціснуў Шуру да зямлі, аглушыў, напоўніў рот, горла, нос саладкавата-горкай ватай, пачалося сканчэнне свету. Паравоз, нібы ўздыблены конь, стаў старчака, затым павольна рушыў набок. Вагоны набягалі, лезлі адзін на другі,

куляліся пад адхон. Водгулле рэха, трэск, скрыгат зліліся ў адно. Шура падхапіўся, размашыста сігаючы праз купіны, бег услед за Багдановічам і, нават аглушаны выбухам, чуў ззаду страшны жалезны гул...

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### I

Дамачоўскі атрад вырас удвая. Налічвае шэсцьдзясят чалавек. Атрад прыкметна папоўніўся людзьмі за вясну і лета, бо зімой яго фактычна не было. Паўтара-два дзясяткі актывістаў, пакінутыя райкамам партыі для падпольнай работы, зімой перахоўваліся па глухіх вёсках, хоць і тады ўжо раз ці два ў месяц збіраліся разам, праводзілі некаторыя дыверсіі.

Атрад і цяпер дзейнічае налётамі.

Батура, начальнік асобага аддзела атрада, сам папрасіўся ў засаду. Ён сядзіць ускрай палявой дарогі ў каноплях. Млосная, парная гарачыня. На небе ні хмурынкі. Ад канаплянага чаду баліць галава. Дзесьці паблізу перагукваецца перапяліны вывадак: «Вунь вядуць, вунь вядуць...» Так пераймалі перапёлчын голас хлапчукамі. Калі ўважліва прыслухацца, сапраўды падобна.

Батура — з Піляціч. Восень і зіму жыў у сяле з маці і сястрой. З вясны — у лесе.

У гэты спякотны жнівеньскі дзень Батура пільнуе паліцэйскага Сцяпана Куцку, які залішне часта стаў наведвацца ў Рагалі. Рагалі — свая вёска. Там партызанам пякуць хлеб, мыюць бялізну. Аднак у вёсцы Куцку ні разу не бачылі. Нехта сказаў, што Куцка бачыцца з сястрой на полі.

Загон Куцкавай сястры ўнізе, за лагчынай, за альховымі кустамі.

На дзіва чысты дол у каноплях. Не расце нават дробная трава. Дол голы ад канаплянага чаду, думае Батура. У жыце, у аўсе, нават у льне травы поўна, а ў каноплях няма. І яшчэ няма ў маку. Мак ядавіты таксама. Нездарма крыклівому дзіцяці даюць зялёную макаўку, загорнутую ў кавалачак

крамніны. Дзіця пассе і засынае. Зялёны мак — наркотык, яд. Горш за табаку. Ім, вясковым шкалярам, расказваў пра гэта настаўнік Вадэйка, аднаногі дзівак, які загінуў у мястэчку, у нямецкім засценку.

Настрой у Батуры панылы. Са Сцяпанам Куцкам яны некалі сябравалі. Нават у педтэхнікум паступалі разам. У прыдняпроўскім гарадку жылі на кватэры ў старой яўрэйкі. Напрадвесні Сцяпанаў бацька прывёз чыгун грэцкай кашы. «Маці хлеба не спякла, прабачай, сын. Можа, другім разам...» Ён, Батура, ведаў, што хлеба ў сяле няма. На іхніх пясках радзіла не надта. Сцяпан мала павучыўся ў тэхнікуме — адзін год.

У паліцыю Куцка пайшоў сам. На вяроўцы ніхто не цягнуў. Рабіў у калгасе, вучыўся на трактарыста, а цяпер у паліцыі. Дзе, у чым прычына? — думае Батура. Такіх, як Куцка, шмат. Што іх пагнала ў бобікі? Прыйшлі фашысты і прынеслі пошасць.

Настойліва перагукваюцца перапёлкі: «Вунь вядуць... Вунь вядуць...» Боль у галаве нясцерпны — нібы маленькія малаточкі стукаюць у скроні. Батуру хочацца выскачыць на дарогу, падалей ад смуроду, дыхнуць на поўныя грудзі. Але сядзіць. Выскачыш — выдасі сябе. Там, за кустамі, сястра Куцкі дажынае авёс. Кончыць жаць, тады зноў ламі галаву, дзе сустракаецца з братам.

Куцка, паступіўшы ў паліцыю, да яго, Батуры, не чапляўся. Не забываў старой дружбы. Напаткаўшы на вуліцы, вітаўся за руку, але ў гаворку не пускаўся. Як бы саромеўся.

Батура сядзіць на кукішках, раз-пораз прыўзнімаючыся, аглядаючы дарогу. Дарога пустая. Трымціць на лабавіне ўзгорка смуга, у спякотнай млявасці застылі прысады вёскі Лазавіца. Піляцічы за Лазавіцай, а збоку яшчэ адна вёсачка — Прудок ні ў Лазавіцы, ні ў Прудку сваёй паліцыі няма. Тыя, што сталі паліцэйскімі, жывуць у Піляцічах, у школе. На казарменным рэжыме. Да жонак, дзяўчат прыходзяць раз на тыдзень. Іх да апошняга часу не чапалі. Падкідвалі запіскі, прасілі адумацца. Адумалася мала — тры ці чатыры чалавекі, якія пакінулі паліцыю. Куцку таксама падкідалі запіску. Не толькі не апомніўся, а стаў завітваць да сястры, вынюхваць партызан.

Напружваючы памяць, Батура стараецца ўспомніць пра Куцку што-небудзь такое, што б вытлумачыла яго здраду, жаданне выслужыцца ў паліцыі. З дзяўчатамі, калі падрос, не цырымоніўся. Рыжы чуб, хромавыя боты, значок варашылаўскага стралка на лацкане суконнага гарнітура. Пра поспехі ў дзяўчат Куцка расказваў, выскаляючыся, з рагатком. Але ці адзін ён? Многія вясковыя хлопцы гэтак жа брахалі пра дзяўчат. Любілі выпіць, пусціць пыл у вочы, не міргнуўшы вокам, схлусіць. «Куцка прадаў Радзіму, і ўсё тут,— раззлаваўшыся на самога сябе, думае Батура.— Няма чаго разводзіць антымоніі. У цяжкую часіну правяраюцца людзі. Узяў зброю, служыш немцам — вораг. З ворагам у вайну адна размова».

Высунуўшыся з канапель, Батура бачыць воз, які спускаецца з узгорка. Чуваць лёскат колаў. Дзядзька вязе авёс, прытрымліваючы каня за аброць. Праз хвіліну воз прасунуўся паўз каноплі. Пачуўшы стоенага чалавека, конь застрыг вушамі, захроп, ірвануў убок. «Но, ваўкарэзіна!» — па голасе Батура пазнае Трахіма Цяцерыча, рагалёўскага каваля. Кузня ў вёсцы маленькая, нават меха няма, каб раздзьмуць вуголле. Трахім раздзьмухвае ў горне агонь халявай бота. Куе для партызан нажы, ножкі выкаваў для ручнога кулямёта.

Чаму ж ты пакінуў мяне, сіраціну,
Чаму ж не ўзяў за жонку,—

даносіцца з лагчыны журботны голас. Батура ўслухоўваецца — песня даўняя, забытая, яе спявала некалі маці.

Я б твае пастолікі ў вадзе паласкала,
Я б тваю галовачку на лане ласкала,
Мой ты касец...

Горкі, тугі камяк вырас у грудзях, падступіў пад горла. Батура падняўся, ногі ад доўгага сядзення дрыжаць. Старыя разгалістыя бярозы ў Лазавіцы як бы ахутаны лёгкім, хісткім туманам. Зірнуў на ўзгорак — на самай седлавіне імчыць на веласіпедзе чалавек. Вінтоўка цераз плечы, за спіной. Зыркімі блікамі мільгаюць спіцы колаў. Іскрай у памяці:

хлапчукамі нагледзелі гняздо ўдодаў. Дупло вузкае, рука не дастае. Крэмзалі сцізорыкамі дзірку да вечара, пакуль не схавалася за лесам сонца. Тады Сцяпан заткнуў дупло мохам. «Удоды ўсё адно смярдзючыя, няхай дохнуць...»

Батура выскачыў на дарогу.

— Стой, пагаварыць трэба! — крыкнуў Сцяпану.

Куцка гупнуў на дол, хістануўся, але на нагах стаіць. Твар белы як палатно. Веласіпед ляжыць на дарозе, задняе кола ліхаманкава круціцца. Яшчэ імгненне — і Сцяпан, раскарачыўшыся, прыгнуўшы галаву, стаў ірваць з-за плячэй вінтоўку...

— Рукі ўгору!

Сцяпан не слухае. Непаслухмянымі пальцамі цярэбіць на шыі рэмень.

Батура страляе з нагана тры разы. Ва ўпор, у росхрыст паркалёвай сарочкі на грудзях. Не помнячы сябе, задыхаючыся, бяжыць у лагчыну. Як праз сон чуе спалоханы крык перапёлкі: «Вунь вядуць, вунь вядуць...»

## II

У Бацькавіцкі раён услед за дэсантнай групай капітана Мазурэнкі прыйшла другая, пасланая з-за лініі фронту. Дабіраліся балотам, імшарынамі, прадзіраліся скрозь густа сплеценую навісь арэшніку і, калі выбіліся на сухі груд, на якім спелы сасновы бор, усе васямнаццаць, зняўшы перавешаныя праз шыю аўтаматы, скінуўшы паходныя мяшкі, пападалі ў знямозе. У бары — п’янкая духмянасць, прахалода, сонца на закіданым ігліцай доле — рэдкімі светлымі лапікамі.

Светлавалосы хлопец, апрануты ў зеленаватую куртку і сінія, на манер лыжных, штаны, зняў з пояса біклагу, адвінціў галоўку.

— Майка, прагані смагу. З крыніцы, дзе ўчора ўмываліся.

Дзяўчына — яна таксама ў куртцы, у лыжных штанах — адпіла глыткі два, аддала біклагу.

— Пахне балотам. І жабамі. Навошта, Жэня, салодкі падман?

— Ды крынічная, Майка. Нагрэлася.

— Я не хачу піць, Жэня. Так стамілася, што нічога на свеце не хачу. Спаць, спаць...

Далёка да вечара. Сонца толькі схілілася за поўдзень, але ўсе імгненна паснулі.

Не спіць адзін, абапёршыся на локці, напаўляжыць, расшпіліўшы планшэтку, расклаўшы перад сабой карту-двухвёрстку.

— Харытончык,— гаворыць ён напаўголаса, каб не разбудзіць астатніх.— На пост. Твая чарга.

Светлавалосы хлопец, які прылёг побач з Майкай, нехаця падымаецца, перавешвае цераз шыю аўтамат з ражком.

— Вася, учора ты гаварыў, што сёння будзем на месцы. І чаму ўчора мы пратарчалі цэлы дзень ля гэтай вёскі?

У таго, што водзіць пальцам па карце, хударлявы, нягалены твар, пад вачамі вялікія сінія кругі.

— Там было месца яўкі, Жэня. Мусіў прыйсці чалавек.

— Хто прызначаў яўку?

— Нам далі яе ў Маскве.

— А-а-а, глупства ўсё. Калі інструктавалі тых людзей, якія павінны нас сустрэць? Калі тут немцаў не было. Няўжо ты верыш, што яны нас чакаюць. Болей года сядзяць і чакаюць. Або ў партызаны пайшлі, або немцы іх перавешалі...

— Нам дадзены загад, канкрэтныя адрасы.

— Ды зразумей ты — немцы тут год. Усё перавярнулася. Трэба было астацца ў кіраўцаў. Не разумею, чаму мы не асталіся. Харошы атрад, баявы. Прасілі ж астацца...

— У нас задача разгортваць партызанскі рух у гэтым раёне.

— Ці не ўсё роўна, дзе біць фашыстаў?

— Не спрачайся, Жэня. Мы на месцы. Калі сёння ніхто не прыйдзе на яўку, будзем дзейнічаць самі. Завяжам сувязі, высветлім абстаноўку.

— Значыць, прыйшлі?

— Прыйшлі.

Стома ўзяла сваё — прылёг і Вася, паклаўшы галаву на выцягнутую руку. Жэня пахаджвае між сосен, ціхенька пасвіствае. На хвіліну спыніўся — на камлі дрэва, на па-

лачцы-падставачцы — бляшаны ражок, да краёў напоўнены мучніста-белай смалой-жывіцай. Акуратныя вінкелі-разводы падсочкі, перапоўненыя смалой бляшаныя ражкі на другіх дрэвах. Частка пападала, валяецца на доле. «Пасля падсочкі бор валяць,— думае Жэня, які сам вырас у лясной старане.— Вайна прадоўжыла век сосен».

У арэшніку, які ўшчыльную падступае да лясной пясчанай выспы, штосьці выразна трэснула, зашасцелі галіны — як бы хто сюды, на лясны востраў, прабіраецца скрозь гушчар — Жэня пругка адскочыў за хвою, наставіў, чуйна прыслухоўваючыся, аўтамат. Трэснула ўверсе, на галаву паляцела сухая ігліца, ля ног упала шышка. Адышоўшыся ад камля ўбок, Жэня задраў галаву. Сярод зялёнай навісі галін і сукоў рыжай маланкай насілася вавёрка — сігала то ўверх — пад самую макушку купчастай хвоі, то апускалася на самы ніжні сук. «Трывожыцца»,— толькі паспеў падумаць Жэня і, падгінаючы калені, нават не крыкнуўшы, упаў. Жалезнае, гарачае ўвайшло ў спіну, апякло сэрца...

У бары пачуўся асцярожны свіст — над забітым на карачках сядзеў чырванатвары чалавек, выціраў ад крыві, раз-пораз засоўваючы ў зямлю, пляскаты нямецкі штых. З арэшніку з вінтоўкамі наперавес выскаквалі паліцэйскія, лажыліся за камлі сосен, паўкругам ачапляючы месца, дзе паснулі партызаны. Мінула хвіліна, і гулкая кулямётная чарга разрэзала цішыню.

Людзі ў зеленаватых куртках ускоквалі і тут жа як падкошаныя падалі. З таго месца, дзе выбралі яны сабе прывал, толькі двойчы коратка прастракатаў аўтамат. Праз некалькі хвілін усё скончылася. Хтосьці гучна стагнаў, клікаў на дапамогу. Паліцэйскія не спяшаліся выбірацца са сваіх сховішчаў.

Першым падняўся каржакаваты Князеў, начальнік паліцыі — гэта ён зняў вартавога.

— Абшукаць бандытаў! — разнеслася яго каманда.

Паліцэйскія, перабягаючы ад сасны да сасны, звужалі паўкальцо. Ніхто не страляў. Убачылі першыя трупы — двое маладых у напаўвайсковай форме ляжалі ніц, распластаўшы рукі, упрытык адзін да другога.

Далей цэлай грудай — спалі, падхапіліся, і смерць засцігла на месцы. Там страшна — варочаюцца, стогнуць, хрыпяць параненыя. Князеў стрэліў — дабіў параненага, і тады адбылося яшчэ болей страшнае. З груды нерухомых цел, абапіраючыся на рукі, прыўзнялася дзяўчына — у мужчынскай зялёнай куртцы, у штанах — не мігаючы, спакойна пазірала на паліцэйскіх, якія застылі ў нерашучасці.

— Дабівай бальшавіцкую суку! — крыкнуў Князеў і стрэліў, не цэлячыся, з нагана.

Паліцэйскія як азвярэлі — ва ўпор, не разбіраючы жывых, мёртвых, рашэцілі кулямі распластаныя на зямлі целы, трушчылі прыкладамі галовы, нагамі білі, тапталі трупы. Перакошаныя лютасцю твары, шалёныя, налітыя крывёю вочы. Забылі нават пра зброю — нябачаныя яшчэ рускія аўтаматы з урэзанай драўлянай ложай валяліся на зямлі, іх ніхто не падымаў.

Князеў у дзікіх скоках удзелу не прымаў — назіраў, стаяў збоку.

— Адставіць! — зычна крыкнуў ён.— Бальшавіцкая банда разгромлена. Забітыя, параненыя з нашага боку ёсць?

Забітых, параненых не было.

Паліцаі маўчалі, раздзімаючы ноздры, цяжка дыхаючы.

— Каб не мы іх, яны б нас! — крычаў, падымаючы выцягнутую руку з наганам, Князеў.— Напалі б не пазней сённяшняй ночы. Паглядзіце — у іх аўтаматы. Банда прыслана з Масквы. Аб’яўляю ўсім падзяку. Вы — самыя надзейныя людзі...

Аўтаматы, пісталеты, рэчавыя мяшкі сабралі хутка, а болей нічога не ўзялі — адзенне акрываўленае, разуваць знявечаныя трупы не хацелася. Выбраліся з бору на балотную гаць, стралялі з аўтаматаў, гучна, узбуджана размаўлялі.

Па пыльным шляху, які вядзе з мястэчка ў Піляцічы, імчыцца група коннікаў. Нават няўзброеным вокам відаць — спяшаецца на падмогу раённая паліцыя. Сярод піляціцкіх паліцэйскіх рогат.

— На шапачны разбор трапілі!

— Усё адно выхваляцца будуць, што яны разбілі.

— Спірт немцы ім хутчэй выпішуць.

Наперадзе коннага атрада на танканогім гнядым кані новы начальнік мястэчковай паліцыі Зыскевіч-Будзілоўскі — шыракаплечы, круглатвары, з грэблівай усмешкай на тоўстых губах.

Князеў падышоў да яго не спяшаючыся, уразвалку, працягнуў руку.

— Акружылі і ўсіх пад арэх,— паведаміў ён коратка.— Не ўцёк ні адзін.

Зыскевіч-Будзілоўскі маўчыць, нешта абдумвае.

— Мы за імі з учарашняга вечара сачылі. Яны цэлы дзень каля Буйкоў цёрліся. Ноччу пайшлі ў лес, а мы нападаць не хацелі — маглі разбегчыся.

— Здаць аўтаматы! — сказаў Зыскевіч-Будзілоўскі. Князеў не разумее — стаіць пасярод шляху як слуп.

— Аўтаматы — нашы трафеі. Хто сказаў, што банда апошняя? Могуць помсціць, напасці на нас.

— Здаць аўтаматы! — у голасе начальніка мястэчковай паліцыі стальныя ноткі.— Загад жандармерыі. Здаць усё, што забралі. Вы дапусцілі памылку — трэба было палоннага ўзяць, раз акружылі бандытаў. Мы б так не зрабілі.

Твар у Князева наліваецца крывёю, торгаецца правая шчака. З паліцаяў, яму падначаленых, вясёлае ўзбуджэнне як рукой зняло — зацяліся, наліваюцца злосцю. Скажы адно слова Князеў — і ашчаціняцца супраць няпрошаных гасцей трафейнымі аўтаматамі, на капусту пашаткуюць.

— Загаду жандармерыі я падчынюся,— гаворыць Князеў, едучы Зыскевіча поўнымі бяссільнай злосці вачамі.— Але трафеі здам толькі па акту. Акт у двух экзэмплярах — адзін вам, другі — мне. Рапарт аб знішчэнні банды падам шэфу жандармерыі асабіста.

Зыскевіч-Будзілоўскі нечакана гучна смяецца.

— Ладна, разбяромся. Паехалі ў сяло. Цішчанка, дай гаспадзіну Князеву каня. Сам пройдзеш пяшэчкам, тут блізка.

З чорнага з белымі падпалінамі ля каленяў і вушэй каня саскаквае вузкаплечы худы паліцай, падводзіць каня Князеву. Той, стаіўшы на губах усмешку, падміргвае сваім паліцэйскім, паставіўшы нагу ў стрэмя, лёгка ўскаквае ў сядло.

Два начальнікі паліцыі едуць у Піляцічы поруч.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### I

Рытм жыцця ў Гарбылях намнога імклівей, чым у Бацькавічах. Па забрукаванай вуліцы грукочуць важкія, з тупымі радыятарамі нямецкія грузавікі, раз-пораз праносяцца салдаты-матацыклісты ў плямістых плашч-накідках. На кожным кроку натрапіш на салдата-немца, славака ці мадзьяра. Казармы ваеннага гарадка не пустуюць.

Аграном Драгун другі тыдзень жыве ў Гарбылях. Жонку і дзяцей пасяліў у вёсачцы Альхоў, у жончынай сястры. Сабе падшукаў кватэру на ціхай вуліцы Камунараў — яна цяпер называецца Залінейнай, у недалёкім суседстве з домам старшага землеўпарадчыка Салаўя.

Салавей — той асноўны чалавек, што паспрыяў пераводу Драгуна ў Гарбылі. Памагалі, вядома, і немцы з сельскагаспадарчай камендатуры, большасць якіх таксама сюды пераехала. У аўсвайсе на добрай глянцавай паперы напісана, што землеўпарадчык Драгун мае права рэвізаваць сельскія і раённыя зямельныя органы ў межах камісарыята, а нямецкія чыгуначныя і сельскія ўлады павінны аказваць яму садзейнічанне сродкамі транспарту.

Седзячы на зашклёнай Салаўёвай верандачцы, яны напаўголаса размаўляюць.

Салавей — рослы, медзведзяваты стары з шырокімі абвіслымі плячамі, ускудлачанай, у густой сівізне, галавой. Некалі ён вучыў Драгуна ў лясной школе. Перад вайной быў галоўным аграномам МТС. Аднавілі яны знаёмства вясной, калі стары па службовых справах прыязджаў у Бацькавічы (гебітскамісар тады сядзеў там). Да падполля Салавей прылучыўся сам.

— Без Украіны, чарназёмнай паласы, Кубані — Расіі існаваць нельга,— гаворыць стары.— Тры чвэрці ўрадлівай рускай зямлі ў немцаў.

— Але ж вайна не скончана.

— Ты мне хочаш сказаць, што ў нашым адступленні ёсць што-небудзь разумнае? Нічога разумнага не бачу.

— Заўважце, немцы не ўсемагутныя. Летась наступалі на ўсіх франтах...

— Немцы вельмі правільна робяць. Улічваюць эканамічны патэнцыял. Што такое Каўказ? Нафта... Захапіўшы Сталінград, перарэжуць Волгу, нашу прыродную артэрыю.

— Перамогі немцаў — палка з двума канцамі. Паглядзіце, што на чыгунцы робіцца. Калі ўсюды так?

— Партызаны ніколі не вырашалі зыходу вайны. Арміі вырашаюць. Калі хочаш — партызанскі рух духоўна залежыць ад арміі.

— Тут я з вамі не згодзен,— пярэчыць Драгун.— Армія адступае. Партызаны множацца. Хіба не так?

— Не так, мілы мой. Краіна супраціўляецца — вось што натхняе...

На верандачцы пакрысе цямнее — на двары вячэрняе сутонне. Дом у Салаўя на местачковы манер: абшаляваныя дошкамі сцены, зялёныя аканіцы, франтон з акенцам. Пры доме — агародзік, сад — кусты бэзу, агрэсту, некалькі вішань, яблынь. Дрэвы яшчэ зялёныя. Агарод, сад пусты — гараджане падбіраюць усё да апошняга каліва.

Пачуліся крокі, на верандачку зайшла жонка Салаўя — Марына Аляксееўна, маладжавая, круглатварая, трошкі залішне поўная ў стане. Услед за ёй ускочыла чарнявая дзяўчынка гадоў чатырох — мелася штосьці сказаць дзеду, але, застаўшы чужога чалавека, засаромелася. Драгун ведае — тут разам з бацькамі жыве Гэля, дарослая дачка, настаўніца. Гэта яе дзяўчынка.

Марына Аляксееўна завешвае вокны, уключае электрычнае святло, заве мужчын у пакой.

Як гэта часта бывае, жонка Салаўя — поўная супрацьлегласць мужу.

— Ці ты хоць пакарміў чалавека? — пытае Марына Аляксееўна.

— Ён есці не прасіў.

— Вы даруйце яму, Васіль Іванавіч. Век дажывае, а розум дзяціны.

Марына Аляксееўна — жанчына-віхор. Як з мяшка сыпле словамі і ў той жа час спрытна засцілае стол, расстаўляе талеркі. Пяці хвілін не праходзіць, а можна садзіцца абедаць.

Стол не надта багаты, але ў гарадскіх умовах і гэта добра. Марына Аляксееўна як бы перахоплівае Драгуновы думкі.

— Па яго жалаванню даўно б паклалі зубы на паліцу. Цяпер жыве той, хто хабар бярэ. У немцаў усё на хабарах...

— Прыкмета таго, што норавы нізкія,— гаворыць Салавей.— Новай Еўропе, якую немцы будуюць, нават загніваацца не трэба. Гнілая адразу...

— Для бальшавікоў вы ўсё адно нямецкія служакі. Бераце хабар ці не. Як вернуцца, па галоўцы не пагладзяць.

— Што ж, можа, і правільна. Бальшавікі патрабуюць ад чалавека максімум. На слабую чалавечую прыроду не зважаюць. Хоць мне бальшавіцкі ідэалізм болей па душы, чым матэрыялізм немцаў.

— Бальшавікі — ідэалісты? — пярэчыць Драгун.— Ніколі б не сказаў...

— А як у нас моладзь выхоўвалі? Хіба не на максімалісцкіх патрабаваннях? Усё дзяржаве, нічога сабе. Вось тут, у нас, паліцыя раскрыла нядаўна маладзёжную арганізацыю. Называлася «Смерць фашызму». Васямнаццаць юнакоў і дзяўчынак замахнуліся на ўвесь акупацыйны парадак. Гэта як назваць па-вашаму?..

— Дзіва што, яны ж дзеці,— сумна ўздыхнула Марына Аляксееўна.

— Ну, не такія яны дзеці. Дзеці пуцеправоды не ўзрываюць. Гэта ў той час, калі Бондар і другія яшчэ толькі арганізоўваліся. Праўда, без авантуркі не абышлося.

— Я нічога не чуў. Раскажыце,— просіць Драгун.

— Тут у тодтаўскай арганізацыі былі палякі. Ваеннапалонныя. Школьнікі — да іх. Вышэйшыя афіцэры размаўляць адмовіліся. А частка малодшых афіцэраў і салдат згадзіліся. Толькі паставілі ўмову: да партызан пойдуць, але каб іх на самалётах перакінулі ў Маскву. Адтуль збіраліся ўступіць у польскую армію. Ну, школьнікі гарантыю далі. Гэта вясной, у красавіку, калі яшчэ ніякага атрада не было.

— Ну і чым кончылася?

— Дрэнна кончылася. Пайшлі ў лес. Ну, вядома, ва ўмоўленым месцы не толькі самалётаў, партызан не было. Чакалі некалькі дзён. Назад жа ў казармы не пойдзеш. Давялося самім шукаць партызан. Некалькі чалавек вярнулася. Я думаю, што за моладдзю стаяў нехта з дарослых. Чалавек з яўна авантурыстычным складам мыслення.

— А што з тымі, якія вярнуліся?

— Арыштавалі. Увогуле батальён расфарміравалі.

— Усіх вас паарыштоўваюць,— сказала Марына Аляксееўна.— Пастраляюць, ніхто дзякуй не скажа. Маўляў, нямецкія халуі, туды ім дарога...

— Ну, няхай страляюць. Мы з табой сваё аджылі. У Гарбылях не толькі электрычнасць, а і радыё.

У каробцы рэпрадуктара, які вісіць на абклеенай бляклымі шпалерамі сцяне, захрыпела, зашоргала, потым пачуўся выразны голас на рускай мове: «Двадцать часов по берлинскому времени. Передаём сводку верховного командования германских вооружённых сил...»

Салавей амаль абыякавы да перадачы, а Драгун слухае ўважліва, засяроджана.

...У Сталінградзе доблесныя германскія войскі, пераадольваючы рашучае супраціўленне бальшавіцкіх орд, занялі некалькі новых раёнаў... Трактарны завод амаль поўнасцю ў нямецкіх руках. На поўдзень ад горада нямецкія часці выйшлі да Волгі... Дні бальшавіцкай цытадэлі на Волзе злічаны... Гэта пытанне некалькіх бліжэйшых дзён...

— Два тыдні баі ў Сталінградзе,— задумліва гаворыць Салавей.— Гэта нешта ды значыць.

Марына Аляксееўна пакінула мужчын адных.

— Хачу прасіць вас,— гаворыць Драгун,— аб сустрэчы з Бондарам. Сам канцоў не знайду.

— Месяц няма вестак. Не ведаю, што думаць.

— Людзі тут асталіся?

— Дарагі мой, пасрэднікаў не меў. Не хачу мець. Бондар знаёмы мне, як і ты. Пасля лясной школы на ваеннага тут вучыўся. Бываў у маім доме. Я яшчэ падсміхаўся: «Лесавод хоча стаць лейтэнантам». Прыходзіў, вядома, не да мяне, да дачкі...

— Я доўга тут не буду, Мікалай Пятровіч. Пайду туды. Хацеў спектакль наладзіць...

— Не разумею.

— Каб мяне партызаны захапілі. Дзе-небудзь у вёсцы, на вачах насельніцтва. Як нямецкага служачага. У інтарэсах сям'і, вас...

Салавей задумаўся.

— Так будзе лепей. Вядома, лепей...

Праз хвіліну пытае:

— У ваш раён чуткі не дайшлі? Бондар за бацьку баяўся. Жыў тут хаваючыся, пад чужым прозвішчам. Але ўсё можа быць...

— Пакуль ціха. Да мяне ён сам пасланца прыслаў. Але даўно, у пачатку лета.

— Яны тады толькі выйшлі ў лес. У траіх тут асталіся родзічы. Расстралялі...

Драгун падымаецца, падае Салаўю руку. Каменданцкі час тут, у Гарбылях, як і ў Бацькавічах, пачынаецца ў адзінаццаць гадзін.

## II

На станцыі Гарбылі стаіць гатовы да адпраўкі эшалон. Паравоз пад парамі. Побач пуцейцы мяняюць падпаленыя жужалем шпалы. Кантора майстарскага ўчастка побач з вакзалам, у пафарбаваным у жоўты колер драўляным доміку.

Зазвінеў старамодны, з нікеляванымі каўпачкамі тэлефон, Глушко паспешліва зняў трубку.— Майстар Глушко слухае. У трубцы — голас Шміта. Адлягло ад сэрца.

— Адам Васільевіч, прашу да мяне. Захапіце плацёжныя ведамасці. З сакавіка месяца. Чуеце — з сакавіка...

— Зразумеў, гаспадзін камендант. Праз дзесяць хвілін буду.

Выйшаў у пярэдні пакой, адчыніў дзверы ў бакоўку. Рахункавод Грыб, закасаўшы рукавы белай кашулі, стукае на лічыльніках.

— Пачынаецца, Сяргей Сяргеевіч. Шміт выклікае. З ведамасцямі.

Грыб падняў галаву, нахмурыўся.

— Пра Косцю будзе пытаць. І пра гэтага, што прасіўся на вадакачку. Забыў прозвішча...

— Станкевіча,— падказаў Глушко.

— Ну, але. Не разумею толькі, чаму Шміт? І чаму са спазненнем?.. Чуткі настойлівыя — учора ноччу ўсіх...

— Ты з Косцем ні-ні?

— Агульныя размовы. Здаляка. Пятрэнка з ім. Каб не хапіліся...

— Пятрэнка на тры метры пад зямлёй.

— Я думаю, лепей, што Шміт. Можа, перастрахоўка.

— Давай ведамасці. Калі што якое, разумееш сам... Не забудзьце маіх...

Глушко ўзяў папку, рушыў да дзвярэй. На хвіліну запыніўся. Грыб устаў з-за стала, ступіў два крокі да майстра. Паспешліва, парывіста абняліся...

— З Богам, Адам Васільевіч. У мяне прадчуванне — абыдзецца.

— Прадчуванне і ў мяне.— Глушко сумна ўсміхнуўся.— Бывай...

Па перону майстар — высокі, статны, у форменным, даваенных гадоў гарнітуры — ішоў паспешлівым, службовым крокам, з заклапочаным выглядам ківаў галавой знаёмым чыгуначнікам.

У прыёмнай цывільнага чыгуначнага каменданта бялявая сакратарка перабірае паперкі. За дзвярамі ў кабінет — крык.

— Ліза, далажыце гаспадзіну каменданту. Выклікаў.

— Пачакайце, Адам Васільевіч. Там — з жандармерыі...

Глушко сеў. Сэрца забілася часцей. Горш за ўсё невядомасць. Жандары ў каменданта — кепска...

Крык прыціхнуў, перайшоў ва ўзбуджаную гаворку. Словы нямецкія — не разбярэш.

У прыёмную тыцнуўся ўзводны станцыйнай паліцыі, ні слова не сказаўшы, шуснуў назад.

Пакутліва цягнуцца хвіліны. Сакратарка — твар без кровінкі — напускае абыякавасць. Вострыць нямецкай машынкай алоўкі.

Нарэшце дзверы рыўком адчыняюцца, на парозе — Шміт.

— Прашу, гаспадзін майстар.

Глушко — папку трымае пад пахай, шапку ў руцэ — заходзіць у кабінет. Спыняецца за тры крокі ад стала, па-вайсковаму стукае абцасамі.

— Па вашаму выкліку з’явіўся, гаспадзін камендант.

На сцяне, над сталом каменданта, вялікі партрэт Гітлера. Жандары — знаёмыя абодва — з расхлістанымі каўнярамі мундзіраў сядзяць на канапе, па правую руку ад стала.

— Сядайце, гаспадзін майстар. Я выклікаў вас параіцца.

Глушко садзіцца на ўскраек крэсла перад сталом. Папка з ведамасцямі і шапка на стуленых каленях.

— Гаспадзін майстар, жандармерыя выстаўляе да нас, чыгуначнага кіраўніцтва, законныя патрабаванні. Каторы раз у нас знаходзяць прытулак злачынныя элементы.

— Гаспадзін камендант, за тое, у чым вінаваты я, гатоў несці адказнасць.

— У ліку пакараных нямецкімі ўладамі двое партызанскіх агентаў. Дайце ведамасці заработнай платы.

Глушко кладзе папку на стол, прыўзняўшыся на крэсле, уважліва сочыць, як гартае камендант кароткімі, з рыжымі валасінкамі пальцамі складзеныя ўдвая, расквечаныя чарнільнымі загагулінамі роспісаў лісты плацёжных ведамасцей.

— Якавенка вам знаёмы?

Глушко ўздрыгнуў. Камендант як бы праглынуў першыя гукі прозвішча, майстру здалося — сказаў Пятрэнка. Даючы сабе час супакоіцца, задумаўся.

— Асабіста такога не ведаю.

— Адам Васільевіч, вы ж мясцовы чалавек.

— Роберт Карлавіч, даю вам чэснае слова, што ў ліку даваенных рабочых Якавенка не значыўся.

— Я не пра тое. Вы ведаеце мясцовых людзей.

— Як і вы, Роберт Карлавіч. Я ў Гарбылях з трыццаць шостага года. Да вайны вас не ведаў. Хоць вы, можна сказаць, карэнны жыхар.

— Прозвішча Станкевіч вам нічога не гаворыць?

— Такога не ведаю.

— Ён жа ў вас працаваў.

— Рамонтных рабочых разам з падсобнікамі ў маім падначаленні звыш двухсот. Зімой, калі чысцілі снег і бралі сезоннікаў, было чатырыста. Ведаць усіх не магу.

Камендант доўга тлумачыць жандарам па-нямецку. Да Глушко даходзіць толькі адно зразумелае слова — «унбэкант»[1]. Паспакайнеўшы, Шміт гаворыць:

— Кінем службовы тон, Адам Васільевіч. Я вам давяраю поўнасцю. Заўважце, з вамі гаворыць не жандары, а я.

---

[1] Незнаёмы *(ням.)*.

— Роберт Карлавіч, пасаду майстра прымусілі мяне заняць вы. Калі не забылі, я ўхіляўся, як мог.

— Ніхто нічога не забыў. Але ж мы з вамі на службе. У ваенны час.

— Пытаннямі прыёму рабочых займаюся не я, а нямецкі майстар. Таму загадзя здымаю з сябе адказнасць.

Шміт сур'ёзнее, стукае алоўкам па стале.

— З гэтага часу наймаць рабочых будзеце вы. Будзеце праводзіць загадам кожнага новага чалавека.

— Гаспадзін камендант, з сённяшняга дня я падаю заяву аб звальненні.

— Адам Васільевіч, не забывайце — вашых паводзін не зразумеюць немцы. Не забывайце, які час...

— Я аб гэтым і гавару, Роберт Карлавіч. Сёння кожны можа адказваць толькі за сябе. Ні за каго другога. Прашу перакласці мае словы панам жандарам...

Шміт, павярнуўшыся да жандараў, штосьці гаворыць. Абодва ўважліва слухаюць, потым пачынае гаварыць таўсцейшы.

— Жандармерыя да вас прэтэнзій не мае,— паведамляе нарэшце Шміт.— Такія праверкі ў ваенны час рэч звычайная. Пра ваша жаданне звольніцца я ім не гаварыў. Няхай астанецца між намі.

Глушко ўстае, кланяецца. Лішне назаляць начальству не трэба.

## III

Год назад, калі на дрызіне ад'язджаў начальнік дыстанцыі, цвілі палыны, пакінутыя на пуцях вагоны выклікалі шчымлівае пачуццё адзіноты. Майстар Глушко вынес жалезны сейфік з дакументамі, паставіў у дрызіну, каля ног начальніка.

— Шчаслівай дарогі!

З ім, майстрам, начальнік развітаўся падкрэслена абыякава,— вяла паціснуў руку, адвярнуўся. Хутчэй за ўсё маскіраваўся — хацеў паказаць пры другіх, што не ўхваляе намеру майстра аставацца пры немцах. А можа, не ведаў?..

Развітаўшыся са Шмітам, Глушко заскочыў у кантору, паказаўся на вочы павесялеламу Грыбу, потым рушыў да

пуцейскай казармы, дзе была яго кватэра. Сёння субота, рабочы дзень кароткі. Напружанне сплыло, усё пакуль абышлося.

Раздвоеным, патайным жыццём Глушко жыве год. Не хібячы перад сабой, можа сказаць, што прывык. Можа, аказваецца, чалавек балансаваць на лязе брытвы, выдаваць сябе за другога, па-прыяцельску размаўляць з тымі, каму шкодзіць. Артыст? Ніякі ён не артыст. І нічога асаблівага не робіць. Проста і ў звычайным жыцці, калі няма ніякай вайны, чалавек не заўсёды выкладвае перад другімі тое, пра што думае і дамагаецца. А тут сам Бог загадаў...

Год назад, калі трэба было рашаць — аставацца ці не, Глушко думаў, што яму павінна хапіць хітрасці, асцярожнасці, каб пражыць сярод немцаў. Асцярожнасць ад ведання жыцця. Майстрам ён прабыў многа гадоў, меў справу з людзьмі добрымі і благімі, якія заўсёды мелі да яго, няхай сабе невялікага начальніка, свае патрабаванні, і каб ён не здолеў задавальняць гэтыя патрабаванні, людзі скардзіліся б, і, зрэшты, сталася б так, што яго з пасады майстра знялі б.

З другога боку, ён, майстар, адказваў за пуцейскую гаспадарку перад вышэйшым начальствам, і гэтая адказнасць была нават большай, чым перад рабочым людам, бо, калі б сышоў з рэек цягнік ці здарылася якая-небудзь іншая бяда, яго не толькі б знялі з пасады, а яшчэ і судзілі б. І ў мірным жыцці ён, Глушко, спакою не меў, да спакою не прывык, выключаючы хіба месячны адпачынак, калі за свой участак чыгункі ён не адказваў, ускладаючы адказнасць на плечы каго-небудзь з брыгадзіраў.

Вядома, ёсць вялікая розніца паміж даваенным яго жыццём і цяперашнім. Тады ён працаваў сумленна, хваляваўся, губляючы душэўны спакой з-за кожнай драбніцы. Цяпер пра чыгунку не думае, пляваць ён хацеў на чыгунку, па якой ездзяць немцы, і ўся яго дыпламатыя звернута на тое, каб даказаць немцам, што ён не мае дачынення да аварый, якія здараюцца на чыгунцы. Ёсць партызаны. На партызан можна спісаць нават тое, што робяць сяды-тады самі яны, падпольшчыкі.

У вачах немцаў і сваіх рабочых, выключаючы тых дзесяцярых, з кім Глушко звязаны канспіратыўнымі адносінамі, ён — акуратны майстар, які служыць немцам. Загады, якія

ён аддае, правільныя, яны на карысць немцам, ды інакш і нельга, бо калі б было інакш, то на пасадзе майстра ён не пратрымаўся б і дня. У немцаў ёсць свае вушы і вочы сярод рабочых — паскудства хапае,— і каб ён зрабіў хоць адзін няправільны крок, сказаў не тое слова, у той жа дзень гэта дайшло б да немцаў, а яны зрабілі б свае вывады.

Ён, Глушко, не баіцца смерці. Ідзе вайна, гінуць людзі, і не будзе нічога дзіўнага ў тым, што загіне яшчэ адзін чалавек. Ён баіцца загінуць па-дурному. А так здарыцца можа, сённяшні выпадак лішні раз пацвярджае такую магчымасць.

Двое хлопцаў, Якавенка і Станкевіч, якіх схапіла жандармерыя, звязаны з ім не былі, але Пятрэнка, без усялякага сумнення, справу з імі меў. Арышты, допыты сталі звычайнай з'явай. Кожны дзень каго-небудзь арыштоўваюць.

За складамі, збочыўшы з пуцей, Глушко бачыць будачніка Жарнавіка. Абходчык чакае яго, седзячы на стусе паржавелых труб. Каля ног — лазовы кошык з шурупамі.

— Прывет, Васільевіч! — Чорны, са скуластым татарскім тварам Жарнавік не тоіць радасці, што бачыць майстра жывога і здаровага.

— Не мог знайсці другога часу,— вітаючыся за руку, гаворыць Глушко.— Я толькі ад Шміта.

Жарнавік глыбока зацягваецца цыгаркай, хмурнее.

— Капае?

— А ты як думаў? Немцы не дурні.

— Хто-небудзь з нашых?

— Пакуль абышлося. Ты нічога не чуў?

— Чаму не чуў. Чатырох учора ноччу ў сасняку расстралялі. Бацьку хлопца, што рабіў у Чарняка, так схвасталі, што ноччу памёр.

Пачуўшы пра свайго брыгадзіра, майстар хмурнее. Азіраецца — нікога паблізу не відаць. На станцыю прыбыў эшалон, салдатня, звонячы вёдрамі і кацялкамі, бяжыць да кубавой па вар.

— Ты што думаеш пра Чарняка? — пытае майстар.

— Чорт яго ведае. Здаецца, як усе.

— Тады, як перашывалі чыгунку пасля скінутага мадзьярскага эшалона, быў выпадак,— напаўголаса расказвае

Глушко.— Пад разбітым вагонам знайшлі кавалак рэйкі. З прывязаным дротам. Чарняк убачыў, хацеў паказаць нямецкаму майстру. Я на яго цыкнуў, сказаў, што дрот прывязалі салдаты, як расчышчалі чыгунку.

— Думаеце, здагадаўся Чарняк?

— Ліха яго ведае. Можа, здагадаўся. Гэтыя дні я баяўся за яго. Думаў — ляпне па дурноце...

У наступную хвіліну абодва дранцвеюць ад страху. Проста на іх, сігаючы праз рэйкі, бяжыць нямецкі салдат. Забег за ярус труб, не зважаючы на мужчын, паспешліва спусціў штаны, прысеў...

Не згаварваючыся, пайшлі па засыпанай жужалем дарожцы ўзбоч чыгункі. Жарнавік, пазвоньваючы шурупамі, пераказаў навіны — сустрэчу славакам з Бондарам наладзіў, славак Міхаіл Сліва і яшчэ двое збіраюцца ў партызаны.

— Сліва кожны дзень у будку прыходзіць,— дабавіў абходчык.— Аж гарыць...

— Скажы, няхай асцярожней. Ён птушка вольная, а ў цябе сям'я.

Развіталіся, не даходзячы да пераезда, ля павароткі на казарму.

Год жыве патайным жыццём майстар Глушко, высока нясе буйную, з лёгкай сівізной на скронях галаву, на людзях, калі не адольвае, як у гэтыя дні, трывога, не губляе гумару і добрага настрою. Суседзі лічаць — умее жыць, не прападзе ні пры якіх пераменах. Ад немцаў чуў на ўласныя вушы, што паставай, тварам, нейкімі іншымі прыкметамі, аб якіх не здагадваецца сам,— выдае тып германскай пароды. Ведае добра — ніякіх германцаў у радні і блізка не было. Дзед, бацька, браты — усе былі рослыя, дужыя.

Год назад, можа, і сам не здагадваючыся, сасватаў яго на двайную службу начальнік дыстанцыі. Прывёз на дрызіне, прывёў у казарму да майстра двух хлопцаў. Прадставіў як рабочых Лунінецкай дыстанцыі, загадаў залічыць на работу, выдаць аванс. Лунінец захоплены немцамі, у рабочых, якіх прывёз начальнік, залішне мяккія рукі. Падазрэнне ў Глушко закралася ўжо тады, у першы дзень.

З двух астаўся адзін, Пятрэнка, з шэра-сінімі, жорсткімі вачамі і абыходлівымі манерамі. Напарнік Пятрэнкі праз

тыдзень шмыгануў на новае месца, а гэты яшчэ цэлы месяц, пакуль мянялі пакрамсаныя бомбамі рэйкі, пашчэпленыя шпалы, пад'язджаў з размовамі, выпытваў, вынюхваў.

Аднойчы падсеў да майстра на ваганетку-самаходку, а калі выехалі за станцыю, у сасняк, прапанаваў спыніцца, хоць перагон, дзе мяняла шпалы брыгада, быў наперадзе. Глушко падначаліўся: прадчуваў — наступае тое, чаго чакаў. Ваганетку знеслі ў адхон, адышліся ў кусты.

— Я вам не раю, майстар, эвакуіравацца,— сказаў Пятрэнка, верцячы самакрутку і выцягнуўшы з другой кішэні, каб пачаставаць Глушко, пачак «Казбека».

— Чаму?

— Таму, што вы той чалавек, які патрэбен тут.

— Чаму іменна я?

— Ва Унечы, у атрадзе ЧОН[1] служылі?

— Служыў.

— Калі не памыляюся — пасля ЧОНа — у шчорсаўскіх атрадах? За што вас узнагародзілі імянным гадзіннікам?

— За станцыю Злынку. Захапілі браняпоездам. Мяне паслалі наперад — ноччу перавёў стрэлку.

— Вашага брата расстралялі балахоўцы. Як здарылася, што ён, чырвоны камандзір, трапіў да балахоўцаў?

— Быў хворы тыфам. Прыехаў лячыцца дадому.

— Самі бачыце, Адам Васільевіч, каму ж, як не вам, заставацца? У вас — вопыт. А гэта — галоўнае.

— Хто вы такі? — спытаў майстар.

Пятрэнка, дастаючы з задняй кішэні кніжачку ў чырвонай вокладцы, як бы ненарокам выцягнуў і тут жа, патрымаўшы ў далоні, схаваў маленькі, падобны на дзіцячы пугач, пісталецік.

— Чэкіст, Адам Васільевіч. Думаю, мы, рускія людзі, адзін другога не выдадзім.

— Хоць ты і чэкіст, але не надта добра абмазгаваў,— набраўшыся адвагі, выпаліў Глушко.— Анкету вывучыў — дзякуй. Толькі забыў, што на станцыі анкету чытаў не адзін ты. Пра імянны гадзіннік ведае кожны рабочы...

---

[1] ЧОН — часці асобага прызначэння.

— Правільна. А я нічога такога не патрабую. Толькі астацца. Запросяць немцы на работу — добра, не запросяць — Бог з імі. Вы — беспартыйны, за імянны гадзіннік, можа, не пакараюць. Не забывайце. Адам Васільевіч, не па асабістай ахвоце я трачу з вамі час.

Майстар згадзіўся. Пакутаваў ад няпэўнасці, ад таго, што ні з адным, нават самым блізкім чалавекам не мог падзяліцца сумненнямі. Падпісваючы загадзя падрыхтаваную Пятрэнкам паперку, пачуў яго з'едліва-насмешлівы голас:

— Я, гаспадзін майстар, буду ў вас работаць, а вы ў мяне — служыць...

Пасля апошняй, самай жорсткай бамбёжкі Глушко запрог каня — быў у чыгуначнай гаспадарцы адзін конь — і перавёз сям'ю ў вёску, да жончынай сястры. Трохі болей за месяц адпачываў душой — касіў, кутаў сваячцы плот, наслаўшы ў хляве невялікі тачок, абіваў снапы.

Пятрэнка як у ваду глядзеў — знайшлі і ў вёсцы. У той дзень са старэйшым сынам падаліся на рыбу. Боўталіся, зняўшы штаны, у зарослай па берагах аерам рачулцы, разпораз выкідваючы з лазовай таптухі на траву серабрыстых акунькоў і плотачак, радаваліся ўлову, калі ўбачылі на поплаве Колю, меншага. Сын бег ва ўвесь дых, махаў рукамі. Не дабегшы, спалохана, пранізлівым голасам ускрыкнуў:

— Тата, цябе немцы пытаюцца!

Першым жаданнем, якое ўладна адчуў у сабе, было кінуцца ў кусты, схавацца, з'інвчыцца. Але на яго з пабялелым тварам глядзеў старэйшы сын, цяжка дыхаў на беразе меншы. Сказаў, як мог, спакайней:

— Падбярыце рыбу...

У парваных, падкасаных штанах, дзіравых, на босую нагу апорках ён паўстаў перад Шмітам — тоўстым чырванатварым бухгалтарам, які да вайны працаваў у канторы «Заготжывёла», якога ён дагэтуль не ведаў,— і немцам у чорным чыгуначным мундзіры. Прыехалі па яго на вайсковым грузавіку, прапанавалі неадкладна пераязджаць на станцыю.

Так пачалася служба Глушко ў немцаў. Зімой Пятрэнка звязаў майстра з загадчыкам сталовай Тапарковым, ад Тапаркова працягнулася нітачка да Бондара, які ў пачатку лета вывеў частку падпольшчыкаў у лес.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

### I

Фінансавы аддзел, дзе Міця працуе рахункаводам па страхоўцы, размяшчаецца ў правым крыле будынка ўправы. У доўгай, як калідор, канцылярыі некалькі сталоў узбоч сцен. Канцавы стол як бы завяршае гэты парад, ён і пастаўлены дзеля гэтага папярок пакоя. За ім начальнік аддзела Мікалай Пілеўскі, шыракаплечы чарнявы прыгажун з густымі бровамі.

Непасрэдны Міцеў начальнік, інспектар па падатках Кузьма Хібенка, хударлявы, даволі малады хлапчына. Яго стол побач з Міцевым — ля самых дзвярэй.

Абавязкі ў Міці нескладаныя, і, пахадзіўшы з тыдзень на службу, збольшага ён іх ведае. З кніг падворнага перапісу будынкаў трэба скласці ведамасць іх грашовай вартасці, падбіць суму па вёсках, з тым, каб пазней вылічваць страхавы працэнт. Работа нецікавая, нудная, і з самага пачатку Міця адчувае яе фальш.

Да лета былі ва ўжытку савецкія грошы, нядаўна іх памянялі на карбованцы, выпушчаныя Ровенскім банкам: Прыдняпроўска-Прыпяцкія раёны Палесся, як і Брэстчына, аднесены да Украіны, але на карбованцах надпісы нямецкія. Карбованцы — не болей, чым паперкі, бо нават за маркі не надта купіш. У крамах за грошы нічога не прадаюць.

У фінаддзеле гэтага як бы не заўважаюць. Стракочуць арыфмометрамі, ляскаюць костачкамі лічыльнікаў, падрахоўваючы не толькі рублі, а і капейкі.

Мікалай Пілеўскі з нядаўняга часу кватаруе ў Міцевай аднакласніцы Веры, займаючы з братам, у якога інакшае прозвішча, бакоўку, і Міця пра яго сёе-тое ведае. Пілеўскі — з раскулачаных. Бацьку саслалі на Салаўкі, і, каб вырабіцца з бяды, сын змяніў прозвішча. Яму не адмовіш у дасціпнасці, розуме, але ў мірным жыцці, відаць, з прычыны паходжання, надта высокіх вяршынь не дасягнуў. Працаваў у Грузіі ў вінаробчым саўгасе бухгалтарам. Пілеўскі ведае грузінскую мову, пры выпадку ахвотна казырае незнаёмымі словамі.

Рабочы дзень у фінансавым аддзеле пачынаецца з анекдота, які расказвае начальнік. Анекдоты ў Пілеўскага смешныя, трохі бессаромныя — дзяўчаты-картатэтчыцы чырванеюць, затыкаючы для прыліку пальцамі вушы, а мужчыны рагочуць.

Смех цягнецца доўга, але не столькі з анекдота, колькі з бухгалтара Шайсы, тоўстага старога з чырвоным круглым тварам і сінімі пукатымі вачамі. Шайса надзвычай цікаўны, аж гарыць ад узбуджэння, прагнучы пачуць навіну, але рэагуе запознена. З начальнікавага анекдота смяецца апошні, калі смех зрэшты сціхае, а бухгалтары, картатэтчыкі пачынаюць шасцець паперамі. У гэты час з грудзей старога вырываюцца гукі, падобныя на булькание вады, якую выліваюць з бутэлькі. Не могучы стрымацца, ён кладзе галаву на стол, трасецца ўсім целам. Услед за Шайсай — ужо ў другі заход — хіхікаюць дзяўчаты. Нарэшце Пілеўскі насупліваецца — пачынаецца работа.

У фінансавым аддзеле пра самае галоўнае — пра вайну, выбухі на чыгунцы — не гавораць, як бы нічога гэтага няма.

Адзін толькі раз прарвала Пілеўскага. У камандзіроўку ў дальнюю воласць мусіў ехаць нехта з падатковых інспектараў, а Шайса заявіў, што там, па чутках, партызаны.

— Трэба канчаць з бандытамі! — не тоячы раздражэння, усклікнуў Пілеўскі і адразу прыкусіў язык.

Увогуле начальніка фінаддзела, акрамя ўласнай асобы, здаецца, нішто асабліва не цікавіць. Ён фарсіць у новым, пашытым па фігуры, касцюме — прыбыткі шаўцоў, краўцоў кантралююцца фінаддзелам, і Пілеўскі мае выгоду. На яго заглядаюцца сакратаркі, машыністкі, але ён увагай не раскідваецца, ходзіць з адной дзяўчынай, картатэтчыцай Галінай Машко, высокай, чарнявай, надзвычай смяшлівай. Пры Пілеўскім яна адразу сур'ёзнее. Іншы раз, стаіўшыся ў куточку, ціха плача, паспешліва выціраючы слёзы хусцінкай.

З людзей, якія працуюць у фінансавым аддзеле, Міця выдзеліў двух — бухгалтара Грымака і свайго непасрэднага начальніка Хібенку. Яны здаюцца не тымі, за каго сябе выдаюць, і выклікаюць вострую цікавасць. Грымак — Міця з твару ведае яго даўно — да вайны працаваў у пагрузачнай канторы, налічваў грузчыкам заработак. Быў у лесе, у знішчальным

батальёне, вярнуўся ў мястэчка разам з Сяргеем і Аўсянікам. Але тых, хто быў у партызанах, немцы расстралялі. Уцалелі двое — Грымак і Адамчук, майстар з чыгункі. Яны адразу пайшлі на службу, і немцы іх не чапаюць.

З выгляду Грымак — бесклапотны. Пасля анекдота начальніка яго раскацісты бас пакрывае астатнія галасы. Немалады, у ёжыку высока падстрыжаных валасоў серабрыцца сівізна, але ходзіць у белых, акуратна адпрасаваных безрукаўках, спартыўных тапачках. Да Міці — пра арышт яго пэўна чуў — з першага разу паставіўся прыхільна.

Аднойчы яны ўтрох — Міця, Хібенка, Грымак — асталіся пасля работы, выйшлі ў скверык, прыселі на лаўцы. Негарачае сонца хавалася за лес, край зацягнутага воблакамі неба — у залатых водсветах.

— Як жывеш, Хібенка? — нібы ў незнаёмага, спытаў Грымак.

— Ды проста так, Іван Міхайлавіч. Дзе скокам, дзе бокам. Дзень ды ноч — суткі проч.

— Значыць, па анкеце — беспартыйны, малаграматны, несудзімы...

— Накшталт таго.

Болей за ўвесь вечар ніводнага сур’ёзнага слова. Хібенка таксама выдае сябе бесклапотным. Рукавы падкасаны, на штанах акуратная складка, і дзяўчына ёсць — чарнявая тоўсценькая Шура, да якой падатковы інспектар шыбуе штовечар. На размовы пра становішча на фронце Хібенка не адгукваецца. Міця разы два зачынаў і перастаў. Сумна ад думкі, што так паводзіць сябе чалавек, які да вайны служыў у кадравых войсках, а трапіўшы ў акружэнне, прыбіўся дамоў і радуецца, што дазволілі ляскаць на лічыльніках.

Сумна, паныла ўсе гэтыя дні на душы ў Міці. Драгун з мястэчка знік, і сувязі з ім няма. Работа ў фінансавым аддзеле для Міці не мае сэнсу. Нічога ён тут не зробіць. Пра арышт не забылі, будуць прыглядваць. Ён, як бычок на шворцы,— далёка не пабяжыць.

Аддаўшыся невясёлым думкам, Міця перагортвае кнігі падворнага перапісу. Колькі ў раёне вёсак, вёсачак, пра якія ён нават не чуў, не ведаў назваў! У школе вывучалі геаграфію

зарубежных краін, гісторыю старажытных і новых народаў, а пра тое, што ляжыць вакол мястэчка, ніхто слова не сказаў. Як і чым жывуць гэтыя Піляцічы, Грамы, Азяркі, Літвінаў, Альхоў, Рагалі?..

У адзін з тых дзён Міця наткнуўся на падворную кнігу спаленых Вербічаў. Стала млосна, непрыемна, але ён перасіліў сябе, пачаў гартаць тоўсты сшытак, у якім мясцовы пісар пералічыў кожную, самую маленькую будыніну двара. Хата, хлеў, клуня, імшанік. Імшанік — для пчол, у яго на зіму хаваюць вуллі... Сто дваццаць два двары, не меней чым пяцьсот душ насельніцтва. Старых, малых, хворых, здаровых. Дзе яны?..

Перад вачамі як бы паўстала вёска, зялёныя прысады, ігрушы-дзічкі па агародах, вялізнае гумно, у якім ён летась начаваў. Поўнячыся няўрымслівым, балючым сумам, не могучы стрымацца, Міця на ўвесь голас пытае:

— Хто заплаціць страхоўку за Вербічы? Яны ж спалены...

На хвіліну ў пакоі ўсталёўваецца цішыня, Міця бачыць спалоханы, пабялелы твар Хібенкі.

— Гасподзь Бог заплаціць,— чуецца зычны голас Пілеўскага.— У яго грошай болей, чым у фінаддзеле.

Ляскаюць лічыльнікі, трашчаць арыфмометры, але ніхто нават не ўсміхнуўся...

Навіны ў мястэчку адна за другую горш. З-пад Харкава, з вясновага акружэння, прыбіўся дамоў Цімох Груда, былы сакратар пасялковага Савета, і Марыя Іванаўна кінулася да яго, каб што-небудзь прачуць пра мужа. Муж яе, старшыня Савета, пайшоў у армію разам з Грудай. Тое, што расказвае былы сакратар, не лепш за нямецкія зводкі. Марыя Іванаўна сумна ўздыхае, але, пераказваючы пачутае, не забывае дадаць, што мужа яе пад Харкавам не было, іх з Грудай разлучылі яшчэ летась...

Другая навіна яшчэ болей балючая. Каля вёскі Лужынец, на сасновым узгорку, паліцыя абкружыла і вынішчыла атрад — васямнаццаць чалавек. Атрад не мясцовы, а па ўсіх прыкметах прысланы з-за лініі фронту. У хлопцаў і дзяўчат былі аўтаматы, але яны не забілі ніводнага паліцая. Паляглі спаць і не прачнуліся. З аўтаматам, на каробцы якога выразна

відаць лічба «1942», пахаджвае па мястэчку прыземісты круглатвары начальнік паліцыі Зыскевіч-Будзілоўскі. Міця нават бачыў гэты аўтамат...

Божа, калі кончацца паражэнні, адступленні і на якім рубяжы?..

За сумненні, згрызоты, адчай — маленькая ўдача. Міця атрымаў заработак — сто пяцьдзясят карбованцаў за паўмесяца. Ідучы да Лобіка, завітаў на станцыю — якраз спыніўся мадзьярскі эшалон, шыракаплечыя, з сялянскімі тварамі салдаты ў цёмна-зялёных мундзірах бегаюць па пероне, паспешліва, з-пад крыса прапаноўваюць чыгуначнікам штосьці на продаж. Міця ішоў уздоўж эшалона з тыльнага боку, калі да яго, вынырнуўшы з-пад вагона, падбег задыханы пажылы салдат. «Камрад, купі...» Спакуса, перамешаная са страхам, нарадзілася імгненна. «Колькі?» — спытаў Міця, нямеючы ад сумнення — ці адрозніць мадзьяр маркі ад карбованцаў.

«Эйнгундэрт фуфцыг...» Дрыжачымі рукамі Міця выцягнуў з кішэні тры хрусткія, новыя паперкі, на кожнай з якіх вялікая лічбіна «50». Лічбы салдат ведаў, а чытаць не ўмеў. Сунуўшы Міцю ў рукі картонны футлярык з гадзіннікам, зладзеявата азірнуўшыся, мадзьяр шуснуў пад вагон.

Міця пабег. Сто пяцьдзясят карбованцаў — гэта толькі пятнаццаць марак. За такія грошы можна купіць запальнічку, а не гадзіннік. Але ў салдата зброя, і ў дадатак да гадзінніка можна атрымаць кулю.

Адбегшыся, Міця зводдаль назірае, што робіцца на пероне. Нічога асаблівага — мітусня, штурханіна. Перавёў позірк на ўзбочыну кар’ера, у якім капаюць гліну, і анямеў — трое высокіх мадзьяр, шчыльна абкружыўшы, б’юць чалавека ў цывільнай вопратцы. Стала брыдка, агідна, Міця не ведаў, што рабіць...

Эшалон рушыў, Міця вярнуўся на станцыю. Ля воданапорнай калонкі паліцай Семашкевіч, які да вайны працаваў настаўнікам, абмываў скрываўлены твар. За гадзіннік яго білі ці за што іншае, Міця не папытаўся...

## II

Бургамістр Крамер, ідучы з жонкай у госці да ляснічага Лагуты, запыніўся ў гарадку — так называюць колішнюю сядзібу лясной школы. Зеўраюць правaламі вокан будынкі вучэбных карпусоў, інтэрнатаў. Запусценне не так кідаецца ў вочы, бо вакол зеляніна. Гарадок наўсцяж засаджан таполямі.

Не зважаючы на нецярпенне жонкі, Аўгуст Эрнэставіч акідвае паглядам будынкі: немцы просяць новых памяшканняў, то няхай рамантуюць гэтыя і размяшчаюцца.

Двор старшага ляснічага на ўскраіне таполевага царства. Не двор, а харомы — дом з васьмі ці дзесяці пакояў, капцільня, лазня, мноства ўсялякіх гаспадарчых прыбудовак.

За адзін год зрабіўся старшы ляснічы самым багатым у мястэчку чалавекам. Дзіва няма тут: пад камандай Лагуты восем лясніцтваў. Аўгуст Эрнэставіч Лагуце не зайздросціць. Жонцы даў наказ: лішняга ад старастаў, бургамістраў валасцей не браць, за ўзятае плаціць грошы.

У душы Аўгуст Эрнэставіч не ўхваляе прагі да ўзбагачэння, якая захліснула ледзь не ўсіх, хто зрабіўся начальствам. Немцы на ўсё глядзяць скрозь пальцы. Самі любяць пагрэцца. Бяруць хабар, ахвотна ходзяць на пагулянкі. Пагаворку выдумалі: «На вайне як на вайне».

Лагута — кароткі, шыракатвары, тоўсты, як бочка,— якраз такімі малявалі бальшавікі на плакатах буржуяў. Але і пры бальшавіках Лагута быў старшым ляснічым, толькі тады над ім стаяў яшчэ дырэктар. Нягледзячы на свой жывот, ляснічы надзвычай рухавы. Пры паяўленні Аўгуста Эрнэставіча прыйшоў у найвялікшае ўзбуджэнне, замітусіўся, выказваючы на шырокім твары прыкметы ўзрушэння і радасці.

— Аўгуст Эрнэставіч, міласці просім! Шчыра рад, Гертруда Паўлаўна! Давайце ваш плашчык. Аня, павесь плашчык Гертруды Паўлаўны. У шафу павесь, там не запыліцца...

Анна Восіпаўна — жонка ляснічага — не ў прыклад свайму чалавеку доўгая, худая, з выцягнутым тварам. За сорак кабеціне, а сукенка — з шырокім выразам на грудзях і плячах. Паганяе маладосць, хоць хваліцца няма чым ні на грош — жоўтая, як печаны яблык, скура, пляскатыя грудзі.

Гасцей — парадкам. З прыхожай чуе Аўгуст Эрнэставіч раскацісты рогат аграномa Спыхальскага, звонкія трэлі загадчыка млыноў Хвядосіка, пералівісты, як сабачы брэх, смех новага начальніка паліцыі Зыскевіча-Будзілоўскага. Бургамістр, прапускаючы наперад жонку, заходзіць у залу, і госці імгненна змаўкаюць. Падымаюцца з-за круглага століка, за якім гулялі ў карты, падыходзяць да Гертруды Паўлаўны.

Аўгуст Эрнэставіч у сваю чаргу выказвае адзнакі кавалера і, стараючыся ступаць мякчэй, кіруецца ў куток, дзе на канапах між фікусаў жаночы збор. Жонкі начальнікаў аж расцвітаюць, калі бургамістр кожнай па чарзе пацiскае руку. Цалаваць рук ён не ўмее і ў душы нават пасмейваецца з гэтага далікацтва.

Мужчыны садзяцца за столік. Трое стаяць, назіраюць. Аўгуст Эрнэставіч далучаецца да іх — у карты ён не гуляе. Спыхальскі раздае карты. Гульня пакуль бяскрыўдная і, на думку Аўгуста Эрнэставіча, сумная — у шэсцьдзясят шэсць. Калі госці падап'юць, пачнуць у ачко, на грошы.

Не гуляе ў карты і бургамістраў намеснік Лубан, шыракаплечы чарнявы мужчына гадоў сарака. Узяў яго да сябе ў памочнікі бургамістр позняй восенню, калі раённая ўправа ўжо фактычна працавала.

Бургамістр крануў за рукаў Лубана:

— Выйдзем, Сяргей Дзмітравіч.

Аўгуст Эрнэставіч насуперак уласным правілам два дні не паяўляўся на службе: прыехалі дзве жончыны сястры — родная і стрыечная.

Бургамістр з намеснікам выйшлі на алейку.

— Што новага ? — пытаецца Аўгуст Эрнэставіч.

— Прыязджаў Князеў з Піляціч. Неспакойны. Бажыўся, што ў Літвінаўскім лесе два атрады партызан. Гаворыць — звесткі дакладныя.

— Князеў у жандармерыі быў?

— Быў.

— Ну і што?

— Пасля забойства Швальбе і Плішчынскага немцы ў лес не палезуць.

— Вы верыце ў гэтыя атрады?

— Цяжка сказаць,— твар у намесніка хмуры.

— А я не веру! — бургамістр хвалюецца.— Паніка. Князеў хоча свае бясчынствы апраўдаць, таму палохае партызанамі.

— А Буйкі? — пытаецца Лубан.

— Даліся вам у знак Буйкі. У другіх раёнах налёты на валасныя ўправы, а ў нас за лета — на адну вёску. Я не пярэчу — група злачынцаў ёсць. Але — не два атрады. Два атрады — гэта ж сотні людзей. Адкуль яны ўзяліся?

— Хто ж тады нападае на чыгунку ледзь не кожную ноч?

Крамер, насупіўшыся, маўчыць. Сінее мяккі прыцемак. Пад нагамі шамаціць апалае лісце.

— Зборышча партызан у Акцябрскім раёне,— нарэшце гаворыць бургамістр.— Там лес, балоты, непраходная мясцовасць. Адтуль робяцца налёты на чыгунку. Нямецкая армія — на фронце. Яна пакуль не можа распыляць сілы, каб пакончыць з партызанамі. Заўважце — найбольш неспакойна ў суседніх з Акцябрскім раёнах.

— Не трэба спрашчаць, Аўгуст Эрнэставіч. І ў другіх месцах ёсць партызаны.

Ідуць па алейцы моўчкі. У доме ляснічага ярка асветленыя вокны. У вячэрнюю часіну драўляны з чатырохскатным дахам дом, атулены прысадамі таполяў, нагадвае палац.

— Не разумею, што людзям трэба,— у бургамістравым голасе горыч.— Можна мірна жыць. Араць, сеяць, гадаваць дзяцей. Хіба мала за год зроблена? Хлеба не было, але ж з голаду ніхто не памёр. Немцы летась пайшлі на ўступкі, зменшылі пастаўку. Армія, якая ваюе, адмовілася ад таго, што ёй належыць. То гэта ж цаніць трэба. Я гэта гаварыў і не перастану гаварыць. Чаго хочуць тыя, што падымаюць на немцаў зброю? Сляпому відаць — вайну бальшавікі прайгралі. Дзе немцы? На Каўказе, на Волзе, у іх рускі хлеб, вугаль, палавіна насельніцтва. Я раней думаў: даб'юцца немцы перамогі і тут, у тыле, усё аціхне. Выходзіць наадварот. Нічога не разумею...

— Усё гэта так, Аўгуст Эрнэставіч,— гаворыць Лубан пасля працяглага маўчання.— Але партызаны ў раёне ёсць. Прытым мясцовыя. Толькі яны стараюцца сябе залішне не паказваць. Можа, таму, што слабыя, баяцца за сем'і. Іх сем'і — у вёсках.

— А старасты, паліцэйскія куды глядзяць?

— Туды і глядзяць. Стараста з Прудка вытыркнуўся — знішчылі. Фінагента ў Малкавічах таксама забілі...

На ганку тупат ботаў, нямецкія галасы. Прыйшлі жандары. Макам рассыпаецца Лагута — сустракаць немцаў выскачыў на ганак.

— Паходзім яшчэ,— прапануе бургамістр,— не люблю вэрхалу.

Яшчэ з паўгадзіны яны шпацыруюць па алеі. Нарэшце ззаду таропкія крокі, перарывісты дых. Бяжыць Лагута.

— Аўгуст Эрнэставіч, дзе вы прапалі? І вы, Сяргей Дзмітравіч... Ведаеце ж — без вас пачынаць нельга...

* * *

Застолле ў ляснічага багатае: смажанае, варанае — навалам. У цэнтры стала, дзе з аднаго боку сеў Аўгуст Эрнэставіч, а з другога тры немцы-жандары на чале з маёрам Шэрманам, на блясе-патэльні — засмажанае парасё. Светлавалосы, з хударлявым тварам маёр не зводзіць з парасяці вачэй.

— Das Haut einen im sämtlicllen Winkel! — ускліквае нарэшце маёр, і унтэр-афіцэр Красоўскі, які сядзіць побач з ім, адразу перакладае:

— Пан маёр здзіўлены. Как эта правільна выразіт — карціна ест сногсшыбацельна.

Красоўскі — ён ужо даволі добра гаворыць па-руску, дадае і ад сябе:

— Я магу паверыт, што ляснічы наступны раз зажарыт нам лясны мядзведзь...

Госці смяюцца — жандар дасціпны. Гучней за ўсіх рагоча Лагута — аж калышацца над белай сарочкай жывот.

Першы тост за гаспадара. Падымае яго Аўгуст Эрнэставіч. Тост нешматслоўны — не першы раз збіраюцца ў Лагуты.

Пасля таго як мужчыны выпілі па шклянцы, жанчыны — па чарачцы, асноўная ўвага засяроджана на тым, каб напаіць жандараў.

Маёр на сваю поўную, як вока, шклянку глядзіць з жахам.

— Пан маёр,— упрашвае Лагута.— Бітэ трынкен русішэ шнапс.

На дапамогу гаспадару прыйшлі аграном Спыхальскі і начальнік паліцыі Зыскевіч-Будзілоўскі. Сабе яны налілі па другой шклянцы.

— Es ist unmöglich[1],— бароніцца маёр.

Падае прыклад жандар, што сядзіць справа, тоўсты і маўклівы. Трымаючы на відэльцы памідор, ён адным дыхам апаражняе шклянку.

Хваля натхнення находзіць і на маёра.

— Das Glück ist dem kühnen Hold! — выгуквае ён.— Aber ein Schluck Wasser[2].

Маёру падаюць кубак з вадой. Глытнуўшы самагонкі, ён адразу папярхаецца. Але трымае сябе мужна: адпівае глыток вады, заплюшчыўшы вочы, як бы кідаючыся ў вір галавой, даканчвае шклянку. Ва ўзнагароду маёру — воплескі.

— Болей не паіце,— падазваўшы Лагуту, шэпча бургамістр.— Ведаеце, з непрывычкі...

Пасля таго як маёр выпіў, на яго звяртаюць менш увагі. Затое ён цяпер сам хоча выдзеліцца. Сп’янеў імгненна, крычыць, размахвае рукамі — выгуквае тосты.

З-пад сініх абажураў-парасончыкаў ліецца мяккае святло. Дзве жанчыны-прыслужніцы разносяць новыя стравы. Багата жыве ляснічы Лагута і не скупіцца на пачастунак. На талерках дыміцца лёгкай парай вараная ружаватая трусяціна, апетытна ззяюць залацістым тлушчам засмажаныя, начыненыя яблыкамі індычкі, плаваюць у масле тлустыя карасі. Новая закуска — новы тост. Кампанія падпіла. Не сціханы, бязладны гул, выгукі.

Песня ўзнікае як няпрошаная госця. Звычайна, калі ў кампаніі немцы, песень не спяваюць. Нямецкіх ніхто не ведае, савецкія пад забаронай. Аграном Спыхальскі знайшоў выйсце — заспяваў пра брадзягу, пра возера Байкал. Песня даўняя і да палітыкі дачынення не мае.

---

[1] Гэта немагчыма.

[2] Адвага гарады бярэ! Але глыток вады.

У Спыхальскага прыемны, досыць выразны бас.

По диким степям Забайкалья,
Где золото роют в горах...

Песня адразу прыйшлася да густу, з’яднала нястройныя, нязладжаныя галасы. На немцаў ніхто не зважае, а можа, наадварот, кампанія хоча выхваліцца перад імі. Аўгуст Эрнэставіч у першую хвіліну адчуў няёмкасць, а потым і яго захліснула звонкая, нястрымна-шырокая плынь. Далучыўся да спевакоў і адчуў, як расце ў грудзях пякучая, помслівапрыемная радасць. Дзесьці глыбока, на мяжы пачуцця і думкі, мільганула: і ён усім жыццём сваім прылучаны да гэтай шырыні, разлегласці, сілы і смутку.

Бродяга к Байкалу подходит,
Рыбацкую лодку берет,
Унылую песню заводит,
О родине что-то поет...

Пры дзвярах з падносамі на руках застылі жанчыныпрыслужніцы. На іх пасвятлелых тварах недаўменне. Нязвычны малюнак — свае спяваюць, немцы слухаюць.

Песня скончылася, і адно імгненне панавала нязвычная цішыня. Гучна заляскаў у далоні маёр.

— Russischen Lieder — gut, hübsch! — не тоячы захаплення, выгуквае ён.— Uns, Deutschen, russische Lieder herzlich angenehm...[1]

— Мы пяем рускі песня,— не лічачы патрэбным перакладаць словы начальніка, зычна аб’яўляе Красоўскі.— Мы, тры немцы, жандар...

Жаночы, кіслы твар унтэр-афіцэра цяпер узбуджаны.

Блiснуў нікеляванымі бляшкамі губны гармонік. Жандар аберуч прыкладае гармонік да тонкіх вуснаў і, як бы намацваючы нябачную сцежку, пачынае іграць. Маёр і тоўсты жандар падпяваюць. Словы далёкія, чужыя, а песня — свая. Прымоўклі госці, услухоўваюцца.

[1] Рускія песні — добрыя. Мы, немцы, з прыемнасцю іх слухаем.

Mutter Wolga singt ein Liedchen
Von dem wildem Reitersmann,
Stenka Rasin, diesem Helden,
Donkozaken Ataman[1].

У маёра голас піскліявы, у суседа яго — хрыплы, нячысты, але прыемнейшы. Ён маўчун, за ўвесь вечар слова не прамовіў, а тут, абшчапіўшы твар валасатымі далонямі, цягне з асалодай.

Einst fuhr er durch ihre Wellen,
Seine Liebchen hielt umspannt,
Und sie lehnt an seine Schultern,
Drückte heiss die rauhe Hand[2].

Адкінуўшыся на спінку крэсла, Аўгуст Эрнэставіч маўчыць, ахоплены супярэчлівымі пачуццямі. Песня старая, пра рускую раку, атамана Сценьку Разіна, але на нямецкі лад. Яе спявалі салдаты кайзера Вільгельма, калі прыходзілі ў васямнаццатым годзе. Тады ён, Крамер, быў малады, стаяў з боку ад немцаў. Цяпер стары і разам з імі.

Donkozaken blisken böse,
Stenka Rasin sieht es nicht,
Weil die schöne Persenfürstin
Leise Liebesworte spricht...[3]

---

[1] Маці Волга спявае песеньку
Пра свайго дзікага наезніка,
Пра Сценьку Разіна, героя,
Казацкага атамана.

[2] Аднойчы плыў ён па яе хвалях,
Абдымаючы сваю каханку,
А яна, прытуліўшыся да яго пляча,
Ціснула шурпатую яго руку.

[3] Данскія казакі пазіраюць злосна,
Але Сценька Разін нічога не бачыць,
Бо цудоўная княжна-персіянка
Шэпча яму словы кахання...

Калі немцы скончылі спяваць, некаторы час панавала цішыня. У Крамеравай суседкі, жонкі яго намесніка, чарнявай кабецінкі, слёзы на вачах. Яна выцірае іх хусцінкай, а вусны ўздрыгваюць. Нарэшце запляскалі ў далоні...

## III

Аўгуста Эрнэставіча, як толькі ён увайшоў у свой двор, вяртаючыся ад Лагуты, крануў за рукаў конюх Якаў. Позна — спяваюць другія ці трэція пеўні.

— Пачакайце,— зашаптаў Якаў у самае вуха.— Бяда...

Сагнуты, прыгорблены Якаў — свой чалавек — конюх, добраахвотны вартаўнік бургамістравага дома, і ад нядобрага прадчування па целе Аўгуста Эрнэставіча пайшлі дрыжыкі.

— Ідзі ў хату,— загадаў жонцы.

Разам з Якавам прысеў на лавачку пры палісадніку, застыў у трывожным чаканні.

— Яўрэйка прыйшла,— зашаптаў Якаў.— Разам з хлопчыкам. Шукае прытулку. Кажа, добра вас ведае, разам жылі...

— Якая яўрэйка? — Кроў ударыла Аўгусту Эрнэставічу ў галаву, па скронях як бы застукалі маленькія малаточкі.

— Сказала, што прозвішча Кацман. Хлопчыку гадоў восем. Просіць, калі нельга схаваць яе, то хоць аднаго хлопчыка...

У памяці імгненна ўсплыла прыстань ля ракі, драўляны аднапавярховы гарадок, дзе гадоў восем назад жыў ён, Крамер. Жыў у адным, барачнага тыпу, доме з Кацманам, такім жа, як ён, прыёмшчыкам, рухавым, маладзейшым за яго гадоў на дзесяць, яўрэем. Яўрэй выручаў: аднойчы ён, Крамер, доўга хварэў. Год быў цяжкі — пайкі, картачкі, пуда бульбы не купіш, і Кацман дзяліўся ўсім, чым мог.

— Дзе яна, гэтая жанчына? — спытаў Аўгуст Эрнэставіч дрыжачым голасам.

— Сядзіць у хляве. Прыйшла вечарам. Я не хацеў пускаць, але яна сказала, што знаёмых няма, а на вуліцы схопяць. Хоча з вамі пабачыцца.

Страх не праходзіў, трымаючы Аўгуста Эрнэставіча ў моцных, як абцугі, абдымках. Выйсця не бачыў: выгнаць

жанчыну не мог і пакінуць не мог таксама. Зразумеў толькі прычыну, па якой яўрэйка прыйшла менавіта да яго. З таго самага гарадка, адкуль яна, тры дні назад прыехалі жончыны сёстры. Відаць, яўрэйка дачулася, лічыць яго вялікім начальнікам.

— Можа, куды на сяло яе сплавіць? — асцярожна выказаўся конюх.

Страх паступова мінаў. Аўгуст Эрнэставіч ужо ведаў, што нешта зробіць. На смерць чалавека не пашле. Немцы яўрэяў расстрэльваюць — гэта іхняя справа. Ён у яе не ўмешваецца, рукі яго чыстыя. Яўрэі — таксама людзі, хочуць жыць. Але бачыцца з жанчынай яму неабавязкова. У выпадку, калі схопяць яе, можа выдаць. А ў яго таксама сям'я.

— Вось што, Якаў,— сказаў Аўгуст Эрнэставіч ужо зусім спакойным голасам.— Ідзі да Забелы, млынара. Прывядзі сюды. Паліцэйскія цябе ведаюць, прапусцяць. І каб ніводнага слова нікому. Зразумеў?

— Зразумеў.— Конюх падняўся.— Я пайду агародамі.

— Ідзі кудой хочаш.

Зайшоў у дом, устрывожаная жонка не спала.

— Што там такое, Аўгуст?

— Ды нічога. Паніка. Якаў гаворыць, што нехта лез да нас у двор.

— Вось бачыш. Я даўно казала, што трэба паставіць варту.

— Спі. Хопіць Якава. Лепей, чым ён, нас ніхто не абароніць. Я пабуду на дварэ — галава баліць.

Сядзеў на лавачцы, прыхінуўшыся спіной да шчыкетніка, думаў. Хмель як рукой зняло. Былі ўжо два выпадкі, калі разагнаныя па свеце яўрэі забрыдалі ў мястэчка. Зімой прыплыў загадчык гасцініцы Рубін. Дурань, і на яўрэя не вельмі падобен, мог бы прыткнуцца ў глухой вёсцы, дзе яго ніхто не ведае, а ён прыйшоў шукаць абароны да Рыгмана, знаёмага немца, які перабраўся ў мястэчка. Рыгман — сволач, прадаў чалавека з ахвотай. Другога яўрэя, настаўніка, прадаў настаўнік Піліпук, які цяпер фінагентам у Малкавічах. Гэта сакрэты жандармерыі, але Аўгуст Эрнэставіч іх ведае. Жандары ад яго пакуль не тояцца.

Аўгуст Эрнэставіч устаў, прайшоўся па двары. Халаднавата стала ноччу, блізка восень. Год назад, у такую якраз пару,

яго паставілі бургамістрам. Аўгусту Эрнэставічу здаецца, што было гэта даўно-даўно. Здоўжыўся яму гэты год...

З боку агарода пачуліся таропкія крокі. Рыпнула фортка, і з цемені выплыла мажная постаць Забелы. Якаў адышоўся ўбок — не хоча слухаць размовы.

— Што такое, Аўгуст Эрнэставіч? Я сам не свой.

Бургамістр маўкліва павітаўся з млынаром за руку, падвёў да лавачкі. Прыселі.

— Панас Дзянісавіч, трэба ўратаваць людзей. Яўрэйка з хлопчыкам. Яна тут, у мяне. І каб ні гуку. Я тут ні пры чым. Калі што якое, пакрыю. Зразумелі?

Млынар раздумваў нядоўга.

— Зробім, Аўгуст Эрнэставіч. Ні адзін сабака не гаўкне.

Праз хвіліну спытаў:

— А яна, гэтая яўрэйка, рабіць што-небудзь умее? Ну, каб занятак ёй даць.

— Здаецца, яна шые. На швейнай машыне.

— То не хвалюйцеся. Усё будзе, як трэба.

— Цяпер жа забярыце яе ад мяне. Пакуль цёмна.— Падаў на развітанне млынару руку і, падымаючыся на ганак, чуў, як рыпнулі вароты ў хлеў.

## IV

Нараду валасных бургамістраў, пісараў, старастаў, якую праводзіць сельскагаспадарчая камендатура, нельга назваць нарадай.

На плошчы перад камендатурай завозна. Табар вазоў, таратаек, брычак. Немцы, якія раз-пораз шмыгаюць у камендатуру, падазрона косяцца на галасісты кірмаш.

У кабінеце, куды выклікаюць валасных бургамістраў і старастаў, за сталом тры немцы-аграномы ў карычневых, без пагонаў мундзірах і два маладыя перакладчыкі-фольксдойчы.

— Піляціцкая воласць! — выйшаўшы на ганак, выклікае перакладчык.

Угнуўшы галаву ў абвіслыя плечы, таропка дыбае валасны бургамістр Спаткай, высокі, крыху ссутулены. За ім пяць старастаў — у воласці шэсць вёсак, але адзін староста не прыехаў.

Кабінет, дзе сядзяць немцы, перагароджаны балясамі. Наведвальнікі ў ім стаяць.

Увайшоўшым Спаткаю і старастам нешта доўга гаворыць лысы немец — прозвішча яго Шлягель,— астатнія двое робяць алоўкамі адзнакі ў спісах, што ляжаць перад імі. Кончыў Шлягель, уступае ў свае правы перакладчык, камлюкаваты круглатвары хлопец.

— Воласці даведзена цвёрдае заданне,— гаворыць ён, узяўшы са стала паперку.— Збожжа — дзвесце тон, мяса — сорак тон. Хлеб прывезці ў раён на сялянскіх фурманках. Заданне выканаць за месяц. Збожжа павінна быць чыстае і сухое. Калі што не так, вінаватыя панясуць адказнасць...

...Воласць не выканала план здачы малака. Даём два тыдні адтэрміноўкі. Хто хоча, можа здаваць маслам... Сабатажнікі, хто не здасць малака ці масла, будуць арыштаваны, а іх жывёла канфіскавана. Мяса здаваць убойнай, тлустай жывёлай. Тэрмін — два месяцы. За ўсе прадукты, здадзеныя германскаму райху, выплачваюцца грошы ў цвёрдых стаўках...

Другі перакладчык, які дагэтуль маўчаў, раздае старастам цэтлікі. Асобна — на збожжа, малако, мяса. Старасты з Прудка няма, і гэта заўважана. Шлягель крычыць, стукаючы алоўкам па стале.

— Староста, які не з’явіўся па выкліку камендатуры,— сабатажнік,— тлумачыць перакладчык.— Ён будзе арыштаваны.

— Пан перакладчык, перадайце пану каменданту,— заступаецца за падначаленага Спаткай.— Староста Абабурка хворы, таму не змог прыехаць. Я ўчора быў у Прудку. Усе мы можам пацвердзіць.

Шлягель нездаволена махае рукой — можаце ісці. Цэтлікі за старасту забірае Спаткай.

Як толькі выйшлі з камендатуры, Спаткай падаўся да Крамера. З бургамістрам хоць пагаварыць можна, а немцы толькі крычаць ды загадваюць.

* * *

Міця блукае па плошчы перад сельскагаспадарчай камендатурай. Тут людзі з вёсак, на якія налятаюць партызаны, і проста цікава паслухаць, аб чым гавораць гэтыя людзі, як адчуваюць сябе сярод немцаў.

Апаўдня нарада скончылася. На плошчы некалькі фурманак. Стаіць абшарпаная, з паламанымі прыступкамі трыбуна, з якой на кастрычніцкае і першамайскае святы гаварыліся прамовы. Вецер гоніць абрыўкі паперы, сухое лісце.

Гопчанка — пануры, падобны на турка стараста з Азяркоў, са сваімі піляціцкімі не паехаў. Расхаджвае паміж вазоў, закурвае з фурманамі.

Калі з камендатуры выйшлі апошнія, з самай дальняй воласці старасты, услед за імі выскачыў камлюкаваты перакладчык.

— Старасты, пісары, палучайце папяросы! — зычна аб'яўляе ён.— Бярыце цэтлікі — і ў магазін.

Гопчанка бярэ цэтлікі на ўсіх са сваёй воласці. Ідзе ў магазін — ён на другім баку плошчы — і хвілін праз дзесяць варочаецца, несучы бярэма доўгіх — па сто папярос кожная — пачак. Фурманы з зайздрасцю пазіраюць на пачкі — даўно ніхто не каштаваў фабрычнага тытуню.

— Частуйцеся, дзядзькі.— Гопчанка раздзірае абгорнуты жорсткай непадатлівай паперай пачак.— Прыйшло і на нашу вуліцу свята.

Фурманы заскарузлымі пальцамі бяруць па папяросіне, разглядаюць надпіс на муштуку.

— Нашы папяросы. Жытомірская фабрыка.

— Значыць, фабрыку ў Жытоміры пусцілі.

— Былі нашы, сталі вашы.

— А дарага — цікава ведаць — нямецкія папяросы каштуюць?

— Старастам бясплатна далі,— ахвотна тлумачыць Гопчанка.— А так, я пытаў у крамніка, дарага. Трыццаць яек за пачак.

— То няхай яны згараць, такія папяросы. Лепей яйкі есці.

Дзядзькі ўсё ж кураць усмак, дасмоктваючы папяросіну да самага муштука.

Праз колькі хвілін — непрыемнае здарэнне. На другім баку плошчы, ля самай трыбуны, даўно чакаюць тры фурманкі. Гэта цяглавікі, прысланыя мясцовым старастам па нараду каменданта. Дальнія воласці ад цяглавай павіннасці вызвалены — у вёсках няма немцаў, і там не будуюць дзотаў, баракаў. Перахлябісты аграном перасякае плошчу, падыходзіць да вознікаў. Крычыць так, што чуваць за вярсту:

— Почему тры фура, почему не пяць?

Вознікі спалохана перамінаюцца. Немец выхоплівае ў нізенькага, у шапцы-аблавушцы, дзядзькі пугу, хвошча яго па спіне, па галаве, па твары...

Фурманы, не чакаючы старастаў, якія пайшлі па папяросы, тузанулі за лейцы і з месца — наўскач. Падалей ад граху...

## V

Адна за другой у мястэчку тры нарады — настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў, рамеснікаў.

Настаўнікі — іх чалавек сорак — сабраліся ў зальчыку былога парткабінета. Найболей кабет, але і мужчыны ёсць, нават некалькі маладых хлопцаў, учарашніх школьнікаў, студэнтаў тэхнікумаў, якія настаўнікамі ніколі не былі.

Адкрыў нараду загадчык аддзела школ Тумілоўскі. Тумілоўскаму гадоў сорак, у яго інтэлігентны, прыветлівы твар, галава лысая — ні валаска. Сярод мясцовага начальства чалавек ён непрыкметны, ходзіць да аднаго бургамістра, але для школ зрабіў шмат. Займаўся рамонтам, падборам настаўнікаў, выкленчваў для іх пайкі.

На нарадзе прэзідыума ў звычайным сэнсе няма. За столікам, высунутым у прамежак паміж лаўкамі і невялікай сцэнай, сам Тумілоўскі, бургамістр Крамер і стары пасівелы настаўнік з Малкавіч, Птушко.

— Панове настаўнікі,— пачынае Тумілоўскі.— Мы праводзім сваю другую нараду. Першая, падрыхтоўчая, была паўгода назад, у сакавіку. Тады не было ніводнай школы. Цяпер адчыняем дванаццаць. На шэсцьдзясят вёсак, якія ў раёне ёсць, такой колькасці мала. Але гэта пачатак. Мы пастараемся адчыніць пачатковыя школы ў кожнай вёсцы, калі складуцца патрэбныя ўмовы...

Далей — гаворка пра справы практычныя. У школах, якія адчыняюцца,— тры прадметы: чытанне, пісьмо, арыфметыка. Гісторыя як прадмет адмяняецца. Для чытання падручнікі старыя, але з іх павінны быць вырваны старонкі, дзе хоць адно слова пра палітыку. Тумілоўскі, як толькі ўмее, пазбягае гаварыць аб тым, што дзеецца на свеце. Ні разу не ўспомніў пра вайну, пра партызан, якія завітваюць у многія вёскі.

— Мы прапусцілі год,— заканчвае ён выступленне.— Цэлы год дзеці не вучыліся. Яны нам не даруюць, калі мы прапусцім і другі год. Дзеці падрастуць і за сваю непісьменнасць будуць вінаваціць нас, бацькоў.

Тумілоўскі скончыў, і ў зальчыку некалькі хвілін няёмкая цішыня. Падымаецца з месца пажылая настаўніца з Прудка — змізарнелы, жоўты твар, на плячах сялянская хустка-канаплянка.

— Вучыць мы згодны,— гаворыць яна, накіраваўшы свой позірк на бургамістра.— Няхай сабе толькі пачатковай грамаце. Але ці будзе якая дапамога школе з боку ўлады? Кніжкі як-небудзь знойдзем. Дык няма ж сшыткаў, алоўкаў, чарніла. У сваёй вёсцы я выявіла толькі восем сшыткаў. Каб хоць грыфельныя дошкі...

Бургамістр апусціў вочы, маўчыць. Нерашуча ўстае са свайго месца Птушко. Праціраe хустачкай акуляры ў рагавой аправе, збіраецца з духам.

— У вайну заўсёды так,— гаворыць ён, як бы апраўдваючыся.— Мы, старэйшыя, ведаем. Цяжка каго-небудзь у вайну вінаваціць. Трэба выйсця шукаць самім. У дзевятнаццатым і дваццатым годзе чарніла мы рабілі з дубовых яблычкаў. Іх трэба збіраць на апалым лісці. Пісаць можна на выструганых дошчачках вугалем. Вугаль лёгка сціраецца.

— На кніжках можна пісаць, па друкаванаму,— чуецца голас.— Калі чарнілам, то нічога страшнага.

Выступаюць яшчэ двое — малады чарнявы хлопец, якога мала хто ведае, і Малінец, даваенны дырэктар сямігодкі з Піляціч. Хлопец гаворыць пра аплату тэхнічкам, а Малінец пачынае пра тое, пра што нават Тумілоўскі пабаяўся заікнуцца.

— У нашай школе размясцілася паліцыя. Я хадзіў да валаснога бургамістра Спаткая, гаварыў з Князевым, начальнікам

паліцыі. Нават слухаць не хочуць, каб вызваліць школу. Паліцыя глядзіць на настаўніка як на шкодніка. Князеў мяне ў паліцэйскія вербаваў, нават пагражаў — калі не паступлю — прымусіць сілай. Я дзесяць гадоў настаўнікам працаваў, не мая работа насіць за плячамі вінтоўку. Прашу, каб раённая ўлада ўмяшалася. У такіх умовах настаўніку не тое што працаваць, жыць нельга...

Бургамістр выступаў апошнім. Загаварыў няўпэўнена, з цяжкасцю падбіраючы словы, раз-пораз выціраючы хустачкай узмакрэлы твар.

— Тумілоўскі тут правільна сказаў... Дзеці павінны вучыцца, нягледзячы, што вайна. Наогул, мірнае насельніцтва ў вайну не павінна ўмешвацца. Мы і школы адчыняем, каб насельніцтва зразумела, што трэба мірна жыць. А пакуль вайна не скончыцца, прывезці кнігі, сшыткі, алоўкі цяжка. Я хачу, каб вы так і растлумачылі насельніцтву. Германія занята вайной, і яна хоча, каб на зямлі, дзе яе войскі, было спакойна. Тады ўсё будзе. Я як бургамістр узначальваю мірную, грамадзянскую ўладу, і не ўсё ад мяне залежыць. Але я стараюся для карысці насельніцтва. Растлумачце ў сваіх сёлах, што раён, чым можа, будзе забяспечваць жыхароў. З гэтага месяца пачынае працаваць нямецкая гандлёвая арганізацыя. Будзе прадаваць у крамах соль, запалкі, тытунь. Вядома, на абмен — на яйкі, масла. Пакуль мала тавараў. Але будзе болей. Так і скажыце насельніцтву...

Бургамістр садзіцца, але адразу падхопліваецца.

— Вось вы гаварылі пра паліцыю.— Ён пальцам паказвае на Малінца.— Непаразуменні бываюць, я з вамі згодзен. Працуйце настаўнікам і не бойцеся, што вас возьмуць у паліцыю. Але і настаўнікі павінны паказаць, што прыхільна адносяцца да нямецкай улады. Ёсць выпадкі — паліцыя пра гэта ведае лепш, чым я,— калі настаўнікі ідуць не туды, куды трэба. Я не хачу сказаць пра ўсіх. З вашай жа вёскі настаўнік, прозвішча яго Вадэйка, слухаў бальшавіцкае радыё. Стары чалавек, я нават не падумаў бы, што ён здольны на такое, а вось бачыце... Не трэба наклікаць на сябе бяду, тады будзе добра ўсё...

Пратакола ніхто не вядзе, дый сама нарада цягнецца нядоўга — гадзіны дзве. Бургамістр, ні на кім не запыняючы позірку, выходзіць, а настаўнікі акружаюць Тумілоўскага.

## VI

Дзіўная рэч: за слуханне савецкага радыё немцы караюць смерцю і ў той жа час некаторым асобам давяраюць мець радыёпрыёмнікі. Акрамя бургамістра Крамера прыёмнікі маюць яго намеснік Лубан, дарожны майстар Адамчук, начальнік паліцыі Зыскевіч-Будзілоўскі, начальнік мясцовай прамысловасці Тоўсцік. Пракурора Ладуцьку немцы расстралялі, а яго сын, трыццацігадовы здаравяк, які ўзначальвае раённы гандаль, адкрыта трымае прыёмнік.

Раней чым навіны аб становішчы на фронце даходзяць праз зводкі, што вывешваюцца на сцяне клуба, іх чуюць уладальнікі прыёмнікаў.

Вераснёвым надвячоркам бургамістр Крамер склікаў да сябе ў кабінет людзей, якім найбольш давяраў. Тут Лубан, Тоўсцік, ляснічы Лагута, аграном Спыхальскі, начальнік мясцовай пажарнай дружыны Альшэўскі і яшчэ два-тры чалавекі. Кабінет у бургамістра па-ранейшаму не раскошны: вузкі пакойчык, канапа, некалькі крэслаў.

— Немцы ў Сталінградзе,— паведамляе бургамістр.— Я думаю, як толькі горад зоймуць і перарэжуць Волгу, вайна наблізіцца да канца. Да зімы, магчыма, скончыцца.

— Вядома,— ахвотна падхоплівае Лагута.— Рускі хлеб у немцаў, вугаль, жалеза яны захапілі. А цяпер яшчэ Каўказ адрэзалі. Не разумею, як бальшавікі трымаюцца.

Астатнія маўчаць. Аўгуст Эрнэставіч заўважыў: у апошні час памочнікі стараюцца менш гаварыць пра палітыку. Для сябе ён справу вытлумачвае проста і ў душы не дакарае гэтых людзей. Як-ніяк, а яны рускія, ім не надта прыемна слухаць, што чужая армія перамагае.

— Немцы шмат чаго не разумеюць.— Аўгуст Эрнэставіч акідвае насцярожаным позіркам падначаленых.— Ідзе вайна, і, апрача вайны, яны ні пра што не хочуць думаць. Я вас і склікаў пагэтаму. Хачу параіцца...

Насцярожаная цішыня. Ад Аўгуста Эрнэставіча не схавалася, як цень страху прамільгнуў на твары Лагуты, як нібы ад холаду павёў плячамі Адамчук.

Апусціўшы вочы, старанна падбіраючы словы, Аўгуст Эрнэставіч працягвае далей:

— Я думаў раней так: немцы перамогуць і ўсюды стане спакойна. Што чалавеку ў жыцці трэба: работа, кавалак хлеба, спакой. Выходзіць наадварот. Немцы на Каўказе, а партызан усё болей. У апошнія дні, глядзіце, што робіцца. Тры забойствы за тыдзень — фінагента ў Малкавічах, валаснога бургамістра ў Палыкавічах, старасты ў Грамах. І канца не відаць. У вёсках, дзе няма гарнізонаў, ніхто з нашых людзей дома не начуе. Калі так пойдзе, то і нам прыйдзецца хавацца. І на чыгунку ўсё болей нападаў...

— Трэба сабраць усю паліцыю і — на бандытаў! — выгуквае Лагута.— Дакуль можна цярпець?

— Пачакайце, Лагута. Усё складаней, чым вы думаеце. Я і немцаў не апраўдваю. Яны не разумеюць тутэйшых людзей. Дзейнічаюць адной сілай. А так нельга. Глядзіце, як нашы аграномы кампанію па нарыхтоўцы прадуктаў пачалі. Выклікаюць старастаў, валасных бургамістраў — і кулаком па стале. Да мяне людзі прыходзілі, скардзіліся. Яны стараюцца, жыццём рызыкуюць, а абыходжанне з імі як з сабакамі. Я дакладную гебітскамісару напісаў, чакаю яго выкліку.

— Дык немцаў жа мы не пераробім.— Лубан нявесела ўсміхнуўся.

— Мы — грамадзянская ўлада і павінны прадухіляць непрыемнасці, якія ўзнікаюць паміж насельніцтвам і войскам. Гэта наш абавязак.

Усе запытальна глядзяць на бургамістра: што ён скажа? Што можа сказаць?

— Я думаю, нам трэба праехаць па валасцях. Пагаварыць з насельніцтвам. Хлеба, мяса людзям зараз даводзіцца нямала здаваць, але трэба сказаць ім, што прычына — вайна. Скончыцца вайна, і пастаўкі зменшацца. Немцы далі селяніну зямлю. Ёсць магчымасць кожнаму жыць, як хоча. І папярэдзіць, каб насельніцтва не падтрымлівала партызан. Гэта самае галоўнае.

— Партызаны ўзброеныя, самі бяруць,— азваўся Альшэўскі.

— Не скажыце. І летась былі ўзброеныя. Але прыйшлі самі да нас, зброю злажылі.

Адамчук апускае вочы. Твар наліваецца густой, як бурачны расол, чырванню.

— Могуць быць вялікія непрыемнасці,— працягвае Крамер.— Успомніце Вербічы. Ніхто не ведае, памагалі з той вёскі партызанам ці не памагалі. Але калі скінулі каля Вербіч эшалон, паплаціліся ўсе.

— Так можна нас усіх абвінаваціць,— абзываецца Лубан.— І вас таксама, Аўгуст Эрнэставіч. Беспарадкі ў нашым раёне.

— Не будзе беспарадкаў — не будуць шукаць вінаватых. Я гэта гаварыў і не перастану гаварыць. Трэба мірна жыць. Пастарайцеся зразумець немцаў: яны вядуць вайну, ім няма часу разбірацца, хто праў, хто вінаваты. Ваююць арміі, а не мірнае насельніцтва. А калі немцы бачаць, што на занятых імі землях неспакойна, то аб'яўляюць вайну насельніцтву.

Бургамістру ніхто не пярэчыць. Мужчыны сядзяць з панылымі, разгубленымі тварамі. Думалася — вайна адышлася далёка, а яна тут, ля парога...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

### I

Дамачоўцы ў засадзе. Намерыліся адбіць моладзь, якую будуць гнаць па гэтай дарозе ў Германію.

На балотнай клетцы, схаванай ад дарогі кустамі вербалозу, ракітніку, залёг ледзь не ўвесь дамачоўскі атрад, чалавек шэсцьдзясят. Двое ў дазоры, двое — адпушчаны да сем'яў. Летам людзей было болей, але тады разам з дамачоўцамі выступалі лятучыя, малалікія атрады Аркашкі і Пецькі, якія пад гарачую руку памаглі, а потым зніклі невядома куды, не папытаўшы дазволу.

Яны як вецер — дзень тут, дзень там.

Верасень цёплы, ціхі. Дні сонечныя — лётае павуцінне, трымціць смуга. Ад Піляціч да Прудка — усюды тарфянікі. Тут, удалечыні ад вёсак, ніхто нічога не сеяў, і вока запыняецца толькі на шараватых купках стажкоў, якімі ўсцяж застаўлены балотны прасцяг.

Вёсак на асушаным тарфяным масіве няма, вёскі туляцца на пясчаных выспах, і дарога, якая вядзе ад Піляціч да Прудка, бязлюдная.

Засада — на ўвесь дзень. Блізка к поўдню чацвёра падняліся, прыгнуўшыся, палезлі пад дзеравяны масток, навешаны над прабоінай магістральнага канала. Там дрыгвяністая гразь, пахне цвіллю, прэллю. Селі, прыхінуўшыся спінамі да круглых слупоў-паляў. Навічок сярод тубыльцаў Яўтушык — сцягнуў з ног апоркі, апусціў у ваду чорныя брудныя ногі. Адмочвае мазалі.

— Штаны скінь,— сказаў Ткач.— Шчупака зловіш.

Валюжыч з Ткачом закурылі. Батура — пад мастком, ён за старшага — просіць:

— Курыць пацярпіце, хлопцы. Кірыла, схавай самасей.

— Эх, закурыць бы савецкай махорачкі. Дзяшовая была. Хоць бы зацяжку.

— Пяройдзем на нямецкія цыгарэты.

— Ад цыгарэт губы пухнуць.

— Хлопцы, Яўтушык заснуў. Яму ў канаве як у гарадской ванне.

— Ты, Яўтушык, хоць не храпі. Паліцыя пачуе.

— З-пад моста не вылазь. Калі што, страляй адсюль. Знізу ўверх...

— Наадварот, хлопцы. Яму толькі з-пад моста і выскакваць. Толькі каб не стрыгся шчэ паўгода. Падумаюць, чорт...

Яўтушык як бы не чуе. Спакойны, як намаляваны Бог.

— Чаму ты захацеў у партызаны? — пытае Ткач.

— Ідзіце вы к... матары,— адказвае Яўтушык.

Задача гэтых, што залезлі пад мост, выскачыць, як толькі загрукочуць па насціле фурманкі і застракоча кулямёт Ключніка.

Сонца хіліцца за поўдзень, а фурманак няма. Тыя, што ляжаць у кустах, пацвельваюцца з Ключніка.

— Ты, Міша, да Спаткаіхі не падкаціўся?

— Адчапіся.

— Прамаргаў, Міша. Спаткай якраз ажаніўся, як ты прыходзіў прасіць прыпіскі.

— А хто яму яешню ў Піляцічах шкварыў?

— Мабыць, Мікалайчыха. Тая не прапусціць...

— Да вайны ні адзін упаўнаважаны не мінаў. Як прыедзе, так і там...

Анкудовіч з Таццянай Бурак прыляглі воддаль. Таццяна — мажная, даўганогая, з буйнымі, мужчынскімі рысамі твару.

Шчупленькі, нізенькі Анкудовіч у параўнанні з ёю падлетак.

— Які сёння дзень, Таня? — пытае Анкудовіч.

— Чорт яго ведае. Мо пятніца.

— Бачыш, дні пазабывалі. Што зробіш... Вайна...

— Каму вайна, каму храновіна адна.

— Што тут гаварыць. Акупацыя. Сама жыла ў гарнізоне.

— Я і ў гарнізоне пляваць хацела на паліцаяў. Таму чуць не ўходалі.

Марудна бягуць хвіліны. Над дарогай, весела папіскваючы, праляцела чародка чорных драздоў. Дразды перад адлётам жыруюць. Гэтыя, што найбольш пішчаць, адналеткі, нядаўна выведіся, але хутка іх не адрозніш ад бацькоў. З зарасніку на дарогу глядзяць вінтовачныя рулі і ручны кулямёт «дзегцярова» з круглым дыскам-скавародкай. Да гладкай драўлянай ложы кулямёта прыпаў няголенай шчакой Ключнік.

На дарозе, там, дзе яна выбягае з-за балотнай выспы, закурэла воблачка пылу.

Воблачка развейваецца, і вось ужо відаць постаці двух коннікаў. Ясна — паліцаі.

Верхам на конях ніхто другі не ездзіць.

— Сволачы! — шэпча Шэлег.— Разведку выслалі. Калі нас заўважаць — страляй...

Коні — гняды і чорны бягуць трушком. Пад паліцаямі — двума маладымі хлопцамі — парыпваюць сёдлы. Вінтоўкі за

плячамі. На мосце чорны конь захроп, ірвануў галаву ўверх, паліцай наддаў яму шпорамі.

Там, ля выспы, новае воблачка пылу, большае, гусцейшае. Наперадзе чацвёра коннікаў, ззаду — цуг фурманак. Яшчэ некалькі хвілін, і абоз параўняецца з засадай.

Шэлег аддаў каманду праз зубы, з прыціскам:

— Па Спаткаю не страляць. Калі будзе ў брычцы, па конях...

Калі коннікі пад'язджалі да мастка, здарылася нечаканае. Паліцаі-разведчыкі на ўсім скаку паляцелі назад, замахалі рукамі. Праскочыўшы масток, спынілі коней. Спыніліся астатнія конныя паліцаі, за імі фурманкі.

— Страляй! — прасіпеў Шэлег.— К чортавай матары!..

Гулкім жалезным бобам разанула кулямётная чарга, забахалі вінтовачныя стрэлы. На дарозе конскі храп, трэск аглабель, прарэзлівы дзявочы віск...

Партызаны падхапіліся, бягуць, страляючы на хаду. Тыя, што пад мостам,— запазніліся. Першы выскачыў Ткач. Баючыся пацэліць у сваіх, страляе з вінтоўкі ўгору. Два падстрэленыя кані сутаргава соўгаюць нагамі. Яшчэ два з пустымі сёдламі ўбіліся паміж згружаных фурманак. Паліцаі — тыя, што сядзелі на конях,— ляжаць на дарозе, тварам у чорны тарфяны пыл. Нават вінтовак з-за плячэй не паспелі зняць. Па балоце — урассыпную — грамадка дзяўчат у белых хустках. Абганяючы іх, прыгінаючыся да сёдлаў, двое коннікаў.

— Лажыся! — раздзіраючы рот, крычыць Шэлег.— Падай на зямлю!

Наўздагон коннікам страляюць з пляча, з калена. Дзяўчаты пападалі, а коні ўсё імчацца.

Босы Яўтушык паклаў вінтоўку на драбіны калёс, прыпаўшы зарослай шчакой да ложы, доўга, уважліва цэліцца. Грымнуў стрэл, і было ясна відаць, як сядок, на імгненне павісшы на страмёна, паляцеў потырч. Грукаюць стрэлы, коні ўсё далей. Не разбярэш, на каторым няма наезніка...

Жывых паліцаяў двое — шыракатвары, без шапкі, з кароткімі пшанічнымі валасамі і зусім яшчэ малады вузкаплечы хлопец у хромавых ботах. Ён паранены, рука вісіць, як плётка. З пачарнелага да плячэй рукава шэрага пінжака цячэ кроў.

— Дзе Спаткай? — крычыць Шэлег.

Батура, трымаючы ў левай руцэ жоўты абшарпаны партфель, правай, наганам у плечы, падштурхоўвае нізкарослага хударлявага чалавека з прамым арліным носам.

— Вот ён! Сярод хлопцаў убіўся. Думаў, схаваецца. Памочнік Спаткая, пісар Аўчар. Да вайны, гад, у прадсядацелі калгаса пралез...

Вочы ў Шэлега наліваюцца крывёю, сутаргава торгаецца верхняя губа.

— Юда! Людзей на катаргу вязеш!

Шэлег клацае затворам, выкідваючы пусты патрон. На момант на яго руках павісае Батура. Бухае стрэл, куля ўзрывае тарфяны дол перад нагамі пісара.

— Пракопавіч!.. Нельга тут... Людзі...

Шэлег адразу звяў. Адышоўся ўбок — плечы ссутуленыя, ногі цягне па зямлі. Нервова круціць цыгарку, сагнуўшыся, нібы ад болю ў жываце, прыкурвае.

З балота варочаюцца Яўтушык і Ткач. У Яўтушыка за плячыма дзве вінтоўкі, у руках пара ботаў. Гоняць перад сабой табунок перапалоханых дзяўчат.

Хлопцы, дзяўчаты, што згрудзіліся ля вазоў — жаўтаротая, зялёная моладзь. Апрануліся ў далёкую дарогу не надта — паркалёвыя сукенкі, залапленыя пінжачкі, стаптаныя чаравікі. Прыставіўшы да нагі ручны кулямёт, перагаворы з імі вядзе Ключнік.

— Болей у Германію не паедзеце?

— А хіба мы сваёй ахвотай? Запісалі ў спіскі.

— А калі яшчэ раз запішуць?

— Болей не паедам. Пахаваемся.

— Можа, у партызаны хто хоча? Ты, напрыклад.— Ключнік паказвае пальцам на хлопца з рудымі ўскудлачанымі валасамі.

— Я пайшоў бы, а што мне. Матку Князеў расстраляе і сястру...

— Адкуль ведаць будзе Князеў?

— Данясуць.

Шэлег перасіліў сябе. Зноў спакойна-засмучана:

— Вось што, арлы. У адну мінуту дадому. Дарогай не ідзіце — балотам. Забірайце клункі.

— Няхай вам сідары...

— Там сухары ды сала...

— Я кофтачку шарсцяную вазьму...

— А я чаравікі. З высокімі халяўкамі...

Яўтушык валтузіцца з параненым паліцаем. Зняў акрываўлены пінжак, закасаў рукаў сарочкі. Дзявочай хусткай вышэй локця перавязвае руку.

## II

Пісара Аўчара і двух паліцаяў вядуць пад канвоем у хмызы. Як толькі адышліся падалей ад дарогі, Ключнік, хапіўшы аберуч вінтоўку, прыкладам наводмаш б'е пісара па спіне. Аўчар падае. Угнуўшы галовы, збялеўшы, чакаюць сваёй чаргі паліцаі.

Ключнік пінае нагой Аўчара пад бок.

— Уставай, скаціна. Яшчэ не тое пабачыш.

Аўчар становіцца рачкі, павольна падымаецца. Падыходзіць Шэлег. Вымае з брызентавай кабуры наган.

— Ключнік, вядзі палонных. Каб ніякіх самасудаў, зразумеў? З гэтым мы самі пагаворым...

Гаварыць з Аўчарам асталіся трое — Шэлег, Батура, Анкудовіч. Твар у пісара як злеплены з воску. Анкудовіч пачынае мякка, нібы толькі ўчора з пісарам бачыўся:

— Я цябе папярэджваў, Сцяпан. Помніш, гаварыў — не лезь да немцаў. Не паслухаў мяне. Думаў — савецкай уладзе капцы...

Пісар маўчыць.

— Майго брацэніка, таго, што ў Разводах, ты выдаў? Ты адзін ведаў, што ў яго вінтоўка.

Пісар ледзь варушыць губамі:

— Я тут ні пры чым. Хапае без мяне даносчыкаў...

— Сука ты, Сцяпан. Самі паліцэйскія сказалі, што падказаў ты.

Батура цяжка, з натугай дыхае, раздзімае ноздры:

— А мяне, гаспадзін пісар, помніце? Помніце, што сказалі мне, калі я вярнуўся з палону? Маўляў, твой брат у органах служыў, то або ў паліцыю ідзі, або садзіся ў каталажку. Пасведчання мне так і не выпісалі, гаспадзін пісар?..

Аўчар маўчыць, ніжэй схіляе галаву. Шэлег пачынае ўрачыста, як пракурор:

— Нам усё вядома, Аўчар. Ты пайшоў служыць ворагу. Уцёк разам са здраднікам Спаткаем з партызанскага атрада, арганізаванага райкамам. Цябе, як свядомага, пакідалі савецкую ўладу бараніць, народ падымаць. А ты здрадзіў. Папярэджвалі цябе. Зімой да Спаткая ты не да канца прыліп, хістаўся. А вясной распеconverted... На сваіх даносіў. У Германію людзей запісваў, сам вёз іх на катаргу. Няма табе апраўдання, Аўчар...

Батура нібы папраўляе Шэлега:

— Ён, фашысцкая сволач, шчэ можа купіць сабе жыццё. Няхай назаве тайных нямецкіх агентаў. З усіх вёсак.

У Аўчара калені падгінаюцца, заплятаецца язык.

— Я служачы... Кавалак хлеба... Дзеці...

Шэлег нецярпліва махае рукой — паварочваецца. Павольна ідзе ўзбоч калектара, расхінаючы кусты. Ззаду, узапар адзін за другім, два стрэлы і нечалавечы, дзікі крык...

## III

Паліцаяў дапытвае Батура. Сеў на пень, дастаў з сумкі блакнот. Прозвішча старэйшага Рагазуб. Ён мнецца, на пытанні не адказвае. Нарэшце, адвёўшы позірк убок, просіць:

— Гаварыць буду вока на вока.

Паблізу сядзяць на траве партызаны, прыслухоўваюцца.

— Хлопцы, адыдзіцеся. А ты, Таццяна, пасцеражы гэтага. Зямляк твой. Навіны пачуеш.

Таццяна Бурак моўчкі здымае з пляча вінтоўку, вядзе паліцая ў бярэзнік.

Рагазуба як падмянілі:

— Таварыш партызан, я толькі месяц як з палону. У Ленінградзе быў, у блакадзе...

— Да немцаў перабег?

— Што вы, таварыш партызан! Я ж у кадравай служыў. Павінен быў дэмабілізавацца, ды вайна. Фінскую прайшоў, медалем узнагародзілі. Параненага вывезлі з Ленінграда. Па лёдавай дарозе.

На вузкім недаверлівым твары Батуры кволая адзнака зацікаўленасці.

— Па якой, кажаш, дарозе вывезлі цябе з Ленінграда?

— Па лёдавай. Зімой праклалі па Ладажскім возеры.

— А што далей рабіў? Навастрыў лыжы дадому? У паліцыю спяшаўся?

— Вы спачатку паслухайце.

— А ты мяне не вучы! Цябе дзе ўзялі?.. У паліцэйскім канвоі. Гнаў савецкіх людзей на катаргу. Абаронца Ленінграда... Твае напарнікі носам у пяску ляжаць. З табой можна было зусім не гаварыць. Табе ясна?..

У бярэзніку адзін за другім два вінтовачныя стрэлы. Батура падхопліваецца. Шырокі Рагазубаў твар бляднее. На ўскраек лесу, туды, адкуль пачуліся стрэлы, кінуліся трое з вінтоўкамі. Праз хвіліну між бяроз вынікае постаць Таццяны. Ідзе, цяжка дыхаючы, шырока раздзімаючы ноздры. Паліцая няма.

— Таццяна, дзе палонны?

— Уцякаў, сволач. Пусціла ў Царства Нябеснае...

Батура крычыць — пісклява, пранізліва:

— Табе хто дазволіў?.. Ты туды ідзі, калі такая смелая...

Таццяна пастаяла перад Батурам не болей хвіліны.

— Не пужай, пужаная... Была там разам з табой. Уцякаў — і ўсё. Можаш судзіць...

— Ёсць парадак, закон.

— Ты разводзь тары-бары. Я не ўмею... Трапіш да іх, то пакажуць табе закон. Па дзясятае чысло...

Таццяна пайшла. У Батуры нервова торгаецца шчака.

— Ну, ладна, давай канчаць. Чуў, што сказала гэтая?.. Яна, па сутнасці, права. Пра што нам з табой гаварыць?.. Скажы адно — што цябе прымусіла паступіць у паліцыю?

— Хацеў перайсці да вас.

— Ну, ну. Доўга разбіраўся.

— Ды я ў паліцыі два тыдні.

— А ўсё ж, што прымусіла цябе стаць паліцэйскім?

— Прыйшоў дадому, ну і прысталі з нажом к горлу. Або ў паліцыю, або назад у лагер. А я ў лагеры хлеба пакаштаваў.

Болей не хочацца. А тут ваш адзін шапнуў: «Паступай... У далейшым выручым». Ну, дзякуй яму, выручыў...

Батура насцярожваецца.

— Хто «ваш»? Не гавары загадкамі! Назаві прозвішча.

— Ну, Сяргей Шугай. Ёсць такі хлопец у Піляцічах. Аднарукі, на настаўніка вучыўся. Казаў — звязан з партызанамі. З вамі, не з вамі — не ведаю...

— Калі ты пазнаёміўся з Шугаём?

— Што там знаёміцца. Мой пляменнік. Толькі я жыў у Буйках, а ён — у Піляцічах.

Батура злосна, з мясам вырывае з блакнота старонку.

Ірве на дробныя кавалачкі.

— Дурань ты. Няўжо не бачыў, што наперадзе? Раскіс, як баба. Сказаў бы адразу. Шугай даваў заданне?

— Прасіў дастаць вінтоўку. Не паспеў я. Пра адпраўку моладзі я папярэдзіў. Хоць ведалі без мяне.

Батура круціць у пальцах чырвоны карандашык, гаворыць, перайшоўшы на шэпт:

— У нас, брат, не армія. Палонных не бяром. Гэты, катарага кокнулі, як ён?..

— З маёй вёскі. У паліцыі, кажуць, з восені. Буйкоўцаў цяпер у гарнізон перавялі, у Піляцічы.

— Калі з Буйкоў, то туды яму дарога. Буйкі разганялі, можна было адумацца...

Батура падымаецца з пня. Гаворыць гучна, каб чулі ўсе:

— Прыйдзе камандзір, пагаворыць асабіста. Праверым усё да нітачкі. Але вінтоўкі не дадзім... Здабудзеш у баі вінтоўку...

## IV

Пра тое, што Рагазуба, паліцэйскага, прынялі ў партызаны, да вечара ведалі ўсе. Ведалі прычыну, па якой Рагазуба не расстралялі — год ваяваў, а ў паліцыю паступіў па заданню. Начавалі ў густым дубняку за вёскай Лазавіца. Жардзяныя, прыкрытыя па баках веццем шалашы — па ўсім відаць — часовыя. Такія шалашы рабілі некалі касцы, што выпраўляліся на балота на два-тры тыдні.

Рагазуба даймаюць роспытамі:

— Ленінград, значыць, у цісках?

— У блакадзе.

— Немцы далёка?

— Як дзе. Мы на перадавую ехалі на трамваі.

— Разбілі горад?

— Не сказаць, каб разбілі. Кладуць снарады з цяжкай артылерыі. Але заводы работаюць.

— А як з харчам? Падвозу няма?

Рагазуб з хвіліну маўчыць, не ведаючы, што адказаць.

— Ды гавары ты...

— Не бойся, тут свае...

— Голад быў у Ленінградзе.— Рагазуб гаворыць ціха, апусціўшы вочы.— Байцам давалі чатырыста грамаў хлеба, а насельніцтву мала зусім. Многа людзей перамёрла. Потым наладзілі дарогу па Ладазе — па возеры. Стала лепей. Мяне параніла якраз у студзені месяцы... Як там цяпер, не ведаю...

Маўчанне, кароткія ўздыхі. Яўтушык, які сядзіць побач з Рагазубам, працягвае яму недакурак. Ляцяць у касцёр некалькі сукоў — ён успыхвае ярчэй, сыплючы ў неба залатымі іскрамі. Коні, адабраныя ў паліцаяў, прывязаны да дуба. З непрывычкі да новага месца яны храпуць, стрыгуць вушамі.

— Ну, а далей як ты? — пытаецца Ключнік.

— Тры месяцы ляжаў у шпіталі, у Варонежы. Калі немцы падышлі, нас кінулі ў бой. Ну, трапіў у палон...

Зноў маўчанне. Навіны Рагазуб расказвае нярадасныя, нічога не прыхарошвае, не стараецца паддобрыцца, і гэта, відаць, падабаецца.

Яўтушык чухае патыліцу, лаецца.

— Акружэнне, палон!.. Лепшага нічога не пачуеш. Тое самае, што летась у нас пад Вязьмай... Маладыя хоць у арміі ёсць? Ці, можа, ужо дзядоў пінулі?

— Чаму, ёсць маладыя,— адказвае Рагазуб.

— А як з тэхнікай? Танкі, самалёты...

— Танкі ёсць, і самалёты.

— То чаму ж адступаем? — Яўтушык шкрабае за пазухай, расхрыстаўшы валасатую грудзіну.— Нашто рускую зямлю аддаём немцу?.. Хіба мала летась аддалі?..

Шэлег сядзіць збоку, воддаль ад вогнішча, слухае ўважліва.

— Баі ідуць вялікія,— задумліва гаворыць Рагазуб.— Я месяц сядзеў у лагеры, у Чарнігаве, то ніводнага палоннага новага не бачыў. Толькі тыя, што трапілі ў сорак першым і ў харкаўскім акружэнні. За месяц аднаго абгарэлага лётчыка прывезлі.

— Не здаюцца, значыцца, у палон?

— Не здаюцца. Самі немцы гавораць: «Русіш пленны нікс...»

— Значыць, раскусілі, што немец не брат...

— Сакрэтная тэхніка паявілася,— як бы спахапіўшыся, паспешліва дабаўляе Рагазуб.— «Кацюша» называецца. Возіць яе грузавік, а ззаду брызентам накрытая. Не ўбачыш, што такое... А страляе — жах адзін. Па небе — вогненныя палосы. Там, дзе ўпадзе снарад, нічога жывога не застаецца.

— Скажы ты... Рускі Іван прыдумае...

— Папішчаць немчыкі.

— Палезлі, думалі, надурняка Расію схопяць, а яно вылазіць бокам.

У голасе Яўтушыка трывога.

— А такая «кацюша» часам у акружэнне не трапіць? Немцы разгадаюць сакрэт ды па нас...

— Сакрэт не ў «кацюшы», а ў снарадзе,— стараецца заспакоіць Рагазуб.— Снарад так зроблены, што яго нельга разабраць — узрываецца. А пад брызентам, кажуць, звычайныя рэйкі. Снарад коціць па іх электрыка...

— Кажуць, амерыканская тэхніка ёсць на фронце.

— Аўтамабілі ёсць. Называюцца студабекеры. Амерыканскія кансервы нам выдавалі. З тоненькіх каўбасак.

— А гарэлкі амерыканскай не давалі? — пытаецца Ткач, свецячы белазубай усмешкай.— Я адну кніжку чытаў, дык там усё віску п’юць. Хоць бы пакаштаваць той віскі...

— Спірт выдавалі. Па сто грамаў перад наступленнем.

— Кожны дзень? — дзівіцца Яўтушык.— І ўвясну?

— Кожны дзень.

— То біць вас трэба, што адступілі. Каўбасу елі, спірт пілі, а чуць прыпякло, дык ручкі ўгору. Надта далікатнымі пры савецкай уласці сталі. Пажывеш у нас, пабачыш. Вады з лужы нап’ешся, рукавом закусіш ды зноў у мох.

Батура цёмным ценем вандруе па дубняку — пастаяў ля шалаша, прыслухаўся — не чуваць ні зыку.

Пайшоў да другога. Чырвоным вокам мільгае прытушанае вогнішча, неба, нібы выбеленае,— наўсцяж засеяна дыяментамі-зоркамі.

Ля вогнішча тупае Ключнік — заняў пост.

— Міша, пакліч Ткача,— просіць Батура.— Я пастаю тут.

Ткач паяўляецца хвілін праз дзесяць, трэ сонныя вочы.

— Што такое?

У голасе Батуры загад, насцярога:

— З паліцая вока не спускай. Ні днём ні ноччу. Пад тваю асабістую адказнасць.

Ткач злуецца:

— Выдумляеш страхі. Хлопец свой. Мала куды чалавек трапіць.

— А ты дасі гарантыю, што ён не скончыў нямецкай школы? У Ленінградзе быў, у Варонежы быў... Амерыканскую тэхніку нахвальвае.

— Кінь, Сцяпан. Нічога ён не нахвальвае. Расказаў як ёсць.

У голасе Батуры яшчэ болей уладныя ноткі:

— Сачыць, і больш ніякіх. Ёсць дадатковыя факты. Пакажа сябе ў баі — зробім вывады.

Ткач з Ключнікам маўчаць. Прынялі чалавека ў душу, а тут трэба вымаць назад, разглядзець з усіх бакоў...

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

### I

Бургамістрава машына — латаная, сабраная на жывую нітку — забуксавала ў пяску вярсты за тры ад Піляціч. Шафёр Кузьма Круглы — малады ціхмяны хлопец — развёў рукамі: без чужой дапамогі не вылезеш. Разы тры кідаўся ў кусты, насіў бярозавае вецце, накладваў пад колы, але ўсё бескарысна. Машына па самы дыфер сядзіць у пяску, і дарогі такой добрыя гоні, да ўзгорка.

Аўгуст Эрнэставіч вылез з машыны, праходжваецца па ўзбочыне. Селі якраз на ўзлессі: злева кавалак выносістага сасняку, справа — бярозавыя кусты. Наперадзе ўзгорак, зжатае поле, застаўленае рэдкімі копкамі скошанай пожні, а за полем — сяло. Сонца на схіле — гадзін шэсць вечара.

Сяло блізка, і асаблівага страху Аўгуст Эрнэставіч не адчувае. Наўрад ці сочаць за ім партызаны. Яны калі і атабарыліся ў раёне, то зашыліся дзе-небудзь у гушчар, у глухое месца, і выходзяць на здабычу ноччу.

Каб супакоіць сябе і — галоўнае — паказаць шафёру, што ён нічога не баіцца, Аўгуст Эрнэставіч збочвае ў лес. Ціха, спакойна ў соснах. Пад нагамі шасціць ігліца, патрэскваюць пачарнелыя расколатыя шышкі, сухія галінкі. Нават гэты непрыкметны трэск насцярожвае Аўгуста Эрнэставіча. Усё-такі ён неспакойны. Страх загнаны глыбока, пад сэрца, але ён жыве, раз-пораз аб сабе нагадваючы. Аўгусту Эрнэставічу мроіцца, што вось-вось з-пад ядлоўцавага куста высунецца руля вінтоўкі, а злосны, уласны голас загадае яму падняць рукі ўгору. Што ён будзе тады рабіць?

У кішэні ў Аўгуста Эрнэставіча пісталет, дзве абоймы патронаў. Ён будзе бараніцца. Упадзе на зямлю, будзе адстрэльвацца, пакуль хопіць патронаў. А калі ўсё-такі схопяць, заломяць рукі назад, павядуць? Што ён скажа незразумелым, страшным лясным людзям, якія бачаць у ім ворага? Аўгуст Эрнэставіч не ведае, што скажа. Калі здарыцца так, канец. Ён і партызаны ніколі не знойдуць агульнай мовы.

Насуперак страху Аўгуст Эрнэставіч усё далей паглыбляецца ў лес. Ён як бы хоча праверыць самога сябе, сваю вытрымку, узяць верх над цёмнай здрадлівай сілай, якая тоіцца на самым дне душы.

Далей у лес — часцей сосны, шчыльней падлесак, зялёны, з чорнымі пупышкамі ягад ядловец, прысадзістыя бярозкі. Дзесьці настойліва стукае дзяцел, цінькаюць, перагукваючыся, сініцы. Сініцы — асеннія птушкі. Хутка хлынуць дажджы, за імі ляжа доўгая зіма. Што прынясе яна новага неспакойнаму, узбаламучанаму свету? Кончыцца калатня ці будзе працягвацца далей, паглынаючы новыя ахвяры, пашыраючы абсягі сваёй крыважэрнасці? Аўгуст Эрнэставіч не ведае.

Яму часамі здаецца, што гэтага не ведае ніхто, нават самыя вялікія, тыя, імёны якіх ва ўсіх на вуснах, якія стаяць на чале мільёнаў, што схапіліся ў смяртэльнай бойцы. Вайна — страшэнны віхор, што круціць, падымае пад аблокі дарожны пыл і валіць асілкі-дубы. Яна нібы велізарная, непадуладная чалавеку машына, у якой не можа адвольна спыніцца ні коламахавік, ні апошні, самы маленькі вінцік.

Наперадзе бліснуў прагал, і Аўгуст Эрнэставіч прыбавіў кроку. Лес скончыўся, перад вачамі поле. Тая ж узгоркаватая раўніна, у якую зялёным выступам уклініўся лес. Аўгуст Эрнэставіч паспакайнеў. Страхі здаваліся дарэмнымі. Цяпер бачыў сваю памылку — трэба было шафёра паслаць у вёску, няхай бы прывёў людзей, каб памаглі выштурхнуць машыну. Не паслаў — значыць, дрыжаў, баяўся за сябе.

Варочаўся назад без унутранай асцярогі. У адным месцы спыніўся здзіўлены: проста пад нагамі сядзіць сямейка грыбоў. Вялікі з чорным каптурыкам баравік вытыркнуўся навідавоку, трое яго таварышаў паказваюць галоўкі з-пад ігліцы досыць асцярожна. Аўгуст Эрнэставіч запаліўся, зрабіў некалькі крокаў управа, улева — зноў грыбы. Іх многа, імі, калі ўважліва прыгледзецца, засеян увесь лясны дол.

Узнікла жаданне зняць шапку, дастаць з кішэні ножыкскладанчык, укленчыць на сухі, засланы ігліцай, дол і асцярожна, каб не парушыць грыбніцы, падразаць пры зямлі тугое карэнне. Аўгуст Эрнэставіч нават сунуў руку ў кішэню, каб выняць ножык. Намацаў рукой цеплаватую рулю пісталета, і жаданне адразу прапала.

Аўгусту Эрнэставічу зрабілася сумна: некалі ён любіў грыбы, любіў туманнай раніцай блукаць з кошыкам па пералесках. Палявання не паважаў, паляванне звязана з крывёй, з пакутамі жывых істот, а ў грыбах адпачываеш душой. Усё жыццё яго прайшло пры лесе, а цяпер, з таго дня, як пачалася вайна, ні разу нават у лесе не быў. Неспакойнай чарадой хлынулі думкі. Чаму людзі не збіраюць грыбоў? Ні ў адным месцы ён не заўважыў карэння. Значыць, як ён, не ходзяць у лес, баяцца. Грыбы растуць, нягледзячы на тое, што вайна, што на зямлі калатнеча, але людзі не збіраюць іх.

З дарогі, з таго месца, дзе машына, пачуліся выгукі. Аўгуст Эрнэставіч прыслухаўся — клікалі яго. Таропкім крокам рушыў да машыны.

На дарозе ля машыны — гурт людзей з вінтоўкамі, патранташамі крыж-накрыж, асядланыя коні, доўгім цугам фурманкі. Аўгуст Эрнэставіч на хвіліну схамянуўся — партызаны!.. Халодная млявая стома ахапіла цела, але пазнаў у натоўпе камлюкаватую постаць Князева, начальніка валасной паліцыі, і на змену нечаканаму страху прыліла радасць збавення. Дрыжалі рукі, ногі, але стараўся ісці спакойна, нічым сябе не выдаць.

Князеў — татарскі, з выпятымі сківіцамі твар узбуджаны, вочы гарaць — падаўся бургамістру насустрач, як роўнаму падаў руку.

— Бандыцкае гняздо разграмілі! — выгукнуў ён.— Дакуль цярпець. Дакладваю вам як бургамістру.

— Якое гняздо?

— Прудок. Партызанская вёска. Вы хіба не ведаеце? Сёння бандыты на нас напалі.

— Хто напаў? Дзе? Калі? — Аўгуст Эрнэставіч пачынае хвалявацца.— Вы расказвайце толкам. У раёне нічога невядома.

Князеў спадылба зірнуў на бургамістра, трохі сціх.

— Пісар Аўчар і пяць паліцэйскіх суправаджалі фурманкі з моладдзю, якія мы адправілі ў Гарбылі, на станцыю. Адпаведна вашаму загаду, каб паслаць на работу ў Германію. Каля Азяркоў партызаны зрабілі засаду. Трох паліцэйскіх напавал, Аўчара жывога захапілі.

— Ну, а далей? — пытае бургамістр.

— А што далей? Колькі можна цярпець! Даўно вядома, што ў Прудку палавіна двароў партызанскіх. У нас спісы ёсць. Адпомсцілі бандытам.

— Як адпомсцілі? — Бургамістр пачынае задыхацца.

— А так, гаспадзін бургамістр. Хто ў бандытах, нам вядома. Пазванілі ў жандармерыю. Сказалі — прымайце меры. Далі дазвол.

Аўгуст Эрнэставіч акідвае позіркам цуг фурманак, якія, аб’язджаючы машыну, цягнуцца па пыльнай дарозе ў напрамку

Піляціч. Вазы поўныя даверху. Нагружаныя сялянскім скарбам: кажухамі, світкамі, палатном, падушкамі. На адным возе паблісквае нікеляваны самавар.

Аўгуст Эрнэставіч адчувае, як халадзеюць рукі, ногі, як незразумелая абыякавасць ахоплівае яго ўсяго.

— Ахвяр многа?

— Расстралялі шэсць бандыцкіх жонак. Пяць мужчын — за сувязь з партызанамі. Іх хаты спалілі.

— А гэта навошта.? — бургамістр паказвае рукой у бок вазоў.

Князева як варам аблілі.

— А яны нашага не бяруць? Не карыстаюцца нашым дабром? Дык што, у зубы ім глядзець? Людзі жыццём рызыкуюць, ходзяць штодня пад смерцю. Што, лёгка тым сем'ям, у каго сёння бандыты гаспадароў забілі? Бралі і браць будзем...

Размаўляць далей з Князевым Аўгуст Эрнэставіч не можа. Ледзь цягнучы па пяску ногі, адчуваючы невымерную стомленасць ва ўсім целе, ідзе да машыны.

Паліцаі выкацілі «эмку» аж на пагорак.

## II

Піляцічы — сяло вялікае, пясчанае. Там, дзе вуліцы скрыжоўваюцца,— пыльная плошча, з левага боку — царква з разбуранай званіцай, выбітымі вокнамі, з правага — школа. Царква пустуе, а ў школе паліцаі. Валасная ўправа — у памяшканні сельсавета.

У самым канцы сяла — стары парк, абадраны, дашчэнту запушчаны памешчыцкі дом. Ад маёнтка да лесу цягнецца абсаджаная купчастымі стагадовымі ліпамі алея.

Аўгуст Эрнэставіч спыніўся ў доме валаснога бургамістра Спаткая. Нават ва ўправу не зазірнуў — пасля ўсяго, што здарылася, няма чаго ва ўправе рабіць. Бургамістр змрочны: ехаў у Піляцічы, каб пагаварыць з людзьмі, абтушыць агонь, а выйшла наадварот.

Спаткай займае прасторны дом, і жонка ў яго маладая. Бліснула на Аўгуста Эрнэставіча чорнымі, як у цыганкі, вачамі, працягнула для знаёмства руку і абыякава адвярнулася.

— Вы што, нядаўна ажаніліся? — спытаў бургамістр.— У вас жа, здаецца, сын дарослы.

— Узяў грэх на душу. Сівізна ў валасы, а бес у рабро.

— А ранейшая жонка?

— Я ёй пакінуў усё. Памагаю, чым магу, і цяпер.

Выгляд у Спаткая разгублены: шырокія плечы апушчаны, ён па-старэчы сутуліцца.

Калі зусім змерклася, селі за стол, зачыніўшыся ў чыстым пакоі, выпілі па шклянцы самагонкі. Спаткай перад гэтым выйшаў на двор, зачыніў аканіцы.

— За вас трывожуся,— сказаў, не тоячыся перад бургамістрам.— Не дай Бог бяды.

— Няўжо так сур'ёзна? У сяле ж паліцыя, патрулі.

— Без малога пяцьдзясят чалавек паліцыі, дарагі Аўгуст Эрнэставіч. А дома не начуем ні я, ні Князеў. Смешна прызнацца...

— Чаго ж баіцёся?

— Дзіўны вы чалавек. Хіба цяжка тым, што ў лесе, ноччу падпаўзці, шпурлянуць у акно гранату? Жонка маладая, а сплю адзін. Жонку на чужы сенавал не павядзеш...

— Прызнацца, я сам мінулай восенню апасаўся. Але ж тады няпэўнасць была, беспарадак.

— Дарагі Аўгуст Эрнэставіч, цяпер горш. Намнога горш. Летась, калі начыстату гаварыць, вы мяне апасаліся, пісара Аўчара, якога сёння бандыты схапілі. Якія мы былі партызаны? Сядзелі ў зямлянках, грызлі сухары і носа баяліся высыркнуць. Вядома,— пайшлі ў лес пад прымусам. А гэтыя ж, што ў лесе цяпер, падаліся па ахвоце. Іх ражном ніхто не пёр. Ім чорт не брат...

Спаткай устаў, з незвычайнай для яго рухавасцю адкрыў шуфлядку камода, паклаў на стол перад бургамістрам некалькі скамечаных паперак.

— Што гэта?

— Чытайце. Самі ўбачыце.

Аўгуст Эрнэставіч уздзеў акуляры: лямпа хоць і яркая, але чытаць па пісанаму цяжка. Учытаўшыся, зразумеў адно — запіскі партызанскія. Бэсцяць Спаткая на чым свет стаіць — прадажная сволач, шкурнік, нямецкі халуй...

— Як гэта трапіла да вас?

— Думаеце, у сяле няма іхніх людзей? Спяць і ў сне бачаць Спаткая на вісельні. Адну запіску проста на дзверы прыклеілі. Другую стрыечны брат прынёс. Выйшлі з кустоў — ён касіў сена,— прыпужалі — нясі. Ды такіх пасланняў не меней як дзесяць было...

— Не разумею аднаго,— задумліва гаворыць бургамістр,— навошта ім вас зневажаць? Ведаюць жа ўсё адно — новай уладзе служыце сумленна, аддана.

— Тут свая палітыка, Аўгуст Эрнэставіч. Адразу і не ўцяміш. Я ж усё-такі тут быў, ведаю народ. Здагадваюся і пра тых, хто па лесе аціраецца. Жонкі, сем'і некаторых партызан у вёсках. Прыпужаць хацелі. Маўляў, лішне не развязвай рукі, дабяромся. Прызнацца вам, на некаторыя факты я дагэтуль скрозь пальцы глядзеў. Абы ціха. Але пасля ўчарашняга хопіць. Няма сілы трываць. Яны нас або мы іх...

Зноў Аўгуста Эрнэставіча апаноўвае незразумелая абыякавасць. Спаткай гаворыць тое ж, што і Князеў. Пасеў злосці, нянавісці дае ўраджай.

— Якія ў вас звесткі пра партызан?

— У Князева быў чалавек. Забілі, сволачы. Але і так вядома — камандуе бандытамі Шэлег, той, што ад расстрэлу ўцёк. Тут і другая сволач круціцца, Анкудовіч. Заатэхнік з ліпавым дыпломам — шасцімесячныя курсы скончыў. Ён у раёне працаваў, а перад вайной тут — старшынёй у Азярках. Верце слову — Аўчара ён падпільнаваў. Ён тут усе закуткі ведае. Але дойдзе і да яго чарга. Брата яго сёння ўходалі, дабяромся і да жонкі. Дзесьці туляецца, але вынюхаем...

Аўгуст Эрнэставіч налівае сабе і Спаткаю шклянкі. У гэтыя дні ўсе п'юць. П'юць, каб пазбавіцца надакучлівых думак, утапіць у гарэлцы разгубленасць, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, распаліць, як гэты Спаткай, нянавісць. Гарэлка — бальзам няпэўных, смутных часоў. Калі чалавек бачыць мэту, яму на штодзённасць гарэлка непатрэбна. Так гаварыў нябожчык бацька.

— Слухайце, Спаткай. Ці не здаецца вам, што не толькі ад нас, начальнікаў, усё залежыць. Можа, ласкавей з насельніцтвам трэба? Па чутках, Князеў ваш бярэ залішне

крута. А вы яго не асаджваеце. Народ усё разумее. Ім трэба кіраваць разумна.

Спаткай падліў — вейкі чырвоныя, як у хворага, на вачах — слёзы.

— Дарагі Аўгуст Эрнэставіч. Мы вас усе любім. Залаты вы чалавек. І сэрца ў вас залатое. Толькі не верце народу, прашу вас. Народ — сволач, гультай. Я дваццаць гадоў з народам працую — ніводнага сумленнага чалавека не бачыў. Кожны стараецца толькі сабе ўрваць. Народу бізун трэба, пуга. Вашы правільна робяць. Думаеце, пастаўку немцам выканаюць? Не вырвеш з зубоў — грама не павязуць. Гэта — быдла, хамы, вісельнікі...

Аўгуст Эрнэставіч збянтэжаны — нават збольшага ведаючы, што робіцца ў Піляцічах, не думаў, што столькі злосці, нянавісці ў гэтага Спаткая. Кім ён так зняверany? Жыве сярод сваіх людзей...

Адчыняюцца дзверы, з рашучым выглядам уваходзіць маладая Спаткаёва абранніца. Косы распушчаны, на круглых, пакатых плячах — пярэсты халацік.

— Зноў як свіння набраўся! — у жанчыны перакошаны ад злосці твар.— Не слухайце яго, гаспадзін бургамістр. Вы новы чалавек, не ведаеце. Адна я вам праўду скажу. Мокнуць у гарэлцы, як жабы. Без просыпу п'юць. Нап'юцца — слухаць страшна, што гавораць...

Аўгуст Эрнэставіч падхапіўся — трэба супакоіць жанчыну, але на парозе — Князеў. Ніхто не чуў, калі ён увайшоў. Начальнік паліцыі разгублены — трапіў не ў час.

— Адпачывайце спакойна,— дакладвае ён.— Усе меры прыняты.

Ноччу Аўгуст Эрнэставіч доўга не спаў, варочаўся, а калі на хвіліну самкнуў вочы — з суседняга пакоя пачуліся гучныя літанні.

— Ты, шлюха, знюхалася з Князевым! — Спаткай выў, не саромеючыся госця.

— Лепш з Князевым, чым з табой. Хіба ты мужчына?

— З гразі цябе падняў! Распусніца!..

— Аблезлы пень. Пайду ад цябе хоць заўтра...

— Вон, курва! Прэч з майго дома!..

У пакоі нешта грукнула. Па ўсіх прыкметах, маладажоны біліся...

Аўгуст Эрнэставіч выехаў рана, адмовіўшыся ад снедання, адводзячы позірк ад панылага, з кіслым, шэрым ад перапою тварам, Спаткая. На паліцэйскім двары, дзе стаіць машына, стругаюць дошкі, грукаюць малаткамі. Робяць труны для забітых учора паліцэйскіх.

На вуліцы — людна. Ледзь не на кожным кроку — паліцэйскі з вінтоўкай. Мільгнула невясёлая думка: «Паліцыя стваралася як служба парадку. Але ж вінтоўкі страляюць. Тыя, што носяць іх, хочуць жыць лепш, чым астатнія. А самі не аруць, не сеюць...»

Каб не засесці зноў у пяску каля лесу, рушылі ў аб’езд, палявой дарогай.

## Частка другая

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

У канцы жніўня вярнуўся Бальшакоў з невялікай групай, пасланы са справаздачай у Акцябрскі раён. Камандзіры сышліся ў палатцы асобна. За апошні тыдзень у складзе камандзіраў перамены. Гервась папрасіўся на разведку, а камісарам выбралі Станіслава Хмялеўскага, чарнявага ўраўнаважанага настаўніка.

На каленях у Бальшакова новенькі аўтамат. На ствале лічба — 1942. Разглядвалі аўтамат з цікавасцю, не таілі зайздрасці.

— Раён партызанскі,— паблісквaючы ад узбуджэння вачамі, расказвае Бальшакоў.— Людзі не ў лесе, па вёсках. Не разбярэш, хто партызан. Старшыні сельсаветаў, каменданты. Але скула і ў іх ёсць — Ламавічы. Сяло, вёрст за чатырнаццаць ад

Карпілаўкі. Сплылася туды ўся збынь. Разгоняць — збіраюцца зноў. Там загінуў Ермаловіч, упаўнаважаны ад абкама...

— Хто замест Ермаловіча? — хмурачы выцвілыя бровы, спытаў Бондар.

— Грынько. Называецца сакратар міжрайкама. Атрады ў многіх раёнах. У Капаткевіцкім, Ельскім па два, па тры. Але хваляць і нас...

— З кім гаварыў?

— З Вакуленкам, Грынько. Грынько, на выгляд, дзелавы мужык. Сказаў, каб стварылі партыйную арганізацыю, прымалі ў партыю. Міжрайкам будзе зацвярджаць. Ад Вакуленкі пакет табе асабіста,— з унутранай кішэні сіняга шавіётавага пінжака Бальшакоў дастаў сплюснутую, перавязаную тоўстай суровай ніткай, трубку, падаў Бондару.

Бондар зубамі рвануў нітку, разгарнуў спісаныя чарнільным алоўкам два лісткі, працягнуў Хмялеўскаму:

— Чытай.

Слухалі ўважліва, стаіўшы дыханне. Камісар чытаў роўным, добра пастаўленым голасам:

— «Таварыш Бондар, перадаю пламенны прывет табе, камандзірам і партызанам твайго атрада. Сустрэчу з табой 24.12.41 г. добра помню, рад, што ты выпаўніў абяцанне, вывеў у лес атрад. На першым часе вам будзе цяжка. Але трэба дзяржацца, верыць у перамогу. Мы, акцябрскія партызаны, дзейнічаем з ліпеня 1941 года, накапілі вопыт, не крыўдзіся на тое, што я табе даю ўказанні. Мы падначальваемся Мінскаму абкаму і партызанскаму кіраўніцтву, і табе прыйдзецца падначальвацца, бо другога кіраўніцтва няма, упаўнаважаны Ермаловіч, які ад нашага абкама быў адзін, загінуў смерцю героя. Самая галоўная ваша задача аб’яднацца з другімі атрадамі, групамі, граміць нямецка-фашысцкіх захватчыкаў, дзе б яны ні былі. Праводзьце палітычную работу з насельніцтвам раёна, каб верылі ў перамогу. Зрывайце нямецкія пастаўкі, не давайце фашыстам хлеба і мяса. Са славакамі сувязь устанаўлівайце, патрабуйце, каб пераходзілі на ваш бок, не служылі немцам. У Капаткевіцкай зоне некаторыя славацкія афіцэры і радавыя да партызан перайшлі, служаць добра. У нас ёсць даныя, што сярод славацкіх войск

імеецца недавольства палітыкай Гітлера, які хоча знішчыць славянскі народ. Такую сітуацыю трэба выкарыстаць, весці работу сярод дапаможных войск, якімі з'яўляюцца славакі. Па звестках, славакі добра адносяцца да насельніцтва, ваяваць супраць партызан не хочуць. Усё гэта трэба выкарыстаць. Тое самае ў адносінах да палякаў. У нашых атрадах васямнаццаць палякаў, якія ўцяклі з жалезнадарожнай станцыі Гарбылі, са страіцельнага батальёна. Атчоты аб прадзеланай рабоце пасылайце мне, па партыйнай лініі — Грынько. Мы перададзім у Мінскі абкам, а адтуль пойдзе ў Маскву, бо пры абкаме ёсць рацыя. З бальшавіцкім прыветам, Вакуленка, старшыня Рыка, камандзір партызан».

Хмялеўскі скончыў чытаць, абвёў позіркам прысутных.

Уздыхалі, пераглядваліся. Маўчанне парушыў Васількевіч, хударлявы, шчуплы сакратар Гарбылёўскага гарсавета, прызначаны начальнікам боезабеспячэння. Сядзеў, раз-пораз паплёўваючы на пляскаты камень, вастрыў ножык.

— Ім добра казаць, у іх сіла. Дырэктывы пішуць. Прасілі зброі, дык ні гу-гу. Знішчайце немцаў. Чым знішчаць? Дванаццаць чалавек без вінтовак. Страляй кукішам. Добра, што хоць Бальшакову далі аўтамат. Па знаёмству.

— Не яны, гомельскія далі.— Бальшакоў вінавата ўсміхнуўся.— Іх штаб у Бараўцах. Спачатку арыштавалі, а потым накармілі.

— Табе не прывыкаць. Цябе ўсе арыштоўваюць.— Бондар сядзіць на калодцы, нездаволена хмурыцца.

— Лёгка гаварыць. А хто ім зброю даў? Ты ведаеш, што зімой на іх цэлы полк наступаў?..

— Многа вёсак папалена,— пацвердзіў Бальшакоў.— Жывуць у зямлянках.

— З кім жа нам аб'ядноўвацца? Хіба з Аркашкам. У Крышанах, чутно, забраў масла з сепаратара, на Гудзічы наклаў кантрыбуцыю. Дваццаць літраў самагонкі.— Гервась зарагатаў.

— Барэц за народнае дзела.

— Але ж і Аркашка ганяе паліцэйскіх. Буйкі дамачоўцам памог разбіць.

— З паліцэйскімі ваюе пад настрой.

— Дамачоўцаў знайшоў? — спытаў Бондар.

Бальшакоў усміхнуўся:

— Знайшоў. Шэлега не бачыў. Выраслі не надта. Усяго войска — чалавек семдзесят.

— Дырэктывы правільныя,— загаварыў Бондар.— У атрадзе сто пяцьдзясят чатыры чалавекі, зброі не хапае. Але аб'ядноўвацца пакуль няма з кім. Будзем самі расці. Вінтоўкі даставаць па вёсках. Асталося многа зброі, немцы падабралі не ўсё. Разведчыкі Гервася два кулямёты прынеслі. Яшчэ прынясуць. Толькі я хачу сказаць, таварышы, што доўга нам тут сядзець не дадуць. Немцы пяць эшалонаў не даруюць...

— Ёсць даныя? — спытаў Васількевіч.

— Ёсць. Гарнізон у Журавічах павялічваецца. Цяпер дваццаць сем чалавек. Сочаць за намі...

— Разагнаць, пакуль не ўмацаваліся! — выгукнуў Гервась.

— Разгонім,— згадзіўся Бондар.— А цяпер паслухайце. Ёсць яшчэ прапанова. Калі падтрымаеце. Давайце захопім эшалон...

Працяглае прыкрае маўчанне. Гервась, Васількевіч закурылі — кольцы шызага дыму расплываюцца, цягнуцца ў адкрыты праём палаткі.

— Які план? — спытаў Хмялеўскі.

— План просты.— Шчокі ў камандзіра прыкметна запунсавелі.— Людзей дастаткова. Можам выставіць сто сорак чалавек. Пяць ручных кулямётаў таксама хопіць. Аперацыю правесці ля Жарнавіц, на ўчастку славакаў. Ад славацкага паста цераз нашага чалавека ёсць запіска, што ваяваць з партызанамі не хочуць. Дамовімся цвярдзей. Разбяром рэйкі, хто-небудзь астановіць поезд. Каб эшалон не рушыў назад, паставім нацяжную міну. Усё ад нас і ад Бога...

— Ідэя! — Гервась пацірае ад задавальнення рукі.— Павінна выгараць. Калі славакі не ўмяшаюцца, любата...

— І калі эшалон не будзе воінскі,— усміхнуўся Хмялеўскі.— Так усыплюць, што не пазнаеш сваіх. Можна загубіць атрад.

— Калі эшалон воінскі, аперацыя не ўдасца,— спакойна згадзіўся Бондар.— Але атрад не загубім. Нападаць з лесу. Адыход прыкрыем кулямётамі...

Васількевіч са сподняй кішэні скуранoй тужуркі выняў зашмальцаваны блакноцік, аловак з блішчастым медным наканечнікам.

— А калі ўдасца? Што будзем рабіць з голымі рукамі, калі спынім эшалон? На плячах многа не панясеш. Пра транспарт трэба думаць. А ў нас тры кані...

Дружна зарагаталі.

— Курачка ў гняздзе...

— Скуру незабітага мядзведзя дзеліш, таварыш Васількевіч.

— Чырвоны абоз арганізуем. Са сцягамі. Цябе пасадзім на першай падводзе.

— Паспрабаваць, таварышы, трэба,— ціха сказаў Бондар.— Атрад расце таму, што ёсць поспехі. Гэтым жывём...

Ардынарац Бондара Валодзя Шлег зазірнуў у палатку.

— Абед гатовы!..

— Валодзя, адну мінутку. У мяне, таварышы, яшчэ прапанова. Наконт спецыяльнага аддзялення сувязі.

Разведкі, якой займаецца Гервась, мала. У кожным населеным пункце, як і ў горадзе, трэба, каб былі свае людзі. Тайныя, якіх ніхто б не ведаў. Іначай — прападзём. Прапаную паставіць на аддзяленне Бальшакова. Выдзеліць дзесяць чалавек...

— А ці не замнога — дзесяць у Гервася, дзесяць у Бальшакова,— з крыўдай запярэчыў Камар, узводны.— Хутка палавіна атрада будзе ў разведцы. Людзей на пасты не хапае...

— Спаць болей хочацца, праўда? — спытаў Гервась.— Глядзі, каб Царства Нябеснае не праспаў. Ты хочаш, як той сторож — суткі дзяжурыць, двое — спаць.

— А ты пастой кожнага дня. Думаеш, соладка? Шэсць чалавек на пастах пастаянна. Кожныя суткі — васямнаццаць...

— Ціха, таварышы.— Бондар замахаў рукамі.— Аддзяленні разведак у падпарадкаванні ўзводаў. Калі не на заданні, ад каравульнай службы не вызваляецца ніхто.

— Што будзем рабіць са школамі? — спытаў Хмялеўскі, які дагэтуль маўчаў.— Праз два тыдні пачынаюць работу. Настаўнікі нашы, падручнікі таксама, але школы нямецкія. Пытанне палітычнае. Мая думка — нямецкую зацею там,

дзе можна, сарваць. Немцы хочуць пасеяць ілюзію мірнага жыцця...

— Правільна!.. Ніякіх школ.

— Навучаць на пень брахаць...

— Насельніцтва адрамантуе будынкі, а зоймуць паліцаі...

Бальшакоў, калі выйшлі з палаткі, затрымаў Бондара, загаварыў напаўголаса:

— Вакуленка перадаў на словах — у Маскве збіраюць партызанскую нараду. Нібыта сам Сталін выклікае. Мінскія партызаны рыхтуюць пляцоўку, сядзе самалёт. Ад іх нехта паляціць...

У Бондара высока ўзляцелі выгаралыя бровы, заружавелі шчокі:

— Дзівак чалавек, чаму раней не сказаў? Самая важная навіна. Але, можа, і лепей. На абедзе скажаш усім. Наогул, раскажы ўсё, што бачыў...

## II

На сустрэчу са славакамі пайшлі — Бондар, Бальшакоў, Гервась. Узялі для аховы аддзяленне разведкі. Цёплая, ціхая, набірае сілу восень... На бярозе прабіваецца жоўты ліст, у маладых, з пясчаным долам сасняках ледзь не на кожным кроку купкі маслякоў.

Пераскочыўшы шашу, пайшлі, як і раней, сасновымі пасадкамі, пакінуўшы злева вёску Вялікія Лемцюгі. Спусціліся ў лагчыну, прабіраліся балотцам. На перасохлай балацявіне жаўцее вярхушкамі не кранутая касой жорсткая трава. Штосьці зашамацела ў лазняку, на голы прасцяг выскачыла дзікая каза. Прыгожая, з гладкай шыза-шэрай поўсцю, свавольніца на імгненне нібы застыла ў здранцвенні, потым крутнулася, падскочыла — і толькі яе бачылі. Нячутная, панеслася балотнымі зараслямі.

Выбраўшыся на сасновы ўзгорак, разведчыкаў — іх без камандзіра дзевяць — пакінулі ў ахове. Самі выйшлі на ўзлессе, з якога відаць вузенькая каляіна лясной дарогі. На дарозе павінны паявіцца славакі.

Гервась з Бальшаковым прыселі на верасковы дол, закурылі. Бондар стаяў, глядзеў. Задуменнасцю, спакоем вее ад лясной паляны, ад маўклівай сцяны сосен з таго боку дарогі. Паветра празрыстае, пануюць у ім мяккія пераходныя колеры. Носіцца ў бязвоблачным небе ледзь прыкметная павуцінка. Самы час сеяць. Ціха ў лесе. Сонца негарачае, асенняе, вісіць збоку, за шашой. Праменні падаюць на вяршаліны сосен, і ад гэтага там, наверсе, залатая празрыстасць.

Бондар глядзеў на дарогу, на круглы наручны гадзіннік — калі да слыху данесліся ледзь чутныя сумныя гукі. Як бы ціхі журботны звон ляцеў з паднябесся. Падняў галаву, стаў углядацца. Высока-высока — ледзь заўважыць — двума доўгімі паскамі незамкнутага трохкутніка ляцелі на поўдзень журавы. Сэрца кальнула вострым болем.

Жураўлёў пачулі Гервась з Бальшаковым, прыклаўшы да лба далонь, углядаюцца ў неба.

— Зіма ляжа рана,— сказаў Гервась.— Цёпла як, а лятуць.

Бальшакоў ляжыць на спіне, сашчэпленыя далоні рук падклаў пад галаву.

— У нас жураўлёў няма. Па рукавах Волгі, у зарасніках, чаплі.

Бондар прысеў, з задавальненнем выцягнуў стомленыя ногі. Сухі дубовы ліст, сарваўшыся з галіны, упаў на дол. Ад усланае леташнім лісцем зямлі ідзе халадок.

Яны ўтрох дзеля сустрэчы з чужаземцамі, якімі фактычна з'яўляюцца славакі, трохі прыфранціліся — перацягнуліся партупеямі, надзелі чыстыя гімнасцёркі, падшылі каўнерыкі. Гервась, у якога партупеі не было, пазычыў у Казачэнкі. Абвешаны зброяй, аж страшна глядзець. Акрамя аўтаматаў, кабураў з наганамі на паясах — гранаты-лімонкі, пляскатыя нямецкія нажы ў раменных футаралах.

Трохі хвалююцца ўсе трое. Яшчэ ніколі пры такіх абставінах не сустракаліся з салдатамі чужаземнай арміі.

У дакладна прызначаны час — тры гадзіны дня — на дарозе — постаць чалавека з кошыкам. Ідзе спакваля, азіраецца. Бондар пазнае адразу — Жарнавік, пуцявы абходчык. Жарнавік — з Жарнавіц, у вёсцы, што ляжыць пры чыгунцы, палавіна такіх прозвішчаў. Бондар, заклаўшы ў рот два пальцы, пранізліва свіснуў.

Жарнавік прыбавіў кроку. Праз хвіліну ўзбуджаны абходчык трасе руку Бондару як знаёмаму — бачыліся ў Гарбылях, з Гервасём абдымаецца — часты госць у абходчыка Гервась, з Бальшаковым вітаецца стрымана.

— Ідуць,— паведамляе Жарнавік.— А я — сваёй дарогай. Мне быць тут нягожа...

— Чакай, Пятровіч.— Гервась хапае абходчыка за рукаў, ківаючы на Бальшакова.— Запомні гэтага чалавека. Будзеш з ім дзела мець...

— А ты куды?

— Мне павышэнне далі...

Абходчык паспешліва зірнуў у твар новага начальніка, знік між хвой.

Славакі — вінтоўкі ў іх за плячамі — выйшлі з лесу ўтрох. Ідуць размераным крокам, плячо ў плячо. Бондар адчуў: сэрца затахкала часцей, міжволі напружынілася цела. Не думаў, што будзе так хвалявацца.

Партызаны выйшлі на дарогу. Убачыўшы іх, хлопцы ў зялёных, добра прыгнаных мундзірах разгубіліся, як бы збавілі крок, але замяшанне цягнулася нядоўга. Пайшлі яшчэ шпарчэй. Не дайшоўшы некалькі крокаў да партызан, як па камандзе ўзялі пад казырок. Бондар выйшаў наперад, працягнуў руку. Малады славак, трохі вышэйшы за астатніх, з румянцам на круглаватым прывабным твары, павітаўшыся з Бондарам, раптам сціснуў яго ў ланцугах абдымкаў.

— Браці нашы. Мі на вас так чэкалі...

Ён быў нейкі няўрымслівы, гэты малады славак — кінуўся абдымацца да Гервася, потым да Бальшакова. Нельга было не верыць сяржанту, двум яго таварышам, разгубленым, болей стрыманым у выяўленні пачуццяў, і ўсю нацятасць, якую нёс у сабе Бондар, як рукой зняло. Дыпламатычныя захады, да якіх ён унутрана рыхтаваўся, абдумваючы сустрэчу са славакамі, цяпер былі непатрэбны.

— Пойдзем, таварышы, у лес,— сказаў проста, як да сваіх.— На дарозе нас могуць убачыць.

Імя, прозвішча сяржанта — Міхаіл Сліва — здзівіла роднай звычнасцю — як бы паходзіў з якой-небудзь блізкай вёскі. Нічога такога, што рэзала б вуха подыхам далёкай

чужаземнасці, не было і ў прозвішчах таварышаў сяржанта — Ян Легнар, Іосіф Поймач.

— Ненавідзім германаў! — сказаў Сліва, як толькі адышлі ў сасоннік, прыселі на дол.— Славацкі салдаці не будуць ваяваць супроць рускага народа! Мы ест браці... Не мусім страляць адзін другі... Імеем бальшое ўважэніе к савецкі партызан. З первы дзень прыезду сюда...

— А што нам рабіць? — усміхнуўся Бондар.— Верым, што немцаў не любіце. Насельніцтва на вас не крыўдзіцца. Але ж служыце немцам. Чыгунку ахоўваеце...

— Ест пасланы насільно. Але партызан не страляем. Ні разу не страляем. Пускаем пулі ў паветра. Нямецкі патрон не жалка...

Гервась глядзіць на Сліву, не тоячы радаснага здзіўлення.

— Нам аддавайце патроны. Мы вашым пальцам немцам у вока...

— Так! — зноў узрываецца Сліва.— Мы трое просім прыняць да партызан. Чэраз недзелю срок. Просім зрабіць фальшывы нападзенне на наш пост. Каб там, у Славакія, фашысты не прымянілі рэпрэсій да радзіцелей. Імеем для вас пяць вінтовак, два яшчык патронаў.

Камандзіры пераглянуліся.

— У партызаны вас прымем,— сказаў Бондар, палажыўшы сваю руку на сяржантаву.— Вашы людзі ў нашых атрадах ёсць. Але цяпер вы нам болей на чыгунцы патрэбны. Мы падрываем эшалоны, вы памагаеце. Зразумела?..

Славакі задумваюцца. Маўчанне непрыемнае.

— Всё разумем,— пачынае Сліва.— Ві нас хаціце праверыць. Вашы людзі ест очэнь асцярожны. Месяц мы прасілі абходчык аб сустрэчы з партызаны. Он малчал. Укланялся от разгавора.

Бондар чырванее — недзе ў размове дапушчана памылка. Узялі адразу ў кар'ер, пачалі з высокай палітыкі, не пацікавіўшыся, як і чым жывуць сімпатычныя славацкія хлопцы, што самі, без ніякай агітацыі, цягнуцца да партызан. Становішча — малайчына — паправіў Гервась: зняў з рукі гадзіннік, працягнуў Сліве.

— Дару як другу. Верце нам, хлопцы. Проста на чыгунцы нам трэба свае людзі. Хочам, каб вы былі нашымі разведчыкамі. Цяжка будзе — выручым, возьмем у атрад...

Гадзіннік — падарунак не надта вялікі, але ў славакаў заіскрыліся радасцю вочы, паружавелі твары.

## III

Увесь дзень перад выхадам на чыгунку Бондара не пакідала смутная трывога. Не ведаў, адкуль яна ідзе. Насуперак халадку, з якім была сустрэта яго прапанова штабам, малодшыя камандзіры, партызаны прынялі яе з задавальненнем.

Выйшлі ноччу, а на світанні заляглі ў сасонніку, на прыгорку, метраў за пяцьдзясят ад палатна. Вісеў малочна-белы туман. Дзесяць фурманак, мабілізаваныя Васількевічам у Цемраўшчызне і Альхове, чакалі ззаду, на лясной дарозе.

Ляжалі з гадзіну. Славацкі патруль — тры чалавекі — прайшоў, калі вяршаліны сосен пазалацілі першыя сонечныя промні. Як толькі славакі схаваліся ўдалечыні, на палатно ў прамежку чатырох тэлеграфных пралётаў выскачылі падрыўнікі. Камар з трыма памочнікамі развінчвалі рэйкі, дэсантнікі на другім канцы, дзе меркаваўся хвост эшалона, прыстасоўвалі нацяжную міну.

У восем гадзін пачуўся гул цягніка. Па левай каляі ішоў на Гарбылі паражняк. Бондар ляжаў за ядлоўцавым кустом, глядзеў, як мільгаюць, грукочучы на стыках, бура-шэрыя, непрывычна доўгія нямецкія вагоны. Была апаска, што з паравоза ці з кандуктарскай будкі заўважаць развінчаныя рэйкі. Хвост паражняка мільгануў за паласатым чыгуначным знакам. Небяспека мінула, але трывога Бондара не пакідала. Так няўпэўнена, пагана ён не адчуваў сябе ні разу.

Прыгнуўшыся, пайшоў па лесе. Партызаны ляжалі за соснамі, прыціснуўшы да плячэй прыклады вінтовак. Уздымалі галовы, глядзелі ўслед камандзіру. Палатно праглядвалася добра. Ля кулямётаў, высунутых трохі наперад, па два чалавекі. Бондар кідаў на хаду:

— Калі эшалон воінскі, бою не прымаем. Адыход прыкрываюць кулямёты...

Пачуўся гул з боку Гарбылёў. Бондар прылёг на барвенак. Не заўважыў, калі побач апынуўся Гервась з кулямётам. На тэлеграфным слупе насупраць — ардынарац Валодзя з Багдановічам. Адзін вышэй, другі — ніжэй. Арудуюць нажніцамі-кусачкамі. Чуваць, як з пранізлівым посвістам, скручваючыся ў спіралі, адлятаюць правады.

Паравоз ужо відаць. Гервась штурхнуў Бондара пад бок. На палатне, насустрач цягніку, які імкліва прыбліжаецца, ідзе Надзя Амельчанка. Ідзе спакойна, размахвае над галавой белай хусткай. Было чуваць, як дзіка — з-пад рэек сыпанулі іскры — заскрыгаталі тармазы, заляскалі буферамі вагоны. Эшалон збаўляў ход. З прыступкі паравоза, трымаючыся рукой за поручань, звесіўся машыніст...

Бондар не бачыў, як шуснула ў адхон Надзя, як упаў, зрашэчаны кулямі, машыніст. Разанулі кулямётныя чэргі, глуха забухалі вінтовачныя стрэлы, зліваючыся ў суцэльны, узмоцнены лясным рэхам, гул. Бондар глядзеў на вагоны — доўгія, закрытыя, ніякіх салдат у іх не было,— з нецярпеннем чакаў выбуху міны ў хвасце эшалона.

Кулямёты прымоўклі. Бухалі адзіночныя стрэлы, на вачах адшчапляючы ад сценак вагонаў кавалачкі дрэва. Эшалон скрыгатнуў тармазамі, павольна папоўз назад.

Страляніна ўзмацнілася зноў, але эшалон, пыхкаючы парай, прыбаўляў ходу, і, калі знік з вачэй, пачуўся пранізлівы — ту-ту-тру-ту-ту — сігнал трывогі...

Адыходзілі подбегам. Калі ўжо выбраліся на дарогу, пачуўся аглушальны выбух — дэсантнікі ўзарвалі міну. Бондар азірнуўся, убачыў залітага потам, з распатланымі валасамі хлапчыну, які, разявіўшы ад частага дыхання рот, бег, трымаючы ў адной руцэ вінтоўку, у другой — пару чаравікаў.

Бондар ірвануў з кабуры наган, падскочыў да анямеўшага хлопца — той быў з вясковых, што нядаўна прыбылі з Журавіч.

— Дзе ўзяў чаравікі?

— Там немец... Машыніст... Забіты ляжыць...

— Грабіць, сволач! Самавольнічаць!..

Не памятаючы сябе, Бондар узвёў наган, але да яго падскочылі Гервась з Бальшаковым, павіслі на руках...

## IV

Бондару не спіцца. Даўно высвіствае носам Бальшакоў, ціха пасапвае Хмялеўскі.

Казачэнка варочаецца, скрыгоча зубамі, спіць неспакойна.

Накінуўшы на плечы ватоўку, Бондар выйшаў з палаткі. Ціха, глуха ў лесе. Скрозь навісь хвоі ўрачыстае зорнае неба з серабрыстым подсветам месяца-поўні. З балаціны патыхае вільготнай зябкасцю.

З-за суседняга будана выйшаў вартавы, у нерашучасці спыніўся.

— Не спіцца, таварыш камандзір?

Па голасе пазнаў Гусоўскага, шафёра, які прыйшоў з Бальшаковым.

— Праверу пасты.

Шафёр ішоў поруч з Бондарам да кустоў, адкуль пачынаюцца кладкі.

— Усыпалі ім сёння, таварыш камандзір.

— Маглі ўсыпаць, дарагі чалавек. Выйшла па-дурному...

— Мінёраў не вінавацьце. Хлопцы хацелі як лепей. Людзі ўсё адно давольныя...

Закрануты за жывое, Бондар спытаў:

— Чым жа быць давольным? Эшалон не захапілі...

— Усякае бывае... Важна, што паказалі сілу... Такога на ўсёй чыгунцы не было...

— Можа, і не было,— невядома чаму радуючыся, згадзіўся Бондар.— Але немцы прымуць меры. Другі раз не ўдасца...

— Удасца. Кароткія рукі ў іх. Калі іх памагатыя нам памагаюць, то дзела нямецкае швах. Я кажу пра славакаў...

— Пра славакаў трэба маўчаць. Не ўсе памагаюць.

— Ды я хіба не разумею? Думаю так, таварыш камандзір,— тут, у атрадзе, людзі надзейныя. Можна давяраць кожнаму. Хто прыйшоў біць немцаў — чалавек свой. Такі не адступіцца...

— А думаеш, немцы шпіёна не могуць падаслаць? На лбе ў яго не напісана.

— Падаслаць могуць,— задумліва згадзіўся шафёр.— Вельмі проста. Ды, можа, раскусім як-небудзь.

Стараючыся не збіцца з жардзянага насцілу, асцярожна ступаючы, Бондар пайшоў на ўскраек балаціны, дзе —

з журавіцкага боку — кругласутачна стаіць пост. Другі пост на процілеглым канцы — паблізу лясной дарогі, якая адгаліноўваецца ад пясчанага шляху, што вядзе з Гарбылёў на Журавічы. Нападзенне на лагер малаверагоднае — ні немцы, ні паліцыя ў лес пакуль не лезлі.

Але выйсця другога няма, пасты трэба трымаць, не лічачыся з тым, што на каравульнай службе занята многа людзей.

— Хто ідзе? — пачуўся зычны ў начной цішыні голас.

— Курск,— назваў пароль Бондар.

— Кастрама,— азваўся вартавы, выйшаўшы з кустоў.

На знешнім пасту Сямён Клімко.

— Не спіцца, Сямён Ігнатавіч?

— Мне, калі гаварыць напраўду, не спіцца і на саломе. Старыя сваё адаспалі...

— Не холадна?

— Прымаразкі мінулі. Цяпер, па прыкметах, цёплая восень будзе да Пакроў.

— А я жураўлёў бачыў. Паляцелі.

— Жураўлі рана адлятаюць.

— Як зімой будзем, Сямён Ігнатавіч?

— Зімой трэба ў дзярэўню. Пад цёплую крышу. Ці зямлянкі парабіць. У тую германскую мы зіму стаялі пад Сувалкамі. У балоце. Жылі ў зямлянках. Было мокра, але нічога...

— Нам у балоце нельга,— сказаў Бондар.— Высачаць.

— Могуць высачыць...

На кладцы пачуліся асцярожныя крокі, дзядзька ўстрапянуўся, спытаў пароль, яму адказалі. Падышлі двое — узводны Камар прывёў змену. Бондар ступіў на кладку — правяраць другі пост не мела сэнсу.

Узбіўшыся на востраў, да палатак не пайшоў — завярнуў да калодзежа. Ведаў, што не засне, хацелася пабыць аднаму. Ля калодзежа з пакінутага на зрубе вядра падаюць на дол частыя кроплі. Бондар прысеў на край выдзеўбанага з альховага камля карыта-жолаба, і толькі цяпер да яго даляцелі прыглушаныя галасы. Не хочучы палохаць парачку, сцішыўся — двое сядзелі зусім блізка, на сасновым бервяне з таго боку калодзе-

жа. Пазнаў па голасе — Гервась з Соняй, медсястрой. Адразу ўсё стала ясна — на заданне медсястра нязменна ходзіць з камандзірам разведкі. Варухнуўся ў грудзях пакутлівы смутак. Хутка месяц у Гарбылі не хадзілі на сувязь, ён нічога не ведае пра Гэлю. Дый хто яму Гэля? Хіба злепіш тое, што разбілася? Бондар асцярожна падняўся, прыгнуўшыся ступаючы на наскі, падаўся да палатак.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

У сярэдзіне верасня ў Гарбылях пракацілася новая хваля арыштаў. Арыштавалі меней, чым першы раз,— чалавек дваццаць, і зноў найболей моладзь — некалькі хлопцаў з чыгункі, з электрастанцыі, двух камандзіраў-акружэнцаў, жанчыну з мясакамбіната.

Тапаркоў з раніцы круціўся ў сталовай, хаваючы за рухавай увішнасцю насцярогу, загаварваў са знаёмымі паліцэйскімі, якія цэлай талакой уваліліся абедаць у зальчык-бакоўку. З нецярпеннем чакаў Сяргея Скакуна, паліцэйскага справавода — з ім яшчэ з зімы запанібрата, пры кожным зручным выпадку выпівае чарку. Скакун — чорны, хмуры, да вайны быў прамкамбінатаўскім касірам — прыйшоў п’янаваты, але выпіць згадзіўся. Зайшлі ў вузкі кабінецік загадчыка сталовай, повар прынёс добрых, з чыстага мяса, катлет, салёных агуркоў. Тапаркоў з графіна, які трымаў у тумбе канцылярскага стала, наліў па шклянцы, як сляза, самагонкі. Выпілі, маўкліва закусвалі.

— На цябе паступіў данос,— адводзячы позірк убок, паведаміў Скакун.— Вадзіў дружбу з тымі, хто зараз сабакам сена косіць. З бандытамі, якія ўцяклі ў лес.

— Сабачы брэх,— сказаў Тапаркоў.— Ты можаш паручыцца, што заўтра не ўцячэ твой памочнік? Ну скажы чэсна, можаш?

— Не магу. Сёння можна верыць толькі самому сабе.

— То-та ж. Скажу чэсна — абрыдлі мне даносы. Разоў пяць выклікалі ў жандармерыю. Колькі можна?..

— Дыму без агню не бывае.

— Ды зразумей ты — служба ў мяне такая. Ваўка ногі кормяць. Думаеш, немцы даюць хоць каліва прадуктаў, што паступаюць па нарыхтоўках? Дудкі, дарагі мой. З мясакамбіната адпускаюць маслы ды галавізну. Вы, паліцэйскія, памагаеце немцам, а на закуску вам — маслы. Грызіце, калі зубы жалезныя. Каб не я, ляскалі б з голаду зубамі...

— Немцы г...еды парадачныя. З-пад сябе падбяруць.

— У тым-та дзела. Думаеш, за маркі ці за карбованцы што купіш? Свабодны гандаль... Сунь сабаку пад хвост свае карбованцы. Дзядзька глядзець на іх не хоча. Вот і прыходзіцца выкручвацца. Калі ўжо так хочаце пасадзіць, садзіце за махінацыі. За маркі купляю ў немцаў сахарын, дрожджы, фарбу — ненарміраваныя тавары — мяняю на прадукты...

— Прахадзімец ты парадачны. Гэта вядома. А двайную гульню кідай. Хочаш быць добрым і вашым і нашым. Можаш лёгка скруціць галаву. Не забудзь, мы, паліцыя, цябе пакрываем...

— Якая мая двайная гульня, можаш спытаць у журавіцкага бургамістра. Яго, здаецца, у жандармерыі дапытвалі. На жыватах тры вярсты паўзлі з ім, калі партызаны напалі на Журавічы. Каб у мяне замест галавы быў на плячах медны кацялок, даўно б твой бургамістр зямлю парыў. І я разам з ім. Фактычна я яго выратаваў...

— Згодзен, што не з усімі бандытамі ты знаёмы. Некаторыя могуць пусціць цябе на той свет.

— Дурныя жарты, Пятровіч. Ты мяне ведаеш не першы дзень. Хутка год, як кармлю паліцыю. А калі за маё старанне такая аддзяка — мне ўсё адно. Можаце давесці...

— Да чаго давесці? — падазрона спытаў расчырванелы Скакун, хрумстаючы агурок.

— Уцяку ў лес! — выгукнуў Тапаркоў, ставячы на стол недапітую шклянку.— Ну, скажы, якая мне радасць жыць кожны дзень пад страхам? Што маю за сваю службу? Абяцанку палучыць кулю ў патыліцу? Ад тых, каму служу?

— Ну, ты гэта кінь... Сказаў ясна — паліцыя цябе падтрымлівае. Але мацней за нас ёсць. Ведаеш сам...

— Дык што мне рабіць?

— Сядзі ціха. Носа з горада не высоўвай. Мала хіба свалачэй... Такое наплятуць, што потым з бацькам не развяжаш.

Скакун, пахістваючыся, падаўся са сталовай. Тапаркова не пакідала смутная трывога. Адчуваў — час яго настаў. Заставацца ў горадзе болей нельга. Паліцыя, як сказаў Скакун, сапраўды не ўсёмагутная. У немцаў ёсць свае інфарматары. Ды і нельга бясконца выкручвацца. Не хапае сіл...

Перад заканчэннем рабочага дня Тапаркоў двойчы прайшоўся перад нанава пабеленым двухпавярховым будынкам райвыканкама, дзе размяшчаліся гебітскамісарыят і жандармерыя. Хацеў пабачыць Турбіну. Сустракацца на явачнай кватэры не выпадала — за ім маглі сачыць.

Са змешаным пачуццём трывогі і смутку пахаджваў Тапаркоў па дашчаным тратуары, раз-пораз паглядваючы на ацэментаваную дарожку, якая праз зарослы старымі акацыямі двор вяла да ганка гебітскамісара. На ганку стаяў немец-вартавы. Мільганула ў гарачай галаве Тапаркова нават дзікая думка: няхай бы на дарожцы паявілася Турбіна, а хто-небудзь з немцаў паспрабаваў яго ў гэты момант арыштаваць. Пабачыла б Эрна Іванаўна, чаго варты ўвішны загадчык сталовай. У кішэні пінжака пісталет, дзевяць куль ён ахвотна падараваў бы сваім гаспадарам. Тапаркоў нават усміхнуўся недарэчнасці жадання: не час паказваць адвагу. Але тут жа зноў нахлынуў смутак — калі ён убачыць Турбіну, то апошні раз. Паўгода знаёмы, і глядзела яна на яго толькі як на скамароха, які незвычайна лёгка носіць два аблічча. Мабыць, не заўважыла нават, што калі гаварыў з ёю, то наўмысна напускаў на сябе напаўжартаўлівую лёгкасць, за якой можна схаваць усё, што хочаш. Нямала жанчын за свае дваццаць восем гадоў ведаў Тапаркоў, сыходзіўся, пакідаў іх без асаблівых згрызот, але такой, як Турбіна, не сустракаў. Гэтая — сапраўдная. Нясе ў сабе тайну жаноцкасці. Ён не закаханы ў яе — не, не тое. Але лічыў бы ўзнагародай за год пакут у нямецкім кодле, каб яна, яго падначаленая, хоць раз падумала пра яго як пра мужчыну, чалавека.

Ён убачыў Турбіну здаля — дайшоў да скрыжавання вуліц, а яна ў гэты час выбралася з двара на дашчаны тратуар. Тапаркоў павярнуўся, прыспешыў крок, разлічваючы дагнаць

яе ў скверы. На тратуары яе запыніла нейкая жанчына, і ён узрадаваўся гэтай нечаканай затрымцы, праходзячы кіўнуў і адразу падаўся праз вуліцу ў сквер.

Чакаў ён яе нядоўга: ішла, паглыбленая ў свае думкі, памахвала белым рыдыкюльчыкам, які трымала ў правай руцэ. Ён падняўся з лаўкі, пайшоў ёй насустрач. Параўняўшыся, сказаў паспешліва, задыхаючыся:

— Шчаслiва заставацца, Эрна Іванаўна. Гэтай ноччу пайду. Аставацца нельга болей... Прыйдзе чалавек. Па прозвішчу Драгун. Скажа, што трэба рабіць...

Яна ўзняла на яго свае шэрыя прыгожыя вочы, прыкметная бледнасць заліла ёй твар. Прашаптала ледзь чутна:

— На Падольскую не прыходзіць?

Тапаркоў адмоўна кіўнуў галавой, пайшоў. Адчуваў дрыжанне ў нагах, млявасць у целе. Гарачая хваля жалю да гэтай прыгожай разумнай жанчыны, якая астаецца тут, у невядомасці, захліснула грудзі.

Перш чым пайсці дамоў, да глухой набожнай бабулькі, у якой кватараваў, Тапаркоў вярнуўся ў сталовую. Ніякіх патайных рэчаў у службовым стале не хаваў, а толькі пачак грошай — нямецкіх марак, карбованцаў. Грошы варта было ўзяць. І маўкліва развітацца з людзьмі, якіх у сваю работу не ўцягваў, не хочучы, каб на іх галовы абрушылася нямецкая кара, але якія так ці інакш памагалі. Зайшоў да повара, параненага ў нагу, кульгавага хлопца, што ведаў лепшыя часы — гатаваў да вайны ў рэстаране ў партовым горадзе і воляй ваеннага лёсу апынуўся тут, у паліцэйскім кодле. Пагаварыў з ім наўмысна двухсэнсоўна, запрашаючы паехаць на рыбалку, у вёску Цемраўшчызна — там працякала маленькая рачулка Віць і — па чутках — вадзіліся не толькі язі і акуні, а і стронга. Ведаў, што назаўтра, калі яго ў гарадку не будзе, повар вытлумачыць яго словы правільна, дабраўшыся да іх патайнога сэнсу. У будучым повар мог спатрэбіцца, і больш тут, у гарадку, чым у лесе. Адкрытай гаворкі з поварам не ўсчынаў ніколі, бо тут, у гарадку, ён, Тапаркоў, вёў вельмі заблытаную, двайную гульню, якая кідала цень на яго самога і якая стане зразумелай для другіх толькі тады, калі ён скіне маску, стане партызанам.

На кухні пажартаваў з судамыйкамі, афіцыянткамі — яны ўсе лічаць яго жулікам, ветрагонам, паліцэйскім прыхваснем, але і ўсміхаюцца яму. Такая ўжо жаночая парода. Няхай не забываюць свайго загадчыка...

Ведаў, што тут, у сталовай, нават у гарадку, пасля таго як ён знікне, пра яго будуць расказваць байкі. Гэта цешыла самалюбства, поўніла душу стрыманай радасцю. Даўся ў знакі таварыш Тапаркоў!.. Паліцэйскія ад злосці будуць валасы на сабе рваць... Сапраўды, няма ў гарадку чалавека, выключаючы тых, перад кім не таіў сапраўднага аблічча, хто б распазнаў яго, раскусіў, зазірнуў у душу. Падазрэнне, допыты ў жандармерыі — не факт. Туды вадзілі і божых авечак, якія пальцам не паварушылі.

У апошнія тры месяцы, пасля таго як частка падпольшчыкаў пайшла ў лес, адчуваючы нетрываласць свайго становішча, ён, Тапаркоў, новых сувязей не завязваў, нават парваў ранейшыя, якія здаваліся ненадзейнымі. Пра тое, што знікае, каго трэба папярэдзіў — Глушко з чыгункі, сувязную з мясакамбіната і гэтага агранома Драгуна, які хутка сам рушыць у лес.

Адно балючае месца — Турбіна. Вельмі высока стаіць, каб даверыць яе лёс каму-небудзь з падпольшчыкаў. Бондар перад выхадам загадаў ні з кім у горадзе яе не звязваць. Ён, Тапаркоў, наказ камандзіра не парушыў. Выключэнне — Драгун. Але гэты сам — высокая птушка. Спецыяльна пакінуты.

Прыцемкам, калі Тапаркоў паспеў скласці ў рэчавы мяшок дзве пары бялізны, брытву, некалькі кавалкаў нямецкага мыла, даволі ёмісты прыпас цыгарэт, без стуку адчыніліся дзверы, і ў бакоўцы, асветленай слабым бляскам карбіднай лямпы, паўстаў Самусь. Як ён адчыніў зашчэпленыя на зашчапку дзверы ў сенечках, было загадкай. Стаяў няголены, узрушаны і не таіў узрушэння — дробна дрыжаў. Такі ж, як у той вечар, калі адмовіўся ісці ў атрад.

— Правал,— выдыхнуў сіплым, прастуджаным голасам.— Групу маю перахапалі. Дома не начую. Туляюся па хлявах...

— Хто выдаў?

— З паліцаем адным звязаўся. Абяцаў забяспечыць зброяй. Не ведаў, што сволач. Ты ж сам з паліцэйскімі водзішся...

— Чаго ты хочаш?

— Слухай, Тапаркоў, памажы... У цябе сувязі... З немцамі, з паліцэйскімі... З Турбіной гэтай... Закінь слоўца... Няхай мяне не чапаюць... На вочы не буду паказвацца... Не магу цяпер пайсці ў лес... Адзін, без групы...

«Сволач,— падумаў Тапаркоў.— Тады столькі людзей з-за яго не пайшлі ў атрад, а цяпер зноў мартаплясы. Подлы баязлівец...»

— Пайшлі,— сказаў Тапаркоў услых, адводзячы позірк.

Яны пералезлі адзін паркан, затым другі, прайшлі гародам, выбіўшыся на ўзмежак лугавіны. Наперадзе чарнеў сасоннік. Тапаркоў на імгненне адстаў, выхапіў з кішэні пісталет і, не цэлячыся, ва ўпор тры разы стрэліў у ссутуленую спіну...

Нагнуўся — чалавек захрыпеў, перастаў дыхаць. Амаль подбегам рушыў Тапаркоў да сасонніку. Варочацца на кватэру па рэчавы мяшок не ставала сілы...

## II

Аперацыю па разгрому нямецкага гарнізона, які зноў аднавіўся ў Журавічах, далей адцягваць нельга.

У навакольныя вёскі Альхоў, Цемраўшчызну, Барсукі, Мінічы, Вялікія і Малыя Лемцюгі партызаны заходзяць толькі ноччу. Днём налятаюць немцы і паліцэйскія. Гэта небяспечна. Бо калі ўдумацца — не такі ўжо непрыступны балотны востраў. Калі нямецкія гарнізоны аб'яднаюцца, зробяць штосьці накшталт блакады — ім, партызанам, не паздаровіцца. Тым болей што пад бокам, бліжэй чым Журавічы, другі паліцэйскі гарнізон, у Дубным. Адно шчасце — Дубнае і лясны востраў падзяляе балота. Дрыгва, зарослае дзікай травой куп'ё, непраходная твань. Жорсткую, парудзелую асаку вяскоўцы косяць зімой, па лёдзе, на подсціл скаціне...

На разгром гарнізона выбраліся звечара, маючы станковы і пяць ручных кулямётаў, сто дваццаць байцоў з вінтоўкамі. Ноч халаднаватая, зорная. Не даходзячы шэсць вёрст да мястэчка, ля закінутай смалакурні на старым гарбылёўскім бальшаку атрад раздзяліўся на тры групы. Першая, пад камандай Бондара, мусіла наступаць ад лесу, другая, Гервасёва, абысці мястэчка з поўдня, невялікі заслон з дзесяці чалавек

пакідаўся на шляху Журавічы — Гарбылі — на выпадак, калі з горада будзе кінута паліцэйская падмога.

На нарадзе камандзіраў дамовіліся дзейнічаць, як і першы раз — нечакана ўварвацца ў мястэчка, каменныя будынкі, якія, паводле звестак сувязных, ператвораны ў апорныя пункты, блакіраваць.

Групу, якую ўзначальваў Бондар, немцы з паліцаямі выявілі на падыходзе да мястэчка. У шэрай перадранішняй цішыні бухнула некалькі папераджальных стрэлаў, узвілася ракета, потым з каменнай званіцы гулка і часта, захліпаючыся чэргамі, затахкаў станковы кулямёт. Партызаны заляглі на агародах, сярод бульбоўніку і кіяшніку. Няўпэўненасць у іх радах пасеялася з першых хвілін. Дарэмна Бондар з наганам у руцэ насіўся па градах, таптаў пераспелыя агуркі і памідоры. Байцы падымаліся неахвотна. Прабегшы некалькі гоняў, клаліся на зямлю зноў.

Пачынала світаць. Цяпер білі не толькі са званіцы, беспрыцэльны, папераджальны агонь вёўся з вокан-амбразур мураваных дамоў, размешчаных на плошчы. Мястэчка, асабліва цэнтральная яго частка, стаіць на глінянай гары, якая абрывіста спускаецца да Прыпяці і болей паката ў бок лесу. Пазіцыя паліцэйскіх мела перавагі, і яны карысталіся імі, як належыць.

Нарэшце загаварыў партызанскі станкач. Гервась наступаў з паўднёвага боку. Група Бондара падбадзёрылася. Разанулі паветра чэргі трох ручных кулямётаў. Страляючы на хаду, прыгінаючыся, партызаны вырваліся ў двары, завулкі, на вуліцу — пад ахову будынкаў і парканаў.

Цяпер усё нібы пайшло належным парадкам.

Стрэлы несліся з суседняй вуліцы — прадзіраўся да плошчы Гервась. Група Бондара супраціўлення не сустракала. Партызаны, ціснучыся да парканаў, перабягаючы ад хаты да хаты, стралялі болей для формы. Перапалоханыя жыхары сядзелі ў бліндажах. У адным месцы проста з акна выскачыла фігура ў адной бялізне, але з вінтоўкай — перапалоханы паліцай, які, відаць, начаваў у жонкі. Скасілі пасярод вуліцы.

Чым бліжэй да плошчы, тым выразней адчуванне сапраўднага бою. Кулямётныя чэргі, вінтовачныя стрэлы зліліся

ў суцэльны гул. Партызаны дрэнна ведаюць мястэчка, блытаюцца ў бязладна забудаваных завулках. Гняце непрыемнае пачуццё — па іх страляюць зверху.

Ужо ёсць першыя параненыя — войкнуў, прысеўшы на пясок і хапіўшыся за нагу вышэй калена, чорны бледнаваты хлопец, трактарыст з вёскі Цемраўшчызна, які прыйшоў у атрад тыдні два назад. Яго павялі пад рукі двое. Параніла ў плячо маўклівага партызана-кулямётчыка.

Вырваліся на плошчу. Некалькі партызан падняліся ва ўвесь рост, кінуліся да пабеленага мураванага доміка, які стаяў збоку, крыху наводшыбе, але тут жа пападалі, скошаныя кулямётнай чаргой. Бондар скалануўся — сярод тых, хто нерухома ляжаў на бруку, зялёная куртка Скаварады, галоўнага мінёра.

Бондар бачыў — бой прайгралі. На штурм камяніц ісці нельга. Вінават ён, камандзір. Трэба адыходзіць.

Бондар адпоўз пад сцяну хлява, выняў з кішэні ракетніцу. Тры чырвоныя ракеты — адна за другой узапар — узвіліся ў хмарнае асенняе неба. Адыход...

Разанулі чэргамі па вокнах-амбразурах мураванак усе шэсць партызанскіх кулямётаў. Немцы змоўклі. На плошчу, прыпадаючы да бруку жыватамі, папоўз узвод Камара — падбіраць параненых, забітых.

Пад сцяной закінутай смалакурні двое скрываўленых, з зарослымі шчацінай тварамі, абарванцаў. Насупраць іх узрушаны, узбуджаны натоўп партызан. Клацаюць затворамі, крычаць, размахваюць рукамі. Бондар убачыў гэта здаля, кінуўся туды. Крыкнуў задыханы:

— Што такое? Хто дазволіў?

— Шпіёнаў злавілі! — урачыста аб’явіў Камар.— Самі прызналіся...

У правага, вышэйшага ростам, апранутага ў страшэннае рыззё, крывёй заплыло вока, ніжэйшы выцірае рукавом зашмальцаванага плашчыка кроў з разбітага носа.

— Хто такія? — падступіўшы да незнаёмых, спытаў Бондар.

— Будзем гаварыць толькі з камандзірам,— адказаў правы, вышэйшы.

— Я камандзір.

— Тады адашліце прэч гэтых. Што, людзей не бачылі?.. Чыняць самасуды. Нас хацелі расстраляць...

— Хто вы такія? — крыкнуў Бондар.

— Савецкія разведчыкі. Ідзём з-пад Кіева.

— Дакументы ёсць?

— Няма дакументаў. Але дзе трэба, нас пазнаюць. Наконт мяне паслана з цэнтра радыёграма камандзіру мінскіх партызан. За таварыша,— высокі кіўнуў у бок нізенькага, абраслага рудай шчацінай,— ручаюся.

— Шпіёны яны! — не здаваўся Камар.— Тут іх поўны лес. І ў атрадзе ёсць. Хто немцаў у Журавічах папярэдзіў?

— Мы шукалі партызан,— сказаў нізенькі, які дагэтуль маўчаў.— Пачулі стрэлы, ішлі ў напрамку бою.

— Пойдзем з намі,— загадаў Бондар.

— Яшчэ ў атрад вазьмі шпіёнаў! — не супакойваўся Камар.— Мала набраў. Шасцёра з-за такіх лягло.

Бондар пабялеў, падступіў да Камара.

— Істэрычная баба!.. Пяць сутак арышту. Будзеш чысціць бульбу. Здаць зброю!..

Падышоў Гервась, ірвануў з рук анямелага Камара вінтоўку.

Тут жа, ля смалакурні, выкапалі магілу, пахавалі забітых. Стаялі маўклівыя, без шапак. Вісела над соснамі шэрае асенняе неба. Трохразовы салют з дзесяці вінтовак адазваўся глухім раскацістым рэхам.

Толькі па дарозе ў лагер хапіліся, што зніклі без следу Сізых і Півавар.

## III

Ля зямлянкі вартавы.

Туды зайшлі Бондар і камісар Станіслаў Хмялеўскі. Затрыманыя памыліся, пагаліліся. Цётка Кацярына перадала праз вартавога іголку, катушку нітак — падлаталі транты.

— Са мной камісар,— сказаў Бондар.— Разумееце самі — вас адсюль не выпусцім. Пакуль не дазнаемся, хто вы. Не маем права...

— А калі мы не можам раскрыць дзяржаўную тайну? — спытаў высокі, пабліскваючы халоднымі бялеса-сінімі вачамі.

— Дзяржаўныя інтарэсы ў гэтай мясцовасці прадстаўляем мы,— сказаў Бондар.— Другіх савецкіх органаў няма.

— Вы маеце сувязь з Масквой?

— Не.

— Каму падпарадкваецеся?

— Міжрайкаму.

— Дастаўце нас туды.

Тон, узяты гэтым, які называе сябе савецкім разведчыкам, не падабаецца Бондару.

— У дадзеным становішчы выстаўляем патрабаванні мы, а не вы.— Бондар стараецца гаварыць спакойна.— Мы не маем часу весці з вамі дыскусію.

Высокі рашуча мяняе тон:

— Маё прозвішча Праскураў,— гаворыць ён.— Маёр войск НКВД. Групу чэкістаў скінулі ў маі ля Жытоміра. У Вінніцы — стаўка Гітлера. У тым раёне мы працавалі. Разумееце самі — сказаць вам больш не магу.

Бондар з Хмялеўскім пераглянуліся.

— А ваш таварыш?

Рыжаваты, прысадзісты ўстае з дубовага чурбачка, на якім дагэтуль сядзеў.

— Мяне завуць Іван Пітляр,— гаворыць ён спакойна.— Накіраван у тыл ваеннай разведкай. Воінскага звання не маю. Да вайны працаваў дацэнтам у Кіеве. Ведаю нямецкую мову.

Бондар падміргвае Хмялеўскаму, ні слова не сказаўшы, выходзіць з зямлянкі. Праз некалькі хвілін вяртаецца з Фурманам.

— У нас ёсць свой разведчык,— гаворыць да затрыманых.— Вам, таварыш Пітляр, ён задасць некалькі пытанняў.

Фурман ні хвіліны не марудзіць.

— Вы з групы УПРА?

— Так.

— Дзе размяшчалася школа?

— У Троіцкім манастыры.

— Хто камендант інтэрната?

Пітляр на хвіліну замяшаўся.

— Ну, гэты вусаты хахол. Старшы лейтэнант. Насіў кавалерыйскі шынель. Вылецела з галавы...

— Вашчыла,— падказвае Фурман.

— Ну, але, Вашчыла. Яго пакой пад лесвіцай...

Праскураў нечакана выгукнуў:

— Што вы нам мазгі круціце!.. У вас жа ёсць разведчыкі. Звяжыце нас з Масквой.

— Не можам, дарагі таварыш,— адказаў Бондар.— Толькі два хлопцы прыбіліся. Аднаго ўчора пахавалі. Дзе астатнія — не ведаем...

IV

Вечар. Дождж. Аднастайна, паныла шуміць вецер у соснах. Капітан Мазурэнка выйшаў з зямлянкі. У твар сыпанула халоднымі кроплямі. Там, у вяршалінах хвой, як бы цяжкія ўздыхі. Мазурэнка пастаяў, прыслухаўся, вярнуўся ў зямлянку. На самаробным століку, які змайстравалі яны з Паляковым, гарыць каганец.

Палякоў круціць рычажкі «Северка». Радыёстанцыя пашкоджана ў час прызямлення, але ў дыяпазоне кароткіх хваль можна злавіць Маскву. Голас ледзь чутны — садзяцца батарэі.

— Што новага? — пытае Мазурэнка.

— Баі ў Сталінградзе. Перадавалі вынікі за месяц.

На земляных нарах, засланых яловымі лапкамі, кашляе радыстка Ася. Твар худы, бледны.

— Пойдзем,— гаворыць Мазурэнка.— Ася, накрыйся коўдрай.

Коўдра сшыта з парашутнай тканіны. Як і бялізна ўсіх траіх, што жывуць у гэтай лясной зямлянцы.

Мужчыны ўскінулі на плечы аўтаматы, выйшлі. Цемень хоць вока выкалі. Намацваючы нагамі, абутымі ў разлезлыя боты, дол, рушылі між соснаў. Самая цяжкая першая вярста. За выносістымі соснамі густы — не прадрацца — маладняк. Пасадкі, якія не працярэбліваліся гады тры. Кішэнныя ліхтарыкі даўно сапсаваліся.

Праз маладняк ледзь не на каленях паўзлі. Прамоклі да ніткі. Калі выйшлі на гала, стала лягчэй. Хоць за вочы можна не апасацца — не напорашся на сук.

Да шашы па балоце чвякалі з гадзіну. Дождж кончыўся, стала праясняцца. У разрыве шэра-цёмных воблакаў мільгнуў серабрысты кружок месяца.

Цёмную стужку брусчаткі перамахнулі подбегам, выбіліся на прасёлкавую дарогу, якая вядзе да вёскі Няхамава Слабада. Ісці коўзка. Зрэшты, дарога знаёмая. Толькі і жыццё, калі прыйдзеш у вёску.

Ішлі маўклівыя, занятыя кожны сваімі думкамі. Брыдка атрымалася. Горш не прыдумаеш. Тры месяцы ў гэтых соснах, ля гэтай шашы, а які вынік? І выйсця не відаць...

Дэсантнікаў скінулі летам, у канцы чэрвеня, тры месяцы назад. З таго часу жывуць у зямлянцы між палескіх соснаў. Вынікі дзейнасці мізэрныя. Месяц чакалі сувязнога, які мусіў з'явіцца на ўмоўленай лясной дарозе, але так і не дачакаліся. Відаць, загінуў. Замест яго напаткалі лесніка Івана Міцулю. Вартаўнік тутэйшага лесу проста жахнуўся, убачыўшы абросшых барадамі дэсантнікаў. Паверыў, што яны з Масквы, толькі тады, калі адкаркавалі бутэльку гарэлкі, пачаставалі савецкай папяросай.

Міцуля жыве ў Няхамавай Слабадзе, што стаіць між шашой і чыгункай. Вёска раскіданая, беднаватая — вакол сыпучы пясок, але выгадная тым, што тут няма паліцыі. Памочнікамі ў Міцулі трое жанок. Кормяць, абмываюць дэсантнікаў. Нават выконваюць сякія-такія даручэнні. Вось і ўся агентура разведвальнай групы, якую ўзначальвае капітан Мазурэнка.

Мужчыны прыбрылі да Няхамавай Слабады. Спыніліся, прыслухаліся. Сям-там у вокнах пабліскваюць аганькі. Зацята брэшуць сабакі. На процілеглым канцы, бадай ля самай шашы, рыпае гармонік, глуха бухае бубен.

Тулячыся да парканаў, цёмнымі ценямі Мазурэнка з Паляковым рушылі да хаты лесніка. Яна з процілеглага ад чыгункі краю. Хата добрая, як і сам гаспадар, разумны, увішны, нягледзячы на тое, што кульгавы. Побач з лесніковай — другая, меншая хата, у якой жыве Параска Дашко, адна з тых, што памагае дэсантнікам.

Мужчыны замёрлі, убачыўшы, што да Парасчынага паркана прыліпла чорная постаць. Стаялі ў некалькіх кроках, чакалі, што будзе. Чалавек між тым рыпнуў веснічкамі, падышоў да цёмнага акна. Ціха пастукаў у шыбіну.

— Параска!.. Параска!.. Адчыні!..

Ніякага адказу.

— Адчыні, Параска!..

З акна пачуўся сонны голас:

— Хто тут? Ета ты, Макар?.. Ідзі дадому...

Макар забарабаніў у раму мацней — кулаком.

— Прашу цябе, Параска. Я на адну мінуту...

Акно з трэскам расчынілася. Пачуўся плёскат вады, а ўслед за гэтым прарэзлівы голас:

— Чаго прыстаў, шалудзівы сабака? Ідзі цяпер сушыся. Бач, прыспічыла...

З двара, не зачыніўшы веснічак, мацюкаючыся, вышмыгнула чорная постаць. Мазурэнка прынік да паркана, тросся ад бязгучнага смеху.

Хата ў Івана на дзве палавіны. Як толькі ўвайшлі, павіталіся, гаспадар падаўся за дзверы. Стаў на варту. Гаспадыня, мажная, раздабрэлая, паставіла на стол яду.

— Лазеньку натапіла. Мо памыецеся?

Прыхінулася спіной да печы, з добрай жаночай спагадлівасцю глядзела, як, студзячы драўляныя лыжкі, апякаючыся, сёрбаюць мужчыны гарачы боршч.

Увайшла Параска — відаць, паклікаў ляснік.

— Як там на вайне, партызаны? Доўга адзінокім салдаткам бедаваць?

Мазурэнка зіркнуў на Параску хітрымі вачамі:

— Ты, здаецца, не вельмі бядуеш?

— А то не? Без мужчыны як без рук. Двара перайсці некаму.

— Дапусцім, пераходзяць. Нават сёння вечарам.

— Вы ўжо ведаеце. То ж вяжацца Макар. Каб хоць мужчына, а то п’яніца, хірляк. З добрым мужыком і грэх лёгкі. А ета паскуда...

Гаспадыня залівіста, трасучыся ўсім мажным целам, рагоча. Параска — бой-баба. Ходзіць рашуча, гаворыць гучна.

Такая ж высокая, як і леснікова жонка, але па-дзявоцку тонкая, зграбная.

Мазурэнка, устаўшы з-за стала, бярэ Параску пад руку, вядзе ў чысты пакой. Там цёмна. Ля вокан пад самую столь фікусы. Вобмацкам садзяцца на канапу.

— Была ў мястэчку? — пытае капітан.

— Була.

— Ну і як?

— Крамер дажа гаварыць не хоча. Кажа, я ў такія дзялы не ўмешваюся. Добра, што паліцыю не пазваў...

— А другія?

— Крамераў памочнік Лубан сказаў пазней прыйсці... Тожа віляе... Бачыцца з вамі не хоча. Баяцца етыя паліцаі.

— Ну, добра. Нікому ні слова. Нават Івану Лявонцьевічу.

— Ды я сама баюся. Хоць начальнікі тыя хваміліі не пыталі.

Мазурэнка выйшаў у пярэдні пакой, падзякаваў гаспадыні.

Мыцца не будзем, Ганна Гаўрылаўна. Зябка. Наша Ася прастудзілася.

— Божа мой, Божа... Як яно адно ў том халодным лесе. Беднае. Гарэлкі вазьміце. Ад прастуды добра...

Мужчыны захапілі пакунак з харчамі, з вымытай бялізнай. На двары чорным ценем да шула прыліп гаспадар.

Мазурэнка нахіліўся да яго вуха:

— Партызаны прыходзяць, Іван Лявонцьевіч?

— Два разы былі. Па пяць чалавек. Да мяне не заходзілі.

— Трэба намацаць добры атрад. З вандроўнымі групамі звязвацца нельга. Аднойчы мы самі бачылі людзей з вінтоўкамі.

— Трэба падумаць.

— Падумай, дарагі. Адны ў лесе не вытрымаем.

Калі ўжо збіраліся выходзіць з двара, да Палякова падбегла гаспадыня, штосьці паспешліва дала ў рукі.

— Я тут малачка сагрэла. Пляшку ў анучку загарнула, але схавайце за пазуху. Хай дзевачка цёпленькага вып’е...

Неба зноў зорнае, выплыў човен месяца. Ісці назад лягчэй.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

У маленькую, размешчаную на пясчаным пагорку вёсачку Азяркі завітаў Шэлег, нядаўна прызначаны камандзірам дамачоўскага атрада, і шасцёра партызан. Паліцыі тут няма. А партызанам людзі памагаюць. Ёсць дзве вёскі, куды можна зайсці без апаскі,— Рагалі і Азяркі. Стараста свой — Іван Гопчанка,— пастаўлены партызанамі яшчэ восенню.

Усцяж вуліцы ў Азярках — старыя купчастыя вербы. Застрэшшы хат, адрын, прыгрэбнікаў закладзены гарбузамі. Па агародах жанкі капаюць бульбу. На хвіліну разгінаюцца, позіркамі з-пад рук праводзяць партызан.

Шасцёра, мінуўшы вуліцу, схаваліся ў альховых кустах. Густы алешнік разросся па балацянцы, якая пачынаецца адразу за агародамі. Сёмы — гэта камандзір атрада Шэлег — зайшоў у перадапошні двор, пастукаў у шыбіну. Зараз жа на парозе паявілася чарнявая, яшчэ маладая жанчына, ветліва ўсміхнулася.

— Заходзьце ў хату.

— Я не адзін, Надзя. У алешніку хлопцы.

— То я вам прынясу есці. Іван да вечара не вернецца.

— Нічога не гаварыў?

— Казаў, пастаўку будуць сілай выбіваць. Спаткай гразіўся наехаць з паліцыяй. Забярыце вы яго лепей да сябе.

— Няхай паслужыць, Надзя.

— Баюся я. Не толькі вы, партызаны. Прыйдуць, не дай Бог, чужыя. Каго, як не старасты, хопяцца?

— Без нас не прыйдуць. Мы тут начальнікі.

Шэлег рушыў да алешніку агародам. Бралася на вечар. Асенні дзень дагарае ў празрыстай яснасці. Над дальнім лесам кучаравяцца белыя ў залатых водблісках воблакі. На плоце наперабой трашчаць цікаўныя сарокі.

Партызаны ляжаць на грудку, на пажоўклай траве. Ключнік, падклаўшы пад галаву раменную паляўнічую шабету, злёгку пахрапвае. Валюжыч, укленчыўшы, торкае яму ў нос травінкай.

Раз-пораз Ключнік узмахвае рукой — як бы муху адганяе.

Старастава гаспадыня прыбегла тут жа. Прынесла ў лазовым кошыку бохан хлеба, варанага мяса, агуркоў. На дне кошыка вялікая, з павільгатнелым шклом, бутэлька самагонкі.

— Ты — царыца, Надзя,— сказаў чарнявы Валюжыч.— Каб не твой Іван, прыстаў бы да цябе ў прымы. Узяла б?..

— А чаму не? Цяпер абы ў штанах, то і кавалер. На вайне да вашага брата не прыглядаюцца...

— Мы, Надзя, твайго Івана забяром, а яго пакінем. Ты прыгледзься — хлопец гарны. Праўда, трохі чарнаваты, дык можна адмыць...

Шэлег прылёг воддаль. Тры месяцы ён у лесе, а ўсё адно не перастае шчымець душа. Тупы, аднастайны боль, які мяжуе з бяспамяццем, нібы ўзрастае, калі ён сутыкаецца з чалавечым жытлом. На людзях можа гаварыць, загадваць, амаль не ведаючы ўнутранай пустаты, роспачы, а сам-насам мярцвяк. Іншы раз спрабуе сябе суцешыць тым, што такіх, як ён, шмат, шмат у каго забілі дзяцей, жонку. Але палёгкі няма.

Стрэл — як гром з яснага неба. Шэлег слова не сказаў — як сядзеў — паваліўся грудзямі на дол. Дзіка закрычала Надзя. Крык яе пагасіла бязладная страляніна. Немцы цяпер не таіліся — расхінуўшы кусты, з узмакрэлымі, п’янымі тварамі, расстрэльвалі ва ўпор...

Ключнік, прачнуўшыся, не ўскочыў. Камнем скаціўся з грудка, нырнуў у кусты. Бег, не чуючы сэрца, абдзіраючы аб калючы ажыннік рукі, твар. Апамятаўся, калі выскачыў на голае балота.

Стрэлы сціхлі. Сонца садзілася за лес. «Нарваліся на засаду,— падумаў Ключнік.— Шэлег з-пад расстрэлу ўцёк, а тут засціглі. Поўны алешнік немцаў...»

Ён пабрыў па балоце, раз-пораз азіраючыся. Ніхто з алешніку не выйшаў.

Над Азяркамі падымаўся слуп дыму. «Паляць стараставу хату»,— падумаў Ключнік.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

Выбрацца з Гарбылёў так, як задумаў, Драгуну не ўдалося. Ідучы на службу ў зямельны аддзел, убачыў на тратуары перад аблупленым гліняным домам знаёмую постаць. Сумненняў не магло быць — пахаджваў, кагосьці чакаючы, сусед па местачковай кватэры Басняк, якога ўзяла ў прымакі жонка эмтээсаўскага механіка. Выдаў падпольшчыкаў у Бацькавічах, цяпер перакінулі сюды. Але за кім сочыць?.. Непрыемным халадком аблапіла здагадка:

«Ды за мною... Вяровачка яшчэ ў мястэчку пачала віцца...»

Выйсце адно. Пакуль не злапалі — трэба ў лес...

На ганак глінянага доміка Драгун ступіў спакойна. Брывом не павёў, што пазнаў Басняка. Праз задні ход шуснуў на двор, выбраўся на бакавую вулачку.

Хадзіць па Гарбылях можна да адзінаццаці гадзін вечара. Парадак агульны для ўсіх гарнізонаў. Светамаскіроўкі няма. Драгун ідзе па дашчаным тратуары, абмінаючы рэдкіх прахожых. Найбольш небяспечна на цэнтральнай вуліцы, якую трэба перайсці. Там суцэльным ланцугом выстраіліся слупы з электрычнымі ліхтарамі.

На душы ў Драгуна смутная трывога. Спатканне з перакладчыцай гебітскамісарыята Эрнай Турбіной, якую ён амаль не ведае, толькі бачыў здалёк, відаць, будзе нялёгкае. Трывога ад няўпэўненасці. З жанчынамі ён умеў ладзіць. Але то былі дзяўчаты, жанкі з асяроддзя, да якога належаў сам. З імі было проста. Турбіна — чалавек іншага круга.

Цяпер, калі Драгун збіраецца пакінуць горад, асветленая забрукаваная вуліца выклікае ў яго другія пачуцці, чым дзень-два назад. Горад як бы робіцца варожым. На панэлі, топчучы лісце падстрыжаных таполяў, шчыльнай талакой вандруюць парачкі. Пад ручку з мясцовымі жанчынамі прайшло два немцы. З іх адзін — афіцэр — высока нясе курыную галаву ў седлаватай шапцы. Рослы славак-прыгажун вядзе дзвюх дзяўчат. Тыя, што гуляюць, прахаджваюцца, чыста апрануты. Смяюцца, весяляцца.

Драгуна поўніць злосць. Ілюзія мірнага жыцця. Адных арыштоўваюць, ломяць на допытах косці, другія робяць выгляд, што гэтага не існуе. Скончыцца вайна — яны не вінаватыя. Яны ціха-мірна сядзелі, выконвалі нямецкія загады. Хіба пойдзеш процiў сілы? Яшчэ выскаляцца будуць з такіх, як Драгун. Маўляў, якая розніца, пане Драгун, між намі і вамі. Усе мы працавалі на немцаў, зараблялі свой хлеб. Мяшчанства — гной гісторыі.

Драгун адчувае, што не зусім справядлівы ў сваёй злосці. Шпацыраванне па вуліцах — яшчэ нічога не азначае. За гэтым можа хавацца, што хочаш. Ёсць сярод хораша апранутых парачак падпольшчыкі, партызанскія сувязныя.

Наперадзе гарадскі парк. Проста кавалак лесу, абнесены жалезнай агароджай. Дрэвы старыя, разгалістыя. Пад нагамі шамаціць апалае лісце. Па выхадзе з парку пачынаецца вуліца Базарная (немцы пакінулі даваенную назву).

У другім доме ад пачатку — у пабеленым каменным асабнячку — жыве Турбіна.

Штосьці не дазволіла Драгуну адразу, як толькі параўняўся з каменным асабнячком, прашмыгнуць у адчыненую фортку. Замест гэтага ён яшчэ раз прадэфіліраваў па вуліцы. Дайшоў да базарнай плошчы, на якой чарнелі ў змроку драўляныя гандлёвыя рады і прысадзістыя будкі-ларкі. Вяртаючыся назад, міжволі прыпыніўся. У зачыненую брамку, амаль па суседству з асабнячком перакладчыцы, настойліва грукаў высокі немец-салдат. Другі стаяў на дашчаным тратуары, бесклапотна пасвістваў. Мяркуючы па свісце, салдаты не збіраліся ўчыняць вэрхалу. Яны былі нават без вінтовак. Вокны ў доме свяціліся, але ніхто на грук не выходзіў. Раптам высокі з маладым спрытам перамахнуў цераз парканчык, падабраўся да акна, але тут яго напаткала няўдача. Відаць, ён за нешта зачапіўся, і замест далікатнага стуку ў акне дзынкнула выбітая шыбіна. Напарнік, што астаўся на тратуары, гучна зарагатаў.

Драгун зірнуў на ручны гадзіннік. Бліскуча-зеленаватыя стрэлкі паказвалі палавіну дзясятай. Шмыгнуў у фортку, падняўся на ганак, настойліва пастукаў у дзверы. Адразу бразнула зашчапка, і той, хто адчыняў дзверы, нічога не

спытаўшы, рушыў у пакой. Драгун нерашуча ўціснуўся ў вузенькі цёмны калідорчык, намацаўшы клямку, ступіў у пакой. На яго, стоячы ля кафельнай печы-пліты, спакойна глядзела пажылая паўнацелая кабеціна ў пярэстым фартуху.

— Тут жыве Эрна Іванаўна?

— Тут. Яе няма.

— Мне вельмі трэба бачыць Эрну Іванаўну.

— У кіно пайшла. Не ведаю, калі прыйдзе.

Голас у жанчыны абыякавы, нязлосны — відаць, прызвычаілася да позніх наведвальнікаў. Сесці не запрасіла, аграном сеў на табурэцік сам, паклаў на калені кепку. Такая бесцырымоннасць жанчыне не спадабалася. Падцяўшы губы, падалася за паркалёвую занавеску. Грукае пасудай.

Адчыніліся пафарбаваныя белыя дзверы, выглянуў хлопчык гадоў шасці, у адной кашульцы.

— Мамы няма?

— Славік, спаць! — пачуўся голас з-за занавескі.

Дзіця паспешліва зачыніла дзверы.

Драгун спадцішка аглядае пакой. Звычайная, не вельмі кідкая гарадская абстаноўка. Пакой адначасна кухня і прыхожая. Электрычная лямпачка пад жоўтым абажурам-парасончыкам. Такія прадавалі напярэдадні вайны. Круглы стол, засланы каляровым, з прозалаццю абрусам, пры ім два старамодныя крэслы з выгнутымі спінкамі.

Жанчына выплыла з-за занавескі:

— У вас каго-небудзь арыштавалі немцы?

Ён уздрыгнуў:

— Чаму вы пытаецеся?

— Да яе часта прыходзяць прасіць. Мае да немцаў доступ.

— Не, у мяне нікога не арыштавалі.

Адразу пасля яго слоў на парозе ўзнікла зграбная постаць маладой жанчыны ў светлым кароткім плашчыку.

Драгун падняўся з табурэткі:

— Прабачце, што так позна. Неадкладная справа.

Турбіна акінула яго хуткім нездаволеным позіркам.

— Вы староста з Буды?

— Не з Буды і не з Грабовіч (добра, што не пазабываў вёсак). Мне трэба пагаварыць з вамі.

Стрэлкі густых прыгожых брывоў узлятаюць угору. На твары жанчыны замяшанне.

— Сакрэтаў не люблю. Ідзіце з імі ў жандармерыю.

— Справа датычыць вас.

Драгун адчувае, як жанчына поўніцца да яго калючым недавер’ем. Яшчэ хвіліна — выставіць яго за дзверы.

— Прабачце, я не так сказаў. У нас ёсць агульны знаёмы.

Яна вагаецца. Ён вельмі няўдала пачаў гаворку.

— Я мог бы зайсці да вас у камісарыят. Працую ў аграноміі.

Турбіна глядзіць на яго спалоханым позіркам. Адно імгненне, і яна бярэ сябе ў рукі.

— Распранайцеся,— гаворыць абыякавым голасам.— Толькі папярэджваю — ненадоўга.

Драгун вешае плашч на спінку крэсла. Ідзе ў другі пакой услед за жанчынай. Зальчык вузенькі — канапы і крэслы. Стол у засені фікусаў. Гаспадыня запрашае садзіцца, сама нырае за занавеску, у баковачку. Там спальня — чуюцца ўзрадаваныя дзіцячыя галасы.

Драгун прымошчваецца на ўскраек канапы. Цяпер ён спакойны.

Хвілін праз пяць паяўляецца гаспадыня. Здаюцца ненатуральнымі пры чорных брывах высока ўзбітыя белыя валасы.

— Хто наш агульны знаёмы?

— Тапаркоў. І Бондар. Тапаркоў вас папярэджваў, што я прыйду.

Гаспадыня маўчыць. Ледзь прыкметна торгаецца верхняя прыпухлая губа.

— Як ваша прозвішча?

— Драгун. Я ў горадзе апошні дзень. Да вас прыйдзе дзяўчына. Завуць Гэля. Пароль «лес». Мне пароля не далі.

У Турбіной чорныя, бліскучыя, нібы абмытыя слязой, вочы. Глядзіць на Драгуна прыхільна. Падымаецца, прыносіць з баковачкі пачак цыгарэт, запальнічку. Дае закурыць яму і сама закурвае.

— Я ўжо хадзіла да адной жанчыны. Дзе знаходзяцца вашы, вядома. Самі разумееце, што можа быць...

— Адкуль вядома? — выдыхнуў Драгун і аж скалануўся.

— Аднаго злавілі. Дапытваюць. Ён сам ахвотна расказвае.

— Хто?

— Прозвішча Сізых. Ведае, праўда, не шмат.

Драгун падае Турбіной руку, паспешліва ўстае. Ужо на ганку падносіць да вачэй гадзіннік. Без дзесяці адзінаццаць.

## II

Калі гарбылёўцы выбіраліся з Журавіч, Сізых і Півавар у сасняку адсталі. Збеглі з пясчанага пагорка, зашыліся ў густы ляшчыннік. Нарэшце на дарозе сціхлі апошнія галасы.

— Палатачкі, ваенны статут,— сказаў Сізых.— Пацалавалі немцам задніцу. А чаго было пёрціся? Немцы ж не лезлі...

Півавар насуплівае шырокі абветраны твар:

— Гаворыш правільна. А куды дзенемся? Зіма вось-вось...

— Возьмем курс на Брусы. Аркашка там. Не такі дурань, каб забыць мяса-малочную старану.

Сіняваты вячэрні змрок сцелецца між сосен. Настрой кепскі. З харчу ў кішэнях па кавалку зачарсцвелага хлеба.

Па лесе блукалі доўга, аж ногі загулі ад стомы.

Наперадзе бліснула чорнае вока ляснога азярка.

— Тут будзем піць чай,— сказаў Сізых.— Заварка бясплатная.

Прыселі ў кустах лазняку, надралі на логвішчы моху. Лёгшы, прытуліўшыся адзін да аднаго, жавалі хлеб. Стома ўзяла сваё,— калі лес патануў у дзягцярнай цемені, моцна, нягледзячы на золкасць, заснулі.

Прачнуліся на світанні ад шалёнага крыку. У некалькіх кроках — натоўп паліцаяў з настаўленымі рулямі вінтовак.

— Рукі ўгору!

Півавар падхапіўся, ірвануўся бегчы, але тут жа ўпаў, падкошаны кулямі. Сізых падняў рукі...

Яго звязалі і павялі на вяроўцы. Біць зачалі ў лесе. Не пыталі нічога — хто, адкуль — малацілі палкамі, кіямі, яловымі сукамі, не разбіраючы. Сізых падаў — падымалі, білі зноў.

На вяроўцы, звязанага, правялі па жураўіцкіх вуліцах. Дубасілі яшчэ людзей. На плошчы Сізых страціў прытомнасць.

Ачнуўся ў сутарэнні. Цела гарэла, як у агні. Галава, твар, плечы — усё распухла. Сізых папрасіў піць — ніхто не адазваўся. Яго зноў паглынула бездань бяспамяцця.

Раніцай наступнага дня ля каменнага сутарэння журавіцкай каталажкі зароў матор нямецкага грузавіка. Паліцаі вынеслі Сізых, узяўшы за рукі і ногі. Дно кузава заслалі саломай. На барты села варта — чатыры жандары з вінтоўкамі.

Калі прыехалі ў Гарбылі, палоннага на насілках занеслі ў камеру, паклалі на халодную цэментавую падлогу. Адразу паявіўся сівы, у акулярах афіцэр-жандар.

— Ты партызан? — спытаў афіцэр па-руску.

Сізых маўчаў.

— Ты павінен гаварыць. Інакш — смерць.

З распухлага, як гарбуз, твару глядзелі на афіцэра абыякавыя, поўныя пакуты вочы. Парваны шэры пінжак, гімнасцёрка залубянелі ад крыві.

Афіцэр выйшаў у калідор, сказаў вахману:

— Ён страціў смак да жыцця. Трэба, каб ён зноў захацеў жыць.

Праз паўгадзіны жандары пераклалі палоннага на паласаты матрац. Паставілі на падлогу вядро вады, кацялок гарохавага супу.

Вахман выняў з блішчастага партсігара тры цыгарэты, дастаў з кішэні пачак запалак. Гэтыя, не прадугледжаныя турэмнымі правіламі, дары паклаў на падлогу, побач з матрацам.

Вязень пачаў выяўляць прыкметы жыцця на трэці дзень. Дацягнуўся да вядра, разліваючы па падлозе ваду, доўга, прагна піў. Калі заўважыў цыгарэты і запалкі, у яго задрыжалі рукі. Цыгарэты да палавіны былі падмочаны. Мокрым канцом узяў цыгарэту ў распухлыя губы, непаслухмянымі пальцамі чыркнуў па карабку запалкай...

У поўдзень зашоргаў ключ у замку. На гэты раз побач з сівым афіцэрам стаяў высокі маладжавы немец у карычневым без пагонаў мундзіры, з чорна-белым кругам свастыкі на чырвонай нарукаўнай павязцы.

— Ты партызан? — спытаў сівы.

— Не,— слабым голасам адказаў палонны.

— Але цябе злавілі з вінтоўкай.

— Без вінтоўкі ў лесе не пражывеш.

— Ты быў з партызанамі?

— Мяне захапілі сілай.

— Ведаеш, дзе лагер бандытаў?

— Ведаю.

Афіцэр стаў паспешліва тлумачыць немцу са свастыкай на рукаве сэнс адказу палоннага. Той прыкметна паружавеў, пажвавеў.

— Табе допыт у паліцыі рабілі? — зноў спытаў афіцэр.

— Не. Толькі білі.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

### I

Асенняе сонца дагарае ў вяршалінах сосен. Надвячоркам Бондар выстраіў у шарэнгу па двое атрад. Шарэнга доўгая — заняла прамежак ад палатак да зямлянак. У страі ўсе — камісар, начальнік штаба, камандзіры ўзводаў, аддзяленняў. Бондар у шэрай ватоўцы, падпяразанай шырокім вайсковым рамянём, у ботах, халявы якіх ледзь не да каленяў. На новай камандзірскай шапцы яркі чырвоны аколыш.

Людзі, што выстраіліся па двое ў рад, тварам да камандзіра, апрануты хто ў што — у вайсковыя ватоўкі, шынялі, скураныя тужуркі, бобрыкавыя паліто, шэрыя сялянскія світкі. Выдзяляюцца на гэтым размаітым фоне чорныя шынялі палякаў-тодтаўцаў, ярка-зялёныя — славакаў. Самых разнастайных колераў і фасонаў шапкі, а таксама абутак.

Перад шарэнгай на доле станковы і некалькі ручных кулямётаў. Ля ног у байцоў вінтоўкі, карабіны пераважна рускага ўзору, але ёсць караткаватыя нямецкія, паўтараметровыя французскія, у магазіне якіх толькі па тры патроны.

— Немцы ведаюць месца лагера,— глухім, хрыплаватым голасам пачынае Бондар.— Адсюль здымаемся. Гаспадарчы ўзвод, хворыя, параненыя выбіраюцца на новае месца.

Куды — нікому нецікава ведаць. Сюды цяпер не вернемся. Дадзім немцам бой, пойдзем у Акцябрскі раён. Для сувязі з другімі атрадамі...

Па шарэнзе працяглы, як подых асенняга ветру, уздых. Людзі перамінаюцца, кранаюць адзін другога плячом, перашэптваюцца.

— У дарозе захоўваць паўнейшую цішыню,— працягвае Бондар.— Магчыма засада. Аддзяленне Мядзведзева — у дазор. Трымацца на адлегласці паўкіламетра. Сігнал трывогі — тры стрэлы. Прыпынак ля павароту на Альхоўскі бор...

— На шашу,— чуецца нечы прыглушаны голас.

— Разгаворчыкі! — Бондар непрыхільна глядзіць на хлопца ў шэрай світцы і чырвонаармейскай пілотцы.— Ідзём у засаду. Можа працягнуцца два ці тры дні. Харчы браць з сабой...

Выйшлі хутка. Строю не захоўвалі. Наперадзе Бондар, Хмялеўскі і начальнік штаба лейтэнант Казачэнка — адзіны ў атрадзе чалавек з галавы да ног апрануты ва ўсё вайсковае. Камісар нясе вінтоўку на манер паляўнічага ружжа — руляй уніз. Побач з падцягнутым, стройным Казачэнкам здаецца смешным.

Старая грэбля-зімнік зарасла высокай парыжэлай асакой. Узбоч чырванеюць арабіны, на цэлыя гоні цягнецца некранУты, абсыпаны пераспелымі чарнаватымі ягадамі, ажыннік. Сонца амаль схавалася за далёкім лесам. На балотным абсягу, скрозь, як акінуць паглядам,— надзьмута-круглыя шары белаватага лазняку. Вакол пануе цішыня, як бы прасякнутая трывожна-насцярожанай зацятасцю. Такі настрой заўсёды вынікае ў закінутых, аддаленых ад чалавечага жытла мясцінах перад захадам сонца, сціскае сэрца незразумелым смуткам.

Ідуць моўчкі. Чуваць толькі шоргат ботаў, чаравік, лёгкае бразгатанне кулямётных дыскаў, ды час ад часу трэсне пад нагамі сухая струхлелая галінка. Ісці цяжка — ногі блытаюцца ў жорсткай някошанай траве. Добра хоць, што гарачае лета высушыла балота і не трэба плаваць па дрыгве і багавінні...

У бор, на цвёрды пясчаны грунт, выбіліся, калі ўжо зусім сцямнела. Але цемень вісела нядоўга: якраз з боку балота выкаціўся і павіс на краі неба круглы чырванавата-серабры-

сты гарбуз месяца. Неба засеялі зоркі. Пад соснамі паўзмрок і цішыня. Толькі недзе глыбей, у самым гушчары, перагукваюцца начныя птушкі.

Дазорцы — Мядзведзеў і Шура Гарнак — дачакаліся атрада на ўскрайку лесу.

— Ціха,— далажыў камандзіру Мядзведзеў.— Па ўсіх прыкметах немцы сюды не прасачыліся...

— Трымаць ранейшую дыспазіцыю! — загадаў Бондар.— Калі што заўважыш, прышлеш Гарнака. За кіламетр ад шашы спыніцца. Далей не ісці...

Дазорцы зніклі між соснаў, а байцы, цяпер ужо не надта дбаючы пра цішыню і засцярогу, сталі размяшчацца на адпачынак.

Зрэшты, да шашы яшчэ далёка, кіламетраў восем, а наперадзе цэлая ноч.

Курцы — іх бадай што палавіна атрада — чыркалі запалкамі, хаваючы агонь у далонях, прыкурвалі. Воўчым вокам мігцелі ў змроку аганькі папярос. Бондар з Казачэнкам, адышоўшы ў глыб лесу, аб нечым раіліся. Да іх прыглушаных галасоў спачатку прыслухоўваліся, стараючыся ўлавіць, аб чым ідзе размова, а потым перасталі, напаўголаса загаварылі, зашапталіся аб сваім. Так прамінула з паўгадзіны. Некаторыя, відаць, не спадзеючыся паспаць гэтай ноччу, прыдрамнулі, засвісталі насамі. Нехта грыз сухар. І тады ўзапар, адзін за адным, праграмелі тры гучныя лясныя стрэлы.

— У ланцуг! — падаў каманду Бондар.— Без маёй каманды не страляць!

Затрашчала пад ботамі сухое вецце, яловыя шышкі. Мітусня працягвалася не болей мінуты. Потым у наступіўшай трывожнай цішыні пагрозна заклацалі затворы. З боку дазорцаў болей ні гуку. Прайшла адна насцярожаная хвіліна, другая, трэцяя. Нарэшце пачуліся таропкія крокі. Нехта бег.

— Не страляйце,— пачуўся задыханы, збянтэжаны голас Шуры Гарнака.— Трывога дарэмная. Мабыць, праз кусты драўся звер.

— Калі заяц, то трэба было за хвост хапаць,— рагатнуў нехта з сасновага змроку.— Куляй толькі шкурку сапсуеш...

— Хто страляў? — злосна дапытваўся Бондар.— Ну, гавары!..

— Мы думалі...

— Перадай Мядзведзеву — галаву адкручу. Марш у дазор!..

Прыкрае здарэнне мела дадатны бок. Відавочна падняло настрой, зняло насцярожаную зацятасць, якая валодала людзьмі ўвесь вечар. Цяпер ішлі па лясной дарозе, не прыглушаючы кроку, курачы, размаўляючы. У поўнач спыніліся паблізу ад шашы.

Ля шашы лазілі да світання, абследаваўшы яе ў абсягу некалькіх кіламетраў. Ноччу руху няма. На ўзбочыне шашы выразныя адзнакі дарожнага жыцця — абрыўкі газет, бляшанкі з-пад кансерваў, у адным месцы скінутая пад адхон нямецкая фурманка з абламаным колам.

Заляглі ля мастка над перасохлым раўчуком, там, дзе на шашу ўзыходзіць прасёлкавая дарога на Альхоў. Немцы тут павінны паварачваць. Пазіцыя — прывабная ва ўсіх адносінах. З гэтай мясціны шаша далёка праглядваецца. Можна добра стаіцца — якраз ля мастка густыя зараслі ляшчыны, алешніку, вербалозу. Лепшай пазіцыі не выбераш, калі мець на ўвазе абстрэл шашы, дарогі і шляхі для адыходу. Па дне звілістага раўчука, не прадзіраючыся праз зараслі, можна непрыкметна знікнуць. Бондар аддаў загад — без сігналу не страляць.

У засадзе ляжалі дзень, ноч і пачатак другога дня. Жавалі счарсцвелы хлеб, грызлі сухары, асцярожна, у кулак, курылі.

Шэрай лентай перад вачамі шаша і шаша... Шура яе ведае — колькі разоў перабягаў. Выкладзеная рабрыстым калатым гранітам, скончаная перад самай вайной, злучае брусчатка два гарады, з якіх адзін на Прыпяці, другі — на Дняпры.

Шаша цяпер нямецкая. За ўчарашні дзень праехала машын дзесяць, адна танкетка.

Шура ляжыць паміж Мядзведзевым, які сам за кулямётам, і Багдановічам. У Мядзведзева засяроджаны, зарослы рэдкай шчацінай твар, навіслыя густыя бровы. Налёг плячом на прыклад, не зводзіць з шашы вачэй. Багдановіч паводзіць сябе вальней. Карабін адклаў убок, асцярожна адламвае галінкі, падграбае пад сябе лісце, каб зрабіць мякчэйшае логава. Здаецца, Багдановіч зусім не думае, што будзе бой. Шура таксама не думае.

Паднялося ўжо сонца, хоць тут, пад густой навіссю арэшніку, яго цяпло яшчэ не адчуваецца. Праз густую сетку галін відзён кавалак шашы і такі ж непралазны ляшчыннік з таго боку. Там як бы неяк трывожна перагукваюцца птушкі. Тут, над імі, птушак няма — пачуўшы людзей, зніклі. Насып шашы вышэй іх сховішча, і гэта лепш, выразней бачна цэль. Усё-такі марудна бяжыць час. Шаша бязлюдная.

Шура пераводзіць позірк на лапінку зямлі, якая перад самым тварам. Знізу куст арэшніку — у добры абхват. Можа, дваццаць прамых, з гладкай шэрай карой кійкоў цягнуцца ўверх, навісаючы там шырокім шатром. Сонечнаму промню цяжка прабіцца праз густы зялёны заслон, таму пад арэшнікам нічога не расце. Чорная зямля, укрытая апалым лісцем. Сярод мёртвага лісця — два зялёныя, жывыя, на тоненькай кволай сцяблінцы. Можа, гэта пабег ад карэння, а можа, леташні апалы арэх. Шура не хоча дазнавацца прычыны і вырываць сцяблінку з зямлі. Няхай расце. Некалі яны, хлапчукі, ласаваліся вось такімі прарослымі арэхамі, саладзейшымі за звычайныя, сарваныя з галіны. Калі гэта было? Даўно-даўно, у дні бесклапотнага басаногага дзяцінства, якое мроіцца ў хісткім ружовым тумане. Цяпер Шуру васямнаццаць, і зусім іншыя думкі...

Шаша бязлюдная. Чаму ніхто з мясцовых жыхароў не пройдзе, не праедзе па гэтай, некалі ажыўленай дарозе?.. Зрэшты, вяскоўцаў можна зразумець — баяцца. Хто адважыцца высунуцца на шашу, якая цяпер ва ўладанні немцаў, жорсткіх, незразумелых?..

Заняты думкамі, развагамі, Шура раптам пачуў натужны густы гул, які даносіўся з-за павароту шашы. Сутаргава хапіўся за карабін...

— Не страляць,— чуе ён шэпт Мядзведзева.— Калона...

Нарэшце паяўляюцца машыны. Тупарылыя чорныя грузавікі адзін за адным мільгаюць у кароткім абсягу шашы, які адкрываецца Шуравым вачам. Грузавікі, кузавы якіх укрыты пярэстым, размаляваным чорна-зялёнымі плямамі, брызентам і адкрытыя, поўныя салдат, апранутых у зялёныя мундзіры. Твараў Шура не бачыць, салдаты сядзяць спіной да яго, а машыны праносяцца імгненна. Калона здаецца

бясконцай, невыцерпны пагрозны гул матораў праглынуў усе гукі лесу, зрабіўся стагалосым рэхам, ён адзін стаіць у вушах. На імгненне Шуру здалося, што адтуль, з боку старога бору, адкуль яны выбіліся да шашы, таксама насоўваюцца чорныя тупарылыя грузавікі. Горкі камяк падступіў да грудзей, стала цяжка дыхаць...

— Га-а-тоўсь! — пранеслася па ланцугу каманда. Калі на павароце шашы на дарогу мільгнуў цёмны сілуэт грузавіка, працяжным громам трэснулі гранаты. Шаша, дарога ахуталіся дымам. З гэтага дыму, размахваючы рукамі, выскаквалі і падалі немцы — іх касілі кулямётныя чэргі, частыя, гулкія адзіночныя стрэлы. Шура страляў разам з усімі ў шызы дым, у зялёныя мундзіры. Затым, падхоплены пругкай хваляй, выскачыў на шашу. Падбітых, пакрэмсаных машын пяць ці шэсць. Дзве гараць.

Па шашы бязглуздым гуртам, не страляючы, не азіраючыся, бягуць немцы. Шура прыпаў на каменны насціл, зноў страляў, выразна, радасна бачачы, як пасля яго стрэлу адзін з тых, у спіну каму цэліўся, астаўся ляжаць на шашы.

Потым здарылася незразумелае. На павароце шашы паявіліся новыя грузавікі. З іх як гарох пасыпаліся салдаты. Тыя, што беглі, спыніліся, сталі разбягацца на абодва бакі шашы.

Астатняе адбілася ў Шуравай памяці бязладнай мітуснёй стрэлаў, громам гранатных выбухаў, нечалавечым енкам параненых. Немцы насядалі. Яны, здаецца, стралялі з усіх бакоў. У голлі арэшніку гулка і часта лопаліся разрыўныя кулі.

Партызаны адстрэльваліся. Цэлі цяпер не відаць. Самі немцы стралялі з лесу. Гахнула раз, другі — услед за свістам чуўся пранізліва-гулкі выбух.

— Міны!

Выбухі пачуліся бліжэй, амаль поруч. Свісту не чуваць, а толькі ціхае, амаль нячутнае шасценне ў перапынку паміж выбухамі. Шура бачыў, як за некалькі крокаў ад яго шуганула фантанам чорная лясная зямля, а двое, якія беглі, наляцелі на гэты фантан, упалі і не падняліся.

— Акружаюць!

Беглі па перасохлай канаўцы раўчука. Прыгнуўшыся, у адзін міг пераскаквалі шашу. Увесь час адстрэльваліся. Нем-

цы стралялі цяпер з ляшчынніку, з таго месца, дзе нядаўна ляжаў атрад. Гахалі міны. Партызаны ляжалі за соснамі, у прамежку лесу, заціснутым між шашой і чыгункай. Але гэта не палохала...

## II

Ці чулі вы, як шуміць вецер у соснах?

Няма ў ціхае надвор'е лесу болей спакойнага, паважнаўрачыстага, чым сасновы бор. У ім забываеш пра мітусню і згрызоты, з пачуццяў знікае ўсё мізэрнае, дробязнае, душа як бы яднаецца з бясконцасцю свету і жыцця.

Але няма другога, чым сасоннік, лесу, які б болей уражваў пры непагодзе. Тады здаецца, што ўздыхае сама зямля, зацята-аднастайны пошум навявае смутак, неспакой, уздымае спадыспаду душы незразумелую трывогу.

Вецер у соснах нагадвае чымсьці хваляванне мора. Як і мора, сосны найболей неспакойныя на зломе litpары, калі атуляюць зямлю імклівыя вятры, калі зіма ідзе на змену лета, а вясна, у сваю чаргу, праганяе зімовыя сцюжы...

* * *

Ноч. Стаянка ў незнаёмым лесе. Заўтра рушыць атрад далей, у межы Акцябрскага раёна.

Высока шугаюць вогнішчы сярод выносных барвовых сосен. Ляцяць пад цёмныя шаты светлякі іскраў. З палавіны, дзе канчаецца шэрая, шурпатая кара, хваёвыя камлі адсвечваюць залатымі бляскамі...

З даваенных, мірных яшчэ турбот асталіся ў лесе лаўжы валежніку, штабялі дроў — сляды санітарнай рубкі. Нарыхтаваная, запісаная па акту драўніна ляціць у агонь. Вогнішчы аграмадныя. Колькі вогнішчаў, столькі кампаній. Рогат. Выгукі. Шматгалосая гамана...

Сыпаны, езджы шлях перасякае бор, ляжыць за паўвярсты ад стаянкі. Але начлег тут выбралі. Галоўнае — сухі, чысты лес, дроў не трэба збіраць.

Бондар ляжыць воддаль ад вогнішчаў, на разасланай плашч-палатцы. Глуха ные прабітая асколкам далонь. Трэцяе раненне, калі лічыць з фінскай вайны...

З той хвіліны, як першы грузавік звярнуў з прасёлкавай дарогі на шашу, Бондар адчуў, што засада будзе ўдалай. Немцаў аглушылі, імгнення нарадзіўся той парыў, калі не трэба камандаваць, калі людзі звышнатуральным чуццём угадваюць, што трэба рабіць. Нават самыя нявопытныя, неабстрэленыя, якія жывуць у баі пад уладай страху. Асобныя адмеціны разгубленасці былі і ўчора, але толькі асобныя. Патанулі ў хвалі ўсеагульнага ўздыму. Немцы пусцілі калону дзвюма часткамі. Ён, камандзір, загадзя не падумаў пра гэта. Такое нельга прадбачыць. Але ўсё адно панікі не было...

Самае страшнае — смерць Казачэнкі, начальніка штаба, які цягаў з сабой сумку з дакументамі. Глупства, якое нельга даравацъ. Ён, Бондар, хацеў, каб было па-вайсковаму. Тут памылка. Партызаншчына — вайна асобая. У Казачэнкавай сумцы спіскі атрада, другія паперы. Відаць, запісана дакладна, хто, адкуль, калі прыйшоў, поўнасцю — прозвішча, імя, імя па бацьку. Немцы, вядома, сумку падабралі. Будзе кроў. Калі расшыфруюць спіскі, страшна падумаць...

Хмялеўскі, з ім васьмёра з навакольных вёсак спецыяльна асталіся, каб папярэдзіць, каго можна. Вось так, друг Валодзя, дарагі начальнік штаба... Ты загінуў, а пра мёртвых дрэнна не гавораць. Не гаварылі б, каб не сумка...

Пра забітых, параненых Бондар не думае. На вайне як на вайне. Атрад абстраляны. За чатыры лясныя месяцы першы круг замкнуўся. Зачынаецца новы. Ясна, што трэба: доктар, медыкаменты, сямейны лагер. Паглядзяць, як прыдумалі гэта ў Акцябры. Прыйдуць не з пустымі рукамі. Дванаццаць эшалонаў — поўнасцю скінутых ці часткова — усё-такі рэзультат.

А Турбіна — твая заслуга, пане-капітане. Вайсковая спецыяльнасць не падвяла. Талковы разведчык каштуе многа. Страшна ад думкі, што было б з атрадам, каб не гэтая незразумелая жанчына.

* * *

Сутнасць партызанскага руху не толькі ў тым, што народныя мсціўцы сваімі дыверсіямі, нападамі на чыгунку, на гарнізоны, на калоны, на асобныя групы салдат, афіцэраў, паліцэйскіх, наносілі прамую шкоду нямецкай ваеннай машыне, а ў невымерна большым.

Сабраныя ў адзін кулак паўтараста, дзвесце, нават, трыста чалавек уяўляюць сабой не такую ўжо грозную сілу. І хоць слава кожнага атрада вымяраецца найбольш буйнымі дыверсіямі, нападамі, дзейнасць яго на гэтым не канчаецца. Справа якраз у тым, што паўтараста ці дзвесце чалавек сышліся ў атрад з дваццаці ці трыццаці вёсак, паселішчаў, і ў прамежку паміж буйнымі дыверсіямі — а такія прамежкі і складалі асноўнае жыццё атрадаў — яны расплываліся па наваколлю дзесяццю і дваццаццю дробнымі групамі, чынілі сваю дзейнасць у розных, аддаленых адна ад другой, мясцінах.

Людзі не маглі жыць у лесе, як звяры, іх цягнула да чалавечага жытла. За кожнай з такіх дробных груп, якія выйшлі на заданне, стаялі памочнікі з вёсак, мястэчкаў, гарадоў, яны наводзілі партызан на цэль, перадавалі патрэбныя звесткі, папярэджвалі аб небяспецы.

І калі вораг станавіўся перад фактам, што партызанам усё вядома, што яны ўсё бачаць, што яны для яго няўлоўныя, яму рабілася страшна. Калі ў адзін і той жа дзень узрывалася міна на чыгунцы, выпорваўся з самага патайнага сховішча стараста-здраднік, перахоплівалася фурманка з яйкамі, акупанту, які адказваў за спакой у сваім адміністрацыйным раёне, можна было прыйсці ў адчай. І калі немец-салдат, які вяртаўся з урляўба на фронт, пад Вязьму ці пад Сталінград, чуў пра партызан у Брэсце, Гомелі і Бранску, ён дрыжаў за сваё жыццё, нават едучы ў цэльнаметалічным класным вагоне. У акопы і бліндажы ён прыбываў з некаторай маральнай траўмай, яго баявы дух даваў трэшчыну...

## III

Па камісарыяту блукалі глухія чуткі, што партызаны разбіты — частка перастраляна, частка здалася на міласць немцаў. Ноччу Турбіна не самкнула вачэй. На службу з’явілася з шэрым зямлістым тварам, з сінякамі пад вачамі. Не паспела яна пераступіць парог канцылярыі — на стале дзынкнуў унутраны тэлефон. Гебітскамісар выклікаў да сябе.

Турбіна падымалася па прыступках лесвіцы на другі паверх, задыхалася. Кабінет гебітскамісара — у найбольшым пакоі, у канцы доўгага калідора.

Рог стаяў за сталом, хмурыў выпеставаны белы твар.

— Фрау Эрна, схадзіце асабіста ў штаб ахоўнага палка. Там партызанскія дакументы. Вазьміце тыя з іх, якія могуць нас цікавіць. Вайскоўцы на ўсё наклалі лапу. Лічаць, што мелі справу з рэгулярнай часцю. На той падставе, што сумка з дакументамі знойдзена ў забітага рускага афіцэра. Я такі пункт гледжання не падзяляю.

У Турбіной адлягло ад сэрца.

— Гер камісар, я звычайная служачая. Хіба маю права ўмешвацца ў ваенныя сакрэты?

— Фрау Эрна, вы дапушчаны да большых сакрэтаў. Не забывайце, палітычную лінію сярод насельніцтва праводзіць гебітскамісарыят. Забярыце дакументы, якія датычаць палітычнай праграмы партызан, іх сувязей з партыйнымі цэнтрамі. Астатнія возьме жандармерыя. Камандзіру палка я пазваніў...

Штаб ахоўнага палка ў трохпавярховым, з чырвонай неабліцаванай цэглы, доме. Побач, на другім баку завулка, дом, у якім займае пакой Фрыц Зонэмахер. Турбіна сюды часта завітвае.

Турбіна зайшла ў канцылярыю штаба — шрайберштубе. Дазнаўшыся, хто яна, лысаваты пісар-фельдфебель павёў яе па калідоры, пастукаў у абабітыя чорным дэрмацінам дзверы.

Над сталом у пакоі схіліліся два афіцэры — немалады ў пацёртым мундзіры капітан і апрануты з іголачкі лейтэнант.

— Я старшая перакладчыца гебітскамісарыята...

— Фрау Цюрбін, вельмі прыемна.— Капітан галантна прыстукнуў абцасамі, вымавіўшы прозвішча Турбіной на нямецкі манер.— Просім вашай дапамогі, фрау.

Ён даў ёй у рукі кніжачку — вайсковае пасведчанне асобы. Яна разгарнула чырвоныя вокладкі і ледзь стрымалася, каб не крыкнуць. Дакумент — фотакартка была сарвана — належаў Казачэнку, таму самаму лейтэнанту, які прылучыў яе да небяспечных партызанскіх спраў.

— Гэта аўсвайс рускага афіцэра? — спытаў капітан.

— Так,— адказала яна, стараючыся гаварыць спакойна.

— А гэта? — капітан узяў са стала зачытаны, выцерты па краях складкі, нумар «Праўды».

— Савецкая камуністычная газета. Выдаецца ў Маскве.

— Дата? — не хаваючы нецярпення, усклікнуў капітан.

— Дваццаць чацвёртага чэрвеня сорак другога года.

— Вальтэр, бачыш сам, я не памыляюся,— не зважаючы на прысутнасць Турбіной, загаварыў капітан да лейтэнанта.— Мая здагадка пацвярджаецца. Нават без аўсвайса афіцэра і газеты ясна, што так весці карту мог вайскова адукаваны чалавек.

Турбіна неўпрыкметку кінула позірк на стол. Там разасланая карта-двухвёрстка з густым засевам чырвоных і сініх значкоў, паперы, скураная камандзірская сумка з кішэнькамі для алоўкаў.

— Фрау, яшчэ адна просьба. Паглядзіце, што напісана ў гэтых паперах?

У Турбіной дрыжалі рукі, калі дакранулася да зашмальцаванага, вырванага са сшытка ў клетачку, лістка.

— Тут, гер капітан, лічбы. Гадзіны сутак. Пасты, каравулы. Я ў ваенных справах мала разбіраюся.

— Так. Пакіньце нам.

Далей — проста жахліва. Пацямнела ў вачах, калі Турбіна пачала гартаць акуратна разграфлены школьны сшытак. Асабовы склад атрада. Поўнасцю прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, нацыянальнасць.

— А гэта што?

— Па-мойму, спісак вёсак раёна. Прозвішчы старастаў. Дакладна — колькі чаго пасеяна, колькі жывёлы...

— Вазьміце для гебітскамісара. Няхай паменшыць сялянам пастаўкі за кошт узятага партызанамі.

Некалькі паперак — тэксты лістовак, а таксама запісаныя, відаць, па радыё зводкі Саўінфармбюро за верасень.

Капітан страціў да папер цікавасць.

— Забірайце. І газету вазьміце. Няхай гер гебітскамісар у вольны час паразважае над тым, якімі шляхамі трапляе ў яго раён бальшавіцкая прапаганда...

Турбіна выйшла ў завулак. Яе ўсю калаціла. Таіцца ўмее. Жаночае жыццё дае нямала выпадкаў, калі трэба таіць узрушанасць, сапраўдныя пачуцці. Але такога яшчэ не было. Сшытак трэба зараз жа знішчыць...

Ішла па дашчаным тратуары, памахвала белым рыдыкюльчыкам, пастуквала тонкімі абцасікамі туфель-лакірак. Выкшталцаваная нямецкая лялька. Як у той песні пра легкадумную Лілі Марлен: «Seine Schritte kennt sie, seine schöne Gang»[1].

Успомніла, што ў летні дзень, за год да вайны, менавіта ў гэтым завулку нечакана застала яе навальніца. Тады вярталася са станцыі, дзе адразу ў паштовы вагон укінула ліст свайму лётчыку, з якім разлучыла яе рэўнасць мужа і злосныя языкі. Каб не змокнуць, заскочыла тады ў зялёны дворык, схавалася пад навесам ганка. Маладжавая чарнавалосая гаспадыня запрашала ў хату — не пайшла.

Знаёмы дворык — вось ён. Рыпнула веснічкамі, пайшла па выкладзенай цэглай дарожцы. Шасціць пад нагамі апалае лісце яблынь, сліў. Гаспадыня — пазнала адразу — мые каля калодзежа таз, глядзіць насцярожана.

— Прабачце, цёця! Дзе ў вас адхожае месца?

Паслуга невялікая — гаспадыня ўсміхнулася. Зайшла ў дашчаную будку-шпакоўню, дастала з рыдыкюльчыка сшытак, шчоўкнула запальнічкай. З кожнай старонкі — невялічкая чорная пасмачка попелу.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### I

Найбліжэйшы, найдаражэйшы для Міці чалавек — Іван Лобік. Міця цяпер таксама без бацькі і як бы параўняўся з Іванам.

---

[1] Свае крокі ведае, любуецца сваёй хадой *(ням.)*.

Добра мець блізкую душу, друга, перад якім можаш, не таячыся, раскрыцца да рэшты, расказаць пра запаветнае, глыбока схаванае. Да друга можна прыйсці заўсёды — ён зразумее нават тое, у чым сорамна прызнацца самому сабе. Зразумее і не асудзіць.

Жыве Міця пакутліва. Настрой, які валодае ім, нават горшы, чым быў летась у такую ж асеннюю пару.

Іван працуе на чыгунцы, у брыгадзе, дзе два месяцы назад працаваў Міця. У будні дзень на рабоце, прыходзіць вечарам — стомлены, маўклівы. Няма як пагаварыць. Міця з нецярпеннем чакае нядзелі. Нядзеля — іх з Іванам дзень, свята душы.

Міця апранае белую чыстую сарочку, збіраецца да Івана на Вакзальную вуліцу. Ідзе чыгункай, мінаючы тупік, склад былой «Плодагародніны», новае збожжавае сховішча. Склады немцы адрамантавалі — пачынаецца сезон нарыхтовак. Паблісквае зашклёнымі вокнамі вагавая будка.

Штодня перамены на дрывяным складзе. Растуць штабялі бярвенняў, крапяжу, шуркі дроў. Драўніну возяць на грузавіках-газагенератарах лясгасаўскія шафёры.

Усё паказвае на тое, што нямецкі парадак усталёўваецца, захопліваючы абсягі гаспадарчай дзейнасці.

Міця разгублены: ледзь не штоноч выбухі на чыгунцы, але немцы, здаецца, брывом не вядуць. Днём амаль безупынна нясуцца на ўсход цягнікі, вязуць новых салдат, гарматы, танкі. Нібы бяздонная Германія! Адкуль у яе ўсё бярэцца? Немцаў разам з аўстрыйцамі толькі восемдзесят мільёнаў, але ў Афрыцы яны, на Бліжні Усход цэляцца, і ледзь не ўся Еўропа пад іхнім ботам. У Францыі, Грэцыі, у далёкай Нарвегіі — усюды немцы. На савецкім фронце рвуцца на Каўказ, дасягнулі Волгі. Як паверыць, што ўсе арміі свету фактычна аказаліся небаяздольнымі перад нямецкай магутнасцю? Хто яны, немцы, што так уладарна крочаць па свеце? У чым вытокі іх сілы, бясстрашша? Грунтуючыся на чым, такая напорыстая Германія ў сваіх дамаганнях?

«Каб дасягнуць вялікіх мэт, трэба запаліць магутнай ідэяй народ»,— думае Міця. Аб гэтым гаварылі ўсе тыя кнігі пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, якія ён

прачытаў. Там усё ясна: рабочыя, сяляне змагаліся за свабоду, за тое, каб быць гаспадарамі жыцця. Таму яны — босыя, голыя — зрабілі немагчымае: разграмілі белыя арміі, скруцілі ў барані рог уласных паноў. Выгналі яны ўсялякіх інтэрвентаў, якія, баючыся, што руская рэвалюцыя перакінецца на іх краіны, душылі яе. Ваяваў народ. А калі паўстане народ, яго нельга перамагчы. Але ж у Германіі таксама ваюе народ! Не капіталісты, не памешчыкі на фронце, а звычайныя рабочыя, сяляне, нават парабкі, апранутыя ў нямецкія шынялі. За якую ідэю яны змагаюцца? Нельга ж паверыць, што звычайным прымусам можна дамагчыся таго, чаго немцы фактычна дамагліся. Дык няўжо ж Гітлер, як некалі Чынгісхан, запаліў немцаў ідэяй сусветнага разбою?..

Гэтыя думкі былі прычынай панылага, змрочнага Міцевага настрою, яго сумненняў. Летась партызаны выяўлялі сябе мала, сёлета куды больш, але не яны вырашаюць зыход вайны.

Ціха на Вакзальнай вуліцы. З прыпыленым, кранутым сям-там лёгкай жаўцізною лісцем стаяць таполі. У садках — падпоркі пад яблынямі, жаўтабокія антонаўкі раз-пораз бухкаюць на зямлю. Адбуяла ў агародах хмельная летняя зеляніна — павесілі галовы сланечнікі, не дзярэцца на платы гарбузнік, чарнее бульбянік. За агародамі, на ваколіцы — задуменная празрыстасць, якая прыходзіць на схіле лета. Фарбы мякчэюць, як бы растайваюць на вачах. Блізка восень.

Іванаў двор густа зарос травою — ад варот да хлява толькі вузкая сцяжынка. З жыўнасці ў двары — адна карова, ні свінчаці, ні кураняці няма. Ёсць кот, якога хлопцы яшчэ да вайны празвалі Мікітам — белы, пушысты, з рудой паласою па спіне і лбе. Мікіта — стараваты, абыякавы да ўсяго на свеце — шчасліва пераджыў, нягледзячы на частую бясхлебіцу, першы год вайны, уступіў у другі. Ён залазіць на дах, на самы вільчык, падкурчвае лапы, гадзінамі грэецца на сонцы.

Прэтэнзіі да жыцця ў Івана, як і ў ката, невялікія, ён лёгка пераносіць нягоды. Маці, размаўляючы ад адзіноты сама з сабой, доіць карову, варыць бульбу — на харч Іван не скардзіцца. Сястра Каця, якой пайшоў чатырнаццаты год, мые падлогу, засцілае ложак — у доме прыбаўляецца ўтульнасці.

Іншы раз завітвае дзед Бондар, матчын бацька — прынясе бохан хлеба, кавалак сала. Тады — свята.

У Лобікаву хату Міця прыходзіць як у сваю. Іван ляжыць на ложку, чытае Ніцшэ — «Так сказаў Заратустра». Сястры няма, шуснула да сябровак.

З местачковых бібліятэк кніг Івану дасталося няшмат. Але іх у яго не меней, чым у Міці. Цягае ад дзеда Бондара. Засталіся ў дзеда кніжкі, якія чыталі чатыры яго хлопцы. На гарышчы, складзеныя ў вялікай дзеравянай скрыні, сотні тамоў. Дадаткі да старой «Нивы», рэдкія дарэвалюцыйныя, савецкія выданні дваццатых гадоў. Ёсць у скрыні кнігі, напісаныя пісьменнікамі, пра якіх Міця нават не чуў. Оскар Уайльд, Кнут Гамсун, Гаўптман, Пшыбышэўскі, Метэрлінк, Фёдар Салагуб...

Былі дзедавы сыны — відаць па ўсім — зацятымі кніжнікамі. Высока сягнулі ў жыцці.

Другога такога прыкладу ў мястэчку няма. Старэйшы, Пятро, які захапіў грамадзянскай вайны, перад фінскай вайной камандаваў корпусам. Фактычна генерал. Перадапошні сын — камандзір таксама. Служыў у кадравай. Два астатнія вывучыліся адзін на настаўніка, другі — на адваката. Абодва ў эвакуацыі.

Іван устае з ложка, ідзе да паліцы, дзе стаяць гладышы з малаком.

— Хочаш малака?

— Пі сам. Што ты думаеш пра Ніцшэ?

«Заратустру», а таксама другую кнігу гэтага аўтара — «Па той бок дабра і зла» — Міця прачытаў.

Іван з адказам не спяшаецца. Стаіўшы дыханне, глытае малако, выцірае губы рукавом.

— Ніцшэ філосаф і паэт.

— Дык ён жа фашызм прапаведвае! — гарачыцца Міця.— Яго звышчалавек робіць тое, што сёння фашысты. Топча людзей.

Цяпер запальваецца Іван:

— Звышчалавек топча, а не Ніцшэ. Ніцшэ ўгадаў прыход фашызму. Хіба можна яго за гэта вінаваціць? Вы, такія вось, усё наперад ведаеце. Разумнікі...

Іван узбуджана расхаджвае па хаце. Ніз сарочкі вылез са штаноў, вісіць ззаду, як спадніца. Даўно не стрыгся Лобік. Ускудлачаная галава, як стог, валасы вушы закрываюць.

Як і заўсёды, Лобік доўга не злуе.

— Свайго прарока Ніцшэ называе Заратустрай,— гаворыць ён.— А Заратустра прадказвае, што да людзей прыйдзе звышчалавек, навяжа сваю волю. Усё пераверне. У яго няма жалю, спагады. На пакуты чалавека плюе. Адкідае ўсё, што называюць дабром. Для звышчалавека ніякага дабра, зла, сумлення не існуе. Ёсць адно — сіла. Ніцшэ даказвае, што рэлігію, мараль людзі выдумалі. Але ў жыцці ёю не кіруюцца. Падпарадкоўваюцца таму, хто мацней...

У Івана матэматычнае мысленне — любіць закругленасць, дакладнасць. Міця так выразна выказвацца не ўмее. Адчувае, але каб сказаць, не знаходзіць слоў.

— Ты верыш у гэта? — пытае Міця.

— Чорт яго ведае. Можа, гэта ў немцаў ад перанаселенасці. Калі людзей нараджаецца вельмі многа, каштоўнасць кожнага чалавека падае. Тут — як цэлыя лічбы і дробы...

— Гэта біялогія,— задуменна гаворыць Міця, успамінаючы словы Вадэйкі, пачутыя ў турме.— Фашысты зводзяць чалавека да звычайнай жывёліны. Маўляў, чалавеку трэба самае простае — есці, піць, размнажацца. Страх смерці мацней за другія пачуцці. Грамадства — статак. Як статак кароў, авечак, якому трэба добры пастух. З доўгай пугай. Калі жыццё сапраўды такое, то фашысты вайну выйграюць.

— Ты малайчына! — Іван задаволена пацірае рукі.— Навучыўся думаць. Фашызм — чыстая біялогія. Без адкрыцця Дарвіна ён быў бы немагчымы. Немцы цалкам перанеслі законы Дарвіна на чалавечае грамадства. Барацьба за існаванне, натуральны адбор, спадчыннасць...

— Але жывёліна свядома на смерць не ідзе,— пярэчыць Міця.— Толькі ва ўладзе інстынкту. Як, напрыклад, ваўчыца, якая бароніць вывадак. Чалавеку патрэбна ідэя. Немцы самі пішуць пра ўсявышні дух, волю нацыі. Ваююць свядома, не пад прымусам. А якую ідэю даў фашызм сваім салдатам?

— Салдат ваюе, каб стаць панам. Пасля вайны хоча атрымаць маёнтак...

Зрэшты, сам Міця так думае. Спрачаецца з Іванам, бо ў такое не хочацца верыць.

Прапускаючы наперад ката, у хату заходзіць маленькі чарнявы Грыша Найдзёнік, Іванаў сусед. Цяпер да Івана толькі і завітваюць Міця ды Грыша.

Пры Найдзёніку гаворка пра Ніцшэ спыняецца.

Грыша кісне смехам штохвіліны.

Міця яшчэ ніколі не бачыў яго сур'ёзным. Найдзёнік на свеце бачыць адно толькі смешнае, а калі не бачыць, то выдумляе.

— Тры танкісты выпілі па трыста,— гаворыць Грыша, пераступіўшы парог.

Гледзячы на Грышу, на яго невялікія чорныя вочы, якія пастаянна выпраменьваюць смех, нельга не паддацца іх чарам. Гэтыя вочы як бы заклікаюць вышукваць адваротны, смешны бок рэчаў, а сур'ёзнае да галавы не браць. Пра Грышавага бацьку — высокага, маўклівага — ходзяць чуткі, што некалі ён быў канакрадам. Ніколі не цвіце ўсмешка на рабым хмурым твары старога Найдзёніка, цвярозы і нават п'яны — а гэта бывае часцяком — ён носіць у сабе злосць. Сын — поўная процілегласць бацьку, хоць знешне да яго падобны.

— Тры танкісты выпілі па трыста, а чацвёрты лыкнуў васемсот,— заліваючыся, працягвае Грыша.

Тут жа пачынаецца новы спектакль, і ні Лобік, ні Міця ўтрымацца ад смеху не могуць. Грыша ловіць ката, учыняе яму допыт.

— Кот Мікіта, адказвайце перад судом за садзеянныя злачынствы!

Кот, вырываючыся, дзярэ лапамі выцвілую Грышаву сарочку, выгінае спіну, пранізліва мяўкае.

Лобік сагнуўся папалам — смяецца, выціраючы слёзы.

— Кот Мікіта, чаму не паступілі ў паліцыю? Хто за вас будзе ахоўваць мірнае насельніцтва ад лясных бандытаў? І на работу ваапчэ не пайшлі. Адлежваецеся на печы. Адольф Гітлер прынёс свабоду, а вы на печы. Добра. Прышыем к дзелу...

Лобік выгуквае нешта бясслоўнае — гаварыць ад смеху не можа.

— Цяпер паглядзім на ваша маральнае аблічча, кот Мікіта. З кошкай па прозвішчу Маўра сажыцельствавалі? У рэзультаце колькі кацянят нарадзілася? Восем. Аліментаў не плацілі. Чаму пераклалі клопаты па выхаванню дзяцей на плечы слабай кошкі?..

Кот вырваўся і — у падпечча. Хвост трубой, поўсць старчаком.

Міця развітваецца. Дзень, калі не было смеху, прапаў, гаворыць Заратустра. Прапаў і гэты, калі смяяліся да слёз...

## II

У фінаддзел завітвае невысокі шыракаплечы хлопец у шэрым, з грубага матэрыялу, касцюме і пярэстым, завязаным тоўстым вузлом, гальштуку. Трымаецца горда, незалежна — і яго непадобнасць на другіх кідаецца ў вочы.

Аднойчы, калі ў абедзенны перапынак Міця сядзеў у пакоі адзін, хлопец падышоў да яго, працягнуў для прывітання руку.

— Віктар Цыбулька. Бухгалтар Піляціцкага лясніцтва.

Яны выйшлі ў парк, селі на лаўку. Знаёмства для Міці цікавае — да вайны Віктар вучыўся ў Мінску, скончыў першы курс пединстытута. Ён старэй за Міцю толькі на два гады, а як бы належыць да зусім іншага свету — вучыўся на літаратурным факультэце, жыў у вялікім горадзе. Хлопцы так захапіліся гаворкаю, што не заўважылі, як скончыўся рабочы дзень і наступіў надвячорак.

— Я пішу вершы,— прызнаўся Цыбулька.

Ён і сапраўды падобны на паэта — высокі лоб, прыгожыя шэрыя вочы пад доўгімі вейкамі і твар досыць прыгожы — яго крыху псуе залішне кірпаты нос.

— Ты настаўніка Вадэйку ведаў? — спытаў Міця.

— Ён мяне вучыў. Дзівак. Займаўся глупствам, і немцы расстралялі.

Цыбулькавы словы непрыемна ўразілі. У душы варухнулася непрыхільнасць да нядаўняга студэнта, але Міця адагнаў нядобрае пачуццё. Хто з першага разу стане раскрывацца перад незнаёмым чалавекам?

Назаўтра Віктар запрасіў да сябе. З работы Міця сышоў ахвотна — так робіць не адзін ён, ніхто за гэтым асабліва не прыглядвае.

Кантора лясніцтва — у прыватным доме з жоўтымі акаіцамі, высокім ганкам і нават зашклёнай верандай, такіх, гарадскога тыпу, дамоў у мястэчку не шмат.

З асаблівым пачуццём прыйшоў Міця ў зялёны завулак, дзе размешчана лясніцтва. Тут жыве Сюзана — на другім канцы завулка, а сад, ля якога памятнай летняй ноччу ён сядзеў з дзяўчынай, выходзіць пад вокны канторы. Міця не рвецца да Сюзаны — між імі штосьці пралягло, раз'яднала, і трэба новы штуршок, каб вярнуць ранейшае. Цяпер Міця слабы, разгублены, а такі ён ісці да Сюзаны не хоча. І ўсё ж прыемна шчыміць у грудзях ад думкі, што тут, у завулку, ён кожнае хвіліны можа ўбачыць Сюзану.

У канторы абстаноўка небагатая — два абшарпаныя, залітыя чарнілам сталы, тры старасвецкія, з абдзёртай на спінках скурай крэслы. Віктар высунуў шуфляду, паклаў перад Міцем на стол вялікую жаўтабокую антонаўку.

— Еш, яблыкаў хапае. Я іх ірву, як сцямнее.

Міця зірнуў праз акно ў сад — яблыкі даўно паспелі, іх нават абабралі ўжо, толькі сям-там жаўцее між пацямнелага, парудзелага лісця налітая сокам антонаўка.

Яшчэ з учарашняга дня ў Міці на вуснах пытанне: чаму лясніцтва з Піляціч пераехала ў мястэчка. Здаровы сэнс падказвае, што кантора павінна знаходзіцца там, дзе размешчаны лясныя ўладанні, а за трыццаць вёрст ад Піляціч навошта яна?

— Чаму вы тут, у мястэчку? — пытаецца Міця.

Віктар бянтэжыцца, моршчыцца, але адказвае жартам:

— Бліжэй да цывілізацыі. У вас тут культура. Хоць бы кіно...

Нарэшце Віктар пераходзіць на сур'ёзны тон. Ляснічы Вочап не паладзіў з піляціцкім начальствам Спаткаём і Князевым. Праўдзівей, не захацеў даваць хабары, якіх тыя вымагалі. Сам ляснічы — не святы, куркуль не меншы, чым бургамістр воласці і начальнік паліцыі. Апроч усяго, мае добры нюх. Запахла смажаным у Піляцічах. Паліцаі знішчылі

васямнаццаць чалавек, якія прыйшлі з Масквы, забілі сем мясцовых партызан, некалькі іх сем'яў. Цяпер калоцяцца самі. П'юць, самавольнічаюць. Князеў яшчэ зімой сватаў Цыбульку ў паліцыю. Вырытаваўся ён тым, што паступіў у лясніцтва. А цяпер, каб не пераехаў разам з Вочапам у мястэчка, залыгалі б абавязкова.

— Многа партызан? — як бы ненарокам пытае Міця.

— Спачатку варушыліся. Разагналі гарнізон у Буйках, расстралялі пісара Аўчара, які вёз моладзь у Германію. Цяпер не чуваць.

— Можа, пайшлі ў другое месца?

— Магчыма.

Міця набіраецца рашучасці:

— А ты не думаў пайсці ў партызаны?

— Вось які ты! — шчыра здзіўляецца Цыбулька.— Пакуль што выключана, браце мой. Дарагой цаной прыйшлося б заплаціць. Князеў бацькі, маці не пашкадуе. Я думаю, што і так можна быць чэсным чалавекам.

— Хіба ёсць сярэдзіна?

— Ніякай сярэдзіны. Калі пачалася вайна, мне было васямнаццаць гадоў. У армію не ўзялі. У паліцыю не пайшоў. Здолеў выкруціцца. Супраць савецкай улады нічога не раблю. Немцаў не люблю...

Увогуле, Цыбулька — неблагі хлопец. Шчыры, таварыскі. Хіба Міця лепшы, каб ставіць сябе вышэй Цыбулькі? Сам нічога асаблівага не зрабіў і не робіць...

Віктар стаў чытаць свае вершы. У яго іх цэлы сшытак. Трымае сшытак у шуфлядзе канцылярскага стала. Вершы звонкія, з добрай рыфмай, але надзвычай сумныя, з зацемненым сэнсам, нават прасякнутыя нейкай суцэльнай нотай адчаю. Усе, як адзін, пра каханне.

Цыбулькавы вершы Міця раскрытыкаваў без літасці. Не ўмеў справіцца з уласнай самотай, адчаем, які трывала сядзеў у душы многа дзён, і за гэтае самае дакараў малазнаёмага хлопца.

Цыбулька — Міця нават здзівіўся — не пакрыўдзіўся. Адказаў з сумнай усмешкай:

— Не шанцуе мне ні ў паэзіі, ні ў каханні.

— Можна падумаць, што для цябе каханне самае галоўнае.

— А чым жа займацца ў такія клятыя дні? Табе прызнаюся. Вершы пра каханне — не больш чым маскіроўка. Заўважыў — мова эзопава. Гэта мой дзённік. Спавядаюся ў ім перад самім сабой.

— Вось яно што! — Міцю чамусьці стала смешна.

— Ну, а якой зброяй магу змагацца? Толькі пяром. Горш, браце мой, што не шанцуе ў сапраўдным каханні. Спадабалася тут адна. Пахадзіў два вечары, не хіліцца. З вясковымі было прасцей. Ты, відаць, ведаеш яе. Вучылася ў школе. Завуць Сюзана...

— Сюзана?! — Міця не здолеў схаваць разгубленасці, пачырванеў.— Чаму ж, ведаю...

Цыбулька паглядзеў на яго пранікліва:

— Слухай, ці не твая гэта дзяўчына? Не такая я свіння, каб адбіваць у таварыша. Толькі скажы чэсна.

— Мая, твая... Мне яна не прысягала...

— Ну, разумею. Даруй, браток. Дзяўчына, скажу табе, харошая. Я такім салаўём залівайся, але дзела, бачу, ні ў зуб. Цяпер з ёю — рэхт...

За вокнамі — прыцемак. Выбраліся на вуліцу, трохі паблукалі.

## III

Міця жыве нястрымнымі, няўрымслівымі пачуццямі. Адчувае — болей у мястэчку жыць не можа. Фінаддзел ненавісны. Амаль кожны дзень завітвае Крамер, і заўсёды Міця ловіць на сабе яго дапытлівы, насцярожаны позірк. Як бы задае бургамістр гэтым позіркам нямое пытанне: «Як ты, хлопец? Выкінуў з галавы дурноту? Сядзі ціха — іначай...»

З Шурам, з Драгуном сувязі няма. Як у вадзе расталі. Не падаюць ніякага знаку. Каб нават была ніць у партызанскі лес, усё адно ён, Міця, нічога не зробіць. Прыглядваюць. Прыкідваюцца, што нічога не ведаюць, а на самай справе сочаць. Пачынаючы ад Пілеўскага і канчаючы сакратаркай.

У глыбіні душы тоіцца адчуванне, што ён, Міця, трапіў у такое становішча, у якім летам апынуўся Сяргей. Таксама

не знаходзіў сабе месца. Гэта загубіла. Таму Міця новых знаёмстваў не завязвае, у размовы ў фінаддзеле не ўступае.

Сюзану Міця выкіне з душы. Калі цікавы для яе Цыбулька, няхай шпацыруе. Раней Галемба быў, цяпер самадзейны паэт-бухгалтар, які піша цьмяныя вершы. У Міці свая дарога.

Маці адчувае Міцеў настрой, трывожыцца. Штораніцы пячэ яечню (меншыя хлопцы, дзяўчаты ядуць бульбу з кіслым малаком), падсоўвае непачаты збанок.

Аднойчы Міця сказаў:

— Паеду ў камандзіроўку. Цяпер, мама, многа партызан. Калі іх сустрэну, не бойся. Чуткам не вер...

Маці заплакала:

— Бацькі няма, цяпер ты збіраешся. Як жа я з малымі? Немцы хіба даруюць...

Міця паглядзеў у зацягнутыя слязой васільковыя вочы.

— Мама, вас не падвяду. Не бойцеся...

Вечарам Міця пабыў у Лобіка, папярэдзіў. Да Міколы наважыў завітаць па дарозе. Камандзіроўка выпісана ў Сівалобы — адтуль не паступілі падворныя спіскі для налічэння страхоўкі. Да Сівалобаў трэба дабірацца, мінуўшы ўсцяж доўгую галоўную вуліцу мястэчка, а ў канцы гэтай вуліцы і жыве Мікола.

Паводзіць сябе Мікола дзіўна. Ратуючыся ад паліцэйскага віжавання, падаўся ў царкву — нібыта вучыцца на дзяка. Пра магутны Міколаў голас па мястэчку ходзяць анекдоты.

Міцю здаецца, што ў царкве Мікола не толькі з-за Гвазда. Відаць, таксама надламаўся. Шукае, як залячыць рану.

Міколаў двор шчыльна атулены ігрушамі-дзічкамі. Якраз цяпер даспяваюць — дробнымі жоўтымі ігрушамі ўсеян увесь дол. Хлявы, забудова двара — старасвецкія, і толькі адна хата, крытая дранкай, мае болей-меней сучасны выгляд.

Дома Міколы няма. Маці, шчыльна захутаная хусткай-канаплянкай (відаць, зубы баляць), зірнула на Міцю са страхам у вачах.

Міця мінуў вуліцу, выбраўся на пясчаны пагорак. Стаіць на ім высокі, шырокі ў аснове, драўляны маяк. Ніжніх лесвіц няма — расцягалі на дровы, на верхніх ярусах — густыя пераплёты коса пастаўленых клетак. У дзяцінстве, калі быў

жывы яшчэ дзед, Міця прыязджаў сюды па снапы. Тады здавалася, што варта ўзабрацца на маяк, узяць у рукі качаргу — і дастанеш неба.

З пагорка відаць усё як на далоні. Дальнія бярэзнікі ў мяккай жаўцізне. Тонкай смугой апавіты местачковыя ваколіцы. Яно такі вялікае, раскіданае, роднае паселішча, з курганом могільніка, дзе спачываюць дзяды, прадзеды, прашчуры. Побач з могілкамі закінутая, з праломленым дахам будыніна мылаварні. Там, па чутках, расстрэльваюць ноччу.

Дабраўшыся да лесу, Міця шляхам не пайшоў, а звярнуў на бакавую, прасёлачную дарогу, якая вядзе ў бок вёскі Няхамава Слабада. Калі і сустрэнеш партызан, то хутчэй на глухой дарозе. План у Міці просты. Калі напаткае партызан, то дамовіцца, каб захапілі яго на людзях, у Сівалобах. Паліцыі там няма, і хіба цяжка лясным хлопцам зрабіць для Міці паслугу. Тады ў немцаў не будзе падстаў чапіцца да сям'і.

Міця нават думкі не дапускае, што партызаны могуць яму не паверыць, не згодзяцца з яго довадамі.

Прыціхлы, як бы засмучаны, стаіць асенні лес. На доле лёгкая замець апалага лісця. Ля пеньчукоў, спарахнелых алешын — купкі апенькаў. Настойліва, наперабой цінькаюць сініцы. Хутка хлынуць дажджы.

Лясной дарогай Міця прайшоў вёрст шэсць. Нідзе ні чалавека. Бязлюдна ў лесе. Выбраўшыся на выкладзеную гранітнай брусчаткай шашу, ён павярнуў на ўсход, да Сівалобаў.

Фінансавага агента па прозвішчу Пілот адшукаў Міця надвячоркам. Вялізны, з конскімі сківіцамі мужчына носіць за плячамі вінтоўку, глядзіць спадылба, злосна.

На Міцева запытанне наконт падворных спісаў груба адказаў:

— Забюракраціліся вы там у канцылярыях. Тыдзень назад адаслаў.

На камандзіроўцы сапраўдная пячатка фінаддзела, а гэта дае ўладу над Пілотам. Міця папрасіў:

— Уладкуйце мяне нанач.

Фінагент крытычна агледзеў шчуплую Міцеву фігуру:

— Хочаш — да салдаткі завяду. Маладая. Цэлую ноч будзе абдымаць.

Ніколі ў жыцці Міця не трапляў у болей ганебнае становішча. Начаваць у салдатькі адмовіўся, але фінагент завёў у прыгожы, з бляшаным дахам і пафарбаванымі аканіцамі домік. Увішны кульгавы гаспадар (гэта быў шасейны майстар) паставіў на стол вяндліны, місу нарэзаных памідораў, вялікую бутэльку самагонкі. Міця выпіў першую шклянку з неахвотай, а далей піў, колькі налівалі, чокаўся з фінагентам, гаспадаром. Заснуў за сталом, на дзеравянай канапе. Прачнуўся, калі ў вокны цадзіўся шэры світанак. Гаспадар пахаджваў па хаце, пасміхаўся ў вусы.

— Дзе Пілот?

— Дзе начуе — адзін Бог святы ведае. Сёння — тут, заўтра — там.

Міця падзякаваў, шуснуў з хаты. Прысаромлены, панылы, вяртаўся ў мястэчка...

Пра свае прыгоды ў Сівалобах Міця адважыўся расказаць толькі Лобіку, а ў фінаддзеле — бухгалтару Грымаку. Іван паблажліва ўсміхаўся, а Грымак, насупіўшы выцвілыя бровы, сказаў:

— З імі не звязвайся.

## IV

У наступную камандзіроўку — у Грамы — Міця выбраўся з падатковым інспектарам Хібенкам, непасрэдным сваім начальнікам. Хібенка крочыць пружыніста, хутка. Міця за ім ледзьве паспявае. На сустрэчу з партызанамі ён цяпер не спадзяецца. Проста хочацца пабачыць вёску, пра якую расказваў Мікола.

Грамы — досыць вялікая вёска. Стаіць блізка ля чыгункі. За апошнімі хатамі пачынаецца насып, шчыльна атулены ляшчыннікам, які вярсты праз дзве прыводзіць да станцыйнага пасёлка, размешчанага ў лесе. Здалёк пасёлак здаецца дачным. Акуратныя домікі з абодвух бакоў чыгункі. Валасць якраз у пасёлку, у старым, запушчаным будынку з гонтавым чатырохскатным дахам.

Начавалі ў Хібенкавай цёткі, а назаўтра падаліся ў валасць, дзе падатковы інспектар мусіў праверыць вядзенне фінансавай

гаспадаркі. Рэвізораў з раёна сустрэла пісар, Паліна Баракса, чарнявая, незвычайна шустрая жанчына гадоў дваццаці пяці. Перад мужчынамі завіляла, замітусілася, напоўніўшы абшарпаны, з рудымі падцёкамі на сценах пакой бясконцым смехам, шчабятаннем. Калі падавала Хібенку паперы, як бы ненарокам нахілілася, казытнула валасамі шчаку рэвізора. Хібенка нахмурыўся, зацята заляскаў костачкамі лічыльнікаў.

Міця выйшаў на ганак, прысеў на пярыльцы. Зараз жа вылецела ўслед Паліна, не пытаючы дазволу, прымасцілася побач, штурхнула Міцева калена сваім...

Хлопцы знакаў увагі пісару не ўдзялялі, і Паліна імгнення знікла, пакінуўшы пад іх нагляд расчыненую шафу з усімі валаснымі дакументамі.

У кутку стаіць доўгая французская вінтоўка. Калі Хібенка, наляпаўшыся лічыльнікамі, выйшаў, Міця ўзяў вінтоўку ў рукі, адчыніў затвор. Патронаў няма. Такія ж доўгія вінтоўкі Міця бачыў у некаторых местачковых паліцаяў. Немцы аднекуль іх прывезлі.

У Грамах прабылі тры дні. К канцу трэцяга з двара ў пакой убегла пабялелая Паліна, пранізліва, па-жаночы закрычала:

— Старасту забілі!

Хібенка матлянуўся за пісаршай на двор, а Міця, ваўкавата агледзеўшыся, схапіў вінтоўку, адчыніў акно і шпурлянуў у траву. Выскачыў на ганак, пастаяў. Лямант, крыкі на тым баку чыгункі. Абышоўшы будынак воласці, яшчэ раз азірнуўся. Ніхто не сочыць. Але і схаваць вінтоўку няма куды. Лес далекавата. Прызба напаўзасыпана кастрыцай. Стаў паспешліва разграбаць калючае пазаддзе, паклаў вінтоўку, прысыпаў...

Начаваць не асталіся. Прыцемкам вярталіся ў мястэчка. Міцю распірала стоеная радасць. Партызаны расстралялі старасту Гнядка, таго самага, пра якога гаварыў яму хлопец у турме, прасіў адпомсціць. Дзіўныя здараюцца супадзенні. Шкада толькі, што не зусім дагледзелі партызаны. Прашылі Гнядка трыма кулямі, а жывы. Павезлі яго паліцаі на фурманцы ў бальніцу, у мястэчка...

## V

Маленькая перамога, а як многа прыносіць...

Украдзеная ў Грамах, у валасці, вінтоўка пачатак Міцевага адраджэння. Як бы стала сплываць здранцвенне, у якім ён быў дагэтуль.

Хлопцы сустрэліся ў Аляксея Прымака. Ён местачковец новы па сутнасці. Прыехаў за год ці два да вайны, да гэтага жыў і вучыўся ў Дамачоўскім раёне. Бацька яго механік-самавучка, відны, прыгожы мужчына, зусім не падобны да шчуплага чарнявага Аляксея. Да вайны працаваў у МТС, рамантаваў касілкі і малатарні. Быў у арміі, трапіў у палон, але шчасліва адтуль вырабіўся.

Паводзіць сябе Аляксееў бацька трохі незвычайна. Вечарам ваксуе, глянцуе шарсцяной анучкай боты, падшывае да шарсцяной камандзірскай гімнасцёркі новы падкаўнерык. Збіраецца на гульбішча, хоць за плячамі гадоў сорак з хвосцікам і дзеці дарослыя — Аляксею дзевятнаццаць, дачцэ Ларысе — шаснаццаць.

Маці — нізенькая, такая ж чорнавалосая, як сын, з мужам слова не скажа. А ўвогуле гаваркая яна, і голас адметны — нізкі, грудны, не гаворыць, а спявае.

У сям'і нарастае ціхі разлад. Хлопцы, Аляксеевы дружбакі, на гэта не зважаюць. У хаце ёсць мандаліна, на якой даволі прыстойна трэнькаюць Аляксей і Плоткін, жыве маладая дзяўчына, перад якой можна павыскаляцца.

У добрым месцы стаіць Аляксеева хата. На самым ускрайку вялікага кар'ера, вясной і восенню запоўненага вадой. З гліны, выбранай адсюль, зліплены, відаць, усе местачковыя печы. Насупраць Аляксеевага двара, цераз кар'ер — станцыя. Кружок маладых таполяў перад службовым памяшканнем, дзе пад адным бляшаным дахам тэлеграф, пакой дзяжурнага, чакальная зала, білетная каса і буфет. Далей, на ўзбочыне станцыйных пуцей, аграмадныя, у тры абхваты па камлю, таполі, гордасць станцыі, бо менавіта гэтымі незвычайнымі дрэвамі яна і звяртае на сябе ўвагу.

Наогул, месца, дзе жыве Аляксей, тапалінае царства. Яно побач з будынкамі лясной школы. Прафшкольцы, якія

разгортвалі сваю дзейнасць гадоў пятнаццаць назад, насадзілі дрэваў аж занадта, спаласаваўшы свой пляц удоўж і ўпоперак таполевымі алеямі.

Суседства ў Прымака, з пункту гледжання патайной дзейнасці, за аднаўленне якой дружбакі ўзяліся,— лепш не прыдумаеш. Побач, праз вулачку, асабняк, які займаюць паліцаі Кузьмянкі, з другога боку хата паліцэйскага шпіка Гвазда. Хата належыць не самому Гвазду, а яго цесцю, які ў пачатку вайны выехаў. Цесць у эвакуацыі, а зяць шпікуе, і цяпер пра гэта ведаюць усе ў мястэчку.

Зборы ў Прымака, на думку хлопцаў, не могуць выклікаць падазрэння. Аляксей штовечар прагульваецца з дзяўчынай, паганяе маладосць бацька, а ў вачах паліцаяў і шпіка Гвазда такая акалічнасць павінна быць надзейнай рэкамендацыяй. Апрача ўсяго, Аляксееў родзіч, нізкарослы хлапчына, яшчэ з зімы паступіў у паліцыю.

Плоткін трэнькае на мандаліне, Мікола рагоча. Міця толькі што расказаў пра свае прыгоды ў Грамах.

— Трэба выбірацца з мястэчка,— гаворыць Міця.— Іначай нічога не будзе.

— А як выберашся?

— Вельмі проста. Пайсці настаўнікамі ў вёскі. Сувязь з сям'ёю рвецца...

На хвіліну ўсталёўваецца маўчанне.

— Я згодзен,— нечакана для ўсіх заяўляе Прымак.— Абрыдла сядзець у паліцэйскім кодле.

У Міколы сумны, панылы выгляд.

— Які з мяне партызан. Левай рукой не наваюеш...

— Будзеш сувязь трымаць,— угаворвае Міця.— Без сувязі не абыдземся, а ў мястэчка як да цябе паткнуцца?..

— Тады папрашуся ў Грамы,— адразу згаджаецца Мікола.— Там усё знаёмае.

Дамовіліся — пойдуць у настаўнікі Міця, Мікола, Аляксей. Павінны ўзяць, бо ў палавіне вёсак школы пустуюць.

Вясёлай узбуджанай талакой вываліліся з Прымаковай хаты. У завулку сустрэлі Аляксеевага бацьку. Вяртаецца дадому рана і чамусьці не ў гуморы. Запыніў хлопцаў, загаварыў напаўголаса:

— Дурні вы. Збіраецеся, шэпчацеся. Скончыцца тым, што галовы паскручваеце. Чалавек не па сваёй волі нараджаецца на свет, а нарадзіўшыся, не хоча паміраць. А вы пятлі шукаеце...

Міця нерашуча пастукаў у дзверы, увайшоў у кабінет Крамера. Паклаў на стол аркушык паперы — заяву аб звальненні. Бургамістр паспешліва прачытаў, узняў на хлопца стомленыя вочы.

— Што гэта азначае?

— Папрасіўся настаўнікам. Фінансавую работу мала ведаю.

— Бяруць цябе?

— Бяруць.

— Ну што ж...

Крамер размашыста і, як здалося Міцю, злосна напісаў на ражку заявы рэзалюцыю.

Загадчык аддзела школ Тумілоўскі штату не мае. Сядзіць адзін у пакойчыку, які саступіла яму кантора мясцовай прамысловасці, тая самая, якой падначальваюцца шаўцы, краўцы, гарбары і іншы люд з умелымі рукамі. Аднаго дамогся Тумілоўскі — тэлефона. Штодня звоніць у воласці, просіць дапамогі ў пашырэнні школьнай работы.

Учора быў Міця ў загадчыка аддзела школ. Той уважліва выслухаў, абяцаў паслаць у адну з вёсак, пасля таго як ён звольніцца з фінаддзела.

Сёння, як толькі Міця пераступіў парог, адчуў поўную перамену ў настроі Тумілоўскага. Адводзіць позірк, мармыча аб тым, што ў мястэчку няма вольных вакансій.

— Дык вы ж мяне абяцалі ў вёску паслаць! — ставіць рубам пытанне Міця.

— Вы, Птах, толькі школьнік з незакончанай адукацыяй! — невядома на каго злуецца Тумілоўскі.— Вы не маеце права на настаўніцкую работу.

Міця прыкусіў язык: у Прымака такая ж адукацыя, а яго ўзялі. І Міколу ўзялі — туды якраз, куды прасіўся,— у Грамы.

## VI

Усталяваўшыся ў Грамах, Мікола Цябут пакрысе прабуе намацваць нітачкі, якія б звязалі яго з партызанскім лесам. Вёска Грамы, станцыя з такой жа назвай з усіх бакоў акружаны лесам. Але гэта не азначае, што за кожным кустом сядзіць партызан.

Міколу накіравалі настаўнікам у вёску. Ён і да вайны працаваў у гэтай школе. Праўда, вучыў інакш. Цяпер Мікола вучыць дзяцей толькі чытаць, пісаць і лічыць да ста. І больш нічога. Так патрабуе праграма. На станцыі ў двух класах настаўніцамі працуюць жонкі камандзіраў Чырвонай Арміі. Яны ведаюць, што два ці тры месяцы Мікола служыў у паліцыі, глядзяць на яго з несхаваным падазрэннем. Відаць, лічаць настаўніцы, што былога паліцая спецыяльна падаслалі.

Але ёсць яшчэ адна настаўніца, чарнявая рагатуха, Аня Корань, якая ведае Міколу з іншага боку. Гэта яна прынесла ад дэсантнікаў і перадала Міколу міну з гадзіннікавым механізмам, запал ад якой узарваўся ў ягоных руках.

Ад Ані Корань нітачка пацягнулася ў суседнюю з Грамамі вёску Малкавічы да Мішы Дудзіча. Міша — знаёмы хлопец, да восьмага класа, да паступлення ў тэхнікум вучыўся ў мястэчку.

У Малкавічах жыве Міколава цётка, ён ходзіць да яе штотыдзень і тым часам сустракаецца з Дудзічам. Праз месяц ці болей Дудзіч прызнаецца, што ён сувязны дэсантнікаў, камандуе якімі капітан Мазурэнка.

— Мазурэнка з партызанамі злучыўся,— аднойчы паведамляе Міша.— Шастаюць цяпер па раёне. Я яму пра вашу групу раскажу.

Нагадваючы пры кожнай сустрэчы Дудзічу пра намер местачковых сяброў як мага хутчэй перайсці да партызан, Мікола не мінае розных местачковых навін, асабліва тых, якія датычаць немцаў, паліцэйскіх. Міша Дудзіч слухае гэтыя навіны з асаблівай увагай, заахвочвае Міколу, прыносіць новыя.

У адзін з тых дзён Мікола расказвае пра фінагента Пілота, які лютуе і шалее ў вёсцы Сівалобы. Здзекуецца з

чырвонаармейскіх жонак, рабуе насельніцтва. Звесткі пра Пілота, пра тое, дзе начуе ён, як хаваецца ад партызан, спецыяльна сабраў Міця Птах.

Пры наступнай сустрэчы Мішаў твар ззяе. Пра Пілота ўсё пацвердзілася. Нямецкі гад сваё палучыў. Няма болей на свеце...

Разам з тым Міша як бы нешта недагаворвае. Ва ўсякім выпадку наладжваць сустрэчу местачковых змоўшчыкаў з партызанамі не спяшаецца.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### I

У ваенныя гарадкі паблізу Прыпяці пачалі прыбываць часці нямецкай пяхотна-грэнадзёрскай дывізіі. Дывізію перакідалі з Францыі, яна там ахоўвала непрыступны Атлантычны вал на лініі Гаўр — Шэрбург. Пасля Дзьепа, дзе саюзнікі паказалі сваю слабасць, можна было перакідаць. Канчаўся верасень, месяц нават у Расіі яшчэ цёплы.

Салдаты пад камандай унтэр-афіцэраў узмоцнена займаліся баявой падрыхтоўкай — капалі акопы поўнага профілю, білі па рухомых мішэнях з буйнакаліберных кулямётаў. Афіцэры наглядалі за заняткамі здаля, хмурылі бровы. Францыя — не рускае балота з драўлянымі неахайнымі вёскамі. Вечарам нуднае празябанне ў казарме — ні казіно, ні жанчын. Зрэшты, прыходзілася пакладацца на волю Усявышняга — на свеце не ўсё ідзе, як спадзяваліся. Хоць армія фюрара на Каўказе, на берагах мутэр-Волгі, але насоўваецца новая зіма, а канца вайны не відаць.

За тры дні загадзя стала вядома, што дывізію прыязджае правяраць інспектар генштаба. Афіцэры падцягнуліся, адчулі сур’ёзнае. Раніцай высокага госця генерал-палкоўніка фон Якобі сустракалі на аэрадроме афіцэрскім каравулам, экскорт «опель-капітанаў» і «бенцаў» расцягнуўся на кіламетр.

Ні камандзір дывізіі генерал-лейтэнант Вернер фон Швейдліц, ні высокі госць віду не падалі, што даўнія знаё-

мыя, сябры дзяцінства, а калі гаварыць дакладней — сваякі. Для фон Якобі дзень прайшоў у звычайных інспектарскіх турботах: праверка наяўнага саставу, боекамплектаў, размовы з афіцэрамі наконт баявога, маральнага духу падначаленых.

Вечарам камандзір дывізіі прывёў госця да сябе на кватэру. Генеральскі катэджык, нягледзячы на някідкі знешні выгляд, знутры зусім утульны, калі мець на ўвазе магчымасці тутэйшага напаўазіяцкага жыцця. У вялікім пакоі з зашторанымі вокнамі гараць у высокіх кандэлябрах свечкі, на падлозе, на сценах — дываны. Фон Швейдліц заўсёды любіў шык, утульнасць — фон Якобі гэта ведае. Маладому ад'ютанту з яфрэйтарам-дзеншчыком дазволілі паставіць каньяк, срэбраны чайнік з каваю і адразу адаслалі.

— Сервус, дарагі Вернер,— сказаў фон Якобі.— Дай я цябе абдыму і пацалую.

— Рад цябе бачыць, мілы Іахім. Калі я пачуў, што прыедзеш ты, не паверыў вушам.

— Я даўно хацеў цябе бачыць. У нашым мітуслівым свеце...

Генералы — абодва сіваватыя, падобныя нават фігурамі — высокія, стройныя,— абняліся.

— Нашу ў сэрцы тугу па нашаму Отта...

Отта — палкоўнік, лётчык, брат фон Якобі. Летась яго збілі над Мажайскам.

Іахім прыклаў беласнежную хусцінку да вачэй.

— Прыношу і табе спачуванне, мой дарагі. Твой боль яшчэ цяжэйшы. Ніколі не забуду свайго хрэсніка, а твайго сына Рудольфа-Хрысціяна і твайго зяця Гюнтэра. Адышлі ад нас у росквіце маладосці...

Швейдліц насупіўся, хвіліну памаўчаў. Сына Рудольфа-Хрысціяна, лейтэнанта-танкіста, атруцілі ў Грэцыі партызаны, а зяць памёр у шпіталі ад іспанкі.

— Як здароўе фрау фон Швейдліц?

— Дзякую. Па ваенным часе не так дрэнна. Нягледзячы на нашы сямейныя страты, па-ранейшаму нястомная. Усё той жа саюз нямецкіх жанчын.

— Так, сёння нашы кунігунды ваюющь нараўне з зігфрыдамі.

— Як сястра Марыя-Луіза? — спытаў у сваю чаргу фон Швейдліц.

— Яна ў апазіцыі да ўсіх нашых з вамі клопатаў. Служыць аднаму пану Богу. Замольвае нашы грахі мая сястрыца Марыя-Луіза...

Генералы выпілі каньяку, кавы, ледзь-ледзь закусілі, маючы на ўвазе, што вячэру трэба аддаваць ворагу. Фон Якобі, зняўшы мундзір і павесіўшы яго на плечыкі, прылёг на канапку, закрыў бледнаватыя з сінімі пражылкамі павекі. Вернер узяў раскладны стульчык, сеў пры ім.

— Скажы што-небудзь, Іахім,— папрасіў напаўголаса.— Наша фамільная гордасць — ты...

Швагер раскрыў павекі, усміхнуўся.

— Ад'ютанты, дзеншчыкі ў наш час служаць звычайна не толькі сваім генералам...

Швейдліц намёк зразумеў, пружыніста выйшаў з пакоя. Вярнуўся хвілін праз дзесяць, стомлена выцягнуў ногі.

— Хіба якая-небудзь адская сістэма, Іахім? А так — усё ў норме,— працягнуўшы руку, Швейдліц уключыў прыёмнік, знайшоў музыку.

— Няшчасная Германія,— ціха сказаў фон Якобі.— Народ, пасланы Усявышнім уладарыць і ператвораны гісторыяй у пасынка. Мы, немцы, трымаемся толькі на духу супраціўлення...

— Не разумею цябе, Іахім. Гавары прасцей. Твае словы вельмі цьмяныя...

— Прасцей нельга, дарагі. І гэтую вайну Германія не выйграе. Ва ўсякім выпадку, у тых межах, у якіх бачылася перамога год назад.

— Па-мойму, Іахім, справа горш, чым ты кажаш. Я думаў, вам, з вашае вышкі, відней. Але і мы бачым. Сталінград, Каўказ... гучыць у зводках прыгожа. Камунікацыі расцягнуты, флангі пад ударам. Пры зацяжной вайне такія рэчы немагчымы.

— Вайну, Вернер, мы прайгралі яшчэ летась,— стомлена прамовіў фон Якобі.— І Прыпяць, ля якой ты стаіш, адыграла ў кампаніі не апошнюю ролю. Хачу напісаць пра гэта кнігу. Вядома, не цяпер. Цяпер можна страціць галаву. Таму і папрасіўся сюды, да цябе.

— Як цябе разумець, Іахім?

— Вельмі проста. Наш самы разумны ў свеце генеральны штаб праблему прыпяцкіх балот не рашыў. Успомні, што атрымалася на пачатку кампаніі. Група армій «Цэнтр» захапіла Смаленск, нацэлілася на Маскву. Арміі групы «Поўдзень» таўкліся ў гэты час пад Кіевам. Флангі аголены, як цяпер пад Сталінградам. А матэрыяльная, так сказаць, прычына — прыпяцкія балоты, якія раздзялілі франты. Фюрар збаяўся стаць ценью Напалеона. Ідэаліст раптам стаў матэрыялістам. Ірвануўся на данецкі вугаль, на рускую прамысловасць...

— Ты маеш на ўвазе прыпыненне дзеянняў арміі Гудэрыяна, другой і чацвёртай палявых армій? Думаеш, маглі б узяць Маскву, каб летам пачалі наступленне?

— Гэтае самае, Вернер. Не вырашыўшы праблему Прыпяці, вайну з сучаснай Расіяй пачынаць нельга. Прыпяць раздзяляе франты.

Размову дакончыць не ўдалося. Далікатна пастукаўшы, увайшоў ад'ютант, далажыў, што высокага госця выклікае да тэлефона Берлін.

## II

Свет заснаваны на шаленстве. Аўгуст Эрнэставіч не можа вярнуць сабе раўнавагі пасля той абразы, якая звалілася на яго лысую галаву па міласці жончыных сясцёр. Шалавы, верціхвосткі!.. Не паспелі прыехаць, усталявацца, як пацягнула на непатрэбства. Ну няхай малодшая — тая прыгажэй, дзяцей хоць не мае. Дык і старэйшая туды ж — зморшчаная, глянуць брыдка, а прыспічыла...

Не мінула двух месяцаў, як жончыны сёстры прыкруціліся ў мястэчку, пад яго, бургамістрава, крылца, а ўжо абедзве выскачылі замуж. Жаніхі, можна сказаць, імгненна аб'явіліся. Браты Кузьмянкі. Старэйшы — да старэйшай, малодшы — да малодшай...

Аўгуст Эрнэставіч угаварваў сваячак, сароміў, асабліва старэйшую:

— Пабойся Бога, дзеці ў цябе, муж з вайны вернецца — дзе там!..

Гарой за сясцёр стала жонка:

— Перастань, Аўгуст!.. Кожнаму хочацца свой кавалачак шчасця...

Упершыню за жыццё у яго, Крамеравай, сям'і вынік грубы, дзікі скандал. Нічога не памагло. Два вяселлі згулялі на адным тыдні. Добра хоць, што шлюндры з дому выбраліся.

Кузьмянкі — сволачы. Кулачугі з заграбушчымі рукамі. Нездарма бальшавікі высылалі сямейку пад Котлас. Не паспелі пажаніцца — папісаліся ў фольксдойчы. Жонкі-немкі памаглі. Ведалі, шалудзівыя сабакі, на што прыцэльваюцца.

Аўгуст Эрнэставіч нервова пахаджвае па пакоі. З «Тэлефункена» — прыёмнік стаіць у кутку, на самаробным драўляным шкапчыку, падарунку Тоўсціка,— ільецца ціхая музыка. Пачынаючы з лета, сталі часцей перадаваць добрую нямецкую музыку. Раней — хоць вушы затыкай — маршы ды гімны. Але і гэта трывожыць. Чаму такая перамена? Два месяцы таўкуцца немцы ў Сталінградзе. На носе зіма, і Аўгуст Эрнэставіч баіцца, каб не здарылася, як летась...

За сцяной — залівісты смех. Малодшая, Аня, зноў жыве ў бургамістравым доме. Прыехаў муж, адшукаў-такі жонку. З адной пасцелі перабегла ў другую. Гэта і ёсць яго, Крамерава, ганьба. Сказала нягодніца мужу, што паквапілася на другога, ці не сказала, а яму, бургамістру, сорамна людзям на вочы паказацца. Усе ж ведаюць. Ён як у ваду глядзеў. Але хто яго слухае... Малодшы Кузьмянок усё адно задаволены — у немцах ходзіць.

Прыкметы шаленства, гнілой цвілі, якая хоча выдаць сябе за кветкі, бургамістр бачыць на кожным кроку. Начальнікі, паліцаі без просыпу п'юць. Як перад сканчэннем свету. Ніхто за дабро дабром не плаціць. Узяць хоць бы гэтага хлопца з фінаддзела. Выбавіў ад смерці, даў работу. Воўкам глядзіць усё адно. Ні разу чэсна не зірнуў у вочы. Яўна рваўся ў лес. Ён, бургамістр, разгадаў яго намер, пазваніў Тумілоўскаму. Настаўніцтва па-за межамі мястэчка — толькі прыклёп...

У пакоі — не заўважыў, калі з'явілася,— жонка. Выгляд вінаваты, збянтэжаны. Сама адчувае, што з вяселлямі атрымалася брыдка.

— Аўгуст, да цябе млынар прыйшоў.

У Крамера спуджанай птушкай забілася сэрца.

— Заві.

Забела прысеў на ўскраек крэсла. Шапку з пераламаным казырком паклаў на калені.

Зашаптаў, азіраючыся на дзверы:

— Яўрэйку з дзіцем да Дзянісевіча прыладзіў. Да таго, каторы пякарняй загадваў. Не было сілы далей дзяржаць...

Аўгуст Эрнэставіч прыклаў палец да губ, на большы гук павярнуў рычажок прыёмніка.

— Паліцэйскія, хай на іх немач, у мой двор, як гання,— больш упэўнена загудзеў Забела.— Мукі дай, гарэлкі дай. Нап'юцца — на двор выходзяць. Не дай Бог, агледзелі б...

Крамер задумаўся. Дзянісевіча ўспамінае як люцейшага ворага. Яго ўсватаў у бургамістры, сам стаіць збоку, пасміхаецца. Тады, зімой, не стрымаўся — усыпалі загадчыку пякарні гарачых па яго, бургамістравай, міласці. Цяпер нябачная вяровачка звязала з нядаўнім ворагам. За дабро трэба плаціць дабром. І выходзіць — добрай меркай — за зло...

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### I

Гразь. Макрата. Хлюпота. Цёплая восень кончылася па Пакрове. Доўгая калона расцягнулася па дарозе. Ідуць хто як — строю, дыстанцыі не захоўваюць. Пасярэдзіне тры фурманкі, на іх параненыя.

Чаравікі ў Шуры распаўзліся дазвання: з правага вылез, цялёпкае па гразі ражок чорнай анучы. Багдановіч — ён плюхае поруч — болей прадбачлівы: свае перавязаў кавалкамі чырвонага нямецкага кабелю.

— Гарохавічы возьмем штурмам,— узбуджана гаворыць Алесь, павярнуўшы да Шуры сіні азызлы твар.— Пераабуемся, пераадзенемся. У такой апранасе, як у нас, не наваюеш.

Гарохавічы дзесьці блізка. Шура ўспамінае, што ў пошуках зброі зімой рабілі туды вандроўку Сяргей з Вілюгай. Чым

бліжэй да Гарохавіч, малюнак прыроды болей панылы, аднастайны. Буйкі, Азяркі, Прудок, Малкавічы — вялікія, двароў па сто, вёскі, прамінулі ўчора. Цяпер пайшла драбната. На пясчаных пагорках сярод хмызнякоў туляцца купкі пачарнелых ад дажджу хатак з падслепаватымі вокнамі. На агародах толькі грушы-дзічкі. Поле пясчанае, малаўраджайнае.

Паперадзе Шуры — кампанія, якая заўсёды трымаецца нераздзельна. Двое тых, каго хацелі расстраляць ля смалакурні, калі адступалі ад Журавіч, трое незнаёмых у цёплых ватоўках — сярод іх кірпаносая, з худым, бледным тварам дзяўчына. Да маўклівай, адасобленай групы прыбіўся дэсантнік Фурман і вялізны, як дуб, хлапчына, па прозвішчу Багдан — ён тарабаніць за плячамі пафарбаваную ў цёмназялёны вайсковы колер драўляную скрынку.

— Дэсантнікі,— падміргвае Алесь.— Яшчэ летам па Маскве хадзілі. Скінулі іх на парашутах.

У Шуры да дэсантнікаў вострая цікавасць, але падступіцца да іх нельга. Нясуць на тварах пячаць зацятасці, стоенасці.

Па калоне зычная, шматгалосая каманда:

— Перакур!

Разбрыліся па нізкіх альховых кусціках, прыляглі на макраваты, укрыты чэзлай травою дол. Наперадзе, за голымі бярозавымі прысадамі, вялікае паселішча.

Перакур зацягнуўся гадзіны на тры. Нарэшце доўгачаканая каманда:

— Рассыпацца ў ланцуг!.. Інтэрвал — два метры... Ішлі па прыбітым дажджом пясчаным полі. Засеяная азімінай ралля чаргавалася з пожняй, бульбянішчам. Уся зямля на вузкіх шнурках-палосках.

Перад вясковымі прысадамі пачулася некалькі стрэлаў. На мокрую асклізлую пожню кладліся неахвотна. Некаторыя толькі прыселі на кукішкі.

Стрэлаў болей не было. Падняліся, пайшлі да прысадаў.

Гарохавічы — сяло вялікае, стаіць пры чыгунцы. Тут ільнозавод — узбоч пуцей доўгія, з новага цёсу склады. Высокая бляшаная труба з дратамі-адводамі паказвае на месцазнаходжанне паравога млына. Дзіўна, што паліцыя і нямецкая варта, не прыняўшы бою, разбегліся. Але такое насцярожвае.

Партызаны паспешліва шнуруюць па дварах... Выскачыўшы з агародаў на бязлюдную пясчаную вуліцу, Шура з Багдановічам напаткалі дзядка ў шапцы-аблавушцы, у разлезлых, падшытых рамянём валёнках. Стаіць пад вярбой, моргае слязлівымі вачамі.

— Дзед, дзе паліцай жыве?

Стары на слых тугаваты.

Прыставіў далонь да зарослага знутры чорным пухам вуха, перапытаў:

— Што кажаце, дзеткі?

— Паліцай дзе жыве? — грымнуў Багдановіч у самае чорнае вуха.

Дзядок прыкметна пажвавеў.

— Вунь там, дом пад бляхай. Сепаратар жыве. Малако немцам збірае.

Рынулі ў абгароджаны добрымі дошкамі двор, узбеглі на новы высокі ганак. У пярэдняй палавіне хаты дзве жанчыны з перапалоханымі, пабялелымі тварамі.

— Дзе гаспадар?

— Хворы ён. Не чапайце, радзі Хрыста...

У другой, чыстай палавіне — фікусы аж пад столь — на ляжанцы накрыты кажухом мужчына.

— Ну, уставай, Сепаратар...

Мужчына вяла падняўся, спусціў з ляжанкі босыя ногі. Твар белы, безвалосы, без крывінкі. Нібы год прасядзеў чалавек у склепе.

— Вось што,— нахмурыўшы выцвілыя бровы, пачаў Багдановіч.— На першы раз даруем. Калі будзеш далей збіраць малако,— да сценкі. Зразумеў? І хвароба не паможа. А цяпер дай нам на ногі і адзецца. Ты ж на немцаў недарма робіш?..

На малочна-белым твары — адзнакі жыцця. Адна з жанчын прысела, выкінула з-пад ложка на сярэдзіну пакоя пару яшчэ добрых вайсковых ботаў.

— Маня, мае чаравікі аддай...

Жанчына кінула на гаспадара нядобры позірк.

Выйшла ў пярэдні пакой, прынесла чаравікі. Нямецкія, салдацкія. З жалезнымі набойкамі на насках і абцасах.

Багдановіч, бачачы няцямнасць гаспадароў, далей распараджаўся сам. Зняў перавязаныя дротам апоркі, нацягнуў

боты. Шуру кінуў чаравікі. Нязвыкла грукаючы па падлозе, падышоў да шафы. Там, распятае на вешалцы, вісела скураное камандзірскае паліто.

— Ты, скаціна! — твар Багдановіча наліваецца крывёю.— Нашага прадаў? Адкуль ваенная маёмасць?..

— Ды не, хлопцы. Тут жа фронт стаяў... Проста купіў... Усе куплялі...

— Давай кажух, сволач.

Шура нацягнуў на плечы цёплы яшчэ ад чужога цела ці ад грубкі кажух.

— А цяпер запомні, рыла. Мы ў цябе ўзялі адзін кажух. Табе на печы можна ваабшчэ без штаноў. Астатняе ты награбіў. Забралі награбленае...

Выскачылі на вуліцу. Сцелючы ў неба чорным дымам, палаюць ільняныя сховішчы. Калі такі дым, значыць, не пустыя яны...

## II

За Гарохавічамі пачынаецца Дамачоўскі раён. Чыгунка з Гарбылёў да прыдняпроўскага гарадка як бы служыць натуральнай граніцай. У адрозненне ад той, якая звязвае Гомель з Брэстам, яна ахоўваецца немцамі слаба.

Бондар сеў на фурманку. Глуха ные прастрэленая рука. Медсястра прамыла рану моцнай самагонкай, перавязала бінтам — боль усё адно не сціхае.

Нізкае, шэрае вісіць неба. Калона ідзе пералескамі, глухімі прасёлкавымі дарогамі, абмінаючы вялікія вёскі, у якіх могуць быць гарнізоны. Разведка шнырыць наперадзе.

Характар мясцовасці той жа, што на стыку Гарбылёўскага і Бацькавіцкага раёнаў. Пяскі і пяскі. Мінулі вёсачку — стаіць на пясчаным касагоры. Вербы на вуліцы, чорныя, намоклыя сцены хат.

У голым бярозавым гайку зрабілі прывал. Праз паўгадзіны Гервась з двума разведчыкамі прывялі высокага панылага хлапца ў чорным плашчы.

— Паліцай,— коратка далажыў Гервась.— Вінтоўку адабралі.

Хлопец не можа ўняць дрыжыкаў. Шэрыя вочы нібы прысыпаны попелам — патухлі.

— Адкуль? — спытаў Бондар.

— З Піляціч,— у палоннага заплятаецца язык.

— Сачыў за намі?

— Не.

— Чаму тут аціраўся?

— Князеў пасылаў па бабіт. У Дамачова.

— Навошта бабіт?

— Хочуць млын пусціць.

— Ваша паліцыя разбіла маскоўскі атрад? — моршчачыся ад болю, спытаў Бондар (ненарокам варухнуў параненай рукой).

Хлопец заплакаў. Гаварыў — у горле штосьці булькала, ірвалася.

— Мяне сілай узялі... Тады, як акружылі партызан, не быў... Нідзе не быў...

— Чаму ў паліцыі служыш, сволач?

— Паёк...— паліцай захліпаўся ад рыданняў.

Бондар нецярпліва махнуў левай здаровай рукой...

Паліцая павялі.

З хвіліну Бондар пахаджваў каля фурманкі, моршчыў твар.

Убачыў Шуру Гарнака, падазваў да сябе.

— Дагані Гервася... Скажы, каб гэтага пусцілі... Чорт яго бяры...

Як толькі Гарнак пабег на ўскрай бярэзніку, куды павялі паліцая, Бондар адчуў палёгку. З самага пачатку ведаў, што загадае расстраляць паліцая, і калі дапытваў, валодала варожапомслівае пачуццё. Рашэнне адпусціць прыйшло нечакана і як бы выбавіла ад непрыемнай унутранай згрызоты.

Пад вечар, калі мінулі паласу пералескаў, шэрых, высахлых балацянак, пяскоў і ўбіліся ў густое чарналессе, адразу дзве прыгоды. Бакавая разведка прывяла шэсць маладых хлопцаў.

— Хочуць да нас,— сказаў Камар, які разам з некалькімі партызанамі суправаджаў прышэльцаў.

Хлопцы — маладыя, як на падбор. Апрануты па-зімоваму — у паліто, ватоўкі, кажушкі. Адзін у чыгуначным чорным шынялі.

Вінтоўкі няма ні ў аднаго.

— Адкуль? — спытаў Бондар.

— З Гарохавіч,— адказаў за ўсіх шыракаплечы, у чыгуначным шынялі, дзяцюк.— Назаўтра ўслед за вамі выйшлі. Паліцыя разбеглася... Дома скажуць, калі што якое, што сілай вы забралі.

— Чым займаліся ў Гарохавічах?

Дзяцюк сумеўся.

— Я на чыгунцы рабіў. Васіль і Сямён,— хлопец паказаў на двух таварышаў,— былі са мной. Падпольная група...

— Падпольшчыкі — добра,— Бондар усміхнуўся.— Толькі дзе ваша зброя, падпольшчыкі?

— Здабудзем у баі! — выгукнуў хлопец, чырванеючы.

Вечарам між бяроз і вольхаў запалалі вогнішчы. Упоцемку ўжо Іван Гусоўскі (у налёце на Гарохавічы ён не ўдзельнічаў, пасля бою на шашы адпрасіўся пабачыць цётку) прыбыў у лес, прывёў з сабой дзіўнага, нехлямяжага на першы позірк чалавека.

У прыземістага шыракатварага прышэльца вялікі сізы нос, на нагах валёнкі, абцягнутыя вялізнымі з чырвонай гумы бахіламі, на буйнай, як цэбар, галаве самаробная, з зайцавай шкуркі шапка-рэшата.

— Доктара даставіў, таварыш камандзір,— далажыў Гусоўскі.— Спецыяльна хадзіў. Два дні ўгаварваў.

— Я сам захацеў,— загаварыў чалавек з трошкі адметным, непадобным на мясцовае, вымаўленнем.— Ёсць чэх. Не доктар, а фельчар, жыву тут з той вайны. Мой сын у Ліцвінаве. Думае так, як вы. Хоча ў партызаны. А я партызанам быць не павінен. Мне пяцьдзясят пяць рокаў...

— Дык чаму ж прыйшоў, бацька? — падымаючыся над вогнішчам, спытаў Бондар.

— Ён сказаў,— фельчар тыцнуў пальцам у грудзі Гусоўскаму,— што тут параненыя. Буду ў вас, калі будзеце пускаць да жонкі. Раз у месяц. Жонцы трэба харч — паўпуда мукі, кілё сала. На месяц. Яшчэ трэба карова. Немцы нашу забралі. Мяне трэба вазіць на фурманцы. Маю хворыя ногі. Іначай пайду дадому. Сваё адваяваў...

Гучны, разлеглы выбух рогату. Доктара абступілі, разглядваюць як дзіва. Яшчэ праз хвіліну кружок расступаец-

ца — з колішнім земляком (нехта паспеў перадаць) прыйшлі знаёміцца славакі. Іх шасцёра, у атрадзе хутка месяц — з’явіліся адразу пасля таго, як гарбылёўцы няўдала спрабавалі спыніць цягнік.

— Міхал Сліва,— славак гаворыць, каб разумелі ўсе.— Родам з Коханаўцаў, што каля Трэнчына. Не бойся, бацька. Тут, сярод партызан, маем чэшска-славенская калёнія...

— Ёзэф Поймач,— называе сябе наступны.— З Кузьміцэ пад Тапальчанамі...

Стары ўшчэнт збянтэжаны. Хапае шырокім ротам паветра, мітусіцца, слова вымавіць не можа...

Яшчэ праз паўгадзіны славакі разам з расчырванелым, узрушаным фельчарам сядзяць каля вогнішча. Паспешлівая, трохі непрывычная напеўнасцю гаворка, роспыты, выгукі.

Пад поўнач, калі вогнішчы сталі прытухаць, ад славацкага кастра нясецца прыцішаная песня. Сумнаватая, працяжная, чымсьці падобная на мясцовую:

Teče voda skokem
Kole našich oken,
Nemožy ju zastavlt;
Roshnevala sem si švarneho synečka
Nemožu ho udobrit...[1]

Славакі з чэхам-тубыльцам спяваюць і гавораць усю ноч. Цемень навокал густая, як дзёгаць. Адысціся ад вогнішча на тры крокі — глядзі ні ўглядайся — нічога не ўбачыш.

Бондар не спіць. Ляжыць на фурманцы, падклаўшы пад галаву папону, стараючыся не зачапіць параненую руку. Заўтра ці паслязаўтра сустрэча з партызанскім начальствам.

Яшчэ паўгода назад, калі толькі выйшлі з Гарбылёў, ён, Бондар, не адчуваў сябе камандзірам над тымі пятнаццаццю, хто паклаў пачатак атраду. І хоць яны самі выбралі яго камандзірам, паставілі вышэй за сябе, ён быў роўны з імі.

---

[1] Цячэ вада скокам
Каля нашых вокан,
Не магу яе спыніць.
Разгневала сама свайго крыўдлівага сыночка,
Не магу яго задобрыць... *(чэш.)*

Цяпер, калі атрад вырас, другое. Ён цяпер камандзір. Можа, нават большы, чым быў у арміі, бо тады над ім стаялі вышэйшыя начальнікі, уладу якіх над сабой ён адчуваў штохвілінна. Тут, у лесе, такой улады няма. Ёсць і ў партызанах тое, што называюць дысцыплінай, падначаленнем, загадам. Але ўсё адно ён, партызанскі камандзір, можа аддаць толькі такі загад, неабходнасць, разумнасць якога дойдзе да ўсіх.

Бондар грэбліва ставіцца да такіх, каму ўлада туманіць розум. Найлепшая праверка — разумны чалавек ці не — зрабіць яго начальнікам. Калі задзярэ нос — птушка невысокага палёту. Так любіў гаварыць бацька. І ўсё ж сам ён, сялянскі сын, падаўся вучыцца на камандзіра. Можа, звабіў прыклад старэйшага брата?.. Любіў свае кубікі, скрыпучыя рамяні, страявую падрыхтоўку. Пружынячыся ўсім целам, любіў аддаваць рапарты і каманды,— у такі момант, здаецца, зліваешся ўсёй істотай з сотнямі другіх такіх жа істот.

Тут, у партызанах, другое. Маса прызнала яго камандзірам. Але ці прызнаюць тутэйшыя кіраўнікі, зачынальнікі партызанскай справы?

## III

Зямля Акцябрскага раёна, на якой пачаліся партызанскія баі яшчэ з лета сорак першага года, сустрэла гарбылёўскі атрад спаленымі вёскамі. Маўкліва праходзіла калона міма папялішчаў, пажарышчаў, заросшых за лета высокім бадыллем бур'яну. Сям-там на бязлюдным абсягу тырчаць закопчаныя каміны, калодзежныя жураўлі.

Ва ўцалелай вёсцы калону запыніла партызанская застава. Бондар, трымаючы руку на марлевай перавязі, пайшоў да каменданта, у вясковую хату з высокім ганкам, высвятляць абстаноўку.

Гарбылёўцы прыселі каля платоў, парканаў. Разглядвалі вёску. Немцаў, паліцаяў тут няма, ды і не было, калі не лічыць карнай экспедыцыі, якая ўварвалася ў раён яшчэ напрадвесні. А знешне ўсё, як і ўсюды. Ля студні перамаўляюцца жанкі, паўзе па вуліцы воз з сенам. Нехта ў двары насупраць коле дровы, гучна гахаючы сякерай. Каб не людзі, перапаясаныя

крыж-накрыж патранташамі, якія гарцуюць на конях каля хаты, куды зайшоў камандзір, нават падумаць было б нельга, што вёска партызанская.

За паўгадзіны, пакуль Бондар быў у хаце, Шураў напарнік Багдановіч развітаўся са скураным паліто. Гервась з Камаром прынеслі зашмальцаваную ватоўку, працягнулі Алесю.

— Трэба камандзіра апрануць,— сказаў Камар.

Алесь у першую хвіліну нічога не зразумеў.

— Я ў баі здабыў!..

— Пратры вочы, паглядзі, як тут камандзіры ходзяць. А наш у чым?..

Багдановіч болей не спрачаўся. Зняў паліто, аддаў Гервасю. Толькі два дні пафарсіў у ім. А Шура ў кажусе як цар.

Бондар выйшаў з хаты ў суправаджэнні незнаёмага чалавека ў кубанцы, у скураной тужурцы. Пастроіў атрад у шарэнгу па чацвёра.

— Пакуль адпачынак,— сказаў коратка.— Кватэры зоймем у Сасновіцы, каля Пцічы. Адсюль дзесяць кіламетраў. За сябе прызначаю Гервася. Паеду ў штаб...

Карпілаўка — партызанская сталіца — шчыльна атулена сасновымі барамі. Такой яе запомніў Бондар, калі ў пачатку мінулагодняй зімы прыходзіў на сувязь.

Бондара суправаджае ардынарац Валодзя Шлег (быў з ім і тады, у снежні), а таксама Праскураў, якому трэба ў штаб мінскіх партызан, і разведчык Мазурэнка з дзяўчынай-радысткай — нясуць рамантаваць рацыю.

Раённы цэнтр Акцябр складаецца з вёскі Карпілаўкі, пасёлка Рудобелкі, да якога прымыкаюць казармы-інтэрнаты спіртзавода. Як толькі выбіліся з сасняку і адкрыўся від на паселішча, Бондар жахнуўся. Карпілаўкі не было. Абгарэлыя каміны, груды цэглы — сляды пажару і руйнавання.

Штаб Вакуленкі ў Рудобелцы размяшчаўся ў доўгай абшарпанай будыніне. Бондара камандзір прыняў не адразу — заняты быў размовамі з прадстаўніком мінскага штаба. Ля казармаў былога спіртзавода — асядланыя коні, фурманкі. Тоўпяцца пасыльныя з атрадаў і вёсак.

Бондар з Валодзем адышліся ад будынкаў, прыселі на ўзбочыне канаўкі, перакусілі.

Хутка паклікаў Вакуленка. Пакойчык яго цесны, пракураны. За сталом незнаёмы стараваты чалавек з камандзірскай партупеяй паверх добра падагнанага па фігуры кароткага кажушка. Сам Вакуленка — рослы, шыракаплечы, з ільвінай галавой, вялікім, нібы высечаным з кавалка граніту, тварам, пахаджвае з кута ў кут, хмурыць чорныя бровы.

— Прыбыў? — зірнуў на Бондара.— Малайчына, ведаю пра цябе ўсё. Давай за гэта пацалую...

Абняў Бондара і, дыхнуўшы ў твар моцным гарэлачным перагарам, тры разы пацалаваў у губы.

— Садзіся, расказвай...

Аднак слухаць Бондара не стаў, заняты нейкім клопатам, зараз жа выскачыў за дзверы.

— Васільеў,— прадставіўся чалавек у кажушку.— Састаю пры мінскім штабе.

Бондар назваў сябе.

— Вы ваенны?

Бондар згодна кіўнуў.

— Прыемна сустрэць таварыша па бядзе. Я быў начальнікам штаба дывізіі. Акружэнец. У партызанах з лета мінулага года.

З далейшай размовы высветлілася, што Васільеў быў прапаршчыкам яшчэ ў імперыялістычную вайну, у грамадзянскую — камандаваў ротай, батальёнам, у пачатку трыццатых гадоў скончыў акадэмію генеральнага штаба.

— Што бачыце асноўнай задачай партызанскай барацьбы? — спытаў Васільеў.

— Шкодзіць немцам. Мы ў асноўным дзейнічалі на чыгунцы.

— Вялікі поспех?

— Дванаццаць эшалонаў. Хоць цалкам скінуты пад адхон не ўсе.

— Падзяляю ваш погляд. Свабоднай зоны ў вашых раёнах няма?

— Няма.

— Думаю, што развіццё падзей прывядзе да гэтага.

Хоць, з другога боку, партызаны не ў сілах абараніць мірнае насельніцтва. Акцябрскі, Любанскі раёны — выключэнне. Яны далёка ад камунікацый.

Рашуча ўвайшоў Вакуленка, кінуў з парога:

— Слухай, Бондар, доўга будзеце драпаць ад немцаў? Пара разганяць асіныя гнёзды...

— Тонкая кішка, Адам Рыгоравіч. У атрадзе — сто шэсцьдзясят тры чалавекі. Разам з параненымі.

— Не забывай, палез угору дамачоўскі атрад. Камандзіра і камісара мы туды падаслалі. А то чуць не разбегліся. Шэлег, як выявілася, быў анучай. Праз гэта загінуў.

— Да мяне ў атрад прасіліся дамачоўцы,— сказаў Бондар.— Я падумаў, што так будзе нягожа.

— Правільна зрабіў. У кожным раёне павінен быць свой атрад. У нас іх ведаеш колькі? — Вакуленка задаволена рагатнуў.— Чатырнаццаць атрадаў, браце ты мой. Не ведаем, як з гэтай анархіяй справіцца.

— Дзіўна, такая сіла, а ў Ламавічах — нямецкі гарнізон,— падкалоў Бондар.— Няўжо не можаце раздавіць? Мы з-за Ламавіч дваццаць вёрст круку далі, каб да вас дабрацца.

Вакуленка насупіўся. Сказаў разважліва:

— Ламавічы разганялі і разгонім яшчэ. Бяда ў тым, што не ўсе б'юць у цэль. Думаеш, лёгка атрадамі кіраваць? Мінскаму штабу сяк-так падчыняюцца, а мне не вельмі. Добра, што міжрайкам ёсць...

— Сувязь з Масквой пастаянная? — спытаў Бондар.

— Самалёты садзяцца. У Парэччы. Ты зайдзі на склад. Возьмеш кілаграмаў сорак толу.

Калі Бондар, развітаўшыся, выйшаў за дзверы, Вакуленка дагнаў яго на ганку, шапнуў:

— Мазгуем з палкоўнікам аперацыю. Мост на Пцічы. Толькі нікому ні гу-гу. Праз пару дзён вызавем на нараду.

## IV

Недалёка ад станцыі Пціч, у мокрым асеннім чарналессі, збіраліся партызанскія сілы, вызначаныя для падрыву 135-метровага моста праз раку Пціч.

Гарбылёўскі атрад, зрабіўшы трыццацікіламетровы пераход, на месца прыбыў вечарам. Апошнія вёрсты адолелі ў чорнай, як дзёгаць, цемені. Лес кішыць народам. Паліць агонь

забаронена, але светлякі цыгарак блішчаць ледзь не пад кожным кустом.

Бондар, каб не збіцца, раз-пораз збочвае з дарогі, пытае:

— Які атрад?

— Гаркушы,— адказваюць з цемені.

— Міхнаўца...

— Дзяругі...

Атрад Вакуленкі, з якім гарбылёўцам загадана ўзаемадзейнічаць, знайшлі на ўскрайку лесу. Нягледзячы на забарону, стаіць між вольхаў і бяроз securityразнагалосая базарная гамана. Чуцён трэск — ломяць галіны, веццe, каб падаслаць на балоцісты дол, прылегчы.

З дарогі раскацісты голас:

— Атрад Бондара! Камандзіра да мяне!..

Бондар асцярожна, каб не наступіць на каго ў цемені, рушыў да дарогі. Той, хто выклікае, раз-пораз бліскае кішэнным ліхтарыкам. Каля яго шчыльны круг. Чвякаючы па гразі, разнімаючы мокрае голле, пайшлі між кустоў.

Людзі ўсюды: то тут, то там успыхваюць аганькі цыгарак. Праз чвэрць гадзіны падабраліся да хлява ці стадолы, што невыразнай грудай чарнее на ўзлессі. Калі рыпнулі дзвярамі, увайшлі, Бондар разгледзеў, што гэта не хлеў і не стадола, а лясная казарма — у такіх жылі некалі леснікі і аб’ездчыкі. Насупраць дзвярэй — вялікая абшарпаная печ. На дроце, падвешаным да столі, гарыць ліхтар «лятучая мыш». Вокны завешаны дзяругамі. Узбоч шэрых сцен, якія тонуць у паўзмроку, сядзяць людзі.

Бондар стаіць за спіной роўнага яму па росту, шчуплаватага Сямёна Грынько (ён тут замяняе камандзіра Вакуленку), адчуваючы, як і ўсе, хто тут сабраўся, вострую напружанасць моманту. Аперацыя незвычайная. Нездарма тут, у лясной казарме-стадоле, чарнявы невысокі сакратар ЦК камсамола рэспублікі, які прыляцеў з Масквы, сакратар Мінскага падпольнага абкама (іх Бондар бачыў на нарадзе ў Рудобелцы) і іншае высокае начальства, пра існаванне якога тут, на захопленай немцамі зямлі, ён нават не здагадваўся.

Увайшла новая група камандзіраў. Тых, што стаялі ля дзвярэй, пацiснулі на сярэдзіну пакоя. Ад сцяны аддзяліўся

сакратар абкама — высокі, шыракаплечы, у доўгім скураным паліто,— выйшаў у паласу святла, якое падае ад ліхтара. Загаварыў хрыплаватым прастуджаным голасам:

— Аперацыя намечана Цэнтральным Камітэтам. Аб ёй ведае таварыш Сталін. Калі ўзарвём мост, паможам нашаму гераічнаму Сталінграду. Сіл хопіць. Прыбылі шаснаццаць мінскіх і палескіх атрадаў, спецыяльныя групы. Хачу сказаць, таварышы, што мост на Пцічы — наш экзамен. Калі не вытрымаем — грош нам цана. Камандуе боем старшы батальённы камісар Гулікоўскі...

Пад ліхтар выйшаў танклявы, у вайсковай форме, Гулікоўскі, зачытвае загад:

— Атрады Батажкова, Дзяругі, Вакуленкі, Бондара, Паслядовіча, Батрына, Камарова, Млышэўскага, Лежнаўца, Палотнікава... ва ўдарную групу.

Адказны за падрыў маста Казімір Гушчын.

Для падрыву чыгункі і ў заслон з боку Жыткавіч выдзяляюцца атрады Гаркушы, Міхнаўца, з боку Калінкавіч — Аўраменкі, Карафанава.

У заслон ад Капаткевіч — атрады Сасноўскага і Галышова.

Праваднікамі забяспечвае атрад Сасноўскага... Разам загаварылі, зашумелі ў казарме-стадоле... Калі выйшлі на двор, Грынько крануў за плячо Бондара, зашаптаў:

— Славакі далі план умацаванняў. Стаяць у Петрыкаве, Муляраўцы. Чуў — заслонаў туды не пашлюць. Славакі самі абяцалі біць па Пцічы, як толькі пачнём...

Як бы святлей стала на двары. Усчынаўся халодны, сухі вецер, разганяў цёмныя хмары, якія аблажылі неба. У шэрых прагалах сям-там заблішчалі зоркі.

Шуру, нягледзячы на цёплы кажух, білі дрыжыкі. Ногі прамоклі, і хоць ён падскокваў, штурхаў плячом Багдановіча, але ніяк не мог сагрэцца. Ад доўгага чакання станавілася нудна.

За суседнім кустом нехта выводзіць на нямецкім губным гармоніку «Кацюшу».

— Іграй, іграй,— падколвае незнаёмы голас.— Можа, пачуе твая...

— Зашчапляцца не будзе нанач...

— Дурная яна яго ждаць. Даўно паліцай пад бокам.

— Паліцаі — хлопцы цвёрдыя. Спуску не дадуць.

— Праграму-мінімум выконваюць. Упатрабіць за дзень хунт сала, літру самагонкі і бабу...

За кустом зарагаталі.

— Да вайны ў нашым сельсавеце быў фінагент. Літру выпіваў без закускі. Бутэльку раскруціць, рот расчыніць, як халяву... Гарэлка, як тая змяя, прама ў горла...

— У паліцыі твой фінагент?

— А дзе ж ты думаў? За адну зіму васьмі бабам зрабіў пузы...

— Нам тожа б трохі самагоначкі. Пагрэцца...

— А тады леснічыху. Праўда, Сямён? Ты з ёй у гумно па салому хадзіў недарма...

— Прызнайся — хоць прытуліла?

— За вамі ўхопіш... Шнырылі па завуголлю, як цюцькі...

Па дарозе — рух. Усюды ў лесе зычныя галасы каманды. Пачуўся голас Бондара — заварушыліся гарбылёўцы.

Ішлі дарогай, кустамі, полем гадзіны дзве. Неба пасвятлела. Золкі вецер прадзімаў наскрозь. Бралася на першы прымаразак — зямля, мокрая трава пачала шэрхнуць.

Калі выбраліся з рэдкалесся на прагал, наперадзе бліснулі агні станцыі Пціч. З левага боку, у прырэчных лазняках, шуміць вецер. На ўзлессі заляглі. Ляжалі доўга. Незнаёмыя праваднікі-разведчыкі, выдзеленыя з другога атрада, палезлі рэзаць дрот.

Шура ляжыць побач з камандзірам узвода Мядзведзевым. Багдановіч дзесьці далей. Мядзведзеў выняў пляскаты нямецкі нож-штых, узрывае, крэмсае перад сабой дол, навальваючы насыпчык. Робіць гэтую работу старанна, заўзята. Наваліў грудку камякоў — толькі галаве схавацца, перадаў нож Шуру. Штурхнуў пад бок — варушыся...

Наперадзе ланцугом ідуць людзі, забіраючы ўправа. Канчаецца адзін ланцуг, за ім другі, трэці. Шура глядзіць на агні станцыі, і адчуванне такое, нібы ён ля свайго мястэчка цяпер. Ноччу краявід здаецца падобным. Перад Бацькавічамі, калі з

паўночнага боку, з алешніку выйдзеш на асушаныя балотныя клеткі, станцыя выглядае гэтак жа. Толькі там няма ракі.

— У шарэнгу па аднаму! — чуецца каманда.

Відаць цёмныя домікі пасёлка. З крайняга панадворка чуецца сабачы брэх.

Рухомая чалавечая лава імкліва запаўняе прамежак паміж станцыяй і мостам. У Шуры адна толькі думка — вось-вось немцы заўважаць партызан. Станцыя справа. Чарнее доўгая, барачнага тыпу, будыніна, невялікія службовыя памяшканні. Не верыцца, што адтуль не бачаць велізарнага натоўпу, які насоўваецца на чыгунку.

Пачуцці ў Шуры абвостраныя. Да шэрай аграмадзіны моста падбіраецца цэлая лясная армія, нябачаная, нечуваная раней. Мост як бы арганізаваў яе, прыцягвае да сябе.

На ўсходзе, вярсты за чатыры ад моста, грымнуў аглушальны выбух.

— Лажыся! — пачулася зычная каманда.

Другі выбух, страсянуўшы наваколле, данёсся з левага боку чыгункі. У тую ж хвіліну са станцыі і з моста зычным пошчакам разанулі кулямёты. Агні імгненна пагаслі.

З-за спіны, з кустоў гахнула партызанская гармата. Над галавой выразна прашасцеў снарад. На станцыі ўзняўся вогненны слуп выбуху. Азвалася другая гармата, трэцяя, загаварылі кулямёты. Загрымелі гарматы са стараны Петрыкава, Муляраўкі. Снарады са свістам праносіліся над лугавінай, дзе ляжалі партызаны, ірваліся на станцыі, на мосце.

Побач з Шурам упаў Багдановіч. Загаварыў узбуджана, гучна:

— З Петрыкава славакі б’юць. Па немцах. Цяпер ім хана...

Снарады кладуцца ўсё гусцей. Цяжка разгадаць, хто адкуль страляе. На станцыі гарыць доўгая будыніна. Прасцяг чыгункі да моста відаць як на далоні. Ён здаецца бязлюдным, мёртвым. У трапяткіх водблісках пажару — два счэпленыя вагоны на рэйках, будка стрэлачніка, чорныя голыя дрэвы.

— Ура-а-а!.. Га-а-а!

Падхоплены шматгалосай пругкай хваляй, Шура бег да насыпу, крычучы, страляючы, як і ўсе. Супраціўлення немцы або не аказвалі, або яно было вельмі слабым, бо, калі ён,

задыханы, ускочыў на насып, станцыя, мост былі ў партызанскіх руках. Шура рушыў да моста, бачыў чорныя постаці людзей, якія беглі па насціле. Але ў адно імгненне людзі хлынулі назад. На мосце завіхаліся мінёры, цягнучы на спінах цяжкія, туга напакаваныя мяшкі.

Шура пабег на станцыю. Там поўным ходам ішло руйнаванне. Гарэлі вагоны, будка стрэлачніка, складскія памяшканні. Страляніна, крыкі сціхалі. Убачыўшы ўцалелую стрэлку, Шура кінуўся да яе, каб выцягнуць са скрынкі-ліхтара лямпачку з газай, але ў тую ж хвіліну нечая дужая рука хапіла яго за кажух. Партызан бег якраз ад стрэлкі. Шура кінуўся за ім. На краі насыпу абодва ўпалі. На месцы стрэлкі гахнула...

— З цябе магарыч, отрак,— пачуў Шура ўзбуджана-насмешлівы голас.— Мог гераічна аддаць душу. З якога атрада?

— Бондара.

— А я з Гастэлы. Не ведаеш, што стрэлкі ўзрываем?

У той жа момант яны абодва зноў прыніклі да насыпу. Там, дзе быў мост, шугануў у неба магутны, асляпляльны слуп агню, і было выразна відаць, як уздыбіліся, склаўшыся на імгненне ў вастраверхі трохвугольнік, фермы, а потым сталі ціха, павольна асядаць. Паветраная хваля траскуча-разлеглага выбуху прыціснула да зямлі, аглушыла, напоўніла вушы, нос, рот салодкай на смак ватай...

Назад, у лес, Шура вяртаўся з незнаёмымі, узбуджанымі партызанамі. Мінуўшы пасёлак, адразу ўбіліся ў хмызы. Перад алешнікам, які чарнеў наперадзе, дагнала другая група.

— Славакаў ледзь не перастралялі,— пачуўся стомлены голас.— Мы ў засадзе ляжалі, а яны ідуць па дарозе строем. Думалі — немцы...

— Дык як жа так?

— Пароль позна сказалі...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

### I

Сасновіца — вёска вялікая, са скрыжаванымі вуліцамі. Размешчана сапраўды сярод соснаў, якія падступаюць да агародаў. Акрамя гарбылёўскага тут атабарыліся яшчэ два атрады. Партызаны — у кожнай хаце.

Вярнуліся з Пцічы на другі дзень. Усюды галасы, узбуджаны гоман.

З двароў, агародаў падымаюцца ў неба шызыя слупы дымоў.

Шуру морыць сон. У хаце заснуць нялёгка: штохвіліны грукаюць дзверы. Накінуў напашкі кажух, шуснуў на двор. У сенечках затрымала гаспадыня — ціхмяная, з глыбока пасаджанымі вачамі жанчына. Адчыніла каморку, дала ў рукі палатняны скрутак.

— Пераадзенься, дзетка. Ходзіш недагледжаны...

Шура пацалаваў гаспадыні руку. Не ведае, як выйшла. Проста захацелася як-небудзь аддзячыць. Пераапранаючыся, сам сабе ўсміхнуўся. Тут чыстай бялізнай, відаць, не паможаш.

На агародзе — невялікая лазенька з іржавым, без дна, вядром замест коміна. Унутры даволі светла. Па прыступках Шура залез на верхнюю полку, падняў каўнер, шчыльна захінуў крыссё кажуха. У сон праваліўся, як у прорву...

Прачнуўся ад незразумелых прыглушаных выгукаў. Зірнуў уніз — перахапіла дыханне. У паўзмроку бялеюць дзве голыя жаночыя постаці. Старэйшая, буйнейшая целам, стаіць прыгнуўшыся, паставіўшы рукі на калені. Малодшая расцірае ёй цела чымсьці едкім, пякучым — нават сюды, пад столь, сягае непрыемны пах, ад якога казыча ў носе.

Па голасе Шура пазнае абедзвюх. Старэйшая — Сяргеева сястра, тая, што так няветліва яго сустрэла, калі прыйшоў у атрад. Малодшая — радыстка Ася. У Асі гнуткі стан, маленькія грудзі тырчаць, як у казы. Сачыць за голымі дзяўчатамі нядобра, брыдка, тым не меней Шура глядзіць уніз, не зміргнуўшы. Няўжо ж цяпер заплюшчыцца? Ляжыць, стаіўшы дыханне, баючыся варухнуцца.

Нарэшце дзяўчаты сталі апранацца. Нацягнулі боты, надзелі ватоўкі, павязаліся хусткамі.

— Кожа просто горит,— паводзячы плячамі як ад холаду, прамовіла Ася.

— Соня сказала — паможа. Кіслатой ад каросты камісар вылечыўся.

Грукнулі дзвярамі, пайшлі...

Шура вылез з лазенькі, ахоплены смутным непакоем. Асю прыкмеціў адразу, як паявілася ў атрадзе. Нарадзілася да яе вострая цікавасць перш за ўсё як да асобы з незразумелага, поўнага таямнічасці свету. Было цяжка паверыць, што танклявае дзяўчанё з русявымі завіткамі, мілавідным тварыкам ляцела цераз фронт, скакала на парашуце.

Не аднаму яму падабалася Ася. Бачыў, знаёмства дамагаюцца Алесь Багдановіч, Валодзя Шлег, нават фацэтныя — у кубанках, хромавых ботах — хлопцы-разведчыкі з аддзялення Бальшакова. У сваім кажусе, нягеглых чаравіках спаборнічаць з імі Шура не адважваўся. Але і разведчыкі, здаецца, дасягнулі не шмат. Ася як прывязаная. Ні на крок не адступае ад яе маўклівы чарнявы чалавек, якога называюць капітанам.

Залішняй цнатлівасці ў адносінах да дзяўчат Шура не ведае. Нават не верыць у тое прыгожае каханне, пра якое пішуць у кнігах. У жыцці ўсё прасцей. Двойчы ён меў магчымасць у гэтым пераканацца. У першы месяц вайны пазнаёміўся са станцыйнай буфетчыцай Люсяй, рухавай, вясёлай дзяўчынай з зеленаватымі, як у кошкі, вачамі. Купіў Люсі ў яе ж буфеце сто грам шакаладных цукерак, а яна запрасіла прыйсці вечарам да сябе. Ён прыйшоў і, націскаючы на тое, што на вуліцы патрулі, правёў з Люсяй ноч. Хадзіў да яе тыдні два, пакуль не прапала цікавасць. Тады Шуру было сямнаццаць гадоў.

У другі раз было яшчэ прасцей. У адрозненне ад хлопцаў, якія штовечар спрачаліся аб становішчы на фронце, Шура хадзіў на вячоркі, з дзяўчатамі танцаваў. Яму спадабалася тоўсценькая прыезджая аптэкарка (кватаравала на Вакзальнай вуліцы), і, спацеўшы ад скокаў, ён запрасіў яе на двор, вывеў пад яблыні. Пацалаваў аптэкарку ў мяккія, пухлыя губы і,

хоць яна для бачнасці супраціўлялася, у той жа вечар дамогся, чаго хацеў...

Пра Асю Шура думае не так. Таго, што меў з другімі дзяўчатамі, ад яе не хоча. Убачыў голую, бездапаможную. Як бы прылучыўся да тайны. Насіў бы Асю на руках...

У хаце Шура застаў толькі Багдановіча. Сядзеў Алесь пры стале, паныла трэнькаў на балалайцы, на якой не хапала струны. Убачыўшы Шуру, узрадаваўся.

— Дзе быў? Я цябе паўдня шукаў.

— У адным месцы,— з загадкавым выглядам схлусіў Шура.— Там мяне болей няма.

— Хочаш выпіць?

— Хачу.

З брызентавай торбы (у такіх вешаюць вайсковым коням на морды авёс) Алесь вывалак запацелую бутэльку самагонкі, разрэзаў цыбуліну, наліў гарэлкі ў вялікія гліняныя кубкі.

— Давай вып’ем за Пціч.

— Я там чуць не падарваўся,— сказаў Шура.

Багдановіч перапытаў абыякава:

— На міне?

— На стрэлцы. Думаў лямпу выцягнуць. Гаспадыні. Сядзім упоцемку...

Алесь, нават не чокнуўшыся, задраў галаву, цягнуў без перадыху. Хадуном хадзіў кадык на загарэлай, пакрытай белым пухам шыі. Дацягнуў да дна, выцер губы далонню, хруснуў цыбулінай.

— Я немчыка кокнуў. Маладога. Галоўнае, сволач, падняў рукі...

Шура прымоўк, глядзеў на Алеся. Сп’янеў ён імгненна — відаць, піў да гэтага. Твар азызлы, вейкі пачырванелі.

— Мутарна мне... Я стрэліў, а ён за грудзі хапіўся, пішчыць, як дзіця. Упаў, стаў качацца... Не магу забыць... Стаіць у вачах...

— Выкінь з галавы,— спагадліва сказаў Шура.— Немец рукі падняў, бо выхаду не было. Аглушылі іх. А так бы кокнуў цябе і толькі аблізнуўся б.

— Ведаю. Мы шасцярых немцаў у палон узялі. Да цябе яшчэ. Ехалі ў Альхоў па яйкі. Бондар дапытаў, а потым сам ведаеш...

У гэтую ж хвіліну на парозе — Бондар. Падышоў да стала, прысеў на лаве побач з Шурам.

— Багдановіч, чаму раскіс?

— Спраўляю памінкі, Павел Антонавіч. Па немцу...

— Ведаю. Гервась гаварыў.

Бондар (правая рука забінтавана) падняўся, прайшоўся па хаце.

— Вучыцца б вам, хлопцы. Носа, аднак, не вешайце. І гарэлкі лішне не піце. Пасля вайны пашлём у інстытуты. Характарыстыкі такія дадзім — без экзаменаў прымуць. Самі ведаеце — на фронце дзяла харошыя...

Кіўком галавы ён паказаў Шуру на дзверы, а Багдановічу сказаў:

— Пойдзеш са мной. Палазім па сваім раёне. Да маці заскочыш. Не ўсіх бяру, а толькі тых, хто прыйшоў у чэрвені, разам са мной...

Шура чакаў на двары. Згушчаўся сіняваты змрок. За агародам у соснах аднастайна шумеў вецер. Па мёрзлым грудзе на вуліцы грукалі ботамі партызаны.

Бондар выйшаў, узяў Шуру пад руку, вывеў на агарод, пад лазеньку. Загаварыў напаўголаса, прыблізіўшы свой твар да Шуравага:

— Цябе ад мяне забіраюць. Будзеш тут, у атрадзе, але з сённяшняга дня падчыняешся капітану Мазурэнку. Ён разведчык. З Масквы. З упраўлення разведкі. Карысны для нас чалавек. Так што дзяржы язык за зубамі. Нікому ні гу-гу. Нават дружку свайму, Багдановічу.

Шура маўчаў, ахоплены супярэчлівымі пачуццямі.

— Лобік Іван быў у вашай групе? — нечакана спытаў Бондар.

Шура ўздрыгнуў.

— Быў. Адкуль ведаеце?

— Ён пляменнік мой. Я табе да часу не гаварыў. Нікому не гаварыў. Мой бацька ў мястэчку. І я там жыў. Да трыццаць другога года...

— Дзед Бондар! — усклікнуў Шура.— Мы ў яго хаваліся...

— Цішэй, хлопец. Пра бацьку мала хто ведае. Толькі самыя блізкія. Цябе папрашу аб адным. Нікому ні слова. Сам

разумееш чаму... Разведчык хоча ўстанавіць сувязь з вашымі хлопцамі. Тут з мястэчка ёсць чалавек. Аграном Драгун. Ён падказаў...

— Драгун? — перапытаў Шура.— Я ж ведаю яго. Але тут ні разу не бачыў.

— Ён быў за чыгункай. Учора вярнуўся.

— А бацька ведае, дзе вы?

Камандзір азірнуўся.

— Ведае. Зімой у яго быў. Гаварыў... Ну, ідзі. Капітан у трэцяй хаце. Па левы бок.

З агарода на двор выбіраліся па адным: першы Бондар, за ім — Шура...

## II

У тую ж ноч Бондар вывеў з Сасновіцы частку атрада. За суткі адолелі пяцьдзясят вёрст. 7 лістапада, пад раніцу, прыбіліся ў пасёлак Скарышылаў, за тры кіламетры ад чыгункі.

Хлопцы прыляглі ў хмызах. Бондар, Гервась, капітан Мазурэнка падаліся да хаты аднаасобніка Якава Шаўца. Стаіць хата трохі наводшыбе, выдзяляецца ярка-зялёным мохам на струхлелай страсе.

Якаў — чорны, як грак, увішны стары — сустрэў у сенечках, запрасіў у хату.

— Ведаеш, які сёння дзень, бацька? — спытаў Бондар.

Стары ашчэрыў моцныя яшчэ, жоўтыя зубы.

— Вы ж самі павесілі каляндар. Трэці дзень паяздоў няма.

— Мост на Пцічы гахнулі.

— Тады вы — сіла. Некалі бачыў той мост...

Жонка гаспадара, выглядам маладзей за Якава гадоў на дваццаць, пачала завіхацца ля стала.

— Не трэба, бацька. Дай, калі што ёсць, з сабой. Там хлопцы чакаюць.

— Няхай так. Толькі ў мяне малавата. Зайдзіце да Трахіма, лесніка.

— Ладна. У нас дзела. Скажы, бацька, дзе-небудзь блізка ёсць дуб, які відзён з чыгункі? Хочам сцяг вывесіць.

Стары задумаўся.

— Ідзіце пад Жарнавіцы. Там знойдзеце. І з чыгункі відаць, і ў лесе далёка. Немцы пабаяцца вылазіць. А я тым часам пасплю. Ноччу вадзіў вашых...

— Куды вадзіў? — здзівіўся Бондар.

— На чыгунку, куды ж. Прыйшлі, просяцца. Зусім незнаёмыя. Я адгаварваў, казаў — чыгунка стаіць. Слухаць не хочуць...

Гервась занепакоіўся.

— Можа, правакатары, бацька. З чужымі не хадзі. Ты сувязны нашага атрада.

— Э, сынок. Вашыя, нашыя. Бадай, кожнай ночы стукаюць у акно. Учарашнія тожа наставілі немцам цацак...

На поўнач ад Жарнавіц, вярсты за чатыры ад станцыі, высіцца дубовая града. Дубы выносныя, стагадовыя, з шырокімі разлапістымі макушкамі. Партызаны высеклі дзве доўгія бярозавыя астровіны. Трымаючыся за жэрдкі, Багдановіч, а за ім Валодзя Шлег ускарабкаліся на ніжэйшую галіну. Ім падалі на жардзіне дрэўка сцяга.

Знізу нават страшна было глядзець на смельчакоў. Забраліся на самую вяршаліну. Партызаны стаялі, задраўшы галовы, стаіўшы дыханне. Застукаў малаток. Багдановіч, абхапіўшы ствол рукамі, прыціскаў да яго жардзіну. Валодзя, які прымасціўся з другога боку, прыбіваў яе цвікамі да дуба.

Сцяг затрапятаў двухметровым палотнішчам...

Як толькі Багдановіч са Шлегам спусціліся па жэрдках на дол, з боку Жарнавіц затахкаў кулямёт. Зверху пасыпаліся кавалачкі кары, ссечаныя кулямі галінкі. Немцы білі па сцягу...

Цяпер Бондар дзейнічае ў сваім, родным раёне. Ад Жарнавіц да мястэчка, да бацькавай хаты — вёрст васямнаццаць.

У бацькі на агародзе тры велічэзныя дубы, якія стаялі, такія ж магутныя, разлапістыя, калі бацька сам быў малады і, сабраўшы пасля вандровак па заработках грошай, купіў на скарбовай зямлі пляц пад дворышча.

Бацька — селянін па крыві. Дзень пры дні араў, касіў, вазіў сена, хваляваўся, калі не даела карова, калі падбіўся на

нагу конь, калі ў суседскіх авечак, што ходзяць у адным гурце з іхнімі, завялася матыліца. У калгасе рабіў з той жа стараннасцю, як раней на аднаасобнай гаспадарцы, уставаў на золку, выцягваў з пячуркі падсохлыя анучы, абуваўся ў лапці...

Колькі памятае Бондар, бацька ніколі не хварэў, еў, што пастаўлена на стол, на апетыт не скардзіўся. Пра бацькавага бацьку, валахатага, шыракатварага дзеда Пятра, з выбітым пярэднім зубам (пры гаворцы дзед нібы прысвістваў), пра яго непераборлівасць у ядзе хадзіла па мястэчку пагалоска. Праўда тое ці няпраўда, але людскія языкі, якія ніколі не завяжаш, плялі, што стары Бондар, вярнуўшыся з касавіцы і не заставшы дома жонкі, выняў з печы вядзёрны чыгун і выменціў яго да дна. Шкоду выявіла жонка — стары апаражніў пасудзіну з цялячым пойлам, а чыгунка з баршчом не прыкмеціў.

Браты пайшлі па дзеду — рослыя, медзведзяватыя, а ён па бацьку, які здаля заўсёды нагадваў хлапчука-падлетка.

Можа, таму, што ў маладосці бацька зазнаў ліха, пакуль узбіўся на капейку, купіў зямлі на двор і поле, ён як з'яву законную, проста такі неабходную, прыняў калектывізацыю. «Людзі множацца, а зямлі прыбавіш не надта,— гаварыў ён.— Хоць сабе балота пасушы, лес выкарчуй... Зямля змерана даўно. Сплішчацца людзі на ёй, калатня пойдзе, сварка. Трэба спосаб шукаць, каб хлеб людзіараблялі не толькі на зямлі...»

Сапраўды, што б атрымалася, каб бацька падзяліў свае тры дзесяціны на чатырох сыноў і дачку?..

Бацька гарэлкі ў буднія дні не прызнаваў, у хаце не трымаў, але на святы, на бяседах, пагулянках, вяселлях напіваўся да знямогі, піў, колькі не паднясуць. Тады — ці ноч, ці дзень — гарланіў песні, а маці вяла яго па вуліцы дамоў, штохвіліны ўшчуваючы.

Ён удзячны бацьку за тое, што ім, дзецям, змалку прывіў ясны, чысты пагляд на жыццё, не цярпеў нядбальства, ніколі не быў несправядлівы, жорсткі, але і салодкіх пернікаў не абяцаў. Таму ён цяпер трывожыцца за бацьку. Хоць у Гарбылях яго мала хто ведаў, а тыя, што блізка ведалі,— людзі надзейныя, усё ж чуткі да немцаў могуць дайсці...

Засаду зрабілі, выйшаўшы з-пад дубоў, залёгшы ў ляшчынніку. Кулямёт то змаўкаў, то слаў зноў доўгія перарывістыя чэргі. Засада, калі называць яе такім словам, трохі дзіўная. Адсюль, з-за шчыкету арэшніку, гарбылёўцы пазіралі на дубы, як пастухі на статак. На варце пакінулі трох, астатнія сталі даставаць з заплечных мяшкоў хлеб, варанае мяса, яйкі.

Лясны банкет, засада — усё разам.

Бондар з Драгуном адасобіліся. Нагрэблі падсушанага марозам лісця, прылеглі пад хвойкай. Паклікалі Мазурэнку. Валодзя Шлег, ардынарац, прынёс мяшок, расклаў на сялянскім даматканым настольніку нарэзаную вяндліну, хлеб.

Бондар падняў галаву, прыслухаўся. Кулямёт змоўк.

— Як думаеш, не пойдуць?

— Ні за якія грошы. Якаў праўду гаварыў.

— Мы з Драгуном вучыліся разам,— сказаў Бондар, павярнуўшыся да Мазурэнкі.— У Бацькавічах, у лясной школе. Я і родам адтуль. Ён аграномам стаў, а я чорт ведае кім. Калі немцаў прагоняць, пайду ў леснікі.

— У армію пойдзеш. Ты ж кадравы, капітан.

— Могуць не ўзяць. Акружэнец усё-такі. Дый капітаны за вайну, ведаеш, кім стануць? Палкоўнікамі.

— Я таксама аграном,— сказаў Мазурэнка.— Вінаградар. Быў старшым палітруком. Перакваліфікавалі.

— Я помню, як да ўлады прыйшоў Гітлер,— задумліва сказаў Бондар.— Толькі кончылі з ім навуку.— Ён кіўнуў на Драгуна.— А мне назаўтра павестка. Не з ваенкамата — з райкама камсамола. Быў такі камсамольскі прызыў. Маці сухары сушыць, я да дзевак сабраўся. А ў хату да нас шусь адзін пенсіянер. Збароўскі, чыгуначнік. Ты яго, Васіль, павінен ведаць. Ля пераезда жыве, дом з белымі аканіцамі. Хіба, можа, памёр?..

— Жыве,— сказаў Драгун.

— Дык вось, Збароўскі гэты зняў шапку, сеў ля стала. «Гітлер, кажа, да ўлады прыйшоў, цяпер будзе вайна...» У маці з рук торба з сухарамі вывалілася...

З Жарнавіц зноў затахкаў кулямёт...

— Я калі пачуў, што ты вывеў атрад,— сказаў Драгун,— падумаў адразу — дзела будзе. У табе штосьці ёсць...

— Чорт яго ведае, можа, ёсць. Мой брат, старэйшы, у камбрыгі выйшаў. Бацька тры Георгіі прынёс. Быў старшынёй палкавога камітэта...

— Помніш Стрыка, старшыню сельсавета? — спытаў Драгун.

— Хіба такога забудзеш.

— Ты на яго быў падобен. Не характарам, чымсьці другім.

— Дзе цяпер Стрык?

— Паставілі намеснікам старшыні райвыканкама. У трыццаць сёмым, ведаеш сам, што было...

Мужчыны прымоўклі, зірнулі адзін на другога, потым на Мазурэнку. Той у сваім куцым кажушку ляжаў на спіне, корпаўся былінкай у зубах, пазіраў у неба. Сказаў спакойна:

— Выдам табе ваенную тайну, Павел Антонавіч. Прыйшла шыфроўка з Масквы. Просяць сабраць звесткі. Пра цябе. Відаць, запрос з партызанскага штаба... Раскажы што-небудзь. Пра ваша мястэчка, пра гэтага Стрыка...

## III

Цяпер тысяча дзевяцьсот сорак другі. Тады быў тысяча дзевяцьсот трыццаць другі. Мястэчка Бацькавічы афіцыйна лічылася сялом. Быў у ім сельсавет, размешчаны ў прасторным, з жоўтымі аканіцамі, доме купца. Быў калгас, у які яшчэ не ўступіла і палавіна местачкоўцаў. З аб'ектаў прамысловых — мылаварань і цагельны заводзікі, пільня. Была школа першай ступені, якую па-новаму пачыналі называць ШКМ.

Але цэнтрамі, з якіх як бы выпраменьвалася святло новых перамен, былі не гэтыя чыста мясцовыя асяродкі. Тон местачковаму і навакольнаму жыццю задавалі курсанты. У лясную прафтэхшколу, на аўтатрактарныя курсы прымалі людзей хоць і маладых, але правераных, якія на практыцы даказалі прыхільнасць да савецкай улады.

Рыбак рыбака бачыць здаляка. Прамоўцу-камсамольца прыкмеціў старшыня сельсавета Стрык, худы, высокі, з чорным, нібы вымазаным дзёгцем, тварам. Стрык насіўся па вуліцах мястэчка на прыгожай кабыле Ластаўцы, чырвонагнядой, з белымі падпалінамі на нагах і каля вачэй.

Калі Стрык быў не ў сядле, то ўсе адно здавалася, што ён некуды імчыць, баючыся спазніцца,— гэтак шпарка, размашыста ён хадзіў...

Стрык іншы раз браў Бондара з сабой, калі выязджаў праводзіць сходы па сёлах.

Местачковы кастрычніцкі мітынг у 1932 годзе запомніўся ўсім. Абшарпаную дашчаную трыбуну, якая ўзвышалася на базарнай плошчы, пафарбавалі ў чырвоны колер. Задні, а таксама бакавы прасцяг плошчы перад трыбунай напалавіну заняла прафтэхшкола разам з аўтатрактарнымі курсамі. Прафшкольцы і курсанты прынеслі партрэты правадыроў, лозунгі, напісаныя белымі літарамі на чырвоным кумачы,— іх трэба было несці ўдвух, трымаючы палкі над галавой, расцягваючы палотнішча, каб можна было прачытаць напісанае. Але асаблівай аздобай калоны курсантаў і прафшкольцаў былі дошкі транспарантаў, на якіх самадзейныя мастакі наглядна паказвалі бойкі рэвалюцыі — чырвонаармеец у будзёнаўскім шлеме коле штыком тоўстага генерала, худы, жылаваты рабочы змятае з зямнога шара буржуя, памешчыка і папа.

Правей, расквечаная сцягамі, партрэтамі, лозунгамі, сцяжкамі, выразанымі з чырвонай паперы, стаяла калона сямігодкі, далей чыгуначнікі з фанерным макетам паравоза, за імі смалакуры, пільшчыкі, рабочыя цагельні, невялікая купка мужчын з мылаварні. Калгаснікі прыйшлі з гармонікамі. Усе з чырвонымі бантамі на грудзях, у новых святочных вопратках.

Першамайскія, кастрычніцкія мітынгі і дэманстрацыі былі заўсёды шумнымі, люднымі, але ніколі раней не бачыла мястэчка столькі чырвані, лозунгаў і плакатаў, як у тую восень. На трыбуне — па чалавеку ад кожнай калоны і старшыня сельсавета Стрык. На галінах таполі, якая расце цераз вуліцу, якраз насупроць трыбуны, нібы вераб'і, сядзяць хлапчукі. Яны чакаюць цуду, пра які ўжо загадзя пайшла шырокая пагалоска.

Творцы цуду — камсамольцы-прафшкольцы на чале з Паўлам Бондарам — выскакваюць на плошчу з-за сельсавецкага дома, выстройваюцца ў ланцуг, як па камандзе, нагінаюцца,

паклаўшы на дол пляскатыя бляшанкі. Адно імгненне — і з-пад іх ног вырываюцца воблакі шызага дыму, ахутваючы шчыльнай заслонай ланцуг. Камсамольцаў з-пад дыму не відаць, затое на тым месцы, дзе яны стаяць, высока над галовамі падымаюцца на дрэўках чырвоныя сцягі. Плошча тоне ў воплесках, у выгуках захаплення.

Камсамольцы зніклі. Прамежак перад трыбунай пусты. Чуваць ляскат колаў, бразганне жалеза — з-за павароту вуліцы на поўным скаку імчыць пажарная каманда. Пажарнікі ў бліскучых медных касках, у поўнай экіпіроўцы — з сякерамі за брызентавымі паясамі, з доўгімі бусакамі ў руках. Трымаючы коней за вуздэчкі, пажарнікі выстройваюцца перад трыбунай. Тады адкрываецца мітынг. Першым пачынае гаварыць Стрык.

Яго пранізліва-звонкі голас разлягаецца не толькі па плошчы, а і па ўсім бліжнім наваколлі. І тое, што выгуквае старшыня сельсавета, непасвечанаму можа здацца дзіўным, але словы Стрыка нельга разумець у літаральным сэнсе.

— Пажарнікі! — падымаючы ўгору сцятыя кулакі і як бы збіраючыся ўзляцець над трыбунай, гукае Стрык.— Не тушыце пажараў! Не трэба тушыць пажары! Няхай шырэй разгараецца агонь рэвалюцыі!

Пажарнікі тоўстымі адтапыранымі пальцамі торкаюць коней пад сківіцы, і коні ўміг, як па камандзе, падымаюць морды, стрыгуць вушамі. Здаецца, яны слухаюць гэтак жа ўважліва, як і людзі.

Наступны лозунг да чыгуначнікаў — гэткі ж звонкі, гучны і, калі кіравацца простым сэнсам, недарэчны:

— Чыгуначнікі! Не спыняйце цягнікоў! Няхай імчацца лакаматывы ў сусветную рэвалюцыю!

Пасля кожнага выгуку прамоўцы дружны, як адзіны ўздых, воклiч натоўпу. Стрык гарыць сам — вочы блішчаць, на чорных запалых шчоках чырвань,— але ж і ўмее запальваць. Здаецца, каб падняў ён руку, паклікаў — уся грамада людзей, якія стоўпіліся вакол трыбуны, хлынула б за ім, кінулася б у невядомыя, прывабныя далі.

— Смалакуры! Не шкадуйце смалы! Зальём горлы сусветнаму капіталу!

— Пільшчыкі! Хопіць рэзаць дошкі і брусы! Збівайце труну для праклятых буржуяў!

Нарэшце чарга даходзіць і да прафшкольцаў і курсантаў. Маладыя, гарластыя хлопцы горача падтрымліваюць усе заклікі, але і свайго чакаюць з нецярпеннем.

— Курсанты-трактарысты! Узаром зямны шар калгасна-саўгаснымі плугамі! Няхай захлынецца ў бяссільнай злосці сусветны кулацка-памешчыцкі клас!

— Аграномы-лесаводы! Хутчэй канчайце навуку! Засеем зямлю чырвоным насеннем нянавісці і барацьбы!

Гоман, воплескі, бой школьных барабанаў... Астатнія прамоўцы ў параўнанні са Стрыкам гавораць будзённа — што зрабілі, што трэба зрабіць. Называюць лічбы, кубаметры, гектары...

Мітынг цягнецца гадзіны дзве, потым яшчэ столькі дэманстрацыя па гразкай чатырохвярстовай вуліцы мястэчка. Прамоклі ногі ў брызентавых туфлях на гумавай падэшве, хочацца есці — кормяць прафшкольцаў, курсантаў у сталоўцы не надта. Але дзень незвычайны — б'юць барабаны, палошчуцца сцягі. Баявы дух, задор, здаецца, здатны адолець усе нягоды...

Кулямёт у Жарнавіцах маўчыць ужо з гадзіну. Між дрэў згушчаецца сінявата-шэры змрок. У суседнім сасняку нарастае працяглы, аднастайны шум. На непагоду, Якаў Шавец як у ваду глядзеў — немцы ў лес не паткнуліся.

— Ваш Стрык — тыповы левачок,— раздумліва сказаў Мазурэнка.— На Украіне такія былі. Не ведаю, што ён натварыў далей, а чалавек цікавы...

Драгун устаў, скруціў цыгарку. Чыркнуў запальнічкай, даў прыкурыць Мазурэнку. Адказаў жартам:

— Левыя з правымі перамяшаліся. У Піляцічах старшынёй сельсавета быў такі Спаткай. Цяпер немцам боты ліжа. А Шаўца Якава — я яго з трыццаць трэцяга года помню — падводзілі пад цвёрдае заданне...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

### I

Восень стала такой, якой павінна быць — хмурай, імжыстай. Гаўрыла, стрыечны бацькаў брат, цяперашні сусед, дастаў буланага махнатага коніка, ездзяць з Міцем сеяць жыта.

Мястэчка збольшага адсеялася. Узбоч каляіністай, выбітай дарогі — ніводнага вольнага лапіка. Пасля дажджоў на полі дружна паднялася зялёная рунь. Конік бадзёра цупае па дарозе, памахвае доўгім хвастом. На возе толькі барана і мяшок з насеннем — сеяць будуць па бульбянішчы.

У памочнікі набіўся Адам. Крочыць узбоч воза, раз-пораз кідаючы позірк на боты, якія сам пашыў. Боты не надта хвацкія: да старых, абшарпаных халяў прышыў Адам галоўкі з траскучай карабацістай скуры, якую нават дзёгаць не бярэ. Але ўсё адно хлопец задаволены. Навуку скончыў, цяпер можа лічыцца самастойным шаўцом. Ніхто пакуль заказаў яму не дае — па-ранейшаму ходзіць Адам да старога шаўца, але цяпер за плату.

Прыехалі на поле. Дзядзька зачапіў барану, амаль подбегам рушыў па загоне. Міця з Адамам складваюць у кучы мокры бульбоўнік. Дзве кучы запалілі. Дым сцелецца па самай зямлі — на непагоду.

Міцю хочацца прайсці з лубянкай. Ніколі яшчэ самастойна не сеяў. У дзяцінстве, калі бацька браў з сабой на поле, то дазваляў, ідучы поруч, сыпануць толькі некалькі жмень. На большае на вузенькіх сотках пралёта Міця разлічваць не мог.

Дзядзька таксама як бы не зважае на Міцю. Павесіў на грудзі лубянку, пайшоў па загоне. Міця з зайздрасцю пазірае ўслед. Нутром адчувае — сеяць здолее. Дагэтуль толькі назіраў, як сеюць другія. Ёсць штосьці вялікае, святое ў самім здзяйсненні сяўбы, якая кладзе пачатак, круг новаму жыццю.

Дзядзька, відаць, зразумеў Міцеў настрой. Прайшоўшы з паўзагона, зняў лубянку, прысеў на ўзмежак, закурыў. Узмахам рукі паклікаў да сябе Міцю:

— Сей!

З хваляваннем насыпаў Міця ў лубянку жыта, павесіў на грудзі. Пайшоў, ступаючы па дзядзькаваму следу, да таго

месца, дзе поле не засеяна. Ведаў — за кожным рухам ззаду назіраюць і дзядзька, і Адам, таму першыя ўзмахі рукой зрабіў няўпэўнена, бачыў сам, што зерне рассыпаецца няроўна.

Праз хвіліну на сведак забыў. Усё пры сяўбе падначалена строгаму, дакладнаму рытму, усё злучана, звязана — крок, узмах рукі, паварот цела. Нават адчуваеш вагу зерняў, якія трымаеш у жмені і павінен раўнамерна рассыпаць за ўзмах. Захапіўшыся, Міця ні аб чым не думае. На душы весела, лёгка. Сяўба чымсьці падобная да касьбы. Толькі там трэба сіла. Тут не трэба...

Калі Міця скончыў загон, прыйшоў насыпаць жытам лубянку, дзядзька, хаваючы ўсмешку, пахваліў:

— Умееш. Трошкі спачатку не так.

Скончыўшы сеяць, забаранаваўшы поле, заехалі ў алешнік, звалілі дзве сухастоіны.

Шэры, смутны, павісаў над полем вечар. Мястэчка чарнела ўдалечыні.

— Чалавеку, каб жыць, трэба рабіць,— сказаў дзядзька, выкіроўваючы лейцамі каня на дарогу. Нечакана дабавіў: — Мне здаецца, вайну паны выдумалі. Тыя, што рабіць не любяць...

— Дык ваююць жа не адны паны?

— А яно так хітра прыдумана, што пан пастуха за сябе пашле. Спакон веку так.

— У нас жа паноў не было,— запярэчыў Міця.— У нас ваюе народ.

— На нас напалі,— згадзіўся дзядзька.— А калі напалі, трэба бараніцца. Але і ў нас на панскую жызнь замахваліся. Скажам, вы, вучоныя. Як толькі хлопец ці дзеўка кончыць школу, то ад простай работы верне нос. У гнаі не хочуць капацца. Свіней карміць, карову даіць...

Міця прымоўк. У тым, што гаварыў дзядзька, была нейкая праўда, хоць з ёй і не хацелася згаджацца. Яны, моладзь, тыя, хто скончыў дзесяцігодку ці прыбліжаўся да сканчэння, думалі пра горад, ахвоціліся вучыцца на лётчыкаў, танкістаў, настаўнікаў. Але ж настаўнік хіба не працуе? А лётчык наогул рызыкуе жыццём...

— Вы ж самі ў калгас не пайшлі,— сказаў Міця.— Мо таму, што на чыгунцы лягчэй?

— Не таму. У калгас я паступаў. Няма лепшай работы, як на зямлі.

— Дык чаму не асталіся?

— Доўга гаварыць, хлопец. Калгас — дзела не паганае. Толькі не заўжды быў парадак. Адзін віляе, другі робіць.

— Без калгаса было нельга,— горача загаварыў Міця.— Надзелы драбнелі, а людзі множыліся. Як было бацьку падзяліць тры дзесяціны на трох сыноў?

Гаўрыла Птах злёгку тузануў лейцамі коніка.

— Тожа верна. Толькі ж вы, маладыя, болей у горад ірваліся.

— Затое — прамысловасць развівалі,— сказаў Міця.— Немцы б даўно перамаглі, каб не было прамысловасці. Горад не толькі браў хлеб, а даваў навуку, работу.

— Можа, і так...

Наперадзе цьмяна заблішчала лужына. Дзядзька, адпусціўшы лейцы, нокнуў на коніка, сам пайшоў па сухім, узбоч.

Вечарам, прылёгшы на канапцы, Міця паспрабаваў чытаць. Але зараз жа адклаў кнігу ўбок. Пра іх, маладых, Гаўрыла Птах гаварыў праўду. Да зямлі не цягнула, нават у мястэчку, дзе, мабыць, цікавей, чым у звычайным сяле, не хацелі ставацца. Касіць, араць, пілаваць дошкі, будаваць хаты — усё тое, што ўмеюць бацькі, рабіць не навучыліся.

Цяпер у розных канторах, якія паадчыняліся ў мястэчку, нямала хлопцаў, дзяўчат. Відаць, не толькі таму, што ратуюцца ад Германіі, а і таму яшчэ, што нічога другога не ўмеюць рабіць.

## II

Выратаваннем ад пакут, згрызот можа стаць звычайная работа. У запушчаным цётчыным двары даўно трэба мужчынская рука. І хоць гаспадар з Міці кепскі, занятак ёсць для яго. Два дні гахаў сякерай, але ўсё ж вычасаў шулу для коварата. Цяпер вароты на агарод зачыняюцца.

На Пакрову маці, цётка і Міця сабраліся да цётчынага брата ў сяло Палыкавічы. Пайшлі сцяжынкай узбоч чыгункі. Прыгожая, мякка-журботная стаіць восень. Лес як бы зацяўся ў маўклівай задуменнасці. Шасціць пад нагамі апалае лісце.

Усходнія ваколіцы мястэчка Міця мала ведае. Па грыбы сюды не хадзіў, па дровы не ездзіў. Але мясціны тут не меней прывабныя, чым пад Грамамі, з другога боку мястэчка, дзе прайшло Міцева дзяцінства. Беразнякі як аблітыя золатам. Сям-там узвышаюцца разлапістыя старыя дубы.

З пераезда, які чымсьці нагадвае той, на якім Міця нядаўна жыў (будкі вельмі падобныя), з левага боку адкрываецца від на разлеглыя, асушаныя балоты саўгаса «Росіца», з правага — на торфазаводскі пасёлак. На пераездзе пахаджвае славак, трымаючыся рукой за рэмень таўставатай кароткай вінтоўкі. На маці з цёткай і Міцю славак глядзіць дружалюбна.

Яшчэ вярсты праз тры жалезны чыгуначны мост праз рачулку Росіца. У мястэчку яго называюць Рудым. Росіца — рэчачка маленькая, як канаўка. Пятляе ў нізкіх тарфяных берагах між алешын, хмызнякоў. Цячэ павольна, не спяшаючыся. Вада ля берага, ля чорных дзеравяных абрубкаў-паль былога моста зацягнута зялёнай раскай. З таго часу, як асушылі балоты, Росіца пагоршала, абмялела.

На мосце два славакі-ахоўнікі. Поруч з чыгункай сыпаны пясчаны шлях, і там праз рэчку мост драўляны, на якім аховы няма. Але вартаўнікі адвярнуліся, робяць выгляд, што не бачаць падарожнікаў, і Міця, а ўслед за ім маці з цёткай узышлі на жалезны насціл.

За Рудым мостам шлях крута сягае праз чыгунку ўправа, губляючыся ў лесе. Падарожнікі збочылі з насыпу. Чарналессе змянілася пасадкамі маладога хвойніку. Трымаецца між сасонак устойлівы грыбны пах. Нават адсюль, з дарогі, можна ўбачыць слізкія каптурыкі маслякоў, сям-там з-пад ігліцы вытыркаюцца купкі зялёнак. Міцю маркотна. Ні разу сёлета не блукаў па грыбовішчах.

Перад Палыкавічамі — дубровы. Каржакаватыя, паважныя дубы як бы застылі ў спрадвечным спакоі. Шлях астаўся справа, прасёлкавая дарога, якая вядзе да сяла, наскрозь перасечана выбітым на паверхню вузлаватым карэннем.

Палыкавічы — сяло старасвецкае. Хаты стаяць шчыльна, густа, ледзь не ўпрытык адна да адной, з-пад навіслых стрэх-каптуроў глядзяць на вуліцу падслепаватымі вокнамі. Але тое, што паселішча ля чыгункі, адчуваецца. Прылеглая да станцыі вуліца вызначаецца прыгажэйшай забудовай і планіроўкай.

У сяле, відаць, любяць гульнуць. Купкі ўзбуджаных п’янаватых мужчын ледзь не перад кожным дваром. З расчыненых сям-там вокан даносіцца гамана.

Вясёлая кампанія і ў прасторнай хаце цётчынага брата. Калі местачковыя госці праціснуліся за стол, тыя, што частаваліся з раніцы, хістаючыся, паволі выдыбалі за дзверы. Мікалай (так завуць цётчынага брата) падсеў да местачкоўцаў, наліў шклянкі:

— За ўсё добрае! Каб і налета сустрэліся...

Самагонка мяккая, пахне не надта. Міця сваю шклянку выпіў да дна. Маці з цёткай толькі губы памачылі.

— Нічога не чутно пра Сцяпана? — спытаў Мікалай.

— Нічога,— маці заплакала.

— Не плач, кума. Будзе жыў, дасць Бог...

У гэтую хвіліну ў хату зайшлі трое. Пярэдні, шчуплаваты, з худым злосным тварам, увесь абвешан зброяй. Акрамя нямецкага аўтамата, які трымае на плячы, на рамяні наган у міліцэйскай брызентавай кабуры, дзве гранаты-«лімонкі» і яшчэ адна нямецкая, з доўгай драўлянай ручкай. Два заднія паліцаі толькі з вінтоўкамі.

— А, гаспадзін Скок! Проша сядаць! — гаспадар падхапіўся, замітусіўся ля прышэльцаў.

Паліцэйскія не селі. Худы, якога гаспадар назваў Скокам, абвёў усіх насцярожаным позіркам бялеса-сініх вачэй, працягнуў руку да графіна. Не паспеў ён наліць, як у хаце — новыя госці — два рослыя славакі. Сярод паліцаяў яўнае замяшанне. Паспешліва апаражнілі шклянкі, не закусваючы, шуснулі за дзверы.

Малады круглатвары славак сеў за стол поруч з Міцем. З другога боку — гаспадар. Не зважаючы на славакаў, сказаў пра Скока:

— Свет не бачыў такіх сволачаў. Жыць не можа, калі каго не расстраляе. Ашалеў ад крыві...

Славакі пасмутнелі. Маўкліва выцадзілі па шклянцы, закусілі, і раптам Міцевага суседа прарвала:

— Германы — сволачы, как ест!.. Крывавы банда... Але скора ім капут... Усім германам капут. Сталінград — стаіт. Два месяцы стаіт... Нічога герман нэ сдэлает. Няхай цалуе свайго Гітлера ў с...!..

Гаспадар пабялеў. Да прамовы славака прыслухоўваліся госці, якія хоць клявалі насамі ў талеркі, але вушы мелі...

Ішоў Міця ў Палыкавічы проста так, каб развеяць нуду, а вярнуўся з узбуджанымі думкамі. Славакі служаць немцам і ненавідзяць іх. Як бы ганарацца Сталінградам... Дзіўныя рэчы бываюць на свеце...

## III

Міця ўстае рана, тупае па двары. Напілаваў з Юрасём, цётчыным старэйшым, дроў, склаў пад паветкай дзве акуратныя паленніцы. Учора, пазаўчора прысыпаў прызбы, сёння з самага ранку ўзяўся размачваць бочку пад капусту.

З гэтай дубовай пасудзінай нічога якраз не выходзіць. Рассохлася дазвання. Міця набіў новы абруч, выліў у бочку, можа, сотню вёдзер, і ўсё адно — вада выцякае імгненна.

Гаўрыла Птах, які, відаць, назіраў за Міцем, гукнуў са свайго двара:

— Занясі ў копанку. Хай там паплавае. Клёпцы трэба кругом набрыняць.

Копанка, ці, праўдзівей, кар’ер, адкуль бралі зямлю, калі сыпалі шлях, цераз адзін двор, ля чыгункі. Насупраць застыў семафор з паднятым крылом. Міця, прабіўшы лёгкі лядок, пусціў бочку на ваду, агледзеўся. Ад пераезда паныла дыбае з брызентавым мяшком за плячамі Аляксей Прымак.

Міця пайшоў насустрач, прывітаўся. Азірнуўшыся, Аляксей паведаміў:

— Партызаны мяне чуць не кокнулі.

— Чаму не сказаў, што пасланы на сувязь?

Прымак раззлаваўся:

— Якая там сувязь! Што ў мяне, на лобе напісана?.. Прыйшлі ноччу — двое мужчын, адна баба. Мацюкамі крыюць. Пабілі ў школе вокны, развалілі печ...

— А ты дзе быў?

— Ляжаў пад плотам, у агародчыку. Як цюцька...

Такія ж нярадасныя весткі прынёс назаўтра з Грамоў Мікола. Партызаны ёсць, але ў вёскі забрыдаюць ноччу, сустрэцца цяжка. У Малкавічах, за чатыры вярсты ад чыгункі, жыве Міколава цётка. Адзін раз Мікола нават начаваў у яе, але партызан якраз не было.

Вінтоўку, якую Міця выкінуў з воласці, Мікола знайшоў і перахаваў. Вывалак у лес...

## IV

Надвячоркам, праз два дні пасля свята Кастрычніка, да Міці прыбег узбуджаны Лобік.

— Армія заняла станцыю Іванаўку!

Міця не паверыў вушам.

— Якая армія? Баі на Волзе, на Каўказе.

Разважлівы Лобік быў у курсе падзей.

— Партызанская. Камандуюць генералы. Каўпак, Сабураў. Пераправіліся праз Днепр у Лоеве. У Іванаўку двух нашых рамонтнікаў пасылалі. За дзень да гэтага. Яны нічога не ведалі. Партызаны забралі іх з сабой. Усіх рабочых, што былі на чыгунцы, забралі. Сем'ям нічога не будзе. Чаму я не паехаў? Брыгадзір і мне казаў. Я, дурань, не захацеў.

Станцыя Іванаўка ад мястэчка не так далёка. Да яе пракладзена ветка-аднапутка, на якой торфазавод, вёска Сівалобы. Летам аднапутка ляжала неадрамантаванай. На торфазаводскім мосце Шура Гарнак скінуў здвоеныя паравозы.

Хлопцы разлажылі на стале карту. Куды нацэлілі сваю армію партызанскія генералы? І адкуль яна ўзялася наогул? Калі партызаны пойдуць далей у тым напрамку, то наперадзе Прыпяць, балоты. Але навошта ім балоты?.. Жыццё поўна нечаканасцей...

Толькі цяпер да хлопцаў дайшло, чаму так паспешліва будуюцца ўмацаванні вакол жандармерыі. Трывожацца немцы. Баяцца нападу...

Лобік заседзеўся ў Міці да поўначы. Хлопцы дамовіліся адзін другога не пакідаць.

Гэтую і наступную ноч Міця спаў трывожна. Прачынаўся, прыслухоўваўся, ці не ўсчынаецца страляніна. Але за вокнамі ляжала маўклівая, чорная ноч. Нават сабакі не брахалі. Партызанская армія мястэчка абмінула...

Тое, чаго хлопцы чакалі, прыйшло з другога боку. Мікола завітаў да Лобіка. Сказаў спакойна:

— Партызаны хочуць сустрэцца. Пойдзеце заўтра ў Дубровіцу. Удвух у старую вёску не ідзіце. Чакайце ў першым пасёлку.

У Міці забілася сэрца. Вось і ўсё. Чаго хацелі — дамагліся...

Калі першая ўзрушанасць схлынула, хлопцы сталі распытваць Міколу. З яго кароткіх, не надта ахвотных адказаў высветлілася, што сустрэў ён партызан у Малкавічах, на другі дзень пасля кастрычніцкага свята. Бачыў Шуру, Драгуна.

— Што з сабой браць? — спытаў Міця.

— Думай сам. Вінтоўкі ж пакуль не возьмеш...

Мікола як бы штосьці тоіць. Але, занятыя сваім, хлопцы не прыдаюць яго зацятасці ўвагі. Узбуджана расхаджваюць з кута ў кут, абгаварваюць спосаб далучэння да партызан. Становішча ў мястэчку — лепш не прыдумаеш. Двух забралі партызаны ў Іванаўцы, двух возьмуць у Дубровіцы. Розніцы ніякай. Галоўнае — каб немцы не помсцілі сем'ям. А дзеля гэтага трэба сыграць камедыю, зрабіць так, нібыта там, у Дубровіцы, Міцю, Лобіка партызаны схапілі сілай. Сыграць камедыю трэба на людскіх вачах, каб пайшла пагалоска.

Дамовіліся, што Міця з Лобікам пойдуць мяняць соль на самагонку. У Дубровіцу мястэчкоўцы якраз носяць розныя шмуткі. Плоткіна, Прымака наважылі папярэдзіць неадкладна.

Мікола сядзеў на табурэціку, барабаніў пальцамі левай рукі па стале, хмура ўсміхаўся...

## V

Дома Міця на гэты раз нічога не сказаў. Раніцай, трымаючы пад пахай торбачку з соллю, зайшоў па яго Лобік, і ўдвух яны рушылі да пераезда. За мастком Міця азірнуўся. Стаяць насупраць дзядзькавага двара чатыры голыя таполі, шарэе парканамі, платамі маўклівая вуліца. Пад нагамі замёрзлы груд. Міця праглынуў салёны камяк...

На пераездзе, падняўшы каўнер чорнага паліто, пахаджвае паліцай. На хлопцаў зірнуў абыякава, адвярнуўся.

Хлопцы мінаюць апошнюю палявую вуліцу, на якой недабудаваная Міцева хата стаіць, і ніхто знаёмы не трапляецца. Залінейная вуліца, утвораная са сселеных хутароў, як бы за межамі мястэчка і выглядам найменш местачковая: двары ў высокай загарадзі частакола, што ні двор, то гаспадарка — хлеў, хлевушок, пунька, паветка, а часам імшанік для пчол.

Лобік замарудзіў крок, абвёў позіркам дзедаў двор. Ён стаіць трохі ўзбоч, наводшыбе. Хата вокнамі на чыгунку, два хлевушкі і гуменца пад адным саламяным плехам. Сядзібу атуляюць тры высокія разложыстыя дубы.

Дубровіца — за Кавенькамі. Ад мястэчка — кіламетраў восем. Калі ісці па шляху, Кавенькі астаюцца збоку. Адразу за вёскай густы алешнік.

— Зойдзем у дзве ці тры хаты,— разважае Лобік.— Каб паболей людзей бачыла. Будзем таргавацца...

Хлопцы ў дарозе ўжо з гадзіну. Пакінулі ззаду масток, насланы над канавай, якую паглыбілі і расшырылі, калі асушалі балоты. Насустрач, грукаючы коламі па груду, плыве воз з сенам. Дзядзька ў шапцы-аблавушцы ідзе ўзбоч, торгае вераўчанымі лейцамі маладога коніка.

За паваротам шляху павінна быць Дубровіца. Ідуць хлопцы з зацятымі тварамі, маўчаць. Праз якую-небудзь паўгадзіну вырашыцца іх лёс. Як іх сустрэнуць партызаны, што скажуць?

Раптам за спіной — свіст. Міця ўздрыгнуў, азірнуўся. Ззаду, за альховым кустом, стаіць Шура Гарнак у доўгім жаночым кажусе, у адной руцэ трымае вінтоўку, другой махае ім. Да Шуры хлопцы кінуліся подбегам...

Ад шляху да густога бярэзніку, дзе хлопцаў чакалі партызаны, вярсты са дзве. У тым, як Шура сустрэў сваіх нядаўніх таварышаў, як суха, неахвотна спытаў пра сястру, як зацята, нічога пра сябе не расказваючы, вёў іх па алешніку, штосьці Міцю не спадабалася. Як бы паміж ім і хлопцамі пралегла нейкая мяжа. Пакуль ішлі да партызан, убачылі двух ці трох вартавых, якія маўкліва, з вінтоўкамі наперавес, стаялі за дрэвамі.

Драгун прывітаў горача. Міцю абняў, пацалаваў, з Лобікам павітаўся за руку. З Драгуном — яшчэ двое. Чарнявы, пля-

чысты, у дублёным чорным кажушку і ў вайсковай зімняй шапцы з чырвонаармейскай зоркай, блiснуў рэдкаватымі белымі зубамі, назваўся Мазурэнкам, капітанам. Прозвішча другога, вышэйшага, з хітрымі шэрымі вачамі — Тапаркоў. Ён разглядваў хлопцаў як бы з недаверам, тоячы на тонкіх губах з’едлівую ўсмешку. Урэшце Тапаркоў з Шурам адышліся.

Чарнявы пачаў здалёк. Распытваў, хто ў Міці і Лобіка бацькі, дзе хлопцы вучыліся, ці даводзілася ім бываць у другіх, акрамя мястэчка, мясцінах. Не такой сустрэчы, размовы чакалі хлопцы, таму адразу зацяліся, адказвалі неахвотна.

— Вы дзе-небудзь працуеце? — спытаў нарэшце чарнявы.

— Мы прыйшлі ў партызаны,— як бы з выклікам адказаў Міця.— У нас была падпольная група. Хіба што-небудзь другое мае значэнне?

Той, што назваў сябе капітанам, маўкліва пераглянуўся з Драгуном. Загаварыў мякчэй, з нотамі даверу ў прастуджаным хрыпаватым голасе:

— Вы камсамольцы. Павінны разумець, што такое дысцыпліна. Павінны быць там, дзе вас паставяць...

Цяпер пераглянуліся Міця з Лобікам. Яны нічога не разумелі.

— Я ваенны разведчык-дэсантнік,— працягваў між тым капітан.— Таксама мог бы быць у арміі. Але паслалі сюды. Радзіма пасылае сваіх сыноў туды, дзе яны найболей патрэбны. У партызанскім атрадзе,— капітан зноў пераглянуўся з Драгуном,— болей за дзвесце байцоў. Вялікай ролі вы там не сыграеце...

Цяпер да Міці пачало даходзіць. Імгненна ўсплылі ў памяці двое хлопцаў і дзяўчына ў зялёных блузах, якіх пад моцнай аховай вялі ў жандармерыю. То былі парашутысты. Капітан таксама парашутыст...

— Я хачу, каб вы працавалі на нашу групу УПРА. Нас прыслалі з Масквы. Мы падначаленыя ўпраўленню разведкі Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі, але дзейнічаем у кантакце з партызанамі. З партызанскім камандаваннем дамоўлена. Вас мне рэкамендаваў таварыш Драгун, які вас ведае і які пакінуты тут, у тыле нямецкіх войск, райкамам партыі...

— Дык вось, значыцца, як...

Урэшце Міця згодзен. Добра, што кончылася няпэўнасць. Калі прызнавацца самому сабе, то, ідучы сюды, ён адчуваў віну перад маці, сям'ёй. Невядома, што з імі было б, каб яго нават на людзях забралі ў партызаны. Сам сядзеў у турме, бацьку звезлі ў Германію. Хіба немцы дурні, каб паверыць, што ён не самахоць пайшоў у лес?..

— А што трэба рабіць? — пытае Лобік.

— Дзе вы працуеце?

— На чыгунцы.

— Якраз тое, што трэба! — капітан не хавае задавальнення.— Там і працуйце. Заваёўвайце давер у немцаў. Прыблізьце да сябе людзей, настроеных па-савецку. Заданне дадзім пазней. Праз вашага таварыша, які ў Грамах...

— Я быў у фінаддзеле, але звольніўся,— гаворыць пра сябе Міця.

Капітан на хвіліну задумаўся.

— Вы быццам нямецкую мову ведаеце?

— Газету чытаю. Але гаварыць не ўмею. Іван,— Міця ківае на Лобіка,— таксама чытае.

— У жандармерыю ці паліцыю вас не возьмуць?

Міця ўздрыгнуў. Капітан усміхнуўся, і ад гэтага яго шырокі няголены твар зрабіўся свойскім, падабрэў.

— Вы не палохайцеся. Мы вам верым. Калі б вас узялі, то паслалі б хоць у канцылярыю Гітлера.

— Не пайду ў паліцыю,— стаіць на сваім Міця.

— Ну, згода. Але куды-небудзь уладкавацца трэба. Іначай не зможаце працаваць на нас.

Пачаў сыпаць дробны сняжок.

Ад доўгага стаяння на месцы ў Міці пачалі мерзнуць ногі.

— Ну, шчасліва,— капітан паціснуў руку Лобіку, затым Міцю.— А гэта што? — спытаў ён, убачыўшы пад пахай у Івана мяшэчак.

— Соль. Мы для маскіроўкі ішлі купляць самагонку.

— Соль аддайце нам. Дадому шляхам не ідзіце. Лепей лесам...

У Міці была яшчэ кароткая сам-насам размова з Драгуном, а да Лобіка падышоў Шура. Аграном паўтарыў тое, што казаў раней — за сувязнога ў мястэчку застаецца Міця, назваў тры

прозвішчы былых спецыялістаў райза, аднаго ўрача, з якімі трэба звязацца. З усіх чатырох Міця ведае ў твар толькі аднаго — Піліпа Краснея.

Узбуджаныя, аглушаныя нечаканасцю, варочаліся хлопцы ў мястэчка. Сталі зразумелымі паводзіны Міколы. Ведаў загадзя, што будзе, але нічога не сказаў. З сябрамі гуляе ў разведчыка.

Калі вытыркнуліся з хмызоў на паляну, яна была белай ад снегу.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

### I

Зазімак трываў нядоўга. Зноў між сосен густы туман, імжа, з пацяжэлых галін шчодра сыплюцца халодныя кроплі. Мокра, няўтульна ў лесе. У лагеры, дзе гарбылёўцы стаялі лета і палавіну восені, немцы з паліцэйскімі пабывалі. Зямлянкі разбурылі, зруйнавалі лёгкія летнія збудаванні.

Малалікая ўпачатку група Бондара, якая перабралася на правы бок чыгункі, імкліва абрастае людзьмі. Папаўненне прыбывае штодня. Навічкоў нават не вельмі правяраюць — большасць знаёмыя, мелі з атрадам сувязь.

Новы атрад стаў табарам у Альхове. Вялікай апаскі няма — з Журавіч немцы паўцякалі. Сяло захапіў Сабураў, які паблізу перапраўляецца праз Прыпяць. Раз’езды Сабурава дабрылі да Альхова, запрасілі мясцовых камандзіраў у госці.

У Журавічы Бондар з Хмялеўскім паехалі з форсам. Невялікай ахове загадалі асядлаць коней (Васількевіч, камісар Хмялеўскі і Бальшакоў, якія заставаліся на месцы, стварылі абоз, прыпас збожжа, патаемны сямейны лагер).

Гарбылёўцы, колькі можна было, прыфранціліся — начысцілі боты, апрануліся ў чыстае.

Перад смалярняй, на знаёмым пясчаным шляху, гарбылёўцаў спыніў сабураўскі дазор.

— Стой! Хто такія?

З-пад навісі маладых сасонак высунуліся рулі вінтовак, пагрозліва вытыркнулася круглае рыльца станкавага кулямёта.

— Мясцовы атрад! — гучна адказаў Бондар.— Едзем да Сабурава.

— Пароль?

— Пароля не ведаем...

Трое з нямецкімі аўтаматамі выскачылі на шлях, падазрона аглядзелі коннікаў.

— Зброю прыйдзецца пакінуць.

— Зброі не аддадзім,— спакойна адказаў Бондар.— Наступны раз затрымаем вашы раз’езды. Гаспадары тут мы...

Дазорцы пераглянуліся. Нарэшце двое сіганулі ў хвойнік, вывелі асядланых, зацугляных коней.

— Паехалі!

У Журавічах вуліцы запруджаны народам. Фурманкі, вазы, коні ледзь не перад кожным дваром. Сабураўцы апрануты прыкладна так, як мясцовыя партызаны — хто ў што. Здзіўляе мноства аўтаматаў.

Адчуваецца ўзрушэнне ў мястэчку — паўсюды лятучыя мітынгі. Прамоўцы стаяць на вазах. Слухачы — невялікія купкі местачкоўцаў, пераважна моладзі.

Гарбылёўцы праляцелі па вуліцах на ўсім скаку. Асадзілі коней на плошчы, ля мураваных, з патрэсканай тынкоўкай домікаў, якія паўтара месяца назад без поспеху штурмавалі. Адзін з дазорцаў, малады, з чорным чубам, астаўся, другі, танклявы, у скураной тужурцы, штосьці шапнуўшы на вуха вартавому, які пахаджваў перад штабам, ускочыў на ганак.

Хвілін праз пяць партызан у тужурцы зноў паявіўся на ганку.

— Камандзір просіць да сябе.

Бондар з Хмялеўскім падняліся па прыступках, увайшлі ў вузенькі калідорчык. Штурханулі дзверы і апынуліся ў пакоі, дзе наўколенцах перад кафлянай грубкай сядзеў чалавек, распальваў дровы, а трое другіх у паўкажушках схіліліся над вялікай картай Савецкага Саюза, разасланай на стале. Адзін з трох, шыракаплечы, з шырокім дабрадушным тварам, падняў галаву ад карты, пайшоў насустрач Бондару і Хмялеўскаму.

— Сабураў. Прашу прабачыць, што неласкава сустрэлі...

Гарбылёўцы назвалі сябе, павіталіся.

— Навіну, таварышы, ведаеце? — не тоячы ўзрушэння, выгукнуў Сабураў.— Сталінградская групіроўка немцаў акружана!

Бондар адчуў, як гарачы, салёны камяк падступае да горла. Стала лёгка, спакойна, ён як бы нанава зірнуў на свет з той напаўзабытай вышыні, якая даўно асталася ззаду, зацёртая, загубленая сярод будзённасці і розных згрызот. Не, ён хлусіць самому сабе! Вялікае жыло, свядома ці падсвядома думка аб тым, што вайна ідзе не так, як трэба, сядзела ў галаве, як цвік, і толькі з-за гэтага ён, Бондар, апошнія паўтара года не меў спакою. Цяпер усё на месцы. Праўда, у якую паверыў змоладу, якой кіраваўся ў жыцці, сапраўдная, непадробная!.. Які ён шчаслівы, што не збочыў, не збіўся са сцяжыны, па якой рушыў напачатку. А збіцца было не так і цяжка...

І Хмялеўскі як анямеў. Не можа вымавіць слова. Адчувае гэтак жа сама. Харошы, смелы хлопец, хоць залішне далікатны, залішне педагог, каб быць камандзірам.

— У акружэнні больш як трыста тысяч немцаў,— працягвае Сабураў.— Калі групіроўка будзе знішчана, вайна выйграна. Не пазней як вясной нашы будуць тут...

— Далекавата зайшлі,— выказаў сумненне Бондар.

Штаб — трое камандзіраў у паўкажушках — глядзелі на Бондара з усёдаравальнай усмешкай. Сабураў падышоў да карты, падазваў гарбылёўцаў.

— Глядзіце сюды,— Сабураў водзіць тоўстым, з рудымі валасінкамі пальцам па карце.— Стратэгічны замысел Гітлера ясны. Авалодаць Каўказам — значыць авалодаць бакінскай нафтай. Сарвалася. Захоп Сталінграда вёў да яшчэ большых вынікаў. Хацелі перарэзаць Волгу, з поўдня рушыць на Маскву. Ні адна са стратэгічных задач не дасягнута, а зіма на носе. Цяпер з Каўказа немцы самі пабягуць, бо ля Растова вось-вось зачыніцца пастка...

Узрушэнне, выкліканае незвычайнасцю навіны, паступова сплыло. Загаварылі аб мясцовых, практычных справах.

— Далучайцеся да нас,— нечакана прапанаваў Сабураў.— У вас, па маіх звестках, восемдзесят чалавек. Будзе добрая рота.

Бондар усміхнуўся.

— На сённяшні дзень — дзвесце пяцьдзясят. Асноўныя сілы атрада за Пціччу.

— Чаму не тут?

— З рэгулярнымі часцямі, якія пайшлі на нас, бою не вытрымалі б.

— Вось бачыце. А мне і рэгулярныя часці не страшныя. Мы выконваем асобае заданне Стаўкі, таварыша Сталіна. Вы, здаецца, ваенны?

— Капітан.

— Тым болей павінны разумець. Наша злучэнне пабудавана па вайсковаму прынцыпу. Асноўная адзінка — батальён. Стратэгія глыбокіх рэйдавых паходаў сябе цалкам апраўдала. Жыццё партызан — у бесперапынным руху.

— Мы раённы атрад,— запярэчыў Бондар.— Згодзен з вамі, што рух — аснова партызанскай тактыкі. Самі прыйшлі да такога вываду. Але наконт стратэгіі — не магу з вамі згадзіцца. Маем чыста мясцовыя задачы. Не даём немцам хлеба, масла, падымаем дух насельніцтва...

— Перамогі Чырвонай Арміі дух падымаюць,— заўважыў таўставаты, з сівымі вусамі камандзір.— Што вы са сваім атрадзікам можаце зрабіць?

— Армія далёка, а немцы — побач.

— Ты — жук,— сказаў Сабураў.— Ладна, не хочаш да нас, сядзі ў сваёй лазе. Можа, і твая праўда...

Двое камандзіраў, якія дагэтуль маўчалі, накінуліся на гарбылёўцаў з роспытамі. Разведка ў сабураўцаў добрая, але, як высветлілася, шмат чаго і яны не ведаюць.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

### I

Вёска Альхоў — партызанская сталоўка. Яшчэ тады, калі гарбылёўцы толькі прывыкалі да лесу, карміла яна іх і паіла. Таму ў кожнага бывалага партызана, які падаўся ў лес у пачатку лета, ёсць у Альхове знаёмая сям'я, а ў маладзейшых,

што не забываюць пра любошчы, дзяўчына ці маладзіца. Пра патайныя сустрэчы, якія адбываліся не толькі для таго, каб высветліць намеры навакольных нямецкіх гарнізонаў, ведаюць сенавалы, гумны ды яшчэ цікаўны сярпок месяца, што ўжо столькі стагоддзяў захоўвае сакрэты кахання.

Хаты ў Альхове ціснуцца да лесу — векавога сасонніку, грабняку, алешніку, а пасярэдзіне амаль замкнутага круга — поле. У вёсцы, па хатах, стаіць частка гарбылёўскага атрада, які дзейнічае з гэтага боку чыгункі. Сабураўцы, перабраўшыся цераз Прыпяць, рушылі ў глыбіню лясоў і балот, у напрамку Лельчыц і Князь-возера. У Журавічах, якія ад Альхова за дванаццаць вёрст, безуладдзе...

Вечарам вярнуўся хмуры Гервась, які з пяццю разведчыкамі хадзіў пад Гарбылі, выклікаў з хаты Бондара. На панадворку ў галінах старога вяза шастае вецер. Глухі, панылa-аднастайны шум даносіцца з блізкага сасняку, што атуляе ўсходнюю лаву хат цёмнай падковай.

— Бяда, Павел Антонавіч,— выдыхнуў Гервась.— У Гарбылях хапаюць. Гэлю прывёў. Правал у іх. Тры дні хавалася на Валынскай старане...

— А як жа бацька, сям’я? — спытаў Бондар, адчуваючы, як халадзее ў грудзях.

— Старых, можа, не зачэпяць. Дзіця ў іх пакінула.

— Дзе яна?

— З Клімкамі памясціў.

— Ад Турбіной што? — Бондар, стрымліваючы хваляванне, знізіў голас да шэпту.

— На словах перадала — будуць валіць лес. На дзвесце метраў ад чыгункі. На днях пачнуць. Яшчэ паперы...

Ён падаў, выцягнуўшы з-за пазухі, ёмкі, цёплы ад цела пакунак. Дабавіў:

— У Мазыры немцы выпускаюць газету. Па-руску. Называецца «Мозырские известия». Падпісваюць немец і адзін з Гарбылёў. Прозвішча Рымарчук. Высокая такая аглабліна. Да вайны быў у гарбылёўскай рэдакцыі, пісаў фельетоны.

Бондар адчувае — пра галоўнае маўчыць Гервась. Ён паклаў памочніку на плячо, на макраватую аўчыну кажушка, руку, папрасіў лагодна:

— Гавары, Аляксандравіч. Усё адно...

— Немцы спалілі Хамякі і Скавароднікі. Людзей, многа каго жывымі... У Гарбылях, Вялікіх і Малых Лемцюгах аб'явы. Папярэджваюць...

Пачаў сеяцца дробны дождж. Па вуліцы, гучна перамаўляючыся, прайшла ватага партызан. Чуваць у гурце дзявочыя галасы. Перарывіста — відаць, тады, як адчыняюцца дзверы,— вырываюцца з недалёкай хаты глухія ўдары бубна, рып гармоніка.

Бондар задумаўся. Хамякі, Скавароднікі — у Бацькавіцкім раёне, адкуль ён сам родам. Стаяць пры чыгунцы. Адпомсцілі — няма сумнення — за дыверсіі. Як Вербічам за скінуты воінскі эшалон...

Зайшлі разам з Гервасём у хату. Бондар разарваў перавязаны шпагатам пакунак, прабег вачамі некалькі запісак, напісаных — каб не пазналі почырку — друкаванымі літарамі. У пакунку два нумары «Мозырских известий» і згорнуты ў некалькі столак, выдрукаваны вялікімі літарамі ліст тоўстай траскучай паперы.

На левым баку нямецкі тэкст, на правым рускі.

*«Папярэджанне*

*Гебітскамісар Бацькавіцкага і Гарбылёўскага раёнаў мае звесткі, што некаторыя вёскі аказваюць актыўную дапамогу лясным бандытам-партызанам. Забяспечваюць іх харчаваннем, вопраткай, пускаюць начаваць у хаты, не паведамляючы аб гэтым старастам, паліцэйскім і іншым прадстаўнікам нямецкай адміністрацыйнай улады.*

*Гебітскамісар папярэджвае, што такія дзеянні з'яўляюцца супрацьзаконнымі. Гераічная нямецкая армія, якая змагаецца на ўсходзе з бальшавіцкімі ордамі за свабоду і працвітанне новай Еўропы, не можа цярпець, каб у яе тыле арганізоўваліся асіныя бальшавіцкія гнёзды, каб бандыты-партызаны наносілі ўдар у спіну харобраму нямецкаму салдату.*

*Вёскі Хамякі і Скавароднікі, якія далі прыстанішча лясным бандытам, зруйнаваны з зямлёй. Яны болей не існуюць. Уся маёмасць насельніцтва канфіскавана.*

*Гебітскамісар папярэджвае, што падобная кара чакае кожнага асобнага чалавека, кожную сям'ю, кожную вёску, калі яны будуць мець хоць якія-небудзь зносіны з ляснымі партызанскімі бандамі.*

*Гебітскамісар Бацькавіцкага і Гарбылёўскага раёнаў — Эрых Рог.*

*Гарбылі. 3 снежня 1942 года».*

— Баяцца,— сказаў Гервасъ, амаль не зірнуўшы на скамечаны ліст.— Мне перадавалі — у Гарбылях была форменная паніка, калі сабураўцы занялі Журавічы.

Бондар зірнуў за перагародку, дзе пры цьмяным святле каганца гаспадыня абірала бульбу. Прыцішыў голас:

— Вінаватых шукаюць. Тут, брат, усё разам: Пціцкі мост, Сталінград, Сабураў. А вёскі, сволачы, будуць паліць. Як двойчы два...

Гармонік рыпнуў пад самым акном. Музыкі, відаць, пераходзілі на новае месца.

## II

Бондар стаяў ля акна, глядзеў на цёмны панадворак. На шкле набухалі, множыліся дажджавыя кроплі.

Звілістымі серабрыстымі струменьчыкамі сцякалі ўніз.

Рыпнулі веснічкі, на двары пачуліся галасы. У хату зайшлі Хмялеўскі, Тапаркоў і Васількевіч.

— Што новага ў Гарбылях? — спытаў Тапаркоў.

— Арышты. Грозяцца дапяць да нас. Наце пачытайце,— Бондар выцягнуў з нагруднай кішэні нямецкую аб'яву.

Хлопцы згрудзіліся ля лямпы, чыталі.

— Старыя песні,— Хмялеўскі адышоўся ад акна.— Ад няўдач на фронце будуць яшчэ болей шалець.

— Я чуў, Гервась Гэлю прывёў,— сказаў Тапаркоў.— А як сям'я, бацька Гэлі? Сімпатычнейшы старыкан. Карысны не меней, чым шахцёрка (між сабой Бондар з Тапарковым называюць так Турбіну). Як з ім быць?

— Сам не ведаю.

— Дзела простае,— Тапаркоў прыцішыў голас.— Старых я вывеў бы. Але ці пойдуць. Стары Салавей упарты. На авантуркі — ні-ні. Мяне не хацеў ведаць.

Бондар павесялеў на вачах.

— Выйсце толькі такое, дарагі. Вазьмі людзей і заўтра ж — у горад. Стары мне вельмі дораг. Вас, хлопцы, прашу — пра сямейны лагер ні гуку. Ведаем адны мы, і — каб магіла.

— Са старымі ўсё ясна,— сказаў Хмялеўскі.— А што ты з Гэляй будзеш рабіць? Гэта ж табе не ў Гарбылях.

— Застанецца ў атрадзе. Як і гэта сувязная з Цемраўшчызны, з якой, дарэчы, ты жывеш.

— Мы з ёй — птахі вольныя. Сышліся, разышліся — наша дзела. А ты жанаты. Я пра твой аўтарытэт думаю.

— Думай пра свой. Камісар як-ніяк, а блытаешся на вачах.

— Ды не злуйся ты. Я проста хацеў спытаць, ці сур'ёзна ў цябе? Нічога ненармальнага між вамі не бачу.

Бондар задумаўся.

— Не ведаю, хлопцы,— загаварыў праз хвіліну.— Было некалі сур'ёзна. Салавей мяне ў лясной школе вучыў. Калі ў Гарбылі, у пяхотнае прыехаў, ён быў галоўным аграномам МТС. Хадзіў да іх. Былі планы, але яна мне — ад варот паварот. Астатняе — чулі і бачылі. Дакладваю, таварыш камісар, што пра жонку звестак не маю. Пасадзіў у Гродна ў вагон, пацалаваў... З Сяміпалацінску бацьку ліст прыслала...

Тапаркоў махнуў рукой.

— Ладна, пасля разбяромся.

Апошняе слова сказаў Васількевіч, які слухаў і маўчаў.

— Разумнае ва ўсім гэтым адно — старых і дзіця выручыць трэба. А цяпер у мяне прапанова: сабрацца ўсёй старой гвардыі. Як у Гарбылях...

## III

Сабраліся ў хаце, дзе жывуць Клімкі. Тое, чаго Бондар у душы пабойваўся, выйшла проста і добра. Гэля, паблажэлая, змізарнелая, у павязанай па-сялянку хусцінцы, павіталася з усімі за руку, пацалавалася.

Бабка Кацярына стаіць ля печы, выцірае слёзы.

— Дзеткі мае, як там, дома...

Бондар крануў Гэлю за плячо, адхінуў занавеску. На прыпечку, раскінуўшы рукі, спіць хлопчык. Другі, старэйшы, у даматканай кашульцы, сядзіць на печы, не зводзіць з мужчын, якія тоўпяцца ў хаце, чарнявых вачанят.

Селі з Гэляй на ложак.

— Што здарылася? — напаўголаса спытаў Бондар.

— Павел!.. Я іначай не магла... Арыштавалі Гадлеўскага з мясакамбіната. Ён сыпле ўсіх, з кім быў звязан...

— Бацьку не зачэпяць?

— Пусціла чуткі, што па рэчы еду ў Заходнюю... Туды, дзе працавала. Дастала ў камендатуры аўсвайс.

У Бондара адлягло ад сэрца.

— Мы думаем, каб тваіх сюды. Месца ёсць. У лесе, у зямлянках.

У Гэлі на вачах бліснулі слёзы.

— Душой збалелася. Там Элачка. Хацела плюнуць на ўсё, ісці назад.

— Не думай. Зробім што-небудзь.

— Баюся, Павел. Жандармерыя — не камендатура. Калі хопяцца, возьмуць бацьку...

Селі за стол. Сярод заткнутых ільнянымі ачосамі бутэлек паўлітэрка «Маскоўскай» са знаёмай зеленаватай наклейкай. Яшчэ летам выпрасіў Васількевіч у дэсантнікаў, хаваў да часу. Бондар адкаркаваў бутэльку, наліў у шклянкі.

— Камара забылі! — падхапіўся Гервась.— Збегаю. Дзетдомаўцы хай з дзеўкамі гуляюць, а яго трэба...

Гервась выхапіў з вораху на лаўцы свой кажушок, рынуў за дзверы.

Некалькі хвілін за сталом панавала няёмкая маўчанка.

Камар — ён нядаўна прызначан камандзірам роты — уваліўся ў хату, з парога пачаў прамову:

— Гвардзія сабралася. За ета люблю. Гвардзія не падкачае. Цяпер панашывалася ўсякіх. Але хай помняць. Мы пачыналі. Без нас тут быў мох ды балота...

Бондар устаў, падняў шклянку.

— Памянём, хлопцы, Казачэнку. Аднаго яго няма...

Праз паўгадзіны застолле зашумела. Побач з Гервасём Соня, па левую руку Хмялеўскага — Надзя Амельчанка. Гэля расчырванелася, пажвавела, шэпча Бондару на вуха:

— Паўгода цябе не бачыла. Ведаю — пра мяне не думаў. А я думала. Баялася за цябе...

Ён знайшоў яе руку, удзячна паціснуў, паклаў сабе на калена.

Да поўначы самагонку выпілі. Гаспадар, а за ім Гервась бегалі ў раздабыткі, прынеслі кожны па вялікай цёмнага шкла бутлі кіславатага «маўчуна». Бондар даў сабе волю, піў шмат, не зважаючы на ўгаворы і асцярожлівыя жэсты Гэлі.

Невядома адкуль узяўся гармонік. Бальшакоў — з тых, хто не быў у Гарбылях, ён тут адзін — сеў на лаву, расцягнуў мяхі. Тапаркоў, узяўшы Гэлю, далучыўся да Гервася з Хмялеўскім, якія ўжо танцавалі.

Бондара поўніў незразумелы сум. Адчуваў, што моцна сп'янеў.

Камар, які сядзеў побач, цягнуўся да яго з перапоўненай шклянкай.

— Хрыстом-Богам клянуся, Антонавіч. Ты мяне недапанімаў... А я цябе люблю... Усе любяць... Думаеш, мы паставілі цябе камандзірам за тое, што ты капітан?.. Ты наш, гарбылёўскі. З табой дзялы дзелаем...

Васількевіч цягнуўся са шклянкай з другога боку.

— Антонавіч, слухай мяне... Атрад з Сасновіцы трэба перабраць сюды. Якога чорта ён там тырчыць... Чым нам памог Вакуленка? Пяцьдзясят кілаграмаў толу даў. Мы шаснаццаць эшалонаў без яго скінулі. Хто яшчэ столькі скінуў? Ну скажы, хто?..

Бальшакоў паставіў гармонік, падсеў да стала. Жанчыны заспявалі песню, якой навучыліся ад дэсантнікаў:

Киев бомбили, нам объявили,
Что началася война...

Як скрозь сон далятаў да Бондара прарэзліва-звонкі голас Камара:

— Тапаркоў, ты шэльма, але ты чалавек! Самуся правільна кокнуў. Самусь — юда і сволач. Мы яго шчэ тады раскусілі...

Гэля абняла Бондара за плечы, павяла за занавеску. Ён чуў, як сцягвала боты, расшпільвала каўнер гімнасцёркі. Прыхілілася гарачай шчакой да яго шчакі, правяла рукой па валасах і пайшла назад, у тлум...

Раніцай прыбег усхваляваны Камар, пабудзіў Бондара:

— Хлопцы з Дубнага ўцяклі. Усе восем... Што будзем рабіць?..

Бондар устаў, нацягнуў боты. На стале дымілася ў глінянай місе бульба, стаяла скавародка з салам.

— Будзем снедаць. Вінтоўкі ім не выдавалі?

— Палавіна людзей без вінтовак.

— Самі вінаваты. Заседзеліся. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Апаўдні сабраўся савет штаба. Бондар стаў ля стала, разгарнуў карту.

— Таварышы камандзіры, прашу мяне выслухаць. Думаю — Альхоў не тое месца, дзе можа быць база атрада. Немцы тут сядзець не дадуць...

У хаце насцярожаная цішыня. Перамовы ў адзін міг спыніліся.

— Ёсць адно выйсце,— працягваў Бондар.— Перабрацца цераз чыгунку. Аб'яднацца з дамачоўскім атрадам і ўдарыць па гарнізонах у Зялёнай Будзе, Літвінаве і Піляцічах. Гомельскія атрады, па маіх звестках, разагналі гарнізон у Грабаве. Калі гамяльчане паслухаюць і ўдараць разам з намі па Лужынцу, Бацькавіцкі раён ачысцім да чыгункі. Тады базу для атрада знойдзем. Такі план.

— У Літвінаве — дзевяноста паліцэйскіх і трыццаць немцаў,— сказаў Гервась.— Каб не выйшла, як у Журавічах. Кулямётаў штук дваццаць.

— Іх сто, а нас з дамачоўцамі болей як трыста. Трэба стукнуць па Літвінаву і Лужынцу ў адзін дзень. Каб не маглі падкінуць адзін аднаму падмогі. Паніка трэба...

— Гамяльчане, думаю, паслухаюць,— сказаў Бальшакоў.— Яшчэ ў канцы лета, як быў у іх, штосьці падобнае гаварылі.

— Ім выгадна. У лужынецкіх і грабаўскіх лясах іх базы.

— Вакуленка даўно настойвае,— сказаў Бондар.— Яшчэ як я быў у Рудобелцы, высоўваў такі план. Але тады было рана. Цяпер, як прайшлі Каўпак і Сабураў, самы час.

— Добра,— Хмялеўскі ўстаў з услончыка, схіліўся над картай.— Дапусцім, што ўдасца ўзяць Літвінава, Лужынец. Я нават веру, што возьмем. А што далей? Раўняцца з Рудобелкай, як той казаў, нам не з рукі. Там лес, балота, ніводнай шасейнай дарогі. Ветку з Бабруйска за чыгунку можна не лічыць. А Бацькавіцкі раён заціснут між дзвюма чыгункамі. Згрузяцца немцы з эшалонаў, ударацъ — з нас мокрая юшка пацячэ. Я лічу, што разагнаць гарнізоны сіл у нас хопіць. Але ўтрымаць раён не зможам. Адсюль трэба танцаваць...

Бондар падняўся, загаварыў цішэй, чым звычайна:

— З камісарам і начальнікам штаба план абгаварылі асобна. Яшчэ ўчора. Тое, што сказаў ён, ведаем усе. Згодны з ім. Але выхаду другога няма. Калі не мы разгонім немцаў, рана ці позна разгоняць другія. Да гэтага ідзе. Нам тады будзе сорамна. На сорак вёрст кругом самы вялікі атрад наш. Тут сам Бог падказвае, што цягнуць нельга. Атрад у Сасновіцы фактычна адпачывае месяц. А ў нас тут вунь уцякаць пачалі. І разбягуцца, калі будзем сядзець як святыя. З Хмялеўскім не згодзен у двух пунктах і хачу, каб вы ведалі, у чым. Чыгунку з Гарбылёў да Дняпра блакіруем. Немцы яе не моцна ахоўваюць. Думаю яшчэ, што немцам цяпер не да нас. На Сабурава ў Журавічах не кінуліся. Не стае сіл. Каля чыгункі высякаюць лес. Гэта паказвае, што немцы гатовяцца да абароны...

Камандзірскі савет зацягнуўся да вечара. План прынялі. Бальшакова ўпаўнаважылі дамовіцца з гамяльчанамі, Гервася і Хмялеўскага — з дамачоўскім атрадам.

Выдзелілі кожнаму па групе.

У Сасновіцу, каб прывесці асноўны атрад, мусіў ісці Бондар з трыццаццю чалавекамі.

# РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

## I

Ніхто не павінен быў ведаць аб тым, што партызаны пакідаюць Альхоў, аднак жа ўведалі.

Вечарам, калі Бондар астаўся з Гервасём і Тапарковым, у хату прарваўся Кузьма Пунтус, высокі безбароды чалавек у шапцы з зайцавай шкуркі, прэсвітар тутэйшай баптысцкай абшчыны. У партызан Кузьма на падазрэнні. Ходзіць, калі захоча, у Журавічы, нават у Гарбылі, пра даваеннае жыццё прапаведніка звесткі таксама цьмяныя.

Кузьма кашлянуў, не распранаючыся, сеў на зэдлік.

— Маю да цябе слова, камандзір. Ведаю — мяне вы не любіце. Аднак жа і Хрыстос цярпеў...

— Ну гавары, бацька,— дазволіў Бондар.— Толькі нядоўга.

— Нас пакідаеце? А ці думалі вы, начальнікі, што можа быць? У Святым Евангеллі запісана: «Предаш же брат брата на смерть; и восстанут дети на родителей, и мертвят их».

— Ты што антымоніі разводзіш? — падступіў да Пунтуса Тапаркоў.— Нас прыйшоў агітаваць? Распладзілі вас немцы.

— Святая евангельская царква не была забаронена савецкім законам,— запярэчыў прэсвітар.

Бондар з цікавасцю глядзеў на плячыстага, ужо стараватага дзядзьку.

Вочы жорсткія, зыркаюць з-пад навіслага лба як з-пад прыпека.

— Няхай гаворыць,— сказаў Бондар.

Прэсвітар пазіраў у столь, цягнуў як па пісанаму:

— Когда же увидите мерзость запустения, реченную пророком Даниилом, стоящую, где не должно,— читающий да разумеет,— тогда находящиеся в Иудее да бегут в горы; а кто на кровле, тот не сходи в дом и не входи взять что-нибудь из дома своего; и кто на поле, не обращайся назад взять одежду свою. Горе беременным и питающим сосцами в те дни! Молитесь, чтоб не случилось бегство ваше зимою. Ибо в те дни будет такая скорбь, какой не было от начала творения, которое сотворил Бог, даже доныне, и не будет...

— Ну, добра,— устрапянуўся Бондар.— Ты нам, бацька, ясней скажы, чаго хочаш.

— Уводзіце ў грэх людзей, начальнік. Усялякая ўлада ад Бога...

Тапаркоў захадзіў па пакоі.

— Твае б словы немцам у вушы. Можа, яны цябе падвучылі?

— Святы абавязак хрысціян-евангелістаў — папярэджваць грэх гардыні.

— Значыць, няхай немцы здзекуюцца з народа, а мы маўчы,— сказаў Бондар.— Так выходзіць з тваіх слоў, бацька?

— Зямнога суда над людзьмі няма. Ёсць Суд Божы.

— А ты чуў, што ў Сталінградзе немцам зрабілі пастку? Тры арміі Гітлера ў катле.

— На тое была Божая воля.

— Каб сядзелі склаўшы рукі, то і Бог не памог бы. Немцы таксама з Богам. На спражках напісана.

— Поднявший меч от меча и погибнет.

Тапаркоў гучна зарагатаў.

— Вось бачыш, таварыш баптыст. Пра меч загаварыў.

— Немцы над народам будуць здзекавацца,— прэсвітар уздыхнуў.— Ім нашага народа не шкада. Ваюеце вы, плаціць нам прыйдзецца. Наляцяць на сяло, спаляць, зруйнуюць. Хто і ў лес уцячэ, то зімой як? Прападзе ўсё адно...

— Мы нікуды не пойдзем,— сказаў Бондар.— Будзем блізка, у лесе. Немцы сюды хацелі паткнуцца — ім далі па зубах.

Стары падняўся, надзеў малахай, развітаўся з усімі за руку.

— Тып,— сказаў Гервась, які ўвесь час маўчаў.— Вочы хітрушчыя. Думаю, у паліцыі ён служыць.

— Я не веру.— Бондар падышоў да акна, зірнуў на двор.— Проста народ у няпэўнасці, таму плодзіцца пошасць. Гадальшчыкаў, прапаведнікаў як нярэзаных сабак. А што сакрэты ведае — дрэнна.

## II

Бацькавіцкі раён, у якім, у адрозненне ад суседніх раёнаў, так і не ўзнік свой партызанскі атрад, тым не меней стаў у канцы сорак другога года месцам, дзе партызанскі рух паказаў сваю сілу. Прычына гэтаму — лес. Сухадольныя бары, а найболей алешнік, бярэзнікі, балотнае чарналессе пачынаюцца ледзь не ад самага мястэчка і дзвюма шырокімі палосамі цягнуцца вёрст за трыццаць — сорак, аж да другой чыгункі, якая перасякае паўночную частку раёна.

Ва ўсходняй частцы яшчэ большыя лужынецкія лясы, напалавіну бары, напалавіну дубровы, бярэзнікі — працяг прыдняпроўскага масіву. Яны займаюць трохкутнік паміж Дняпром, які працякае ў суседнім раёне, і Бярэзінай, што заходзіць сваёй лукой у лужынецкія лясы.

Паміж дзвюма ляснымі градамі — шырокія абшары Літвінаўскіх балот, асушаных перад вайной.

У лясной частцы раёна вёскі на выгляд прывабныя — хаты, хлявы, гумны пабудаваны з размахам, дагледжаныя, моцныя. Малюнак балотных вёсак і паселішч, якія туляцца па пясчаных выспах, вока не лашчаць: нізенькія шэрыя хацінкі, ніцыя вербы на вуліцы. Добрых зямель, калі не лічыць тарфянікаў, якіх яшчэ не навучыліся як след урабляць, на Літвінаўшчыне мала: пяскі, шэразёмы, кіслыя балотныя падзолы.

Дзіўнымі, нязвычнымі сярод шэрага балотнага абшару здаюцца белакаменныя гмахі будынкаў саўгаснага пасёлка Літвінаў. Да рэвалюцыі, да саўгаса тут было родавае гняздо памешчыкаў Горватаў, што пусцілі ў балотныя краі карэнне яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. Горваты жылі ў Варшаве, у маёнтак час ад часу наязджалі.

Ён занепадаў, пакрысе мізарнелі, развальваліся бельведэры, антычныя статуі ў старым парку.

У часы саўгаснага гаспадарання статуі зніклі зусім, парадзелі стагадовыя ліпы і вязы пасаджанага на англійскі манер парку. Але каменныя будынкі былі адрамантаваны, пабелены, побач са старамодным, упрыгожаным круглымі калонамі палацам вырас цагляны гмах сілоснай вежы, вялізны жалезны бак вадакачкі.

Саўгас меў малочна-мясны ўхіл. На асушаных балотах добра радзіла бульба, шчодра буялі сеяныя травы. Статак кароў, свіней у Літвінаве пераваліў перад вайной за тысячу галоў.

Немцы пакінулі ўсё як ёсць. Саўгас стаў называцца дзяржаўным маёнткам, кіравалі ім немцы-аграномы ў напаўвайсковых жоўтых шынялях. Салдат не хапала для аховы чыгункі, але ў Літвінаве яшчэ з восені мінулага года стала размясціўся вайсковы ўзвод, а гарнізон паліцыі быў самы буйны ў наваколлі.

Зрэшты, калі глыбей разбірацца, то гарнізоны ў Зялёнай Будзе, Піляцічах, нават у далёкім адсюль Лужынцы як бы падпіралі Літвінаў, бо тут, а не ў якім-небудзь іншым месцы, вяршылася нямецкая гаспадарчая палітыка большай палавіны раёна. У Літвінаў зганялі рэквізіраваных у навакольных вёсках кароў, свіней, звозілі збожжа. Амаль штодзень грузавікі дастаўлялі ў Бацькавічы на станцыю запакаваныя ў драўляныя скрынкі цэнтнеры масла і сала.

Па вёсках гаспадарылі немцы. У навакольных лясах, якія атулялі Літвінаўскія балоты, за лета і восень набрынялі сілай тры атрады — прыдняпроўскі, гарбылёўскі і дамачоўскі. Двоеўладдзю мусіў наступіць канец...

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

### I

Снежань церусіў дажджамі, шумеў вятрамі. За прымаразкі на размоклых дарогах нарасла тоўстая кара голага лёду.

Дваццаць другога снежня Бондар вывеў гарбылёўскі атрад на ўскраіну Літвінаўскіх балот, у нізкаросны рэдкі дубняк. У прамоклым, няўтульным лесе агнёў не палілі — блізка паселішчы. Партызаны кашлялі, хрыпелі прастуджанымі горламі.

Звестак аб гатоўнасці дамачоўскага атрада, які таксама павінен быў наступаць на Літвінаў, і прыдняпроўскага, што мусіў разганяць гарнізон у Лужынцы, не было.

Бондар, некалькі камандзіраў стаялі на ўзлессі, глядзелі ў той бок, дзе была вёска Зялёная Буда. Яна чарнела ўдалечыні рассыпанымі па пясчаным касагоры хатамі, рэдкімі прысадамі. Наступаць на Літвінаў, абмінуўшы гарнізон у Зялёнай Будзе, нельга было, таму пайшлі на хітрасць. У вёску ад чыгункі рушыў узвод славакаў і з дзясятак партызан, пераапранутых у нямецкую форму. Міхал Сліва, які ведае нямецкую мову, нацягнуў на плечы афіцэрскі шынель. У выпадку ўдачы — адтуль, з Буды, павінен быць сігнал — тры ракеты. У той час, як Бондар і другія, хто ведаў пра дыверсію, углядваліся, губляючы цярпенне, у абрысы Зялёнай Буды, аддзяленне бакавой аховы выпарала ў блізкіх кустах вельмі падазронага абарванца. Іван Гусоўскі падвёў затрыманага да Бондара. Незнаёмец высокі, худы, зарослы дзікай чорнай шчэццю. Яшчэ горш выглядае яго вопратка: суцэльныя транты, дзірка на дзірцы. Шынель, мундзір, штаны амаль страцілі колер, але ўсё ж можна пазнаць, што гэта нямецкая вайсковая форма.

— Хто такі? — спытаў Бондар.

Чалавек аблізаў патрэсканыя губы, каўтануў сліну, нічога не адказаў.

— Ды ён па-руску не разумее.

— Ясна, шпіён!

— Глядзі, якім пудзілам апранулі! Цікава, для чаго такая маскіроўка?

— Ясна, для чаго. Каб мы паверылі.

— Рускі я,— нарэшце захрыпеў затрыманы.— Уцёк з эшалона.

— Ты што, служыў у іх? — спытаў Бондар.

— Не служыў. Абноскі з лагера.

— Дзе быў?

— Не помню. У Германіі, Польшчы. Было штук дзесяць тых лагераў, не меней.

— Дык цябе з Германіі везлі? — Бондар прысвіснуў.— А цікава, для чаго?

— А я пачом ведаю,— затрыманы выразна, не па-мясцоваму окаў.— У палонных не пытаюць, куды вязуць.

Бондар махнуў рукой. Іван Гусоўскі штурхануў абарванца руляй вінтоўкі ў спіну, той прайшоў некалькі крокаў, але раптам спыніўся, павярнуўся тварам да канваіраў:

— Ірады! Супастаты! — хрыплым, натужным голасам залямантаваў абарванец.— Разабрацца не можаце. Паперкі вам давай... Сабачыя неданоскі вы, а не партызаны!

Тыя, што стаялі на ўзлессі, знямелі — такога яшчэ не было. Лаянка, чым далей, рабілася ўсё болей пакручастай, выкшталцаванай.

— Ён, мабыць, чокнуты. Жулік, мабыць.

— Шпіён так лаяцца не будзе.

— Чорт яго бяры! Там пабачым...— Бондар адвярнуўся, стаў узірацца ў імжыстую далеч.

Сігналу з Зялёнай Буды не было.

## II

Наперадзе, пераапранутыя ў нямецкую форму партызаны, за імі славакі ў сваёй форме, не захоўваючы строгага строю, шоргаючы ботамі па мокрай наледзі, увайшлі ранкам у Зялёную Буду. Вёска доўгая, раскіданая. Валасная ўправа, паліцэйскі ўчастак у канцы, які выводзіць да чыгункі. З узгорка, адкуль відаць будынкі станцыі Гарохавічы, партызаны сталі спускацца ў вёску.

Мясцовыя паліцэйскія заўважылі атрад. Прынялі паспешлівыя меры на выпадак праверкі, бо на невялікім прамежку вуліцы, які паспелі прайсці партызаны, некалькі маўклівых паставых. На пляцы каля драўлянага з бляшаным дахам будынка школы, дзе размяшчаецца паліцыя, Сліва спыніў атрад. Зняў чорныя скураныя пальчаткі, закурыў цыгарэту.

З дашчанага ганка збег таўставаты, чырванатвары чалавек у наглянцаваных да бляску хромавых ботах.

— Начальнік паліцыі Палтаржыцкі,— прадставіўся ён.

Міхаіл Сліва змераў паліцэйскага зняважлівым позіркам, кіўком рукі падазваў маладога славака, які мусіў выконваць ролю перакладчыка. Не павышаючы голасу, выразна вымаўляючы словы, Сліва загаварыў па-нямецку.

— Мі ест зондэркаманда па барацьбе з партызан,— перакладаў славак.— Прашу размесціт маіх людзі.

— Проша, проша,— начальнік паліцыі разгубіўся ўшчэнт.— Сапраўднай казармы, пан лейтэнант, у нас няма. Толькі каравульнае памяшканне... Мала тапчаноў... Ды і бруднавата...

Партызаны, не даслухаўшы канца размовы, кінуліся на школьны ганак.

У вялікім класным пакоі, адведзеным пад каравулку, ударыла ў нос спёртым паветрам, тытунёвым смуродам. Стаяла некалькі вінтовак, састаўленых у козлы, чатыры паліцаі пры ўваходзе партызан замёрлі па стойцы «смірна».

Памяшканне былога сельсавета, дзе цяпер валасная ўправа, насупраць школы. Сліва ў каравулку нават не зазірнуў, а разам з начальнікам паліцыі рушыў у валасную ўправу.

Некалькі партызан у славацкіх і нямецкіх шынялях, захоўваючы дыстанцыю, падаліся ўслед за начальнікам.

Кабінет валаснога бургамістра — невялікі, з нябеленымі сценамі пакойчык. На сцяне справа ад канцылярскага стала чорная каробка тэлефона. Сліва сеў за стол, славак пераклаў яго словы:

— Я хачу відэт начальнік цывільнай улада.

— Бургамістра няма,— замітусіўся Палтаржыцкі.— Паехаў учора ў мястэчка. Намеснік тут. Я зараз паклічу.

— Вы должны сідэт, замесціцель бургомістра пазавут без вас.

Адзін з партызан выскачыў на ганак, і тут жа ў дзвярах паказаўся намеснік валаснога бургамістра Савенка, худы, са злосным тварам, апрануты ў доўгі, да пят, кажух.

Сліва падняўся над сталом, загаварыў:

— Зондэркаманда прыбыл у ваша вёска спецыяльна,— слова ў слова перакладаў славак.— Мы імеем звесткі, што туташні паліцыя звязана з партызанамі. Вас арыштоўваем...

Пры апошніх словах двое партызан падышлі да начальніка паліцыі, двое да намесніка бургамістра. Тыя стаялі з пабялелымі тварамі, але не праціваліся. Спакойна далі сябе абяззброіць, абшукаць. У Палтаржыцкага з кабуры вынялі наган, з кішэні ватных зімовых штаноў — маленькі дамскі пісталецік. У намесніка бургамістра зброі пры сабе не было.

— Пан лейтэнант, чаму няма нікога з раённай паліцыі ці жандармерыі? — спытаў Палтаржыцкі.— Мы ім падначальваемся. Яны нас ведаюць. Ды можна ж пазваніць па тэлефоне...

— Начальнік раённай жандармерыі прыедзе вечарам,— запэўніў Сліва.

Арыштаваныя селі на крэсла, паспакайнелі.

Зараз жа на ганак валасной управы паважна выйшаў пераапрануты ў немца Грыцук, адну за другой пусціў у неба тры чырвоныя ракеты...

На змярканні ў Зялёнай Будзе быў суд. Абледзянелы пляц перад сельсаветам запруджан народам. Мясцовы люд, пераважна дзяды, жанкі, дзеці, стаялі ўперамешку з партызанамі. З управы вынеслі стол, два крэслы. За стол селі Бондар і Хмялеўскі. Анямелыя Палтаржыцкі і Савенка са звязанымі рукамі стаялі тут жа, пры стале, аблізвалі перасохлыя губы. Бондар падняўся, сказаў кароткую прамову.

— Доблесная Чырвоная Армія зрабіла немцам у Сталінградзе кацёл. У ім сядзяць ваякі, якія хацелі заняволіць наш народ. Хутка, таварышы, наступіць дзень вызвалення. Зімой, а сама пазней вясной Чырвоная Армія будзе тут. Мы, партызаны, памагаем Чырвонай Арміі. Мы змагаемся з немцамі і іх халуямі. Два такія халуі стаяць перад вамі. Цяпер яны ціхенькія, як авечкі. Вы іх ведаеце лепей за нас. Раскажыце нам, што яны тут нарабілі...

Бондар сеў, выцер хустачкай узмакрэлы лоб. Сцямнела зусім. Некалькі хвілін панавала над пляцам няёмкая цішыня. Раптам побач са сталом пачуліся ўсхліпы, і тут жа прарэзлівы жаночы голас узвіўся над натоўпам:

— Ірады! Губіцелі! Дзяцей не пашкадавалі! Ты, Ігнат, дваюрадную сястру, маю дачку на смерць паслаў. Ты ж сядзеў у воласці, мог бы памагчы. Перад Богам і людзьмі няма табе прашчэння. Вы ж не толькі пастралялі, наглуміліся над дзецьмі. Рукі павыкручвалі, валасы павырывалі. За што? За тое, што дзеці хацелі радзіва паслухаць...

Жанчына ўпала, выгукваючы словы, якія ўжо нельга было разабраць, забілася ў істэрычным прыпадку. Пляц абурана загаманіў, заварушыўся:

— Бандзіты, звяры!

— Павесіць іх мала. На кускі рэзаць і соллю пасыпаць!

— Гітлеру служылі верай і праўдай.

— Палтаржыцкі — кулацкі сын. З Салаўкоў уцёк. Савецкай уласці закляты ўраг.

— Савенка народ абдзіраў. Палоннага камандзіра застрэліў.

На стол сталі напіраць. Бондар падхапіўся, ускочыў на крэсла.

— Таварышы, спакойна! Усё ясна. Можаце разыходзіцца. Нямецкія халуі палучаць па заслугах...

Зазваніў тэлефон, і Грыцук, які сядзеў у воласці, узяў трубку.

— Чаму воласць не адказвае? — пачуўся нездаволены мужчынскі голас.— Цэлы дзень дазваніцца нельга.

— Бургамістр паехаў у раён,— адказаў Грыцук.

— Што ў вас там за стрэлы?

— Вучэбная трывога.

— Хто гаворыць?

— Дзяжурны,— адказаў Грыцук і павесіў трубку.

Праз хвіліну тэлефон зазваніў зноў. Грыцук размахнуўся, жарнуў прыкладам па чорнай металічнай каробцы.

Адразу пасля суда над начальнікам паліцыі і намеснікам бургамістра Хмялеўскі сабраў у памяшканні сельсавета камуністаў. Іх нямнога — дваццаць два чалавекі. Чатырох — Грыцука, Івана Гусоўскага, Надзю Амельчанка і начальніка гаспадаркі Васількевіча — прынялі ў кандыдаты пасля таго, як міжрайкам у Рудобелцы даў адпаведнае ўказанне.

За вокнамі ноч. На стале цьмяна гарыць лямпа-васьмярык з залепленым парудзелай паперай шклом. На падлозе расплюшчаная каробка тэлефона, раструшчаны нагамі тынк. Людзі нібы дрэмлюць — сядзяць, прыхінуўшыся спінамі да сцен.

Хмялеўскі зняў шапку, глуха загаварыў:

— Бой будзе цяжкі. Ноччу спаць не прыйдзецца — трэба правесці работу. Рабіце, таварышы, націск на тое, што, калі Літвінаў разаб’ём, другія гарнізоны не ўтрымаюцца. Сёння ноччу прыдняпроўскі атрад наступае на Лужынец. Гэта нам фактычная помач...

Некалькі хвілін панавала няёмкая цішыня. Іван Гусоўскі, мнучы ў руках шапку-аблавушку, спытаў:

— Народ вот чым цікавіцца, дзе будзем зімаваць? Калі разгонім Літвінаў, куды пойдзем? У Альхоў ці за Пціч, у Капаткевіцкі і Акцябрскі раён?

Устаў Бондар, стомлена правёў рукой па лбе.

— Ёсць дырэктыва з Рудобелкі: усім атрадам сабрацца ў кулак. Зімой, па адзіночцы, не вытрымаем. Так што тут усё ясна. Пойдзем за Пціч. У Альхоў, калі будзе ўсё добра, заглянем па дарозе. Камандаванне разумее, што большасць партызан адтуль, сем'і іх там...

Сход-лятучка скончыўся за некалькі хвілін.

## III

Бой за Літвінаў пачаўся на досвітку. З паўночнага і заходняга боку да пасёлка падступаюць маладыя сасоннікі, насаджаныя на сыпучых жаўтапёсах. Сканцэнтраваліся тут. Гарбылёўскі ланцуг расцягнуўся на паўвярсты. Справа занялі пазіцыі дамачоўцы.

Бондар пакінуў адну роту ў рэзерве, а на дарогу, якая вядзе з Літвінава ў Піляцічы, паслаў узвод Мядзведзева з двума ручнымі кулямётамі і дастатковым запасам патронаў.

Разведку правялі дэталёвую. На знешнім абводзе пасёлка немцы накапалі акопаў, траншэй, пабудавалі чатыры — па аднаму з кожнага канца — бункеры.

Да пасёлка падышлі незаўважанымі. Пачынала світаць. Крайнія хаты танулі ў густым тумане. У акопах немцаў і паліцэйскіх не аказалася, але з заходняга бункера ўдарылі два буйнакаліберныя кулямёты. Білі разрыўнымі кулямі «дум-дум». Яны з гучным трэскам лопаліся ў вецці маладых хвоек. Партызанскі ланцуг залёг, але толькі на некалькі хвілін. З хвойніку, з канавак, з-за пясчаных гурбачкоў ударыў такі моцны шквал агню, што немцы з паліцэйскімі імгненна прыціхлі. На бункер наступала рота Бальшакова. Два станкавыя кулямёты білі па амбразурах.

Пад шчыльнай завесай агню партызаны падняліся ў атаку. Беглі ў поўны рост, не згінаючыся, страляючы на хаду. Некалькі чалавек упала — новы пошчак кулямётных чэргаў данёсся з самага пасёлка. Стралялі, па ўсёй верагоднасці, з вокан другога паверха пабеленага каменнага будынка, прыкрытага высокімі голымі дрэвамі.

Бондар ляжаў за пясчаным пагоркам, назіраў за боем у бінокль. Трымаў пры сабе трох сувязных,— па чалавеку

ад кожнай роты. Бой разгортваўся марудна, і ўжо з першай хвіліны Бондар занепакоіўся, што можа паўтарыцца журавіцкая гісторыя. Супраць каменных будынкаў партызаны бяссільныя. Тут хаця б саракапяціміліметровую гармату мець, некалькі стрэлаў зрабіць па вокнах, па тоўстых мураваных сценах.

Бондар падазваў чарнявага хлопца, сувязнога з роты Камара.

— Бяжы да камандзіра. Хай падварушыць дамачоўцаў.

Хлопец перабег пясчаную дарогу, шуснуў у сасоннік. Прайшло не болей пяці хвілін, як з заходняга боку пачулася ўзмоцненая страляніна.

Бункер, які перагарадзіў дарогу роце Бальшакова, фактычна быў абложаны. Партызаны, абмінуўшы яго, стралялі з-за сцен першых пасялковых хат, з канаў, з-пад парканаў. Разанула кулямётная чарга, ля самага бункера на момант прыўзнялася распластаная на зямлі постаць, узмахнула рукой. Тое самае паўтарыў другі. Партызаны закідвалі бункер гранатамі.

Прыгнуўшыся, раз-пораз падаючы на мокры абледзянелы дол, Бондар пабег па дарозе. Сувязныя беглі ўслед. Страляніна не змаўкала. Над галавой ціўкалі кулі. Бункер быў недзе збоку.

Бальшакова Бондар знайшоў у прасторным, выкапаным на поўны профіль, нямецкім акопе. Камандзір першай роты з расчырванелым тварам ляжаў грудзямі на брустверы, біў частымі адзіночнымі стрэламі з аўтамата.

— Сігнал агульнага наступлення — белая ракета! — крыкнуў Бондар.— На камяніцы не лезь. Бяры лявей, на хлявы!..

Партызаны амаль паўсюды дасягнулі крайніх хат пасёлка. Бондару здавалася, што прайшло вельмі многа часу, а калі зірнуў на гадзіннік, убачыў, што бой ідзе толькі дваццаць хвілін. Гарнізон у цэлым абараняецца граматна. Апорныя пункты, адкуль страляюць немцы, паліцэйскія, размешчаны па сістэме даволі шчыльнай кругавой абароны. Бункеры блакіраваны, але цяпер немцы з паліцэйскімі заселі ў нізкіх каменных прыбудоўках, якія атуляюць гаспадарчы двор.

Бондар бачыў, што бой гэты найцяжэйшы з усіх, якія былі да гэтага часу. Забітых, параненых шмат. Але адступаць нельга. І няма іншага выйсця, акрамя штурму.

У палавіне дванаццатай двое партызан — Павел Багдановіч і ардынарац Бондара Валодзя Шлег, пасланыя пазаўчора вечарам сувязнымі ў прыдняпроўскі атрад, які мусіў наступаць на Лужынец, прывязалі ў сасонніку мокрых, у мыле коней. З хвойніку беглі не прыгінаючыся, трымаючы наперавес вінтоўкі.

— Гарнізон разбіты,— дакладваў Бондару задыханы Шлег.— Уцякло трохі, а болей палажылі. Узялі сорак вінтовак, тры кулямёты...

Навіну перадалі па ланцугу. Праз некалькі хвілін узвілася белая ракета. Лава партызан, паднятая камандай, кінулася на гаспадарчы двор.

— Ура-а-а! Га-а-а! О-о-о!

Густая, пругкая хваля чалавечага крыку злілася з мычаннем ашалелых ад стралянiны кароў, дзікім іржаннем коней, пранізлівым віскам свіней. Жывёла білася ў зачыненых хлявах. Немцы, паліцэйскія не вытрымалі. Выскаквалі з дзвярэй нізкіх каменных хлявоў, з круглых цэментаваных жалабоў, раскладзеных, відаць, спецыяльна на ўзмежках шырокага, як майдан, гаспадарчага двара. Іх рашэцілі кулямі ва ўпор, даганялі, білі наводмаш прыкладамі.

Арганізаванае супраціўленне партызаны сустрэлі толькі ля млына. Адтуль, не змаўкаючы, татахкаў кароткімі чэргамі кулямёт, бахалі частыя вінтовачныя стрэлы. Сем ці восем чалавек з роты Камара, якія кінуліся на млын, былі скошаны адзін за другім шчыльным, прыцэльным агнём.

На двары перад цагляным кароўнікам — некалькі вазоў з сенам, саломай. Рашэння ніхто не падказваў — прыйшло само. Упрогшыся ў аглоблі, прыкрываючыся ад куль, раззлаваныя партызаны падвялі чатыры вазы пад драўляныя сцены млына, запалілі сена. Праз некалькі хвілін драўляны будынак на каменным падмурку ўспыхнуў як свечка...

Да дзвюх гадзін дня ледзь не ўвесь пасёлак з гаспадарчым дваром, зернясховішчам, маслазаводам, рознымі складамі быў у партызанскіх руках. Выпушчаныя з хлявоў каровы,

агалошваючы наваколле мычаннем, рыкам, ашалела несліся ў сасоннік. Вішчалі свінні, бляялі авечкі.

Але радавацца было рана. Двухпавярховы мураваны палац косіць кулямётнымі чэргамі з усіх вокан. Агонь настолькі моцны, што дзвесце з лішкам партызан, якія кінуліся ў атаку на камяніцу, прыціснуты да зямлі, не могуць узняць галавы.

Да Бондара, пад каменную сцяну хлява, падпаўзлі Бальшакоў, Камар і Гервась.

— З бункера славак выкурыў паліцэйскіх гранатамі,— сказаў Гервась, аблізваючы абветраныя губы.— Дванаццаць здалося. З імі два немцы.

— Які славак? — спытаў Бондар.

— Сліва. Абарванец тожа добра шпурляе. Той, каторага пазаўчора хацелі расстраляць. Ён — матрос.

Камандзіры адчувалі няпэўнасць становішча, шукалі выйсця. Бондар задумаўся.

— Страляюць з другога паверха,— нарэшце загаварыў ён.— Гранатай не дастанеш. Дый гранат малавата. Тут каб так, як з млыном...

Бальшакоў, абпякаючы пальцы, паспешліва дацягваў недакурак самакруткі.

— Камяніцу агнём не возьмеш. Дый далёка. Сена падпаляць на падыходзе. Страляюць трасіркамі.

Бондар пасмутнеў. Гараць два хлявы, некалькі дымоў падымаецца ў пасёлку. Паліцаі з немцамі страляюць паспешліва, часта, не змаўкаюць гулкія кулямётныя чэргі. Партызанскія кулямёты маўчаць. Усё ясна — няма патронаў. У байцоў, што прыціснуты да зямлі, таксама, відаць, на зыходзе. Радаваліся, што маюць па дваццаць штук на вінтоўку, а гэта для зацяжнога бою дробязь. Немцы, сволачы, адчуваюць, таму трымаюцца.

— Выхаду няма, трэба гранатамі,— згадзіўся Бондар.— Будуць вялікія страты. Роту Пятрова пара пускаць.

— А калі раптам?..— Гервась зірнуў на Бондара.

— Што зробіш? Узвод Мядзведзева не чапаем. Дый не мы ж абкружаны, а яны.

Рота Пятрова, якая вырасла за апошнія паўтара месяца пераважна з ліку сувязных і маладых альхоўскіх хлопцаў, з раніцы ляжала ў сасонніку, удзелу ў баі не прымала. Вялікіх надзей на трэцюю роту Бондар не меў. Людзі неабстрэленыя, слаба ўзброеныя. Сем ці восем партызан з бярданкамі... Адзін глухаваты брыгадзір з Цемраўшчызны да апошняга дня ходзіць з шабляй, якой хвацка ссякае хварасціны, калі трэба раскласці вогнішча.

Атаку на двухпавярховую камяніцу павялі з сасонніку. Доўгімі чэргамі ўдарылі па верхніх вокнах два ручныя кулямёты. За лічаныя хвіліны лава наступаючых дабегла да першых хат, дрэў старога парку, пад якімі, прыціснутыя да зямлі, ужо некалькі гадзін ляжалі партызаны з роты Бальшакова, Камара і байцы з дамачоўскага атрада.

Наперад вырваліся гранатамётчыкі. Славак Сліва падбег да будынка амаль ушчыльную, размахнуўся, шпурнуў гранату ў верхняе акно. Пачуўся выбух. З аконнага праёма шугануў агонь і дым. Кулямёт змоўк.

Сліва, за якім назіралі дзясяткі вачэй, стаяў, прыхіліўшыся да каменнай сцяны, зубамі вырываў чаку з другой лімонкі. Трымаючы ў левай руцэ вінтоўку, у правай гранату, ён аддзяліўся ад сцяны, размахнуўся і тут жа ўпаў, расстраляны ва ўпор з ніжняга акна. Граната разарвалася побач, ахутала нерухомае цела завесай дыму.

Упалі, не дабегшы да дрэваў, за якімі можна было стаіцца, яшчэ некалькі партызан. Сярод іх Валодзя Шлег, ардынарац камандзіра. Бондар на імгненне страціў над сабой уладу. Падняўся, выхапіўшы з кабуры наган, кінуўся да камяніцы.

— Сволачы, здавайцеся!

Нехта схапіў яго за нагу, паваліў, прыціснуў да зямлі...

Новая атака захліснулася.

Пачынала змяркацца. Бондар адпоўз за сцяну хлява, сабраў вакол сябе камандзіраў.

— Будзем вячэраць,— сказаў спакойна.— Паліце агні. Як можна болей. Немцы павінны самі ўцячы.

Дзіўнае, прыгожае відовішча ўяўлялі сабой цёмным снежаньскім вечарам ваколіцы пасёлка Літвінаў. На ўзлессі

бліскучым ланцугом — паўкругам, запалалі вогнішчы. Іх было многа, да паўсотні. Шэры ў цемені ночы палац маўчаў. Не азваўся ніводным стрэлам.

Апоўначы да Бондара, які сядзеў пры вогнішчы, падбег Гервась, голасна, каб усе чулі, сказаў:

— Змыліся. Там, у доме, чалавек трыццаць забітых. Патронаў не было, але кожнае вогнішча дало салют...

Забітых — іх было дваццаць восем — пахавалі ў Зялёнай Будзе, параненых на васьмі фурманках адправілі ў Сасновіцу. Запас патронаў папоўнілі — у Літвінаве знайшлі некрануты нямецкі склад. Збожжа, жывёлу раздалі насельніцтву.

Праз два дні, дваццаць восьмага снежня, з'яднаныя гарбылёўскі і дамачоўскі атрады рушылі на Піляцічы. Гэта быў апошні гарнізон у межах Бацькавіцкага раёна, калі не лічыць мястэчка і вёсак, што прылягалі да самай чыгункі.

Камандзіры разлічвалі, што піляціцкі гарнізон бою не прыме. Так яно і здарылася...

## IV

Два п'янаватыя піляціцкія паліцэйскія Кірыла Кабысь і Ларык Вішнявецкі забрылі ў хату да Анюткі Бандарчуковай. Анюцін мужык пагнаў на ўсход эмтээсаўскія трактары, а сястра, Таццяна Бурак, збегла з-пад арышту і туляецца па лесе.

Перапалоханая Анюта не ведае, як дагадзіць нязваным гасцям. Носіцца ад печы да стала, падстаўляе небагатую закуску. Дзеці — хлопчык і дзяўчынка, якія на выгляд здаюцца блізнятамі, цíснуцца за паркалёвай шырмай на ложку, трывожна паблісквацюць адтуль чорнымі вочкамі.

— Бальшавікоў чакаеш, Анютка,— гаворыць Ларык.— Але не вельмі спадзявайся. Голыя твае бальшавікі. Па два патроны на вінтоўку. У Літвінаве накрышылі іх як капусты.

Гаспадыня бляднее, вусны яе ўздрыгваюць.

— Такія яны мае, як і вашы, хлопчыкі. У мяне клопат адзін — дзяцей пракарміць.

— Ну, не гавары,— Ларык рагоча.— Твой Васіль вярнуцца не захацеў. Падаўся на Урал. Сястра сабакам сена косіць.

— Не прыставай,— гаворыць Кірыла.— За сястру яна не адказчыца. От прыйдуць партызаны, возьмуць твайго брата загрудкі. Добра, думаеш, яму будзе?

— Не прыйдуць. Тонкая кішка.

— Як піць даць будуць. Папомніш маё слова. Спаткай носам чуе. Трэці дзень у мястэчку.

У Ларыка твар, валасы, бровы — усё чорнае. Налівае шклянку самагонкі і, не чокнуўшыся з Кірылам, выпівае.

— Чорт іх бяры. Няхай прыходзяць. Жывым у рукі не дамся.

— Улезлі мы з табой, Лаўрэн, як у нерат. Князеву што? Збярэ лахі пад пахі і ходу. Кажуць, тры вазы дабра ў мястэчка завёз.

— Хай вязе. Я заўсёды гаварыў, што ён скаціна.

— Вот што, Анюта,— Кірыла глядзіць у падлогу.— Ты, калі што, слова закінь. За маіх. Жывём у адным сяле. Яшчэ ўсё можа быць.

Ларык падтаквае.

— Немцы не такія дурныя. Не папусцяцца. Цябе ж, бачыш, мы не зачапілі. А ведаем — сястра твая такім, як мы, камандзіроўкі на той свет выпісвае...

Анюта калоціцца як асінавы ліст.

Не дапіўшы гарэлкі, не развітаўшыся, паліцаі выходзяць.

Мінула паўгадзіны, і затахкалі на ўскраі сяла, там, дзе да хат падступаюць рэдкія хмызы, вінтовачныя стрэлы.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

### I

Кожны, хто стаў бы назіраць за намеснікам бургамістра Лубанам, убачыў бы адразу, што жывецца яму нялёгка. Ходзіць Лубан хмуры, панылы, здаецца, усмешка назаўсёды сышла з яго чарнявага, адутлаватага твару.

Да вайны ў мястэчку Лубана ведалі мала. Працаваў таварным касірам на станцыі, меў справу з пагрузачнай канторай,

нарыхтоўчымі і гандлёвымі арганізацыямі. Трохі раней, у трыццаць восьмым годзе, займаў пасаду большую — быў начальнікам сувязі дыстанцыі чыгункі. Яго, як і бургамістра Крамера, арыштоўвалі і ў турме трымалі даўжэй — болей года.

У немцаў Лубан на добрым рахунку. Позняй восенню мінулага года, толькі стаўшы намеснікам бургамістра, ён застрэліў у саўгасе «Росіца» пераапранутага чырвонаармейца. Тым не меней паводзіць сябе Лубан дзіўна. Жыве, як і жыў да вайны, у двух цесных пакойчыках станцыйнага дома, за набыткам не гоніцца. Бліжэйшыя да яго людзі ведаюць, што п’е.

Пасля гаворкі ў кабінеце бургамістра Лубан, Тоўсцік і начальнік пажарнай аховы Альшэўскі, развітаўшыся з Лагутам, пайшлі разам. Каля клуба іх напаткаў майстар Адамчук.

— Хадзем да мяне, хлопцы. Першачок — вочы вылазяць. Хлебны, без ніякіх дамешкаў.

На хвіліну завагаліся. Вёў да сябе Тоўсцік. Выпівалі апошнім часам у яго — вяртлявы, пранырлівы начальнік мясцпрама ўмее з-пад зямлі дастаць.

Першым даў згоду Тоўсцік.

— Ладна, да цябе дык да цябе. У мяне жонка прыхварнула, бурчыць.

Адамчук уладкаваўся як належыць. У казённым, з двума ганкамі доме да вайны акрамя майстра жыў яшчэ брыгадзір і двое рамонтнікаў. Цяпер хароміну займае Адамчук.

На стале ў Адамчука акрамя светлай, як сляза, самагонкі ў графіне дзве бутэлькі нямецкага шнапсу.

— Дастаеш? — насмешліва кіўнуў Лубан.

— У чыгуначнікаў усё можна дастаць,— ахвотна адказаў гаспадар.— Ім выдаюць на паёк.

— Многа даюць? — цікавіцца Тоўсцік.

— Дзе там. Галата. Бутэльку на месяц. Паміж іншым, хлопцы, можна дастаць шынельнага сукна. Толькі трэба сала.

Лубан насмешліва косіцца.

— Ідзі ты са сваім сукном!.. Зрабі так, каб сюды ніхто не заходзіў.

Садзяцца за стол, выпіваюць па першай шклянцы. Закусваюць салёнымі агуркамі, жоўтым вэнджаным салам. Твары

чырванеюць, позіркі робяцца весялейшыя. Лубан хмуры паранейшаму, да закускі амаль не дакрануўся. Гаспадар спяшаецца наліць па другой.

— Я думаю вось што, хлопцы,— выпіўшы, гаворыць Лубан.— Калі залез у г..., не ціліўкай. Крамера слухаць хопіць. Мала што яму ўзбрыдзе ў галаву. Нарабілі і без гэтага паскудства. Па самую шыю...

— Я палітыкай не займаўся ніколі,— падхопліваецца Тоўсцік.— Работа — іншая справа.

— Ты — святы,— насмешліва кідае Лубан.— Лепш памаўчы. Усе добрыя.

Некалькі хвілін няёмкае маўчанне. Тоўсцік не зважае — запіхвае ў рот кавалкі сала, бліскае вачамі.

— Хто мог наперад ведаць,— скардзіцца гаспадар.— Яшчэ і цяпер невядома, як будзе. Немцы на Волзе, у Сталінградзе. Хутчэй за ўсё пераможуць яны. А жыць неяк трэба.

— Я не веру, што пераможуць немцы,— кідае Лубан.— Не на тое ідзе. Сядзяць у катле як мышы.

Адамчук спалоханы і не тоіць страху.

— Чаму не верыш?

— Па-зверску абыходзяцца з народам. Глядзяць на людзей як на скаціну. Таму і партызанскі рух расце. Народ зламаць нельга.

— Дык мы ж для партызан — ворагі! — скрывіўшыся, як ад болю, выгуквае гаспадар.— Я вораг удвайне — кінуў атрад, рамантую чыгунку. Хіба такое даруюць? Што мяне там чакае? Куля...

— Кулю ты можаш зарабіць і ад немцаў,— спакойна пярэчыць Лубан.— Узарве хто-небудзь чыгунку ля твайго дома — і хопіць. Думаеш, дужа патрэбен ты немцам. Дзякуй Крамеру, ён тваю душу на свеце трымае. Без яго даўно б быў на шворцы.

— Ці савой аб пень, ці пнём аб саву — усё адно,— рагоча Тоўсцік.

Выпіваюць яшчэ. Нарэшце скідае пахмурнасць, весялее і Лубан. Кіслы, разгублены адзін Адамчук. Лубан закурвае, гаворыць спакойна — як бы зусім не піў.

— Вывад такі, хлопцы. За Крамера пакуль будзем трымацца. Але ісці за ім не да канца. Ён немец і немцам спрыяе. Хоча прымірыць ваўка і авечку. А што нам рабіць? Я думаю — не высоўвацца. Верай і праўдай служыць болей не буду. Заўважылі, што робяць партызаны? Упершую чаргу палююць за такімі, як мы. Так што вельмі лёгка злавіць кулю. А я гэтага не хачу. Дый ніхто з нас не хоча.

— Ніхто,— пацвярджае начальнік пажарнай Альшэўскі, які дагэтуль маўчаў.

Адамчук ледзь не заламвае рукі.

— Дык што ж рабіць? Адтуль горача, адсюль боляча. Дрэнна будзеш служыць — немцы арыштуюць, добра — партызаны...

— Рабі выгляд, што добра служыш,— рагоча Тоўсцік.— Не хвалюйся, каму трэба, заўважаць. Я сваім рамеснікам даўно сказаў — катай, хлопцы, на ўсю іванаўскую. Я нічога не бачу, не чую — лішніх падаткаў не будзе...

— Ты выкруцішся,— не хаваючы зайздрасці, цягне Адамчук.— Ты заўсёды выходзіў сухім з вады.

— А ты падмачыўся. Развінці гайку — вось табе і заслугі.

— Усё-такі вы — быдла,— Лубан налівае сабе яшчэ шклянку.— Плюнуў бы на вас, ды няма за каго зачапіцца. Сам горш, чым вы, у г...е. Рукі крывёю забрудзіў. Каб не гэта, не сядзеў бы тут з вамі...

Нягледзячы на водпаведзь намесніка бургамістра, настрой кампаніі прыкметна ўздымаецца. Выпіваюць яшчэ. Нават песню зачынаюць.

## II

У мястэчка за апошні месяц прываліла нямала рознага люду — бургамістраў, стараст, паліцэйскіх, выгнаных партызанамі са сваіх вёсак і валасцей. Бацькавіцкая паліцыя значна папоўнілася, але ўсю армаду ў кажухах і світках на службу не залічылі. Ці то пайкоў, ці яшчэ чаго не хапае.

Калі паслухаць уцекачоў, то ў Літвінаве і Лужынцы партызаны ўшчэнт разбіты. Чуткі пушчаны настолькі густа, што некаторыя местачкоўцы нават вераць ім.

І ўсё ж не гэтая небывалая яшчэ падзея займае ўвагу местачкоўцаў, а другая, на першы погляд, меней значная. Узвод славакаў, які размяшчаўся ў будках ля Птахавага пераезда, у поўным складзе перайшоў да партызан.

Мястэчка поўнілася патаемнымі размовамі. Пра гэта гаварылася ў кожнай хаце.

Міцю навіна ўзрушыла. Славакі, людзі невялікай краіны, салдаты акупацыйнай арміі, кінулі выклік Гітлеру. Толькі так можна расцэньваць уцёкі ў лес маленькага ахоўнага гарнізона, у якім, аднак, быў і афіцэр, і сяржанты. Славакі прыхільна ставіліся да насельніцтва, на свае вушы чуў Міця на Пакрову ў Палыкавічах, як гаварылі яны пра немцаў. Усё гэта значыла штосьці вельмі важнае. Але ў жыцці ўсё круціцца, кіпіць, як у віры, і не ва ўсім адразу разбярэшся. Славакі, людзі незнаёмай, далёкай краіны, уцяклі ў халодны голы лес, а паліцэйскія, старасты, якія нарадзіліся на гэтай балотнай і лясной зямлі, прыбеглі ў мястэчка.

Справы Міцевы кепскія. Мінула больш за месяц пасля сустрэчы з дэсантнікамі, Шурам і Драгуном, а на работу ён уладкавацца не можа. Рабіў проста адчайныя захады, і ўсё дарэмна.

Вярнуўшыся з дубровіцкага бярэзніку, Міця на другі ці трэці дзень занёс заяву ў фінансавы аддзел. Хацеў аднавіцца на ранейшым месцы. Да бургамістра Крамера зайсці не адважыўся, аддаў паперу Пілеўскаму. Па выразу твару і некалькіх словах, якія сказаў загадчык фінаддзела, Міця адчуў, што той ставіцца да яго прыхільна, за звальненне не крыўдуе і як бы не сумняваецца нават, што нядаўняга рахункавода па страхоўцы на рабоце адновяць. Але калі назаўтра Міця прыйшоў у фінаддзел, Пілеўскі суха паведаміў, што адзінка рахункавода скарочана. Дзверы ў канцылярыю раённай управы перад Міцем зачыніліся...

Быў тыдзень, калі, здавалася, Міцю напаткаў поспех. У гандлёвай канторы загадчыцай гаспадаркі працуе мясцовая немка Ліза Карціннікава, чарнявая, даволі прыгожая жанчына гадоў трыццаці, якая замужам за высачэзным насатым грузчыкам. Грузчык цяпер не працуе нідзе, пакладаючыся на ўдачу, якая выпала на долю жонкі-немкі, і, па чутках, нават сам у немцы запісаўся.

У адзін з тых дзён Міця завітаў да Плоткіна на службу. Разам выходзячы з памяшкання былой рэдакцыі, дзе цяпер размяшчалася гандлёвая кантора, хлопцы сутыкнуліся на ганку з Карціннікавай.

— Ён нямецкую мову ведае,— адрэкамендаваў Міцю Плоткін.

— Праўда? — жанчына нават як бы ўзрадавалася, бліснула двума залатымі зубамі.— А дзе ты працуеш?

— Нідзе,— сказаў Міця.— Шукаю работы. Жанчына на хвіліну задумалася.

— Прыходзь заўтра да нас,— сказала яна.— Я пагавару з начальнікам. У нас тры хлопцы з Разводаў, фольксдольчы. Але такія мяшкі — ніводзін па-нямецку чытаць не ўмее. Я і сама не ўмею,— усміхнуўшыся, дадала Карціннікава.

Назаўтра Міця прыйшоў у кантору. Карціннікава сустрэла яго на двары, падала руку, прыязна ўсміхнулася.

— З панам Штанге я гаварыла. Ён згодзен...

Не без страху ўваходзіў Міця ў кабінет начальніка гандлёвай канторы. Штанге — немец прыезджы, а з такімі Міцю сустракацца не даводзілася. Высокі, сівы, добра паголены стары пахаджваў з кута ў кут па пакоі, калі, пастукаўшы ў дзверы, загадчыца гаспадаркі прывяла да яго Міцю. Немец абвёў наведвальніка паспешлівым позіркам, нічога не спытаўшы, сказаў:

— Vierzieg Mark![1]

Павярнуўся спіной, рушыў, размахваючы рукамі,— засталі яго за гімнастыкай — у процілеглы кут. Карціннікава вывела Міцю ў доўгі калідор, сказала:

— Слоўнік у цябе ёсць? Будзеш перакладаць расцэнкі і каштарысы. Яны прыходзяць на нямецкай мове.

Адчыніла дзверы ў вузенькі цемнаваты пакойчык, дзе стаяў стол і табурэтка.

— Тваё месца. Я буду ў цябе чытаць вучыцца.

Мінуў дзень, другі, трэці. Ніхто Міцю работы не даваў. Ён выходзіў у калідор, завітваў у бухгалтэрыю да Плоткіна, дзе за шчыльна састаўленымі сталамі сядзела некалькі знаёмых школьных дзяўчат.

---

[1] Сорак марак! *(ням.)*.

У канцы тыдня ў пакойчык зазірнуў Штанге, паклаў на стол дзве грашовыя паперкі па пяць марак.

— Die Arbeit ist zu Ende[1].

Услед за начальнікам зайшла разгубленая, пасмутнелая Карціннікава.

— Ты яму не спадабаўся, не любіць маўклівых...

У яе словах Міця пачуў больш, чым, відаць, сама яна хацела сказаць.

Была яшчэ спроба ўладкавацца рахункаводам у лясгас. Установа гэтая размяшчаецца на нядаўна забудаванай Піянерскай вуліцы, трохі наводшыбе, і задавальняе ва ўсіх адносінах. Міця адчувае, што яму трэба на нейкі час стаіцца, не мільгаць на вачах. Няправільны крок ён зрабіў, калі звольніўся з фінаддзела. Крамер, вядома, зразумеў, у чым справа. Тое, што Міцю нідзе не прымаюць, ідзе ад яго...

Галоўным бухгалтарам у лясгасе высокі з нерухомай правай рукой стары, падобны на Кашчэя. Міця ўбачыў адразу, што ён адзін з тых людзей, якія ўсё жыццё правялі за паперамі, рахункамі і лічаць, што на бухгалтэрыі трымаецца свет.

Кашчэй, каб праверыць Міцевы здольнасці, даў вялізную ведамасць, запоўненую бясконцымі калонкамі лічбаў, загадаў падбіць рахунак.

У тым, што нічога не атрымалася, вінават Міця сам. У фінаддзеле такія рахункі падбіваў. Але з першай хвіліны не лягла душа да сцятай, затоенай цішыні, якая панавала ў бухгалтэрыі. Кашчэй маўчаў сам і ніякіх размоў на працягу васьмі рабочых гадзін не дапускаў. Шасцелі паперамі, ляскалі костачкамі лічыльнікаў старшыя і звычайныя бухгалтары — іх тут чалавек пяць — і толькі зрэдку, стараючыся не рабіць груку, выходзілі за дзверы пакурыць. Кашчэй за сваім сталом, пастаўленым упоперак пакоя, сядзеў, як цар на троне...

За першы дзень Міця падбіў усе калонкі. Але, калі назаўтра ўзяўся зводзіць агульныя вынікі, выстаўленыя ў апошняй графе, сума не сыходзілася. Міця стаў нервавацца, перабіваў зробленае ўчора, але кожны раз вынікала новая лічба.

---

[1] Работа закончана *(ням.)*.

Кашчэй час ад часу кідаў на яго з’едлівыя позіркі. Пад вечар другога дня не вытрымаў, узяў ад Міці ведамасць, і яго тонкія, высахлыя пальцы сталі імкліва перакідаць костачкі лічыльнікаў. Кожную з напісаных унізе ведамасці лічбаў Кашчэй перачыркнуў чырвоным алоўкам, паставіў сваю, а Міцю сказаў, не хаваючы здзеклівай радасці:

— Нічым не магу быць вам карысным, малады чалавек...

Два разы за апошні месяц прыходзіў з Грамоў Мікола. Патрабаванні пасланцоў Мазурэнкі, з якімі ён бачыцца, ранейшыя: заваёўваць давер у немцаў. Заданняў капітан не дае.

У той дзень Міця зранку рушыў да Аляксея Прымака. Выбраліся на абледзянелы дашчаны тратуар, пабрылі ўсцяж вуліцы. Макрэча, слізгота. Насустрач рухава імкне, перабіраючы кароткімі нагамі, тоўсты, як качулка, старшы ляснічы Лагута. Міця, апусціўшы вочы, павітаўся — было няёмка за свой правал пры паступленні ў бухгалтэрыю лясгаса.

Ляснічы спыніўся.

— Вы добра ведаеце нямецкую мову? — спытаў у Міці.

— Чытаю амаль без слоўніка.

— Прыходзьце заўтра на работу. У нас ёсць адзінка перакладчыка. Работы асабліва няма, але занятак вам знойдзем.

— Вось табе і ўдача,— сказаў Міця, не тоячы ўзрушэння.

— Шчасце ідзе з лесу,— падтакнуў не меней узрадаваны Прымак.

Хлопцы азірнуліся: Лагута шыбаваў у раённую ўправу.

На першай старонцы падручніка для дзясятага класа ёсць выказванне Карла Маркса пра значэнне валодання замежнымі мовамі: Kenntnisse der Fremdspachen ist eine Waffe im Kampfe des Lebens[1].

Міця ўспомніў гэтае завучанае на памяць выказванне, непасрэдна дапасаваўшы яго да сваёй асобы. Карл Маркс усётакі бачыў наперад...

[1] Веданне замежных моў — зброя ў барацьбе за жыццё *(ням.)*.

## III

На станцыі Гарбылі за апошнія два месяцы было некалькі дыверсій: узарваны электрастанцыя і мазутны склад, на якім узнік пажар, пашкоджаны камутатар на вузле сувязі, разграблен склад з пуцейскім інструментам. У дыверсіях, акрамя партызан, якія прасачваліся ў горад, прымалі ўдзел некаторыя чыгуначнікі, пераважна з ліку маладых, і майстар Глушко пражыў гэты час у трывожным напружанні. Немцы маглі лёгка ўхапіцца за патрэбную нітку.

Службовага імпэту майстру як бы прыбавілася. Штодня наведвае станцыйнага каменданта Шміта і нямецкага майстра, раіцца па кожнай дробязі.

Хмурым восеньскім адвячоркам Глушко зайшоў у склад да знаёмага кладаўшчыка-тодтаўца Грунвальда купіць цыгарэт. Грунвальд — пажылы, шыракатвары, нязменна дабрадушны. Склад поўны ўсялякага дабра. На паліцах звязкі з шынялямі, з бялізнай, чаравікамі, скрынкі з электрычнымі лямпачкамі, скруткі кабелю, меднага дроту.

У адгароджанай канторцы, у кутку на табурэтцы — радыёпрыёмнік. Перадавалі нямецкую песню.

Кладаўшчык узяў маркі, даў Глушко пяць пачак цыгарэт і раптам хапіў дзверы на зашчапку.

— Майстар, радыё савецкі слушат хочаш?

Глушко анямеў. Але ўзрушанасць стаіў, сеў за стол, зняў шапку. Немец знайшоў маскоўскую хвалю...

Пры развітанні Грунвальд запрасіў зайсці заўтра.

У той жа вечар Глушко пабачыў Грыба і Пятрэнку. Раіліся, не ведалі, што думаць.

— Каб не правакацыя,— сказаў Пятрэнка.— Але варта прыгледзецца. Заўтра не ідзі, наведайся дні праз тры...

Праз будачніка Жарнавіка і лесніка-сувязнога (прозвішча яго таксама Глушко) незвычайную навіну перадалі ў атрад, Бондару. Ён загадаў сувязь з немцам трымаць, а ў хуткім часе два хлопцы з маслапрама прывалаклі на кватэру майстра дваццацікілаграмовую скрынку масла. Глушко загарнуў у чыстую краміну ладны кус, панёс да Грунвальда. Той расчуліўся

да слёз. Зняў з паліцы новенькі чыгуначны касцюм, падарыў майстру.

Зноў слухалі радыё. На гэты час Глушко выняў блакноцік, аловак, асмеліўся сёе-тое запісаць.

Слуханне радыё цягнулася з месяц, і нарэшце Грунвальд раскрыўся.

— Майстар, тут, на станцыі, ест тры нямецкі камуніст. Чуствуем, ты надзейны чалавек. Хоцім імет связь партызан.

Калі Глушко завітаў у канторку назаўтра, з-за стала падняліся два афіцэры-тодтаўцы, узялі пад казырок:

— Фрыц Зонэмахер,— назваўся высокі, з акулярамі на прамым арліным носе.

— Пауль Лінке,— прадставіўся другі, ніжэйшы, з жыватом, які прыкметна акругляўся пад мундзірам.

Абодва капітаны, служаць інжынерамі.

Тут, у горадзе і на станцыі, было многа немцаў, і ўсе яны былі ворагі, акупанты, бо кожны з іх, не задумваючыся, паслаў бы на смерць такога, як ён, Глушко. Гэтыя трое былі другімі. Толькі трое з соцень, з тысяч, але ўсё адно гэта штосьці значыла...

## IV

Цяпер яна была спакойная. Здавалася, наступілі дні, якіх яна чакала ўсё жыццё, да якіх ішла, аступаючыся, пятляючы, ненавідзячы часамі самую сябе за сваю жаночую слабасць. Калі перад сабой спавядацца, то ўсё папярэдняе жыццё яна пражыла ў стане павышанай нярвознасці, узбуджанасці, у чаканні цуда. А цуда ніякага не трэба. Жанчыне патрэбен мужчына-друг. Такі, якому б яна з радасцю падначальвалася, лавіла кожнае слова, угадвала патаемныя жаданні.

Цяпер у яе быў Фрыц Зонэмахер. Ён прыйшоў да яе позна, на схіле маладосці, але яна была ўдзячна яму за тое, што ён дорыць ёй жаночае шчасце. Ён нагадваў Турбіной першага мужа і ў той жа час выцесніў яго з успамінаў.

Яна добра не ведала, што ён за чалавек, а толькі ўгадвала жаночым чуццём, што ў ім ёсць усё, што за спакойнай стрыманасцю, пяшчотнасцю тоіцца другое, ёй пакуль незразуме-

лае. Гэта незразумелае, магчымасць яго нечаканага выяўлення яе палохала.

Свой востраў кахання яна аберагала як магла. Цяпер яе жыццё складвалася як бы з дзвюх палавін, і яна не хацела, каб яны сышліся. Першая належала службе ў немцаў, дапамозе партызанам, тым страхам, згрызотам, няўпэўненасці ў заўтрашнім дні, якія запоўнілі гэтую частку яе цяперашняга неспакойнага жыцця. Нагародай за гэтую хісткую дваістасць было каханне, пакойчык Фрыца, у які яна завітвала ледзь не кожны дзень, ціхая музыка, шклянка нямецкага віна. Яна хацела, каб яе ідылія цягнулася як мага далей.

Але аднойчы Фрыц сказаў:

— Ведаеш, я год сядзеў у канцлагеры.

Яна спалохана ўстрапянулася:

— За што?

— За тое, што быў у тваёй краіне. І яшчэ за сякія-такія рэчы.

З палітыкі ў яе з Фрыцам пачалося, палітыка пагражала яе ідыліі.

Наступным разам ён сказаў, адводзячы позірк убок:

— Фрау Эрна, я думаю, нам трэба спыніць спатканні. У мяне могуць быць непрыемнасці. Сярод акупантаў, якія прыйшлі ў тваю краіну, ёсць і сумленныя немцы. Ім трэба выбіраць...

Яна прыхінулася да яго грудзей, заплакала...

## V

Гарбылёўскі атрад адзначаў перамогу над знішчанымі гарнізонамі Зялёнай Буды, Літвінава, Піляціч у вёсцы Рагалі, найболей лясной і глухой нават у гэтым лясным краі. З паўднёвага боку яе атуляе града выноснага дубняку, з заходняга і паўночнага — сцяна чарналесся. І толькі ў тым баку, адкуль зыходзіць сонца, за нізкімі шэрымі хмызамі, маладымі бярэзнікамі, можна ўбачыць невялікія лапікі балотнай рагалёўскай сенажаці і поля.

Цяжка сказаць, чаму ўпадабалі людзі для жытла хмуры лясны куток. Свае выгоды тут, вядома, ёсць? Летам — багацце

травы на лясных лядах, зімой пра апал можна не думаць. Выходзь з двара, валі сухастоіну, валачы ў печ.

Ад Рагалёў да Літвінава — восем вёрст, а да мястэчка напрасткі праз лес — дванаццаць. Але ў тым-та і справа, што ёсць толькі адна грунтовая, пабітая на калдобіны, дарога, і каб дабрацца па ёй у мястэчка, трэба мінуць Лазавіцу, Літвінаў, Піляцічы і яшчэ некалькі вёсак. Па гэтай дарозе ад Рагалёў да мястэчка вёрст трыццаць.

Не дзіва, што шмат хто з местачкоўцаў нават не ведае пра існаванне ляснога паселішча, якое фактычна пад бокам, за густой градой балотнага чарналесся. Рагалёўцы лішне ў свет не вытыркаюцца. Суседзі з Лазавіцы, Літвінава пасмейваюцца з іх:

— Жывом самі па сабе. З мясцечка нам нічога не трэба. Толькі соль да залеза ў кузню...

За паўтара года вайны немцаў у Рагалях не бачылі. Ніхто адсюль не падаўся ў паліцыю, але партызана вёска таксама не выставіла ніводнага.

Шумяць, гамоняць нечуваным мнагалюддзем лясныя Рагалі. Старасвецкія двары, у якіх хата, хлеў, адрына, імшанік — пад адным плехам, запруджаны вазамі. Шмат усялякага дабра ўзялі партызаны ў Літвінаве — мукі, збожжа, солі, сала, масла, яек. Усё гэта спакавана, ляжыць на фурманках. Нават да спірту дапялі. Вялізная дубовая бочка пагружана на асабістую брычку начальніка гаспадаркі Васількевіча, і ён выдае спірт, чэрпаючы паўлітровай, зробленай са снарада, конаўкай з бляшанага вядра, з разлікам, каб адна мерка прыйшлася на двух...

Ля студняў, як бы сабраўшыся па ваду, трывожна перамаўляюцца рагалёўскія бабы. Старэйшыя жанкі носяць тут даматканыя чырвоныя з прадоўжанай белай палоскай андаракі, а хусткі-канаплянкі наматваюць на галаву на манер цюрбаноў, шырокім, як рэшата, кругам. Але гэта не толькі тут. Такую вопратку, цюрбаны-рэшаты на жаночых галовах сустрэнеш шмат дзе на Палессі...

## VI

За Міцевым агародам стаіць маленькая, падобная на лазеньку, хацінка, і жыве ў ёй дзівакаваты, маўклівы хлапчына Васіль Шарамет, які яшчэ восенню мінулага года выбраўся з вяземскага акружэння і прыдыбаў дадому. У сям'і акрамя Васіля маці і дзве сястры — старэйшая і малодшая.

Васілю гадоў дваццаць пяць. Стоены ён да немагчымасці. Носа з хаты не вытыркае. Летам рэзаў за чыгункай, на балоце, шылег, плёў кошыкі на продаж. Цяпер за чыгунку не выберашся, на пераездзе варта, якая правярае дакументы, і заработкаў Васіль пазбавіўся.

Міця знаёмы з Шараметам з тых дзён, калі перабраўся на дзедава котлішча. Сёе-тое пра яго ведае. Рос Васіль без бацькі, з айчымам, які яго не любіў. Рана пайшоў у заработкі. Працаваў на пошце, і адтуль яго паслалі ў вайсковую школу. За месяц да вайны прысвоілі званне малодшага лейтэнанта, і пад Смаленскам Шарамет ахоўваў разлік «кацюш». У акружэнні пад Вязьмай Шарамет узарваў «кацюшу», паспрабаваў прабіцца на ўсход, але трапіў у калону палонных. З калоны ўцёк.

Васіль ведае, што Міцю арыштоўвалі, таму, відаць, адважыўся расказаць пра сябе. Як бы на нешта спадзяваўся.

Цяпер у Шарамета бяда. Пра тое, што ён малодшы лейтэнант, уведала паліцыя — прыязджаў пасля сканчэння школы ў водпуск — і яму ўжо двойчы прапаноўвалі стаць паліцаем. Умовы жорсткія — або бяры вінтоўку, або трапіш у лагер. У Васіля ёсць таварыш па няшчасцю Цярэшка Багушэвіч з торфазавода, рослы худаваты мужчына. Яго таксама сватаюць у паліцыю, пагражаючы, калі адмовіцца, арыштам. Цярэшка іншы раз прыходзіць да Васіля, яны аб нечым шэпчуцца, але выйсця не бачаць. Абодва звязаны сем'ямі.

Пасля размовы з Лагутам Міця схадзіў да Лобіка, паведаміў навіну. Вечарам падзьмуў халодны паўночны вецер, лужыны зашэрхлі. Міця выбраўся на агарод, перамахнуў цераз дзве ніткі калючага дроту, якім Шараметаў агарод адгароджан ад цётчынага.

Хацінка-лазенька мае нават два пакойчыкі. Цёпла, напалена. Васіль — ён сярэдняга росту, з прыемным, адзначаным мяккімі рысамі тварам — сядзіць пры газоўцы, у чыстым пакойчыку, вострыць напільнікам зазубраную сякерку.

— Ідзі ў паліцыю,— сказаў Міця.— Там трэба свой чалавек.

— Што значыць свой? — асцярожна спытаў Васіль.

— Дадзім заданне.

— Хто дасць?

— Ну, партызаны. Ёсць людзі, якія з імі звязаны.

Васіль прамаўчаў.

— Чаму націскаюць, каб у паліцыю ішлі местачкоўцы? Хапае тых, што паўцякалі з валасцей.

— Дзела простае. Піляцiцкія і лужынецкія паліцаі ўцяклі, не прыняўшы бою. Немцы ім не вераць. Лічаць, што местачкоўцы будуць абараняцца лепей, калі нападуць партызаны.

Міця пасядзеў з гадзіну, сабраўся дамоў, калі Васіль, зірнуўшы на гадзіннік, які цікаў на сцяне, раптам прапанаваў:

— Хочаш паслухаць радыё?

Не пытаючы згоды, падняў маснічыну, спусціўся ў склеп. Вылез адтуль, асцярожна трымаючы ў руках загорнутую ў стары крапіўны мех невялікую скрынку. Паставіў яе на стол, прыладзіў драты, схаваныя за шпалерамі. Патушыў газоўку, крутнуў рычажок. Пачуўся ціхі трэск, завыванне, але нечакана з гэтага хаосу вырваўся выразны рускі голас...

Міця анямеў. Другі раз слухае савецкае радыё, і здараецца такое перад новымі крокамі, якія ён робіць у жыцці. Але тое, што пачуў цяпер,— як прасвятленне. Немцы ў Сталінградзе акружаны, і акружаны, мяркуючы па паведамленню, даўно, а ён, Міця, заняты сваімі дробнымі справамі, клопатамі, нічога аб гэтым не ведаў. Не ведалі ні Лобік, ні Мікола, і ў выпадку з Міколам гэта асабліва дзіўна, бо двойчы за апошні месяц бачыўся з пасланцамі Мазурэнкі. Няўжо дэсантнікі лічаць, што такія навіны для іх, местачкоўцаў, дробязь?

Перадача скончылася. Васіль запаліў газоўку, схаваў прыёмнік у падполле. Сістэма ў яго прыдумана хітра. Ні батарэй, ні антэн не ўбачыш. Правадкі ад іх замаскіраваны за сіняватымі шпалерамі, якімі абклеены пакойчык.

— Батарэі садзяцца,— сказаў Васіль.— Новых не дастаць.

— Ты часта слухаеш?

— Рэдка.

— Пра Сталінград ведаў?

— Ведаў.

— Чаму мне не сказаў?

— Дык ты ж газеты чытаеш. Нямецкія. Хіба не пішуць?

— Даўно не чытаў я ніякіх газет,— сумна адказаў Міця.

— Дапусцім, я паступлю ў паліцыю,— сказаў Васіль, памаўчаўшы.— А як з Цярэшкам? Хто яму дасць заданне?

— Хай робіць, як хоча,— сказаў Міця.— Пра мяне яму ні слова. Нікому ні слова. Ведаеш аднаго мяне...

На агародзе паўзмрок. Неба пасвятлела, ачысцілася ад хмар. У высахлых бадылінах кіяшніку шастае зімовы халодны вецер.

## VII

Лясгас — гэта перш за ўсё прасторны кабінет старшага ляснічага Лагуты, у якім тэлефон, некалькі шафаў, мяккія канапы і крэслы. З просьбамі наконт дроў ці лесу наведвальнікі звяртаюцца толькі да старшага ляснічага. Тонкай дашчанай перагародкай, якая мае нават унутраныя дзверы, кабінет адгароджан ад пакоя, дзе стаяць сталы сакратаркі, машыністкі і загадчыцы агульнай канцылярыі.

У левай палавіне дома, аддзеленай ад правай пакоем для наведвальнікаў (тут збіраліся некалі дапрызыўнікі),— бухгалтэрыя. Там ёсць два бакавыя пакойчыкі — для касіра і бухгалтараў-картатэтчыкаў.

Машыністкай у лясгасе смяшлівая, вяртлявая, як юла, Паліна Рабіна, былая настаўніца. Сакратаркай працуе Ніна Грушэўская, загадчыцай агульнай канцылярыі Міцева аднакласніца Валя Хмяльніцкая, тая самая, што гуляла з паліцаем Кузьмянком. Яна і цяпер з ім, бо малодшы Кузьмянок бургамістраву родзічку, у якой адшукаўся муж, пакінуў.

На пасадзе лясгасаўскага перакладчыка Міця пабыў тры дні. Ні немцаў, ні нават папер, напісаных па-нямецку, якія трэба было б перакласці, у лясгасе няма, а таму няма для

Міці занятку. Стала яму не выдзелілі, а толькі крэсла ў пакоі сакратарак. Становішча двухсэнсоўнае, а калі строга разбірацца, нават смешнае. Міця выходзіў у прыхожую, станавіўся ля акна і паціхеньку свістаў.

Гэты трохдзённы свіст вывеў нарэшце з раўнавагі Кашчэя — сапраўднае прозвішча галоўнага бухгалтара Мацыеўскі Зыгмунд Людвігавіч. Мацыеўскі рашуча выскачыў з бухгалтэрыі і, акінуўшы Міцю, які стаяў пры акне, нядобразычлівым позіркам, падаўся ў кабінет да Лагуты. Праз некалькі хвілін Міцю паклікалі туды.

— Зыгмунд Людвігавіч гаворыць праўду, вам няма чаго рабіць,— сказаў Лагута.— Таму пераводзім вас у касіры. Работы там нямнога, калі будуць нямецкія паперы ці што другое,— паможаце.

Назаўтра Міця прыняў касу. Былы касір Міша Сяўрук, хваравіта прыгожы, як намаляваны анёл, малады мужчына, пераводзіўся ў бухгалтары. Кашчэй выйграў — за кошт перакладчыка дабавіў у свой штат лішнюю адзінку.

Зрэшты, каса з яе асобным пакойчыкам — якраз тое, што трэба. Ніхто не будзе лішне віжаваць. У кутку, побач са сталом, вялізны жалезны сейф, ключы ад якога ў Міцевай кішэні. Праз закратаванае акно відаць шэрыя дрэвы маладога саду, кавалак чыгуначнага насыпу, чарапічны дах электрастанцыі.

У лясгасе, як і ў фінаддзеле, таксама робяць выгляд, што займаюцца справай. Лясніцтваў у валасцях, адкуль павыганялі паліцэйскіх і стараст, не існуе, яны пераехалі ў мястэчка, за выключэннем двух, размешчаных у Грамах і Палыкавічах — пры чыгунцы.

Міця сядзіць за сталом, глядзіць на шэрыя голыя яблыні, думае. Паўгода назад тут, у лясгасе, працавалі не толькі такія, як Хмяльніцкая. Машыністкай была Ліза Азяркова, бухгалтарам Палянская — местачковыя падпольшчыкі. Яны друкавалі лістоўкі, і тады летам, калі Міця сядзеў у турме, іх расстралялі.

Упершыню за паўтара года вайны Міця як бы адчуў пад нагамі цвёрды грунт. Усё пакрысе становіцца на сваё месца. Радасць, нецярплівае чаканне былі і мінулай зімой, калі дайшлі

весткі, што немцаў пагналі ад Масквы. Але ў той хуткаплыннай, нецярплівай радасці быў прымешак няўпэўненасці, бо тое, што здарылася, нагадвала цуд. Цудаў на свеце не бывае, думае Міця. За шчасце трэба заплаціць вялікай пакутай. За паўтара года вайны пакут хапіла ўдосталь. І найбольшы цуд тое, што не толькі немцаў стрымалі на ўсім велізарным фронце, а і зрабілі ім пастку, схапілі ў клешчы.

Учора Міцю трапіла ў рукі газетка, якая пачала выходзіць на рускай мове ў Мазыры. Са зводкі, якая там змешчана, нічога нельга зразумець. Пішуць, што немцы ў Сталінградзе, і ў той жа час паведамляюць, што баі ў вялікай злучыне Дона. Немцы самі ад сябе хаваюць праўду.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

### I

Атрад выступаў з Рагалёў. Доўгі абоз фурманак расцягнуўся на ўсю вуліцу. Мелася на ўвазе, што ўвесь гэты цуг не будзе заварочваць на Альхоў, бо пры пераходзе чыгункі магчымы непрыемнасці.

За тыдзень у атрад улілося болей як сорак чалавек. Разгром тутэйшых гарнізонаў як бы прабудзіў ад сну лясную, балотную Літвінаўшчыну.

Надвячоркам у Рагалі да Бондара прымчаліся на ўзмыленых конях камандзір дамачоўскага атрада Петравец і камісар Лісавенка. Дамачоўцы стаяць побач, у вёсцы Лазавіца. Абодва — Петравец і Лісавенка, ураджэнцы тутэйшых мясцін — пасля гібелі Шэлега прысланы на камандзірскія пасады з Акцябрскага раёна.

— Палавіна людзей не хоча ісці за Пціч,— сказаў разгублены Петравец.— Што рабіць?

Бондар задумаўся. І ў яго атрадзе нямала людзей з такім настроем. Толькі адкрыта не гавораць. Ніхто не хоча аддаляцца ад сям'і, над якой вісіць пагроза смерці. Зрэшты, яны і ў Альхоў заварочваюць, каб забраць сямейны лагер.

— Колькі іх? Трыццаць чалавек. Няхай астаюцца,— сказаў Бондар.— Мы ж за Пціччу сядзець не будзем. Дзейнічаць будзем тут. Прыйдзем і забяром.

— Дурні яны! Не разумеюць, што немцы вёскі папаляць і саміх знішчаць.

— Не дурні, Кірыла Пятровіч. Пастарайся іх зразумець. З сорак першага года хаваліся, таіліся, прыходзілі ў вёску толькі ноччу. На сваёй зямлі як зладзеі. А тут раптам — свабода. Ні немцаў, ні паліцаяў. Па праўдзе кажучы, мы ўсе тут павінны астацца. Другое дзела, што сіл малавата...

Назначыўшы за сябе Гервася, загадаўшы чакаць яго ў жарнавіцкім дубняку, дзе на кастрычніцкае свята вывешвалі сцяг, Бондар вырашыў заскочыць да бацькі. Старога не бачыў год. Летась у снежні, калі ён разам з Валодзем Шлегам, які загінуў у Літвінаве, хадзіў устанаўліваць сувязь з акцябрскімі партызанамі, далі круку, начавалі ў бацькі.

Паказваць дарогу напрасткі цераз лес падахвоціўся Грыцук. Асядлалі коней — Бондар браў з сабой невялікую ахову. Ужо калі сабраліся ехаць, да Бондара, які сядзеў у сядле, падскочыў невысокі чалавечак, працягнуў руку для прывітання.

— Бондар, я цябе ведаю. Мая фамілія Максімук. Ты вучыўся ў лясной школе, а я на аўтатрактарных курсах. Помніш, якіх людзей прымалі тады на курсы?

Максімук у парваным кажушку, у лапцях, без вінтоўкі. З ліку тых, што ў атрад прыбылі нядаўна.

— Потым пагаворым,— сказаў Бондар, кранаючы каня.

Максімук прыгадаў яму цікавую быль. На аўтатрактарныя курсы прымалі па накіраваннях калгасаў. Але ў Бацькавічах калгаса яшчэ не было. Дырэкцыя курсаў знайшла выйсце. На местачковых парканах, сценах хат паявілася такая аб’ява:

*«Грамадзяне мястэчка Бацькавічы мужчынскага і жаночага полу запрашаюцца на аўтатрактарныя курсы. Ад тых, хто хоча на курсы паступіць, патрабуецца прызнанне ўсеагульнай калектывізацыі на базе ліквідацыі кулака. Патрабуецца таксама сумленнасць і дысцыплінаванасць. Усіх астатніх, хто не мае такіх якасцей, просім не турбавацца.*

*Парторг аўтатрактарных курсаў А. Пугач».*

З дубняку выехалі на бярозавае ўзлессе, потым сцяжына павяла ўзбоч прамой, як страла, канавы, пракапанай экскаватарам. З абодвух бакоў яе цёмная сцяна балотнага алешніку.

— Мядзвёдка,— сказаў Грыцук.— Вядзе ў самыя Кавенькі.

Бондара ўзрушыла знаёмая назва. На Мядзвёдку дзецьмі хадзілі па ўюны. Тое, што родныя мясціны блізка, адчуваў ён увесь год, але на сцежкі далёкай маладосці ступаў як бы ўпершыню. Пагойдваўся ў сядле, думаў пра сябе, пра бацьку, пра трох братоў, якія, відаць, на фронце.

Яго маладосць была дзіўным часам. Шумела сходамі, спрэчкамі, людскім нездавальненнем. Яму падабалася быць на людных зборышчах, выказвацца, пераконваць другіх, нават выстаўляць сябе. Яму здавалася: тое, што адчуваў, у чым бачыў праўду, неабходнасць яе, павінны ведаць усе, павінны неадкладна зрабіць так, як адчуваў, хацеў ён, а не як-небудзь інакш.

Такіх, як ён, людзей асабліва заўважалі ў тыя бурныя, няўрымслівыя гады, што супалі з яго маладосцю. То быў час вялікага ўзрушэння мас, якія не маглі абысціся без правадыроў.

— Чаго ты носішся? — няўцямна пытаў бацька.— Як бы заўтра канец свету. Свет як стаяў, так і будзе стаяць. Ні за дзень, ні за год ты яго не пераробіш.

Ён не спрачаўся з бацькам. У бацькі было другое. Яго цалкам задавальняла прывычная вясковая будзённасць, якой ён аддаваўся з душой. З раніцы запрагаў каня, вазіў гной, араў, касіў, са смакам снедаў і абедаў. Усё жыццё бацька рабіў сумленна, дня не згуляў і нават, калі пайшоў у калгас, дзе было нямала беспарадкаў, нікольки не змяніўся. У калгасе не ўсе рабілі аднолькава, было нямала такіх, што ад цяжкай, надакучлівай работы адкручваліся, вілялі, выязджалі на поле тады, калі добрыя людзі збіраліся абедаць. Затое такія вельмі актыўна дралі горла на сходах, дамагаліся ад калгаса ўсялякіх даброт, скардзіліся, пагражалі, пісалі заявы. Бацька як бы не заўважаў нічога гэтага. Жыццёвы закон яго быў надзвычай цвёрды:

— Будзеш рабіць — будзеш жыць.

## II

Перад Кавенькамі выплыў з хмар на дзіва яркі паўкруг месяца, і шэра-серабрыстая светласць заліла наваколле. Вёску пакінулі справа і рушылі да мястэчка пнёўем-лядам. Бондар адчувае, як зноў ахоплівае душу ўзрушанасць. Сюды, на ляда, ганяў свіней, кароў, вадзіў на начлег коней, і хоць за дзесяць гадоў знаёмы абшар змяніўся, ён пазнае тут усё. З правага боку ад Кавенек, узбоч сыпанага шляху, чарада разгалістых ігруш-дзічак, далей — ледзь не да самага мястэчка, да яго першых сядзіб, якія некалі былі хутарамі, вузкая града сасняку. Злева — маўклівы паўкруг цёмных алешнікаў.

На яго памяці тут, дзе цяпер ляда і пнёўе, была дуброва. Басаногім бегаў ён сюды да пастухоў, якія за цёртую, украдзеную ў бацькі табаку паказвалі дуплы з галубамі. Тут восенню збіраў грыбы, жалуды, тут прайшло маленства.

Ён і цяпер памятае глеістую сцяжынку, па якой бегаў на ляда. У сухмень, калі доўга не было дажджу, зямля на ёй трэскалася, а ў непагадзь размоклы ад вільгаці глей угінаўся пад нагамі, злёгку падрыгваў.

Лядам коннікі рушылі да алешніку. Відаць усё як на далоні. Ціснучыся да лесу, выбраліся на самы яго край, адкуль віднеецца залінейная местачковая вуліца. Спешыліся, прывязалі да алешын коней.

Бацькаў двор трохі на ўскраі. Ссяленне яго не зачапіла, бо стаяў побач са шляхам. Чарнеюць тры вялізныя разгалістыя дубы. З-за іх палавіну агарода бацька не засявае — у цяню нічога не расце. Але дубоў не кранув. Сялян лічаць людзьмі практычнымі, разважлівымі, але гэта далёка не так, думае Бондар. Селянін можа трымаць карову, якая даўно запусцілася, год ці нават болей не дае малака. Будзе касіць ёй сена, карміць, даглядаць і нізавошта не збудзе на мяса, бо любіць, бо прывык. Так як бацька да гэтых дубоў.

Ім, партызанам, вяскоўцы памагаюць усім. Апранаюць, кормяць. Служаць вачамі і вушамі. І ні слова папроку...

Было гадзін дзесяць вечара. На станцыі, якая адсюль добра відаць, зыркі ланцуг агнёў.

— Вы аставайцеся, а я пайду,— сказаў Бондар.— Праз гадзіну вярнуся.

Грыцук запярэчыў:

— Не, камандзір, так нягожа. Першыя пойдзем мы. Абгледзім, абнюхаем. Ты пачакай. Калі будзе ціха, давай.

Ён згадзіўся. Стаяў і глядзеў, як крочаць па залітаму месячным святлом лядзе шэсць цёмных постацей. Хваляваўся. Спадыспаду душы ўсплывала горыч. Немцаў, паліцаяў з лясных і балотных сельсаветаў выкурылі, але ўсё адно ён не можа, як чалавек, зайсці ў бацькаву хату, пагаварыць, паляжаць на старой, знаёмай змалку, печы. Некалі тут, ля круга алешніку, стаяла хацінка хваравітага, маленькага ростам Дразда, а за дарогай, па якой вазілі з дальняга балота сена, яшчэ адна, дзе жыў чалавек, якога звалі Халімон. Суседзі былі трохі дзівакамі. Халімон не ўмеў чытаць, вельмі баяўся, калі ў хату прыносілі казённую паперу. У Дразда была жонка Гарпіна, мажная, страшэнна працавітая. Раззлаваўшыся, яна хапала мужа на рукі і несла ў Халімонаву студню тапіць... Дразды мелі адзіную дачку Надзю, равесніцу Бондара, тварам, ціхмяным характарам падобную на бацьку, але целам на маці. У сямнаццаць гадоў яна была як дарослая. У яго з Надзяй было некалі першае каханне.

Бліжэй да станцыі, на ўзболатку, стаяў зялёны, засаджаны дзічкамі двор старога Язэпа, мястэчковага грамацея, які яшчэ ў дзевяцьсот пятым годзе знаўся з сацыял-дэмакратамі, раскідваў лістоўкі. Гарпіна — Язэпава дачка.

Дзе цяпер Надзя, стары Язэп, Халімон? Ён нічога пра іх не ведае.

Калі ўдумацца, ён, Бондар, вырас на прыволлі, сярод цікавых людзей...

Мінула хвілін дваццаць. Было ціха. Ліў месяц сваё шчодрае святло. Бондар рушыў да бацькавай сядзібы. Калі ўвайшоў у сутачкі, якія вялі з двара на ляда, заўважыў постаць, якая прыліпла да тыну. Бацькаў двор хлопцы ахоўвалі.

Вароты зачынены — ён знайшоў засаўку, выбраўся на двор. Усё як і летась. Хлеў, пунька, невялікая паветка, прыбудаваная збоку. Садкі ў бацькі аж два — на левай і правай частцы сядзібы. Сабакі стары не трымае.

Бондар пастукаў у цёмную шыбіну акна. Спалі моцна, ніхто не заварушыўся. Тады ён дастаў з кішэні кажушка наганны патрончык. Металічны стук па шкле непрыемна рэзаў слух. Адразу ж у аконным праёме паўстала белая постаць.

— Хто там?

— Я, Павел,— сказаў Бондар, прыліпшы тварам да шыбіны.

Праз хвіліну зашаргала зашчапка ў сенечках. Бацька ў адной бялізне стаяў на парозе. Як бы анямеў — у першую хвіліну не мог прамовіць слова.

— Ты, сын? — нарэшце выдыхнуў.— Заходзь у хату.

— Адзенься, тата. Пагаворым адны.

Бондар чакаў нядоўга. Стары выйшаў у знаёмым з даўніх часоў кажушку, шапцы-аблавушцы, разлезлых валёнках.

— Здароў, сын.— Сказаў спакойна, працягнуў цвёрдую цёплую руку.— Значыцца, жывы?

— Жывы.

— Давай дзе стулімся. Віднота такая.

Зайшлі пад паветку, селі на бярозавы кругляк.

— Як ты тут? — спытаў Бондар.

— Жыву. Конік ніштаваты, сёлета пусціў у плуг. Той лашачок, пра якога табе летась казаў. Хлеб, бульба е. Свінючка гадуем.

— Вярнуўся, значыць, да аднаасобнага жыцця?

— Скажу табе, сын,— людзі зямлю, як некалі, не рвуць. Савецкая ўласць адвучыла. Бяруць па дзве ці па тры дзесяціны. Абы пражыць. Дый цягла няма.

— Немцы прыціскаюць?

— Пастаўку я здаў. Дзяруць, халеры. Дваццаць пудоў завёз. Трохі зямлі ўтаіў, а то б болей было. Ну, а ты як? — стары пры апошніх словах прыцішыў голас.

— У партызанах.

— Камандзірам?

— Камандзірам.

— Мне адзін чалавек як бы намякаў. Толькі я не стаў слухаць. Сказаў яму, што мае сыны ў арміі.

Бондар затрывожыўся:

— Які чалавек ?

— З тых сёл. Не ведаеш яго.

— Ты, бацька, гэтую самую лінію гні далей. Мяне ў цябе ніхто не бачыў. Немцы, сам разумееш...

— Немцаў і гэтых, каторыя ў іх служаць, чутно, з тых сёл прагналі. Сюды папрыбягалі.

— Мы прагналі,— сказаў Бондар.— З Зялёнай Буды, Літвінава, Піляціч.

— Вот яно як.— Стары як бы задумаўся.— А я пад вечар быў у мястэчку. Немцы на машынах саўсім у другі бок паехалі. На Сівалобы. На шашу, значыцца...

Бондар падхапіўся.

— Многа машын?

— Я не лічыў. Пяць ці шэсць. Дзве газагаратары, ці як іх. Што на дзераве едуць...

Варухнулася ў грудзях трывога. Здагадка ўзнікла імгненна — паехалі помсціць у Альхоў. Думку такую адганяў і не мог адагнаць.

— Пайду, бацька. Мяне чакаюць.

Стары не ўтрымліваў, але голас яго задрыжаў.

— Можа, возьмеш трохі харчоў? У нас усё е. Сала, мяса. За вайну я цябе, сын, ні разу днём не пабачыў.

— Нічога не трэба, бацька.

— Не, так нельга.— Голас у старога пацвярдзеў.— Пасядзі мінуту. Я зараз.

Матлянуўся па двары, ускочыў у сенцы. Вярнуўся, трымаючы пад пахай торбачку, а ў руцэ цемнаватую бутэльку.

— Вазьмі. Пагрэешся ў лесе. Свайго заводу гарэлка. А тут яблыкі. У тых сёлах яблыкаў няма...

Бондар праглынуў салёны камяк, прыхінуў да сябе лёгкае, выпетранае цела бацькі...

## III

Конная разведка, высланая з жарнавіцкага дубняку ў Альхоў, да самай вёскі не даехала, вярнулася са страшнай навіной. Альхоў, Цемраўшчызна, Лужкі — паселішчы, якія былі апорай гарбылёўскага атрада, спалены...

Бондар сабраў камандзіраў. Між голых шэрых дрэў цадзілася хмурае світанне. Калі раней заязджаць з абозам у

Альхоў не думалі, то цяпер маўкліва згадзіліся, што выйсця другога няма. Па лесе блукаюць галодныя пагарэльцы, і трэба хоць чым-небудзь ім памагчы.

Чыгунку пераязджалі днём, на глухім пераездзе ля Жарнавіц. З абодвух бакоў ад пераезда залягло па ўзводу. Гахнула некалькі выбухаў — падрыўнікі ўзрывалі рэйкі. З далёкай будкі застракатаў нямецкі кулямёт, але шкоды партызанам ён не прыносіў ніякай.

Ля чыгункі сумны, нязвычны малюнак. Лес з абодвух бакоў павален. Як бы хто прайшоўся тут з агромністай касой, адным узмахам вынішчыў дубы, сосны, бярозы, пакінуўшы пасля сябе нібы вымераную аршынам шырокую паласу, усцяж застаўленую нізкімі пеньчукамі. Гвалт над лесам кідаецца ў вочы. Ён як бы агаліў яму душу, і роўная, прамая сцяна, якая крута абрываецца, нагадвае рассечанае напалам цела.

Выслалі пярэдні і бакавыя дазоры, рухаліся марудна, насцярожана. Гэтак жа, як чыгунку, пераехалі шашу, узбіліся на прасёлкавую дарогу, якая вядзе на Альхоў. Ад шашы да ляснай вёскі — восем вёрст. Апошнія вёрсты здаліся асабліва пакутлівымі. Спыняліся, прыслухоўваліся. Ціха, глуха. Ні зыку, ні чалавечага голасу. Дазоры дасягнулі самога Альхова, але нічога падазронага не ўбачылі.

Першыя фурманкі ўжо выбраліся на паляну, за якой пачынаецца прасцяг вёскі, калі з густога алешніку аглушальна застракаталі аўтаматныя і кулямётныя чэргі. Шквал агню быў нечаканы і настолькі моцны, што ў адно імгненне партызанская калона рассеялася. Не памятаючы сябе, не слухаючы каманды, людзі беглі, паўзлі, стараючыся знайсці ўкрыццё за рэдкімі чэзлымі алешынамі, сасонкамі на супрацьлеглым баку дарогі. Дзіка ржалі, ламаючы аглоблі, коні. Яшчэ праз хвіліну доўгі цуг нямецкіх аўтаматчыкаў, страляючы на хаду, выскачыў на дарогу. Усё было скончана. Абоз — шэсцьдзясят фурманак — трапіў немцам...

Пастка, подлая пастка, думаў Бондар, поўнячыся бяссільнай злосцю, бегучы ўслед за разгубленымі, ахопленымі панікай людзьмі. Б’юць пад самае сэрца. Ведалі, што партызаны з’явяцца. Палавіна атрада — адсюль. Іграюць на сваяцкіх пачуццях. Спалілі і чакалі...

Калі ён выбег на голае замёрзлае балота, убачыў купкі партызан, якія спыніліся, не ведаючы, што рабіць, адразу прыйшла цвярозасць. Такі бой прайграць нельга, думаў ён. Тады канец атраду. Людзі не змогуць зірнуць адзін аднаму ў вочы. Немцаў пяць ці шэсць машын. Чалавек сто дваццаць. Можа, болей, калі падаслалі з Гарбылёў. Але ўсё адно даравацъ нельга...

Бондар азірнуўся, падняў аўтамат, зрабіў тры адзіночныя стрэлы. Стаяў, вярцеў самакрутку. Вакол кружком, гледзячы пад ногі, збіраліся партызаны.

Ён не стаў чакаць, пакуль збяруцца ўсе, стараючыся гаварыць спакойна, аддаваў каманды:

— Немцы ў Альхове. Першую роту павяду сам. Гервась ударыць з захаду. Бальшакоў ад чыгункі. Задача знішчыць нямецкі атрад, вызваліць абоз з прадуктамі. Яны — для нашых жонак і дзяцей. Атаку пачынаем у пяць ноль-ноль.— Бондар зірнуў на гадзіннік, павысіў голас да крыку: — Бягом!

За тыя паўтары гадзіны, якія былі ў іх распараджэнні, немцы паспелі перагрузіць паклажу з фурманак, дзе былі забітыя коні, на ўцалелыя, выгнаць на вясковы пляц з гушчару кароў, свіней і авечак, што паспелі захапіць, перад тым як спалілі вёску. Жыхароў, якія падтрымлівалі сувязь з бандытамі, расстралялі не ўсіх, большая палавіна ўцякла, і прычына тут у самой забудове вёскі. Хаты пры самым лесе, кругам — амфітэатрам, і каб ачапіць такое раскіданае паселішча, трэба не меней як батальён.

Нападу партызан немцы не чакалі, партызаны ўцяклі ў вялікай паніцы. Але салдаты ёсць салдаты. Пакуль у машынах праграваюцца настылыя за ноч маторы, пакуль выганяюць на дарогу кароў, заварочваюць фурманкі, кулямётчыкі і ўзвод аўтаматчыкаў на сваіх месцах...

Бондар, абышоўшы з першай ротай Альхоў злева, выскачыў на выстраеныя ў рэдкім бярэзніку грузавікі, якія ўжо вурчалі маторамі. Каля іх валтузяцца некалькі салдат-шафёраў, нецярпліва пахаджвае высокі танклявы афіцэр. Афіцэра Бондар скасіў аўтаматнай чаргой, ссек аднаго салдата, які кінуўся ўцякаць па агародзе. На дварах наўсцяж яшчэ дымяць

пажарышчы, стаяць чорныя, абвугленыя дрэвы, нялюдска вытыркаюцца закопчаныя печы.

З таго месца, дзе быў вясковы пляц, затахкаў буйнакаліберны нямецкі кулямёт, разанулі аўтаматныя чэргі, але страляніна ўсчалася ззаду за кулямётам і з боку дарогі — пачалі наступленне на Альхоў роты Гервася і Бальшакова.

Асноўная сіла немцаў была там, ля выезду на шашу, і туды, не прыгінаючыся, у поўны рост, на хаду змыкаючыся ў ланцуг, беглі роты Бондара і Гервася. Цяпер паніка ўсчалася ў немцаў. Ад машын іх адрэзалі ў першую хвіліну, партызаны насядалі з трох бакоў, і салдаты выскаквалі з-за дрэў, мітусіліся бязладным гуртам.

Немцы кінуліся на дарогу, пад кулямёты Бальшакова. Ашалелы, ахоплены страхам натоўп таяў на вачах, але ў лес не збочваў — ірваўся да шашы. Напярэймы адной такой групе з дзесяці — дванаццаці чалавек выскачылі партызаны, расстрэльвалі ва ўпор, білі прыкладамі. Усё было скончана за лічаныя хвіліны. Уцякло, пакінуўшы машыны, абоз, статак жывёлы, не болей узвода...

Але яшчэ на загадзя падрыхтаваных пазіцыях сядзелі кулямётчыкі і аўтаматчыкі, пакінутыя ў засадзе. Іх не чапалі да наступлення цемнаты. Падкрадваліся, закідвалі гранатамі. Як вялізныя факелы палалі ў цемені зрашэчаныя кулямі, падпаленыя машыны...

Бондар раздзяліў атрад і адбіты абоз на тры групы, з разлікам, каб яны памаглі пагарэльцам кожнай з трох вёсак. Роты і ўзводы раскідаліся. Людзей падбіралі, маючы на ўвазе, хто ў якой вёсцы мае радню.

Стаяла ўжо глухая ноч. Камандзіры — Бондар, Хмялеўскі, Бальшакоў — мокрыя, стомленыя да знемажэння, ішлі начаваць у сямейны лагер, пра існаванне якога ведалі ў атрадзе лічаныя людзі. Ішлі цёмнай сцяжынай між густога алешніку. Пачынаў падаць снег.

— Ты нічога не забыў, Павел Антонавіч? — спытаў раптам Хмялеўскі.

Бондар спыніўся.

— Здаецца, нічога. А што?

— Зірні на гадзіннік.

— Чорт тут убачыць. Здаецца, дзве гадзіны.

— Пачаўся год сорак трэці.

Ля цёмных, абкладзеных дзёрнам куранёў мужчын аклікнуў знаёмы жаночы голас:

— Хто ідзе?

— Свае.

Са змроку выступіла захінутая ў кажух постаць.

Пазналі па голасе: цётка Кацярына. Стаіць, апіраецца на вінтоўку, як на чапялу. Зараз жа побач са старой вырасла другая постаць, кінулася да Бондара:

— Павел, майго бацьку расстралялі...

Ён стаяў, маўчаў, гладзіў вузкія Гэліны плечы, якія раз-пораз уздрыгвалі.

Пагарэльцы з Альхова размясціліся людным табарам у густым зацішным чарналессі, недалёка ад спаленага паселішча. У вяскоўцаў сёё-тое ўцалела: капцы з бульбай, прысыпаныя зямлёй прыгрэбнікі, сена на балоце. Шмат хто паспеў выгнаць з хлявоў скаціну. Сцелецца па лесе дым з жардзяных, абкладзеных сенам, куранёў, рыкаюць прывязаныя да бярэзін каровы.

Сім-тым памагаюць партызаны. Цуг саней рушыў з раніцы па сена. Ротны Камар дарогі на балота не ведае, падводы пятляюць між кустоў па рэдкалессю. Снежны пакрыў неглыбокі. У некаторых мясцінах палазы прымінаюць шэрую выпетраную траву, густыя чубы якой вытыркаюцца з-пад снегу. На першых санях Мядзведзеў. Чуецца яго спалоханы крык:

— Стой!

Партызаны спынілі коней, рушылі да зялёнага ядлоўцавага куста, перад якім стаяць першыя сані. Падыходзілі, маўкліва здымалі шапкі. Пад кустом, прыціснуўшыся адно да другога, двое дзяцей у даматканых сялянскіх світках, лапціках. Адна галава павязана хусткай, другая ў вялікай чыгуначнай шапцы без казырка. Можна было б падумаць, што дзеці прыляглі, заснулі, каб не запарушаныя снегам, белыя, як крэйда, тварыкі...

Мужчыны маўчаць. Не ведаюць, што рабіць. У Камара, які стаіць побач з Мядзведзевым, раптам сталі дзіўна падгінацца

ногі, ён закалаціўся, упаў. Качаўся, біўся галавой аб дол, цела яго зводзілі сутаргі. На яго навалiліся, прыціснулі да зямлі, расцiралі снегам сіні нежывы твар...

* * *

Частка дамачоўскага атрада, якая за Пціч не рушыла, а засталася на Літвінаўшчыне, у межах Бацькавіцкага раёна, імкліва абрастае людзьмі. Было васямнаццаць чалавек — праз два тыдні стала сорак. Некаторыя прыходзяць самі, а некаторых трэба падштурхнуць...

На гладкіх паліцэйскіх конях у раскіданую, як бы пабітую на паасобныя хутаркі, вёску Разводы прыехалі Анкудовіч, Якубоўскі, Ключнік і яшчэ чалавек восем партызан. Хмурая зімовая раніца. Дым з комінаў сцелецца па зямлі — на непагоду. У голых шатах старых ліп, якімі атулена дарога, каркаюць вароны. І ў Разводах некалі быў памешчыцкі маёнтак — ад яго засталася чарада ліп ды некалькі напаўразбураных мураваных будынкаў, у якіх размяшчалася сядзіба МТС.

Партызаны саскочылі з коней перад новай, збудаванай з сасновага цёсу хатай, што стаіць у блізкім суседстве з былой эмтээсаўскай майстэрняй. Сляды недаробкі выразна відаць на гэтай паспешліва агледжанай хаце-пяцісценцы — палавіна даху пакрыта саломай, два акны ад дарогі забіты дошкамі.

Анкудовіч з Якубоўскім, загрукаўшы ботамі ў насцеж расчыненых сенечках, зайшлі ў хату. У печы палаюць дровы, перад чалеснікам расчырванелая, разгубленая гаспадыня з чапялой у руках.

— Дабрыдзень,— сказаў Анкудовіч.— Салам пахне. Ведалі, хто гасцей жджэ.

Жанчына разгубілася яшчэ болей.

— Сямёна няма. Вот перад вамі некуды выскачыў...

— Куды выскачыў?

— Сама не ведаю. Толечкі быў у хаце...

Анкудовіч пачырванеў, пераглянуўся з Якубоўскім. Сямён Гайчук, даваенны эмтээсаўскі кладаўшчык, з імі, партызанамі, меў хаўрус з вясны, яшчэ месяц назад абяцаў прыйсці ў атрад.

З печы на хату шугануў клуб сіняга дыму.

— Сала гарыць,— сказаў Анкудовіч.— Дрэнна, гаспадыня, прынімаеш гасцей...

— А божачка!..— жанчына выхапіла з печы ахопленую дымам скавародку, лінула ў яе вады.

— Сорамна, Аксіння! — гучна, як для глухой, прамовіў Анкудовіч.— Сала ты не нам, а Сямёну свайму шкварыла. Дома ён. Калі так, будзем шукаць...

Мужчыны рушылі ў чыстую палавіну хаты, і ў той жа час ледзь не пад іх нагамі паднялася маснічына. З падполля вылез гаспадар, шыракаплечы, шыракатвары мужчына, адводзячы позірк, сказаў:

— Даруйце, хлопцы. Думаў — паліцаі...

— Збірайся,— загадаў Анкудовіч.— Мы на двары пакурым...

## IV

Сіні зімовы змрок спускаўся над мястэчкам. Вецер гнаў па абледзянелай дарозе снежны пыл, свістаў у голых вяршалінах таполяў. Міця варочаўся з лясгаса нацянькі, праз гарадок. Ля будынка маслапрама яго аклікнуў высокі плячысты мужчына:

— Можна вас на хвіліну, малады чалавек?

Міця прыцішыў крок, чалавек пайшоў поруч.

— Маё прозвішча Андрыюк. Я бачыўся з Драгуном. Ён перадаў вам прывітанне...

Міця ўздрыгнуў. Андрыюка, галоўнага ўрача раённай бальніцы, Драгун пры сустрэчы ў лесе назваў у ліку чатырох, з кім трэба ўстанавіць сувязь. Але залішне неасцярожна раскрываецца незнаёмы доктар. Бярэ з месца ў кар’ер.

— А што, калі я не ведаю ніякага Драгуна,— сказаў Міця.

Урач сумеўся, збянтэжана прымоўк. Міцю стала яго шкада.

— Адкуль вы мяне ведаеце? — спытаў ён.

— Піліп Красней сказаў. Ён мне вас паказаў.

Міця супакоіўся. Напаўголаса размаўляючы, яны дайшлі да хаты, дзе жыве Аляксей Прымак, і павярнулі назад, на таполевую алею.

— З Драгуном я сустрэўся ў Дубровіцы,— гаворыць Андрыюк.— Тры дні назад. Ездзіў спецыяльна. Вельмі цяжка дастаць пропуск. Драгун назваў вас.

— Мне ён таксама вас называў,— раскрыўся нарэшце Міця.

Андрыюк — мужчына гадоў пад трыццаць, з буйнымі рысамі твару і, па ўсім відаць, рашучага характару. У душы Міцю прыемна, што з ім шукаюць сустрэчы, лічаць за роўнага такія вось людзі.

— Я з партызанамі працаваў мінулую зіму і вясну,— расказвае Андрыюк.— У вёсцы Рудня, у суседнім раёне. Вясной папаўся. Добрыя людзі памаглі перабрацца сюды. Даўно б быў у партызанах, ды грахі не пускаюць. На руках у жонкі грудное дзіця.

— Што гаварыў Драгун?

— Патрабуе забеспячэння партызан медыкаментамі, бінтамі. Іх я маю магчымасць даставаць. З нямецкім урачом адносіны добрыя. Але трэба грошы і сталая сувязь. Прадуманая арганізацыя, а не самадзейнасць. Інакш перахватаюць, як куранят. Сам вытыркацца з мястэчка не магу.

— Будзе сталая сувязь,— сказаў Міця.

Доктар на вачах пажвавеў. Усё-такі ён вельмі даверлівы. Перад Міцем як бы справаздачу трымае.

— Нас чацвёра. Раней верхаводзіў Драгун. Куніцкі, Шкірман, Красней — у «Заготжывёле». Кантора, можна лічыць, у нашых руках. Куніцкі — заатэхнік. Шкірман — ветэрынарны ўрач. Патрошку шкодзім. У кароў — яшчур, у авечак — матыліца. Я, між іншым, знаёмы з Крамерам. Лячу яго. Сэрца ў бургамістра няважнае...

Шнуравалі па зацішных алеях, дзе не віжуе чужое вока, гадзіны дзве. Жвавы высокі доктар Міцю падабаецца. І ў той жа час разумее Міця, чаму такі ўважлівы Андрыюк да яго. Прычына простая. Нітачка сувязі з лесам у іх, хлопцаў.

Развітваючыся, доктар спытаў:

— Значыць, у Сталінградзе кацёл?

— Кацёл,— пацвердзіў Міця.

Андрыюк задаволена пацёр рукі, ляпнуў Міцю па плячы, пакрочыў прэч.

## V

Сабраліся ў Прымака. Саша Плоткін адсутнічае — захварэў. Мікола хоча здавацца спакойным, але па тым, як нялоўка расшпільвае перашыты з шыняля лапсардак, як саслізгвае з гузікаў непрызвычаеная левая рука, відаць, што і ён хвалюецца. Нарэшце Мікола выцягнуў з патайной кішэні вырваны са школьнага сшытка лісток, працягнуў Міцю:

— Чытай!

Міця ўзяў спісаны чарнільным алоўкам лісток. Почырк разборлівы, выразны:

*Прысяга*

*Я, грамадзянін Савецкага Саюза (называецца прозвішча), 192.. года нараджэння, пражываючы ў мястэчку Бацькавічы, на часова захопленай нямецка-фашысцкімі акупантамі тэрыторыі, абяцаю верна, самааддана служыць сваёй сацыялістычнай Радзіме. Уступаючы ў рады групы УПРА Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі, абяцаю быць дысцыплінаваным, свята захоўваць ваенную тайну, добрасумленна, не шкадуючы ўласнага жыцця, выконваць загады сваіх камандзіраў і начальнікаў. Калі ж па слабасці ці па чыёй-небудзь злой волі я парушу дадзеную прысягу, выдам ворагу ваенную тайну, няхай пакарае мяне гнеў майго народа і Радзімы.*

Хлопцы прымоўклі.

— Кожнаму трэба прысягу перапісаць, паставіць поўнае прозвішча, дату, падпісацца,— сказаў Мікола.— Прыдумаць і паставіць у канцы клічку. Звесткі будзем даваць пад клічкамі.

— А што рабіць? — спытаў Лобік.

— Усё. Дэсантнікі — ваенная разведка. Мазурэнка сказаў, што галоўнае — чыгунка. Будзем лічыць эшалоны. Кожны дзень. Колькі прайшло на ўсход, на захад, што вязуць. Выяўляць воінскія часці. Калі не ўдасца даведацца пра нумар палка, то хоць нумар палявой пошты...

— Нас пяць чалавек,— запярэчыў Лобік.— Мала сіл. Трэба глядзець рэальна.

— Яшчэ не ўсё,— Мікола ўсміхнуўся.— Трэба збіраць нямецкія газеты, дакументы, пісьмы салдат, афіцэраў, распараджэнні нямецкай і мясцовай улады. Міну мне далі...

— Якую міну?

— Магнітную. Прыклейваецца да жалеза. Сказалі прыладзіць пад цыстэрну. Узрывальнік хімічны. Зработае праз дванаццаць гадзін.

Згушчаецца за акном вячэрняе сутонне. У Прымаковай хаце, апроч хлопцаў,— нікога. Аляксееў бацька, наглянцаваўшы боты, падаўся на прагулку, сястра ў сяброўкі, а маці кешкаецца ў хляве.

Лобік стаіць на сваім:

— Не здолеем ахапіць. Дэсантнікі не ўлічваюць абстаноўкі. Не былі тут, не ведаюць.

— Мазурэнка сказаў расшырыць арганізацыю. Браць праверанах. Уключаць у пяцёркі. Так, каб адзін другога не ведалі, а толькі таго, хто дае заданне.

Хлопцы маўчаць, задуменна ходзяць па хаце. Наступае новае. Ад гэтага і радасна, і трывожна. Да апошняга месяца, калі цвяроза глядзець, яны, местачковыя школьнікі, фактычна былі самадзейнай групай, якая час ад часу мела зносіны з партызанамі, са спецыяльна пакінутымі людзьмі. Ніці сувязі рваліся, аднаўляліся. Летам іх разбілі, прыдушылі, спатрэбілася амаль паўгода, каб зноў яны ўзнялі галаву. Імкнуліся ў лес, але іх пакінулі тут, у паліцэйскім кодле. Цяпер зачынаецца новы круг...

Мікола паведаміў:

— Ардынарцам у Мазурэнкі Міша. З Малкавіч. Вучыўся ў восьмым класе. Маленькі, чырвоненькі.

— Ведаю,— азваўся Лобік.— Ён быў у дзеда на кватэры.

Упоцемку, не запальваючы святла, хлопцы спрачаюцца, прыкідваюць, каго са знаёмых людзей можна прылучыць да патайной работы. Калі ўдумацца — людзі ёсць. Васіль Шарамет, які па заданню паступіў у паліцыю, група Андрыюка. На чыгунцы трэба не меней як тры чалавекі, але і там знойдуцца людзі. Цяжэй Міколу. Мазурэнка хоча, каб чыгуначныя зводкі паступалі кожныя два дні. У дэсантнікаў рацыя, і звесткі яны будуць перадаваць у Маскву.

Запаліўшы лямпу, накінуўшы на дзверы зашчапку, хлопцы паспешліва перапісалі прысягу, якая з гэтага вечара ўскладала на іх вялікія абавязкі. Мікола забраў лісткі, згарнуў, схаваў за пазуху...

## VI

У хаце Ніны Грушэўскай, якая жыве на Залінейнай вуліцы непадалёк ад Лобікавага дзеда, дзяўчаты наладзілі вечарынку. Запрасілі хлопцаў, наказалі прынесці гарэлкі.

Даўно не быў Міця на такім харошым, таварыскім зборышчы. Як бы вярнуўся, ажыў зноў дух даўніх, даваенных часоў з яго жартамі, лёгкасцю, прастатой. Хлопцы наперабой пакепліваюць адзін з другога, і мэта гэтых узаемных падколаў вельмі выразная — рассмяшыць дзяўчат. Так, усе яны — Міця, Лобік, Плоткін, выключаючы аднаго Прымака, кавалеры кепскія. Няўдачы ў справе, за якую ўзяліся мінулай зімой, нібы прыгнулі іх да зямлі, прыглушылі імпэт кавалерства, які толькі-толькі пачаў абуджацца.

А дзяўчаты пасталелі, папрыгажэлі. І гаспадыні добрыя. Разам з хлопцамі вучылі алгебру, геаметрыю, фізіку, але побач са школьнай ішла і чыста жаночая адукацыя, бо наварылі добрых халадцоў, кісялёў, насмажылі катлет, нашаткавалі вінегрэту.

Паўтара года вайна, а здаецца, прамінула вечнасць. Кожнаму з іх, хто сышоўся ў гэтай вялікай, пабудаванай на вясковы манер хаце, хутка па васямнаццаць. Лобіку, Веры, яшчэ двум-тром хлопцам і дзяўчатам трошкі болей. Добры дзень, паўналецце! Што здзейсніш ты з летуценняў, мараў, якія пеставаліся ў маладых сэрцах, куды выкіруеш жыццёвую дарогу? Цяжка гаварыць пра шчасце ў ваеннае ліхалецце, калі ліецца кроў, калі чалавечае жыццё так мала цэніцца. І што такое наогул шчасце? Для хлопцаў-дружбакоў, дый для ўсіх, хто сабраўся ў гэтай хаце-стадоле, яно ў тым, каб вярнулася былое, ранейшае, чым азорана іх школьная маладосць, іх пакуль яшчэ не багатае пройдзенымі дарогамі жыццё. Прыляцелі добрыя весткі з далёкай Волгі, і яны распрамілі плечы, зірнулі весялей на свет. Наступай, паўналецце!

Селі за стол, выпілі самагонкі, падфарбаванай вішнёвым сокам. Павесялелі, загаманілі. Побач з Міцем Вера, а насупраць, цераз стол, Сюзана. Вера, як толькі хлопцы гаманлівай талакой увалілiся ў хату, адразу штосьці адчула. Кідае дапытлівыя позіркі то на Міцю, то на Лобіка. Нарэшце схілілася да Міцевага вуха:

— Тоіцеся ад мяне... Ну, пачакайце...

Міця пацiснуў ёй локаць:

— Не тут, Вера. Пазней...

А Сюзана хмурыцца. На Міцю амаль не глядзіць. На яе прыгожым задуменным твары — ледзь прыкметныя вяснушкі. Увесь час як бы прыслухоўваецца Сюзана да чагосьці глыбока стоенага, схаванага ў самой сабе. Гэта яе пастаянны выраз. Пад шэрай вязанай кофтачкай — па-дзявочаму вострыя грудзі. За апошні час Сюзана яшчэ болей расцвіла. Цяпер, калі дзяўчына тут, блізка, Міцю зусім не хочацца думаць, што яна прахаджвалася з Цыбулькам, нічым не напамінала аб сабе і як бы забыла нават пра вечары, праведзеныя разам з ім, Міцем.

Дзяўчаты завялі патэфон. Сталы адсунулі бліжэй да сцяны. Пачаліся танцы. Танцаваць выйшлі ўсе — Лобік, Прымак, Плоткін. А Сюзаны сярод парачак, што мітусяцца па хаце, няма. Міця накінуў на плечы паліто, выскачыў на двор. Сюзана стаяла ля паркана, глядзела на цёмнае, занесенае снегам поле. Ён падышоў, стаў побач. Не згаварваючыся, яны павярнуліся адно да аднаго, і тады Міця, расхінуўшы паліто, прыцягнуў дзяўчыну да сябе. Яна прытулілася шчакой да яго шчакі. Ён адчуваў яе дыханне, цеплыню яе цела, яе ўсю, ціхую, падатлівую...

— Чаму ты не прыходзіў? — шапнула яна.

— Ведаеш сама...

— Прыйдзі заўтра. Мама пойдзе на дзяжурства.

— Прыйду.

Між імі дваімі нічога не змянілася. Пачыналася ранейшае.

Патэфоннай музыкі праз двайныя вокны не чуваць, і выдыбанні парачак па хаце адсюль, знадворку, здаюцца няўклюднымі і смешнымі.

## VII

Як абухом ударыла па мястэчку нечаканая навіна: памочнік бургамістра Лубан, намеснік начальніка паліцыі Гадун, дарожны майстар Адамчук, начальнік мясцпрама Тоўсцік, начальнік пажарнай аховы Альшэўскі ўцяклі мінулай ноччу ў партызаны. Сем'і пакінулі ў мястэчку. Лубан прыхваціў з сабой толькі старэйшую, сямнаццацігадовую дачку Валю. З паліцэйскага арсенала знікла два кулямёты і больш за два дзясяткі вінтовак.

Ніхто нічога не мог зразумець: тыя, што ўцяклі ў лес, у партызаны, фактычна зачыналі нямецкую ўладу...

Аўгуст Эрнэставіч цяжка захварэў. Гарыць як у агні. Валяецца ў пасцелі тыдзень. Штодня завітвае малады ўвішны доктар Андрыюк, кладзе на галаву, на грудзі халодныя кампрэсы, дае піць парашкі. Збляднелая, змізарнелая Гертруда Паўлаўна ходзіць на дыбачках.

На восьмы дзень стала лягчэй. Аўгуст Эрнэставіч пахадзіў па пакоі, пастаяў ля акна, назіраючы, як намятае вецер ля дашчанага паркана вялізную, з вострымі скатамі, гурбу. Але днём пазванілі з жандармерыі, і з Аўгустам Эрнэставічам здарыўся сардэчны прыпадак...

Вечарам прыйшоў у проведы млынар Забела, і хворы загадаў яго пусціць да сябе. Млынар жахнуўся: твар у бургамістра васкова-жоўты, без крывінкі, як у мерцвяка.

— Іх расстралялі ўсіх,— выдыхнуў бургамістр.— Жонак, малых дзяцей.

— Чыіх? — не зразумеў Забела.

— Гэтых, каторыя паўцякалі. Учора ноччу. Лубан прыслаў мне запіску. Прасіў абараніць сем'і. Але што я магу зрабіць? Іх трымалі заложнікамі. Думалі, вернуцца тыя...

Анямелы млынар слова не можа прамовіць.

— Я слабы і дурны,— ледзь варушачы губамі, цягнуў бургамістр.— Пражыў сярод гэтых людзей жыццё і нічога не зразумеў...

На жоўтую шчаку скацілася слязіна.

Млынар, уздыхаючы, выціраючы хустачкай узмакрэлы лоб, пасядзеў, памаўчаў. Нерашуча падняўся. На развітанне зашаптаў:

— Яўрэйку з хлопчыкам да Краснея перавялі. Я так думаю, што ў гэтага зуха доўга яны не пасядзяць. У лес сплавіць...

— Няхай жыве,— бургамістр працягнуў млынару кволую халодную руку.

## VIII

Надзя Амельчанка, якая пасля літвінаўскага бою суправаджала фурманкі з параненымі партызанамі за Пціч, вярнулася з чатырма хлопцамі ў альхоўскі лес, прынесла пакет ад Вакуленкі. Ён паведамляў, што асноўныя атрады Палесся, Гомельшчыны, Міншчыны сабраліся ў выдзеленую зону, стварыўшы суцэльны партызанскі край.

Асобна Вакуленка прыпісаў, што з Масквы прылятае даваенны сакратар абкама Лаўрыновіч, спецыяльна адкліканы з арміі. Намячалася стварэнне падпольнага абкама, аб'яднанага камандавання партызанскімі сіламі.

Надвячоркам атрад рушыў з альхоўскага лесу. Калона расцягнулася болей як на вярсту. На фурманках сядзелі захутаныя жанчыны, дзеці, ішлі ўслед прывязаныя да саней каровы.

Бондар стаяў узбоч дарогі, маўклівым позіркам праводзіў доўгі пярэсты ланцуг. Наперадзе была дальняя, занесеная снегам дарога, неразагнаныя нямецкія гарнізоны. Што ж, няхай. У людзях, якія праходзілі міма цяжкім стомленым крокам, можна было не сумнявацца.

# САСНА, ЯЕ СІМВАЛІЧНЫ КОД І СТАНАЎЛЕННЕ РАМАННАГА МЫСЛЕННЯ І. НАВУМЕНКІ

Першыя два раманы ваеннай трылогіі І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», выдадзеныя ў 1962 і 1967 гадах, атрымалі ў савецкім літаратуразнаўстве і крытыцы вельмі шырокі і шматлікі рэзананс і розгалас. Іх з’яўленне ў беларускай прозе 1960-х гадоў сталася значнай мастацкай з’явай, таму кожны даследчык літаратуры, закранаючы той ці іншы аспект развіцця беларускай прозы ХХ стагоддзя, не мог абмінуць ідэйна-эстэтычных і мастацка-этычных вартасцей і дасягненняў трылогіі І. Навуменкі. А звярталіся да разгляду раманаў пісьменніка такія слынныя літаратуразнаўцы і майстры прыгожага пісьменства, як А. Адамовіч, А. Аўчарэнка, С. Андраюк, П. Васючэнка, Д. Бугаёў, С. Букчын, П. Дзюбайла, Н. Гілевіч, У. Гніламёдаў, В. Жураўлёў, В. Каваленка, Ф. Куляшоў, М. Лазарук, С. Лаўшук, Я. Лецка, А. Лойка, А. Марціновіч, М. Няхай, Ю. Пшыркоў, Л. Сінькова, М. Тычына, У. Юрэвіч, І. Шамякін, Т. Шамякіна, А. Яскевіч і цэлая кагорта іншых не менш аўтарытэтных знаўцаў мастацка-літаратурнага працэсу.

Вялікую ўвагу разгляду раманаў удзялілі літаратуразнаўцы Г. Сіненка (у манаграфіі «Іван Навуменка: Нарыс творчасці», 1981) і Л. Піскун (у манаграфіі «Іван Навуменка», 1997), Д. Бугаёў (у двухтомным вучэбным дапаможніку для філалагічных факультэтаў пад назвай: «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры», 1982) і П. Васючэнка (у акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры ХХ ст.: У 4-х тамах 6-ці кн.», Т. 3, 2001).

Хоць гэта і гучыць банальна, але з гэтым нельга не пагадзіцца — кожнага пісьменніка нараджае свая эпоха, а фармуе асаблівая атмасфера ўспрыняцця праўды жыцця і гісторыі. І. Навуменка

належыць да тых пісьменнікаў (В. Быкаў, І. Шамякін, А. Адамовіч, І. Чыгрынаў), якія стала, упэўнена і магутна ўвайшлі ў нацыянальны літаратурны працэс у гады пасля XX з'езда КПСС, у гэтак званы перыяд «хрушчоўскай адлігі», у часы дэмакратызацыі сацыяльна-палітычнай сістэмы савецкай дзяржавы, калі адбываўся працэс змякчэння ідэалагічна-дзяржаўнага прэса ў сістэме кіравання палітыкай і мастацтвам.

І сваёй творчасцю гэтыя майстры слова змаглі прывіць нацыянальнай самасвядомасці новы, больш гуманны код разумення праўды, ісціны і справядлівасці. І асабліва гэта выявілася праз адлюстраванне ў іх творах падзей Вялікай Айчыннай вайны, удзельнікамі і сведкамі якой яны былі і якая шмат у чым стала «момантам ісціны» не толькі для іх саміх, але і для цэлага народа, народа — пераможцы.

Таму нельга не пагадзіцца з першай найбольш сур'ёзнай ацэнкай рамана І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», зробленай А. Адамовічам у «Гісторыі беларускай літаратуры ў двух тамах» (1966), дзе акадэмічны літаратуразнаўца слушна зазначае: «Пісьменнік старанна малюе сам «вобраз часу». І гэта вельмі паказальна: строга рэальная праўда аб Айчыннай вайне пачынае панаваць нават у творах пісьменнікаў з вельмі рамантычнай манерай пісьма. Вядома, такі напрамак паказу Айчыннай вайны не адзіна магчымы, але ён у другой палавіне 50 — пачатку 60-х гадоў стаў асабліва характэрны. І гэта, безумоўна, звязана з агульнай тэндэнцыяй нашага мастацтва, якое больш пачало разумець героіку і рамантыку рэальных спраў, рэальных падзей, больш цаніць паэзію праўды, няхай суровай, жорсткай, але перш за ўсё праўды»[1].

Блізкае па сэнсе, але больш паэтычнае выказванне па гэтым самым пытанні выказаў блізкі сябар і паплечнік І. Навуменкі А. Лойка, які вельмі ўдала вызначыў жыццёва-мастацкую вартасць яго твораў, а таксама асаблівасці часу, у якім яму давялося тварыць.

«Ды кожны пісьменнік, відаць, тым ужо шчаслівы, што ён пэўным чынам можа спыніць яго, зафіксаваўшы ў слове, адлюстраваўшы ў слове. Адлюстраванне ж часу — гэта далучэнне да гісторыі, да жыцця народа, да гісторыі народа. І калі я думаю пра Навуменку-мастака, то думаю, што яго лёс у літаратуры якраз шчаслівы і тым, што з-пад яго пяра выйшла і яркае адлюстраванне

---

[1] Адамовіч, А. Літаратура на сучасным этапе / А. Адамовіч // Гісторыя беларускай літаратуры: у 2 т.— Мінск, 1966.— Т. 2.— С. 117.

партызанскіх адысей ягоных сямнаццацігадовых равеснікаў, з-пад таго ж пяра затым разгарнулася мастацкая эпапея ўсенароднай партызанскай барацьбы на Палессі — «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», і што ў цэлым шляхамі духоўнасці пісьменнік намагаўся весці ўсіх сваіх станоўчых герояў шматлікіх аповесцей, кожны з якіх па-свойму крыху Лабановіч, толькі што ў іншым часе, на новых кругах жыцця народнага. А мэтай, звышзадачай мастака ці ж можа быць якая іншая, як гэтая — мэта далучэння да жыцця народнага»[1].

Вось гэтая звышмэта «далучэння да жыцця народнага» для пісьменнікаў як крытычнага, так і сацыялістычнага рэалізму была найважнейшым паказчыкам вышыні іх мастацкага таленту. Амаль кожны даследчык, які далучаўся да аналізу творчасці І. Навуменкі пры разглядзе яго ваеннай трылогіі так ці інакш закранаў праблему гарманічнай спалучанасці ў яго раманах тэмы індывідуальнага і народнага. Спашлёмся на адно з такіх выказванняў:

«І. Навуменка ў раманах «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», стварыўшы прывабныя вобразы маладых падпольшчыкаў, паказаў нялёгкія шляхі моладзі да барацьбы з моцным ворагам, раскрыў псіхалагічны стан насельніцтва акупіраванай Беларусі, гатовага да барацьбы, намаляваў цікавыя характары юных падпольшчыкаў і партызан. Раманы І. Навуменкі захапляюць тым, што дзейнасць яго герояў як малодшага, так і старэйшага ўзросту мае глыбокія вытокі ў народнай глебе. Гэта дапамагае ім выстаяць у цяжкіх нягодах, як дапамагаюць сасне трымацца на моцных вятрах яе карані»[2].

У шматлікіх крытычных і літаратуразнаўчых працах, якія з’явіліся пасля выхаду раманаў, даволі падрабязна і грунтоўна разглядалася іх тэматыка і праблематыка, стылістыка, паэтыка, аналізавалася спецыфіка творча-ідэйных, эстэтычна-мастацкіх і духоўна-маральных здабыткаў і дасягненняў раманнага мыслення І. Навуменкі. Кожны з даследчыкаў імкнуўся раскрыць свой пункт бачання той ці іншай праблемы, вобраза, дэталі мастацка-канцэптуальнай сістэмы і структуры творчай індывідуальнасці і майстэрства празаіка.

---

[1] Лойка, А. Запрашэнне да трох соснаў / А. Лойка // Маладосць.— 1985.— № 2.— С. 161.

[2] Каваленка, В. З пазіцыі сучаснасці / В. Каваленка.— Мінск, 1975.— С. 145.

Трэба зазначыць, што найбольшая ўвага і зацікаўленасць у гэтых даследаваннях выпала на цэнтральны вобраз-сімвал твораў — вобраз сасны, які і стаў тым контрапунктным канцэптам мастацкай сістэмы навуменкаўскай трылогіі ў раскрыцці ідэйна-мастацкай «звышзадачы». Прасачыўшы лінію раскрыцця даследчыкамі гэтага вобраза, мы ў нейкай ступені і зможам больш-менш поўна вызначыць ідэйна-эстэтычную і сімволіка-вобразную сістэму мастацкай тканіны раманаў І. Навуменкі.

Адзін з першых водгукаў на выхад рамана «Сасна пры дарозе» зрабіла крытык В. Крышталь, якую мы ўжо адзначалі ў першым томе Збору твораў, дзе казалася пра тое, што даследчыца адной з першых адклікнулася рэцэнзіяй на апавядальную творчасць І. Навуменкі. Таксама аператыўна адгукнулася яна і на першы раман пісьменніка. У сваёй лімаўскай публікацыі яна адзначала: «Раман «Сасна пры дарозе» — сведчанне ўзросшага майстэрства пісьменніка, узмужнеласці яго таленту. Шліфуецца яго ўласны, індывідуальны стыль, адточваецца манера пісьма — яркага, простага, эмацыянальна напружанага, псіхалагічна аб’ёмнага… А вобраз сасны пры дарозе, магутнай і нязломнай, непадуладнай жыццёвым бурам і нягодам, вырастае ў сімвал непахіснасці Радзімы»[1]. Вобраз сасны як сімвал Радзімы стаў пазнавальным у айчынным літаратуразнаўстве ў дачыненні да творчай спадчыны І. Навуменкі.

Спакваля, ад адной публікацыі да другой, з кожнай новай інтэрпрэтацыяй вобраз-сімвал сасны ўсё больш і больш паглыбляўся і пашыраўся, з’яўляліся новыя ўдакладненні і тлумачэнні таго ці іншага ракурсу сімвалічнасці яго значэння. У красавіцкім нумары за 1963 год у часопісе «Полымя» выйшла разгорнутае даследаванне рамана «Сасна пры дарозе» вядомага філолага Ф. Куляшова пад назвай «Усё адолее чалавек», у якім вобразу сасны адводзіцца цэлы падраздзел. Аўтар артыкула дае пашыраную трактоўку створанаму пісьменнікам звышсімвалу.

«Гэты вобраз яшчэ раз узнікае на апошніх старонках рамана. Узнікне — і выкліча ў памяці лермантаўскую сасну. Гэта вобразы-сёстры. Але там, у Лермантава, сасна да канца астаецца ўвасабленнем трагізму цэлага пакалення, асуджанага на адзіноту і гібенне з-за немагчымасці дзейнічаць, змагацца, тут, у рамане, сас-

---

[1] Крышталь, В. Суровыя шляхі юнацтва / В. Крышталь // ЛіМ.— 1963.— 20 жніўня.— С. 3.

на — лірычны сімвал непераможнасці людзей, што сцвярджаюць на зямлі хараство жыцця і разумныя чалавечыя адносіны»[1].

Крыху пазней, у сваёй звыклай манеры, паэтычна-ўзнёсла інтэрпрэтуе вобраз сасны ўжо А. Лойка:

«А для яго найсвятлей — ад сасонкі, што як залатая струна, між зямлёй і небам, як прамень, падобны на сонечны, толькі не з нябёс, а з нізі — з ліловых верасоў, духмяністага багульніку, розназялёных імшанікаў… Сасна як сама краса, як мара, як дрэва вечназялёнага жыцця і месца, твайго жыцця,— дрэва твайго лёсу…»[2].

Не застаўся па-за ўвагай вобраз сасны і ў літаратуразнаўчым дыскурсе акадэміка В. Каваленкі, які ў сваёй манаграфіі «Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры» (1981) дае наступную ёй характарыстыку: «Ёсць у рамане І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» вобраз адзінокай сасны пры дарозе, які вынесены ў загаловак твора. Няцяжка здагадацца, што пісьменнік у вобразе адзінокага дрэва на ветраных шляхах абагульняе вельмі многае: гэта перш за ўсё родная зямля, яе незайздросны ў мінулым лёс, небяспечнае становішча на ваенных еўрапейскіх раздарожжах, яе вынослівасць, укаранеласць, моц, хоць сасна не расце даўно і не дае патомства. Можна сказаць нават, што апісанне сасны пры дарозе — своеасаблівая прытча пра сціплую мужнасць чалавека і ўсяго народа»[3].

У дадзенай інтэрпрэтацыі вобраза сасны нам падаецца цікавай яшчэ адна дэталь у раскрыцці сімволікі вобраза, якая называецца даследчыкам В. Каваленкам, але застаецца ім нерасшыфраванай, гэта тое, што сасна «не дае патомства». Нам думаецца, што сутнасць такой праявы заключаецца не толькі ў тым, што сасна знаходзіцца на бойкім месцы і яе насенне хутка вытоптваецца прахожымі і гіне, як нас хоча пераканаць аўтар рамана.

Справа, відаць, крыху ў іншым. Пісьменнік завуалявана хоча давесці нам, што кожны чалавек заўсёды знаходзіцца ў стане адзіноты пры абавязковай задачы выбару сваёй дарогі ў жыцці, і дарога гэта патрэбная для таго, каб стаць сапраўдным чалавекам,

---

[1] Куляшоў, Ф. Усё адолее чалавек / Ф. Куляшоў // Полымя.— 1963.— № 4.— С. 156.

[2] Лойка, А. Запрашэнне да трох соснаў / А. Лойка // Маладосць.— 1985.— № 2.— С. 161.

[3] Каваленка, В. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры / В. Каваленка.— Мінск, 1981.— С. 308.

таму павінна выбірацца толькі ім самім. Як у раслінным, гэтак і ў жывёльным свеце нельга спадзявацца толькі на волю інстынкту — насення.

Чалавек пераважна творыць сябе ўнутранай працай над сабой, таму перадаць свой вопыт можа толькі апасродкавана, і толькі таму, хто захоча прарабіць такую самую духоўную ўнутраную работу над сабой. Вось чаму заўсёды складаней наступнаму пакаленню ўзняцца на вышыню духоўна-энергетычнага напалу, пасля тых суровых выпрабаванняў, якія выпалі папярэднікам. У гэтым шмат у чым і схаваны псіхалагічны механізм канфлікту бацькоў і дзяцей, канфлікт пакаленняў.

Вельмі праніклівa-аналітычна падышоў да вывучэння сімвалічнага зместу вобраза сасны яшчэ даволі малады, але даравіты літаратуразнаўца Р. Дубашынскі, які ў сваім артыкуле «Дрэва як канцэпт у ваеннай трылогіі Івана Навуменкі» выводзіць вобраз сасны на больш высокі літаратуразнаўчы ўзровень тлумачэння: «Вылучэнне ў назвах першых двух раманаў канцэпту сасны ўжо сведчыць пра тое, што ён нясе больш глыбокую сэнсавую нагрузку. Гэта вобраз-сімвал, які перарастае ў вобраз-архетып, уключаецца ў сістэму іншых канцэптаў. Тут мы мусім гаварыць менавіта пра сістэму, адзінкі якой злучаныя трывалымі канцэптуальнымі сувязямі…

Сасна пры дарозе — адпраўны пункт і ў той жа час цэнтральная кропка, вакол якой рухаецца дзеянне. Гэта адмысловы ўказальнік, што накіроўвае думку чытача на шлях пошуку адказаў на пытанні, пастаўленыя пісьменнікам у творы»[1]. На гэтым даволі панарамным аглядзе вобраза-сімвала сасны мы спыняемся, каб закрануць іншыя аспекты праблем паэтыкі і тэксталогіі раманных твораў І. Навуменкі.

Так, у адным з першых грунтоўных разглядаў рамана «Сасна пры дарозе» слынны літаратуразнаўца Ф. Куляшоў у артыкуле «Усё адолее чалавек» выказаў свежую і эмацыйна-суб’ектыўную думку-рэакцыю на выхад твора: «Да гэтага часу пісьменніка добра ведалі — і ў нас, і далёка за межамі рэспублікі — як навеліста. Цяпер ён выступіў у новым для яго жанры — апублікаваў раман «Сасна пры дарозе». Раман гэты, безумоўна, добры. Ён настолькі

---

[1] Дубашынскі, Р. Дрэва як канцэпт у ваеннай трылогіі Івана Навуменкі / Р. Дубашынскі // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі: матэрыялы навук канф.— Мінск, 2006.— С. 101—102.

цікавы па сваёй тэме і добры па мастацкаму майстэрству, што яго можна і трэба паставіць побач з «Людзьмі на балоце», непасрэдна ўслед за імі»[1].

Далей аўтар артыкула прыводзіць бясспрэчныя доказы навізны і актуальнасці твора. «Падзеі вайны ў рамане асэнсаваны аўтарам па-сучаснаму, творча, смела, без замоўчвання праўды… Філасофска-гістарычнае асэнсаванне вайны, мастацкае абагульненне жыцця і барацьбы беларускага народа ў дні вайны робіцца ў творы на вопыце жыцця і барацьбы «мірных» жыхароў невялікага населенага пункта. Вялікае ў малым, узвышанае ў штодзённым — вось што раскрыта пісьменнікам у «Сасне пры дарозе». Гістарычную праўду пра людзей і падзеі Іван Навуменка ўваскрашае ў рамане без шаблону, без надакучлівай устарэлай сацыялагічнай схемы»[2].

Не магла схавацца ад пільнага вока высокакваліфікаванага знаўцы літаратуры і такая адметнасць рамана пісьменніка: «Іван Навуменка — пісьменнік лірычнага складу. Лірычную ўсхваляванасць раману надае аўтарская суб’ектыўнасць у добрым сэнсе слова, зацікаўленая ўсхваляванасць мастака, які блізка да сэрца бярэ ўсё, пра што расказвае»[3]. Далей, разважаючы на гэту тэму, Ф. Куляшоў дадае: «Тое, што не змяшчаецца ў рамкі сюжэта, робіцца зместам аўтарскіх лірычных адступленняў, шчырага сардэчнага роздуму»[4].

На адметнасці мастацка-жанравай і стылявой танальнасці раманаў І. Навуменкі звярнуў сваю ўвагу і ўдумлівы літаратуразнаўца П. Дзюбайла ў сваім артыкуле «Адзінства і разнастайнасць», надрукаваным у часопісе «Полымя» за 1973 год.

Ён сцвярджае, што «пісьменнік прыйшоў у літаратуру як апавядальнік з моцным лірычным светаадчуваннем, лірычным мастацкім бачаннем і ўспрыманнем. Аднак зварот да буйных эпічных жанраў (раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах») зрабіў уплыў і на агульную танальнасць яго твораў. У раманах І. Навуменкі пачала ярка праяўляцца агульная стылявая заканамернасць,

---

[1] Куляшоў, Ф. Усё адолее чалавек / Ф. Куляшоў // Полымя.— 1963.— № 4.— С. 156.

[2] Тамсама. С. 157.

[3] Тамсама. С. 167.

[4] Тамсама.

характэрная для рэалістычна-аналітычнага напрамку»[1]. Далей аўтар аналітычнага артыкула робіць зусім лагічную, з яго гледзішча, выснову: «Так, патрабаванні эпічнага ўвасаблення шырокага жыццёвага матэрыялу ў жанры рамана паўплывалі і на стыль І. Навуменкі: лірычна-эмацыянальная стыхія тут толькі час ад часу прабіваецца праз рэалістычна-дакладную, рэалістычна-аналітычную плынь апавядання»[2]. На нашу ж думку, у дадзеным заключэнні П. К. Дзюбайлы ўтрымліваецца крыху звужаны і аднабаковы погляд на агульную стратэгію раманнай задумы аўтара, бо не ўлічаныя ідэйна-філасофскі, светапоглядны і светасузіральны аспекты канцэптуальна-вобразнай сістэмы пісьменніка. Думаецца, больш правільным было б сцвярджаць, што ў першых двух раманах І. Навуменкі ідзе дыялектычная ўзаемазвязанасць эпічна-аналітычнага пачатку жанрава-раманнай зададзенасці твора з суб'ектыўным лірычна-эмацыйным прынцыпам жыццяўспрыняцця і мыслення галоўнага героя рамана, сямнаццацігадовага юнака, вачыма, душой і сэрцам якога мы і аглядаем мастацкі свет раманаў.

Можна салідарызавацца з выказваннем даследчыка В. Атрашкевіча, зробленым ім у часопісе «Полымя» № 10 за 1981 год. Літаратуразнаўца, разглядаючы ідэйна-мастацкі кантэкст рамана І. Навуменкі «Смутак белых начэй», робіць наступнае выказванне: «Крытыка ўжо адзначала, што гэтым раманам («Смутак белых начэй» *І. Шал.*) пісьменнік імкнуўся пераадолець моцны лірычны струмень сваіх твораў і трылогіі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» і паступова ўзысці на шлях рэалістычна-аналітычнага адлюстравання жыцця»[3].

Хацелася б толькі зазначыць на гэты конт, што спадзяванні крытыкаў засталіся дарэмнымі. Такі маштабны твор апошніх гадоў жыцця І. Навуменкі як трылогія «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва» — паказальны для гэтага доказ.

Кожнаму пісьменніку заўсёды важна і вельмі неабходна знайсці тую адзіную і найбольш адпаведную яго ўнутранаму складу мыслення, а таксама самому аб'екту даследавання структуру, форму выяўлення назапашанага факталагічнага матэрыялу. Патрабавальна-

[1] Дзюбайла, П. Адзінства і разнастайнасць / П. Дзюбайла // Полымя.— 1973.— № 1.— С. 194.

[2] Тамсама. С. 195.

[3] Атрашкевіч, В. ...І была вайна / В. Атрашкевіч // Полымя.— 1981.— № 10.— С. 227—228.

му і ашчаднаму да мастацкага слова пісьменніку (якім і быў І. Навуменка, у чым мы цалкам пераканаліся, папрацаваўшы ў працэсе тэксталагічнага даследавання яго творчасці над ягонымі рукапісамі і машынапісамі) заўжды даводзіцца траціць шмат энергіі як на пошук і адбор залацінак жыццёва-факталагічнага матэрыялу, так і на выпрацоўку мастацка-эстэтычнай формы.

Дыялектычная гармонія ўзаемадзеяння паміж гэтымі дзвюма велічынямі часта вырашальным чынам вызначае змястоўную і ідэйную сілу твора, глыбіню яго праўдзівасці і паўнавартаснасці. Для пісьменнікаў, якія асабіста перажылі падзеі апошняй сусветнай вайны, уласны вопыт мае вялікае значэнне, сама іх біяграфія шмат у чым успрымалася і ўспрымаецца як цікавая і павучальная кніга падзей і фактаў, на якіх галаграмна адлюстраваліся адбіткі і водбліскі той пагранічна жорсткай эпохі жыцця і быцця чалавека.

Тая акалічнасць, што І. Навуменка даволі позна (амаль у 30 гадоў.— *І. Шал.*) увайшоў у літаратурна-мастацкае жыццё, можа казаць толькі пра тое, што тыя падзеі і факты яго ваеннага жыцця, якія доўга, дзень за днём і год за годам выношваліся, назапашваліся і адкладваліся ў глыбінях памяці і сэрца аўтара, падштурхоўвалі яго да найбольш прыдатнай і вельмі сугучнай рэальнай прыродзе саміх фактаў мастацка-жанравай апавядальнай формы выяўлення, заснаванай на моцным фундаменце аўтабіяграфізму.

Пэўна, не дарэмна многія літаратуразнаўцы і крытыкі пры выяўленні тэматычных і ідэйна-мастацкіх асаблівасцей раманаў І. Навуменкі вызначалі іх аўтабіяграфічны і амаль дакументальны выток задумы. Прывядзём для пацвярджэння змястоўна выверaную думку акадэміка В. А. Каваленкі:

«Іван Навуменка — адзін з тых празаікаў Беларусі, у творчасці якога прынцып біяграфізму выяўлены вельмі моцна, але не прама, а па-мастацку апасродкавана. Гэта азначае, што далёка не ўсе сюжэтныя эпізоды і лініі апавяданняў, аповесцей і раманаў звязаны быційна з рэальнымі перыпетыямі яго ўласнага лёсу. Аўтабіяграфічныя рысы перадаюцца больш за ўсё праз вернасць памяці, праз вернасць душэўнаму вопыту, вынесенаму з юнацкіх і маладых гадоў»[1]. У больш шырокі план з творчасцю І. Навуменкі праблему біяграфізму ўводзіць А. Лойка, які даводзіць наступнае:

---

[1] Каваленка В. І радасць, і смутак, і боль... / В. Каваленка. // Навуменка, І.— Выбраныя творы ў двух тамах.— Мінск, 1995— Т. 1.— С. 7.

«Наша беларуская проза, можа, як ніякая іншая, у сваіх першаасновах, пачынаючы ад Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, відавочна, аўтабіяграфічная. Але, відаць, яшчэ шырэй увідавочыць яе біяграфізм, дазволіць больш пільны аналіз прозы Івана Навуменкі»[1].

Для больш паглыбленага і сур'ёзнага разумення ўплыву паняццяў біяграфізму, факталагізму і праблемы прататыпаў у раманнай творчасці І. Навуменкі звернемся да даволі вострай палемікі 60-х гадоў XX стагоддзя. Так, у калектыўнай манаграфіі «Праблемы сучаснай беларускай прозы» (1967) у раздзеле «Праўда характару» літаратуразнаўца П. К. Дзюбайла, аналізуючы галоўных герояў рамана «Сасна пры дарозе» Сцяпана і Міцю Птахаў, бацьку і сына, зусім слушна зазначае: «Ваенныя абставіны былі няўмольнымі да характару, да логікі яго развіцця, свабоды праяўлення. У жорсткай барацьбе гераічны характар адстойваў сваё права быць самім сабой, развівацца ў адпаведнасці са сваёй сутнасцю»[2].

Вось гэтая «адпаведнасць сваёй сутнасці» і ўтрымліваецца на логіцы паказу чалавека ў яго канкрэтнасці і агульнасці. Вельмі цікавымі падаюцца ў гэтым даследаванні развагі і назіранні П. Дзюбайлы над спрэчкай, якая ўзнікла на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» ў 1964 годзе паміж І. Навуменкам і В. Каваленкам наконт праблемы факта і жыццёвых прататыпаў у стварэнні пастацку яркіх, пераканальна праўдзівых літаратурных вобразаў. Коратка перададзім сутнасць спрэчкі паміж двума таленавітымі літаратуразнаўцамі.

І. Навуменка ў дыскусіі аб беларускім рамане даводзіць: «Ці не залішне мы прывязваем мастацкія характары да жывых рэальных прататыпаў, калі пішам свае кнігі?» І далей, развіваючы сваю думку, ён сцвярджае: «Наўрад ці існавалі калі-небудзь як рэальныя жывыя людзі Гамлет і Дон-Жуан, Абломаў і Анна Карэніна. Вобразы гэтыя нарадзіліся дзякуючы магутнай фантазіі іх творцаў. І яны жывуць у вяках»[3].

---

[1] Лойка, А. Запрашэнне да трох соснаў / А. Лойка // Маладосць.— 1985.— № 2.— С. 163.

[2] Дзюбайла, П. Праўда характару / П. Дзюбайла // Праблемы сучаснай беларускай прозы / П. Дзюбайла, В. Жураўлёў, М. Луфераў.— Мінск, 1976.— С. 118.

[3] Навуменка, І. Радасць поўная і няпоўная / І. Навуменка // ЛіМ.— 1964.— 28 ліпеня.— С. 1.

З выказваннем І. Навуменкі рашуча не пагадзіўся В. Каваленка, які выказаў наступныя меркаванні: «Тут зноў прыніжаецца жыццёвая першааснова твора. І не толькі прыніжаецца. Пра яе тут зусім забыліся. Аказваецца, гэтыя класічныя вобразы жывуць у вяках толькі таму, што іх нарадзіла магутная фантазія, а не жыццё. Не ведаю, як хто іншы, а я ўсе пералічаныя І. Навуменкам вобразы ўспрымаю не як вытвор фантазіі, а перш за ўсё як параджэнне жыцця. Інакш наўрад ці жылі б яны ў вяках»[1].

Рэзюміруючы палемічныя выказванні двух даследчыкаў, П. Дзюбайла зусім справядліва даводзіць свой досвед па дадзеным пытанні: «І. Навуменка слушна выступае супраць натуралістычнай прыземленасці, рабскага капіравання фактаў рэчаіснасці, няўмення вытлумачыць з'явы і характары з жыцця. Галоўную бяду сучаснай беларускай літаратуры ён бачыць у тым, што героі многіх твораў дужа цесна прывязаны да рэальных фактаў, сваіх прататыпаў. Аднак, на нашу думку, не менш небяспечна і другое — адрыў ад фактаў рэчаіснасці, адвольнае схематычнае канструяванне, станоўчых і адмоўных герояў, такое абагульненне, якое не вынікае з індывідуальна канкрэтнага, жыццёва непаўторнага»[2].

Гэтая лімаўская спрэчка-палеміка яскрава высвеціла адну з асноўных праблем раманнага мыслення і структуравання, якая была вельмі актуальна для беларускай прозы 60-х гадоў XX стагоддзя. І. Навуменка як літаратуразнаўца і творца-раманіст выразна бачыў хібы і недахопы тагачаснай прозы, таму так абвострана-палемічна і ўздымаў пытанне аб залішняй прывязанасці беларускіх празаікаў да глебы апісальнай факталагічнасці, спрошчанай хранікальнасці, суб'ектыўнай аўтабіяграфічнасці. У сваёй творчай рэалізацыі сам ён усяляк імкнуўся паглыбіцца ў працэс псіхалагічнай і стылявой «хімізацыі» мастацкай прасторы, які б дапамагаў уздымаць будзённую, бытавую канкрэтнасць у сферу агульнай логікі духу эпохі пры раскрыцці вобразаў і характараў ствараемых ім герояў і мастацкіх калізій.

Мастацкая літаратура стварае свет, вобразы якога па вызначэнні не могуць суадносіцца да наўпроставага ўспрыняцця яго як аб'ектыўнай рэчаіснасці. Мастацкае слова — гэта такі знак, які на ўзроўні прагматыкі становіцца найперш камунікатыўным знакам, які

---

[1] Каваленка, В. Удакладнім пазіцыі / В. Каваленка // ЛіМ.— 1964.— 22 верасня.— С. 2.

[2] Дзюбайла, П. Праўда характару.— С. 108.

маркіруе ці абазначае менавіта адсутнасць «сапраўднага аб'екта», які неадольна патрабуе свайго «напаўнення», ці інакш кажучы, чакае працэсу першаадкрыцця сябе праз новую інтэрпрэтацыю.

Рэальнае і ідэальнае, канкрэтнае і агульнае, праўдзівае і выдуманае, рэчаіснасць і фантазія ў творчасці І. Навуменкі заўсёды імкнуліся да дыялагічнай узаемасувязі і гармоніі. Сам аўтар у адным са шматлікіх сваіх інтэрв'ю зазначаў: «Лічу, што пісьменніка нараджае зямля, паветра, мясцовасць, з якой ён звязаны душой і целам. Карацей кажучы, гэта трохі нешта незразумелае, нездарма часта гавораць: яго пяром вадзіў Бог. Там жа маса ўсякіх псіхалагічных момантаў»[1].

Мастацкі аўтабіяграфізм для сваёй рэалістычнай манеры пісання І. Навуменка ўспрымае як арганічную і разам з тым псіхалагічна вельмі складаную здольнасць мастака ўлаўліваць дыялектычную раўнавагу паміж «глебай факта» і «небам вымыслу і фантазіі». «Факты фактамі, іх я трымаўся, але і прыдумляў таксама. Побач з фактамі нямала і фантазіі, выдумкі. Факты нічога не азначаюць, усё роўна трэба інтуіцыя, каб адчуць, што, як… Трэба адчуць дух часу. Калі гаварыць пра вайну, то дух часу я адчуваў па месяцах»[2].

Вось гэты ўнутраны генератар, факталагічна-псіхалагічны «згустак-нарыў» амаль храналагічнага адчування духу часу ваеннай пары і пазначае асноўную матывацыйную зададзенасць напісання ваенных раманаў пісьменнікам. Астатнія імпульсы-штуршкі: «Да рамана мяне падштурхнуў Алесь Адамовіч, у якога падобная да маёй біяграфія. Ён напісаў раман «Война под крышами». Я прачытаў і падумаў: дык мне ж таксама ёсць пра што расказаць»[3]. Ці ўзяць хоць бы сюжэтна-фабульны пошук жанравай формы выяўлення назапашанага ваеннага матэрыялу.

«Ну, вось «Сасна пры дарозе». Я пісаў апавяданні і думаў, што буду апавядальнікам. Пачаў апавяданне «Будка № 16». Я і ў будцы ніколі не жыў, гэта выдумка, але яна мне падабалася, таксама як і сасна, якой я любаваўся, ходзячы ў грыбы. І я пачаў апавяданне пра тое, што сядзіць у будцы хлопец, патрыёт, можа быць, я сам,

---

[1] Навуменка, І. Усякаму пакаленню трэба баявая справа... / І. Навуменка // Пошук вядзе ў глыбіню: літаратурна-крытычныя артыкулы. Старонкі інтэрв'ю. Публікацыі / М. У. Мікуліч.— Гродна, 1998.— С. 61.

[2] Тамсама. С. 58.

[3] Тамсама. С. 59.

двайнік мой. Напісаў старонак сорак, бачу, не змяшчаецца ўвесь матэрыял. Распірае апавяданне. Тады вырашыў, што будзе аповесць.

Пачаў далей раскручваць падзеі, гляджу — атрымліваецца большы твор, чым аповесць. Паехаў у Дубулты (гэта пісьменніцкі дом адпачынку, размешчаны ў Латвіі), і там прыйшла ў галаву думка: напішу пра бургамістра, нямецкую ўладу. (Між іншым у машынапісным варыянце рамана «Сасна пры дарозе» ў яго канцы пазначаная дата заканчэння твора — Мінск — Дубауты — Каралішчавічы. Люты 1959 — Красавік 1962.— *І. Шал.*)

Вось гэты вобраз даў майму твору раманнае дыханне. Вобраз чалавека, які хацеў прымірыць розныя сілы і зрабіў у гэтых адносінах вельмі многа. Пасля вайны яго знайшлі дзесьці ў Польшчы ці Германіі, вярнулі, судзілі. Далі параўнаўча невялікі тэрмін. Больш за тое, на гэтую пасаду яго прызначылі нашы, толькі вакольнымі шляхамі. Параіў яго немцам чалавек, якога пакінулі пры адступленні. Творы набывалі раманнае дыханне»[1].

Гэтыя ўнутраныя і знешнія штуршкі-кліканні — толькі каталізатары глыбіннага бурлення магмы, назапашанай лавы-матэрыялу, якая чакала свайго часу, каб магутным выбухам вырвацца на паверхню. Аповед аўтара пра гісторыю напісання першага рамана дае нам магчымасць больш выразна і падрабязна прасачыць таксама нашу пошукава-тэксталагічную працу па аналізе напісання рамана «Сасна пры дарозе».

У музеі-архіве БДАМЛіМ у фондзе № 37 вопіс — 1, дзе захоўваюцца матэрыялы І. Я. Навуменкі, мы знаходзім машынапісны ліст, з пачаткам апавядання пад назвай «Сосна у шлагбаума» на рускай мове. Поўны тэкст гэтага апавядання выйшаў у часопісе «Вопросы литературы» № 5 за 1978 год. Прывядзём гэты невялічкі адрывак з тэксту: «Это была обыкновенная сторожевая будка, каких по две и по три на перегонах от одной железнодорожной станции к другой. В таких до войны жили сторожа переездов, путевые обходчики, ремонтные рабочие и прочий причастный к службе пути люд.

Моя находилась примерно в полутора километрах на запад от большого, вытянутого с юга на север деревянного местечка, возле полевого, никем не охраняемого переезда на двухколейной железнодорожной магистрали Гомель — Брест. Рядом с чугункой, то отдаляясь от нее, то приближаясь, лежал пыльный песчаный шлях.

---

[1] Навуменка, І. Усякаму пакаленню трэба баявая справа... — С. 60.

Между шляхом и железнодорожной насыпью, на маленьком пригорке росла сосна — приметная, с раскидистой, пышной кроной.

Моей в прямом смысле будка никогда не была: я родился и вырос в местечке, ни в этой, ни в другой будке не жил. Но отец был железнодорожник, да и сам я работал на каникулах в ремонтной бригаде подсобником. Так что имел достаточное представление о жизни железнодорожников. Но дело не в этом.

У каждого есть свои заветные места: речка, околица за деревней, бор. В местечке речки, к сожалению, не было, ее босоногой ребятне заменял лес. С раннего детства я привык странствовать по лесу, собирая грибы, забредал далеко. Когда возвращался домой, с того места, где стояла будка, сосна, местечко казалось удивительно красивым. Повитое тонкой синеватой дымкой, укрытое садами, деревьями, оно напоминало зеленый остров среди золотистого ржаного разлива. Войну встретил шестнадцатилетним десятиклассником и уже через две недели после ее начала в том самом лесу, где собирал грибы, участвовал в поимке парашютистов. Хорошо, что десант оказался красноармейским, его ошибочно высадили с самолетов на еще не занятой территории»[1].

Як бачым з прыведзенага тэксту, унутраны маналог героя, пачатага апавядання ўтрымлівае магутную энергетыку аўтабіяграфізму, якая амаль набліжаная да формы аўтабіяграфіі. Для нас гэты невялічкі тэкст больш цікавы тым, што ў ім мы знаходзім важнейшыя сэнсавыя і вобразныя дэталі і сімвалы, якія маюць дачыненне да сюжэтнай і ідэйна-вобразнай сістэмы рамана «Сасна пры дарозе». Перш за ўсё гэта вобраз-сімвал сасны.

У тым жа фондзе № 37, вопіс 1, справа 12 мы знаходзім урыўкі машынапісу, дзе на першай старонцы напісана: «Аповесць. Частка першая. Адзінота». І мы зараз прывядзём толькі невялікі ўрывак тэксту першай старонкі гэтага машынапісу: «Бацьку Максім сказаў праўду. А наогул ён быў зацяты хлопец і сваімі планамі, і жыццёвымі разлікамі не дзяліўся ні з кім. Магчыма, на яго характары пакінула свой след ранняе калецтва, жыццё наводшыбе. Таго, што называецца залатым дзяцінствам з яго гульнямі, шумлівай бегатнёй, бесклапотнасцю ў Максіма не было. Як памятае сябе, ён заўсёды пасвіў карову. Сцяпан Шнык пастухоў не наймаў, хапала іх і дома. Не магло быць у Максіма і сяброўства са сваімі меншымі

[1] БДАМЛМ. Ф. 37. Воп. 1. Спр. 14.

братамі і сёстрамі. Ён канчаў дзесяцігодку, а яны хадзілі толькі ў пяты, трэці і першы класы.

Вучыўся Максім добра, праяўляючы асабістую схільнасць да матэматыкі і фізікі. У класе, за вочы, яго звалі Баўком. Для такой клічкі былі свае падставы. На рэпетыцыях, шумных класных сходках, рэдкалегіях Максім не аставаўся і свой грамадскі твар выявіў менш, чым другія. Але ніхто не ведаў, які вялікі летуценнік Максім Шнык, як высока сягаюць яго стоеныя думкі і мары. Пра сёе-тое некаторыя пачалі здагадвацца толькі ў дзясятым класе.

Нечакана для ўсіх па поспеху ў навуках ён вырваўся на першае месца, ведучы цвёрдую лінію на атэстат выдатніка. Таго самага Шныка, якога ў мінулым зрэдку пахвальвалі толькі фізік з матэматыкам, раптам пачалі ўзносіць да неба як першага вучня ўсе настаўнікі, што выкладалі ў дзясятым класе. У яго выявіўся адметны і вобразны стыль ва ўкладаннях, шырэйшае, чым у падручніку, кола ведаў па геалогіі і астраноміі і нават самы большы запас нямецкіх слоў. Многія здзівіліся, калі Максім, бліскуча вытрымаўшы экзамены, першы ўзяў з рук дырэктара атэстат, які па тым даваенным часе даваў яму вельмі вялікія правы. І здзівіліся яшчэ болей, калі даведаліся, што Шнык паслаў дакументы ў авіябудаўнічы інстытут.

Людзі наогул любяць здзіўляцца… Сябраваў ён па-сапраўднаму толькі з адным хлопцам — Міцем Амельчанкам, і сяброўства гэтае зачалося тут, паблізу ад будкі і сасны — на ўзлессі, куды і местачкоўцы, і Максім ганялі кароў на пашу. Міця перайшоў у тое лета ў восьмы клас, Максім — у сёмы. Абодва, прыгнаўшы кароў, уткнуліся ў кнігі, і гэта выклікала ўзаемацікавасць. Меў Міця душу шчырую, адкрытую і зблізіліся яны хутка, за два ці тры дні. Потым не маглі адзін без другога жыць.

Яны ведалі адзін пра аднаго ўсё, хоць вялікіх таямніц пакуль што і не было: пагадзіліся на тым, які настаўнік добры, а які горшы, хто з пісьменнікаў ім найбольш падабаецца. Калі ж лета мінула і пачаліся заняткі, Міця амаль кожны выхадны, у нядзелю, прыходзіў да Максіма. Яны да ночы блукалі па лесе, палохалі вавёрак і размаўлялі. Пра што могуць гаварыць двое хлопцаў-школьнікаў, якія ў жыцці яшчэ нічога не бачылі, але ўжо стаяць на парозе яго прывабных, неразгаданых даляў?..

Пра кнігі, пра знаёмых сваіх, такіх жа як і самі яны, падлеткаў, пра свае, няхай сабе невялікія здзяйсненні. Калі пасля дзявятага

класа яго сябар паслаў дакументы ў Адэсу, у марское вучылішча, Міця любіў шырыню, прастор, Максім не здзівіўся з яго выбару. Ён толькі засумаваў. Ірвалася нешта вельмі дарагое ў жыцці. Ён аставаўся адзін»[1].

З прыведзенага ўрыўка мы бачым, што першапачаткова свайго галоўнага героя аўтар хацеў назваць Максімам Шныкам, а бліжэйшага сябра Міцем Амельчанкам. У тэксце раманаў «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах» галоўным героем становіцца Міця Птах, які на год маладзей за сваіх лепшых таварышаў Івана Лобіка, Нупрэя Гіля. У рамане таксама сябруе з Міцем Птахам былы яго аднакласнік Сяргей Амельчанка.

Выпісаны ў прыведзеным урыўку з мяркуемай аўтарам аповесці вобраз Максіма Шныка ўжо вельмі блізкі па духу вобразу раманнага Міці Птаха. Максім Шнык выдатнік вучобы, вялікі кніжнік, натура летуценная, на фарміраванне яго характару зрабіла вялікі ўплыў таксама і «ранняе калецтва, і жыццё на водшыбе».

Разам з аўтабіяграфізмам у мастацкай прасторы І. Навуменкі вельмі блізка судакранаецца прыём дакументалізму. Пра гэта адкрыта гаворыць і сам пісьменнік: «Я заўсёды трымаўся дакументальнага, таго, у чым сам удзельнічаў, ці чаго быў сведкам, што бачыў і чуў асабіста. Я ведаю, што яно было, але вельмі важным з’яўляецца, як яно было. Гэта трэба яшчэ раскрыць, «хімію» гэтага «было» трэба яшчэ здабыць»[2].

Жыццёвая праўдзівасць, у нечым нават факталагічная празрыстасць мастацкага аповеду ў раманах І. Навуменкі дае выразную арыенціроўку ў пошуку і знаходжанні прататыпаў герояў рамана, у распазнанні апісанай геаграфічнай мясцовасці, а таксама ў вызначэнні жыццёвага ці гістарычнага факта, які лёг у аснову той ці іншай сюжэтна-мастацкай карціны жыцця.

Так, праз прыём аўтабіяграфізму мы выразна адчуваем, што ў працэсе «мастацкай хімізацыі» за вобразам галоўнага героя раманаў Міцем Птахам паўстае асоба самога аўтара Івана Навуменкі, а за любімым яму паселішчам Бацькавічы вымалёўваюцца родныя і блізкія яму Васілевічы.

Даследчыкі творчасці пісьменніка У. П. Каваленка, З. В. Жалезка, В. А. Сяргеева паспрабавалі вывесці пэўную адпаведнасць падзей і герояў раманаў з рэальнымі падзеямі, якія адбываліся ў

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 37. Воп. 1. Спр. 12.

[2] Навуменка, І. Усякаму пакаленню трэба баявая справа… — С. 62.

родным пісьменніку мястэчку Васілевічы. У сваім даследаванні «Гістарычная аснова ваеннай трылогіі Івана Навуменкі: прататыпы герояў» мясцовы краязнаўца, настаўніца гісторыі Васілевіцкай СШ В. Сяргеева змагла даволі пераканальна суаднесці біяграфіі герояў твораў з іх рэальнымі прататыпамі жыхароў Васілевіч.

Так, у вобразе Сцяпана Птаха мы знаходзім рысы бацькі пісьменніка — Навуменкі Якава Піліпавіча. І далей паводле аналогіі: Сяргей Амельчанка — Белы Анісім, Нупрэй Гіль — Ануфрый Брэль, Іван Лобік — Іван Доўжык, Мікола Цябут — Белы Мікалай, Базыль Вілюга — Васенда Аляксандр, Драгун Васіль — Драпеза Даніїл Паўлавіч, Шкірман — Горбар Кастусь Васільевіч, Аляксей Прымак — Пінчук Мікалай Трафімавіч, Андрыюк — Казюк Віктар Адамавіч, Вера — Навуменка Кацярына Васільеўна, Надзя Амельчанка — Лаўшук Анастасія Іванаўна, Міхась Ключнік — Міхась Іванавіч Кучараў, Марыя Іванаўна — Кулевіч Ганна Уладзіміраўна, Шэлег Іван Пракопавіч — Астапенка Ціхан Мінавіч, Азяркова Людміла Сяргееўна — Курганская Любоў Пятроўна, Азяркова Ліза — Мілановіч Ларыса Віктараўна, Дзянісава Надзея — Трафімава Надзея Канстанцінаўна, лейтэнант Якубоўскі — Смерцін Сямён Агеевіч, Аўгуст Эрнэставіч Крамер — Фрыдрых Карлавіч Іонас, Плішчынскі — Янчынскі Яўген Арсеньевіч, Касарэвіч — Стахневіч.

Да гэтых пар вобразаў-прататыпаў, магчыма, трэба было б дадаць яшчэ некалькі выразных герояў ваеннай трылогіі. Так за раманным вобразам камандзіра акцябрскіх партызан Вакуленкі праглядваецца асоба Героя Савецкага Саюза — Паўлоўскага Фёдара Іларыёнавіча, а за вобразам «шчуплаватага Сямёна Грынько» бачыцца прататып партызанскага камандзіра Сямёна Васільевіча Маханька.

Гэта мы з поўнай упэўненасцю можам сцвярджаць, бо ў фондзе № 37, вопіс 1, справа 14 знаходзяцца рукапісныя і машынапісныя матэрыялы, дзе на с. 218 (240) ідзе наступны тэкст: «Бондар стаіць за спіной роўнага яму па росту шчуплаватага Сямёна Маханька (ён тут замяняе камандзіра Паўлоўскага)»[1]. А яшчэ на с. 219 таго ж фонда знаходзім невялікі тэкст, які перадае сапраўдныя прозвішчы камандзіраў атрадаў, якія ўдзельнічалі ў лістападзе 1942 года ў гістарычнай і геранчнай партызанскай аперацыі па падрыве чыгуначнага 135-метровага маста праз раку Пціч.

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 37. Воп. 1. Спр. 14. С. 218.

«Атрады Бумажкова, Папругі, Паўлоўскага, Бондара, Далідовіча, Патрына, Сталярова, Вежнаўца, Балотнікава… ва ўдарную групу… з боку Жыткавіч выдзяляецца атрад Пакуша, з боку Калінкавіч — Ахраменкі, Сарафанава, Міхайлоўскага, Чарнышова»[1]. Сярод імён партызанскіх камандзіраў хацелася б выдзеліць прозвішча Бумажкова Макара Піменавіча, брата Героя Савецкага Саюза Бумажкова Ціхана Піменавіча, аднаго з пачынальнікаў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі.

Цікава, што некаторых персанажаў твораў І. Навуменка свядома не называе, а толькі бегла згадвае іх дзейнасць у гады вайны. Так, за тэкстам рамана «Сасна пры дарозе»: «Праз шум, трэск, выццё пачуўся знаёмы голас: «Говорит Москва!..» Вера прымасцілася на ніжняй прыступцы, надзела навушнікі, і яе аловак торапка забегаў па сшытку, пакладзеным на калені. Міця адчуў, што вочы наліліся слязьмі»[2],— мы можам ідэнтыфікаваць знакамітага дыктара Саўінфармбюро Юрыя Барысавіча Левітана.

Можна ўзяць яшчэ для прыкладу такі эпізод з рамана «Вецер у соснах»: «Аперацыя незвычайная. Нездарма тут, у лясной казарме-стадоле, чарнявы невысокі сакратар ЦК камсамола рэспублікі, які прыляцеў з Масквы…»[3],— дзе за кароткім паведамленнем і апісаннем знешнасці персанажа чытач павінен, калі ён цікаўны, вызначыць вобраз Кірылы Трафімавіча Мазурава. У раманах існуе цэлая галерэя і іншых герояў твора, якія маюць пэўную суаднесенасць са сваімі рэальнымі прататыпамі. Гэта — Эрна Турбіна, Фрыц Зонемахер, капітан Бондар і інш.

У мастацкую прастору раманаў І. Навуменкі побач з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, фактамі, тапанімічнымі назвамі, якія пранізваюць усю сюжэтна-фабульную канву твораў (якіх змрочных і балючых эмацыйна-псіхалагічных перажыванняў каштуе маладым падпольшчыкам кожнае паведамленне аб захопе нямецка-фашысцкімі акупантамі савецкіх гарадоў) арганічна ўплеценая створаная празаікам падзейна-сюжэтная структура твора, яго мастацкая дынаміка і тапаграфія.

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 37. Воп. 1. Спр. 14. С. 219.

[2] Навуменка, І. Зб. тв.: у 6 т. / І. Навуменка.— Мінск, 1982.— Т. 3.— С. 228.

[3] Навуменка, І. Зб. тв.: у 6 т. / І. Навуменка.— Мінск, 1983.— Т. 4.— С. 240.

Так, у раманах назвам родных Васілевіч і навакольных вёсак, а таксама Калінкавіч, Хойнік аўтар даў іншыя назвы, у той самы час вёскам Акцябршчыны пісьменнік захаваў іх сапраўдныя назвы — Ламавічы, Парэчча, Рудабелка, Карпілаўка, Рудня. Усё гэта давала магчымасць пісьменніку праз дыялектычны механізм сінтэзу рэальна-існуючага з уяўна-выдуманым ствараць мастацкую паўнавартаснасць праўды і ісціны жыцця.

Аднак пісьменнік заўсёды імкнуўся захаваць дыстанцыю «залатога сячэння» паміж ісцінай рэальнага факта і мастацкай праўдай адлюстравання, глыбока разумеючы іх філігранную ўзаемазалежнасць і іх хісткую раўнавагу.

У працэсе тэксталагічнай працы над першымі раманамі І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах» намі быў прааналізаваны вялікі матэрыял, які знаходзіцца ў архіўным фондзе БДАМЛМ. Так, у архіве ў фондзе № 37 захоўваюцца дакументы асабістага архіва І. Навуменкі. Мы працавалі над частковымі рукапіснымі матэрыяламі абодвух першых ваенных раманаў трылогіі.

Іх расчытанне дазволіла зрабіць выснову, што значных змен у сюжэтна-фабульнай і вобразнай сістэме машынапіснага матэрыялу рамана «Сасна пры дарозе», які захоўваецца ў фондзе часопіса «Маладосць», не выяўлена. Машынапіснага тэксту рамана «Вецер у соснах» знайсці не ўдалося.

У працэсе працы над томам, пры зверцы розных выданняў раманаў, мы адзначаем тое, што аўтар амаль у кожнае выданне ўносіў тыя ці іншыя праўкі, увесь час жыў у клопаце паляпшэння сваіх твораў. Зверка тэксту рамана «Сасна пры дарозе», выдадзеным у 1975 годзе, з прынятым за аснову тэкстам рамана са Збору твораў у 6 тамах не прыводзіцца ў Каментарыях з той прычыны, што гэтыя тэксты супадаюць. Няма ў Каментарыях і параўнання тэкстаў рамана «Вецер у соснах» са Збору твораў у 6 тамах і выданнем гэтага твора за 1967 год, гэта звязана з тым, што выданне за 1967 год змястоўна-тэкстава цалкам ідэнтычна часопіснаму варыянту, выдадзенаму ў часопісе «Маладосць» № 3—5 за 1967 год.

Раман «Сасна пры дарозе» перакладаўся на рускую і ўкраінскую мовы, раман «Вецер у соснах» толькі на рускую мову.

Мы жывём у такі пераломны момант гісторыі, калі раней усталяваныя і прызнаваемыя амаль усімі правілы гульні «на вялікай сусветнай палітычнай шахматнай дошцы» падвяргаюцца сутнаснай ломцы і замене. І ў гэтай геапалітычна-вірлівай сітуацыі кожная

як вялікая, так і маленькая нацыя імкнецца знайсці для сябе тую ці іншую кропку апоры, дзеля сваёй самаідэнтыфікацыі і самазахавання, шукаючы іх, безумоўна, перш-наперш у сваім мінулым гістарычным вопыце.

Нам думаецца, што драматычна-трагічны і разам з тым слаўна-гераічны, пераможны вопыт Вялікай Айчыннай вайны заўсёды застанецца адным з важнейшых фактараў вышыні народнага духу беларусаў, якія сваёй самаахвярнасцю і ўпартасцю супраціўлення захопніку змаглі прадэманстраваць усяму свету сваё права быць у гістарычным будучым.

Ваенныя раманы І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», якія змястоўна і глыбока раскрылі веліч народнага змагання з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўвойдуць у залаты фонд беларускай культуры як духоўна-эстэтычны набытак народнай памяці. Толькі феномен памяці дазваляе доўжыць існаванне любой з'явы гісторыі ў часе. Будзем спадзявацца на тое, што нашчадкі будуць імкнуцца быць на вышыні духу герояў раманаў І. Навуменкі, якія змаглі стаць уладальнікамі, магчыма, самага галоўнага аксіялагічнага, духоўнага і жыццёвага набытку, набытку быць пераможцамі, які нясе вызначальны пафас для самазахавання і самасцвярджэння народа.

*Ігар Шаладонаў*

# КАМЕНТАРЫІ

Пяты том Збору твораў Івана Навуменкі складаюць два раманы пісьменніка «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах».

Творы падаюцца згодна з жанрава-храналагічным прынцыпам. Аснова для іх датавання — дата ў аўтографах, машынапісах, прыжыццёвых выданнях і іншых дакументальных крыніцах.

За асноўны тэкст змешчаных у томе раманаў прыняты Збор твораў у 6 тамах (Мінск, 1981—1982, т. 3-4) як найбольш аўтарытэтнае выданне, якое выдавалася пры жыцці аўтара. Для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту твораў, іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстаны наступныя архіўна-даведачныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) фрагменты аўтографаў (ф. 138, воп. 1, адз. зах. 3);

б) машынапісы раманаў (ф. 138, воп. 1, адз. зах. 1, 2, 3);

в) экзэмпляры выданняў раманаў у часопісе «Маладосць» (ф. 1, воп. 4, адз. зах. 134—243); са значнымі аўтарскімі праўкамі і ўстаўкамі (ф. 1, воп. 2, адз. зах. 34—39);

г) пратакол канферэнцыі чытачоў, прысвечанай абмеркаванню кніг І. Я. Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» (ф. 1, воп. 2, адз. зах. 23—45);

д) лісты чытачоў з водгукамі на раманы (ф. 1, воп. 1, адз. зах. 1—56).

**2. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) Зб. тв., 1982, т. 3; 1983, т. 4;

б) зб. «Сасна пры дарозе», 1962;

в) выданні асобнай кнігай: «Сасна пры дарозе», 1962, 1975, 1982; «Вецер у соснах», 1968, 1975. Выданні серыі «Школьная бібліятэка» не выкарыстоўваліся.

**3. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**
а) часопіс: «Маладосць», 1962, № 7—10; 1967, № 4—6;
б) газета: «ЛіМ», 1962, 2 сак.; 1967, 10 студз.
**4. Літаратурна-крытычныя матэрыялы:**
Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мінск, 1963.— С. 347—359.

У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі і прыжыццёвымі публікацыямі выпраўлены памылкі друку і фактычныя недакладнасці.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі, якія датычацца гісторыі напісання тэкстаў раманаў, называюцца крыніцы тэкстаў твораў з апісаннем пры наяўнасці аўтографаў і машынапісаў.

Розначытанні, выяўленыя ў працэсе зверкі крыніц тэксту, носяць пераважна моўна-стылёвы характар. Яны адлюстроўваюць працэс авалодвання пісьменнікам прыёмамі і метадамі прыгожага пісьменства. Найбольш значныя ў мастацкіх адносінах розначытанні і варыянты падаюцца ў каментарыях асобным падраздзелам пад назвай «Варыянты і розначытанні».

## 1962

### Сасна пры дарозе (с. 3)

Друкуецца паводле Зб. тв. 1982, т. 3.
Упершыню — часоп. «Маладосць», 1962, № 7—10.
Выходзіў асобным выданнем у 1962, 1975, 1980, 1991 гг.
Раман перакладаў на рускую мову Я. Мазалькоў (1964, 1965, 1970, 1971); на ўкраінскую мову У. Дубіна (1987).

С. 3:
*Астровіна* — лесвіца.
С. 7:
*Нарыхтоўка* — здача калгасамі сельскагаспадарчай прадукцыі дзяржаве.
С. 11:
*«В далекий край товарищ улетает, / За ним родные ветры вслед летят, / Любимый город в синей дымке тает, / Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд...»* — першая страфа з вядомай даваеннай песні «Любімы горад» у выкананні М. Н. Бернэса (1911—1969) з кінафільма «Знішчальнікі» (1939) Э. А. Пенцліна (1903—1990). Словы Я. А. Далматоўскага, музыка М. У. Багаслоўскага.

С. 13:

*Бацькавічы* — пад такой назвай вывеў у раманнай трылогіі Іван Навуменка сваё роднае мястэчка Васілевічы.

*У кнізе «Живописная Россия» Адама Кіркора, якая выйшла амаль сто гадоў назад...* — Кіркор Адам Ганоры Карлавіч (1812—1886) — этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, гісторык, грамадскі дзеяч. Сярод яго шматлікіх прац ёсць нарысы гісторыі і культуры Беларусі ў «Маляўнічай Расіі» (1882, т. 3).

*Кіеўская Русь* — раннефеадальная дзяржава ўсходніх славян і некаторых неславянскіх плямён у IX — 1-й трэці XII ст. з цэнтрам у Кіеве. У розны час у яе ўваходзілі тэрыторыі беларускіх земляў — у складзе Полацкага, Тураўскага, Смаленскага, Чарнігаўскага і іншых княстваў. Паняцце «Кіеўская Русь» уведзена ў навуку гісторыкамі XIX ст.

*...недзе паблізу ад гэтых мясцін быў забіты князь Ігар, той самы, што двойчы за адзін год хацеў пажывіцца данінай з непакорных драўлян.*— маецца на ўвазе знакамітае паданне пра жорсткае забойства сквапнага вялікага князя кіеўскага Ігара Рурыкавіча; Князь Ігар (?—945) — вялікі кіеўскі князь з 912 г. У 913 г. задушыў паўстанне драўлян, якія адмовіліся плаціць яму даніну. У 945 г. быў забіты драўлянамі пад час паўторнага збору даніны.

*Драўляне* — племянное аб'яднанне ўсходніх славян у VII—X стст., якое жыло па правабярэжжы Прыпяці ў лясных міжрэччах Гарыні, Ужа, Цецерава, Дняпра. Галоўныя гарады: Уручый (Оўруч), Іскарасцень (Корасцень). У 883 г. кіеўскі князь Алег прымусіў драўлян плаціць яму даніну. Пасля смерці Алега драўляне захацелі адасобіцца і перасталі плаціць даніну. Князь Ігар вымушаны быў зрабіць некалькі паходаў на драўлян, каб падпарадкаваць іх, і пад час аднаго з іх быў забіты.

*...не трапілі на яе Скрыжалі.*— Скрыжалі — дошчачкі з напісаным на іх святым тэкстам.

*Гарадзішча* — рэшткі старажытнага ўмацаванага паселішча. Звычайна ўзвышаюцца над навакольнай мясцовасцю: захаваліся ў выглядзе валоў і равоў.

*...у часе адступлення немцаў у васямнаццатым годзе.*— маюцца на ўвазе падзеі вываду нямецка-кайзераўскіх войск з тэрыторыі Беларусі пасля паражэння Германіі ў Першай сусветнай вайне (1914—1918) і рэвалюцыйных перамен, якія адбыліся на яе тэрыторыі.

С. 15:

*Мы не ведаем, як на другіх галактыках.*— Галактыка (ад *познагрэч.* galaktikos — малочны, млечны) — гіганцкая зорная сістэма, у якую ўваходзяць сотні мільярдаў зорак.

С. 16:

*Думаеш, Дарвін сваёй тэорыяй усё сказаў?..*— Дарвін Чарлз Роберт (1809—1882) — англійскі прыродазнаўца, заснавальнік дарвінізму. У адной з асноўных сваіх прац «Паходжанне чалавека і палавы адбор» (1871) абгрунтаваў гіпотэзу паходжання чалавека ад малпападобнага продка.

*Гейдэльбергскі чалавек* — самы старажытны выкапнёвы чалавек у Еўропе, які жыў 500—800 тыс. гадоў таму. Рэшткі яго знойдзены ў 1908 г. у пясчаным кар'еры каля вёскі Маўэр непадалёк ад г. Гайдэльберг (Германія).

*Пітэкантрап* — старажытны чалавек, які жыў каля 1 млн гадоў таму. Рэшткі яго знойдзены ў 1891—1893 гг. галандскім доктарам Э. Дзюбуа на востраве Ява.

*Сінантрап* — прадстаўнік найстаражытнейшых выкапнёвых людзей, рэшткі костак якога знойдзены ў 1927 г. у кар'еры Чжаўкаўдзянь пад Пекінам. Узрост большасці знаходак 600—400 тыс. гадоў.

*А можа, людзі прыляцелі з Марса?* — Марс — чацвёртая ад Сонца планета Сонечнай сістэмы. Мае выгляд яскравага свяціла чырвонага колеру.

*Энгельс Фрыдрых* (1820—1895) — нямецкі мысляр, тэарэтык сацыялізму, адзін з заснавальнікаў марксізму.

С. 17:

*Ленінград* — горад у Расіі. Заснаваны ў 1703 г. Пятром І і названы ў яго гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург.

*Чаму чытаеш Блока, Пушкіна...* — Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі пісьменнік; пачынальнік новай рускай літаратуры, заснавальнік сучаснай рускай літаратурнай мовы; Блок Аляксандр Аляксандравіч (1880—1921) — рускі паэт-сімваліст.

С. 19:

*Няёмка як быццам без дзесяцігодкі, Мітрафанушка...* — маецца на ўвазе герой камедыі Д. І. Фанвізіна (1745—1792) «Недаростак» (1782) Мітрафанушка.

*Браты-алхімікі!* — Алхімікі ад слова «алхімія» — данавуковы напрамак у хіміі: пошукі спосабаў ператварэння простых металаў у каштоўныя з дапамогаю фантастычнага філасофскага каменя.

С. 21:

*...мужчыны, напінаючыся, цягнуць «Кацюшу», жанкі — «Пасею гурочкі».*— «Кацюша» — папулярная песня, напісаная на словы М. В. Ісакоўскага і музыку М. І. Блантэра ў 1938 г. Існавалі дзясяткі варыянтаў тэксту гэтай знакамітай песні; «Пасею гурочкі» — папулярная народная песня.

*Як там Ромель у Афрыцы?* — Ромель Эрвін (1891—1943) — германскі ваенны дзеяч, генерал-фельдмаршал (1942). У 1941—1943 гг. узначальваў фашысцка-германскія войскі ў Афрыцы.

*Па-мойму, Германія нацэлілася на Бліжні Усход. Грэцыя ў немцаў, Балканы — у немцаў, Крыт захапілі. Ясна — хочуць прабрацца ў Месапатамію. Да нафты. Калі гэта ўдасца, Англіі — канец.*— Пасля прыходу да ўлады А. Гітлера (1933) Германія распачала сваю агрэсіўную палітыку ваеннай экспансіі; Блізкі Усход — назва тэрыторыі Заходняй і Паўднёва-Заходняй Азіі, Паўночна-Усходняй Афрыкі. Да краін Блізкага Усходу адносяцца: Егіпет, Судан, Бахрэйн, Ізраіль, Іярданія, Ірак, Емен, Катар, Кіпр, Кувейт, Ліван, Саудаўская Аравія, Сірыя, Турцыя, Палесціна. У выніку Балканскай кампаніі 1941 г. Грэцыю 29 крас. 1941 г. акупавалі нямецкія, італьянскія і балгарскія войскі. Крыт у маі 1941 г. акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі ў выніку маштабнай паветрана-дэсантнай аперацыі вермахта; Месапатамія (Двухрэчча) — прыродная вобласць у Заходняй Азіі ў басейне рэк Тыгр і Еўфрат.

*...Гітлер паўсвета захопіць?* — Гітлер (сапр. Шыкльгрубер Адольф; 1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Германскай Нацыянал-сацыялістычнай партыі (1921). Рэйхсканцлер Германіі з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам. Паводле афіцыйнай версіі скончыў жыццё самагубствам.

*...як пачалася вялікая еўрапейская вайна.*— маецца на ўвазе Другая сусветная вайна (1939—1945), якая пачалася 1 верас. 1939 г. нападам фашысцкай Германіі на Польшчу.

*...чытае ўсе ваенныя агляды па часопісу «Огонёк»...* — «Огонёк» — расійскі і савецкі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс. Першы нумар выйшаў 21 снеж. 1899 г. у Пецярбургу як штодзённы ілюстраваны літаратурна-

мастацкі дадатак да газ. «Биржевые ведомости». У 1918 г. выпуск часопіса спыніўся і быў адноўлены ў 1923 г. у Маскве. Да 1940 г. выходзіла 36 нумароў у год, з 1940 г.— штотыднёвік.

С. 23:

*...вальс «Над хвалямі»...* — хутчэй за ўсё тут маецца на ўвазе вальс «Дунайскія хвалі», музычны твор, напісаны румынскім кампазітарам сербскага паходжання І. Іванавічам у 1880 г., адна з найбольш вядомых і знакамітых румынскіх мелодый у свеце.

С. 26:

*Суцэльным срабрыстым поясам цягнецца на небе Млечны Шлях.*— Млечны Шлях — галактыка, у якой мы знаходзімся, а таксама белая паласа, якая перасякае неба і ўтворана з вялікай колькасці слабых зорак.

*…знаёмы раскідзісты чарпак Вялікай Мядзведзіцы...* — Вялікая Мядзведзіца — сузор'е Паўночнага паўшар'я неба, сем галоўных, найбольш яскравых зорак якога сваім размяшчэннем нагадваюць карэц.

*...кучкаватым, няправільным трохвугольнікам — сіняватае сузор'е Арыёна.*— Сузор'е Арыёна — экватарыяльнае сузор'е, якое на тэрыторыі Беларусі відаць увосень і ўзімку.

С. 27:

*Дзве сталёвыя каляі, ля якіх стаіць Птахава будка, вядуць з усходу на захад — з Гомеля на Брэст.*— Апісаны ў раманах «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах» І. Навуменкам горад Бацькавічы мае шмат агульнага з яго родным горадам Васілевічамі. Менавіта збудаваная чыгуначная станцыя Васілевічы на лініі Лунінец — Гомель у 1886 г. ажывіла жыццё мясцовых жыхароў.

*Чырвоная Армія перайшла мяжу з панскай Польшчай і ўзяла пад сваю ахову народ Заходняй Беларусі...* — Паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь працягваўся з 17 па 29 верас. 1939 г. Народны сход Заходняй Беларусі, які адбыўся 28—30 кастр. 1939 г. у Беластоку, прыняў дэкларацыю пра абвяшчэнне савецкай улады і ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

*Заходняя Беларусь* — частка тэрыторыі Беларусі, якая ў выніку савецка-польскай вайны 1920 г. была захоплена Польшчай і паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. знаходзілася ў яе складзе. Агульная плошча 113 тыс. кв. км.

*Потым нарадзіліся новыя прыбалтыйскія рэспублікі...* — 28 верас. 1940 г. быў заключаны пакт паміж СССР і Эстоніяй, які прадугледжваў увядзенне савецкіх войск на эстонскую тэрыторыю, а 6 жн. 1940 г. Эстонія была прынята ў склад СССР. 5 кастр. 1940 г.

быў заключаны пакт паміж Латвіяй і СССР, які прадугледжваў увядзенне савецкіх войск на латвійскую тэрыторыю, а 5 жн. 1940 г. Латвія прынята ў склад СССР. 14 кастр. 1939 г. быў заключаны «Дагавор аб перадачы Літоўскай Рэспубліцы горада Вільні і Віленскай вобл. і аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой», а 3 жн. 1940 г. Літва была прынята ў склад СССР.

*...савецкай стала Бесарабія...* — 28 чэрв. 1940 г. Чырвоная Армія ўступіла ў Бесарабію і Паўночную Букавіну, 2 жн. 1940 г. утварылася Малдаўская ССР.

*...ў газетах пісалі пра Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскве...* — Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка ў Маскве дзейнічала ў 1939—1941 гг. Яна з'яўлялася аглядам дасягненняў сацыялістычнай сельскагаспадарчай вытворчасці народаў СССР. І была арганізавана ў Маскве (Астанкіна) на плошчы 140 га, дзе было пабудавана больш за 250 будынкаў (павільёнаў, аранжарэй і інш.).

С. 28:

*Калі ішла вайна з белафінамі...* — вайна паміж Фінляндыяй і СССР працягвалася з 30 ліст. 1939 г. па 12 сак. 1940 г.

*...нашы авалодалі Выбаргам...* — Выбарг — раённы цэнтр Ленінградскай вобл. Расіі паводле мірнага дагавору з Фінляндыяй ад 12 сак. 1940 г. Выбарг увайшоў у склад СССР.

*...у клубе паказвалі фільм «Лінія Манергейма»...* — дакументальны ваенны фільм (1940) пра падзеі савецка-фінскай вайны. Рэжысёры: Леанід Варламаў, Васіль Бяляеў, Валеры Салаўцоў і Мікалай Камараўцаў.

*Манергейм Карл Густаў Эміль* (1867—1951) — фінскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, генерал-лейтэнант Рускай Імператарскай арміі (1917), маршал Фінляндыі (1942), прэзідэнт Фінляндыі з 4 жн. 1944 г. па 11 сак. 1946 г.

*Лінія Манергейма* — комплекс абарончых збудаванняў і ўмацаванняў паміж Фінскім залівам і Ладагай, створаны фінамі ў 1920—1930-х гг.

*...Гітлер напаў на Югаславію.*— Югаславія — дзяржава, якая існавала ў Паўднёва-Усходняй Еўропе ў 1918—2003 гг. 17 крас. 1941 г. без абвяшчэння вайны нямецкія, італьянскія, балгарскія і венгерскія войскі напалі на Югаславію і акупавалі яе.

*Савецкі Саюз* — СССР (Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік) — шматнацыянальная федэратыўная дзяржава, якая існавала са снеж. 1922 г. да снеж. 1991 г. на тэрыторыі Усходняй Еўропы, Паўночнай, часткі Цэнтральнай і Усходняй Азіі. СССР

займаў $^1/_6$ частку заселенай сушы і быў найбуйнейшай паводле плошчы краінай свету на тэрыторыі, якую да 1917 г. займала Расійская імперыя без Фінляндыі, часткі Польскага царства і некаторых іншых зямель.

*Фашызм* — ідэалогія ваяўнічага шавінізму і расізму, якая імкнецца да знішчэння дэмакратыі, устанаўлення рэжыму жорсткай рэакцыі і развязвання захопніцкіх войнаў.

*Вестку пра вайну Міця пачуў на станцыі ў дванаццаць гадзін...*— маецца на ўвазе выступ В. М. Молатава па Усесаюзным радыё 22 чэрв. 1941 г., у якім ён паведаміў пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны.

С. 29:

*...зайгралі «Інтэрнацыянал»...* — «Інтэрнацыянал» — міжнародны пралетарскі і камуністычны гімн, напісаны на верш французскага паэта-рэвалюцыянера Эжэна Пацье (1871) і музыку П'ера Дэгейтэра (1888). Упершыню выкананы 23 чэрв. 1888 г. хорам рабочых з французскага г. Ліля.

С. 30:

*...у святочным шавіётавым гарнітуры...* — Шавіёт — лёгкая, мяккая, злёгку варсістая ваўняная ці паўваўняная тканіна.

*Раённы аддзел Асаавіяхіма...* — Асаавіяхім — таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву, грамадска-палітычная абаронча арганізацыя ў СССР (1927—1948), папярэдніца ДАСААФ.

С. 32:

*Трохтонка* (ЗІС-5) — савецкі грузавы аўтамабіль грузападымальнасцю 3 т, другі паводле масавасці (пасля ГАЗ-АА) цяжкавік 1930—1940-х гг., адзін з асноўных транспартных аўтамабіляў Чырвонай Арміі пад час Вялікай Айчыннай вайны. Выпускаўся ў 1933—1948 гг.

*...курыць папяросу «Казбек».*— «Казбек» — марка савецкіх папярос, якая выпускалася Ленінградскім прадпрыемствам «Табактрэст», а пасля — Бійскай тытунёвай фабрыкай.

С. 33:

*...на Палессі немцы таўкуцца на месцы.*— Палессе — геаграфічная вобл. на тэрыторыі памежжа Беларусі і Украіны. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны Пінская ваенная флатылія разам з часцямі 75-й стралковай дывізіі ўпарта абаранялі лінію Пінск — Лунінец — Тураў. Штаб флатыліі падтрымліваў сувязь са штабам 5-й арміі Паўднёва-Заходняга фронту і сухапутнымі часцямі, якія

дзейнічалі на Палессі. Таму Лунінец нашы войскі пакінулі толькі 10 ліп. 1941 г. У той час як Мінск і Бабруйск былі акупаваны ўжо 28 чэрв. 1941 г.

*...праязджалі бежанцы з Бабруйска...* — Бабруйск быў захоплены гітлераўскімі войскамі 28 чэрв. 1941 г.

С. 38:

*На Заходнім фронце яны захапілі ўжо Смаленск...* — Заходні фронт на пачатку вайны ўзнік на базе Заходняй Асобай ваеннай акругі 22 чэрв. 1941 г. Затым пасля разгрому ў навагрудскім «катле» сфарміраваны нанова і падзелены на Заходні і Цэнтральны; Смаленск — цэнтр Смаленскай вобл. Расіі. У Смаленск нямецка-фашысцкія войскі ўварваліся 16 ліп. 1941 г. і занялі яго правабярэжную частку, аднак баі за Смаленск адбываліся яшчэ два тыдні. Смаленская бітва цягнулася з 10 ліп. па 10 верас. 1941 г.

*...на Паўднёвым — Крывы Рог, Днепрапятроўск.* — Паўднёвы фронт узнік на базе Кіеўскай ваеннай акругі 22 чэрв. 1941 г., затым некалькі разоў рэарганізоўваўся; Крывы Рог — горад ва Украіне, раённы цэнтр Днепрапятроўскай вобл. Быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 14 жн. 1941 г.; Днепрапятроўск — горад ва Украіне, цэнтр Днепрапятроўскай вобл. (да 1926 г. Екацярынаслаў). Акупаваны гітлераўскімі войскамі 25 жн. 1941 г.

*Толькі Прыдняпроўска-Прыпяцкае Палессе ўсё яшчэ заставалася нашым...* — маецца на ўвазе тое, што паўднёва-ўсходнія раёны Беларусі больш працяглы час не былі акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі. Так, Мазыр быў акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі толькі 22 жн. 1941 г., а Гомель 19 жн. 1941 г.

С. 41:

*Чарнігаў* — горад ва Украіне, цэнтр Чарнігаўскай вобл. Захоплены гітлераўцамі 9 верас. 1941 г.

*...немцы... былі пад Ленінградам...* — Першая спроба захопу Ленінграда войскамі нямецкай групы армій «Поўнач» была распачата 19—23 ліп. 1941 г. і была спынена Чырвонай Арміяй за 100 км паўднёвей горада. Поўная блакада Ленінграда пачалася 8 верас. 1941 г.

*...ірваліся да Масквы...* — для захопу Масквы нямецкае камандаванне распрацавала ваенны план пад назвай «Тайфун». Бітва за Маскву пачалася 30 верас. 1941 г.

*Кіеў* — сталіца Украіны. Бітва за Кіеў (Кіеўская абарончая аперацыя) працягвалася з 7 ліп. па 26 верас. 1941 г. Сам Кіеў быў здадзены немцам 19 верас. 1941 г.

С. 43:

*...бой будзе дадзен на Бярэзіне.*— Бярэзіна — рака ў Беларусі, у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, правы прыток Дняпра. 1 ліп. 1941 г., не маючы сіл стрымліваць праціўніка, камандуючы 4-й арміяй Заходняга фронту А. А. Карабкоў загадаў сваім войскам адысці на рубеж ракі Бярэзіны. Аслабленыя ў баях, разрозненыя часці і падраздзяленні 4-й арміі не маглі на працяглы час затрымаць праціўніка на Бярэзіне. З баямі яны адыходзілі да Дняпра.

*Дняпро* (Днепр) — рака ў Расіі, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях Беларусі і ва Украіне; трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная.

С. 44:

*...дата Барадзінскага бою.*— Барадзінскі бой (Барадзінская бітва) — генеральная бітва пад час вайны 1812 г. паміж расійскімі і французскімі войскамі 7 верас. каля сяла Барадзіно за 124 км на захад ад Масквы.

С. 47:

*У грамадзянскай вайне...* — маецца на ўвазе грамадзянская вайна ў Расіі (1918—1922).

С. 48:

*«Эмка»* — савецкі легкавы аўтамабіль, які серыйна выпускалі на Горкаўскім аўтамабільным заводзе ў 1936—1943 гг.

С. 49:

*Камунгас* — скар.: камунальная гаспадарка.

*...некалі належаў нэпману...* — Нэпман — гандляр, прыватны прадпрымальнік у перыяд нэпа. Нэп (скар.: новая эканамічная палітыка) — гаспадарчая палітыка савецкай дзяржавы ў 1920-я гг. Прынята ўвесну 1921 г. X з’ездам РКП(б), названа новай у адрозненне ад палітыкі «ваеннага камунізму», якая праводзілася пад час грамадзянскай вайны ў 1918—1920 гг. Была разлічана на аднаўленне народнай гаспадаркі, прадугледжвала выкарыстанне рынку, розных форм уласнасці, легалізацыю гандлю, пашырэнне прыватнай ініцыятывы, развіццё спажывецкай кааперацыі.

*...жонка эмтээсаўскага механіка...* — МТС (скар.: машынна-трактарная станцыя). Былі створаныя ў 1929 г. для тэхнічнага абслугоўвання калгасаў. Існавалі да 1958 г.

С. 52:

*...ля стражы спынілася паўтаратонка.*— Паўтаратонка — грузавая аўтамашына грузападымальнасцю ў паўтары тоны.

С. 54:

*...у небе, нудна звініць нямецкая «рама».*— Рама — савецкая мянушка разведвальнага самалёта «Фоке-Вульф» Fw 189, атрыманая ім у гады Вялікай Айчыннай вайны праз канструкцыю планёра.

*Фронт расцягнуўся на тысячы кіламетраў.*— Вялікая Айчынная вайна разгарнулася на прасторах СССР ад Баранцава да Чорнага мора.

*Што ты, акопаў накапаеш, як у імперыялістычную?* — маецца на ўвазе Першая сусветная вайна (1914—1918).

*Сам я з Кулунды...* — Кулунда — пасёлак гарадскога тыпу ў Расіі, цэнтр Кулундзінскага р-на Алтайскага краю.

С. 55:

*Я з грамадзянскай ведаю.*— маецца на ўвазе грамадзянская вайна на тэрыторыі Расіі (1918—1922).

*У небе — адны нямецкія самалёты.*— Ужо за першы дзень вайны 22 чэрв. 1941 г. авіяцыя Заходняга фронту Чырвонай Арміі страціла 732 самалёты, з іх на зямлі — 528. За тыдзень ваенных дзеянняў амаль уся авіяцыя савецкіх войск на прыгранічных аэрадромах была знішчана.

С. 60:

*У той дзень, калі... Чырвоная Армія перайшла граніцу з Польшчай...* — Чырвоная Армія пачала паход у Заходнюю Беларусь 17 верас. 1939 г.

*Пілсудскі Юзаф Клемент* (1867—1935) — польскі дзяржаўны, палітычны і ваенны дзеяч, лідар руху за аднаўленне польскай дзяржаўнасці на пачатку XX ст.

С. 61:

*Растоў-на-Доне* — горад у Расіі, цэнтр Растоўскай вобл. Баі за Растоў з канца 1941 г. да сярэдзіны 1942 г. насілі асабліва жорсткі характар. Горад быў напачатку захоплены немцамі 21 лістап. 1941 г., аднак Чырвоная Армія змагла адбіць яго 29 лістап. гэтага ж года. 27 ліп. 1942 г. горад быў паўторна заняты гітлераўцамі.

С. 64:

*Райза* — раённы аддзел нарыхтовак («раённае забеспячэнне»).

С. 66:

*...тралююць лес, дастаўляючы яго на машынах да франкасклада...* — Франка — гандлёвы тэрмін, які абазначае пэўнае месца, якое пазначана ў дамове куплі-продажу, за дастаўку тавару ў якое ўся адказнасць і выдаткі кладуцца на прадаўца. Пасля дастаўкі

тавару ў гэтае месца, усе выдаткі і адказнасць за тавар пачынае несці пакупнік.

*...пахваліў золінгенаўскія сталі...* — Золінгенаўскія сталі — асобая марка сталі і вырабаў з яе, якая выпускаецца ў горадзе Золінгене (Германія, зямля Паўночная Рэйн-Вестфалія) на працягу амаль IX ст. і якая вылучаецца асаблівай загартоўкай і апрацоўкай.
С. 68:

*...гэтых новых немцаў, якія пайшлі за Гітлерам...*— маюцца на ўвазе немцы, якія паддаліся гітлераўска-гебельсаўскай прапагандзе аб вышэйшасці гэтак званай нардычнай арыйскай расы.

*Фатэрлянд* (*ням.* Faterland) — радзіма.

*Курляндыя* (Курземе) — гістарычная вобл. на Захадзе Латвіі. Са старажытнасці населена балцкімі плямёнамі, ад аднаго з іх (куршаў) і назва Курземе. Да 1267 г. заваявана і хрысціянізавана крыжацкім Лівонскім ордэнам.

*...крычаць пра нямецкую, вышэйшую расу...* — Арыйская раса — тэрмін, які выкарыстоўвалі германскія нацысты для абгрунтавання «вышэйшасці» нямецкай нацыі перад іншымі народамі.

*...кайзер Вільгельм...* — Вільгельм II (1859—1941) — германскі імператар і прускі кароль (1888—1918). Праводзіў агрэсіўную знешнюю палітыку германскай ваенна-эканамічнай і тэрытарыяльнай экспансіі, што садзейнічала набліжэнню Першай сусветнай вайны. Звергнуты рэвалюцыяй 9 лістап. 1918 г.
С. 70:

*Ён не выходзіў з дому яшчэ два дні. На трэці з раніцы прыйшлі немцы.*— Аўтар аўтабіяграфічнага рамана І. Навуменка шмат у чым мог асацыяваць перажыванні свайго героя з прычыны прыходу немцаў у Бацькавічы са сваімі перажываннямі і ўражаннямі ад прыходу акупантаў у родныя Васілевічы. Васілевічы былі акупаваныя немцамі 24 жн. 1941 г.
С. 71:

*Як у японскую вайну.*— маецца на ўвазе вайна Расіі з Японіяй (1904—1905).
С. 74:

*Дванаццацілінейная лямпа* (газавая лямпа) — лямпа, якая працуе на аснове гарэння газы, вадкасці з нафты.
С. 75:

*Танкетка* — лёгкая баявая браніраваная машына на гусенічным ходзе, якая актыўна выкарыстоўвалася ваеннымі ў 1920—1930-х гг.

С. 77:

*Бальшавік* — член левага рэвалюцыйнага крыла Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП), якое ўзнікла пасля расколу партыі на фракцыі на II з'ездзе РСДРП (1903). Затым па аналогіі бальшавікамі называлі тых, хто захоўваў асноўныя пастулаты рэвалюцыянераў марксісцка-ленінскага кірунку.

С. 78:

*Немцы і ў васямнаццатым годзе прыходзілі...* — немцы, якія прыходзілі пад час нямецка-кайзераўскай акупацыі Беларусі (1915—1918).

*Обер-лейтэнант* — званне малодшага афіцэра ў Германіі.

*Фельдфебель* — у некаторых краінах званне старшага унтэр-афіцэра, памочніка камандзіра роты па гаспадарцы.

С. 80:

*Орднунг* (*ням.* Ordnung) — парадак.

*Аўфвідэрзэйн* (*ням.* Auf Wiedersehen) — да пабачэння.

С. 82:

*...разбураны помнік Леніну...* — Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870—1924) — расійскі і савецкі палітычны, дзяржаўны дзеяч, дзеяч міжнароднага рабочага руху, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., адзін з ініцыятараў стварэння і першы кіраўнік СССР.

С. 83:

*Пуд* — старажытная адзінка масы ў Беларусі і Расіі, роўная каля 16,38 кг. Афіцыйна выкарыстоўвалася да 1924 г.

С. 85:

*З лакіраванага «опель-капітана»...* — Опель-капітан (Opel Kapitän) — заходнегерманскі аўтамабіль бізнес-класа, які выпускаўся падраздзяленнем карпарацыі GM Opel у 1939—1970 гг.

*Бургамістр* — начальнік гарадской управы ў некаторых краінах Еўропы і ў XVIII—XIX стст. у Расіі, а таксама на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

С. 88:

*Фольксдойч* (*ням.* Volksdeutsche) — абазначэнне «этнічных германцаў», якія жылі за межамі Германіі. У адрозненне ад «рэйхсдойчэ» (*ням.* Reichsdeutsche, «германцаў рэйха»), прыналежнасць да «фольксдойчэ» («германскасць») вызначалася паводле асобных прыкмет: «сямейнай гісторыі» (ці былі бацькі дойчэ), нямецкай мовы як роднай, імя, царкоўных запісаў і г. д.

*Біттэ* (*ням.* bitte) — калі ласка.

С. 89:

*Маркграф* (*ням.* Markgraf) — кіраўнік пагранічнай акругі, паводле свайго становішча набліжаўся да герцага. Адзін з вышэйшых дваранскіх тытулаў у Францыі, Германіі, Італіі і Іспаніі.

С. 90:

*Гестапа* (*ням.* Gestapo) — тайная дзяржаўная паліцыя Трэцяга рэйха.

С. 91:

*Жандармерыя* (*фр.* gendarmerie) — узброеныя людзі; палітычная паліцыя. Пад час нямецка-фашысцкай акупацыі 1941—1944 гг. на тэрыторыі Беларусі налічвалася 10 жандармерскіх акруг.

*Свастыка* — адзін з найстаражытнейшых і шырока распаўсюджаных графічных сімвалаў: крыж з загнутымі канцамі, накіраванымі па гадзіннікавай стрэлцы або супраць яе. У большасці старажытных народаў свастыка сімвал руху, жыцця, сонца, святла, дабрабыту. У XX ст. набыла негатыўнае адценне ў сувязі з выкарыстаннем у гітлераўскай Германіі.

С. 93:

*Мы на Мазурскіх азёрах немца пагналі, а генералы тыя, што цару нібы служылі, у пастку завялі.*— Мазурскія азёры — група азёр на паўночным усходзе Польшчы ў межах Мазурскага Паазер'я. У раёне Мазурскіх азёр у жн.— верас. 1914 г. ішлі кровапралітныя баі паміж рускімі і германскімі войскамі, у выніку якіх 1-я расійская армія пад камандаваннем П. К. Рэненкампфа і 2-я расійская армія пад камандаваннем А. В. Самсонава пасля першых поспехаў пацярпелі цяжкае паражэнне і адступілі.

С. 95:

*...ў бібліятэку былой лясной школы.*— У Васілевічах у 1925—1927 гг. працаваў лясны тэхнікум, які затым пераехаў у Буда-Кашалёва.

*Урал* — тэрыторыя паміж Усходне-Еўрапейскай і Заходне-Сібірскай раўнінамі ў Расіі. У складзе Урала — Уральская горная сістэма.

*Арол нашы здалі...* — Арол — горад у Расіі, цэнтр Арлоўскай вобл. Быў акупаваны нямецкімі войскамі 3 кастр. 1941 г.

*І Бранск таксама...* — Бранск — горад у Расіі, цэнтр Бранскай вобл. Быў захоплены нямецка-фашысцкімі войскамі 6 кастр. 1941 г.

С. 97:

*...верш: «В минуту унынья, / О Родина мать...* — радкі з II часткі «Эпілога» паэмы «Каму на Русі жыць добра» (1866—1876) рускага паэта М. А. Някрасава (1821—1877).

С. 98:

*У іх краіне нарадзіліся Маркс і Энгельс...*— маецца на ўвазе Германія; Карл Маркс (1818—1883) — нямецкі мысляр, тэарэтык і прапагандыст сацыялістычных і камуністычных ідэй, адзін з заснавальнікаў марксізму; Энгельс — гл. с. 708.

С. 102:

*Дзесяціна* — галоўная зямельная адзінка Расійскай імперыі, уведзена ў 1753 г. у выглядзе казённай дзесяціны плошчай 2400 квадратных сажняў, або 1,092 га. Скасавана ў 1918 г.

С. 109:

*— Вось гэта Кіеў, бачыце? Учора ён заняты нашымі войскамі. Акружана і паланёна вялікая армія... Кіеўская аперацыя — цуд...* — Кіеўскае акружэнне — адно з найбольш маштабных і крывавых акружэнняў Чырвонай Арміі нямецка-фашысцкімі войскамі ў жн.— верас. 1941 г., у выніку бітвы пад Кіевам у акружэнне трапілі некалькі савецкіх армій і толькі частка воінаў выйшла з акружэння, многія загінулі або трапілі ў палон. Кіеў быў здадзены Чырвонай Арміяй 19 верас. 1941 г.

*...Ленінград, цытадэль бальшавізму, акружаны.*— Поўная блакада Ленінграда пачалася 8 верас. 1941 г.

С. 110:

*Камісар* (*лац.* commissarius — упаўнаважаны) — асоба, надзеленая ўладай, прадстаўнік цэнтра. У 1918—1942 гг. прадстаўнік камуністычнай партыі ў ваенных частках і іншых дзяржаўных структурах, надзелены камаднымі паўнамоцтвамі.

С. 111:

*Управа* — назва органаў мясцовага кіравання і самакіравання ў Расійскай імперыі, а таксама пад час нямецка-фашысцкай акупацыі (1941—1944).

*Пасялковы Савет* — адзінка адміністрацыйнага дзялення ў СССР.

С. 112:

*Міткаль* — гатунак баваўнянай тканіны палатнянага перапляцення, неапрацаваны паркаль.

С. 113:

*«Тэлефункен»* (*ням.* Telefunken) — нямецкая прамысловая кампанія, заснаваная ў 1903 г., спецыялізавалася на выпуску радыёабсталявання.

*...Вязьма акружана і ўзята ў палон велізарная армія...* — Вязьма — горад у Расіі на рацэ Вязьме, раённы цэнтр Смаленскай

вобл. У кастр. 1941 г. гітлераўцы акружылі асноўныя сілы Бранскага фронту, а таксама чатыры арміі Заходняга і Рэзервовага франтоў Чырвонай Арміі на захад ад Вязьмы.

*...немцы пад Масквой.*— 30 верас. 1941 г. нямецкія войскі атакавалі левае крыло Бранскага фронту, а 2 кастр.— Рэзервовага і Заходняга франтоў, прарвалі абарону савецкіх войск на шэрагу ўчасткаў. Захапілі гарады Калінін, Малаяраславец, Валакаламск, Мажайск. Другая фаза наступлення групы армій «Цэнтр» адбылася 15—16 лістап. Чырвоная Армія была адціснута да рубяжоў Дзімітрава, Яхрамы, Серпухава, Кубінкі, Нара-Фамінска.

С. 114:

*Па-нямецку гавораць і Парыж, і Варшава, і Прага, і Бялград*... Парыж — акупаваны немцамі 14 чэрв. 1940 г.; Прага — сталіца Чэхіі і на той час Чэхаславакіі, акупавана 15 сак. 1939 г.; Бялград — сталіца Сербіі і на той час Югаславіі, акупавана нямецкімі войскамі 13 крас. 1941 г.

*Лівійская пустыня* — геаграфічны раён на поўначы Афрыкі.

*Егіпет* — дзяржава ў Паўночна-Усходняй Афрыцы, акупаваны фашысцка-італьянскімі войскамі ў сярэдзіне верас. 1940 г.

*Варвары* — назва, якая давалася старажытнымі грэкамі і рымлянамі суседнім з імі плямёнам і народам, якая затым атрымала зневажальны, зніжаны сэнсавы характар.

*Гігант на гліняных нагах*... — Выраз, які ўжываецца, калі гаворка вядзецца пра нешта ўзвышанае і моцнае з выгляду, але паводле сутнасці вельмі кволае. Выслоўе пайшло з Бібліі (Данііл, 2, 31—35), з аповеду пра вавілонскага цара Навухаданосара, які пабачыў у сне вялікага металічнага стода на гліняных нагах; камень, які адарваўся ад гары, стукнуў па ягоных гліняных нагах і раструшчыў іх.

С. 115:

*Стараста* — пасада, якую ўвялі акупацыйныя нямецкія ўлады на тэрыторыі Беларусі для адміністрацыйнага кіравання вясковым насельніцтвам.

*Знішчальны батальён* — арганізацыйная форма савецкіх паўвайсковых адзінак у 1941 г. Такія батальёны ствараліся ў прыфрантавой паласе для барацьбы з дыверсантамі, парашутыстамі, шпіёнамі, стаўленікамі і памагатымі ворага, а таксама дэзерцірамі, бандытамі і марадзёрамі.

С. 116:

*Кулак* — заможны селянін. У часы масавай калектывізацыі (канец 1920-х—1950-я гг.) гэтая частка сялянства падверглася моцнаму дзяржаўнаму ціску і рэпрэсіям і была цалкам ліквідавана.

*Лішэнец* — нефармальная назва грамадзяніна СССР у 1918—1936 гг., які быў пазбаўлены выбарчых і іншых правоў згодна з Канстытуцыяй РСФСР 1918 г.

С. 117:

*...вучыліся ў сямігодцы...* — Сямігодка — у СССР у 1920—1950-х гг. няпоўная агульнаадукацыйная школа. Узнікла ў 1921 г.

*...кантора «Заготжывёла»...* — Установа, якая займалася ў СССР дзяржаўнай мясанарыхтоўкай.

*...трапіў пад Уманню ў акружэнне...* — Умань — горад ва Украіне, раённы цэнтр у Чаркаскай вобл. Акупаваны 1 жн. 1941 г.

*У руках у немцаў... Ржэў...* — Ржэў — горад у Расіі, раённы цэнтр у Цвярской вобл., акупаваны нямецкімі войскамі 14 кастр. 1941 г.

С. 120:

*Любаншчына* — тэрыторыя сучаснага Любанскага р-на Мінскай вобл. Была акупавана немцамі 28 чэрв. 1941 г.

С. 122:

*...пасля Кузьмы-Дзям'яна...* — Свята Кузьмы-Дзям'яна (Кузьмінкі) — свята беларускага народнага календара, адзначаецца 14 лістап. Кузьма і Дзям'ян уважаліся апекунамі кавалёў, шаўцоў, земляробства і вяселляў, ахоўнікамі сямейнага агменю. Паводле народных уяўленняў, на Кузьмінкі восень праводзяць, а зіму сустракаюць. Праваслаўная царква ўшаноўвае ў гэты дзень святых бессярэбранікаў і цудатворцаў Касму і Даміяна Азійскіх.

С. 127:

*Лоўж* — куча галля.

С. 129:

*Вышли мы все из народа...* — Радок з рэвалюцыйнай песні «Смело, товарищи, в ногу» (1898) прафесійнага рэвалюцыянера, хіміка і паэта Л. П. Радзіна (1860—1900), якую ён напісаў у адзіночнай камеры маскоўскай Таганскай турмы.

*Хто быў нічым, той стане ўсім...* — Заключныя словы першай страфы «Інтэрнацыянала» — міжнароднага пралетарскага гімна. Тэкст напісаў у 1871 г. Э. Пацье, музыку ў 1888 г. П. Дэгейтэр. З 1918 г. «Інтэрнацыянал» быў гімнам Савецкай дзяржавы, у 1944 г., з прыняццем новага Дзяржаўнага гімна СССР зацверджаны як гімн КПСС. Тэкст «Інтэрнацыянала» на беларускую мову пераклаў Я. Купала.

С. 137:

*«Правда»* — газета, якая ў часы СССР была асноўным штодзённым друкаваным сродкам масавай інфармацыі Камуністычнай

партыі і найбольш уплывовым савецкім выданнем, фактычна — галоўнай газетай краіны. Выдаецца з 5 мая 1912 г.

С. 140:

*...стракапытаўцамі і балахоўцамі...* — Стракапытаў Міхаіл Аляксандравіч — былы царскі афіцэр, кіраўнік антыбальшавіцкага паўстання на беларускім Палессі ў сак. 1919 г.; Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (сапр. Балаховіч Станіслаў-Мар'ян; 1883—1940) — ваенна-палітычны дзеяч беларускага паходжання, былы царскі афіцэр. У 1920-я гг.— адзін з ваенных кіраўнікоў войска БНР, затым служыў у польскім войску.

С. 141:

*...Ком, ком...* (*ням.* kommen) — хадзі сюды.

С. 148:

*...у Святым Пісанні сказана: пойдзе народ на народ і пацякуць рэкі крыві...* — Словы з Евангелля ад Мацвея (10. 16—26).

С. 150:

*Арол* — горад у Расіі, цэнтр Арлоўскай вобл.

С. 152:

*Ліўны* — горад у Арлоўскай вобл. Расіі.

*З-пад Гомеля адыходзілі, стаялі ў абароне пад Камарычамі.*— Гомель акупаваны немцамі 19 жн.; Камарычы — пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр Камарыцкага р-на Бранскай вобл. Расіі.

*Неспадзявана немцы захапілі Арол, Бранск быў ужо ў тыле.*— 3 кастр. 1941 г. немцы захапілі Арол, які знаходзіўся ў 20 км за лініяй Бранскага фронту.

С. 153:

*Усплылі ў памяці радкі з вядомага верша пра сасну...* — маецца на ўвазе верш Г. Гейнэ (1796—1856) «Ein Fichtenbaum steht einsam» («Сасна стаіць адзінока...») са зборніка «Buch der Lieder» («Кніга песен»; 1827) і яго вольны пераклад рускім паэтам М. Ю. Лермантавым (1814—1841) «На Поўначы дзікай стаіць адзінока...» (1841).

С. 154:

*ФЗН* — скар.: фабрычна-завадское навучанне. Так у 1920—1930-я гг. называліся гарадскія сямігадовыя школы.

*Маліся... на зорку Венеру...* — маецца на ўвазе не канкрэтна планета Венера, а ў пераносным значэнні багіня Венера. У старажытнай міфалогіі першапачаткова была багіняй вясны, пазней стала ўважацца багіняй кахання і прыгажосці.

С. 156:

*— На Украіне фронт у Данбасе... Данбас не здалі.*— Украіна ў 1922—1991 гг. уваходзіла ў склад СССР у якасці Украінскай

Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Данбас — Данецкі вугальны басейн на тэрыторыі Днепрапятроўскай, Данецкай, Луганскай абласцей Украіны і Растоўскай вобл. Расіі, адна з найважнейшых паліўна-энергетычных баз Еўропы. Данбаская абарончая аперацыя працягвалася з 29 верас. па 4 лістап. 1941 г.

*Запарожжа* — горад ва Украіне (да 1921 г. Аляксандраўск), цэнтр Запарожскай вобл. Акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі 4 кастр. 1941 г.

*Адзін Рур што значыць...* — Рур (Рурская вобласць) — галоўная вугальна-металургічная база Германіі, на тэрыторыі зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, па абодвух берагах ракі Рэйн (асноўная частка на правабярэжжы, у басейнах рэк Рур, Эмшэр, Ліпе). Тэрытарыяльна супадае з Рурскім вугальным басейнам — найбуйнейшым у Заходняй Еўропе.

*А цяпер у іх... Францыя, Чэхаславакія...* — Францыя 22 чэрв. 1940 г. падпісала з гітлераўскай Германіяй Камп’енскае перамір’е, паводле ўмоў якога Германія акупавала паўночную і заходнюю часткі краіны, а на астатняй тэрыторыі была створана марыянетачная дзяржава са сталіцай у г. Вішы; Чэхаславакія — дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе (1918—1992) на тэрыторыі сучасных Чэхіі і Славакіі. З 15 сак. 1939 г. акупавана нямецка-фашысцкімі войскамі.

*Румынская нафта ў іх...* — У 1940 г. у Румыніі ўсталяваўся ваенна-фашысцкі рэжым маршала І. Антанеску і ў краіну былі ўведзены германскія войскі.

С. 157:

*...так было ў Крымскую вайну...* — маецца на ўвазе вайна Расіі з кааліцыяй еўрапейскіх дзяржаў на чале з Англіяй і Францыяй (1853—1856).

*Успамінаюць «Вайну і мір» Льва Талстога...* — Талстой Леў Мікалаевіч (1828—1910) — рускі пісьменнік і публіцыст. Раман «Вайна і мір» напісаны ў 1863—1869 гг.

С. 158:

*Напалеон таксама быў у Маскве.*— Напалеон І Банапарт (1769—1821) — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, першы консул Французскай рэспублікі (1799—1814), імператар Францыі (1804—1814, 1815). 14 верас. 1812 г. напалеонаўскія войскі ўвайшлі ў Маскву. А 23 кастр. 1812 г. французы вымушаны былі пакінуць Маскву і адступіць.

С. 159:

*Супраць Германіі Англія, Амерыка.*— Англія аб’явіла вайну Германіі 3 верас. 1939 г., Амерыка (ЗША) уступіла ў Другую сусветную вайну 7 снеж. 1941 г.

С. 160:

*Нашы войскі разам з англійскімі занялі Іран.*— Пасля нападу фашысцкай Германіі на СССР савецкі ўрад, спасылаючыся на дагавор 1921 г. паміж Савецкай Расіяй і Іранам, увёў у паўночныя правінцыі Ірана свае войскі, адначасова на падставе дэкларацыі ўрадаў СССР і Вялікабрытаніі ў паўднёвыя правінцыі Ірана ўведзены брытанскія, а пазней і амерыканскія войскі. У Іране дыслацыравалася таксама і польская армія Андэрса.

*Гес паляцеў у Англію...*— Гес Рудольф (1894—1987) — намеснік А. Гітлера па нацысцкай партыі (НСДАП; 1933—1941). Адзін з галоўных нямецка-фашысцкіх злачынцаў. 10 мая 1941 г. без санкцыі Гітлера на самалёце выляцеў у Англію, дзе быў арыштаваны. Быў прыгавораны на Нюрнбергскім працэсе (1946) да пажыццёвага зняволення.

*Лондан немцы ўсё адно бамбілі...* — Лондан падвяргаўся з 1939 г. масіраванай бамбардзіроўцы з боку нямецкай авіяцыі. Асабліва інтэнсіўнымі бамбёжкі былі са жн. 1940 па май 1941 г., калі адбывалася гэтак званая ваенна-паветраная аперацыя «Бітва за Англію».

С. 162:

*Аўсвайс* (*ням.* Ausweis) — дакумент.

С. 164:

*Казьма Пруткоў* (Казьма Пятровіч Пруткоў) — літаратурная маска-псеўданім, пад якой у часопісах «Сучаснік», «Іскра» і інш. выступалі ў 1950—1960-я гг. XIX ст. паэты-браты Аляксандр, Аляксей і Уладзімір Жамчужнікавы разам з паэтам графам Аляксеем Канстанцінавічам Талстым.

*Калі на клетцы напісана леў, а ўнутры ў ёй жырафа, не вер вачам сваім.*— Зменены афарызм Казьмы Пруткова «Калі на клетцы слана прачытаеш надпіс: «Буйвал», не вер вачам сваім».

*Глядзі ў корань* — афарызм Казьмы Пруткова.

*Бдзі!* — афарызм Казьмы Пруткова.

С. 168:

*Баі ідуць пад Калінінам...* — Калінін — назва г. Цвер у 1931—1990 гг., цэнтр Цвярской вобл. Расіі. З 17 кастр. па 16 снеж. 1941 г. акупаваны нямецкімі войскамі.

*А яшчэ раней сказалі, што здалі Растоў. Растоў наш.*— Растоў-на-Доне — горад у Расіі, цэнтр Растоўскай вобл.

*Вязьма* — горад у Расіі, цэнтр Вяземскага р-на Смаленскай вобл. Вяземская абарончая аперацыя (2—13 кастр. 1941 г.) скончы-

лася катастрафічным паражэннем Чырвонай Арміі. Сама Вязьма была акупавана 7 кастр. 1941 г.

*Калуга* — горад у Расіі, цэнтр Калужскай вобл. У кастр. 1941 была акупавана нямецкімі войскамі.

*Сухінічы* — горад у Расіі, цэнтр Сухініцкага р-на Калужскай вобл. Пад час Маскоўскай бітвы 1941—1942 гг. у раёне Сухініч на працягу студз. 1942 г. праходзілі жорсткія кровапралітныя баі савецкіх войск з нямецкімі акупантамі. Акупаваны 7 кастр. 1941 г.

С. 169:

*Самае галоўнае — адагнаць немцаў ад Масквы...* — Контрнаступленне Чырвонай Арміі пад Масквой пачалося 5—6 снеж. 1941 г.

С. 171:

*Апошні год я ў Беластоцкай вобласці быў.*— Беластоцкая вобласць — адміністратыўная адзінка на тэрыторыі БССР (1939—1944).

*Вызвалены Клін, Серпухаў, Калінін...* — Клін — горад у Расіі, цэнтр Клінскага р-на Маскоўскай вобл. Вызвалены Чырвонай Арміяй 15 снеж. 1941 г.; Серпухаў — горад у Расіі, цэнтр Серпухаўскага р-на Маскоўскай вобл. У канцы 1941 — пачатку 1942 г. тут праходзілі жорсткія баі паміж Чырвонай Арміяй і вермахтам.

С. 172:

*...у Акцябрскім раёне. Некалькі атрадаў там.*— Акцябрскі раён — раён у Гомельскай вобл., утвораны ў 1939 г. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны на яго тэрыторыі быў створаны адзін з першых партызанскіх атрадаў пад кіраўніцтвам Ц. П. Бумажкова і Ф. І. Паўлоўскага. Затым на іх базе была ўвосень 1941 г. утворана Акцябрска-Любанская партызанская зона ў выніку вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў частак Акцябрскага, Глускага, Любанскага і Старобінскага р-наў. Зону ўтрымлівалі злучэнні партызанскіх атрадаў Акцябрскага р-на (13 атрадаў, каля 1300 чалавек).

С. 174:

*Мой бацька пры цары трымаў рэстаран.*— маецца на ўвазе час праўлення апошняга ўладара Расійскай імперыі цара Мікалая II (Раманава); 1895—1917).

С. 176:

*Гебітскамісар* (*ням.* Gebietskommissar) — афіцыйны тытул службовай асобы, якая ажыццяўляла адміністрацыйныя функцыі на

акупаваных нацысцкай Германіяй тэрыторыях. Паводле іерархічнага статусу прыраўноўваўся да кіраўнікоў раённых адміністрацый у самой Германіі.

С. 178:

*Вазьмі ты таго сібірака...* — Сібірак — жыхар Сібіры. Сібір — большая частка азіяцкай тэрыторыі ў Расійскай Федэрацыі, якая распасціраецца ад Урала на захадзе да хрыбтоў ціхаакіянскага водападзелу на ўсходзе і ад Паўночнага Ледавітага акіяна на поўначы да стэпаў Казахстана і мяжы з Цэнтральнай Азіяй на поўдні.

С. 183:

*У Акцябрскім раёне загрымела... З партызанамі вядуць вайну вайсковыя часці.*— тут хутчэй за ўсё маецца на ўвазе правядзенне нямецка-фашысцкімі войскамі карнай аперацыі, якая атрымала кодавую назву «Бамберг» (Bamberg). Аперацыя праводзілася супраць партызанскіх атрадаў «гарнізона Паўлоўскага Ф. І.» і мірнага насельніцтва ў Акцябрскім, Глускім, Любанскім, Капаткевіцкім і Бабруйскім р-нах з 20 сак. па 4 крас. 1942 г.

*...бобікі ўсіх навакольных гарнізонаў.*— Бобікі — так зняважальна ў народзе называлі набраных немцамі ў гэтак званыя атрады самаахoвы паліцэйскіх з мясцовага насельніцтва.

С. 188:

*...немцы пішуць пра баі пад Гжацкам...* — Гжацк — горад у Расіі (з 1968 г. горад Гагарын), раённы цэнтр у Смаленскай вобл. Акупаваны нямецкімі войскамі 6 кастр. 1941 г.

*Вялікія Лукі* — горад у Расіі, раённы цэнтр у Пскоўскай вобл. У час Вялікай Айчыннай вайны каля і за Вялікія Лукі вяліся кровапралітныя баі, горад быў амаль цалкам разбураны, захавалася толькі каля 30 дамоў.

*Старая Руса* — горад у Расіі, раённы цэнтр у Наўгародскай вобл. З 9 жн. 1941 г. па 18 лют. 1944 г. быў пад акупацыяй.

*Мурманск* — горад у Расіі (да крас. 1917 г. Раманаў-на-Мурмане), цэнтр Мурманскай вобл. Размешчаны на ўсходнім узбярэжжы Кольскага заліва Баранцава мора. У часы Вялікай Айчыннай вайны Мурманскі порт адыграў важную ролю ў папаўненні краіны і арміі ваеннай тэхнікай і харчаваннем, бо праз яго ішлі грузы, якія паступалі з краін саюзніц па антыгітлераўскай кааліцыі — Англіі, ЗША, Канады і інш.

*Тарапец* — горад у Расіі, раённы цэнтр Цвярской вобл. З 29 жн. 1941 г. па 21 студз. 1942 г. быў пад акупацыяй.

С. 190:

*Патэфон* — механізм для прайгравання грамафонных кружэлак, асобая версія грамафона, якую можна пераносіць.

С. 191:

*«Меж высоких хлебов затерялося / Небогатое наше село…»* — першыя радкі з верша «Пахаванне» (1861) рускага паэта М. А. Някрасава (1821—1878).

*«Трактарысты»* — савецкі музычна-мастацкі фільм (1939), пастаўлены расійскім кінарэжысёрам І. А. Пыр’евым (1901—1968).

С. 194:

*Фрюлінг Москау капут* (*ням.* Fruling Moskau kaput) — увесну Маскве канец.

С. 199:

*...муж працаваў дырэктарам МТС, Шэлег — начальнікам палітаддзела.*— Палітаддзел (скар.: палітычны аддзел); палітаддзелы МТС былі створаны паводле рашэння студзеньскага 1933 г. Пленума ЦК і ЦКК ВКП(б) як надзвычайны орган Камуністычнай партыі ў працы па пад’ёме сельскай гаспадаркі.

*...у памятны год калектывізацыі...* — хутчэй за ўсё маецца на ўвазе 1929 год, гэтак званы год «вялікага пералому», калі пачалася прымусова-масавая арганізацыя калгасаў. «Вялікі пералом» — выраз І. В. Сталіна, якім ён ахарактарызаваў распачатую ў канцы 1920-х гг. у СССР палітыку фарсіраванай індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

С. 200:

*Расія... выратавала Еўропу ад мангольскага ярма.*— маецца на ўвазе тое, што ў XIII ст. раздробленыя рускія княствы сваім гераічным супраціўленнем і змаганнем з мангола-татарскім нашэсцем войск хана Батыя (1237—1240) змаглі ўратаваць ад поўнага разбурэння і палону краіны Заходняй Еўропы. Русь жа да 1260 г. знаходзілася пад уладай вялікіх мангольскіх ханаў, а затым да 1480 г.— ханаў Залатой Арды.

С. 201:

*Саўінфармбюро* — скар.: Савецкае інфармацыйнае бюро — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце Народных Камісараў 24 чэрв. 1941 г. Асноўнай задачай бюро было складанне зводак для радыё, газет і часопісаў пра становішча на франтах, працу тылу, пра партызанскі рух у час Вялікай Айчыннай вайны. Ліквідавана пастановай ЦК КПСС ад 5 студз. 1961 г.

С. 203:

*Тодтаўцы* — члены ваенна-будаўнічай арганізацыі, якая дзейнічала ў нацысцкай Германіі. Арганізацыя названа па імені Ф. Тодта, які ўзначаліў яе ў 1933 г. З пачаткам вайны атрады тодтаўцаў працавалі за межамі Германіі на аднаўленні шашэйных і чыгуначных мастоў, палатна аўтамабільных дарог і чыгунак.

С. 211:

*Ля ракі Волхаў акружана савецкая армія.*— 7 студз. 1942 г. пачалася Любанская наступальная аперацыя Чырвонай Арміі па зняцці блакады Ленінграда, якая працягвалася 16 тыдняў і скончылася беспаспяхова. Была страчана 2-я Ударная армія, а яе камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Уласаў быў узяты ў палон і перайшоў на бок фашыстаў.

*...Ідзе наступленне на Керч, на Севастопаль.*— Керч — горад ва ўсходняй частцы Крыма. Порт на беразе Керчанскага праліва. Быў акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі 30 снеж. 1941 г.; Севастопаль — горад на паўднёвым захадзе Крымскага паўвострава на беразе Чорнага мора. Абарона Севастопаля працягвалася з 30 кастр. 1941 г. па 4 ліп. 1942 г.

С. 217:

*Аманал* — хімічна-выбуховае рэчыва.

С. 219:

*Выпусцілі з выпадку дня нараджэння Гітлера.*— Гітлер нарадзіўся 20 крас. 1889 г.

С. 222:

*Варонеж* — горад у Расіі, цэнтр Варонежскай вобл. 3 ліп. 1942 г. па студз. 1943 г. тут праходзіла лінія фронту абароны. Правабярэжная частка горада была пад акупацыяй.

*Варашылаўград* — назва горада Луганска ва Украіне ў 1935—1991 гг. Быў акупаваны немцамі 19 ліп. 1942 г.

*Нашы войскі пакінулі Севастопаль...* — Севастопаль быў астаўлены Чырвонай Арміяй 4 ліп. 1942 г.

С. 226:

*Дон* — рака на поўдні еўрапейскай часткі Расіі, упадае ў Таганрогскі заліў Азоўскага мора.

С. 227:

*Сурдут* — доўгі як паліто двухбортны пінжак, звычайна прыталены. З’явіўся ў XVIII ст.

*...ставілі п’есу Ібсена...* — Ібсен Генрык (1828—1906) — нарвежскі драматург, заснавальнік еўрапейскай «новай драмы».

*Нарвегія таксама захоплена немцамі...* — Нарвегія ў Другую сусветную вайну, нягледзячы на нейтралітэт, была акупавана нямецка-фашысцкімі войскамі ў ходзе двухмесячнай гэтак званай Нарвежскай аперацыі ў 1940 г.

С. 232:

*...пачуўся знаёмы з мірных дзён голас — Говорит Москва!..*— хутчэй за ўсё маецца на ўвазе голас вядомага савецкага дыктара Левітана.

*Корт* — баваўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення.

С. 238:

*Гут арбайтэн (ням.)* — добра працаваць.

*Гельд (ням.)* — грошы.

С. 242:

*Унтэр-афіцэр* (*ням.* Unteroffizier) — афіцэрскі чын малодшага каманднага саставу: фельдфебель, вахмістр, ураднік, феерверкер, кандуктар.

С. 244:

*Ціроль* — гістарычная вобласць, размешчаная ў Альпах, федэратыўная зямля ў Альпах.

*...Сам фюрар з Аўстрыі.*— Гітлер нарадзіўся ў вёсцы Ранскофен (цяпер частка г. Браўнау-ам-Ін) у Аўстрыі.

*Аўстрыя* — краіна Цэнтральнай Еўропы. Падпісала аншлюс з Германіяй і 12 сак. 1938 г. германскія войскі акупавалі Аўстрыю. Яна была абвешчана адной з зямель Германіі пад назвай «Усходняя марка».

С. 245:

*Сілезія* — гістарычная славянская вобл. у верхнім і сярэднім цячэнні ракі Одра (Одэр). Большая частка ў складзе Польшчы, Паўднёвая Сілезія часткова ў складзе Чэхіі. З 990-га па 1335 г. Сілезія была ў складзе Польшчы (дзяржавы Пястаў). У сярэдзіне XVII ст. большая частка Сілезіі ўвайшла ў Прусію, а ў 1871 г. у Германскую імперыю.

*Штэйгер* — майстар, які займаецца працамі ў рудніку.

*...да ўлады прыйшлі нацысты...* — Гітлер прыйшоў да ўлады, стаўшы канцлерам у 1933 г.

*Гітлерюгенд* (*ням.* Hitler Jugend) — маладзёжная арганізацыя нацыянал-сацыялісцкай партыі Германіі, ваенізаванага тыпу. Была створана ў 1936 г.

С. 247:

*Сільвестар блізка...* — Дзень Святога Сільвестра — рэлігійнае свята. У каталіцкіх краінах адзначаецца 31 снеж., што амаль цалкам асацыюецца для іх са святам Новага года. У праваслаўных адзначаецца 15 студз.

*Дзяншчык* — салдат, прымацаваны да афіцэра ў якасці слугі.

С. 249:

*Умань* — горад ва Украіне, раённы цэнтр Чаркаскай вобл. 1 жн. 1941 г. пад Уманню былі акружаны 6 і 12 арміі Паўднёвага

фронту, якія з цяжкімі баямі і вялікімі стратамі прарываліся праз кальцо акружэння.

С. 252:

*Жытомір* — горад ва Украіне, цэнтр Жытомірскай вобл., акупаваны нямецка-фашысцкімі войскамі 9 ліп. 1941 г.

С. 265:

*Фэрштэйн (ням.)* — разумець.

С. 269:

*Зондэркаманда* (*ням.* Sonderkommando — спецыяльны атрад) — назва шэрагу фарміраванняў спецыяльнага прызначэння ў нацысцкай Германіі, першапачаткова адносіліся да атрадаў СС, якія выконвалі асобыя заданні і місіі па знішчэнні людзей.

С. 270:

*...СД* (*ням.* SD — скар. ад Sicherheitsdienst des Reichsführers SS — служба бяспекі рэйхсфюрара СС) — служба бяспекі і палітычнай разведкі (шпіянажу) унутры СС, якая дзейнічала ў межах Нацыянал-сацыялісцкай партыі (НСДАП) у час дыктатуры гэтай партыі ў Германіі. Заснавана ў 1931 г. Г. Гімлерам як служба разведкі, з верас. 1932 г. называлася СД.

С. 282:

*Ледзь на Салаўкі не загналі.*— Салаўкі (Салавецкія астравы) — група астравоў у Белым моры, пры ўваходзе ў Анежскую губу, у Архангельскай вобл. Расіі. З 1923 г. на Салаўках размяшчаўся адзін з найбуйнейшых папраўча-працоўных лагераў — Салавецкі лагер асобага прызначэння. У 1937 г. ён быў рэарганізаваны ў турму (ліквідавана ў 1939 г.).

С. 285:

*…ні то раскулачыць…* — Раскулачыць — пазбавіць селяніна, які ўважаўся кулаком, сродкаў вытворчасці, вынікаў вытворчай дзейнасці, грашовых накапленняў, права карыстання зямлёй і палітычных правоў. Раскулачванне праводзілася ў СССР у 1920-я — пачатку 1950-х гг. Поўная экспрапрыяцыя гаспадарак часта спалучалася з бязлітаснымі пакараннямі (расстрэлы, зняволенне ў канцлагерах, ссылка ў аддаленыя раёны і інш.) іх уладальнікаў за сапраўдныя або ўяўныя контррэвалюцыйныя дзеянні. У Беларусі набыла асабліва масавы характар у 1929—1931 гг. (усходнія і цэнтральныя раёны) і 1949—1952 гг. (Заходняя Беларусь).

С. 292:

*Ржэў* — горад у Расіі, раённы цэнтр Цвярской вобл. Увосень 1941 г. захоплены нямецка-фашысцкімі войскамі. Вакол гэтага гарадка ў 1942—1943 гг. разгарэліся кровапралітныя баі паміж Чыр-

вонай Арміяй і вермахтам. З 30 ліп. па 23 жн. адбылася Ржэўска-Сычаўская наступальная аперацыя Чырвонай Арміі, а з 8 студз. па 20 крас. 1943 г. Ржэўска-Вяземская наступальная аперацыя савецкіх войск.

С. 295:

*...«драйцэн, фірцэн...» (ням.)* — трынаццаць, чатырнаццаць.

С. 297:

*Зофорт* (*ням.* sofort) — зараз жа, неадкладна.

С. 298:

*эсэсаўцы, СС* (*ням.* SS — скар. ад Schutzstaffel — ахоўныя атрады) — арганізацыя германскіх фашыстаў, адна з галоўных апор фашысцкага рэжыму. На Нюрнбергскім працэсе (1946) была прызнана злачыннай.

С. 299:

*«Шепот, робкое дыханье, / Трели соловья...»* — першыя радкі з верша рускага паэта Фета 1850 г. (назва па першым радку).

С. 300:

*Фет Апанас Апанасавіч* (1820—1892) — рускі паэт.

*Цютчаў Фёдар Іванавіч* (1803—1873) — рускі паэт.

*Іспанія* — дзяржава на паўднёвым захадзе Еўропы. У 1936 г. у Іспаніі пачаўся ваенны мяцеж прафашысцкага генерала Франка, які перарос у грамадзянскую вайну. Пасля перамогі Франка ў Іспаніі ўсталявалася прафашысцкая дыктатарская ўлада генерала Франка. У Другой сусветнай вайне Іспанія захоўвала нейтралітэт. У баях на баку Германіі ўдзельнічалі толькі дабравольцы, гэтак званая іспанская «Блакітная дывізія».

*Гвадалахара* — горад у Іспаніі, адміністрацыйны цэнтр правінцыі Гвадалахара. Размешчаны ў 45 км ад сталіцы краіны г. Мадрыда.

С. 304:

*Ich bin darum unschuldig (ням.)* — Я не вінаваты.

*«Фёлькішэр беабахтэр»* (*ням.* «Völkischer Beobachter», «Народны аглядальнік») — нямецкая газета. З 1920 г. друкаваны орган Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Выдавалася штотыднёва, з 8 лют. 1923 г. штодзённа. Апошні нумар выйшаў 30 крас. 1945 г.

*«Дас Райх»* (*ням.* Das Reich) — нямецкі штотыднёвік, выходзіў з траўня 1940 г. Заснаваны асабіста міністрам прапаганды Германіі П. Гебельсам, які рэгулярна пісаў перадавіцы для гэтага выдання.

[16] Немцы — дзелавы народ. // Немцы — дзелавы народ. Дасвіданіе.
С. 88:
[23] нібы нешта абарвалася. // нібы нешта абарвалася. Ён пабялеў з твару, млявасць разлілася па целе, рукі, ногі як бы здранцвелі.
С. 89:
[24—25] У часопісе адсутнічае сказ: «Рускія гэтым мала цікавіліся».
С. 90:
[37] Паглядзіце на ўсё збоку // Паглядзіце на рэчы збоку
С. 91:
[1—2] прапануе яму нямецкая армія… // прапануе яму пераможная нямецкая армія…
С. 92:
[17] Чыгунка бяздзейнічае. // Чыгунка бяздзейнічае. Адступаючы, чыгуначны батальён у многіх мясцінах пакрэмсаў рэйкі, узарваў масты.
С. 95:
[30] Весткі ў Прымака змрочныя, нярадасныя, але хоць штонебудзь ведае. // Весткі ў Прымака змрочныя, нярадасныя.
С. 96:
[17] — Ні пра што. Адчапіцеся… // — Ні пра што. Адстаньце.
С. 97:
[24—25] Ледзь не штораніцы ходзіць у лес — восень грыбная, грыбоў // Ледзь не штораніцы вандруе ў лесе — восень грыбная
С. 98:
[3] Думае Міця і пра немцаў. // Думае Міця і пра немцаў. Хто яны, якая сіла прыгнала іх сюды?
[12] Міця ўжо бачыў немцаў. // Міця ўжо бачыў немцаў і яшчэ больш упэўніўся ў сваім перакананні.
[13] Тады, калі немцы займалі мястэчка, ля будкі // ля будкі
[18—21] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Чырвонаармейцы — сярод іх былі і лейтэнанты, і капітаны, і нават адзін маёр — калі ішлі на фронт, таксама аднойчы атабарыліся ля будкі і таксама гатавалі абед. Елі яны звычайную пшонную кашу з сухарамі».
С. 99:
[3] Міця нічога ўжо не зразумеў. // Міця нічога ўжо не зразумеў. Перш чым увайсці ў мястэчка, немцы, відаць, мелі прывал у лесе.
С. 101:
[26—27] Ніхто не мусіў ведаць аб прызначэнні Аўгуста Эрнэставіча бургамістрам // Толькі не вызначаны шляхі твае, Божа. Ніхто не мусіў ведаць аб прызначэнні Аўгуста Эрнэставіча бургамістрам

С. 102:

[8] у прыемнай гутарцы. // у прыемнай бяседзе. Гаварылі пра ўсё: пра няпэўнасць жыцця, легкадумнасць немцаў.

С. 106:

[4—5] — Немец ён. Можна было загадзя разлічваць, што гэтыя за яго ўхопяцца. Але хто тады думаў?.. // — Не наш Крамер. Немец ён. Адзіны з больш-менш адукаваных немцаў у мястэчку. Можна было загадзя разлічваць, што гэтыя за яго ўхопяцца.

[11] тоячыся, чыркае запалкай. // чыркае запалкай.

С. 107:

[1] — Верна. Я так // Я так

[3—4] хістаецца // вагаецца

[27—28] на чале з начальнікам // і начальнік

С. 108:

[20] Пітво церпкае, моцнае. // Пітво вострае, моцнае.

[21] тлумачыць капітан. // тлумачыць капітан, неяк крыва ўсміхнуўшыся.

[32] дастае//вымае

С. 109:

[7] вялікая армія. // мільённая армія.

[14—15] Яго на днях возьмуць. // Яго хутка возьмуць.

С. 110:

[7] выцягвае з сябе // выціскае з сябе

[27] Капітан збянтэжаны. // Капітан не тоіць жаху.

[31] спалохана паўтарае // як нежывы, паўтарае

[32] падобнае бачыў. // я штосьці такое бачыў.

[37—38] Крамер не можа сабе гэтага растлумачыць, але яму прыемна бачыць спалоханы твар жандара. // Крамеру прыемна бачыць спалоханы твар жандара, панылую яго постаць. Злаславае пачуццё расце, ён як бы адчувае сваю перавагу над гэтым фанабэрыстым палахліўцам. Ад таго, што разгадаў, раскусіў яго — весялей.

С. 111:

[2] І нічога — жывы. // І нічога, жывы.— Мой бог, пры чым тут зброя? Што могуць зрабіць супраць лясных партызан жандары? Ды хіба гэта жандары? Мяхі, з саломай…

С. 113:

[21] спытай з іх… // вазьмі з іх…

[28] велізарная армія // мільённая армія

С. 115:

[13] Тым не менш // Усё ж

[15] знакі ўвагі. // аказваюць усялякую ўвагу.

[20] у пачатку кастрычніка. // трэцяга кастрычніка.

С. 116:

[18] Пра партызанскі атрад // Пра ахоўны батальён

[34—35] што яны за людзі. // чым яны дыхаюць.

С. 117:

[25] у лагер не трапіў, прыцягнуўся дадому. // прыцягнуўся дадому.

С. 118:

[4] думкі гудуць роем // думкі зліваюцца ў суцэльны рой

С. 119:

[25] У той жа лясгас! // У той жа лясгас,— загадаў ён.

С. 120:

[3] Іван Пракопавіч // Шэлег

С. 123:

[4] сумная, як цень. // сумная.

[6] яго выгляд такі ўстрывожаны // такі ўстрывожаны

[23] пра атрад? // пра батальён?

[28] Шэлег // Іван Пракопавіч

[35] Васіль… // Аляксей…

С. 124:

[3] Расчыняюцца створкі дзвярэй // Расчыняюцца дзверы

[30] У часопісе адсутнічае сказ: «Выходзяць на ганак — секанув у твар касы дождж».

С. 126:

[14] спыніўшыся, пытаецца // пытаецца

С. 127:

[17—18] Спіна мокрая. // Спіне холадна.

[29] у атрадзе. // у батальёне.

С. 128:

[9] Івана Пракопавіча // Шэлега

[12] знішчальны батальён. // ахоўны батальён.

С. 130:

[25] Васіль // Аляксей

С. 131:

У зборы твораў ідзе чацвёрты раздзел, у той час як у часопісным варыянце трэці.

[34—35] апускаючы вочы ў стол // апускаючы вочы

С. 132:

[1] Адамчук // Адамчук устрапянуўся

С. 133:

[29—30] У часопісе адсутнічае сказ: «Жонкі — вялікая сіла, часта яны, а не мужчыны іх, робяць палітыку…»

[32—36] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Так ён робіць заўсёды, калі хоча, каб сказанае ім дайшло да вушэй местачкоўцаў. Не праміне і дня, як кожнае яго слова пойдзе па мястэчку, а затым і па раёне, будзе ўсяляк абмяркоўвацца. Бургамістр ловіць на сабе зацікаўленыя позіркі падначаленых».

С. 133—134:

[38—2] Мар'я Іванаўна, сакратарка і машыністка ў новых, старанна адпрасаваных сукенках проста застылі ў чаканні навін. // Мар'я Іванаўна

С. 134:

[15] спаймалі на слове // злавілі на слове

С. 137:

[9—10] а што возьмеш з вандроўных?.. // А што возьмеш з бяздомных?..

[11] і зрабіўшы ходку вакол сквера, Драгун // Драгун

С. 138:

[27] — Адну ў Піляцічы // Самку з Піляціч

[32] вымавілі ўслых. // вымавілі ўголас.

С. 139:

[19] пахмурны дзень // лістападаўскі дзень

[37] каб развезці на іх газеты? // каб развезці ўсюды газеты?

С. 140:

[23] нерасстраляныя абоймы // абоймы патронаў

[25] Міця прыкрыў верасам знойдзеныя боепрыпасы. // Міця склаў іх, прыкрыў верасам.

С. 140—141:

[37—1] Па лесе ўсякай дрэні валяецца // Па лесе многа чаго валяецца

С. 144:

[21—22] У часопісе адсутнічае сказ: «Дзяўчаты сядзяць, адчуваючы сябе няёмка».

[22] Яны, мабыць, шкадуюць // Дзяўчаты, мабыць, каюцца

С. 145:

[34] у палоне // у палоне вайны

[37] да маці Нупрэя… // да Нупрэевых…

С. 146:

[3] засыпала вочы снежнай крупой. // засыпала вочы снегам.

[4] З будкі Птаха // З Птахавай будкі

[18] і зняў зашчапку. // і адшчапіў зашчапку.

С. 147:

[1—2] Івана, нягледзячы на тое, што ён мог несці ў сабе тыф або другую хваробу, накрылі // накрылі

С. 149:

[6] Згубілі людзі веру // Страцілі людзі веру

[8] Дзіва што азвярэеш. // Азвярэеш.

[16—17] У часопісе адсутнічае сказ: «Новае і нязведанае пачуццё напаўняе грудзі».

[18—19] Проста вайна — гэта другое // Вайна — гэта іншае

[36—37] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Усе яны сволачы і вісельнікі. Адна з Гітлерам банда».

С. 151:

[2] У часопісе пасля слоў «засунуў газету за пазуху» ідзе сказ: «Яны пастаялі яшчэ з хвіліну на лясной дарозе, у зацішку».

[33] затапіў грубку. // запаліў у грубцы.

С. 153:

[37—38] у Іванавым голасе. // у Іванавых словах.

С. 154:

[3] хапалі. // забіралі.

[10] камандзір або палітрук. // камандзір або палітрук адной банды.

[33] Было позна ўжо. // Было позна.

С. 155:

[1] Хата Івана Лобіка — крывабокая, пахілая // Хата Івана Лобіка

[2—4] Іванаў бацька сышоўся з другой жанчынай, плаціў на дзяцей аліменты // Жыў Іван без бацькі — з сястрой і маці. Бацька сышоўся з другой жанчынай.

[19] Са зваротам Івана // Вярнуўся Іван, і

[26—27] У часопісе адсутнічае сказ: «Міця з нецярпеннем чакае вечара».

[29—30] выбухам бомбы // выбухам

С. 156:

[10] ніхто не пільнуе // ніхто не сцеражэ

[20] стуле // крэсле

С. 157:

[8—9] У часопісе адсутнічае сказ: «Тое, што дала ім школа, прыгнятае цяпер цяжкім грузам».

[14] пад назвай эканоміка. // эканоміка.

[20] — заяўляе Міця. // — выгуквае Міця.

С. 158:

[7—8] напаўняючыся таямнічай значнасцю. // таямнічую значнасць.

С. 159:

[7] на чужой тэрыторыі, шапкамі закідаем… // на чужой тэрыторыі

С. 160:

[22] У часопісе пасля слоў «прагна цягнуліся да яе» ідуць сказы: «Сяргей разам з бацькам працаваў у леспрамгасаўскай краме. Лобік з гэтага меў выгоду: у перадваенныя дні Сяргей даваў яму з-пад прылаўка хлеб і цукар».

[27] знішчальны батальён // ахоўны батальён

С. 161:

[5] Трусы // Палахлівыя

[12] У часопісе адсутнічае сказ: «Нас паслалі сюды для падпольнай работы».

[13—14] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Каго вас? — Мяне, Аўсяніка».

[19] У адзін з тых снежаньскіх дзён, у нядзелю // Неяк у нядзелю

С. 162:

[7] перад іконай. // перад абразом.

С. 167:

[7—8] нечага незвычайнага, што адразу б зняло з твараў напружаную зацятасць, нахмуранасць, прасвятліла б іх. // нечага незвычайнага

С. 169:

[18] што на будцы жывуць. // што на будцы.

[25—26] У часопісе адсутнічае сказ: «Новыя, яшчэ не зведаныя пачуцці поўняць Міцевы грудзі».

С. 170:

[20] частуюцца самагонкай // частуюцца

[21] прадавалі адэкалон парыкмахерскім // прадавалі трайны адэкалон

С. 171:

[20—21] Наступленне працягваецца. // Наступленне прадаўжаецца.

[37] небяспечна. // няма як.

С. 172:

[23—25] — Пара немцам памацаць рэбры. Каб як-небудзь Швальбе выманіць з мястэчка. Старасту Гарбацкага з Палыкавіч таксама трэба знішчыць. // — Пара сяму-таму памацаць рэбры. Каб астатнія былі цішэйшыя. Мы намецім старасту Гарбацкага з Палыкавіч знішчыць.

[32] знішчальнага батальёна // ахоўнага батальёна

С. 173:

[1—2] вайсковую справу // вайсковае дзела

[12] У часопісе пасля слоў «сорак працэнтаў» ідуць сказы: «Ну і тарбахваты,— ускліквае Валюжыч.— З-пад сябе гатовы пабраць…

[13—14] У часопісе адсутнічае сказ: «Вось вам нямецкая ўлада, гаспадарчыкі, не разжывецеся».

[19] Люстэрка // Люстра

С. 174:

[1—2] У часопісе адсутнічае сказ: «Аўгуст Эрнэставіч усю ноч не мог апомніцца»

[6] не звёў вачэй. // не самкнуў вачэй.

[20—21] У часопісе адсутнічае сказ: «Бальшавікі з яго здзекаваліся».

С. 176:

[1—6] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «Валасныя старшыны, старасты…» да слоў: «…лісты і пасылкі ідуць у Германію».

[25—26] высокі, маладжавы // высокі, з прыемным тварам

[32] бургамістравай жонкі // Крамеравай жонкі

[32—33] бургамістравай жонкі — мноства знаёмых. // бургамістравай жонкі

С. 177:

[5—6] У часопісе адсутнічае сказ: «Патаемнымі дарогамі, нябачнымі сцежкамі папаўзлі па мястэчку чуткі».

С. 179:

[17] што не ва ўсім мае рацыю. // што не ва ўсім мае рацыю. Такія, як ён, каменем падалі з неба на зямлю. Перад вайной насіліся ў аблоках, і ім трэба было ўпасці, балюча стукнуцца, каб упэўніцца, што ўсё ў жыцці больш складана і заблытана.

[18] А яны вярнуліся // А яны прыйшлі

С. 180:

[20—21] ўваход (сапраўдны з двара) // ўваход (ходзяць з двара)

[24] другія сані // яшчэ сані

С. 181:

[1] У часопісе адсутнічае сказ: «Скажы, ты ж такі разумны».

[7] савецкія танкі. // нашы танкі.

[10] Яна нагадвала маленькую птушку. // Яна нагадвала маленькую птушку, у якой перабіта крыло.

С. 182:

[11] шасцела. // шасцела старонкамі.

[21] каб ён радаваўся таму, што навокал… // каб ён захапіўся ўсім, што навокал…

С. 183:

[2] Там і ў суседняй мясцовасці, дзе на былой граніцы // Там, на былой граніцы

[7] адна група // адна часць

[11] Партызаны, заняўшы каменны дом // акружылі, але партызаны, заняўшы каменны дом

[13—14] Сямёну Целяшу, які жыве насупраць Лобіка // Сямёну Целяшу

[29—30] сібіракі гоняць фашыстаў па ўсіх напрамках. // сібіракі гоняць фашыстаў.

[31] Скрутак з шрыфтам // Пакунак з шрыфтам

[36] скрутак. // пакунак.

С. 184:

[11] Вісячую лямпу для раўнавагі паставілі ў гаршчок з соллю. // Вісячую лямпу паставілі ў гаршчок з соллю.

С. 186:

[8] паехалі ў інстытуты // паехалі вучыцца

[16] На сценах віселі дзве карціны // На сценах дзве карціны

С. 187:

[3] Мар'я Іванаўна спалохана зірнула на хлопцаў // Мар'я Іванаўна ўздрыгнула, спалохана зірнула на хлопцаў

[30] — Але хто захоча ехаць? // — Ніхто не паедзе

С. 188:

[15] — Думаю, што не прадалася. Яе працаваць прымусілі. // — Нічога не думаю. Не вярзі глупства.

[17—18] Чуткі аказаліся перабольшанымі. // Чуткі былі перабольшанымі.

[25] Адказ далі самі немцы. // Далі адказ самі немцы.

С. 189:

[31] ўваходзіць у абіход. // ўваходзіць у штодзённы ўжытак.

С. 190:

[29] накінулася Вера. // накінулася на хлопцаў Вера.

[31—36] У часопісе адсутнічае наступны фрагмент тэксту: «Вера завяла патэфон, і пакой заліла звонкая мелодыя даваеннай песні. Міцю здалося, што ён трапіў у ранейшы школьны свет. Усё было тое самае: настрой бесклапотнасці, які раптам апанаваў усіх, хто сядзеў у гэтым утульным пакоі, знаёмыя твары, жарты, якімі перакідваліся хлопцы і дзяўчаты. Вайна, роспач, непакой — усё гэта як бы некуды адышло, знікла».

С. 191:

[6—7] бярэ ў палон душу, выклікаючы ў ёй гарачую хвалю пачуцця. // бярэ ў палон душу.

[22] другі канцэрт. // новы канцэрт.

[25—26] паведаміў Мікалай. // паведаміў Аляксей.

[27—28] мабыць, хочуць адцягнуць увагу. // немцы хочуць адцягнуць увагу.

[34] несхаваная злосць. // адкрытая злосць.
[38] адразу прапаў. // адразу знік.

С. 192:

[8—9] пачалі збірацца. // пачалі збірацца дадому.
[12] мільгацелі кволыя бляскі. // мільгацелі.
[13] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Зброя цяпер самае галоўнае. Трэба даставаць зброю…»
[29] Рыта // Мура
[32] Рытай. // Мурай.

С. 193:

[6] Рыце? // Муры?

С. 194:

[6] заходзяць // заглядваюць
[7] з ахоўнай роты. // з аховы.
[8] Яны паважна сядзяць // Яны сядзяць
[10] ў залу не заглядаюць наогул // ў залу не заходзяць
[18] Не нужна // Не надо
[20] пазбягаюць. // не хочуць весці.
[27] завітвае ў хату // заходзіць у хату
[30—31] у нізенькай хатцы // у хатцы

С. 195:

[13—14] трусы. // баязліўцы.
[19—20] Сумлення ў іх няма. Абывацелі. // Няўжо разлічваюць вось так і адсядзецца, пакуль вернуцца нашы. У іх жа, напэўна, спытаюць, што зрабілі, чым займаліся?

С. 196:

[3—4] Нечага ад яго чакае. // На нешта спадзяецца.
[5] ўтрох // ўтраіх
[5—10] Грыцук з пабітым воспаю тварам, амаль двухметровага росту пажарнік, напагатове. Грыцука ў падпольную групу ўцягнулі нядаўна. У дзяжурцы пажарнай — доўгай, як вагон, з дашчаным сталом пасярэдзіне — ён быў адзін. // З пабітым воспаю тварам, амаль двухметровага росту пажарнік Грыцук чакае. У пажарнай — доўгай, як вагон, з дашчаным сталом пасярэдзіне — адзін ён. Усе, хто ў нарадзе, паехалі красці сена.
[13] — Барышня // — Паненка
[20] замінка. // маўчанне.
[21] Прыйшлі ўсе, як заўжды. // Прыйшлі ўсе.
[28—29] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Гэтая сука асцярожнічае. Яшчэ хвост за сабой прыцягне».
[30] хапайце за рукі. // хапайце за рукі, за горла.

С. 197:

[3—4] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Здрадніка рашылі знішчыць яшчэ месяц назад. Дзеля гэтага Красней і Шкірман завялі з ім знаёмства».

[5] У часопісе адсутнічае сказ: «Маўчаць».

[15] капшук з табакай. // капшук з тытунём.

[16] Відаць, дзяўчына падаравала. // Відаць, дзяўчына падаравала. Да вайны Грыцук служыў у міліцыі, нават ажаніўся. Узяў маленькую, тоненькую наборшчыцу з раённай друкарні. Жонка пайшла ад яго на другі дзень. Тады рагаталі: «Не сышліся ростам»…

[17] робяць самакруткі // верцяць самакруткі

[20—21] ўсё пачынаецца не так // ўсё ідзе не так

[25] вырываючыся з рук // вырываючыся з абдымкаў

[25] Той // Паліцай

[30] б'е паленам // гасіць паленам

[30—31] Потым Драгун бачыць // Драгун бачыць

[32] рассцілае на падлозе. // рассцілае на падлозе. Касарэвіча кладуць на брызент.

[32—38] Затым вымае з кабуры забітага наган, шарыць па кішэнях. Загортваюць труп у брызент, дзве цагліны — іх Грыцук загадзя падрыхтаваў — туды ж. Пераматваюць няўклюдную, як сянны мех, ношку вяроўкай. // Грыцук вымае з кабуры забітага наган, шарыць па кішэнях. Паліцая загортваюць у брызент, кладуць дзве цагліны. Перавязваюць няўклюдную, як сянны мех, ношку вяроўкай.

С. 198:

[2—3] Кідаюць у калодзеж труп. // Кідаюць у калодзеж.

[4—5] У часопісе адсутнічае сказ: «Сабаку сабачая смерць».

[17—18] пачынае выварачваць. // пачынае блажыць.

[22] У часопісе адсутнічае другая частка раздзела пятага, пачынаючы са сказа: «Людміла Сяргееўна Азяркова з дачкой Лізай і сынам Віктарам пераехала ў мястэчка ў пачатку зімы, у самыя снягі». З гэтага сказа пачынаецца трэцяя частка, якая ў Зб. тв. супадае з другой часткай часопіснага варыянту.

С. 203:

[14—15] нейкае начальства // пуцейскае начальства

[23] Пасёрбаўшы, лаецца. // Пасёрбаўшы, становіцца злосны.

[25] — Ён бэндзе піць з вас кроў, а з касцей бэндзе мець навоз. // Ён бэндзе піць з вас крэў, а з касцей бэндзе мець угнаенне.

[30—31] — Естэм енец, хэфтлінг. // — Естэм паланёны, хэфтлінг.

[31] Там дзеці // Там ест дзецка

С. 204:

[16] залежыць усё жыццё. // залежыць быць або не быць. Сярэдзіны няма.

[17] другі клопат. // іншы клопат.

[27—28] У часопісе адсутнічае сказ: «Бываюць хвіліны, калі Міця проста ненавідзіць бацьку».

[29—38] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «Птаха ж непакоіць…» да слоў «…адзін ад другога!..»

С. 205:

[3] Печ можа пачакаць. // Печ пачакае.

[15] пытае бацька ў Міці. // пытае бацька.

[30—31] У часопісе адсутнічае сказ: «Агні школы як бы аддаляюць тое, што павінна было хутка прыйсці, але затрымалася ў дарозе».

С. 206:

[2—3] У часопісе адсутнічае сказ: «Дзіця бачыць зялёнае і рада, смяецца».

[30—31] — Раз немцы так клапоцяцца аб сабе, то няхай і Гітлер ім. Няхай моляцца. // — Няхай немцы моляцца.

С. 208:

[1—2] Сястра пазнаёміла яго з цікавым чалавекам — капітанам Бондарам, хоць гаварыць аб ім забараніла. // Сястра пазнаёміла яго з цікавым чалавекам — капітанам Багуном, які збірае вакол сябе надзейных людзей і зброю.

С. 209:

[29—30] Тады, думае ён // Тады

[31—32] да Рыцінага дома. // да Мурынага дома.

[32] Як бы крадзе. // Як бы ён што крадзе.

[32] Рыту // Муру

[33] Рыты // Муры

[38] застаў Рыту неапранутай // застаў Муру ў адной сарочцы

С. 210:

[2] У часопісе пасля слоў «гледзячы на яго» ідзе наступны фрагмент тэксту: «На людзях — ціхая, сарамлівая. Кніг не чытае, ніколі ні аб чым Сяргея не распытвае. Да таго, што ідзе вайна, а ў мястэчку немцы, адносіцца абыякава. Яму здаецца, што на Муру нельга крыўдаваць. Яна штодня як бы чакае новых радасцей, не думае пра заўтрашняе, і можа, гэтым яму падабаецца. У глыбіні душы ён спадзяецца, што калі-небудзь яна лепей яго зразумее, стане другой. Але якой яна павінна стаць, ён і сам не ведае».

[5—6] Рыта ўяўляецца адметнай, непадобнай да іншых дзяўчат. // Мура не падобна да іншых дзяўчат.

9 Рыта // Мура

12 Рыту // Муру

15 праклюнуўся зялёны лісток. // на адной галінцы зялёны лісток.

15—16 На дварэ, у дрэвах саду // На двары ў садзе

23 Рыце // Муры

25 застыне на парозе. // стане на парозе.

28 Рыта. // Мура.

35 Рыта // Мура

37 Рыта // Мура

С. 211:

6 Рыцін // Мурын

14 але чорнагалоў расце, трывае. // але чорнагалоў — трывае.

25 з густымі вяснушкамі // з густымі вяснянкамі

31 не пойдзеш ты // не пойдзеш болей ты

С. 212:

4—5 а засеў нянавісці і помсты. // нянавісць і помсту. На гэты кліч адгукнулася ўсё непакорнае, смелае, сумленнае.

13—14 са знішчальнага батальёна. // з ахоўнага батальёна.

19 Навіна ўстрывожыла. // Навіна прыгнятала, трывожыла.

С. 213:

29 Перахапаюць усіх // Паловяць усіх

С. 214:

13—14 У часопісе адсутнічае сказ: «Вы хлопцы, не забудзьце пра тое, што сказалі».

22 каго-небудзь выдасць. // выдасць іх.

С. 215:

8 Міця адчуваў // Міця ўздрыгнуў. Адчуваў

С. 216:

1 Яна лічыць іх немаведама якімі героямі. // Яна лічыць іх немаведама якімі героямі. А што асаблівага яны зрабілі.

36 За вінтоўкай // Пасля вінтоўкі

38 знішчальнаму // ахоўнаму

С. 217:

1 легкадумны народ паліцаі! // лёгкадумныя паліцаі!

28 строіць планы // прыдумвае планы

С. 219:

7 немцам падазроным // падазроным

9 уцячы ў лес. // пайсці ў лес.

9—10 якая ў Гарбылях // якая жыве ў Гарбылях

28 каб вываліўся // каб выбіць

С. 220:

[6—7] ад якога ні ў чым не схаваешся // ад якога нічога не схаваеш

[11] ушчыльную падступіў да сына. // падступіў да сына.

[37] кошкалася // кешкалася

С. 221:

[4] матлянуўся // рынуўся

[17—18] абавязкі, служба — тыя самыя // абход, абавязкі, служба

[19] дакляраваных на месяц // наканаваных на месяц

[25] але хата не скончана. // але хата стаяла нясканчаная.

С. 222:

[8] Варашылаўграда // Луганска

С. 223:

[2—3] Ты куды думаў пастулаць, Міця? // Ты куды думаў пастулаць, Міця? — Ён маўчыць. Немцы зноў наступаюць, думае ён. Вайна стала звычайнасцю, гэтак востра, як мінулым летам, як восенню, не ўспрымаецца.

[17—18] навісла вішнёвая галіна, аблітыя срэбрам, стаяць сады. // навісла вішнёвая галіна.

С. 224:

[5] пасядзім на ганку // будзем сядзець на ганку

[6] Абрыдзела гэтая вайна. // Абрыдзела вайна. Хутчэй бы які канец.

[7] Навакольныя прадметы // Што яна гаворыць? Ноч увачавідкі траціла чары: навакольныя прадметы

[10] хатняга ўжытку // дамашняга ўжытку

[23] да яго. // да Міці.

[23—24] Яна здаецца безабароннай. // Яна здаецца безабароннай, зусім не думае пра тое, пра што думае ён, але ад гэтага, здаецца, ён любіць яе яшчэ болей. Яна жадае свайго маленькага шчасця, няхай украдзенага на гэтым ганку ў нямецкага патруля, і болей нічога не хоча ведаць. Не спытала, як тады зімой, пра фронт, і ёй, бадай, усё роўна, ёсць у іх зброя ці няма.

[27—28] дакранулася рукой да шыі. // кранулася рукой шыі, ілба.

[37] радаснага // такога радаснага

С. 225:

[17] у паўзмроку. // у прыцемку.

С. 226:

[30—31] у сіняй хусцінцы паўзверх светлых валос. // у сіняй хусцінцы.

[34] Але дэсантнікі па баках не глядзелі. // Але яны па баках не глядзяць.

С. 227:

[20] спытала яна. // спалохана спытала яна.

[27—28] У часопісе адсутнічае сказ: «Да хлопцаў ісці было позна. Трэба было нешта рабіць зараз, неадкладна».

[31—32] Ён вобмацкам знайшоў тайнік. // і вобмацкам, прыгнуўшыся, знайшоў тайнік.

С. 228:

[30—32] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Назаўтра ля ўзарванага насцілу мастка на пыльным шляху тоўпіліся паліцаі. Размахвалі рукамі, лаяліся: партызаны не баяцца лезці ў самое мястэчка».

С. 229:

[13—14] сарваў жытні колас, мне на далоні. // сарваў жытні колас.

С. 230:

[32—33] сёння будуць // будуць

[35] біць па мячы // біць

С. 232:

[21—22] Драгуна ў лазні няма // Драгуна няма

[23] знаёмы голас // знаёмы з мірных дзён голас

[26—27] пакладзеным на калені. // пакладзенаму на ступленыя калені.

[28] вялікі горад // каменны горад

С. 233:

[7] стаяў у дзвярах. // моўчкі падаўся з лазні.

[33] Ужо ідучы па вуліцы // Праскочыўшы вуліцу

[33—34] Прыліп да чужых варот. // Унутрана здрыгануўшыся, прыліп да чужых варот.

С. 234:

[11] Прыйшлося даць кругу // Трэба было зрабіць круг

[34] раскідваюць па падлозе наўмысна // раскідваюць па падлозе

С. 235:

[9—10] расплаўленае, што яго не відаць // расплаўленае

[19] У часопісе адсутнічае сказ: «Толькі сям-там віднеюцца срабрыстыя лужынкі вады».

С. 237:

[6] нахіліўшыся да твару // нахіліўшыся

[11] патаіцца. // стаіцца.

[23] У вазку // У брычцы

[30] Васіль // Аляксей

[30] перарывае // перапыняе

С. 239:

[12] паступаў на курсы? // паступаў у акадэмію?

С. 240:

[7] У часопісе адсутнічаюць сказы: «— Пасядзім, пагаворым. Перакусім трохі».

[9] маўкліва адлажыў // маўкліва паклаў

С. 242:

[25] прыстаўленым // прывязаным

С. 243:

[23] аўсы, пачынаюць красаваць ячмяні. // аўсы, ячмяні пачынаюць красаваць.

[32] патрактаваў // пачаставаў

С. 245:

[24] калі ў фюрара // калі

С. 247:

[14] гаворыць унтэр з замяшаннем. // гаворыць унтэр

[21—24] У часопісе адсутнічае сказ: «Дзякуючы ёй на аддзяленне як бы праліваецца святло дабрачыннасці з боку камандзіра роты лейтэнанта Эрліха, і даброты жыцця яно адчувае трохі лепш, чым іншыя аддзяленні».

[24] І ўсё з-за адной // Усё здарылася з-за адной

С. 249:

[15—26] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «— А як жа ты пакінеш…» да сказа «Пачытай».

С. 251:

[23—28] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «Там у камеры…» да слоў «…згадзіліся стаць паліцэйскімі».

С. 252:

[30] на кватэру да Юрыя. // дзе жыве Юры.

С. 253:

[23—24] прызнацца самому сабе — калі ён ненавідзіць бацьку, маці за тое, што звязваюць яму рукі. // прызнацца самому сабе.

[27] Рыты // Муры

[28] Рыта жыве сваім // Мура не разумее яго. Жыве сваім

С. 254:

[1—3] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Сядзець дома Сяргей не можа. Штодня ідзе да Юрыя. Юрый зрэшты згодзен пайсці ў партызаны. Рушаць утраіх — Юрый, ён, Вілюга».

С. 254—255:

[31—2] На паперцы, якую аддалі кладаўшчыку,— пячаць з нямецкім арлом, на мяшках таксама арлы, толькі большых памераў.— Я трохі знюхаўся з двума нямецкімі чыгуначнікамі,— расказвае Шура, калі

селі на ваганетку. // На мяшках пячаць з нямецкім арлом.— Я трохі знюхаўся з двума нямецкімі чыгуначнікамі,— расказвае Шура, калі селі на ваганетку.— Ведаю, чым дышуць.

С. 308—309:

[35—29] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад слоў «Аўсянік, падладжваючыся…» да слоў «ад нячутнага смеху хлапец з Грамоў».

С. 309:

[32] Адна гэтая смешная гісторыя, Міця глядзіць // Міця глядзіць

С. 321:

[22] расплыўчатыя, як у сне. // расплывістыя, няпэўныя, як у сне.

С. 329:

[17] але не можа. Нешта не дазваляе. // Ды не можа.

[31] сівая // напалавіну сівая

С. 335:

[5] У нашым становішчы сон — самае галоўнае… // Цяпер гэта — самае галоўнае…

[12] прамінула // прайшла

[18—19] Сонца ў акне няма, яшчэ толькі ўсходзіць // Сонца ў акне няма, яшчэ толькі ўсходзіць. Зіхатлівыя бляскі пераліваюцца ў вокнах пошты.

С. 338:

[26] Нібыта пабілі іх. // Усіх траіх — напавал.

С. 340:

[5] Прыкінуцца // Прытварыцца

С. 342:

[19] махае рукой. // нецярпліва махае рукой.

[30] Ён жывы!.. // «Ён жывы, будзе жыць…»

С. 343:

[2] хаваюцца ў старога Бондара. // хаваюцца ў Лобікавага дзеда.

[3—4] дубы // вялізныя дубы

[7] на вайне ў яго чацвёра дарослых сыноў // памёрла ў яго чацвёра дарослых сыноў

С. 345:

[15] Людзей столькі расстралялі. // Людзей тры машыны расстралялі.

С. 346:

[5] чотка // шпарка

[18] размаўляюць упоцемку // размаўляюць да поўначы

С. 348:

[12] не думае. // не ўспамінае.

[12—13] У часопісе адсутнічае сказ: «Наогул смерць, пакуты ўспрымае, як звычайнае».

[32] адпомсціць старасту. // адпомсціць старасце.

С. 349:

[15] Заляглі ў бульбе // Заляглі ў бульбе — па другі бок дарогі

С. 351:

[5—8] Шура, скінуўшы пад адхон паравозы, знік. Вінтоўку ўзяў з Міцевага тайніка. Сувязным будзе Лобік. Ён пойдзе ўладкоўвацца на чыгунку. Міцю там рабіць нечага. // Ужо Шура прыходзіў. Вінтоўку ўзяў з Міцевага тайніка. Хоча забраць аманал. Сувязны цяпер Лобік. Ён пойдзе працаваць на чыгунку. Міцю там рабіць нечага. Будуць за ім прыглядваць.

С. 352:

[10] Дагледзіць хату — і ўсё. За які-небудзь месяц ён гэта зробіць. // Асталося некалькі дзён — і ўсё. Каб толькі прыбраць з пралёта збажыну.

С. 353:

[10—11] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Пот залівае вочы. Сонца вялікае, як расплаўленае. Яго не відаць».

Зб. тв. // *Кніжны варыянт 1962 г.*

С. 4:

[14] Непатрэсканыя шышкі // Нерасколатыя шышкі

[17] трэснуўшы // раскалоўшыся

[25] не помніў // не памятае

С. 5:

[8] ён зваліўся з воза // ён упаў з воза

С. 7:

[5] з шэрым насатым тварам. // з сінім насатым тварам.

С. 12:

[11—12] чым каму-небудзь іх паказаць. // чым каму-небудзь іх паказаў.

С. 13:

[4] ў ліку самых старажытных паселішч гэтага краю // ў ліку самых старэйшых паселішч гэтага краю

С. 18:

[4—5] Мікола ў Грамах і загадчык школы, і загадчык навучальнай часткі // Мікола ў Грамах і дырэктар, і загадчык навучальнай часткі

[19] Трэба рвацца наперад. Га? // Давайце за лета разам дзясяты клас грукнем. Га?

С. 19:

[8] Мікола адразу загараецца. // Мікола нібы чуе гэта ўпершыню.

С. 20:

[34—35] што раптам халодным камяком варухнуўся ў сэрцы? // што раптам халодным раўчуком заструменіў у сэрцы?

С. 22:

[4—5] пакінуўшы хлопцаў утрох. // пакінуўшы хлопцаў утраіх.

[28—29] Міця любіць тлум, мітусню // Міця любіць тлум, беганіну

С. 24:

[27] Пачатку Міця якраз не помніць. // Пачатку Міця якраз не памятае.

С. 29:

[35] Яны ўдвух выскачылі на вуліцу… // Яны ўдваіх выскачылі на вуліцу…

С. 31:

[33] і зноў наступіў зацішак. // і зноў усё стала на ранейшае месца.

С. 32:

[7] парамі вандруюць па палатну // парамі шпацыруюць па палатну

[21] На ім новы касцюм // На Іване новы касцюм

С. 35:

[10—11] Веру Міця помніць // Веру Міця памятае

С. 42:

[2—3] ледзь не кранаючы крыламі коміны хат // ледзь не закранаючы крыламі комінаў хат

[19] узнікла ўнутранае задавальненне // нейкае ўнутранае задавальненне

С. 45:

[31] Голас у Ермаловіча хрыплы, глухаваты // Голас у Ермаловіча хрыплы, стомлены

С. 47:

[32] не адгукацца // не адзывацца

[35—36] Паклапоцімся, каб падмачыць тваю рэпутацыю. // Пастараемся падмачыць тваю рэпутацыю.

С. 52:

[27] — Куды паедзем? // — Куды паедзеш?

С. 53:

[28—29] стараўся б хаваць // стараўся прыхаваць

С. 55:

[26] Смаленск у іх // Смаленск месяц у іх

С. 57:

[22—23] як маскавацъ насыпы травой. // як маскавацъ жоўтыя насыпы травой.

[24—25] Мы сенам акопчык засцелем. // Мы мурожным сенам акопчык засцелем.

С. 58:

[27—28] пякуць мазалі. // зудзяць мазалі.

С. 60:

[8] Міця помніць такі выпадак. // Міця памятае такі выпадак.

С. 64:

[17] аж да самага лесу // аж да лесу

С. 67:

[12—13] які звекаваў на ліцейным заводзіку // які звекаваў на лесапільным заводзе

С. 68:

[26] Ён помніць // Ён памятае

С. 72:

[27—28] сядзіць, трымаючы на каленях пяцігадовую бялявую Сашу, хвалюецца. // сядзіць, трымаючы на каленях пяцігадовую бялявую Сашу.

С. 76:

[1] Пасля поўдня // Пасля полудня

С. 82:

[17] Крыху пазней // Крыху пасля

С. 83:

[37] яшчэ не дайшоўшы, крычыць Гулік // яшчэ не дайшоўшы, здалёку крычыць Гулік

С. 100:

[4] Цяжка ўявіць // Цяжка сабе ўявіць

С. 106:

[11] тоячыся, чыркае запалкай // чыркае запалкай

С. 116:

[18] Пра партызанскі атрад // Пра знішчальны батальён

С. 123:

[23] чуваць пра атрад? // чуваць пра батальён?

[35] Вось што, Васіль… // Вось што, Аляксей…

С. 127:

[18—19] Спіна мокрая. // Спіне холадна.

[29] у атрадзе. // у батальёне.

С. 130:

[35] — Ты, Васіль // — Ты, Аляксей

С. 138:

[27] — Адну ў Піляцічы трэба даць, настаўніку Батуру // — Самкову з Піляціч трэба даць, буйнавіцкаму настаўніку Батуру

С. 139:

[9] пазначаны 2 раздзел // пастаўлены тры зорачкі

С. 145:

[37] схадзіць да маці Нупрэя… // схадзіць да Нупрэя…

С. 156:

[10] Шчыты ніхто не пільнуе // Шчыты ніхто не ахоўвае

С. 170:

[21] прадавалі адэкалон парыкмахерскім // прадавалі адэкалон

С. 176:

[1—2] Валасныя старшыны, старасты возяць не толькі бургамістру // Нямецкія падлізнікі возяць не толькі бургамістру

С. 182:

[11] яна прыемна шасцела. // яна прыемна шасцела старонкамі.

С. 183:

[2—3] Там і ў суседняй мясцовасці, дзе на былой граніцы асталіся неўзарваныя доты, па чутках цэлая партызанская армія. // Там, на былой граніцы, асталіся неўзарваныя доты і там, па чутках, цэлая партызанская армія.

С. 191:

[24] як бы між іншым // як бы паміж іншым

С. 196:

[5] Прыйшлі ўтрох. // Прыйшлі ўтраіх.

С. 197:

[32—33] Затым вымае з кабуры забітага наган // Грыцук вымае з кабуры забітага наган

С. 208:

[1—2] капітанам Бондарам, хоць гаварыць аб ім забараніла. // капітанам Багуном, які збірае вакол сябе надзейных людзей і зброю.

С. 209:

[29—30] Тады, думае ён, хлопцы будуць глядзець // Тады хлопцы будуць глядзець

С. 222:

[8] Варашылаўграда // Луганска

С. 224:

[10] розныя рэчы хатняга ўжытку // розныя рэчы дамашняга ўжытку

С. 232:

[23] пачуўся знаёмы голас // пачуўся знаёмы з мірных дзён голас

С. 233:

[7] стаяў у дзвярах. // моўчкі падаўся з лазні.

С. 237:

[30] — Не дуры, Васіль // — Не дуры, Аляксей

С. 239:

[11—12] як пастулаў на курсы? // як паступаў у акадэмію?

[29] Дадуць шынель. // Дадуць амуніцыю

С. 240:

[7—8] — Ідзі сюды,— паклікаў Кардаш.— Пасядзім, пагаворым. Перакусім трохі. // — Ідзі сюды,— паклікаў Кардаш.

С. 242:

[25—26] прыстаўленым да тэлеграфнага слупа // прывязаным да тэлеграфнага слупа

[27] б’юць нагамі ў тоўсты жывот… // б’юць нагамі ў жывот…

С. 321:

[22] расплыўчатыя, як у сне. // расплыўчатыя, няпэўныя, як у сне.

С. 334:

[18] Абы напхаць жывот… // Абы напіхаць жывот…

[22—23] Кіўні пальцам // Пазаві пальцам

С. 337:

[32] Яго і ў партызаны, у атрад узялі // Яго і ў знішчальны батальён узялі

С. 338:

[26] Нібыта пабілі іх. // Усіх траіх — напавал.

С. 340:

[5] Прыкінуцца, хітрыць. // Прытварыцца, хітрыць.

[11] згрозіш. // сагрозіш.

С. 342:

[11] радасная хваля падступае да горла. // радасная хваля захліствае грудзі.

[19] Афіцэр махае рукой. // Афіцэр нецярпліва махае рукой.

С. 343:

[2] хаваюцца ў старога Бондара. // хаваюцца ў Лобікавага дзеда.

[3—4] Чатыры дубы // Чатыры вялізныя дубы

[7—8] на вайне ў яго чацвёра дарослых сыноў, з якіх адзін — камбрыг. // у яго памерла чацвёра дарослых сыноў, з якіх адзін быў камбрыгам.

С. 344:

[33—35] А Шура заве: — Не бойцеся, цётка. Сюды падыдзіце. // — Не бойцеся, цётка,— заве Шура.— Сюды падыдзіце.

С. 345:

[15] Людзей столькі расстралялі. // Людзей тры машыны расстралялі.

С. 348:

[7] Тутай шпег. // Тутай шпег. Шпіон…

[22] казырае немцу паставому. // казырае немцу паставому. Немец другі, не той, які папярэджваў.

С. 351:

[5—8] Шура, скінуўшы пад адхон паравозы, знік. Вінтоўку ўзяў з Міцевага тайніка. Сувязным будзе Лобік. Ён пойдзе ўладкоўвацца на чыгунку. Міцю там рабіць нечага. Быў Міця ў Драгуна. // Ужо Шура прыходзіў. Вінтоўку ўзяў з Міцевага тайніка. Хоча забраць аманал. Сувязны цяпер Лобік. Ён пойдзе ўладкоўвацца на чыгунку. Міцю там рабіць нечага.

[11—13] З мястэчка карнікі расстралялі болей за паўсотню людзей. Цалкам вынішчаны сем'і Шэлега, Азярковай, настаўніка Вадэйкі… // З мястэчка расстралялі болей як сорак чалавек. Сем'і Шэлега, Азярковай, настаўніка Вадэйкі. Людзі хадзілі да Крамера, прасілі, каб выратаваў. Нічога не зрабіў. На яго руках цяпер кроў. У будцы Міця дажывае апошнія дні. Перавозяцца ў новую хату.

С. 352:

[9—10] Сцяпан Птах рад, што хутка пакіне службу, будку. Дагледзіць хату — і ўсё. За які-небудзь месяц ён гэта зробіць. // Сцяпан Птах рад, што пакідае службу, будку. Асталося некалькі дзён — і ўсё. Каб толькі прыбраць з пралёта збажыну.

## 1967

### Вецер у соснах (с. 354)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1983, т. 4.

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1967, № 4—6.

Выходзіў асобным выданнем у 1967, 1975, 2001 гг.

Раман перакладаў на рускую мову М. Гарбачоў (1969, 1970, 1975).

Першая частка рамана ў Зб. тв. мае 11 раздзелаў, другая — 16 раздзелаў, у часопісным варыянце першая частка рамана мае 10 раздзелаў, другая частка — 14 раздзелаў.

С. 354:

*Штандары* — укапаныя ў зямлю калоды, на якія кладуцца ніжнія бярвенні зруба.

С. 355:

*Немцы рвуцца на Каўказ, дайшлі да Волгі, баі ў Сталінградзе.*— Нямецка-фашысцкія войскі групы армій «Поўдзень» 23 ліп. 1942 г. занялі Растоў-на-Доне, шлях на Каўказ быў свабодны. 6-я нямецкая армія на пачатку жніўня выйшла на падступы да Сталінграда. Ужо 23 жн. яе перадавыя часткі выйшлі да Волгі, паўночней за Сталінград. А з 13 верас. 1942 г. пачалі весціся баі на ўскраінах горада і ў самім горадзе; Каўказ, Волга — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 733); Сталінград — назва г. Валгаграда ў 1925—1961 гг. на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі (да 1925 г. меў назву Царыцын).

С. 357:

*Бранск* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 718).

*Клінцы* — горад у Расіі, цэнтр Клінцоўскага р-на Бранскай вобл. Горад быў акупаваны немцамі 20 жн. 1941 г.

*Генералы хацелі выхваліцца перад царом наступленнем, ну і тысяч сто шэрай скацінкі — у палон.*— маецца на ўвазе наступленне расійскай арміі пад час Першай сусветнай вайны ў 1914 г. У раёне Мазурскіх азёр у жн.— верас. 1914 г. ішлі кровапралітныя баі паміж рускімі і германскімі войскамі, у выніку якіх 1-я расійская армія пад камандаваннем П. К. Рэненкампфа і 2-я расійская армія пад камандаваннем А. В. Самсонава пасля першых поспехаў наступлення пацярпелі цяжкае паражэнне і адступілі, шмат салдат загінула ці трапіла ў палон.

С. 359:

*Стараста* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 720).

*Дзесяціна* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 719).

*Кулак* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 721).

С. 360:

*Палярная зорка* — зорка ў сузор'і Малой Мядзведзіцы, якая знаходзіцца каля Паўночнага полюса свету.

*Вялікая Мядзведзіца* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 710).

*«Свеціць месяц»* — руская народная песня.

С. 361:

*Ніл* — рака ў Афрыцы, адна з найвялікшых рэк свету.

*Малаазіяцкі паўвостраў* — геаграфічная вобласць, размешчаная ў Паўднёва-Заходняй частцы Азіі.

*Гітлер* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 709).

С. 362:

*Але дзікія намады ўсё ж трыста гадоў уладарылі над Рус-сю.*— Намадамі называлі качавыя плямёны. Усходнія і Паўднёвыя княствы Русі пасля заваёўніцкага паходу мангольскага хана Батыя (1237—1240) да 1480 г. заставаліся пад уладай Мангольскай імперыі, а затым Залатой Арды.

*Чудскае возера* — возера на мяжы Эстоніі і Пскоўскай вобл. Расіі. У 1242 г. на Чудскім возеры адбылася бітва рускага войска пад кіраўніцтвам князя Аляксандра Неўскага з войскам Тэўтонскага ордэна.

*Аляксандр Неўскі* (каля 1220—1263) — князь наўгародскі (1236—1240, 1241—1251), цвярскі (1247—1252), вялікі князь кіеўскі (1249—1263), уладзімірскі (1252—1263). Выйграў бітву з крыжакамі ў Лядовым пабоішчы на Чудскім возеры ў 1242 г.

*Тэўтонскі рыцар* — воін Тэўтонскага ордэна. Тэўтонскі ордэн — германскі духоўна-рыцарскі ордэн, заснаваны ў XII ст. На працягу некалькіх стагоддзяў праводзіў сваю ваенна-эканамічную і рэлігійную экспансію на балцкія і славянскія народы.

*...татарскага хана...* — Хан (хаган, каган) — тытул улада-ра, манарха ў татарскіх дзяржавах (ханствах).

С. 363:

*Шрот* — канцэнтраваны корм, пабочны прадукт масла-вытворчасці.

С. 366:

*Лакамабіль* — гл. камент. рамана «Сасна пры дарозе» (с. 733).

С. 368:

*...эмтээсаўскі дом...* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 714).

*Жандармерыя* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 718).

С. 370:

*Бургамістр* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 717).

С. 371:

— *Усесаюзнай выстаўкі.*— гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 711).

*Кок-сагыз* — шматгадовая травяністая расліна роду дзьмухаўцоў. Адзін з найлепшых натуральных каўчуканосаў фло-ры СССР. З 1954 г. у сувязі з развіццём вытворчасці сінтэтычнага каўчуку плантацыі кок-сагызу болей не культываваліся.

С. 372:

*Пушкін* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 708).

С. 373:

*...паступіў у прафтэхшколу* — Прафтэхшкола — школа падрыхтоўкі спецыялістаў для розных галін народнай гаспадаркі. Заснавана на базавай або агульнай сярэдняй адукацыі.

*Управа* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 719).

С. 374:

*...школьны Партос...* — Партос — знакаміты літаратурны герой з рамана французскага пісьменніка А. Дзюма-бацькі (1802—1870) «Тры мушкецёры» (1844) і твораў, напісаных у працяг рамана.

С. 375:

*Старая Руса* — горад у Расіі, цэнтр Старарускага р-на Наўгародскай вобл.

*Ленінград* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 708).

*...калі нашы стаялі пад Харкавам, Лазавой, трымалі ў сваіх руках Севастопаль.*— Харкаў — горад ва Украіне, цэнтр Харкаўскай вобл. Быў захоплены нямецкімі войскамі 24 кастр. 1941 г. Савецкія войскі 12 мая 1942 г. пачалі наступленне з мэтай вызваліць горад, але пасля нямецкага контрнаступлення 22 мая вымушаны былі адступіць, шматлікія часткі Чырвонай Арміі трапілі ў акружэнне, панёсшы вялікія страты; Лазавая — горад на поўдні Харкаўскай вобл. У 1941—1942 гг. быў арэнай кровапралітных баёў Чырвонай Арміі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі; Севастопаль — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 728).

*Ларэлея* — галоўная гераіня параўноўваецца з вабным вобразам дзяўчыны са знакамітага верша нямецкага паэта Г. Гейнэ (1797—1856) «Ларэлея».

С. 379:

*Фашызм* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 712).

С. 387:

*...падышоў да двух жардзяных куранёў...* — Курань — лёгкая жылая пабудова; будан, зямлянка.

С. 391:

*У канцы мінулага стагоддзя на Палескай раўніне пралягла чыгунка.*— маецца на ўвазе адкрыццё чыгункі па лініі Лунінец — Гомель, а таксама станцыі Васілевічы ў 1886 г.

С. 392:

*Палессе* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 712).

*Жылінскі Іосіф Іпалітавіч* (1834—1916) — расійскі і беларускі геадэзіст, у 1863—1873 гг. кіраваў вымярэннямі па лініі Брэст—Пінск—Мазыр—Гомель, з 1873 па 1899 г. узначальваў Заходнюю экспедыцыю па асушэнні балот Палесся. Прозвішча Жылінскага ўзгадваецца ў варыянце часопіса «Полымя».

*Кайзераўская акупацыя* — маецца на ўвазе акупацыя тэрыторыі Беларусі нямецка-кайзераўскімі войскамі ў гады Першай сусветнай вайны (1914—1918).

*Белапольская акупацыя* — акупацыя земляў Беларусі польскімі войскамі (1919—1920) пад час польска-савецкіх ваенных канфліктаў.

*Тут размяшчалася пяхотнае вучылішча.*— маецца на ўвазе тое, што ў горад Калінкавічы (які ў рамане носіць назву Гарбылі) у маі 1941 г. было пераведзена Мінскае ваенна-пяхотнае вучылішча. Калінкавічы былі акупаваны нямецкімі войскамі 21 жн. 1941 г.

С. 393:

*...скончыў школу першай ступені...* — школа, якая існавала ў СССР у 1920—1930-я гг. з пяцігадовым курсам навучання для дзяцей 8—13 гадоў.

*На гулкіх вучэбных «фардзонах»...* — «Фардзон» — трактар Пуцілаўскага завода ў Ленінградзе, які выпускаўся на аснове амерыканскай ліцэнзіі маркі «Фардзон — Пуцілавец» (1924—1932).

С. 394:

*...купіў тры дзесяціны скарбовай зямлі...* — Скарбовая зямля — у XIX ст. у Расіі ўся дзяржаўная зямля падзялялася на абшчынную і скарбовую. Скарбовую зямлю трэба было выкупляць у дзяржавы на пэўны тэрмін.

*...першую германскую вайну...* — маецца на ўвазе Першая сусветная вайна (1914—1918).

С. 395:

*...стаў ледзь не георгіеўскім кавалерам — заслужыў тры крыжы.*— Георгіеўскі кавалер — асоба, якую ўзнагародзілі ордэнам Святога Георгія або Георгіеўскім крыжам. Георгіеўскі крыж як ваенная ўзнагарода існаваў у дарэвалюцыйнай Расіі (1807—1917). Быў вышэйшай узнагародай для ваенных ніжніх чыноў унтэр-афіцэраў і салдат. Атрымаць яго было магчыма толькі выключна за асабістую мужнасць, праяўленую ў баі. У 1856 г. было ўведзена чатыры ступені гэтага ордэна.

*...захапіў яшчэ грамадзянскай вайны...* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 714).

*«Правда»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 722).

*Ленін* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 717).

*Спажывецкі кааператыў* — прыватная арганізацыя па аказанні паслуг, або прыватная гаспадарка. Вялікае распаўсюджанне атрымалі спажывецкія кааператывы ў часы нэпа.

*Разведбатальён, якім камандаваў капітан Бондар, разбілі пад Навагрудкам.*— У выніку прыгранічных баёў і адступлення Чырвонай Арміі практычна да 26 чэрв. 1941 г. тры арміі яе Заходняга фронту апынуліся ў акружэнні нямецка-фашысцкіх войск паміж Беластокам і Мінскам. У асабліва цяжкім становішчы аказаліся часці Чырвонай Арміі, якія былі сціснуты ў нямецка-фашысцкія «танкавыя клешчы» пад Навагрудкам.

С. 396:

*…пад Мінскам яму трапіла ў рукі газета з выступленнем Сталіна…* — маецца на ўвазе выступленне І. В. Сталіна (1879—1953) ад 3 ліп. 1941 г., дзе выкладаліся асноўныя задачы па барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

*Беласток* — горад у Польшчы, у 1939—1945 гг. быў у складзе БССР.

С. 397:

*Сяміпалацінск* — горад у Казахстане. З 2007 г. мае назву Семей.

*У саракавым годзе... на Карэльскім перашыйку нібы свечка згарэла рота Бондара.*— маецца на ўвазе савецка-фінская вайна 1940 г.; Карэльскі перашыек — участак сушы паміж Фінскім залівам Балтыйскага мора і Ладажскім возерам. Пад час савецка-фінскай вайны на Карэльскім перашыйку вяліся найбольш цяжкія і кровапралітныя баі.

*Медаль «За адвагу»* — дзяржаўная ўзнагарода СССР. Заснаваны 17 кастр. 1938 г. для ўзнагароджвання воінаў Чырвонай Арміі, Ваенна-Марскога Флоту і пагранічнай аховы за асабістую мужнасць і адвагу ў баях з ворагамі Савецкага Саюза. Пасля распаду СССР быў нанова заснаваны ў сістэмах узнагарод Расіі і Беларусі.

С. 399:

*...ў Маскве 7 лістапада... ваенны парад...* — маецца на ўвазе знакаміты парад Чырвонай Арміі на гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі 7 лістап. 1941 г., калі воіны, якія ўдзельнічалі ў парадзе адразу ж накіроўваліся на перадавыя рубяжы па абароне Масквы. Парад прымаў і выступіў на ім Вярхоўны галоўнакамандуючы І. В. Сталін.

С. 402:

*Напалеон* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 723).

*Сувораў Аляксандр Васільевіч* (1729—1800) — рускі палкаводзец, генералісімус.

С. 403:

*...п'еса «Любоў Яравая».*— найбольш вядомая п'еса рускага драматурга і празаіка К. А. Транёва (1876—1945). Упершыню пастаўлена ў 1926 г., у 1936 г. аўтарам падрыхтавана новая рэдакцыя твора.

С. 404:

*Днепрагэс* (скар.: Дняпроўская гідраэлектрастанцыя) — першая буйная гідраэлектрастанцыя на Дняпры, пабудаваная паводле плана ГОЭЛРО ў 1928 г.

С. 405:

*Імперыялістычная вайна* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 715).

*...білеты ў Вялікі тэатр...* — маецца на ўвазе Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр Расійскай Федэрацыі. Знаходзіцца на Тэатральнай плошчы ў Маскве. Заснаваны ў 1825 г.

*...кватэру на Таганцы...* — Таганка (да канца XIX ст. Заяўз'е) — гістарычная назва мясцовасці ў Маскве, размешчаная паміж рэкамі Масква і Яўза, у ваколіцах Таганскай плошчы.

С. 406:

*...калі Масква пачынала будаваць метро...* — 15 чэрв. 1931 г. на Пленуме ЦК ВКП(б) было прынята рашэнне пра будаўніцтва Маскоўскага метрапалітэна. 15 мая 1935 г. адкрылася першая чарга.

С. 408:

*...Баі дасягнулі знаёмых прыгарадаў Масквы.*— напэўна, маюцца на ўвазе такія гарады, як Мажайск, Серпухаў, Кубінка, якія сталі апошнімі рубяжамі, да якіх змаглі падысці нямецка-фашысцкія войскі восенню-зімой 1941 г. на подступах да Масквы.

С. 409:

*Патэфон* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 727).

*Мурманск* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 726).

С. 410:

*«Пушторг»* — у 1924 г. у Лейпцыгу было адчынена спецыяльнае аддзяленне па экспарце пушніны Берлінскага расійскага гандлёвага прадстаўніцтва «Пушторг».

С. 411:

*«Тэлефункен»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 719).

*...голас даваеннага маскоўскага дыктара...* — хутчэй за ўсё маецца на ўвазе знакаміты голас дыктара Усесаюзнага радыё Левітана Юрыя Барысавіча (1914—1983).

С. 413:

*...Адступленне пад Масквой — вельмі, вельмі непрыемная рэч для нас, немцаў...* — Контрнаступленне Чырвонай Арміі пад Масквой пачалося 5—6 снеж. 1941 г.

С. 418:

*Прыпяць* — рака ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях Беларусі, Валынскай, Ровенскай і Кіеўскай абласцях Украіны, правы прыток Дняпра.

С. 420:

*У палон трапіў сёлета вясной, пад Харкавам.*— маюцца на ўвазе падзеі Другой Харкаўскай наступальнай аперацыі Чырвонай Арміі, якая праходзіла 12—31 мая 1942 г. і завяршылася цяжкім паражэннем савецкіх войск.

С. 427:

*...на фінскую з Віцебска паехалі...* — маецца на ўвазе савецка-фінская вайна (1939—1940). Віцебск быў акупаваны нямецкімі войскамі 16 ліп. 1941 г.

*Лімонка* — маецца на ўвазе ручная асколачная граната Ф-1. Выпускалася ў СССР, была распрацавана на аснове французскай асколачнай гранаты F-1 мадэлі 1915 г.

С. 430:

*...мадзьярскі артылерыйскі дывізіён...* — маецца на ўвазе дывізіён венгерскіх войск. Венгрыя ў вайну з СССР уступіла 27 чэрв. 1941 г.

*...ехалі на Дон, пад Арол...* — Дон, Арол — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 722, 727). Нямецка-фашысцкія войскі захапілі Арол 3 кастр. 1941 г.

С. 436:

*Не видала ты подарка / От донского казака...* — радкі з рускай народнай песні «Из-за острова на стрежень», словы Д. М. Садоўнікава, музыка народная.

*...туліў Сценька Разін да шырокіх грудзей чарнавокую персідскую княжну...* — маецца на ўвазе легендарны аповед пра тое, як Сценька Разін утапіў у Волзе персідскую царэўну. Гістарычна гэты факт не мае пацвярджэння; Сценька Разін — Разін Сцяпан Цімафеевіч

(каля 1630—1671) — данскі казацкі атаман. Кіраўнік казацкага паўстання (1670—1671). Пакараны ў Маскве на Балотнай плошчы.
С. 437:

*Когда домой товарищ мой вернется, / За ним родные ветры вслед летят, / Любимый город в синей дымке тает, / Знакомый дом, зеленый сад и нежный взгляд…* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 706).
С. 440:

*Адэса* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 709). Акупаваная нямецка-фашысцкімі войскамі 16 кастр. 1941 г.

*Камвуз* — скар.: камуністычная вышэйшая навучальная ўстанова — вышэйшыя навучальныя ўстановы ў СССР, якія рыхтавалі кадры для савецкай і партыйнай адміністрацыі.

*Казань* — горад у Расіі, сталіца рэспублікі Татарстан.
С. 441:

*Познань* — горад у Польшчы, адміністрацыйны цэнтр Велікапольскага ваяводства.
С. 442:

*…пасялілі… на Вераб'ёвых гарах.*— маюцца на ўвазе Вараб'ёвы горы — назва мясцовасці на паўднёвым захадзе Масквы. Утвораны высокім правым берагам Масквы-ракі. Лічацца адным з сямі ўзгоркаў Масквы. У 1935—1999 гг. мелі назву Ленінскія горы.
С. 443:

*…пад крылом «дугласа»…* — амерыканскі транспартны самалёт, распрацаваны заводам Douglas Aircraft Company ў 1935 г. Выпускаўся ў шматлікіх мадыфікацыях у ЗША, Японіі і СССР да 1952 г. Адзін з самых масавых самалётаў у гісторыі сусветнай авіяцыі.
С. 444:

*«Рама»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 715).
С. 446:

*…ручныя «дзегцяровы»…* — ручны кулямёт савецкага канструктара В. А. Дзегцярова (1879—1949).
С. 454:

*…значок варашылаўскага стралка…* — «Варашылаўскі стралок» — нагрудны значок для ўзнагароджвання трапных стралкоў. Палажэнне пра стварэнне звання «Варашылаўскі стралок» было зацверджана 29 кастр. 1932 г. Прэзідыумам Цэнтральнага Савета Асаавіяхіма СССР і РСФСР, а сам значок — 29 снеж. 1932 г.

*Чаму ж ты пакінуў мяне, сіраціну, / Чаму ж не ўзяў за жонку,— / Я б твае пастолікі ў вадзе паласкала, / Я б тваю га-*

*ловачку на лане ласкала, / Мой ты касец...* — беларуская народная песня.
С. 458:

*Бальшавік* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 717).

*...нябачаныя яшчэ рускія аўтаматы з урэзанай драўлянай ложай...* — хутчэй за ўсё маецца на ўвазе пісталет-кулямёт канструктара стралковай зброі Г. С. Шпагіна (1897—1952) ППШ-41, распрацаваны і прыняты на ўзбраенне Чырвонай Арміяй у 1940 г.
С. 460:

*Кубань* — стэпавыя раёны прыкубанскай нізіны, што раскінуліся на поўнач ад ніжняга цячэння ракі Кубань. Найважнейшы збожжавы рэгіён Расіі.
С. 462:

*Тут у тодтаўскай арганізацыі былі палякі. Ваеннапалонныя. Школьнікі — да іх. Вышэйшыя афіцэры размаўляць адмовіліся. А частка малодшых афіцэраў і салдат згадзіліся. Толькі паставілі ўмову: да партызан пойдуць, але каб іх на самалётах перакінулі ў Маскву. Адтуль збіраліся ўступіць у польскую армію.*— хутчэй за ўсё маецца на ўвазе польская армія генерала Андэрса, якая была створана на тэрыторыі СССР, а затым перапраўлена ў Іран.
С. 463:

*Трактарны завод амаль поўнасцю ў нямецкіх руках. На поўдзень ад горада нямецкія часці выйшлі да Волгі...* — пад час абарончага перыяду Сталінградскай бітвы з 17 ліп. па 18 лістап. 1942 г. баі за трактарны завод пачаліся з 14 кастр. 1942 г. На поўдзень ад Сталінграда да Волгі нямецка-фашысцкія войскі прарваліся 26 верас. 1942 г.
С. 466:

*Унбэкант (ням.)* — не ведаеш.
С. 470:

*Лунінец захоплены немцамі...* — Лунінец быў акупаваны немцамі 10 ліп. 1941 г.
С. 471:

*...пачак «Казбека»...* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 712).

*Унеча* — горад у Расіі, цэнтр Унецкага р-на Бранскай вобл.

*ЧОН* (скар.: часткі асобага прызначэння) — ваенныя партыйна-камсамольскія фарміраванні, створаныя ЦК РКП(б) для дапамогі органам савецкай улады ў барацьбе з контррэвалюцыяй. Існавалі ў 1919—1925 гг.

*Шчорсаўскія атрады* — атрады пад камандаваннем легендарнага камандзіра Чырвонай Арміі М. А. Шчорса (1895—1919), які ў 1918—1919 гг. як камандзір брыгады (Багунскага і Тарашчанскага палкоў) змагаўся з пятлюраўцамі ў баях за Чарнігаў, Кіеў, Фастаў і інш.

*Злынка* — горад у Расіі ў Навазыбкаўскім р-не Бранскай вобл.

*Чэкіст* — чалавек, які служыць ва УНК (ВЧК *(рус.)* — Всероссийская чрезвычайная комиссия) — дзяржаўны орган, створаны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., які ў сваёй дзейнасці спалучаў функцыі спецслужбы і праваахоўных органаў. Першым кіраўніком ВЧК быў Ф. Э. Дзяржынскі (1877—1925).

*Балахоўцы* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 722).

С. 472:

*«Заготжывёла»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 721).

С. 473:

*Роўна* — горад ва Украіне, цэнтр Ровенскай вобл. З 1941 г. сталіца рэйхскамісарыята «Украіна». Акупавана нямецка-фашысцкімі войскамі 28 чэрв. 1941 г.

*...Прыдняпроўска-Прыпяцкія раёны Палесся, як і Брэстчына, аднесены да Украіны...* — згодна з указам Гітлера ад 17 ліп. 1941 г. быў створаны рэйхскамісарыят «Остланд», у склад якога былі ўключаны Эстонія, Латвія, Літва і частка Беларусі ў якасці генеральных акруг. Паўднёвыя раёны Гомельскай і Палескай абласцей і частка раёнаў Брэсцкай вобл. былі ўключаны ў рэйхскамісарыят «Украіна».

*...Пілеўскі — з раскулачаных.*— гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 730).

*Салаўкі* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 730).

С. 477:

*Камрад* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 732).

*Эйнгундэрт фуфцыг* (з *ням.*: einhundert füfzig) — сто пяцьдзясят.

С. 482:

*Бітэ трынкен русішэ шнапс* (*ням.* Bitte trinken russische schnaps) — Запрашаем выпіць рускай гарэлкі.

*...заспяваў пра брадзягу, пра возера Байкал.*— маецца на ўвазе песня «По диким степям Забайкалья» ці іншая яе назва «Бродяга» («Валацуга») — руская народная песня, вядомая яшчэ на пачатку XX ст.; Байкал — возера ў Расіі ў Паўднёва-Усходняй Сібіры (у Бурацii і Іркуцкай вобл.). Найглыбейшае і найвялікшае па аб'ёме прэснай вады возера ў свеце.

С. 484:

*...салдаты кайзера Вільгельма...* — маюцца на ўвазе германскія салдаты, якія ўдзельнічалі ў акупацыі Беларусі пад час Першай сусветнай вайны (1914—1918); Вільгельм — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 716).

С. 487:

*Фольксдойч* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 717).

С. 489:

*Жытомір* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 730).

С. 504:

*— Ленінград, значыць, у цісках? — У блакадзе.*— З 8 верас. 1941 па 18 студз. 1943 г. адбывалася поўная блакада Ленінграда.

*...наладзілі дарогу па Ладазе...* — з 22 лістап. 1941 г. стала дзейнічаць лядовая траса праз Ладажскае возера ў Ленінградзе, гэтак званая «Дарога жыцця».

*Варонеж* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 728).

*Вязьма* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 725).

*Чарнігаў* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 713).

С. 505:

*«Кацюша»* — народная назва баявых машын рэактыўнай артылерыі ў Вялікую Айчынную вайну. Мяркуецца, што паходжанне назвы звязана з заводскай маркай (літара «К»), якая была на машыне, і з аднайменнай папулярнай песняй.

*Кажуць, амерыканская тэхніка ёсць на фронце.*— 24 чэрв. 1941 г. Ф. Д. Рузвельт зрабіў заяву аб жаданні ЗША аказваць дапамогу СССР у вайне супраць нацысцкай Германіі па сістэме гэтак званага ленд-лізу (ад *англ.*: lend — даваць у пазыку і lease — здаваць у арэнду) — дзяржаўная праграма, паводле якой ЗША перадавалі СССР і іншым саюзнікам у Другой сусветнай вайне боепрыпасы, тэхніку, харчаванне і стратэгічную сыравіну. Дапамога СССР склала за 1941—1945 гг. 11,3 млрд рублёў па кошце таго часу і 138 млрд па сённяшнім курсе.

*«Студэбекер»* — грузавыя машыны УС-6, што выпускаліся амерыканскай фірмай «Студэбекер» і пастаўляліся ў Савецкі Саюз з 1941 г.

С. 510:

*«Эмка»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 714).

С. 514:

*Ламавічы* — вёска ў Акцябрскім р-не Гомельскай вобл.

С. 515:

*Карпілаўка* — былая вёска Акцябрскага р-на Гомельскай вобл., якая ў 1954 г. разам з вёскамі Рудабелка і Рудня ўтварылі гарадскі пасёлак Акцябрскі.

*Шавіёт* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 712).

*Мы падначальваемся Мінскаму абкаму і партызанскаму кіраўніцтву...* — са студз. 1942 г. на акупаванай тэрыторыі Беларусі дзейнічалі Мінскі і Гомельскі абкамы. А з 9 верас. 1942 г. быў утвораны Беларускі штаб партызанскага руху (БШПР).

С. 516:

*...забраў масла з сепаратара...* — Малочны сепаратар — апарат для раздзялення малака на вяршкі і адгону і ачысткі яго ад механічных дамешкаў.

С. 526:

*Курск* — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобл.

*Кастрама* — горад у Расіі, цэнтр Кастрамской вобл.

*Пакровы* (Пакроў Прасвятой Багародзіцы) — праваслаўнае свята ў гонар дзівоснага з'яўлення Маці Божай ва Улахернскім храме ў Канстанцінопалі ў 910 г. Адзначаецца 14 кастр.

*Сувалкі* — горад на паўночным усходзе Польшчы, уваходзіць у Падляскае ваяводства.

С. 536:

*НКВД* (НКУС) — скар.: Народны камісарыят унутраных спраў — адзін з органаў дзяржаўнага кіравання ў СССР (1934—1946) па барацьбе са злачыннасцю і падтрыманні грамадскага парадку, забеспячэнні дзяржаўнай бяспекі.

*Вінніца* — горад ва Украіне, цэнтр Вінніцкай вобл., захоплена нямецка-фашысцкімі войскамі 19 ліп. 1941 г.

*...стаўка Гітлера.*— маецца на ўвазе стаўка Гітлера пад Вінніцай пад назвай «Вервольф» (*ням.* Vehrwolf — «Ваўкалак»), існавала са снеж. 1941 па лістап. 1943 г.

*Вы з групы УПРА?* — скар.: Упраўленне ваеннай разведкі Генеральнага штаба Чырвонай Арміі. Такую назву насіла з верас. 1942 па лют. 1943.

*Троіцкі манастыр* (Троіцка-Сергіеўская лаўра) — адзін з найбуйнейшых расійскіх манастыроў. Заснаваны ў сярэдзіне XIV ст. манахам Сергіем Раданежскім. З 1744 г. з'яўляецца лаўрай.

С. 537:

*...круціць рычажкі «Северка»...* — «Северок» — пераносная караткахвалевая радыёстанцыя, якая актыўна выкарыстоўвалася Чырвонай Арміяй у 1941—1945 гг.

С. 552:

*Дняпро* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 714).

*Танкетка* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 716).

С. 556:

*...калі лічыць з фінскай вайны...* — маецца на ўвазе савецка-фінская вайна 1940 г.

С. 558:

*Фельдфебель* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 717).

С. 559:

*«Правда»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 722).

*Аўсвайс* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 724).

С. 560:

*Як у той песні пра легкадумную Лілі Марлен «Seine Schritte kennt sie, seine schöne Gang».*— Песня, якая сталася папулярнай у Другую сусветную вайну, як у нямецкіх салдат, так і ў салдат саюзных армій. Словы песні з’явіліся ў гады Першай сусветнай вайны, іх аўтар нямецкі паэт і мастак Х. Ляйп (1893—1983), упершыню былі апублікаваны ў 1937 г. У 1938 г. кампазітар Н. Шульцэ (1911—2002) стварыў музыку.

С. 562:

*Выгналі яны ўсялякіх інтэрвентаў...* — маецца на ўвазе інтэрвенцыя Савецкай Расіі (1918—1922), удзел у якой прымалі больш за дзясятак краін свету.

*Чынгісхан* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 732).

С. 563:

*«Так сказаў Заратустра»* — філасофскі раман Ф. Ніцшэ (1844—1900) «Also sprach Zarathustra» (1883—1885).

*Уайльд Оскар Фінгал О’Флаэрці Уілс* (1854—1900) — англійскі паэт, філасаф, публіцыст.

*Гамсун Кнут* (сапр. Кнуд Педэрсен; 1859—1952) — нарвежскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920).

*Гаўптман Герхарт* (1862—1946) — нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1912).

*Пшыбышэўскі Станіслаў Фелікс* (1868—1927) — польскі пісьменнік.

*Метэрлінк Марыс* (1862—1949) — бельгійскі пісьменнік. Пісаў па-французску, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1911).

*Салагуб Фёдар Кузьміч* (1863—1927) — рускі паэт.

*«Па той бок дабра і зла»* — назва кнігі нямецкага філосафа і філолага Ф. Ніцшэ (1844—1900), выдадзеная ў 1886 г.

С. 564:

*Фашызм — чыстая біялогія. Без адкрыцця Дарвіна ён быў бы немагчымы.*— Дарвін — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 708). Распрацаваў тэорыю эвалюцыі, згодна з якой усе віды развіліся з цягам часу з агульных прародзічаў праз працэс натуральнага адбору.

С. 578:

*Францыя* — дзяржава ў Паўднёвай Еўропе. У чэрв. 1940 г. была акупавана Германіяй.

*...непрыступны Атлантычны вал на лініі Гаўр — Шэрбург.*— Атлантычны вал — такую назву атрымала сістэма нямецкіх абаронча-фартыфікацыйных збудаванняў уздоўж марскога ўзбярэжжа Францыі; Гаўр — партовы горад на поўначы Францыі ў рэгіёне Верхняя Нармандыя; Шэрбург — горад у Францыі, размешчаны ў дэпартаменце Ла-Манш.

*Пасля Дзьепа, дзе саюзнікі паказалі сваю слабасць...* — Дзьеп — горад у Францыі, размешчаны ў Верхняй Нармандыі. Першай спробай высадкі саюзных войскаў у Еўропе стала ажыццяўленне дэсанту англійскіх, амерыканскіх, канадскіх і французскіх войск 19 жн. 1942 г. каля невялікага французскага горада Дзьеп. Аднак нямецка-фашысцкімі войскамі дэсант быў скінуты ў мора.

*«Опель-капітан»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 717).

*«Бенц»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 733).

С. 579:

*Мажайск* — горад у Расіі, цэнтр Мажайскага р-на Маскоўскай вобл. З 12 па 18 кастр. 1941 г. пад Мажайскам ішлі вельмі жорсткія кровапралітныя абарончыя баі Чырвонай Арміі з войскамі вермахта. Мажайск быў захоплены нямецкімі войскамі 18 кастр. 1941 г.

*...атруцілі ў Грэцыі партызаны...* — Пасля фашысцкай акупацыі ў Грэцыі са шматлікіх партызанскіх атрадаў і груп у снеж. 1941 г. была створана Народна-вызваленчая армія Грэцыі, якая ўзначаліла сілы Супраціўлення грэчаскага народа супраць акупантаў.

*...памёр у шпіталі ад іспанкі.*— Іспанкай назвалі грып цяжкай формы, які ахапіў планету на пачатку XX ст., які прынёс мільёны чалавечых ахвяр. Сваю назву хвароба атрымала таму, што менавіта Іспанія першай адчула моцную ўспышку гэтай страшнай эпідэміі.

*…нашы кунігунды ваююць нараўне з зігфрыдамі.*— Кунігундай звалі першую каралеву Германіі. Яе муж Генрых II быў

каралём Германіі, а з 1014 г. стаў імператарам Святой Рымскай імперыі. Пры іх кіраванні былі завершаны асноўныя працэсы стварэння нямецкай дзяржаўнасці, паскорана ішоў працэс хрысціянізацыі германскага насельніцтва; Зігфрыд — адзін з важнейшых герояў германа-скандынаўскай міфалогіі і эпаса, герой эпаса «Песні пра Нібелунгаў».

С. 581:

*Група армій «Цэнтр» захапіла Смаленск...* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 713).

*Арміі групы «Поўдзень» таўкліся ў гэты час пад Кіевам.*— Кіеўская абарончая аперацыя працягвалася з 10 ліп. па 26 верас. 1941 г.

*Гудэрыян Хайнц Вільгельм* (1888—1954) — генерал-палкоўнік германскай арміі (1940), ваенны тэарэтык. Адзін з піянераў матарызаваных спосабаў вядзення вайны.

С. 582:

*Котлас* — горад у Расіі, цэнтр Котласкага р-на Архангельскай вобл. У верас. 1931 г. у ім быў створаны Котласкі перасыльны пункт для спецперасяленцаў.

С. 585:

*Хрыстос* (Ісус з Назарэта) — цэнтральная асоба ў хрысціянстве, якое разглядае яго як Месію, лічыць збавіцельнай ахвярай за грахі людзей.

С. 587:

*Бабіт* — асобы сплаў для заліўкі падшыпнікаў. Названы паводле імя амерыканскага вынаходніка І. Бабіта (1799—1862).

С. 589:

*Коханаўцы* — вёска ў Славакіі каля горада Трэбішаў.

*Трэнчын* — горад у Заходняй Славакіі. Адміністрацыйны цэнтр Трэнчынскага краю.

*Тапальчыны* — горад у Заходняй Славакіі.

С. 591:

*Рудобелка* (Рудабелка) — былая вёска ў Акцябрскім р-не Гомельскай вобл. У 1954 г. разам з вёскамі Рудня і Карпілаўка ўтварылі гарадскі пасёлак Акцябрскі, цэнтр аднайменнага раёна.

С. 593:

*Самалёты садзяцца. У Парэччы.*— вёска ў Акцябрскім р-не Гомельскай вобл., паблізу якой у гады Вялікай Айчыннай вайны пад час акупацыі партызаны Акцябрскай зоны стварылі палявы аэрадром, які прымаў самалёты з «Вялікай зямлі».

*Пціч* — рака, пачынаецца на паўднёва-ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша, левы прыток Прыпяці.

*Недалёка ад станцыі Пціч, у мокрым асеннім чарналессі, збіраліся партызанскія сілы, вызначаныя для падрыву 135-метровага моста праз раку Пціч.*— маецца на ўвазе знакамітая партызанская аперацыя, якая атрымала назву Пціцкай. 3 лістап. 1942 г. партызаны Мінскага і Палескага злучэнняў знішчылі чыгуначны мост праз раку Пціч на лініі Брэст—Гомель у Капаткевіцкім (цяпер Петрыкаўскім) р-не. Рух цягнікоў па гэтай лініі спыніўся на 18 дзён.

С. 595:

*Сталін Іосіф Вісарыёнавіч* (1878—1953) — савецкі, дзяржаўны, палітычны і вайсковы дзеяч. Генеральны сакратар Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) з 1922 г.

*Муляраўка* — вёска ў Петрыкаўскім р-не Гомельскай вобл.

*«Кацюша»* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 709).

С. 598:

*А я з Гастэлы.*— маецца на ўвазе назва аднаго з партызанскіх атрадаў, які ўдзельнічаў у Пціцкай аперацыі партызан. 3 лістап. 1942 г. атрад быў названы ў гонар гераічнага савецкага лётчыка Гастэлы Мікалая Францавіча (1907—1941), Героя Савецкага Саюза.

С. 604:

*Астровіна* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 706).

С. 607:

*Старшыня палкавога камітэта* — выбарная пасада ў часы пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у расійскай арміі, якая надзялялася пэўнымі паўнамоцтвамі.

*У трыццаць сёмым, ведаеш сам, што было…* — маюцца на ўвазе палітычныя рэпрэсіі ў СССР у сярэдзіне 1930-х гг., звязаныя з культам асобы Сталіна.

*ШКМ* (скар.: школа калгаснай моладзі) — тып сялянскай агульнаадукацыйнай школы ў СССР у 1920—1930 гг.

С. 616:

*...славакі служаць немцам і ненавідзяць іх.*— Падпісаўшы ўвесну 1941 г. пакт з краінамі «Асі» (Рым—Берлін—Токіа), Славакія ўдзельнічала ў Другой сусветнай вайне на баку Германіі.

С. 617:

*Каўпак Сідар Арцёмавіч* (1887—1967) — адзін з заснавальнікаў партызанскага руху ва Украіне ў Вялікую Айчынную вайну. Двойчы Герой Савецкага Саюза (1942, 1944). Узначальваў пяць рэйдаў партызан па нямецка-фашысцкіх тылах, у тым ліку рэйд у 1942—1943 гг. з бранскіх лясоў па тэрыторыі Гомельскай і Палескай абласцей.

*Сабураў Аляксандр Мікалаевіч* (1908—1974) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на акупаванай тэрыторыі Украіны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Герой Савецкага Саюза (1942).

С. 625:

*...заданне Стаўкі...* — Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання (СВГК) — надзвычайны орган вышэйшага камандавання ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў СССР. З 10 ліп. 1941 г. яе ўзначаліў Вярхоўны галоўнакамандуючы І. В. Сталін.

С. 626:

*Князь-возера* — возера ў Жыткавіцкім р-не Гомельскай вобл.

С. 630:

*...паўлітэрка «Маскоўскай»...* — марка рускай гарэлкі, прадстаўленая ў 1894 г. Расійскай дзяржаўнай манаполіяй. Выпуск быў забаронены ў 1914 г. у сувязі з «сухім законам», уведзеным з пачаткам Першай сусветнай вайны. Брэнд быў адноўлены ў СССР у 1925 г. «Маскоўская» — гэта адзіны гатунак савецкай гарэлкі, які вырабляўся з зерневага спірту.

С. 631:

*«Киев бомбили, нам объявили, / что началася война...»* — радкі з вядомай песні часоў Вялікай Айчыннай вайны «Двадцать второго июня, ровно в четыре часа». Словы паэта Барыса Кавынёнава на музыку папулярнага вальса Ежы Пецярбургскага «Сіняя хустка». Песня была напісана непасрэдна пасля пачатку вайны: першы вядомы запіс зроблены ва Украіне салдатам М. І. Нямчынавым 29 чэрв. 1941 г.

С. 634:

*Святая евангельская царква* — група роднасных пратэстанцкіх дэнамінацый, такіх як менаніты, баптысты. Прынцыповым адрозненнем евангельскіх хрысціян з'яўляецца іх асаблівае стаўленне да Бібліі (у першую чаргу да Новага Запавету) як адзінай абсалютнай аўтарытэтнай крыніцы для веры і жыцця.

*Евангелле* (*грэч.* euaggelion — добрая вестка) — агульная назва першых чатырох кніг Новага Запавету пра зямное жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста. У канон кніг Бібліі ўваходзяць Евангеллі ад Мацвея, Марка, Лукі і Іаана.

*Іўдзея* — рымская правінцыя, утвораная ў 6 г. н. э. на месцы Іўдзейскага царства. Праіснавала да паўстання Бар-Кохбы і ў 135 г. была перайменавана ў Сірыю Палесцінскую.

*Прарок Данііл* — біблейскі прарок, які адносіцца да гэтак званых «вялікіх прарокаў», нашчадак радавітага іўдзейскага роду.

Згодна з Бібліяй, Данііл ад Бога быў надзелены дарам разумець і тлумачыць сны, чым і быў знакаміты пры двары Навуханосара, а пасля падзення Вавілона — пры дварах Дарыя і Кіра.

С. 635:

*Поднявший меч от меча и погибнет.*— Словы з Бібліі. У Евангеллі ад Мацвея 26:51—52 гаворыцца: «І вось адзін з тых, хто былі з Ісусам, працягнуў руку, і выняў меч свой, і ўдарыў раба першасвятара, і адсек яму вуха. Тады Ісус і кажа яму: «Вярні меч свой на месца, бо ўсе, хто возьмуць меч, ад мяча і загінуць».

С. 636:

*Рэч Паспалітая* — федэратыўная манархічная рэспубліка, узніклая 1 ліп. 1569 г. у выніку Люблінскай уніі, калі была падпісана дамова аб аб'яднанні Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву.

*...родавае гняздо памешчыкаў Горватаў...* — Шляхцічы Горваты на працягу XIX ст. былі на Мазыршчыне адным з найбагацейшых родаў. Іх палацы і паркі раскінуліся ў Нароўлі і Галоўчыцах. У Барбарове Горватам належала таксама шмат зямлі, тут быў пабудаваны шыкоўны палац з англійскім паркам. Палац славіўся сваёй калекцыяй жывапісу. Тут былі карціны Рэмбранта, Рубенса, Дамеля і Ваньковіча.

С. 640:

*Управа* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 719).

С. 643:

*Білі разрыўнымі кулямі «дум-дум».*— Экспансіўныя кулі (кулі «дум-дум») — кулі, канструкцыя якіх прадугледжвае павелічэнне дыяметра пры траплянні ў мяккія ткані.

С. 648:

*Урал* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 718).

С. 656:

*Карл Маркс* — гл. камент. да рамана «Сасна пры дарозе» (с. 719).

С. 668:

*Ляда* — дзялянка высечанага лесу, хмызняку; выселка.

С. 669:

*...у дзевяцьсот пятым годзе знаўся з сацыял-дэмакратамі...* — маецца на ўвазе, што пад час Першай рускай рэвалюцыі (1905—1907) падтрымліваў Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (РСДРП), якая была заснавана на І з'ездзе РСДРП (1898) у Мінску.

Варыянты і разначытанні // *часоп. «Маладосць»*
Зб. тв. // *часоп. «Маладосць»*
С. 354:
[2] асабліва люднага // але больш люднага
[17] разгублены, бацька, як дзіця, плакаў. // пакорлівы, як дзіця, бацька плакаў.
[18—19] На цябе ляжа клопат… Не паспелі дагледзець хату… // На цябе ляжа клопат… Будзь ім за бацьку…
[20—21] было многа плачу, слёз, жаночых літанняў. // было многа плачу, слёз, жаночых літанняў, і гэта трохі прыглушала боль.
[25] перакрыў дах гонтам // перакрыў дах гонтай
[26] нібы ведаў // як бы ведаў
[29—30] Міця рушыў на сена. // Міця пайшоў на сена.
С. 355:
[3] Будка, сасна на месцы. // Будка і сасна на месцы.
[24] І што ўсё гэта азначае? // І што ўсё гэта азначае? Гісторыя такіх паваротаў яшчэ не ведала.
С. 356:
[17] Іх гаркаватага паху // Іх церпка-гаркаватага паху
[25] ад печаў ды камінкоў. // у печах ды на камінах.
[26] на небе жнівеньскія яркія зоркі. // на небе па-асенняму яркія зоркі.
[33] ідзе правым бокам. // ідзе правай стараной.
С. 357:
[8] цягне к дарослым мужчынам. // цягне да дарослых мужчын.
[9] што ў ім дзеецца // што ў ім адбываецца
[15] Болей сіпіць люлькай // Болей хрыпіць люлькай
[15] прадзьмуваючы цыбук. // прадуваючы цыбук.
[23] б’е крэсівам па крэмні // б’е красалам па крэмню
[26] затоптвае акурак // затоптвае недакурак
[27] Голас хрыпаты, скрыпучы // Голас хрыплы, скрыпучы
[28] што закранае Арцём гаворкай // што закранае гаворкай
С. 358:
[12] Наясіся такіх аладак, а потым дротам з задніцы дастаеш. // Наясіся такіх аладак, а потым…
[20] Хваробу ў яе возьмеш. // Хваробы ў яе возьмеш.
[24] Далёка пад лесам чуецца // Далёка пад лесам раздаецца
С. 359:
[9—11] Насмешлівы, востры на язык, Гаўрыла зусім не падобны на Міцевага бацьку. Малога росту і надзвычай шустры, ён не ходзіць, а лётае. // На Міцевага бацьку насмешлівы, востры на язык Гаўрыла

зусім не падобны. Малога росту і надзвычай шустры, ён не ходзіць, лётае.

[11] У часопісе пасля сказа «Мае адпаведную мянушку — Верабей» ідзе сказ: «З голага, як са святога — што возьмеш?»

[12—13] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Розуму навучыліся. Болей адной каровы, свінні не трымай».

[30] Аднолькавых прозвішчаў // Такіх прозвішчаў

[32] чыркае крэсівам. // шморгае крэсівам.

С. 360:

[8] Людзі не глядзяць цяпер на зоркі, не думаюць пра іх. // Людзі не глядзяць цяпер, не думаюць пра зоркі.

[14—15] У часопісе пасля слоў «ужо сказаў «дабранач» Есіп Кавенька...» ідзе наступны фрагмент тэксту: «які жыве па-суседству, цераз хату, як раптам на мастку вырасла высокая постаць. Міця ўздрыгнуў».

[23] Чалавек не спяшаючыся скруціў цыгарку // Чалавек звярцеў цыгарку

[24—25] знік у змроку. // пайшоў.

С. 361:

[8] Хутка белагрудыя шчабятухі палятуць у вырай. // Хутка палятуць у вырай.

[9] прыгожыя далікатныя птушкі // гэтыя прыгожыя, далікатныя птушкі

[10—11] гэтага Міця ні разу не бачыў. // гэтага ніхто ніколі не бачыў.

[17] хмурае неба… // хмарнае неба…

[31] кнігамі за вайну ўзбагаціўся // кнігамі за вайну разжыўся

С. 362:

[1—24] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад сказа «Наконт арыйцаў — глупства» да сказа: «Хіба людзі могуць забыць Радзіму, змірыцца з пагрозай знішчэння, якая навісла над ёй?»

С. 363:

[4] як скрозь зямлю праваліўся. // як у ваду кануў.

С. 363—364:

[31—3] У часопісе адсутнічае фрагмент тэксту ад сказа «На правым баку вуліцы даўгаваты праём старых, зарослых быльнягом, могілак, на якіх даўно ўжо няма ні магіл, ні крыжоў» да сказа: «Могілкі цяпер у другім месцы, на процілеглым канцы мястэчка, і таксама густа заселены».

С. 364:

[4—6] Па перарывістым дыханні, рэзкіх рухах Міколы Міця адчувае, што яго сябра поўніцца злосцю. Гаворкі, аднак, не зачынае. //

Па перарывістым дыханні, рэзкіх рухах Міця адчувае, што Мікола поўніцца злосцю.

[7—8] і завярнулі ў глухаваты завулак // і звярнулі ў глухаваты завулак

[21] немцы адкрылі // немцы адчынілі

[38] Ён жа таксама шаптаўся // Ён жа таксама шляўся

С. 365:

[2] Скінуў два нямецкія паравозы... // Скінуў немцам два паравозы…

[8] быў на прыкмеце. // быў на прымеце.

С. 366:

[8] У часопісе адсутнічае сказ: «На шпаларэзным заводзе».

[11] змяніць нас няма каму… // змяніць нас некаму…

[15] растае ў змроку. // раствараецца ў змроку.

[18—20] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Тады, як Мікола паступіў у паліцыю, Лобік папярэджваў правільна. Паліцай служыць ворагу, і бываюць крытычныя моманты. Такі момант быў і ў Міколы».

[21] Найлепшае ў гэтым выпадку // Найлепшае ў гэтым выпадку было

[23] У часопісе адсутнічае сказ: «Усюды сям’я…»

С. 367:

[18—19] не азіраючыся, рушыў па завулку. // рушыў па правулку.

[25] Падазраюць наконт міны… // Падазраюць…

[31] Не апраўдвацца // Не адчытвацца

С. 368:

[3—4] У часопісе пасля сказа «Заняткі ж у інстытутах таксама пачынаюцца першага верасня» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Але хопіць, мой хлопец, пра ружовыя далі. Роўна год і тыдзень, як у мястэчку немцы. Нібы вечнасць паміж гэтымі вераснямі. Ты не малы ўжо — табе сямнаццаць гадоў. Бацька наказаў быць за старэйшага, глядзець сям’ю. А што наказала табе тваё жыццё, кнігі, якія ты прачытаў, мары, якія ты выпеставаў?.. Так, табе цяжка, мой хлопец, табе іншы раз хочацца заснуць — надоўга, як у казцы, і прачнуцца, калі ўсё незразумелае, заблытанае сплыве, развеецца, як дым… Але жыццё — не сон, а ты ўжо дарослы. Першая старонка тваёй кнігі загорнута. Ідзі ж далей, мой мужчына, мой рыцар, мой летуценнік…»

[25] цэментовае жарало калодзежа. // цэментовае жэрла калодзежа.

С. 369:

[4] — Добра. // — Ладна.

[5] Аграном выйшаў // Аграном выскачыў

[7] рушылі ў напрамку старой школы. // рушылі да старой школы.

[11] Таполі тады былі малымі. // Таполі тады былі маладымі дрэўцамі…

[18] Міця скалануўся. // Міця ўздрыгнуў.

С. 370:

[11—12] няма каго пакідаць. // Некага пакідаць…

[24] Правільней — паслаў Шэлег // Праўдзівей — паслаў Шэлег

С. 371:

[4—5] Прыемны, саладжавы водар // Прыемны, церпка-саладжавы водар

[9] Ёсць брат // Ёсць адзінаўтробны брат

[15] Але чуе, гадзіна, нутром. // Але чуе, гад, нутром.

С. 373:

[8—9] з памятым казырком шапка // з памятым казырком

[23] Чалавек сорак. // Чалавек дваццаць.

[32] нечакана прыхінае Міцю да сябе. // нечакана прыхінае Міцю да сябе, цалуе ў вісок.

С. 374:

[19—20] Махалі рукамі. // Дралі горла.

С. 375:

[19—20] Мужчынскі арганізм у гэты час спелы. А жаночы яшчэ раней. Пачытай у энцыклапедыі. // Мужчына… Пачытай у энцыклапедыі…

[27] Колькі разоў лавіў сябе на непрывабных жаданнях! // Колькі разоў лавіў сябе на непрывабных, брудных жаданнях…

[29] Валя Хмяльніцкая // Валя Хмялеўская

С. 376:

[21] — Не сунь носа не ў сваё проса. // — Не сунь носа не ў сваё дзела.

[25] неахвотна расказвае // неахвотна гаворыць

[25—26] Ёсць рэчы, у якія нікога не хочацца пасвячаць. Нават самых блізкіх. // Ёсць рэчы, пра якія нікому не хочацца расказваць. Нават самым блізкім.

[33] выпускаючы // выпускаючы з выхлапной трубы

С. 377:

[14] даў ім па аркушу паперы // даў паперы

[25—26] ля штыкецін паркана, стаяць // ля штыкецін стаяць

[32] яшчэ надумаецца хадайнічаць // яшчэ ўздумае хадайнічаць

С. 379:

[2—3] Але з кім?..— З кім? — паўстае нямое пытанне… // Але з кім?

[13—14] — Сядайце, рабяткі. Я вас слухаю. Міця прысеў, працягвае // — Сядайце, рабяткі. Я вас слухаю.

С. 380:

[8] Яго не трэба губляць. // Яго не трэба траціць.

С. 381:

[6] У часопісе пасля сказа «Узбуджэнне не сплыло» ідуць сказы: «Каб сястру не зачапілі…» — прабіваецца думка. Заўтра хопяцца, хто-небудзь ды бачыў, як ён бегаў па пуцях, лез на паравоз…»

[14] Засынае Шура толькі пад раніцу. // Сон, аднак, не ідзе. Трывожныя думкі ўсплываюць, як светлякі. Засынае Шура толькі пад раніцу.

[30—31] падымаюць скінутыя паравозы… // падымаюць заваленыя паравозы…

С. 382:

[1] Шэрая лента // Шэрая стужка

[12] Другое дрэва // Другое дзерава

[20—21] у чыгунку-аднапутку. // у чыгунку.

[29] звычайных хат // звычайных вясковых хат

[37] прайшло германскае воінства // прайшло «харобрае» германскае воінства

[38] Як і бывала // Як і даўней

С. 383:

[31] засунуў за пояс гранату. // нарэшце засунуў за пояс гранату.

С. 384:

[3] за закратаванымі вокнамі // за вокнамі ў кратах

[25] кігікнула незнаёмая птушка // кігікнула птушка

С. 386:

[19—20] адчувае пякучы боль у назе і крычыць, крычыць… // адчувае боль і крычыць, крычыць…

[21] з жудкай няўцямнасцю // з жудаснай няўцямнасцю

[34] крык не петушыны // крык не пеўня

С. 387:

[4—5] паверх бярэзін дым // над бярэзінамі дым

[7—8] ніхто з яго паяўлення не здзівіўся. // ніхто не здзівіўся.

[27] пайшоў прэч… // пайшоў…

С. 388:

[26] палавінку даў дзядзьку. // палавінку падаў дзядзьку.

С. 389:

[9—10] не тоячы радасці ад таго // тоячы радасць ад таго

[27] паспешліва працягваў ён // таропка працягваў ён

С. 390:

[6] Від яды распаліў прытухшае вогнішча голаду. // Яда распаліла прытухшае пачуццё голаду.

С. 391:

[6—7] пачуўся сабачы брэх. // забрахаў сабака.

С. 392:

[9] Падхопленыя ветрам нечаканых перамен // Пад ветрам нечаканых перамен

[12] вёсачцы, якая налічвала дванаццаць двароў. // вёсачцы.

[29—30] З левага яе боку // Па левы яе бок

С. 393:

[4] з аднаго боку вуліцы. // па адзін бок вуліцы.

[5—6] Водаправод суседнічае з калодзежным жураўлём // Водаправод побач з калодзежным жураўлём

Другая частка раздзела IV першай часткі рамана І. Навуменкам у Зб. тв. у 6-ці тамах вельмі сур'ёзна перапрацавана, некаторыя абзацы з часопіснага варыянту пераходзяць у іншыя раздзелы твора. Вось як падаецца II частка чацвёртага раздзела першай часткі рамана ў часопісе: «Капітан Бондар дабіраўся ў Гарбылі не выпадкова. Разведбатальён, якім ён камандаваў, разбілі пад Навагрудкам. Пад Мінскам, калі камандзір выводзіў з нямецкіх клешчаў жменьку людзей, яго самога параніла. Лячыўся па вёсках як і чым прыйдзецца. Ірваная асколачная рана ніжэй паясніцы вымушала здымаць перад спагадлівымі вясковымі жанкамі закарэлыя ад крыві штаны, і да пакут фізічных прымешваліся крыўда і сорам. Пакуль падлячыўся, стаў на ногі, вайна грымела ўжо за Смаленскам».

С. 404:

[2—5] У часопісе адсутнічае сказ: «Прасторная зала, запоўненая камандзірамі, іх жонкамі, лётчыкамі, курсантамі ваеннага вучылішча, патанула ў доўгіх бурных воплесках».

С. 406:

[15] У трыццаць пятым годзе бацька памёр. // У трыццаць пятым годзе бацька памёр, і шлюб не было сэнсу працягваць.

[25] Спачатку яго шалёныя прыпадкі прыводзілі яе ў роспач // Спачатку гэта прыводзіла ў роспач

[30] яна марыла пра вялікае каханне // марыла яна пра вялікае каханне

С. 407:

[9] ў драўляны гарадок на Палессі // ў гарадок на Палессі

С. 408:

[27—28] Навошта хлусіць, цікавасць да аднапляменнікаў у яе паступова прабудзілася. // Цікавасць да аднапляменнікаў у яе абудзілася паступова.

[29—30] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Да такіх яна ставілася з пагардай. Тут пахла быдляцінай. Не, звычайнай салдацкай подсцілкай яна рабіцца не збіралася».

С. 412:

[18—19] я лічу, што вайна зацягнецца. Канца яе не відаць. // я лічу, што вайна зацягнецца.

[20] — Расія вялікая // — Руская краіна вялікая

[24] адчыніў левую створку. // адчыніў левыя дзверцы.

С. 413:

[35] не напаткаў лёс нас, салдат… // не напаткаў наш салдацкі лёс…

С. 414:

[17] што яе муж невядома дзе лятае. // што яе муж — маёр невядома дзе…

[18] звычайнай вярцёлкай // звычайнай круцёлкай

[19] Змоўшчыкі // Акружэнцы

[27] і гэта штосьці значыла. // і гэта што-небудзь ды значыла.

[29] на ціхай драўлянай вуліцы. // на ціхай Залінейнай вуліцы.

С. 415—416:

[14—35] У часопісе фрагмент тэксту ад сказа «У цёплыя вясновыя дні, перад тым як пайсці ў партызаны, здарылася нечаканае» і да сказа «Бондар як у ваду глядзеў: думалі вывесці з Гарбылёў семдзесят чалавек — вывелі шаснаццаць...» уваходзіць у другую частку чацвёртага раздзела першай часткі рамана.

С. 419:

[11] Вылупіўшы вочы // Вытарашчыўшы вочы

[14—15] Звіняць бесклапотна, як званочкі. // Звіняць бесклапотна, як званочкі. Сініцы — прадвеснікі восені.

[17] Шура зрэзаў дзве арэшыны // Зрэзаў дзве арэшыны

[22—23] Там, у Вербічах, капалі акопы // Капалі акопы

[34] пачуўся свіст. // раздаўся свіст.

С. 420:

[9] Як рукой зняло насцярожанасць. // Як рукой зняло радасць, насцярожанасць.

С. 422:

[6—7] паліцэйскія з’явіліся не за тым // паліцэйскія з’явіліся не таго

[8—9] падыбаў на процілеглы бераг // рушыў на процілеглы бераг

[9—10] прыбіў да дуба кавалак фанерыны з чорным кружком. // прыбіў да дуба фанерыну з намаляваным чорным кружком.

[20] Вось што, хлопцы // Вот што, хлопцы

[22—26] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Хлапчукі прыход паліцаяў успрынялі спакойна. Вечарам Шура з Сяргеем вылезлі на бераг, разглядзелі мішэнь. У кружку толькі дзве адмеціны ад куль, а фанерына зрашэчана. Стралкі з паліцаяў — няважныя. На ўсякі выпадак Шура з Сяргеем перабраліся глыбей у грабняк».

[37] Яны сталі асцярожна церабіцца да азярка. // Бяздомнікі сталі асцярожна церабіцца да азярца.

С. 423:

[2] свіснуў у адказ. // свіснуў.

[11] Ноч Шура не спаў. У душы жыла падазронасць. // Шура не спаў усю ноч. Зацея здавалася падазронай.

[21] Затым паказалася // Потым паказалася

[25] Песня сціхла // Песня сціхае

[27] сядзеў на возе. // сядзеў ужо на возе.

С. 425:

[3] Як бы захапілі ў палон. // Як палонных.

[8] з ранейшай сілай // вельмі

[27—28] Я ўсе разы на чыгунку хадзіў. // Я ўсе разы на чыгунку хадзіў. Камандзір — агонь! Пабачыш сам.

[29—30] з незалежным выглядам сказаў Шура. // сказаў Шура.

[31—32] Так бы і гаварыў… // Так бы і сказаў…

С. 426:

[4] У лагер, на пясчаную // На пясчаную

С. 427:

[2—3] валасы старчаком. // валасы, як у вожыка, старчаком. Твар здаўся як бы крыху знаёмы.

[5] ездзіў на трамваі! // ездзіў трамваем!

[37—38] Бабуля дала яшчэ зімой. // Бабуля дала.

[38] Не хацеў крыўдзіць старую, узяў. // Не хацеў крыўдзіць, узяў.

С. 428:

[19—21] Пятая частка пятага раздзела ў Зб. тв. пачынаецца са сказа: «Людзі на заданнях, у расходзе і Бондар, які апошнія дні, пасля таго як разбілі баржу на Прыпяці, прыхворваў, змяніў сам паставога». У часопісе новая частка ў гэтым месцы адсутнічае.

[30—32] Жыццё падобна на добра наладжаны механізм, у якім вінцікі, калёсікі, шасцярні павінны ўзаемадзейнічаць, думае Бондар. // Жыццё падобна на добра наладжаны механізм, думае Бондар.

С. 429:

[2—3] Але не любіць фашыстаў // Аднак жа не любіць фашыстаў

[4—10] У часопісе адсутнічае наступны фрагмент тэксту: «Бондару шкада цесця. Часта пра яго думае, успамінае. Пасля таго як пайшоў ён у лес, цесця арыштавалі. Нехта выдаў-такі. Праз два тыдні вясёлага калеку, інваліда вайны расстралялі. Як заложніка за зяця. Не ў аднаго Бондара такі лёс. Яшчэ ў пяцярых, хто пайшоў з ім у лес, расстралялі родных і блізкіх — маці, бацьку… Жорсткай цаной за ўсё прыходзіцца плаціць…»

[11—12] Але іншага выйсця не было. Быў патрэбен штуршок, пачатак, сіла // Трэба штуршок, сіла

[16—17] Іначай не магло быць // Інакш не магло быць

[21—22] Палкі ў калёсы нямецкай машыны // Палкі ў колы машыны нямецкай

[25—26] і гэта можна лічыць для пачатку добрым рэзультатам. // і гэта можна лічыць для пачатку добрым рэзультатам, думае Бондар.

[30] адзіночных нямецкіх машын // нямецкіх машын

С. 429—430:

[38—1] Гарбылі — чыгуначны гарадок, і атраду, які ўзнік у такім месцы, трэба дбаць пра чыгунку. // Гарбылі — чыгуначны гарадок. Сам бог загадаў атраду, які ўзнік у такім месцы, дбаць пра чыгунку.

С. 430:

[10—11] якія ехалі на Дон, пад Арол // якія ехалі пад Арол

[11—12] нікуды не даехалі // нікуды не даехаў

[22] як уласны двор // як свой двор

[25] скрутак звычайнага дроту // скрутак дроту

[27] Нямецкая епархія для ўсіх аднолькавая // Епархія для ўсіх аднолькавая

[29] Машына ў іх болей наладжаная, куды аўтарытэтнейшы стаж — дзейнічаюць з мінулага лета. // Атрады ў іх старэйшыя — дзейнічаюць з мінулага лета.

С. 431:

[3—4] вырываць з зоны дзеяння нямецкай машыны вёскі і сельсаветы. // адваёўваць у немцаў і браць пад свой кантроль цэлыя вёскі і сельсаветы

[15] мястэчка не саступяць. // мястэчка не аддадуць.

[17—18] туды, дзе дзейнічае дамачоўскі атрад. // туды, дзе дамачоўскі атрад.

[18] Але там буйныя // Але там вялікія

[25] Выбраліся на гала // Толькі выбраліся на гала

С. 432:

[29] Лепей праўду сказаць цяпер. Аружжа болей няма? // Аружжа болей няма?

[31] там, на паляне, падбіралі… // на паляне, падабралі…

[32—33] і яшчэ чатырох асталіся ў ахове // і яшчэ чацвёра засталіся ў ахове

С. 433:

[26] Там былі шафёры // Там былі шоферы

С. 434:

[1] прагная цікавасць // цікаўнасць.

[34—35] Пахне ваеннай костачкай. // Адчуваецца ваенная костачка.
С. 435:

[4] ні кацялкоў, ні лыжак. // няма ні кацялкоў, ні лыжак.

[6] камандзірскага ў яго вобліку якраз няма, ніводнай, хоць бы дробнай рысачкі, якая б паказвала, што чалавек звязаў свой лёс з арміяй. // камандзірскага ў яго вобліку няма.

[33] Бондар распытвае найболей // Бондар распытвае
С. 437:

[3—6] У часопісе адсутнічае сказ: «У павязанай пад бараду — ражкамі — хустцы ў паласе бляскаў вогнішча стаіць, слухае маршчыністая кабеціна, што варыла вячэру…»

[26] — Вошы. // — Камары.

[28] — Браце, хапае і ў нас гэтага дабра // — Браце, хапае іх у нас.

[29—30] Спалі доўга, а калі прачнуліся, вылезлі з палатак, у лагеры цішыня. Сонца вісіць над соснамі. // Спалі доўга, а калі прачнуліся, сонца ўжо вісела над соснамі.
С. 439:

[12] У часопісе адсутнічае сказ: «На пастах…»

[19—20] Ніхто ў партызаны не агітаваў. // Ніхто не агітаваў.
С. 440—442:

[1—33] Частка трэцяя раздзела шостага мае перапрацоўку ў Зб. тв. у параўнанні з часопісным варыянтам. У Зб. тв. яна пачынаецца са сказа «Капітан Фёдар Мазурэнка кадравым ваенным стаў у тысяча дзевяцьсот трыццаць дзявятым годзе» і заканчваецца сказам: «Дзён праз пяць толькі, ведучы з падначаленымі заняткі, заўважыў: чымсьці няўлоўным падобна Ася на жонку».
С. 442:

[34] У часопісе са сказа «Лінію фронту праляталі на паўночны ўсход ад Арла» пачынаецца IV частка шостага раздзела.
С. 443:

[14] адчапіў ад пояса біклажку // адчапіў ад пояса фляжку

[15] падаў штурману. // працягнуў штурману.

[33] у вушах засвістаў вецер. // У вушах засвістаў вецер — ён каменем ляцеў уніз.

[36] У часопісе пасля сказа «Пачаўся плаўны спуск» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Прызямліўся, можна лічыць, удала. Трапіў на невялікую лугавіну. Вызваліўся ад строп парашута, стаў паспешліва яго пагашаць. Схаваў камяк мяккай падатлівай тканіны ў кустах, якія чарнелі паблізу. Выняў пісталет, чакаў… Там, з таго боку фронту, калі рыхтавалі да вылету іх невялікі дэсант, здавалася,

што на зямлі, на якую мусілі спусціцца, пад кожным кустом сядзіць немец. У такім настроі Мазурэнка правёў першую ноч. Сядзеў з напятымі нервамі, чуйна прыслухоўваўся да начных шорахаў і зыкаў. Пад раніцу, калі на ўсходзе прабілася белая палоска, закугакала сава. Умоўны сігнал. Мазурэнка адказаў. З бярэзніку вынікла постаць Палякова. У поўдзень знайшлі Асю. Спала пад кустом, заціснуўшы ў руцэ пісталет. Пазней, не таячыся, расказала, што заснула якраз у момант найвышэйшай напружанасці. Здалося ёй, што лес кішыць немцамі. Яшчэ аднаго адшукалі ў той дзень. Купал парашута Колі Баразны, тубыльца гэтых мясцін, зачапіўся за сухую макушку сасны, а сам ён, не ў час вызваліўшыся ад ніжніх рамянёў, вісеў уніз галавой. Неласкава сустрэла родная зямля сына, які хацеў спусціцца на яе з неба. Таварыша пахавалі тут жа, пад сасной. Скінулі дэсантнікаў амаль дакладна, вёрст за дзесяць ад умоўленага месца. Па карце зверылі арыенціры. Побач чыгункааднапутка. Бацькавічы—Бараўцы, у паўночным напрамку — шаша. Усё ж двое з групы — Скаварада і Фурман — як скрозь зямлю праваліліся. Трохдзённыя пошукі нічога не далі. Не знайшлі часткі паклажы і,— што асабліва крыўдна — запасной рацыі».

С. 447:

[9] падрыгвае Багдановіч. // прадае дрыжыкі Багдановіч.

[25] Валодзя Шлег зусім другі. // Валодзя Шлег зусім іншы.

С. 448:

[22] Па ланцугу паўшэптам каманда // Па ланцугу шэптам каманда

[32] Днём // Удзень

[35] прыўзняў галаву // падняў галаву

С. 449:

[18] Прачнуўся ад зычных гартанных галасоў. // Прачнуўся ад зычных нямецкіх галасоў.

[22] гучна перамаўляліся… // гучна, нібы глухія, перамаўляліся...

[24] пялёнка туману. // пеляна туману.

[27—28] З таго боку палатна тонкія чэзлыя хваінкі, бярэзінкі // Па той бок палатна чэзлыя хваінкі і бярэзінкі

С. 450:

[3—4] Набяры дзе падалей. // Набяры дзе далей.

С. 451:

[32] Асляпляльна бліскучы, вогненны слуп // Сляпучы, вогненны слуп

С. 452:

[2] Шура падхапіўся, размашыста сігаючы праз купіны.

С. 453:

[5] У часопісе пасля сказа «Настрой у Батуры панылы» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Дамачоўскі атрад невялікі, але клопату немцам прыносіць многа. Дзейнічае найбольш засадамі. У вёскі партызаны прыходзяць ноччу. Па гэтай прычыне нямецкія стаўленнікі,— старасты, бургамістры — пачынаючы, бадай, з самай вясны, дома не начуюць. Батура сядзіць ускрай палявой дарогі ў каноплях. Млосная, парная гарачыня. На небе ні хмурынкі. Ад канаплянага чаду баліць галава. Дзесьці паблізу перагукваецца вывадак перапёлак: «Вунь вядуць, вунь вядуць…» Так пераймалі перапёлчын голас хлапчукамі. Калі ўважліва прыслухацца, сапраўды падобна. Батура з Піляціч. Восень і зіму жыў у сяле з маці і сястрой. З вясны ў лесе. Днём спяць ці сядзяць у засадах, ноччу завітваюць у вёскі, пераважна ў тыя, дзе няма паліцэйскіх. Батура і цяпер у засадзе. Пільнуе паліцэйскага Сцяпана Куцку, які залішне часта стаў наведвацца ў Рагалі. Рагалі — свая вёска. Там партызанам пякуць хлеб, мыюць бялізну. Аднак у вёсцы Куцку ні разу не бачылі. Нехта сказаў, што Куцка бачыцца з сястрой на полі. Загон Куцкавай сястры ўнізе, за лагчынай, за альховымі кустамі. На дзіва чыстая зямля ў каноплях. Не расце нават дробная трава. Гэта ад канаплянага чаду, думае Батура».

[16—17] фашысты і прынеслі пошасць. // фашысты і прынеслі нейкую пошасць. Не было б іх, ездзіў бы Куцка на трактары…

С. 454:

[6—7] Куцка расказваў, выскаляючыся, з рагатком. // Куцка расказваў выскаляючыся.

[15] Дзядзька вязе авёс // Дзядзька вязе воз аўса

[34] Вінтоўка цераз плечы, за спіной. // Вінтоўка за спіной.

С. 455:

[33] аддала біклагу. // аддала фляжку.

С. 456:

[9] гаворыць ён напаўголаса // гаворыць ён ціха

[12] аўтамат з ражком. // аўтамат з дыскам-ражком.

С. 458:

[14] Забылі нават пра зброю // Забылі нават пра трафеі

[17] У часопісе адсутнічае наступны фрагмент тэксту: «Князеў у дзікіх скоках удзелу не прымаў — назіраў, стаяў збоку.— Адставіць! — зычна крыкнуў ён.— Бальшавіцкая банда разгромлена. Забітыя, параненыя з нашага боку ёсць? Забітых, параненых не было. Паліцаі маўчалі, раздзімаючы ноздры, цяжка дыхаючы».

[23—24] падымаючы выцягнутую руку з наганам, Князеў. // падымаючы выцягнутую руку з наганам.

[24—25] У часопісе пасля слоў «не пазней сённяшняй ночы» адсутнічаюць сказы: «Паглядзіце — у іх аўтаматы. Банда прыслана з Масквы. Аб'яўляю ўсім падзяку. Вы — самыя надзейныя людзі…»
С. 459:
[23] наліваюцца злосцю. // наліваюцца крывёю.
[36] стаіўшы на губах усмешку // стаіўшы ўсмешку
С. 460:
[1—2] У часопісе ідзе III частка сёмага раздзела, а ў Зб. тв. VIII раздзел, пачынаецца ён са сказа: «Рытм жыцця ў Гарбылях намнога імклівей, чым у Бацькавічах».
[2] Па забрукаванай вуліцы // Па забрукаванай маставой
[3—4] салдаты-матацыклісты // матацыклісты
[12] той асноўны чалавек // той чалавек
С. 461:
[33—34] Век дажывае, а розум дзяціны. Марына Аляксееўна — жанчына-віхор. Як з мяшка сыпле словамі і ў той жа час спрытна засцілае стол, расстаўляе талеркі. Пяці хвілін не праходзіць, а можна садзіцца абедаць. // Век дажывае, а розум дзяціны. Як гэта часта бывае, жонка Салаўя — поўная супрацьлегласць мужу. Гэта жанчына-віхор, як з мяшка сыпле словамі і ў той жа час спрытна засцілае стол, расстаўляе талеркі.
С. 462:
[17—19] Васямнаццаць юнакоў і дзяўчынак замахнуліся на ўвесь акупацыйны парадак. Гэта як назваць па-вашаму?.. // Васямнаццаць юнакоў і дзяўчат замахнуліся на акупацыйны парадак.
[20] сумна ўздыхнула // уздыхнула
[27] Вышэйшыя афіцэры // Старшыя афіцэры
С. 464:
[14—18] У часопісе адсутнічае наступны фрагмент тэксту: «На станцыі Гарбылі стаіць гатовы да адпраўкі эшалон. Паравоз пад парамі. Побач пуцейцы мяняюць падпаленыя жужалем шпалы. Кантора майстарскага ўчастка побач з вакзалам, у пафарбаваным у жоўты колер драўляным доміку».
[18—19] Зазвінеў старамодны, з нікеляванымі каўпачкамі тэлефон, Глушко паспешліва зняў трубку. // Як толькі майстар Глушко зайшоў у свой кабінет, адразу зазвінеў старамодны, з нікеляванымі каўпачкамі, тэлефон. Глушко паспешліва зняў трубку.
С. 465:
[3] — Пятрэнка на тры метры пад зямлёй. // — Пятрэнка на тры метры пад зямлёй. Жанчына паперку прынесла — хворы…
[4] Я думаю, лепей, што Шміт. // Гэта лепей, што Шміт.

С. 466:

[9] — У ліку пакараных // — Сярод пакараных

С. 467:

[14—15] Сёння кожны можа адказваць // Сёння можна адказваць

С. 467—468:

[25—29] Год назад, калі на дрызіне ад’язджаў начальнік дыстанцыі, цвілі палыны, пакінутыя на пуцях вагоны выклікалі шчымлівае пачуццё адзіноты. ...Вядома, ёсць вялікая розніца паміж даваенным яго жыццём і цяперашнім. // Развітаўшыся са Шмітам, Глушко заскочыў у кантору, паказаўся на вочы павесялеламу Грыбу, потым накіраваўся да пуцейскай казармы, дзе была яго кватэра. Сёння субота, рабочы дзень кароткі. Напружанне сплыло, усё пакуль абышлося. Выходзіць, можа чалавек балансаваць на лязе брытвы, выдаваць сябе за другога, па-прыяцельску размаўляць з тымі, каму шкодзіць. Артыст? Не, ніякі ён не артыст. І нічога асаблівага не робіць… Год назад, калі трэба было рашаць — аставацца ці не, Глушко думаў, што яму павінна хапіць хітрасці і асцярожнасці, каб пражыць сярод немцаў. Асцярожнасць — ад ведання жыцця. Майстрам ён прабыў многа гадоў, меў справу з людзьмі добрымі і благімі, якія заўсёды мелі да яго, няхай сабе невялічкага начальніка, свае патрабаванні, і каб ён не здолеў задавальняць гэтыя патрабаванні, людзі скардзіліся б, і, зрэшты, сталася б так, што яго з пасады майстра знялі б.

З другога боку, ён, майстар, адказваў за пуцейскую гаспадарку перад вышэйшым начальствам, і гэтая адказнасць была нават большай, чым перад рабочым людам, бо калі б сышоў з рэек цягнік ці здарылася якая-небудзь іншая бяда, яго не толькі знялі б з пасады, а яшчэ і судзілі б. І ў мірным жыцці ён, Глушко, спакою не меў, да спакою не прывык, выключэннем хіба месячны адпачынак.

С. 469:

[4] паскудства хапае // збыні хапае

[21] знайсці другога часу // знайсці іншага часу

[29] Бацьку хлопца, што рабіў у Чарняка // Бацьку таго хлопца, які рабіў у Чарняка

[33—34] бяжыць да кубавой па вар. // бяжыць да кубавой набраць вару.

С. 470:

[12] пайшлі па засыпанай жужалем дарожцы // пайшлі па дарожцы

[16—17] дабавіў абходчык. // дадаў абходчык.

С. 471:

[23] — Быў хворы тыфам. // — Быў хворы на тыф.

С. 473:

[16] былі ва ўжытку савецкія грошы // хадзілі савецкія грошы

С. 474:

[5] Смех цягнецца доўга // Смяюцца доўга

[14] Услед за Шайсай // Услед за Шайсам

[18] не гавораць // стараюцца не гаварыць

С. 475:

[10] з першага разу паставіўся прыхільна. // паставіўся прыхільна.

[11] яны ўтрох // яны ўтраіх

С. 476:

[2] чуецца зычны голас // раздаецца зычны голас

[28—29] Тое, што расказвае былы сакратар, не лепш за нямецкія зводкі. Марыя Іванаўна сумна ўздыхае, але, пераказваючы пачутае, не забывае дадаць, што мужа яе пад Харкавам не было, іх з Грудай разлучылі яшчэ летась… // Тое, што расказвае былы сакратар, не лепей за нямецкія зводкі.

[33—34] Каля вёскі Лужынец // Каля вёскі Залужжа

С. 477:

[21] картонны футлярык // кардонны футаралік

С. 478:

[6—7] Не зважаючы на нецярпенне жонкі, Аўгуст Эрнэставіч акідвае поглядам будынкі // Аўгуст Эрнэставіч акідвае позіркам будынкі

С. 479:

[14] Мужчыны садзяцца за столік. // Мужчыны зноў бяруцца за карты.

С. 481:

[3] знішчылі. // забілі.

С. 482:

[14] Але трымае сябе мужна // Але трымае сябе, як рыцар.

[16] Ва ўзнагароду маёру // Узнагародай яму

[33] заспяваў пра брадзягу, пра возера Байкал. // заспяваў пра возера Байкал.

С. 483:

[1] У часопісе адсутнічае сказ: «У Спыхальскага прыемны, досыць выразны бас».

[24] Гучна запляскаў // Гучна заляскаў

[29—30] — Мы, тры немцы, жандар… // — Мы, трое немцаў — жандар…

С. 485:

[1—2] некаторы час панавала цішыня. // воплескі пачуліся не адразу.

[3] Яна выцірае іх хусцінкай // Не саромеючыся, выцірае іх хусцінкай

[31—34] Хоча з вамі пабачыцца. Страх не праходзіў, трымаючы Аўгуста Эрнэставіча ў моцных, як абцугі, абдымках. // Хоча з вамі пабачыцца.

[34] Выйсця не бачыў // Аўгуст Эрнэставіч выйсця не бачыў

С. 486:

[8] Страх паступова мінаў. // Страх паступова праходзіў.

[19] — Ідзі кудой хочаш. // — Ідзі як хочаш.

С. 487:

[3] З боку агарода // На агародзе

[19] — Цяпер жа забярыце яе ад мяне. // — Забярыце яе ад мяне.

С. 489:

[1—4] У часопісе адсутнічаюць сказы: «Міця блукае па плошчы перад сельскагаспадарчай камендатурай. Тут людзі з вёсак, на якія налятаюць партызаны, і проста цікава паслухаць, аб чым гавораць гэтыя людзі, як адчуваюць сябе сярод немцаў».

[27] Нашы папяросы. // Нашы…

С. 490:

[14] У часопісе адсутнічае V частка дзявятага раздзела ў Зб. тв. першай часткі рамана.

С. 493:

[9—11] У часопісе адсутнічае сказ: «Пракурора Ладуцьку немцы расстралялі, а яго сын, трыццацігадовы здаравяк, які ўзначальвае раённы гандаль, адкрыта трымае прыёмнік».

[28—30] Для сябе ён справу вытлумачвае проста і ў душы не дакарае гэтых людзей. // Ён гэта разумее і ў душы не дакарае людзей.

С. 494:

[2] прамільгнуў на твары // прамільгнуў на шырокім твары

[9—10] што робіцца. Тры забойствы за тыдзень. // што робіцца.

[10] фінагента ў Малкавічах // забіты фінагент у Сівалобах

[30—31] Усе запытальна глядзяць на бургамістра: што ён скажа? Што можа сказаць? // Усе з цікавасцю глядзяць на бургамістра.

[34] што прычына — вайна. // што прычынай усяму — вайна.

С. 495:

[11—12] абзываецца Лубан. // азываецца Лубан.

[20—22] Мужчыны сядзяць з панылымі, разгубленымі тварамі. Думалася — вайна адышлася далёка, а яна тут, ля парога… // Мужчыны сядзяць панылыя, разгубленыя…

С. 496:

[7] У часопісе пасля сказа «Вёсак на асушаным тарфяным масіве няма…» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Сярод балота, на асушаным лапіку, схаваным ад дарогі кустамі вербалозу і ракітніку, залёг дамачоўскі атрад. Чалавек дваццаць. Летам людзей было болей,

У іх каханні, якое цягнулася два гады, пакуль яна не паступіла ў інстытут, першы крок зрабіла яна і першая ж груба, жорстка адпіхнула Бондара. Вось гэтага і, можа быць, толькі гэтага ён не мог ні забыць, ні зразумець…

Гэля як бы несла ў сабе вобраз яго юнацтва, бо прымеціў яе Бондар яшчэ ў Бацькавічах, яшчэ даўганосым, нявскладным дзеўчанём, што бегала па пасаджаным імі, прафшкольцамі, таполевым парку. Тады яшчэ выказвала яна адзнакі незвычайнай для яе ўзросту смеласці: прыходзіла да бацькі проста на ўрокі, у насмешлівай курсанцкай гамане не гублялася, а нават як бы імкнулася хутчэй разгадаць тайны і загадкі, што акружаюць жыццё дарослых.

Курсы, школы, інтэрнаты, сходы, мітынгі — няўхільны спадарожнік яго, Бондаравага, пакалення… Ці не ў гэтым чалавечым тлуме, дзе дзяўчына, жанчына так блізка стаіць да іх, мужчын, найлепш, найвыразней адчувае сваё з імі раўнапраўе, бачыць, што і яна гэтак жа, як яны, можа авалодваць кніжнай навукай, выступаць, гаварыць, мець такія ж, нават большыя поспехі — ці не тут нараджаецца новы яе характар, стаўленне да жыцця, самастойнасць? Дзяўчына вучыцца, значыць, атрымае прафесію, заработак, самастойнасць…

Тады, калі Бондар вучыўся ў прафтэхшколе і яму было толькі дваццаць, яго любіла Надзя, дачка іх суседа Язэпа, прыгожая, памяркоўная дзяўчына. Ён, здаецца, таксама любіў яе, праседжваў з ёй вечары на лавачках у бэзавай засені, але, калі ён паступіў у прафтэхшколу, іх адносіны паступова пачалі страчваць былую прывабнасць. Там, сярод курсантаў, быў зусім іншы свет, і дзяўчаты таксама былі іншыя.

Ён ведаў, што каб узяў Надзю замуж, была б яна яму добрай жонкай, старалася б дагадзіць, мыла б сарочкі, раджала дзяцей. У такім выпадку жыў бы ён, як бацька, як знаёмыя мястэчкоўцы: паставіў бы хату, паступіў бы на работу ці на службу, задавальняючыся тым штодзённым клопатам, які паглынае чалавека без астатку. А ён такога жыцця не хацеў, тым болей што быў прыклад іх уласнай сям'і.

Старэйшы Бондараў брат Пятро паспеў захапіць грамадзянскай вайны, хадзіў за Буг, пад Варшаву, застаўся ў арміі і ў наступныя гады вельмі хутка, вокамгненна неяк рос як камандзір: камбат, намкампалка. У трыццатым скончыў ваенную акадэмію. Дадому прыязджаў толькі два разы — са скрыпучымі рамянямі паверх дыяганалевай з малінавымі пятліцамі гімнасцёркі, з ціхай, прасветленай задуменнасцю на твары.

Не захацелі жыць, як бацька, і другі брат, Сцяпан, які прабіўся ў Мінск, у БДУ, і нават меншы, Андрэй. З Андрэем перад вайной здарылася няшчасце: ад таго, што вельмі многа займаўся, праседжваў над кнігамі, памутнеў розумам, болей як год лячыўся.

Было ў бацькі чатыры сыны, і ўсе паляцелі ў свет.

Па сканчэнні прафтэхшколы, калі Бондар ішоў у армію, Надзя плакала. Як бы прадчувала, што ён да яе ніколі не вернецца.

Ён ажаніўся пазней за ўсіх братоў, пасля фінскай вайны. Чатыры гады не сплывала з душы знявага, нанесеная Гэляй, і ён як бы нават адчуваў сябе праціўнікам усяго жаночага роду. Жыў на пачуцці супраціўлення. Смешна прызнавацца, але яму хацелася дамагчыся ў сваёй ваеннай кар'еры незвычайных поспехаў, а потым у бляску славы паўстаць перад Гэляй.

Таварышы яго, жанатыя і нежанатыя, глядзелі на справу куды прасцей. Вайсковае, цыганскае жыццё дае нямала выпадкаў, калі чалавек, які мае жонку ці дзяўчыну, што чакае яго, дзеліць кароткае каханне зусім не з той, да якой ляцяць думкі. Каб пазбыцца самоты, якая сядзела ў душы як іржавы цвік, адважыўся на такое і Бондар. Выпіў, туліў да сябе жанчыну, якую ведаў толькі два дні, а пад раніцу збег, зняважаны, збянтэжаны, з сумненнямі наконт сваёй мужчынскай годнасці.

Былі два здарэнні, што прымусілі Бондара па-новаму зірнуць на ўзаемаадносіны мужчыны і жанчыны, адракціся ад ранейшых уяўленняў. Ужо ішлі баі з белафінамі, іх батальён стаяў у рэзерве, у вёсачцы паблізу Ленінграда. Побач размяшчаўся аэрадром, на якім базіраваўся жаночы авіяцыйны полк. Лётчыцы латалі на бамбёжкі, штодня два-тры самалёты назад не вярталіся. Жылі лётчыцы на казарменным становішчы, увальніцельных ім не давалі. Аднак яны ўсё ж прарываліся, каб хоць паўгадзінкі пабыць з мужчынамі. На тое, што самі гераіні не раз глядзелі ў вочы смерці, а іх кавалеры звычайныя, неабстрэленыя пехацінцы, не зважалі. Было ў гэтым штосьці вельмі чалавечае, зразумелае.

Другі выпадак датычыў самога Бондара. Яго на фінскай вайне параніла асколкамі міны ў нагу і ў шыю, на першым часе ляжаў у шпіталі, які наспех размясціўся ў звычайнай ленінградскай школе. Калі выцягвалі з цела асколкі, наркозу яму не далі — ці не было яго, ці палічылі пяхотнага старшага лейтэнанта лёгка параненым. Распластаны, голы, Бондар ляжаў на аперацыйным стале, стараўся не крычаць. Над ім схілілася, раз-пораз выціраючы з яго лба буйны пот, медсястра. Яе спагадлівыя, сінія, як валількі ў жыце, вочы Бондар запомніў. Увесь месяц, пакуль лячыўся ў Ленінградзе, сястра даглядала яго, аддаючы яму трошачкі болей увагі, чым астатнім параненым. Яе таксама звалі Надзя.

Думкі, успаміны пра Гэлю фінская вайна як рукой зняла. Восенню саракавога года Бондар ажаніўся з Надзяй, павёз яе ў Беласток, куды яго накіравалі служыць.

Дзе цяпер Надзя, ён не ведае. Пасадзіў у вагон, пацалаваў…»

С. 452:

[5—18] Тэкст у 3б тв., пачатак сёмага раздзела першай часткі рамана са сказа «Дамачоўскі атрад вырас удвая» да сказа: «Калі ўважліва прыслухацца, сапраўды падобна» ў раманным выданні мае наступны варыянт: «Дамачоўскі атрад невялікі. Дзейнічае пераважна засадамі, налётамі. Батура і цяпер у засадзе. Сядзіць ускрай палявой дарогі ў каноплях. Млосная парная гарачыня. На небе ні хмурынкі. Ад канаплянага чаду баліць галава. Дзесьці паблізу перагукваецца перапяліны вывадак: «Дзесьці вядуць, вунь вядуць…» Так пераймалі перапёлчын голас хлапчукамі. Калі ўважліва прыслухацца, сапраўды падобна».

С. 495:

[23—24] Дамачоўцы ў засадзе. Намерыліся адбіць моладзь, якую будуць гнаць па гэтай дарозе ў Германію. // Партызаны ў засадзе. Хочуць адбіць моладзь, якую будуць гнаць па гэтай дарозе ў Германію.

[26—27] атрад, чалавек шэсцьдзясят. // атрад, чалавек дваццаць.

С. 504:

[35] шкрабае за пазухай // шкрабе за пазухай

С. 517:

[4] чалавек семдзесят. // чалавек трыццаць.

С. 519:

[15—16] Пасля сказа «Наогул, раскажы ўсё, што бачыў…» у рамане ідзе наступны фрагмент тэксту: «Дзіўная была гэта зіма, якую ён, Бондар, і яго таварышы, што займаюць цяпер каманднае становішча ў атрадзе, правялі ў Гарбылях, сыходзіліся на патайныя сустрэчы, шапталіся, уцягвалі новых людзей, наладжвалі бяскрыўдныя з выгляду вечарыны. Сваімі думкамі, пачуццямі ён часта вяртаецца да студзеня, лютага, да Гарбылёў, закіданых снегам, з разбітай, мёртвай чыгункай, з аднастайна-зацятым шумам сасоннікаў, што цёмнай падковай атуляюць гарадок. Іншы раз здаецца нават, што ў яго жыцці не было лепшага часу, чым мінулая зіма, шэрае сутонне вечароў, кожны з якіх быў запоўнен сустрэчамі, шчымліва-радаснымі навінамі аб тым, што ўсё болей людзей прылучаюцца да іх, перабольшанымі, часта фантастычнымі чуткамі аб перамогах на фронце. Там, у Гарбылях, прыйшла ўпэўненасць, што немцаў можна біць, што глеба для гэтага — хваля незадаволенасці, якая дзень за днём расце, пашыраецца.

Немцаў пабачылі на ўласныя вочы, зблізку і нічога асаблівага не ўбачылі… Зіма была прадчуваннем сённяшняга становішча. А ў жыцці, відаць, так — прадчуванне радасці часта мацней за самую радасць…»

С. 520:

[14] Пасля сказа «Сэрца кальнула вострым болем» у рамане ідзе наступны фрагмент тэксту: «Тое, што тлела ў душы прытухшым полымем, успыхнула зноў, захліснула гарачай хваляй. Смутак яго — Гэля. Носіць смутак у сабе, ні з кім не дзелячыся, глушачы штодзённым клопатам, трывогай. За тры месяцы прынёс Гервась з Гарбылёў ад Гэлі два школьныя лісткі, спісаныя знаёмым круглым почыркам. За Гэлю Бондар трывожыцца, бо ў Гарбылях арышты, там Самусь, ад якога можна чакаць усяго, што хочаш…»

С. 540:

[21] Ад прастуды добра… // Гарэлка ад прастуды добра…

[36] У рамане пасля сказа «Ісці назад лягчэй» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Праз тры дні аддзяленне Мядзведзева, пасланае расстраляць фінагента з вёскі Сівалобы (насельніцтва прыціскаў горш за старасту, здзекаваўся з жонак чырвонаармейцаў), наткнуўся ў лесе на адзінокую зямлянку, прывяло ў атрад Бондара двух мужчын і дзяўчыну. У затрыманых знайшлі болей як сто кілаграмаў толу, пашкоджаную радыёстанцыю, новыя, сорак другога года выпуску, савецкія аўтаматы. Людзей у той дзень было ў лагеры не надта, і прыход навічкоў мала хто бачыў. Чарнявы, прысадзісты, з рэдкімі зубамі капітан Мазурэнка — начальнік прыведзеных — пра тое, хто ён, адкуль з'явіўся ў лясной зямлянцы, сваім канваірам нічога не сказаў…»

С. 541:

[2—3] нядаўна прызначаны камандзірам дамачоўскага атрада // камандзір дамачоўскага атрада

С. 577—578:

[1—9] У рамане адсутнічае шостая частка шостага раздзела другой часткі рамана ў Зб. тв.

С. 580:

[24—25] Твае словы вельмі цьмяныя… // Твае словы вельмі складаныя…

С. 584:

[18] Нясуць на тварах пячаць зацятасці, стоенасці. // Нясуць на тварах пячаць зацятасці, не знаёмай Шуры.

С. 594:

[32—33] сакратар ЦК камсамола рэспублікі // сакратар рэспубліканскага камсамола

С. 605—606:

[26—6] Фрагмент тэксту ў Зб. тв. ад сказа «Сапраўды, што б атрымалася, каб бацька падзяліў свае тры дзесяціны на чатырох сыноў і дачку?..» да сказа: «Лясны банкет, засада — усё разам» у рамане мае

наступны варыянт: «Хлопцы, браты, вучыліся ўсе. Бондар памятае — у дваццаць чацвёртым ці ў дваццаць пятым годзе бацька прадаў карову і даў па чырвонцу яму і Сцяпану — на кнігі. Чырвонец па тым часе быў вялікімі грашамі. Бацька — дзіўны. Чытаў газету, якую выпісвалі хлопцы, і хадзіў у царкву, плявузгаць на бога не дазваляў, але сам зрабіў раму для партрэта Леніна, які хлопцы прынеслі са школы. Новае прымаў, але і старога не адкідваў. Такім быў ва ўсім. Гарэлкі ў буднія дні не прызнаваў, у хаце не трымаў, але на святы, на бяседах, пагулянках, вяселлях напіваўся да знямогі, піў, колькі ні паднясуць. Тады — ці ноч, ці дзень — гарланіў песні, а маці вяла яго па вуліцы дамоў, штохвіліны ўшчуваючы.

Ён удзячны бацьку за тое, што ім, дзецям, змалку прывіў ясны, чысты пагляд на жыццё, не цярпеў нядбальства, ніколі не быў несправядлівы, жорсткі, але і салодкіх пернікаў не абяцаў. У бацькі было правіла: дасягаў паўналецця — жыві сваім одумам. Ён рабіўся нават як бы абыякавым да дарослых дзяцей. Усе яны вучыліся і пасля васямнаццаці гадоў, але грошай бацька не даваў ніводнаму, хоць торбы, адпраўляючы ў дарогу, напакоўваў спраўна. Вядома, ён ганарыўся сынамі, але не хацеў паказваць гэтага. Другога такога прыкладу, дзе б чацвёра сыноў так дружна рушылі ў новае жыццё, у мястэчку, дзе вырас Бондар, бадай, не было. Хоць у Гарбылях яго мала хто ведаў, а тыя, што блізка ведалі, людзі надзейныя,— усё ж чуткі да немцаў могуць дайсці…

С. 607:

[29—30] У рамане пасля слоў «якія на практыцы даказалі прыхільнасць да Савецкай улады» ідзе наступны фрагмент тэксту: «Брыгады курсантаў выязджалі ў навакольныя сельсаветы, выступалі з канцэртамі, агітавалі за калгасы, выкрывалі кулакоў і папоў. На гулкіх вучэбных «фардзонах» курсанты заворвалі аднаасобніцкія межы. Правадыром камсамольцаў-прафшкольцаў быў Бондар. Шчуплы, прыземісты, шустры, ён зімой і летам бегаў з расшпіленым каўняром сарочкі, з-пад якога праглядвала паласатая матроская цяльняшка. Выступаў Бондар горача, з запалам, але пра што б ні гаварыў, не прамінаў выпадку звязаць бягучыя справы з міжнародным момантам».

С. 629:

[24] З Сяміпалацінску бацьку ліст прыслала… // Даехала, не даехала, не ведаю…

С. 635:

[32] ён служыць. // ён усё-такі служыць.

С. 645:

[13] Праз некалькі хвілін // Праз пятнаццаць хвілін

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК[1]



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

ЗМЕСТ [1]



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

**Навуменка, І. Я.**

Н15 Збор твораў. У 10 т. Т. 5. Сасна пры дарозе; Вецер у соснах : Раманы / Іван Навуменка; падрыхт. тэкстаў, камент. і паслясл. Ігара Шаладонава ; рэд. тома С. С. Лаўшук ; Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларус. культуры, мовы і літ. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2015.— 878 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1556-7.

У пяты том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі (1925—2006) увайшлі раманы «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах», створаныя ім у 1962—1967 гг.

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**НАВУМЕНКА** Іван Якаўлевіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У дзесяці тамах

**Том 5**

САСНА ПРЫ ДАРОЗЕ
ВЕЦЕР У СОСНАХ

*Раманы*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкае афармленне *В. Г. Паўлавец*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычныя рэдактары *А. М. Анцытовіч,*
*Ю. В. Тыркіч, М. У. Віцько*

Падпісана да друку 27.04.2015. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 46,2+0,42.
Улік.-выд. арк. 46,11. Тыраж 1200 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/5 ад 09.07.2013. Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Паліграфкамбінат ім. Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.